Зора Кіпель

# ДНІ АДНАГО ЖЫЦЦЯ...

УСПАМІНЫ
АРТЫКУЛЫ
ДЗЁННІКІ

Тлумачэнні, заўвагі і каментары
*Вітаўта Кіпеля*

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2010

# Ад укладальніка

Калі ў сям'і Апалёніі і Лявона Савёнкаў — маладых менскіх інтэлігентаў першага беларускага пакаленьня — 1 ліпеня 1927 году нарадзілася дачка, яны далі ёй нештодзённае імя: Зора, тым самым нібы прадвызначыўшы яе нештодзённы лёс — яснай зоркі на беларускім небасхіле XX стагодзьдзя. Тады, у канцы 1920-х, калі маладая Беларусь з надзеяй і энтузіязмам «штурмавала будучыні аванпосты», цяжка было сабе ўявіць, што гэтае стагодзьдзе з сабой прынясе і што выпадзе на долю дзіцяці, народжанаму ў пару пакуль яшчэ амаль бясхмарнага сацыяльнага і нацыянальнага аптымізму.

Зора Савёнак-Кіпель перажыла й пабачыла сталінскія рэпрэсіі — як дзіця «ворага народу», беды і нягоды вайны і акупацыі, уцёкі зь сям'ёй ад саветаў, жыццё ў лягерох для «перамешчаных асобаў», студэнцтва ў Эўропе, эміграцыю ў Амэрыку, пабачыла яна ўжо і новую незалежную Беларусь. Гэты ўнікальны досьвед увасобіўся ў кнігу, якую вы цяпер трымаеце ў руках.

Зора пачала рэгулярна запісваць падзеі свайго жыцьця ў дзёньнік 1 ліпеня 1978 году. Рабіла кароткія нататкі ў маленькіх каляндарыках, а пасьля на падставе гэтых нататак рабіла больш падрабязныя запісы ў календарах-альманахах або ў тоўстых сшытках — усяго да 1992 году склалася пятнаццаць такіх «тамоў». Асобныя дзёньнікавыя запісы падчас падарожжаў па Эўропе і ў Беларусі рабіліся ў розных нататніках. У кнізе ўсе гэтыя крыніцы зьведзеныя ў адзіную хроніку.

Дзёньнікі Зоры Кіпель даюць магчымасьць адчуць штодзённы пульс звычайнага жыцьця незвычайнага чалавека, незвычайнай сям'і на працягу гадоў найвышэйшай актыўнасьці Зоры і Вітаўта Кіпеляў у беларуска-амэрыканскім грамадзкім, культурным і палітычным жыцьці.

Да дзёньнікавай часткі, якая ахапляе падзеі 1978—1994 і 1999 гадоў, дададзеныя ўспаміны Зоры пра дзяцінства, выезд на Захад, гімназіяльныя і студэнцкія гады, а таксама артыкулы пра падарожжы ў Беларусь і на бібліятэчна-бібліяграфічныя тэмы.

За аснову ў кнізе прыняты правапісны стандарт, зафіксаваны ў кнізе-даведніку «Беларускі клясычны правапіс», пры гэтым максымальна захаваныя лексычныя, стылістычныя, пунктуацыйныя, а часам і графіка-правапісныя асаблівасьці мовы аўтаркі. Пры гэтым жывая, «непрычасаная» мова дзёньнікаў Зоры Кіпель можа быць прадметам дасьледаваньня мовы беларускай эміграцыі ў ЗША.

Фактычным суаўтарам гэтай кнігі быў Вітаўт Кіпель — Зорын спадарожнік жыцьця, яны пазнаёміліся яшчэ ў акупаваным Менску, а ад канца 40-х гадоў ужо фактычна не разлучаліся — так што іх імёны часьцей за ўсё ўжываліся разам. «Не ўяўляю сабе маё жыцьцё бязь Вітаўта», — сказала Зора ў сваім апошнім інтэрвію 14 лютага 2003 году. І сапраўды, іх жыцьцё было настолькі неразьдзельнае, што ў дзёньніку Вітаўт прысутны амаль у кожным радку. Пры падрыхтоўцы гэтай кнігі ён тлумачыў і камэнтаваў Зорыны запісы — жыва і спантанна, часам дадаючы нейкую інфармацыю, часам нібы ўступаючы ў дыялёг з тэкстам, дапаўняючы Зору або й спрачаючыся зь ёй. *У тэксьце кнігі ўсё, што дасказаў або дапісаў Вітаўт Кіпель, падаецца курсівам.*

Зорка Зоры Кіпель згасла 14 красавіка 2003 году, але напэўна адначасна недзе нарадзіліся новыя Зоры, будучыя беларускія зоркі, якія могуць знайсьці ў гэтай кнізе натхненьне пры пошуку сваіх зорных шляхоў.

*Сяргей Шупа*

# Уступ

Я доўга вагалася, ці пісаць свае ўспаміны. Я-ж ніякі не пісьменьнік, не мастак. Ці будзе некаму цікава чытаць, як праходзілі мае дзіцячыя гады ў Менску?

Але некалькі акалічнасьцяў пераканалі мяне, што ўсё-ж варта ўспамянуць і адлюстраваць Менск у тыя гады, хаця-б і праз прызму дзіцяці-падлетка, а мо якраз і дзеля гэтага, незаплямленага сьветапагляду.

Бог мяне абдараваў аналітычным розумам, які я праз гады культывавала. Я магла аналізаваць і сябе, і акаляючае асяродзьдзе, і сытуацыю.

Мае дзіцячыя гады прайшлі якраз у самыя цяжкія, самыя складаныя 1930-я гады. Гадавалася я ў добрай беларускай сям'і, ведала шмат цікавых людзей, была сьведкам розных цікавых, прыемных, а часам і не зусім прыемных падзеяў.

Яшчэ адной важнай прычынай гэтых успамінаў было тое, што ў часе нашых наведваньняў Беларусі апошнімі гадамі я пераканалася, як мала ведаюць, нават і Мянчане-старажылы, не гаворачы ўжо пра сучасных жыхароў гораду, аб даваенным жыцьці Менску, аб людзях і іх клопатах, аб рэчах, якія забываюцца, зьнікаюць. Вось пра ўсё гэта хочацца і ўспамянуць.

Няпоўнымі былі-б успаміны, каб не адлюстраваць продкаў, сям'ю, на фоне якой я ўзгадавалася, якая была і асновай майго станаўленьня, жыцьця і сьветапагляду.

Дык вось, я й накіравалася ў падарожжа ў мінулае...

# Мая кароткая радаслоўная

Па лініі мамы — Апалёніі — я з роду Раткевічаў (часам вымаўляюць Роткевічы) — старога, традыцыйнага роду зьбяднелае беларускае каталіцкае шляхты з Лагойшчыны. Выразнай азнакай у родзе была беларуская мова, праўда, у рэлігійнай сфэры з дамешкай польскіх слоў. Прадзед Пётра Раткевіч пасьля Паўстаньня 1863 году быў пазбаўлены шляхецтва, бо не захацеў «пакланіцца» расейскаму цару Аляксандру, каб захаваць вернападданасьць і з гэтым шляхоцкі стан. Засталіся толькі успаміны пра шляхецтва, калі пасьля сьмерці бацькі сыны падзяліліся, і мой дзед Язэп Раткевіч пераехаў у Менск у пачатку 20-га стагодзьдзя, пабудаваў добры дом на ўскраі Менску ў раёне Залатой Горкі. Калі мая мама Апалёнія Раткевіч пайшла ў царкоўнапрыхадзкую школу (вось тут нашая беларуская талерантнасьць) у яе школьным пасьведчаньні яшчэ стаяла «Дочь сына бывшаго дворянина».

У сярэдзіне XIX ст. жылі яны ў Зембіне, паміж Лагойскам і Барысавам, а пазьней перабраліся ў засьценак Аўгустова, фальварак Валокі на захад ад Аўгустова, дзе пазьней быў створаны калгас «Чырвоны Сьцяг». Жылі там мой прадзед Пётра з сынамі Язэпам і Янам (была ў яго і дачка Марыля, але я ня ведаю, што зь ёй сталася). Належалі да касьцёлу ў Лагойску — там і хрысьціліся, там і жаніліся, там і паміралі — могілкі ў Лагойску.

Недзе прыблізна на пачатку 1880-х гадоў мой дзед Язэп ажаніўся з Марыяй Зароўскай, на 13 гадоў маладзейшай ад яго. Мелі яны шмат дзяцей, але дзеці паміралі ў малым веку. Засталіся жывымі толькі дочкі Ядзя (1899—1979?), Апалёнія — мая мама (1901—1982), Гэля (1905—1975?) і сын Пётра (1907—194...?).

Жылі яны вельмі дружна, хоць багатымі не былі, але ўсяго было ў дастатку. Дом быў вельмі вялікі, з прыбудоўкамі. Жыў зь імі разам таксама мясцовы кравец, яўрэй, які абшываў шырокую грамаду вяскоўцаў. Шыў усё: і на дзяцей, і на дарослых. Мама расказвала, што быў той кравец вельмі рэлігійны і пачынаў маліцца ўжо ў пятніцу і маліўся праз усю суботу. Дзеці як дзеці — пахіхіквалі, выдурняліся. Гэта пачуў аднаго разу гаспадар — мой прадзед. Сабраў усіх дзяцей разам, даў ім добрую лекцыю і сказаў, што ўсе рэлігіі добрыя і іх трэба паважаць. На гэтым, казала мама, насьміханьні скончыліся.

Мой дзед, Язэп, пераехаў з Аўгустова ў Менск недзе ў 1908—1910 гадох. У хаце застаўся «дзед Ян», які памёр у 1922 годзе і пахаваны

ў Лагойску, а па ім засталіся «бабка Марылька» і яе сын Пётра. Іх раскулачылі ў 1929 годзе і выслалі ў Котлас.

У лініі дзеда Яна была Паўлінка, Марыліна дачка, якая выйшла замуж за Юзіка Фалькоўскага, і ў іх нарадзілася дачка Валя і сын Зэнусь. Былі яны амаль мае равесьнікі, і вось з Валяй я сустрэлася зноў у Менску пасьля блізу 50-гадовае разлукі. Цяпер мы проста як сёстры і аднаўляем гэтую радаслоўную. Валя, па мужу Караткевіч, жыла ўвесь час у Менску — апошні раз я зь ёй бачылася ў вайну. Валя на пару гадоў маладзейшая за мяне. А я ўвесь гэты час жыла на эміграцыі. Валя мне таксама дапамагала лістоўна.

Вось што яна пісала мне ў справе нашага роду ў 2002 годзе: «Бацькі нашых дзядоў некалі жылі ў Зембіне. Гэта мясьціна знаходзіцца паміж Лагойскам і Барысавам. Можа, калі мой дзед ажаніўся, яму адрэзалі кусок зямлі, і ён аддзяліўся ад бацькоў. Удакладніць няма ў каго. Прыпамінаю з расказаў бабуні, што ў Зембіне быў вялікі фальварак. Больш нічым не магу табе дапамагчы, бо іхнае жыцьцё было для нас засакрэчана...»

Пераехаўшы ў Менск, дзед усё-ж не губляў сувязі зь вёскай. Часчасом езьдзіў і на Лагойшчыну і ў другія мясьціны, дзе жылі далёкія родзічы.

Жыцьцё маёй мамы і яе сёстраў пайшло ў кірунку сувязі зь беларускасьцю. Усе тры сястры былі дзейныя ў розных беларускіх сфэрах. Былі блізкія зь Лёсікамі ды іншымі беларусамі.

Калі ў Менску ў пачатку 20-х гадоў зьявіўся Лявон Савёнак, мама ў яго закахалася, і стварылася новая сям'я — Савёнкаў — з маладым пакаленьнем: Лёдзікам і Зорай.

У пачатку 1920-х гадоў мой бацька (я яго між іншага называла толькі папа) пераехаў у Менск. Сям'я бацькі — Савёнкі — з нашай славутай Глыбоччыны. Салідная беларуская праваслаўная сям'я. І тут у гэтыя абнадзейваючыя 1920-я гады Савёнкі й Раткевічы пазналіся — у беларускім руху, зразумела, і стварылі фактычна першую ў нашым родзе сьведамую беларускую сям'ю. Пажаніліся яны ў кастрычніку 1921-га, 12 верасьня 1922 нарадзіўся Лёдзік.

Папа журналіст-гумарыст супрацоўнічаў у газэце «Савецкая Беларусь». Мама — пэдагог, узгадавальнік, працавала зь дзецьмі, моладзьдзю. (У верасьні ці на пачатку кастрычніка 1920 году мама працуе ў школе на Старажоўскай вуліцы, крыху пазьней у 1920 годзе мама працуе з раніцы ў садку № 9, а па абедзе ў школе. Увосень 1921 году мама ў школу ўжо не вярнулася, а засталася ў садку, а ў 1923-м перайшла ў дзіцячы садок № 8 на Набярэжнай.)

# Успаміны дзяцінства

## Менск — Крычаў — Менск

Нарадзілася я 1 ліпеня 1927 г. у Менску. Лёдзік, мой брат, нарадзіўся 22 верасьня 1922 г. таксама ў Менску. Дом, зь якім зьвязанае маё дзяцінства, быў на Першамайскай вуліцы. Як магла, дом (і выходак!) я ў памяці ўстанавіла, і менскі мастак дапамог яго намаляваць.

### Апісаньне дому

Дом быў ня зусім звыклы — на ўскраі Менску, недалёка Залатой Горкі. У самым канцы Першамайскай вуліцы (апошні дом направа, перад Галантарэйнай — цяпер З. Бядулі). Цяпер там невялічкі парк і толькі што ад старога засталося — гэта таварныя рэйкі (ня ведаю нават, ці ходзяць яшчэ цягнікі).

Дом згарэў у вайну і, як я ўжо заўважыла, быў ня зусім звыклым. Дзед мой, зь зьбяднелай шляхты з Лагойшчыны, меў там засьценак. Пабудаваў дом у Менску у пачатку 20-га стагодзьдзя.

Быў белы, атынкаваны. На дзьве палавіны. Пасярэдзіне — уваход. Безь ніякіх сходкаў — толькі невялічкая прыступка. Ад дзьвярэй было два вакны. І з правага боку дому яшчэ два. Ззаду былі яшчэ тры вакны, але гэта ўжо на малюнку зазначыць нельга.

Дом быў крыху даўжэйшы, як спераду. Дзеля гэтага я думаю, што страха йшла так, як я і намалявала. У хаце было дзьве вялікія печы (на кожнай палавіне), то мусіць былі і два коміны.

Каля дому з правага боку была дарожка (у мяне на малюнку неяк ня выйшла — выглядае, як прызба, але гэта дарожка).

Зь левага боку дому быў жывёльны двор — абгароджаны. Памеры ня вытрыманыя, бо двор быў даволі вялікі. Там былі і куркі, і сьвінкі, і нават каза (якой я, між іншага, надта баялася і ніколі праз двор не хадзіла.

Зь левага боку двара — хлеўчукі. А за хлявамі вельмі чыстая, зграбная прыбіральня.

Самае цікавае (а для нас малых, тады, дзяцей і прывабнае) было тое, што ад вуліцы (фактычна ад чыгуначнага палатна) быў невялікі драўляны ходнік і плот з каліткай. А уздоўж плоту на старане двара, зразумела, былі цудоўныя, здаровыя, ня вельмі старыя, але даволі

вялікія дрэвы вішняў (найменш 7, а можа й больш). Гэта была нашая самая большая прыемнасьць улетку.

Ад каліткі да дому вяла трамбаваная дарожка, паўз якую заўсёды былі кветкі (я не намалявала, бо проста ня было мейсца). Як я ўжо казала — маштаб у мяне далёка ня вытрыманы. Дарожка была значна даўжэйшая, бо перад домам быў яшчэ гарод. Найчасьцей дзед мой садзіў зеляніну, але пару гадоў нават і бульбу. Асноўны гарод і сад быў за домам. Гэта ўжо на малюнку не зазначана.

Здаецца паміж пярэднім гародам і бочным былі кусты бэзу. Але за домам былі два цудоўныя дрэўцы (крыху большыя за рост чалавека) бэзу.

Яшчэ адно, як стала апісваць — прыпомніла, што над дарожкай з правага боку дзед змайстраваў для майго старэйшага брата турнік.

Вось, здаецца было-б і ўсё.

Прыбіральня-выхадак — у гародзіку, даволі далёка ад дому. Вельмі чыстая, нават утульная, як нам дзецям тады здавалася. Дзядунька меў дзьве ямы (туды скідаліся і памыі), выхадак пераносіўся кожныя два гады і ставіўся над пустой ямай. Нечыстоты і адкіды з поўнай ямы ўжо біялягічна перапрацоўваліся і выкарыстоўваліся на ўгнаеньне гароду. Выкарыстоўвалася ўсё. Але ўсё было вельмі санітарна дагледжана. Ня было ніякага смуроду. Ня ведаю, як дзядунька рабіў, але ў нашым двары было заўсёды чыста і прыгожа.

## *Мой Менск*

Менск, які я назаву «маім»: Залатая Горка — Камароўка — Вілы «малыя» на Даўгабродзкай — Вілы «вялікія» на Камароўцы, вуліца Правіянцкая, Галантарэйная, Гарадзкі сад, вул. Садовая і Набярэжная, дзе быў мой садок. Былі мне знаёмыя і Берасьцянская, Чырвоназорная, Кладбішчанская, Вайсковы завулак, Вайсковыя могілкі — гэта пэрымэтр майго дзіцячага Менску.

Калі цяпер бываю ў Менску, дык шпацырую па маіх дзіцячых мясьцінах, устанаўліваю і новыя назовы: Першамайская — гэта Вясёлая, Галантарэйная — Зьмітрака Бядулі, Правіянцкая — Захарава, Шпітальная — Фрунзе, Даўгабродзкая — Казлова, далей — Даўгабродзкая. Не зьмянілася толькі Берасьцянская!

Пераглядаючы пасьля сьмерці мамы ейныя запіскі-блакноцікі, я знайшла такую нататку: «Жылі ў аколіцы Шпітальнай, Правіянцкай, Вясёлай, Берасьцянскай, Маркаўскай у розныя гады, ад першай да другой войнаў, хто даўжэй, хто коратка: Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, Ігнат Дварчанін, Макар Краўцоў (Косьцевіч), Язэп Лёсік, Ванда Лёсік, Іван Серада, Грамыка, Кахановіч, Казячы, Мікола Шыла, Юры Лістапад, Палута Бадунова, Яфімаў, Баран, Франьцішак Аляхновіч, Фальскі, Грыгоніс, Паўліна Мядзёлка, Фларыян Ждановіч,

Мальвіна Зароўская, Ядзя Роткевіч, Янка Бялькевіч, Яўхім Кіпель, Вера Краўцэвіч, д-р Тарановіч, Вяршук, Лявон Савёнак». Гэта здорава! І мая мама была шмат з кім знаёмая.

## *Першыя ўспаміны дзяцінства*

Як расказвала мне мама, у 1930 годзе мяне аддалі ў дзіцячы садок. Цьмяна прыпамінаю, што аднэй з кіраўнічак была цёця Паша Калейнік — яны былі рээмігранты з Амэрыкі. Зь ейным сынам Паўлікам я сябравала гады й гады ды сустракала яго і пры немцах. Немцы яго расстралялі за сувязь з партызанамі. Часта мной у садку апекавалася цёця Бянігна — маці Янкі Купалы[1].

Цьмяна прыпамінаю, што ў 1932 годзе я была ў летнім дзіцячым лягеры, і зь лягеру мяне забіраў папа, і нейкай вузкакалейкай мы ехалі ў Менск.

Добра памятаю, як у 1933 годзе арыштавалі папу.

---

[1] *Праз шмат гадоў Зора прыпомніць:*

**Успамін на ўсё жыцьцё**

...Некалі ў гэтым парку каля Сьвіслачы быў дзіцячы садок, у якім была цёця Ўладзя кіраўнічка. Мая маці была адной з выхаваўцаў, і ■ ў гэты дзіцячы садок, калі мне было гады тры-чатыры, хадзіла. Спадарыня Ядвіга кажа, што ў музэі ёсьць здымкі з гэтага дзіцячага садка. Сёньня яна мне паказала гэтыя здымкі. На жаль, сябе я з пэўнасьцю не магу пазнаць. Але пэўна, што маму я знайшла на ўсіх фатаграфіях. І ня толькі я, пасьля і Вітаўт паглядзеў. Мне гэта было вельмі прыемна. І яшчэ адна невялічкая эмацыянальная дэталь: музэй нібыта стаіць на тым месцы, дзе стаяў дом Янкі Купалы. У гэтым доме Янкі Купалы я была таксама. У свае чатыры-пяць гадоў была частай наведвальніцай. Цёця Ўладзя з мамай працавалі, а мяне часам пакідалі з Бянігнай, маці Купалы, — сядзець і гуляць там. Успамінаю, што ў Купалы была вельмі добрая калекцыя каменьчыкаў, якія прывезены з падарожжаў у Крым. Вось гэтымі каменьчыкамі я гуляла, забаўлялася амаль цэлы дзень.

Успамінаю, як прыйшла маці забраць мяне і яны з Купаліхай закрыліся ў спальным пакоі і плакалі, абедзьве плакалі. Пасьля мама казала, што гэта, мусіць, было пасьля таго, як Купала спрабаваў пакончыць жыцьцё самагубствам.

*«Беларус», № 448, 1997,*
*Янка Купала — публіцыст. Зборнік. Мінск, 1998. С. 140.*

## *Больш сьведамыя гады ў Менску*

Прыпамінаю лепш, што ў 1933 годзе я была ў «нулявушцы» і там пачынала чытаць украінскую кніжку «Їж».

Калі я скончыла «нулявушку», недзе ў гадох 1933—1934 часта бывала тыднямі ў Калодзішчах, у бабунькі й дзядунькі, яны там былі ў калгасе, а калі была ў Менску, мы зь Лёдзікам жылі ў мамінай сястры, цёці Ядзі, на Садовай. У той час нашая мама была вельмі занятая — працавала і ў школах, і ў садку ды вучылася ва ўнівэрсытэце.

Мы зь Лёдзікам, як маглі, займаліся «самі сабой». Хадзілі ў кіно, тэатр, зімой — каток, лыжы.

Добра помніцца такі выпадак. [redacted] каталася на санках у Гарадзкім садзе. Едучы з гары пад Сьвіслач, [redacted] не змагла загамаваць і проста ўехала ў рэчку. Лёд трэснуў, і я апынулася ў вадзе. Добра, што было недалёка ад берагу, было там шмат людзей, мяне выцягнулі. [redacted] не памятаю, зь якімі сябрамі я там была, напэўна зь Лёдзікавымі, бо мяне, калі я ўжо пачала ледзянець, прыцягнулі ў хату да Якуба Коласа (Лёдзік быў вельмі блізкі з сынамі Коласа), каб высушыцца, бо дахаты мыісьці баяліся.

У першую клясу [redacted] пайшла ў 23-ю школу, што насупраць былога Дому спэцыялістаў. З таго пэрыяду ў Менску добра прыпамінаю сяброўку Галку Сіўко, дачку мамінай супрацоўніцы і аўтаркі беларускага лемантара Надзеі Сіўко. Дарэчы, яны разам апрацоўвалі лемантар — разьмінуліся ў вайну, а па вайне Надзея Сіўко выдала свой лемантар у БССР, [redacted] мама — у Рэгенсбургу.

Я часта бывала ў хаце Сіўко. Зь іх хаты мне ўрэзаўся ў памяць грыб у слоіку. Слоік вялікі-вялікі, і з слоіку мы пілі квас, надзвычайна смачны. У нас у хаце такога грыба чамусьці не было, і я заўсёды зайздросьціла тым дзецям, у хаце якіх былі такія грыбы. Ня ведаю, ці гэты звычай яшчэ захаваўся ў Беларусі, але тады слоікі з грыбамі і напіткам былі амаль у кожнай хаце. Быў яшчэ ў хаце Сіўко сланёвы клык з прыгожаю разьбою — чарада маленькіх сланёў. У нашай хаце такога ўпрыгожаньня не было, і мне было зайздросна.

## *Крычаў*

Прыехалі мы ў Крычаў з мамай і Лёдзікам увосень 1936 году, зусім незадоўга да пачатку школьнага году. Прыехалі па звыклых у той час прычынах. Маме ў Менску не было працы. Яе паслалі, як і шмат якіх жонак высланых, у правінцыю. Але мне мама тады не тлумачыла, адгаворвалася: «Так трэба, так лепей», — хоць гэтае «лепей» было напачатку куды горшае. Аднак Крычаў мне адразу спадабаўся.

Чаму мама выбрала горад Крычаў, цяжка мне з упэўненасьцю сказаць, але, як прыпамінаю з пачутых мной гутарак мамы зь дзядунькам, мама казала, што там будзе лягчэй знайсьці працу і што ў Крычаве ёсьць радня — Крываносавы. Нехта з нашае раткевічаўскае лініі быў зьвязаны з Крываносавымі. А з адным зь іх, як было сказана мне, стрыечным братам Мішкам (пазьнейшы рэкардсмэн у кіданьні молата, першы беларус, які атрымаў алімпійскі мэдаль), я вельмі шмат правяла часу. Мы былі ў блізкіх сямейных дачыненьнях, я часта ў іх і днявала і абедала, гулялі ў нашы дзіцячыя гульні, праводзілі значна часу ў розных крычаўскіх мясьцінах і піянерскім доме. Прыпушчаю

таксама, што мама думала, што Крычаў — далейшая правінцыя і яе там пакінуць у супакоі, ня вышлюць зь Беларусі.

Аднак Крываносавы нам кватэрай дапамагчы не маглі. Знайшлі мы пакойчык у адной яўрэйскай сям'і — было нам траім вельмі цесна, — а пазьней мы знайшлі пару пакояў у «Раманаўны» (так усе звалі гаспадыню) каля самага рову. Але тут было значна прасторней!

Маімі найбліжэйшымі сябрамі былі, ясна, Мішка Крываносаў, а таксама Бэбка, Фірка і Янька — дзяўчаткі-яўрэйкі, мае аднагодкі, зь якімі я праводзіла амаль увесь час, бо брат Лёдзік хутка вярнуўся ў Менск.

Фірка жыла найбліжэй да школы, дзе мы былі ў другой клясе. Дом іх стаяў на ўзгорку на галоўнай вуліцы перад самым уездам у цэнтар гораду, дзе мы жылі. Я тады была навічком, і маё сяброўства зь мясцовымі дзецьмі было вельмі важным для мяне. Фірка была мусіць самай шчырай і простай з усёй нашай чацьвёркі, і я яе вельмі любіла, але ўсё ж сябравала з Бэбкай і Янькай бліжэй.

Зь сяброўства зь Фіркай прыпамінаецца адзін эпізод. Было гэта ў 1938 годзе. Я начавала ў яе хаце (фактычна адзіны раз, што я начавала ў хаце сяброўкі). Бацька Фіркі выбіраўся якраз у войска. У хаце была сумятня, а Фірка запрасіла мяне на ноч. Я чулася ніякава. Было мне тады амаль 11 гадоў, і я ўжо добра разумела, што я тут сёньня абуза, але дахаты ўжо не было як ісьці і рабілася позна. А мы жылі на другім канцы гораду. Бацькі Фіркі, мусіць, заўважылі маю зьбянтэжанасьць і стараліся ўсяк падкрэсьліць, што я тут пажаданы госьць. Мы зь Фіркай пайшлі спаць рана, але я заснуць не магла. Ейныя бацькі яшчэ доўга ня клаліся — шапталіся, разьвітваліся, нават маці плакала. Раніцай рана бацька Фіркі ад'ехаў, і я больш не прыпамінаю, каб я яго бачыла. Дый да Фіркі ўжо стала хадзіць радзей.

З Бэбкай я сябравала больш дзеля нашай пазашкольнай актыўнасьці. Мы зь ёй удзельнічалі ў розных выступах зь беларускімі танцамі. Улюбёным нашым танцам быў крыжачок. Памятаю, было гэта хіба ў 1937 годзе, калі мы вучыліся ў трэцяй клясе, мы з Бэбкай бралі ўдзел у нейкай міжшкольнай алімпіядзе, танцавалі крыжачка толькі ўдзьвюх (не ўяўляю цяпер, як мы маглі справіцца танцаваць гэты танец удзьвюх), але танцавалі нядблага, мусіць, бо атрымалі першую прэмію — кнігу Твэна «Том Сойэр» і 20 рублёў. За грошы мы купілі сабе нейкія дадаткі да беларускіх строяў — здаецца, пацеркі — і, зразумела, пакінулі крыху і на цукеркі.

Бывала я ў Бэбкі ў хаце даволі часта. Жылі яны на галоўнай вуліцы, недалёка ад кіно. З хаты і сям'і Бэбкі я нічога больш не прыпамінаю. Толькі добра памятаю, што чулася там вельмі ўтульна.

У хаце Янькі (вельмі шкадую, што не магу прыпомніць прозьвішча) было шмат прыгожых дыванчыкаў на сьценах, на ложках. Мама Янькі была добрая майстрыха: шыла, вышывала. Яна нам (мне і Бэбцы) пашыла й блюзачкі і вышыла беларускім узорам для нашых выступаў

РАТКЕВІЧЫ / РОТКЕВІЧЫ

ПЕТРА РАТКЕВІЧ

ЯН ЗАРОЎСКІ

МАРЫЛЬКА

ЯН

ЯЗЭП (дзед мой) + МАРЫЯ (бабка мая)

1888 – 1943

ЯДЗЯ

АПАЛОНІЯ

ГЭЛЯ

ПЕТР

4 мая 1907 – 1943

ЛЯВОН САВЁНАК

26 студз. 1897 – 21 лют. 1974

ВІТАЎТ КІРЕЛЬ + ЗОРА

ЛЕАНІД

22 сак. 1922

ДОРЭЙН + ЮРКА

АЛЕСЯ

4 студз. 1957

АЛЕСЬ

АНДРЭЙ

АНТОН

Радаводнае дрэва Раткевічаў.
Малявала сама Зора.



Сёстры Раткевіч: Гэля, Пэля (Зорына мама), Ядзя.
Менск, 1923—1924.

Нуль-група дзіцячага садзіка № 8, загадчыцай якога была цётка Ўладзя, жонка Я. Купалы (Менск, 1928), унізе першы зьлева — Лёдзік.




Дзіцячы садок № 8, у другім радзе настаўніца ў белай спадніцы — Апалёнія Раткевіч, цёця Ўладзя ў другім радзе зьлева, 1928-1929.



У Крычаве (1932—1933).



Зора і Лёдзік, Менск, 1933.



1933—34, Лёдзік, Апалёнія і Зора Савёнак. Здымак зроблены, каб паслаць бацьку ў ссылку.



Зора Савёнак і Галя Сакалова на ганку Галінай хаты
на Першамайскай вуліцы ў Менску, чэрвень 1938.



Менск, 1943. 4—я кляса сэмінарыі на Нямізе. Зора — у першым
радзе другая справа. Побач зь ёй настаўніца маляваньня
Ніна Палянская і Туся Шчаглова (Куліковіч).



Зора на пагарэлішчы свайго дома на Першамайскай, Менск, 1942.



Пахаваньне дзеда. Зора 4—я зьлева, за Апалёніяй, 17.04.1943, Менск.



Хата ў Менску, рэканструкцыя.

у беларускіх танцах. Асабліва прыпамінаецца прыгожая аплікацыя-дыванчык над канапай у галоўным пакоі: возера, па возеры плаваюць лебедзі і пры беразе растуць камышы. Наагул у беларускіх хатах таго часу было шмат аплікацыяў — ці то была гэта мода, ці то гэта быў зручны й танны спосаб упрыгожваць хаты. Я, папраўдзе сказаць, ня надта любіла гэты від народнага мастацтва, лічыла гэта ў тыя мае дзіцячыя гады «мяшчанствам».

Зь Янькам і другімі дзецьмі, якіх ужо не прыпамінаю, мы хадзілі па рове. У рове была рачулка і зусім неглыбокі ручаёк, які быў цікава прыгодніцкім. Навакольныя жыхары, пераважна жанчыны, хадзілі туды па ваду, паласкалі бялізну. А мы, дзеці, хадзілі ўлетку па гэтым ручайку аж да Сожа. Ручаёк упадаў у Сож, а пры самым утоку была крыніца чысьцюсенькай вады, дзе мы заўсёды пасьля даўгой вандроўкі затрымліваліся і з асалодай пілі гэтую жыватворную ваду[1].

У Крычаве мы былі ў Доме піянераў — я была ў фотагуртку, танцавалі. Часта хадзілі па ваколіцах, на Сож, лазілі ў ямы-пячоры на берагох. У параўнаньні да Менску, Крычаў быў маленькім мястэчкам, і за пару гадоў, якія я там пражыла, [redacted] пазнала паўгораду і да месца надта прывязалася. Таму і цяпер, у 90-х гадох, калі мне надарылася магчымасьць, я зь Вітаўтам два разы адведала Крычаў і нават знайшла там сябра майго дзяцінства.

У 1939 годзе вярнуўся зь лягеру папа. Ён працаваў у нейкай вёсцы каля Крычава, але жыў у нас. Лёдзік жыў у цёці Ядзі ў Менску. Памятаю, як бабунька прывезла папу адзеньне.

---

[1] *Пасьля Зора спрабавала высьветліць некаторыя дэталі крычаўскага дзяцінства ў знойдзенай знаёмай:*

«Галоўная вуліца Крычава называецца Ленінская, яна пачынаецца ад былога моста праз р. Сож, да рэвалюцыі яна звалася Шасейная, Спаская».

«Тая вуліца, дзе знаходзіцца музычная школа, завецца плошча Лазарэнкі, бо да 1959 года гэта была базарная плошча, а ў 1959 годзе быў пасаджаны парк, які атрымаў назву 40-годзьдзя БССР, а зараз гэта дзіцячы парк».

«Узвышша, дзе быў дом Пінхуса Ноткіна, ня мела ніякай назвы — гэта проста ўзвышша, а ўнізе — роў».

«Міхаіл Пятровіч Крываносаў нарадзіўся ў Крычаве 1 траўня 1929 году... Ён быў першы беларускі спартсмэн — прызёр Алімпійскіх гульняў. Заваяваў срэбраны мэдаль на Алімпійскіх гульнях у Мэльбурне 1956 г. у кіданьні молата... Памёр 11 лістапада 1994 г.»

*Зь ліста Натальлі Марозавай (28.04.2002).*

## *Зноў Менск*

У Крычаве я скончыла 2-ю, 3-ю і 4-ю клясы. У 1939 годзе мы вярнуліся ў Менск, і я паступіла ў 5-ю клясу, а 6-ю скончыла ў 1941 годзе, незадоўга перад вайной. Спачатку я была ў 21-ай школе на вуліцы Правіянцкай, а потым у школе 23-яй насупраць «Дому Спэцоў».

У Менску жыцьцё было больш разнастайнае. Я шмат хадзіла ў тэатр — ставіліся беларускія п'есы. У 1940 годзе ў фае бачыла сьпявачку Ларысу Александроўскую.

Сяброў было шмат: прыпамінаю сына Александровіча[1], знаёмых зь Першамайскай, але найбліжэй гэтыя гады перад вайной я была з Галкай Сокалавай (цяпер Панкавец)[2]. (Праз шмат гадоў Галка знайшла мяне праз артыкул у газэце, і мы зноў аднавілі сяброўства!) Нас з Галкай шмат лучыла: маці нашыя былі настаўніцы, мы любілі хадзіць у кіно, тэатр — разам з Галкай мы былі на «Рыгалета» і «Травіяце», здаецца, у 1940 годзе.

Жылі мы зноў на Першамайскай. Праўда, папа жыў у Каралішчавічах, бо ня меў права на прапіску ў Менску. Быў у нас сабака Жулік. Суседзі ў нас былі добрыя, спачувальныя. Былі гэта Швэды (яны мелі ў двары студню), Рачыцкія, Кірыкі, Ільлючонкі. Пару дамоў ад нас жыў «амэрыканец» — так яго ўсе звалі — рээмігрант з Амэрыкі. Гульні нашы былі: пікар, хаванкі, гарадкі, лапта. Памятаю, у 1939—1940 годзе была надта лютая зіма. Амаль усе дрэвы памерзьлі.

Незадоўга перад вайной Лёдзік паступіў ва ўнівэрсытэт. Дома неяк пра гэта гаварылі, але неахвотна. Ён ня мог уладзіцца вучыцца ў Менску. Хатнія гэта перажывалі. Здаецца, цёця Ядзя пры нечыей дапамозе дапамагла Лёдзіку паехаць у Маскву — мо там удасца? Мяне тады мала ўводзілі ў курс тагачасных праблемаў, асабліва пасьля аднаго выпадку.

Я задумала падараваць Галцы на дзень ейнага нараджэньня — 24 жніўня — каробку цукерак. Зайшла ■ ў кандытарскую краму на Савецкай і сказала, каб мне далі цукеркі — у вітрыне былі сотні скрыначак. Прадаўшчыца мне адказала, што цукерак няма, на што ■ пратэставала — «А вунь у вітрыне поўна!» Прадаўшчыца мне ціхонечка сказала: «Дзяўчынка, у нас усё выстаўное — напаказ, а ў сапраўднасьці — няма!» Для мяне гэта было «громам зь яснага неба». Прыйшоўшы дахаты, я пачала гаварыць: «Што гэта такое? Незразумела! Дзе парадак?» і г. д. На што мама ціхонечка сказала: «Дачушка, ты цішэй, ты не разумееш, жыцьцё інакшае — памаўчы».

Думаю, што для мяне той выпадак стаўся ў нейкай меры кардынальным: прапаганда і рэчаіснасьць. Прыпушчаю, што ад таго часу спыніліся дзіцячыя гады, разважаньні, надышла пара юнацтва, рэальнасьці.

Хутка выбухнула вайна.

---

[1] *Зора вучылася й сябравала з сынам А. Александровіча. Яна яго шукала і не знайшла. Папрасіла дапамогі ва Ўладзімера Арлова. Вось што ён здолеў расшукаць:*

«Радаслаў Александровіч

Пасьля арышту бацькі сям'я зьехала, ратуючыся, у Расею, але неўзабаве вярнулася ў Менск. У гады вайны Радаслаў зь сястрой Карынай быў эвакуяваны на ўсход, жыў

у Сьвярдлоўску, дзе паступіў на філялягічны факультэт тамтэйшага ўнівэрсытэту.

Па вайне зноў вярнуліся ў Менск (у 1948 г.). Тым часам выпусьцілі [redacted] бацьку. Але ў 1949 г. зноў забралі і адправілі ў высылку.

Радаслаў закончыў філялёгію ў МДУ (Маскоўскі дзяржун-т) у 1950 г. Дыплёмную працу прысьвяціў паэзіі Аркадзя Куляшова. Працаваў пасьля ўнівэрсытэту выкладчыкам Канскага бібліятэчнага тэхнікуму (г. Канск) у Краснаярскім краі, дзе жыў на высылцы бацька. Там Радаслаў сустрэўся з будучай жонкай Марыяй. Спрабаваў паступаць у асьпірантуру МДУ, але завалілі як сына «ворага народу» (са словаў ягонае ўдавы) [...]

У 1956 г. Александровічы вярнуліся ў Менск. З гэтага году і да сваёй сьмерці Радаслаў працаваў на Беларускім тэлебачаньні, у тым ліку галоўным рэдактарам рэдакцыі літаратурна-драматычнага вяшчаньня і рэдактарам навукова-папулярных і навучальных праграмаў. Быў рэдактарам і сцэнарыстам шэрагу тэлефільмаў.

Памёр у 1981 г.?»

[2] *Зора «закройвала» ўспаміны досыць дэтальна. Вось чарнавік ліста Зоры да Галкі Сакаловай з пытаньнямі да высьненьня і адказ Галкі.*

Спытацца ў Галкі

1. Як мы йшлі на балота — міналі Берасьцянскую — і ці была далей нейкая вуліца ці проста йшлі сьцежкай? Дзе канчалася Першамайская вуліца?

2. Куды ішла чыгунка? Да галантарэйнай фабрыкі ці яшчэ далей?

3. Больш-менш калі пабудавалася галантарэйная фабрыка? Ужо пры саветах ці яшчэ да рэвалюцыі? Я ніяк нідзе не магу знайсьці вестак пра яе — як бы яна і не існавала.

4. Як называўся кінатэатр, што быў пабудаваны незадоўга перад вайной (недзе ў 1939 г.)? Знаходзіўся ён на Савецкай супроць сквера. У вайну ён згарэў.

5. Я ўжо, здаецца, пыталася ў цябе, але не магу знайсьці заметак — у двары Кірыкаў жыў нейкі артыст — ці то Грыгоніс, ці то Фальскі, ці то Ждановіч?

6. Ці жыў на Галантарэйнай (цяпер З. Бядулі) Бядуля? Мне здаецца, што на правым баку (як ісьці пад Вілы) быў даволі прыгожы дом і там жыў нейкі пісьменьнік.

«Добры дзень Зорачка!

[...] На твае пытаньні пастараюся адказаць, але за 100% праўду не ручаюся.

1) На балота мы ішлі спачатку па чыгунцы, а калі міналі галантарэйную фабрыку — гэта прымерна на ўзроўні канца Берасцянскай, — былі сцежкі, там, калі памятаеш, было шмат жоўтых кветак (мы называлі курыная слепата).

2) Чыгунка ішла ад зернахранілішча (з боку вул. Правіянцкай), каля нашых дамоў, фабрыкі і далей у бок Сляпянкі, там былі нейкія склады (драўляныя, а можа яшчэ якія).

3) Галантарэйка пабудавалася, мусіць, да рэвалюцыі (хіба, можа, там было што другое), бо сама вуліца была пабудавана да рэвалюцыі, там былі дамы яўна з прэтэнзіяй на зажытачнасьць — у саміх Вілах жылі нашы знаёмыя — дарэвалюцыйны адвакат (яго рэпрэсіравалі) зь сёстрамі (прыяцелькі маёй маці), і я добра помню гэту кватэру. Пры саветах такіх дамоў не будавалі. Так што напэўна вуліца існавала да саветаў.

4) Кінатэатр на Савецкай вуліцы насупраць скверу называўся «Пралетарый». Па поваду назвы я абзваніла ўсіх знаёмых свайго ўзросту і старэйшых, шмат было думак (ці то Чырвоная Зорка, ці Інтэрнацыянал), але ўсё ж гэта «Пралетарый».

5) У двары Кірыка жыў работнік педагагічнага інст. Жаўрыд, а яго жонка была роднай сястрой артыста Платонава, які часта бываў у доме сястры. Жонка Платонава была таксама вядомая актрыса Ждановіч.

6) Ці жыў на Галантарэйнай З. Бядуля — адказаць не магу, скарэй за ўсё — не. Дом, пра які ты пішаш, я таксама памятаю — у пачатку вуліцы з высокім ганкам.

Я адшукала жанчыну, якой ужо 93 гады, і жыла яна ў доме Кірыка, але яна гэтага нічога не помніць. Вось такія справы. [...]

3.III.2002».

## Дадатак

### *Ліст Лёдзіка да Зоры*

*Будучы ў Менску, мы некалькі разоў запрашалі яго* [Зорынага брата — *Рэд.*] *прыехаць у Менск — Зора зазначала, што мы аплоцім дарогу — Лёдзік у Менск не прыехаў. Гаварылі тэлефанічна.*

«Дзень добры, Зорачка!

Доўга думаў на якой мове пісаць письмо. Я ж з зімніх канікул 1941 року не слухаў беларускай мовы. Вот толькі у апошнія гады па тэлебачаньню паслухаеш «Песняроў» чы «Сяброў».

Якія ж вы малайцы. У чужой далёкай краіне не забываеце Радзіму, культуру, звычаі і нават выпущаеце газэту на беларускай мове. Тут усё гэта, мягка гаварыўшы, не «рекомендовалось». Пра то, што у Менску бываюць кангрэсы землякоў, ■ даведаўся тольки ад цябе.

Цяжка пісаць першае письмо пасля полувяковага маўчаньня. Але не мы у гэтым вінаваты. Такі злы лёс выпаў на нашу долю. Вельмі абідна, што жыцьцё соцен мильёнаў людей было разрушана, па віне двух ідыётаў.

Цяпер пра сваё жыцьцё. Я ня ведаю, што табе вядома з пісем цёці Ядзі, па-гэтаму напішу крыху пра усё.

Пасля ранення у верасні 1942 г. атрыманага пад Сталінградам паступіў у інстытут Сталі. Быў спецыяльны набор студэнтаў, бо патрэбны былі спецыялісты для металургичнай прамысловасці. Пасля зканчэньня інстытута атрымаў назначэння на металургичны завод на Урале. Завод знаходзіцца у падножжа Уральскіх гор у вельми прыгожым мейсцу. Работа была цікавай. Завод выпускаў спеціяльные сталі. Кожны год прыходзілася асваіваць выпуск новых марак сталі і сплаваў. Праўда гэта накладала асобыя абавязкі. Бачыш нават цяпер ■ не рашаюсь усё назваць сваімі імянамі, хаця усё ужэ даўно змянилася.

Пераязжать куды-небудь бліжэй ■ цэнтру па-праўдзе гаворачы я ня вельмі пытаўся. Першыя гады астаўлять работу па сваяму жаданню не пазвалялася. А пасля таго як гэта пазволили падымацца з прывычнага мейсца не вельми хацелася.

З 1986 году я на пенсіі. У Менску я так ніводнага разу не быў. Кожны год ездіў (чы заязжаў па дарозе з поўдня) у Курск пабачыць бабушку, цёцю Ядзю, цёцю Гэлю.

Пра дочку и унучак напішу у другіх пісьмях як наладзіцца перапіска.

Пасылаю сваю старадаўнюю фатаграфію напэўна 1939—1940 года.

Бывайце здаровы.

Цалую.

Лёд.

7.10.97»

## *Дукарка*

Пачалося гэта неяк неспадзявана, без задумы, без плянаваньня. У 2000 годзе ў траўні на канфэрэнцыі ў адзначэньне 100-х угодкаў народзінаў Міколы Касьпяровіча, якую ладзіў Беларускі Дзяржаўны Архіў-Музэй Літаратуры й Мастацтва, мы мелі прыемнасьць пачуць шмат цікавага, новага з жыцьця гэтага славутага беларускага этнографа, мовазнаўца, літаратуразнаўца. Адной зь цікавых імпрэзаў канфэрэнцыі было падарожжа на Пухаўшчыну ды ў вёску Ізабалёва, дзе ён нарадзіўся і дзе была адкрытая дошка ў памяць земляка-навукоўца.

Яшчэ на канфэрэнцыі шмат было жартаў, калі амаль кожны прамоўца зьвязваў сябе такім ці іншым спосабам з Пухаўшчынай. Я была адной зь нямногіх, хто, на жаль, ня мог пахваліцца тым, што калісь нават былі на Пухаўшчыне.

У машыне Алеся Карлюкевіча, старажыла [redacted] дасьледавальніка Пухаўшчыны — лепшага гіда й прыдумаць цяжка — ехалі мы па аўтадарозе Менск-Гомель, прыглядаліся да навакольных мясцовасьцяў, чыталі дарожныя знакі з такімі прыгожымі беларускімі назовамі вёсак, мястэчак і слухалі цікавыя аповеды нашага новага сябры пра іх.

Вось-жа якое было маё зьдзіўленьне, калі некалькі дзясяткаў кілямэтраў ад Менску я ўбачыла шыльду: Дукора. Я проста вачам не паверыла. Гэта-ж тая Дукора, а за ёю і Дукарка, дзе [redacted] была ў бежанцах у першыя дні вайны.

Шофер наш, хоць і ня было ў нас шмат часу, ветліва згадзіўся на маю просьбу зьвярнуць налева з дарогі, і мы заехалі ў Дукарку. Цяпер яна ўжо фактычна зьлілася з Дукорай. Зрабілі мы здымкі на галоўнай, хіба што адзінай, вуліцы, пахадзілі крыху па вёсцы. Хаты, дзе я правяла колькі тыдняў, я, зразумела, не пазнала. Можа яе ўжо й няма, але вуліца тая самая, рэчка Сьвіслач тая самая, поле, па якім мы бегалі да рэчкі, — тое самае. Адно пры ўезьдзе ў Дукору я заўважыла, што няма ўжо той прыгожай уезнай брамы, што вяла ў старую сялібу. Тады яна яшчэ была, хоць і крыху запушчаная.

І прыпомнілася, усплыло ў памяці, як пачаў гарэць Менск і бацькі адправілі мяне з Аннай Васілеўнай Сокалавай, нашай суседкай зь Першамайскай вуліцы ў Менску, настаўніцай 21-й менскай школы, дзе, дарэчы, вучылася і я, у бамбасховішча, а самі засталіся пры хаце — ратаваць яе. Ня выратавалі, але самі засталіся ў жывых, дзякаваць Богу.

Рана ранічкай 26 чэрвеня 1941 году, калі мы выйшлі з бамбасховішча, што было пад школай, нашага кварталу як-бы і ня было — толькі дым і дзе-нідзе яшчэ пажар, і мы пакінулі спапялелы Менск ды пайшлі пешшу ў кірунку Дукоры, бо Анна Васілеўна ня думала, што бацькі мае маглі застацца ў жывых у такім пекле. На дарозе было шмат такіх, як мы, бежанцаў — усе ў паніцы ўцякалі з гораду, хто пешшу, хто на машынах. Там я пабачыла першага ў сваім жыцьці забітага чалавека. У часе падарожжа мы некалькі разоў адпачывалі, нават ноччу крыху заснулі пры дарозе, а на другі дзень недзе каля абеду былі ўжо ў Дукарцы.

Прыпомніліся тыя пару тыдняў, што я правяла ў гасьціннай хаце Вольгі Сьвістун, маці Анны Васілеўны, бабкі маёй найлепшай сяброўкі Галкі Сокалавай.

Хата Сьвістуноў была прасторная, прыемная. За хатай агарод, сад. Ад вуліцы была вялікая прыгожая брама, якая была амаль заўсёды зачыненая. Адкрывалася толькі тады, калі выганялі кароў на пашу

ды калі іх вечарам спатыкалі. Людзі хадзілі праз калітку каля брамы. Галкі яшчэ там ня было — яе нехта іншы забраў зь Менску перад пажарам і прывёў у Дукарку толькі пазьней. Мне тады павесялела, бо чулася я ніякавата ў незнаёмай хаце, першы раз далёка ад сям'і, у няведаньні, што сталася з бацькамі.

Было мне тады няпоўных 14 гадоў. Між іншага, і дзень сваіх 14-х народзінаў я адзначыла там, у Дукарцы. Кажу — я, бо нікому не сказала, што акурат 1 ліпеня мой дзень народзінаў. Было-б гэта неяк не на месцы.

З Галкай, як яна ўжо прыйшла, я чулася значна сьмялей. Знаёміла яна мяне з суседнімі дзецьмі, родзічамі — яна ўсіх ведала, бо звычайна летнія вакацыі праводзіла ў сваёй бабкі ў Дукарцы.

Быў у іх вельмі цікавы сусед, дзед Хвёдар Краснагір — ён гаварыў вершамі, і мы, дзеці, каля яго бегалі й пыталіся:

«Скажы нам, дзед Хвёдар, нейкі вершык». І ён нас не расчароўваў — вершаваў. Прыпамінаецца некалькі такіх вершыкаў:

Вось, мае дзеткі,
Садзіцеся ў клеткі,
Паедзем выконваць пяцілеткі.

Белыя гусі
Ляцелі зь Беларусі.

Альбо:

Аграномная, ты скажы,
Чаму ў мяне капуста
Расьце няроўная.

Аграномная — гэта студэнтка-практыкантка па аграноміі.

Быў у дзеда Хвёдара добры сад, і хлопцы любілі туды лазіць. Дзед аднойчы пачуў, як хлопцы паміж сабой гаварылі сваёй мовай, каб ніхто не зразумеў (так яны думалі): «Пойдзем у дэр сад і нарвём дэр яблыкаў».

А дзед адказвае ім: «Дэр пуга вісіць на дэр сьцяне».

Мы зь ім жартавалі і казалі: «Дзед Хвёдар, ну вы проста як Янка Купала».

Ён на гэта меў адказ: «Ня туды, дзеўка, папала».

«Ну, як Якуб Колас», — згадзжаліся мы.

«Ня той, дзеткі, голас».

Вось усё гэта прыпомнілася-ўсплыло больш чым праз 50 гадоў па дарозе на Пухавічы. Цяпер і я магу сказаць, што маю нейкае дачыненьне да славутае Пухаўшчыны.

# Успаміны і публікацыі аб першых гадох эміграцыі ў Эўропе

## Нямеччына

### 1945

*Пра ваенны час у Нямеччыне Зора ўспамінала ня часта — вайна пакінула цяжкі ўспамін. У Нямеччыну Зора прыехала разам з бацькамі на пачатку ліпеня 1944 году. Пару дзён была ў Каралеўцы, а потым тыдзень-два ў Бэрліне. З Бэрліну Зора разам з групай іншых уцекачоў (Антон Шукелойць, Дзіма Сямёнаў і інш.) перабраліся ў Сілезію, у горад Рацібор, дзе Зора працавала то на фэрме, то дапамагала на складзе, дзе былі кнігі, вывезеныя зь Менску, то ў нейкай лябараторыі да студзеня 1945 году.*

*У студзені 1945 году ўсе беларусы зь Сілезіі падаліся на захад — пачаўся савецкі наступ на Нямеччыну. Ішлі на захад найбольш пешшу, часам пад'яжджалі. Затрымаліся ў горадзе Штафэльштайне, куды прыйшлі амэрыканцы. У верасьні 1945 году Зора разам з маці зьявілася ў Рэгенсбург. Там яна сустрэла шмат знаёмых, сяброў зь Менску: Тусю Шчаглову-Куліковіч, Ніну Лагоцкую-Палянскую, мяне — я прыехаў у Рэгенсбург у той самы дзень!*

*Нейкае, прыбліжанае да «нармальнага» жыцьцё пачынаецца з заканчэньнем вайны. Можна спакойна хадзіць, ведаеш, што нікога не заб'юць, можна дамаўляцца. Нічога не разбурыцца, хоць на першы погляд у гарадох, здавалася, і разбураць нічога не засталося — наўкол адны руіны, руіны, руіны. Зора з мамай (тата быў на нейкі час інтэрнаваны, быў асобна) пачынала «варушыцца», шукаць беларускае грамады. Хацелі быць з сваімі. Езьдзілі па Нямеччыне — пыталі, глядзелі, шукалі. Шукалі нашых, сваіх.*

### Рэгенсбург

*Пэрыяд цікавы. Зора — мы — з гэтым месцам, назовам, зьвязваем бліжэйшы паваенны час. Яшчэ ня ўсё было наладжана — Нямеччына разьбітая, але здаровая, нармальная аснова замалёўвалася — было ўсюды сьвятло — асьветленыя вуліцы, больш-менш*

*па раскладу хадзілі цягнікі. Адчыняліся крамы, а галоўнае — былі вітрыны.*

Мы з мамай прыехалі ў Рэгенсбург недзе ў сярэдзіне верасьня. Так, зусім лоб у лоб сустрэліся ў Беларускім Камітэце. І з кім я сустрэлася — зь Вітаўтам. Аж не магу даць веры. Ён амаль не зьмяніўся. Глянула на яго і адразу перанеслася ў Менск, сэмінарыя, вечарынкі, — але і адразу аб гэтым хацелася забыць. Жыць сёньняшнім днём. Неяк было прыемна, больш уяўляючы будучае. Мы разьехаліся ў ліпені 1944 г. у Бэрліне — *яна ў Сілезію — я заставаўся ў Бэрліне. Абмяняліся пару лістамі — фатаграфіямі. Нешта заварушылася ў сэрцы, але гэта было хутчэй маладзёвае — пераходнае. І вось у верасьні 1945 яно аднавілася. Мы адразу пачуліся свае, блізкія, хоць рамантычна жа мы і яшчэ не зблізіліся.*

*Нейкі час — мы былі свае.*

*Гімназія арганізавалася, сваё кола сяброў у гімназіі пачало крышталізавацца.*

*Зора як бы «гуляла» — нават быў ухажор Лявон Карась, а я быў больш у кіраўніках, свабодных дзяўчат было шмат.*

*Рамантычнае зьбліжэньне, каханьне разгаралася паступова, я ў Савёнкаў харчаваўся. Зора прасіла мяне часам апекавацца, «бо адной дзяўчыне няўдобна», мы вельмі зьбліжаліся ў часе паездак: прыкладам, падчас доўгага падарожжа на першы Скаўцкі зьезд у Ватэнштэце мы ўвесь час разам — агульныя погляды. Пачыналіся дробныя ўвагі больш рамантычнага профілю.*

*«Хадзіць», «мой», «мая» пачалося ў 1946 годзе ў Міхельсдорфе. Зора канчаткова «парвала» з ухажорам Лёнькам — і мы сталі парай.*

*Зора пачала вучыцца спачатку ва ўкраінскай гімназіі, потым у беларускай. Сталася яна актывісткай — арганізатарам скаўтынгу, мастацкай самадзейнасьці. Зора была адным зь вядучых адміністрацыйных і танцавальных актывістаў у пастаноўцы «Беларускага Купальля» ў Рэгенсбургу ў чэрвені 1946 году пад адкрытым небам. Гэтае Купальле мела велізарны посьпех, у ім бралі ўдзел каля 100 выступоўцаў, улучна з кампазытарамі і музыкамі М. Равенскім, М. Шчагловым, А. Кавалеўскім, Л. Янушкевіч, Б. Вержбаловіч, дзясяткамі іншых артыстаў Менскага Опэрнага тэатру і Тэатру Янкі Купалы.*

*Некаторыя матэрыялы — ці то Зорыны, ці то артыкулы, у якіх адлюстроўваецца тагачаснае жыцьцё, падаюцца ніжэй:*

- *Рэгенсбург — 1945 — украінская гімназія (В. Кіпель)*
- *Скаўцкая дзейнасьць — Арсеньнева (З. Кіпель)*
- *Магутны Божа ўпершыню (З. Кіпель)*
- *Цюбінген — Зора прысутная (В. Кіпель)*

## *Успаміны пра Ўкраінскую Гімназію ў Рэгенсбургу*

*Я жыў у Рэгенсбургу ад 1945 амаль да канца 1946 году. Прыехаў я ў Рэгенсбург у верасьні 1945 году (мне тады толькі споўнілася 18 год) і пасяліўся на Маршаль штрассэ, дзе быў беларускі камітэт. Дазвалялася нам там толькі спаць, бо днём камітэт функцыянаваў і быць у памешканьні не дазвалялася. Пад канец верасьня нас беларускіх юнакоў і юначак, якія спалі ў камітэце, сабралася чалавек 15-20. На параду дырэктароў камітэту мы ўсе запісаліся ў украінскую гімназію. Некаторых там прынялі адразу, некаторым зрабілі экзамен, бо не былі пэўнымі, у якую клясу нас накіраваць. Мне экзамен рабіў, здаецца, праф. Беластоцкі і другі праф. матэматыкі (здаецца, прафэсар Кульчыцкі, дарэчы, мы беларусы яго надта любілі, бо ён некалі быў на Беларусі і заўсёды з намі жартаваў!). Праз нейкіх пару месяцаў нас у гімназіі было ўжо парадачна. Адчынілася таксама ў горадзе і беларуская школа. Недзе пад Каляды, на сходзе ў беларускім камітэце (мы туды хадзілі часта) нам сказалі, што ўжо ёсьць дастаткова вучняў і што беларусы атрымалі таксама дазвол на адчыненьне беларускай гімназіі. І гэтак з Калядаў 1945 году мы перашлі ў беларускую гімназію.*

*Вось прозьвішчы былых вучняў-беларусаў Украінскае Гімназіі ў Рэгенсбургу:*

*Уладзімір Кушэль, Дзіма Сямёнаў (гэтыя скончылі Ўкраінскую Гімназію), Валя Вайцяхоўская, Янка Шыбут, Ніна Палянская, Туся Шчаглова, Зора Савёнак, Алесь Хібінскі, Юрка Станкевіч, Вітаўт Кіпель, Вячка Станкевіч (гэтыя перайшлі ў беларускую гімназію і яе скончылі), было яшчэ два-тры, якіх не маглі прыпомніць.*

*Найбольш, чатыры, а мо і шэсьць, вучняў-беларусаў было ў шостай клясе.*

*Помню, разам са мной быў Неганів, Лозінскі, Крастына (ейны вуйко быў настаўнікам), на жаль, больш прозьвішчаў я не памятаю.*

*Значна пазьней, мне ў грамадзкай працы шмат дапамог прафэсар Беластоцкі, і я яму вельмі ўдзячны. І хоць прабылі мы ў украінскай гімназіі і ня так ужо доўга, аднак гэты час нам глыбака ўрэзаўся ў памяць, бо былі гэта цяжкія часы, і за той братні прыём чуемся мы абавязаныя падзякаваць тым украінскім пэдагогам і дзеячам, якія нам тады дапамаглі (пішу МЫ, бо і мая жонка таксама хадзіла тады ва ўкраінскую гімназію!).*

*Регенсбург: Статті — Спогади — Документи.*
*Нью-Йорк — Париж — Сидней — Торонто, 1985. С. 582.*

## Зора прыпамінае

З Натальляй Арсеньневай я першы раз спаткалася ў Менску ў 1942-м годзе, дадам, разьбітым-згарэлым Менску. Было мне тады 15 гадоў. Адбылося гэта ў памешканьні рэдакцыі газэтаў «Менская газэта» і «Голас вёскі». Прыйшла я туды, каб знайсьці нейкую працу. У 1942-м годзе я скончыла 7-ю клясу школы, а вучыцца далей магчымасьці не было. Школы былі толькі сямігодкі, вышэйшых клясаў немцы не дазвалялі. Тую-ж моладзь, што не вучылася і не працавала, немцы вывозілі ў Нямеччыну на прымусовыя працы. І вось у рэдакцыі гэтых беларускіх газэтаў мне і малодшаму сыну Натальлі Арсеньневай — Влодку — выкраілі нейкія працы. Мне было сказана падлічыць радкі на ганарары ў «Голасе вёскі». Нешта падобнае рабіў і Влодак. Мною адразу-ж заапекавалася спадарыня Арсеньнева, стала мяне называць «Зорачка», а я да яе як-бы прывязалася, вельмі паважала і палюбіла. За ёю я адчувала сябе больш упэўнена на працы, бо-ж, ведама, рэдакцыя была рухавым месцам, працу трэба было выконваць дакладна.

Прабыла, прапрацавала я ў рэдакцыі аж да сярэдзіны 1943-га году, калі немцы дазволілі школы з вышэйшымі клясамі — былі адчыненыя сэмінарыя і прагімназія, і я пайшла вучыцца ў сэмінарыю. У рэдакцыю я ўсё-ж заскоквала, часта бачылася з Натальляю Арсеньневай далей, апавядала пра сваё жыцьцё-навуку-дзейнасьць. Кароткі час я была вельмі блізка з Натальляю Арсеньневай, калі мы эвакуяваліся зь Менску ў 1944-м годзе, мы ехалі ў адным таварным вагоне праз Польшчу ў Нямеччыну.

Наступнае нашае спатканьне адбылося ўжо ў паваеннай Нямеччыне ў горадзе Рэгенсбургу напрыканцы 1945-га году. У Рэгенсбургу арганізаваўся беларускі лягер перамешчаных асобаў, дзе пражывала Натальля Арсеньнева зь сям'ёю, і куды я з бацькамі прыехала, каб прадаўжаць перарваную навуку, бо ў Рэгенсбургу адчынілася беларуская гімназія імя Янкі Купалы. Натальля Арсеньнева выкладала ў нас францускую мову. Яна яе ведала выдатна, а вось нам даводзілася мець дачыненьне з францускаю моваю ўпершыню! Дык шмат ёй давялося з намі папрацаваць, каб закласьці асновы гэтае мовы. Была Натальля Арсеньнева настаўніцаю вельмі церпяліваю, справядліваю і добраю. Мову мы неяк пачыналі ўсьведамляць! І трэба-ж: у францускай мове мы пазьней здабывалі вышэйшую асьвету і ці раз успаміналі вельмі цёплымі словамі настаўніцу, якая нам упершыню тую мову падала — Натальлю Арсеньневу.

Праз увесь час побыту ў гімназіі мне з Натальляй Арсеньневай даводзілася быць у кантакце — то тое, то іншае грамадзкае, а я-ж зь ёю адчувала сябе вельмі ўпэўнена. І з таго перыяду 1946—47 гадоў у мяне ў памяці застаўся адзін вельмі прыемны ўспамін, калі На-

тальля Арсеньнева мне вельмі дапамагла ўлетку 1946-га году. Тады беларускі лягер з гораду Рэгенсбургу перавезьлі ў вёсачку Міхельсдорф каля гораду Кам. У тым часе ў лягеры былі вельмі дзейныя і актыўныя беларускія скаўты. Кіраўніцтва скаўтаў было поўнасьцю хлапецкае, хоць дзяўчатаў у скаўтах было, бадай, болей за палову. Відавочна, усе праграмы, як-бы дастасоўваліся да хлапцоў. Мне і маім бліжэйшым сяброўкам, кіраўнічкам у скаўтынгу, гэткая сытуацыя была ня вельмі да спадобы, і мы вырашылі ад хлапечага скаўтынгу аддзяліцца, заснаваць сваю скаўцкую адзінку. Тым больш, што статут арганізацыі прадугледжваў асобны дзявочы беларускі скаўтынг. Відавочна, што аддзяліцца мы маглі адразу, але трэба было выканаць усе статутовыя вымогі: знайсьці апекуна, даць структуру адзінкі. І вось у тым мамэнце я пайшла да спадарыні Арсеньневай, каб яна нам дапамагла. Шчасьцю майму не было веры, калі Натальля Арсеньнева згадзілася быць і нашаю апякункаю, і дапамагчы ў цырымоніі аддзяленьня, ды, нават, яна нам тады напісала дзявочы скаўцкі гімн:

Наш Першы сьцяг, наш Сьцяг дзявочы,
Адважна крочыць у жыцьцё...
(далей словы ўжо не прыпамінаю).

Супрацоўніцтва нашае на ніве скаўцкай было вельмі памыснае. Натальля Арсеньнева нам шмат дапамагала: пісала і ставіла пастаноўкі, дапамагала рыхтаваць кіраўнічак, як апякунка Дзявочага Сьцягу. Яна выступала перад лягернаю адміністрацыяй — дапамагала здабыць нам уніформу, атрымоўвала дазволы на паездкі ў іншыя мясцовасьці, каб рэпрэзэнтаваць беларускіх скаўтаў. Бясспрэчна, яна была нам сапраўднаю апякункаю.

Далейшае нашае супрацоўніцтва сягае ў пазьнейшы перыяд, калі я, здабыўшы вышэйшую асьвету, заснаваўшы сям'ю, пасялілася каля Нью Ёрку. Дарэчы, на маё вясельле Натальля Арсеньнева падаравала гадзіньнік у выглядзе каміна, вельмі густоўны, масыўны. І гэты гадзіньнік «ідзе» і сёньня справўна і дакладна, ды ў маёй хаце заўсёды на пачэсным мейсцы!

Нашае супрацоўніцтва ішло галоўным чынам па лініі БІНіМу, беларускіх друкаў, газэты «Беларус». Калі ў пачатку 70-х гадоў БІНіМ пастанавіў выдаць том твораў Натальлі Арсеньневай «Між берагамі», распачынаючы гэтым сэрыю «Беларускія паэты й пісьменьнікі на эміграцыі», я ўзялася ўкласці бібліяграфію твораў паэткі ды працаў аб ёй. Тады-ж я перачытала, дый ці раз, ёйныя ўсе творы, зразумела, якая здольная, працавітая і ўзьнёслая была яна. Як шмат яна дала нашай літаратуры. Ды ня толькі літаратуры. Яна была і плённаю журналісткаю, напісала выдатныя мэмуары, зрабіла гэтак шмат у грамадзкім жыцьці! І таму я з асаблівай энэргіяй расшуквала ейны пераклад «Песьні пра зубра», які, дзеля перадчаснае хваробы д-ра Ві-

таўта Тумаша, быў «згубіўся», і была вельмі радая, пазваніла адразу паэтцы, калі той пераклад быў знойдзены і хутка выдрукаваны.

Безумоўна, ейная воддаль апошнімі гадамі — жыла Натальля Арсеньнева ў сына Влодака ў горадзе Рочэстэры — не спрыяла жывучасьці кантактаў, але, тым ня менш, мы часам сустракаліся, успаміналі, плянавалі далейшае. Нягледзячы на воддаль, мы адчувалі сябе блізка. І было для мяне і майго мужа Вітаўта (ён таксама мае свае ўспаміны пра Натальлю Арсеньневу) ударам, калі 27-га жніўня 1997-га году тэлефонным званком нам паведамілі, што Натальлі Арсеньневай больш няма з намі на гэтым сьвеце. Мы адразу селі ў машыну і паехалі да Влодака. І, прызнацца, едучы, я як-бы трохі спадзявалася, заўсёднага вітаньня «Зорачка», калі сустрэнуся зь ёю, але гэтага ня сталася. І тым ня менш я адчувала сябе задаволенай, што была пры Натальлі Арсеньневай, калі ейная дамавіна хавалася, а ейны «Магутны Божа» заставаўся і нам, і пакаленьням на вякі вечныя.

*«Беларус», № 484, 2003*

## «Магутны Божа» — упершыню

Сярод ляскоў, палёў і невялікіх узгоркаў Ніжняй Баварыі, недалёка Дунаю знаходзіцца тыповы нямецкі гарадок Остэргофэн. Галоўная вуліца, пляц, вакол якога разьмясьціліся магазынчыкі, установы, гатэльчыкі, касьцёл, колькі пабочных вулічкаў — вось і ўвесь Остэргофэн. У Остэргофэне ад восені 1946 да вясны 1949 году быў разьмешчаны беларускі лягер для перамешчаных асобаў (ДП). У гэтым лягеры жвава йшло беларускае грамадзкае й культурнае жыцьцё — была й беларуская гімназія й пачатковая школа, беларускі скаўтынг, былі хоры, была тэатральная студыя, лягерная адміністрацыя; тут выдаваліся кніжкі й часапісы, тут і запачаткавалася шырока ведамая беларуская газэта «Бацькаўшчына».

Усё гэта прыгадалася, калі пару гадоў таму нам зноў давялося наведаць Остэргофэн і правесьці там колькі прыемных часінаў. Остэргофэн мала зьмяніўся — той самы пляц і дамы вакол яго, стаіць і той будынак, дзе мясьцілася беларуская гімназія, царква, і дзе жылі мае бацькі. Прыгадалася, як я прыязджала да іх на выхадныя дні, на вакацыі, бо я тады вучылася ў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе, іншым беларускім лягеры. У бацькоў было прыемна, утульна — жылі яны тады ў ваднэй кватэры з кампазытарам Міколам Равенскім — і мы часта чулі, як ён «пілікае» на сваёй неразлучнай іскрыпачцы, нешта творыць, практыкуецца, развучвае.

У адзін з такіх прыездаў да бацькоў, мама мне сказала: «Нешта-ж надта прыгожае піша сп. Равенскі». Гэта «нешта прыгожае» вылілася ў нешта магутнае — у гімн-малітву «Магутны Божа». Спадар Равенскі працаваў над музыкай на працягу вясны-лета 1947 году. Словы «Ма-

літвы» Натальля Арсеньнева напісала раней, у 1942 годзе. У восені 1947 году гімн «Магутны Божа» быў выдрукаваны ў Парыжы.

Остэргофэнскія хоры, бо было іх два, царкоўны і сьвецкі, абодва пад кіраўніцтвам кампазытара Равенскага, развучвалі «Магутны Божа» недзе пад восень.

Увосені 1947 году адбываўся тыдзень маленьня за Беларусь і беларускі народ. 27-га лістапада гэткія малебны служыліся ў лягэры Остэргофэн у праваслаўнай і каталіцкай цэрквах. Праваслаўны сьвятар д-р М. Сьцяпанаў і каталіцкі ксёндз М. Маскалік прысутнічалі адзін у аднаго на малебнах. Гэта было сапраўды экумэнічнае маленьне за Беларусь. Вось-жа на беларускай каталіцкай службе, у нямецкім касьцёле і прагучэў першы раз гімн «Магутны Божа», калі прысутныя беларусы, як каталікі, гэтак і праваслаўныя, у дружным хоры ўзьнесьлі свае малітвы.

Помніцца, прыйшла ■ на службу крыху пазьней і стаяла ззаду царквы сама, адна. Мама сьпявала ў хоры. Хор сьпяваў цудоўна. Сп. Равенскі заўсёды вымагаў ад сваіх харыстых пэрфэкцыі. «Магутны Божа» зрабіў на мяне такое глыбокае ўражаньне, што я не магла стрымаць сьлёзы, хоць і сорамна было плакаць, бо стаяла ■ адна, нікога зь беларусаў паблізу ня было — усе стаялі наперадзе. Ня было з кім і абмяняцца першымі ўражаньнямі. Але гэта мамэнт, калі я ўпершыню пачула «Магутны Божа», назаўсёды застанецца ў маёй памяці. І колькі-б разоў пасьля гэтага я ня чула нашую малітву — кожны раз у мяне на вачох сьлёзы.

Пачуцьці гэтыя ўсплылі й наведваючы маленькі гарадок Баварыі, дзе некалі была дзейная частка беларускае дыяспары, і дзе паўстаў гэты шэдэўр нашай рэлігійна-нацыянальнай музыкі.

*«Беларус», № 382, 1991*

***

*У 1948 годзе было заснаванае Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне пры ўнівэрсытэце ў горадзе Цюбінгене. У лісьце да мяне Вітаўт Кіпель падае гэткую інфармацыю пра беларускіх студэнтаў на Цюбінгенскім Унівэрсытэце.*

*«У красавіку 1948 году, праз пару дзён па выпускным вечары 3-яе матуры Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Баварыі, дырэктар гімназіі доктар Орса паклікаў мяне ў настаўніцкую ды сказаў, што ёсьць магчымасьць паступіць на Цюбінгенскі Ўнівэрсытэт, хоць для дырэктара і ня было ясным, як і хто гэта аформіць. Мяне дырэктар проста спытаў:*

*— Ну, а ты паедзеш?*

*— Ясна, што паеду, — адказаў я.*

*Тады ён сказаў, што пагутарыць і зь іншымі выпускнікамі. Па-*

*сьля доўгіх перамоваў згадзіліся ехаць у Цюбінген чатыры абітурыенты: Вітаўт Кіпель, Зора Савёнак, Оля Харытончык і Галіна Ганчарэнка.*

*Але ня ўсё ішло так гладка! Горад — Цюбінген знаходзіўся ў францускай акупацыйнай зоне, а мы жылі ў зоне амэрыканскай. Дазволу на пераезд у іншую зону акупацыйныя ўлады не давалі, а вызначаныя межы ахоўваліся як нямецкімі, так і саюзьніцкімі вартавымі. Таму мяжу трэба было пераходзіць нелягальна. Гэтак мы, даехаўшы да апошняе чыгуначнае станцыі на амэрыканскім баку (здаецца, гарадок Гэрэнбэрг), зьлезьлі зь цягніка і вечарком пешкі пайшлі празь мяжу ў француcкую зону.*

*Ісьці трэба было кілямэтраў 8-10 да першае станцыі ў зоне францускай. Ісьці было невыгодна: мы мелі ладне рэчаў, ішлі напрасткі празь лясочкі й кустарнічкі, а ў гэты час — месяц красавік — зямля ў той мясцовасьці мокрая й чарнюшчая. Мы здарава ўпэцкаліся, было цяжкавата, асабліва цягнуць рэчы, бо адна з нашых сяброўак мела не пляцак, а вялізарную валізку! Але з прыгодамі — той-сёй паваліўся, добра, што мінулі пагранічнікаў, — прыйшлі мы ў францускую зону ды вырашылі пехатой дабірацца да Цюбінгену (яшчэ кілямэтраў 6-8), бо баяліся, што можа быць праверка ў цягніку.*

*Праз гадзінаў 12-15 пасьля таго, як мы вылезьлі зь цягніка ў амэрыканскай зоне, дабраліся да Цюбінгену. Прыйшлі на кватэру спадарства Гэльвігаў, адрас якіх атрымалі ад доктара Орсы. Хутка на той-жа кватэры мы сустрэліся і з прадстаўнікамі арганізацыі, якая мелася ўладкаваць нас на ўнівэрсытэт. Выявілася, што гэтая арганізацыя — польская, але ўся квота не запоўнена палякамі, дык кіраўнікі згаджаюцца дапусьціць праз сваю арганізацыю на ўнівэрсытэт і нас, як былых грамадзянаў Польшчы. Ведама, што ў той час афіцыйна мы ўсе былі запісаныя як польскія грамадзяне, каб пазьбегнуць выдачы ў Савецкі Саюз. Адразу-ж зь мейсца я й мае сяброўкі заявілі, што раз гэтая арганізацыя польская, мы ў яе ўступаць ня будзем — мы не палякі. Гэткая нашая заява выклікала буру гневу — пасыпаліся эпітэты «савецяжы», «кацапы», «пятая калёна ... папрокі, што мы не паважаем аказанага нам даверу. Не прамінулі сказаць, што, калі мы ня ўступім у гэтую арганізацыю, не атрымаем і паёк ад Палёніі, а паколькі мы з амэрыканскай зоны — нелягальныя, дык нас могуць і арыштаваць. Але мы ні на якія пагрозы не зьвярнулі ўвагі, выйшлі з хаты ды пайшлі на вакзал, які ад гэтага часу стаўся нашым домам (хоць трэба было добра лавіраваць, каб не пападацца на вочы паліцыі). Вырашылі, што раз мы ў Цюбінгене, дык паспрабуем неяк уладкоўвацца самі.*

*Праз дзень-другі пайшлі ў рэгістрацыйны адзьдзел унівэрсытэту, дзе нам сказалі, што нямецкая адміністрацыя нічога ня можа вырашыць адносна студэнтаў-чужынцаў, а з гэтай справай трэба*

*зьвяртацца ў ваенную адміністрацыю. Сустрэўшыся зь некаторымі мясцовымі беларусамі, мы выказалі свой намер пайсьці да францускіх ваенных уладаў і паспрабаваць атрымаць дазвол на запіс ва ўнівэрсытэт. Землякі палічылі нас за вар'ятаў: «Калі вы пойдзеце да французаў, вас усіх адразу арыштуюць і вывезуць у савецкую зону», — так нас застрашылі нашыя суродзічы. Ясна, што сытуацыя была нецікавая: мы ня мелі ні памяшканьня, ні харчоў, ні адпаведных дакумэнтаў. І тым ня менш, мы зь дзяўчатамі вырашылі паспрабаваць шчасьця.*

*Ведаючы, куды зьвяртацца, мы паказалі вартавым пры будынку ваеннай адміністрацыі скаўцкія легітымацыі, якія выдаваліся Інтэрнацыянальным Скаўцкім Бюро для ўсяе Заходняе Нямеччыны. Пайшлі мы, Вітаўт Кіпель і Галіна Ганчарэнка, да палкоўніка Дзю Банэ (а можа, Дзю Манэ) і выказалі нашую справу. Той выслухаў нас спакойна, сказаў, што справа няпростая, мы для яго — нелягальныя чужынцы і павінны быць адразу выдаленыя з францускай зоны, але, паколькі мы хочам вучыцца ва ўнівэрсытэце, ён нам дазволіць сустрэцца з вышэйшым начальствам.*

*Празь дзень, гэтым разам ужо я сам адзін (дзяўчаты вырашылі, што ім будзе лягчэй нешта рабіць, калі-б мяне затрымалі!) пайшоў да француза-палкоўніка, які наглядаў за сыстэмай вышэйшае адукацыі ў францускай зоне (на жаль, забыў ягонае прозьвішча). Палкоўнік сустрэў мяне ветліва, адразу спытаў, на якой мове будзем гаварыць (у маім моўным багажы ў той час была толькі адна нямецкая мова з заходніх моваў), і я пачаў сваё апавяданьне. Я расказаў яму пра Беларусь, паказаў кнігу Энгельгарда (гэтую кнігу я гадоў пяць вазіў у сваім плецаку), вытлумачыў, чаму мы не вяртаемся на бацькаўшчыну (адно зь першых ягоных пытаньняў да мяне было — ці ўсё-ж я ня думаю вярнуцца ў Савецкі Саюз?), ды асабліва падкрэсьліў, што нам важна здабыць асьвету на Захадзе і служыць Беларусі.*

*Гэтаксама, вёў я, нам, беларусам, патрэбныя свае арганізацыі, а таму, у выпадку нашае рэгістрацыі на ўнівэрсытэце, мы хацелі-б мець беларускую студэнцкую арганізацыю. Гэтыя мае словы як-бы ўзарвалі палкоўніка. Ён рэзка павярнуўся, ускінуўся ды разьюшана выпаліў: «Што гэта вы сабе думаеце! Нелягальныя грамадзяне ў францускай зоне просяць зарэгістравацца на ўнівэрсытэт ды яшчэ — проста нахабства — хочуць стварыць новую арганізацыю. Гэта нечувана!» — крычаў палкоўнік. Я-ж спакойна яму паясьніў, што не лічу нахабствам, калі нечага прашу. «Вы мне проста можаце адмовіць, аднак я яшчэ раз хачу падкрэсьліць, што раблю гэта з нацыянальнага абавязку, а не для задавальненьня асабістых патрэбаў». Пачуўшы мой спакойны тон, палкоўнік, здалося мне, неяк суцішыўся. У маёй-жа галаве думкі скакалі, як у калей-*

*даскопе: «Што рабіць, калі ён зараз пакліча варту й мяне арыштуюць?! Уцякаць няма куды, я — у памяшканьні ваеннай адміністрацыі». Асабліва я напужаўся, калі палкоўнік, ня кажучы мне ні слова, зьняў тэлефонную трубку, глянуў на мяне ды пачаў набіраць нейкі нумар. «Ну, думаю, хана ...» Відаць, мой твар выказваў вялізарнае занепакаеньне, бо палкоўнік зрабіў нейкі адчэпна-заспакаяльны жэст — маўляў, ладна, сядзі ...*

*І тое, што ён пачаў гаварыць у тэлефон, ашаламіла мяне. Я не хацеў верыць сваім вушам. Палкоўнік некаму сказаў, каб мяне прынялі і выканалі маю просьбу. Дарэчы, гутарка палкоўніка зь некім адбывалася таксама па-нямецку. Я быў на дзясятым небе. Хацелася сардэчна паціснуць гэтаму французу руку, але я сядзеў, не адважваючыся нічога сказаць. Павесіўшы трубку, палкоўнік растлумачыў мне, што ён гаварыў з канцылярыяй віцэ-рэктара, сказаў, каб я туды адразу ішоў — нашая просьба будзе задаволеная. Ён нават не дазволіў мне выказаць словы ўдзячнасьці, перабіў мяне і заўважыў, што ён адступіў ад правіла, бо яму здалося, што я гаварыў шчыра. Ён, сапраўды, мог у гэтым не сумнявацца. І мая гутарка, і паводзіны ўсіх нас — Галіны, Зоры, Олі — кіраваліся толькі адным — быць карыснымі беларускай справе. І ўсё, што мы рабілі, было шчырае.*

*Далейшы ход падзеяў быў просты (праўда, я на хвілінку завагаўся: ці знайсьці на станцыі дзяўчат і сказаць ім навіну, ці ісьці адразу ў канцылярыю віцэ-рэктара?). Вырашыў, што скажу пазьней, залагодзіўшы ўсе справы. Я прыйшоў да віцэ-рэктара, запісаў нашыя прозьвішчы, запоўніў патрэбныя анкеты і падаўся на вакзал шукаць дзяўчат. Праз некалькі дзён на галоўнай адміністрацыйнай дошцы зьявілася паведамленьне, што пры ўнівэрсытэце зарэгістраваная новая арганізацыя — Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне. Былі таксама афармленыя нашыя ўнівэрсытэцкія дакумэнты, і для нашага найбольшага задаваленьня (да нейкай ступені зьдзіўленьня) у нашых «аўсвайсах» (мы іх і цяпер захоўваем) нават нашая дзяржаўная прыналежнасьць была запісаная як «вайсрутэнішэ» — беларуская! Гэтак мы пачалі студэнцкае жыцьцё.*

*Мы бралі ўдзел у колькіх міжнародных студэнцкіх імпрэзах-вечарох, я ад нашае групы быў на зьезьдзе ў Марбургу (канец травеня 1948 году), а пазьней, восеньню 1948 году, паколькі мы дзейнічалі як самастойная арганізацыя, дамагліся ад унівэрсытэту памяшканьня для служэньня беларускіх праваслаўных службаў айцом Сьцяпанам Войтанкам. К таму часу разам з намі ўжо былі Валодзя Жыромскі, Янка (Яніна) Калюцік і іншыя студэнты. У канцылярыі мне сказалі, што ёсьць яшчэ адна студэнтка-беларуска Надзя Юрэвіч.*

*Навука ў Цюбінгене стаяла вельмі высака: мы наведвалі лек-*

*цыі фізыкі ў прафэсара Косэля, аднаго з бацькоў актэтнай тэорыі структуры ядра, хімію выкладаў прафэсар Віціг, выдатны нямецкі хімік, слухалі іншых, ня менш знакамітых навукоўцаў.*

*Нашую дзейнасьць спараліжавала грашовая рэформа, хоць я і прабыў на ўнівэрсытэце да красавіка 1949 году, ■ дзяўчаты павыязджалі раней. Наступным нашым студэнцкім этапам — на даўжэйшыя гады — стаўся ўнівэрсытэт у Лювэне».*

Рагуля Б. *Беларускае студэнцтва на чужыне.*
Лёндан (Канада)—Нью Ёрк, 1996. С. 27-33.

## У Бэльгіі

У адрозьненьне ад беларускіх студэнтаў-хлапцоў, якія жылі амаль усе разам у беларускім інтэрнаце-бурсе на Пляцы Гувэра, беларускія дзяўчаты жылі ў розных інтэрнатах. Беларускіх студэнтак у Лювэне было, дарэчы, няшмат. Праз гады было нас нешта сем ці восем, але студыі скончылі толькі пяцёх: Зоя Жалязоўская-Смаршчок, Люда Рагуля, Зора Савёнак, Іна Саўка і Вольга Харытончык.

У Лювэн ■ прыехала ўлетку 1949 году. Навучальны год яшчэ не пачаўся, і я колькі тыдняў была бяз сталага мейсца жыхарства і перакідалася з аднаго мейсца ў другое. Нарэшце, каб ■ апанавала крыху французскую мову ды мела нейкі занятак, уладкавалі мяне на працу ў багатую валонскую сям'ю на поўдні Бэльгіі, каля Намюру, дапамагаць у хатняй гаспадарцы, а папросту — быць пакаёўкай.

Праз тры месяцы я крыху авалодала мовай і, калі прыехала ўвосень у Лювэн, мне пашчасьціла пасяліцца ў дзявоцкім інтэрнаце *Sedes Sapientia* (што прыблізна можна перадаць як «Мудрая Сядзіба»). Кажу «пашчасьціла» зусім сьведама, бо Сэдас, як мы ўсе гэтае мейсца называлі, быў для мяне ўсе шэсьць наступных гадоў ня толькі мудрай, але й бясьпечнай, утульнай, прыязнай сядзібай. Пасьля цяжкіх ваенных гадоў, гадоў выгнаньня, гадоў у лягерох для перасяленцаў Сэдас быў для мяне першым мейсцам, дзе я пачулася нармальным чалавекам.

У Сэдасе жылі пераважна студэнткі-чужынкі. Было шмат дзяўчат з Усходняй Эўропы — латышкі, полькі, мадзяркі, зь Югаславіі, Армэніі, Заходняй Эўропы, а гэтаксама зь В'етнаму й Карэі. Былі дзяўчаты з Амэрыкі і Кубы. Жылі, зразумела, у Сэдасе і бэльгійскія студэнткі. Зь беларусак была я адна, і шмат даводзілася расказваць дзяўчатам пра сваю краіну. Усе мы добра сябравалі і стараліся пазнаць і зразумець культуру сваіх каляжанак, дапамагалі адна адной прыстасавацца да новага для нас усіх студэнцкага жыцьця. А яно было нялёгкае. Акрамя вялікіх акадэмічных нагрузак — студыявала я хімію, — была яшчэ і цяжкасьць з новай мовай, якую засвойвалі мы пераважна на

хаду, вучыліся адзін ад аднаго. І таму спрыяльныя магчымасьці для студыяў, сяброўская атмасфэра Сэдасу стваралі найлепшыя жыцьцёвыя ўмовы, якія можна было сабе ўявіць і пра якія ў тыя цяжкія саракавыя гады можна было толькі марыць.

Пасьля гадзінаў, адведзеных для студыяў, былі ў нас сяброўскія вечары, гутаркі. Пераважна слухалі мы музыку альбо чыталі, гулялі ў розныя настольныя гульні (тэлевізіі, на шчасьце, у нас тады ня было). У Лювэне я навучылася ад студэнтак-в'етнамак гуляць у мажонг (кітайскае даміно) і гатаваць інданэзійскія стравы. Найпрыямнейшыя нашыя дні былі ў часе музычных фэстываляў каралевы Альжбэты, калі найлепшыя піяністы і скрыпачы сьвету зьязджаліся ў Брусэль на конкурсы. Тады я пазнала й палюбіла клясычную музыку, і любоў гэтая засталася на ўсё жыцьцё.

Дысцыпліна ў Сэдасе была даволі строгая. Дзьверы замыкаліся а дзясятай гадзіне ўвечары, і ўсе студэнткі мусілі быць дома да гэтага часу. Здаралася, прыходзілася пакідаць кінатэатр яшчэ да заканчэньня фільма, каб папасьці своечасова ў бурсу. Між іншым, хлопцам у дзявочую бурсу ўваход быў забаронены, але спатканьні паміж дзяўчатамі і хлопцамі, зразумела, адбываліся, як у кожнай студэнцкай грамадзе. Беларускім студэнтам было зручна, бо ў хлапецкай бурсе гэткіх абмежаваньняў ня было. Праўду кажучы, хлапецкі інтэрнат на Пляцы Гувэра быў для нас усіх другой хатай, клюбам і асяродкам. Тут мы сыходзіліся на розныя зборкі, лекцыі, сьпеўкі, на рэпэтыцыі танцавальнага гуртка, на розныя сьвяткаваньні і імпрэзы.

Умовы для студыяў у Лювэне былі для нас усіх надзвычайныя. Жылі мы на ўсім гатовым. Ад нас вымагалася толькі вучыцца і здаваць экзамены. Улетку тыя, што здалі экзамены вясной, мелі магчымасьць недзе й папрацаваць альбо проста адпачыць, паехаць да бацькоў ці падарожнічаць па Эўропе. Я, між іншым, адным летам працавала гідам на індустрыяльнай выстаўцы ў Антвэрпэне, а другім летам — гувэрнанткай у сям'і прафэсара заалёгіі Дэбэзьё. Тыя, што вясною экзамены не здалі, мелі магчымасьць здаваць іх яшчэ восеньню і мусілі цэлае лета вучыцца, пераважна недзе ў манастыры ці яшчэ ў нейкім спакойным мейсцы. Прыкладам, Сэдас меў вілу над морам, дзе студэнткі маглі і вучыцца, і адпачываць. З прыемнасьцю ўспамінаюцца гэтыя летнія месяцы, праведзеныя на Паўночным моры, хоць часьцяком прыходзілася шмат рыхтавацца да экзаменаў.

Калі ў 1987 годзе наведалі мы з мужам Вітаўтам Кіпелем Лювэн, то ўбачылі: шмат што ад нашых студэнцкіх гадоў зьмянілася. Галоўны будынак Сэдасу зьнесены. На гэтым мейсцы нешта будавалася. Інтэрнат яшчэ ёсьць, але гэтаксама перабудаваны. Толькі невялікі парк, праз які столькі хадзілася з аднаго будынку ў другі, яшчэ ўсё такі-ж самы, нават падалося, што тыя самыя качкі плаваюць у азярку.

На сустрэчу былых сэдасаўцаў, якая адбылася ў 1989 годзе ў Новым Лювэне, прыехаць, на жаль, не давялося, але сымпатыі мае і вялікая ўдзячнасьць да гэтай установы, да гэтай мудрай сядзібы і ягоных кіраўнічак Гюгэтты і Сабіны Дэленуа застануцца ў сэрцы назаўсёды.

Рагуля Б. *Беларускае студэнцтва на чужыне.*
Лёндан (Канада)—Нью Ёрк, 1996. С. 75-78.

# Успаміны і публікацыі аб жыцьці й дзейнасьці ў ЗША

## *Пераезд у ЗША*

*У бэльгійскім пэрыядзе жыцьця асноўным заданьнем, мэтай была навука, затым грамадзкая праца, а пэрсанальнаму жыцьцю ўвагі бадай не надавалася. І тым ня менш, мы з Зорай як бы заключылі духовы кантракт — па скончэньні навукі закласьці новую сям'ю, каб далейшае жыцьцё ішло адной каляінай. Увосень 1955 году, калі я абараніў дактарат, Зора атрымала паперы на выезд у ЗША. Аднак я такіх папераў ня меў, і будучыня была неяк невыразная, бо невядома было, калі я атрымаю дазвол на эміграцыю ў ЗША. Зора ж у ЗША выяжджала ў пачатку сьнежня. І сталася зноў дзіўная прыпадковасьць — праз пару дзён пасьля ад'езду Зоры я зусім нечакана таксама атрымваю патрэбныя амэрыканскія дакумэнты!*

*Напрыканцы 1955 году мы з Зорай ужо ў ЗША.*

*Было пастаноўлена ўзяць шлюб у а. М. Лапіцкага — яго добра ведалі абедзьве сям'і, дый мы самі чуліся з айцом Лапіцкім вельмі добра, як з духоўным апекуном, гэтак як і з грамадзкім дзеячом. Шлюб адбыўся ў горадзе Пасэйку 25 лютага 1956 году.*

*Пачаткі ў ЗША былі нялёгкія. Мае прыпадковыя працы ў геалёгіі, стыпэндыя асыстэнта на ўнівэрсытэце, пераклады, лекцыі. Зора нейкі час працавала ў хімічнай лябараторыі — хоць аплата была невялікая, але трымалася сувязь з навукай.*

*Жылі ў Пасэйку, Балтыморы, Атлянтык Сіты і ўрэшце ў Вэлінгтоне, штат Нью Джэрзі.*

*Недзе напрыканцы 1960 году Зора сустрэлася з прапаведнікам Масеям Гітлінам і доктарам Янкам Станкевічам і стала зь імі працаваць у камітэце па перакладзе Біблії ў беларускую мову — была тэхнічным рэдактарам і перадрукоўвала рукапісы.*

*Адначасна мы далучыліся да БІНіМу, БАЗА, Царквы, і беларускае жыцьцё сталася асноўным стрыжнем дзейнасьці — цалкам паралельным бурлівай амэрыканскай штодзёншчыне.*

*Пераломным момантам было рашэньне зьмяніць прафэсіі і перайсьці ў іншую галіну дзейнасьці. Асноўным абгрунтаваньнем такому рашэньню была наша адданасьць беларускай справе. Ні Зора, ні я не ўяўлялі сабе працы безь беларускага элемэнту.*

*Рашэньне было зробленае. Я закончыў бібліятэчны факультэт у 1962 годзе, Зора — у 1966-м.*

*Ад таго часу жыцьцё ішло ў такім рэчышчы: сям'я — дзеці — праца — беларуска-амэрыканская дзейнасьць.*

*У пляне сямейным: дзеці вучыліся добра. Кожнае суботы й нядзелі мы вазілі дзяцей у школу пры царкве Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Avenue ў Брукліне. Бралі ўдзел у беларускіх імпрэзах, заснаваньні Бэлэрусі г. д.*

*На працы работы хапала — трэба было зарабляць на хлеб штодзённы, разам з тым рабілася ўсё што можна для «беларускай справы».*

*Большая частка жыцьця была зьвязаная зь Ньюёркскай публічнай бібліятэкай.*

## *Сустрэчы ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы (урыўкі з успамінаў)*

Пачала працаваць я ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы ад лютага 1966 г. адразу па сканчэньні бібліятэчнага факультэту Ратгерскага ўнівэрсытэту ў Нью Джэрзі. Спачатку працавала ў аддзеле каталягізацыі. Мая навуковая падрыхтоўка — я ў 1955 г. закончыла хімічны факультэт Лювэнскага Каталіцкага ўнівэрсытэту (Бэльгія) і некалькі гадоў адпрацавала хімікам — давала мне выдатныя магчымасьці быць каталёгерам навуковае літаратуры. На гэтай пасадзе я працавала каля 15 гадоў, закаталягавала тысячы-тысячы кніг ды вельмі блізка была знаёмая й з амэрыканскім навуковым жыцьцём, і з амэрыканскай навуковай літаратурай.

У пачатку 1981 г. я ўсё ж вырашыла перайсьці ў Славянскі аддзел бібліятэкі. Мяне туды, прызнацца, цягнула даўно. Нашыя й грамадзкія, і сямейныя зацікаўленьні былі поўнасьцю ў беларусіцы, а гэта ж частка славістыкі! І таму, калі здарылася нагода, якая задавальняла мяне й у адміністрацыйным парадку — была вакансія заступніка загадчыка аддзелу, — я «села» за стол у Славянскім аддзеле. Пішу гэтыя нататкі (люты 2002 г.), гляджу праз акно мае «клетачкі-офісу» ў двор бібліятэкі, які забудоўваецца, і ужо неба з майго стала ня будзе відаць, ды лаўлю сябе на думцы: за гэтым сталом я «прасядзела-прарабіла» па-над дваццаць гадоў. Добра разумею й вельмі задаволеная, што зрабіла я ладна працы.

Мне прыемна ўсьведамляць, што я была піянэрам увядзеньня кампутарнае каталягізацыі ў аддзеле, а — фактычна — мы былі ў першых шэрагах увядзеньня кампутарнае славянска-кірылічнае каталягізацыі ў ЗПІА. Тут мушу агаварыцца ў тым сэнсе, што з кампутарнай каталягізацыяй у агульным аддзеле мы пачалі «вазіцца» ад канца 1960-х

і былі вельмі пасьпяховыя, а ад пачатку 70-х карысталіся кампутарамі поўнасьцю. Вось жа маё дасьведчаньне кампутарнае каталягізацыі я стала прыстасоўваць і ў Славянскім аддзеле ў дачыненьні да кірылічнага друку. І ў гадох 80-х мы ўлучыліся таксама ў кампутары ў Славянскім аддзеле.

Шмат працавала й з разбудовай калекцыяў, кніжных фондаў. Прывялі ў парадак зборы рэдкіх кніг, мікрафільмы. Мне прыемна адчуваць, што напрыканцы дваццатага стагодзьдзя «ЗЗК» — мой акранім з Зора-Зоя-Кіпель — зрабіла свой унёсак у гэтую бібліятэку, якую я вельмі люблю й паважаю, і ЯНА, Ньюёркская Бібліятэка, на рагу 5-й авэню й 42-й вуліцы — «скрыжаваньні сьветаў» — ёсьць для мяне яшчэ адна альма-матэр.

Але ў гэтым сэгмэнце ўспамінаў хачу падзяліцца ўражаньнямі-прыпамінамі аб наведніках — чытачах бібліятэкі, найбольш беларусах, якія мне запамяталіся, зь якімі мела дачыненьні.

Праўда, мушу падкрэсьліць, Вітаўт пачаў працаваць у бібліятэцы значна раней і быў знаёмы з большай колькасьцю чытачоў-беларусаў, аб якіх ён мне заўсёды апавядаў, дзяліўся паглядамі (мы зь ім у беларусіцы былі адно). Мае ўспаміны будуць толькі аб тых, з кім «працавала» я, «маіх знаёмых».

Адным зь першых чытачоў, з кім мне давялося часьцяком размажаць пра Беларусь, быў Рыгор Якаўлевіч Арансон[1]. Юдэй па веравызнаньні, расейскі палітык па пераканаьнях, надзвычай інтэлігентны, адукаваны чалавек. Паходзіў ён зь Віцебску, нейкі час быў рэдактарам газэты ў Гомелі. Беларусь Арансон ведаў павярхоўна, але цікавіўся. Ён быў глыбокіх меншавіцкіх паглядаў і ў часе перадрэвалюцыйнае эпохі, перад 1917 годам, ведаў пра дзейнасьць Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Арансона, як і дзясяткі меншавікоў, бальшавікі ў пачатку 20-х гадоў выдалілі з тэрыторыі тагачаснага СССР. З тае «меншавіцкае хвалі эмігрантаў» мне давялося быць знаёмай і часта гутарыць зь Верай Аляксандравай[2], шырока знаным літаратурным крытыкам, і зь дзеячамі Салямонам Шварцам[3], Аляксандрам Даліным[4]. Тыя меншавікі былі проста заскочаныя, наколькі беларускі рух разьвіўся. Яны не давалі веры ў гутарках са мной пераканаьням, што Беларусь адрадзілася, што дзяржаўнасьць нацыянальнай Беларусі не за гарамі. У мяне засталося ўражаньне аб тых людзях (былі яны ўсе вельмі сталага веку й хутка пакінулі гэты сьвет), што яны проста не разумелі Беларусі, а развой беларускага руху іх ашаламіў. Праўда, я не адчувала ў іх ніякае варожасьці да нашага нацыянальнага руху. Часта ў гутарках з тымі людзьмі ў мяне паўставала пытаньне: ці былі-б яны лепшыя за бальшавікоў, калі б былі пры ўладзе? Думаю, што былі б лепшыя.

А цяпер некалькі заўваг-нататак аб іншых наведніках, дасьледніках-чытачах з «нашае» хвалі эміграцыі, г. зн. па Другой Сусьветнай

вайне. Мікола Панькоў быў, бадай, першым, з кім мне даводзілася даўгавата гутарыць, калі ён прыходзіў у бібліятэку, рыхтуючы працяг свае бібліяграфіі аб беларускім друку. Яму найболей былі патрэбныя друкі Савецкай Беларусі, хоць і пытаў мяне, «ці няма чаго новага эміграцкага». Панькоў заўсёды даваў адчуць, што ён ведае аб друку эміграцыі ўсё, а калі ня ўсё, дык амаль усё! У мяне ж для яго заўсёды бывала нейкая навінка!

Шмат гутарыла я й з Ізыдарам Плашчынскім (Гуткоўскім). Спадар Плашчынскі добра ведаў нашыя сем'і (і Савёнкаў, і Кіпеляў), дык зь ім бывалі гутаркі й на іншыя тэмы. Цікавіўся ж Ізыдар найболей навінкамі з БССР літаратурнага профілю. Часта, прачытаўшы кнігу, затрымоўваўся, каб сказаць мне свае ўражаньні, заўвагі, а найбольш крытыку. Была ў Ізыдара Плашчынскага адна вельмі блізкая, улюбёная тэма — ён зьбіраў, натаваў, рабіў копіі з усяго, дзе гаварылася пра Пушчу, ягонага брата. І я яму шмат у гэтым дапамагала.

Станіслаў Станкевіч быў, бадай, адзін з самых сталых чытачоў бібліятэкі, апрача д-ра Тумаша. Спадар Станкевіч заўсёды выклікаў мяне ў чытальны зал, каб я яму прынесла «навінкі», кнігі, якія мы атрымоўвалі ў парадку кнігаабмену. Рэч у тым, што й Мікола Панькоў, і Ізыдар Плашчынскі, і Стась Станкевіч мелі добрыя прыватныя кнігазборы — бібліятэчкі беларусікі, але ўсё ж у нашую бібліятэку даходзіла значна болей кніжак, асабліва выданьняў навуковых, рэгіянальных, дык гэтыя дасьледнікі хацелі ведаць болей пра кніжкі, атрымаць якія яны ня мелі магчымасьці.

Пільна сачыў за навінкамі літаратуры ды быў наведнікам бібліятэкі спадар Янка Юхнавец, з каторым у мяне былі вельмі добрыя дачыненьні. Я, дарэчы, добра ведала й Ірэну Кабыш-Кандыбовіч, жонку Янкі, і нейкі час, наколькі прыпамінаю, недзе з Кабышамі разам жыла ў ДП-лягеры. Зь Янкам Юхнаўцом часта дыскутаваліся й навінкі англамоўнае літаратуры, ды зь ім мы мелі супольныя зацікаўленьні амэрыканскім пісьменьнікам Эзра Паўндам[5], якога й я, і Юхнавец ня горш ведалі.

Наведваў рэдчас бібліятэку й прафэсар Леў Акіншэвіч. Але бліжэй я зь ім супрацоўнічала, калі мы зь Вітаўтам адведвалі яго ў Вашынгтоне, дзе Акіншэвічы пражывалі стала.

У розныя гады мне давялося пазнаёміцца ды часта дапамагаць у пошуках літаратуры спадарам Івану Любачку, Уладзімеру Сядуру, Гіпаліту Паланевічу (Нямігу), час-часом Міхасю Міцкевічу. Падоўгу дыскутавала я й надзённыя справы, і «вышэйшыя матэрыі» з уладыкамі Васілём, Мікалаем ды некалькі разоў з уладыкам Чаславам, калі ён прыяжджаў у ЗПІА зь Лёндану.

Мой блізкі й доўга-доўгагадовы сябар з гімназіяльных часоў д-р Янка Запруднік быў сталым «чытачом-рэзыдэнтам» у бібліятэцы. Калі ён рабіў дактарат, дык шмат шукалася літаратуры й даведкаў ды ўрэшце

ўкаранавалася ягонай піянэрскай працай аб прысутнасьці Беларусі, беларускае ідэі ў Дзяржаўнай Думе напачатку XX ст.[6].

Спадар Адамовіч быў у дачыненьні да мяне чытачом інакшым: ён напярэдадні тэлефанаваў, што яму будзе патрэбна, а то й проста прасіў праверыць, і калі прыходзіў у бібліятэку, дык найчасьцей інфармаваў мяне, што ён робіць. Але спадар Адамовіч быў, сказаць бы, выключэньнем з правіла: ён быў нам зь Вітаўтам вельмі блізкім, мяне й маю сям'ю ён добра ведаў зь Менску. Мой тата, Лявон Савёнак, некалі ў рэдакцыі «Беларускай газэты» ў скрыначцы для алавікоў «адкрыў» міну, якая прызначалася Антону Адамовічу ды якая хутка выбухнула[7]. Зь сям'ёй Вітаўта Адамовіч быў знаёмы ад 30-х гадоў, ён ведаў Вітаўта «зь мясцоў аддаленых», аб чым спадар Адамовіч часта ўспамінаў[8].

З маіх «старых» знаёмых бывалі ў бібліятэцы чытачамі-дасьледнікамі таксама спадар Аўген Каханоўскі, ягоная жонка Іна Іванаўна, часта з Кліўлэнду прыяжджаў працаваў зь літаратурай ды ці раз затрымоўваўся ў нас Міхась Белямук. Пазьней бываў у бібліятэцы й Віктар Сянькевіч, наш блізкі сябар зь Лювэну. Досыць часта мы бачыліся з айцом Надсонам. Спадарыня Натальля Арсеньнева наведвала бібліятэку радзей, але калі ёй штосьці-небудзь было патрэбнае, яна мне званіла, дык шмат чаго я залатвляла тэлефанічна. Былі ў мяне кантакты й лістоўныя: найчасьцей із спадаром Чаславам Будзькам. Я яму шмат у чым дапамагала.

Успомніўшы паштовыя-лістоўныя кантакты, не магу не зафіксаваць гэткага факціку. Адзін з чытачоў, прыхільнік Беларусі, будучы добра абазнаным у беларусіцы, нехта па прозьвішчы Доўсан, пачаў дапытвацца ў мяне пры канцы 80-х, калі нарэшце беларусы выдадуць ангельска-беларускі слоўнік. Я яму парадзіла напісаць у «Беларускую Энцыкляпэдыю» да спадара Івана Шамякіна, тагачаснага рэдактара, ды запытацца аб гэтым. І праз пару тыдняў спадар Доўсан атрымаў адказ, што гэткі слоўнік рыхтуецца й хутка выйдзе! Гэта было напрыканцы 80-х гадоў! І гэты мамэнцік стаўся яшчэ адным штуршком мне, каб пару гадоў пазьней узяцца за апрацоўку ангельска-беларускае слоўнікавае картатэкі, укладзенае таксама рэдкай наведніцай нашае бібліятэкі спадарыняй Валянцінай Пашкевіч[9]. Дарэчы, калі пішу гэтыя нататкі, лаўлю сябе на думцы: ці не пачаць нам зьбірацца для апрацаваньня картатэкі два разы на тыдзень, бо цяпер зьбіраемся толькі раз. Падумаем!

Але вярнуся назад у рэчышча ўспамінаў-прыпамінаў аб розных чытачах...

Сталым доўгагадовым чытачом у Славянскім аддзеле бібліятэкі быў д-р Янка Станкевіч. Дарэчы, ён быў таксама, як і спадар Адамовіч, і спадарства Каханоўскія, і Гіпаліт Паланевіч, маім настаўнікам у Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне[10]. Янку Станкевічу часта да-

водзілася мець дачыненьне з малавядомымі друкаванымі крыніцамі, і іх заўсёды трэба было добра расшукоўваць у каталёгах. Праўда, час-часом я яму паказвала й на крыніцы, якія ён не спатыкаў. Так, прыкладам, было з артыкулам Лукомскага[11]. Але зь Янкам Станкевічам прыпамінаю й цікавыя гісторыйкі: ён часта рабіў, што ў бібліятэках уважаецца амаль як грэх, праступства, зацемкі на старонках кніг аб сваіх пачуцьцях-уражаньнях, як, прыкладам, «ня гожа», «няпраўда», «памылка», «скуль гэта» — усё гэта з клічнікамі, пытальнікамі! Аднойчы я яму асьцярожна зьвярнула на гэта ўвагу, й д-р Станкевіч пагадзіўся, што рабіць гэткага ня будзе. Але ўпэўнена, што чытачы аддзелу будуць знаходзіць ягоныя заўвагі й у будучыні.

Эпізадычным чытачом у аддзеле бываў Пётра Манькоўскі. Але гэты быў проста дзівак. Ён працаваў са слоўнікамі: «чытаў» геаграфічныя назовы ў розных мовах і стараўся навязаць іх да Беларусі. Прыкладам, геаграфічны назоў у Лібіі *Tripoli* ён тлумачыў як беларускае «тры палі». Былі ў Манькоўскага й іншыя «знаходкі», але не прыпамінаюцца. Дарэчы, ён быў заўсёды такі сакрэтны, скрытны, калі што й пытаўся, дык паўсловамі, спадцішка.

Зь дзясяткаў-сотняў чытачоў-беларусаў, каторым даводзілася дапамагаць як у шуканьні даведак, гэтак часта й парадамі — дарэчы, усіх кантактаў і не прыпомніць — асобнае месца ў нас зь Вітаўтам займае д-р Вітаўт Тумаш. З д-рам Тумашам было больш, чым супрацоўніцтва, было сяброўства. Ён прыходзіў у бібліятэку рэгулярна на працягу дзесяцігодзьдзяў раз на тыдзень. Мяняліся дні тыдня, але не рэгулярнасьць наведваньня. Мы з д-рам Тумашам хадзілі й на абеды, часта й вячэралі ды ўвесь час гутарылі, плянавалі, абмяркоўвалі, вырашалі, як ажыцьцявіць тое ці іншае беларускае мерапрыемства. У нас часта бывалі розныя пагляды, падыходы, але мы зыходзіліся на адным — нашай адданасьці Беларусі й хаценьні нешта зрабіць для яе. Трагедыя, што д-р Тумаш адышоў вельмі рана (Вітаўт Кіпель прааналізаваў гэтую трагедыю ва ўступе да кнігі Вітаўта Тумаша «Выбраныя працы» (Менск, 2002) — і я з маім Вітаўтам згаджаюся ва ўсім). І дадам яшчэ, што разам зь Вітаўтам Кіпелем мы зь вялікай пашанай, адданасьцю скончалі «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны»[12], калі д-р Тумаш быў ужо хворы, няздольны да карпатлівае ўважлівае працы.

Часта ў бібліятэчнай працы даводзілася дапамагаць у стварэньні беларусаведных кніжак, даведнікаў. Гэтак я шмат дапамагала прафэсару Шчэпану Зымэру[13] ў ягонай працы аб кірылічным друку ў Кракаве, спадарыні Патрыцыі Грымстэд-Кенэдзі[14] ў расшукваньні вестак пра беларускія архівы, прафэсару Майклу Ўрбану[15], калі ён пісаў кнігу пра камуністычную эліту ў БССР, прафэсару Любаміру Вынару[16] ў працы аб этнічным друку ЗША. Так ішла праўдзівая інфармацыя пра Беларусь у шмат кніжак, з рэдактарамі-аўтарамі каторых я супрацоўнічала. Ці мала праведзена было гадзінаў — усіх не пералічыць —

у вышукваньні матэрыялаў пра перасьлед нацыянальнай Беларусі ў часе савецкага панаваньня, для пісаньня дзясяткаў мэмарандумаў у Кангрэс ЗША. І тут мы найбольш супрацоўнічалі з Антонам Шукелойцем, які, фактычна, быў знаёмы, сябраваў з чатырма пакаленьнямі Савёнкаў-Кіпеляў.

Давялося мне ў бібліятэцы супрацоўнічаць і з мастакамі. З Тамарай Стагановіч-Кольбай[17] я й пасябравала за часы нашых даўгіх гутарак-пошукаў літаратуры, калі яна працавала й над кнігамі для амэрыканскіх выдавецтваў, і шукала найбольш адпаведныя касьцюмы для беларускіх імпрэзаў-фэстываляў. Супрацоўніцтва зь Пётрам Мірановічам было даўгое. Напачатку 70-х гадоў я папрасіла спадара Мірановіча стварыць-намаляваць карціну «Беларускія эмігранты ў ЗША», бо такога, наколькі мне было ведама, у нас яшчэ не было ў мастацтве, хоць каля мільёну беларусаў прыехалі ў Амэрыку. Ён пагадзіўся гэткае выканаць. Праўда, перад тым, як пачаць маляваць з натуры, спадар Мірановіч уважліва азнаёміўся з тым, што было намалявана аб эмігрантах у нас і ў іншых, а я яму (яшчэ не працуючы ў Славянскім аддзеле) рыхтавала літаратуру-ілюстрацыі на гэтую тэму. У канчатковым выніку мастак засеў за маляваньне з натуры. Каля чатырох гадоў Пётра Мірановіч садзіўся на беразе акіяну ў Мангэтане, глядзеў на Эліс Айлэнд, акіян, акаляючае асяродзьдзе ды стварыў абраз «Беларускія эмігранты», на цэнтральным месцы якога беларускі селянін, у вачох мастака — ягоны бацька. Абраз гэты перахоўваецца ў нашай сям'і, выстаўляўся на шмат якіх выстаўках ды служыў ілюстрацыяй і вокладкай некалькіх кніжак. Дарэчы, Пётра Мірановіч прыходзіў у аддзел і пазьней і ўважліва сачыў за прафэсійнай літаратурай.

Вельмі шмат дачыненьняў я мела з прафэсурай. Усіх коледжаў і ўнівэрсытэтаў дык цяжка ўлічыць. Найбольш прафэсараў бывала ў зімовыя й летнія канікулы, пераважна працавалі над сваімі тэмамі, упарадкоўвалі бібліяграфіі для курсаў славістыкі. Дзе магла й дзе было патрэбна, я падавала навінкі й зь беларусікі. Зь некаторымі ў нас наладзіліся прыяцельскія дачыненьні, як прыкладам, з Арнольдам Мак-Мілінам, Юрыем Шавялёвым, Джымам Дынглі, а прафэсар Том Бэрд стаўся нашым блізкім сябрам. Мы яму дапамагалі, чым маглі, а я асабіста атрымлівала й ад яго бязьлічныя дапамогі, асабліва ў рэдагаваньні англамоўных тэкстаў, дакладаў, за што я яму вельмі й вельмі ўдзячная. Мушу сказаць, што прафэсура часта зьвярталася да мяне па дапамогу ва ўпарадкаваньні калекцыяў беларусікі, што я з ахвотай рабіла. Асабліва мне запамятаўся выпадак з этнаграфічнай калекцыяй ва ўнівэрсытэце штату Масачусэтс у горадзе Амгерст, дзе я парадзіла ня толькі набыць выдатную сэрыю кніг «Беларуская Народная Творчасьць» (дарэчы я гэтую сэрыю па-над 40 тамоў маю ў сваёй уласнай бібліятэцы й вельмі шкадую, што яна не нума-

раваная). Да этнаграфічных збораў у Амгерст я дадала амаль усё з этнаграфіі, што друкавалася на эміграцыі: працы Язэпа Гладкага, альбомы Часлава Будзькі ды іншыя кнігі. Але найбольш, што я заўсёды рэкамэндавала прафэсуры з галіны беларусікі, — гэта ўпарадкаваць у іхных бібліятэках беларускія бібліяграфіі. І трэба сказаць, што ў некаторых унівэрсытэтах бібліяграфіі беларусікі — выдатныя. Зь бібліятэкі ў Бэрклі (Каліфарнійскі ўнівэрсытэт) я нават заказвала некаторыя бібліяграфічныя працы для нас!

Наведвалі бібліятэку й беларусы з БССР: былі гэта пераважна дэлегаты на Генэральную Асамблею ААН. Як звычай, у складзе дэлегацыі бывалі пісьменьнікі або асобы з галіны культуры, мастацтва. Яны заходзілі ў бібліятэку. У Вітаўта гэткія знаёмствы пачаліся ад пачатку 60-х гадоў, [redacted] я з «савецкімі» стала сустракацца пазьней. Бальшыня зь іх былі няшчырыя, калі гаворка заходзіла аб беларускасьці ў рэспубліцы, казалі: беларускасьць «працьвітае», а вы, эмігранты, нешта выдумляеце! На шчасьце, былі наведнікі з БССР і шчырыя. З гэткімі можна было размаўляць, аналізаваць, хоць шырака й не афішавацца. Гэтак я пазнаёмілася зь Пятром Фёдаравічам Глебкам, Аркадзем Тоўсьцікам, Уладзімерам Шчасным, Генадзем Бураўкіным. З Генадзем мы адразу пасябравалі, варожасьці, недаверу як і не было. Нават у тыя змрочныя часы мы зь ім размаўлялі вельмі шчыра. Ён нам зь Вітаўтам адразу спадабаўся: прыйшоў у бібліятэку сам адзін, без праважатых. У першай жа гутарцы з Генадзем мы пераканаліся, што ён жыве Беларусьсю, як і мы, хоць некаторыя ягоныя творы мы рэзка крытыкавалі, як бы выкідалі іх вон зь ягонае творчасьці. Асабліва нам спадабалася выказаная ім тады «мара» давесьці тыраж «Маладосьці» да 25 тысяч, а мо й вышэй! Былі мы ў блізкіх дачыненьнях з Анатолем Міхайлавым[18], пазьней пазнаёміліся зь Лявонам Казырам[19], Віктарам Казько, Алесем Адамовічам, Вячаславам Адамчыкам, Іванам Чыгрынавым (надта ж ён быў баязьлівы!). З Рыгорам Барадуліным гаварылі вельмі шчыра, хоць ён гаварыў малавата! Наведала бібліятэку гэтаксама Тацьцяна Антонава ды цёпла падала вестку аб нашай дзейнасьці ў айчынны друк[20]. А Анатоль Кляшчук з выдатным камэнтаром зьмясьціў маю фатаграфію ды інфармацыю пра бібліятэку ў часапісе «Беларусь»[21]. Кантакты нашыя ўмацоўваліся — гасьцявалі-працавалі ў нас Адам Мальдзіс, Пётра Краўчанка, Валянцін Грыцкевіч, Васіль Якавенка й шмат хто іншы. Апошнім часам кантактаў ці то наведнікаў зь Беларусі ў бібліятэцы бывае менш. Хоць, праўда, у сакавіку 2002 г. мы гасьцявалі лічную групу бібліятэкараў. Частым госьцем у бібліятэцы бывае Аляксандар Тубалец. Заходзіў таксама Андрэй Дапкюнас ды маладзейшыя дасьледнікі.

Важнейшай падзеяй было падараваньне бібліятэцы ў кастрычніку 1990 г. партрэта Францішка Скарыны работы Ул. Стальмашонка. Гэта

быў сапраўды памятны мамэнт, ды ці раз мы са спадарыняй Юляй Бураўкінай аб гэтым успаміналі, бо якраз яна й Пётра Краўчанка партрэт дарылі.

Пачынаючы ад сярэдзіны 80-х гадоў я, дапамагаючы чытачам, шмат увагі аддавала «новым» наведнікам — цікаўцам Беларусі: амэрыканскім габрэям, дзяды й прадзеды якіх паходзілі зь Беларусі. Гэта была цікавая, але патрабавальная публіка. Славянскіх моваў яны ня ведалі, дык ім шмат трэба было памагаць. Рабіла я гэта з асаблівай прыемнасьцю, бо адчувала, што мы варочаем страчанае, усьведамляем нашчадкаў нашых габрэяў. А гэта ў ЗША вельмі важна, бо дапамагае ставіць Беларусь у амэрыканскае жыцьцё.

Прыпамінаючы мае сустрэчы ў бібліятэцы, ня можна забыцца й пра нашу моладзь, нашых дзяцей, якія працавалі ў бібліятэцы найчасьцей у часе летніх канікулаў, зараблялі нейкую капейчыну ды набіраліся беларушчыны. У розныя гады ў бібліятэцы працавалі: Багуш Станкевіч (малодшы сын Янкі Станкевіча), Ліля Груша (пазьней Шурак), Слава Цэлеш (дачка пісьменьніка Міколы Цэлеша), Ніна Запруднік (дачка Янкі Запрудніка), наш сын Юрка, а значна пазьней Віталь Зайка, Юрка Васілеўскі, Лявон Юрэвіч. Мы зь Лявонам асабліва блізка сышліся, ён выдатна ўлучыўся ў працу БІНіМу, шмат напісаў ды ў бібліятэцы добра пасунуўся па службовай лесьвіцы. Цяпер Лявон займае пасаду загадчыка сэкцыі кнігаабмену й дароў бібліятэкі, шмат прычыняецца да разбудовы беларускай калекцыі, падмяняе нас. Цудоўна, маладзец Лявон!

Яшчэ мне прыпамінаецца адна прыемная сустрэча-падзея, якая, праўда, нічога ня мае да беларускае калекцыі. Мне, тым ня менш, гэтая падзея вельмі памятная. У бібліятэцы недзе напрыканцы 1980-х гадоў працавала з матэрыяламі спадарыня Жаклін Кенэдзі-Анасыс, некалі жонка прэзыдэнта Джона Кенэдзі. Яна шукала зьвесткі да свае кнігі «Апошні Цар». Пераважна яна працавала ў Славянскім аддзеле. Калі прыходзіла ў наш чытальны зал, тут пачыналася дэфіляда-парад працаўнікоў зь іншых аддзелаў, а то й чытачоў, каб паглядзець, кінуць вокам на спадарыню Кенэдзі-Анасыс. Гэта ўзбуджала, нэрвавала як чытачоў, гэтак і ў значнай меры нашую адміністрацыю. І вось аднаго дня я прапанавала спадарыні Кенэдзі, каб пазьбегнуць гэткіх «зрэлішчаў», працаваць у маёй клетачцы-будачцы. Яна вельмі далікатная асоба, неяк завагалася, не хацела выкарыстоўваць сваё становішча, і дзеля ветлівасьці пачала адмаўляцца. Але, тым ня менш, маю прапанову прыняла й стала працаваць на маім стале, у маёй клетачцы. Была яна сапраўды вельмі прыгожая, шляхотная жанчына. Мела прыемны голас зь невялічкім прыдыхам. Вельмі канцэнтравалася на сваёй працы. Добры ўспамін аб ейнай працы ды ёй застаўся й у мяне, і ў бібліятэцы. Вось сяджу я ў той самай клетачцы ды ўсё гэта прыпамінаю.

Ды на заканчэньне сёньняшняга майго цыклю ўспамінаў (я, дарэчы, з большай ці меншай рэгулярнасьцю вяду й дзёньнік) хачу нешта сказаць і аб асобе мне вельмі блізкай, маім сябры жыцьця, сябры блізу 60-гадовага шляху, Вітаўту. Ён пачаў працаваць у бібліятэцы ад 1959 г. Мы разам зь ім вырашалі тады, пачынаючы жыцьцё ў ЗША, як нам жыць, дзе нам будзе цікавей, дзе можна будзе болей зрабіць «для справы» — ясна — справы беларускай. Бібліятэка нас прыцягвала. Я ведала, што зь ягоным прыходам туды беларуская калекцыя будзе прыгледжаная, будзе расьці, парадкавацца. І так і сталася: ён засяродзіў увагу на беларускіх кнігазборах, у дасьледчым асяродзьдзі стаў інфармаваць-гаварыць пра Беларусь, запачаткаваў сыстэматычнасьць разбудовы беларускае калекцыі. І хоць я не з такіх жонак, што хваляць мужоў, але тут нельга быць сьціплай — дзякую Вітаўту за праробленае, за дбаньне й разбудову беларусікі ў нашай бібліятэцы.

*Запісы БІНіМу. 27. Нью Ёрк — Менск, 2004. С. 15—26.*
*Падрыхтоўка да друку й камэнтары Натальлі Гардзіенкі.*

---

[1] Арансон Рыгор Якаўлевіч (1887—1968), удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, сябра Бунду, публіцыст. У 1921 г. арыштаваны за антысавецкую дзейнасьць і праз год высланы ў Нямеччыну. З 1940 г. — у ЗША. У 1922— 1955 г. — сябра ЦК Бунду (у эміграцыі), а таксама замежнай дэлегацыі партыі меншавікоў. Дасьледаваў гісторыю масонства ў Расеі й Беларусі (пераважна Віцебску). Аўтар кніг «Раскол Бунду» (1920), «Яўрэі ў Савецкай Расеі» (1949). «Праўда аб уласаўцах» (1949).

[2] Аляксандрава (дзяв. Мардвінава, у замустве Шварц) Вера Аляксандраўна (1895—1966), літаратурны крытык, публіцыст. У 1922 г. разам з мужам Салямонам Шварцам выехала з Масквы ў Бэрлін, пазьней жыла ў Францыі й ЗША. Супрацоўніца часапіса «Амэрыка» (1946—1946), галоўная рэдактарка выдавецтва імя Чэхава (1952—1956).

[3] Шварц Салямон (1883—1973), меншавік, публіцыст, дасьледнік. З 1922 г. — на эміграцыі. Супрацоўнік часапіса «Сацыялістычны весьнік», аўтар кнігі «Антысэмітызм у Савецкім Саюзе» (Нью Ёрк, 1952).

[4] Далін Аляксандар, аўтар аднаго з найбольш поўных дасьледаваньняў падзеяў Другой Сусьветнае вайны на тэрыторыі СССР з асобным разьдзелам пра нямецкую акупацыю Беларусі: *German Rule in Russia, 1941—1945* (New York — London, 1957).

[5] Эзра Луміс Паўнд (1882—1972), паэт, заснавальнік амэрыканскага мадэрнізму. У 1924—1945 гг. жыў у Італіі, супрацоўнічаў з рэжымам Мусаліні. Як ваенны злачынца дастаўлены ў ЗША, дзе быў зьмешчаны ў псыхіятрычную клініку. З 1958 г. жыў у Італіі. Аўтар паэтычных зборнікаў «Маскі» (1912), «Хью Сэлвін Мобэрлі» (1920), «Песьні» (1917—1970).

[6] Маецца на ўвазе доктарская дысэртацыя Янкі Запрудніка *Political struggle for Byelorussia in the Tsarist State Dumas, 1906—1917* («Палітычная барацьба за Беларусь у царскай Дзяржаўнай думе, 1906—1917»), абароненая ў 1969 г. у Калюмбійскім унівэрсытэце (Нью Ёрк).

[7] Падрабязна гэта апісана ва ўспамінах Натальлі Арсеньневай. Гл.: Арсеньнева Н. Аўтабіяграфічны нарыс // Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі / Укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью Ёрк, 1999. С. 247—248.

[8] Бацька Вітаўта Кіпеля Яўхім быў высланы ў 1931 г. у г. Налінск (Вяцкай вобласьці, Расея). У Вяцкай вобласьці ў той час знаходзіліся таксама Антон Адамовіч, Мікола Азбукін, Уладзімер Жылка, Мікола Ўлашчык. Гл.: Кіпель Я. Эпізоды. Нью Ёрк, 1999.

С. 169–170; Зубкоўскі В. Памяці Міколы Ўлашчыка // Беларускі Гістарычны Агляд. Том 3. Сшытак 1. 1996. С. 123–125.

[9] Пашкевіч Валянціна (нар. 5.02.1916), грамадзка-культурная дзяячка, мовазнаўца. З 1949 г. – у Канадзе. Складальніца «Першай чытанкі пасьля лемантара для беларускіх дапаўняльных школаў» (Кліўлэнд, 1968). Аўтарка англамоўнага падручніка *Fundamental Byelorussian* («Беларуская мова») у 2-х тамах, які быў выдадзены ў Таронта (1974–1978). Займалася падрыхтоўкай да выданьня вялікага «Ангельска-беларускага слоўніка».

[10] Янка Станкевіч выкладаў у Гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу гісторыю, Антон Адамовіч – беларускую мову, Аўген Калубовіч (Каханоўскі) – беларускую мову й літаратуру, Іна Рытар (Каханоўская) – нямецкую й ангельскую мовы, Гіпаліт Паланевіч – гісторыю.

[11] Маецца на ўвазе артыкул В. К. Лукомскага «Иван Фёдоров – первопечатник», які быў надрукаваны ў: АН СССР, Институт Книги, Документов и Письма. Москва, 1935. С. 167–176. А пасьля таго, як Зора Кіпель паказала гэты артыкул Янку Станкевічу, у 1966 г. ён быў перавыдадзены ў Нью Ёрку асобнай брашурай з назвай: «Национальность и родопроисхождение Ивана Фёдорова, первопечатника в Москве».

[12] Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны: XVI–XX. Нью Ёрк, 1989. – 283 с.

[13] Зымэр Шчэпан, ганаровы сябра БІНіМу, аўтар манаграфіі *The Beginning of Cyrillic Printing in Cracow, 1491. From the Orthodox Past in Poland* (New York, 1983), у якой выкарыстана шмат беларускіх матэрыялаў.

[14] Грымстэд-Кенэдзі Патрыцыя, аўтарка найбольшай працы-даведніка па архівах *Archives and Manuscript Repositories in the USSR: Estonia, Latvia, Lithuania and Belorussia* (Princeton, 1980, 1981), яе разьдзел, прысьвечаны архівам БССР, выдаваўся асобнай брашурай.

[15] Урбан Майкл, дасьледнік, аўтар манаграфіі *Elite Circulation in the Belorussian Republic, 1966–1986* (Cambridge – New York, 1989), у якой прааналізавана фармаваньне партыйнай эліты ў БССР.

[16] Вынар Любамір (1932–2003), аўтар і рэдактар шэрагу працаў па бібліятэчнай справе й яе гісторыі, сярод якіх: *Encyclopedic Directory of Ethnic Newspapers and Periodicals in the United States* (Littleton, 1972); *Encyclopedic Directory of Ethnic Organizations in the United States* (Littleton, 1975); *Guide to Ethnic Museums, Libraries and Archives in the United States* (Kent, 1978); *Guide to Reference Materials in Political Science* (Rochester, 1967); *History of Early Ukrainian Printing*, 1491-1600 (Denver, 1962) і інш.

[17] Стагановіч-Кольба Тамара (нар. 1930), мастачка. З 1950 г. – у ЗША. Скончыла Інстытут мастацтва Калюмбійскага ўнівэрсытэту Нью Ёрку. Сябра шматлікіх мастацкіх клюбаў, удзельніца міжнародных выставаў.

[18] Міхайлаў Анатоль (нар. 1939), філёзаф, сябра Эўрапейскай Акадэміі Навук і Мастацтваў, аўтар навуковых працаў па гісторыі філязофіі й мэтадалёгіі гуманітарных ведаў. У 1974–1980 гг. працаваў у Цэнтры Сацыяльнага Разьвіцьця й Гуманітарных Спраў (Нью Ёрк – Вена). З 1992 г. – рэктар Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.

[19] Казыра Лявон (нар. 1949), крытык, перакладнік, дасьледнік беларуска-заходнеэўрапейскіх літаратурных сувязяў. Сярод ягоных публікацыяў ёсьць інтэрвію з Арнольдам МакМілінам, апублікаванае ў часапісе «Беларусь» у 1982 г. (Беларуская літаратура – у Вялікабрытаніі // Беларусь. 1982. № 8.)

[20] Антонава Т. Свае людзі ў Публічнай Бібліятэцы // У землякоў за акіянам. Мн., 1992. С. 86–93.

[21] Кляшчук А. Спадарыня Зора // Беларусь. Мн., 1991. № 10. С. 23.

## У пошуках эміґранцкай літаратуры

### 1

Каб растлумачыць загаловак, трэба было-б вярнуцца дзесятак гадоў з гакам назад, калі, працуючы ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы, я надумалася пачаць улік усіх беларускіх выданьняў на эміграцыі — пэрыёдыкі, кніжак, брашураў, адозваў, паштовак ды іншага.

Паступова сабралася ладная картатэка. Спачатку ўлічвалася, што было пад рукамі, пасьля пачалося ліставаньне з асобамі, якія мелі добрыя прыватныя калекцыі. Вялікай дапамогай тут былі спсп. Віталі Кажан, Браніслаў Даніловіч, Кастусь Мерляк, Барыс Данілюк, сьв. памяці ўжо Часлаў Будзька, Аляксандар Калодка і Мікола Скабей з Аўстраліі ды шмат іншых.

Паездка ў Лёндан у Скарынінскую бібліятэку ды сустрэча са сп. Аляксандрам Лашуком яшчэ больш узбагацілі картатэку, якая ўсё расьце й расьце — аж ня верыцца, што гэтак шмат выдалася празь якія 50 гадоў на эміграцыі. Картатэка, якая цяпер налічвае прыблізна 320 назоваў пэрыёдыкаў і панад 500 кніжок, уведзеная ў камп'ютар, і розныя дадаткі й папраўкі робяцца лёгка й проста.

У часе працы паўстала й другая задума: ня толькі ўлічваць эміґранцкую літаратуру, але, па магчымасьці, і зьбіраць камплеты пэрыёдыкаў і ўсе выдадзеныя кнігі.

Вось з гэтай мэтай і пачаліся нашыя (Зоры і Вітаўта Кіпеляў) вандроўкі да суродзічаў, якія маюць прыватныя калекцыі беларускай эміґранцкай літаратуры.

Першым гэткім выездам быў візыт да сп-ва Тулейкаў у паўднёвае Нью Джэрзі вясной сёлета. Сп. Тулейка мае добрую калекцыю беларускай пэрыёдыкі ад канца 40-х гадоў ды раньнія публікацыі арганізацыйнага пэрыяду БАЗА. Усё было акуратненька падрыхтавана. Не ўзяло нам шмат часу, каб перагледзець, што ёсьць, чаго не хапае. Сп-ва Тулейкаў былі вельмі шчодрыя і прапанавалі ўсё, што нам было патрэбна для ўкамплектаваньня калекцыі. Вярталіся, як кажуць, з поўнымі рукамі.

У пачатку чэрвеня меліся мы ехаць на гадавую канфэрэнцыю славістаў у Канаду, якая сёлета адбывалася ў Атаве. Рашылі выкарыстаць гэтую паездку ды прынагодна наведаць Кліўленд і колькі мясьцін у Канадзе.

У Кліўлендзе перагледзелі архівы Кастуся Калошы і Сяргея Карніловіча — знайшлі шмат публікацыяў мясцовага аддзелу БАЗА.

Бібліятэка Міхася Белямука — вельмі багатая й добра арганізаваная — была вялікай дапамогай да ўкамплектаваньня недастаючых нумароў шмат якіх пэрыёдыкаў. Асабліва цікавымі былі публікацыі

беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне. Сп. Белямук зрабіў для нас шмат патрэбных копіяў і прыабяцаў зрабіць больш у выпадку, калі ня знойдзем нідзе інакш, бо зьбіраліся-ж мы наведаць гаспадароў яшчэ колькіх добрых калекцыяў у Канадзе, перш за ўсё ў Таронта.

Па дарозе ў Таронта завіталі да сп-ва Шустоў, зь якімі мы знаёмыя яшчэ з Бэльгіі. Зь вялікай прыемнасьцю пагасьцілі ў іхнай мілай сям'і, пачаставаліся рыбай, злоўленай мясцовымі індэйцамі ў возеры, палюбаваліся Шустовымі вырабамі з саломкі, падзяліліся ўспамінамі аб Бэльгіі, пагутарылі аб паездцы на Беларусь, адкуль Мікола Шуст кагадзе быў вярнуўшыся.

У Таронта перш-наперш наведалі бібліятэку Ўладыкі Мікалая. Гэта хіба найлепшая, добра ўпарадкаваная прыватная беларуская калекцыя. Тут было колькі знаходак. Няведамы нам дагэтуль часапіс «Бээнэравец» першы і адзіны, наколькі ведама, нумар якога выйшаў у Таронта у 1954 годзе; камплет вельмі рэдкага часапісу «Праваслаўны Беларус», які выходзіў у Варшаве ў сярэдзіне 20-х гадоў. Уладыка падзяліўся з намі дублікатамі са сваёй калекцыі, якіх нам не даставала. Гэтаксама ўдалося ўдакладніць канфліктныя даты ў часапісе «Царкоўныя Навіны» за 1986 год.

Наступным прыпынкам была гасьцінная хата сп-ва Пашкевічаў. Тут мы правялі шмат часу, дыскутуючы з Валяй Пашкевіч розныя праблемы апрацаванага ёю Ангельска-беларускага слоўніка, які цяпер у друку, ды перагледзелі іхную багатую, цікавую, унікальную калекцыю. Знайшлі гэта і таго самага «Бээнэраўца» у двух ці трох экзэмплярах; адным сп. Пашкевіч ахвотна падзяліўся з намі. Яшчэ адна знаходка — першы нумар рукапіснага часапісу «Meta», які выходзіў у Нямеччыне ў Ольдэнбургу у 1946—47-х гадох. Якраз-жа мы гэтага першага нумару й ня мелі. Пасьля сямейнай нарады сп-ва Пашкевічы ласкава даравалі гэты нумар для ўкамплектаваньня нашых збораў. Гэтаксама атрымалі мы і шмат дублікатаў, і нават ня дублікатаў. Гэткага шчодрага супрацоўніцтва мы й не спадзяваліся і шчыра ўдзячныя за яго.

Па дарозе ў Атаву заехалі да сп. Антона Маркевіча — у яго знайшлі крыху разрозьненых выданьняў «Пагоні». Бальшыню сваёй калекцыі ён перадаў у Манрэаль.

Варта гэта заўважыць, што, на вялікі жаль, у гэтую паездку не змаглі наведаць сп. Кастуся Акулу — да яго яшчэ трэба будзе спэцыяльна прыехаць.

У сп-ні Ольгі Грыцук знайшлі колькі патрэбных недастаючых публікацыяў.

Нарэшце, у Атаве ў сп-тва Сурвілаў напаткалі цікавыя экзэмпляры беларускай выдавецкай дзейнасьці ў Мадрыдзе, асабліва паштовак 50-х гадоў. Гэтаксама даведаліся шмат інфармацыі аб выдавецтве Я. С. (Янка Сурвіла), якое існавала ў лягеры Ватэнштэт у другой палове 40-х гадоў.

Пераглядаючы пасьля прыезду ўсе запісы і матар'ялы, яшчэ больш захапляешся і тым, што тварылася на эміграцыі, і тымі людзьмі, што гэта тварылі, зьбіралі, перахоўвалі. Як важна гэта ўсё ўлічыць, сабраць — каб не загубілася.

*«Беларус», № 404, 1993*

## 2

Нашыя далейшыя вандроўкі прадаўжаюцца. І гэтым разам пачалі бліжэй хаты — у Нью Джэрзі.

У канцы ліпеня наведалі сп. Якуба ў Трэнтане. Ён у свой час шмат публікаваў, і мы спадзяваліся знайсьці ў яго недастаючых нумароў «Літаратурна-Мастацкага Зборніка», «Беларускіх Быляў» ды іншых публікацыяў. Тое-сёе знайшлі, асабліва некаторыя цікавыя адозвы і дакумэнты былога Беларускага Епіскапату.

Наступны, вельмі памысны візыт быў да а. Каўша у Саўт-Рывэр. Міхась Сенька наладзіў нам спатканьне, суправодзіў і дапамагаў нам разгледзець зборы шаноўнага айца. Знайшлі мы ў яго шмат цікавых рэчаў, перш-наперш няведамую яшчэ для нас «Беларускую Зарніцу». Гэта адноўленае на эміграцыі выданьне часапісу, які выходзіў у Вільні ў 20-х гадох, рэдагаваны бацькам а. Сьвятаслава, таксама сьвятаром. Акрамя гэтага, пабачылі цэлы шэраг першых нумароў часапісаў, як «Беларускі Царкоўны Голас», што выходзіў у Цірсгайме, Ватэнштэцкі «Шляхам Жыцьця», «Інфармацыйны Бюлетэнь Галоўнага Штабу Беларускага Вызвольнага Руху», «Сьмех на здароўе» і іншыя. Гэта былі сапраўдныя знахадкі, бо звычайна першыя нумары вельмі рэдкія і, зразумела-ж, вельмі важныя як для бібліяграфічнага ўліку, гэтак і для камплектаваньня калекцыі.

На разьвітаньне яшчэ дамовіліся са сп. Сенькам, што неўзабаве наведаем бібліятэку і архіў Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт-Рывэры.

Аднэй суботы ў кастрычніку наведалі вельмі імпазантную бібліятэку Янкі Запрудніка і правялі там, як сам гаспадар зазначыў, цэлы працоўны дзень. Знайшлі ці мала патрэбных матар'ялаў. Дублікаты наш сябра ахвотна аддаваў, а зь некаторых недастаючых нумароў паабяцаў зрабіць адбіткі. Сваю бібліятэку Янка беражэ, упарадкоўвае і камплектуе паводле сваіх патрабаваньняў для далейшых досьледаў.

Празь дзень, у панядзелак, былі ўжо ў бібліятэцы Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Саўт-Рывэры, якая знаходзіцца ў царкоўным будынку. Каля царквы чакалі нас ужо Міхась Сенька і Віталі Цярпіцкі. Яны ласкава дазволілі нам правесьці там цэлы «працоўны дзень», ды й самі працавалі з намі. Гэта быў сапраўды памысны побыт, бо бібліятэка мае шмат дублікатаў і мы змаглі добра папоўніць нашыя зборы.

Вельмі цікавымі знаходкамі былі два першыя нумары часапісу «Bielaruski Student», які выходзіў у Бэрліне ў пачатку 40-х гадоў; першыя, магчыма й адзіныя, нумары «Апошніх Навінаў» і «Скаўцкага Лістка», што выходзілі ў Бакнангу; гумарыстычны часапіс «Puha», № 2, якога якраз у нас ня было; і шмат-шмат іншых. Дзень праляцеў хутка і не хапіла яго. У Саўт-Рывэр давядзецца прыехаць яшчэ і разгледзець колькі прыватных архіваў.

У міжчасьсі мелі вельмі прадукцыйную перапіску і тэлефанічныя размовы зь Янкам і Івонкай Сурвіламі, якія знайшлі яшчэ ў сваёй калекцыі некаторыя вельмі важныя матар'ялы, сярод іх асабліва рэдкія бэрлінскія гумарыстычныя часапісы «Камар на Чужыне» ды «Kryvickaje Kamarania».

Самай важнай паездкай у гэтым сэзоне быў, аднак, Лёндан — зноў Лёндан. Там, у Скарынінцы, мы правялі вельмі інтэнсыўныя чатыры дні. Перш-наперш перагледзелі калекцыю эміграцкіх часапісаў і кніжак, зьверылі са сваімі сьпісамі, дадалі чаго не ставала, папоўнілі, што было няпоўнае. Зрабілі шмат адбіткаў, балазе, тут-жа на месцы і капіявальная машына.

Наведалі гэтаксама і сп. Аляксандра Лашука, які нам выдатна дапамог зь недастаючымі брытанскімі выданьнямі ды скантактаваў нас са сп. Ражанцом. Сп. Ражанец прынёс шмат матар'ялаў і паабяцаў знайсьці яшчэ больш.

Вельмі прыемнымі і плённымі былі дзьве візыты да мілых спадарства Янкі й Лёлі Міхалюкоў. Там мы і пагасьцілі з нашымі сымпатычнымі гаспадарамі й пакарысталіся зь іхных архіваў і часапісных збораў. Асабліва для нас важныя былі розныя выданьні ЗБВБ ды першы нумар рэдкага гумарыстычнага часопісу «Krapiwa», які выходзіў у гор. Лідс.

Назьбіралі ў Лёндане поўны стос і дублікатаў і адбіткаў і, што асабліва важна, усе апошнія рэлігійныя выданьні а. Надсона: пераклады ў беларускую мову службаў, дзіцячая Біблія ды іншая царкоўная літаратура. Усё гэта а. Надсон ласкава згадзіўся пераслаць поштай, бо надта-ж шмат было-б везьці з сабой.

Лёндан, Скарынінка і а. Надсон, дзякуем і да наступнай працоўнай сустрэчы!

*«Беларус», № 407, 1993*

## 3

У пачатку сьнежня, яшчэ перад непагадзьдзю тут у нас на ўсходнім пабярэжжы, наважылі мы наведаць Цэнтар Досьледаў Гісторыі Эміграцыі ў Мінэапаліс-Сан Пол. Там у Мінэсоце спаткалі нас і сьнег, і мароз. Гэткім чынам пакаштавалі мы сёлетняй зімы ўжо загадзя.

У Цэнтры спаткалі нас гасьцінна, прызначылі месца для працы, і мы тры дні інтэнсыўна працавалі над беларускай калекцыяй. Вітаўт

адшукаў яшчэ шмат матар'ялаў для гісторыі беларускай эміграцыі, а я пераглядала беларускія часапісы і кнігі. Былі мы зьдзіўленыя і заскочаныя беларускай калекцыяй — ня гэтак тым, што там ёсьць, як тым, чаго там няма.

Вось-жа, перш-наперш, крыху аб самым Цэнтры, бібліятэцы і архівах. Immigration History Research Center заснаваўся у 1966 годзе пры Мінэсотаўскім Унівэрсытэце і зьяўляецца найбагацейшай калекцыяй для вывучэньня гісторыі эміграцыяў з Усходняй, Паўдзённай і Цэнтральнай Эўропы — 23 этнічныя групы маюць свае большыя ці меншыя калекцыі ды архіўныя зборы прыватных асобаў ці арганізацыяў. Прыяжджаюць сюды дасьледнікі з усіх куткоў Амэрыкі, а таксама і з матчынных краінаў. У часе нашага побыту ў Цэнтры працаваў там украінскі дасьледнік з Львову.

Беларуская калекцыя кніжак вельмі мізэрная, і мы паабяцалі папоўніць яе ў хуткім часе. Дарэчы тут зазначыць, што Цэнтар цікавіцца літаратурай пэрыяду ДП і атрымаў дапамогу для каталягізацыі і перахаваньня гэтай літаратуры. Беларуская калекцыя, на жаль, ня мае ніводнай публікацыі з таго часу.

Беларуская пэрыёдыка паводле назоваў даволі рэпрэзэнтацыйная і, здавалася-б, задавальняючая. Ёсьць там і «Беларус», і «Беларуская Моладзь», і «Беларус у Амэрыцы», і «Беларускі Эмігрант», «Беларускі Сьвет», «Беларуская Думка», «Беларускім Шляхам», «Голас Царквы», «Веда», «Сяўбіт», «Уздым», «Літва», «Запісы», «Зважай», «Весткі і Паведамленьні» і іншае. Аднак, калі паглядзець, а што-ж ёсьць на паліцы, дык выглядае зусім пуста — толькі па пару нумароў з успомненых назоваў.

Найбольш поўны набор «Беларускае Моладзі», «Запісаў» і «Веды», але і тут ёсьць вялікія прабелы. Найгорш, на маю думку, зь «Беларусам», бо гэта-ж найважнейшая публікацыя амэрыканскіх беларусаў — ёсьць няпоўныя камплеты першых гадоў, але нічога ад 1977-га году.

І, зразумела, ва ўсім гэтым наша асабістая і калектыўная віна, бо калекцыя можа папаўняцца толькі нашымі стараньнямі.

Заклікаем усіх перасылаць свае прыватныя калекцыі беларускай эміграцкай літаратуры, архіўныя матар'ялы, успаміны, фатаграфіі і іншае непасрэдна на Цэнтар: Immigration History Research Center, University of Minnesota, 826 Berry Street, St. Paul, MN 55114. Усё гэта будзе там належна перахавана і даступна для вывучэньня беларускай эміграцыі.

Далейшыя нашыя паездкі крыху перарваліся зімовым непагодзьдзем, аднак матар'ялы прыходзяць то адтуль, то адсюль. У міжчасьсі прыйшлі пакеты зь Лёндану ад а. Надсона. Усё ў добрым парадку.

Ад сп. Браніслава Даніловіча атрымалі поўны набор ватэнштэцкага «Шляхам Жыцьця» у вельмі добрым стане.

Ад сп. Аляксандра Міцкевіча ўжо дзьве раты вельмі важных недастаючых нумароў розных пэрыёдыкаў ды колькі кніжак.

Ад спадарства Брылеўскіх — першыя нумары лёнданскай «Званіцы» і іншае.

З Ангельшчыны ад сп. М. Швэдзюка атрымалі сьпіс яго прыватнай калекцыі, а гэтаксама бібліятэчкі пры Беларускім Доме ў Брадфардзе. Ён плянуе сваю бібліятэку перадаць у Беларусь, але гатовы зрабіць адбіткі ці перадаць нам недастаючыя матар'ялы.

Гэтак нітка па нітцы...

*«Беларус», № 410, 1994*

## 4

Вясной аднавіліся пошукі, лепш сказаць паездкі, бо пошукі ніколі не перапыняліся й не парапыняюцца.

На сьвяткаваньні 25-га Сакавіка мелі гонар быць у Канадзе. Выкарысталі свой побыт там, каб яшчэ сёе-тое праверыць і перагледзець у бібліятэцы ўладыкі Мікалая, ды папоўніць накаторыя недастаючыя матар'ялы зь бібліятэкі спадарства Пашкевічаў. Дарэчы тут зазначыць, што сп. М. Пашкевіч ласкава дэкляраваў сабраць усю сваю эміграцкую пэрыёдыку і перадаць яе БІНіМу.

Гэтаксама мелі добрую ўдачу знайсьці колькі важных публікацыяў у зборах спадарства Ганькоў, у якіх мы гасьцявалі.

У красавіку наведалі сп-ню Марыю Кажуру і перагледзелі бібліятэку нябожчыка Пётры Кажуры. Знайшлі вельмі шмат патрэбных матар'ялаў.

Сп. Аляксандар Міцкевіч перадаў збор сваіх эміграцкіх друкаў, сярод іх некалькі кніжкаў, якія былі і неспадзэўкай, і навінкай.

Сп. Бранслаў Даніловіч час ад часу перадае добра ўпарадкаваныя, дабраныя часапісы, апошні — амаль поўны камплет «Летапісу».

Самай важнай «пашуковай экспэдыцыяй» у гэтым вяснова-летнім сэзоне была, аднак, паездка ў Чыкага.

Ветлая, гасьцінная хата спадарства Рамукоў была нашай базай, ды іхнымі стараньнямі былі наладжаныя розныя спатканьні й візыты.

Насамперш візыта ў Бібліятэку пры Царкве Хрыста Збаўцы. Нам было вельмі важна ўдакладніць даты публікацыяў парафіі, як Da Zlucennia, Harbinger. Лісткі да Беларусаў, якія выдаваў у 50—60-ых гадох а. Ян Тарасэвіч. Грунтоўную інфармацыю мы атрымалі ад а. Джозэфа Сыру, які нас гэтаксама пазнаёміў зь некаторымі рэлігійнымі публікацыямі, дагэтуль нам ня ведамымі. У часе працы ў царкоўным архіве натрапілі на вельмі цікавы рукапіс канца 1940-х гадоў — пераклад Трыстана на беларускую мову. Яшчэ не ўдалося устанавіць зь якой вэрсіі быў зроблены гэты надзвычай удалы пераклад, але ў хуткім часе плянуецца больш дэталёвае апісаньне гэтай знаходкі.

Сп. Нікодым Жызьнеўскі даў нам інфармацыі, як пра выданьні бе-

ларускай радыёвай праграмы «Нёман», гэтаксама і пра іншыя беларускія друкі чыкагскай грамады.

Бібліятэчку пры Царкве Сьв. Юр'я мы наведалі ў нядзелю й мелі нагоду пабыць на службе й малебне у адзначэньне сьвята Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, якую адслужыў а. Алег Міранові. Матар'ялаў у бібліятэчцы і архівах захавалася ня шмат, але тое-сёе патрэбнае й тут знайшлі, і мы ўдзячныя за гэта сп. Міколу Латушкіну і Міхасю Каленіку.

У гэты-ж дзень мелі вялікую прыемнасьць наведаць спадарыняў Ірэну Пануцэвіч і Людвіку Бяленіс. Гэтак мы знайшлі сапраўды склады — архівы-бібліятэку Будзькаў, Пануцэвічаў і Бяленісаў — дабраўпарадкаваныя некалі Чаславам Будзькам і Вацлавам Пануцэвічам, пераплеценыя часапісы, кнігі, брашуры. Гэткага багацьця беларускага друку мы й не спадзяваліся, тым больш, што ўжо шмат матар'ялаў было перададзена ў бібліятэку Скарыны ў Лёндан. Тут былі й лягерныя публікацыі Ангельскай зоны, і чыкагскія друкі Пануцэвіча й Будзькі, і шмат іншых эміграцкіх друкаў.

Папрацавалі мы ў іх да вечара і папрасілі дазволу прыйсьці яшчэ заўтра. Мілыя спадарыні Ірэна й Людвіка, зь якімі мы цяпер бліжэй пазнаёміліся й знайшлі нейкую асаблівую прыязьнь, шмат дапамагалі нам у працы, расказвалі пра сваю сям'ю ды безупынна нас частавалі. Працуючы тут, мы адчулі вялікую інтэлектуальную сямейную спадчыну.

У Веры й Вітаўта Рамукоў чуліся як дома. За гутаркамі, смачнымі пачастункамі, спатканьнямі й візытамі час праляцеў, што й не заўважылі; мы мелі прыемнасьць пазнаёміцца са сп. Ванкарэмам Нікіфаровічам і спадарствам Клейнэр-Парыч ды правесьці зь імі вельмі цікавы вечар. У спадарства Рамукоў мелі гэтаксама нагоду прагледзець фільм пра Янку Купалу, У. Ігнатоўскага, Р. Шырму, які сп. М. Каленік атрымаў кагадзе зь Менску, тут і пагутарылі зь Міколам Прускім, які якраз у гэтым часе быў у Чыкага, і абмеркавалі колькі праэктаў.

Мелі гэтаксама вялікую прыемнасьць коратка наведаць сп-ню Эўдакію Жызьнеўскую, слаўную нашую вышывальніцу беларускіх лялек, крыху пагутарыць зь ёю і паслухаць ўспамінаў зь яе жыцьця.

Аж ня верыцца, што гэтак шмат зрабілася за тры дні. Гэта была адна з самых памысных і карысных паездкаў... і ў Чыкага яшчэ вернемся.

*«Беларус», № 415, 1994*

### 5

У верасьні сёлета нашыя пошукі эміграцкай літаратуры завялі нас аж у Нямеччыну. Чаму Нямеччына? Па-першае, мы ўжо даўно вырашылі, што трэба некалі зьведаць архівы Нямеччыны, а па-другое,

была добрая нагода, якую грэшна было-б абмінуць. Былі мы запрошаныя на канфэрэнцыю ў Трокі, што цяпер у Ліцьве, на гэтак званую Рым-5. Ляцелі на канфэрэнцыю празь Нямеччыну і вырашылі затрымацца там на колькі дзён і зрабіць прынагодна яшчэ адну справу — на пэнсіі трэба ўжо камбінаваць і шанаваць капейкі.

Насамперш мусілі заехаць у Бон, у Беларускую амбасаду, каб атрымаць дазвол наведаць архівы сп. Юрага Попкі, якія па ягонаму тэстамэнту перададзеныя былі Незалежнай Беларусі, але знаходзяцца пад адміністрацыйным кантролем гарадзкіх уладаў Ляйману (невялічкі гарадок каля Гайдэльбэргу). Мелі прыемную нагоду зноў спаткацца з амбасадарам Пётрам Садоўскім, зь якім ужо некалі спатыкаліся ў Нью Ёрку. Беларуская амбасада зрабіла на нас вельмі прыемная ўражаньне — прыгожы асабняк, непадалёку Бундэстагу, прыемныя працаўнікі, дзелавая атмасфэра. Сп. Садоўскі залагодзіў усе фармальнасьці, накіраваў нас на патрэбную дарогу, і ў Ляймане нас ужо чакалі.

У архіве Юрага Попкі мы ўжо былі, але тады наш праэкт быў у зачатках, дык зрабілі толькі беглы агляд літаратуры. На жаль, і цяпер нам давялося аглядаць эміграцкія публікацыі толькі па загалоўнай бачынцы, праз шкло, бо бальшыня матар'ялаў замкнутая ў шафах і габлётках. Але тое-сёе усе-ж удалося знайсьці й запісаць, асабліва публікацыі самога Ю. Попкі, якія тут, зразумела, у поўным зборы й парадку. Сам музэй, бо гэта больш музэй, чымся архіў, у добрым даглядзе. Цікавыя экспанаты беларускай народнай культуры, і цэлы пакой — выстава эміграцкай літаратуры.

Наступная нашая візыта была да сп-ні Надзі Касмовіч. Сп-ня Касмовіч хоць і нездаровая, нас вельмі цёпла прыняла. Расказвала пра іхнае жыцьцё й працу, пра часы добрыя і пра часы цяжкія. Спадарства Касмовічы былі дзейныя ў розных міжнародных антыкамуністычных арганізацыях у паваеннай Нямеччыне і за гэта давялося ім пацярпець. Сп. Касмовіч няўпынна публікаваў і ў яго архівах мы знайшлі шмат-шмат цікавага й карыснага. Дапоўнілі камплеты часапісу «Барацьба», які ён выдаваў рэгулярна ад 1955 да 1981-га году і якіх у нас шмат недаставала. Знайшлі нават некаторыя публікацыі Ю. Попкі ды іншыя раньнія эміграцкія публікацыі ў Заходняй Нямеччыне. Самым цікавым, аднак, былі дакумэнты й матар'ялы з палітычнай дзейнасьці Дзьмітра Касмовіча, якія значна дапоўняць нашую бібліяграфію.

Назаўтра схадзілі са сп-няй Надзеяй Касмовіч на магілку Дзьмітра Касмовіча і аддалі пашану яго памяці.

Пакідалі Нямеччыну з пачуцьцём задаваленьня, хоць і ня было нам больш часу наведаць гэтым разам яшчэ пару асобаў, якія маюць добрыя прыватныя калекцыі беларускай эміграцкай літаратуры, але спадзяемся, што ў гэтую ветлую краіну яшчэ завітаем.

Амаль адразу-ж, як вярнуліся зь Нямеччыны, падаліся зноў у пада-

рожжа, балазе што мы зь Вітаўтам так дабраліся, што падарожнічаць абое любім, асабліва калі пры гэтым робіцца нешта беларускае, ды, дзякаваць Богу, можам яшчэ сабе гэта дазволіць.

Накірунак наш быў Кліўленд — Індыяна — Чыкага.

Да Кліўленду мелі спадарожніка, Анатоля Кляшчука, фатографа зь Менску, які меў добрую нагоду пабачыць амэрыканскія краявіды і прыгожыя восеньскія колеры. Колькі разоў затрымліваліся пры дарозе, і ён усё «шпокаў».

У Кліўлендзе абмеркавалі з Кастусём Калошам праэкт, над якім ён цяпер працуе — зьбіраньне матар'ялаў і дакумэнтаў да гісторыі Кліўлендзкай калёніі.

У невялічкі гарадок Сыракюз мы ехалі па прыгожых маляўнічых ваколіцах штату Індыяны, міма дабраўпарадкаваных палёў і белых хатак калёніі Аміш. Часта па дарозе пападаліся конныя брычкі.

У Сыракюз нас ветла спаткала сп-ня Кацярына Пунтус, зь якой мы раней ня былі знаёмыя, але адразу-ж адчулі сябе, як старыя знаёмыя. Упарадкавалі ў яе архівы нябожчыка Васіля Пунтуса і пераслалі іх у амэрыканскі Дасьледчы Цэнтар Гісторыі Эміграцыі, які знаходзіцца у штаце Мінэсота. Былі гэта пераважна матар'ялы зь гісторыі Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, найстарэйшай беларускай арганізацыі ў Амэрыцы.

У Чыкага правялі тры поўныя дні з дарагімі ўжо для нас спадарынямі Ірэнай Пануцэвіч і Людвікай Бяленіс. Нідзе мы гэтак добра ня чуліся, як зь імі — гэта сапраўды выключныя людзі, выключная сям'я — здольныя, разумныя, ветлыя, гасьцінныя. Мэтай нашай было разьмеркаваць абшырную беларускую калекцыю кнігаў, часапісаў, рукапісаў і архіўных матар'ялаў Будзькаў-Пануцэвічаў-Бяленісаў.

Частка матар'ялаў пойдзе ў мясцовыя бібліятэкі, частка перадасца ў Беларусь, а добрая частка — 7 важкіх скрынкаў — з ахвярнай дапамогай сп. Нікодыма Жызьнеўскага перасланая ўжо ў названы вышэй Цэнтар Гісторыі Эміграцыі.

У часе перагляду матар'ялаў знайшлі яшчэ шмат патрэбных і для сябе часапісаў і кніжак. Асабліва шчасьлівыя былі, што ўдалося папоўніць камплеты некалькіх пэрыядычных эмігранцкіх выданьняў.

Вельмі было прыемна зноў спаткацца са спадарствам Рамукамі і са сп. Фрэдам Рамуком зь Беларусі. На вялікі жаль, заплянаваная сп-няй Верай Рамук тэлевізыйная праграма, у якой мы мелі гэтаксама браць удзел, не адбылася з прычыны хваробы вядучага. Але агульна паездка была вельмі памыснай і прыемнай.

Прынагодна падамо яшчэ раз дакладны адрас Цэнтру, калі хто зацікавіцца перадаць туды свае архівы для перахаваньня й выкарыстаньня:

Immigration History Research Center, University of Minnesota, 826 Berry Street, St. Paul, MN 55114.

*«Беларус», № 417, 1994*

## 6

Нашыя вандроўкі ў пошуках друкаванага слова беларускае эміграцыі на нейкі час перарваліся, аднак праца над даведнікам-бібліяграфіяй не спынялася ды ўжо даходзіць да памыснага заканчэньня. Том пэрыёдыкі налічае па-над 400 назоваў, а манаграфічная частка улучае па-над чатыры тысячы пазыцыяў. Значная частка гэтага матар'ялу набраная на кампютар. Цяпер мы вышукваем літаральна паасобныя нумары часапісаў, невялічкія брашуркі, праграмы канфэрэнцыяў і падобныя друкі. Увесь час кіруемся прынцыпам, каб чаго не прапусьціць, хоць добра ведаем, што поўных бібліяграфіяў ня бывае!

Раньняй вясной сёлета нашыя вандроўкі аднавіліся. Была нам нагода наведаць даўнюю сяброўку на працы ў Ньюёркскай бібліятэцы, якая цяпер жыве ў штаце Флярыда. Перад ад'ездам зтэлефанаваліся з д-рам Янам Пятроўскім ды з спадарствам Брылеўскімі. Абодвыя былі згодныя, што мы да іх «падскочым».

У д-ра Пятроўскага правялі блізу цэлы дзень, дзень працоўны. Перагледзелі ўсе ягоныя публікацыі, удакладнілі даты, мейсцы ягоных выданьняў ды іншыя дэталі ягонае выдавецкае і пісьменьніцкае дзейнасьці. Д-р Пятроўскі падараваў пару недастаючых нам публікацыяў.

У спадарства Брылеўскіх правялі ў іх прыгожым асабняку-вільле колькі гадзінаў нашага апошняга дня побыту ў Флярыдзе. Шмат «пабалакалі», успамінаючы мінулыя гады, супольных знаёмых, дэталі раньняга арганізацыйнага беларускага жыцьця (найбольш для ўдакладненьня англамоўнага выданьня кнігі «Беларусы ў ЗША», якая цяпер у друку). Аднак было ладна часу, каб перагледзець і іх бібліятэку ды архівы. Асабліва каштоўнай для нас была «знаходка» кніжачкі 1921 году выданьня ў Берасьці (для кнігазбораў БІНіМу) «Чаму-ж ты маўчыш, кабета сялянская» аўтарства Р. Ш. (Рыгора Шырмы?). Гэтую кніжку спадарства Брылеўскія ласкава ахвяравалі на перахаваньне ў БІНіМ, дапаўняючы чысьленую калекцыю рэдкіх беларускіх кнігадрукаў канца 19 — пачатку 20-га стагодзьдзя. Дарэчы, калекцыя гэтая расьце, і будзе зробленая выстава гэтых кніжак.

Вясной мы зьведвалі «нашыя» ваколіцы. Да сп. Даніловіча-Золака, нашага доўгагадовага знаёмага ад восені 1945 году, мы збіраліся наведацца даўно, але ўсё неяк не выпадала, то ён, то мы былі занятыя. Затое сёлета мы зрабілі да яго некалькі «наездаў». Адзін зь Лявонам Юрэвічам, які вышукоўвае недрукаваныя працы беларускіх эміграцкіх пісьменьнікаў. Баюся, што сваім энтузіязмам ды пераканансьцю мы сп. Даніловіча стамілі, замучылі. Нягледзячы на заўвагі гаспадара, што ў яго ўсё ў беспарадку, параскіданае, — мы знайшлі сотні эміграцкіх друкаў, архівы, у выдатным парадку ды спраўнасьці: усё удакумэнтаванае, удакладненае, падшытае ў папкі. Тут мы знайшлі

шмат недастаючых нумароў розных пэрыёдыкаў, і ў выпадку, калі гэта былі дублікаты, сп. Даніловіч нам іх падараваў, ■ ў іншым выпадку мы парабілі кзэра-копіі. Асабліва важна, што мы ўдакладнілі нумэрацыю, шмат якіх часапісаў, выдавецтвы ды выдаўцоў. З манаграфіяў, мы знайшлі ў сп. Даніловіча некалькі цікавых. Прыкладам, «Слоўнічак пазаслоўніковых слоў», сшытак паэзіі аўтара ў дзьюх копіях, некалькі іншых рэдкіх эміграНцкіх выданьняў, а таксама колькі кніжак, зь якіх мы зрабілі копіі для калекцыяў БІНіМу. Аналізуючы калекцыю сп-ра Даніловіча, мы прыйшлі да пераканаНьня, што гэткія кнігазборы, у спалучэньні з архівам, трэба трымаць разам.

Яшчэ пару заўвагаў, не зьвязаных з падарожжамі. Мы атрымліваем стала ад тае ці іншае асобы, сям'і «знойдзеныя» імі ў іхных склепах, падстрэшшах, раньнія эміграНцкія друкі. Мы ўдзячныя землякам, што шмат хто тыя друкі нам дасылае. Гэтак мы за мінулыя пару месяцаў атрымалі друкі ад сп. Браніслава Даніловіча, Літвіны Гутырчык, Юзэфы Найдзюк. А вось надоечы атрымалі вялікі пакунак ад спадарыні Валянціны Кавалеўскай з Парыжу. Яна прыслала ў інстытут рукапісы й друкаваныя творы свайго мужа, плённага драматурга на эміграцыі, на жаль, вельмі рана памерлага, Аўгена Кавалеўскага. У ягоным архіве шмат п'есаў, вадэвіляў, праграмаў спэктакляў ды, што для нас вельмі важна, копія падручніка для драматычных студыяў на эміграцыі 1948 году выданьня. У нас гэтага ня было.

Усім-усім нашым сымпатыкам і донарам шчырая падзяка.

*«Беларус», № 445, 1997*

***Вынікам гэтых падарожжаў урэшце сталася выданьне фундамэнтальнай бібліяграфіі Belarusian Publishing in the West. Мы ўважалі, што друк — найлепшы паказьнік жыцьця грамадзтва, таму і ўкладалі гэтую бібліяграфію.***

# Успаміны і публікацыі 1990-х гадоў

## *Камок пад горла, альбо Дзе Бацькаўшчына?*

Калі я рабіла інтэрв'ю з моладзьдзю, якая толькі прыехала з падарожжа на Беларусь, маё стандартнае пытаньне было: якое было вашае першае ўражаньне, калі вы апынуліся на Беларускай зямлі? Адказы былі розныя, найчасьцей не падобныя адзін да другога, як і павінна быць у маладых людзей, якія маюць сваю думку і ўспрымаюць рэчы індывідуальна, а не калектыўна.

Гэткае-ж пытаньне задала я й сама сабе. Вось-жа мой адказ: першае ўражаньне было — поўная дэзарыентацыя. Пакінула я Беларусь, Менск у руінах, зьнішчаны, спустошаны. Зразумела, што я не спадзявалася ўбачыць руіны — я дастаткова ведала з прэсы, з кніжак, са здымкаў, як быў разбудованы й адноўлены Менск, — але я спадзявалася, што хутка зарыентуюся, хутка знайду нешта знаёмае. Але чаго я спадзявалася найболей — гэта апынуцца ў Беларусі, дзе ўсе гавораць маёй мовай, адчуць сябе дома, на Бацькаўшчыне. Наіўныя спадзяваньні — бо я-ж ведала рэчаістасьць, — але, тым ня менш, спадзяваньні і расчараваньні.

Першы камок пад горла не падышоў, як мяне папераджалі жанчыны, якія былі ўжо на Беларусі, калі сцювардэса ў самалёце будзе вітаць нас у «Сінявокай Беларусі». Ці то сцювардэса забылася, ці то гэта не стандартнае прывітаньне, але ■ гэтага спадзяванага прывітаньня не атрымала, як і не пачула амаль нідзе беларускай мовы на вуліцах беларускай сталіцы.

Камок пад горла хутка ўсё-ж падступіў і нават уздрыганулі плечы. Было гэта ў першы дзень адчыненьня Кангрэсу Беларусістаў, калі цудоўная акадэмічная капэля засьпявала Дубоўкава «О, Беларусь, мая шыпшына» ды «Магутны Божа» нашай Натальлі Арсеньневай.

Пазьней невялічкія экскурсіі па гораду, а менавіта, па Камароўцы, крыху адбілі ў памяці стары, знаёмы Менск, але не на столькі, каб камок пад горла падышоў.

Сапраўднае расчуленьне прыйшло, калі я спаткалася з родзічамі ў Глыбоччыне; калі я наведала старыя вясковыя могілкі, дзе пахаваныя дзед і бабка з боку майго бацькі; калі я абняла цёцю Нюту, якой

цяпер ужо 96 гадоў, але якая мае сьветлы розум і памяць, мае здаровыя вочы, слых і ногі; калі [redacted] зь імі гаварыла па-беларуску, як некалі са сваімі бацькамі; калі мы адзін другога разумелі з паўслова. Тады я зразумела, што Бацькаўшчына там, дзе твая сям'я, твае родныя, зь якімі ў цябе ёсьць супольная мова.

А калі падумаеш, што твая найбліжэйшая сям'я тут, у Амэрыцы, дык так і вынікае, што твая Бацькаўшчына ўжо гэтаксама й тут, тут ужо пусьцілі карані. А для сваёй далёкай Бацькаўшчыны я магу й мушу перахаваць мову, працаваць навукова, рабіць літаратурныя пошукі, пісаць — папулярызаваць беларускую культурную й літаратурную спадчыну.

Так выглядае, што ў наш час можна мець дзьве Бацькаўшчыны.

*«Беларус», № 381, 1991*

## Вітаўт Кіпель: *Збліжэньне дыяспары з Беларускім кантынентам пачалося*

Як мы ўжо пісалі, рэдакцыю газеты «Наша слова» наведалі госці з ЗША, якія прыехалі на Беларусь для ўдзелу ў Міжнароднай канферэнцыі «Культура беларусаў замежжа»: спадары Вітаўт Кіпель (дырэктар Беларускага інстытута культуры і мастацтва, аўтар вядомай кнігі «Беларусы ў ЗША»), яго жонка Зора Кіпель (галоўны рэдактар газеты беларускай эміграцыі ў ЗША «Беларус») і іх дачка Алеся. Адбылася гутарка. Напачатку, павітаўшы гасцей, галоўны рэдактар «Нашага слова» Эрнэст Ялугін папрасіў падзяліцца ўражаннямі пра канферэнцыю і сустрэчы на Бацькаўшчыне.

**В. К.** Ад канферэнцыі ў нас засталіся самыя лепшыя ўражанні. Што кінулася ў вочы? Тое, што вывучэнне культурных набыткаў беларускай эміграцыі ўжо пачалося. Працэс, як кажуць, пайшоў. Добра зарэкамендавалі сябе маладыя даследчыкі. Яны працуюць у архівах, знаходзяць новыя дакументы, новыя дадзеныя з гісторыі эміграцыі, і гэта вельмі прыемна. З другога боку, я заўважыў, што, нягледзячы на агульны песімістычны настрой грамадства, адбываецца яго дэмакратызацыя: людзі дыскутуюць, аналізуюць, сварацца, абмяркоўваючы таго ці іншага кандыдата ў прэзідэнты. Шкада, што працэс гэты аднабаковы. Прыкладам, выступленні кіраўніка дзяржавы з чыста выбарчымі мэтамі гучаць кожны дзень у эфіры, а другім кандыдатам у прэзідэнты адводзіцца мала эфірнага часу. Гэта несправядліва і недэмакратычна. Дарэчы, у аэрапорце з намі здарыўся непрыемны інцыдэнт. Праўда, я не надаў яму вялікага значэння. Пагранічнікі пачалі разглядаць нашу літаратуру з багажу: маўляў, што гэта тут за фашысцкая прапаганда? Яны сказалі, што ім «и эта ваша лошадка»

таксама не падабаецца, хоць, тым не менш, гэта выява беларускага дзяржаўнага герба.

**Э. Я.** Вы былі не толькі ў Менску, але і паездзілі трошкі па Беларусі. Якія ўражанні з месцаў?

**В. К.** Мы былі ў Гародні. Прыкметы беларускасці — мова, нацыянальная сімволіка — там больш заўважаюцца, тое ж самае можна сказаць і пра Глушу, радзіму Алеся Адамовіча. Яго землякі, дарэчы, найбольш за Лукашэнку стаяць. Паводле маіх назіранняў, дзяржаўная мова на Бацькаўшчыне больш ужываецца ў культурных установах, выдавецтвах, рэдакцыях газет. Таму пытанне выкарыстання дзяржаўнай мовы ў афіцыйных установах патрабуе з боку ўрада пільнай увагі.

**Э. Я.** У вас з афіцыйнымі асобамі сустрэчы таксама былі?

**В. К.** З вашымі ўрадоўцамі мы не сустракаліся, калі не лічыць мітрапаліта Філарэта.

**Э. Я.** Вы з ім гутарылі па-беларуску. А ён?

**В. К.** Ён не спрабаваў. Ён толькі казаў: «Это же будет революция, если ввести белорусский язык в обиход». Я яму даводзіў, што на першым часе можна хаця б казані весці па-беларуску, [redacted] ён адказваў, што і гэта не проста зрабіць. Толькі аднойчы ў царкве, як чыталі акафіст, я ўчуў некалькі малітваў на беларускай мове. І гэта ўжо добра. Добра таксама, што выйшаў у свет «Беларускі праваслаўны каляндар».

Прыемна здзівіла каталіцкая царква, якая без параўнання больш беларусізаваная. Я пару разоў прысутнічаў на службе ў касцёле Святога Роха на Залатой горцы. Служба там адбываецца на беларускай мове. Прысутнічаў на камуніі, калі пару дзесяткаў дзяцей у святочным убранні маліліся на роднай мове, слухаў, як вернікі ў некалькі соцень галасоў спяваюць па-беларуску царкоўныя гімны і малітвы.

**З. К.** Гаворачы пра афіцыйныя сустрэчы, дадам, што мы мелі нагоду спаткацца ў Менску з Часовым Паведраным Амерыкі ў Беларусі Джорджам Кролам, які вельмі прыхільна ставіцца да Беларусі і беларусаў. Між іншым, у Нью-Йорку ён жыве з намі па суседству. А на банкеце мы пагутарылі з Пятром Краўчанкам.

**Э. Я.** У вас па-ранейшаму расчараванняў няма з гэтым нашым міністрам замежных спраў?

**З. К.** Асцярожны ён чалавек, але шчыры да нас, беларусаў замежжа.

**В. К.** Мы на яго спадзяёмся. Спадзяёмся, што ён дзейнічае ў прагрэсіўным напрамку і па сваім духу — беларус. Ва ўрадавых колах ён бадай што такі адзіны. Такой жа думкі мы і аб спадару Гайсёнку, міністру адукацыі.

**З. К.** Увогуле, адчуваецца атмасфера вычэквання і напружання сярод вашых службоўцаў і наменклатурных працаўнікоў. Людзі перажываюць, што цяпер будзе. Спадзяюцца на лепшае.



Подпіс на звароце: «Вітаўту на ўспамін ад Зоры. Paulsgrund, 10.XII.1944».

8/XI. Безумоўна, вядома, запраўды, зразумела, бясспрэчна, няйначай, пэўна, магчыма, мабыць, відаць, здаецца, як відаць, трэба думаць, мусіць, кажуць, як кажуць, паводле маёй думкі, на мой погляд, на маю думку, такім чынам, адным словам, наадварот, наогул, па-першае, з аднаго боку, урэшце.

Спасылка на сваю ці чужую думку. Упэўненасць, паслядоўнасць, вывад, сумненне ці няпэўнасць.

Спасылка на сваю ці чужую думку: трэба думаць, кажуць, як кажуць, паводле маёй думкі, на мой погляд, на маю думку.

Упэўненасць: Безумоўна, вядома, запраўды, зразумела, бясспрэчна, пэўна, няйначай.

Паслядоўнасць: па-першае, з аднаго боку, урэ…

Канспэкт з гімназіі імя Янкі Купалы, 1946.



Гімназія ў Міхельсдорфе, 1946.
Школьныя сябры: Вітаўт Кіпель, Вольга Харытончык,
Галіна Ганчарэнка, Янка Запруднік, Тамара Карповіч, Янка Жучка.



Подпіс на звароце:
«Міламу «браціку» Вітусю
на ўспамін аб Зоры.
Рэгенсбург, Кам, 1.8.1946».



Купальле ў Рэгенсбургу, 1946.



Сустрэча новага 1946 году, Рэгенсбург,
памешканьне Беларускага камітэту на Маршалштрасэ:
Туся Шчаглова—Кулікович, Сьцяпан Кірылік, Зора.



Вітаўт і Зора, Гарміш—Партэнкірхен, 1947.



У скаўцкай уніформе.



Зора і Вітаўт, 1947.



Whiteruthenian Secondary School in

Biełaruskaja Himnazija ü

Weißruthenisches Gymnasium in

MATURITY CERTIFICATE

MATURALNAJE
PAŚVIEDČANNIE

REIFEZEUGNIS

Nr. [redacted]

Матуральнае пасьведчаньне
Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Каме.

MATURITY CERTIFICATE

# MATURALNAJE PAŚVIEDČAŃNIE

REIFEZEUGNIS

Savionak Zora



born on
narodžanaja 1 lipienia 1927
geb. am

in
u Vialejcy
zu

religion
vieravyznańnie pravasłaŭnaje
Glaubensbekenntnis

after conclusion of the 8th class of the Whiteruthenian Secondary School in Cham underwent the examination of maturity of the classical style on 15th of March

pa skančenni VIII klasy Biełaruskaj Himnazii ŭ Kamie
zdavaŭ maturalnyja ekzaminy humanistyčnaha typu dnia 15 sakavika 1948

nach Abschluß der VIII. Klasse des Weißruthenischen Gymnasiums in Cham legte die Reifeprüfung humanistischen Typs am 15 März

in the face of the Pedagogical Council installed Examination-Board and has obtained the following results:
pierad Ekzaminacyjnaj Kamisijaj, paklikanaj Pedahahičnaj Radaj i atrymaŭ nastupnyja acenki:
vor einer vom Pädagogischen Rat einberufenen Prüfungskommission ab und erhielt folgende Beurteilung:

| | | |
|---|---|---|
| Religion | good | /3/ |
| Relihija | dobra | /3/ |
| Religion | gut | /3/ |
| Whiteruthenian Language | very good | /2/ |
| Biełaruskaja mova | vielmi dobra | /2/ |
| Weißruthenische Sprache | sehr gut | /2/ |
| English Language | good | /3/ |
| Anhielskaja mova | dobra | /3/ |
| Englische Sprache | gut | /3/ |
| German Language | sufficient | /4/ |
| Niamieckaja mova | pasiarednia | /4/ |
| Deutsche Sprache | genügend | /4/ |

Матуральнае пасьведчаньне
Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Каме.

ORIGINAL Nr 853334

UNITED NATIONS DISPLACED PERSON/REFUGEE

IDENTITY CARD

For resident of International Refugee Organization (IRO) Assembly Center

Name (Familie) Vorname Date of Birth Geburtsdatum

Height Grösse Cm. Weight Gewicht Kgs. Hair Haar Eyes Augen

Nationality Nationalität Sex Geschlecht

Identifying Marks Besondere Merkmale

Holder's Signature / Inhabers Unterschrift

Validating Officer / Ausstellungsbehörde

ALLENE SHAFFER
1st Lt. FA

Fingerprints Fingerabdrücke

Right Index R. Zeigefinger

Left Index L. Zeigefinger

IRO Headquarters AMBERG

Official Stamp Amtlicher Stempel

Date Datum

Пасьведчаньне ўцекача, 1948.



Паводка ў Міхельсдорфе, 4.01.1948, Зора едзе ў Остэргофэн.

Ausländer

**Ausweis**

für stud. med.

Zora Sawionak

geboren am 1.7.1927 in Wialejka

Staatsangehörigkeit: weissruthenische

Tübingen, den 25. Jan. 1949






**Universität**

der Universitätsrat

Unterschrift des Inhabers

Savionak Zo

Студэнцкае пасьведчаньне, Цюбінген, 1949.



Ускладаньне вянка 25 сакавіка пры помніку Невядомага Жаўнера, Брусэль. Зьлева направа: Зоя Жалязоўская, Вітаўт Рамук, Зора Савёнак, 26.03.1950.



Вялікдзень 1950, Шарлеруа.



Зора і Вітаўт на вясельлі прафэсара Дэніса,
старшыні Камітэту дапамогі беларускім студэнтам, Гент, 1951.



Зора і Вітаўт на фоне Бібліятэкі, Лювэн, place Hoover, 1951.



У лябараторыі неарганічнай хіміі, Лювэн, 1951.

Le titulaire de ce certificat N° 7934

Né à ... le ...

Signature du titulaire

relève du mandat
de l'Organisation Internationale
pour les Réfugiés
(Institution spécialisée des Nations Unies)

Son dossier à la délégation générale de l'I.R.O. en Belgique

porte le n° ...

Le Fonctionnaire Délégué,

Bruxelles, le 26 JUIL 19..

21, avenue des Arts. Tél. 12 01 43

Пасьведчаньне ўцекача.



Сустрэча “Старога Новага году” ў Лювэне, 14.01.1952, зьлева пара - Зора і Юрка Сяньkоўскі.



Парыж, красавік 1952, падчас канцэртнай паездкі зь Міколам Равенскім: Сяньkоўскі, Вітаўт, Зора, Даўгаленка, Дзьмітрук.



Лювэн, 1952. Зьлева пара Зора — Васіль Шчэцька.



У Лювэне, восень 1953.



Зора і Вітаўт у Лювэне, 4.09.1955.




Пахаваньне бабулі Марылькі Раткевіч, 1956.



Бабуля Вольга.

**Э. Я.** Да нас дайшлі звесткі, што адбылася прэзентацыя газеты «Беларус» у Менску. Таму ў мяне пытанне: Ваша мэта — выпуск газеты на Беларусі? І дзеля чаго гэта робіцца? Ці не азначае гэта змену накірунку вашага выдання?

**З. К.** Не азначае. Гэта робіцца дзеля пашырэння нашага выдання на Бацькаўшчыне. Бо, як вядома, мы сюды можам даслаць усяго некалькі асобнікаў «Беларуса». Калі ж газета будзе друкавацца ў вас, то яе будзе прасцей на Беларусі і распаўсюджваць.

Пра накірунак газеты скажу так: «Беларус» перш за ўсё выданне беларускай эміграцыі, хроніка яе жыцця ў краінах далёкага замежжа. Яна, перш за ўсё, пра нашы зацікаўленні, пра нашы праблемы. З другога боку, магчыма, вы заўважылі, што ў месячніку ўсё больш і больш прасочваецца жыццё на Беларусі. Гэтыя звесткі адрасуюцца нашым чытачам. А для вашых чытачоў мы падаём звесткі аб жыцці беларусаў на Захадзе. Вядома, звесткі гэтыя часта запозненыя і трацяць сваю актуальнасць.

**Э. Я.** Для нас тут эміграцкая прэса ўвогуле вельмі карысная тым, што праз яе можна даведацца, як беларусы свету асэнсоўваюць падзеі на сваёй этнічнай Бацькаўшчыне. Гэтыя водгукі таксама робяць уплыў і на грамадска-культурныя працэсы на Беларусі. Словам, вы патрэбны Беларусі і ваша выданне не павінна згубіцца, як некаторыя расійскія эміграцкія выданні пасля таго, калі яны перабраліся ў Маскву.

**В. К.** Выданне «Беларуса» ніколі не спыніцца. Гэта газета беларусаў усяго Вольнага свету, усёй дыяспары. Выданне будзе прадаўжацца і тады, калі Беларусь стане поўнасцю незалежнай дзяржавай, бо нам трэба мець беларускую газету, якая выходзіла б па-за межамі Бацькаўшчыны. Сёння «Беларус» аб'ядноўвае суайчыннікаў, раскіданых па планеце, і інфармуе аб тым, што адбываецца на іх радзіме. Бо не кожны з тых беларусаў мае магчымасць атрымліваць друкаванае слова непасрэдна з Беларусі. Таму ён і выпісвае нашу газету, ёю цікавіцца і ёй верыць.

«Беларус» — палітычная газета, і яна заўжды будзе асвятляць наш пункт гледжання на падзеі, што адбываюцца на Бацькаўшчыне, і выказваць ідэалогію незалежнай беларускай дзяржавы. А пакуль што да такой дзяржавы, незалежнай і дэмакратычнай, так далёка, як да сонца. Тое, што «Беларус» будзе выходзіць і на Бацькаўшчыне — вельмі добра. Як я ўжо казаў, ён будзе хутчэй даходзіць да чытачоў і стане больш папулярным выданнем. У апошніх нумарах, як вы, мабыць, заўважылі, мы падтрымоўваем максімальную праграму Беларускага народнага фронту: выбарчая ўлада, незалежная суверэнная дзяржава, рынкавая эканоміка — усё тое, што павінна поўнасцю змяніць накірунак да лепшага жыцця ў Беларусі.

**Э. Я.** У гэтым рэчышчы я хацеў бы даведацца, якія ў вас інфармацыйныя магчымасці і якія сувязі з іншымі кантынентамі?

З. К. Такія сувязі існуюць. Аднак да апошняга часу, пакуль не з'явіліся факсы, яны былі нездавальняючымі. Допісы чытачоў у газету, як правіла, спазняліся. Інфармацыя страчвала актуальнасць і ў газету не трапляла. Дапісчыкі крыўдзіліся і больш нам не пісалі. Цяпер дзякуючы факсу нашы сувязі з чытацкай аўдыторыяй, безумоўна, наладзяцца.

Э. Я. Ці ёсць у вас нейкая спецыялізаваная інфармацыйная служба?

З. К. Ёсць. Мы атрымліваем тэлеграмы Белінфарма праз Канаду. Нас найбольш інфармуе спадар Вацлаў Багдановіч. Хоць зноў жа па сваіх каналах мы не атрымліваем інфармацыі ў належным аб'ёме. Яна носіць спарадычны — ад выпадку да выпадку — характар.

Э. Я. А што сабой уяўляе ваша рэдакцыя?

З. К. Рэдакцыя ёсць, яна амаль уся перад вамі. У рэдакцыі чатыры супрацоўнікі-добраахвотнікі. Ёсць адміністратар і кола сталых дапісчыкаў. З адміністратарамі бываюць праблемы.

В. К. Тэарэтычна ў кожнай беларускай грамадзе на эміграцыі ёсць прадстаўнік «Беларуса», які належыць да вялікай рэдкалегіі. Ён абавязаны сачыць за тым, што ў гэтай грамадзе адбываецца, аператыўна пісаць хроніку падзей, са свайго пункту гледжання ацэньваючы факты і падзеі, і дасылаць тэрмінова матэрыял у газету. Але здараецца так, што штосьці адбылося, а наш грамадскі прадстаўнік паехаў вудзіць рыбу. Так у нас бывае, бо нашым памочнікам за працу на карысць газеты зарплату не плацяць.

Э. Я. З кім у вас існуе факсавая сувязь?

З. К. Шмат з кім: з Беларуссю, з Канадай, з Каліфорніяй і інш. З апошняй мы звязаны праз Арцюха, які выдае сваю газету. Маем сувязь з беларускім прадстаўніцтвам у Вашынгтоне. Трэба сказаць, што Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь мае адладжаны механізм інфармацыі. Апошняя падаецца пад грыфам гэтага міністэрства.

У той час, калі ваша Міністэрства друку спіць і нічога на Захад не дае, то Міністэрства замежных спраў Беларусі мае сваю інфармацыйную сетачку, хай сабе і невялікую. І калі трэба аб нечым даведацца, яго супрацоўнікі робяць запыт (праз Мартынава) і за дзень-два атрымліваюць інфармацыю, якая тычыцца Беларусі.

Э. Я. І тады звесткі паступаюць да вас у рэдакцыю?

В. К. Паступаюць на факс «Беларуса» — 428-45-65.

Э. Я. У амерыканцаў моцная інфармацыйная служба. Якім чынам вы да яе далучаны? Ці ёсць між «Беларусам» і Беларускім інстытутам культуры і мастацтва ў Амерыцы, з аднаго боку, і гэтай службай, з другога боку, нейкая сувязь? І ці цікавіцца амерыканская інфармацыйная служба ў вас звесткамі з Беларусі?

В. К. У спецыфічных выпадках, калі на Беларусі штосьці адбылося

і трэба ўдакладніць інфармацыю, амерыканская служба звяртаецца ў наш інстытут. Значыць, сувязь ёсць, але яна зноў жа мае спарадычны, а не сістэматычны характар.

**Э. Я.** Не сістэматычны — чаму?

**В. К.** Пакуль такой дзяржавы, як Рэспубліка Беларусь, не існавала, а БССР у складзе ААН спала летаргічным сном, дык чаго было да нас звяртацца? Амерыканская інфармацыйная служба лічыла нас часткай свайго інфармацыйнага поля і звярталася да нас, калі ўзнікала патрэба, у амерыканскім кантэксце. Яны хацелі ведаць наша меркаванне, але лічылі, што даваць аб сабе звесткі функцыя самой дзяржавы.

**Э. Я.** Да нас паступае інфармацыя праз амерыканскую прэсу аб жыцці амерыканцаў кітайскага паходжання, італьянскага паходжання, а пра беларусаў, якія жывуць на Захадзе, — практычна нічога, акрамя як праз эміграцкія газеты.

**В. К.** Пытанне вельмі складанае. На пачатку пяцідзесятых гадоў, калі падала голас беларуская эміграцыя, газета «Нью-Йорк таймс» пачала пра нас пісаць. Напрыклад, што беларусы ў Амерыцы адсвяткавалі 25 сакавіка або адзначылі якую-колечы іншую дату ці падзею. А з БССР пачалі крычаць «каравул», гэта значыць, што пра фашыстаў, пра бандытаў вы даяце інфармацыю. Тады «Нью-Йорк таймс» сказала: «Што нам лезці ў спрэчку, сэнс якой нам невядомы? Тут вы нібыта нашы грамадзяне, а тыя кажуць, што вы — бандыты. То лепш мы пісаць пра вас не будзем і будзем жыць спакойна».

**Э. Я.** Тым не менш з боку беларускай дыяспары былі нейкія спробы праравацца ў амерыканскае інфармацыйнае поле?

**В. К.** Былі спробы, і мы прарываліся. І ўвесь час сутыкаліся з тым, што БССР перашкаджала нам гэта рабіць. Савецкая Беларусь палівала граззю ўсіх нашых людзей. Эпітэтаў не хапала, каб іх ачарніць. Гэта насцярожвала амерыканцаў, хоць яны і не прымалі ўсё за чыстую манету. Аднак зноў жа казалі: «Калі ёсць нейкая сварка і няма кампетэнтных людзей, каб яе разважыць, то нам лепш вашы праблемы не закранаць».

Былі такія дзялянкі, дзе амерыканцы пра нас пісалі. Прыкладам, аб дзейнасці беларусаў, якія належалі да рэспубліканскай або дэмакратычнай партыі. Але гэтыя людзі былі ўжо канчаткова амерыканізаваныя. Аднак мы на іх не крыўдуем. Паводзіны функцыянераў з БССР былі антыбеларускімі. Вось чаму нават ААН стала тым форумам, той трыбунай, адкуль яны маглі ўплываць на грамадскую думку. БССРаўцы заўсёды казалі: «Не слухайце гэтых фашыстаў, гэтых бандытаў».

**Э. Я.** Ну, а ў вас спробы такія ёсць — пастаўляць беларускую інфармацыю вядучым газетам Амерыкі? Ці гэта складана?

**В. К.** Гэта вельмі складана. Амерыканская газета — структура досыць цвёрдая. У яе складзе штатныя працаўнікі, карэспандэнты. Уся інфармацыя ў газету трапляе праз сваіх карэспандэнтаў, якім адміні-

страцыя давярае. Ваш допіс хутчэй за ўсё ў ёй не надрукуюць, а калі надрукуюць, то толькі пры ўдзеле працаўніка гэтай газеты.

З. К. Пра культурнае, грамадскае і палітычнае жыццё беларускай эміграцыі найбольш пішуць мясцовыя газеты, карэспандэнты якіх наведваюць нашы імпрэзы. А ўвогуле цяпер справа з асвятленнем жыцця беларускай дыяспары палепшылася, паколькі пачаў выдавацца англамоўны квартальнік «Беларускі агляд», з якога амерыканцы даведваюцца, што сярод іх жывуць і беларусы.

Э. Я. Ці маеце вы сувязі з маладымі беларусамі Амерыкі? Яны вам дапамагаюць у выданні «Беларуса»?

В. К. Маладыя амерыканцы беларускага паходжання пакуль што яшчэ газету не павядуць. Трэба ведаць добра мову — да таго ж газетная мова спецыфічная, ведаць краіну Беларусь і гісторыю эміграцыі. Вырысоўваецца такая перспектыва, што газету павядуць пасля нас новыя эмігранты — з тых, што асядаюць зараз у Амерыцы. Такія, напрыклад, як Сяржук Сокалаў-Воюш, Лявон Юрэвіч, Алеся Сёмуха, Змітрок Левін, Лявон Зубараў і іншыя. Людзі гэтыя вельмі актыўныя. Яны пішуць для «Беларуса» і рэдагуюць беларускія кнігі. Так, Лявон Юрэвіч і яго маці Алена Казіміраўна, аўтар шматлікіх навуковых даследаванняў, зараз рэдагуюць выбраныя творы Уладзіміра Дудзіцкага і Міколы Целеша.

Э. Я. Ці падтрымліваеце вы сувязь з беларускім аддзелам радыёстанцыі «Свабода» і як вы ставіцеся да яго інфармацыі?

З. К. Сувязь са «Свабодай» падтрымліваем. У прыватнасці, з Вячкам Станкевічам. Беларускі аддзел нам заўсёды дапамагаў, хоць і несістэматычна, а зараз абяцае гэта рабіць цераз факс. І нашу інфармацыю яны таксама скарыстоўваюць.

Э. Я. Якім чынам мы маглі б атрымліваць са Злучаных Штатаў Амерыкі незалежную інфармацыю?

В. К. Штодзённую сувязь з вамі наша газета забяспечваць не можа, паколькі яна выходзіць раз у месяц. Такую інфармацыю вы маглі б атрымліваць у Часовага Паверанага Амерыкі на Беларусі. Адначасна вы атрымаеце магчымасць пазнаёміць пана Крола са сваім выданнем. У такіх кантактах зазвычай зацікаўленасць узаемная.

*«Наша Слова», № 31, 1994*

## Падарожжа на Гомельшчыну

Сёлетні наш побыт у Беларусі быў, з аднаго боку, вельмі памысны й цікавы, а з другога — поўны трывогі, роспачы й крыўды. Трывогі за будучыню Беларусі, крыўды й роспачы за свой народ. Але пра прыкры бок я пісаць ня буду — шмат ужо перагаворана й напісана, тым болей што аб гэтым гаварыць і пісаць недастаткова — трэба нешта рабіць, адрабляць.

Хочацца гэтта распавесьці аб прыемным і цікавым — аб падарожжы на паўднёвы ўсход Беларусі, на Гомельшчыну.

Пашчасьціла нам быць гасьцьмі Гомельскага Унівэрсытэту. Гаспадары нашыя, рэктар Л. А. Шамяткоў і прафэсар Уладзімер Анічэнка ня толькі выдатна арганізавалі наш побыт у Гомелі, спатканьне са студэнтамі й выкладчыкамі Унівэрсытэту, наведваньне працоўных лябараторыяў: скарынінскай, лінгвістычнай і краязнаўчай, але наладзілі і шэраг экскурсіяў па Гомельшчыне.

Кантакты нашыя з Гомельскім Унівэрсытэтам пачаліся ўжо пару гадоў таму, калі Унівэрсытэт зьвярнуўся да Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва з запросам аб літаратуры пра Скарыну, што выдавалася на Захадзе для Скарынінскай лябараторыі-музэю, што пры Унівэрсытэце. Варта тут зацеміць, што гэта, бадай, самы вялікі збор Скарыніяны на цэлым сьвеце — сабраныя там і кнігі, і артыкулы, і мастацкія творы, і музэйныя экспанаты, якія тычацца жыцьця й дзейнасьці нашага першадрукара. Сапраўды працоўная лябараторыя годная Унівэрсытэту, які носіць імя Скарыны. Унівэрсытэт, яшчэ параўнаўча малады, разьмешчаны ў некалькіх будынках у пешай адлегласьці адзін ад другога у прыгожай частцы Гомелю.

Аб Гомелю, прызнацца, веды мае былі вельмі сьціплыя. Ведала, што горад стары, адзін з большых у Беларусі, горад індустрыяльны, амаль цалкам зьнішчаны ў Другую Сусьветную вайну.

На прыемнае зьдзіўленьне, Гомель, у часе нашай першай перадвечаровай экскурсіі, выявіўся прыгожым гістарычным местам над Сожжу, поўным цікавых архітэктурных помнікаў.

У парку, дзе захаваўся яшчэ палац 18-га стагодзьдзя, у адным з корпусаў якога знаходзіцца цудоўны этнаграфічны музэй, Петрапаўлаўскі Сабор пачатку 19-га стагодзьдзя, каплічка-пахавальніца князёў Паскевічаў, спакойна, зелена, утульна — пападаеш як-бы ў другі сьвет, у другую эпоху.

Пачынала цямнець, а нам усё не хацелася пакідаць гэты гістарычны прыемны куток Гомелю.

Назаўтра падарожжа яшчэ далей на ўсход ад Гомелю, глыбей у гэтак званую «Зону».

Перш-наперш у Ветку, у мясьціну беларускіх старавераў. Некалькі, у 17-ым стагодзьдзі, калі стараверы ўцякалі з Маскоўшчыны, каля 40 тысячаў знайшлі прытулак у гасьціннай Ліцьве і аселі ў Ветцы, дзе яны й нашчадкі іхныя вякамі жывуць у гармоніі з мясцовым насельніцтвам. Дзесяць гадоў таму заснаваўся тут этнаграфічны музэй, які да пэўнай ступені адлюстроўвае культуру стараверых ваколіцы. Музэй гэты, пра які мы ўжо шмат чулі, і прыцягнуў нас у Ветку. Кіраўнічка музэю, сп-ня Нячаева, вельмі дасьведчаны этнограф, паказала нам выключна прыгожыя і рэдкія іконы стараверых у багатыхківотах, шытыя бісерам — рамяство, якое ведамае пераважна толькі у веткаўскім

рэгіёне. Расказала яна нам таксама пра сэмантыку ўзораў ручнікоў мясцовых ткальляў, дзе кожны ўзор нешта значыць, нешта апавядае. Шмат часу яшчэ можна было-б там правесьці, але сьпяшаліся мы далей, у Неглюбку.

Па дарозе цешыла вока прырода, палі, лугі, яшчэ мейсцамі затопленыя веснавой паводкай, бярозавыя ляскі, прыдарожныя вёсачкі, зграбныя хаты з своеасаблівымі арнамэнтальнымі, найчасьцей каляровымі надваконьнікамі-ліштвамі. Не магла я нацешыцца цікавай беларускай тапанімікай — назвамі вёсак і мястэчкаў (толькі па-беларуску) на дарожных знаках: Навасёлкі, Бесядзь, Сівінка, Старое Залужжа, Новыя Ґрамыкі, Сьвяцілавічы, Стаўбун. Адзін з такіх знакаў накіраваў на Барталамееўку — вёску, якая была цалкам выселеная пасьля Чарнобыльскай катастрофы.

Зьехалі з дарогі ў вёсачку — кінутую, пустую, бязьлюдную. Праўда, недзе ўдалі заўважылі сабаку, а пасьля й чалавека — мусіць нейкая адважная, непахісная асоба, што рашыла не пакідаць свайго. Хаткі забітыя, апусьцелыя, а каля аднэй... цьвіце яблынька.

У гэты прыгожы, цёплы травеньскі дзень ніяк не хацелася думаць пра трагэдыю, тым болей, што вонкава трагэдыі гэтай і не заўважаецца — мясцовыя людзі жывуць нібыта нармальным жыцьцём, неяк стараюцца ад яе адхінуцца, забыцца, не ўспамінаць — можа-ж яно й міне.

Недалёка Неглюбкі, пры дарозе невялікі магільнік, яшчэ сьвежа ўвешаны ручнікамі пасьля Радаўніцы.

А вось і Неглюбка — вёска здаўна славутая сваімі ручнікамі, дзе амаль у кожнай хаце жанчына-ткальля, мастак свайго роду, вырабляе адменныя ручнікі пераборнага аднааковага ткацтва. Тут мы знайшлі і нашую ткальлю Тацьцяну Дзеранок, якая некалі, у 70-ых гадох, з дыплямятамі са Злучаных Нацыяў перадала ручнік сваёй работы для Беларусаў Амэрыкі.

Майстроўства сваё старэйшыя жанчыны перадаюць маладзейшым і зусім маладым. Пры школе заснаваная ткальная майстроўня, дзе школьніцы старэйшых клясаў ужо вытыкаюць ручнікі, за якія ня сорамна было-б і спрактыкаваным ткальлям.

Так не хацелася пакідаць гэтай цікавай гасьціннай вёскі, што ляжыць на самай усходняй мяжы сёньняшняй Рэспублікі Беларусь. «Пагуляйце, пагуляйце», — усё ўгаворвала нас Тацьцяна, але трэба было ехаць, бо ў Гомелі яшчэ заплянаванае спатканьне са студэнтамі.

Ня было-б поўным маё апавяданьне, каб не ўспомніла хоць колькімі словамі горад Крычаў. Вяртаючыся з Гомелю назад у Менск наш уважлівы й дбалы апякун і праваднік, сп. Анічэнка быў ласкавы яшчэ зрабіць даволі вялікі круг і падкінуць нас у г. Крычаў, дзе прайшло некалькі маіх дзіцячых гадоў. Ляжыць ён на той самай рацэ Сож, але значна ўжо вышэй на поўнач, недалёка Магілёву.

Крычава майго дзяцінства я амаль не пазнала. Толькі, як убачыла стары палац і роў, дзе я калісь 8—9-гадовым дзяўчом лазіла з сябрамі, дык у памяці ўсё ўсплыло. Зноў прабегла я (адкуль энергія ўзялася) нацянькі праз роў, знайшла хату, дзе некалі жылі, спаткала там нават і цяперашняга гаспадара хаты, а тады бялявага 6-гадовага хлапчука Лёньку, унука нашых былых гаспадароў, які, як я толькі сказала, што я Зора, адразу пазнаў мяне й прывіталіся мы як старыя сябры — зноў пабывала ■ дома.

*«Беларус», № 424, чэрвень—ліпень 1995*

## *Падарожжа на поўнач Беларусі*

Восеньская нашая паездка ў Беларусь хоць і пляваналася крыху раней, аднак ажыцьцявілася неяк спантанічна, безь вялікіх зьбіраньняў і развагаў.

А для паездкі было некалькі прычынаў. Самая галоўная, і якая ўжо была на прыкмеце больш за год, гэта — што маёй роднай цёці, старэйшай сястры майго бацькі, спаўнялася сёлета ў верасьні 100 гадоў. Другая задума й прычына падарожжа выйшла ў часе побыту ў Злучаных Штатах Уладзімера Арлова, які запрапанаваў экскурсію на Полаччыну і ў Віцебск. тым больш што ў Наваполацку якраз мелі адбывацца Скарынаўскія чытаньні. Ну, і яшчэ што нарэшце нас пераканала на паездку (ужо другую сёлета) у Беларусь — гэта запросіны на канфэрэнцыю Беларускага ПЭН-цэнтру.

Вось-жа пра нашае такое памятнае падарожжа на Полаччыну й Віцебшчыну хочацца падзяліцца ўражаньнямі.

Адразу-ж пасьля канфэрэнцыі ПЭН-цэнтру ў Іслачы, у панядзелак 4 верасьня паехалі мы ў Наваполацак. Ехалася выгодна ў невялічкім аўтобусіку ў прыемнай кампаніі сп.сп. Адама Мальдзіса, Алеся Баршчэўскага і Вячаслава Чамярыцкага, з гутаркамі, разважаньнямі й жартамі. Любаваліся прыгожымі, ужо восеньскімі, краявідамі Лагойшчыны, Бярэзінскага запаведніка, Полацкімі вазёрамі, і час праляцеў, як страла. Каля Бягомля затрымаліся на адпачынак, купілі пры дарозе ў жанчынаў яблыкаў.

У Наваполацак прыехалі ўжо пад вечар і ўладкаваліся ў выгоднай гасьцініцы «Беларусь» недалёка ад унівэрсытэту, дзе мелі адбывацца чытаньні. Вечарам сп. Баршчэўскі наладзіў прыемны пачастунак у сваім пакоі, бо сталоўкі былі ўжо зачыненыя.

Наступны дзень, аўторак, быў адведзены канфэрэнцыі, а ўжо ў сераду 6-га верасьня з нашым слаўным гідам і знаўцам гісторыі Полаччыны Уладзімерам Арловым (ці-ж можна лепшага жадаць і спадзявацца?) мелі экскурсію ў Полацак. Гэта было сапраўды падарожжа ў мінуўшчыну, у нашую слаўную мінуўшчыну. А возьнікам-

шофэрам у гэтае мінулае быў полацкі мастак Сяргей Цімохаў, студыю якога мы мелі прыемнасьць пазьней наведаць і нават набыць пару абразоў.

Пачалі мы зь месца старажытнага Полацку, з Гарадзішча 9—10 ст. над Палатою, дзе жылі Рагвалод і Рагнеда. Цяпер там толькі мэмарыяльны слуп і нейкае магічнае адчуваньне далёкай мінуўшчыны, навеянае, магчыма, нашым агульным настроем. Верхні Замак, адноўлены палачанамі пасьля зьнішчэньня яго ў канцы 10 ст. князем Уладзімерам, ненавісным мужам Рагнеды.

Крочым далей у гісторыю, фактычна блізімся да сучаснасьці. Перад намі цуда — Сафійскі сабор, пабудаваны Ўсяславам Чарадзеем у 11 стагодзьдзі. Адноўлены ў 18 ст. з захаваньнем рэшткаў старажытнага. Цяпер там канцэртная заля і музэйныя экспанаты — службы не адбываюцца.

Непадалёку сабору адзін са славутых Барысавых камянёў 12 ст., перанесены сюды нядаўна з рэчышча Дзьвіны, за некалькі кілямэтраў ад Полацку. Спусьціўшыся крыху пад рэчку і праз падвешаны хісткі масток, можна прайсьці да былога Ніжняга замку.

Адарваліся крыху ад гістарычнай храналёгіі і наведалі Краязнаўчы музэй, які месьціцца ў колішняй лютэранскай кірсе.

Вялікае ўражаньне зрабіў на нас наступны музэй, Музэй беларускага кнігадрукаваньня, дзе прывітала нас загадчыца Галіна Ладзісава. Там-жа месьціцца і музэй-бібліятэка Сымона Полацкага. Абодва музэі параўнаўча новыя, але прафэсійна і зь вялікім навуковым і мастацкім уменьнем наладжаныя. А ў бібліятэчным пакоі, удэкараваным на манер старой кнігоўні, так і хацелася затрымацца і папрацаваць.

Тут-жа каля музэю кавярня «Брадчына», дзе як-бы зноў папалі ў гісторыю, папалуднавалі — пасмакавалі нязвыклую страву, «Пяльмені па-полацку».

Падкрапіўшыся, пайшлі пад помнік Скарыны, пастаўлены яшчэ тады, калі яго там прынята было называць Францыскам-Георгіем. Цяпер, праўда, памылковую мянушку Георгій зьнялі, але месца ад імя засталося пустым. Добра было-б, каб на гэтае пустое месца паставілі скарынаўскі знак сонца-месяца, бо нейкі ўслужны псэўданавуковец зноў можа аднавіць «Георгія».

Наведалі гэтаксама адну зь цікавых (асабліва для Вітаўта) мясьцінаў Полацку — Езуіцкі калегіюм, дзе некалі ў 19 ст. выкладаў айцец Францішак Дзеружынскі, які пазьней эміграваў у Амэрыку. Цяпер, як нас інфармаваў рэктар Наваполацкага ўнівэрсытэту Э. Бабенка, вядуцца перамовы, каб атрымаць гэты комплекс для Полацкай філіі ўнівэрсытэту.

Закончылася нашая полацкая вандроўка ў Спаса-Еўфрасіньнеўскім манастыры, дзе цяпер мастакі-рэстаўратары аднаўляюць фрэскі 12 ст., а тады жыла ў кельлі-галубніцы, малілася й перапісвала кнігі

Еўфрасіньня Полацкая, нашчадніца Рагнеды, унучка Ўсяслава Чарадзея, і дзе й цяпер перахоўваюцца яе сьвятыя мошчы.

Увечары адбылася сустрэча з наваполацкім беларускім актывам, наладжаная Цэнтрам Нацыянальнай Культуры, якім кіруе пісьменьніца Ірэна Жарнасек. Сустрэча гэтая з выкладчыкамі, студэнтамі, журналістамі адбылася ў аднэй з гарадзкіх бібліятэкаў, і мы мелі нагоду расказаць новапалачанам пра жыцьцё і працу беларускай грамады ў Амэрыцы. А пазьней за бяседай мелі прыемнасьць паслухаць мясцовага барда Алега Паўлёнка ды мілагучныя сьпевы Людзьмілы Касьянавай, загадчыцы гарадзкога аддзелу культуры.

Гасьціла нас у Наваполацку Ўладзімерава сястра Таня Арлова. У яе ўтульнай выгоднай кватэры чуліся як дома.

Наступны дзень, 7 верасьня, прайшоў у Віцебску ў мілай кампаніі полацкага паэты Навума Гальпяровіча і ягонага сына Максіма.

У адрозьненьне ад Полацку, Віцебск не пакінуў такога моцнага ўражаньня. Ад старога Віцебску амаль нічога не засталося. Гісторыя неяк зацерлася, загубілася. Ратуша 18 ст. — адзін зь нешматлікіх будынкаў, які яшчэ захаваўся, ды яшчэ, можа, былы Палац Губэрнатара, дзе ў 1812 годзе пабываў і Напалеон, ды парк вакол яго. Праўда, аднаўляецца Дабравешчанская царква 12 ст., якая была зруйнаваная на пачатку 1960-х гадоў. Ня ў войнах ці пажарах праз стагодзьдзі, а ў «мірны» нібы час, у 60-х гадох нашага стагодзьдзя!

Па шагалаўскіх мясьцінах гідам нашым быў Давід Сімановіч. Пабачылі мы домік на вуліцы Пакроўскай, дзе жыў Шагал, помнік яму на плошчы Шагала, шагалаўскі музэй.

А гідам нашым на Віцебску была мілая і дзейная Ларыса Міхневіч з Мастацкага музэю. У музэі мы пабачылі цудоўную выставу абразоў Пэна — гэта самая багатая калекцыя віцебскага мастака, аб якім нам так выдатна апавяла Ганна Бебрына.

Цікавы і прыемны прыпынак быў у ўнікальным Беларускім тэатры «Лялька», дзе адбываюцца спэктаклі лялькаў выключна па-беларуску для дзяцей. У гэты дзень спэктаклю ня было, але паказалі нам аўтэнтычную беларускую батлейку.

На заканчэньне нашага побыту ў Віцебску, Ларыса Міхневіч павезла нас да мясцовага разьбяра Хведара Максімава, у маленькай кватэры якога сапраўдны музэй народнага разьбярства — ён ні з аднэй са сваіх працаў за ўсе свае 80 з гаком гадоў не разлучыўся.

У пятніцу 8 верасьня — на Глыбоччыну, у Лужкі, якія ад Полацку ня так далёка, да Цёці Нюты, майго кузына Вінцэнта і ўсёй радні. Па дарозе ў Лужкі заехалі яшчэ ў Вялец і затрымаліся каля хаты, дзе нарадзілася ў 1895 годзе Цёця Нюта, а ў 1897-м Лявон Савёнак. У хаце ніхто ўжо не жыве, але хата стаіць і даволі моцная яшчэ. Зрабіла здымкі. Цёця Нюта выняткова здаровая, бадзёрая, усім цікавіцца, усё ведае, усё памятае. Правялі мы зь імі прыемны спакойны дзень, пагаварылі,

паўспаміналі, пераважна пра майго папу Лявона Савёнка, бо заўтра ўжо некалі — будзе ўрачыстае сьвяткаваньне 100-х угодкаў Цёці.

Зьехалася ўся сям'я, родзічы, бліжэйшыя сябры й суседзі. Было сапраўды ўрачыстае сямейнае сьвята.

Да ўрачыстасьці дадала яшчэ прысутнасьць паэткі-журналісткі, нашай дарагой знаёмай Вольгі Іпатавай, якая якраз была ў сваім хутары на адпачынку са сваім мужам Ягорам, і яны былі ласкавыя прыехаць пазнаёміцца зь юбілляркай, зрабіць здымкі і рэпартаж. Вольга тут-жа за сьвяточным сталом напісала цудоўны верш, прысьвечаны Цёці.

Прыехалі на сьвяткаваньне і Уладзімер і Тацьцяна — гэта быў знак, што нам трэба ўжо ехаць назад у Полацак, а тады адразу-ж у Менск, а ўжо пазаўтра й дахаты. Зрабілі яшчэ супольны здымак, напакаваў Вінцэнт нам яблыкаў са свайго саду, хатніх кілбасаў і... паехалі.

**Зора Кіпель**
*«Беларус», №428, кастрычнік 1995*

## Падарожжа ў Прагу

Прага. Залатая Прага. Даўно ўжо мы зьбіраліся наведаць яе і папрацаваць там у Славянскай Бібліятэцы, але ўсё нейк не выпадала — ці то нагоды ня было, ці то часу. Аж тут раптам надалася нагода, і то вельмі неспадзявана й пасьпешна, што нават часу ня было для разважаньняў. Ехаць ці ня ехаць, трэба было вырашыць за пару дзён пасьля таго, як атрымалі паведамленьне-запросіны ад Ганны Сурмач на Чэска-Беларускую сустрэчу. У праграме, акрамя розных іншых імпрэзаў, быў Скарынаўскі сымпозыум і ўшанаваньне памяці беларускіх дзеячоў, якія жылі й працавалі ў міжваеннай Празе. Гэта нас нарэшце й пераканала ехаць, каб якраз нехта быў з эміграцыі для ўшанаваньня памяці дзеячоў БНР — Крэчэўскага, Захаркі, Грыба. Тым больш што выглядала магчымым папрацаваць у бібліятэцы.

Прыляцелі мы вельмі памысна ў Прагу у нядзелю 11-га лютага. Спаткаў нас на лётнішчы Вячка Станкевіч і завёз да сябе дахаты, бо група зь Менску, да якой мы мусілі далучыцца, прыяжджала толькі на наступны дзень. У гэты-ж дзень зьведалі зь Вячкам і Прагу. Агледзелі і зблізку і здалёку цікавыя гістарычныя мясьціны, стары і новы горад. Вячка і Джоан — нашыя старыя сябры, і адчувалі мы ў іх як дома, добра адышлі ад дарогі.

На наступны дзень, у панядзелак, падкінуў нас Вячка пад гатэль «Авія», дзе мы мусілі затрымацца. Менскіх яшчэ ня было, дык мы зь Вячкам паехалі назад у горад. Гатэль быў даволі далёка ад цэнтру Прагі. Заехалі ў Радыё «Свабода». Беларуская сэкцыя радыё, якой кіруе Вячка Станкевіч, была для нас усіх на гэтыя колькі дзён сапраўды беларускім домам у Празе. Спатыкаліся са старымі прыяцелямі, знаёміліся з новымі.

Радыё ў добрым цэнтральным мейсцы, побач са станцыяй падземкі і камунікацыя зь бібліятэкай была надзвычайна выгоднай.

Пра Праскую Славянскую Бібліятэку мы шмат чулі й чыталі. Ведалі, што беларуская калекцыя тут бадай што самая багатая ў сьвеце, а што да Нашаніўскага, БНР-аўскага і Віленскага пэрыядаў, дык, без сумлеву, самая каштоўная. Працавалі там і Вяршынін, і Грыб, і Жылка, і шмат хто з праскіх беларускіх студэнтаў, і дух іхны мы адчувалі праз усе гэтыя дні, працуючы там.

Пакуль разгледзіліся, на пачатку першага дня, ішло, праўда, даволі павольна. Выпісвалі з каталёгу карткі, як звычайныя чытачы, здавалі бібліятэкарам і варочалі нам гэтыя карткі з заўвагамі, што кнігаў ці часапісаў няма на паліцы. Але з часам пайшло спраўней — натрапілі на спэцыялістаў, якія адшукалі нам патрэбныя выданьні, а ад загадчыцы Бібліятэкі, сп-ні Клімовай, на другі дзень атрымалі дазвол працаваць у бібліятэчных складах.

Беларуская калекцыя знаходзіцца ў сутарэньнях, у даволі цёмным мейсцы, дзе асьцярожна трэба было рухацца па сходках. Але ўсё было апраўдана багацьцем і важнасьцю матар'ялаў, якія там знаходзяцца. Знайшлі мы і тое, аб чым ведалі і што шукалі. Парабілі адбіткі, дапоўнілі недастаючыя нумары. Асабліва пашчасьціла папоўніць камплет праскага літаратурнага часапісу «Іскры Скарыны», які выходзіў у 1930-х гадох і які рэдагаваў Тамаш Грыб; адшукаць студэнцкія часапісы «Беларускі Студэнт», «Перавясла», «Прамень», «Наш Прамень» і інш.

Было й колькі знаходкаў: кніга пра Забэйду-Суміцкага па-чэску, якая была выдадзеная ў 1941 годзе, пра Сьвятога Вацлава, д-ра Францішка Дворніка, 1938 году, і зусім новая, няведамая, нідзе не апісаная брашурка пра Беларусь праф. Рудольфа Абіхта, на жаль, без загалоўка, выдадзеная беларускай лацінкай у 1919 годзе.

Але я ўжо забегла наперад. Шмат цікавага адбылося яшчэ ў панядзелак. У радыё «Свабода» была назначаная прэсавая канфэрэнцыя з Васілём Быкавым. Быкаў шчыра, станоўча й грунтоўна адказваў на пытаньні журналістаў аб сучасным палітычным і эканамічным палажэньні ў Беларусі, пра стан беларускай прэсы, мовы і адукацыі. Гучэў ён больш пэсымістычна, як бы хацелася пачуць, але хіба-ж ён найлепш ведае і адчувае сваю Беларусь і беларускі народ і аптымізму у сучасным палажэньні ня бачыць.

У гэты вечар было яшчэ прыняцьцё ў Беларускай Амбасадзе ў Празе. Вельмі ўрачыста, багата й ветла. Будынак амбасады даволі вялікі, імпрэсыўны. Акрамя вонках, каля брамы, новага «савецкага» гэрбу — ніякіх іншых лукашэнкаўскіх атрыбутаў не заўважалася.

Адвёз нас у гатэль супрацоўнік амбасады Алег Макаеў, зь якім і з жонкай якога мы пазнаёміліся бліжэй і нейк адразу адчулі прыязьнь.

Разьмясьціліся мы ў нашым «спартанскім» (балазе што танным) гатэлі разам з Васілём Быкавым і Радзімам Гарэцкім — інакш кажучы дзялілі зь імі калідорчык і ванны пакой. Да позьняга вечару чуваць быў за цененькай сьценкай роўны, нізкі, прыемны голас Быкава, які ўсё нешта ўспамінаў, нешта расказваў Гарэцкаму. Мусіць нешта цікавае. Гэта адзін з самых прыемных праскіх успамінаў — Быкава спакойная гаворка за сьценкай.

У аўторак быў Скарынаўскі Сэмінар. Галоўны даклад пра Скарыну меў вядомы скарынавед Георгі Галенчанка. Ён зьвярнуў увагу на праблему імя Скарыны. Памылковая мянушка «Георгі» ўсё яшчэ, на жаль, дыскутуецца ў псэўданавуковых колах. Галенчанка знайшоў яшчэ адзін дакумэнт, які доказвае памылковасьць гэтага недарэчнага прыдатку да імя Францішка Скарыны. Вельмі цікавым быў даклад чэскай беларусісткі Францішкі Сокалавай пра праскі пэрыяд дзейнасьці Скарыны. Вітаўт Кіпель расказаў пра Скарынаўскія досьледы ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва і падкрэсьліў асаблівыя заслугі д-ра Вітаўта Тумаша ў гэтай галіне.

Працавалі ў Бібліятэцы з Сяргеем Панізьнікам, і, ідучы назад у кірунку падземкі, ён паказаў нам дом, які стаіць прыблізна на тым мейсцы, дзе калісь Скарына меў друкарню.

Вечарам вельмі ўдалая выстава «Беларусы ў Празе» і канцэрт. На выставе, акрамя беларускай літаратуры, стэндаў пра Скарыну, дзеячоў БНР на эміграцыі і беларускіх студэнтаў у Празе, дэманстравалася й мастацкае печыва каравайніцы Валянціны Уласік, якая нават тытул мае — Майстра пякарскай скульптуры. Яе цудоўна ўдэкараваныя караваі, кашолачкі з печывам у форме грыбкоў, трускавак, гарэшкаў, каштанікаў, зьвяркоў і кветкаў цешылі вока і былі вельмі смачныя, у чым мы пераканаліся пазьней на банкеце. З Валянцінай, якая паходзіць з Коласаўскіх мясьцін, мы добра пасябравалі, і яна нас увесь час падкормлівала беларускімі смачнымі ежамі.

У часе адкрыцьця выставы аднекуль, як-бы з магічнай палачкі фокусьніка, зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг, які Мікола Купава разгарнуў і горда трымаў, а мы ўсе да яго хіліліся.

Канцэрт, зоркай якога, быў Віктар Скарабагатаў, адбыўся на высокім мастацкім узроўні. Быў гэта экскурс у гісторыю беларускага музычнага мастацтва. Беларуская музыка 16—19 стагодзьдзяў у цудоўным выкананьні Скарабагатава, зь вельмі цікавымі камэнтарамі самога сьпевака прагучэла як-бы сымбалем усяго прыгожага і яшчэ, на жаль, мала дасьледаванага, што было стагодзьдзямі створана беларускімі талентамі.

Чацьвер, наш апошні дзень у Празе, быў «Днём Памяці». Пайшлі мы на Альшанскія могілкі, дзе наведалі ведамыя беларускія магілкі Крэчэўскага, Захаркі, Забэйды-Суміцкага і Грыба. Пра гэтую пільгрымку Сяржук Сокалаў-Воюш напісаў асобна.

Пад вечар заскочылі яшчэ да супрацоўніка радыё «Свабода» Міколы Іванова, паглядзелі ягоную прыватную бібліятэку і набылі колькі недастаючых нам нумароў Вестак Інстытуту Беларусаведы ў Ляймане, якія выдаваў Юры Попка.

Нельга не ўспамянуць яшчэ і апошнюю нашую імпрэзу — вечар-сустрэчу ў гасьціннай, раскошнай хаце Сержука і Ані Сокалавых. Усе праскія, менскія і амэрыканскія беларусы сабраліся там, каб пагутарыць, падзяліцца ўражаньнямі, паглядзець цікавыя відэа з розных беларускіх падзеяў (між іншага прагледзелі фільм Ньюёркскай супраць-лукашэнкаўскай дэманстрацыі).

Пры гэтай нагодзе была афіцыйна заснаваная Чэская суполка таварыства «Бацькаўшчына». Гэтак, як і ўся паездка ў Прагу, зьвязалася карыснае з прыемным.

**Зора Кіпель**
*«Беларус», № 432, люты 1996*

## Скарынаўскі юбілей у Празе

5-га верасьня ў Празе, у памешканьні Нацыянальнай Бібліятэкі Чэхіі, адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная 480-годзьдзю беларускага кнігадрукаваньня — выхаду першае кнігі Францішка Скарыны ў жніўні 1517 году. Арганізатарам канфэрэнцыі й урачыстасьцяў: выставак, музычнае й літаратурнае праграмы — была Славянская Бібліятэка разам зь мясцовым беларускім таварыствам, якое ўзначальвае сп. Юрка Станкевіч.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел скарынаведы й беларусазнаўцы зь Беларусі, Чэхіі, Летувы, Польшчы, Расеі ды ЗША. Былі зачытаныя даклады з новымі адкрыцьцямі ў Скарыніяне, падагульненыя ды высьвеченыя шматлікія праблематычныя пытаньні Скарыніяны й акрэсьлены сучасны стан дасьледаваньняў. Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў канфэрэнцыі бралі ўдзел Вітаўт і Зора Кіпелі.

## Скарынаўскія чытаньні ў Полацку

10—11 верасьня ў Полацкім музэі гісторыі беларускага кнігадруку адбыліся Трэція Скарынаўскія чытаньні, прысьвечаныя 480-годзьдзю запачаткаванага Францішкам Скарынам беларускага кнігадрукаваньня ў Празе ў жніўні 1517 году.

У гэтай міжнароднай канфэрэнцыі бралі ўдзел навукоўцы з ЗША, Расеі, Летувы, Польшчы ды Латвіі, а зь Беларусі на канфэрэнцыі былі дасьледнікі з унівэрсытэтаў Менска, Горадні, Гомеля, Полацка. Апрача пленарнага паседжаньня, адбылося некалькі паседжаньняў розных сэкцыяў, на якіх было зачытана колькі дзясяткаў дакладаў.

Узровень гэтае канфэрэнцыі быў сапраўды высокаакадэмічны, быў прадстаўлены шэраг новых паведамленьняў у дасьледаваньні Скарыніяны. Удзельнікі канфэрэнцыі былі таксама запрошаныя на выдатны канцэрт арганнай музыкі ў Сафійскім саборы. агледзелі некалькі тэматычных выставак ды адбылі ўрачыстасьць складаньня вянка каля помніка Беларускага Першадрукара.

З дакладамі на канфэрэнцыі выступалі таксама прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША сп-ня Зора Кіпель і сп. Вітаўт Кіпель. Даклад З. Кіпель быў на тэму «Скарынаўскія й скарынаведныя друкі ў амэрыканскіх бібліятэках», а даклад В. Кіпеля — «Пачаткі й сёньняшні стан скарыназнаўства на Захадзе».

У часе канфэрэнцыі д-ру Вітаўту Кіпелю як старшыні Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва была ўручаная грамата ўдзячнасьці «За супрацоўніцтва паміж Полацкім Унівэрсытэтам і БІНіМам».

## *Міжнародныя Купалаўскія чытаньні ў Менску*

20–21 кастрычніка ў Менску праходзілі Трэція Міжнародныя Купалаўскія чытаньні, арганізаваныя Дзяржаўным літаратурным музэем імя Янкі Купалы. Асноўнай тэме чытаньняў «Янка Купала — публіцыст» былі прысьвечаныя каля двух дзясяткаў дакладаў навукоўцаў зь Беларусі, Польшчы, Летувы, Расеі ды ЗША. Ва ўступным дакладзе народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выдатна азначыў Купалу як публіцыста, званара-будзіцеля нацыянальнай рэвалюцыі, адраджэньня. Ніл Гілевіч падкрэсьліў трагізм творчага лёсу Купалы-публіцыста, бо гэты бок ягонае дзейнасьці быў забаронены савецкай уладай. «Купала як публіцыст нацыянальнага адраджэньня ня быў ведамы беларускаму народу, беларускаму літаратару, вучню, — вёў Ніл Гілевіч, — а ў гэтым вялізарная шкода нашаму руху, бо мільёны вучняў, праходзячы ў школьных праграмах працэнзураванага Купалу, проста ня ведалі ягоных нацыянальных пачуцьцяў, асьпірацыяў».

Удзельнікі канфэрэнцыі з Амэрыкі сп-ва Зора й Вітаўт Кіпелі выступілі з дакладам і ўспамінамі. Даклад Вітаўта Кіпеля быў прысьвечаны тэме «Успрыняцьцё Я. Купалы ў дыяспары». Дакладнік азнаёміў канфэрэнцыю з купалаведнымі працамі на Захадзе, падкрэсьліўшы, што беларуская эміграцыя ніколі не прымала савецкага пагляду на Купалу, што пясьняр, маўляў, пагадзіўся з савецкай уладай.

Сп. В. Кіпель сказаў, што эміграцыя глядзела на Купалу як на зьняволенага ўладай, а на ягоную творчасьць савецкага пэрыяду як на *некупалаўскую*.

Сп-ня З. Кіпель падзялілася ўспамінамі зь дзяцінства, калі яе мама, Апалёнія Раткевіч, працавала выхавальніцай у дзіцячым садку. Кіравала садком жонка Я. Купалы, сп-ня Ўладзіслава Луцэвіч — цёця Ўладзя, як яе называлі дзеці, а сам садок знаходзіўся амаль на тым

самым месцы, дзе цяпер музэй Янкі Купалы. З. Кіпель асабліва падкрэсьліла мамэнт, які ўрэзаўся ў памяць дзіцяці, як аднойчы цёця Уладзя й Апалёнія Раткевіч (мама З. Кіпель) вельмі плакалі. Было гэта недзе ў 1931—32 годзе, якраз калі Купала быў «у апале». Іншая цікавая дэталь з тых дзіцячых часоў: Зора, бываючы ў Купалавым доме, вельмі любіла гуляць з каляровымі каменьчыкамі, якія Янка Купала прывозіў зь мясьцінаў адпачынку, курортаў. Штуршком да ўспамінаў З. Кіпель былі фатаграфіі дзіцячага садка, якія перахоўваюцца ў музэі Янкі Купалы.

У часе канфэрэнцыі ў музэі дзеялі й карысталіся вялізарным посьпехам некалькі выставак, сярод якіх асабліва выдзялялася экспазыцыя, прысьвечаная беларускай Вільні.

## 75-годзьдзе Нацыянальнае Бібліятэкі

23—24-га кастрычніка Нацыянальная Бібліятэка Беларусі сьвяткавала свой 75-гадовы юбілей. Адзначэньне было заплянаванае вельмі шырака й прайшло сапраўды ўдала. Найперш у тым самым часе адбывалася міжнародная навукова-практычная канфэрэнцыя на тэму «Бібліятэка ў сучаснай інфармацыйнай прасторы». У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел бібліятэкары ды ўрадоўцы розных культураведных і адукацыйных установаў з больш як дзясятка краінаў. Ньюёркскую публічную бібліятэку рэпрэзэнтавала З. Кіпель, а Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва д-р В. Кіпель. Прадстаўнікі ЗША зачыталі два даклады: З. Кіпель — «Бібліяграфія беларускае дыяспары», а В. Кіпель — «Беларускія кнігазборы ЗША: публічныя, дасьледчыя, спэцыяльныя й прыватныя бібліятэкі».

Апрача працоўнае канфэрэнцыі, у Бібліятэцы былі наладжаныя выстаўкі, паказаны дакумэнтальны фільм з гісторыі Бібліятэкі. У гэты-ж час у горадзе праходзіла прэм'ера новае гістарычнае п'есы А. Дударава «Князь Вітаўт» ды іншыя мерапрыемствы. Юбілей Нацыянальнае Бібліятэкі быў зладжаны вельмі ўдала, за што належыць падзякаваць арганізатарам ды кіраўніцтву Бібліятэкі.

*«Беларус», № 448, кастрычнік-лістапад 1997*

# ДЗЁННІКІ

## 1978

1 ліпеня 1978 году. Мой дзень нараджаньня. Сёньня 51 год: на тутэйшыя меркі і не так шмат. Даўно думала пачаць дзёньнік. Часта радзілася зь Вітаўтам. Весьці дзёньнік — пужае сыстэматычнасьць*. Аднак думаеш узяць сябе ў рукі. Вітаўт неяк сказаў, што натаваць, хоць кароценька, грамадзкае жыцьцё, мінімум асабістага. Паспрабую. Пагатоў, што ўчора выйшла з бібліятэкі ў краму «Ад джобс» і купіла запісную кнігу-кніжышчу-каляндар. Праўда, думаю сабе, што калі нават і ня ўсё запішу, але нешта запішацца, застанецца. Разумею Вітаўта, чаму ён так націскае на грамадзкае, на дэталі. Ён увесь час зьбірае матар'ялы пра беларусаў Амэрыкі, а гэта даецца цяжка. Як ён кажа — прыехаў амаль мільён беларусаў, а сьлядоў беларускіх амаль не пакінулі. А цяпер яшчэ дайшлі нашыя паездкі з «Этнік Коунсл» для зьбіраньня «вусных гісторыяў» — і гэта дадае ахвоты-абавязку, хоць нешта занатоўваць, тое, што не пападае ў газэты. Ну, як бы там ні было, а «сшытак-каляндар» купіла (зь вялікай скідкай, бо ў паўгодзьдзі!), дык тое-сёе запішу.

---

* *Да гэтага часу мела «каляндарыкі» — запісвала важнейшыя сустрэчы-спатканьні, але ў маленькія каляндарныя клетачкі тое-сёе натавала — для памяці.*

*Найперш перапішу тое, што было запісана збольшага ў каляндарык.*

*Ад студзеня 1978 устанаўліваю — перапісваю з календара:*

У першых днёх 1978 году ў вузкім коле сяброў: Ян Запруднік, Ала Рамана, Васіль і Галіна Русакі, Надзя Кудасава, а таксама быў Фрэд Вэк (загадчык этнічных фэстываляў штату) мы дыскутавалі справу: ці будзем сёлета ладзіць чародны фэстываль, ці год прапусьцім? Вырашылі — прапусціць, а энэргію накіраваць на іншыя праекты. Я, найперш, пастанавіла скончыць і выдрукаваць «Даведнік нацыянальных арганізацыяў штату Нью Джэрзі». Вітаўт мае шмат незакончаных справаў у БІНіМе, а таксама працуе зь іншымі нац. групамі, ды вырашылі больш урачыста адзначыць 60-я ўгодкі Абвешчаньня БНР — усё гэта вымагае вельмі шмат працы. Таму «чароднасьць» фэстывалю вырашылі «прапусьціць».

## Панядзелак 9 студзеня

*У першых днёх студзеня.* Быў д-р В. Тумаш. Абмяркоўвалі бібліяграфію Скарыніяны. Зрабілі запрос у «LC» на некаторыя недастаючыя ў нас (NYPL) кнігі.

---

*Як ведама, д-р Вітаўт Тумаш пачаў апрацоўваць бібліяграфію Скарыніяны ў 1940-х гадох. Пачынаючы ад 1960-х ён рэгулярна прыходзіў у Ньюёркскую публічную бібліятэку, апрацоўваў бібліяграфію і, бадай, штотыдня мы зь ім бібліяграфічныя «знаходкі» абмяркоўвалі. Эвэнтуальна, калі д-р В. Тумаш у 1982 годзе захварэў, бібліяграфію «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны» мы з Зорай давялі да друку й выдрукавалі ў 1989 годзе.*

## Серада 11 студзеня

Вітаўт паехаў з Каміль[1] у Trenton. Было паседж. NJ Ethnic Council[2].

---

[1] *Каміля Гук-Смародзкая — украінская дзяячка, жыла таксама ў Рутэрфордзе, і часта на паседжаньні Рады мы езьдзілі разам.*

[2] *Ethnic Council — Дарадчая рада губэрнатара па справах нацыянальнасьцяў штату (па-над сто нацыянальнасьцяў) — я быў старшынём Рады ў 1978—1982.*

## Субота 14 студзеня

Nestor[1]

Былі на вясельлі ў Steve Richer — дарадчык губэрнатара Брэндана Бэрна[2]. Быў на вясельлі і губэрнатар — адзін з галаўнейшых гасьцей. Была нагода добра пазнаёміцца і пагутарыць з губэрнатарам. Запрасіў ён на прыватнае спатканьне.

Вясельле было сапраўды ўдалае, а мы былі ганаровыя, бо неаднойчы ў тостах прыпомнілі і Беларусаў ды Беларусь.

Стывэн Рычэр — яўрэйскага паходжаньня. Расказаў, як стаўся «Richer». Дзед ягоны з «Овруча» (Украіна), у часе эмігр. працэсу сказалі: ты будзеш «Richer», Овручер — Obrucher — Richer. Дзед не пратэставаў.

Адзначылі бабчын[3] дзень народжаньня — 74 гады. Рэдагавала артыкул, які пасьля перадала Тому Бэрду. Айцец Надсон прыклаў патрэбныя артыкулы. Апошняя карэкта артыкулу: Беларусы ў Нью Джэрзі.

---

[1] *Аўген і Маня Нэстары (Несьцяровічы) — нашыя сябры, грамадзкія дзеячы. Жылі ў штаце Нью Ёрк і адзін-два разы на год мы іх адведвалі.*

[2] *З губэрнатарам Брэнданам Бэрнам у нас з Зорай склаліся вельмі прыяцельскія дачыненьні — мы бывалі ў ягонай хаце, ён часта ўспамінаў беларусаў, а падушку, якую яму падаравала Галіна Бахар (а зрабіла матушка В. Лапіцкая), губэрнатар заўсёды меў у сваім службовым аўтамабілі на відоку! Гэтая падушка трапіла ў вочы і журналістам.*

[3] *Бабка — Марыя Кіпель, 1904—1992, жыла разам з намі.*

## Нядзеля 15 студзеня

Ялінка[1]

New Brunswick

Паехала да мамы[2]. Шмат чаго зрабіла. Пазваніла ў Melville[3] — беларусцы, што будзе магчымасьць наладзіць этнічны выступ у Glassboro Colledge[4].

---

[1] *Як звычай, сп. Васіль Стома рыхтаваў мастацкую частку зь дзецьмі, а Зора*

*яму дапамагала ў выбары пастановак-п'есаў. Ялінкі бывалі пры царкве БАПЦ Маці Божай Жыровіцкай у Гайлэнд Парку, але паколькі парафія пачыналася ад Нью Брансуіку (горад праз рэчку), то па-старому казалася «у Нью Брансуіку».*

*[2] Зорына мама — Апалёнія Савёнак, 1901—1982, жыла ў сваёй хаце каля гораду Атлянтык Сіты, прыблізна за 150 км ад нас. Кожную суботу й нядзелю Зора бывала ў маці, часта прывозіла яе да нас. Маці хацела заставацца ў сваёй хаце і не згаджалася пераяжджаць бліжэй да нас.*

*[3] Мэльвіль — горад на поўдні штату Нью Джэрзі.*

*[4] Glassboro College — цяпер Унівэрсытэт Роўана на поўдні штату Нью Джэрзі. Часта там ладзіліся фэстывалі, у якіх беларусы бралі ўдзел, а мы дапамагалі інфармацыйнай літаратурай пра Беларусь.*

**Субота 28 студзеня**
Heritage Ball

---

*Heritage Ball — гадавыя балі нацыянальнасьцяў штату. Адбываліся ў розных гарадох. Кіраўніком беларускага ўдзелу — продажу білетаў, выступаў — заўсёды была мастачка Ірына Рагалевіч-Дутко. На гэтых балях беларусы адзначаліся парадам беларускіх народных касьцюмаў і выступамі танцавальных гурткоў.*

**Нядзеля 19 сакавіка**
South River
Exhibit.

---

*Адчыненьне 5-ай гадавой мастацкай выстаўкі ў Саўт Рывэры. Заўсёды падганяецца пад Сакавіковае Сьвята.*

**Панядзелак 20 сакавіка**
Wash.
Сакавік.

---

*Падрыхтоўка да адзначэньня 25 Сакавіка ў Вашынгтоне. Зора была адказная за невялічкую выстаўку друку.*

**Серада 22 сакавіка**
Ethnic Congress

---

*Зьезд прадстаўнікоў нац. групаў штату: каля 90 асобаў. Я даваў агляд дзейнасьці беларусаў.*

**Пятніца 24 сакавіка**
Адзначалі 25 Сакавіка ў Вашынгтоне, 310 First Street каля Капітоля. У будынку гал. кв. Рэсп. партыі. Было сабрал. добра каля 100 хх Гал. прамоўца быў сэн. B. Doll.

**Чацьвер 30 сакавіка**
Vitaut
Cleveland

---

*Я быў у Кліўлендзе, чытаў даклад аб 25 Сакавіка.*

**Пятніца 31 сакавіка**
Farma

---

*Зора езьдзіла да мамы, зрабіла ёй закупы, прывезла ад яе некалькі вышыванак для выставак.*

**Нядзеля 2 красавіка**
25 сак.
Biltmore

---

*Адзначэньне 25 Сакавіка ў Нью Ёрку ў гатэлі Білтмар. Зора арганізавала невялічкую выставу эмігранцкага друку.*

**Нядзеля 9 красавіка**
End exhibit.
S. River

---

*«Разьбіралі» выстаўку бел. мастакоў замежжа. Зора забрала свае экспанаты.*

**Аўторак 11 красавіка**
Governor's Ethnic Council

---

*Я паехаў на паседжаньне Этнічнай Рады ў Ігэлтон Інстытут у Нью Брансуіку.*

**Нядзеля 16 красавіка**
Shower for Halina T.

---

*Вечарына даваньня падарункаў для Галіны Тумаш — ейнае вясельле будзе ў пачатку травеня.*

**Субота 22 красавіка**
Directory
Nestors

---

*Ішла поўным тэмпам праца над даведнікам пра нацыянальнасьці штату Нью Джэрзі. Зора перачытвала матрыцы пасьля перадруку машыністкі.*

**Серада 26 красавіка**
Cook book Committee

---

*Зборка ў Цэнтры мастацтваў у справе падрыхтоўкі кнігі «Кулінарыя нацыянальных кухняў».*

**Чацьвер 27 красавіка**
*У Garden State Arts Center адбылося паседжаньне прадст. нацыянальнасьцяў і быў створаны Камітэт для напісаньня кніжкі аб «этнічных» стравах кухні штату N.J. Зора была абраная як адна з старшыняў. Старшыня галоўны — нарвэжац. На наступную зборку даць узоры рэцэптаў.*

---

*Частка зь беларускімі кулінарнымі рэцэптамі ў заплянаваную кнігу была падрыхтаваная Зорай. Кніга мелася быць надрукаваная, але... старшыня камітэту —*

*нарвэжац — раптоўна памёр. Кніга не была выдрукаваная, але Зорына частка перш была выдадзеная ў 1976 годзе, перад 1-ым беларускі фэстывалем; 8 старонак, раздавалася бясплатна.*

### Субота 29 красавіка

Раніцай езьдзілі на Ellis Island. Д-р Тумаш атрымаў Ellis Island Award[1]. Вельмі прыгожая пагода. Было вельмі прыемна — людзей магло быць болей.

Пазнаёмілася з нейкай — Pres. of Internat. Institute of Jersey City.

Рабіла валасы.

Рыхтавалася да Вялікадня.

Вітаўт паехаў у Царкву (Brooklyn)[2], завёз сьцяг, які я пашыла пару дзён таму.

Чакала ўсіх дамоў (дзяцей, Вітаўта і гасьцей). Пераваяла гадзіньнікі.

---

*[1] Гэтая ўзнагарода была запачаткаваная д-рам Пітэрам Самартына, канцлерам Унівэрсытэту Фарлея Дыкенсана. Узнагарода была «жывая» да сярэдзіны 1980-х гадоў.*

*[2] Сабор Кірылы Тураўскага.*

### Нядзеля 30 красавіка

Вітаўт прыехаў пасьля 3-яй. Нэстары трохі раней. Паклаліся спаць — Нэстары наверсе ўсе разьмясьціліся. Юра прыехаў пасьля 5-ай — прастаяў цэлую службу, але не спавядаўся.

Паспалі да нейкай 8-ай. Пачала прыгатоўваць разгаўленьне.

Падчэквалі Алесю, яна прыехала пасьля 11-ай (забылася, што пераявлі гадзіны).

Добра паелі, усё было смачнае (мяса сьвіное і бараніна, кілбасы — беларуск., польск. і нямецкая адвараная, купленая раней ад Матушкі Войтанкі — вельмі добрая).

Было ўсё прыемна й прыстойна. Нэстары паехалі пасьля 5-ай. Дзеці хутка пасьля іх. Набралі з сабой яды. Алеся ўзяла нашу машыну. Мы вечарам спакойна адпачывалі.

### Панядзелак 1 траўня

Прынесла на работу макаўку. Абяцала Mr. Arg.[1] рэцэпт. Усім, як заўсёды, макаўка спадабалася.

Купіла панчохі (12 пар). Доўга чакала ў магазыне — яны страшэнна марудныя ў Lynn Bryant. Розныя дробязі ў Old Jobbers (гэты дзёньнік). Кнігі для Алесі (Am. intervention in Russia (Archangelsk))[2] на паліцы няма. Mid. Manh. зусім няма. Вітаўт будзе пытацца ў Радыё і ў Columbia. Знайшла нарэшце кнігу праз S. L. у другім мейсцы (новае выданьне). Старая мусіць прапала.

Пазнаёмілася з Mrs. Roswhiller[3] (?). Яна прыехала у нашую біб. па-

працаваць. Ліст з малюнкамі Ірэны[4] для Directory ад Crowbey, мне падабаецца адзін з арнамэнтам, яму іншы. Паехалі да Алесі ў Princeton, завезьлі кніжку й яе машыну — забралі сваю. Былі у Firestone Library. Я знайшла сабе Runkevich'a. Вітаўт таксама нешта.

---

[1] *Д-р Аргасінскі — калега, бібліятэкар. Атрымаў адукацыю ў Віленскім ун-це, быў добра азнаёмлены зь беларускай справай. У вайну быў у арміі ген. Андэрса.*

[2] *Алеся ў Прынстане рыхтавала сэмінар аб амэрыканскіх высадках у Архангельску падчас Першай сусьветнай вайны. Зора дапамагала шукаць неабходную літаратуру.*

[3] *Выкладчыца ў Прынстане. Ейная доктарская тэза была пра пабудову «Днепрагэсу». У лекцыях шмат гаварыла пра Беларусь. Зора дапамагала ёй зь літаратурай.*

[4] *Ірэна Рагалевіч афармляла вокладку для даведніка пра нацыянальнасьці штату, які апрацавала Зора.*

**Аўторак 2 траўня**

Прыехалі на работу на машыне.

Прыйшоў сп. Ул. Дутка. Прынесла яму дзьве кніжкі, дзе ёсьць казацкія песьні. Аказваецца, ён іх ужо меў запісаныя раней. Ён шмат мае ўжо сабранага.

Ехалі дахаты разам з Дуткам. Трафік вялікі.

---

*Уладзімер Дутка, родам са Снову, наш сусед і сябра. Апрацоўваў каляндар народных прыкметаў Беларусі. Зьбіраў і аналізаваў беларускія вайсковыя песьні. Мы яму шмат дапамагалі ў пошуках старых тэкстаў; песьняў.*

**Субота 6 траўня**

Зьбірала матар'ял для выстаўкі. Раніцай паехалі ў Jersey City на канфэрэнцыю й выстаўку[1]. Выстаўку арганізавала хутка. Як толькі было можна, пайшла на канфэрэнцыю. Пазьней прыйшоў сп. П. Драздоўскі[2]. Ён шмат дапамог сваёй прысутнасьцю.

Даклады мне не надта спадабаліся. Нічога, што ўжо й так ведала, нават Michael Novak, хоць і добра гаварыў, але ўсё гэта паўтарэньне. Вітаўт быў на панэл, як прадстаўнік Ethnic Council.

Прыехала Алеся. Прывезла маму. Вечарам паехалі на вясельле Галіны Тумаш. Усё было вельмі ўрачыста й прыстойна. Толькі за сталом ужо трохі быў непатрэбны інцыдэнт з Пашкевічамі наконт картаў, граніцаў[3]. Сядзелі каля стала сям'і, але таксама й каля аркестры. Оля надта наракала на шум. Тумаш усё падбягаў да нас. Танцавала пару танцаў зь ім. Алеся, здаецца, добра чулася, хоць хлопцаў было мала. Даехалі добра.

---

[1] *У горадзе Джэрзі Сіты Каледж Сьв. Пятра арганізоўваў канфэрэнцыю на тэму «Этнічнасьць: традыцыі, звычаі».*

[2] *П. Драздоўскі — беларускі актывіст у Джэрзі Сіты.*

[3] *Інцыдэнт паміж мной і Пашкевічамі адносна Вільні. Пашкевічы абурыліся, калі я выказаў погляд, што трэба быць больш рэалістычнымі ў нашых апэтытах.*

**Нядзеля 7 траўня**

Рана пасьнедалі. Паехалі на двух машынах у цэрквы. Вітаўт з маці. Мы з Алесяй і мамай[1].

Пасьля царквы на могілкі[2]. Паставілі букеты кветак, што мама прывезла з фармы.

---

*[1] У Бруклін: я з маці ў царкву Сьв. Кірылы Тураўскага (Рычманд Гіл), Зора з Алесяй і мамай у сабор Кірылы Тураўскага на 401 Atlantic Ave.*

*[2] Беларусы на эміграцыі асабліва падтрымоўвалі традыцыі памінаньня: Дзяды, Радуніца. Гэтым разам — Радуніца, калі на могілках адбываецца памінаньне.*

**Серада 10 траўня**

Guest from England

---

*Гасьцяваў Джэймс Дынглі з жонкай з Ангельшчыны.*

**Пятніца 12 траўня**

Nadzia

Arts & Crafts

---

*Былі ў Надзі Кудасавай, пераглядалі экспанаты, рабілі інвэнтар на наступныя выстаўкі.*

**Субота 13 траўня**

BAZA

---

*Сход БАЗА: дыскутаваліся арганізацыйныя справы.*

**Субота 20 траўня**

Пасьнедалі разам. Памыла бялізну сваю. Дзень цудоўны — трохі нават загорача. Быў-бы добры дзень для фэстывалю.

Зрабіла завіўку. Яна памылкова ўжыла раствор, які я не хацела — надта сьмярдзіць. Але, здаецца, добра выйшла. Сядзела трохі на двары.

Паехалі да Русакоў. Было вельмі прыемна. Была Ірэна там таксама. Пагаварылі аб Directory, паказала вокладку. Мне ня надта падабаюцца і літары (па крузе), і малюнак (хлопцы надта-ж ужо Ванькамі). Трэба добра будзе ўважаць са Смітам[1]. Была й Надзя з Аўгенам[2].

Пасьля як усе пайшлі — гаварылі аб куплі зямлі[3], аб фэстывалі. Усё было вельмі добра. Забалеў, праўда, жывот. Цэлую ноч мучылася. Ды яшчэ надта-ж у іх сьмярдзіць жывёламі[4]. Я нават думала, што гэта завіўка — але не. Прыехалі дамой па 7-ай.

---

*[1] Плянавалася, што Ірэна зробіць ілюстрацыі да артыкулу.*

*[2] Кудасавы.*

*[3] Галіна Русак увесь час праводзіла думку, каб купіць зямлю, а потым збудаваць дом-музэй.*

*[4] У Русакоў у хаце жылі каля 5—6 сабакаў. Галіна Русак надта любіла — апекавалася жывёламі.*

**Нядзеля 21 траўня**

Пасьнедалі разам. Праўда атмасфэра была трохі нацягнутая — бо я дрэнна спала, дзеля жывата.

Вітаўт паехаў у Бруклін. Сьвяткавалі 30-годзьдзе БАПЦ.

Юра памагаў мыць кары для Junior Squad[1]. Пасьля паехаў на soccer і да Karen[2].

Я сядзела на двары і чытала «Парэллакс».

Вечарам глядзелі T.V. Было ўсё спакойна, прыемна.

Пазваніла маме. У яе ўсё добра. Трохі баліць правая нага. Была яна ў доктара. Ціск ОК.

---

*[1] Сын Юра належаў да гарадзкога патруля хуткай дапамогі, Junior Squad — маладыя памочнікі хуткай дапамогі.*

*[2] Дзяўчына, зь якой хадзіў Юра.*

**Серада 24 траўня**

*Зборка ў Garden State Arts Center Cook Book Committee. Зора дала ўзор свае брашуры пра беларускія стравы, які ў выглядзе брашуры распаўсюджваўся на розных імпрэзах.*

*Дарэчы, у Камкіных было закуплена каля 20 кнігаў Byelorussian Cuisine выдавецтва Ураджай, і ўсе яны былі раздораныя розным зацікаўленым.*

**Пятніца 26 траўня**

Vitaut

---

*Я апрацавала невялічкую заметку ў англамоўны друк пра даведнік.*

**Субота 27 траўня**

Pittsburg

Farma

---

*Я разам з Ірэнай і Галінай паехаў у горад Пітсбург на зьезд рэспубліканскіх групаў, дзе была таксама мастацкая выстаўка.*

**Нядзеля 11 чэрвеня**

Festival y Middlesex[1].

Усё прайшло добра: і касьцюмы, і выступы, і кухня, і выстаўка.

Я хутка паехала. Прыехаўшы, села на двары й рыхтавалася да рэфэрату[2].

---

*[1] Акруга ў штаце Нью Джэрзі. У акрузе вялікі каледж, які штогод арганізуе фэстывалі. Вельмі добрая рэкляма, тысячы ўдзельнікаў. БАЗА і «Моладзь» выдатна спраўляліся.*

*[2] На тэму працы над даведнікам нацыянальнасьцяў штату.*

**Субота 17 чэрвеня**

Раніцай рыхтавалася да рэфэрату. Схадзіла зрабіць валасы. Зноў рыхтавалася. Неяк ня надта хвалявалася. Вітаўт зьезьдзіў па «Directory».

Рэфэрат прайшоў добра. Я амаль зусім не хвалявалася. Запруднік нават сказаў, што найлепшы рэфэрат у Інстытуце прачытала Зора. Адамовіч спачатку пахваліў, а пасьля трохі зганіў за тое, што размазала, за вялікі размах і за мову. Тумаш нічога неяк не гаварыў. Толькі прадставіў Directory і то даволі холадна. Людзі задаволеныя.

Да Port Auth. ехалі з Русакамі. Не было як пагаварыць. Мне здавалася, што Вітаўт не задаволены. Настрой у мяне быў жуткі пасьля ўсяго. Неяк як бы нешта ня скончана, не задавальняючае. Мусіць зашмат спадзявалася.

**Нядзеля 18 чэрвеня**

Паехала да мамы, каб прывезьці яе да Залеўскай[1] на агляд. Там добра прайшоў час — і па ягады зьезьдзіла й аддыхнула трохі. Прыехалі дахаты добра.

---

*[1] Доктар Ірына Залеўская, сямейны доктар.*

**Панядзелак 19 чэрвеня**

Кніга[1] ў бібліятэцы зрабіла вялікае ўражаньне.

Падаравала кнігу ў Local Hist. of Geneal.[2] Mr. Pohle. Ён пераслаў яе з нататкай «Extremely well done» да Hagden'a, той мяне паклікаў да сябе. Вітаўт падаў вестку ў Staff News.

Дома дзеці купілі торцік. Разам павячэралі.

У мамы вада ў калене. Залеўская дала пігулкі й сказала, каб даць адпачынак назе.

---

*[1] Даведнік нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі, які Зора апрацавала.*

*[2] Аддзел Local History and Genealogy Ньюёркскай публічнай бібліятэкі, загадчык — Gunther Pohl — ведамы амэрыканскі дасьледнік генэалёгіі. Добра арыентаваўся ў шляхецкіх родах ВКЛ. P. Hagden — загадчык аддзелу каталягізацыі НЁПБ.*

**Аўторак 20 чэрвеня**

Алеся завезла бабку[1] дахаты.

Атрымала падзяку ад Бібліятэкі[2].

Алеся прыехала й прывезла ягад.

---

*[1] Зорыну маці.*

*[2] За даведнік.*

**Серада 21 чэрвеня**

Прыйшоў Тумаш. Надта-ж хваліў рэфэрат і наагул мяне. Ня ведаю, ці гэта шчыра, бо па рэфэраце ён нічога надта не гаварыў. Сказаў, каб падаць артыкул у «Запісы».

**Чацьвер 22 чэрвеня**

Юрачка паехаў на адпачынак.

Пазваніў а гадзіне 7-ай, што яны ў бабкі. Нам адлягло, толькі для бабкі трохі накладна.

**Субота 24 чэрвеня**

Вітаўт працаваў. Я схадзіла зрабіць валасы і ў магазын. Трохі парадкавала каля хаты. Адпачывала на двары. Прыехаў Юра. Ён добра адпачыў. Пайшоў ■ 5-ай на працу.

Павячэралі й паехалі у Garden State Arts Center на «Madame Butterfly». Было даволі добра. Прыгожая пагода. Добрая пастаноўка. Час прайшоў прыемна.

Прыехалі позна. Юра быў дома, і Карэн была. Алеся прыйшла пазьней.

**Панядзелак 3 ліпеня**

Vacations

**Чацьвер 6 ліпеня**

Cleveland

---

*Па дарозе ў Чыкага заехалі ў Кліўленд, каб сустрэцца з д-рам М. Папам, савецолягам на ўнівэрсытэце Джона Кэрала ў Кліўлендзе. Рыхтавалася канфэрэнцыя, мы меліся браць удзел.*

**Панядзелак 10 ліпеня**

Chicago

---

*Гадавая канфэрэнцыя ALA (American Libraries Association). Мы з Зорай увахodзілі ў гэтую арганізацыю. Бралі ўдзел у дакладзе «Як набываць кніжкі з рэспублікаў СССР».*

**Аўторак 11 ліпеня**

Back

---

*Пару дзён ехалі назад.*

**Чацьвер 13 ліпеня**

Farma

---

*Паехалі на фарму да мамы.*

**Серада 2 жніўня**

Trenton

---

*Зборка ў Трэнтане наконт удзелу нацыянальных групаў у фэстывалі восеньню.*

**Панядзелак 7 жніўня**

Селі на Scarsdale diet[1]. Зусім не цяжка трымацца, нават цікава й прыемна.

Раніцай важылі: Зора 164, Віт 223.

---

[1] *Дыета строгая бяз хлеба.*

**Субота 12 жніўня**

Езьдзілі на фарму.

Прыехалі, перакусілі, трохі аддыхнулі й паехалі ў рыбу. Спачатку у Mays Landing[1]. Там было вельмі прыемна, але не клявала. Нічога не злавілі.

Паехалі на 9-ую дарогу. Там было шмат мушак, шмат партарыканцаў — было зусім не прыемна. Нічога не злавілі.

Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Гарадок Mays Landing на поўдні штату Нью Джэрзі. Там невялічкая рачулка, якая ўпадае ў Атлянтычны акіян, вельмі рыбная. Славяне любяць гэтае месца.*

**Нядзеля 13 жніўня**

Зьезьдзілі па ягады[1] да Калодкі[2]. Назьбіралі поўную банку, хоць і было вельмі душна й сыра. Вітаўт цэлы час гаварыў з Калодкам пра першых эмігрантаў.

За ягады яны нічога не ўзялі.

Набралі ў мамы памідораў. Паехалі дахаты ня позна.

Купілі пічэсы[3] па дарозе ў Hammonton.

Заехалі да Юрачкі. Аддалі яму ягады, пічэсы, памідоры.

Вечарам добра разам павячэралі.

Вікэнд прайшоў вельмі прыемна.

---

[1] *Ягады: зьбіраньне чарніцаў, якія ў Амэрыцы растуць высокімі кустамі.*

[2] *Калодка — стары эмігрант, я зь ім часта рабіў гутаркі — уласьнік фармы з чарніцамі.*

[3] *Персікі.*

**Панядзелак 4 верасьня**

Селі зноў на дыету.

Я важыла 156 раніцай.

**Аўторак 5 верасьня**

Дзень прайшоў у парадкаваньні і мыцьці, шыцьці і падобнае. Юрачка зьбіраўся ў школу [*унівэрсытэт*]. Ён быў цэлы дзень на службе[1], а я зьбірала яго.

Паехаў у школу. А я паехала спатыкаць Вітаўта з Канады. Завезьлі Юлю і Шукелойця у Нью Ёрк.

Трохі яшчэ адпачылі дома.

Вітаўт расказваў пра Таронта. Было слаба арганізавана, але ён шмат каго пабачыў і перагаварыў. Аддаў [*недапісана*]

---

[1] *Недзе падрабляў.*

**Серада 6 верасьня**

Хадзілі з Dingley's[1] and Thom. Bird[2] у Princeton Club на абед. Былі й сп. Тумаш, Адамовіч і Запруднік.

А 3-яй прыйшоў Анатоль[3]. Прывёз цудоўную спадніцу-андарак са Случчыны з пач. XX ст. Надзвычайна прыгожая і каларытная. Таксама прынёс 3 кніжкі. Абяцаў яшчэ больш кніжак і збанкі. Ён быў вельмі прыемны й прыхільны. Спадніца спадабалася нават і Тумашу. Алеся таксама яе ацаніла.

Дзень быў вельмі суетлівы й заняты, але спорны й цікавы. Людзі пачынаюць заўважаць, што [redacted] пахудзела.

---

*[1] Джым Дынглі з жонкай.*

*[2] Том Бэрд.*

*[3] Анатоль Міхайлаў, пазьнейшы рэктар Эўрапейкага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту ў Менску (пазьней у Вільні). А. Міхайлаў працаваў у адным з камітэтаў ААН як прадстаўнік БССР. У нас зь ім склаліся вельмі прыязныя дачыненьні. Праўда, ён гаварыў па-расейску, але быў пераканаым антыкамуністам. Тым летам, калі ён ехаў у адпачынак, Зора папрасіла яго прывезьці пару аўтэнтычных рэчаў зь Беларусі для выставак. З дапамогай В. Церашчатавай А. Міхайлаў такія рэчы набыў і прывёз. Зора выстаўляла іх сотні разоў, і тыя рэчы былі выдатныя для «беларускай прапаганды», як прыкладам ручнік зь Неглюбкі ці андарак са Случчыны.*

**Панядзелак 25 верасьня**

George's B-day
Princeton
Restaurant

---

*Адзначылі дзень народзінаў Юры ў адным з рэстаранаў у Прынстане. Алеся арганізавала.*

**Субота 30 верасьня**

Vit. Washingt.

---

*Я быў у Вашынгтоне ў штаб-кватэры рэспубліканцаў. Рыхтаваліся выбары. Меліся быць зробленыя беларускія жэтоны.*

**Пятніца 13 кастрычніка**

Vitaut AAASS

---

*Гадавая канфэрэнцыя славянаведаў у Калюмбусе, штат Агаё. Я чытаў даклад.*

**Панядзелак 16 кастрычніка**

Vitaut back

**Серада 8 лістапада**

Kasmovich

---

*У ЗША гасьцявалі Надзя і Зьміцер Касмовічы. Цікава абмяняліся думкамі.*

**Субота 2 сьнежня**

Maryland

Went off

---

*Канфэрэнцыя ў Балтымары. Беларуская дэлегацыя была вялікая, было зачытана некалькі дакладаў. Зора і Ірэна Рагалевіч падрыхтавалі выстаўку.*

**Нядзеля 3 сьнежня**
At 7: pm.
Art exhibit.

**Субота 9 сьнежня**
Church
Folk Art Exh.

---

*Бралі ўдзел у канфэрэнцыі «Этнічнасць у гуманістычнай пэрспэктыве» Гістарычнага таварыства штату Нью Джэрзі. Зора падрыхтавала выстаўку.*

## *1979*

*У 1979 годзе ў Зоры быў невялічкі каляндарык, дзе адзначаліся некаторыя падзеі з кароткімі анатацыямі, і якія не былі адзначаныя ў дзёньніку.*

*Падзеі з каляндарыка — улучаныя ў тэкст.*

**Пачатак 1979**

*У самым першым тыдні група нас: я, Я. Запруднік, В. і Г. Русакі сабраліся ў Саўт Рывэры, арганізавалі зборку М. Бахар і В. Цярпіцкі, і вырашылі, што будзем арганізоўваць Трэці Фэстываль у Цэнтры мастацтваў.*

**Субота 6 студзеня**
N. J. Historical Society, Newark, NJ

Падрыхтавана выстаўка «Італьянцы ў NJ». Вітаўт, Steven Richer[1] і я — запрошаныя на адчыненьне.

Steven сказаў аб ягоных дасьведчаньнях з італьянцамі, а Вітаўт зрабіў прамову «Блізасьць псыхалягічная паміж італьянцамі і беларусамі». Выйшла вельмі ўдала.

---

*[1] Stephen Richer — блізкі сябра. Быў дарадчыкам у губэрнатара Brend'a Byrne. Потым Дырэктар Бюро Турызму штату NJ. Скончыў Princeton, быў кір. Дэмакратычнай партыі ў акрузе Moristown, NJ. Мы былі сапраўды блізкімі сябрамі. Дзякуючы яму выйшла кніга «NJ Ethnic Experience», 1979. «Richer» — паходзіць ад дзеда «Обручэр» — яўрэй з Обруча, быў пры ўезьдзе ў ЗША перайначаны на «Richer».*

**Субота 17 лютага**
Паніхіда па Круцько[1].

---

*[1] Бацька сп. Галіны Харавец. Жаўнер БКА. Адседзеў 10 гадоў. Я праз сэнатараў хацеў сьцягнуць яго ў ЗША паводле параграфу «Злучэньне сем'яў». За Круцько ста-*

*роліся кангрэсмэн Эд Дэрвінскі, сэнатар Робэрт Доўл ды іншыя. Не дазволілі, бо сказалі ў СССР — Круцько быў засуджаны па крымінальным кодэксе. Злоўлены ў лесе як партызан — ■ гэта бытавое!!! Тым часам Круцько зачасна памёр.*

**Субота 24 лютага**

Этнічны баль у горадзе Эдысон, NJ. Наша група была вельмі вялікая і ўдалая. Было аб'яўлена грамадзтву, што Беларусы сёлета будуць мець «Беларускі Фэстываль».

**Нядзеля 25 лютага**

Дзень нашага вясельля [*1956*]. Адзначылі разам зь дзецьмі паездкай у Тэатр у Нью Ёрк. Выдатная п'еса «Front page» — жыцьцё рэдакцыі ў чыкагскай газэце. Сюжэт нам блізкі. Вельмі цікава. Ігра артыстаў была цудоўная!

**Нядзеля 18 сакавіка**

S. River Exhibit

---

*Былі на адкрыцьці чароднай выстаўкі.*

**Пятніца 23 сакавіка**

Vitaut Cleveland

---

*Я езьдзіў у Кліўленд, чытаў даклад аб 25 Сакавіка.*

**Панядзелак 26 сакавіка**

Vitaut back

---

*У Кліўлендзе меў сустрэчу з праф. Карлам Бануты — загадчыкам катэдры эканомікі Кліўлендзкага ўнівэрсытэту — у справе падрыхтоўкі кнігі «Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Чацьвер 29 сакавіка**

Fest. meeting

---

*Першае пасяджэньне Фэстывальнага камітэту ў Саўт Рывэры.*

**Нядзеля 1 красавіка**

Былі ў царкве ў Richmond Hill на сьвяткаваньні Сакавіка. Вітаўт чытаў рэфэрат. Добры. Тэма асноўная: аналіз падзеяў перад Сакавіком, Сакавік і пасьля Сакавіка. Новыя дадзеныя пра збройныя змаганьні па Беларусі перад Сакавіком — тэза, што народ беларускі змагаўся за незалежнасьць. Гаварыла з сп. Станкевіч пра «Вясельле».

Ехалі дзвюма машынамі. Было пару камічных мамэнтаў — перагаворваліся знакамі — Вітаўт паказвае на галаву і пасьля на рот, што мела значыць забыліся мёд для сп-ні Орсы. Я зразумела што «трэба думаць, а не балтаць» (мы ехалі з М. В. і гаварылі, і я ў пару мейсцах пераехала ~~жоўтае~~ амаль чырвонае сьвятло, каб не разлучыцца з Вітаўтам).

Пасьля царквы ехалі яшчэ адзін за адным да выезду на Turnpike. Пасьля разлучыліся, развіталіся каля Toll (вельмі рамантычна), і я па-

ехала у South River, а Вітаўт у Cherry Hill на канфэрэнцыю (Governor's Conference on Librarianship).

У Саўт Рывэры я забрала свае рэчы з выстаўкі. Ужо як я прыехала, было амаль усё разабрана. Тамара ужо была паехаўшы, так што мы й не пагаварылі.

Купіла ў Люды Махнюк карціну за $40 (яна заве «Ульяніца»).

Прыехала дадому а 7-ай. Алеся яшчэ была дома. Забрала машыну і паехала хутка ў Princeton.

Вечар прайшоў спакойна. Вітаўт пазваніў пазьней. У Нью Brunswick (як маніўся раней) ужо не паехаў, бо позна затрымаўся на канфэрэнцыі.

**Панядзелак 2 красавіка**

Вітаўт на канфэрэнцыі. У абед паехалі ў Trenton. Захаладала, а ён без плашча.

У Трэнтане было абвешчаньне «Ethnic day» для Ironbound, Newark[1].

---

[1] *Ironbound — раён гораду Ньюарк, населены партугальцамі, каля ста тысячаў чалавек.*

**Серада 4 красавіка**

7 p.m. Езьдзілі на зборку «Ethnic Museum»[1]. Добра прайшла. Вітаўт унёс добрую прапанову, каб выбіраліся у Board of Directors на 5, 4, 3, 2 ... гады незалежна ад велічыні этнічнае групы (як было вырашана імі раней), але каб прадстаўнікі большых этнічных групаў былі заўсёды ў Board. Вялікая дыскусыя была аб «Permanent members» — Галіна і Dora Rak[2] — супраць. Вырашана, што 5 гадоў гэта максымум. Пасьля зборкі заехалі да Русакоў. Вітаўт з Васілём упарадкавалі білеты й адрасы. Я памагала Галіне адрасаваць рэкляму на яе выстаўку. Вітаўт узяўся занесьці рэкляму на пошту ў Brooklyn.

Назад едучы заехалі да Юрачкі. Перадалі яму грошы й ягады, што купілі ў Нью Ёрку. Было ўжо позна, але ён быў вельмі задаволены.

---

[1] *Паўстала думка, каб арганізаваць у штаце спэцыяльны «музэй нацыянальнасьцяў». Этнічная рада займалася доўгі час гэтым праектам, аднак штатнае Міністэрства адукацыі гэтую справу ўзяло ў свае рукі і... справа паступова заглухла.*

[2] *Прадстаўніца ўкраінцаў.*

**Чацьвер 5 красавіка**

Вітаўт панёс Галініну «дрэнь» на пошту — не прынялі, трэба нейкую спэцыяльную пячатку. Вітаўт вельмі злаваўся. Парваўся ў яго мяшок, усё раскідалася. Пакінуў у бібліятэцы. Па дарозе дахаты пасварыліся. Надта-ж шмат клопатаў, справаў, нэрваў. Пачынае ўжо здорава надакучаць.

**Пятніца 6 красавіка**

Засталася дома, каб купіць Алесі машынку пішучую. Раніцай зьезьдзілі з М. В. у банк па грошы, у Passaic. Купілі панчохаў. Зьмяніла

Алесьцы ланцужок на гадзіньнік. Купілі прадуктаў (але на $50 зь лішнім). Толькі ўехалі на двор — Юра за намі. Завезьлі яго машыну да Collens — паправіць тармазы.

Купілі Алесі машынку — Smith Corona — электрычную — $270. Гэта ўжо ў лік «Graduation Gift». М. В.[1] дасьць $100, мама $50.

Купілі мне Filing[2] — $60. Цяпер ■ ўжо прывяду свае паперы ў парадак. Юра паехаў пад бібліятэку за Вітаўтам. Заехалі да *Soho 20*[3] па пячаткі, паехалі на пробу танцаў. Перадалі Алесі машынку і гадзіньнічак. Яна ўжо будзе пачынаць друкаваць сваю тэзу.

---

[1] *М.В. — Марыя Васілеўна Кіпель, маці Вітаўта.*
[2] *Filing cabinet — куфэрак з альфабэтнымі перагародкамі.*
[3] *Галерэя ў Нью Ёрку.*

**Субота 7 красавіка**

Вітаўт паехаў у South River на паседжаньне Кангрэсовага Камітэту. Юрачка паехаў разам зь В. у школу. Машына ягоная яшчэ не гатовая.

Я парадкавалася ў хаце з паперамі — filing. Пазванілі, што прывезены кавёр — але забраць не ўдалося. Вітаўт прыехаў позна.

Паседжаньне зацягнулася, было даволі бурнае[1], Вітаўту было пару прыкрых мамэнтаў, асабліва ад Сіцько. Білеты яны не надта ахвочыя браць — тут Бахар заняў не цікавае становішча. Вітаўт быў не задаволены з паездкі. Пасьля зборкі заехаў да Васіля. Адтуль пазваніў, што выязджае. Прыехаў позна. Праблемы з забавамі, Мартыновічам, ну й зь білетамі.

Вітаўт прывёз Рэкляму новую[2] — добра выйшла.

---

[1] *Дыскутавалася справа продажу білетаў на фэстываль. Аднавіліся старыя «балячкі»: «крывічы» / «зарубежнікі» — хто колькі прадасьць білетаў. Мне давялося лавіраваць, каб не «разьдзімаць» старых канфліктаў.*
[2] *Плякаты, зрабіла Ірэна Рагалевіч.*

**Нядзеля 8 красавіка**

Езьдзілі ў царкву. Было прыемна. Людзей, праўда, мала. Перадалі мёд. Пагаварыла з Вераб'ём аб лапцях. Ён паабяцаў пагаварыць з бацькам. Вітаўт прадаваў часапіс[1] (атрыманы ад Прускага). У часапісе добрая ўстаўка беларускіх узораў, выкананых Будзькам.

Цісьнецца зь білетамі на фэстываль.

Прыходзіў Дутка. Пагаварыла зь ім аб рэчах для выстаўкі. Забраў ён карціны Анцутавы, каб перадаць[2] (яна якраз пазваніла, як ён быў у нас). Абяцалі яму заказаць з L. C.[3] кніжку «Бел. нар. песьні».

---

[1] *«Беларускі Сьвет».*
[2] *Анцута, Шудзейка — мясцовыя беларусы з гораду Пасэйк, якія бралі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы фэстывалю.*
[3] *Library of Congress, Кангрэсавая бібліятэка ў Вашынгтоне.*

**Панядзелак 9 красавіка**

Прыйшла Тамара[1] пасьля 10-ай. Пагаварылі аб «Вясельлі», «Дажынках» аб Art exhibit. Тамара напісала ліст да мастакоў. Я ўзялася яго трохі абкругліць ды перадрукаваць. Дамовіліся спаткацца перад агульным сходам актыву ў Garden State Arts Center 17, каб абгаварыць дзеючых асобаў на mall show[2]. Перадала Тамары лістовую паперу.

Хадзілі да Запрудніка званіць Шусту[3] — не дазваніліся.

Выбрала трохі малюнкаў з часапісу «Беларусь» для Сільвановіча[4].

---

*[1] Мастачка Тамара Стагановіч (St. Tamara).*

*[2] Пляц перад амфітэатрам.*

*[3] Мікола Шуст — умелец выкладаньня з саломкі. Жыў у Канадзе. Ягоныя вырабы былі шырака распаўсюджаныя.*

*[4] Алекс Сільвановіч рыхтаваў выстаўкі фатаграфіяў на фэстывалях.*

**Аўторак 10 красавіка**

Перадрукавала ліст да мастакоў. Шмат было вазьні з двума машынкамі, з адрасамі.

Вітаўт паехаў да Васіля завезьці адрасаваныя канвэрты й заказы на білеты. Заехаў да Юрачкі аддаць яму ключы. Вітаўт быў зусім хворы — балела паясьніца й бок. Дрэнна чуўся, як прыехаў. Прыклалі грэлку — праз ноч прайшло.

**Серада 11 красавіка**

Хадзіла рабіць валасы. Прыгожая пагода.

Зрабіла копіі з «Жніва». Укінула ліст да Тамары. Пачакала Вітаўта да 6-ай. Ехалі разам з Camille[1]. Яна мне псуе настрой.

Пазваніла да мамы. Выглядае, што я толькі адна паеду на фарму. Юра ў панядзелак мае экзамэн. Алеся друкуе тэзу. Вітаўт займаецца Income Tax і фэстывалем.

---

*[1] Украінская дзяячка ў ЗША. Нашая суседка ў Ратэрфордзе.*

**Чацьвер 12 красавіка**

Вітаўт застаўся дома. Забярэ кавёр, купе калбасы, рыбы.

Разаслала кавёр. Вельмі добра выглядае — значна багацей і даражэй, чымся ён варты.

**Пятніца 13 красавіка**

Прыехаў да нас на вячэру Steven Richer[1]. Ягоная кампаньёнка не прыехала. Добра вельмі прайшоў вечар. Пагаварылі аб Этнічнай Радзе, аб Аддзеле турызму, наагул аб знаёмых і не знаёмых асобах. Ён ведае шмат людзей. Але ён нейкі нявыразны. Выпадак з Barbara Taylor[2] вельмі характэрны: яна баялася, што на яго зрабіла дрэннае ўражаньне, а ён аб ёй ня дрэнна адзываецца.

Гаварылі аб «Directory»[3]. Цікава ці ён дасьлядзіць, каб купілі.

---

*[1] На той час займаў пасаду дырэктара Аддзелу турызму штату.*



Вясельле Зоры і Вітаўта, Пасэйк, 1956.



Зора, Янка Станкевіч, Масей Гітлін, 1960.
Зора пачала передрукоўваць Біблію Янкі Станкевіча.

THE·BOARD·OF·GOVERNORS·OF

RUTGERS - THE·STATE·UNIVERSITY

TO ALL·TO·WHOM·THESE·PRESENTS·MAY·COME·GREETINGS
BE·IT·KNOWN·THAT

ZORA · ZOJA · KIPEL

HAVING·SATISFIED·THE·REQUIREMENTS·OF·THE·FACULTY·OF·THE
GRADUATE · SCHOOL · OF · LIBRARY · SERVICE
FOR·THE·DEGREE·OF

MASTER · OF · LIBRARY · SERVICE

HAS·ACCORDINGLY·BEEN·ADMITTED·TO·THAT·DEGREE·WITH·ALL·THE
RIGHTS·PRIVILEGES·AND·IMMUNITIES·THEREUNTO·APPERTAINING

GIVEN · AT · NEW · BRUNSWICK · NEW · JERSEY · UNDER
THE · SEAL · OF · RUTGERS · THE · STATE · UNIVERSITY · ON · THIS
TWENTY-FIFTH · DAY · OF · JANUARY · IN · THE · YEAR · OF · OUR
LORD · ONE · THOUSAND · NINE · HUNDRED · AND · SIXTY · SIX




DEAN

PRESIDENT

Дыплём Бібліятэчнага факультэту Ратгерскага ўнівэрсытэту.




Ньюёркская публічная бібліятэка, дзе Зора працавала 37 гадоў.



На беларускім фэстывалі.



Губэрнатар Брэндан Бэрн зь беларускімі падушкамі (?)



Каляды 1970, на вакацыях зь дзецьмі.



Беларуская група рэспубліканцаў з сэнатарам Робэртам Доўлам, Зора за сталом, Нью Ёрк, 1973.

Зора дорыць першы экзэмпляр «Даведніка нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі» губэрнатару штату Брэндану Бэрну. Кабінэт губэрнатара, Трэнтан, 4 жніўня 1978.




З доктарам Мішам, жнівень 1978.



Этнічны баль, 1979: Васіль Русак, Галіна Русак, Надзя Кудасава, Зора Кіпель, Стыў Рычэр, Валя Рагалевіч, Іра Рагалевіч, Сяргей Рагалевіч,Рая Станкевіч.



У Кліўлендзе, 1980.



З дачкой Алесяй на фэстывалі ў Вашынгтоне, 1981.



Вечар памяці Льва Акіншэвіча ў Нью Ёрку, трэці зьлева — Вітаўт Тумаш, чацьверты — Антон Адамовіч, Зора сядзіць побач з жонкай Акіншэвіча. Красавік 1981.



Красавік 1981.



Фэстываль у Пэнсыльваніі, 17.10.1987: Галіна Кучура, Вітаўт, Надзя Кудасава, Галіна Русак, Тамара Стагановіч, Зора.



Зора ў дзень атрыманьня дыплёма
Ратгерскага ўнівэрсытэту, 1987 (?)



Адзначэньне 1000-годзьдзя Хрысьціянства ў Беларусі,
Саўт Рывэр, лістапад 1988: Том Бэрд, Зора, Васіль Шчэцька,
стаяць Вітаўт, Ян Запруднік.



На Юравым вясельлі, 28.10.1989.



У ягадах.



Дома ў Радэрфордзе.



Зора, Вітаўт, Ала Орса-Рамана.

Рыхтуючыся да дакладу.



Радэрфорд, 1990. Справа налева:
Зора, маці Вітаўта Марыя Васільеўна, Юра, Вітаўт, Алеся.



Сям'я Кіпеляў: Вітаўт, Зора, Ларэйн, Андрэй, Юра, Алеся. 1992.



Прэзэнтацыя кнігі Ўл.Дудзіцкага, 1994.
Зора, Алена Юрэвіч, Лявон Юрэвіч.

У пошуках эмігранцкай літаратуры, Чыкага, 1994.



У ягадах з унукам Алесем, 1995.



Бруклін, Atlantic Ave. 401, 24.08.1997.



Зора і Юра, кастрычнік 1999.




Памятны значок да 100-годзьдзя Я. Купалы і Я. Коласа.

*[2] Барбара Тэйлар (раней Тайларыян) была сакратаркай у Аддзеле турызму і аднаначна выконвала абавязкі сакратаркі ў Этнічнай Радзе (дзе я быў старшыня). Вельмі спраўная асоба, прыязная да беларусаў, бо была зьвязаная з армянскай калёніяй.*

*[3] Даведнік, над якім працавала Зора.*

### Субота 14 красавіка

Рана ўстала. Неяк не спалася. Дык вырашыла доўга не капацца, а паехаць да мамы. Выехала каля 7-ай. Усю дарогу ліў дождж. Было даволі прыкра ехаць, але трафік быў яшчэ зусім малы [illegible] даехала добра. Мама яшчэ мяне й не чакала так рана. Цэлы дзень правялі валяючыся, ядучы й наагул адпачываючы й гаворачы. Нікуды ня езьдзілі. Расказвала маме пра нашыя падзеі. Перагледзелі «Вясельле» й «Дажынкі». Маме вельмі спадабаўся 4 том, выдадзены Шырмам, «Вясельныя песьні»[1].

Мама скончыла падушку да той чорна-чырвонай дзяружкі. Мне толькі пашыць трэба дадаткі.

Была Helena[2]. Перарвала наш абед. Наеліся мы квашаніны з часнаком. Званіў Вітаўт. Ён амаль скончыў Income Tax[3].

---

*[1] З сэрыі кніг «Беларуская народная творчасьць» АН БССР.*

*[2] Суседка Апалёніі.*

*[3] Падатковыя фармуляры, да 15 красавіка.*

### Нядзеля 15 красавіка

Рана мама прабудзілася й прабудзіла мяне. Выбралася ў царкву з Marion[1], ужо й на двор пайшла яе чакаць. Аж тая пазваніла, што нешта з машынай папсавалася. Паклікала маму ў хату, і мы вырашылі ехаць на службу а 10:30 разам (як і надумаліся ў суботу). Служба была прыемная. Шмат людзей сабралася — нават горача стала.

Пасьля службы хутка пазваніў Вітаўт, што Тумаш яго запрасіў да сябе[2] (разам з Конюхам — выйшла трохі канфузьліва — бо Тумаш ня ведаў, што Вітаўт без машыны й адзін). У мяне адразу-ж сапсуўся настрой.

Паехала дахаты а 2-ой, бо мела заехаць да Нядзьвігаў[3] і па сялёдку. У Нядзьвігаў была вельмі коратка, бо яны зьбіраліся недзе ў госьці. Прывезла ім калбасы. Папрасіла Д. В.[4], каб зрабіў з бярозкі падкаўку-плоцік нам для выставак. Ён паабяцаў за 2 тыдні зрабіць. Антаніна дала бабкі (для нас, Яні й М. В.), рыбы, сьвежай і салёнай.

Па дарозе заехала да Русакоў, забрала сялёдку. Маці іхная ўжо дома, добра выглядае. Прыехала дахаты а 6-ай. Толькі распакавалася, але прыходзе й Вітаўт. Я так была радая, што ён не забавіўся, што быў у парадку[5].

Вечар правялі вельмі спакойна й прыемна.

---

*[1] Апалёнія Савёнак была каталічка і наведвала мясцовы касьцёл. Суседкі падвозілі. Часта хадзілі ўсёй сям'ёй.*

*[2] На сьвяткаваньне Вялікадня.*

*[3] Іван Фёдаравіч Нядзьвіга — муж Лідзіі Грыгораўны Янушкевіч, адной зь першых артыстак і беларускай актывісткі менскага Тэатру імя Янкі Купалы (ад 1920-х гадоў). Іван Нядзьвіга — кубанскі казак, украінец. Зь беларусамі ад 1945 году, быў першым шоферам у Аляксандра Русака, калі той заснаваў Беларускі Камітэт у Рэгенсбургу ў 1945 годзе. «Дзядзя Ваня» — мы так яго звалі — быў маім хросным бацькам.*

*[4] Дзядзя Ваня.*

*[5] Нідзе не затрымаўся «на піва».*

**Панядзелак 16 красавіка**

Вітаўт званіў да Crowley[1]. Ён ужо кажа, што задакляраваных ад Council 50 копіяў «Directory» не дастаткова, каб рабіць новае выданьне.

Пазванілі да Шуста[2]. Ён будзе рабіць рэчы на выстаўцы. Толькі трэба яму выслаць ліст суправаджальны.

Запруднік паедзе з намі на зборку заўтра.

Усе трохі хвалююцца, што будзе на зборцы. Weck[3] быў апошні раз, як Вітаўт званіў (здаецца у чацьвер), не зусім прыветлы.

---

*[1] Crowley Publishing — ведамае выдавецтва ў Нью Джэрзі. Друкавалі там «Між берагамі» Н. Арсеньневай і іншыя кнігі. Зачынілася ў сярэдзіне 1980-х гадоў.*

*[2] Мікола Шуст жыў у Канадзе. На фэстывалі дэманстраваў сваё ўменьне (вырабы з саломы). Аднак, каб перавезьці ягоныя вырабы праз амэрыканска-канадзкую мяжу, трэба было даваць пасьведчаньне, што вырабы — для выстаўкі.*

*[3] Fred Weck — адказны за этнічныя фэстывалі пры Цэнтры мастацтваў у штаце Нью Джэрзі.*

**Аўторак 17 красавіка**

Прыходзіў Тумаш. Ён усё ные, што з Арсеньневай ня йдзе як трэба. Мае страшэнную здольнасьць псаваць настрой і камплікаваць, ускладняць справу. Хоча выцягнуць абвестку з газэты, дзе абвяшчаецца аб тым, што Арсеньнева будзе падпісваць кнігу. Як я зразумела Вітаўта, ніякай сьпешкі ці небясьпекі яшчэ з кнігай няма, але з Тумашам ён гучэў інакш — нібыта Crowley не зусім аптымістычны?

Паехалі на зборку трохі раней. Хуценька перакусілі ды ў машыну. Перад пачаткам трохі яшчэ мелі час пагаварыць з Тамарай аб «Вясельлі» — ліста ўдзельнікаў. Тамара прыйдзе ў бібліятэку ў панядзелак, 23-га. Тады ўжо канчальна ўпарадкуем скрыпт.

Зборка прайшла добра. Weck сказаў пару ўступных слоў, што кіраўніцтва з засьцярогай ставіцца да нашых магчымасьцяў. Пакінуў нас самых ды пазьней зноў прыйшоў. Трэба сказаць, што гучэў ён зусім інакш — Стыва ня было. Як «old Weck» дэлікатны, спачувальны. Добра аб усім перагаварылі самі. Выглядае, што выцягнем. South River добра адгукнуўся. Трохі ўжо дакляравана ахвяраў. Тут-жа на зборцы даў чэк Кангрэсовы Камітэт, Заморскі. Абяцаў Бартуль, Запруднік ад «Беларуса».

Невялічкія канфлікты з Барысаўцом аб Рэні ды Сьвятлане[1].

Пагаварыла з Заморскім аб сувэнірах. Перадала Ірэне малюнкі для

«Сміта». 2 часапісы. Ірэна паказала малюнкі для Арсеньневай. Выглядае не зусім удала. Яна яшчэ папрацуе над імі — у чацьвер абяцае даць. Перадала часапісы «Беларусь» праз А. Лысюка для А. Сільвановіча.

Як прыйшоў Weck зноў на зборку — настрой быў ужо трохі лепшы — нейкі прасьвет. Weck прыняў нашыя прапановы, што будзем трымаць стары бюджэт, яшчэ і старацца прадаць 3000 біл. Калі-ж убачым, што білетаў прадаецца менш — знізіцца бюджэт, каб ня было згубы для Цэнтру. На Фонд задакляравалі $1000 з рэклямаў і ахвяраў. Weck прапанаваў, каб спаткацца яшчэ з адміністратарамі Highway у чацьвер ды прадставіць ім нашыя пляны.

Разышліся ўсе з лепшым настроем. Васіль нават пачаў ужо думаць, каб мы не ашукаліся ды не далі ім шмат заробку — вось дзіўная натура чалавечая: гадзіну таму думалі, каб толькі ўлезьці. Нам за гэты месяц трэба прадаць 800 білетаў!

Weck'у вельмі адлягло, як сказалі, што ня будзе Мартыновіча[2].

---

*[1] Ксавэры Барысавец — хормайстар хору «Каліна». У часе фэстывалю ў хор «Каліна» далучаліся сьпявачкі з Кліўленду і Чыкага. «Канфлікты» — паміж «Калінаўцамі» і «новымі».*

*[2] Пасьля 2-га фэстывалю, 1977 году, Мартыновіч падаў у суд справу «Garden State Arts Center» versus Мартыновіч. Справа: Garden State Arts Center дыскрымінуе, бо дазваляе выступаць артыстам, якія належаць толькі да пэўнага прафсаюзу артыстаў. Гэта «няпісаны» кантракт паміж Garden State Arts Center і прафсаюзам. У выніку: Мартыновічу было дазволена выступіць, і ён справу з суду забраў. Мы ўсе здарава перахваляваліся!*

**Серада 18 красавіка**

Пазваніў Weck — і даў «Green light» да фэстывалю. Ня трэба нават ехаць Вітаўту на «перагаворы». Адно толькі ён прасіў трымаць людзей у напружаньні. Таксама прасіў, каб ня было выдаткаў на Жорданава[1].

Званіла Рая[2] — бярэ абвестку на «Моладзь». Стась[3] — на «Беларуса». Званіла мама ў аўторак, што прадасьць білеты (трэба скамбінаваць з мейсцамі).

Вечарам званіла Юззэфа[4] — у Каліфорніі паніка, што ня будзе фэстывалю. Вітаўт яе запэўніў, што будзе. Тут здаецца Жэня Цярпіцкая вінаватая. Рашылі, што людзям трэба казаць, што ўсё ў парадку. Трымаць у напружаньні — можа выйсьці на шкоду.

Пакідаю мейсца. Можа калі дапішу прапушчанае, калі што ўспомню.

---

*[1] У папярэдніх фэстывалях мы яго наймалі як дарадчыка. Нік Жорданаў — прафэсійны адміністратар ансамблю «Тамбурыцын» з унівэрсытэту гораду Пітсбургу, штат Пэнсыльванія.*

*[2] Станкевіч.*

*[3] Станкевіч, рэдактар газэты «Беларус».*

*[4] Найдзюк.*

**19 траўня**
Festival

---

*3-ці Беларускі Фэстываль.*

**30 траўня**
Memorial Day

**12 чэрвеня**
Выпускны Дзень у Алесі. Усе разам (Бабкі і мы) былі ў Princeton. Віталі Алесю. Потым, Юра завёз М. В., а мы паехалі з мамай на фарму. Вельмі цешыліся, што Алеся скончыла Ун-т і паступіла на факультэт права ў Georgetown, Washington D.C.

Мімаволі прыйшла мне ў галаву думка аб тым, калі Алеся паступала ў гэты элітарны Ун-т, пераважальным чыньнікам для паступленьня яе ў Прынстон была ейная актыўнасьць у арг. бел.-амэр. моладзі ды веданьне бел. мовы. Бо-ж да Алесі сярод студэнтаў Прынстану ня было такіх, хто гаварыў па-беларуску.

**21 ліпеня**
Washington

---

*Адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў. У Constitution Hall ладзілі выстаўку. Выдатна справіліся, бо ўвесь час каля выстаўкі «стаялі» — «тлумачылі» Алеся Кіпель і сп-ня Ніна Кіт.*

**Жнівень**
Гасьцявалі ў нас[1] сястра і брат К. Калошы. Шмат было гутарак. Аснаўное было трэба выканаць: сустрэцца з дзядзькам Міхасём[2], каб распытацца болей пра Я. Коласа, як выглядала хата ў Акінчыцах[3].

---

*[1] У Ратэрфордзе.*

*[2] Малодшы брат Якуба Коласа.*

*[3] Гэта было зроблена, хоць дзядзька Міхась пазьней «адчытаў» мяне, каб болей не наладжваў сустрэчаў з «савецкімі».*

**25 жніўня**
Алеся паехала жыць у Вашынгтон. Мы вельмі ўдзячны сп. Шукелойцю, што нам памог пры пераезьдзе. Ён зь Вітаўтам шмат зрабіў ва ўладжаньні хаты, дзе Алеся будзе з сяброўкамі жыць.

**6-7 кастрычніка**
Фэстываль у парку Свабоды Джэрзі City[1].
Падарожжа ў Белы Дом на сустрэчу з папам Янам Паўлам II[2].

---

*[1] На фэстывалі ўсё арганізавалі. Выдатна дапамагалі Валеры Новак і іншыя з новых эмігрантаў.*

*[2] Як толькі Алеся пераехала ў Вашынгтон, быў закладзены аддзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА), у чым Алесі добра дапамаглі: Джэй Немчык (амэрыканец, былы палкоўнік, каардынатар дзейнасьці нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў; дарэчы, у 1968 годзе быў у Празе супрацоўнікам амбасады ЗША,*

*калі Саветы ўводзілі танкі), Зоя Лапчанка (прафэсійны бібліятэкар Бібліятэкі Кангрэсу, родам з Магілёву, перад вайной была настаўніцай у Магілёве), Леў Акіншэвіч (аналітык Бібліятэкі Кангрэсу, ведамы беларуска-украінскі гісторык) і іншыя беларусы. Дзякуючы існаваньню гэтай арганізацыі ў Вашынгтоне мы з Зорай былі запрошаныя ў Белы Дом на сустрэчу-гутарку з папам.*

**12-15 кастрычніка**
AAASS

**19 кастрычніка**
Picarda Referat

---

*У Нью Ёрк прыяжджаў Гай Пікарда. Ладна часу правёў у НЁПБ, пару разоў езьдзілі да Дз. Верасава ў Саўт Рывэр.*

**20 кастрычніка**
Славянскі Тыдзень у Нью Ёрку.

---

*Выступаў Данчык, было вельмі шмат гасьцей.*

**Субота 27 кастрычніка**
Паехалі ў Балтымор на канфэрэнцыю ў Essex Community College.

Ехалася раніцай добра. Пасьпелі. Яшчэ нават і чакалі на арганізатараў. Людзей было няшмат, але атмасфэра была прыемная. Прайшло ўсё вельмі добра. Я нават мала й хвалявалася. Прыехалі Мельяновічы. Dolores вельмі мілая асоба. Я зь ёй гаварыла перад пачаткам дакладаў — дык можа гэта мяне адцягнула ад хваляваньня.

Вітаўт меў сваю чытань першы, а тады наапошак я. Здаецца, усім спадабалася, усе задаволеныя. Асабліва прыемна было, што й грошы (па $100) атрымалі за сваю працу. Для мяне гэта першы раз. Наагул і чытаньне для англамоўнай аўдыторыі — першае. Вітаўт сказаў, што грошы я зусім «зарабіла». Арганізатарка Mrs. *** казала, што можа яны яшчэ гэтую самую праграму паўтораць. Пазнаёміліся з людзьмі, якія актыўныя ў этнічным жыцьці Мэрыленду. Наагул паездка была й прыемная й карысная.

Па дарозе назад Вітаўт пачуўся неяк слаба — заехалі ў рэстаран нешта выпіць. Я параіла яму ўзяць шакаладку — памагло, але пазьней пачаў балець зуб.

Заехалі да мамы. Ехалі па прыгожай мясцовасьці каля Glassboro. Купілі цыбулі. На палёх і садох ужо ўсё сабрана, шмат па дарозе фармэрскіх базарчыкаў. Было прыемна ехаць. У мамы добра пачаставаліся, бо цэлы дзень фактычна нічога ня елі. Зьезьдзілі па памідоры на фарму Roaches — але ўжо нічога ня было. Мама дала трохі, што было ў яе. Надавала таксама й варэньняў і сьпякла дзьве куркі й коржыкаў для Юры.

Заехалі да Нядвігаў. Забралі ад іх паперы для бэльгійскай пэнсіі[1]. Усё яшчэ ніяк не наладзіцца! Яны занятыя сваімі цяпер праблемамі

«родственными». Пабылі ў іх трохі ды паехалі дахаты. Прыехалі дамоў позна, стомленыя, але задаволеныя з праведзенага дня.

---

[1] *Да прыезду ў ЗША шмат нашых людзей працавалі ў Бэльгіі. Калі яны дасягнулі пэнсійнага веку, бэльгійскі ўрад пачаў плаціць пэнсіі за гады працы ў Бэльгіі. Але трэба было выканаць шмат фармальнасьцяў. Мы шмат каму дапамагалі.*

**Нядзеля 28 кастрычніка**

Сьвяткавалі «дажынкі» у нашай царкве[1]. Я прынесла снапы й дапамагала трохі на кухні. Вітаўт усё «бегаў з Салаўём» — грошы на Салаўя зьбіраюцца добра. Снапы карысталіся вялікім посьпехам. Мы іх паставілі на стол, на сцэне. Абвязалі ручнікамі (Рая прынесла) і быў нават і серп (Верабей прынёс). Шкада, што не зрабілі здымкаў. Якраз-жа ніхто ня меў апарата. За абедам сядзелі каля Станкевічыхі (вось-жа вязе). Вітаўт ужо быў пачаў ірытавацца. Надта-ж яна на яго адмоўна дзеіць. Але прайшло ўсё спакойна, пазьней неяк наладзілася. Рая была даволі тактоўная й прыемная. Між іншага, яна шмат працавала на кухні.

Наладзілі экспромтам латарэю (Кунцэвіч, я й Бартуліха). Добра выйшла. Вітаўт выйграў гарэлку. Было трохі й гасьцей (славянскі тыдзень яшчэ рэклямаваў нашыя Дажынкі). Сьпявалі. Адным словам, уражаньне «Дажынкаў» было.

---

[1] *У Брукліне.*

**Нядзеля 4 лістапада**

Дзяды. Езьдзілі на могілкі ў New Brunswick. У царкву не паехалі, а адразу на могілкі.

**6 лістапада**

Election Day

**10 лістапада**

Вітаўт

Ярашэвіч

---

*Сустракаліся з Аўгенам Ярашэвічам. Ён займаў высокую пасаду — інжынэр-будаўнік — у Транспартнай сыстэме гораду Нью Ёрку. Працаваў на Columbus Circle — недалёка. Я пытаўся, як «дабрацца» да хронікі пабудовы ньюёркскага мэтро, дзе, як я прыпушчаў, працавала шмат нашых землякоў. Аўген абяцаў разьведаць.*

**Нядзеля 11 лістапада**

Сяджу ў «Beauty Parlor»[1] і, каб выкарыстаць час, буду прыпамінаць і ўпарадкаваць, што прапушчана ў дзёньніку. Варочаюся цяпер тым часам да 27 кастр.

Зрабіла завіўку. Выйшла даволі добра.

Рэшта дня прайшла спакойна ў працы — я [*рабіла*] бібліяграфію Адамовіча, Вітаўт — пераклад Другога Кангрэсу[2] й падрыхтоўка лістоў для моладзі з чэкамі за Атаву[3].

Званіла да мамы. Яна ўжо думае, хвалюецца й пляне свой прыезд на Thanksgiving да нас.

Юру званілі — не дазваніліся. Ён яшчэ не адазваўся, як пераехаў на новае мейсца.

---

[1] *Салён прыгажосьці.*

[2] *Прыблізна ў гэтым часе ў Вашынгтоне пачаў дзеіць Аддзел Спэцыяльных Расьсьледаваньняў — пачыналі шукаць былых нацыстаў. Да БІНіМу зьвярнуліся, ці ня можна было б перакласьці на ангельскую мову кнігі «2-гі Ўсебеларускі Кангрэс» і «За дзяржаўную Незалежнасьць Беларусі». БІНіМу было заплачана за пераклады.*

[3] *У Атаве летам быў фэстываль «Бацькаўшчына», і нашая моладзь з ЗША езьдзіла. Сурвіла меў аплаціць дарогу. Было зроблена.*

### Аўторак 13 лістапада

Зазванілі раніцай да Юры. У яго ўсё добра. Што мы яму вечарам званілі, ён і ня ведаў і казаў, што быў цэлы вечар дома. Так ужо ў іх там робіцца.

Была на інтэрв'ю з personnel Officer — нейкі Mr. Fries[1]. Сымпатычны. (Я яго спаткала ў пятніцу на абедзе — Мінц[2] пазнаёміў. Ён (Fries) таксама зь New Jersey і таксама дачка вучыцца ў Law School, а сам ён некалі выкладаў у Fairley Dickinson. Выйшла зусім нечакана — спадзяюся, што гэта не паўплывае на маё павышэньне у якісь спосаб).

Зараз пайду да Запрудніка. Маю 6 бачынкаў бібліяграфііі для друку.

У Запрудніка быў цэлы заежжы дом. Акрамя рэгулярных, была й Вера Рыч. Пазнаёміліся. Першае ўражаньне ня вельмі спрыяльнае. Раскіданая, скача з тэмы на тэму. Ну й фізычна ня вельмі прыемная — таўстая, неахайна адзетая, нязграбна прычосаная.

А 3-яй спаткаліся з Тумашам. Гаварылі зь Вітаўтам пра фінансы да Салаўёвага зборніка. А як Вітаўт пайшоў — Тумаш паказаў мой артыкул пра Сміта, папраўлены Запруднікам. Запруднік пераправіў шмат чаго назад, што Тумаш перад тым направіў. Хто іх ведае? У мяне трохі сапсуўся настрой.

Пасьля працы пайшлі на вячэру ў Tad's Steaks[3] з Шукелойцем. Расказваў ён пра Веру Рыч, Раю, Данчыка. (Яны былі на вячэры зь ёй напярэдадні). Гаварылі пра Луцкевічаў (рэфэрат і публікацыю). Вечарам ужо нічога не рабіла. Вітаўт перакладаў.

---

[1] *Загадчык Аддзелу кадраў у бібліятэцы, «шышка». Пазьней мы зь ім блізка сябравалі.*

[2] *Люіс Мінц — Зорын найбліжэйшы сябра ў бібліятэцы. Пазьней быў загадчыкам усіх кнігасховішчаў — высокая пасада. Памёр за дзень да Зоры — 13.04.2003.*

[3] *Рэстаран недалёка ад бібліятэкі.*

### Серада 14 лістапада

Зазванілі у Am. Museum of Immigration наконта выступу дзяцей з Калядкамі.

Хадзілі на каву з Ballarine[1]. Яна ўжо трохі нармальнейшая стала. Атрымалі грошы.

А 3-яй спаткаліся з Францам[2] у Café. Перагаварылі пра Адамовіча бібліяграфію й мой артыкул абмеркавалі. Я зь ім шмат дзе згаджаюся. Адно толькі лічу вельмі неразумным перарабляць на Сьміта. Яшчэ пагаворыцца з Тумашам. У мяне ўсё яшчэ не паправіўся настрой (нейкае пачуцьцё непаўнавартасьці — я ведаю, што Вітаўт будзе сварыцца за гэта, дык я яму й не выказваю ўсяго. Усё-ж ужо не малады чалавек, а нехта цябе правіць, мяняе. Ці варта ўсё гэта. Альбо ёсьць дадзеныя, альбо няма.) Вечарам працавалі. Званіў Калоша. Хоча, каб Вітаўт прыехаў на Слуцкае Паўст[3].

---

[1] *Сяброўка на працы.*

[2] *Мянушка Запрудніка з гімназіі.*

[3] *Адзначэньне Дня Слуцкага паўстаньня.*

**Чацьвер 15 лістапада**

Вітаўт усё яшчэ хоча палажыць $10.000 на Time-account. Я маю трохі засьцярогаў, што да гэтага. Мне здаецца, што трохі небясьпечна так ужо амаль усе грошы закладаць. Яшчэ пагаворым вечарам.

Пазваніла Ms Nash (Museum of Immigr.), дала Алы адрас. Дзеці будуць сьпяваць 23 сьнежня.

Дастала ад Koressara[1] эстонскія адрасы для Mr. Bush[2] з N.J. Hist. Commission. Вітаўт яго сёньня будзе бачыць.

Вітаўт званіў толькі што, перадала адрасы. Ён быў у дэнтыста. Скончыў. Паедзе цяпер у Трэнтан — South River — New Bronswick.

Забылася узяць з сабой на работу пакуначак для Кажаноў, каб перадаць з Шукелойцем. Ён едзе на вясельле. Гаварыла зь Яняй пра друк бібліяграфіі Адамовіча[3]. Яна абяцала прыйсьці заўтра — друкаваць. Адамовіча, здаецца, ня будзе.

Я друкавала цэлы вечар. Неяк вельмі стамілася. Ела (непатрэбна) арэшкі і пасьля нядобра чулася. Дыета ідзе памалу.

Запакавала пакуначак для Маргарэты Кажан і паставіла на сходкі, каб ізноў не забыцца.

Вітаўт прыйшоў даволі позна. Зборка Architectural Committee of the Ethnic Museum была ўдалая. У Трэнтане залагодзіў справы з Ethnic Council. У South River'у аддаў Верасаву ноты, што пазычаліся для Пікарды. Купіў беларускай калбасы. На зборцы былі й Галіна й Ірка.

У Трэнтане пыталіся, як ідзе справа з «Ethnic Places»[4] (ці, можа, гэта Вітаўт мяне падштурхоўвае такім спосабам). Як скончыцца з Адамовічавай бібліяграфіяй — трэба будзе ўзяцца за гэта.

---

[1] *Д-р Віктар Карэсар — эстонец, доктар археалёгіі з Бэрлінскага ўнівэрсытэту, загадчык Славянскага аддзелу бібліятэкі.*

[2] *Neil Bush — дырэктар штатнае Гістарычнае Камісіі ў Нью Джэрзі. Шмат зь ім*

*гаварылі пра эмігрантаў з Расеі. Ён гэбрайскага паходжаньня, дзяды зь Меншчыны. Цікавая дэталь: у дзень Чарнобыльскага выбуху ў 1986 г. мы былі ў яго ў кватэры — плянавалі-абмяркоўвалі сэмінар пра эміграцыю з Усходняй Эўропы. Нейкая радыёстанцыя на кароткіх хвалях паведаміла, што недзе ў БССР ці ў УССР адбыўся выбух. Усе насьцярожыліся!*

*[3] Набліжаўся дзень народзінаў Антона Адамовіча — 26 чэрвеня 1979 году яму спаўнялася 70 гадоў. У якасьці падарунку Зора рыхтавала бібліяграфію ягоных працаў.*

*[4] Быў плян выдаць даведнік для турыстаў «Ethnic Places» — мясьціны, зьвязаныя з жыцьцём нацыянальнасьцяў. У праекце было зрабіць Саўт Рывэр — «Беларускае селішча штату». Праект ня быў ажыцьцёўлены: патрэбныя былі вялікія сродкі.*

**Пятніца 16 лістапада**

Пазванілі рана да Надзі[1], каб пераканацца, ці будзе сёньня што яна ладзіць для Іркі (Ірчын дзень народзінаў быў учора). Так — будзе.

Вітаўт панёс да Запрудніка для Яні некалькі ўчора надрукаваных бачынкаў А[*дамовічавае*] бібліяграфіі і пакецік для Ш[*укелойця*] (не забылася!!!). Ня ведаю яшчэ, ці Яня што рабіла.

Купілі Юрачку мандарынкаў.

Вітаўт сказаў, што Яня ўжо ладную частку перадрукавала. Усё ўжо пайшло ў ход.

Паехалі да Надзі на Ірэніны народзіны. Было вельмі міла. Надзя добра, смачна ўсё падрыхтавала. Былі Галіна, Валя Рагалевіч зь дзецьмі й мы. Пазьней прыйшоў Сяргей[2]. Было сапраўды прыемна. Адно толькі Галіна нешта трохі фыркала.

Занесьлі Юру мандарынкі. Спаткаліся зь ім на паркінгу. У інтэрнат не заходзілі.

---

*[1] Кудасава (пазьней Запруднік).*

*[2] Рагалевіч, брат Ірэны.*

**Субота 17 лістапада**

Званіла Рая (раніцай), каб далі адрас Алесі ў Вашынгтоне для Веры Рыч. Не далі.

Субота прайшла спакойна. Зьезьдзіла рана на рынак у Патэрсон. Купіла ўсё для індыка[1]. Купілі маку, грэчкі. Друкавала. Вітаўт перакладаў.

---

*[1] Апошні чацьвер лістапада ЗША адзначаецца «Дзень дзякаваньня», індык у гэты дзень — традыцыйная страва. Падрыхтоўка, закупы прадуктаў да гэтага абеду пачынаюцца задоўга перад тым.*

**Нядзеля 18 лістапада**

Вітаўт паехаў у Highland Park у царкву — там «бліны». Яму важна быць, дзе людзі цяпер — дзеля зборкі грошай на Салаўя[1].

Прыехаў ня позна. Выйграў нейкую падушку. (Зусім не цікавая.)

Вечарам я друкавала, а ён перакладаў.

---

*[1] Усе кнігі БІНІМу выдаваліся пераважна праз грамадзкую падпіску. Творы А. Са-*

*лаўя — не выключэньне. Трэба было выкарыстоўваць любую грамадзкую нагоду, каб сустрэцца зь людзьмі, здабыць падпісчыкаў на новае выданьне.*

**Панядзелак 19 лістапада**

Скончыла Адамовіча Бібліяграфію. Аддала Яні. Запруднік ужо заказаў вокладку. Усё добра.

Рыхтавалі Балтыморскія «Papers»[1]. Ballarine пераглядзела маю — кажа, што добра.

Вечарам Вітаўт паехаў у New Brunswick на зборку «Ethnic Museum» былі канчальныя выбары архітэктараў[2].

Я друкавала для Балтымору.

---

*[1] Пасьля прачытаньня дакладу трэба было яго падрыхтаваць да друку, звычайна вельмі хутка. Даклады ў Балтыморы былі прачытаныя ў канцы кастрычніка, а да сьнежня іх трэба было здаць гатовымі да друку.*

*[2] Этнічная Рада плянавала заснаваць Этнічны Музэй. Трэба было размаўляць з рознымі архітэктурнымі фірмамі, каб мець пляны.*

**Аўторак 20 лістапада**

Мела інтэрв'ю з Віліамсам і Сылвіяй[1]. Прайшло добра, але, як заўсёды пасьля такіх інтэрв'ю, застаецца нейкі нясмачны ўспамін.

У абед купіла Яні падарунак — японскую талерку. А 4-ай пайшлі ў Радыё на Яніны народзіны. Было нацягнута. Трохі пабылі й пайшлі. Тумаш быў з намі.

Паслалі «Papers» у Балтымор. Ня ведаю, ці яны будуць надрукаваныя, ці гэта толькі ім для рэкарду патрэбна[2].

---

*[1] Бібліятэчныя начальнікі. Зора падавала на нейкае падвышэньне — адбываліся гутаркі.*

*[2] Балтыморскія даклады былі надрукаваныя ў кнізе Ethnic Heritage and Horizons, Baltimore, 1980.*

**Серада 21 лістапада**

На рабоце нічога цікавага (здаецца). Можа, што прыпомню пазьней.

Прыехалі дзеці. Алеся была ўжо дома, як я прыйшла з працы. Вітаўт выйшаў раней — паехаў па маму, на фарму.

У Алесі ўсё добра — яна бадзёрая, вясёлая.

Паехалі зь ёй дакупіць рэшту прадуктаў для заўтра.

Паставіла адварваць мяса для начынкі.

Прыехаў Юра. Ён таксама ў добрым гуморы. Пагаварылі.

Пасьля 9-ай прыехалі й Вітаўт з мамай. Мама, як заўсёды, неяк трохі ненатуральна, ня зусім па-свойску чуецца й захоўваецца ў нас.

**Чацьвер 22 лістапада**

Thanksgiving Day.

Раніцай пасьнедалі сваёй сям'ёй толькі (Бабкі былі ўнізе[1]). Прыемна пагаварылі.

Я схапілася рабіць індыка (трохі закапаліся з раньня). Паставіла індыка ў печку толькі а 10:30.

Парадкаваліся — гаварылі — наагул прыемна было быць зноў разам усім. Дзеці хадзілі на футбол. Rutherford выйграў. Юра быў на «First aid» на стадыёне[2].

Званкі, суета, беганіна — адным словам дзеці дома.

Вітаўт паехаў па Адамовіча й Шукелойця а 2-ой[3].

Госьці прыехалі рана. Я яшчэ ня была зусім гатовая, але ўсё было ў парадку.

Абед быў добры. Індык удаўся. Усе дадаткі таксама смачныя. Гаварылі, успаміналі. Усе, здаецца, сябе добра адчувалі. Толькі мама была трохі заспакойная — як бы ёй сумна й нудна з намі было. Яна ўсё казала мне, што паддаецца. Але [redacted] ўсё не хацела гэтаму веры даваць. Але сяньня першы раз я ў гэтым пераканалася. Вечарам, пасьля абеду, нават не дасядзела, пакуль пайшлі госьці — пайшла глядзець сваю нейкую праграму.

Адамовіч прынёс мне кветкі, а Шук. вокладку для малітоўніка (Юліна праца[4]).

Вітаўт завёз іх пасьля 8-ай. Дзеці пайшлі ў кіно. Прыйшлі ня позна. Але я неяк выбілася са сну. Заснула толькі недзе па 4-ай.

---

[1] *Хата была двухпавярховая, маці жыла на першым паверсе.*

[2] *У Дзень Дзякаваньня мясцовыя каманды традыцыйна гуляюць у амэрыканскі футбол, пераважна каманды сярэдніх школаў. У амэрыканцаў гэта вялікае мясцовае сьвята. Юра, як толькі перайшоў у сярэднюю школу, стаўся сябрам «хуткае дапамогі» — спачатку малодшым, а пасьля старшым санітарам. Будучы ў каледжы, ён ужо кіраваў машынай хуткай дапамогі.*

[3] *Гадоў 10 назад Шукелойць і Адамовіч бывалі ў нас на Thanksgiving Day. Бывала прыемна. Я развозіў іх па хатах.*

[4] *Юля Андрусышына — майстрыха-вышывальніца.*

**Пятніца 23 лістапада**

Пятніца на рабоце прайшла спакойна. У Нью Ёрку, як на канікулы — пуста.

Абмеркавалі з Тумашам парадак суботняй зборкі Інстытуту.

Непрыемная рэч з Верай Рыч і Станкевічамі сталася. Яна ў іх была на вячэры ўчора. Там, можа, трохі падпіла (кажуць, што трошкі гэтым грашыць) ды пачалася сварка. Яна нават хацела выходзіць ад іх з хаты. Неяк яе ўтрымалі. Але сёньня раніцай Запруднік яе забраў ад Ст-чаў і завёз у гатэль.

Між іншага Рая нам запросінаў на сьвяткаваньне дня народзінаў маткі не прыслала. Гэта ўжо адкрыты вызаў. Я, з аднаго боку, й задаволеная, але, з другога боку, пакрыўджаная тым, што Рая магла сабе дазволіць такое ў дачыненьні да нас.

Вечарам завезла маму дахаты. Ехалася добра. Гаварылі аб усім, аб заўтрашняй зборцы, аб Веры Рыч, аб Станкевічах.

Прыехалі каля 10-ай і хутка пайшлі спаць. У хаце было ўсё ў парадку. Толькі нехта у час адсутнасьці мамы пакасіў траву і таксама... скасіў паросткі жыта[1]. Можа, яшчэ й адыйдзе. Калі-ж не, то вельмі шкада.

Мама ўжо ў дарозе пачала чуцца й больш бадзёра й вясёла. А як прыехалі дахаты – то зусім аджыла. Яна, мусіць, як расьлінка, ня можа пераносіць перасадкі.

Ёй найлепш за ўсё ў сябе дома.

Я злавалася на Вітаўта дзеля перапраўленай ручкі ў машыне[2]. Вельмі ж цяжка было адчыняць на цолях.

---

*[1] Апалёнія Савёнак на фарме, дзе яна жыла, сеяла жыта, каб... у жыце сеяць васількі. І гэтак было гадамі.*

*[2] Ручка, якая адчыняе акно машыны, была паламалася, і я завёз да майстра, каб уставіць новую. Новая была туга закручаная.*

**Субота 24 лістапада**

Раніцай усталі ня позна. Пагода цудоўная. Пасьнедалі й паехалі па патрэбах – у банк, купіць яблыкаў, яблычнага соку.

Было-б вельмі прыемна, але я трохі сьпяшалася, бо й дзеці дома й яшчэ трэба было падрыхтавацца да прэзэнтацыі бібліяграфіі.

Усё купілі. Паабедалі. Выехала хутка пасьля 12-ай. Ехалася добра. Толькі вакно адкрываць было ўсё цяжэй і цяжэй.

Дома, як прыехала, быў Perreira[1] і яго дачка (гаварыла з Алесяй). Яны, праўда, хутка паехалі. У міжчасьсі прыехаў і Юра. Паехалі ўсе разам у Levitt's[2] паглядзець яму крэсла. Рашылі паглядзець яшчэ й купіць добрае.

Прыехалі дахаты, і я пачала рыхтавацца да прэзэнтацыі.

Паехалі на зборку[3]. Там ужо былі Запруднікі й Тумаш. Оля падрыхтавала пачастунак. Добра прыстроіла ўсё.

Набралася шмат людзей, акрамя рэгулярных, былі яшчэ й прыезджыя на сэсію БНР (Жукі, Рагуля, Мярляк, Сажыц, Ганько, Кажан) і людзі, якія іх гасьцілі: Рагуля ньюёркскі і іншыя.

Тумаш адчыніў, перадаў падарунак — бібліяграфію й перадаў слова мне. Я зрабіла кароценькую прэзэнтацыю аб бібліяграфіі. Далей чытаў рэфэрат сам Адамовіч. Падарунак, як выглядала, не зрабіў жаданага ўражаньня й не знайшоў належнай ацэны. Як «у лужу»... Адамовіч нават пазьней публічна не падзякаваў. (Праўда, падзякаваў, як скончыла прэзэнтацыю, нават у руку пацалаваў)[4].

Мы прыехалі дамоў вельмі ў прыбітым настроі. Дзеці былі дома.

---

*[1] Пэрэйра – партугалец з Newark. Мы зь ім абмяркоўвалі адчыненьне новага партугальскага культурнага цэнтру.*

*[2] Мэблевая крама.*

*[3] Зборкі БІНіМу – месячныя, двухтыднёвыя – адбываліся амаль заўсёды ў Фундацыі Крэчэўскага. Фармат бываў такі: чытаўся асноўны даклад на нейкую тэму*

*беларусікі, потым дыскусія, потым гарадзкія навіны, якія закранапі беларусаў, потым навіны зь Беларусі, а на заканчэньне — чай. Зборкі бывалі людныя — ад 20 да 50 асобаў, пераважна сябры БІНіМу. Аб зборках рассылаліся паведамленьні.*

*[4] Адзначэньне 70-х угодкаў. У сапраўднасьці Адамовіч быў вельмі задаволены, але Зоры падалося, што не.*

**Нядзеля 25 лістапада**

Пасьнедалі разам. Гаварылі пра паездку ў Флярыду[1].

Дзеці пачалі зьбірацца, рыхтавацца да ад'езду.

Вітаўт паехаў да Мерляка на паседжаньне «Conference of Free Byelorussians»[2].

Юра паехаў хутка пасьля 12-ай. Алеся яшчэ ўсё зьбіралася. Паехала недзе пасьля 4-ай. Забылася яблыкі ўзяць. Шкада.

Вітаўт прыехаў ня позна. Вечар правялі спакойна — адпачывалі, працавалі.

---

*[1] Плянавалі паехаць на Каляды.*

*[2] На гэтым паседжаньні — адным з шматлікіх, праводзіліся таксама і ў Канадзе — аналізавалася каляніяльнае становішча БССР, пераглядаліся розныя дакумэнты, вынікам чаго былі кнігі, якія былі ўручаныя ўсім членам ААН і разасланыя ў сотні ўнівэрсытэтаў і дасьледных установаў СССР (Documents concerning the Decolonization of the USSR. Toronto — New York, 1977. 150 p.; 1978. 148 p.). Кніжкі гэтыя мелі шырокі розгалас.*

**Аўторак 27 лістапада**

Усё яшчэ няма мне адказу аб рабоце (L-III)[1]. Я ўжо трохі пачынаю непакоіцца.

Аддала Баларыне адрас новы K. Edward (Travel agency). Яна гаварыла зь ім пра сваю паездку і пра нашу. К. сказаў, што я магу тэлефанічна яму паведаміць нашыя пляны. Я усё чакаю ад Юры слова, ці яны (ён, Эрык, Barry) зьбіраюцца, калі й куды. Тады паводле гэтага й мы будзем рабіць нашыя пляны. Вітаўт згадзіўся ехаць у Клійленд[2].

Быў Тумаш. Прынёс адбіткі малюнкаў, што прыслаў Прускі. Выйшлі добра, але цяпер відаць недакладнасьці, недахопы. Вырашылі зьвярнуцца да Ірэны — можа, яна што патрафіць направіць.

На Салаўя ўжо назьбіралася каля 45 соткаў грошай — падпіска йдзе вельмі памысна. Тумаш таксама паказаў кніжачку беларускіх арнамэнтаў, якія Прускі выдрукаваў. Вельмі добра кніжачка. Адно жаль, што няма ангельскага назову, ды ніякай інфармацыі пра арнамэнт.

Гаварылі таксама пра мэмуары Дубэйкоўскай. Тумаш мне прынясець для чытаньня й «апрабацыі». Хадзілі пасьля працы ў «Tad Steak». Неяк гэты раз было нясмачна.

Пры канцы рабочага дня даведалася, чаму яшчэ няма адказу ад Personnel: Dorothy L. не забрала яшчэ назад сваёй заявы[3].

Вечарам званіла да Прускага. Арнамэнты — гэта Будзькі[4]. Прускага толькі друкарская праца. Будзька нават не хацеў свайго прозьвішча

ўстаўляць, не гаворачы ўжо пра нейкую ўступную інфармацыю. Кажа, што: «Гэта мой падарунак беларускім жанчынам».

Да Ірэны не дазваніліся.

---

*[1] Трэці разрад [redacted] прафэсійнай клясыфікацыі бібліятэкі. Зора падала заяву (была вакансія), каб перайсьці ў Славянскі аддзел на пасаду заступніка Шэфа.*

*[2] Чытаць даклад аб Слуцкім Чыне.*

*[3] Бібліятэчныя справы – прасоўваньне па працы.*

*[4] Часлава.*

**Серада [redacted] лістапада**

Пазванілі да Ірэны. Яна згадзілася паглядзець, што можна зрабіць з малюнкамі. Спаткаемся заўтра ў яе а 6:30 перад зборкай «Museum»[1].

Званілі таксама Тумашу пра Прускага, пра Ірэну. Ён думае, што варта ёй прапанаваць, можа, яна што сама намалюе. Паглядзем.

Званіў мне Cucchiara з A. M. of Immigration[2]. 8 сьнежня будзе T.V. станцыя 11 рабіць фільм з рэпэтыцыі для праграмы «New York, New York». Ці можам мы ўдзельнічаць?

Званіла таксама Рая да Вітаўта. Ну й нахалка! «Што чуваць? Ці будзе Вера Рыч рабіць чытань?»

Званілі да Алы наконта Калядаў. Яна лічыць, што нам трэба прыняць удзел, хоць і з малой групай. Ні Данчыка, ні Лысюковых яна, здаецца, ня хоча. Я прапанавала, але Вітаўт запярэчыў, каб яе не спугнуць. Нагаварыў мне грубасьцяў. Я раззлавалася.

Ідучы дахаты памірыліся. Вечарам стараліся дазваніцца да Юры, каб даведацца, ці яны (хлопцы) едуць у Флярыду. Не дазваніліся.

Я пачала зьбіраць беларускі матар'ял для Pennsylvania Univ. Library[3]. Адказу з Personnel[4] няма яшчэ.

Купілі Юру мандарынкі і вінаград. Заўтра завязём.

---

*[1] Для абмеркаваньня плянаў Этнічнае Рады.*

*[2] Т. Куччыяра – прадстаўнік адміністрацыі гораду Джэрзі Сіты. Рыхтавалася TV-праграма пра калядныя звычаі розных нацыянальнасьцяў. Здымаць меліся каля Статуі Свабоды. Дамовіліся, што будзе выступ беларускай моладзі з калядкамі. Што і было зроблена.*

*[3] Бібліятэка ўнівэрсытэту Пэнсыльванія з Філядэльфіі зьвярнулася ў БІНіМ па дапамогу разбудаваць асноўную калекцыю беларусікі. Гэта было зроблена, але ўжо ладна часу.*

*[4] Аддзел кадраў бібліятэкі.*

**Чацьвер 29 лістапада**

Дазваніліся да Юры. Дамовіліся вечарам спаткацца.

Вітаўт застаўся дома.

Званіла да Cucchiara – далі згоду ўдзельнічаць 8-га сьнежня. Ён мне яшчэ пазвоніць, пра дэталі.

З Personnel яшчэ нічога няма. Цяпер я ўжо зусім не разумею чаму (гэта я пісала ў абед).

Каля 3-ян прыйшоў ліст ад Mr. Fries з падцьверджаньнем майго павышэньня. Добра. Цяпер ужо гэтае напружаньне мінулася.

Пасьля работы мы спаткаліся зь Вітаўтам у Secaucus і паехалі далей у New Brunswick спачатку да Іркі, пасьлей на зборку.

Ірэна[1] згадзілася ўпарадкаваць малюнкі для зборніка Салаўя. Прыемна ў яе перакусілі — яна заўсёды вельмі элегантна прыгатаўляе стол. Наагул у яе ўтульна.

На зборцы «Museum» былі дзьве кампаніі для канчальнага выбару для «Feasibility study». Выбралі фірму ***. Была цікавая дыскусыя і важная дэцызія. Marcyshyn, як заўсёды, скакаў. Галіна пробавала паказаць сваю важнасьць. Сьмешныя яны!

Пасьля зборкі заехалі да Юры. Раптам захададала. Зь Юрам мы зараньня не стэлефанаваліся. Чакалі, як дурні, на холадзе, пакуль нехта выйшаў з будынку, каб дзьверы адчыніліся. У яго, як і трэба было спадзявацца, балаган, але пакойчык добры. Пакінулі яму фрукты, пернікі (бабка напякла) ды паехалі дахаты. Было ўжо пасьля 11-ай. Ён у Флярыду, мусіць, не паедзе. Казаў, каб яго не прыймалі пад увагу ў нашых з Алесяй плянах.

---

*[1] Ірэна Рагалевіч (пазьней Рагалевіч-Дутка) — беларуска, мастачка, працавала ў рэклямнай фірме і пазьней афармляла ўсе кнігі БІНіМу. Жыла каля Нью Брансуіку.*

**Пятніца 30 лістапада**

Прыехалі сяньня на машыне. Атрымалі зарплату.

Прыходзіў Тумаш. Прынёс недрукаваныя Салаўёвы вершы й успаміны Дубэйкоўскай, каб я перачытала.

Званіла Орсіха, каб зрабіць Веры Рыч нейкі падарунак. Рашылі купіць у Юлі альбом.

Юля званіла — дамовіліся, што пад'едзем, забярэм яе, каб ехаць у Крычэўскага на вечар Веры Рыч. Добра даехалі. Яшчэ й час быў павячэраць. Зайшлі ў нейкі невялічкі рэстаран — чадна, цесна, але яда была добрая.

Вечар прайшоў вельмі ўдала. Вера была зусім прыстойная, цікавая. Усе засталіся задаволеныя. Добра, што наладзілі вечар. Шкада, што моладзі ня было. Тут ужо Рая нашкодзіла. (Іх[1], зразумела, нікога ня было). Адамовіч, зразумела, свае пяць грошай уставіў. Але ўсё было чынна. Падаравалі ёй альбом і чырвоную розу (я давала). Яна, здаецца, таксама засталася задаволеная. Казала, што стараецца сьцерці з памяці выпадак са Станкевічамі. Яе забралі Бартулі на гэтыя колькі дзён астатніх (у нядзелю яна ўжо адлятае ў Лёндан).

Завезьлі Юлю й Шукелойця аж пад іхны раён ды нарэшце дахаты. Трохі стаміліся (бо ўжо другі вечар адразу з працы ды на зборкі), але настрой быў добры.

Пагаварыла з Шук. аб лістох ды фармулярах, што трэба адаслаць[2].

Русак робіць Зьвязду[3].

Алы[4] ня было, каб пагаварыць пра выступы на статуі Свабоды.

---

*[1] Станкевічаў.*

*[2] Зора ў тыя гады была сакратаром Галоўнай Управы БАЗА. Трэба было шмат возіцца зь бюракратыяй, запаўняць розныя фармуляры — дзяржаўныя, штатныя, гарадзкія, а таксама фармуляры для даведнікаў. Гэтыя працэдуры ў БАЗА ды іншых беларускіх арганізацыях ЗША цягнуцца й цягнуцца гадамі.*

*[3] Уладзімер Русак — рабіў калядную Зьвязду для выступу на TV.*

*[4] Ала Рамана была кіраўнічкай танцавальнага гуртка «Васількі», усе мастацкія выступы праходзілі пад ейным кіраўніцтвам.*

**Субота 1 сьнежня**

Цэлую раніцу езьдзілі па Пасэйку ў пошуках крэсла для Юры. Пабывалі ў поў-тузіны магазынах. Вітаўт быў выключна каапэратыўны, церплівы. Нагледзелі шмат добрых крэслаў, але нічога не купілі. Рашылі пагаварыць яшчэ з Юрам. Найлепшая развязка — гэта аддаць Юру Вітаўтава крэсла, а яму купіць новае. У часе нашага бадзяньня па магазынах натрапілі на вельмі адпаведную шафку для ўсіх нашых сувэніраў. Праўда, дарагая ($700). Нічога канкрэтнага ня вырашылі. Затое купілі Вітаўту бацінкі й порткі.

Вечар прайшоў спакойна.

Я чытала ўспаміны Дубэйкоўскай. З апініяй пачакаю — аж пакуль усё ня скончу.

**Нядзеля 2 сьнежня**

Пасьнедалі. Я нават памыла сваё. Паехалі ў царкву. Там даведаліся, што будзе Слуцкая ўрачыстасьць.

Рэфэрат чытаў Кунцэвіч[1]. Залез у гісторыю. Было трохі нуднавата, але ўсё-ж нешта пазналася.

Пасьля рэфэрату сабраліся New York БАЗА, каб пагаварыць аб плянах. Я расказала пра Музэй эміграцыі, таксама вырашылі рабіць ялінку для дзяцей 13 студзеня й Спатканьне Новага Году.

Вітаўт зноў зрэзаўся з Раяй. Я яму ўсё кажу, каб ігнараваў яе. Зь ёй немагчыма гаварыць. Асабліва ён ніяк не патрафляе зь ёй. Нэрвуецца, гаворыць ёй грубасьці, замест таго, каб проста адысьці ды не заўважаць яе і не ўдавацца у дыскусыю.

Званілі Юру, ён рады мець крэсла Вітаўтава. Сказаў таксама пра адзін падручнік, дзе няправільна паказана Расея — Адэса. Вітаўт запісаў, выкарыстае.

Вечарам працавалі. Я чытала Дуб[2].

---

*[1] Мікола.*

*[2] Успаміны Юльяны Вітан-Дубейкаўскай.*

**Панядзелак 3 сьнежня**

Вітаўт рана паехаў на зборку Адукацыйнага Камітэту[1] — перагляд падручнікаў у школах N.J., што да асьвятленьня этнічных групаў.

Званіла Margo Nash[2]. Яна выслала афішы на дзіцячыя канцэрты каля Статуі Свабоды.

Званіла Ала — ці будзе выступ у суботу. Спыталася ў яе, якія песьні будуць сьпяваць.

---

[1] *У Этнічнай Радзе штату быў Адукацыйны камітэт, які займаўся пераглядам падручнікаў для школаў, у якіх асьвятляліся пытаньні Усходняй Эўропы.*

[2] *Margo Nash — прадстаўніца TV-кампаніі, якая каардынавала адукацыйныя праграмы.*

**Аўторак 4 сьнежня**

Пазваніў зрана Cucchiara. Усё ў парадку — мы будзем на T.V. Пазваніла да Алы — сказала ёй. Яны ўжо рыхтуюцца — будзе 10-11 дзяцей.

Рабіла — зьбірала брашуркі аб беларусах, аб калядных звычаях, зьмест песьняў. Напісала ліст да Cucchiara з інфармацыяй пра групу. Ballerine праверыла. Яна маладзец — вялікая нам дапамога. Вітаўт купіў білеты ў Cleveland і заказаў пячатку БІНіМ.

Вечарам Вітаўт паехаў на зборку Ethnic Advisory Council у New Brunswick (у мадзяраў)[1]. Забраў крэсла для Юры. Юрачка званіў а 7-ай, што Вітаўта яшчэ ня было. Мусіць, заедзе пасьля зборкі.

Я друкавала ліст да Cucchiara і падрыхтавала большы тэкст пра Калядныя звычаі для T.V. ды наагул для карыстаньня.

Вітаўт прыйшоў даволі позна. З крэслам усё ў парадку. Добра ўмясьцілася ў багажнік. Юра з хлопцам занесьлі яго наверх. Зборка Рады была ўдалая.

---

[1] *Часта Этнічная Рада зьбіралася на паседжаньні ў нацыянальных цэнтрах.*

**Серада 5 сьнежня**

Серада была суетлівая, бесталковая, сварлівая.

Раніцай, праўда, было даволі спраўна. Ballerine папраўіла мне тэкст калядных звычаяў. Вітаўт зрабіў копіі матар'ялаў, што для Cucchiara, адаслаў ліст.

У абед пайшлі у Travel Center. Пратарчэлі там амаль дзьве гадзіны. Часткава залагодзілі (самалёт і ў Флярыду і для Вітаўта зьмяніў на пазьней). Але так выглядае, што паездка ў Фла. будзе вельмі дарага каштаваць. У мяне вельмі невыразнае пачуцьцё — пачынаю вагацца.

Вечарам на гэтую тэму нават і сварка пачалася. Я шкадавала, што ўсё гэта заплянавалася. Вырашылі адмовіцца ад паездкі. Заўтра рана зазвонім да Алесі.

**Чацьвер 6 сьнежня**

Вітаўт паехаў у Кліўленд. Пазванілі да Алесі, сказалі, што з паездкі ў Флярыду, мусіць, нічога ня выйдзе.

Пазваніў Вітаўт да Keith Edwards[1] — адмовіліся ад паездкі.

Пазваніла Яня — прынесла ад Юлькі картачкі, што я заказала,

й пласьцінку (Юля дала дарма — за пашкоджаную). Пазычыла ў Аргазінскага $20, каб аддаць Яні, але хапіла $10, то я $10 яму аддала адразу-ж.

Вечарам званіў Вітаўт. У Кліўлендзе ўсё добра, даехаў добра.

---

[1] *Прадстаўнік турыстычнага бюро ў Нью Ёрку.*

**Пятніца 7 сьнежня**

Даведаліся, што з Аргазінскім стала дрэнна ў цягніку, як ехаў на працу. Цікава, што мая першая рэакцыя была — «А я-ж яму вінаватая грошы». Увесь дзень чакалі вестак ад яго жонкі — нічога.

Зрабіла валасы. Прыгатавала матар'ял для T.V., для дзяцей.

**Субота 8 сьнежня**

Пагода някудышняя — вецер, холадна. Паехала пад Статую даволі рана. Узяла кажух[1] (які цэлую ноч вісеў на двары, каб трохі праветрыўся). Там быў балаган, пакуль сабраліся. Але нарэшце ўселіся на лодку[2]. Я аддала матар'ял Cucchiara. Там так выйшла, што з Алай ён спаткаўся раней, чымся са мной. Жанчыны з Мерляковай царквы, наагул нават ня ведалі, што гэта я ўсё арганізавала.

Там, ужо на Статуі, пакуль зарыентаваліся, хто будзе рабіць перадачу, было ўжо позна нешта сказаць пра нас. Я толькі ўсунула жанчыне, якая рабіла перадачу матар'ял, які прыгатавала. Яна была ня надта прыветлівая. Захацела гаварыць толькі зь дзецьмі — выбралі Паўліка Рамана. Прайшло даволі добра. Яна зрабіла памылку сказала «Russian», але Паўлік яе паправіў з вялікім націскам. Цікава, што яна зробіць для перадачы?

Сабралася даволі шмат нашых людзей — быў Ул. Русак са зьвяздой. Кажух ня выкарысталі.

Шукелойць прыехаў пазьней. Было надта холадна, пайшоў дождж-сьнег-град, як ужо вярталіся назад. Тут ужо Шук. мне сказаў, што памёр Аргазінскі — ён даведаўся ад Паланевіча. Я вельмі растроілася. Усё разам — і невялічкае незадаваленьне выступам, і гэтая вестка. Я была вельмі прыгнечаная.

Вечарам пазваніў Вітаўт. Яны шмат чаго зрабілі — былі ў двух каледжах, у бібліятэцы, у рэспубліканцаў[3].

---

[1] *Гэты кажух прывезла зь Беларусі сям'я Круцькаў, яны аддалі кажух БІНіМу.*

[2] *У той час да Статуі Свабоды дабіраліся яшчэ на катэрах Берагавой Аховы. Публічнага транспарту яшчэ не было.*

[3] *У той час я наведваў усе магчымыя ўстановы, архівы, дзе маглі быць сьляды дзейнасьці беларусаў, каб улучыць у запланаваную кнігу «Беларусы Кліўленду».*

**Нядзеля 9 сьнежня**

Нядзеля прайшла неяк зусім без уражаньняў — настрой цяжкі.

Вечарам паехала спатыкаць Вітаўта на аэрадром. Самалёт спазьніўся — чакала доўга.

Але ўжо як прыехаў, дык трохі настрой палепшыўся. Ён мне расказаў пра свае посьпехі — я яму пра свае адчуваньні.

Яго рэфэрат прайшоў добра. У Bannuti[1] пэўна заручыліся, што выдадуць кніжку пра Беларусаў у Кліўлендзе. Яны таксама прапануюць памешканьне для Symposium падчас спатканьня Беларусаў у вер. 1980 г.

У Kent Univ.[2] падалі матар'ял пра архівы. У бібліятэцы пагаварылі пра калекцыю беларускую. У рэспубліканцаў заручыліся на ўдзел Беларусаў у канвэнцыі. Адным словам удалая паездка.

---

*[1] Карл Бануты (Karl Bonutti) — славенец, загадчык катэдры эканомікі Кліўлендзкага ўнівэрсытэту, быў рэдактарам сэрыі кніжак (штук 28) «Нацыянальнасьці Кліўленду». Ён запрапанаваў дапамогу ўнівэрсытэту ў правядзеньні Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў 1980 годзе, ■ калі будзе нешта арганізаванае БІНІМам — унівэрсытэт будзе ўдзельнікам. У 1990-х гадох Карл Бануты стаў амбасадарам Славеніі ў Ватыкане і запрашаў нас на дыпляматычную ўрачыстасьць у Ватыкане.*

*[2] Kent University — каля 100 км ад Кліўленду, меў нядрэнную калекцыю беларускіх кніжак. Там быў Цэнтар этнічных дасьледаваньняў, на чале якога стаяў Любамір Вынар, украінскага паходжаньня. У цэнтры было выдадзена шмат розных даведнікаў пра этнічныя архівы, музэі і г. д. Беларусы, БІНІМ цесна зь ім супрацоўнічалі.*

### Панядзелак 10 сьнежня

Раніцай, як я прыйшла на працу, ніхто яшчэ нічога ня ведаў пра Аргазінскага. Я сказала, але яны ўсе яшчэ не давалі веры. Devor пазваніў да жонкі, я пазваніла ў пахароннае бюро. Даведаліся дакладна, калі паховіны. Сабралі грошы на кветкі. Усе вельмі прыгнечаныя гэтай весткай.

Вечарам пайшлі у пахароннае бюро — я, Сільвія, Devor і Вітаўт. Ехалі падземкай, а тады вялікі кавалак ішлі. Раён там зусім краёвы. Шмат украінскіх магазынаў. Там чакалі, пакуль прыйшла яго жонка. Пагаварылі зь ёй, яна дакладна (але-ж дакладна) расказала, як усё сталася. Кветкі нашыя былі зусім няўдалыя (заплацілі $60 за такую дрэнь). Далі таксама на імшу.

Пасьля я аддала жонцы $10 і картачку са спачуваньнем. Разышліся з Devor і Silvia і пайшлі перакусіць. Знайшлі нейкі даволі прыемны рэстаранчык.

Вярнуліся дамоў яшчэ не так і позна.

### Аўторак 11 сьнежня

Нашыя некаторыя пайшлі на паховіны.

Прыйшоў Тумаш. Гаварылі пра пляны на канфэрэнцыю прысьвечаную Статуту[1]. Ён, як заўсёды, кажа, што трэба падумаць. Тумаш даў свой артыкул для прачытаньня й камэнтарыяў.

---

*[1] Пачалі плянаваць канфэрэнцыю БІНІМу, прысьвечаную Статуту ВКЛ, якая мелася адбыцца ў 1980 годзе ў Кліўлендзе.*

### Серада 12 сьнежня

Засталася дома. Неяк чулася ня добра. Вітаўт зрана таксама быў дома, а пазьней паехаў у Трэнтан па этнічных справах. Я парадкавалася, падрыхтоўвала матар'ял для рабленьня ўпрыгожваньняў для ялінкі. Друкавала артыкул — Сміт.

Вітаўт, едучы назад, заехаў купіў калбасы беларускай (мы яе вешаем на падстрэшшы — каб сохла — і час ад часу карыстаем, як захочацца нечага смачнага). Заехаў таксама да Юрачкі. Завёз яму печыва (бабка напякла) і грошы.

### Чацьвер 13 сьнежня

Прыходзіла Тамара[1]. Пагода была нядобрая — дождж. У абед пайшла да Яні[2]. Яна прынесла лялькі, што зрабіла Юля[3]. Лялькі нішто сабе, але [redacted] спадзявалася акуратнейшай працы ад Юлькі. Можа, паправіцца.

Купіла печыва для разьвітальнага пачастунку з Dorothy. Хадзіла у Chez Laurens. Дорага, але смачнае печыва. Прыемна правялі надвячорак усе разам, нават Devor быў.

---

*[1] Тамара Колба, мастачка.*

*[2] Яня Каханоўская, дачка Эміліі Шабуні з дому Луцкевічаў (сястры Івана і Антона). Яня Каханоўская працавала сакратаркай у Беларускай сэкцыі Радыё Свабода (рэдактар — Ян Запруднік) у Нью Ёрку. Яна была актыўнай у шматлікіх арганізацыях, мы трымалі зь ёй блізкую сяброўскую і працоўную лучнасьць. Шмат друкавала для БІНіМу.*

*[3] Дачка Яні, маці Данчыка.*

### Пятніца 14 сьнежня

Пайшла на падвячорак з Факсам[1]. Пазьней прыйшла зноў, каб трохі пагаварыць з Тумашам. Гаварылі пра плян вечару ўспамінаў аб Луцкевічу. Я параіла, каб прачытаць таксама вытрымкі з успамінаў Дубэйкоўскай.

---

*[1] Абрам Факс, Зорын сябра, каталёгер у бібліятэцы, гэбрай, трэцяе пакаленьне эмігрантаў з Аўстрыі.*

### Субота 15 сьнежня

Сядзелі цэлы дзень дома. Парадкавалася, памыла галаву, накруціла валасы.

Пазьней пазваніла сп. Бартуль, што ня зможа прыехаць на рабленьне цацкаў у нядзелю[1]. Ала яшчэ раней казала, што ня пэўная, ці прыедзе. Я папрасіла Бартуліху, каб даведалася, ці хто будзе, ды дала мне знаць. Ніхто за цэлы вечар не адазваўся — мусіць ня будуць.

---

*[1] У Нью Ёрку быў звычай — на грамадзкія ялінкі ў цэрквах цацкі рабілі грамадой. Зьбіраліся амаль штотыдня два месяцы перад Ялінкай і рабілі цацкі.*

**Нядзеля 16 сьнежня**

Рана мы вагаліся, што рабіць. Ехаць ці не. Нарэшце я пазваніла да Олі Мельяновіч, яе дома ня было. Дачка сказала, што яны, мусіць, не паедуць. [redacted] адклала усю гэтую зацею.

Вітаўт паехаў у царкву. Я засталася дома.

Перад 11-ай звоніць Бартуліха, кажа, што Ала будзе рабіць пробу і яны усе зьбіраюцца пад царкву (Мерлякову). Вось табе й ну. Што мне рабіць? Без машыны. Адным словам выйшла нядобра. Зазваніла пад нашую царкву — параіцца зь Вітаўтам, але што-ж ён паможа. Зазваніла пад другую царкву. Там яшчэ Алы ня было. Оля сказала, што выглядае, што зьбірацца няма сэнсу. Яны хутка зробяць пробу ды разьедуцца. Я вельмі расстроілася. Гэта-ж была мая зацея, а так несамавіта выйшла.

Як прыехаў Вітаўт, трохі палепшыўся настрой. Ён прывёз ад Русакоў купон на кашулю, якую яна ўжо раней яму абяцала. Цудоўны. Трохі будзе працы яе пашыць ды яшчэ давышываць.

Прывёз гэтаксама два цудоўныя выпаленыя малюнкі ад Беластоцкага мастака — зімовы відок і снапкі па $20. Мы ўжо маем 6 розных абразкоў. Павесілі ў T.V. room, яны на цёмным фоне вельмі добра выглядаюць.

Званіла Алюнця. Што сталася? Расказала ёй.

**Панядзелак 17 сьнежня**

Званіла Мерляку ўдакладніць пра ялінку. Яны згадзіліся рабіць адну ялінку разам у нас пад царквой — 13 студзеня. Пазваніла Русакам — падзякавала. Пазваніла Данчыку. Ён згаджаецца сьпяваць на канцэрце, 23-га каля статуі Свабоды.

**Аўторак 18 сьнежня**

Прыходзіў Тумаш. Яго дзень народзінаў будзе праз пару дзён. Мы яго прывіталі й падаравалі ручку Parker. Здала Сміта нарэшце. Надакучыў мне ён ужо.

**Серада 19 сьнежня**

Пайшоў сьнег. Мы чакалі доўга на аўтобус — зьмерзьлі страшэнна.

Зазваніў Юрачка рана Вітаўту. Ён глядзеў перадачу аб 11-ай[1]. Кажа, што нядрэнна, але й не зусім энтузіястычна гучэў. Цікава, як там будзе? Настрой трохі прыгнечаны. Столькі працы было ўкладзена. Шкада, калі выйдзе «пшык».

Пазьней пазваніла Орсіха, што нехта (здаецца Русак) сказаў ёй, што не абвесьцілі, што гэта беларуская група, што нас ігнаруюць і г. д. — трэба пратэставаць. Настрой ужо зусім сапсуўся.

Вечарам пісала карткі й хвалявалася, чакаючы на T.V. перадачу. Да Юры, як плянавалі, не паехалі дзеля сьнегу.

Вельмі добра ўсё выйшла — добры рэпартаж — яна пакінула й сваё «Russian» і Паўлікавую вельмі моцную рэакцыю й папраўку. Удалося

зусім добра. Пазваніла Але — яна таксама задаволеная. Настрой адразу папраравіўся. Прасіла «tape»[2].

[1] *T.V. паказ «Каляды на Беларусі», як беларусы-амэрыканцы іх адзначаюць. Было выдатна: Паўлік папраравіў журналістку. Было ясна: ня трэба блытаць беларусаў з рускімі.*

[2] *Копіі стужак перадачы.*

**Чацьвер 20 сьнежня**

Вітаўт застаўся дома. Перакладае ўсё яшчэ 2-гі Бел. Кангрэс. Я адзела боты й было ўжо прыемна й цёпла.

А чацьвертай пайшлі на «Party»[1], доўга там ня была — таўкатня, шумна. Прынесьлі талерачку пачастункаў для Devor'a. Ён усё з апэтытам зьеў. Мусіць, ён цяпер адзін не зусім добра дагледжаны.

Як ехала назад дахаты, заўважыла, што ўжо крыху ад сьнегу расчышчана на дарогах. Прыйшла мне думка паехаць да Юры сягоньня.

Паехалі. Ехалася добра. Яго засталі добра. Узялі яго на «Hamburger». Добра пагаварылі. Забралі «Tape recorder». (Ён быў у хлапцоў Юравых — на яго старой кватэры!!!) Усё заладзілі. Завезьлі яму мандарынкаў. Забралі ад яго шмат рэчаў. Адным словам, было ўдалае падарожжа. Настрой быў добры.

[1] *У амэрыканцаў перад Калядамі ў офісах ладзяцца «Party» — вечарынкі з пачастункамі з нагоды сьвятаў. У бібліятэцы кожны аддзел рабіў свае «Party». Зора амаль заўсёды пякла «беларускую макаўку» і прыносіла на гэтыя вечарынкі. Шмат гаварылася пра беларускія стравы.*

**Пятніца 21 сьнежня**

На рабоце нічога асаблівага. Хадзіла ў абед за пакупкамі. Куды там — не даступіцца. Купіла толькі добрыя пасьцілкі ў Azuma — падобныя на Беларускія. Хадзілі з Fox'ам на каву. З Тумашам не спаткалася.

Вітаўт затрымаўся да 6-ай — у іх «Party», дык трэба глядзець за моладзьдзю. Зрабілі яшчэ трохі копіяў «Калядных звычаяў» для нядзелі.

Прыехала дахаты — Алеся мяне чакала каля аўтобуса. Хутка забраліся й паехалі на фарму.

Субота 22 сьнежня

Усталі рана й паехалі па справах[1]. У банк — адбілі працэнты й узялі грошы. Тады паехалі ў Egg Harbor, думалі яшчэ памяняць грошы — але банк там быў закрыты. Адтуль адразу-ж паехалі ў Shop-Rite (там, мама успомніла, ёсьць аддзел банку) памянялі грошы, зрабілі закупкі.

Паехалі дахаты. На двары дзьве машыны: Гэлен з мужам абкладаюць вокны пластыкам.

[1] *Хатнія клопаты на фарме Апалёніі Савёнак.*

**Нядзеля 23 сьнежня**

Рана пасьнедалі. Вельмі прыемна. Я ўсіх рана падняла. Памылілася часам. паехалі на статую ўжо даволі позна. Юрачка кіраваў. Пад'ехалі пад самую прыстань, выклалі tape recorder, і Юра паехаў паркаваць. Я ўспомніла, што пакінула сумачку з усім матар'ялам у машыне. Пайшла па яе. А яны ўсе засталіся, каб ехаць. Я, зразумела, на лодку спазьнілася. Прыйшла пад прыстань, там быў Cacchiara. Паказаў мне ў Write up з New York Times[1].

---

[1] *Перадачы з выступамі каля Статуі Свабоды паўтараліся некалі разоў. Была нататка ў газэце The New York Times.*

**Панядзелак 24 сьнежня**

Цэлы дзень правялі ў паездках за падарункамі. Нічога надта важнага не купілі. Пагода дажджлівая, даволі холадна. Езьдзілі спачатку ў Flea market[1] — зусім дрэнь. Пасьля паехалі ў Патэрсон — зачынена. Тады ў Парамус — тое-сёе купілі. Юра нас пакінуў і пайшоў сваёй дарогай. Дамовіліся спаткацца а 3:30. Ён прыехаў пазьней. Паехалі ў Пасэйк, купілі падарункі для Вітаўта (добрыя кашулі й гальштукі). Вярнуліся дахаты ўжо позна. Вітаўт хваляваўся. Купілі смажаную курыцу. Павячэралі ўсе разам. Пакавалі падарункі. Я вельмі дрэнна чулася, што Алесі мала падарункаў. Рашылі ёй аддаць брасьлет залаты бабчын[2]. Толькі ўжо позна вечарам справіліся з падарункамі. Стамілася.

---

[1] *«Блышыны рынак».*
[2] *Бабка купіла, калі прыехала ў ЗША.*

**Аўторак 25 сьнежня**

Каляды.

Усталі ня надта позна. Падрыхтавалі сьнеданьне. Сталі разьбіраць падарункі. Усё ўсім даспадобы. Асабліва карысталася посьпехам драбіна — Юрава ідэя.

Брасьлет Алесі вельмі спадабаўся.Трохі можна палепшыць. Можа нават, зь лішніх зьвеньняў зробяцца завушніцы. Як убачылі, што Алесі так спадабаўся брасьлет, рашылі аддаць Юру гадзіньнік дзедаў. Юру спадабаліся падарункі з Brooks. Я атрымала грошы на фотаапарат. (Праўда, трэба было зрабіць Вітаўту намёк, нават больш: сказаць і зрабіць пакуначак нібы ад яго).

Пасьнедалі ўсе разам. Адпачывалі. Вітаўт перакладаў.

Я памылася й накруціла валасы. Было неяк зусім будзённа. Званілі да бабкі на фарму — віталі.

Алеся перакладала. Юра папраўляў трохі для Вітаўта. Я трохі яму дапамагала. Спрачаліся за словы, сказы[1]. Гэта добра. Рашылі паесьці. Юра паехаў пашукаць, што адкрыта. Прыехаў з пустымі рукамі — усё зачынена. Мы нешта зымправізавалі. Алеся была цэлы дзень

дома. Усе яе сяброўкі былі занятыя сваімі сьвяточнымі візытамі. Вечар прайшоў прыемна й спакойна.

---

[1] *Усё ішла «вазьня» вакол перакладу кнігі «Другі ўсебеларускі кангрэс»*

**Серада 26 сьнежня**

Пасьля 4-х днёх пайшлі на працу. Я зусім за гэтыя дні не адпачыла, толькі стамілася, затузалася. На працы нічога цікавага. Вітаўт хадзіў да Запрудніка. Адамовіч перадаў ліст ад Сядуры, у якім шмат інфармацыі пра Салаўя. Адамовіч хоча пагаварыць заўтра пра Салаўёў зборнік.

**Чацьвер 27 сьнежня**

Вітаўт паехаў рана на спатканьне на Downtown з чалавекам з Census Bureau[1]. Хутка вярнуўся. Нічога там важнага ня было. Паабяцаў, што Ethnic council будзе дапамагаць усім, што зможа, пры перапісу.

У абед хадзіла да Адамовіча. Ён перадаў мне ўсе рукапісы Салаўёвых зборнікаў[2]. Маім заданьнем будзе праверыць чаго ў зборніках няма — каб дадаць у васобным разьдзеле «Вершы, якія не ўвайшлі ў зборнікі». Ён недзе заклаў і ня можа знайсьці вершы з «Беларускай Газэты», якія мы прыпушчалі, што пісаў Салавей. Цяпер пасьля Сядуравага лісту Адамовіч пэўны, што гэта так і ёсьць. Асабліва верш падпісаны «Не паэта». Прыпомніў Адамовіч і першыя дні Салаўя ў Менску. У рэдакцыю яго прывёў Караленка. І заапекаваўся ім Алесь Матусэвіч. Паводле Адамовіча, да Салаўя вельмі непрыхільна аднесьліся Плашчынскі і Папа. Сьмяяліся, кпілі зь яго. Ці праўда? Між іншага перадаў ён мне й памфлеты на Янку Станкевіча й на Папу. На Папу асабліва едкі й нядобры.

Вітаўт зрабіў копіі кнігі для Будзькі[3].

Раніцай, як толькі прыйшла, даведалася пра дзьве сьмерці. Joe з кафэтэрыі бібліятэчнай і Олександрів[4].

Сказала Адамовічу пра Олександріва. Вырашылі падаць невялічкую зацемку ў «Беларуса» пра яго.

Гэтаксама — гэта была ідэя Запрудніка — падаць зацемку-запрос пра Салаўя, яго лісты, успаміны пра яго.

Чытала Тумашаў артыкул «Скарынавыя дрэварыты». Добры зьмест, але такі-ж цяжкі, заблытаны стыль ягоны. Трохі зрабіла паправак, але, зразумела, толькі вельмі дробныя, што надта-ж ужо кінулася ў вочы. Зьмест артыкулу ўжо мне быў больш-менш знаёмы: Тумаш заўсёды дыскутаваў пра свае знаходкі на нашых рэгулярных падвячорках.

---

[1] *Бюро Перапісу. Беларусы былі ўнесеныя як асобная рубрыка.*
[2] *Ішла падрыхтоўка да друку твораў А. Салаўя.*
[3] *Чеславу Будзьку мы шмат дапамагалі. Ягоны архіў быў перададзены ўва ўнівэрсытэт гораду Сэнт Пол штату Мінэсота.*
[4] *Украінскі паэт.*

**Пятніца 28 сьнежня**

Дзень прайшоў без вялікіх навінаў. Па абедзе спаткаліся з Тумашам. Перадала яму артыкул. Ён параглядзеў заўвагі.

Кавы ў нас цяпер няма. Вітаўт хадзіў насупраць[1].

Адаслалі Будзьку пачку й ліст. У абед зайшлі да Адамовіча. Яны, як заўсёды ў пятніцу, былі вельмі занятыя, і наш прыход быў ня ў час. Доўга ня былі, разьвіталіся й пайшлі. Вечарам езьдзілі з Алесяй па пакупкі. Нічога не купілі. Стаміліся.

---

[1] *Бібліятэчная кафэтэрыя на нейкі час зачынілася, але пакой, дзе стаялі сталы, быў адчынены. Таму, як і гады-гады перад тым, мы там зьбіраліся і дыскутавалі розныя беларускія справы.*

**Субота 29 сьнежня**

Раніцай паехалі з Алесяй ізноў па пакупкі — Burlington. Вельмі цікавы магазын. Шмат Алеся мерала, але нічога не купілі. Схапіліся каля 1-ай гадзіны што трэба ўжо ехаць у Нью Ёрк. Хуценька паехалі дахаты, сабралі рэчы, распыталіся дарогу (якраз у бабкі быў Жамойда) й паехалі, да Woodhaven Blvd даехалі хутка, а там зьвярнулі недзе ня там дзе трэба й пачалі блудзіць. Было ўжо добра пасьля 2-ой (а мы дамовіліся спаткацца а 2-ой), і я рашыла што трэба пазваніць, асабліва пасьля таго, што было ў мінулы раз. Сталі каля будкі. У інфармацыі нумару царквы не дастала — ня ведала дакладнага імя. Пазваніла Вітаўту, каб ён зазваніў у царкву й сказаў, што мы позьнімся. Яшчэ доўга паблудзілі. Нарэшце дабраліся. Усе ўжо чакалі, церпяліва, трэба ім аддаць справядлівасьць.

Вельмі добра папрацавалі. Дзеці захапіліся. Захоўваліся вельмі паслушна — не дурэлі. Адны, як заўсёды, былі больш спрытнейшыя, чымся другія. Рабілі ланцужкі, лялькі, шышкі. Маткі спачатку былі пасыўныя, пасьля сталі дапамагаць, самі захапіліся. Былі: Заморская, Оля, тая не-беларуска, нейкі дзед меншай дзяўчынкі. Алы й Бартуліхі ня было. Быў Мярляк і пазьней прыйшоў Бартуль. Дзеці набралі матар'ялаў для рабленьня ўпрыгожваньняў дома.

Да хаты ехалі па Atlantic Ave. Даехалі добра. Купілі курку па дарозе. Павячэралі ўсе разам.

**Нядзеля 30 сьнежня**

Раніцай пасьнедалі. У царкву не паехалі. Вітаўт усё перакладае.

Я парадкавалася. Памыла бялізну.

Вечарам глядзелі фільмы з вакацыяў. Вельмі было прыемна. Так цікава ўспомніць, як было, якія мы былі.

**Панядзелак 31 сьнежня**

Паехалі на працу на машыне. Было цудоўна. Трафік вельмі лёгкі. Прыехалі вельмі рана. Шкада, што кавы ня было паблізу. Шмат дзе зачынена сёньня.

Атрымалі грошы.

Пайшлі ў банк, пазьней пасьнедаць.

Па абедзе пачалі чысьціць стол Аргазінскага. Devor неахвотна за гэта бярэцца.

Вечарам добра паабедалі. Але неяк я чулася нядобра. Амаль не сапсуўся вечар. Дзеці паехалі на Party.

Мы зь Вітаўтам дачакаліся Новага Году. Выпілі вэрмуту.

## *1980*

### Аўторак 1 студзеня

Падабаецца мне, як выглядае ў напісаньні 1980 год. Я рада, што мы нарэшце выйшлі з сямёркаў (касá). Заўсёды мне было на думцы апавяданьне Сп-ні Шудзейкі, як нейкая старая эмігрантка беларуска сказала ў 1977 годзе — «Нядобры будзе год — дзьве касы»[1].

Правялі мы першы дзень новага году спакойна. Парадкаваліся. Вітаўт канчаў пераклад. Дзеці паехалі абое на навагоднія забавы — Алеся да Ані Бойчук у Нью Ёрк , Юра у Нью Брансуік. Мы, як заўсёды апошнімі гадамі, былі дома. Раніцай доўга не ўставалі. Я трохі чытала ў ложку. Добрая даволі кніга: «Lazarus Man» — John Lutz. Пра Watergate пэрсанажаў пасьля таго, як галоўная цэнтральная асоба (выглядае надта-ж падобна да Holldeman) выйшаў з турмы і пачаў мэтадычна помсьціць усім, што былі вінаватыя ў ягоным арэшце.

Пасьнедалі. Разабралі елачку. Вітаўт неяк выцягнуў яе на порчу[2]. Я трохі прыбрала ў хаце. Пасьля памылася. Накруціла валасы.

Трошкі пазьней вырашылі елачку пасадзіць — надта-ж добрае надвор'е.

А гадзіне 4-ай прыйшла Алеся. Ёй добра гулялася.

Рэкс[3] адарваўся, падчас як Вітаўт займаўся елачкай. Яшчэ ўсё не прыйшоў. Вітаўт усё яго пільнуе.

Алеся пайшла да Deon[4]. Яна свой пераклад скончыла[5]. Вітаўт амаль скончыў пераклад. Цяпер (8-ая) паехаў шукаць Rex'a. Я ўпарадкавала свой дзёньнік за 1979 год.

---

[1] *Нібы народнае тлумачэньне: дзьве касы — будзе шмат сьмерцяў.*

[2] *Эміграцкае слова (porch) — сенцы, зашклёная вэранда.*

[3] *Наш сабака.*

[4] *Алесіна сяброўка.*

[5] *Фрагмэнты з кнігі «Другі Ўсебеларускі Кангрэс» перакладалі ў ангельскую мову Юрка й Алеся.*

### Серада 2 студзеня

Нічога цікавага, здаецца, сяньня ня было.

Званіла жанчына, для якой Аргазінскі рабіў пераклады. Я перадала яе Fox'у.

Хадзілі з Miss Pohlman[1] на Luncheon. Прыемна правялі час.

[1] *Была нейкі час мая начальніца. Амэрыканка ангельскага паходжаньня, лібэральная, шмат ведала тэарэтычна пра Беларусь, бо 20 гадоў (да бібліятэкі) была ў Ваенна-Марскім Флёце — там шмат вывучалі СССР.*

**Чацьвер 3 студзеня**

Засталася дома. Паехалі з Алесяй за пакупкамі. Цэлы дзень праезьдзілі. Купілі ёй паліто, боты, туфлі. Здалі брасьлеты (маленькі залаты й вялікі залаты).

Вітаўт паехаў з бабкай у South River: бабка да Дашкевічаў, Вітаўт да Хараўцоў і па калбасы. Вярнуўся Юрачка.

Мы з Алесяй (асабліва я, зразумела) пачалі хвалявацца, што пакінулі брасьлет — яна-ж паедзе і ня зможа прымерыць. Ды як зарэагуе Вітаўт на гэта? Вырашылі забраць тым часам назад. Паехалі яны зь Юрам і забралі.

Вітаўт, якраз, паставіўся да гэтага нармальна. Але я ўсё-ж радая, што мы забралі тым часам брасьлет ад Курца. За пару тыдняў перад Алесіным наступным прыездам занясём яго зноў.

Прыемна павячэралі. Юра недзе пайшоў. Алеся пайшла да Надзін.

Вечарам пазванілі Юру для «Substitute teach»[1]. Пачаўся вэрхал. Як знайсьці Юру. Вітаўт, як заўсёды, зрабіў больш шуму, [*чым*] гэта варта: «Яна прасіла пазваніць зараз-жа», «Безадказны», «Швэндаецца» і таму падобнае. Юра прыйшоў пасьля 11-ай. Не дазваніўся. Настрой у хаце сапсуўся.

Мяне гэта ўсё ужо пачынае надта стамляць. Нэрвовасьць, няроўнасьць. Ня ведаеш, дзе й калі, што станецца й як зарэагуецца. Хто вінны?

[1] *Юра нейкі час быў зарэгістраваны ў мясцовым Аддзеле Асьветы як настаўнік на замену. Сёньня пазвоняць — заўтра трэба некага замяшчаць.*

**Пятніца 4 студзеня**

Алесін дзень народзінаў.

Рана Юру пазванілі са школы. Паехаў.

У абед бегала, шукала нешта для Алесі — думала залаты Charm[1] у форме малатка судзьдзі. Не знайшла.

Алеся і Карэн прыехалі каля 3-яй. Пайшлі па білеты і ў кніжны магазын.

Мы пайшлі з д-р Тумашам на падвячорак. Гаварылі пра: зборнік Салаўя, Запісы, Будзьку і «Беларускі арнамэнт»[2]. Тумаш даў каляндарык. Пісала артыкул-хроніку ў Беларуса пра дзяцей. 5:30 прыехаў Юра. У яго ўсё добра. Лекцыі прайшлі добра. Заступаў настаўніка матэматыкі ў High School — адстаючыя клясы.

Павячэралі ў «Beefsteak Charlie». Доўга чакалі, але вячэра была добрая.

П'еса ўдалася нядрэнная. Мейсцы (дзеці купілі білеты за поў-цаны, што заставаліся непрададзеныя) добрыя. «Death trap» [*імя аўтара прапушчана*] з [*імя выканаўцы прапушчана*] у галоўнай ролі. Як заўсёды амаль, пакуль разыграліся, было трохі нуднавата, але пасьля пайшло гладка, весела. Заблытаная сытуацыя хто-каго забівае зь якой мэтай. Але ў лёгкай форме, добрая ігра.

Прыемна правялі вечар.

Пайшоў сьнег. Як вярталіся дахаты — дык было ўжо бела.

Званіла па абедзе Cucchiara. У газэце News Day была невялічкая зацемка пра нашу групу. Ён прышле выразку.

---

[1] *Ювэлірны выраб.*
[2] *Публікацыя Ч. Будзькі.*

**Субота 5 студзеня**

Цэлая раніца і па-паўдні прайшла ў беганіне.

Пасьнедалі. Плянавалі Куцьцю. Я ўпарадкавала пратаколы БАЗА. Перадрукавала артыкул.

На паседжаньне паехаў з намі Вячка Станкевіч.

На паседжаньні БАЗЫ было ўсё вельмі добра: прадуктыўна, спакойна.

Але як зьявіліся Станкевічы (Зіна й Стась — добра, Раі яшчэ ня было), дык адразу пачалася мітусьня, сварка.

Станкевічыха увесь час старалася зачапіць Вітаўта. Але Вітаўт быў маладзец гэтым разам — не паддаўся. Усё прайшло добра. Але пасьля паседжаньня я зьвярнулася да Зіны наконта запросінаў на ялінку і тут развязалася торба — яна так сварліва са мной гаварыла, такая была прыкрая. Ня ведаю, што яны да нас маюць. Чаму стварыліся такія напружаныя адносіны?

Адным словам сапсула мне зусім настрой. Запросіны я буду рабіць сама. Шукелойць узяўся разаслаць — ён быў вельмі каапэратыўны. Назад падвезьлі Васіля[1] й яго пад станцыю.

Вечарам як прыехалі дахаты, я ўзялася за друкаваньне запросінаў, рабленьне плякатаў, званеньне. (Ага, яшчэ прыпомніла: Вітаўт падвёз Станкевічаў пад хату, і па дарозе яна ўсё яшчэ на мяне ляпала — нядобрае слова — але я так пакрыўджаная, што гэта пасуе да яе).

Аддала Станкевічу артыкул.

Званіла Але, Бартулісе, Ользе Трылер[2]. Усе выглядае ў парадку. Ала грошы за выступ ужо атрымала, $25.

Станкевічыха ўжо раней званіла да Алы і да Бартуліхі. Мне не пазваніла. (Алюньця ёй сказала, што я арганізую). А рабіла выгляд перада мной, што гэта не яе справа.

Доўга я яшчэ вазілася з плякатамі, шукала алавікоў. Сыходзячы ад дзяцей[3], зьверху павалілася на сходках. Трохі пабілася, але ня шмат, бо проста зьехала па сходках задам. Вітаўт, замест каб паспачуваць,

пашкадаваць — стаў сварыцца (бо перапалохаўся). Мяне гэта больш за ўсё і пакрыўдзіла і балела за гэта больш, чымся за пабіты локаць ці тамсь якія яшчэ дробныя сіністі. Пасьля выбачаўся, але крыўда ўжо зробленая. Чаму так на сьвеце бывае, чаму людзі такія нястрыманыя, так сябе не кантралююць? Я тут і сябе не выключаю, бо й [redacted] часам, асабліва апошнім часам, не магу стрымацца і захоўваюся не на ўзроўні — даю волю нэрвам. Але Вітаўт шмат больш нястрыманы, успыльчывы, хоча, каб усе рабілі так, як яму хочацца. Крытыкуе на кожным кроку, а як яму зробіш заўвагу — уваходзіць часам у невытлумачальную злосьць. Вельмі часта бывае проста дзяцінны ў сваіх капрызах. «А то зараз кіну, плюну», — яго частая цяпер рэакцыя на заўвагі. І хапае, кідае, рве. Ну, але досыць крытыкаваць, [redacted] то зусім упаду ў «self pity».

Званіў Белямук. Ён Вітаўту прыслаў для газэты адказ Галяку (на артыкул у Byel. Times[4]).

---

*[1] Русака.*
*[2] Беларускія дзяўчкі-актывісткі ў Нью Ёрку.*
*[3] Дзеці жылі на 3-ім паверсе (дом быў трохпавярховы).*
*[4] Газэта Byelorussian Times (рэдактар Р. Гарошка).*

**Нядзеля 6 студзеня**

Раніцай званілі да а. Расьціслава[1], каб абвесьціў у цэркве пра ялінку.

Куцьця.

Вітаўт паехаў у царкву. Перш да Мерляка[2] — павесіць абвестку пра ялінку. Пазьней у Бруклін[3] — аддаць тэкст запросінаў Шукелойцю і павесіць плякат. Людзей было даволі шмат — будзе супольная куцьця.

Я пачала падрыхтоўваць Куцьцю. Дзеці паехалі дакупіць яшчэ сёетое для мяне, а пасьля ў царкву ў Гайланд Парк.

Вітаўт прыехаў ня позна — усё зрабіў. Я яшчэ ўсё парадкавалася, а ён пайшоў аддыхнуць. Я ўсё старалася, каб не рабіць шуму з кранам у кухні (яшчэ адзін ягоны ідыятызм — ня можа цярпець, як кран робіць такі дрыжачы, мэталёвы гук, і злуецца, а нічога ня зробіць, каб направіць).

Дзеці прыйшлі позна пасьля 8-ай. Прыйшла зь імі й Карэн[4]. Селі адразу-ж за стол.

Усё вельмі смакавала, было даволі прыемна. Вітаўт, праўда, са сваімі дурнымі жартамі й апавяданьнямі часам быў неўпапад. Але яму-ж усё можна. Ну, вось я ізноў раблюся зласьлівая. І, галоўна, я на яго цяпер і ня злуюся за нешта канкрэтнае, спэцыфічнае. Мусіць, проста агульнае стамленьне, недасыпаньне. Як дзеці ў хаце, усё нашае жыцьцё, руціна парушаецца.

Званіла днём да мамы. Яна ўжо тры дні ляжыць з жыватом. Вельмі аслабла — панос. Але, здаецца, мой тэлефон яе падбадзёрыў. Чуецца

ужо лепш. Праз некалькі хвілін пазваніла яна мне — каб не забылася ўжыць зеляніну — кансэрвы — для Куцьці.

[1] *Войтэнка.*

[2] *«Царква Мерляка» — парафія Сьв. Кірылы Тураўскага, чые парафіяне ў канцы 60-х гадоў адышлі ад БАПЦ і далучыліся да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха. Будынак царквы знаходзіцца ў прадмесьці Рычманд Гіл, якое належыць да раёну Куінз.*

[3] *«Царква ў Брукліне» — парафія Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ, заснаваная ў 1950-х гадох. Будынак знаходзіцца ў Брукліне. Цікава, што абедзьве царквы знаходзяцца на той самай вуліцы — Atlantic Avenue, якая пераходзіць з аднаго адміністрацыйнага раёну Нью Ёрку ў другі. Даўжыня вуліцы — дзясятак кілямэтраў.*

[4] *Сяброўка Юры.*

**Панядзелак 7 студзеня**

Каляды праваслаўныя.

Я пайшла на работу. Вітаўт дома. М. В. паехала з Жамойдам[1] у царкву.

Алеся сяньня выязджае. Вітаўт яе ўжо там адправіць.

Прынесла на работу макаўку (сёлета не такая ўдалая — дзеці купілі не зусім добра памолаты мак). Усім спадабалася усё роўна.

Напісала ліст Станкевічу, каб дадаў да імёнаў дзяцей, што выступалі — я там пару была прапусьціла — ня ведала дакладных імёнаў.

Званіла раніцай у бібліятэку тая жанчына, для якой Аргазінскі[2] рабіў пераклады. Нібыта жонка ягоная незадаволеная, што ёй не паведамілі, як адкрывалі стол. Праз якія поў-гадзіны звоніць і сама Аргазінская. Гаварыла з Fox[3]. Гучэла нармальна. Сказала, што прыйдзе паглядзець, што ёсьць пэрсанальнае ў стале А[*ргазінскага*].

У абед[4] хадзіла ў магазын паглядзець, якія ёсьць магчымасьці для падарункаў[5]. У сераду дамовіліся з Верай Бартуль ісьці купляць.

Вечарам прыйшоў Шук[*елойць*] прынёс мне канвэрты з маркамі, адрасы. Запросіны не перамножыў — заўважыў памылку: ня было пададзена мейсца дзе адбудзецца Ялінка.

Вечарам перадрукавала, але ўжо вельмі позна — зусім забылася: заглядзелася T.V. Пераглядаючы адрасы завязалася спрэчка, каму слаць, каму не.

Юра паехаў у New Brunswick — substitute[6].

[1] *Сымон Жамойда — беларус, сябра сям'і Кіпеляў ад 1945 году. Жыў недалёка ад нас у горадзе Пасэйку.*

[2] *Аргазінскі — калега, памёр — трэба было ачысьціць стол, шуфляды.*

[3] *Абрам Фокс — Зорын начальнік на працы.*

[4] *Перапынак на абед.*

[5] *Рыхтавалася ялінка для дзяцей у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Кожнаму дзіцяці купляўся падарунак ад царквы.*

[6] *Замяняе заўтра нейкага настаўніка.*

**Аўторак 8 студзеня**

Раніцай здорава пасварыліся. Зусім за пустога пачалося: Каўшоў

перадрук у «Царкоўным Сьветачы» артыкулу аб Сіповічу з «Голаса Радзімы». Вылілася па дарозе на работу ў сапраўдную сварку. Цэлую дарогу сварыліся. Нешта надта-ж ужо мы часта сварымся апошнім часам. Ды так заядла. Ня добра.

У абед канчала пераглядаць «Бел. Газэту»[1] пра Салаўя. Нічога больш, чымся першы раз, не знайшла. Ужо трэба зварочвацца. Думаю, што цяпер усё будзе паўтарэньне — таптаньне на мейсцы.

Тумаш прынёс машынапіс Салаўёвых вершаў для праверкі з рукапісам, перад тым як высылаць Прускаму для друкаваньня[2]. Гаварылі пра наладжаньне вечару ўспамінаў пра [*доктара Аляксандра*] Орсу (Орсіха Вітаўта прасіла). Тумаш расказваў пра першыя інтрыгі й сваркі пры заснаваньні Інстытуту. Кушалі, Каханоўскі і іншыя (здаецца й Гарошка) хацелі заснаваць Акадэмію з надта камплікаваным і дыскрымінацыйным спосабам сяброўства. Тумаш запрапанаваў Інстытут, каб прасьцей, не так важна. Адамовіч і Янка Станкевіч мелі сваё Крывіцкае Таварыства. Орса, здаецца, таксама належаў да іх. Ва ўсялякім выпадку ў Інстытут ніколі не ўступіў. Орсіха кажа, што яго не прынялі і што Кушаліха была гэтаму віна. Разьбярыся тут. У нас так заўсёды — усе некага абвінавачваюць, усе пакрыўджаныя, усе адзін другому пакасьці робяць.

Вечарам перагледзела манускрыпт [*кнігі*] Салаўя. Знайшла шмат памылак. Юру пазванілі зноў на працу. Юра застаўся ў N[*ew*] B[*runswick*].

---

[1] *Менская газэта часоў нямецкай акупацыі.*

[2] *Мікола Прускі жыў у Дэтройце. Меў свой друкарскі варштат: раней ручны набор, пазьней купіў лінатып, а ў канцы 1990-х перайшоў на кампутары. Мы зь ім мелі дачыненьне на працягу 30—40-х гадоў. Гэта было выдатнае супрацоўніцтва.*

**Серада 9 студзеня**

Вітаўт дома. Працуе над кнігай пра Кліўленд[1].

У абед хадзілі з Бартуліхай купляць падарункі. Трохі купілі. Разьмеркавалі, каму што купляць.

Хадзіла да Запрудніка. Праверылі разам рукапіс і машынапіс. Ён уважае, што ў некаторых мейсцах гэта не памылкі, а рэдактарскія папраўкі. У мяне-ж уражаньне, што Адамовіч не правяраў.

Вечарам Вітаўт паехаў на зборку Heritage Ball[2]. Мы зь Юрачкам адпачывалі, глядзелі T.V. Прыемна правялі час. Тады яму зноў пазванілі на працу. Ён паехаў.

Вітаўт прыехаў ня позна. Weck перадаваў прывітаньне і казаў Вітаўту, што мы нават прынесьлі прыход у мінулым фэстывалі[3]. Што касір і Fred Corber хацеў бы зь ім гаварыць. Вітаўт адразу-ж прыпыніў усялякія пляны на гэты год. Але прыемна, што мы ня былі найгоршыя, хоць пагода й была для нашага фэстывалю найгоршая.

Я пачала парадкаваць Салаўя. Трэба да прыезду Адамовіча ўсё скончыць.

Вельмі прыемны ліст ад Будзькі[4]. Пра «Бел. Арнамэнты» — жанчынам падарунак. Пра адбіткі кнігі — выбачаецца, што папрасіў зрабіць, ня думаў, што столькі клопатаў будзе. Мы яму скончым хутка ўсё. Лепш зь ім быць у добрых адносінах: у яго так шмат матар'ялу.

---

[1] *«Беларусы ў Кліўлендзе».*

[2] *У горадзе Эдысан.*

[3] *Гэта значыць, наш Беларускі Фэстываль ня быў стратны і нават даў прыбытак.*

[4] *Часлаў Будзька падрыхтаваў і апрацаваў у колерах беларускія арнамэнты, якія былі ўкладкай у часапісе «Беларускі Сьвет», ■ пазьней былі выдадзеныя асобнай брашуркай. Гэтыя арнамэнты потым былі скарыстаныя не адной беларускай майстрыхай для розных выставак. Асабліва прыгожа выходзілі падушкі.*

**Чацьвер 10 студзеня**

Вітаўт дома. Хадзіла зноў па падарункі. Купіла шмат чаго, але яшчэ трэба будзе тое-сёе дакупіць.

Вітаўт паехаў на зборку — By-laws Committee для Музэю[1]. Прыехаў даволі позна. Юру зноў пазванілі на працу.

---

[1] *У Этнічнай Радзе апрацоўваўся Статут для Музэю Эміграцыі. Потым гэтыя дакумэнты былі перададзеныя ў штатны архіў.*

**Пятніца 11 студзеня**

Паехалі на працу разам.

Прыходзіў Тумаш. Паказала яму Будзькаў ліст. Доўга зь імі не сядзела — бо мусіла мне званіць Вера Бартуль. Яна якраз пазваніла, як мяне ня было. Мусіла адзваньвацца. З падарункамі ўсё залагодзілі. Яна купіць для старэйшых хлапцоў. Я яшчэ пару мушу дакупіць. У абед купіла была яшчэ некалькі.

**Субота 12 студзеня**

Пасьнедалі разам. Юра прыехаў пасьля 10-ай. Праводзілі Марту[1].

З раніцы (праўда, пакуль выбралася, то ўжо было каля паўдня) паехала купляць рэшту падарункаў для дзяцей і для Аліных хлапцоў. Забрала Алесьчын брасьлецік.

Купіла ўсё добра. Рашыла яшчэ зрабіць печыва на ялінку — мусіла дакупіць масла й каляровага цукру. Калі была у Shop Rite[2], рашыла зайсьці у Beauty Parlor[3] — можа, прымуць. Якраз добра выйшла. Хутка справілася.

Напякла коржыкаў. Выйшлі прыгожыя й смачныя.

Юрачка паехаў недзе ў New Brunswick. Званіла Ала пра музыку.

Пакавала падарункі. Адным словам цэлы дзень правяла ў падрыхтоўцы да ялінкі. Неяк трохі крыўдна, што так шмат часу выдаецца на гэта. (А тут яшчэ Станкевічы настрой псуюць).

Юра прыехаў позна. Вітаўт ужо хваляваўся.

---

[1] *Юрава сяброўка.*
[2] *Вялікі прадуктовы магазын у Рутэрфордзе.*
[3] *Салён прыгажосьці.*

**Нядзеля 13 студзеня**

З раньня Вітаўт яшчэ ўсё капрызіў. Але я ведала, што зараз адыдзе. Падрыхтавала сьнеданьне, што было ў хаце. М[*арыя*] В[*асільеўна*] нешта нядобра чуецца. За сьнеданьнем усё разсеялася, усё наладзілася. Сабраліся, спакаваліся ды паехалі ў царкву.

Там адразу ўставілі ялінку. І пачалі ўпрыгожваць. Добра, што [redacted] набрала старых цацак — ніхто, акрамя маленькай Захаркевіч, не прынёс упрыгожаньняў. А Ольга Трылер зусім не прыйшла — вось безадказнасьць.

Але ўсё наладзілася. Усе было прыгатавана ў час. Усё выйшла проста цудоўна: дзеці добра выступалі, Юрачка быў цудоўны Дзед Мароз. Падарункі ўсім спадабаліся. Пачастунак неяк наладзілі. Сабралі грошы — Русак гэта зрабіў — расплаціліся. На ўсё хапіла. Нават цэрквам далі па $10 і на клішу для газэты $15.

Адным словам, як Мярляк выразіўся: «Такой саліднасьці яшчэ ня было».

Усе задаволеныя — і дзеці, і бацькі, і дарослыя-прысутныя. Ала была сапраўды на ўзроўні. Бартуліха прыйшла позна, але ўсё, што мела зрабіць — зрабіла. Вера Заморская маладзец. Усе, акрамя Олі Мельяновіч, свой абавязак выканалі.

Вечарам адпачывалі, глядзелі T.V. Вітаўт працаваў. Юрачка паехаў — зноў паклікалі на працу.

**Панядзелак 14 студзеня**

154.

Дзень народзінаў М. В.[1] Яна чуецца ўжо лепш.

Пачалі дыету. Рашылі гэты раз добра трымацца. Мне то няма праблемы — я заўсёды трымаюся, але Вітаўт пастанавіў, што й ён будзе вельмі паслушны.

Хадзіла купіць М. В. нешта — кофтачку. Прыйшла Аргазінская — абчысьціць стол.

4 p.m. Прыйшоў Шукелойць — трэба напісаць ліст да Fenwick пра малітву ў Кангрэсе[2]. Даў некалькі ўзораў.

Павячэралі разам. Юра паехаў у школу. Перад выездам трохі паўстаў канфлікт. Ён зьбіраўся на сваёй машыне перавезьці нейкую канапу. Вітаўт яму адраіў. І як Вітаўт, не ў зусім дэлікатны спосаб. Юра трохі пакрыўдзіўся, засумаваў. Вырашылі паправаваць на машыне Карэн. Нічога, аднак, ня выйшла. Ён пазьней званіў. Вітаўт будзе старацца дзесь дастаць Station Wagon.

Настрой быў цэлы вечар нейкі нэрвовы.

Абразок (выпалены на дрэве — жніво) М. В. спадабаўся. А кофтачку трэба перамяніць.

Згубіла рукавіцу чорную скураную. Вельмі шкада, бо былі добрыя рукавіцы.

Вітаўту прыслалі яшчэ тэкст для перакладу з Вашынгтона — гэтым разам нешта з батанікі[3]. Цяжкі тэкст, але ня шмат.

Зрабіла ліст да Фэнвік. Вітаўт набіў на машынцы, але злаваўся.

---

[1] *Мама нарадзілася 1.01.1904.*

[2] *Падрыхтоўка да адзначэньня 25 Сакавіка ў Кангрэсе ў Вашынгтоне, як звычайна, пачыналася рана. Адведвалі розных кангрэсмэнаў, сэнатараў. Гутарылі зь імі, расказвалі пра Беларусь. Некаторыя зь іх адразу згаджаліся выступіць у Дзень 25 Сакавіка. Адной з такіх была кангрэсмэнка ад штату Нью Джэрзі Мілісэнт Фэнуік (Millicent Fenwick). Рэспубліканка, якая добра разумела нацыянальныя праблемы ў СССР. Дарэчы, род Фэнуік — адзін з найстарэйшых у ЗША, яму гадоў 250—300.*

[3] *Мне часам траплялася пераклады тэхнічнай літаратуры. Я рабіў гэта з прыемнасьцю — гэта была аддушына ад штодзённасьці і някепскі падробак.*

**Аўторак 15 студзеня**

Баларына[1] паправіла ліст (Fenwick). Машыністка перадрукавала.

Прыходзіў Тумаш. Папрасіў перакласьці зноў нейкі тэкст з румынскае мовы пра Скарыну. Папрасіла Маргарэту[2].

Прыйшоў Шукелойць, падпісаў ліст. Зрабілі копіі й адправілі. Дагаварыліся зь ім спаткацца ў чацьвер, каб абгаварыць, што й каму пісаць болей.

Вечарам адпачывала. Вітаўт працуе над Кліўлендам[3].

Адчуваецца слабасьць дзеля дыеты, але вага неяк гэтым разам так хутка ня спускаецца.

---

[1] *Наша блізкая сяброўка ў бібліятэцы Кацярына Баларыне — італьянскага паходжаньня ў трэцім пакаленьні. Шмат нам дапамагала ў рэдагаваньні англамоўных тэкстаў. А значна пазьней, калі Зора рабіла «Трыстана», дапамагала ёй з тэкстам італьянскай дасьледніцы «Трыстана» Эмануэлы Згамбаты, бо добра ведала італьянскую мову.*

[2] *Зорына сяброўка-бібліятэкар, ведала румынскую мову.*

[3] *Кніга «Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Серада 16 студзеня**

Пачала зьбіраць матар'ялы пра выстаўкі ў 1978—79 гадох для хронікі ў «Запісы [*БІНіМу*]».

Званіла Маня Нэстар. Дамовіліся прыехаць да іх[1] у суботу 26-га.

Званілі да Надзі[2]. У яе слаба справа з Аўгенам — яму стала горш. Ёй вельмі цяжка.

Юрачка штодня звоніць, даведацца пра Substitution[3]. Яны яму званілі кожны дзень — ён згаджаўся. Мусіць, ён добра прыйшоўся, яго цэняць, відаць, нядрэнна аплачваецца.

---

[1] *Нашыя сябры Несьцяровічы.*

*[2] Надзя Кудасава (ад 1995 году Запруднік) — нашая сяброўка з часоў Нямеччыны, Надзя Рагалевіч. У ЗША выйшла замуж за Аўгена Кудасава. У сярэдзіне 1980-х Аўген атрымаў «удар», быў амаль поўнасьцю спаралізаваны. Надзя сама за ім даглядала. Было ёй вельмі цяжка: працавала, даглядала Аўгена і ўдзельнічала актыўна ў грамадзкім жыцьці.*

*[3] Праца замяняць настаўнікаў.*

## Чацьвер 17 студзеня

Скончыла зьбіраць выстаўкі й апісаньне «Сустрэчаў» для [*Кастуся*] Калошы[1]. Разам ужо зрабіла й Вітаўтавы канфэрэнцыі. Вітаўт скончыў адбіткі кнігі Барага для Будзькі[2]. Я зрабіла адбіткі з мікрафільму. Выйшла даволі чытэльна. Патраціла $5.40, але не хацелі тузацца самі, выносіць зь бібліятэкі альбо яшчэ якія камбінацыі.

Папрабавала зрабіць адбіткі й для сябе — шкада захаду. Выходзіць слабавата. Заўтра папрабую яшчэ на іншых машынах.

Званіў Шук[*елойць*]. (Я зусім забылася, што ў чацьвер бібліятэка зачыненая, калі мы дагаварваліся спаткацца[3]). Вырашылі спаткацца ў наступны аўторак.

Пазваніла маме. У пятніцу паеду да яе.

---

*[1] Зора рыхтавала агляд беларускіх выставак году для хронікі ў «Запісы БІНіМу». Кастусю Калошу падрыхтавала на пару старонак апісаньне «Сустрэчаў Беларусаў Паўночнай Амэрыкі», бо ў наступная сустрэча рыхтавалася ў Кліўлендзе, і Кастусь хацеў даць устаўку «Храналёгія Сустрэчаў» у праграму Сустрэчы.*

*[2] Для Часлава Будзькі мы рабілі шмат копіяў у бібліятэцы.*

*[3] Часам мы заблытваліся ў нашых раскладах спатканьняў. Бывалі пэрыяды, калі бібліятэка, пераважна зь фінансавых меркаваньняў, мяняла гадзіны, калі бібліятэка была адчыненая для публікі. Даводзілася дапасоўвацца.*

## Пятніца 18 студзеня

Маргарэта зрабіла пераклад[1] для Тумаша. З самога раньня пачалі ўжо тузацца з пакецікам для Будзькі. Зрабіла копіі артыкулу (пра Уладзімера й Рагнеду) для сябе. Напісала ліст. Вітаўт вышле пакет. З гэтым ужо заладжана.

Вазьму з сабой на фарму матар'ял пра выстаўкі — можа скончу, каб гэта ўжо збыць з рук. Шмат назьбіралася канцоў, якія трэба выканчыць.

Прыходзіў Тумаш. Перадала яму пераклад. Гаварылі, як звычайна, пра Салаўя, Запісы. Ён мала што са сваёй цыдулкі мог выкрасьліць[2].

Мэланчук даў інфармацыю для газэты пра Олександріва[3].

Паехала да мамы. Ехалася вельмі дрэнна — дождж, дарогі слаба відаць, усё мігаціць. Стамілася.

Прыехала а 9:30. Павячэралі, трохі пагаварылі і пайшлі спаць. Пазваніў Вітаўт.

---

*[1] З румынскай мовы.*

*[2] Цікавая й важная дэталь. З д-рам Тумашам мы супрацоўнічалі-сябравалі гадоў 30—40. Былі вельмі блізкія ў дачыненьнях, асабліва ў пошуках беларусікі. Ён да нас*

*заўсёды прыходзіў, як мы казалі, «з цыдулкай». На кавалку паперы былі запісаныя ўсе справы, якія ён з намі мусіў абмеркаваць. Бывала часта і такое, што ён і нам пакідаў «цыдулку», каб да наступнага спатканьня мы ўсё залагодзілі!*

*[3] Супрацоўнік-украінец, пісьменьнік.*

## Субота 19 студзеня

Раніцай паехалі па справах: заплаціць за газаліну[1] (Гэлэн пазваніла яшчэ перад гэтым, што са звальненьнем платы за газаліну нічога ў гэтым месяцы ня выйшла. Будзе прабаваць далей) у банк, па яблыкі, у магазын. Стараліся знайсьці адчыненую пошту, каб узяць картку для запаўненьня для неграмадзянаў — не пасьпелі. Пошта была адкрытая да 11-ай.

Настрой у мамы прыгнечаны. Я хутка зразумела чаму: гэта-ж студзень — месяц рэгістрацыі неграмадзянаў[2]. У яе заўсёды з гэтай прычыны ў гэтым часе дэпрэсыя. Яна такая лаяльная, такая прыхільная да Амэрыкі, але так склаліся абставіны, што ніколі не атрымала грамадзянства — дык гэта яе мучыць, асабліва у гэты пэрыяд, калі трэба рэгістравацца.

Наагул мама мне нажалілася на ўсе свае прыкрыя выпадкі з гэтымі недарэчнымі праграмамі для Senior Citizen[3]. Здаецца, мой прыезд яе трохі на духу падтрымаў.

Мы добра правялі час разам. Купілі матар'ялу, і я пашыла маме спадніцу да кофты, што прывезла ў пятніцу. Выйшаў добры ансамбаль.

Вечарам завезла маму ў царкву.

Павячэралі й адпачывалі. Я дыеты трымалася.

Званіў Вітаўт — ён атрымаў грошы за пераклады.

---

*[1] Паколькі ў Апалёніі, Зорынай мамы, быў малы месячны прыбытак, у зімовыя месяцы мясцовы аддзел сацыяльнае апекі дастаўляў ёй і іншым падобным пэнсіянэрам бясплатны мазут для ацяпленьня (тое, што ў Менску называюць мазут, у ЗША беларусы звалі «аліва» або «газаліна»). Але бывалі «асечкі», і трэба было аплачваць самім. Мы заўсёды ў такіх выпадках плацілі за маму.*

*[2] У ЗША да канца 1980-х быў закон: неграмадзяне мусілі запаўняць фэдэральныя анкеты на пошце — раз на год, у студзені. Галоўнае — падаць адрас пражываньня.*

*[3] «Senior Citizens» — у Амэрыцы катэгорыя жыхароў «старыя грамадзяне» ўлучае ўсіх, каму за 65 гадоў. Іх цяпер налічваецца каля 30 мільёнаў. Для іх ёсьць розныя льготы, але ёсьць і праблемы: у якіх аптэках ім даюцца зьніжкі, у якія гадзіны яны атрымліваюць 50—60-працэнтныя зьніжкі на грамадзкі транспарт і да т. п. Шмат з гэтае групы грамадзянаў неангламоўныя, дык розныя праблемы і няўвязкі — сталая зьява.*

## Нядзеля 20 студзеня

З раніцы зазваніла да Юрачкі, дагаварыліся, што я заеду да яго прывязу яблыкаў, коржыкаў.

Сталі хуценька пячы коржыкі. Пасьля трохі прыбралі, прайшліся пад лес. Але ня было вельмі прыемна — ветрана, трохі яшчэ сыра ад учарашняга дажджу.

Паехала дахаты а 1-ай. Заехала да Юры. Трохі яго чакала. У яго ўсё добра. Канапа добрая, яблыкамі ён задаволены. Трохі зь ім пасядзела, ды паехала дахаты.

Вітаўт ужо зь нецярплівасьцю чакаў на галубцы. Адразу-ж і паелі, нават галубцы яшчэ добра й не прагрэліся. Мне пасьля жывот стаў балець дзеля гэтага.

Зазваніла Станкевічу (ён званіў, як мяне ня было), каб удакладніць пару рэчаў у артыкуле пра Калядоўшчыкаў[1].

---

[1] *Стась Станкевіч быў вельмі ўважлівы і асьцярожны з прозьвішчамі — правільна запісаць, нічога не прапусьціць, пераканацца, ці ёсьць згода асобы і г. д.*

**Панядзелак 21 студзеня**

Прыходзіла да нас Барбара Тэйлар[1]. Схадзілі разам на абед у нашую кафэтэрыю. Гаварылі найбольш пра справы штатныя, пра ейнага Дэвіда, пра Дэвіда Корш. Яна казала, што нібыта ён падаў у сваіх анкетах, што ён рэспубліканец, таму D.T. нічога яму не змог знайсьці.

Алеся званіла Вітаўту. Атрымала A[2] з аднаго курсу. Вельмі задаволеная.

Вечарам зазванілі Алесьцы. Яна добра чуецца.

---

[1] *Barbara Taylor (армянскае прозьвішча мужа Tayloryan зьмяніла на Taylor) з Трэнтану. Выконвала функцыі сакратаркі ў Этнічнай Радзе штату, дзе я быў старшынём. Гэта быў пэрыяд, калі ў адміністрацыі былі дэмакраты, а ейны муж Дэйвід быў рэспубліканец. Дэйвід Корш — сябра Алесі, таксама шукаў працы. Этнічная Рада працы не давала, але магла даць рэкамэндацыю, і гэта нядрэнна цанілася.*

[2] *Адзнака «выдатна».*

**Аўторак 22 студзеня**

Зазваніла Ірэна (якраз мы былі у [*кабінэце ў*] Вітаўта — пілі каву й зьбіраліся ёй пазьней званіць). Дамовіліся спаткацца у чацьвер на зборцы Architectural Committee абгаварыць касьцюмы й ілюстрацыі перадаць[1].

Прыйшоў Тумаш. Расказала яму пра артыкул Jagica пра Супрасьлеўскі Кодэкс. Ён тут нам больш пра яго расказаў і сказаў, што гэта якраз тэма, якую ён для мяне ўжо даўно рыхтаваў. Пра Супрасьлеўскі манастыр і бібліятэку. Мне тэма гэта вельмі падабаецца — буду працаваць[2].

Ідзе дождж.

Вечарам, як дамовіліся, прыйшоў Шукелойць. Канфуз выйшаў ізноў з мейсцам спатканьня. Ён нас чакаў на 40-ой вуліцы, а я яго на 5-ым авэню.

Пайшлі ў Tad Steak. Ён мусіць нядобра чуўся, бо ня еў. Але пасьля разышоўся і вечар правялі добра.

Гаварылі пра Мюнхэн — Адамовіч толькі адтуль прыехаў — пра ра-

дыё наагул. Пра падрыхтаваньне нейкай літаратуры для разсыланьня кангрэсмэнам[3]. У нядзелю на зборцы БАЗА больш удакладнім.

---

*[1] Справы Этнічнай Рады.*

*[2] Матэрыялы пра Супрасьль пачалі зьбіраць, але артыкул ня быў апрацаваны.*

*[3] Пачыналася падрыхтоўка да 25 Сакавіка. Антон Адамовіч часта езьдзіў у Мюнхен па справах «Радыё Свабода», ■ раней па справах Інстытуту па вывучэньні СССР, пакуль у сярэдзіне 1960-х Інстытут ня быў зачынены на дамаганьне савецкіх уладаў. Інстытут выдаваў «Беларускі Зборнік» і «Byelorussian Review».*

### Серада 23 студзеня

Вітаўт дома. На рабоце нічога надта цікавага. У абед хадзіла купляць падарункі для Нэстаравых. Купіла «Windbreakers»[1]. У нас атрымлівалі чэкі за Sick L. Я яшчэ не атрымала.

Вітаўт езьдзіў на спатканьне з Census peoples[2]. Барбара таксама была. Расказала пра свае паходжаньні ў Нью Ёрку у панядзелак. Яе машыну завезьлі — мела шмат клопатаў дастаць яе.

Зрабіла для Ірэны апісаньне касьцюмаў. Вітаўт вечарам паехаў на зборку Heritage Ball — перадаў і ўзяў ад яе малюнкі для Салаўёвага зборніку. Добра зрабіла — толькі ў пару мейсцах трэба яшчэ паправіць.

Званілі зноў да Юрачкі на Substitution[3].

---

*[1] Куртка-«вятроўка» з» маланкай».*

*[2] Я шмат разоў спатыкаўся з функцыянэрамі Бюро Перапісаў (Census Bureau) і часта езьдзіў у Вашынгтон, каб пераканаць бюракратаў у патрэбе ўвядзеньня ў перапіс насельніцтва рубрыкі «Belarusian».*

*3 Зноў прапанавалі замяняць у нейкай школе настаўніка.*

### Чацьвер 24 студзеня

Вітаўт дома. На рабоце нічога цікавага.

Паехалі на зборку ў Нью Брансуік Ethnic Museum, Architectural Committee[1]. Зборка прайшла добра. Праўда, шмат таўкатні на мейсцы. Кожны раз новыя людзі — кожны раз мелюцца тыя-ж пытаньні. Наступная зборка будзе ў Stocton College (Regional). Паедзем тады да мамы.

Перадала Ірэне малюнкі паправіць. Яна зусім добра гэта прыняла. Зробіць хутка й перашле па пошце.

Пасьля зборкі зайшлі ў тавэрну, што насупраць Municipal Building[2]. Выпілі кавы, трохі пагаварылі пра касьцюмы на Ball пра лялькі Галініны[3]. Перадала ёй 3 лялькі для ўзору.

Прыехалі дахаты ўжо каля 12-ай.

---

*[1] Як я ўжо зазначаў раней, Этнічная Рада штату прапаноўвала стварыць Этнічны Музэй. Быў створаны спэцыяльны камітэт. Адбывалася шмат паседжаньняў.*

*[2] Гарадзкая ўправа Нью Брансуіку.*

*[3] Рыхтаваліся наладзіць выстаўку ў часе балю.*

**Пятніца 25 студзеня**

Прыходзіў Запруднік з нейкім новапрыбыўшым беларусам-жыдком. Нічога надта цікавага. Трохі гаворыць па-беларуску. Вітаўт яго думае ўстроіць у бібліятэку.

Запруднік расказваў пра Адамовіча, ягоную паездку, ягоную рэакцыю на «Бібліяграфію»[1]. (Ён лічыць, што шмат чаго не патрэбна было ўстаўляць). Яму цяпер, мусіць, сорамна за некаторыя свае артыкулы. Адным словам, з бібліяграфіяй выйшаў «пшык».

Як заўсёды пайшлі на каву з Fox.

Прыходзіў Тумаш. Ён казаў, што прыехала нейкая знаёмая Геніюш на побыт сюды. Перадавала прывітаньні усім суродзічам ад Геніюш[2].

Вечар прайшоў спакойна. Пакавала падарункі для Нэстаравых хлапцоў.

---

[1] *Гэтую бібліяграфію Адамовічавых публікацыяў Зора падаравала Адамовічу падчас адзначэньня дня яговых народзінаў. Адамовічу бібліяграфія ня надта спадабалася, бо Зора зарэгістравала ўсё, што ён надрукаваў, а там былі артыкулы і ня надта прадуманыя!*

[2] *Тумаш ад імя Галіны — малодшай дачкі — перапісваўся з Ларысай Геніюш.*

**Субота 26 студзеня**

Раніцай схадзіла зрабіць валасы. Хутка справілася.

Прыехаў Юрачка. Памыўся й пайшоў пастрыгчыся.

Хутка пасьля 12-ай выехалі да Нэстараў. Даехалі добра. Пагода прыгожая. Час правялі ў іх добра, як заўсёды. Вітаўт трохі ап'янеў, але піў вельмі мала — трымаўся. Прайшло ўсё добра. Праўда жакецік [*(падарунак)*] Вітаўту малы — трэба перамяніць.

Прыехалі дахаты каля 9-ай. Юра паехаў у школу назад [у *Нью Брансуік*][1]. Мы адпачывалі.

Вітаўт трохі дастаў ад Мані[2] інфармацыяў аб Кліўлендзе. Прышле яшчэ больш.

---

[1] *Калі амэрыканцы ўжываюць слова «школа» — гэта не абавязкова значыць «сярэдняя школа». Паняцьце «школа» у амэрыканцаў ахапляе і ўнівэрсытэт, і коледж і любую навучальную ўстанову.*

[2] *Маня Нэстар, наша блізкая сяброўка, прыехала ў ЗША маленькай дзяўчынкай у канцы 1940-х гадоў і школьныя гады — юнацтва — правяла ў Кліўлендзе. Дык я, пішучы кніжку «Беларусы ў Кліўлендзе», вельмі шмат чаго ўзгадняў у яе.*

**Нядзеля 27 студзеня**

Пасьнедалі трохі. Паехалі ў царкву. Шмат было справаў. Пагаварыла з Орсіхай наконта адзначэньня угодкаў сьмерці [*доктара*] Орсы. Перадала яна мне пісаніну Плескача[1] — шмат вадзічкі. Ну, але нешта трэба будзе зрабіць. Гаварылі, як будзе паведаміць усіх вучняў. Яны падрыхтавалі невялічкі сьпісак — шмат яшчэ трэба дапоўніць.

Было паседжаньне N.Y. БАЗА. Абгаварвалі сьвяткаваньне Запустаў. Я буду рабіць мачанку. Разьмеркавалі функцыі. Станкевічыха была

вельмі лагодная. Я падняла пытаньне, каб БАЗА была арганізатарам (разам з вучнямі) успамінаў аб Орсу. Усе згадзіліся.

Наступна было паседжаньне Галоўнай управы БАЗА. Абгаворвалі сьвяткаваньне 25 сакавіка. Мэмарандумы. Сьвяткаваньне Луцкевічаў. Прайшло вельмі спраўна й спакойна. Станкевічы — хоць да ранкі прыкладай. Нешта зь імі зьмянілася. Падвезьлі Шук[*елойця*] пад хату.

Прыехалі дахаты а 3-яй. Паабедалі трохі. Вітаўт пайшоў адпачыць, а я стала працаваць над Салаўём[2].

Пазьней пазванілі Але Орса[3]. Сказаць ёй пра дату вечара успамінаў Орсы. Вітаўт расказаў ёй пра PanSlavonic Festival у Балтыморы[4]. Яна не надта энтузыястычная.

Зазванілі да Орсіхі[5] — абгаварылі зь ёй дату, дэталі. Выглядае, што ўсё будзе ў парадку.

Пазваніла маме ў яе ўсё добра. Ґучала яна бадзёра. Сказала ёй, што Вітаўт адзеў першы раз зялёны свэтар [*які зьвязала мама*] (усе, між іншага, хвалілі яго).

---

*[1] Васіль Пляскач — гадаванец Аляксандра Орсы яшчэ з Наваградчыны. Надрукаваў пра яго некалькі артыкулаў. Рыхтавалася адзначэньне памяці А. Орсы.*

*[2] Кніга А. Салаўя.*

*[3] Доктар Ала Орса (па мужу Рамана) — малодшая дачка Орсаў.*

*[4] Я на БІНіМ атрымаў запросіны ўзяць удзел у арганізацыі Агульнаславянскага Амэрыканскага Фэстывалю ў Балтыморы.*

*[5] Натальля Орса — жонка Аляксандра.*

**Панядзелак 28 — Чацьвер 31 студзеня**

Не запісвала пару дзён. Цяпер цяжка ўстанавіць. Здаецца, нічога надта цікавага ці важнага ня было. Працавалі. Вітаўт над бібліяграфіяй для Горака[1], я — Салавей. Вышукваю, зьвяраю ня ўключаныя ў зборнік вершы.

Перачытала артыкул Плескача — вельмі прымітыўна напісана. Сорамна будзе чытаць. Трэба будзе зрэдагаваць. Яшчэ адна работа!

Прыехаў Адамовіч зь Мюнхэну. Першым ягоным «прыветам» было: «Што вы там з Тумашам нарабілі?» Гэта за тое, што паправілі тое, што ён не паправіў![2]

Перадаў Шукелойць здымкі лялек Юліных. Напісала ліст Mrs. Potocki[3]. Юля нарабіла лялек шмат і выглядаюць даволі добра.

Перамяняла падарунак Вітаўтаў Н. (купіла кашулю й гальштук — магазын перашле).

Ірэна перарабляла зноў малюнкі[4]. Паставіла Ў не пад тым У. Прыслала ўсё поштай. Мы меліся ехаць да яе, але яна ўспомніла, што мае «masters». Перарабіла й прыслала.

---

*[1] Сьцяпан Горак — прафэсар унівэрсытэту, украінскага паходжаньня. Вельмі прыхільны да беларусаў, бо ў вайну ў 1941 годзе трапіў у палон да немцаў (ён служыў*

*у Чырвонай Арміі) і, як ён нам расказваў, каб не беларускія сяляне каля Магілёву, дзе ён быў у палоне, ён бы памёр з голаду, і таму ён быў вечна ўдзячны беларускім сялянам. У 1980 годзе ён рыхтаваў падручнік-бібліяграфію пра нацыянальнасьці СССР і прасіў мяне падрыхтаваць разьдзел пра беларусаў. Гэта было зроблена, і нават была асобная адбітка «Беларуская бібліяграфія для студэнтаў».*

*[2] Адамовіч раззлаваўся, што Зора, Тумаш і Запруднік «адрабілі» назад ягоныя папраўкі ў тэкстах кнігі пра Алеся Салаўя.*

*[3] Інфармацыя пра Беларусь на запытаньне адной з чытачак бібліятэкі.*

*[4] Тэхнічнае ўпарадкаваньне друкарскага макету кнігі паэзіі А. Салаўя «Нятуская краса».*

**Пятніца 1 лютага**

Прыходзіў Тумаш. Перадала яму ўсе малюнкі. Першае, што ён заўважыў, гэта крыж — перакладзінка паднятая ня ў той бок, як трэба[1]. Мяне гэта ўзлавала. Чаму раней не падкрэсьліў. Цяпер яшчэ раз прасіць Ірэну, каб правіла.

---

*[1] Памылка была зробленая з праваслаўным крыжам.*

**Субота 2 лютага**

Езьдзіла ў магазын, хацела сабе халат купіць. Не знайшла. Купіла там нейкіх драбніцаў ды харчоў. Мы ў панядзелак зноў сядаем на дыету. Вітаўт паехаў у Нью Ёрк на рэспубліканскі мітынг[1].

Парадкавалася ў хаце. Як дома, дык і стомішся й нічога людзкага ня зробіш. Вечар правялі спакойна.

---

*[1] Беларусаў-рэспубліканцаў у Нью Ёрку прадстаўляў Расьціслаў Гарошка. Аднак часам трэба было рабіць выступ ад імя ўсіх беларускіх рэспубліканскіх клюбаў — «Фэдэрацыі Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў ЗША». Я доўгі час быў старшынём Фэдэрацыі. Гэтым разам я выступаў і ў Нью Ёрку.*

**Нядзеля 3 лютага**

Былі дома. Працавалі. Прыходзіла Mrs. Vaughn — узяла «Label maker» для Deon[1].

Памыла валасы. Накруціла.

---

*[1] Сябры па сярэдняй школе ў Рутэрфордзе.*

**Панядзелак 4 лютага**

Пісала лісты. Трэба ўжо выканчваць з Салаўём. Пачала пісаць да усіх, хто яшчэ можа штось мець пра Салаўя. Сёньня напісала [Ул.] Брылеўскаму, а. Мікалаю ў Канаду, [А.] Яцэвічу.

Званілі [Ул.] Сядуру. Ён пастараецца пашукаць лісты ад Салаўя. Пра той фэльетон сказаў мне, што пісаны недзе ў пачатку 1943 году. Сюжэт: сьведамы беларус супроць даношчыка. Гэта ўжо палегчыць шуканьне.

Вечарам рабіла сьцяжкі для Ірэны.

**Аўторак 5 лютага**

Лісты [А.] Лашуку, [М.] Ганько[1].

У абед лётала па палачкі для сьцяжкоў[2]. Палачкаў не знайшла. Прыйшлося купіць разам з Ам. сцяжком. Вечарам палачкі пафарбавала ў чорны колер (magic marker!). Добра выйшла.

Прыгатавала касьцюмы для Ірэны Слуцкія.

Як прыйшлі дахаты мелі прыемную неспадзеўку. Кніжка ад Будзькі — фотадрук «Беларусь у дакумэнтах»[3].

Тумаш меў з Адамовічам гутарку сур'ёзную пра Салаўя. Казаў, каб ■ тым часам устрымалася несьці яму матар'ялы. Хай лепш скончыць зборнік хутчэй ды паслаць у набор.

Брылеўскі прыслаў Тумашу нешта — на абвестку ў «Беларусе»[4].

---

*[1] У справе ўспамінаў пра А. Салаўя.*

*[2] Беларускія сьцяжкі расстаўляліся на сталох на паседжаньнях, на розных імпрэзах. На балях сьцяжкі часта раздаваліся гасьцям. «Палачкі» — купляліся іншыя сьцяжкі, зь іх вымаліся «палачкі» і ўстаўляліся ў беларускія.*

*[3] Ч. Будзька адбіў фатаграфічным спосабам (пачыналася ксэраграфія) часткі кнігі «Гісторыя Беларусі ў дакумэнтах... АН БССР, 1936», пераплёў іх і разаслаў розным каледжам, ■ таксама ў БІНіМ і НЁПБ.*

*[4] У справе кнігі А. Салаўя.*

### Серада 6 лютага

Выкончвала лісты. Напісала а. Надсону й Сп-ні Грыцук[1]. Цяпер здаецца усё ўжо пакрыта.

Кончыла правяраць вершы паасобныя, што не ўвайшлі ў зборнікі. Трохі набралася. Зрабіла копіі амаль з усяго. Цяпер толькі перагледзець «Бел. Газэты». Ды можа яшчэ што аказыйнае прыйдзе. Выглядае, што можна закрываць картатэку.

Вітаўт паехаў на зборку да палякоў. Зборка настаўнікаў польскіх школаў[2]. Кажа, што вельмі было добра. У іх усё-ж сілы.

Пасьлей заехаў у Woodbridge на Heritage Ball Meeting[3]. Перадаў Ірэне сьцяжкі й касьцюмы. Усё ў парадку. Яна перадала папраўлены малюнак.

---

*[1] У справе кнігі А. Салаўя.*

*[2] У штаце Нью Джэрзі было некалькі польскіх школаў пры касьцёлах. Я выступіў на зборцы з дакладам пра патрэбу адукацыі амэрыканскіх вучняў пра нацыянальнасьці штату.*

*[3] Гадавы баль.*

### Чацьвер 7 лютага

Нічога цікавага ня было. Упарадкавала дзёньнік. Дрэнна, як шмат прапушчу. Цяжка прыпомніць.

Вечарам Вітаўт паехаў на зборку Census у New Brunswick[1]. Стараўся дазваніцца Юрачку. Каб перадаць яму грошы. Не дазваніўся. Купіў калбасы. Зборка была цікавая. Дыскутавалі аб апытальніках, як дайсьці да этнікаў[2].

Пазваніў Шук[*елойць*]. Распыталася ў яго пра кнігу. Трохі прыпа-

мінаю сытуацыю, калі ён мне кнігу даў. Але кнігі так і ня памятаю й не знайшла. Можа, Вітаўт знойдзе[3].

Званіў Васіль Мельяновіч. Так выглядае, што Вітаўту на той «Panslavic» мітынг можна будзе заўтра й ня ехаць. Паабяцаў, што ліста для мяне зробіць.

Вітаўт прыйшоў ня позна. Зазваніў да Васіля [*Русака*]. Нікуды не паедзе заўтра.

---

[1] *Сустрэча з прадстаўнікамі Бюро Перапісаў.*

[2] *Праблема з этнічнай спадчынай жыхароў штату палягала ў тым, што «глыбей» за другое пакаленьне ўжо мала хто ведае, таму рубрыкі ў перапісных анкетах заставаліся пустыя.*

[3] *Часта кніга пазычалася для чытаньня. Але трэба было пільнавацца, каб з «твайго стала» кніга ня трапіла ў агульны бібліятэчны паток. Калі такое здаралася — пішы прапала ўласнай кнізе.*

**Пятніца 8 лютага**

Вітаўт дома. Пазваніў мне аб 11-ай, што прыязджаў Юра дахаты. Узяў лыжы. У суботу паедуць на лыжы недзе ў Пэнсыльванію[1]. Узяў грошы. Паеў калбасы, што Вітаўт купіў. І паехаў. Настрой у яго добры. Трохі прастуджаны.

Званіў Запруднік. Новакі[2] яшчэ не атрымалі дарожных інструкцыяў, як ехаць на Heritage Ball. Пазваніла дахаты. Вітаўт займецца гэтым. Гаварыла з Адамовічам.

Трохі пазьней звоніць Вітаўт зноў. Прыйшла пошта. Мы атрымалі запросіны ў Белы Дом на Valentine Dance[3]! Расказала нашым — усе вельмі усьцешыліся, зацікавіліся.

Знайшла Тумаша, каб перадаць яму, што Адамовіч хоча яго бачыць. Пайшла ў абед да Адамовіча. Перадала яму вершы, ня ўключаныя ў зборнікі. Ён ужо высылае апошнія вершы зборнікаў Прускаму. Трэба канчаць бібліяграфію. Я пачынаю адчуваць прастуду. Сказала Тумашу. Ён неяк не зарэагаваў. Перадала Тумашу малюнкі. Ён усё-ж знайшоў нешта адмоўнае сказаць — завялікія перакладзінкі [*на крыжах*].

Прыехала дахаты ня позна. Вітаўт спаткаў. Павячэралі так-сяк, што было асталося. І я адпачывала.

---

[1] *Гурток беларускай моладзі ЗБМА часта езьдзіў на лыжныя кросы, катаньні. У нашай хаце бывалі «склады» лыжаў.*

[2] *Валеры Новак, яўрэй з Полацку, з новых эміграитаў, заснаваў музычны ансамбаль «Віхор». Часта выступалі.*

[3] *Гэтым разам запросіны ў Белы Дом на «гулянку» ад прэзыдэнта Картэра.*

**Субота 9 лютага**

Вітаўт паехаў працаваць.

Зрана зьезьдзіла купіла ўсё для мачанкі.

Пачала смажыць, варыць. Каб справіцца з кухняй перад тым, як ісьці рабіць валасы.

Пісала ў дзёньнік, як была ў Beauty Parlor. Прычоска выйшла даволі добра.

Прыехала дахаты і так соўгалася па хаце, адпачывала, але сапраўды адпусьціцца не магла — а гадзіне 5-ай пачала прыбірацца. Чуюся няважна. Адзела беларускі строй.

Вітаўт прыехаў пасьля 6-ай. Хутка сабраўся й паехалі [*на Heritage Ball*]. Дабраліся ў час. Яшчэ й cocktail засталі. Нашыя былі ўжо ўсе сабраўшыся. Музыкі чакалі нас у прыходзе. Нашыя — саўт рывэрскія, ужо трохі й падпітыя, вясёлыя, шумныя. Амаль усе ў касьцюмах беларускіх — так адразу й кідаецца ў вочы — нашыя касьцюмы. Было добра, праўда, кампанія была ня надта цікавая.

Вітаўт добра трымаўся й ня бегаў ужо так шмат (каб зусім ня бегаў, гэта ўжо хіба немагчыма й спадзявацца). Я чулася даволі добра. Трохі танцавалі. Нашыя шумелі — зьвярталі на сябе ўвагу. Касьцюмы былі добрыя: Сяргей і Валя [*Рагалевічы*] — Случчына. Цярпіцкая мадэлявала спадніцу, што ёй прывезьлі з дому.

Музыкі[1] былі добрыя. Яны цэлы вечар круціліся, каля аркестры. Іхны выступ быў вельмі эфэктоўны.

---

[1] *Выступаў «Віхор».*

**Нядзеля 10 лютага**

Бліны[1] прайшлі ўдала. Сабралася трохі людзей, пераважна мясцовыя. Яда была добрая. Верашчака мая ўдалася таксама няблага. Другі раз толькі трэба будзе купляць сапраўдную (не італьянскую) калбасу да верашчакі.

Станкевічыха трохі гаварыла пра звычаі запустаў. Ніхто, аднак, ня слухаў. Мы з Раяй добра працавалі разам. Наагул прайшло ОК. Нават трохі зарабілі для ньюёркскай БАЗЫ.

Прыехалі дахаты ня позна. Трохі адпачывалі. Мая прастуда дае сябе адчуваць. Але я мушу крапіцца.

---

[1] *Звычай у беларускіх парафіях — два-тры разы на год ладзіць бліны.*

**Панядзелак 11 лютага**

Хадзіла ў абед нешта сабе купіць для Белага Дому[1]. Нічога не знайшла. Альбо дарагое, альбо нецікавае. Я ўжо пачынаю хвалявацца.

Вечарам пайшлі на вячэру з Шук[*елойцем*]. Абгаварылі Луцкевічаву ўрачыстасьць[2] — уклалі запросіны. Гаварылі пра Вашынгтон, пра Сакавік.

---

[1] *Новае адзеньне.*
[2] *Рыхтаваліся адзначаць юбілей братоў Луцкевічаў.*

**Аўторак 12 лютага**

Сягоньня дома. Паехалі з самага раньня купляць «нарады». Брасьлет Алесін не здалі — вырашылі чакаць, пакуль яна сама прыедзе.

Купілі Вітаўту касьцюм у Botany. Добры. Занесьлі да краўца падкараціць. Я спусьціла Вітаўта дахаты ды сама паехала сабе сукенку шукаць. Купіла нарэшце ў Lohmans — вельмі добрую. Там-жа купіла й туфлі. Пасьля яшчэ заехала купіла ніжнюю спаднічку й станік пад колер сукенкі. Вельмі ўсё дапасаванае, добрае — дарагое. М[*арыя*] В[*асілеўна*] дала нам $100.

**Серада 13 лютага**

Вашынгтон!

Выехалі трохі перад 9-ай. Ехалася добра. Пагода прыемная, сонечная. Трохі лянівая.

Прыехалі пасьля 1-ай. Па дарозе сталі раз набраць газаліны і раз зайшлі на каву.

Пайшлі адразу ў бібліятэку [*Кангрэсу*]. Папрацавалі. Вітаўт знайшоў для сябе трохі добрых рэчаў[1]. Я выпісала адну добрую кніжку пра Супрасьльскі манастыр. У нас у бібліятэцы яе няма. Выпішу пазьней праз Interlibrary loans (праз Bettsy)[2]. Там, зразумела, толькі ўдалося яе пералістаць.

Прыйшлі да Алесі каля 5-ай. У іх добра, толькі холадна. Асабліва мне з маёй прастудай (усё яшчэ маю). Схадзілі з Алесяй на вячэру. У вельмі прыемны рэстаранчык. Добра правялі час.

Прыйшлі, пачалі адзявацца, зьбірацца ў Белы Дом «на бал». Адзежа нашая Алесі спадабалася — атрымалі «апрабацыю».

Паехалі пад Белы Дом. Адразу не заарыентаваліся, што можна было паркаваць пры Белым Доме на вуліцы (было спэцыяльна загароджана для машынаў). Знайшлі нейкі прыватны паркінг (прыватны, не публічны). Я трохі баялася там пакідаць машыну, што могуць закрыць. Але пакінулі.

У Белым Доме было вельмі прыемна. Хадзілі па ўсіх цэнтральных пакоях (East room, Green, Blue, Red rooms and State Dining Room). Разглядаліся. Нарады нашыя былі зусім адпаведныя. Мая сукенка была адна з самых лепшых (так прынамсі мне здавалася). Вытрыманая, нарадная і разам з тым простая.

Пасьля 9-ай, пасьля прэсавай канфэрэнцыі прыйшоў Прэзыдэнт і Першая Лэдзі. Трохі слоў сказалі — пасьля сталі хадзіць паміж людзей і вітацца. Нам удалося прывітацца й з Розалін, і з прэзыдэнтам.

Было ўсё вельмі не афіцыйна, проста. Мы чуліся добра. Нават трохі патанцавалі. Былі й напіткі й пачастунак. Я, на жаль, была не галодная, дык нічога й не пакаштавала, толькі кавы выпіла. Вітаўт еў з апэтытам.

Было ўсё вельмі прыгожа прыстроена, шмат кветак. Прыемная аркестра.

Наагул я адчувала сябе лепш, чымся спадзявалася.

Між іншага Розалін вельмі прыгожая жанчына ў сапраўднасьці. Картар — сівы[3].

Пасьля 10-ай ужо ехалі дахаты. Ехалася добра. Трохі ўжо, праўда, адчувалася стомленасьць.

Да мамы прыехалі а 1:30 ноччу.

---

[1] *Збор матэрыялаў для кнігі «Беларусы ў ЗША».*

[2] *Interlibrary loans — міжбібліятэчны абмен. «Бэтсі» — Элізабэт Бэнтлі, нашая сяброўка бібліятэкар. Зь ёй у нас былі асабліва блізкія дачыненьні, бо раней яна працавала ў Навуковым аддзеле, і я наймаў яе на працу.*

[3] *Зора напісала пра сьвяткаваньне ў Белым Доме ў газэце «Беларус» (№ 275, сакавік 1980):*

**ІЗНОЎ У БЕЛЫМ ДОМЕ**

Апошні раз у Белым Доме былі мы ўвосені, 5 кастрычніка летась, на спатканьні з Папам Паўлам Другім. Былі мы адны з трох тысячаў, якія былі запрошаныя, каб прывітаць высокага госьця ў амэрыканскай сталіцы. Уражаньні й успаміны аб наведаньні Белага Дому засталіся глыбокія. І ня мроілася навет нам, што гэтак хутка ізноў будзем у Белым Доме, цяпер ужо ў больш інтымнай кампаніі й з больш сямейнай нагоды. А нагодай былі прыймо-танцы 13 лютага сёлета ў вадзнаку Дня Сьвятога Валянтына — традыцыйнага амэрыканскага сьвята сяброўства й каханьня.

Прыймо адбывалася ў цэнтральнай частцы Белага Дому. Госьці разьмясьціліся ў розных пакоях, разглядаліся, гаварылі. Чырвоны, зялёны й сіні пакоі, з прыгожай мэбляй, упрыгожаныя жывымі кветкамі, абразамі, былі ўлюбленым месцам меншых групак. У Усходнім пакоі йграла аркестра кадэтаў Морскай Акадэміі Анапаліс. Мэлёдыі прыемныя й мяккія. Людзі пачалі патроху танцаваць. Танцоры я зь Вітаўтам не вялікія, але й мы пусьціліся ў скокі, каб некалі сваім унукам расказаць, што й мы скакалі ў Белым Доме.

У афіцыйным сталовым пакоі было расстаўлена мноства смачнай ежы. Напіткі, віно, шампанскае й фруктовыя сокі былі стратэгічна разьмешчаныя амаль ува ўсіх пакоях.

Ня была-б я жанчынай, каб не зьвярнула ўвагі на адзеньне іншых жанчын. Вось-жа сукенкі былі густоўныя, добротныя, але простыя, даўгіх сукенак было мала й яны кідаліся ў вочы. Наагул заўважалася, што жанчыны стараліся, каб ня быць залішне ўбранымі. Тон зададзены цяперашнімі гаспадарамі Белага Дому — прасьціня й шчырасьць — заўважаецца адразу.

Хутка пасьля 9-ай гадзіны, пасьля канфэрэнцыі (якраз у гэты дзень а 8-ай гадзіне ў другой частцы Белага Дому Прэзыдэнт Картэр меў прэсавую канфэрэнцыю) зьявіліся Прэзыдэнт і Першая Лэдзі.

Першая Лэдзі сказала колькі словаў прывітаньня й зазначыла, што гэта першае іхнае сьвяткаваньне Дня Валянтына ў Белым Доме, што Прэзыдэнт вельмі любіць танцаваць і добра танцуе, але цяпер маюць мала нагодаў і часу на гэта. Прэзыдэнт зазначыў, што пасьля цяжкага дня ён вельмі рады адпружыцца, паскакаць ды пагутарыць із сябрамі. Патанцавалі й яны трохі, але хутка пачалі хадзіць паміж гасьцей, вітацца, гаварыць, жартаваць.

Удалося й нам перакінуцца колькімі словамі зь Першай Лэдзі й з Прэзыдэнтам Картэрам. Вітаўт, як Вітаўт, ізноў не прамінуў, каб ня ўставіць колькі словаў і пра Беларусь ды пра Беларусаў.

Наагул вечар прайшоў вельмі прыемна, міла й памысна.

Вось і Беларусы паскакалі ў Белым Доме!

**Зора Кіпель**

## Чацьвер 14 лютага

Раніцай неяк ня спалася. Усталі пасьнедалі. Паехалі з мамай па пакупкі, у банк.

Паехалі зь Вітаўтам на яблыкі і да Дзядзі Вані[1]. Завезьлі ім калбасы і Алесін гадзіньнічак (выскачыла колца, што для заводу). Д. В. паабяцаў паглядзець. У іх як заўсёды — жывёла, раскідана. Доўга ў іх не сядзелі.

Прыехалі дахаты, адпачылі добра. Нават заснулі. Паехалі на зборку ў Stockton College — Ethnic Center[2]. Зборка прайшла добра. Трохі сабралася людзей — першы regional meeting.

Дахаты прыехалі пасьля 12-ай. У хаце ўсё добра. У пошце нічога цікавага.

---

[1] *Дзядзя Ваня — Іван Фёдаравіч Нядзьвіга — кубанскі казак-украінец. Зжыўся навек зь беларусамі, бо быў першым шоферам у Ал. Русака, калі той заснаваў у 1945 годзе Беларускі камітэт у Рэгенсбургу, ■ крыху пазьней ажаніўся зь Лідзіяй Рыгораўнай Янушкевіч (беларуска, уплывовая акторка Купалаўскага тэатру ў Менску яшчэ з 1920-х гадоў).*

[2] *Стоктан Каледж — цяпер Унівэрсытэт Стоктана — на поўдні штату Нью Джэрзі, кілямэтраў за 10 ад гораду Атлантык Сіты. Некалі там была «этнічная праграма» (навокал жыло шмат славянаў і яўрэяў). Ладзіліся выстаўкі і выступы. Беларусы бралі ўдзел. Цяпер спэцыялізацыя унівэрсытэту выключна морска-біялягічная — з-за блізкасьці акіяну.*

**Пятніца 15 лютага**

Палучка. Неяк дзіўна на працы пасьля такога доўгага, занятага, цікавага перапынку.

Усе распытваліся пра Белы Дом на рабоце. Нашыя-ж, беларусы, неяк зусім халодна. Ці то ўжо гэта для іх не навіна, што мы ў Белым Доме бываем. Ці то, як кажуць, што «ў сваёй вёсцы не прафэт».

Прыходзіў Тумаш. Дала яму выпіску пра Скарыну з L[*ibrary of*] C[*ongress*]. Тумаш паказаў ліст ад Панькова.

Юрачка, хоць меўся, не прыехаў. Вячэралі галубцамі — балелі жываты. Мусіць сьвіньніна.

**Субота 16 лютага**

Сяньня дома. Нікуды ня едзем, ня йдзем. Цэлы дзень займаліся сваім. Я пачала ўпарадкаваць index[1] да Салаўя. Вітаўт з Кліўлендам займаецца[2].

---

[1] *Паказьнік.*

[2] *Рыхтаваў кнігу «Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Нядзеля 17 лютага**

Пасьнедалі разам.

Рабіла index. Карпатлівая работа. Цэлы дзень працавалі. Трохі адпачывалі. Добра, спакойна.

Званіла Юзэфа[1]. Яе дачка Ядзя восеньню выходзіць замуж.

---

[1] *Юзэфа Найдзюк — наша блізкая сяброўка яшчэ з часоў гімназіі ў Нямеччыне.*

**Панядзелак 18 лютага**

Перадрукавала index.

Пазванілі да Wexler'a[1]. Дамовілася на 28-га на прыймо.

Вечарам званіў Шук[*елойць*] — напісаць ліст Koch'y[2].

---

[1] *Дантыст.*

[2] *Мэр Нью Ёрку Эд Коч (Ed Koch). У нас зь ім былі прыязныя дачыненьні — мы дасылалі яму матэрыялы пра 25 Сакавіка, і ён заўсёды абвяшчаў дзень 25 Сакавіка Беларускім Днём гораду. Дарэчы, з Кочам даводзілася сустракацца і ў бібліятэцы: ён шмат часу праводзіў у чытальных залях, быў атарам некалькіх кніжак пра амэрыканскую палітыку.*

**Аўторак 19 лютага**

Вітаўт напісаў ліст Koch'y.

У абед пайшлі да Адамовіча. Перадала яму індэкс. Пераглядзела «Беларускую Газэту». Зрабіла копіі вершаў і фэльетону Салаўя. Патраціла цэлы абедні перапынак. Таго фэльетону, што Сядура прыпамінае, не знайшла. Дамовіліся з Адамовічам у сераду мець «Канфэрэнцыю».

Напісала ліст-падзяку Брылеўскаму і Будзьку.

Шукелойць не прыйшоў, каб падпісаць ліст. (Між намі кажучы, ліст яшчэ й гатовы ня быў, я гэта падазравала).

Пайшлі зь Вітаўтам на вячэру ў [*рэстаран*] «Tad Steak». Вельмі прыемна было.

У хаце прыемная неспадзеўка чакала — пачка з часопісамі «Зь Бел. Жыцьця» [1]ад Уладыкі Мікалая. (Бязь ліста — то я й ня ведаю, ці гэта толькі пазычка, ці, можа, і «падарунак»).

---

[1] *У гэтым часапісе было шмат матэрыялаў і пра Салаўя, і самога Салаўя, бо ён быў адным з рэдактараў часапісу.*

**Серада 20 лютага**

У абед пайшла да Адамовіча на «канфэрэнцыю». Ён перадаў мне ўсе матар'ялы Салаўя — выбірай, упарадкавай, перадрукоўвай. Я трохі была заскочаная тым, што ён так мала зрабіў (праўда, паўкладаў усё па гадох). Каб гэты матар'ял увесь мела раней — было-б значна прасьцей. Цяпер пару дзён трэба будзе вельмі інтэнсыўна працаваць.

Ліст Koch'y напісаны (напісаны!). Чакае на подпіс Шук[*елойця*]. Зь ім мы разьмінуліся. Прыходзіў у бібліятэку, але так сьпяшаўся, што не захацеў чакаць, пакуль Вітаўт мне зазвоніць. Нейкі ён дзіўны часам бывае.

Зрабіла заказ Тумашу для кніжкі пра Скарыну з L[*ibrary of*] C[*ongress*].

Тумаш сказаў нарэшце пра [*Фундацыю*] Крэчэўскага[1] — прадалі дом (Вітаўт ужо трохі ведаў ад Запрудніка, але Тумаш нічога не гаварыў).

Упарадкавала Салаўя цэлы вечар. Друкавала.

---

[1] *Фундацыя Крэчэўскага была заснаваная з грошай-страховак за тых парашутыстаў, якія былі закінутыя ў БССР. Аснова фундацыі — дапамагаць БІНіМу і іншым культурніцкім праектам эміграцыі. Каб мець сталы прыбытак, частка грошай была ўкладзеная ў маёмасць — дамы. Але ўтрыманьне дамоў было дарагое — два дамы трэба было прадаць. Нейкі час па сьмерці М. Гарошкі старшынём Фундацыі Крэчэўскага быў д-р В. Тумаш. Потым старшынём стаў Ф. Бартуль. На зборках БІНіМу справы фундацыі ніколі не дыскутаваліся.*

**Чацьвер 21 лютага**

Напісала лісты Карповічу і Веры Рыч. Рабіла копіі передрукаваных вершаў. Надта-ж шмат яшчэ трэба рабіць. Пару рэчаў яшчэ праверыць у Панькова. Званілі Панькову — яго няма ці можа ня ў стане. Перадала трохі перадруку Яні — зробіць[1].

Вечарам пайшлі з Шукелойцем на вячэру. Нарэшце аддалі яму ліст. Пагаварылі пра Луцкевічаву ўрачыстасьць. Вечар прайшоў прыемна.

Званіла Юлі — яна ўжо лядьку выслала Mrs. Potocky.

Дома быў ліст ад Уладыкі Мікалая. Гэтыя часопісы (некаторыя падвойныя нумары ў яго былі, а рэшта копіі) ён нам аддае. Вось і вельмі добра. Будзем мець свой набор.

Званіла мама. Якраз 6 гадоў, як памёр папа[2]. І пагода тады была такая-ж прыемная, цёплая. Успаміналі.

---

[1] *Усё — у справе кнігі А. Салаўя.*

[2] *Лявон Савёнак памёр 24 лютага 1974 г. Аб Савёнку шырэй гл.: Лявон Крывічанін. Беларусізацыя пад № ***, Нью Ёрк, БІНіМ, 1998.*

**Пятніца 22 лютага**

Была дома — трохі чулася нядобра, ды й трэба скончыць Салаўя.

Вітаўт пазваніў Панькову[1]. Ён быў не зусім ветлы — кажа сам прыедзе пад царкву. Я зраблю выпісы, што ў яго спытацца — можа, дапаможа яшчэ. (Хоць пасьля ягонага руральнага лісту ды ягонага не каапэратыўнага стаўленьня — сумняваюся).

Вітаўт зрабіў копіі таго, што перадрукавала ўчора. Дастаў паркінг на панядзелак[2].

Я цэлы [*час*] па абедзе працавала. Усё больш-менш упарадкавала. Колькі вершаў яшчэ засталося неперадрукаваных, але трэба з Адамовічам пагаварыць ці варта іх наагул друкаваць.

Званіла Алеся — яна прыедзе заўтра цягніком. Юра не прыедзе — нешта з машынай.

Вечар прайшоў спакойна. Усе вельмі задаволеныя з амэрыканскай перамогі ў гакэі на Алімпіядзе[3].

---

[1] *Перад здацьцём кнігі А. Салаўя ў друк некалькі разоў зьвяраліся з М. Паньковым — мо ён мае што дадаць да кнігі.*

[2] *Мы часам езьдзілі на работу ў Нью Ёрк на машыне. Але перад тым трэба было*

*атрымаць дазвол на паркаваньне машыны ў дворыку бібліятэкі. Гэта быў зусім маленькі дворык — на 5—10 машынаў. Дазвол давалі, але рэдка.*

*[3] Алімпіяда ў Лэйк Плэсыдзе. Нечаканая перамога каманды ЗША была названая «Цудам на лёдзе». У Амэрыцы быў фурор!*

**Субота 23 лютага**

Сяджу ў Beauty Parlor і ўпарадкаваю дзёньнік.

Сяньня рана напісала ўжо лісты да Уладыкі Мікалая (падзяка) і да Мітрапаліта Андрэя[1].

Вітаўт паехаў спаткаць Алесю у Newark[2]. Выйшла, як часта бывае пры спатканьнях, замінка. Званіў — яе не ўбачыў. Я ўжо пачала хвалявацца. Але хутка прыязджаюць і яны. Алеся чуецца добра.

Паехалі да Юрачкі ўсе разам (і бабка). Пагаварылі аб машыне. Усе згодныя з думкай, што трэба прадаваць ягоную й купляць новую ці патрыманую. Добра павячэралі, добра пагаварылі, настрой быў вельмі прыемны. Бабцы спадабаўся ягоны пакой. Алеся таксама першы раз была ў яго на новым мейсцы.

Прыехалі дахаты ня позна. Алеся пайшла яшчэ да Надзін.

---

*[1] З пытаньнямі, ці мае ён што дадаць для кнігі А. Салаўя.*

*[2] Дачка Алеся з Вашынгтону, дзе яна вучылася на юрыдычным факультэце Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту, часта прыяжджала да нас цягнікам у горад Ньюарк або прылятала самалётам на аэрадром Ньюарк-Лібэрты.*

**Нядзеля 24 лютага**

Пасьнедалі разам. Паехалі ў царкву. Ага, зусім быў сапсуўся душ (гарачая вада цякла цурком). Вітаўт перакрыў у падвале, але ўсё роўна цячэ.

Акадэмія Луцкевічаў прайшла ўдала. Зрабілі невялічкую выстаўку. Тумаш чытаў рэфэрат. Пасьля выступіў Адамовіч (ён быў спазьніўся). Сказаў, што мала ў нас тут ведама пра вялікую палітычную важнасьць Луцкевічаў. Орсіха выступіла з успамінам, і ўжо зачапілася за Адамовіча — «у нас іх добра ведалі». Адамовіч, зразумела, стаў адказваць, чуць ужо сварка не паўстала. Як людзі любяць чапляцца адзін да аднаго[1].

Прыйшоў [*Мікола*] Панькоў. Аддала яму часопісы. Ён паабяцаў зрабіць копіі з «Пагоняў». Падвезьлі яго дахаты.

Гаварылі з Шук[*елойцем*] і [*Міколам*] Кунцэвічам пра «Бюлетэнь БАЗА».

Юля прывезла лялькі — цудоўныя. Ёсьць лепшыя, чымся мае. Купіла адну для Алесі. Заказала адну маленькую для сябе. Купілі яшчэ дзьве Данчыкавы плыткі.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна. Заехалі у «Hamburger». Алеся пайшла да Deon[2].

Трохі працавалі, адпачывалі.

---

*[1] Часам на зборках БІНІМу і БАЗА ўзьнікала напружанасьць «усход — захад». «За-*

*ходнікаў» бывала больш, але «ўсходнік» А. Адамовіч бываў больш гаваркі. Аднак усё гэта праходзіла вельмі цывілізавана. Мы, тады здорава маладзейшыя — Зора, я, Ян Запруднік, Васіль Шчэцька, Васіль і Галіна Русакі — трымаліся вельмі нэўтральна. Для нас той падзел — гэта была ўжо гісторыя.*

[2] *Алесіна школьная сяброўка.*

### Панядзелак 25 лютага

Наша «Вясельле»[1]. Прыехалі на машыне. Алеся прыехала па абедзе. Пайшлі зь ёй у «Odd Job»[2], купілі тое-сёе. Яна пайшла купляць білеты[3] і яшчэ па свае пакупкі.

Прыехаў Юрачка перад 5:30. Хутка прыйшла й Алеся. Усё неяк добра йшло. Білеты яна дастала на «Best little whorehouse in Texas»!

Павячэралі й пайшлі ў тэатр. Пастаноўка дрэнь. Напачатку дык зусім было непрыемна. Пасьля трохі разышлося. Але мы сябе добра адчувалі.

Завезьлі Юрачку [*у інтэрнат*]. Дахаты прыехалі пасьля 12-ай.

Дзеці купілі мне вельмі прыгожыя кветкі.

Дзень прайшоў памысна.

Ага, званіла да Іны Іванаўны[4]. Верш гэта ня той, што мы маем. Яна зробіць адбітку й прышле.

---

[1] *Гадавіна вясельля (25 лютага 1956).*

[2] *Крама «нязбытых» тавараў. Купляюцца гуртам нераспрададзеныя тавары і прадаюцца ў гэтай краме.*

[3] *У дзень нашага вясельля мы заўсёды — дзясяткі гадоў — разам зь дзецьмі хадзілі ў Нью Ёрку ў тэатр.*

[4] *Іна Іванаўна Рытар (пазьней Кахаthroughноўская) — нашая настаўніца з гімназіі. Родам з Навагрудку, жыла ў Менску. Шмат пісала. Мы зь ёй раіліся нешта аб творчасьці А. Салаўя.*

### Аўторак 26 лютага

Усё яшчэ ўпарадкаваю Салаўя. Усё знаходзяцца новыя вершы. Адамовіч разабраў й перапісаў пару вершаў. Я перадрукоўваю. Ён, на вялікі жаль, не вялікі памочнік. Калі яму будзе ўсё пад нос падсунута — ён зробіць і будзе хваліцца.

Прыязджала Алеся на інтэрв'ю з Запруднікам[1]. Усё добра пайшло. Яна яшчэ мае напісаць пару пробных скрыптаў. Выглядае так, што яна хіліцца на Мюнхэн.

Прыходзіў Шукелойць — падпісаў лісты да губэрнатараў[2].

Прыходзіў Тумаш. Нічога важнага. Алеся дачакалася нас. Да хаты ехалі разам.

---

[1] *Алеся думала летам папрацаваць у Радыё Свабода. Нічога з гэтага ня выйшла — у Мюнхене не было вакантных месцаў.*

[2] *У справе адзначэньня 25 Сакавіка.*

### Серада 27 лютага

Усё яшчэ з Салаўём важуся. У абед хадзілі ў радыё [*(«Свабода»)*].

Была новая газэта [(*«Беларус»*)]. Вітаўт — расчараваны й злосны. Шмат чаго не ўключыў, шмат чаго выкінуў. Мой артыкул пра Каля-доўшчыкаў не сапсуў — толькі ў адным мейсцы (пра Данчыка) блага выйшла. Зіна-ж распісалася. І, зразумела, мяне стараецца зьнізіць. Ну, Бог зь ёй.

Пераглядаю «Голас Вёскі» знайшла тое-сёе [*пра Салаўя*].

Вечарам завезьлі Алесю на цягнік. Засталіся зноў адны.

Пачала рабіць рэфэрат аб Орсу — Плескача[1]. Ня так ужо страшна, як на першы пагляд здавалася. Трохі пачатак трэба было зрэзаць. Выходзе ня дрэнна.

---

*[1] Даклад чытаў Васіль Пляскач з Дэтройту. Зоя напярэдадні даклад адрэдагава-ла, каб пазьней адразу надрукаваць.*

**Чацьвер 28 лютага**

Засталіся дома. Раніцай схадзіла да дэнтыста. Дзьве пломбы — доўга яшчэ была мёртвая губа й нос. Рашыла застацца дома. Пада-гнала «Conventions» для Калошы[1].

Амаль скончыла рэфэрат Орсы. Дзень прайшоў працавіта, спакой-на, прадукцыйна. Я ўжо пачынаю гучэць, як дыплямат!!! Працы на-біраецца шмат — зашмат.

Прыйшоў ліст ад Мітрапаліта Андрэя. Ён першых двух нумароў «Па-гоні» ня мае. 3-ці і 4-ты — пазычыць, Калоша прывязе.

Званіў Васіль Мельяновіч — ён прыедзе на Орсу[2]. Абяцае, што зро-біць блянкі да лістоў са Скарынавай літарай «К».

---

*[1] Храналягічны сьпіс «Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі».*
*[2] Акадэмія, прысьвечаная Аляксандру Орсу.*

**Пятніца 29 лютага**

Атрымалі грошы. Шмат [*паступіла*] кніжак для каталагаваньня — добра.

Ballarine праверыла мне «Conventions»[1].

Fox прынёс булачкі — сёньня Purim.

Скончыла пераглядаць «Голас Вёскі» й «Бел. Газ.». Так тога нума-ру «Б. Г.» з 1944 году й не знайшла. Дзе ■ яго магла бачыць?

Прыходзіў Тумаш. Ліст ад [*М. Грэбеня*] — можна будзе наладзіць выстаўку «беларускай кніжкі» у Пэнсыльваніі.

Пачала перадрукоўваць на працы «Conventions».

Вечарам скончыла Рэфэрат[2] — толькі канец яшчэ трэба залагодзіць з Орсіхай.

Ліст ад Іны Іванаўны зь вершам Случчыне.

Прыехаў Калоша. Прывез ад М[*ітрапаліта*] Андрэя «Пагоні». Як амаль заўсёды апошнім часам зь Вітаўтам здараецца, выйшла замінка

на аэрадроме. Але ўсё ў парадку [*знайшліся*]. Прыехалі. Трохі перакусілі і пагаварылі.

[1] *Наша сяброўка Кацярына праверыла тэкст, што Зора ўкладала для Калошы.*
[2] *Пра Аляксандра Орсу.*

**Субота 1 сакавіка**

Пасьнедалі ўсе разам.

Я скончыла перадрукоўваць Калошу «Спатканьні». Яны зь Вітаўтам пераглядалі-дыскутавалі Кліўленд[1].

Паехала рабіць валасы. Як заўсёды, упарадкаваю дзёньнік пакуль чакаю, пакуль сушацца валасы.

Прыйшла пошта. Ад Панькова нічога няма. Добра, што Калоша прывёз «Пагоні». Вітаўт паехаў у нашую [*мясцовую*] бібліятэку, зрабіў копіі — добра выйшла. Часопісы Калоша завязе назад. Шмат вершаў патрэбных і апавяданьне.

Хутка паехалі й на зборку БАЗА. Зборка прайшла добра. Раіса й Станкевіч, праўда, былі трохі пачалі бузіць, уносіць дысананс. Калоша прадставіў іхныя пляны для Сустрэчы. Шук[*елойць*] нявыразны. Не занімае становішча. Выглядае, як ён гэтых Станкевічаў баіцца. Зрэшты, усе іх трохі пабойваюцца. Вось ненармальнае становішча!

Падвезьлі да станцыі Васіля [*Мельяновіча*] й Шук[*елойця*]. Ага, паглядзела я бібліятэку Крэчэўскага. Нічога цікавага, толькі адно N.Y. Шыпшыны ўзяла[2]. Але затое паліцы на кнігі — цудоўныя й шмат іх. Вось не разумнае плянаваньне. Што зь імі будуць рабіць, як прададуць дамы?

Павячэралі ў [*рэстаране*] Candellwick. Прыехалі дахаты недзе пасьля 9-ай. Яшчэ трохі папрацавалі. Калоша званіў усім сваім знаёмым.

З Орсіхай усё абгаварылі, залагодзілі. Выглядае, што ўсё добра пасоўваецца.

На зборцы Рая прапанавала запрасіць на Сакавіковае сьвята [*Валентына*] Мароза[3]. Выйшла дыскусія — ці варта — ён не зусім добрай рэпутацыі ў украінцаў. Пачалі гутарку пра «Bulletin». Нічога ня выйшла — усе сьпяшаліся дахаты. Станкевіч аддаў Вітаўту фатаграфіі. Артыкулу пра «Папу» не аддаў — можа, ужо й выкінуў.

[1] *Дыскутавалася найбольш праграма будучай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўлендзе і рукапіс кнігі «Беларусы ў Кліўлендзе».*
[2] *У Фундацыі Крэчэўскага Пётра Манькоўскі спрабаваў зрабіць бібліятэку беларускае пэрыёдыкі. Нічога з гэтае зацеі ня выйшла.*
[3] *Украінскі дысыдэнт, які прыехаў у ЗША.*

**Нядзеля 2 сакавіка**

З самага раньня рабіла «curry» для пачастунку на акадэміі па [*Аляксандру*] Орсу.

Паехалі ў царкву. Пачалі там адразу рыхтавацца. Перад паніхідай усё скончылі — пайшлі на паніхіду.

Акадэмія пайшла ўдала. Усе гаварылі да толку й ня доўга. Адно Станкевічыха пачала гаварыць глупства, доўга, раскідана гаварыла, больш аб сабе, чымся аб Орсу. Неяк было нясмачна.

Але агулам добра ўдалося. Сабралася шмат людзей. Шмат прыйшло з Мерляковай царквы[1]. Шмат здалёку. І пачастунак удаўся добра. Юля выставіла свае лялькі. Здаецца, пару прадала.

Пра іншыя справы, як я плянавала, ня было часу й перагаварыць ні з кім. Праўда, пагаварыла з Васілём Мельяновічам, аддала яму ўзоры лістоў. Можа й зробіць.

Завезьлі Калошу на аэрадром. Заехалі ў Ньюарк, купілі Вітаўту на цягнік у Вашынгтон на заўтра. Завезьлі дахаты Жамойду. (Ён з намі езьдзіў).

Вечарам адпачывалі — заслужана. Гэтыя дні былі вельмі занятыя, актыўныя, ну й чужы чалавек у хаце.

---

[1] *У той царкве было шмат прыхаджанаў, якія ведалі д-ра Орсу яшчэ зь лягераў DP і вельмі яго паважалі.*

**Панядзелак 3 сакавіка**

Вітаўт паехаў у Вашынгтон на канфэрэнцыю з Прэзыдэнцкім Этнічным Дарадчыкам[1]. Прайшла добра. Вітаўт меў нагоду гаварыць з Бжэзінскім пра «Голас Амэрыкі» для беларусаў[2].

[*Вітаўт*] цэлы дзень не званіў. Выйшла была трохі замінка зраньня. У пятніцу яны зазванілі з Вашынгтону (да Запрудніка!), што нарады пачнуцца на ½ гадзіны раней а 1-ай. Ніхто, аднак, Вітаўту гэтага не перадаў. Стала званіць Алесі, каб спаткала яго на станцыі й паведаміла. Алеся яго не знайшла. Я цэлы дзень хвалявалася, як там усё прайшло. Не зазваніў Вітаўт, бо быў надта заняты — ні дахаты, ні да Алесі, ні да Запрудніка. Вечарам, калі я ўжо сабралася ехаць на станцыю яго спатыкаць — яўляецца. Прыехаў з праф. Громадам[3].

Але ўсё добра выйшла. З канфэрэнцыі Вітаўт застаўся вельмі задаволены. Вылажыў нашыя праблемы й дамаганьні: «Голас Амэрыкі», русіфікацыя на Беларусі, іншадумцы.

Была ў Адамовіча.

Я даведалася ад Тумаша тэлефон Сп. [*Вольгі*] Грыцук.

Перадала Адамовічу апавяданьне Салаўя «Чужы», ліст ад Мітрапаліта.

---

[1] *Гэта была сустрэча зь віцэ-прэзыдэнтам Волтэрам Мондэйлам і тычылася, галоўным чынам, эканамічнага становішча ў краіне. Інфляцыя расла надта хутка. Мондэйл хацеў даведацца, якія настроі ў «этнічных групах». У беларусаў, як заначыў я, панікі не было. Гэтыя людзі прывыклі жыць асьцярожна, і інфляцыя іх не асабліва турбавала.*

[2] *З Бжэзінскім гутарка была досыць павярхоўная. Хоць ён і разумеў патрэбу пад-*

*трымкі нацыянальнасьцяў і ўводу беларускіх праграмаў у «Голасе Амэрыкі», але аднекваўся — прыкрываўся аргумэнтам, што ў дадзены момант «няма грошай», «бюджэт не дазваляе». Старая песьня...*

*[3] Праф. Тадэвуш Грамада — паляк, прыяцель беларусаў, выкладчык гісторыі і сацыяльных дысцыплінаў у каледжы Сьв. Пятра ў горадзе Джэрзі Сіты. Зь ім сяброўства цягнулася дзесяцігодзьдзі.*

**Аўторак 4 сакавіка**

Тумаш сказаў пра альбом, — што варта выдаць добры каляровы альбом з фэстываляў[1].

Была й Тамара[2] якраз. Гаварыла, што вельмі важна напісаць кнігу пра Беларусь у ангельскай мове. Як быццам мы гэтага самі ўсе не разумеем. Таксама выйшла няўвязка з часткай матар'ялаў Салаўя. Я нешта прыпамінаю, што гэты матар'ял бачыла.

Хадзілі на вячэру ў Tad Steaks. У хаце — прыемная неспадзеўка — пачка ад а. Надсона з матар' яламі і ліст ад Панькова зь вершам «Нішто» з «Шыпшыны».

Званіла да Грыцучыхі. Яна рыхтуе пачку. Вельмі міла і сур'ёзна паставілася. Езьдзіла ў Таронта да Уладыкі і да Ганька. Ганько хутка мае нешта таксама прыслаць. Адным словам, памысны дзень[3].

Ага, знайшла той матар'ял, што загубіўся быў. Хто вінаваты? Няведама — але матар'ял у мяне.

Пазваніла да Станкевіча — ці пісаць пра Белы Дом. Званіў Русак, Уладзімер. Сказаў і ён пра Альбом, але прасіў, каб не прагаварыліся Тумашу, што мы ўжо гэта ад яго чулі — хай лепш усё выходзе ад Тумаша. Дыпляматыя!

---

*[1] В. Тумаш і Ал. Сільвановіч хацелі такі альбом выдаць. Але кошты — каля 40–50 тысячаў даляраў — пахавалі гэтае жаданьне.*

*[2] Тамара Стагановіч — St. Tamara — беларуская мастачка, наша добрая сяброўка.*

*[3] Усё справе выданьня кнігі Алеся Салаўя «Нятускная краса».*

**Серада 5 сакавіка**

Пісала артыкулы для «Беларуса» пра зборку БАЗА і пра Белы Дом. Перадрукавала вершы з матар'ялаў, што прыслаў Надсон.

**Чацьвер 6 сакавіка**

Зрабілі копіі артыкулаў і паслалі Станкевічу.

**Пятніца 7 сакавіка**

Напісала лісты-падзякі да Іны Іванаўны і Мітрапаліту.

Вітаўт перадаў Тумашу артыкул Плескача й «мой» рэфэрат.

Тумаш ужо больш гаварыў пра «Альбом». Атрымалі заказы з Harvard Univ. на кніжкі. Гаварылі, што трэба хутчэй рабіць новы катальёг[1]. Тумаш «падсунуў» банкаўскую кніжку Салаўя — там ужо больш за $6000[2]. Добра.

Вечарам я паехала дахаты сама. Вітаўт паедзе пад царкву на збор-

ку танцавальнай групы[3] (Юра па яго заедзе). Зборка прайшла вельмі добра. Будуць рэгулярна зьбірацца танцаваць.

---

*[1] Часта ўнівэрсытэты, улучна з Гарвардзкім, зьвярталіся ў БІНІМ па дапамогу ў разбудове кнігазбораў беларусікі. З гэтай мэтай БІНІМ выдаваў каталёгі кніг, якія можна было набываць празь БІНІМ.*

*[2] Для выданьняў БІНІМу заўсёды рассылаліся падпісныя лісты, людзі дасылалі грошы.*

*[3] Зборка моладзі ў царкоўным будынку БАПЦ на 401 Atlantic Avenue.*

**Субота 8 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі разам. Юрачка расказваў пра сваю працу у школе[1]. Выглядае, што й ён задаволены й ім задаволеныя.

Вітаўт працуе. Мы паехалі на закупы для Юры. Машыну ў Collens'a[2] не пакінуў — трэба нейкія часткі. Купілі Юру кашулю гальштук, штаны. Я паехала рабіць валасы. Упарадкавала дзёньнік, як я ўжо амаль заўсёды раблю там.

Паехалі зноў на закупы. Наезьдзіліся, патраціліся. Купілі, праўда, шмат і, здаецца, добрае.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна. Я стала падрыхтоўваць рэчы для Ірэны, для выстаўкі[3].

На вячэру Юрачка паехаў па pizza. Вітаўт прыйшоў стомлены. Ліст з Аўта Іншуранснай Кампаніі яго зусім знэрваваў — надбавілі на Алесіну машыну $470 зь лішнім. Настрой быў напружаны. Юрачка хутка паехаў. Я яшчэ пачала рыхтаваць лялькі, хацела адну трохі зьмяніць. Гэта Вітаўта чамусьці зусім раззлавала. Так неяк цэлы вечар прайшоў напружана ў злосьці[4]. Трохі ўпарадкавала Салаўя, пакуль Вітаўт спаў (і скончыла ўсё-ж ляльку!).

---

*[1] Юра выкладаў фізыку і біялёгію ў сярэдняй школе.*

*[2] Знаёмы гараж (аўтамайстэрня).*

*[3] Чарговая мастацкая выстаўка ў Саўт Рывэры.*

*[4] Гэта была вельмі напружаная пара. Дзеці селі за руль. Набылі свае машыны. У ЗША калі маладыя набываюць свае машыны, пакуль яны яшчэ студэнты да 25 гадоў, страхоўку могуць купляць бацькі. Гэтак таньней, чым калі страхоўкі купляюць самі дзеці. Але і гэта ня танна. У той час страхоўка на тры аўтамашыны нам каштавала каля $2,500 за год. Сума вялікая.*

**Нядзеля 9 сакавіка**

Пасьнедалі. Паехалі ў South River у царкву, каб паглядзець іхны архіў і бібліятэку[1]. У архіве нічога цікавага для мяне няма. Наагул гэта ніякі не архіў — колькі стопкаў старых часопісаў, газэтаў — без сыстэмы й без вартасьці. Адно, што ад Віцьбіча ёсьць, — гэта выразкі з газэтаў і часопісаў ягоных артыкулаў. Можа, гэта часам будзе патрэбна.

У бібліятэку так і не папалі — была зачыненая. Ключ мае Банкет!!! А яго ня было. Вось вам і арганізацыя. Наагул яны неяк не зусім пры-

хільна аднесьліся. Можа проста сьпяшаліся дахаты, а можа й ня хочуць ці баяцца паказаць, што ў іх ёсьць — інакш кажучы, што нічога цікавага няма.

Паехалі да Ірэны — завезьлі рэчы. Амаль ужо былі ня кінулі й паехалі назад. Не змаглі яе знайсьці адразу. Але папалі усё-ж.

Перадалі рэчы. Пагаварылі пра выстаўку. Прыехала й Надзя. Ага, у Ірэны быў брат Бахарыхі. Можа, што наклёўваецца. Вітаўт сказаў Ірэне пра Альбом. Яна зацікавілася. Праведае пра кошты.

Папілі кавы й паехалі. Купілі былі ехаўшы з South River калбасы беларускай. Спаткалі там Леўчыка[2]. Гаварылі пра кнігу Салаўя. Паабяцала яму прыслаць «Сілу Гневу».

Прыехалі дахаты ня позна. Я трохі перакусіла, памыла свае рэчы (пагода была вельмі прыемная). Адпачывалі. Я нават Салаўя не рабіла. Хоць заўважыла, што пару вершаў яшчэ не ўпарадкавала. Трохі выпілі вэрмуту. Вітаўт учора купіў.

---

*[1] Усё гэта датычыць беларускіх матэрыялаў, сабраных пад царквой Сьв. Эўфрасіньні ў Саўт Рывэры. З часам у тым складзе быў наведзены парадак. Пэрсанальныя архівы парасладаныя ў асобныя папкі, кнігі расстаўленыя на паліцы. А калі загадчыкам цэнтру стаў Жорж Навумчык, а старшынём парафіі — Міхась Бахар, мы ў тых архівах часта працавалі і знайшлі шмат цікавага матэрыялу.*

*[2] Рыгор Леўчук ілюстраваў кнігу А. Салаўя «Сіла гневу» (1948). Рыгор актывістам ня быў, але стала падтрымліваў беларускую дзейнасьць. Затое ягоная жонка Вілачка была душой мастацкае дзейнасьці Саўт Рывэру.*

**Панядзелак 10 сакавіка**

Званіла рана Ірэна, даведацца пра тыраж альбому. Яна сур'ёзна гэтым зацікавілася.

Раніцай яшчэ надрукавала два вершы. І добра справілася — не спазьнілася. Зрабіла копіі.

У абед аддала ўсё Адамовічу. Цяпер толькі выканчыць бібліяграфію й індэкс. Юрчык[1] робіць праклямацыі. Зрабіла копіі часопісаў «З Беларускага жыцьця» для Надсона.

Дастала ад Шук[*елойця*] блянкі. Вітаўт заступае Запрудніка[2]. Выходзіць рана. Меўся паехаць у Ньюарк на канфэрэнцыю з Gruzen Architects[3] — не паехаў (ня змог адлучыцца ад работы).

Вечарам надрукавала прывітаньне ад БАЗЫ беларускім арганізацыям. Напісала ліст-падзяку Надсону. Званіў Шук[*елойць*] — заўтра спаткаемся. Пойдзем на вячэру, пагаварыць.

Званілі да Юрачкі. Ён нейкі дзіўны, не гаваркі быў. [*Гараж*] Collens, як дастане частку — дасьць знаць. Юра бялізны яшчэ не памыў[4]. Выйшла ў нас так нядобра з гэтым. Ён забыўся вылажыць брудную бялізну з машыны.

---

*[1] Юрка Андрусышын — брат Данчыка, юрыст паводле адукацыі, шмат дапамагаў у грамадзкай працы.*

*² Калі Запруднік адыходзіў у адпачынак на тыдзень-два, я рабіў дзённыя палітычныя рэпартажы.*
*³ У справе арганізацыі Этнічнага музэю.*
*⁴ Жывучы ў інтэрнаце, студэнты мелі пральныя машыны.*

**Аўторак 11 сакавіка**

У абед сяньня нікуды не пайшла.

Упарадкавала дзёньнік — аж да цяперашняй мінуты. Канчаю і йду ўжо працаваць.

Вітаўт зрабіў копіі «лістоў да суродзічаў» ад БАЗА.

Прыйшоў Тумаш. Сапсуў мне настрой з выстаўкамі — што-ж на тых выстаўках усё тое самае — «лялькі, вырабы з саломкі». Матар'ялы на Запісы усё яшчэ не здае. Чаго чакае? А другіх падпіхае, стыдзіць, злуець. Казаў таксама, што Адамовіч зьбіраецца падаваць, адкуль вершы ўзятыя. Мушу зь ім пагаварыць — непатрэбная дублікацыя, гэта-ж будзе ў бібліяграфіі.

Вечарам пайшлі на вячэру з Шук[*елойцем*]. Падпісала частку лістоў[1]. Падзялілі, што ён, што я будзем высылаць. Пагаварылі пра паездку ў Harvard[2]. Ён у Сьвятую пятніцу ня зможа паехаць.

Прыйшоў ліст ад мэра Коча — прымуць дэлегацыю 25-га. 25-га будзе таксама і ў Трэнтане[3]. Мне хочацца лепш ехаць у Трэнтан.

Прыйшлі дахаты а 8-ай. Я ўжо нічога не рабіла. Стамілася. Баліць зуб.

---

*¹ Рассылка лістоў-адозваў да 25 Сакавіка.*
*² Запрасілі на нейкі беларусаведны даклад.*
*³ Пра абвяшчэньне 25 сакавіка Беларускім днём у Трэнтане, сталіцы штату Нью Джэрзі.*

**Серада 12 сакавіка**

Пазваніла маме, каб сказаць што прыеду да яе ў пятніцу.

Пазваніла дэнтысту.

Прыходзіла Тамара[1] — паказала сваю новую кніжку — добрая. Гаварылі пра выстаўку, пра царкву у Нью Брансуіку. Зноў мітрапаліт Андрэй робіць нейкія прыкрасьці а. Александру.

Пазванілі да мэра Коча — ня было той асобы, што адказвае. Трэба яшчэ будзе пазваніць у пятніцу — падцьвердзіць.

Хадзіла да Адамовіча. Усё ў парадку. Ён згаджаецца, што вершы анатаваць ня трэба — гэта будзе ў бібліяграфіі. Ён, аднак, гэты апошні разьдзел разаб'е на дзьве часткі — друкаваныя й нідзе не друкаваныя.

Ліст ад Карповіча[2]. Ён, на жаль, нічога Салаўёвага ня мае.

Вітаўт паехаў на зборку Educational Committee Этнічнай Рады[3]. Прыехаў позна.

Я рабіла Салаўя. Спарадкавала лісты да бел. арганізацыяў (сваю частку).

Званіла Галіна [*Русак*]. У іх праблемы ў царкве.

---

*[1] Тамара Стагановіч — прафэсійная мастачка, ілюстравала з паўтузіна дзіцячых кніжак. Усюды, дзе давалася яе біяграфія, зазначалася, што Тамара нарадзілася ў Беларусі. Добрая прапаганда-рэкляма.*

*[2] Алесь Карповіч — беларускі кампазытар, жыў у Заходняй Нямеччыне.*

*[3] У Этнічнай Радзе былі розныя камітэты, у тым ліку адукацыйны. Прадстаўнікі гэтага камітэту часта езьдзілі ў розныя школы штату, дзе расказвалі пра розныя нацыянальныя групы штату.*

**Чацьвер 13 сакавіка**

Нічога цікавага. Пайшоў сьнег. Як будзе заўтра ехаць на фарму?

**Пятніца 14 сакавіка**

Купіла маме пасуду — каструлі.

Сьнег пачынае троху сыходзіць.

Баліць зуб. Гаварыла Факсу і Сільвіі[1] пра гэта.

Тумаш атрымаў публікацыю аб Скарыну[2]. Лаюць яны там «буржуазных нацыяналістаў» — скарынаведаў. Прынамсі у тых артыкулах, што ён паказваў.

Паехала дахаты сама, каб хутчэй спакавацца й ехаць на фарму. Пазваніла да мамы — у яе сьнегу няма. Ехалася добра. Дарога была зусім у парадку. Пазваніў Вітаўт.

Павячэралі добра, як прыехала, праўда зноў разбалеўся зуб. Узяла асьпірыну й лягла хутка спаць.

---

*[1] Калегі ў бібліятэцы.*

*[2] Кніга з БССР.*

**Субота 15 сакавіка**

Паехалі [*з мамай*] па справах. Аплацілі аліву ([*мазут*]). Памянялі грошы ў банку. Паехалі па яблыкі. Заехалі да Нядзьвігаў. У іх, як заўсёды, суета. Поўная хата жывёлаў. Цяпер якраз качкі гадуюцца ў інкубатары. Забрала Алесін гадзіньнічак — не пачыніў. Яны цяпер занятыя сваёй сям'ёй — выпісваюць брата, дачку. Адным словам, абскубуць іх.

Папілі ў іх кавы ды паехалі дахаты. Трохі папарадкаваліся. Стала зьбіраць каструлі. Не хапіла аднэй ручкі. Мама пачала рабіць абед. Паабедалі й трохі ляглі адпачыць на маміным ложку і пагаварылі. Добра пагаварылі. Ну, і [redacted] пачала выбірацца ехаць. (Лісты ад Сп-ні Грыцук і Веры Рыч Вітаўт пазваніў).

Прыехала дахаты ня позна. Павячэралі. Чуць ня выйшла сварка (з-за падаграваньня галубцоў!) Але хутка стрымаліся.

Вітаўту баліць жывот, мне — зуб.

**Нядзеля 16 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі разам. Тады я памыла свае рэчы й пазьней

памыла й накруціла валасы. Сядзела, сушыла й рабіла паказьнік Салаўя — дадаю першыя радкі вершаў да індэксу.

Званілі да Юрачкі, каб прыехаць да яго пазьней, — не дазваніліся.

Паехалі на выстаўку у South River. Выстаўка вельмі ўдалая, густоўна зробленая, было шмат людзей. Прыемна правялі час. Я купіла 2 яйкі маляваныя і пояс ад Згірскай[1].

Паглядзела іхную бібліятэку — нічога для мяне няма. Наагул дрэнь. Цярпіцкі зрабіў копіі 7 га нумару Шыпшыны. За гэта дзякую. Але факт, што яны іншыя матар'ялы Віцьбіча недзе хаваюць, бо гэты нумар Шыпшыны з штампам «Юры Стукаліч». Яны нешта маюць. Але нешта (мусіць, нават больш) мае й Тумаш ці Гарошкі. Шкада, што такі ўпарадкаваны, самым Віцьбічам, архіў недзе расьцярушыўся.

Дубяга перадаў фатаграфіі з акадэміі па [А.] Орсу — добрыя.

Шмат з кім пабачыліся, пагаварылі. Матушка Лапіцкая[2] ўсё дабіваецца адрасоў славянскіх бібліятэкаў.

Мярляк нічога ня мае Салаўя.

Была лятарэя — ■ хацела выйграць фартушок, але ня выйграла. Але затое пазьней мне Ліза Літаровіч дала другі. Яна такая прыемная асоба.

Званілі яшчэ раз Юру — няма. Заехалі купілі калбасы[3]. Прыехалі ня позна. Адпачывалі. Вітаўту ўсё яшчэ баліць жывот. Мне зуб вельмі дакучае.

Забылася аддаць ліст Гутырчыку (Шук[*елойць*] папрасіў).

---

*[1] Сп-ня Н. Згірская, мясцовая майстрыха. Пляла вельмі прыгожыя паясы, рабіла вышыўкі.*

*[2] Матушка Валянціна Лапіцкая фактычна надрукавала ў 1978 годзе ў форме кніжкі дысэртацыю айца М. Лапіцкага, якую ён абараніў перад вайной у Варшаве — «Праваслаўе ў ВКЛ за часоў Ягайлы». Яна гэтую кнігу шырака разаслала і пару дзясяткаў асобнікаў падаравала БІНіМу.*

*[3] У Саўт Рывэры быў магазын Б. Навіцкага — новага эмігранта з Навагradчыны. Ён рабіў і прадаваў цудоўныя беларускія кілбасы. Прыпушчаю, што ўсе беларусы, якія бывалі ў Навіцкага, заўсёды куплялі гэтыя кілбасы.*

**Панядзелак 17 сакавіка**

Цэлы дзень не дазваніліся Юру.

Раніцай прачнулася з пухлінай на шчацэ. Зазваніла да Wexler'a. Ён прыпісаў антыбіотык. Засталася дома. Вітаўт таксама дома. Працавалі. Прыйшлі фатаграфіі Юравы. Абмянялі Юру кашулю. Купілі калбасы.

Па абедзе Вітаўт паехаў на спатканьне з Steve Richer, а пазьней на паседжаньне Ethnic Council. Камілія[1] званіла, каб ехаць разам. Але Вітаўт ужо быў выехаўшы. Ну й добра. Бо я ня люблю, як яна зь Вітаўтам езьдзіць. Я яе наагул недалюбліваю — балтуха з вялікімі прэтэнзыямі.

Зборка была добрая. Вітаўт прыехаў даволі позна, бо мусіў ехаць

па машыну, якую пакінуў у тым мейсцы, дзе вячэралі са Стывэнам — на зборку ехалі на машыне Стывэна. Падвозіў яго Кліменка[2].

---

*[1] Каміля Смародзкая — украінка, член Этнічнае Рады, жыла недалёка ад нас у Рутэрфордзе. Часта на паседжаньні рады езьдзіла разам са мною.*

*[2] Прадстаўнік расейцаў у Этнічнай Радзе.*

**Аўторак 18 сакавіка**

Зуб мой перастаў балець. Пухліна яшчэ трохі відаць.

Пазванілі да Мэра. Усё ў парадку. Званіў Пляса[1]. У яго нічога Салаўёва ня мае.

Прыходзіў Тумаш. Расказваў, як Адамовіч падбірае вершы, што ён плянуе ўстаўляць, і іншыя рэчы, якія мяне вельмі ўзлавалі, бо відаць з усяго, што Адамовіч выдае за сваё ўсё, што я зрабіла, падабрала, праверыла, ўпарадкавала й паднесла яму на талерачцы. Якія нашыя людзі ня цікавыя. Усё больш і больш пачынаеш расчароўвацца ва ўсіх, так зв. дзеячох. Я можа трохі зарэзка зарэагавала, але трэба было паставіць кропкі над і. Тумаш перадаў мне адбітак пра Супрасьль (усё з той публікацыі пра Скарыну).

Забралі пачку ад Жамойды[2]. Кнігі: зубры, календары.

Дастала маме ручку да патэльні, якой не ставала ў наборы.

---

*[1] Уладзімер Пеляса — наш сябра, беларускі дзяяч. Быў у Бэрліне. Салаўя ведаў, але нічога пра паэта не сказаў.*

*[2] Сымон Жамойда — сябра сям'і. Жыў непадалёку ў горадзе Пасэйку. Ведаў мову эспэранта і перапісваўся ў гэтай мове з цэлым сьветам. Атрымоўваў шмат кніжак з БССР.*

**Серада 19 сакавіка**

Хадзіла ў абед да Адамовіча. Узяла ў яго загаловак вершу, што ён яшчэ ўсё ніяк не расчытаў, загалоўкі разьдзелаў. Дала яму ліст ад Грыцучыхі. Ён яшчэ ўсё возіцца з тым, што я прыгатавала і што, на добры лад, можна было-б за пару дзён упарадкаваць. І робіць выгляд, што вялікі інтэлектуальны працэс мае прарабіць.

Вечарам прыйшоў Шук[*елойць*]. Сапсуў мне зусім настрой з Раяй. І я, і Вітаўт вельмі сур'ёзна зарэагавалі. Мне не патрэбна ніякіх склокаў, ніякіх пакасьцяў ад нікога. Ён мусіць стрымліваць, а не падліваць масла ў вагонь. Здаецца, ён зразумеў, што нас гэта абходзіць і сам спалохаўся, што такая рэакцыя. Але вечар быў сапсуты[1].

---

*[1] Відаць, нейкія мясцовыя плёткі, але яны часам «чапляюць за жывое».*

**Чацьвер 20 сакавіка**

Вітаўт паехаў у Cleveland[1]. Паехаў аўтобусам гэтым разам — таньней. На рабоце нічога цікавага. Купіла Алесе кубак.

Вечарам адпачывала — нічога не хацелася рабіць.

Пазваніла мама. Ёй зноў прыслалі з SSI[2], што яна вінаватая нейкіх

200 зь лішнім даляраў. Вельмі растроеная. Трэба будзе паехаць залагодзіць. Але ўсё гэта дадатковыя клопаты, нэрвы.

Званіў [*айцец*] Расьціслаў Войтэнка. Малітву зьмянілі на 3-юю гадзіну. Ён хоча ехаць з намі, бо едзе безь сям'і.

---

[1] *Я там меўся чытаць рэфэрат і сустрэцца з праф. Банпуты — рэдактарам сэрыі кніжак пра нацыянальнасьці Клійленду.*

[2] *Праграма сацыяльнай дапамогі старым. Але ў праграме бюракратыя часам робіць памылкі-недагляды, тады даводзіцца даплачваць.*

### Пятніца 21 сакавіка

Ідзе дождж. Прыкра. На рабоце нічога цікавага. Прыходзіў Тумаш. Дала пачытаць яму лісты ад Грыцучыхі й ад Лашука (лісты Салаўя). Была таксама Тамара.

Хадзілі на падвячорак з Факсам. У нас абвешчаная L-3[1]. Мусіць, Rome атрымае.

Вечарам, прыйшоўшы дахаты, стала зноў хваляваццa — Юра не прыязджаў. Пазваніла пад царкву[2]. Ён мусіў везьці моладзь на танцы — таму ехаў адразу з Нью Brunswick. Усё ў парадку ў яго. Прыехаў дахаты ня позна. Юрка Азарка адвёз іх назад — Юру ня трэба было.

Званіў Вітаўт[3]. Там усё добра. Можа, прыйдзецца застацца на панядзелак, каб здаць частку рукапісу.

Прыйшоў ліст ад Грамыкі[4] з праклямацыяй ад Govn. Ella Grasso.

---

[1] *Г. зн. у бібліятэчным бюлетэні абвешчана, што ёсьць вакантнае месца бібліятэкара 3-яй катэгорыі (з васьмі). Гэта сярэдняя ступень у зарплаце, але важная ступень у працы — ты сам сабе вызначаеш працоўныя абавязкі.*

[2] *Сярод амэрыканскіх беларусаў прыжыўся выраз «пад царквой», «пад царкву» — «пайшоў пад царкву», «пазваніў пад царкву». «Пад царквой» — у грамадзкай залі царкоўнага будынку, якая заўсёды знаходзіцца на цокальным паверсе, пад уласна царкоўным памешканьнем.*

[3] *Я званіў з Клійленду, дзе адбылося паседжаньне рэдакцыйнай рады сэрыі кніжак «Нацыянальнасьці Клійленду». Беларуская кніжка сэрыі была гатовая да друку.*

[4] *Сяргей Грамыка — беларускі дзяяч у штаце Канэтыкат.*

### Субота 22 сакавіка

Пасьнедалі разам: Юра, бабка й я.

Званіла Алеся. Яе ў Мюнхэн не прынялі[1]. Яна трохі расстроілася, бо не разумее чаму — усё выглядала амаль пэўна. Мусіць нейкія інтрыгі. Альбо Сяднёў, альбо можа й Адамовіч недзе свае рукі прыклаў. (Я не хачу ў гэта верыць сама, але ён так варожа зарэагаваў, як толькі даведаўся, што Алеся падала).

Прыйшла тэлеграма ад [*прэзыдэнта*] Reagan'a з прывітаньнем 25 сакавіка.

Сяджу цяпер у Beauty Parlor і ўпарадкаваю дзёньнік. Гэта зрабілася ўжо амаль руцінай. Не зусім добра, бо як прапусьціцца пару дзён, дык часам цяжка устанавіць, ды шмат дэталяў можна прапусь-

ціць. Наагул не перадаецца настрой таго мамэнту, хоць [redacted] й стараюся трымаць гэты дзёньнік вельмі аб'ектыўна. Аднак, гэта мой дзёньнік і пазьбегнуць суб'ектыўнасьці няма як, ды й не патрэбна. Гэта-ж ня хроніка падзеяў.

---

[1] *Алеся хацела атрымаць часовую працу ў Радыё Свабода, але прыпушчальна, што Масей Сяднёў, тагачасны дырэктар, хацеў мець сталых працаўнікоў. Алеся ж плянавала кар'еру адваката, хоць беларускімі справамі вельмі цікавілася.*

**Нядзеля 23 сакавіка**

Паехалі ў Brooklyn. Адразу-ж стала рыхтавацца да акадэміі [*прысьвечанай 25 Сакавіка*]. Упарадкавала праклямацыі, прывітаньні. Быў журналіст-фатограф з Daily News[1]. Рабіў здымкі з Юлі й мяне каля лялькаў, Паўліка Рамана каля ежы, цэлай залі. Людзей сабралася шмат. Я была ўвесь час занятая — ня было часу й пагаварыць з нікім. Акадэмія прайшла добра. Пасьля дапамагала яшчэ прыбіраць. Прыехалі дахаты ўжо пазнавата. Адпачывала. Вечарам пазваніў Вітаўт. У яго таксама ўсё добра. Выязджае ўначы.

Між іншага, даведалася зусім выпадкова, што кніжка Машанскага[2], якую Шук[*елойць*] мне даў і якой я ніяк не магу знайсьці, зусім не яго, [redacted] Дуткава.

---

[1] *Быў добры рэпартаж, з фатаграфіямі ў англамоўным «вялікім» друку.*

[2] *Кніга пра Палесьсе ў польскай мове.*

**Панядзелак 24 сакавіка**

Хадзіла ў абед да Адамовіча, каб перадаць яму вершы, што былі надрукаваныя, каб ён хацяў іх ня ўставіў у «рукапісную спадчыну». Яго ня было. Запруднік званіў да Daily News. Яны дадуць артыкул у сярэдзіне тыдня.

Пазваніла Адамовічу — знайшла яго нарэшце ў ягонай старой хаце. Ён прыняў, як і заўсёды, усё як нібыта ён робіць ласку, што яго інфармуеш. Надакучылі яны ўжо мне. Пачынаеш бачыць праз іх і расчароўваешся.

Вечарам Вітаўт расказваў пра сваё падарожжа, я пра свае рэчы. Яму трэба трохі зьмяніць пачатак кнігі. Уставіць больш агульнай інфармацыі пра Беларусь.

Вітаўт прывёз мне ліст-успаміны пра Салаўя ад Сп-ні Яцэвіч — пра студэнцкія гады ў Пэдагагічным Тэхнікуме ў Менску.

**Аўторак 25 сакавіка**

Езьдзілі ў Трэнтан[1]. Было вельмі добра. Губэрнатар, як заўсёды, быў вельмі прыемны. Падаравалі яму ляльку беларускую. Я настаяла, каб купіць у Юлі. Галіна не хацела. Але выйшла вельмі добра, бо лялька прыцягнула ўвагу журналістаў.

Пасьля прыняцьця з Губэрнатарам пайшлі да Steven'a. Паабедалі

разам, і яны мелі гутарку пра Вітаўтавы расходы[2] ды пра канфэрэнцыю. Вельмі прыемна й дзелавіта прайшло.

Прыехалі дахаты яшчэ ня позна. Пазванілі а. Войтэнку. Гадзіна малітвы ізноў зьмененая. Мусілі званіць Алесі аб зьмене. Вітаўт пазваніў вашынгтонскім беларусам, каб прыйшлі на ўрачыстасьць. Абяцалі прыйсьці: Зоя Лапчанка, Ігар Казак. Прыедзе таксама й [*Васіль*] Мельяновіч. Мы павязем [*айца*] Войтэнку й Юрчыка Анд[*русышына*].

---

[1] *Сталіца штату Нью Джэрзі.*
[2] *Расходы Этнічнае Рады.*

**Серада 26 сакавіка**

Юрчык прыехаў у час. Даехалі ў Вашынгтон добра. Заехалі па [*айца*] Расьціслава. У іх вельмі шыкарны, багаты дом. Па дарозе было прыемна, спакойна. Гаварылі аб усім. Войтэнка расказваў пра свае лоерскія[1] справы, пра Бакуновічаў і Бруцкага. Спаткалі Васіля [*Мельяновіча*].

Заехалі па Алесю. Запаркавалі каля яе хаты. Да Кангрэсу пайшлі пехатой. Спаткалі Зою Лапчанку.

У Кангрэсе ўсё прайшло вельмі ўдала: сфатаграфаваліся з Fenwick і з O'Neal. Малітва ўдалася добра. Пасьля схадзілі ўсе разам на абед, зайшлі да Алесі й паехалі дахаты.

Назад ехалася таксама добра, пару разоў застанаўліваліся — газаліну, каву папіць. Юрчык[2] увесь час нешта бегаў, званіў. Неяк трохі дзіўна захоўваўся.

Завезьлі Вітаўта на зборку By-laws committee[3]. Тады завезьлі Войтэнку дахаты. Выпілі ў іх кавы. Вечарам дом іхны мне менш спадабаўся. Дом добры, але неяк яны вельмі мяшчанска яго ўдэкаравалі. Карцінаў трэцьцярадных панавешвалі ў багатых рамках, бяз густу.

Паехалі па Вітаўта. Юрчык па дарозе сказаў мне, што мае нейкую разводную жанчыну, у якую моцна закаханы. Гэта ён мусіць ёй усё й званіў.

Вітаўта яшчэ доўга чакалі. Прыехалі дахаты ўжо позна. Гэта толькі ў нас так можа быць. Аб адзін дзень у Вашынгтон і назад, ды яшчэ на зборцы пабываць!

---

[1] *Адвакацкія. Айцец Расьціслаў Войтэнка быў сьвятаром, але на жыцьцё ён зарабляў з адвакацкае практыкі. Скончыў юрыдычны факультэт Калюмбійскага ўнівэрсытэту.*
[2] *У Юрчыка была нявеста, дык ён зь ёй стэлефаноўваўся.*
[3] *На паседжаньне Статутовага Камітэту Этнічнай Рады.*

**Чацьвер 27 сакавіка**

Я засталася дома. Пайшла рана да дэнтыста. Ён толькі зрабіў X-ray[1]. А я ўзяла дзень на гэта! Пасьля паехалі на закупы. Купілі маку. Тое-сёе ў Пасэйку для сябе купіла. Нічога ні вельмі цікавага, ні вельмі

важнага. Адным словам, дзень прайшоў ня вельмі прадукцыйна, бо й не адпачыла добра — усё злавала на сябе, што час змарнавала.

Вітаўт расказаў Адамовічу пра ўспаміны Сп-ні Яцэвіч аб Салаўю. Ён вельмі зацікавіўся, сказаў — хай Зора прынясе.

Вечарам працавалі, адпачывалі.

---

[1] *Рэнтгенаўскі здымак.*

**Пятніца 28 сакавіка**

Раніцай праснулася ад нядобрага сну — нібы ішла я па нейкай вузенькай дарожцы ў гарах над абрывам — дарожка звужалася й я прыйшла да тупіку. Ні туды ні сюды. Але неяк выйшла зь яго, ня памятаю як.

Была пад уражаньнем сну цэлы дзень. У абед пайшлі да Адамовіча. Па дарозе спаткалі Тумаша — ён ішоў ад іх. Сказаў, што Адамовіч перадаў яму адбіткі «вершаў, што ня ў зборніках». Прыйшлі — іх нікога няма. Вітаўт зрабіў копію ліста-успамінаў Сп-ні Яцэвіч для Адамовіча. Хутка прыйшлі й яны[1]. Перадала яму ліст. А што вы для мяне маеце? Нічога! Як нічога? А чаму-ж вы мне копію вершаў сабраных не зрабілі? Ён пачаў круціцца. Мне так зрабілася крыўдна. Робіш, робіш, рыхтуеш, зьбіраеш, падносіш яму пад нос — на, толькі ўпарадкуй хутчэй, толькі зрабі тое, што ад цябе чакаюць, што абяцаў. А ён нават копіі не патурбаваўся для мяне зрабіць. Выказала гэта й Тумашу, як пайшлі на падвячорак.

Цэлы дзень быў ужо сапсуты настрой. Вітаўт зрабіў копіі для мяне.

Вечарам перагледзела. Пару рэчаў трэба паправіць у паказьніку.

---

[1] *Запруднік і Адамовіч.*

**Субота 29 сакавіка**

Пасьнедалі разам[1].

Рабіла завіўку. Здаецца, выйшла добра.

Парадкавалася. Працавалі. Цэлы дзень былі дома. Ішоў дождж — нікуды не хацелася вылазіць.

Бабка напякла Юрачку пячэньня. Заўтра завязём.

---

[1] *Г. зн. з Марыяй Васільеўнай.*

**Нядзеля 30 сакавіка**

У царкву не паехалі, бо па абедзе трэба будзе ехаць у South River — разабраць выстаўку. М[*арыя*] В[*асільеўна*] паехала з Жамойдамі. Званіла Надзя [*Кудасава*]. Я сказала, што прыеду.

Званіў да Вітаўта Сяргей Гутырчык, запрасіў яго на сход вэтэранаў.

Паехалі мы а 3-яй. Я падкінула Вітаўта ў Highland Park, сама паехала ў S[*outh*] R[*iver*] Па дарозе купіла калбасы беларускай.

У S. R. якраз адбывалася сьвяткаваньне 25-га Сакавіка. Было добра. Прыгожая заля (выстаўка) шмат запрошаных гасьцей. Канцэрт. Адным словам — на узроўні. Хоць і сорамна прызнацца, але лепш, як у нас было[1].

Разабралі выстаўку спраўна. Ірэна маладзец — добра арганізавала.

Паехала я па Вітаўта. Там яшчэ йшла зборка. Вітаўт — у прэзыдыюме![2] Пачакала. Пазванілі Юрачку. Паехалі да яго, і на вячэру. Доўга не сядзелі, бо Юра быў на дыжурстве[3]. Забыліся яму прывезьці печыва й іншую ежу, што падрыхтавалі. Так выйшла па-дурному — зусім забыліся. Паабяцалі яму, што прывязём заўтра.

Прыехалі дахаты яшчэ ня так і позна.

Трохі балеў жывот абодвум. Адвыклі ўжо ад смажанай стравы (елі гамбургэрс).

---

*[1] У нас — г. зн. у БАЗА.*

*[2] «Вітаўт у прэзыдыюме!» — З вэтэранскімі арганізацыямі я ніколі асаблівых дачыненьняў ня меў.*

*[3] Юра ў Рутэрфордзе і ў унівэрсытэце належаў да каманды хуткай дапамогі. Там бывалі вельмі цьвёрдыя расклады.*

**Панядзелак 31 сакавіка**

Ідзе дождж. Вельмі паскудна на двары.

На рабоце нічога цікавага.

Я да Адамовіча не адзываюся. Няхай ён адчуе, што зрабіў нетактоўна. Ён яшчэ усё ня выслаў астатніх вершаў друкару. Я пра ўводны артыкул — ды і не гавару.

Вечарам як ехалі дахаты — пачаўся сьнег. Але да Юрачкі ехаць усё-ж вырашылі. Ну й глупства зрабілі. Па дарозе пачаў так валіць, што й сьвету не відаць. Speed limit зьменшылі да 35 mil. Вельмі напружана ехалі, асабліва там ужо, бліжэй да яго. Зусім зіма. Добра, што колы сьнежныя былі яшчэ ня зьнятыя.

Але даехалі ў парадку. Перадалі яму харчы й грошы. Там ужо ўсе ведалі, што Юравы бацькі маюць прыехаць, прывезьці «food». Назад было ехаць лепш, а як пад'ехалі пад хату, то й зусім ужо амаль сьнегу няма — дождж.

**Аўторак 1 красавіка**

Пачаўся страйк транспартных работнікаў у Нью Ёрку[1]. Мы даехалі добра, але ў бібліятэцы пуста — шмат хто не прыйшоў.

Пазванілі [*М.*] Панькову. Ён кажа, што ліст[2] адаслаў. Я нічога не атрымала. Можа, яшчэ прыйдзе. Адправілі ліст мамін да SSI. Дай Божа, каб усё заладзілася. Каб ёй ня было ніякіх клапотаў, прыкрасьцяў[3]. Вітаўт выслаў частку манускрыпт[4] у Cleveland.

Запоўніла цэнзус[5] і вечарам укінула дома ў скрынку.

Званіў Шук[*елойць*]. Станкевіч такога глупства нарабіў са справаздачай з паседжаньня БАЗА. Добра, што не падпісаў маё імя. Але мой арты-

кул пра Белы Дом нічога не зьмяніў. Я як цяпер перачытала, то выйшла неяк куца. Але ўсё-ж баішся, што ён ня зьмесьціць ці што паблытае.

Дамовіліся з Шук[*елойцем*] спаткацца заўтра, пайсьці на вячэру.

Памёр Плескачэўскі[6].

---

*[1] Страйкавалі работнікі мэтро і ўсе аўтобусныя лініі. Увесь Нью Ёрк спыніўся!*

*[2] З матэрыяламі для кнігі Салаўя.*

*[3] Праблемы з Аддзелам сацыяльнай апекі.*

*[4] Кнігі пра беларусаў Кліўленду. Даслаў у рэдакцыю.*

*[5] У 1980 годзе адбываўся перапіс насельніцтва. Кожная хата атрымала анкету, якую трэба было запоўніць. Анкеты былі двух тыпаў — «кароткія» і «даўгія». Кожная дзясятая хата атрымлівала «даўгую» анкету-фармуляр. У іх трэба было даваць дакладныя весткі пра нацыянальнае паходжаньне. Мы — Кіпелі — атрымалі «даўгую» анкету.*

*[6] Анатоль Плескачэўскі — дзяяч БЦР і Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Мы зь ім былі ў вельмі прыязных дачыненьнях.*

**Серада 2 красавіка**

У абед схадзіла ў банк — памяняла грошы[1]. Больш нікуды не пайшла — неяк стомленая.

Шмат кніжак [*для каталягізацыі*] на рабоце — ёсьць, што рабіць. Хоць гэта добра.

Нічога не рабіла для Салаўя — Тумаш не прыходзіў, дык [redacted] й ня надта сьпяшаюся. Лістоў ад нікога няма. Пайшлі на вячэру. Пагаварылі аб камунікаце-лісьце ад Галоўнай Управы да ўсіх аддзелаў, каб паправіць тое, што нарабіў Станкевіч. Дала Шук[*елойцю*] маю пісаніну — ён паправіць, перадрукуе, адаб'е й вышле[2]. Спадзяемся! Ён, як заўсёды, такі няпэўны. «Трэба даць Адамовічу, каб праверыў!» Такое глупства — яшчэ правяраць. Гэтым разам і яго задзела Станкевічава самавольства.

---

*[1] Заробак выдаваўся чэкам, які мы мянялі ў банку на наяўныя грошы.*

*[2] Нейкія арганізацыйныя праблемы.*

**Чацьвер 3 красавіка**

Страйк яшчэ часткова ня скончыўся. У горадзе і ў бібліятэцы пуста. Праўда, у горадзе ў часы прыходу й адходу людзей на работы вельмі людна. Усе ходзяць пехатой, на ровэрах, на роліках.

Вітаўту прыйшла тэлеграма з Белага Дому — ізноў паседжаньне Ethnic Leaders — у пятніцу 11-га[1].

Пазваніла сп-ня [*Нюра*] Русак. Памёр [*Лявон*] Галяк. Усё больш і больш людзей адыходзіць. А я думала, можа, ён што пра Статут падрыхтуе[2].

Прыехаў Юра.

---

*[1] Гэтым разам у Белым Доме дыскутаваліся адукацыйныя справы — асьвета, падручнікі.*

*[2] Мы ў тым часе плянавалі канфэрэнцыю, прысьвечаную Статуту ВКЛ. Думалі да гэтай справы прыцягнуць праўніка — Лявона Галяка.*

**Пятніца 4 красавіка**

У абед хадзіла ў магазыны. Хацела купіць шкляную мяшалку для збаночка, што Алеся падаравала на Каляды. Не знайшла. Але купіла цёплы халат са зьніжкай.

Вечарам прыехала Алеся. У яе ўсё добра. Юра неяк, мне здаецца, не здэцызыяваны, што ён будзе рабіць далей.

**Субота 5 красавіка**

Вітаўт працуе. Паехаў з Raziel[1].

З раньня пачалі рыхтавацца да Вялікадня: паску, яйкі. Пайшла рабіць валасы. Юра тым часам купіў калбасы.

Алеся зрабіла свае пакупкі. Паехалі зь ёй у Patterson[2] на рынак. Купілі шмат фруктаў, зеляніны — і для яе, і для хаты, для Юры.

Прыехалі і пачалі далей парадкавацца. Пафарбавалі яйкі. Юра надта быў зьдзіўлены спосабам фарбаваньня яек цыбульнымі лушпаямі. Ён яшчэ гэтага ня ведаў. Лічыць, што трэба напісаць у газэту. Цэлы дзень правялі ў працы, беганіне. На вячэру Юра прынёс Pizza. Прыемна правялі вячэру.

Дзеці паехалі ў царкву [у *Бруклін*] на Усеначную. Мы нідзе не паехалі. Стаміліся. Занятыя. Вітаўт пасьля вячэры, як лёг паляжаць, дык да 11-ай праспаў. Стомленасьць дае сябе знаць.

---

*[1] Джэй Разіел — калега-бібліятэкар. Яўрэй з Ізраілю. Ён узяўся дапамагчы арганізаваць навуковую кніжную калекцыю ў сваім арадку Наяк у штаце Нью Ёрк. Я яму дапамагаў.*

*[2] Горад Патэрсон — «этнічны» горад. Пераважаюць лібанцы, арабы. Некалі гэта быў цэнтар шаўковае прамысловасьці. Цяпер на ўскрайку гораду цудоўны рынак. Зьяжджаюцца туды сотні фэрмэраў з сваімі прадуктамі — усё ў пяць разоў таньней.*

**Нядзеля 6 красавіка**

Вялікдзень.

Раніцай мы зь Вітаўтам трохі разгавеліся, бо ведалі, што цяжка будзе датрымаць да абеду. Дзеці спалі. Я стала парадкавацца.

Аб 11-ай прыехала Ballarine[1].

Абед прайшоў вельмі добра, прыемна. Была й Karen[2]. Як сядзелі яшчэ за сталом — прыйшоў Казак[3] з сваім знаёмым — прынёс кніжкі свайго бацькі Рыгора Крушыны для Інстытуту. Гэтаксама перадаў і беларускую машынку. Яны яшчэ з намі выпілі кавы. Усё было вельмі прыемна й прыстойна. Доўга яшчэ сядзела Ballarine (пазьней Вітаўт даў ёй правяраць тэкст). Паехала яна ўжо каля 10-ай.

Я так была стамілася, што мне аж нядобра было. Так ёкала сэрца. Я аж спужалася. Вітаўту сэнсу няма гаварыць — ён так ня любіць, калі

нехта скардзіцца, крэкча. Яшчэ пачне сварыцца. Нейкі ён зрабіўся нячулы.

[1] Кацярына Бэлерыні, нашая сяброўка, жыла непадалёку.
[2] Юрава сяброўка.
[3] Ігар Казак прыехаў з Вашынгтону.

**Панядзелак 7 красавіка**

Алеся паехала [*дахаты*] рана. Мы пайшлі на работу. Юра застаўся залагодзіць усе свае справы — вечарам паедзе.

На рабоце нічога цікавага. Шмат працы Вітаўту.

Прыйшла з работы сама. Вітаўт яшчэ трохі мусіў застацца.

М. В. сказала, што Юра паехаў у Нью Брансуік, але вечарам, пасьля лекцыяў прыедзе — ня ўсё яшчэ залагодзіў тут.

Пазваніў Тумаш. Дастаў ён ад Ганька пачку з лістамі (копіямі) Салаўя да Грыцука, да яго, часопісы «Зь Беларускага жыцьця» і свой артыкул. Вось добра. Цяпер яшчэ толькі з Лёндану ды з Аўстраліі адказу чакаць.

Званіў Вітаўт Калошу. Яны вельмі незадаволеныя «Стасявай» заценкай пра Сустрэчу. Ад Шук[*елойця*] атрымалі. Толькі адрасоў яшчэ няма. Пазванілі Шук[*елойцю*]. Ён ужо спаў. Я злавалася[1]. Спаць лягла са злосьцю. Але спала добра.

[1] БАЗАўскія непаладкі...

**Аўторак 8 красавіка**

На рабоце нічога цікавага. Вітаўт вельмі заняты. Каву прыносім з Cafeteria. Звычайна сядзім разам з Ballerina. Трохі адпружыцца ім. У нас наверсе ўсё нармальна. У нашым аддзеле амаль усе прыходзяць[1].

Паехаў Юра назад у школу. Узяў сваю машыну — значыць залагодзіў усё. Вечарам паехалі у H&R Block рабіць Income Tax[2]. Нам папалася нейкая маладая жанчына, якая шпокала ўсё толькі на машынцы, захаплялася сабой, а зрабіла вельмі мала. Прыходзіцца плаціць $2400. Я вельмі растроілася. Нават валакіта з мамінай зьніжкай.

Прыйшлі вечарам я стала яшчэ разьбіраць, меркаваць. Пасьля ўжо, як лягла спаць — убачыла ейную памылку — замала запісана было на Food. Ну й неахайнасьць.

[1] Навуковы аддзел бібліятэкі быў на першым, а аддзел каталягізацыі, дзе працавала Зора — на другім паверсе.

[2] Надыходзіла 15 красавіка — дзень, калі падатковыя анкеты павінны быць адпраўленыя ў адпаведныя ведамствы. Звычайна мы іх запаўнялі самі, а ў тым годзе вырашылі скарыстацца дапамогай спэцыяльнай канторы, ведамай па ўсёй краіне — «H&R Block». І выявілася, што яны запоўнілі ня гэтак удумліва, як бы нам хацелася: некаторыя катэгорыі, як, прыкладам, што мы маме аплачвалі — выдаткі на мазут, ежу — жанчына, якая запаўняла, не палічыла гэтыя нашыя выдаткі

*апраўданымі. У выніку нам прыходзілася даплачваць 2400 даляраў. Мы з гэтым не пагадзіліся — паспрачаліся яшчэ трохі — ды самі перарабілі тыя анкеты. Даплачваць трэба было значна меней, і ўсё прайшло спакойна.*

**Серада 9 красавіка**

Ідзе дождж. Прыкра. Пазванілі у H&R Block. Залатвілі з мамінай справай. Вітаўт падаў ёй яшчэ дадатковыя весткі — можа трохі яшчэ зьнімецца.

Вечарам званіла маме — сказаць, што прыеду ў пятніцу.

**Чацьвер 10 красавіка**

Званілі Панькову. Ён сказаў, што ліст вышле адразу-ж.

Купіла маме сукенку.

Прыйшоўшы дахаты (прыходзім цяпер, падчас страйку, гадзінай раней) — было яшчэ сонечна — памыла свае рэчы, разьдзелася ўжо была, каб адпачываць, працаваць.

Пазваніла Ballarine, каб прыехаць да яе — яна Вітаўту правярала матар'ял[1]. Так мне не хацелася ехаць, але ў яе голасе адчула незадаваленьне, рашыла паехаць (і добра зрабіла). Нам яе трэба цяпер не ўгнявіць. Пасядзелі ў яе трохі. У яе прыемна. Я прыехала ў халаце нават.

---

[1] *Кацярына Бэлерыні нам шмат рэдагавала англамоўнага матэрыялу.*

**Пятніца 11 красавіка**

Вітаўт рана паехаў у Вашынгтон на канфэрэнцыю Этнічных лідэраў[1]. На рабоце нічога цікавага.

Прыехала дахаты ня позна й адразу-ж выбралася да мамы. Добра даехалі, павячэралі, трохі пагаварылі ды й рана пайшлі спаць.

Сукенка маме не падышла. Трэба заносіць назад — я больш ня буду ўжо ёй купляць — хіба сапраўды штось выняткова.

---

[1] *Асноўнае, што мелася на мэце — выступаць ад беларускае нацыянальнае групы.*

**Субота 12 красавіка**

Раніцай зьезьдзілі ў банк. Паехала да Нядзьвігаў. Заладзіла там з Blue cross[1]. Пабыла трохі ў іх. Як заўсёды, у іх раскідана, яна растропаная. Робяць загарадку. Выпісваюць радню з дому[2]. Адным словам жывуць зусім не па-амэрыканску.

Купіла яблыкаў — яшчэ застала. Купіла кветкі. Паабедалі, трохі папарадкавалі каля хаты: зьняла плястыку з вокнаў[3]. Выкапалі маліны, сабралі кветак і паехалі. Даехалі добра.

---

[1] *Часта нашым людзям была патрэбная дапамога ў розных адміністрацыйных справах, бо старэйшыя ня ведалі мовы. Blue Cross — страхавая мэдыцынская кампанія, велізарная адміністрацыйная махіна, была адной з тых установаў, дзе «славянскія» эмігранты «губляліся», і ім была патрэбная дапамога.*

[2] *Нядзьвігі — Дзядзя Ваня знайшоў у Сібіры брата і выпісаў яго ў госьці.*

[3] *На зіму заклейвалі вокны, каб ня дзьмула.*

**Нядзеля 13 красавіка**

Пасьнедалі.

Паехалі ў царкву ўсе разам. Вітаўт падкінуў мяне й маму у Highland Park, а самі паехалі ў South River[1]. Мы яшчэ добра папалі [redacted] на канец службы й на паніхіду. Паўстаў невялічкі канфлікт з кветкамі — мама хацела, каб [redacted] дала той вазончык, што я купіла (вельмі прыгожы) М. В., я-ж ужо вырашыла паставіць яго на папіну магілку. Але ўсё залагодзілася. Мама не зусім разумее нашыя з М. В. адносіны. Паехалі на могілкі зь Юрам. Вітаўт быў ужо там. У іх хутка канчаецца. Упарадкавалі магілку, упрыгожылі. Асьвячалі магілкі двох: і а. Аляксандар, і Бруцкі. Адчуваецца нацягнутасьць у парафіян[2]. Адны за адным — другія за другім. Да нас падышоў Аляксандар. Памаліўся за абодвух дзядоў. Выйшла вельмі сымпатычна. Мы пабылі яшчэ трохі й я павезла маму. Вітаўт і М. В. паехалі з Болесям[3]. Вельмі добра выйшла. Юру ня трэба было турбавацца. Добра спаткалі людзей. Мама задаволеная. Паспачувалі Галячысе. Я пагаварыла з Данілюком пра Кліўлендскую праграмку.

Даехалі да мамы добра, хутка: па 18-ай, дзявятцы, парквэю[4]. Гэта найлепшая дарога ад могілкаў.

У мамы я доўга ня была. Выпілі кавы й паехала. Даехала добра[5]. Вечар яшчэ добра адпачылі. Я надзіва ня была стомленая.

---

[1] *Мае бацькі належалі да парафіі царквы Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт Рывэры, і бацька (а пазьней і маці) былі пахаваныя на беларускіх могілках у Саўт Рывэры. Зорыны бацькі, а таксама і я з Зорай, належалі да парафіі беларускай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парку. Царква мае свае могілкі, там пахаваныя Савёнкі і Зора. Ад адных могілак да другіх — 5—8 кілямэтраў.*

[2] *Нацягнутасьць адчувалася дзеля канфлікту паміж ярархамі. Потым пачаліся судовыя працэсы. Усе прайгралі! Заціхла сварка ў канцы 1990-х гадоў.*

[3] *Болесь Яновіч — наш сусед у Рутэрфордзе.*

[4] *Дарогі.*

[5] *Назад у Рутэрфорд. Справа ў тым, што Зорына мама Апалёнія жыла ад нас за 120 кілямэтраў. Яна ня мела машыны, таму калі трэба было нешта — мы езьдзілі туды-сюды.*

**Панядзелак 14 красавіка**

На рабоце нічога цікавага. Страйк скончыўся. Вітаўт паехаў дахаты раней. Дома шмат пошты: ліст ад Панькова са сьпісам Салаўёвых лістоў; ліст ад Скабея — 1-га нумару «Пагоні» не знайшлі яшчэ; кніга з Балтымору — артыкулы нашыя, што чыталі на канфэрэнцыі[1]. Вельмі прыемна. Можа, нейкая й карысьць будзе.

Вітаўт на зборцы Этнік Коўнсіл[2]. Прыехаў ня так ужо й позна. Назад падвозіў Камілію. Купіў калбасы.

---

[1] *Кніга матрыялаў канфэрэнцыі ў Балтыморы, дзе мы чыталі даклады.*

[2] *На паседжаньні Этнічнай Рады. Гэтым разам паседжаньне адбывалася ў памешканьні Ратгерскага ўнівэрсытэту ў горадзе Нью Брансуіку.*

**Аўторак 15 красавіка**

Здала Тумашу індэкс. Тумаш прыйшоў у бібліятэку пасьля доўгага часу — страйк[1]. Тумаш перадаў мне лісты і артыкул, які яму пераслаў Ганько. Артыкул-успаміны яго вельмі добрыя. Гэтаксама перадаў «Зь беларускага жыцьця». Нехапае ў іх колькі нумароў. Я зраблю копію са сваіх і перашлю ім. Няхай будзе больш камплетаў раскідана па сьвеце. Дала Тумашу таксама артыкул аб «Беларускіх архівах». Гэта ня тое, што ён хацеў. Мушу яшчэ пашукаць. Адамовіч матар'ялу яшчэ ня выслаў. Тумаш ужо зусім зрызыгнаваў, здаецца, зь яго. Гаварылі пра «Запісы». Тумаш меў цяпер часу ўпарадкаваць матар'ял для «Запісаў».

---

*[1] Д-р Тумаш мог даяжджаць у бібліятэку толькі на мэтро, калі мэтро страйкавала — ён прыехаць ня мог.*

**Серада 16 красавіка**

[redacted] засталася дома. Нядобра чуюся. Дрэнна спала. Стомленая. Трохі аддыхнула. Пасадзіла маліну і кветкі, што Ballarine прынесла на Вялікдзень.

Вітаўт перадаў Адамовічу індэкс і артыкул Ганька.

Прыйшоў ліст ад Калодкі[1]. Вельмі сымпатычны, але нічога яшчэ ня маюць.

Нічога неяк у хаце не зрабіла. Гэтак дні часам праходзяць непрадукцыйна. Думала паехаць закупы зрабіць — але была занадта стомленая для гэтага. У дзень да Вітаўта [*ў аддзел*] прыходзіла Gail Persky[2].

---

*[1] Аляксандар Калодка, адзін зь лідэраў беларусаў Аўстраліі, быў блізка знаёмы з А. Салаўём, але для кнігі нічога ня меў.*

*[2] Новая асоба ў бібліятэчнай іерархіі. Другога пакаленьня яўрэйка зь Беларусі, дык з намі адразу наладзіўся блізкі кантакт. Шмат гаварылі пра Беларусь.*

**Чацьвер 17 красавіка**

На рабоце нічога цікавага.

Вечарам званіла мама. Я ёй неяк забывалася ўсё пазваніць, дык яна сама адазвалася. Я пісала вечарам артыкул.

Вітаўт паехаў да Ballarine правяраць Cleveland[1]. Я неяк гэтым разам выкруцілася [*каб ня ехаць*]. Яна, здаецца, не злуецца. Вітаўт прыехаў даволі позна.

---

*[1] Тэкст кнігі «Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Пятніца 18 красавіка**

Прыходзіў Тумаш. Праверыў Вітаўту ціск — усё добра[1].

Я хадзіла з Факсам на падвячорак, пасьля падсела пад Вітаўта з Тумашам[2]. Гутаркі не прыпамінаю. Мусіць, нічога цікавага.

---

*[1] Д-р Тумаш правяраў мне ціск дзесяцігодзьдзямі, пакуль сам не захварэў.*

*[2] Бо былі ў той самай бібліятэчнай кафэтэрыі.*

**Субота 19 красавіка**

Раніцай памыла свае рэчы. Схадзіла зрабіць валасы. Больш нікуды не паехала. Неяк ня было настрою. Інакш кажучы настрой быў нейкі нацягнуты — з-за гэтага няшчаснага Філіпінскага Балю[1].

Прыходзіў [*Ул.*] Дутка. Прывёз плашч, каб перадаць Конюху (яны на 25-га Сакавіка «абмяняліся» плашчамі[2]). Пасядзеў трохі. Казаў, што перадасьць некаторыя свае кнігі нам.

Пачалі зьбірацца на «бал». Прыехалі рана (як заўсёды зь Вітаўтам бывае — як куды ехаць, дык сьпяшаецца, а як дахаты — дык цягнуць трэба). Праўда, астатнія нашыя ўжо там былі.

Было вельмі дэзарганізавана, шумна, хаатычна. Сапраўды, ніякай прыемнасьці не атрымалі. Згублены вечар, згубленыя $40, сапсуты настрой. Вось часам так бывае ўсё нясkладна — як сабаку пад хвост.

---

[1] *Я як старшыня Этнічнай Рады мусіў хадзіць на ўсе балі нацыянальнасьцяў.*
[2] *Пераблыталі ў шатні.*

**Нядзеля 20 красавіка**

Раніцай паехалі ў царкву. Было мала народу, але было сымпатычна. [*Барыс*] Данілюк перадаў праэкт малюнкаў да праграмкі сустрэчы ў Кліўлендзе. Выйшла нядрэнна. Некаторыя дэталі паправяцца. Гаварылі з Гарошкам пра архіў Віцьбіча.

Прыехалі дахаты ня позна. Я адразу пайшла на сонца. Загарала й канчала артыкул пра выстаўку. Выходзіць няблага — можа трохі задоўга. Пазьней перадрукоўвала артыкул (на машынцы, што прывёз Казак, — добрая).

Пасьля 10-ай пазванілі Калошу. Распісала яму малюнак Данілюка.

Ага, пад царквой гаварыла яшчэ з А. Міцкевічам. Ён мае лісты ад Салаўя. Перадасьць. Выйшаў велікодны нумар «Голас Царквы». Мая зацемка пра Орсу ёсьць. Дамовіліся з Шук[*елойцем*] у аўторак на вячэру.

Прачытала [*Аўгена*] Каханоўскага кніжачку пра архівы. Вельмі добрая — трохі канфузьлівая.

**Панядзелак 21 красавіка**

Пераслалі артыкул Станкевічу. Я напісала яму пару слоў — усё-ж каля яго ходзіцца, каб хаця пусьціў, каб хаця чаго ня выпусьціў, не наблытаў. Вось ненармальная сытуацыя.

Вітаўт паслаў другую частку сваёй кнігі[1] Калошу. Паслалі гэтаксама яму й малюнкі Данілюка.

---

[1] *«Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Аўторак 22 красавіка**

Я засталася дома — маю [*ісьці да*] дэнтыста. Рашыла цэлы дзень

узяць па хваробе[1]. Зьезьдзіла да дэнтыста, тады ў Patterson па зеляніну й фрукты. Купіла таксама й мяса.

Выязджаючы з дому, М. В. прынесла мне ўжо ў машыну ліст ад Скабея, у якім ён піша, што «Пагоню» Спадарыня Кадняк[2] высылае. Я спыталася, ці чаго больш у пошце няма. Яна прынесла мне й другі пачочак — «Пагоню» № 1. Я вельмі была радая. Праўда там нічога для нас новага няма. Але цяпер ужо спакойна, што ўсё магчымае перагледзела. Скабей у сваім лісьце таксама кажа, што ў Амэрыку прыедзе Нікан і прывязе ад С-ні Кадняк «Новы Шлях». Там нібы ёсьць рэчы падпісаныя Тамара Залеская. Гэта будзе добра.

Дэнтыст пачаў Root canal. Здаецца, зацягнецца. Адламаўся кавалак зуба, як ён буравіў. Цяпер трэба будзе каронку ставіць. Усё неяк ня клеіцца з зубамі.

Пазьней паехалі з М. В. па пакупкі. Нічога важнага не купілі. Неяк усё дарага. Я купіла сабе белую плісаваную спаднічку да жакеціка (сіні ў белыя гарошынкі).

Толькі пасьпела вячэру прыгатаваць, як прыйшоў Вітаўт. Добра, смачна павячэралі. Званілі дзецям. У іх усё добра.

---

*[1] «Узяць па хваробе» — за год можна было выкарыстаць пэўную колькасьць аплочваных «хваробных» дзён.*

*[2] Зіна Кадняк — жонка Алеся Салаўя.*

**Серада 23 красавіка**

Раніцай Вітаўт знайшоў адзін верш [*Салаўя*] (пераклад Dunn'a) у «Беларускай Моладзі» у 1975 годзе. Верш гэты мы ўставілі ў «Недрукаваныя». Як жа-ж добра, што знайшоў у час. Вось было-б прыкра. Асабліва ад Станкевічаў. Такі недагляд.

Перадала Адамовічу лісты. Паказала «Пагоню». Ён, як заўсёды, нецярплівіцца й ірытавацца пачаў. Прыкра яму, што нехта больш за яго ведае, працуе, знаходзіць. Артыкулу ўводнага ён яшчэ не пачынаў. Вершы ўсе ўжо адаслаў. Цяпер трэба будзе «пераломваць» — у сувязі з гэтым новым знаходкам.

Павячэралі разам з Шук[*елойць*]. Гаварылі пра «Спатканьне у Кліўлендзе», пра газэту, пра царкоўныя справы ў Highland Park. Настрой, едучы дахаты, быў нейкі нацягнуты. Цэлы вечар таксама быў напружаны. Ліст ад айца Надсона [*зь Лёндану*]. Нічога дадатковага [*для кнігі пра Салаўя*] ён ня мае.

**Чацьвер 24 красавіка**

На рабоце нічога цікавага.

Прыйшлі дахаты — ліст ад Стася [*Станкевіча*]. Надта-ж хваліць артыкул пра выстаўку ў S. R. Таксама такой думкі, што добра было-б мець здымкі.

Пазванілі Жамойду — печка гатовая[1]. Паехалі — забралі. Пазванілі

Надзін. Яна прыехала забрала ўсё, што для Алесі. Яна й Дыон едуць у Вашынгтон заўтра.

Пазьней пазванілі Калошу. Ён удзень званіў Вітаўту й казаў, што хоча гаварыць са мной.

Малюнак Данілюка ім падабаецца[2]. Адно толькі яны хацелі-б уставіць даты 1950—1980 у самы шчыток. І патрабуюць яны толькі самы малюнак, без надпісаў. Надпісы зробяць друкам. Папрасіў даць абвестку на Сустрэчу ў Гарошкаву газэту па-ангельску.

---

[1] *Сп. Жамойда добра знаўся на электрычных прыладах, калі была праблема — напраўляў іх, прыкладам, направіў нам электрычную пліту. Дый не адзін раз!*

[2] *Графічнае афармленьне праграмы будучай Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*

**Пятніца 25 красавіка**

Заказала Дутку кнігу «Беларускія народныя песьні» [*Шырмы*].

Званіла Галіна. Дагаварыліся на заўтрашні фэстываль. Ад мяне яна патрабуе лялькі (з апісаньнем), лапці (з апісаньнем), Шустовы вырабы. Нарабілі брашурак [*пра Беларусь для раздачы гледачам*].

На падвячорак чакала Вітаўта з Тумашам. Яны пайшлі самі — думалі што я з Фоксам, а ён якраз быў на вакацыях. Пазьней Вітаўт пазваніў. Я прыйшла, але доўга не сядзелі. Гутарка была звычайная — нічога новага ці цікавага не гаварылася.

Вечарам прыгатоўвала рэчы для выстаўкі.

**Субота 26 красавіка**

Ранічкай яшчэ надрукавала «Labels» для лялькаў і лапцяў.

Схадзіла зрабіць валасы. Купіла сьняданьне — пасьнедалі й я паехала ў Нью Brunswick.

Яны былі ужо ўсё выставіўшы. Выглядае даволі добра. Фактычна без маіх рэчаў можна было-б і абысьціся. Як можна было-б абысьціся і безь мяне. Але Галіна такая няпэўная ў сабе (мусіць!), што павінна мець некага каля сябе. Былі й Надзя й Ірэна [*Рагалевіч*], і пазьней прыйшла [*Шура*] Сямёнава. Васіль прывёз [*Ніну*] Згірскую. Адным словам для такога малаважнага надворнага фэстывалю-кірмашу зашмат высілкаў і турботаў усім. Нямае яна меры.

Хутка пайшоў дождж. Сталі мы накрываць сталы з выстаўкай[1]. Але гэта-ж ужо не работа. Добра, што былі хоць брашуркі, ды Надзя й Згірская дэманстравалі. А так бы зусім «пшык» атрымаўся-б. Можа-ж хоць трохі ў людзей нешта застанецца ў памяці. Наагул мая думка, што на ўсіх магчымых імпрэзах нам быць трэба, наша прысутнасьць усё больш і больш дае вынікі. Нас ужо пачынаюць пазнаваць, цікавяцца намі. Але з другога боку трэба падыходзіць з выбарам і рэальнасьцю — што варта, калі й як. Не разьменьвацца, берагчы сілы — адным словам быць больш selective. Але Галіна, як заўсёды,

збаламуціла ўсіх — нарабіла шуму, сьцягнула моладзь, зантаганізавала Алюньцю.

Выступу танцаў дзеля дажджу ня было. Пасьля 3-яй хутка ўжо ўсе й разышліся. Прыехала дахаты ня позна, але была неяк стомленая — зьмерзла.

Трохі папарадкавалася — заўтра-ж прыедуць [*у госьці*] Нэстары.

---

[1] *На ўсіх беларускіх фэстывалях у Нью Джэрзі і Нью Ёрку Надзя Кудасава, Ніна Зґірская, часта Тамара Стагановіч дэманстравалі, як прасьці, як плесьці паясы. Амаль заўсёды такія паказы траплялі ў тэлевізійныя праграмы.*

**Нядзеля 27 красавіка**

Рана Вітаўт завёз плашч Дутку.

Пасьнедалі.

Я пачала рыхтавацца да гасьцей. Усё справілася зрабіць у час. Нават трохі яшчэ чакалі на іх — то сёе-тое перагрэлася. Вячэра прайшла добра. Дзеці, праўда, мусіць трохі нудзіліся. Юра не прыехаў, але зазваніў — прывітаў Вітаўта Н.[1] Далі яму грошы ($55) і шмат кніжак дзіцячых.

Пасьля іх ад'езду я ўжо адпачывала.

---

[1] *Вітаўт Нэстар, хросьнік Вітаўта Кіпеля, меў дзень народзінаў 25 красавіка.*

**Панядзелак 28 красавіка**

Цікавая рэч сёньня сталася. Я, шукаючы нешта для Вітаўта, натрапіла на працу рускага навукоўца Весялоўскага пра беларускі пераклад «Трыстана»[1].

Вельмі зацікавілася, пачала раскопваць матар'ялы. Гэта для мяне была навінка (хоць факт гэты й ведамы, але неяк мала студыяваны). Я шмат чаго пазнала за гэты дзень і вечар. Зь нецярплівасьцю чакаю да заўтрага, каб яшчэ больш пашукаць матар'ялаў. Добра было-б зрабіць рэфэрат, артыкул, можа. Тэма вельмі цікавая, удзячная.

Вечарам званіла Алеся. У яе ўсё добра. Былі дзяўчаты. Усё перадалі.

---

[1] *Першая згадка ў дзёньніку пра «Трышчана», якім Зора пасьля займалася доўгія гады. Думка апрацаваць нешта беларускае для англамоўнага літаратурнага сьвету зьявілася даўно. Выбар паў на «Трышчана», бо амэрыканцы ў каледжах гэтую легенду добра вывучалі.*

**Аўторак 29 красавіка**

З самага раньня пачала ўжо займацца сваім «Трыстанам». Пакуль прыйшоў падвячорак, наша звычайная «сэсія» з Тумашам, я ўжо была калі не экспэртам, то ва ўсякім выпадку добра паінфармаванай асобай. Сказала Тумашу аб маёй знаходцы. Ён вельмі зацікавіўся, прыхільна паставіўся да майго зацікаўленьня. Пазьней прыпомніў, што яму надоечы Карэсар[1] паказваў кніжку пра «Легенды о Трыстане».

Кніжка гэта была яшчэ на стале ў Карэсара. Тумаш прынёс яе мне. Гэта для мяне проста клад — бо там перадрукаваны тэкст беларускі (паводле таго-ж Весялоўскага). Але старыя кнігі В. у вельмі дрэнным стане. Цяжка зь імі працаваць, рассыпаюцца буквальна ў руках.

Ну вось я маю сабе новую тэму. Каб хаця толькі на ўсё час ды энэргія.

Вітаўт зрабіў адбітку з артыкула Судніка пра бел. пераклад.

---

*[1] Д-р Віктар Карэсар — загадчык Славянскага аддзелу, эстонец. Дактарат ягоны быў у галіне археалёгіі ў Бэрлінскім унівэрсытэце. Вельмі прыязны да беларусаў.*

**Серада 30 красавіка**

Дастала кніжку ад Карэсара на кароткі час толькі — яны яе якраз цяпер каталагуюць.

У артыкуле Судніка ёсьць зноска на манускрыпт — Біб. Акадэміі Навук мае мікрафільм з Пазнанскага рукапісу. Трэба будзе й нам выпісаць.

Цэлы дзень амаль правяла ў пошуках і ў чытаньні пра Трыстана. Аж сорамна, што так шмат бібліятэчнага часу марнуем (можа, лепш сказаць аддаем — бо гэта-ж не марнуецца) для беларускай справы[1].

---

*[1] Гэта акадэмічна дазвалялася — спэцыялізацыя.*

**Чацьвер 1 траўня**

Званілі Данілюку. Сказала яму, што Калоша зазначыў адносна малюнку: надпісы яны самі зробяць. Яму гэта трохі не спадабалася. Ён ужо хоча ўсё рабіць поўнасьцю. Я растлумачыла, што будзе ў іх шмат іншых надпісаў на вокладцы брашуркі. Яны ад Данілюка хочуць толькі самы малюнак.

Дзень прайшоў без вялікіх прыгодаў. Затое вечарам была зноў прыемная неспадзеўка. Пазваніў Русак Ул. — знайшоў архіў Віцьбіча[1]. Кажа, што акрамя лістоў ёсьць яшчэ й папка з загалоўкам «рукапісы А. Салаўя». Цікава што там ёсьць? Дамовіліся ў нядзелю спаткацца пад царквой.

---

*[1] Частка архіву Ю. Віцьбіча была аддадзеная ў фундацыю Крэчэўскага. Уладзімер Русак у той час даглядаў за фундацыяй і стараўся тое-сёе прывесьці ў парадак.*

**Пятніца 2 траўня**

Хадзіла да Адамовіча. Сказала, што архіў Віцьбіча знайшоўся. Ён неяк прыняў гэта даволі холадна. Лістоў папярэдніх яшчэ не чытаў. Перадасьць пазьней Вітаўтам. Аддаў мне адбіткі «Зь недрукаванай спадчыны».

З Тумашам гаварылі аб Трыстане зноў. Ён раіць напісаць у «Запісы» рэцэнзыю на кнігу «Легенды о Т.».

Запісы ён ужо нарэшце здаў у друк. Я сказала яму пра Віцьбічаў архіў. Ён ужо ведае пра гэта ад Русака.

Вечарам паехалі да Юры. Павезьлі яму фруктаў, печыва. Павячэралі «Pizza». Крэсла, як меркавалі, не забралі — яму яшчэ будзе патрэбна. Але забралі сёе-тое зь ягоных рэчаў.У яго ўсё добра. Скончыў якраз сёньня сваю практыку ў школе. Дзеці яму зрабілі праводы, падаравалі альбом з упіскамі. Вельмі прыемна. Ён задаволены.

Стаміліся трохі.

**Субота 3 траўня**

Раніцай званіў Crowley[1]. Вітаўт абяцаў яму чэк паслаць. З кнігай Салаўя выглядае нядрэнна. Калі незадоўга здамо, дык да верасьня будзе. Art-work Ірэны ён ня мае[2]. Павінен недзе мець Вітаўт — будзе шукаць.

Схадзіла зрабіць валасы. Надта дакучае мне сяньня мая аларгія.

Пазьней зьезьдзіла ў Патэрсон на рынак. Купіла тое-сёе з фруктаў, зеляніны. Гэтаксама купіла арэшкаў для сябе й Ballarine.

Заехала і ў Пасэйк. Купіла сабе сукенку за $5 у Carriere shop. Трохі трэба пахудзець для яе. У панядзелак сядаем на дыету. Трохі апошнім часам папусьціліся.

Паехалі а 6-ай да Ball[*arine*]. Выйшлі былі раней, але Вітаўт стаў памагаць Стартаку[3] сьпілаваць дрэва. Забавіліся. Стаміўся. Трохі пашкодзіў сабе нагу. На двары горача. У Бал[*ярыны*] было вельмі прыемна: прахладненька, утульна. Добра правялі час, праўда, трохі яна затрымалася з вячэрай. У іх мусіць гэтакі звычай — не сьпяшацца за стол. Пасьля вячэры — правяралі Кліўленд[4] і для мяне абвестку ў Гарошкаву газэту аб Сустрэчы.

Прыехалі дахаты ўжо позна. Стомленыя.

---

[1] *Выдавец, які друкаваў кнігу Н. Арсеньневай. У яго плянавалі друкаваць і Салаўя, і трэба было даць задатак.*

[2] *Графічнае афармленьне кнігі Арсеньневай Ірэна хацела забраць назад.*

[3] *Сусед паляк.*

[4] *Рукапіс кнігі «Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Нядзеля 4 траўня**

Перадрукавала абвестку.

Паехалі ў царкву.

Там Русак перадаў мне лісты й рукапісы Салаўя. Пагаварыла з Данілюком. Ён зробіць, як просіць Калоша, толькі не абяцае да Вітаўтавай паездкі ў Кліўленд.

Аддала Гарошку Валентыну абвестку, каб перадаў брату.

Пагаварылі трохі з Mrs. Lake (яна прыйшла з сынам у царкву)[1].

У царкве было мала людзей. Шмат хто паедзе ў Highland Park — там царкоўны сход. Вельмі прыкрая сытуацыя паўстае са сьвятарамі. Нас гэта вельмі клапоціць і хвалюе, але мы ня ўмешваемся.

Як вярнуліся дахаты, Вітаўт пайшоў трохі адпачыць, а я села на двары. Па дарозе дахаты заехалі ў садаўніцтва, купілі насыпкі ад шкоднікаў маліны. Заехалі і ў фармацыю, купілі нейкіх пігулкаў ад маёй аларгіі.

Я трохі пасядзела, але ня было надта прыемна — ветрана.

Пігулкі памаглі. Неяк адразу-ж стала лепей (праўда, не адразу, але хутка).

Вечарам разглядала Віцьбічаў архіў. Шмат яшчэ знайшлося недрукаванага. У лістох шмат цікавага. Цікава, як яшчэ Адамовіч зарэагуе на дадаткі й зьмены.

Пазванілі Тумашу. Ён параіў вершы перадрукаваць.

---

[1] *Амэрыканцы беларускага паходжаньня.*

**Панядзелак 5 траўня**

Зрабілі копіі зь вершаў. Занесьлі Адамовічу зраньня. Ён прыняў гэта даволі холадна. Кажа, што можа і прыйдзецца ўставіць на канцы.

Расказала яму пра лісты.

Паслалі чэк Міцкевічу за карыстаньне будынку для пробаў танцаў[1]. Ня думаю, што ўдасца сьцягнуць з моладзі. Мусіць, ужо гэта й застанецца нашая ахвяра.

Пераглядаю матар'ял пра Трыстана. Цікава. Пераглядала і парадкавала лісты Салаўя.

---

[1] *Часта даводзілася плаціць за карыстаньне будынкам царквы. Гэта цалкам апраўдана і зразумела — бо-ж будынкі трэба было ўтрымоўваць.*

**Аўторак 6 траўня**

Паслалі чэк Crowley за «Ethnic Experience»[1].

Паказала Тумашу лісты й рукапісы. Дыскутавалі пра Трыстана. Тумаш таксама зацікавіўся гэтым. Раіць напісаць рэцэнзыю на кнігу «Легенды о Трыстане».

Вечарам упарадкавала лісты Салаўя да Віцьбіча.

---

[1] *Была яшчэ запазычанасьць выдаўцу за англамоўную кніжку.*

**Серада 7 траўня**

На каву хадзіла з Gail Persky. Яна робіць нядрэннае ўражаньне. Прыемна пагаварылі.

Вечарам падрыхтавала ўсё, што трэба зь лістоў паказаць Адамовічу. Знайшлося пару цікавых фактаў і заўвагаў, якія тычацца Салаўёвых вершаў.

**Чацьвер 8 траўня**

Раніцай хадзіла да дэнтыста. Дождж, прыкрая пагода. Ён шмат мяне памучыў сяньня. Зайшла яшчэ па пакупкі, едучы дахаты. Купіла й паслала картку маме на дзень маткі.

Занесла лісты Адамовічу. Ён, як заўсёды, хуценька хоча збавіцца. Перагледзелі, праўда, лісты разам. Я яму дакладна выпісала, што ў якім лісьце важнае. Носімся мы зь ім, як з малым, усё пад нос падстаўляем, а ён — выдае за сваё вынаходства. Ну, але няхай яго — абы зрабіў хутчэй уводны артыкул. Мы яго ўжо добра раскусілі.

Цікавы выпадак, які яго так добра малюе. У лістох [redacted] знайшла заўвагу Салаўя аб памылцы ў «Шыпшыне». Мы якраз гэты верш і бралі з «Ш.». Я заўважыла Ад[*амовічу*], што можа й мы так з памылкай і пусьцілі. «О, не! Я такой памылкі прапусьціць ня мог». Я далей яму кажу, што я маю копію таго, што было паслана Прускаму — там не папраўлена. Ён: «Ну, у цябе не канчальная вэрсыя. Мы яшчэ карэкту рабілі» і г. д. Але ўсё ж глянуў, праверыў. І, зразумела, гэтая памылка ня была ніколі папраўленая. Дык што-ж ён сказаў? «Ну, бачыш, вось добра, што я праверыў». Ні «Вось добра што ты заўважыла», ці «Як важна ўсё правяраць». Не. «Добра, што [redacted] праверыў». Вось які ён.

Вечарам пачала перадрукоўваць бібліяграфію.

Ага яшчэ адна дэталь. Адамовічу для ўступнага артыкулу патрэбныя дадзеныя пра зборнік Багдановіча, друкаваны недзе незадоўга перад вайной, ды яшчэ нейкія рэчы. Ён так і сказаў: «Калі хочаце, каб хутчэй напісаў артыкул — дастаньце мне гэтыя дадзеныя». Я пачала шукаць у Летапісу пра зборнік Багдановіча. Нічога. Вітаўт заняўся пошукамі іншых рэчаў для яго.

Заўтра буду шукаць яшчэ. Якраз тыя гады [*«Летапісу»*] на мікрафільме.

**Пятніца 9 траўня**

Стала глядзець мікрафільм і зрабілася мне дрэнна. Закруцілася галава, пачало нудзіць. Сядзела цэлы абед у Lounge[1] і адыходзіла. Прыйшла Баларына — Вітаўт папрасіў яе праведаць, як [redacted] маюся. Хадзілі на чай. Стала трохі лепш.

Тумаш прынёс Index і зьмест. Вітаўт зрабіў копіі для мяне.

Паказала яму пачатак бібліяграфіі і параілася зь ім наконта ўступу. Ён таксама такой думкі што варта падаць у ўступе аб тым, што зьмяшчаецца ў бібліяграфіі, каб тады пазьнікнуць лішніх паўтарэньняў. Расказалі яму пра Адамовіча. Ён стараецца быць дыпляматычным — трохі яго й ганіць, трохі й бароніць.

Вечарам званілі Алесі. Яна добра маецца. Пытала пра грошы[2]. Нейкае выйшла непаразуменьне. Яна думала, што мы ёй высылаем што 2 тыдні. Мы-ж заўсёды высылалі 2 разы на месяц. Заўтра вышлем ёй грошы, бо ў яе відавочна няма. Але як прыедзе, то сур'ёзна пагаворым, як будзе летам і наагул як маем фінансаваць іх.

---

[1] *Пакой для адпачынку.*

[2] *Дзецям трэба было рэгулярна высылаць грошы на жыцьцё. Яны харчаваліся самі, не ва ўнівэрсытэцкіх сталоўках — выходзіла таньней.*

**Субота 10 траўня**

Вітаўт паехаў на працу.

Я, як толькі трохі пацяплела, пайшла «агароднічаць». Паліла маліны падкормкай. Падстрыгла кусты з нашага боку. Стартак скончыў зь ягонага боку. Пасадзіла куст Hydrargium на двары. Набрала кветак, азаліяў, у хату. Адным словам, цэлую раніцу парадкавалася.

Пайшла рабіць валасы. Зайшла у магазын, купіла сёе-тое зь яды.

Паехалі з М. В. у Пасэйк. Нічога надта не купілі. Дробязь усялякую: кашулькі, лямпачкі для ўборнай, зямлю [*для вазонаў*]. Заехалі й на рынак у Патэрсон. Купілі фруктаў, зеляніны, арэхаў.

Чуць справілася з абедам. Перасадзіла Zebra plant у большую пасудзіну. Званіў Юра. Прыедзе заўтра. Павячэралі. Адпачывалі, працавалі. Вечар прайшоў прыемна.

**Нядзеля 11 траўня**

Mother's day.

Вітаўт паехаў па сьнеданьне. Прыехаў Юрачка. Прывёз мне і бабцы кветкі. Ён у добрым настроі. Кончыў ужо ўсе экзамены. Цяпер толькі Graduation[1]. Прыемна пасьнедалі.

Я стала парадкавацца. Трэба было тое-сёе перамыць. Пагода пачала псавацца. Вітаўт працуе над Кліўлендам[2]. Пазваніла Алеся. Я пазваніла маме.

Дзень прайшоў вельмі прыемна, але смажаньне на двары, як плянавалі, ня выйшла — дождж. Прыгатавала ў хаце. Павячэралі. Я пачала передрукоўваць бібліяграфію. Сядзелі разам зь Юрачкам у T.V. room.

Юра паехаў назад у школу. Мы працавалі.

Вельмі прыемны дзень.

Ага, раніцай Вітаўт знайшоў мне музыку Куліковіча на верш Салаўя[3]. Я праглядала гэты зборнік, але неяк не заўважыла. Гэта мне запраўды быў падарунак на дзень маці.

Вітаўт купіў мне і маці невялічкія падарункі.

---

[1] *Выпускная ўрачыстасьць.*

[2] *Кніга «Беларусы ў Кліўлендзе».*

[3] *Верш А. Салаўя, пакладзены на музыку, надрукаваны ў адным песенным зборніку М. Куліковіча.*

**Панядзелак 12 траўня**

Дождж. Прыкра. У абед сядзела й парадкавала дзёньнік. Шукала А[*дамовічу матэрыял*] пра Багдановіча.

Нічога цікавага не прыпамінаю.

Вечарам друкавала бібліяграфію. Добра падагнала — вельмі задаволеная: відаць канец. Позна працавала. Цяжка было заснуць — выбілася са сну.

**Аўторак 13 траўня**

Пазваніў Адамовіч, каб прыйшлі да яго — ён мае цікавыя весткі.

Атрымаў ад Качуроўскага[1] ліст, верш і тлумачэньне вершу-пароды і на Салаўя. Гаварыў з Завалішыным[2]. Той ведаў Салаўя ў Рызе. [*Адамовіч*] пачаў ужо пісаць уступны артыкул. Патрабуе дадатковых інфармацыяў. Даў мне копію пачатку свайго артыкулу. На 6-і першых старонках яшчэ ня слова няма пра Салаўя. Мы цяпер, як ведаем, як ён працуе, дык тое, што раней нас у ім захапляла — цяпер толькі сьмяшыць. Я заўважаю, што я шмат і адмоўна аб ім запісваю. Чаму? Што за гэтым крыецца? Расчараваньне? Крыўда?

Тумаш сяньня не прыходзіў.

Пасьля працы пайшлі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Добра правялі вечар. Гаварылі пра розныя нашыя беларускія праблемы, пляны на хуткую будучыню — шмат імпрэзаў плянуецца. Ён зьбіраецца у Чыкага. У Кліўленд мусіць не паедзе зь Вітаўтам.

Вітаўт паехаў на паседжаньне з людзьмі са State Dept. аб Madrid Conference[3]. Запруднік, Рая і Мярляк таксама былі там.

Я пайшла дахаты. Шук[*елойць*] мяне падвёў да самага аўтобусу.

Вечарам друкавала бібліяграфію. Вітаўт прыйшоў пасьля 9-ай і адразу-ж паехаў на зборку да Каміліі. Ня быў там надта позна. Яшчэ працаваў як прыехаў. Я ізноў не магла позна заснуць.

Сабрала матар'ял для Адамовіча. Доўга шукала яму вестку пра р. Усу — ці на ёй стаіць Вялікая Уса і Нізок. Ён мае нейкую тэорыю і шукае факты да яе.

---

*[1] Ігар Качуроўскі — украінскі літаратурны крытык, быў блізка знаёмы з Салаўём у Аўстрыі.*

*[2] Вячаслаў Завалішын — расейскі пісьменьнік і літаратурны крытык.*

*[3] Рыхтавалася дэлегацыя на канфэрэнцыю ў Мадрыд. Мы падалі беларускія дакумэнты, раіліся з чыноўнікамі Дзяржэпартамэнту.*

### Серада 14 траўня

Раніцай адазваўся Юра. Ён прыехаў позна ноччу. Не хацеў нас будзіць — спаў на порчы[1]. Вось дзівак. Тым больш, што мы ўсё роўна яшчэ й ня спалі — [redacted] доўга не магла заснуць. Але яго ня чулі. Ён мае працу ў школе — выкладаць science[2] да канца навучальнага году. Добра заплацяць. Але ня будзе мець адпачынку, бедны.

Спазьніліся трохі на працу. Аўтобус меў спушчанае кола.

Знайшла Адамовічу інфармацыю пра Усу. Занесьлі. Ён даў працяг свайго артыкулу.

Дала Тумашу пачатак (7 бач.) бібліяграфіі для праверкі. Гаварылі пра Адамовіча, ягоны артыкул, пераглядалі загалоўную бачынку да кнігі Салаўя.

Ужо пад самы канец дня паглядзела «Летапіс [*беларускага друку*]» і... знайшла 10 вершаў Салаўя 1938—39 гадоў у розных газэтах і часопісах. Нічога не сказала ні Тумашу, ні Адамовічу. Яшчэ добра праверу.

Шук[*елойць*] чакаў нас каля бібліятэкі — прынёс Вітаўту адрасы для Кліўленду. Падвёў нас пад аўтобус.

Вечарам Вітаўт выкончваў сваю працу. Я працавала над бібліяграфіяй.

---

[1] *У сенцах.*

[2] *Дакладныя дысцыпліны.*

**Чацьвер 15 траўня**

Вітаўт пайшоў на працу. Адтуль паедзе ў Кліўленд — аўтобусам.

[redacted] засталася дома, сёньня — дэнтыст. Раніцай яшчэ парадкавалася — пазваніў доктар Wexler, ці не магу прыйсьці раней. Я хуценька сабралася й пайшла. Ён доўга са мной вазіўся, але ўсё скончыў. Праўда, неяк ня гладка выйшла, усё чапляецца за зуб. Але выглядае добра. Казаў, што гэта толькі часовы [*пратэз*]. У наступным годзе зробіць ужо зусім сталы. Гэтак сама падумаюць, што можна зрабіць, каб іншуранс больш заплаціў за мосьцік. Пазвоняць мне пазьней.

Заехала купіла рыбы на пятніцу. Я строга трымаюся дыеты гэты раз.

Друкавала бібліяграфію.

Пазваніў з дарогі Вітаўт — даведацца, як у мяне з дэнтыстам пайшло. У яго ўсё добра. У аўтобусе яшчэ трохі працаваў, зьбіраў матар'ялы.

Я цэлы вечар друкавала й парадкавала бібліяграфію.

**Пятніца 16 траўня**

Схадзіла раніцай у банк. Доўга вазілася. Памяняла чэк, паклала трохі на кніжку, каб шмат грошай ня мець пры сабе. Зрабіла копію бібліяграфіі для Тумаша.

Схадзілі з Т[*умашам*] на каву а 3-яй. Аддала яму частку біб. для праверкі. Ён сёньня й праверыць і аддасьць мне.

Расказала яму пра С[*алаўёвы*] вершы ў Летапісу [*беларускага друку*]. Ён спачатку сказаў, каб Адамовічу нічога не гаварыць тым часам — хай піша артыкул, але пазьней мы вырашылі, што трэба сказаць, бо для яго гэта важная інфармацыя, ён гэта, мусіць, выкарыстае ў артыкуле.

Зрабіла копіі з Летапісу і для Т[*умаша*], і для А[*дамовіча*].

**Субота 17 траўня**

Схадзіла зрабіць валасы. Пасьля зайшла ў магазын купіла тое-сёе зь яды.

Павезла памыць машыну. Вучні 8-ай клясы мылі машыны каля банку[1]. Хутка памылі, але, ведама, як дзеці, не зусім добра.

Выклала яду толькі і паехала далей па пакупкі. Хацела нешта для Юры пашукаць.

Шмат паезьдзіла — стамілася, часу патраціла, а купіла толькі для вазонаў. Ужо пачала хваляваца, што час губляю.

Друкавала сваё.

Званіў Божка — бедаваў пра сваю жонку. Вельмі прыкра ўсё гэта слухаць. Ня ведаеш, як рэагаваць. Ня ведаеш, дзе праўда, хто вінаваты?[2]

Званіў Вітаўт — там усё добра. Здаў матар'ялы. Выязджае позна вечарам. Цэлую ноч будзе ехаць [*аўтобусам з Кліўленду*].

---

[1] *У ЗША так часта бывае: у нейкай навучальнай установе (прыкладам, школе) рыхтуецца ўрачысты вечар, а грошай на гэтую імпрэзу дырэкцыя выдзеліла мала, дык вучні, каб зарабіць, колькі ім не хапае, мыюць машыны — прыносяць сваё мыла, мачалкі, выбіраюць месца, атрымліваюць дазвол і працуюць. Робяць такое самае і скаўты.*

[2] *Васіль Божка — наш сусед беларус. У іх была сямейная драма — недавер адно да аднаго, здрада (як казалі суседзі). Мы дапамагалі толькі словам, бо больш нічога зрабіць не маглі.*

**Нядзеля 18 траўня**

Вітаўт прыехаў рана. Я яшчэ й не чакала яго. Паехаў купіў на сьнеданьне. Пасьнедалі. Паездка яго была ОК. Здаў матар'ял. [*Сяргей*] Карніловіч нешта ня быў задаволены. Таксама ня былі задаволеныя, што ня было Шук[*елойця*] на зборку БАЗА і што Віт[*аўт*] не застаўся.

Прыехаў Юрачка. Ён у добрым настроі. Працуецца яму добра.

Прыехаў Дутка. Прывёз кніжкі. Ёсьць некаторыя нядрэнныя. Два тамы этнаграфічныя — тое, што Шук[*елойць*] мне даў адзін. Я ўсё яшчэ яго не знайшла. Гэта прыкры выпадак, дык я яго й запісваць не хачу.

**Панядзелак 19 траўня**

Аддала Адамовічу выпіскі — xerox з Летапісу — Салаўя творы з 1938—39 г. Ён зарэагаваў, як і спадзявацца можна было ад яго: «Ну, вось, я якраз хацеў цябе прасіць, каб ты праверыла».

Вечарам канчала бібліяграфію і індэкс.

Вітаўт на зборцы «Eth. Council»[1]. Юра не званіў.

---

[1] *Дыскутавалі, як увесьці ў школы праграмы глыбейшага знаёмства вучняў з гісторыяй Усходняй Эўропы.*

**Аўторак 20 траўня**

Аддала Тумашу бібліяграфію і індэкс. Зрабіла копіі.

У абед хадзіла ў магазыны. Шукала нешта для Юры. Юра абяцаў пазваніць. Ён ужо жыве не ў сваім пакоі. Тэлефону ня мае. Адзіная з ім у нас камунікацыя — калі ён пазвоніць[1].

Тумаш не праверыў той часткі бібл., якую я яму раней дала — так што я ўжо перад выездам ня скончу. Ды ўсё роўна яшчэ й «Новага Шляху» няма. Адамовіч сваю яшчэ далёка ня скончыў.

Вечарам паехалі з М. В. у Bradley. Купілі Юру гадзіньнік. Купіла сабе купальнік.

---

[1] *Юра быў прызначаны ў інтэрнаце «старэйшым па паверсе». Гэтая пасада прадбачала нейкую зарплату і асобны пакой. Але былі і абавязкі — сачыць за дысцыплінай.*

### Серада 21 траўня

Дождж. Прыкра. Вітаўт замяшчае Запрудніка ў радыё[1].

Аддала Ад[*амовічу*] бібліяграфію, каб ён праверыў (так параіў Тумаш), ды для яго інфармацыі, можа, што выкарыстае.

Вітаўт паехаў на спатканьне Мандэля ў Каміліі[2]. Мы неяк не зусім з прыемнасьцю гэтую зацею ўспрынялі. Камілія са сваёй нахальнасьцю ўжо ж трохі далёка зайшла. Запрасіць Віцэ-прэзыдэнта! Але ■ ўпэўнена, што гэта ёй сыйдзе. Толькі ці эфэкт з гэтага будзе адпаведны.

Ідучы пад аўтобус купіла Юру Attaché. Так што з Юравымі падарункамі ў парадку.

Вітаўт мяне спаткаў на станоўцы. Прыймо выйшла даволі ўдала. T.V., як яна казала, ня было. Але трохі для нас рэклямы было. Больш з беларусаў [*у хаце Каміліі*] нікога ня было.

Юра не пазваніў.

---

*[1] Пішу і нагаворваю дзённыя палітычныя перадачы.*

*[2] Віцэ-прэзыдэнт Волтэр Мандэйл сваю выбарчую кампанію 1984 году пачаў вельмі рана і пачаў са штату Нью Джэрзі. Кампанію ён прайграў, але пра Беларусь мы зь ім пагутарылі добра.*

### Чацьвер 22 траўня

Парадкавала свой стол на рабоце.

У абед думала пайсьці па камэру[1]. Але пакуль выбраліся, было ўжо мала часу. Зайшлі да Ад[*амовіча*]. Ён бібліяграфіі яшчэ не глядзеў. Знайшла яму інфармацыю пра падручнік літаратуры [*Айзіка*] Кучара.

Пасьля яшчэ заскочыла ў пару магазынаў на 5-ым Ave. Юра так і не зазваніў, і я ня ведаю, што больш можна было купіць. Спадзяюся, што гэта будзе адпаведна.

Паехала на фарму адразу-ж, як прыехалі дахаты. Ехалася добра. Ужо зрабілася горача — нават уключала A.C.[3]

Павячэралі, і я хутка пайшла спаць. Але неяк выбілася са сну. Было горача, душна. Доўга не магла заснуць. Але затое пад раніцу чуць не праспала.

Званіла Алеська. Дамовіліся, як заўтра спаткаемся. Яна купіла мне кнігі.

---

*[1] Фотаапарат.*

*[2] Адамовіч, пішучы артыкулы на літаратурныя тэмы, амаль заўсёды карыстаўся безьліччу літаратуры.*

*[3] Кандыцыянэр (Air Conditioner).*

### Пятніца 23 траўня

Раніцай хуценька ўсхапіліся й паехалі. Добра ехалася.

Прыехалі ня позна. Сьнедаць, праўда, разам не садзіліся. Зьелі, што было. Бабкі ў сябе, мы ў сябе[1].

Я пайшла рабіць валасы. Купіла фільмы для кінакамэры. На двары горача. Настрой у мяне нейкі прыбіты. Можа, што ня выспалася, можа, што не званіў Юра, можа, што не зусім задаволеная, як выйшлі валасы, можа, што ня надта хочацца ехаць у Virginia. Можа, усё разам патрошку, але чуць ужо былі не пасварыліся. Вітаўт таксама нейкі нарваны. [redacted] хацела выехаць раней, а ён пачаў пярэчыць.

Выехалі а 2:30 (кампрамісна). Даехалі да N[ew] B[runswick] добра, [redacted] там пачаўся затор. Але ўсё добра абышлося. Запаркавалі. Знайшлі добрыя мейсцы. Стадыён вялікі — праблемы зь мейсцамі ня было. Хутка пачалі й выпускнікі спускацца па сходах і рассаджвацца. Было вельмі прыгожа і ўрачыста. Адно толькі трохі загорача, а так вельмі прыемна. Мы ўсё паглядалі, каб убачыць Юры. Знайшлі. Ён якраз і сядзеў недалёка ад нашых мейсцаў. Я рабіла фільм. Яшчэ толькі не маглі ўрымсьціцца, пакуль ня было Алесі. То Вітаўт, то [redacted] хадзілі яе шукаць. Нарэшце [redacted] яе заўважыла (яна казала, што будзе ў ружовай сукенцы). Тады ўжо мы ўсе супакоіліся. Юру выклікалі па дыплём аднаго з апошніх (так яны неяк дзіўна разьмеркавалі альфабэт).

Пасьля, як сабраліся ўсе разам, заехалі да Юры ў пакой, узялі крэсла й паехалі павячэраць.

На вячэры далі Юру падарункі. Яму ўсё спадабалася. Чуць быў не сапсуўся вечар — Вітаўт узяў піва, і я пачала фыркаць. Паехалі назад у двух машынах. Я зь дзецьмі — Юра застаўся ў школе. Заўтра прыедзе. Вітаўт паехаў з бабкамі. Вечарам сабраліся ў хаце. Усё наладзілася.

---

[1] *Калі з фэрмы ў Рутэрфорд прыяжджала «бабка Апалёнія», яна часта затрымоўвалася ў «бабкі Марыі», якая жыла з намі. Дом быў двухкватэрны.*

**Субота 24 траўня**

Вітаўт рана паехаў на канфэрэнцыю.

Мы разам пасьнедалі (я паехала па сьнеданьне). Юра прыехаў як мы ўжо канчалі есьці.

Паехалі ў Патэрсон па пакупкі. Купілі Юру два касьцюмы за $50. Вітаўту жакет за $22. Мы з Алесяй — далей па пакупкі. Купілі Вітаўту плашч, кашулю, гальштук. Заехалі на рынак — купілі фруктаў, зеляніны, арэшкаў. Купілі торфу для вазонаў. Адным словам, была ўдалая паездка.

Прыехалі дахаты й сталі зьбірацца ў паездку далей. Усё яшчэ ня вырашылі куды. Я ўсё ў Алесі старалася выведаць, ці яна надта хоча ехаць. Выглядае, што так. А мне ўсё яшчэ ня хочацца. Успомнілі, што трэба Юравы штаны падшыць. Юра абяцаў прыехаць разьвітацца. Прыехаў добра, у час. Памералі яму штаны. Разам з Алесяй хуценька падклалі, паправілі. Тым часам прыехаў і Вітаўт. Зьезьдзіў яшчэ у Ньюарк па фатаграфіі. Я ўжо вазілася са штанамі. Але ўсё зрабіла, што трэба. Юра будзе мець дастаткова адзежы для школы.

Вітаўт добра разважыў, мяне трохі супакоіў. Трэба ехаць і старацца сябе добра адчуваць. Я маю тайную надзею, што нам удасца пару дзён затрымацца ў бабкі на фарме. І танней будзе, і трохі пераб'ецца час. Ня ведаю яшчэ, як гэта Алесі прадставіць.

Выехалі ўжо каля 8-ай. Ехалася добра. Праўда, трафік быў даволі вялікі. Па дарозе прыемна гаварылі. Алеся зазначыла, заўважыўшы рэкляму на A[*tlantic*] C[*ity*] casino, што яшчэ ня разу ня была ў казыно. Тут [redacted] і выкарыстала нагоду й падсунула думку, каб застацца на нядзелю ў бабкі.

**Нядзеля 25 траўня**

Усталі ня позна. Сабраліся. Я завезла маму ў царкву. Алеся прывезла. Паехалі ў A[*tlantic*] C[*ity*]. Пайшлі адразу ў Casino. Доўга чакалі на 5-цэнтовыя машыны. Кводары[1] прайгралі вельмі хутка. Пайгралі даволі доўга — усё ігралі ўперамешку на аднэй машыне. Як побач звольнілася машына, [redacted] ўзяла і за першым разам выйграла $10. Гэтыя грошы мы вырашылі затрымаць. Так што прайгралі ўсяго разам нейкіх $10. Пайшлі ў машыну пераадзеліся й пайшлі на бераг. Добра пазагаралі — было вельмі горача, але пахмурна. Якраз ідэальна для першага дню. Было й людна й цікава, і музыка й авіа-паказ.

Пайшлі яшчэ трохі пайгралі на машынках на падмостках. Алеся выйграла нейкую дрэнь.

Прыехалі дахаты. Павячэралі. Глядзелі T.V. Перасадзілі вазоны.

Дзень прайшоў вельмі прыемна. Заўтра будзе заўтрашняе, яшчэ ня ведаю, куды паедзем. Пазванілі Вітаўту. Юра цэлы дзень недзе паехаў.

---

[1] *Кводар (quarter) — чацьвяртак, манэта 25 цэнтаў.*

**Панядзелак 26 траўня**

Раніцай я ўстала ня позна. Алеся яшчэ сьпіць. Пакуль яна праснулася, было ужо позна недзе выязджаць. Я прапанавала застацца яшчэ ў бабкі. Зьезьдзіла ў магазын — купіла трохі прадуктаў. Пазванілі Віт[*аўту*] — сказаць, што яшчэ тут. Паехалі адразу на бераг пасядзелі там да 4-ай. Было вельмі горача — я трохі запалілася. Пераадзеліся й пайшлі ў Casino. Было ўжо значна менш людзей. Гэтым разам памянялі толькі па $5. Алеся хутка пачала выйграваць. Першыя $5, што выйграла мы пакінулі, каб памяняць і забраць — каб нічога не прайграць. Пайгралі даволі добра, нават трохі выйгралі — каля 3-ох даляраў. Паехалі дахаты. Ага, праўда, як ехалі ў A[*tlantic*] C[*ity*], заехалі у Gross вінарню[1]. Купілі 3 бутылькі віна. Даволі смачнае.

Дома павячэралі. Глядзелі T.V. Рашылі заўтра ўстаць рана і ўсё-ж недзе паехаць.

---

[1] *Фэрма, дзе робіцца вінаграднае віно.*

**Аўторак 27 траўня**

Усталі рана, як плянавалі. Пагода цудоўная. Алеся пазваніла на паром[1] даведацца расклад. Выехалі з дому па 8-ай, каб папасьці на 9:30 на паром.

Даехалі ў час, заладаваліся. Трохі качала ў дарозе. Алеся трохі гуляла ў pin-ball. Праехалі праз Rehoboth Beach. Там вельмі пуста, нецікава. Паехалі далей. Рашылі затрымацца ў Ocean City, Md. Хутка знайшлі матэль — Best Western — $37 за пакойчык з куханькай. На беразе. Прыгожы басэйн. Тэніс. Прыемнае мейсца. Можна было й танней знайсьці, але рашылі затрымацца тут.

Пайшлі на бераг. Мне адразу-ж стала загорача — трохі ўчора сьпяклася. Я села ў цянёк і парадкую дзёньнік. Даволі была ўжо запусьціла. Алеся глядзіць цяпер свае soaps[2]. Яшчэ рана, а мне ўжо нудна. Праўда адпачываецца добра. Але яшчэ няма поўнага адпружаньня. Можа прыйдзе.

Схадзілі павячэралі. Трохі прайшліся, разгледзіліся. Па дарозе назад пасьля вячэры зайшлі купілі прадуктаў.

Вечарам глядзелі T.V., адпачывалі. Пазваніла Вітаўту. Доўга гаварылі. Ён расказваў пра Тумаша, Адамовіча, Нікана[3]. Выглядае, што А[*дамовіча*] пераглядзеў бібліяграфію, хоча са мной гаварыць. Нарэшце агледзеўся.

Алеся знайшла у мясцовай газэтцы, што можна зьбіраць клубніку недзе недалёка на фарме. Заўтра паспрабуем.

---

[1] *Паміж штатамі Нью Джэрзі і Дэлавэр курсуе паром. Гэта мейсца, дзе рака Дэлавэр упадае ў Атлянтычны акіян і ўтварае затоку 20—30 км шырынёю.*

[2] *Тэлевізійныя «мыльныя опэры».*

[3] *Мікола Нікан з Аўстраліі ў той час гасьцяваў у Нью Ёрку.*

**Серада 28 траўня**

Раніцай зьезьдзілі на ягады. Мейсца не зусім цікавае. Ягад мала й нейкія няважныя. Але трохі назьбіралі — будзе для перакускі.

Пайшлі на бераг. Горача. Я зноў трохі спалілася. Хадзіла ў басэйн-вір. Трохі загорача, але прыемна. Але усё яшчэ не адпружылася. Мусіць трохі чуюся вінаватай перад Вітаўтам, Юрам, што так іх пакінула. Надта хацелася-б зусім адпружыцца, аддыхнуць. Я-ж, урэшце, заслужыла адпачынак.

Вечарам схадзілі павячэраць. Добра павячэралі — амлеты й блінчыкі. Але пачаў балець жывот, ды цела ўсё гарыць. Спала дрэнна. Нейкія маладыя людзі нарабілі ноччу шуму. Пад раніцу прайшоў жывот.

**Чацьвер 29 траўня**

Раніцай прачнулася рана. Уключыла T.V. Як прайшоў жывот трохі яшчэ заснула.

Пасьнедалі. Я ўжо думала, што на сонца зусім сёньня не пайду, але трохі хмурна на двары, дык якраз для мяне добра. Пайшлі на

бераг. Трохі ветрана. Як выглянула больш сонца, ■ пайшла ў пакой і пішу дзёньнік. Трохі перакусіла. Хаця-б сёньня жывот не балеў. Здаецца, яшчэ не спяклася. Прынамсі чуюся цяпер добра.

**Пятніца 30 траўня**

Раніцай пачалі зьбірацца патроху. Сяньня ўжо выязджаем. Алеся пайшла яшчэ на бераг. Я была ў пакоі. Аб 11-ай гадзіне вынесьлі ўсё ў машыну. Расплаціліся й пайшлі разам на бераг. Вельмі добра яшчэ да 3-яй гадзіны пасядзелі. Сонца ня было вельмі дакучлівае.

Пасьля зайшлі ў рэстаран (Ginos), каб трохі прыгарнуцца, пакарыстацца іхнай прыбіральняй. Алеся нават купальнік перамяніла.

Паехалі раней трошкі, каб заехаць у Chamber of Commerce[1] — узяць літаратуру пра гатэлі. Набралі цэлую купу.

На паром пасьпелі добра. Яшчэ й чакалі доўга, пакуль адплыў. Яшчэ трохі й на сонцы пасядзелі пад час падарожжа. Мне прыпомніліся нашыя зімовыя падарожжы, калі мы ўжо вяртаючыся назад дахаты стараліся захапіць трошкі сонца на аэрадроме, ці едучы назад з Флярыды, на тым самым пароме, калі былі цяплейшыя дні.

Прыехалі да мамы ня позна. Павячэралі. Якраз у мамы было ўсяго нагатавана. А мы ўжо плянавалі, як мы выкруцімся, каб не пакрыўдзіць маму, недзе паехаць есьці, калі ў яе ня будзе прыгатавана. Аж тут і круціць ня трэба.

---

[1] *Гандлёвая палата.*

**Субота 31 траўня**

Ранічкай я прачнулася рана ад шуму дажджу. Вельмі-ж ужо была засумавала. Мы-ж спэцыяльна засталіся на гэты дзень на фарме, каб сабраць ягадаў.

Але неяк разьвеялася, пасьвятлела. Мы хуценька ўсталі й паехалі. Было трохі мокра на зямлі, але дажджу ня было — назьбіралі клубнікі й паехалі дахаты.

Па дарозе я ўжо ўбачыла, што ня справімся ў час, пазваніла ў Beauty Parlor[1], каб зьмяніць на пазьней. Прыехалі каля 12-ай.

Запакавалі падарункі Вітаўту. Падрыхтавалі стол. Селі за «сьнеданьне». Юры ня было. Усё яго падчэквалі, але ён затрымаўся недзе.

Усё Вітаўту спадабалася. Жакет трэба, аднак, мяняць. Паехалі хуценька ў Патэрсон, бо там толькі да 2-ой гадзіны адчынена. Памянялі. Якраз было, што й падышло, што й спадабалася.

Пайшла зрабіць валасы.

Яшчэ раней пазваніла Дутку, каб сяньня не прыязджаў, бо вельмі-ж занятыя.

Прыехаў Юра. У яго зноў сапсулася машына. Ён бедны хваляваўся. Варочаючыся дахаты, сапсавалася нешта ў машыне. Правазіўся, але неяк жа дахаты дабраўся.

Юра мусіў ехаць назад у N[ew] B[runswick]. Паехаў на Алесінай машыне. Заўтра рана прыедзе.

Мы паехалі на рэфэрат[2]. Прайшло добра, але мала было людзей. Рэфэраты пра іншадумцаў трэба рабіць больш публічна. Гаварыў Рутман пра супрацівы ўладзе дома — добра, цікавыя дэталі. Запруднік. Гаварыў Bird пра сьведчаньне ў кангрэсе — цікава. Гаварыў Вітаўт — агульныя інфармацыі (трэба было напачатку самым гэта сказаць) пра Гэльсінкаўскі дагавор, пра Красько. Неяк было трохі скамкана. Гаварыў новапрыбылы Адам А[*куліч*]. Гэтаксама агульныя рэчы, якія ўжо чуліся раней.

Настрой нейкі быў незадаволены. Нечага не хапала, нешта было не зусім прыемна. Ня ведаю што, але асадак застаўся. Па дарозе дахаты папалі ў літаральны лівень. Ліло больш «як зь вядра».

Гаварыла з Адамовічам. Заўтра спаткаемся ў радыё абгаварыць Бібліяграфію.

Алеся была ў Nadine[3].

Адным словам, толькі прыехалі, а ўжо ўлучыліся ў штодзённую нашую беганіну.

---

[1] *Касмэтычны кабінэт, салён прыгажосьці.*

[2] *Была зборка ў фундацыі Крэчэўскага на тэму «Іншадумства ў Беларусі».*

[3] *Алесіна блізкая сяброўка.*

**Нядзеля 1 чэрвеня**

Прыехаў Юрачка. Сабраліся нарэшце ўсе разам. Пасьнедалі. Мелі яшчэ адзін торт для Вітаўта. Было вельмі прыемна. Юра працуе[1]. Парадкаваліся. Алеся паехала да яго пазагараць. Я трохі пасядзела на двары.

Пасьля 4-ай прыехаў Дудка з адным беларусам, які сябе лічыць паляком, з Валінгтону, які займаецца вышываньнем. Прывёз свае працы. Я трохі выбрала, заказала. Дала яму Будзькаву кніжачку «Бел. арнамэнты». Добра, што навязалі кантакт.

Алеся зьбіраецца у Washington. Яны доўга не сядзелі — вычулі, што мы занятыя. Алеся паехала. Юры прыйшоў з працы. Ну, ужо цяпер у хаце будзе летні балаган.

---

[1] *Юра ўладзіўся працаваць ратаўніком у нейкім вялікім басэйне.*

**Панядзелак 2 чэрвеня**

Здала фільм з Юрынага Graduation[1].

Пайшлі ў Радыё. Адамовіч прайшоўся са мною праз усю бібліяграфію, растлумачыць папраўкі. Вельмі добра праверыў. Зьмены ўсе карысныя, абаснаваныя. У колькі мейсцах, праўда, я не зусім зь ім згаджаюся. Але, агулам, вельмі задаволеная. Казаў, што ўлучыць маё імя ў прадмове як аднэй з супрацоўніцаў.

Дзень даўгі сяньня, першы на рабоце пасьля такой прыемнай паездкі.

---

[1] *Выпуску.*

**Аўторак 3 чэрвеня**

Вітаўт адзеў новы жакет. Вельмі добра.

У абед пайшлі з Ballarine купляць апарат у Юнійны[1] магазын. Купіла [*фотаапарат*] Yashika. Выглядае добра. Цікава, як будзе дзейнічаць?

З Тумашам пайшлі на падвячорак. Ён перадаў «Index»[2]. Я яму расказала пра Адамовічавыя папраўкі. У яго адлягло на душы, што я задаволеная зь іх, бо ён баяўся, што мне не спадабаецца, што трэба яшчэ перадрукоўваць. Нават і Вітаўту казаў. Вітаўт стараўся яго запэўніць, што я буду толькі задаволеная з разумных паправак.

Вітаўт знайшоў для мяне новы матар'ял пра Салаўя. Я была трохі напалохалася, як убачыла, што адзін сцэнічны абразок (які мы лічылі рукапісам) быў надрукаваны ў «Баявой Ускалосьці». Але ўсё выйшла добра, бо сцэнічныя абразкі зьмешчаныя асобна ад іншых вершаў. Толькі мне ў «Бібл[*іяграфіі*]» трэба будзе зьмяніць. Іншыя матар'ялы, што ён знайшоў, альбо ўжо былі ведамыя, альбо нязначныя, але некаторыя добрыя і ўставяцца яшчэ. Зрабіла колькі здымкаў.

Вітаўт паехаў на зборку — Democratic Party[3]. Быў там і Губэрнатар.

---

[1] *Прафсаюзны. Дзе-нідзе ў ЗША ёсьць спэцыяльныя крамы, якія ўтрымоўваюцца прафсаюзамі. Але каб купіць у такой краме, трэба быць членам прафсаюзу.*

[2] *Паказьнік да кнігі.*

[3] *Я заўсёды быў заўзятым рэспубліканцам. Але каб падтрымаць сваіх дэмакратаў — гэтым разам было некалькі асобаў, — хадзіў і на зборкі дэмакратаў. Кіраваліся галоўным прынцыпам — папулярызаваць Беларусь.*

**Серада 4 чэрвеня**

Прыходзіла Mrs. Lake[1] з сынам. Схадзілі зь імі на каву. Вітаўт паказаў ім бібліятэку. Яны О.К. Хлопец троху нейкі дзіўны — мамчын сынок.

Пайшла заказаць акуляры. Нарэшце. Ён паглядзеў мае вочы вельмі ўважліва. Нават пытаўся, ці не прымаю я якіясь супакойваючыя пігулкі. Мусіць, вочы вельмі стомленыя.

Акуляры будуць гатовыя за які тыдзень.

Вітаўт знайшоў інфармацыю ў «Бацькаўш[*чыне*]», што Палтава[2] пераклаў верш Салаўя. Гэта для мяне вельмі важна.

---

[1] *Амэрыканка беларускага паходжаньня.*

[2] *Леанід Палтава — ведамы ўкраінскі паэт, шмат перакладаў зь беларускай мовы.*

**Чацьвер 5 чэрвеня**

Вітаўт дома.

На рабоце нічога надта цікавага.

Знайшла пераклад Палтавы ў украінскай газэце.

**Пятніца 6 чэрвеня**

Прынесьлі Адамовічу «Новы Шлях». Ён адразу-ж, зразумела, заўважыў фэльетоны [*за подпісам*] «Бандысь Свой». Пераканаңы, што гэта Салавей і што трэба ўключыць у бібліяграфію. Я лічу, што ня трэба: матар'ял нецікавы, пашквільны, падхалімны. Нават каб мы й былі 100% упэўненыя, што гэта яго, то й тады яшчэ трэба было-б падумаць.

Тумаш такой-жа думкі. Ён перагледзеў матар'ял і кажа, што ня варта падаваць у бібліяграфію.

У абед хадзілі глядзець Вітаўту партфель. Зайшлі ў краму, глянулі, і ён закапрызіў і пайшоў — ня хоча. Ну, я прасіць ня буду. Можа, куплю сама, а можа й не.

Забралі Салаўя для карэкты.

**Субота 7 чэрвеня**

Вітаўт працуе. Юрачка таксама. Трохі пасьнедалі, што было.

Я парадкавалася. Нікуды ехаць не хацелася. Цэлую раніцу шукала Ірэны artwork[1] і кніжку Дуткаву. Не знайшла.

Схадзіла зрабіла валасы.

Так дзень і прайшоў — нічога не зрабіла, затузалася каля хаты.

На двары трохі распагодзілася, але пахаладала. Вывесіла праветрыць пасьцель.

Маці[2] робіць карэкту. Езьдзілі да Ballarine. Завезьлі ёй палкі. Пагасьцілі. Рабілі здымкі.

---

[1] *Графічнае афармленьне кнігі Арсеньневай, якое мы, прыпушчальна, забралі ад выдаўца.*

[2] *Марыя Васільеўна.*

**Нядзеля 8 чэрвеня**

Пасьнедалі троху. Паехалі ў царкву. Думалі, што ўжо на канец прыедзем, аднак яшчэ амаль пачыналася.

Я цэлы час была ў царкве. Вітаўт таксама амаль цэлую службу прастаяў[1]. Быў і Адам Акуліч зь ім. Яго Запруднік прывёў. Сабралася трохі людзей. Была паніхіда. Пазьней успаміны й пачастунак. Я гэтым разам нічога не рабіла. Мы нават не зьбіраліся заставацца, але было досыць прыемна й спакойна, то засталіся нават на пачастунак.

Успаміналі пра сэнатара Рагулю (Данілюк). Вельмі добра, коратка, зьмястоўна. Тады Запруднік пра Абрамчыка. Нават нядрэнна — абыграў «Памяць». Пасьля яго Манькоўскі «ўспамінаў» пра Уладыку Васіля — яшчэ больш пачаў філязофстваваць, мудрыць і нічога не сказаў. Уставіла

свае «пяць грошаў» і Зінаіда Станкевіч, як заўсёды. Але яна хоць нешта канкрэтнае сказала — пра хіратонію. Але больш пра сябе гаварыла, чымся пра Уладыку. Адамовіч падагульніў усё, нават нядрэнна.

Рабіла здымкі. Пачастунак быў удалы. Мы хутка паехалі.

Вечарам павячэралі ў хаце. Было трохі захаладна для двара, як меркавалі.

---

[1] *Была царкоўная ўрачыстасьць — Памінкі.*

**Панядзелак 9 чэрвеня**

Раніцай здала фатаграфіі й забрала фільм.

Званіла ў 4 Continents[1]. Трыстана яны ня маюць. Цяпер толькі надзея на Алесю.

Занесла Адамовічу выпіску пра Багдановіча зь «Менскай Газэты». Ён просіць сьпісаць першыя радкі ўсіх вершаў.

Забралі вечарам здымкі. Выйшлі няважна. Але віна неазнаёмленасьці з камэрай[2], а не самой камэры. Найлепш выходзіць зблізку, са сьвятлом.

Ага, гаварыла Адамовічу пра «Бандыся Свайго». Аргумэнт, што ня варта ўключаць у бібл[*іяграфію*], дзеля таго, што можа быць выкарыстана бальшавікамі, здаецца, пераканаў яго.

Вечарам неяк нічога не рабіла — не працуецца.

Фільм не паглядзелі. То Вітаўт спаў, тады Юра недзе пайшоў.

Званіла Галіна [*Русак*]. У іх там дрэнь з царквой[3].

---

[1] *Four Continents (Чатыры кантынэнты) — кнігарня, дзе можна было купіць і беларускія кнігі. Уласьнікі крамы былі леваватага кірунку, аднак спраўныя бізнэсоўцы. Пастаўлялі кнігі з СССР па ўсёй Амэрыцы.*

[2] *Камэра ў мове амэрыканскіх беларусаў — фотаапарат.*

[3] *Справа пайшла ў суд.*

**Аўторак 10 чэрвеня**

Вітаўт раніцай хадзіў да дэнтыста.

Зрабіла Адамовічу выпіску дадатковую пра Багдановіча. Вітаўт занёс.

Прыходзіў Тумаш. Пагаварылі трохі пра Салаўя, пра карэкту, што рабіла маці, пра сымпозыум пра Статут[1].

Тумаш сказаў, што памерла Махноўская[2]. Вечарам паніхіда. Нагаварвае паехаць — у Бруклін.

Павячэралі з Тумашам і паехалі на паніхіду. Трохі сабралася людзей. Апекаваліся ёй апошнія месяцы Мірановічы[3].

Даехалі дахаты бязь ніякіх прыгодаў — ня так ужо й позна.

---

[1] *Рыхтаваліся да канфэрэнцыі «Угодкі Статуту ВКЛ», якую арганізоўваў БІНіМ.*

[2] *Адна з старэйшых прыхаджанак, паходзіла з Латгаліі.*

[3] *Сям'я мастака Пётры Мірановіча.*

**Серада 11 чэрвеня**

Прыехалі на работу толькі на паўдня. У абед селі на аўтобус і паехалі ў Нью Брансуік. Там нас спаткаў Юра і паехалі на ягады[1]. Усё йшло добра, як патрэбна. І пасьпелі на аўтобус, і селі добра, і Юра нас ужо чакаў, набраўшы газаліны. Мы яму прывезьлі фруктаў. Купілі нават гарбузікі. Адно я хацела пазваніць маме — не ўдалося.

Усё было-б цудоўна, каб Вітаўт чагось не закапрызіў. Хто яго ведае, што яго кальнула. Ці то, што я хацела пазваніць, ці то, што Юра сказаў, куды ехаць. Адным словам закапрызіў, як дзіця. Выскачыў з машыны й пайшоў. Мы яго нагналі, ўгаварылі супакоіцца. Паехалі, але настрой доўга быў нацягнуты. Пазьней разьвееўся.

Пагода была надзвычайная. Сабралі ягадаў. Ягады, праўда, нейкія маленькія, кіслыя, мяккія — няўдалыя. Але мы добра сябе адчувалі. Адно я ўсё хвалявалася, што не пазваніла маме. Ехалі да мамы й не спадзяваліся, што нешта будзе зробленае на вячэру. Аднак усё было гатовае, чакала нас.

Перакусілі, трохі пакасіў Юра траву, трохі абрэзалі куст, які цяпер на дарозе быў да вяроўкаў [*на якіх сушылася бялізна*].

У мамы ўсё добра. Трохі яна стамляецца ўжо. Заўважаецца!

Прыехалі дахаты ня позна. Вітаўт узяў нейкія дошкі з фармы. Мяне гэта цэлую дарогу нэрвавала, бо яны тарчэлі з багажніка. Але даехалі добра.

---

*[1] У летні час «ягадная пара» пачыналася рана. Ёсьць спэцыяльныя фэрмы-гаспадаркі, дзе на тысячах гектараў разводзяцца толькі ягады. Спачатку бываюць клубніцы — канец траўня, потым ідуць чарніцы — ад канца чэрвеня да пачатку жніўня. А пасьля ўжо ня ягады, а персікі і яблыкі. У Нью Джэрзі такіх фэрмаў дзясяткі. Беларусы любяць такія гаспадаркі — нашыя ўнукі ўжо ад 5 гадоў «зьбіралі ягады».*

**Чацьвер 12 чэрвеня**

Вітаўт дома.

На рабоце нічога цікавага.

Раблю й Трыстана й Статут. Вітаўт выканчвае бібліяграфію для Cleveland[1]. Прыгатоўвае бацькавы ўспаміны для газэты[2] і, паступова, рыхтуе «Прэсу»[3].

---

*[1] Бібліяграфію да кнігі «Беларусы ў Кліўлендзе».*

*[2] Успаміны Яўхіма Кіпеля часта друкаваліся ў «Беларусе».*

*[3] Падрыхтоўка разьдзелу ў англамоўны даведнік «Этнічны друк Амэрыкі».*

**Пятніца 13 чэрвеня**

У Вітаўта зборка ў Jersey City аб Ethnic Festival[1].

Я раніцай занесла Адамовічу матар'ял для праверкі — артыкул пра нацдэмаў — успаміны Яўхіма Кіпеля.

Адамовіч чакаў больш матар'ялу — яму патрэбна для перадачаў. Раззлаваўся на Вітаўта. Яшчэ асабліва, калі даведаўся, што я не пры-

несла «Пагоню». Ён заўтра вылятае ў Лёндан. І ўжо паабяцаў, што «Пагоню» прывязе, а нам нічога не сказаў, што едзе ў суботу. Я стала званіць Вітаўту дахаты, але ён быў ужо ў дарозе. Так «Пагоні» й не ўдалося дастаць з хаты. Вітаўт прыехаў на машыне. Схадзіла ў банк.

Прыехала Галіна[2] ў бібліятэку працаваць над сваёй бібліяграфіяй. Я зь ёй трохі пагаварыла, распыталася, што яна плянуе рабіць. Параіла ёй надта не разгаліноўвацца, сканцэнтравацца на адной тэме. Але яна ўжо надумалася, падала тэму і, выглядае, ня зьменіць свае думкі, колькі ёй не кажы. Яна й працавітая й ахвочая, але нейкая раскіданая, і ўсё пад сябе грабе.

На падвячорку гаварылі з Тумашам пра Статут. І яна [*Галіна*] таксама ўжо хоча рабіць рэфэрат. Хацела пра жанчынаў, але Тумаш сказаў, што гэтая тэма ўжо занятая — Зора робіць. Параіў ёй пра рэлігію (ці, можа, яна сама прапанавала — ня памятаю).

Справа з Статутам рухаецца. Выглядае, як Тумаш кажа, што нешта й выйдзе. Т[*умаш*] даў добрую кніжку Юхо пра статут.

Прыехалі на машыне дахаты. Добра. Вітаўт пасьля вячэры паехаў у F.D.U.[3] зрабіў копіі з «Пагоні». Заўтра рана завязем Адамовічу.

Юрачка недзе пайшоў. Мы паглядзелі фільм зь Юравага Graduation. Добра выйшла — толькі каротка.

---

*[1] Запачаткаваныя тады Этнічныя фэстывалі ў горадзе Джэрзі Сіты працягваюцца і да сёньня.*

*[2] Галіна Русак апрацоўвала бібліяграфію пра «раньні Полацак».*

*[3] Унівэрсытэт Фарлея Дыкенсана знаходзіўся ў горадзе Рутэрфордзе, недалёка ад нашай хаты.*

**Субота 14 чэрвеня**

Ранічкай хуценька зьезьдзілі ў Нью Ёрк, аддалі Адамовічу «Пагоню» для пераданьня ў Бібліятэку ў Лёндан. Ён быў вельмі задаволены. Вітаўт паабяцаў яму прыгатаваць успаміны бацькавы.

Заехалі па сьняданьне. Пасьнедалі, і Вітаўт пайшоў да дэнтыста, а я ў Beauty.

Парадкаваліся, працавалі. Нічога асабліва цікавага. Званіла Алесі, каб дастала кніжкі ад Камкіна[1].

---

*[1] Віктар Камкін — кнігагандляр, канкурэнт фірмы «Чатыры кантынэнты». Мы з Камкіным мелі больш дачыненьняў, бо сам Камкін, састарыўшыся, прадаў бізнэс беларусу Забаўскаму, родам са Слоніму.*

**Нядзеля 15 чэрвеня**

Дома сёньня. Нідзе ня езьдзілі.

Пад вечар прыехаў Дутка. Прывёз рэшту кніжак, газэтаў, часопісаў. Пасядзелі трохі, пагаварылі. Ён расказваў трохі пра сябе, як вучыўся ў Мюнхэне на лясным факультэце. Шкадуе, што не застаўся там працаваць.

**Панядзелак 16 чэрвеня**

Нешта сталася з Францам[1] — натрудзіў сьпіну. У радыё нікога няма, не змаглі знайсьці «Новы Шлях» — мне было патрэбна перагледзець.

Купіла Вітаўту тэчку.

---

[1] *Франц — мянушка Янкі Запрудніка.*

**Аўторак 17 чэрвеня**

Прыходзіў Тумаш. Гаварылі найбольш пра Статут[1]. Зрабілі колькі копіяў з артыкулаў і кнігаў пра статут — і для Плескача й для сябе. Тумаш даў яшчэ адну выпіску кніжкі з каталёгу Камкіна — пра Скарыну.

---

[1] *Пра падрыхтоўку да канфэрэнцыі «Угодкі Статуту ВКЛ».*

**Серада 18 чэрвеня**

Нічога не прыпамінаю.

**Чацьвер 19 чэрвеня**

Раніцай спаткалася з жонкай Валерыя[1] (Віхор). Яна перадала мне фатаграфію В. для рэклямы.

Укінула ліст з малюнкамі для Кліўленду.

У абед забрала акуляры. Купіла валізку сабе.

Вітаўт прыехаў на машыне.

Вечарам паехалі на канфэрэнцыю у Queens College пра Беларускіх іншадумцаў[2].

Вітаўт вельмі добра замяніў Запр[*удніка*]. Выступаў таксама й Адам А[*куліч*]. Ён вельмі цікавы. Нічога перад гэтым дакладна ня ведаў пра іншадумцаў — Вітаўт яму збольшага расказаў. А як прыйшлося выступаць, дык ён так упэўнена, так сьмела, так з аўтарытэтам гаварыў, што проста дзіва. Ён здольны й разумны.

Агулам канфэрэнцыя прайшла ўдала. Трохі было й людзей, але ўсё свае. [*Tom*] Bird прынёс і пачастунак. Людзі ўсё не разыходзіліся, гаварылі. Васіль Р[*усак*] расказаў пра іхную «пільгрымку» ў Кліўленд да мітрапаліта[3]. Яго думка, што мітр. ведаў пра ўсё і што рабілася ўсё зь ягонай згодай. Не спадзяецца, што што[сь] з гэтага выйдзе. Але суд тым часам устрымаецца.

---

[1] *Валерыя Новака, кіраўніка ансамблю «Віхор».*

[2] *Арганізаваў прафэсар Том Бэрд.*

[3] *Васіль Русак прыклаў найбольш высілкаў, каб неяк залагодзіць канфлікт. Аднак другі бок быў вельмі ўпорысты, і справа пайшла ў суд.*

**Пятніца 20 чэрвеня**

Званілі Ірэне, каб рабіла вокладку бо art-work са старой вокладкі не знайшлі[1]. Ці то ў друкара прапала, ці (як кажа Crowley) у нас дзесь завалілася. Але не знайшлі. Прыйдзецца ёй рабіць нанава.

Прыходзіў Тумаш. Гаварылі пра Статут. Ён знайшоў у нашым новым каталёгу ангельскі пераклад першага статуту[2].

---

[1] *Ірэна думала скарыстаць нешта са старых чарцяжоў. Але яны, відаць, загубіліся.*

[2] *Статут быў перакладзены ў ангельскую мову Карлам фон Лёўэ (Karl von Loewe) і выдрукаваны ў Ляйдэне ў выдавецтве «Brill» у 1976 годзе,*

**Субота 21 чэрвеня**

Вітаўт працуе. Я задумала зрабіць сама макаўку. Мак ужо даўно куплены стаяў у лядоўцы. Выйшла добра. Хутка справілася.

Схадзіла зрабіць валасы. Нікуды ўжо пазьней не хадзіла.

**Нядзеля 22 чэрвеня**

Зрана пасьнедалі й паехалі ў царкву. Служба ўжо канчалася, як мы прыехалі. Пасьля службы аддала ўсё, што мела аддаць: Міцкевічу — лісты; Курылу — выразку з часопісу; Русаку — ліст-пасланьне «бел. епіскапаў». (Забылася яму прынесьці даведнік пра грэцкія цэрквы).

Чакалі доўга пакуль прыехалі з Нью Бранс[*уіку*]. Зборку БАЗА пачалі дзесь па 12-ай. Усё прайшло добра. Рая нават была спакойная. Праўда, пад самы канец заелася з Шук[*елойцем*] за моладзь. Але тут Шук[*елойць*] быў сам не зусім на мейсцы. Пачаў гаварыць, што трэба прыцягнуць Юрку (нашага) да арганізацыі БАЗА. Зачапіў Ю. Азарку. Рая стала, як заўсёды, заступацца й апраўдваць яго. Адным словам, выйшла трохі нясмачна.

Паехалі да Панькова. Доўга не маглі да яго дастукацца. Ужо думалі кінуць і ехаць дахаты, але зазванілі па тэлефоне й дабіліся — ён быў наверсе й ня чуў нашага стуканьня. У яго Вітаўт знайшоў шмат інфармацыі для сябе, для артыкулу пра беларускі друк. [redacted] дык больш мучылася ад кацінага паху[1]. Аддала яму адбітак 1-га нумару Пагоні. Ён ня быў надта «ўзрушаны». Мы ўсё думаем, што людзі цікавяцца беларускімі справамі, як і мы.

Я радая была, як ужо селі ў машыну ехаць дахаты.

Зрабілі смажаніну на двары. Юрачка працаваў да 7-ай. Пагода была вельмі прыемная.

Званілі Калошу вечарам. Расказала пра зборку. Ён вельмі незадаволены, што Стась [*Станкевіч*] хоча выступаць [*на Сустрэчы*].

---

[1] *У Міколы Панькова жонка любіла катоў. У хаце жыло штук дзесяць.*

**Панядзелак 23 чэрвеня**

Прыехаў Адамовіч зь Лёндану. Адамовіч заўважыў фэльетоны Салаўя, падпісаныя Бандысь Свой. Я так і думала, што ён не праміне. Я даўно іх ужо бачыла. Гэта амаль пэўныя, што яго, але яны такія нецікавыя й, нават, кампрамітовыя, што іх устаўляць было-б несым-

патычна, несправядліва. Як пераканаць у гэтым Адамовіча? Тумаш таксама такой думкі, што ўстаўляць іх ня варта.

Адамовіч папрасіў знайсьці яму артыкул пра Аляхновіча. Расказваў пра сваю паездку, пра [*Алеся*] Барскага. Кажа, што той больш у яго распытваў пра ўсё, чымся сам расказваў. Ён піша пра Аляхновіча. Прывёз адбітак 2-га нумару «Пагоні».

Я паехала дахаты сама з новай плятформы — жах[1].

Вечарам Вітаўт пайшоў на зборку «Decolonization of the USSR»[2].

[1] *На аўтобусным вакзале пачалася перабудова. Плятформы рэйсаў аўтобусаў мяняліся амаль кожны тыдзень. Патрабавалася цярплівасьць.*

[2] *Зборка праходзіла ў памешканьні ўнівэрсытэту ў Нью Ёрку. Рыхтаваліся ўручыць усім дэлегацыям ААН мэмарандум аб каляніяльным стане рэспублік СССР.*

**Аўторак 24 чэрвеня**

Званіў Стась [*Станкевіч*]. Хоча прыйсьці ў бібліятэку — працаваць над Купалам.

Прыходзіў Тумаш. Паказала яму вершы-фэльетоны Салаўя (Бандысь Свой). Ён зусім пераканаўся, што іх няможна ні друкаваць, ні ў бібліяграфію ўстаўляць. Адамовіча я таксама пераканала аргумэнтам, што бальшавікі могуць выкарыстаць і крытыкаваць.

Схадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Рашылі разаслаць пратакол з паседжаньня БАЗА. І ён званіў да Калошы. Шук[*елойць*] давёў мяне пад аўтобус.

Вітаўт працуе.

**Серада 25 чэрвеня**

Прыходзіў Стась Ст[*анкевіч*] у бібліятэку. Вітаўт яму шмат дапамог з матар'яламі[1].

Занесла Ад[*амовічу*] матар'ял пра [*Францішка*] Аляхновіча. Добры артыкул і нэкралёг.

Ад[*амовіч*] даў мне свой артыкул [*пра Салаўя*] (працяг).

[1] *Пісаў артыкул пра Купалу.*

**Чацьвер 26 чэрвеня**

Прывіталі Ад[*амовіча*] з днём народзінаў. Ён быў вельмі зьдзіўлены (сам забыўся), але задаволены. Купілі яму кубак з напісам «Teacher».

Званілі Алюньці [*Рамана*]. У Newark яны выступаць ня будуць[1]. Практыкаваньні ў пятніцу будуць.

Я скончыла бібліяграфію (нарэшце!).

[1] *Гурток «Васілёк» быў запрошаны выступаць у горадзе Ньюарк з нагоды 4 ліпеня — Дня Незалежнасьці ЗША, але ўсе танцоры не маглі сабрацца ў той дзень. Ад удзелу адмовіліся. Ад беларусаў выступаў музычны ансамбаль «Віхор».*

**Пятніца 27 чэрвеня**

Рана званіла Надзя. Пыталася пра працу Юраву[1]. Раіла яшчэ раз паехаць, пагаварыць. Там нібы ёсьць яшчэ працы.

Званіла Алеся. Ёй усё звоніць з Captive Nations[2].

Прыходзіла ў бібліятэку жанчына з Фільмовай кампаніі, што будзе рабіць фільм пра этнічныя групы ў N[*ew*] J[*ersey*]. Пайшлі зь ёй на сьнеданьне. Я ёй паабяцала зрабіць сьпіс цікавых мясцовасьцяў і арганізацыяў.

Паехалі з М. В. на фарму. Ехалася добра. У машыне было прыемна [*бо кандыцыянавана*]. Прыехалі як у баню — сыра [redacted] горача. Павячэралі й спаць.Трохі стаміліся.

---

[1] *Надзя Кудасава працавала ў біялягічнай лябараторыі ў Ратгерскім унівэрсытэце. Дапамагала Юру знайсьці працу.*

[2] *Алеся прадстаўляла БАЗА ў Вашынгтоне. Арганізацыя Паняволеных Народаў прыцягвала БАЗА да ўдзелу ў сваёй дзейнасьці. Трэба было дапамагаць.*

**Субота 28 чэрвеня**

Раніцай зьезьдзілі ў банк і па пакупкі. Горача. Па дарозе назад купілі лікёру для торту.

Прыехалі дахаты й вырашылі, што варта паехаць па ягады адразу-ж. Паехалі да Калодкі[1]. Яны ня былі вельмі ветлыя, але ягадназьбіралі (дарагія ў гэтым годзе 40 ¢ за маленькую баначку). Стаміліся трохі — горача. Дзень неяк прайшоў у беганіне.

Вечарам паехалі купілі віна ў Gross Winery. Заехалі па марожанае. Зрабілі галубцы на заўтра, дахаты.

---

[1] *Калодка — беларус, стары эмігрант, уласьнік ягаднай фэрмы.*

**Нядзеля 29 чэрвеня**

Завезла маму ў царкву. Ды паехала сабраць ягады. Хоць ноччу йшоў дождж, але цяпер ужо можна зьбіраць. Ягады лепшыя, чымся ў Калодкі. Я сабрала цэлую банку (праўда было вельмі горача-парна).

Мама рабіла торцік. Я сабрала трохі маліны на торцік. Пазьней сабралі й для дому.

Рашыла доўга не затрымлівацца, паехала хутка пасьля 2-ой. Ехалася добра. Дома ўжо Вітаўт мяне чакаў. Распакаваліся. Паелі галубцоў, ягадаў.

Вечар прайшоў прыемна. Пахаладала.

**Панядзелак 30 чэрвеня**

Адамовіч папрасіў прынесьці яму «Голас Вёскі» й «Бел. Газэту». Мусіць, знойдзе вершы «Алеся Вясноўвага».

Прыехаў Белямук, прыходзіў у бібліятэку. Вітаўт запрасіў яго да нас, зразумела. (Ён быў затрымаўся ў Нью Ёрку). Я трохі крыўдавала на Вітаўта і, здаецца, дала зразумець, што я не надта хацела-б, каб ён прыязджаў да нас у аўторак.

Хадзіла ў радыё. Адамовіч (вершы, зразумела, знайшоў) лічыць, што вершы Вясновага, без сумліву, Салаўя, трэба яшчэ ўставіць. Ён і мейсца ім вымеркаваў. Прыйдзецца яшчэ перарабляць і бібліяграфію й індэкс і зьмест, не гаворачы ўжо пра самы тэкст. Абмеркавалі з Шук[*елойцем*] пратакол [*паседжаньня Галоўнай Управы БАЗА*].

Вечарам дадала вершы да бібліяграфіі.

**Аўторак 1 ліпеня**

Дзень народзінаў.

Дзень прайшоў спакойна. Вітаўт мяне раніцай прывітаў. Купіў мне нейкі абразок — Brooklin Bridge[1]. Юра купіў лямпу.

Вечарам пайшлі на вячэру. Алеся заказала прыгожы букет кветкаў па тэлефону. Вельмі прыемна. Юраў падарунак перадала Вітаўту, на яго стол якраз добра. А сабе нешта куплю.

Зьелі торт. Вельмі смачны.

Вечарам, як прыйшлі з вячэры, яшчэ надрукавала пратакол [*паседжаньня Галоўнай Управы БАЗА*]. Юра пайшоў на дзяжурства ці некуды. Мы зь Вітаўтам трохі выпілі віна — вэрмуту. Віна, што я прывезла — не хацелася, неяк трохі балеў жывот.

Ага, Белямук сказаў, што прыедзе да нас заўтра. Ну, вось і добра.

---

*[1] Бруклінскі мост. Мастак маляваў абразок там жа каля мосту.*

**Серада 2 ліпеня**

Зрабіла адбіткі пратаколу БАЗА й выслала Калошу й Карніловічу. Аддала Шук[*елойцю*] частку пратаколаў для разсылкі (падзяліліся — я частку й ён частку).

Здала Тумашу бібліяграфію. Тумаш падараваў мне пераклад «Сьвіцязянкі» Міцкевіча.

Званілі ў Бэльгійскі кансулят. Трэба напісаць ліст да іх. Вітаўт зробіць.

Вечарам яшчэ парадкавалася, варыла, пякла блінчыкі.

Вітаўт прывёз Белямука. Папілі гарбаты, гаварылі. Заседзеліся даволі позна. Белямук страшэнны гаварун. У яго шмат ведаў, але раскінутыя. Ён мне падарыў срэбную мэдаль Ніксана.

**Чацьвер 3 ліпеня**

Ехалі разам з Белямуком у Нью Ёрк. Параілі яму заехаць у 4 Continents сяньня. Ён зьбіраўся ехаць туды ў суботу. І добра, што так параілі й ён паслухаў, бо ў суботу, ну й, зразумела, у пятніцу, July 4th, яны будуць зачыненыя. Папрасіла там паглядзець Юхо «Правовое положение». Ня было, але яны, нібы, выпісалі, і будзе.

Дзень так прайшоў у беганіне. Вечар таксама. Як у хаце чалавек — дык няма адпружаньня.

Павячэралі. Сядзелі, гаварылі. Белямук расказаў пра Грынкевічыху, яе прыгоды з мужчынамі й перад і пасьля сьмерці Грынкевіча[1].

Мы нічога гэтага ня ведалі. Неяк і прыямней, як такіх рэчаў ня ведаеш і не чуеш. Ва ўсякім грамадстве ёсьць распуста. Мы, беларусы, не выключэньне.

---

[1] *Кацярына Грынкевіч — жонка памерлага д-ра Станіслава Грынкевіча. Адзін час яны, Грынкевічы, жылі ў Філядэльфіі, дык былі частымі гасьцямі на фэрме ў бацькоў.*

### Пятніца 4 ліпеня

Раніцай прыемна пасьнедалі. Я вырашыла, што дачакаюся, пакуль паедзе Белямук (ён сёньня выязджае), і тады ўжо паеду на фарму. Пагода добрая — памыла бялізну, бо ўжо сабралася шмат. Вітаўт і Белямук пайшлі на двор, нешта там скрабуць і фарбуюць (стол пікніковы). Бялізна тым часам і высахла. Я нават папрасавала Віт. кашулі. Прыязджаў Рыжы[1]. Просіць Віт., каб памог выпісаць жонку з Польшчы.

Белямук паехаў. Сабралася й я й паехала.

Вітаўт пазьней паедзе ў Ньюарк на адчыненьне этнічнага фэстывалю[2].

Ехалася добра. Але прыехала ўжо каля 4-ай. Цэлы дзень амаль прайшоў у валакіце. Мама, як заўсёды, зь ядой забегала, пачала нэрвавацца, нават успыліла (зусім непатрэбна).

Але ўсё наладзілася. Зьезьдзілі да Нядзьвігаў. Набралі там шмат усяго: рыбы, яйкаў, парэчкаў. Было сымпатычна. Я хутка пайшла й адпачываць. Неяк стамілася — цэлы дзень у занятку.

---

[1] *Эмігідыюш Рыжы нядаўна перад тым прыехаў з Польшчы. Брат Уладзюка Рыжага, зь якім я нейкі час жыў разам у студэнцкім доме ў Бэльгіі. Былі блізка знаёмыя й працавалі ў Саюзе Беларусаў у Бэльгіі.*

[2] *Фэстываль з нагоды Дня Незалежнасьці. Удзельнічалі й беларусы.*

### Субота 5 ліпеня

Раніцай зьезьдзілі па пакупкі. Тады па ягады. Было вельмі горача, не сымпатычна. Нейкі «цівун» накіраваў нас туды, дзе ягады былі дробненькія, мала. Сталіліся, й не атрымалі прыемнасьці.

У мамы ўжо й агуркі й пару памідораў. Малінаў ужо мала.

На мора не паехалі — неяк ня было настрою. Трохі пасядзела на двары, пачытала.

### Нядзеля 6 ліпеня

Завезла маму ў царкву. Праехала праведаць пра ягады. Знайшла мейсца, дзе ёсьць ягады, й можна зьбіраць і таннейшыя (35 ¢). Як прывезла маму з царквы, то й паехалі. Пагода стаіць цудоўная. Ясна, суха, вецярок. Проста выняткова прыгожа. Зьбіралі ягады зь вялікай прыемнасьцю.

Як прыехалі дахаты, то ўжо памалу й пачалі зьбірацца дахаты ў Рутэрфорд. Шмат чаго было пакаваць: і ад мамы, й ад Нядзьвігаў (зрабіў ён мне й столік — добра), і ягады й вазон. Але спакаваліся й каля

2-ой паехалі. Быў трохі трафік. Заехалі па газаліну — шмат часу згубілі, стоячы ў чарзе. Разбалелася галава. Зайшла яшчэ на каву, каб было чым запіць пігулкі.

Прыехалі ўжо па 5-ай. Павячэралі. Усе былі дома. Адразу навалілiся на ягады.

Памыла яшчэ свае рэчы. Надвор'е цудоўнае.

**Панядзелак 7 ліпеня**

Дала Адамовічу бібліяграфію. Ён адразу заўважыў памылку: напісала Вясёлка замiж Вясновы. Добра, што ён яшчэ пераглядзіць. Быў там і Шук[*елойць*]. Нешта ён камбінуе з Станкевічам. Сказала яму, каб перадаў Раі пратакол [*паседжаньня БАЗА*]. [*Зіна*] Кадняк прыслала яшчэ колькі паправак, дадаткаў. Камплікацыя.

Вечарам званіла Рая — каб Юрка напісаў хроніку ў «Моладзь». Казала, што з Алесяй ужо гаварыла. Распытвалася пра Вашынгтон. Я сказала, што мы Вашынгтон абслужым самі.

Прыходзіў да Вітаўта Perreira[1]. Гаварылі пра Ethnic Festival у Newark. Ён задаволены «Віхорам».

---

[1] *Пэрэйра — прадстаўнік партугальцаў, якіх у Ньюарку тысячаў трыста. Жывуць пераважна ў раёне Ironbound.*

**Аўторак 8 ліпеня**

Адамовіч паправіў «бібліяграфію», знайшоў яшчэ трохі памылак, зрабіў колькі зьменаў. Ён цяпер будзе спэкуляваць гэтым, што патраціў час на праўленьне.

Аддалі Тумашу кніжку пра Скарыну, што Алеся купіла ў Камкіна. Ён вельмі задаволены, што хоць адну ўдалося захапіць. Калі дастане сабе дзесь — нам нашую аддасьць.

Гаварылі пра «Статут» найбольш. Вітаўт робіць шмат адбіткаў і пасылае Плескачу, дае Данілюку[1]. Адным словам, справа рухаецца.

Вечарам зрабілі Bar-B-Q.

Паехалі глядзець машыну. Нагледзілі Citation. Юра ніяк не паддаўся, каб купіць аўтаматычную. Замовілі адну з 2-ма дзьверкамі, на 4-ы хуткасьці, чырвонага колеру — за ягоную старую далі $700. Калі нам трэба будзе карыстацца — прыйдзецца вучыцца, як кіраваць. Гэта трохі крыўдна. Але ён быў вельмі станоўчы (а можа проста ўпарты), каб купляць не аўтаматычную. Эканомія!

Званілі Алесі. Юра зьбіраецца да яе ў чацьвер.

---

[1] *І Васіль Пляскач і Барыс Данілюк удзельнічалі ў канфэрэнцыі, прысьвечанай Статуту ВКЛ і рабілі даклады.*

**Серада 9 ліпеня**

Паглядзелі цану на Юраву старую машыну (каля $1500 паводле каталёгу). Юра яшчэ паходзіць, прыцэніцца ў розных мейсцах.

Адамовіч яшчэ ўсё правіць. Цяпер у яго новае — калі пачаў выдавацца «Новы Шлях».

Вечарам пачала рабіць для Фільмовай Кампаніі выпіскі з «Directory»[1].

Званіла Patricia Grimstead[2]. Атрымала адбіткі свайго артыкулу для карэкты. Вітаўт ад яе даведаўся тэлефон Von Loewe[3], ён, неспадзявана зусім, жыве ў New Brunswick.

Адразу-ж зазваніў да яго. Навязалі кантакт. Ён згадзіўся (амаль) напісаць штось для Symposium пра Статут. Гэтаксама празь яго Вітаўт даведаўся, што Theresa Alt у Itaca[4]. Аднак да яе не дабіўся.

Perreira прывёз чэк для Новака[5]. Званіла маме. Званіў Калоша.

---

[1] *Зора апрацавала гэты даведнік у 1978 годзе.*

[2] *Патрыцыя Грымстэд спэцыялізуецца на архівах СССР. Публікавалася ў «Запісах». Мы зь ёй у добрых дачыненьнях.*

[3] *Перакладчык Статуту ВКЛ у ангельскую мову. Супрацоўніцтва зь ім не наладзілася. Ён адышоў ад навуковай працы.*

[4] *Тэрэза Альт — прафэсар, вывучала беларускую мову часоў ВКЛ. Мы зь ёй трымалі блізкі кантакт.*

[5] *За ўдзел у фэстывалі 4 ліпеня.*

**Чацьвер 10 ліпеня**

Спаткалася раніцай з жонкай Новака. Перадала ёй чэк і кніжку нотаў Куліковіча. Адзначыла цікавейшыя мэлёдыі.

Вітаўт знайшоў Th. Alt. Яна з прыемнасьцю згадзілася прыняць удзел у Symposyum. Будзе гаварыць пра мову Статуту. Ну, й цудоўна!

Рабіла адбіткі з Directory для фільму. Званілі Ірэне. Дамовіліся, што я завязу кніжку Арсеньневай Надзі [*Кудасавай*].

Пасьля вячэры паехалі купляць Юру машыну. Узяў ён тую, што й нагледзеў. Запісалі на імя Вітаўта. Мне здаецца, Юрачку гэта трохі пакрыўдзіла. Але ён разумее, што да 25-ці гадоў выгадней з іншурансам[1]. Вось як усё гэта проста. Раз, два й гатова. Машына будзе гатовая ў аўторак.

Юра паехаў да Алесі.

Званіла Надзі. Дамовілася на заўтра. Рабіла даведнічак для фільмовай кампаніі.

---

[1] *Страхоўкай (insurance).*

**Пятніца 11 ліпеня**

Сяньня дзень вельмі заняты, беганіна. Раніцай схадзіла ў банк, палажыла грошы на Checking[1]. Пазваніла да Фільм. кампаніі. Яе ня было.

Вітаўт зраньня паехаў на паседжаньне у Jersey City пра Ethnic Festival. Прыехаў на работу з машынай.

Прыходзіў Данілюк — перадалі яму адбіткі артыкула Von Loewe пра вайсковыя справы ў В.К.Л. Ён паважна заняўся працай.

Прыходзіў Тумаш. Пасядзелі, пагаварылі. Усё пераважна пра Статут. Ён бядуе, што каб было на узроўні, што не спэцыялістыя ўзяліся за ўсё гэта.

Сазванілася нарэшце з Andrea[2] (фільм). Дамовіліся спаткацца зь ёй а 4:15. Чуць не забылася. Пакуль гаварыла зь ёй — прапусьціла Devor'a. І не разьвіталася зь ім, і не сказала нічога пра чэк, і, нават, ня выпаўніла формачку для вакацыяў. Зусім забегалася. Папрасіла Ruth перадаць яму[3].

Добра, што хоць машына ёсьць, дык дахаты едучы трохі ачунялі.

Але, павячэраўшы, мне так не захацелася ехаць. Проста было страшна падумаць сесьці за руль. Вырашыла ня ехаць. Пазваніла Надзі, што не прыеду, — каб пазычыла Ірэне сваю кнігу. Пазваніла маме, што не прыеду. І трохі распружылася.

---

[1] *Бягучы рахунак.*
[2] *Асоба адказная за здымку фільму.*
[3] *Дэвор — начальнік аддзелу каталягізацыі, сп-ня Рут — калега каталягізатар.*

**Субота 12 ліпеня**

Раніцай пасьнедалі. [redacted] яшчэ трохі капалася. Выехала ўжо каля 11-ай. Ехалася вельмі блага. Трафік. Асабліва пачынаючы ад Parkway.

Паабедалі й паехалі зрабіць пакупкі. Заехалі на марожанае. Вечарам трохі чытала, трохі глядзела T.V. Нічога цікавага.

Пазваніў Вітаўт. У Алесі ўкралі з машыны радыё. А так усё добра. Заказала яна ўжо білет на Кліўленд. Юра О.К.

**Нядзеля 13 ліпеня**

Завезла маму рана ў царкву.

Паехалі на ягады. Сабралі толькі адну баначку. Неяк было й горача, і ягадаў было мала. Ня мелі вялікай прыемнасьці.

Дзень так і прайшоў лянівы, нецікава. Усё толькі й ела й спала. Прыходзіла Helen[1].

Я нагледзела, паставіла радыё на WABC[2]. Буду вечарам слухаць Вітаўта.

Пазваніў Вітаўт. Добра, што сказаў, што пачнецца а 11:30 — я думала 11.

Юра прыехаў у суботу цягніком. Дзяўчаты засталіся глядзець кватэру.

Стала слухаць радыё. Вітаўт напачатку гаварыў мала. Пасьля трохі часьцей і часьцей устаўляў слова. Акцэнт зусім прылічны. Але ня было яму поля разгарнуцца. Іншыя панэлісты былі больш кампэтэнтныя, аўтарытэтныя, гаваркія. Але сям-там і беларускае ўставіў. Нават і іншыя пачалі ўжо ўжываць «беларускі», як прыклад. Слухала аж да канца да 2:30. Пасьля яшчэ трохі пачытала, бо была выбілася са сну.

---

[1] *Суседка Апалёніі.*

*[2] Радыё ў Філядэльфіі. Са мной было інтэрвію як са старшынём Этнічнае Рады штату Нью Джэрзі. Удала сказаў і пра беларусаў.*

**Панядзелак 14 ліпеня**

Раніцай паехалі ў ягады да Cannon[1]. Было вельмі шмат людзей, а мала ягад. Горача, парна. Не сабралі 2-ух банкаў.

Прыехалі дахаты, аж на двары ўжо чакаюць двух нэгрыцятаў. Прыйшлі (фактычна былі прысланыя) касіць. Мама імі занялася, а [redacted] памылася й паехала ў банк. Хацела заказаць валасы на пятніцу, але ў Памоне няма, а ў Egg Harbor[2] зачынена. Купіла маме вазон — перасадзіць grapefruit.

Паабедалі. Цяпер я сяджу на двары й парадкую дзёньнік. Нічога цікавага. Неяк гэтыя канікулы, мусіць, марна прападуць. Але гэта ўжо нядобра. Наперад настаўляцца, што будзе марна.

Я сабой трохі незадаволеная. Па-першае — я зноў здорава прыбавіла [*ў вазе*]. Па-другое, нешта ў мяне са Статутам ня рухаецца. Нейкая невытлумачальная неахвота. Можа, [redacted] вычуваю, што й Вітаўт і Тумаш не зусім вераць, што добра выйдзе. Можа, [redacted] сама, падсьведама, вычуваю, што не патраплю. Можа, уся гэтая зацея з Алесяй мяне вывела з раўнавагі. Адным словам, неяк ня хочацца мне за Статут брацца[3].

---

*[1] Суседзкая гаспадарка.*

*[2] Памона, Эг Харбар — мястэчкі побач з фэрмай, дзе жыла Зорына мама Апалёнія Савёнак.*

*[3] Зора дамовілася з Алесяй разам распрацаваць тэму на канфэрэнцыю аб Статуце ВКЛ: «Жанчына і жаночыя справы ў Статуце ВКЛ».*

**Аўторак 15 ліпеня**

Раніцай паехалі зноў у ягады. Было ўжо ж зусім інакш як учора. Прыемна — шмат ягад, а людзей мала. Былі ў другім мейсцы. Хатка назьбіралі. Выйшаў у мяне канфуз з грашыма. Я думала, што згубіла $20. Але ўсё ў парадку. Знайшла. Адвязла маму дахаты. Выпіла кавы й паехала яшчэ адну банку набраць. Вельмі-ж было прыемна. Прыехала, памылася, паелі трохі. Хутка й пачала зьбірацца дахаты. Усё роўна ўжо не адпачываецца, калі ведаеш, што трэба ехаць.

Ехалася добра. Не агледзелася, як ужо й дома. У хаце ня было надта горача. Спарадкавалася. Падагрэла галубцы. Зварыла трохі персікаў — тыя, што трохі пачалі псавацца. Павячэралі добра. Адпачывалі.

Я стала шукаць вершы Салаўя у газэтах, якія Вітаўт знайшоў пад ложкам у Guest Room[1]. Знайшла верш «Змагаром айчыны». Спачатку рашылі былі Адамовічу не паказваць, але пазьней усё-ж зьмянілі думку — трэба паказаць — можа, неяк дзесь, штось зробіць.

---

*[1] Газэты тыя былі адкладзеныя адразу як магчымыя крыніцы, дзе друкаваліся вершы Салаўя. Як кажуць, «знайшлі тапор пад лавай».*

## Серада 16 ліпеня

Вітаўт паехаў на працу. Павёз Адамовічу верш. Ён рашыў верш уставіць. Зноў перарабляць.

Я цэлы дзень парадкавалася. Зьбірала матар'ял для выстаўкі. Памыла тое-сёе.

Юрачка паехаў на interview у Plainfield. Пазваніў, што затрымаецца. Выглядае, што яго возьмуць на працу.

Прыехаў Юра а 4-ай. Працу атрымаў, будуць яму плаціць $12000. Выкладаць Science ў Junior High[1].

Вельмі горача. Юра ўставіў Air-Cond. у T.V. Room. Трохі адышла. У бібліятэцы THI[2], але Вітаўт мусіць застацца да 6-ай.

Павячэралі й адпачывалі. Я сядзела увесь час у халодным пакоі. Нават спаць засталася на канапе.

---

*[1] Юра, скончыўшы навукова-прыродаведны факультэт Ратгерскага ўнівэрсытэту, пачынаў сваю працоўную кар'еру як настаўнік.*

*[2] THI — Temperature/Humidity Index, паказьнік тэмпэратуры/вільготнасьці. Калі гэты паказьнік дасягае 90, гэта азначае, што ўмовы для працы ненармальныя. Каля 75% супрацоўнікаў бібліятэкі могуць ісьці дахаты. Тыя, хто застаецца, маюць права пазьней узяць свае «THI-гадзіны», мець выходны дзень. THI-гадзіны можна было зьбіраць. Зора, калі быў THI, ішла дахаты, я — заставаўся. Гэтая сыстэма была скасаваная ў канцы 1980-х, калі ўсе памешканьні ў бібліятэцы былі кандыцыянаваныя.*

## Чацьвер 17 ліпеня

Пасьнедалі трохі, што было ў хаце. Вітаўт яшчэ мусіў паехаць у New York. Зрабіў там яшчэ трохі брашурак[1].

Я соўгалася па хаце. Сабралася. Нават усё пазносіла ў машыну. Вітаўт прыехаў пасьля 2-ой. Але мы вырашылі пачакаць ужо да 5-ай, заехаць да Русакоў, да Надзі і адтуль ужо на фарму.

Юрачка цэлы дзень вучыцца езьдзіць на сваёй новай машыне.

У Русакоў было даволі прыемна. Я гаварыла з Галінай, прыйшла Надзя. Пасьля, як прыйшоў Васіль, Вітаўт зь ім глядзеў часопісы, а мы з Галінай аб усім перагаварылі. Яна расказвала пра Люду[2]. Казала, што Ірэна заручылася з Урыўскім[3]. Надзя нічога пра гэта не казала. Перадала кніжкі для Ірэны. Русакі зьбіраюцца ў Канаду на колькі дзён на вакацыі. Пасядзелі, пагаварылі, выпілі кавы й паехалі да мамы.

Прыехалі ужо даволі позна. Вітаўт яшчэ паеў, а я нічога ня ела, бо вельмі неяк балеў мне жывот (ня так як заўсёды: рэзаў у ніжэйшай частцы й вельмі пушыла). Паглядзелі яшчэ навіны й пайшлі спаць.

---

*[1] Праграмкі канфэрэнцыі пра Статут ВКЛ.*

*[2] Старэйшая дачка Русакоў.*

*[3] Мікалай Урыўскі — малады беларус, актывіст у Саўт Рывэры.*

**Пятніца 18 ліпеня**

Раніцай пайшлі зь Вітаўтам у ягады. Ягадаў неяк слаба. Горача, росна. Ня было вялікай прыемнасьці, але банку сабралі для Алесі. Мама напякла коржыкаў для Алесі.

Вітаўт разглядаў папіны газэты, часопісы. Я сядзела, чытала. На двары стала прыямней, сушэй.

Пасьля 3-яй паехала ў Egg Harbor зрабіць валасы. Выйшла нядрэнна.

Сабралі памідоры, агуркі.

Мне зноў пачаў балець жывот. Хутка пайшлі адпачываць. Дзень прайшоў прыемна, каб толькі не жывот.

**Субота 19 ліпеня**

Усталі рана. Хуценька сабраліся й паехалі ў Washington[1]. Ехаць было вельмі дрэнна — страшэнны туман быў, покуль трохі не пачало сьвітаць. Пасьлей разышлося, й было вельмі памысна. Трафіку ня было. Не хваляваліся, не нэрваваліся. Даехалі якраз у час. Заехалі да Алесі, пераадзеліся, выпілі кавы й паехалі на выстаўку. Хутка там уладкаваліся. Выйшла няблага, мейсца добрае было. У залі прахладна. На двары — страшэнна. Па абедзе прыйшла Сп-ня Кіт[2]. Пагаварылі. Мне прыйшла думка яе папрасіць пастаяць каля выстаўкі, а самі паехалі ў бібліятэку.

Там было вельмі памысна. Знайшлі кніжку для Тумаша пра Скарыну, хутка яе атрымалі, зрабілі адбітак. Яшчэ нават заехалі да Алесі ў хату, узяць камэру (я была забылася ў валізцы). Прыехала й Алеся (яна была недзе на тэнісным турніры). Яна й Сп-ня Кіт пастаялі каля выстаўкі. Добра што іншыя людзі ўцягваюцца.

Канец дня прайшоў добра. Наша выстаўка была адна з найбольш удалых, цікавых. Другія шмат выстаўлялі на продаж, менш на паказ. Паехалі да Алесі, пераадзеліся й паехалі на вячэру, недзе ў Вірджынію, на рыбныя стравы («all you can eat»). Добра было — смачна, спакойна, прыемна. Толькі Алесі разбалелася галава. Пагаварылі пра Статут. Прыехалі дахаты, яна чуць да канапы дабегла, лягла. Я ёй палажыла халодную анучачку на галаву. Трохі адышла. Прыйшлі дзяўчаты да яе ў пакой[3]. Сядзелі, гаварылі пра ўсякія глупствы. Вітаўт у другой частцы ляжаў і драмаў. Пайшлі спаць рана. Дзень прайшоў удала й памысна.

(Пасьля апошняга запісу шмат сталася не зусім прыемнага. Не запісвала доўга. Сяньня 29-га. Пастараюся устанавіць у памяці ўсё, што сталася.)

---

[1] *Там адзначаўся Тыдзень паняволеных народаў, і Алеся як прадстаўніца БАЗА была ў арганізацыйным камітэце.*

[2] *Ніна Кіт — першая жонка Барыса Кіта.*

[3] *Сяброўкі, зь якімі Алеся жыла. Тры дзяўчыны, усе скончылі Прынстанскі ўнівэрсытэт, усе паступілі на юрыдычны факультэт Джорджтаўнскага ўнівэрсытэту, здымалі цэлы дом.*

**Нядзеля 20 ліпеня**

Прачнуліся й пачалі зьбірацца ў царкву. Пагода стаіць гарачая. Параду ня будзе, мусіць[1]. Рашылі, што пасьля царквы, адразу-ж паедзем — каб Алесі не дакучаць.

Вітаўт пачаў выносіць ужо рэчы і... заўважыў, што багажнік быў прабаваны адкрыць; і быў адкрыты, і ўсе мае рэчы з выстаўкі ўкрадзеныя. Але пагалоўна ўсе, і лялькі, й дзяружкі, й ручнікі, й паскі, й шкатулкі, й абразкі з саломкі, й фігуркі з дрэва, з ільну, падушка вышываная, мамін кавалачак і, найбольш шкада, альбом з фатаграфіямі. І кошычкі, што Трусаў[2] рабіў. Адным словам — усё, што мела на гэтай выставе. Мы усе, зразумела, вельмі узрушыліся. Алеся паклікала паліцыю. Прыехалі, зрабілі апісаньне рэчаў, прыслалі дэтэктыва праверыць адбіткі пальцаў — нічога. Паліцэйскі гучаў абяцаюча — можа, што й знойдзецца.

Вітаўт паехаў у царкву. Я засталася чакаць дэтэктыва — не прыехаў. Яны сваё зрабілі й накрыліся. Добра, што яшчэ прыйшлі, рапорт зрабілі. Можа, што ад страхоўкі атрымаем.

Прыехаў Вітаўт з Мельяновічамі. Уваліліся ў хату 6-ёх. (у іх цяпер дзяўчаты[3]). Васіль запрасіў да сябе. Мне надта не хацелася ехаць, але каб хутчэй выбрацца ад Алесі, ■ згадзілася, й паехалі.

У іх[4], праўда, было прыемна. Трохі разьвеялася. Пасядзелі, паелі й паехалі да мамы. Па дарозе было добра. Неяк стараліся, каб адзін другога не растрайваць. Рашылі нікому пра прапажу рэчаў не гаварыць. Людзі альбо будуць зларадстваваць, альбо казаць — «вось варона» й больш нічога не дадуць нам на перахову.

Не казалі нават маме. Яна не падзяляе майго зацікаўленьня этнічнымі рэчмі. Будзе толькі праймацца дзеля мяне, дзеля прыкрасці.

Пераначавалі ў мамы.

[1] *Парад паняволеных народаў адменены з прычыны гарачыні.*
[2] *Трусаў — беларус з Францыі, які дасылаў нам кошыкі для выставак.*
[3] *Дочкі Васіля Мельяновіча.*
[4] *Мельяновічаў.*

**Панядзелак 21 ліпеня**

Раніцай паехалі (я й Вітаўт) у ягады, да Cannon. Было вельмі прыемна, добрыя ягады, людзей ня шмат. Была там і Тулейчыха. Сабралі добра, паехалі да мамы, але я рашыла вярнуцца яшчэ назьбіраць. Паехала са мной і мама.

Хутка назьбіралі. Хоць і горача была, але прыемна. Мама зрабіла нам галубцы. Сабралі памідоры, агуркі на гародзе. Вельмі-ж яны ўдалыя ў гэтым годзе.

Спакаваліся й паехалі дахаты. Ехалася добра. Прыехалі дахаты — горача. Юрачка працуе. Рашылі паехаць да яго ў басэйн. Трохі ахаладалі. Вітаўт мусіў зьбірацца на паседжаньне, дык доўга не бавіліся

каля вады. Павячэралі, й Вітаўт паехаў. Паседжаньне (Ethnic Council) ў Каміліі, у Rutherford.

**Аўторак 22 ліпеня**

Вітаўт паехаў у Нью Ёрк — спаткацца з Тумашам.

Я парадкавалася й злавалася, што час адпачынковы так марна праходзіць. Горача. Мы нават пасварыліся дзеля гэтага. Вітаўт прыйшоў дахаты з прапановай паехаць на фарму на колькі дзён. Вырашылі заўтра паехаць.

Званіла Надзя. Ірэна зрабіла вокладку [*для кнігі Салаўя*].

**Серада 23 ліпеня**

Раніцай было яшчэ сёе-тое залагодзіць, лісты напісаць, зрабіць копіі, але нарэшце выбраліся. Заехалі па дарозе ў бібліятэку, зрабілі копію лістоў, укінулі лісты на пошце. Заехалі да Van Winkel, наконта іншуранса[1]. Таго чалавека, што займаецца гэтым, ня было. Паехалі маленькімі дарогамі. Ехалася прыемна, нідзе не сьпяшаліся. Прыехалі да мамы каля 5-ай. Хуценька сабраліся й паехалі ў рыбу, на 9-тку[2]. Нічога не лавілася, нават ні разу ня клюнула. Пайшоў дождждык. Трохі пабылі там і паехалі дахаты. Павячэралі й адпачывалі.

---

[1] *Страхоўкі ў справе крадзяжу.*
[2] *Дарога № 9.*

**Чацьвер 24 ліпеня**

Раніцай зьезьдзілі ў магазын па прадукты. На двары горача. Сабраліся ды паехалі на мора. На моры было прыемна, толькі трохі ветрана — пясок увесь час у твар біў. Вада вельмі халодная — нават не акунуліся, толькі абліліся.

Паехалі у Mays Landing[1] на рыбу. Спачатку нічога не лавілася (мелі яшчэ чарвякі ад учарайшага). Я зьезьдзіла ў горад, купіла булачкаў і сталі лавіць на хлеб. Хутка рыбка па рыбцы пачала чапляцца. Заняліся мы ўжо ўдвух лаўленьнем на паплавок і нахапалі аж 41 рыбку (пасьля, як Вітаўт чысьціў, палічылі).

Прыехалі дахаты — ужо цёмна было. Але хуценька пачысьцілі. Мама смажыла. Я на стол накрыла, пасьля таго, як памылася. Як Вітаўт скончыў чысьціць — памыўся — была ўжо гатовая й рыба. Добра павячэралі. Было вельмі прыемна. Мама кажа: «Як у старыя часы».

---

[1] *Горад на поўдні штату.*

**Пятніца 25 ліпеня**

Раніцай паехалі ў ягады. Было прыемна, хутка справіліся. Пад'язджаючы пад хату, убачылі, што хлопцы чакаюць касіць траву. Мама занялася імі. А я вырашыла паехаць яшчэ набраць ягадаў — усё роўна не адпачывалі, як нехта чужы каля хаты. А быць нам дома трэба было, бо мелі з маміным доктарам дагавор на 2-ую гадзіну.

На ягадах пачула сірэну хуткай дапамогі, але нічога благога не падумала. Аж у хуткім часе падыходзіць да мяне Cannon і кажа, што хуткая дапамога паехала ў наш двор. Я хутчэй да хаты. Хлопцы мяне перанялі й сказалі, што маму завезьлі ў шпіталь. Аса ўкусіла![1] Вітаўт дома. Расказаў мне, што сталася, як ён паклікаў амбуланс; пазванілі ў паліцыю, даведацца ў якім шпіталі, я хуценька пераапранулася й паехала. Мама была ўжо пры памяці. (Была зусім згубіла прытомнасьць). З трубкамі ў носе і ў вене. Адным словам страшна й боязна. Але [redacted] хутка заўважыла, што ёй робіцца што раз лепей. Рабілі яны розныя тэсты. Усё выглядае ў парадку, але яна вельмі аслабла.

Рашылі пакінуць яе праз ноч у шпіталі. Мама спачатку ўсё хацела ехаць дахаты, але пасьля й яна зразумела, што ў шпіталі ёй будзе лепей пераспаць.

Пайшла я ад яе пасьля 4-ай. Вечар прайшоў неяк нявыразна. Хваляваліся трохі, але і былі спакойныя й удзячныя, што ўсё добра абышлося. Дзякаваць Богу!

---

[1] *Бабка Апалёнія мела алергію на ўкусы восаў.*

**Субота 26 ліпеня**

Раніцай прыбрала ў хаце й паехала ў шпіталь. Прыйшоў доктар (той самы малады, што і ўчора маму аглядаў), праверыў яе добра й выпісаў. Даў яшчэ й рэцэпт на мазь — так што ня трэба будзе й да Singerbrand'a[1] больш ісьці. Мама чуецца добра, толькі слаба.

Прывезла маму дахаты. Паехала купіла мазі, пітва featured рознага. Мама ляжыць, Вітаўт парадкуецца каля хаты. Прачысьціў трубы з умывальніку й ванны.

Прыходзіла Helen[2]. Званіла Cannon[2]. Муж яе ўчора прывёз ягады, што я пакінула ў сьпешцы.

Мы паехалі дахаты пасьля 4-ай. Ехалі 9-ай, павольна, спакойна. Заехалі на марожанае: хацелі ў сваё традыцыйнае мейсца каля царквы ў Лейквудзе, але памыліліся й сталі бліжэй.

Заехалі таксама да Надзі. Яе ня было дома. Пагаварылі трохі з Русакамі. Яны толькі вярнуліся з вакацыяў у Канадзе.

Прыехалі дахаты, павячэралі рыбкай, якую я падсмажыла ў мамы. Юры ня было дома.

---

[1] *Доктар.*
[2] *Суседкі.*

**Нядзеля 27 ліпеня**

Вітаўт паехаў у царкву. Я дома. Памыла сёе-тое. Памылася сама. Накруціла валасы. Цэлы дзень адпачывалі, парадкаваліся. В[*ітаўт*] працаваў.

**Панядзелак 28 ліпеня**

Пайшла першы дзень на працу пасьля вакацыяў. Купіла цукеркаў. Зайшла у банк палажыць чэкі на чэкавую кніжку.

Хутка справілася. З раніцы ўжо было ведама, што будзе THI. Зайшла да Адамовіча. Шук[*елойць*] папрасіў разаслаць запросіны на зборку БАЗА.

Паехалі дахаты. Вітаўт сабраўся. Заехалі ў Insurance[1]. Спачатку было вялікае расчараваньне. Дзяўчына, якая занялася намі, сказала, што мы не пакрытыя на гэткі выпадак. Але ўбачыўшы, што мы вельмі ўзрушаныя гэтым і гатовыя адмовіцца ад іхных паслугаў на будучыню, сталая дзесь званіць. І выявілася, што калі быў злом сілай — дык пакрываецца[2]. Ад нас трэба сьпіс рэчаў і паліцыйны рапорт.

Завезла Вітаўта на станцыю ў Newark.

Надрукавала запросіны, падпісала канвэрты. Заўтра толькі зрабіць копіі і паслаць.

---

[1] *Страхавую кампанію.*
[2] *А ў нас быў выламаны замок у багажніку.*

**Аўторак 29 ліпеня**

Раніцай зноў абвесьцілі, што будзе THI. Ідучы на работу папала пад такі праліўны дождж. Змокла буквальна да нітачкі, хоць і парасон мела. Сушылася.

Укінула запросіны. Яшчэ была не зусім сухая, як вярнулася дахаты.

Вітаўт у Вашынгтоне. Яны з Алесяй былі запрошаныя на канфэрэнцыю ў Белым Доме і ў State Dept. наконта Helsinki Agreement[1].

Укладала лісту рэчаў, што прапалі ў Вашынгтоне. Званілі Алесі. Яны яшчэ на канфэрэнцыі. Юра недзе паехаў.

Вітаўт вярнуўся ня позна. Юры ня было — мне прыйшлося ехаць яго падабраць на станцыі. Канфэрэнцыя прайшла добра. Алеся выступала з пытаньнем. Добра, што яна ўцягваецца ў гэтыя справы. Вітаўт там шмат з кім бачыўся, гаварыў: з чалавекам з Radio Liberty, пазнаёміўся з сынам Ehrenkreuz'a, з палякамі з Кліўленду. Гаварыў з расейцамі. Я гэтага так не цярплю, калі ён з расейцамі на «общепонятном» балтае.

---

[1] *Выступалі ад БАЗА.*

**Серада 30 ліпеня**

На рабоце нічога важнага. Забрала ад Адамовіча карэкту. Ён знайшоў шмат памылак грубых, шмат зь іх маёй віны.

Атрымалі грошы. Цэлы дзень беганіна. Прыходзіла [*Theresa*] Alt. Пагаварылі пра Статут. Яна будзе рабіць paper[1]. Таксама сказала пра выстаўку ў Музэі Тэкстылю[2]. Перадала адрас асобы, якая са мной

зьвяжацца. Была з намі й Баларына. Пазьней прыйшоў [*Tom*] Bird. Balarine зноў прысутнічала — гаварыла аб глупстве.

THI абвесьцілі а 5:15.

Вечарам гаварылі з Галінай пра slides для 13 channel[3].

---

[1] *Даклад на канфэрэнцыі.*

[2] *Тэрэза Альт сказала, што рыхтуецца выстаўка тэкстыльных вырабаў у горадзе Бінгэмптане ў штаце Нью Ёрк (колішнім цэнтры тэкстыльнай прамысловасьці). Сказала таксама, што дала кантакты Зоры арганізатарам выстаўкі. Была магчымасьць шмат чаго расказаць пра тэкстыль у Беларусі.*

[3] *На 13-м тэлеканале мелі паказваць нешта пра беларусаў.*

**Чацьвер 31 ліпеня**

Перадрукавала лісту рэчаў для Іншурансу. Вітаўт паехаў да Мерляка ў абед — пагаварыць пра царкоўныя справы й пра Human Rights. Нічога цікавага. Вітаўту больш хадзіла, каб атрымаць ад яго матар'ялы пра бел. прэсу[1]. Гэта якраз было ўдалае.

---

[1] *Мярляк даў зьвесткі пра беларускі друк у Аргентыне.*

**Пятніца 1 жніўня**

THI. Я паехала дадому. Дагаварыліся зь Вітаўтам спаткацца каля Insurance. Было зачынена. Вельмі шкада, што нагоду прапусьцілі.

**Субота 2 жніўня**

Дзень прайшоў у будзённых занятках. Вечарам паехалі на зборку БАЗА. Па дарозе падабралі Белямука. Ён паедзе з намі на зборку, а тады да нас, на колькі дзён. Паглядзелі часопісы ў [*фундацыі*] Крэчэўскага.

Зборка прайшла спакойна, мірна. Гаварылі пра Сустрэчу, менавіта пра аўтобус, пра іншыя імпрэзы — Балтымор, Славянскі Фэстываль у New York. Васіль Р[*усак*] перадаў Slides.

Ліў дождж. Па дарозе назад яшчэ заехалі да Белямуковага сябры [*Аўгена*] Ярашэвіча забраць рэчы. Там ня было сьвятла дзеля буры, якая толькі прайшла. Добра, бо ня трэба было заходзіць у хату.

Назад едучы, пачалі блудзіць. Прыехалі дахаты позна.

**Нядзеля 3 жніўня**

Паехалі рана ў царкву (праўда, не зусім рана яшчэ пасьнедалі й спакойна паехалі). Горача. Пасьля царквы хрысьцілі Лук'янчыкавага сына. Сабралася маса людзей. Хрэсьбіны — як вясельле. І яды, й гарэлкі. Няма меры ў нашых людзей. Але было ўсё добра. Толькі Вітаўта цяжка было выцягнуць, а пазьней Белямука.

**Панядзелак 4 жніўня**

Зноў THI. Я пайшла дахаты рана. Вітаўт прыехаў крыху пазьней. Спаткаліся каля Іншурансу. Здалі ім лісту рэчаў. Выглядае, што нешта атрымаем. Паехалі ў Ньюарк у Channel 13 здаць Slides. Добра пагаварылі. Далі ім трохі інфармацыяў пра нас.

Белямук перадаў ад Шук[*елойця*] тэкст паведамленьня пра аўтобусы. На зборцы ён сказаў, што сам усё зробіць. Мяне гэта вельмі раззлавала.

**Аўторак 5 жніўня**

Вельмі горача. Зноў ТНІ. Я затрымалася з Тумашам і Галінай. Гаварылі пра Статут. Нейкая была нэрвовая гутарка. Але адно добра выйшла, што неяк выкрышталізавалася, што ■ буду рабіць па-ангельску рэфэрат. Разьмеркавалі колькі каму часу на гутарку. Пастанавілі на праграмку зьмясьціць інфармацыю пра Статуты (гэта была Галініна ідэя).

Я пайшла дахаты. Надрукавала паведамленьне аб Сустрэчы.

Хутка прыйшлі й Вітаўт з Белямуком. Бібліятэку закрылі а 4-ай. Мы трохі зь Вітаўтам пасварыліся. Мяне Галіна разнэрвавала. Дый прысутнасьць чалавека ў хаце, у такую гарачыню. Статут. Усё разам: проста нэрвы надрываюцца. Але наладзілася. Заўтра ён выязджае, дык трохі адыйдзем.

**Серада 6 жніўня**

Зноў ТНІ.

Занесла паведамленьне да Адамовіча. Перадала Шук[*елойцю*]. Хай цяпер робіць сам што хоча.

Белямук выехаў. Вітаўт зь ім трохі затрымаўся. Я адпачывала, працавала над Статутам.

**Чацьвер 7 жніўня**

ТНІ. Схадзіла з Баларыне пасьля 12-ай у Fina[1]. Купіла падарунак для Ядзі Найдзюк — лапатачку-нож для сыру. Магазын перашле. Стаміліся. Горача.

Вечарам працавала над Статутам.

---

[1] *Крама срэбных вырабаў.*

**Пятніца 8 жніўня**

Вітаўт паехаў у Трэнтан па справах этнічных.

Прыехала ў бібліятэку Галіна. Зрабіла ёй колькі копіяў, дала кніжкі. Вітаўт прыехаў на работу пазьней, на машыне. Спаткаліся ўсе разам: Тумаш, Галіна й мы на каву. Трохі гаварылі пра Статут. Але хутка разышліся. Я пайшла у магазын купіць падарунак для Ноны[1]. Галіна таксама.

Купіла збанок пасярэбраны — ня надта ён практычны. Праўда, прыгожы.

Паехала дахаты на машыне. Даехала добра. Сабралася.

Як толькі прыехаў Вітаўт, паехалі на фарму. Ехалася добра, спакойна. У мамы яшчэ перакусілі, глядзелі T.V. Вітаўт добра сябе адчувае.

---

[1] *Нона Махнюк (Азарка) рыхтавалася да вясельля.*

**Субота 9 жніўня**

Раніцай зьезьдзілі ў ягады. Сабралі спорна. Ягады вельмі смачныя, хоць і дробненькія.

Паехалі на мора. Шукалі добрага пляжу, але каб ня платны. Даехалі аж да Ocean City. Было горача й на пляжы. Але трохі пакупаліся, паляжалі. Паехалі на рыбу. Нічога не лавілася гэтым разам. Але дзень правялі прыемна.

**Нядзеля 10 жніўня**

Раніцай зьезьдзілі яшчэ ў ягады. Пасьля адпачывалі. На двары пасьвяжэла. Так што не захацелася нікуды ехаць.

А гадзіне 5-ай паехалі ў Філядэльфію. Вітаўт будзе мець інтэрв'ю на Channel 6. Прыехалі добра, знайшлі T.V. станцыю. Мелі яшчэ час, дык зайшлі выпілі кавы. Вітаўт трохі сабраўся з думкамі. Я дык радая, што гэта ня мне трэба гаварыць. Я так-бы хвалявалася. А Вітаўт O.K.

Інтэрв'ю прайшло добра. Высьвятляць будуць праз 2 тыдні.

Да хаты даехалі добра. Трохі стаміліся, але настрой прыемны.

**Панядзелак 11 жніўня**

Ізноў ТНІ. Юра паехаў да Алесі. Шукае сабе памешканьне. Працавала над Статутам.

Вечарам званіў Юра. Ён быў у Бібліятэцы L[*ibrary of*] C[*ongress*]. Знайшоў інфармацыі для Вітаўта, але ня ўсе. Запіскаў Інбелкульту ўсіх там няма.

Юра забыўся дома выпіску для Дуткі. Стараўся, аднак, з памяці ўстанавіць. Я яму дала весткі. Кажа, што нешта знойдзе.

**Аўторак 12 жніўня**

[*У бібліятэцы*] ТНІ. Мы дык ужо зусім працаваць развучыліся.

Зайшла ў Радыё. Шук[*елойць*] званіў Сяргею [*Карніловічу*] наконта запросінаў. Агульная апінія, што Мітрапаліта афіцыйна ад Галоўнай Управы запрашаць ня трэба. Шук[*елойцю*] гэта не падабаецца. Ён усё баіцца, каб была «куртуазыйнасьць».

Прыходзіў Тумаш. Абгаворвалі Статут. Салаўя пакінулі ў спакоі, тым часам Адамовіч нічога ня робіць. Сядзіць «у Рызе» як мы сьмяемся[1]. Ужо колькі часу не скрануўся зь мейсца.

Вечарам званілі Алеся й Юра. У іх усё добра. Юра знайшоў шмат матар'ялаў у L. C.

---

[1] *Калі А. Адамовіч пачаў пісаць уступ да кнігі Салаўя, ён неяк выказаўся: «Ну, дайшоў да Рыгі», — г. зн. у апісаньні біяграфіі дайшоў да часу, калі Салавей працаваў у Рызе. Мы ўсе пачалі падсьмейвацца: «Адамовіч сядзіць у Рызе».*

**Серада 13 жніўня**

Раніцай засталіся дома. Прыходзіла дзяўчына з іншуранснай кампаніі. Узяла сьведчаньне ад Вітаўта. Паглядзела машыну. Сказала,

што атрымаем, зразумела ня ўсё, але каля палавіны. Было-б добра й палавіна.

Сяньня няма ТНІ. Ужо так прывыклі, што адпускаюць — дык дзень вялікі здаецца.

Прыехаў Юра на Алесінай машыне. Трэба завезьці на інспэкцыю і ўставіць радыё.

**Чацьвер 14 жніўня**

Вітаўт паехаў на зборку у Liberty Park[1], наконта фэстывалю. Юра працуе.

Вечарам паўстаў канфлікт з Юрам, з прычэпам да машыны. Усё дзеля таго, што Вітаўт дагаварыўся з Трэварам[2] уставіць радыё ў Алесіну машыну.

Юра прывёз машыну з прычэпам, нагружаную, ужо позна вечарам. Ізноў крык — «трэйлер, як хата». Але ўсё неяк трохі наладзілася. Рашылі спытацца заўтра ў Коленса[3], што ён думае.

---

[1] *Парк Свабоды ў горадзе Джэрзі Сіты.*
[2] *Кіт Трэвар — Алесін сябра.*
[3] *Сусед-гаражыст (аўтарамонтнік).*

**Пятніца 15 жніўня**

Коленс сказаў, што гэты прычэп да Алесевай машыны будзе О.К. Толькі трэба ехаць памалу.

Пазванілі Кіту — ён прыйдзе ўставіць радыё ў суботу рана.

**Субота 16 жніўня**

Keith прыехаў рана. Уставілі радыё, й Юра паехаў. Узьняўся вецер. Хаця-б Юру было добра ехаць.

Юра пазваніў ужо позна вечарам. Усё ў парадку. Ехаў, праўда, вельмі доўга. На Turnpike не пусьцілі з прычэпам — вецер. Ехаў вакольнымі дарогамі. Але ў нас адлягло.

**Нядзеля 17 жніўня**

Раніцай тое-сёе парадкавалася. Па абедзе пазваніў Юра. Я яшчэ была дома. Вітаўт зьезьдзіў забраў яго ў Newark — Юра ехаў цягніком назад.

Паехала на Shower[1]. Там было вельмі шмат людзей і вельмі-ж багата. Зрабілі як другое вясельле. Яды, пітва. Падарункі былі добрыя. Быў і [*Юрка*] Азарка. Ён часам рабіў нетактоўныя заўвагі ці грымасы што да падарункаў. Але прайшло ўсё даволі прыемна. Я перагаварыла з тым-сім. Галіна перадала часопісы ад [*Браніслава*] Даніловіча. З Алай гаварылі пра Балтымор, пра Кліўленд.

---

[1] *Амэрыканскі звычай: перад вясельлем для нявесты ладзіцца вечарынка і дорацца падарункі.*

**Панядзелак 18 жніўня**

Дзень прайшоў безь вялікіх прыгодаў. Вечарам езьдзілі ў Liberty Park на мітынг. Ехала з намі Камілія. Там былі й Русакі. Запоўнілі анкеты. Здаецца, што зьбярэцца й зь ядой. Васіль мае пагаварыць з жанчынамі[1]. Перадала Галіне адбіткі з Рускай Праўды. Езьдзілі ў той будынак дзе будзе фэстываль. Было даволі сымпатычна. Добра прайшоў вечар. Нават прысутнасьць Камілii мяне не нэрвавала.

---

[1] *На фэстывалях царкоўныя арганізацыі, як, прыкладам, сястрыцтвы, прадаюць напоі, ежу. На гэты фэстываль згадзіліся прыехаць з царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ з Гайлэнд Парку.*

**Аўторак 19 жніўня**

Ранічкай, яшчэ толькі ўставалі, прыехаў Дзядзя Ваня. Ён учора вечарам званіў, але нам не перадалі. Яму прыслалі нейкія паперкі з [*бэльгійскага*] консуляту, якія трэба было падпісаць. Паехаў з намі у Нью Ёрк. Усё, што трэба, зрабілі. Цяпер, здаецца, усё будзе ў парадку.

Працавала са Статутам.

**Серада 20 — Чацьвер 21 жніўня**

Нічога, здаецца, цікавага ня было. Працуем над Статутам. Рыхтуемся да Балтымору. Канфлікты з Азаркам[1].

---

[1] *Рыхтаваліся на Славянскі фэстываль, узьнікалі арганізацыйныя непаразуменьні.*

**Пятніца 22 жніўня**

Схадзіла зрабіць валасы. Выйшла зусім нецікава. Па абедзе хадзілі з Fox'ам — плянавалі разьвітаньне для Ruth[1].

З работы йшлі разам з Тумашам. Гаварылі пра Статут. Ён яшчэ ўсё хвалюецца ці будзе добра.

Прыйшоўшы дахаты, хуценька сабраліся й паехалі на фарму. Даехалі добра. Павячэралі, трохі пагаварылі. Мама задаволеная, што мы цяпер да яе часьцей падскокваем. Юра з Натай [*Русак*] паехалі ў Вашынгтон.

---

[1] *Калегі ў бібліятэцы,*

**Субота 23 жніўня**

Ранічкай выехалі ў Балтымор. Ехалася добра. Праўда, ужо каля Балтымору пачалі хваляваца, бо ўбачылі, што далі моладзі й музыкантам дрэнныя інструкцыі. Мы-то даехалі, але яны будуць блудзіць.

Прыехалі рана. Яшчэ нікога ня было. Васіль[1] сваё ўжо расстаўляў. Я настаяла, каб для Раі[2] пакінулі стол, бо ён быў ужо свае рэчы параскладаў. Рая прыехала позна — заблудзілася. Я ўсё стаяла на вуліцы й падчэквала іх. Патроху пачалі зьбірацца Рая з Азаркам, Заморскія, Ала з Бартуліхай, дзяўчаты зь Нью Ёрку. Самыя апошнія — Вітаўт і Джан. Але ўсе прыехалі ў парадку, хоць і блудзілі.

Расклалі выстаўку — добра. У Раі добрыя матар'ялы. Разьмясьціліся. А 1-ай гадзіне пайшлі на парад нацыяў. Далёка — пад прыстань. Горача, парна. Стаміліся, бо сьпяшаліся. Але пасьпелі. [*Юрка*] Азарка й Нона добра рэпрэзэнтаваліся. Я прыгатавала Азарку, што сказаць. Ён добра сказаў. Пайшлі назад у Convention Center. Але хутка йзноў назад, на прыстань — а 3-ай гадзіне моладзь танцавала. Танцы выйшлі цудоўна. Музыкі таксама добра былі, адно трохі сапсулі сваімі «Очи чорныя». Але моладзь сапраўды малайцы. Вясёлыя, прыемныя, бадзёрыя. Было проста горда за іх.

Пасьля выступу яшчэ трохі там пакруціліся. Я купіла два ручнікі ў нейкай жыдоўкі з Сав. Саюзу. Ручнікі, якія я даўно ўжо хацела дзесь набыць, зусім як беларускія (можа й беларускія), але прадаюць іх усе — і Украінцы, й Расейцы, й новапрыбылыя.

У Вітаўта былі канфэрэнцыі — Panels[3]. Не сабралася шмат людзей, дык яны скамбінавалі дзьве ў вадну. Прайшло добра.

Васіль таксама быў кіраўніком аднэй, пра Human Rights[4]. Адным словам, нашая рэпрэзэнтацыя была добрая.

Пасьля сабраліся ўсе разам у Convention Center. Селі ў кружок і радзіліся, што рабіць, ці заставацца на вечар, на кампэтыцыі[5]. Вырашылі застацца. Разышліся хто-куды. Вечарам банкет. А моладзь пайшла танцаваць. «Віхор» выступаў на банкеце, але якраз была магчымасьць ім адлучыцца, каб пайсьці пайграць для танцаў. Танцавалі добра. Вітаўт сядзеў за галоўным сталом[6]. Я трошкі ніякава чулася, бо мусіла аддаць свой сурдучок Ноне, а адзела Бартулёвай (ён мне трохі й замалы быў, ды й не такі зграбны, як мой). Забалеў трохі жывот. Пасьля банкету я чулася зусім няважна, чакала толькі на Вітаўта, каб хутчэй ехаць. Па дарозе сталі, [redacted] ўзяла Alka-Seltzer і адлягло. Так што канец дарогі добра прайшоў. Прыехалі дахаты (да мамы) ня так і позна.

---

[1] *Васіль Мельяновіч зладзіў выстаўку беларускага друку ў ЗША.*

[2] *Рая Станкевіч прывезла і выставіла шмат этнаграфічнага матэрыялу.*

[3] *Сэкцыйныя паседжаньні канфэрэнцыі. Сэкцыя, якую вёў я, называлася «Амэрыканская этнічнасьць: выкладаньне яе ў школе».*

[4] *Васіль Мельяновіч добра падсумаваў, як нішчацца нацыянальныя памкненьні ў БССР і ў іншых рэспубліках СССР.*

[5] *Спаборніцтвы.*

[6] *Я сядзеў побач з сэнатарам Сарбэйнам (Paul Spyros Sarbanes) з штату Мэрылэнд. Сэнатар Сарбэйн — грэцкага паходжаньня. Я расказаў яму пра беларускія праблемы. Ён мяне нагэтулькі зразумеў, што сказаў, калі Алесі будзе патрэбная праца — дык знойдзецца нешта ў ягонай канцыляры. Гэтай прапановай мы ніколі не скарысталіся.*

**Нядзеля 24 жніўня**

Ранічкай зьезьдзілі па памідоры. Глядзелі [*інтэрвію*] Вітаўта на T.V. [*зь Філядэльфіі*]. Добра. Як толькі скончылася — паехалі.

Прыехалі дахаты. Я стала працаваць над Статутам, а Вітаўт паехаў

на Партарыканскі Парад, ён мае замяшчаць Губэрнатара. Парад удаўся добра. Вітаўт і беларусаў неяк прыплёў. Па дарозе назад заехаў на кірмаш у Патэрсон — купіў фруктаў.

Вечар прайшоў працавіта.

**Панядзелак 25 жніўня**

Пісала Статут. Цэлымі днямі цяпер толькі гэта ў галаве.

**Аўторак 26 жніўня**

Правярала з Balarine Статут. Яна кажа, што добра. Першая частка ўжо адышла.

Вечарам канчала Статут.

Пазваніла Ірэна, што гатовыя праграмкі.

**Серада 27 жніўня**

Раніцай правяралі Статут.

Вечарам друкавала Статут. Юра зьезьдзіў па праграмкі. Вітаўт ужо быў пачаў злавацца, бо як мы прыехалі дахаты машыны Юравай ня было. «Дзе, чаму ня дома?» Але ўсё выясьнілася. Я паехала зь Юрам забралі яго машыну, (яна была запаркаваная каля хаты яго сябра з «First Aid»). Юрачка хутка справіўся.

**Чацьвер 28 жніўня**

На працы была беганіна, апошняя падрыхтоўка[1].

Вечарам я друкавала Статут. Вітаўт паехаў да Баларыны правяраць сваё. Тэлефонаў ня бралі. Ня хочам ніякіх клопатаў больш мець. Хай самі ўсё разрашаюць — і транспартацыю, й розныя дробненькія праблемы. Нам хапае са Статутам. Апошні званок быў пасьля 12-ай. Але мы, як пастанавілі, так і не зьнімалі [*трубкі*]. Юра паедзе з намі. Цяпер ён недзе на «парты».

[1] *Зора на пару дзён адыходзіла ў адпачынак.*

**Пятніца 29 жніўня**

Раніцай схадзіла зрабіла валасы.

Выехалі недзе каля 11-ай.

Ехалася добра. Юрачка трохі паспаў, пазьней падмяніў Вітаўта. Сталі ў прыемным мейсцы — паабедалі.

Адным словам, падарожжа было прыемнае. Пагода нядрэнная. Трафіку ня шмат. Гаварылі. Успаміналі старое. Нашы падарожжы, дзяцінства Юрава.

Прыехалі ў Кліўленд а 8-ай. Адразу-ж замэльдаваліся ў матэль[1]. Пазьней Вітаўт паехаў у Полацак[2]. А каля 10-ай паехалі спатыкаць Алесю[3]. Яна прыехала добра, у час. Пайшлі ўсе разам павячэралі й паехалі назад у матэль — абмяркоўваць Статут — нашую прэзэнтацыю. Добра папрацавалі. Людзі пачынаюць ужо зьязджацца. Прыехалі Станкевічы й Запруднік. З Чыкага Бяленісы й кампанія. Вера [*Запруд-*

*нік*] й Ліда. Вера прыйшла да нас, але мы былі занятыя Статутам, дык яна хутка й пайшла. Зайшоў таксама Калоша.

Мы добра ўсе чуліся. За такі даўгі час усе разам сабраліся ў адзін пакой, як у «добрыя старыя часы». Неяк адчулася блізкасьць. Агульныя зацікаўленьні. Усе мы чатыры прымаем удзел у канфэрэнцыі. Дажылі! Сапраўды прыемнае пачуцьцё. Уся сям'я ў інтэлектуальным занятку, ды яшчэ на беларускай ніве.

---

[1] *Зарэгістраваліся ў матэлі.*

[2] *Беларускае селішча недалёка Клïўленду.*

[3] *Алеся прыляцела з Вашынгтону самалётам.*

**Субота 30 жніўня**

Рана ўсталі. Юрачка прынёс кавы. Было прыемна, сымпатычна. Хутка прыехаў аўтобус з N.J.[1] Пагаварылі трохі зь людзьмі. Я папрасіла Алу, каб уставіла Алесю танцаваць[2]. Яны ўсе парадкуюцца, дастаюць пакоі. Шум, гам, незадаваленьне. Да нас у пакой прыйшлі Альгерд [*Кажура*] і Міша [*Швэд*] — трохі паспаць. Яны яшчэ ня маюць пакою. Вітаўт пагаварыў з Запруднікам і Данілюком. Том Bird не прыедзе, мусіць. Перадаў свой рэфэрат.

Мы паехалі на Полацак. Там ужо зьбіраюцца людзі. Шуст[3] расклаў ужо свае саломкі. Нічога цікавага ня было купіць. Аддала яму $80 за тыя рэчы, што былі ў мяне. Трохі пагаварыла зь людзьмі.

Галіна [*Русак*] прачытала Вітаўту свой рэфэрат. Казала, што Вітаўт вельмі хваліў. Я пачынаю сумнявацца і хвалявацца за свой.

Паехалі спатыкаць [*Тэрэзу*] Alt на аэрадром. Яе самалёт прыехаў раней. Яна ўжо нас чакала. Заехалі ў гатэль, яна толькі паклала рэчы, й паехалі ў Полацак.

Там ужо людзі сабраліся. Вэтэраны мелі парад. Я папрасіла [*Сяргея*] Гутырчыка напісаць пра вэтэранаў у газэту. Ён сказаў, што Арцюх[4] будзе гэтым займацца. Пагаварыла з Арцюхом — можа й напіша.

Вітаўт наладжвае, каб нехта спаткаў Тумаша[5]. Мельяновіч узяўся, а Кабяка пакажа яму, як ехаць.

Мы хутка й паехалі ў Унівэрсытэт, на канфэрэнцыю. Ехала з намі сп-ня [*Кацярына*] Шэлест, з Каліфорніі. Яна вельмі сымпатычная.

Там, на мейсцы, канфуз з заляй. Белямук нешта наблытаў. Але ўсё наладзілася. Нарэшце пачалі канфэрэнцыю. Праф. Bonnutti адкрыў, Тумаш прывітаў. Вітаўт вёў. Я трохі пачала хвалявацца. Узяла дзьве асьпірынкі — трохі пачала супакойвацца.

Рэфэрат Плескача быў задаўгі, мнагаслоўны, пампозны, размазаны. Адным словам — не на ўзроўні. Была T.V. [*Рэфэрат*] Alt вельмі тэхнічны, навуковы. Можа трохі замала вывадаў. Але на ўзроўні. Юра прачытаў рэф. Von Loewe. Тумаша я ўжо ведала — добры. Толькі яго прэзэнтацыя заўсёды церпіць.

Пасьля Тумаша — мой. Я ўжо зусім перастала хвалявацца. Вый-

шла добра: і гаварыла добра й тэмай людзі захапіліся. Пасьля мяне Алеся. Добра прэзэнтавала. Трохі, можа, вадзічкі зашмат было. Але добрае ўражаньне.

Пасьля нас быў перапынак. Bannutti прынёс кавы й соды. Трохі разьмяліся, пагаварылі. Шмат было добрых адзываў пра мой рэфэрат. Юра казаў, што мой быў найлепшы. Пачуць кампліМэнт ад сына заўсёды вельмі прыемна. Казаў, што й прэзэнтацыяй й тэма былі вельмі цікавыя.

Другую частку вёў Запруднік. Белямук расьцягнуў са сваімі пячаткамі задоўга. Ніякіх высновы. Данілюк зусім слаба. Ангельская ягоная мова каравая (хоць рэфэрат і быў напісаны добрай мовай). Сам рэфэрат — пампозны, ура-патрыятызм, мала канкрэтнага, ад тэмы нічога не засталося. Ня ўмеюць яны выбраць тэму й трымацца яе і коратка й зьмястоўна перадаць. Думаюць, чым больш слоў — тым мацней. Шкада. Запруднік прачытаў Бірдаў рэфэрат пра рэлігію.

Пасьля была Галіна. Яе рэфэрат быў добры. Зусім на ўзроўні. Да тэмы, лягічны. Добрая мова. Адным словам, выглядае, што жанчыны добра папрацавалі.

Запруднік аналізаваў савецкія публікацыі пра Статут. Яго рэфэрат быў нядрэнны, новая інфармацыя была.

Вітаўт гаварыў пра вывучэньне Статуту зь беларускага пункту гледжаньня, спроба бібліяграфіі.

Запруднік закрыў канфэрэнцыю. Неяк не зусім поўна абагульніў усё, што гаварылася.

Мы павезьлі Тумаша на аэрадром. Было яшчэ трохі часу. Пагаварылі, павячэралі. Фактычна гэта была першая страва, якую за цэлы дзень мелі. Тумаш задаволены канфэрэнцыяй. Паехалі, пераапрануліся і на Полацак — на баль. Глядзелі T.V. на апошніх навінах. Добра.

Пагаварыла з Прускім, Лашуком.

Там было цеснавата. Трохі патарчэлі і назад у матэль. Я пайшла спаць, а Вітаўт яшчэ паехаў назад на Полацак, пагаварыць з Рагулям. Ён ужо ўвайшоў у свой непаседлівы настрой. Абы недзе перціся.

Юра й Алеся сьпяць ужо недзе з моладзьдзю. Юра прыйшоў яшчэ сярод ночы, адзець купальнік. Недзе ў другі матэль ідуць купацца[6]. Пагналі іх з паліцыяй, тады яны паехалі ў Полацак.

---

*[1] З большага асяродку, як, прыкладам, штат Нью Джэрзі, на сустрэчы наймаўся аўтобус — выгадней і таньней.*

*[2] Алеся некалі была «вядучай» у танцавальным гуртку. Але ад часу выезду на студыі ў Вашынгтон яна ў гуртку не танцавала. Аднак на сустрэчы Алесю ў танцавальны гурток улучылі.*

*[3] Умелец з Канады.*

*[4] Мікола Арцюх з Дэтройту, наш сябра. Мы зь ім вучыліся ў Лювэне. Гадоў пяць езьдзілі па Бэльгіі з хорам М. Равенскага.*

*[5] Д-р В. Тумаш меўся прыляцець зь Нью Ёрку самалётам.*

*[6] Моладзь шумела, прыехала паліцыя.*

**Нядзеля 31 жніўня**

Раніцай мы ў царкву не паехалі.

Юра прынёс кавы й булачку. Мы пачалі пакавацца. А 12-ай выпісаліся з матэля й паехалі на Полацак. Пагаварыла з Прускім. Можа й пераробіць бібл[*іяграфію Салаўя*].

Там ужо рыхтуюцца да банкету. Юля расклала свае рэчы. Узялі ад яе альбом для senatara Metzenbaum (Ohio)[1]. Банкет прайшоў удала. Вітаўт вёў. Сядзелі мы за галоўным сталом. Была T.V. Перадалі падарунак і сэнатару й праф. Banutti (кніжку). Банкет скончыўся незадоўга перад канцэртам. Усе перайшлі ў школу, праз дарогу.

Канцэрт быў вельмі ўдалы. Моладзь цудоўная. Добры быў і хор. Данчык, зразумела, надзвычайны. Зрабіў жарт, што пад уплывам майго рэфэрату ўключае новую песьню «Як жонка мужа прадавала». Музыкі былі О.К. Толькі трохі Новак разышоўся з гутаркай — па-расейску. Салёвыя нумары былі самыя слабыя. Між іншага, Карповічаў нумар выйшаў неяк слабенька.

Пасьля канцэрту пайшлі ў Полацак. Наігралі для Alt на істужку гаворкі беларускія: Лашук, Белямук, Шуст і я. Я чытала зь Бібліі. Пазьней толькі мне прыйшло да галавы, што нібы [redacted] чытала нейкую бязсэнсіцу. Прыкра мне стала, бо [redacted] яшчэ пазьней заўважыла, што тэкст добры (маючы на ўвазе мову). Няўжо гэта быў нейкі падвох.

Купіла ў Юлі ляльку.

Тут у нас пачалася прыкрая частка. Юра ўзяў машыну, паехаў недзе. І мы мусілі чакаць, хоць гатовыя былі ўжо ехаць. Я дык ужо добра была стомленая. Цэлы дзень на нагах. Які цэлы дзень — ужо колькі дзён!

Мелі паседжаньне БАЗЫ, каб пастанавіць, дзе наступная Сустрэча (вырашылі недзе на ўсходнім пабярэжжы). Кончылася й паседжаньне, а Юры ўсё няма. Я ўжо пачала хваляваацца — робіцца позна, калі ехаць[2]. Вітаўт, зразумела, гаворыць зь людзьмі й ня дбае. Я падчэкваю Юру. Мне зусім ня хочацца нікога бачыць, ні з кім гаварыць. Нарэшце вырашыла пазваніць у гатэль. Вера [*Запруднік*] сказала, што ён ужо паехаў на Полацак. Я на яго добра насварылася, бо была ўжо зусім знэрваваная. Нарэшце выбраліся, селі й паехалі — каля 11-ай гадзіны. Усё было наладзілася. Ехалі спакойна. Думалі трохі ад'едзем і станем на ноч. Ужо стаміліся. Аж я ўспомніла, што забылася аддаць Юру білет на самалёт. Зь ягоным адкладам усё нарушылася. Мы яго мусілі пасьля канцэрту адвезьці на аэрадром і пасьля гэтага ціхонька выехаць. Але Юра зьмяніў пляны. Рашыў застацца да панядзелка.

Ну й пачалося. Вітаўт злуецца, я хвалююся. Паехалі назад. Вярнуліся ўжо а 1-ай. 2 гадзіны змарнавалі! Стаміліся. Рашылі застацца ўжо начаваць у матэлі — няма мейсца. Едзем у Полацак. Добра Вітаўт знайшоў Юру хутка. Аддаў білет. Юра вельмі перажываў. Калоша,

убачыўшы Вітаўта, запрапанаваў ісьці да яго ў пакой спаць. Мы радыя былі, што хоць гэта ўладзілася. Вось прыгода.

---

[1] *Вялікая шышка! Тады сэнатару падаравалі альбом зь беларускім арнамэнтам.*

[2] *Сустрэчы зазвычай трывалі тры дні: субота, нядзеля, панядзелак (выходны, бо сьвята — Дзень Працы). Але людзі здалёк выяжджалі ў панядзелак. Мы ж выяжджалі ў нядзелю позна, каб ад'ехацца, тады ў панядзелак заставалася менш дарогі.*

**Панядзелак 1 верасьня**

Усталі рана. Хуценька сабраліся. Побач спаў Ст[*ась*] Станкевіч. Яны выехалі раней за нас, дык і ня ведалі, што мы там спалі. Добра!

Як ужо селі ў сваю машыну, ехаць дахаты — зноў усё добра. Ехалася прыемна. Сталі, пасьнедалі. Пасьля сьнеданьня я села кіраваць — Вітаўт паспаў. Пару разоў мяняліся.

Ужо ў N.J. заехалі купілі фруктаў.

Прыехалі дахаты ■ 4-ай. Юра дома ўжо. Ён добра даляцеў. Але вось неталкова выйшла. Нашто той самалёт быў.

Юрачка схадзіў купіў курку. Усе разам паелі, прыемна пасядзелі. Адпачывалі. Трохі распакаваліся. Я заўважыла, што кашулі[1], якія ўжывалі музыкі, заплямленыя. Намачыла іх — можа адыйдуць.

---

[1] *Пасьля Беларускіх фэстываляў у Нью Джэрзі ў 1976, 1977, 1979 гадоў сабралася шмат беларускіх строяў, якія шыліся для фэстываляў. У Зоры быў цэлы «банк» беларускіх строяў — усяго каля пяцідзесяці. Пры патрэбе кашулі, блюзкі, паскі і г. д. пазычаліся. Гэтым разам кашулі пазычалі музыкантам. Праўда, дзьве кашулі былі пазычаныя ў Олі Запруднік, яна іх мела яшчэ зь Лювэну.*

**Аўторак 2 верасьня**

Пайшла на працу. Юра таксама першы дзень на працы. Вітаўт дома.

ТНІ зноў. Прыйшла рана з работы. Памыла яшчэ сваю бялізну. Кашулі М. В. памыла — трохі адышлі, але не зусім. Оля будзе злавацца. Але я папрасавала іх, склала — можа, не заўважыць.

**Серада 3 верасьня**

Схадзіла ў абед да Адамовіча. Аддала яму Салаўя. Расказала, што з Прускім гаварыла. Ён раззлаваўся — кажа, што ўсё самаму трэба рабіць. Мяне больш абыходзіць, што бібліяграфія нязграбна набраная, чымся што там нешта ня тлустымі літарамі набрана. Ён нічога яшчэ не зрабіў, усё «сядзіць у Рызе», займаецца дробязьзю, каб адцягнуць увагу ад сябе.

Перадала Запрудніку кашулі. Напісала артыкул для газэты «Уражаньні пра сустрэчу»[1].

Званілі Калошу, трохі ўдакладніць некаторыя мамэнты. Яны з Сустрэчы задаволеныя.

Перадрукавала артыкул. Званіла Галіна. Яна ўжо скача пра фэсты-

валь у Liberty Park. Казала Вітаўту, што людзі казалі, што яе рэфэрат быў самы найлепшы (у 2-й частцы). адным словам за пару хвілінаў нарабіла ўжо шурум-бурум.

---

[1] *Зорыны ўражаньні аб сустрэчы ў газэце «Беларус»:*

**ЧАТЫРНАЦЦАТАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎН. АМЭРЫКІ**

Зьяжджацца на Сустрэчу пачалі рана: у пятніцу вечарам 29 жніўня прыехала ўжо колькі групкаў зь Нью Ёрку, Нью Джэрзі, Мэрыленду, Каліфорніі, Чыкага ды з Канады. Разьмясьціліся дзе-хто — у матэлях, у знаёмых і родзічаў, у Полацку. Усё ажыло, аднак, у суботу рана, калі прыехаў аўтобус зь ньюёркскімі [redacted] ньюджэрзійскімі ўдзельнікамі, ажыў і матэль, дзе затрымалася бальшыня, ажыў і Полацак. Людзі, хоць і стомленыя, але пры ўзьнятым настроі, чакаюць на пакоі, сустракаюцца, вітаюцца, дзеляцца ўражаньнямі. Усюды беларуская гаворка. Нарэшце ўсе раскватараваліся.

На селішчы Полацак кліўлендзкія жанчыны падрыхтавалі сьнеданьне. Хутка й афіцыйнае адчыненьне Сустрэчы. Пазьней розныя нарады, зборкі — Вэтэранаў, Моладзі. На дварэ, пад дрэвамі сп. М. Шуст расклаў свае прыгожыя вырабы із саломкі. Гэта было самае першае, што мне асабліва кінулася ў вочы й прыцягнула ўвагу.

Па абедзе Канфэрэнцыя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, прысьвечаная 450-годзьдзю Статуту Вялікага Княства Літоўскага. Заняткаў хапае для ўсіх. І для тых, што хочуць проста адпачыць, пагаварыць, спаткацца із старымі знаёмымі, навязаць новыя знаёмствы. Зьехаліся-ж з розных куткоў Амэрыкі й Канады. Былі навет госьці з-за акіяну, з Ангельшчыны ды з Польшчы.

Пад вечар у Полацку Д-р Ян Пятроўскі прачытаў рэфэрат, прысьвечаны 100-годзьдзю паэты Гальляша Леўчыка.

Вечарам урачысты баль у Полацку. Людзі трохі адпачылі, прыхарашыліся (асабліва жанчыны), настрой добры. Грае ўкраінская аркестра Романа. Музыка спакойная, дык і пагаварыць можна тым, хто не танцуе. Пазьней разыгралі лятарэю — беларускую ляльку й выбралі каралеву Полацку. Гонар гэты мела Іна Літвінка.

У нядзелю Божая Служба ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкае Божае Маці. Служыў Архіяпіскап Мікалай у асысьце а. Максіма, а. Аляксандра, пратадыякана Міхася ды сэрбскіх сьвятароў.

Зноў Полацак. Там ужо Юля Андрусышына зь Нью Ёрку расклала сваё славутае вышываньне. Гэтым разам асабліва цешылі вока беларускія лялькі. Побач разьмясьцілася й невялічкая выстаўка народнага мастацтва ды кніжак. Большая, аднак, выстаўка была наладжаная Беларусамі Кліўленду пры Этнаграфічным Музэі. Выстаўка, дапасаваная да Сустрэчы, працягнецца аж цэлы месяц ды дасьць магчымасьць і іншым азнаёміцца зь беларускай культурай.

Банкет з прывітаньнямі, прамовамі, прачытаньне праклямацыяў прайшоў вельмі ўрачыста. Сабралі ахвяры на «Беларуса». Была й тэлевізыя. Між іншым, ужо другі раз падчас Сустрэчы, бо была й у суботу на Інстытуцкай Канфэрэнцыі.

Пасьля банкету ўсе перайшлі ў будынак амэрыканскай школы, што насупраць Полацку, дзе адбыўся канцэрт. Канцэрт быў надзвычайна ўдалы. Як наш госьць з Ангельшчыны заўважыў: «Праплакаў цэлы канцэрт. Ніколі яшчэ такога на эміграцыі ня бачыў».

Пасьля канцэрту разышліся хто-куды, каб пазьней узноў спаткацца на вечарыне. Вечарам трохі пасьвяжэла. У залі сабраліся ахвотныя паскакаць. Бальшыня, аднак, была на дварэ, каля бару, пры маёўкавых сталох. Моладзь — каля возера. Гулялі да позьняй ночы, ці, інакш кажучы, да раньня. Моладзь дык мусіць ня спала цэлую ноч — так шмат ўражаньняў.

У панядзелак рана ўсе ўжо разьехаліся. Разьехаліся з добрым настроем, з прыемнымі ўспамінамі, каб, як было пастаноўлена на паседжаньні БАЗА, спаткацца ўзноў праз два гады нейдзе на ўсходнім пабярэжжы, ці то ў Нью Ёрку, ці то ў Нью Джэрзі.

Яшчэ адна Сустрэча — удалая, памысная, цікавая, добра зарганізаваная — прамінула.

Дзякуем, Кліўлендцы!

*«Беларус», № 282, кастрычнік 1980*

**Чацьвер 4 верасьня**

Адаслала артыкул Стасю. Гэтак сама падала яму сьпіс людзей, што маюць рабіць рэпартажы.

У абед хадзілі з Сільвіяй купляць падарунак для Ruth[1].

Купілі вазу у Jensens. Дарагую ($105). На маю думку, яна не выглядае такой дарагой. Але добра, што купілі. Стаміліся.

---

[1] *Супрацоўніца, што выходзіла на пэнсію.*

**Пятніца 5 верасьня**

Перадала Тумашу матар'ял з Лёндану, што прывёз Лашук. Нічога цікавага. Xerox з старонкі іхнага Статуту і загалоўную бачынку з Uppsal-скага і кнігу пра Скарыну. Цяпер, можа, аддасьць нам нашую.

Пайшлі з Фоксам на падвячорак. Гаварылі пра Ruth party.

Вітаўт хадзіў да доктара. Усё ў яго ў парадку — толькі пахудзець. Я Вітаўту адразу сказала, што так ён і скажа.

Юра паехаў у Вашынгтон. Вітаўт яго завёз на цягнік.

**Субота 6 верасьня**

Рабіла завіўку. Добра выйшла. Трохі, можа, закоратка, але хутка адрастуць. Вітаўту падабаецца.

Пазваніў Дутка. Прыехалі з падушкамі. Купіла ажно 6, па $15. Трохі пасядзелі, я яшчэ заказала пару.

Вечарам званілі Станкевічу. Ён ужо мой ліст з артыкулам атрымаў. Але зноў нешта круціць — здаецца, ня будзе пускаць у гэты нумар. Праўда, хваліў мяне надта-ж ужо нешта.

**Нядзеля 7 верасьня**

Вітаўт паехаў у царкву. Перадаў Русаку часопісы «Летапіс». Русак нам перадаў камплет «Беларуса».

Мне пачаў балець зуб. Фактычна пачаў балець яшчэ ўчора, але я неяк ня хутка агледзелася. Сяньня ўжо відаць пухліна і баліць.

Званілі з Трэнтану наконта прэсавай канфэрэнцыі ў сераду і T.V. ў аўторак.

Пазванілі Надзі. Яна гатовая быць на T.V. Выстаўку у Liberty Park яна дагледзіць таксама[1].

Вечарам прыехаў Юра з Вашынгтону. Віт[*аўт*] паехаў яго спаткаў. Усё добра. Толькі зуб дакучае. Мы цяпер так баімся, каб нічога не парушыла нашых вакацыяў.

Пераклала артыкул T[*heresa*] Alt, перадрукавала.

---

[1] *Рыхтавалася рэклямная праграма да новага фэстывалю ў Парку Свабоды.*

**Панядзелак 8 верасьня**

Вітаўт рана пайшоў да доктара — яшчэ тэсты крыві зрабіў.

Паслала матар'ял у газэту: артыкул Alt, Вітаўтаў, Рэзалюцыі.

У абед прыйшоў Шук[елойць]. Перадала яму праклямацыі. Ён быў у Станкевіча. Ст. пусьціць у гэты нумар толькі рэзалюцыі і артыкул-рэфэрат Запрудніка. Запруднік, замест каб напісаць справаздачу з канфэрэнцыі — даў Стасю свой рэфэрат.

У абед хадзіла у рэстаран, заказала на заўтра[1].

Пайшла з работы трошкі раней, бо мела з дэнтыстам дагавор на 6:15. З новым, што на нашай вуліцы. З Wexler'ам ужо, мусіць, разьвітаемся. Надта-ж невыгодна. Ды ён ужо не такі спраўны, як быў.

У мяне запаленьне дзясны, а ня зуб. Прыпісаў пеніцыліну. Хуценька справілася. Вітаўт зьезьдзіў у аптэку. Даў ён мне два рэцэпты — на ўсялякі выпадак, як будзем на вакацыях, калі забаліць.

---

*[1] З нагоды праводзінаў на пэнсію каляжанкі Рут.*

**Аўторак 9 верасьня**

Раніцай на станцыі купіла для Ruth карсаж. А 12-ай пайшлі на абед. Было О.К., але ня надта сардэчна. Трохі неяк нацягнута.

Вітаўт прыехаў у бібліятэку — працаваў у Славянскім Аддзеле над «Нашай Нівай».

Пайшлі на каву з Тумашам. Гаварылі зразумела, пра канфэрэнцыю, пра Салаўя, пра далейшыя пляны са Статутам, каб да 1988 (400-годзьдзе 3-яга Статуту) падрыхтаваць нешта саліднае пра Статут, пра Сапегу.

Вітаўтавы рэзультаты тэстаў у парадку. Таксама замовіў Юру на сяньня да доктара. У Юры зноў нейкая сыпка па цэлым целе, асабліва на нагах. Проста ўжо струпы.

З T.V. нічога ня выйшла. Яны хацелі нейкі рух, танцы.

Юра хадзіў да доктара. Я, як прыехалі з працы, убачыла ягоную машыну каля доктара, зайшла туды. У Юры нейкая аларгія. Доктар прыпісаў пігулкі.

**Серада 10 верасьня**

Вітаўт паехаў у Трэнтан, на прэсавую канфэрэнцыю. Павёз таксама і Ірэну, яна рыхтуе мастацкую выстаўку. А гэтаксама й Галіну Бахар у бел[арускім] касьцюме. Губэрнатар[1] яе заўважыў. Гаварыў пра падушку зноў. Галіна Б. паабяцала яму зрабіць новую. У нас ужо з Byrne зусім добрыя адносіны навязаліся. Нас то ён ужо памятае.

Я пачала працаваць над Трыстанам. Вельмі мне хочацца ўжо гэтым заняцца хутчэй.

---

*[1] Як я ўжо зазначаў, з губэрнатарам Брэнданам Бэрнам у нас былі надзвычайныя, блізкія дачыненьні. Але ў дадатак да ўсяго ён палюбіў падараваную яму беларусамі Саўт Рывэру невялікую падушку, вышытую беларускім арнамэнтам (работа ма-*

*тушкі Валянціны Лапіцкай). Гэтую падушку ён вазіў у сваёй службовай машыне. І ад'ютанты, і журналісты ведалі, што гэта «беларуская падушка».*

**Чацьвер 11 верасьня**

Юра дома. Зрабіў закупы для рыхтаваньня ежы на фэстываль. Рашылі капусту й калбасу.

Я працавала над Трыстанам.

Вітаўт цэлы дзень правазіўся з умывальнікам наверсе, але нічога не паправіў.

Вітаўт чуецца вельмі дрэнна — мусіць, прастудзіўся, зуб пачаў балець. Нам-жа заўсёды нешта пашкодзіць. Дала яму сваёй пеніцыліны. Каб хоць прайшло, пакуль ехаць.

**Пятніца 12 верасьня**

Я цэлы дзень правазілася з Трыстанам.

У абед памяняла чэк. Купіла новага пеніцыліну, каб было й для Вітаўта, й сама яшчэ пару прыйму. Зуб прайшоў, але часам неяк яшчэ трохі дзёргае.

Юра паехаў на пробу танцаў. Прыехалі ня позна. Толькі Ната прыехала. Крышылі капусту назаўтра. Яны малайцы дзеці. Адданыя, шчырыя.

**Субота 13 верасьня**

Ранічкай Юра ўжо пачаў кухарыць. Я паехала рабіць валасы. Заехала ў магазын, купіла на сьнеданьне і яшчэ сёе-тое для моладзі. Затрымалася. Вітаўт ўжо нецярпліваўся. Толькі пераадзелася й паехалі. Нават ня сьнедалі. Юра й Ната яшчэ вараць. Бабка ім дапамагае.

У Lib[*erty*] Park ужо поўна людзей. Нашыя ўжо расстаўляюцца. Выстаўка выйшла добрая. Я прывезла падушкі й лялькі. Ну й брашуркі, зразумела. Вітаўт — кнігі.

Расклалі агонь. Сяргей Рагалевіч памог. Былі Галіна, Надзя, Ліза Літаровіч, Сяргей, яго дачушка Лора. Яе Надзя навучыла прасьці. Пасьля прыйшла й Сямёнава. Былі й Кажуры й Русак зь Нью Ёрку. Васіль Р[*усак*] прывёз моладзь.

Юра й Ната прыехалі хутка пасьля нас. Распакаваліся й пачалі прадаваць. Пайшло спачатку нядрэнна, пазьней трохі застой, але падвечар зноў трохі лепш пайшло. Прадалі ня ўсё, але зарабілі $50. Зразумела, памагло й печыва, што Шура [*Сямёнава*] прынесла. Яна маладзец. Адным словам трохі зарабілі.

Танцавалі добра, хоць было іх усяго тры пары. Але яны, як заўсёды, вясёлыя, маладыя, прыемныя. Красата! Ірэне спадабалася адна падушка.

Стаміліся мы, праўда. Але работу зрабілі[1]. Асабліва маладзец Надзя. Каля яе заўсёды быў натоўп людзей. Шмат людзей памяталі яе яшчэ зь мінулага году.

Але як нам цяжка прабіваць лёд. Так нас яшчэ мала ведаюць.

«What is that?» паказвае на назоў. Нават выгаварыць не адважваюцца. Як нам яшчэ шмат трэба працаваць!!![2]

Я паехала зь Юрам дахаты. Вітаўт яшчэ застаўся. Вечарам трохі былі пасварыліся, але хутка разьвеялася. Надта мы ўжо стомленыя ад усіх гэтых актыўнасьцяў апошнім часам. Так трэба адпачынак. І так мы мусім баімся, што нешта нам пераб'е гэтыя вакацыі.

---

[1] *Пра фэстываль Зора напісала ў «Беларусе» (№ 282, кастрычнік, 1980):*

**ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ**

Перш-наперш аб парку. Парк «Свабоды» («Лібэрты Парк») — зусім малады, бо быў інаўгураваны толькі 14 чэрвеня 1976 году. Створаны быў парк пры дапамозе фэдэральнай і штатавай, аднак уважаецца паркам штатавым зь некаторай фэдэральнай адміністрацыяй. Разьмешчаны парк «Свабоды» на ўзьбярэжжы ракі Гадсон, у адміністрацыйных межах гораду Джэрзі Сіты, якраз насупраць Статуі Свабоды й паблізу востраву «Сьлёзаў» («Эліс Айлэнд»).

Парк "Свабоды" разам із Статуяй Свабоды й музэем іміграцыі ды востравам «Сьлёзаў» мае стварацьь архітэктурны камплекс-помнік мільёнам імігрантаў, якія з востраву «Сьлёзаў» накіроўваліся ў Нью Джэрзі, Пэнсыльванію, Агаё ды далей на захад. Ад дня адчыненьня парку нацыянальныя групы штату маюць у парку значную нагу. Падчас Тыдня Паняволеных Народаў у парку падымаюцца сьцягі паняволеных народаў, шмат якія нацыянальнасьці ладзяць у парку свае фэстывалі, маёўкі, зборкі. Летась, зь ініцыятывы Этнічнае Рады Штату, у парку былі пачатыя этнічныя фэстывалі, у якіх бярэ ўдзел па-над пяцьдзесят нацыянальнасьцяў.

Сёлетні фэстываль адбываўся 13 і 14 верасьня й ад Беларусаў прынялі ў ім удзел: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, Танцавальная Група «Васілёк» ды Асацыяцыя Беларускіх Мастакоў і Ўмельцаў.

Беларусы мелі ў парку некалькі выставачных стоішчаў з вырабамі нашых умельцаў, моладзь арганізавала стоішча беларускіх стравау на продаж (напэўна, нядрэнна зарабіла), стоішча інфармацыйнае літаратуры пра Беларусь, беларускія выдавецтвы, газэты «Беларус» ды паказ беларускага ўмельства прасьці (Надзя Кудасава із сваёй маладзенькай вучаніцай-памочніцай Лёрай Рагалевіч). У адміністрацыйным будынку адбывалася выстаўка прыгожага мастацтва (кіраўнічкай якой была сп-чна Ірэна Рагалевіч), дзе былі выстаўленыя абразы й беларускіх мастакоў. Выстаўкі нашыя, як заўсёды, прыцягвалі вялікія натоўпы гледачоў. Усе распытвалі пра Беларусь, Беларусаў Амэрыкі й г. д. З кажным трэба было пагутарыць, растлумачыць, расказаць. Наведвальнікаў былі тысячы, і нам, трэба прызнацца, было й цяжкавата. Аднак спраўляліся, а па заканчэньні фэстывалю ўсе мы: і аўтарка гэтага рэпартажу, і Галіна Русак, і Надзя Кудасава, і Ліза Літаровіч, і Ірэна Рагалевіч, і Шура Сямёнава, і спадарства Кажуры, і сп. Васіль Русак ды наш госьць зь Нью Ёрку й выдатны памагаты Ўладзімер Русак, а так-жа Сяргей Рагалевіч пачуліся, што здабылі яшчэ большае дасьведчаньне й маральнае задавальненьне ў пашырэньні ведаў пра Беларусь.

Нашая танцавальная група прарабіла таксама добрую працу: «Васілёк» выступаў з трыма танцамі, а публіка хацела іх бачыць больш. Аднак, — і гэта хачу падчыркнуць, — моладзь ня толькі танцавала: прыемна было бачыць, калі шматлікім журналістым, а іх было вельмі шмат, інтэрвію давалі ня толькі такія вэтэраны-танцоры, як Юрка Кіпель, Лявон Войтанка, Ната Русак, Вітаўт Тумаш (малодшы), Раіна Сямёнава, а й іхныя маладзейшыя сябры: Вінцусь Мярляк, Мэры Бойчук ды іншыя.

Наагул-жа, калі йдзе гутарка пра рэкляму, дык і на фэстывалі, і перад фэстывалем рэкляма была добрая. Губэрнатар штату Брэндан Бэрн склікаў спэцыяльную прэсавую канфэрэнцыю для прапаганды фэстывалю. На канфэрэнцыі асабліва было прыемна бачыць, як прадстаўнічку маладога беларускага пакаленьня, сп-чну Галіну Бахар. Мы павінны быць удзячныя Галіне, бо спэцыяльна, каб рэпрэзэнтаваць Беларусаў, яна

на гэты дзень звольнілася із школы. Спрычыніўся значна для рэклямы нашае групы ■ Вітаўт Кіпель, бо ён, як кіраўнік Этнічнае Рады Штату і спонсар фэстывалю, мусіў неаднаразова выступаць і на тэлебачаньні, і па радыі, і ў друку ды знаходзіў магчымасьць сказаць нешта пра Беларусаў.

У дзень фэстывалю В. Кіпель і іншыя сябры нашае групы таксама давалі інтэрвію, а некаторыя зь іх ужо былі паказаныя, а некаторыя (на 13-ым канале) яшчэ будуць паказаныя ў адмысловай праграме аб фэстывалі. Наведалі фэстываль і правялі там некалькі гадзінаў і губэрнатар штату Брэндан Бэрн, і амэр. сэнатар Біл Брадлей, паўтузіна кангрэсмэнаў і каля дзесятку бурмістраў навакольных гарадоў. Гледачоў-жа наведала фэстываль каля трыццацёх тысячаў, а рэпартажы пра фэстываль і пра нашую групу друкаваліся ў звыш дваццацёх газэтах. Здаецца, праца нашая была нядрэнная.

[2] *«Праблема» нашая была ў тым, што назоў «Беларусь» быў мала знаёмы амэрыканскаму грамадзтву. Нашыя старыя эмігранты — «віленскія, менскія, гарадзенскія, магілёўскія» і г. д. запісваліся расейцамі ці, дакладней, расейцамі іх запісвала амэрыканская бюракратыя, ■ яны маўчалі. А тут прыехалі нейкія новыя, якія сябе не называюць расейцамі і тых старых «прысабечваюць»...*

**Нядзеля 14 верасьня**

Пасьнедалі тое, што было ў хаце. Сабраліся й паехалі ў Liberty Park. Там ужо была Надзя, Ірэна й ейны жаніх. Расклалі рэчы. Бабка паехала з намі. Добра было, шмат людзей. Мы сяньня ўжо больш спакойныя. Толькі ў адным мейсцы. Трохі й пахадзілі паглядзець другіх.

А 2-ой паехалі дахаты. Узялі з сабой Аўгена [*Кудасава*][1], каб яго завезьці. Парадзіліся й паехалі да Губэрнатара на прыймо. Па дарозе спусьцілі Аўгена. Яшчэ трохі пагаварылі з Васілём. Рашылі нічога пра царкву ў гэты нумар газэты не даваць. Я дык раю, наагул, нічога пра праблемы царквы ў друк не даваць.

У Губэрнатара[2] было вельмі прыемна. Пагаварылі й зь ім. Сустрэлі й іншых старых знаёмых, пазнаёміліся з новымі. Адным словам, чуліся й добра, й на мейсцы. Мы, асабіста, шмат за гэтыя гады зрабілі, шмат дзе ўлезьлі, шмат дарожак працярэбілі.

Пабылі там трохі й паехалі да мамы. Ужо ў кірунку вакацыяў нарэшце. Па дарозе рашылі заехаць да Нядзьвігаў па вудачкі. У іх ужо было ўсё замкнута, загароджана. Пабылі трохі там. Вітаўт выпіў піва. Далі яны нам рыбы, памідораў для мамы.

Прыехалі да мамы ўжо каля 10-ай. Мама ўжо зьбіралася адпачываць. Вітаўт яшчэ трохі паеў. Мама цяпер заўсёды робіць курыны суп, які Вітаўт надта любіць. Трохі паглядзелі T.V. і спаць.

---

[1] *Дапамагалі Надзе даглядаць Аўгена.*

[2] *У хаце губэрнатара раз на год бывалі прыняцьці для розных дзеячоў штатных гуманітарна-мастацка-сацыяльных аддзелаў. Мы з Зорай бывалі ў яго ў гасьцёх разоў дзесяць. Тады губэрнатар жыў у Прынстане.*

**Панядзелак 15 верасьня**

Усталі. Пасьнедалі. Яшчэ трохі каля хаты пакруціліся й паехалі — на вакацыі. Па дарозе яшчэ купілі газэту, паглядзець, ці нічога няма пра нас з фэстывалю.

Ехалася добра. На паром прыехалі якраз у час, але паром спазьніўся. Пагода цудоўная. Сядзелі на палубе. Прыехалі ў свой стары матэль. Ужо на бераг не пайшлі, хоць пагода й была сонечная. Сядзелі ў хаце, адпачывалі. Пазьней выехалі трохі паехаць, паглядзець што як. Купілі марожанага, пазванілі Юру. У яго ўсё добра, атрымаў першую зарплату. Прыехалі дахаты й адпачывалі. Трохі захаладала. Ага, праехаліся пад яблыкі. Усё закрыта. Паднялі пару ападкаў. Яблыкі добрыя. Заўтра паедзем сабраць[1].

---

*[1] Мы праводзілі свой адпачынак у штаце Дэлавэр. Звычайна выбіраліся ў верасьні — таньнейшыя матэлі, ня так шмат людзей. У штаце Дэлавэр шмат яблычных садоў, дзе дазваляецца самім зьбіраць з дрэваў яблыкі. Каля кожнага дрэва — лесьвіца. Рві яблыкі якія хочаш: ранэткі, антонаўкі. Мы звычайна набіралі пару мяхоў. Калі зьбіраеш сам — вельмі танна!*

**Аўторак 16 верасьня**

Зраньня было пахмурна. Паехалі, пасьнедалі. Каля гадзіны 12-ай пайшлі на пляж. Хмарна, але цёпла. Я села й пачала парадкаваць дзёньнік. Вітаўт ляжаў побач, хадзіў, трохі каля вады пабыў, але не акунаўся. Прынёс паесьці. Прыемна перакусілі на беразе. Адчуваем сябе ўжо зусім распружана. Пазьней Вітаўт пайшоў у пакой. Я мела таксама хутка йсьці, але выглянула сонца й я засталася. Так прыемна паляжала, адчула на твары цеплыню. Як прыйшла ў пакой, дык убачыла, што нават загарэла. Вітаўт яшчэ трохі паспаў і мы паехалі, купіць нешта паесьці. У рэстаран ісьці не хацелася. Добра перакусілі й адпачывалі, глядзелі T.V. Дзень прайшоў цудоўна.

**Серада 17 верасьня**

З самага раньня было пахмурна, але пакуль мы сабраліся, то распагодзілася. Вітаўт пайшоў і заплаціў яшчэ за дзень. Выпілі трохі кавы й пайшлі на пляж. Спачатку было трохі сонца, але хутка захмарылася, нават нібы дожджык пачаў марасіць, але мы сядзелі, адпружаліся.

Вецер цёплы, з поўдня. Я пайшла прайсьціся па берагу. Зайшла даволі далёка, аж пад старыя, з 2-ой Сусьветнай Вайны бункеры[1]. На беразе толькі аказыйныя людзі. Трохі далей адна маладая пара будавала замак каля берагу. Далей ужо нікога ня было, ішла я адна й разважала. (Калі [redacted] пачынала гэты дзёньнік, дык вырашыла запісваць толькі факты. Столькі ў нас актыўнасьцяў, столькі ўсяго робіцца, здараецца, перажываецца, што запісваць факты вырашыла патрэбным і... дастатковым. Разважаньні і рэакцыі абмежавала да самага мінімуму. Бо пісаць дзёньнік, бяз роздумаў зусім — амаль немагчыма. Аднак сяньня не магу ўстрымацца ад развагаў.)

Ішла ўжо назад берагам, зусім каля вады, аглянулася назад і сьляды мае ўжо амаль прапалі, вада — хвалі размылі. Так неяк стала крыўдна. Вось ідзеш, чалавек, пакідаеш пасьля сябе сьляды, а іх змываюць хвалі. Але ідучы па пяску, хоць сьляды па сабе пакідаеш,

хоць ненадоўга, але ўсё-ж пакідаеш. А на грунту, на пратоптанай дарозе — дык і сьлядоў не пакінеш па сабе. Так, мусіць, і ў нашым грамадзкім, беларускім жыцьці, — мы яшчэ йдзем па пясочку, яшчэ не ўтапталі сабе дарогу — дык трохі й сьлядоў па сабе пакідаем, пакуль жыцьцёвыя хвалі іх зноў змыюць.

Зноў варочаюся да будзёншчыны. Я трохі памачылася ў моры. Вада цёплая, але хвалі вельмі моцныя. Пайшлі трохі перакусілі, стварыўся рамантычны настрой, не без гэтага. Я мала пра гэта пішу, гэта ня значыць, што мы ня маем рамантычнага жыцьця — я проста не лічыла патрэбным пра гэта зазначаць, але цяпер проста само напісалася, дык ужо так і пакінула.

Надвор'е прыемнае, трохі вецер, можа, замоцны. Вітаўт сьпіць у пакоі, а я пайшла зноў на бераг, сяджу й пішу дзёньнік. Добра, спакойна. Дыхаецца поўна.

Прыйшоў Вітаўт. Цяпер плавае ў моры. Я зараз пайду яго сфатаграфую. Пасядзелі яшчэ трохі. Хутка Вітаўт пайшоў (яму на адным мейсцы не сядзіцца), а я яшчэ сядзела, аж пакуль сонца не пачало хавацца за хмары. Памылася й паехалі павячэраць.

Рашылі, што заўтра паедзем назад, да мамы. Яшчэ дзянёк было-б можна пабыць, але чамусьці вырашылі ехаць. Ня ведаю чаму й як. Мусіць Вітаўту ўжо не сядзіцца. Але так вырашылі, дык ужо й мяняць ня будзем. Вечар правялі добра. Пазванілі маме, што прыедзем заўтра да яе. Пазванілі Алесі. У яе ўсё добра. Яна чуецца, здаецца, зусім добра. Пахадзілі трохі па набераўжнай у Rehoboth[2], зьелі марожанага й паехалі адпачываць. Глядзелі T.V. Вельмі добра. Ноччу быў дождж.

---

*[1] На гэтым узьбярэжжы ў штаце Дэлавэр было па-над паўтузіна бункераў з часу II Сусьв. вайны. Баяліся высадкі дэсанту з падводных лодак. Вялікія ўмацаваньні.*

*[2] Рэгобат — горад на ўзьбярэжжы акіяну ў штаце Дэлавэр. Вельмі стары, заснаваны швэдамі.*

**Чацьвер 18 верасьня**

Усталі рана. Неяк ужо ня спалася. Трохі сумна, што выязджаем. Але надвор'е непрыемнае: сыра, хмарна — дык хоць ня крыўдна, што выбраліся.

Паехалі на Ferry[1] рана. Думалі недзе па дарозе пасьнедаем. Нічога, аднак, не знайшлі. Я дык неяк прыгнечана чуюся. Зусім дрэнны настрой. Амаль было не пасварыліся. Толькі што абодва трымаліся, каб не сапсуць адносінаў. На пароме паелі, але без апэтыту, без настрою. Вітаўт пайшоў у машыну[2] паспаць, а я сядзела на палубе й разважала, сумавала (не таму што адна, мне хацелася якраз быць адной) — неяк крыўдна чагосьці было. Можа, што выехалі з нашага мейсца зарана. Але-ж не хацелася, каб там надакучыла. Хочацца, каб у нас ад гэтай нашай мясьцінкі прыемныя ўспаміны засталіся.

Вось-жа, сядзела, разважала й пад канец падарожжа ўжо супакоілася, зьмірылася, сама з сабой пагадзілася. Мы-ж яшчэ на канікулах — трэба карыстаць з кожнай хвілінкі.

Заехалі па дарозе у Woodbine, дзе першая жыдоўская фармарская калёнія ў N.J. заснавалася. Там нічога цікавага, толькі старая сінагога.

Паехалі у Atlantic City, у казіно. Напачатку ўсё прайгравалі. Тады ўжо амаль зьбіраліся йсьці, як я на перадапошні кводар выйграла 200 кводараў — $50. Усё зазьвінела, запалілася. Мы разьмянялі выйграныя грошы $40 пакінулі, а на астатнія яшчэ трохі пагулялі. Праз якісь час я йзноў выйграла, цяпер толькі (толькі!) $25. Спачатку хацелі й іх перамяняць, але прайгралі. Дык вось і прыемнасьць атрымалі і асталіся амаль пры сваіх грашох.

Прыехалі да мамы трохі пасьля 6-ай. Павячэралі. Трохі яшчэ пасядзелі, паглядзелі T.V. і пайшлі спаць.

---

[1] *Паром.*

[2] *Паром звычайна мае тры паверхі: адкрыты верхні — палуба, сярэдні — рэстаран і ніжні, дзе ладуюцца машыны. А ўжо пад гэтым ніжнім — машыннае аддзяленьне.*

**Пятніца 19 верасьня**

Раніцай зноў ня спалася мне. Вітаўт спаў.

Паехалі з мамай па пакупкі. Па яблыкі й персікі. Пазьней па яблычны сок, цэмэнт, насеньне жыта, фарбу, ніткі. Адным словам шмат чаго купілі. Добра справіліся. Прыехалі, селі разам перакусіць. Мама прачытала нам успамін пра сьмерць Купалавай маці[1]. Мы як былі мінулы раз, зайшла гутарка пра тое, што Купала й ягоная маці памерлі ў адзін дзень нібы. Мама прыпомніла, што была сьведкай і арганізатарам паховін Купалавай маці. Вось мы й папрасілі яе напісаць успаміны. Вельмі добра напісала. Цікава, прачулена. Я дык і прасьлязілася, як мама чытала.

Вітаўт стаў фарбаваць каля дзьвярэй. Мы сьпяклі коржыкі. Я села трохі на двары, на сонцы. Надвор'е надзвычайнае.

Заехала Гэлэн[2]. Яна заўсёды заедзе, як бачыць, што я тут. Мама глядзіць свае Soap operas. Прыслаў ёй доктар рахунак на $63. Я вазьму з сабой і чэкам заплачу ды адашлю ў панядзелак. Атрымала паведамленьне, што гэты год за электрыку аплоціцца $125. Добра. Нашыя прайграныя ў казіно грошы на нешта добрае ўсё-ж ідуць[3].

Сонца хаваецца — іду ў хату. Добра, спакойна, мірна.

---

[1] *Апалёнія Савёнак пра гэта пісала ў друку.*

[2] *Суседка Зорынай мамы.*

[3] *Напісана жартам. У друку пісалася, што казіно ў павеце Атлянтык, дзе жыла мама Апалёнія, будзе аплачваць старэйшым людзям з малым даходам зімовыя выдаткі на электрыку і ацяпленьне! Мараль: гуляй у казіно — некаму зробіш дабро.*

**Субота 20 верасьня**

Раніцай зьезьдзілі па памідоры. Сабралі аж два кошыкі. Добрыя, зялёныя.

Трохі яшчэ папарадкаваліся каля хаты. Вітаўт засыпаў, заклаў трубы навонку, пакасіў трохі.

Паехалі пасьля 3-яй. Быў трохі трафік, але мы не сьпяшаліся. Добра, спакойна даехалі. Шмат часу заняло пакуль распакаваліся ўсё пазносілі, расклалі. Перагледзелі пошту — шмат было. Дзеці на вясельлі Юркі Азаркі і Ноны.

Адпачывалі. Я пайшла спаць рана. Вітаўт сядзеў позна. Тады ўзяў Anicine і ня мог ніяк заснуць. Пасьля якой 1-ай пачалі падчэкваць дзяцей. Я трохі драмала. Вітаўт усё ёрзаўся.

Як дзяцей ня было дома пасьля 3-яй пачалі ўжо трохі хвалявацца. Чым далей, тым больш. Нарэшце мне прыйшло да галавы, што яны хіба недзе там засталіся нанач. Прыпомнілася, што па тэлефону я Алесі нават сказала: «Спаткаемся ўжо хіба ў нядзелю». Я ўсё больш і больш была пераконана, што яны недзе заначавалі і нават не хвалявалася-б, каб ня Вітаўт. Ён, як заўсёды, пачаў ужо псіхаваць. Я старалася супакоіць, разважыць, але гэта, здаецца, толькі горш. Цэлую ноч ня спалі.

**Нядзеля 21 верасьня**

А сёмай Вітаўт перакусіў (я падсмажыла яму яйкі) і заснуў на пару гадзінак. А 9-ай я пазваніла да Русакоў. Дзеці, як я й меркавала, там, сьпяць. Пагаварыла з Алесяй. Яны прыедуць недзе каля 12-ай.

Вітаўт паехаў у царкву. Я засталася чакаць дзяцей.

Прыехалі яны ўжо каля 1-ай. Я дык усё малілася, каб яны хаця прыехалі перад Вітаўтам. Вітаўт прыехаў яшчэ пазьней. Нарэшце мы ўсе сабраліся за стол. Прыемна паелі, пагаварылі.

Алеся прывезла Юру падарункі на дзень народзінаў. Купіла таксама мне адну чарку для дэсэрту. Прыгожая, але дарагая. Мусіць я такіх не захачу.

Пазьней разышліся хто-куды. Добра й не пагаварылі з Алесяй. На вясельлі, казалі, было вельмі добра. Шмат людзей — пыталіся, чаму нас ня было.

**Панядзелак 22 верасьня**

Першы дзень на працы. Горача. Працуецца не надта што — адвыкліся. Але пашчасьціла — абвесьцілі ТНІ. Прыехала дахаты. Трохі агледзелася. Вечарам паехалі купляць Юру касьцюм. Вітаўт атрымаў грошы. Купілі добры касьцюм за $140. Трохі перарабляць трэба — пакінулі.

**Аўторак 23 верасьня**

На рабоце нічога цікавага. Прыходзіў Лашук[1]. Прыйшоў і Тумаш. Пайшлі разам на абед, да нас у кафэтэрыю. Гаварылі пра Салаўя, пра

каталёгі (Лашук прапануе супрацоўніцтва). Сымпатычна прайшла сустрэча. Тумаш папрасіў знайсьці яму інфармацыю пра «Stevensonian Law of Runs and Remnands» — выраз які ён убачыў у рэцэнзыі на Фіоля (Неміроўскага). Стала шукаць — знайшла толькі, хто й які Stevenson.

Юра паехаў на зборку BAYO[2]. Ён сур'ёзна ўзяўся за сваю функцыю старшыні.

---

*[1] Аляксандар Лашук — беларус з Англіі. Ахвяраваў значную суму на друк «Архіваў БНР», наагул добра падтрымваў працу БІНіМу.*

*[2] BAYO — англамоўны скарот Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (АБАМ). Юра ладны час быў старшынём.*

**Серада 24 верасьня**

На рабоце нічога цікавага. Я неяк чуюся не зусім добра — баліць галава. Пайшла раней, бо трэба было да дэнтыста. Ён уставіў новую плёмбу.

**Чацьвер 25 верасьня**

Я засталася дома — вельмі баліць галава. Сяньня Юраў дзень нарадзін. Вітаўт прынёс торцік. Юра прыйшоў даволі позна. Але сабраліся ўсе за тортам. Распакаваў падарункі. Быў, здаецца, задаволены.

**Пятніца 26 верасьня**

Я зноў дома. Сёньня трохі лепш стала па абедзе. Нічога не рабіла. Толькі ляжала й глядзела T.V. Пазьней, праўда, нават адзелася й чакала Юру, каб прывезьці ягоную машыну з гаража (завезьлі ў чацьвер на руцінную інспэкцыю).

**Субота 27 верасьня**

Раніцай зьезьдзіла [*на рынак*] у Патэрсон, купіла фасолі, арэшкаў. Ня было шмат часу на іншыя рэчы — сьпяшалася у Beauty. Хутка там справілася й рашыла зьезьдзіць па пакупкі ў Парамус[1]. Купіла сабе добры касьцюмчык і ніжнюю кашульку да яго. У Sterns якраз распрадажа, поўна людзей. Я трохі пахадзіла, але нічога не купіла. Прыйшла ужо цюцелька ў цюцельку, каб толькі абед варыць.

Вітаўт прыйшоў ня позна. Павячэралі. Юра у Rutgers на [*футбольнай*] гульні Rutgers — Princeton.

Прыходзіў Дутка — прынёс падушку. Трохі пасядзеў. Я глядзела [*тэлесэрыял*] «Centennial».

---

*[1] Парамус — мясцовасьць на паўночным усходзе штату Нью Джэрзі — гандлёвы цэнтар. Там — сотні крамаў, паркоўка на 10 тысячаў машынаў, гіганцкі шопінг-цэнтар.*

**Нядзеля 28 верасьня**

Раніцай я стала прыгатоўліваць фасольку. Юра зьезьдзіў па сьнеданьне. пасьнедалі й паехалі ў царкву. Прыехалі ўжо позна. На Atlantic Ave. быў кірмаш — вуліцы загружаныя[1]. Але добра запаркавалі,

справіліся. Абед прайшоў удала. Нават трохі й зарабілі. Сабралася больш людзей, як спадзяваліся, дык нават ежы трохі забракавала. Былі і з Мерляковай царквы і з New Brunswick і шмат прыезджых. Адчувалася нейкая выняткоавая еднасьць. Быў Строк[2]. Усе гаварылі пра з'яднаньне, пра супольнасьць.

Я дамовілася з Сільвановічам прыехаць паглядзець фатаграфіі ў сераду. Паедуць з намі й Шук[*елойць*] і Лашук, ён ужо даўно гаварыў, што хоча неяк дастацца ў New Jersey.

Вечар правялі параўнаўча спакойна. Вітаўт хоць пару чаркаў і выпіў, але быў у парадку.

---

*[1] Гадавы кірмаш на Atlantic Avenue. Транспартны рух перакрываецца — толькі пешаходы. Беларуская царква — у надзвычайным месцы. Выдатная прапаганда Беларусі і нядрэнны прыбытак для царквы, бо сястрыцтва прадае ежу, а наведнікаў — сотні.*

*[2] Архімандрыт Строк — беларускі рэлігійны дзеяч, быў актыўны ў часе нямецкай акупацыі, адседзеў тэрмін у канцлягеры, быў у Барысаве, потым выехаў на Беласточчыну. Пазьней прыехаў у ЗША, быў нейкі час сьвятаром у Чыкага, Саўт Рывэры і ў Таронта (Канада). Калі ўжо быў вельмі стары, вярнуўся на Беласточчыну, дзе і памёр.*

**Панядзелак 29 верасьня**

Вітаўт паехаў у Douglass College на зборку Historical Commission аб Oral History — далейшыя праэкты[1].

У мяне нічога цікавага.

Вечарам неяк трохі перагаварылі з-за глупства. Пасьля цяжка й прыпомніць, як пачалося. [redacted] зрабіла Тумашу сьпісак людзей, што дапамагалі пры ўкладаньні Салаўя. Быў вельмі напружаны вечар.

---

*[1] Штатная Гістарычная Камісія занялася зьбіраньнем «вуснай гісторыі» — сотні інтэрвію зь людзьмі, якія маюць «нешта» расказаць. Усе імігранты, якія ехалі праз Ellis Island — «Востраў Сьлёз» — траплялі ў гэтую катэгорыю. Я даў сьпіс беларусаў, зь кім зрабіць інтэрвію. Шмат інтэрвію сабрана і захоўваецца ў штатным архіве. Інтэрвію Тамары Кольбы (Стагановіч) было надрукаванае ў кнізе: New Jersey, Ethnic Life Series No. 10. Looking Back: Eleven Life Stories. Trenton, NJ Historical Commission, 1986.*

**Аўторак 30 верасьня**

Палучка. У абед я хадзіла купляць падарунак для Ірэны. Купіла вельмі прыгожае пасярэбранае вядзерца для лёду.

Прыходзіў Тумаш. Перадала яму лісту дапамагальнікаў. Гаварылі пра працу [...] пра Фіоля, пра папраўку бібліяграфіі.

Вітаўт напісаў артыкул для газэты пра «Парк Свабоды». Я яму дала колькі заўвагаў, папрасіла скараціць.

**Серада 1 кастрычніка**

Вітаўт паехаў у Пасэйк на ўрачыстасьць мэра Пасэйку, прысьвечаную Кірылу й Мятоду[1]. Добра, што ён быў, а то беларусаў і не ўспамянулі-б.

Хадзіла нешта купіць для мамы. Нічога не знайшла талковага.

Паехала дахаты раней — хадзіла да дэнтыста. Ён гэты раз пачысьціў мне зубы.

Прыехалі Лашук і Шук[*елойць*] разам зь Вітаўтам. Павячэралі й паехалі да Сільвановіча. Там перагледзелі фота, выбралі, што падыходзіла. Шук[*елойць*] усё нешта круціць — «Стась ня пусьціць гэта, ня пусьціць тое».

Лашук паехаў да свайго знаёмага. Шук[*елойця*] мы адвезьлі на аўтобус. Стаміліся. Вітаўт трохі перадаў і з чаркай і зь ядой. І дома шмат еў і ў іх.

Юра прыехаў позна. У яго быў бацькоўскі дзень у школе, а пазьней паехаў недзе да сяброў.

Сёньня першы дзень, што заставілі поінцета ў цемнату[2]. Цікава ці што выйдзе?

---

[1] *Была выдатная ўрачыстасьць. Для музэю гораду Пасэйк трэба было даць кірылічныя друкі. Было перададзена некалькі беларускамоўных кніжак. Урачыстасьць прысьвечаная Кірылу і Мятоду, бо ў горадзе жыве шмат славянаў. Асабліва актыўныя — славакі.*

[2] *Кветка, якая на зіму ставіцца ў цёмнае месца.*

## Чацьвер 2 кастрычніка

У абед хадзіла з Ballarine да Fina[1]. Купіла яшчэ два вядзёрцы. Яна таксама купіла.

Знайшла Тумашу вестку пра «Runs and Remnants».

Вечарам званіў Калоша. Сказала яму пра фатаграфіі. Ён параіў яшчэ зьвярнуцца да Дубягі. Сказаў, што дадуць $200 для БАЗА й $150 для моладзі.

---

[1] *Крама срэбных вырабаў.*

## Пятніца 3 кастрычніка

Вітаўт паехаў у Трэнтан (рана зазванілі) для праверкі расходаў Барбары Т.[1] Доўга яго ня было й не званіў. Я ўжо хвалявалася, каб якой прыкрасьці ня было.

Тумаш перадаў мне манускрыпты бібліяграфіі для праверкі. Паказала яму артыкул Stevenson'а. Ён быў impressed, што я знайшла. Ехалі дахаты на машыне — прыемна.

Юра паехаў у Вашынгтон. Вечар правялі спакойна. Вітаўт усё жаліцца на жывот. Тумаш праверыў яму ціск — усё ў парадку. Наконта жывата сказаў, што можа быць калайтіс[2].

---

[1] *Барбара была сакратаркай Этнічнай Рады. У рады быў бюджэт, я за ім мала сачыў, усё рабіла Барбара. Але ўсё было ў парадку. Магчыма, некаторыя Барбарыны паездкі былі непатрэбныя. Пасьля я быў вельмі ўважлівы.*

[2] *Каліт.*

**Субота 4 кастрычніка**

Сяджу ў Beauty. Упарадкавала трохі дзёньнік. Пару дзён зноў запусьціла. Заняты сёньня дзень. Толькі скончыла з валасамі, купіла паперы абкласьці падарунак, запакавалася й паехала.

Па дарозе да [*Ніны*] Згірскай заехала яшчэ ў магазын, купіла калбасы й розных прысмакаў. У Згірскай купіла паясы, якія яна мела зробленыя, заказала больш. Чуць пасьпела на Shower[1]. Было вельмі прыемна, прыгожа, смачна прыгатавана. Падарункі былі добрыя. Мой спадабаўся, асабліва падушка.

Яшчэ ўсе заставаліся, а я паехала да мамы. Забрала свае рэчы, што засталіся ў Надзі ад выстаўкі. Адну ляльку трэба замяніць — не мая.

Ехалася добра. У мамы зноў пачастунак. Але яшчэ трохі пасядзелі, пагаварылі. Званіў В[*ітаўт*]. Перадала маме, што прывезла. Нічога гэтым разам няма цікавага.

---

*[1] Вечарына з падарункамі для маладой.*

**Нядзеля 5 кастрычніка**

Раніцай завезла маму ў царкву. Пасьля паехалі купілі яблыкаў, соку. Заехалі у Acme[1]. Па дарозе, як заўсёды, гаварылі. Я расказала маме пра свае працы.

У мамы ўсё добра. Яна чуецца ОК. Атрымала ліст ад цёці Ядзі — тая шмат напісала гэтым разам пра Лёдзіка[2].

Зьезьдзіла па памідоры — сабрала. На полі прыемна, ціха, спакойна. Вёска жыве зусім інакш як мы. Добра, што мы яшчэ не адарваліся ад натуральнага жыцьця. Я ўжо маме казала — і навуковай працай займаемся й памідоры на полі зьбіраем.

А 4-ай выехала дахаты. Ехалася добра. Набрала газаліны. Усё ў парадку. Бо ўчора я ўжо пачала хвалявацца, што неяк шмат газаліны выходзіць.

Вечарам яшчэ адпачывалі. Павячэралі тым, што прывезла.

---

*[1] Прадуктовая крама.*

*[2] Цёця Ядзя — сястра Апалёніі. Жыла ў Курску. Лёдзік — Зорын брат, сын Апалёніі, ад 1941 году ня жыў у Беларусі. Быў паранены пад Сталінградам. Кантакту ў Апалёніі зь ім не было. Толькі Зора ў канцы 1990-х навязала зь ім кантакт. Жыў у горадзе Златавусьце (гл. ліст Лёдзіка да Зоры на с. 16).*

**Панядзелак 6 кастрычніка**

Прыходзіў Лашук. Перадала яму каталёгі. Яшчэ трохі пагаварылі ды ён ужо й разьвітаўся. Яшчэ недзе паедзе, але сюды хіба ўжо не прыедзе.

Вечарам пачала пераглядаць бібліяграфію Zimmera[1]. Шмат памылак, што патрабуюць праверкі. Ня так і проста, як Тумаш гаварыў.

---

*[1] Шчэпан Зымэр — польскі дасьледнік кірылічнага друку ў Кракаве. Выдаў пра*

*гэта кніжку. Зора, Тумаш (асабліва) і Надсан Зымэру дапамагалі. Зымэр быў ганаровым членам БІНіМу.*

**Аўторак 7 кастрычніка**

Займалася цэлую раніцу праверкай бібліяграфіі.

З Тумашам абгаварылі некаторыя дэталі, але бальшыню трэба яшчэ праверыць самой. Тумаш прынёс перарobленую Салаўёву бібліяграфію, што Пруські пераслаў. Паправіў, але не зусім. Гаварылі пра Адамовіча. Дрэнь выходзіць: не працуе над Салаўём зусім.

Вітаўт паехаў на паседжаньне Ethnic Center. Там шмат пераліваньня з пустога ў парожняе. Вітаўт кажа, што яму ўжо гэта усё пачынае дакучаць. Трэба не адрывацца ад пісаніны — гэта для нас важней.

Званіў Weck — хоча, каб мы мелі фэстываль[1]. Званіў Васіль Р[*усак*]. У іх дрэнь з царквой. Заўтра прыедуць гаварыць са Смародзкім.

---

*[1] Цэнтар мастацтваў, дзе адбываліся беларускія фэстывалі ў 1976, 1977 і 1979 гадах, запрашаў беларусаў зноў ладзіць фэстываль, бо нашыя фэстывалі карысталіся посьпехам і былі прыбытковыя. Я адмаўляўся быць арганізатарам, бо займаўся кнігай «Беларусы ў ЗША», а іншых аматараў не знаходзілася.*

**Серада 8 кастрычніка**

Прыходзіла Тамара. Гаварылі пра яе Cook Book[1]. Мы ёй дапаможам матар'яламі. Гаварыла з Мэланчуком пра выстаўку на Славянскі Тыдзень. Шукала кніжкі беларускія.

Вітаўт паехаў да Toporeck'а[2] на перадвыбарны (дэмакратычны!) сход. Прыязджалі да Смародзкага[3] зь New Br[*unswick*]. Да нас не заходзілі.

---

*[1] Некалі Зора ўклала для беларускіх фэстываляў невялічкую брашурку пра беларускія стравы, і яны з Тамарай Стагановіч вазіліся з ідэяй выдаць большую кнігу. Ідэя не была рэалізаваная — яны былі занятыя іншымі справамі.*

*[2] Джон Тапорэк — польскі яўрэй, які рос ва Ўзбэкістане, быў спэцыяльным дарадцам губэрнатара. Дзе мог выцягваў беларусаў.*

*[3] Адвакат Мірон Смародзкі — украінскага паходжаньня. Быў на канфэрэнцыі ў Мадрыдзе. Выступаў зь беларускімі матэрыяламі. Гаварыў пра русыфікацыю ў БССР.*

**Чацьвер 9 кастрычніка**

Напісала анатацыі для выстаўкі Славянскай. Bal[*larine*] праверыла. Аддала Лізе [*Літаровіч*] з кніжкамі. Думаю, што будзе добра. Рабіла папраўкі для бібліяграфіі Zimmera. Шмат памылак — зойме больш часу, чымся спадзяваліся.

Вітаўт быў раніцай у Channel 13[1]. Добрыя slides. Прыехаў на машыне на работу. Назад ехалася добра. Усё-ж з машынай прыямней!

---

*[1] Адукацыйны тэлеканал. Часам паказваў беларускія праграмы.*

**Пятніца 10 кастрычніка**

Цэлы дзень баліць галава. Вельмі ўзрадавалася, калі Тумаш прыйшоў і сказаў, што на абед з Zimmer'ам[1], як меркавалі, — ня пойдзем

Пазваніў Шук[*елойць*]. Прыйдзе пасьля работы пад нас.

Шмат набегалася — рыхтавала сабе матар'ялы на даўгі weekend.

Шук[*елойць*] прынёс рэшту фатаграфіяў, што Стась не зьмясьціў у газэту. Вельмі быў наракаў на яго, што сваволіць, робіць што хоча, ні з кім ня лічыцца. Але Шук[*елойцю*] таксама верыць няможна: Нам ён адно гаворыць, а Стасю — другое. Паабяцаў, што прынясе мне Бел. кухарку па-ангельску.

Вечарам Вітаўт мусіў ехаць на аэрадром у Newark, перадаць Васілю [*Русаку*] матар'ялы для ул. Мікалая. Васіль і іншыя едуць у Дэтройт на спатканьне з Уладыкам, які цяпер там. Добрая нагода перадаць, тое што зрабіў для Мікалая.

Юрачка неяк не хацеў ехаць сам на пробу танцаў (мусіць, бедны, стамляецца). Вітаўт прапанаваў яму ехаць разам у Newark, а тады на танцы. Юра прыняў гэта зь вялікай ахвотай.

Я дома адпачывала. Прыехалі яны ня позна. Танцы добра. Вітаўт гаварыў з Бартулём — пра газэту, пра Стася. Бартуль казаў, што Стась баіцца Вітаўта, што той пярэйме газэту.

---

[1] *Зымэр жыў у Каліфорніі, але часта прыяжджаў у Нью Ёрк.*

**Субота 11 кастрычніка**

Дождж. Прыкра на двары. Мы пасьнедалі разам. Я адмовілася ад «валасоў». Сядзелі дома, працавалі. Я папраўляла Бібліяграфію Zimmer'a. Вітаўт — Купалу-Коласа, перакладаў для Гутырчыка[1] пра вэтэранаў, пераглядаў газэты. Прыслала Ірэна запросіны на вясельле.

Пазваніў Дутка, што прыедзе, прывязе падушку. Трохі пасядзелі, пагаварылі. Прыехаў Юра з гульні. Rutgers прайграў, але ня шмат. Усе яны задаволеныя. Юра вырашыў ехаць у Washington. Памагла яму сабрацца. Бабка сьпякла Алесі коржыкаў. Перадала ёй і памідораў і яблыкаў трошкі.

Вітаўт павёз Юрачку на цягнік. Дутка пайшоў.

Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Сяргей Гутырчык — старшыня вэтэранаў.*

**Нядзеля 12 кастрычніка**

У царкву не паехалі. Вітаўт завёз да Болеся[1] матар'ял для перадачы Гутырчыку (праз Заморскага, Бартуля). Цэлая эстафэта.

Я памыла бялізну. Пагода добрая. Парадкавала паперы, што сабраліся ў мяне ў кутку.

Вітаўт зьезьдзіў да [*Эміка*] Рыжага — пераглядзіць архіў брата [*Уладзіка*]. Забыўся ўзяць ягоныя дакумэнты, якія мае ўжо даўно й якія Рыжы дамагаецца. Ну й галава!

Вечарам працавалі, адпачывалі. Ня бралі тэлефонаў. Я пазваніла толькі маме. У яе ўсё добра.

---

[1] *Болесь Яновіч — наш сусед.*

**Панядзелак 13 кастрычніка**

Раніцай паелі, што было ў хаце й паехалі па пакупкі. Купілі Вітаўту штаны, бацінкі, скарпэткі. Юру — ніжнюю бялізну. М. В. купіла тым часам калбасы — гэта якраз насупраць.

Завезьлі Вітаўта дахаты й паехалі яшчэ ў горад. Купілі тое-сёе. Толькі час і застаўся на дробныя куплі. Трэба было ехаць дахаты, бо Вітаўт меў спатыкаць Юру.

У Юры й Алесі ўсё добра. Перадаў ёй матар'ялы для ейнай тэзы пра Human Rights in Belarus[1] і іншае, што мы пераслалі. Алеся прыедзе на вясельле Ірэны.

Я працавала цэлы вечар над Фіолем[2]. Вітаўт сваё рабіў. Юра трохі пабыў дома й паехаў да свайго сябры. Мае кончыць application у мэдычную школу ў Мэксыка[3]. Нешта ён цягне. Мы яго ўсё падпіхаем, каб хутчэй падаваў. Час ідзе.

---

*[1] Адна зь першых большых працаў Алесі на юрыдычным факультэце (сэмінар) была прысьвечаная тэме правоў чалавека ў БССР.*

*[2] Трэба было дапамагаць Зымэру з друкамі Фіёля.*

*[3] Юра сказаў, што хоча паступіць на мэдыцынскі факультэт, а паколькі яго школьныя адзнакі не былі такія высокія, амэрыканскія факультэты маглі яго не прыняць. Таму ён думаў паехаць у Мэксыку. Мэксыка мае дамоўленасць з ЗША аб студэнтах мэдыцыны: усе клінічныя сэмэстры праходзяцца ў ЗША, а потым трымаецца яшчэ 5-7 спэцыяльных экзамэнаў, каб атрымаць амэрыканскі дыплём. Юра ўсё гэта выканаў і мае два дыплёмы: мэксыканскі й амэрыканскі.*

**Аўторак 14 кастрычніка**

Прыходзіла Тамара. Паехалі зь ёй у кніжны магазын. Яна купіла кухарку[1] па-ангельску і яшчэ колькі кніжак. Я купіла пару слоўнікаў і дзьве кніжкі танцаў. Ехалі й туды й назад таксі, але ўсё-ж трохі спазьнілася на работу. Аддала Тамары, што сабрала з рэцэптаў. Быў там і Тумаш. Глядзелі выстаўку ў Славянскім Аддзеле[2]. Выстаўка выйшла даволі ўдалая.

З Тумашам была гутарка пра бібліяграфію. Цяпер ён ужо кажа не сьпяшацца, але рабіць уважліва. Быў ён у Адамовіча. Нічога, здаецца, той яшчэ не зрабіў. Мы ўжо казалі, каб выдаць кніжку толькі зь невялічкай біяграфічнай нататкай, а хай ён кнігу пра Салаўя піша асобна.

Юра выслаў аплікацыю ў Tampico[3].

Сяньня [*ў Брукліне*] быў суд царкоўны. Нічога яшчэ [*канчаткова*] ня вырашылі — адклалі на чацьвер.

---

*[1] Кнігу кулінарных рэцэптаў.*

*[2] Пэрыядычна ў Славянскім аддзелеладзіліся выстаўкі. Там заўсёды былі беларускія матэрыялы, а часта цэлыя выстаўкі былі прысьвечаныя беларускай тэматыцы.*

*[3] Заяву на паступленьне ўва ўнівэрсытэт — Universidad del Noreste, Tampico, Мэксыка.*

**Серада 15 кастрычніка**

Палучка. Вітаўт езьдзіў на Down Town да ўкраінцаў[1] — перагледзець брашурку пра дэкаланізацыю. Выйшла добра.

Я сядзела ў абед і парадкавала дзёньнік. Вечарам працавалі: над бібліяграфіямі кожны сваімі. Я спадзяюся, што заўтра ўжо скончу. Прыходзіў Шук[*елойць*]. Падпісала банкаўскае конта на газэту[2].

Уладыка Мікалай прыслаў ліст адносна царквы.

---

*[1] Паседжаньне было ў доме Украінскага Камітэту. Рыхтаваліся матэрыялы для кнігі і мэмарандумы ў ААН аб каляніяльным стане рэспублік СССР.*

*[2] Рахункі «Беларуса» аплачваліся чэкамі з банку. Трэба было тры подпісы. Адказныя асобы мяняліся — найчасьцей падпісвалі Стась Станкевіч, Ян Запруднік, Зора Кіпель, Антон Шукелойць, Рая Станкевіч, Францішак Бартуль.*

**Чацьвер 16 кастрычніка**

Увесь час займаюся бібліяграфіяй. На працы нічога цікавага. Пamяняла чэк. Бачыла Олю Дарашэвіч[1] — яна на нейкай мэдычнай канвэнцыі. Пагаварылі трохі.

Вітаўт паехаў раней. Мае паседжаньне Ethnic Center з фірмай Gruzen. Перад гэтым мае спаткацца яшчэ з Стагановічам — забраць нейкія часопісы. Будучы пад царквой, даведаўся ад Айца Аляксандра, што суд адбыўся ў іхную карысьць. Ну й добра. Хоць гэта мусіць яшчэ ня ўсё. Вітаўт так быў задаволены, што аж пазваніў. Зборка была вельмі цікавая. Яны (фірма) далі добры агляд магчымых мейсцаў на этнічны цэнтар.

Я працавала над бібліяграфіяй. Скончыла, толькі яшчэ праверыць уважліва.

---

*[1] Оля Дарашэвіч — доктар мэдыцыны, дачка сп. Дарашэвіча, аднаго з заснавальнікаў БІНІМу, Зора зь ёй сябравала. Рана памерла.*

**Пятніца 17 кастрычніка**

Бібліяграфію рашыла яшчэ Тумашу не аддаваць. Яшчэ заўважыла пару памылак. Трэба добра праверыць.

Купіла туфлі ў абед. Бачыла зноў Олю Д[*арашэвіч*] і Клаву[1]. Вось выпадкі. Бывае гадамі людзей ня бачыш, а то раптам раз-па-разу.

З Тумашам гаварылі, зразумела, пра бібліяграфію ды пра Славянскі Тыдзень. Ён прынёс праграмкі другой — Раінай — групы. Мы выказалі, што была зроблена памылка, што неяк не ўвайшлі і ў тую групу, асабліва на Сымпозыюм пра прэсу. Але яны ўсе, здаецца, гэтага не разумеюць, што нам абы з кім, абы ўлезьці, абы рэпрэзэнтаваць нас.

Вітаўт паехаў дахаты раней, каб застаць яшчэ Юру ды паехаць зь ім на пробу. Ала мае прывезьці Вітаўту нейкія матар'ялы. Я адпачывала.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна. Вітаўт трохі падпіты. Выпіў пару піваў, і яго разабрала. У мяне, зразумела, сапсуўся настрой,

але я трымалася, не рабіла скандалу, пайшла спаць. Юрачка сказаў, што запрасіў Віктара (з Ангельшчыны)[2] да нас на заўтра на вячэру.

---

[1] *Клава Муха — наша знаёмая. Жонка нашага настаўніка з гімназіі Івана Мухі, якога ўсе вучні вельмі паважалі і любілі.*

[2] *Віктар Тур — малады беларус з Ангельшчыны. Пераехаў у ЗША, актыўны ў беларускім жыцьці.*

### Субота 18 кастрычніка

Пагода сяньня непрыемная. Усталі, паелі, што было ў хаце. Юрачка пайшоў на First Aid. Вітаўт паехаў на паседжаньне перад Мадрыдскай Канфэрэнцыяй. Спатканьне з дэлегацыяй ад New Jersey розных этнічных лідараў, каб іх паінфармаваць аб розных праблемах.

Званіў Станкевіч. Газэта ўжо выйшла. Фатаграфіі ён не зьмясьціў. Кажа, што ня меў іх. Нехта тут маніць — ці ён, ці Шук[*елойць*]. Кажа, што ў наступным нумары зьмесьціць асобна.

Хутка пасьля яго званіў і Шук[*елойць*]. Я яму усё гэта расказала. Ён кажа: «Ілжэ Станкевіч», фатаграфіі ён перадаў. Хто іх разьбярэ? Адным словам — шкада. Шкада, што мы ў гэта ўцягнуліся, шкада, што ў нас такія дробныя людзі (хаця Стась і ня дробная асоба, але заходзіць неяк вельмі дробненька — вельмі свавольны), шкада, што асабістыя амбіцыі так шкодзяць для нашай агульнай справы.

Паехалі на рэфэрат[1] у Нью Ёрк. Вельмі заблытаная сытуацыя. Рэфэрат рабіў румынец Урвіч, які прабыў колькі гадоў у савецкай высылцы ў Варкуце, прымаў там удзел у паўстаньні, напісаў пазьней кнігу. Арганізоўваў рэфэрат немец з Captive Nations (Uhlrich) разам з румынамі. Адбываўся — у Эстонскім доме. Гаварыў ён па-нямецку й па-румынску (падвойна!). Гаварыў шмат пра ўкраінцаў. Што мы там рабілі? Усё-ж думаецца, што нешта й пра нас будзе. Пра беларусаў успамінаў толькі пару разоў. Праўда, сякія-такія інфармацыі можна будзе выкарыстаць. Зацягнулася. Мы, не дачакаўшыся канца, выйшлі. На двары ліў ужо дождж.

Толькі прыехалі дахаты, трохі перакусіў Вітаўт, ды паехалі да казакоў[2]. Юра якраз прыехаў зь Віктарам з Ангельшчыны, прынесьлі Pizza.

У казакоў было вельмі прыемна. Вітаўт прывітаў іх афіцыйна. Трохі пасядзелі, пагаварылі, нават патанцавалі (грала аркестра Альхоўскага, ён пазьней падышоў да нас і сказаў, што й ён беларус) ды паехалі дахаты. Пазнаёміліся з казакам Марозавым, які ў вайну быў у Навагрудку. Адным словам, было памысна.

Падсумоўваючы такі заняты дзень — можна сказаць, што: раніца была патрэбная й важная; па абедзе можна было-б і не фатыгавацца; вечар быў прыемны і эфэктоўны.

---

[1] *Рэфэрат на тэму «Будні ў савецкіх канцлягерах».*

[2] *Казакі мелі свой музэй у мястэчку Howell у штаце Нью Джэрзі*

**Нядзеля 19 кастрычніка**

Забылася ўпісаць. Былі дома. Я зьезьдзіла ў Патэрсон купіла фруктаў. Вітаўт зьезьдзіў да Рыжага – завёз яму нарэшце ягоныя дакумэнты. Адпачывалі. Я раніцай на сьнеданьні адламала кавалачак зубу.

**Панядзелак 20 кастрычніка**

Вітаўт дома. 3 раніцы мае паседжаньне Адукацыйнага камітэту. У мяне нічога цікавага. Вечарам чакаў на мяне Шук[*елойць*]. Падвёў да станцыі. Газэты няма яшчэ. Перадаў Вітаўту мэмарандум пра дэкаланізацыю. Ехала разам з Каміляй. Гэта добра – бо неяк гэта мяне трохі супакоіла, а то цэлы дзень была прыціснутая й пакрыўджаная (яна гэтак на мяне часам дзейнічае).

Званіў Белямук – зрабіць для яго копіі – радаслоўная Літоўскіх князёў.

Праверыла канчаткова бібліяграфію Zimmer.

**Аўторак 21 кастрычніка**

Тумаш сёньня выпадкова ў Славянскім Аддзеле пазнаёміўся зь беларусам з Польшчы – Бубен, які быў выхавальнікам а. Татарыновіча. Хадзілі разам на каву. Ён даволі сымпатычны, але нічога ня мае зь беларусамі. Прыехаў сюды на кароткі побыт да сына. Сын, мусіць, з палякамі – нічога не казаў.

Званіла Юля. Яна ўжо мне тое-сёе мае. Замовіла ёй яшчэ альбом.

Тумаш праверыў Вітаўту ціск – O.K. Павячэралі разам у Tad steak і паехалі ў Польскі Інстытут на рэфэрат аб лёсу Вуніяцкай рэлігіі пад Расеяй у канцы 19-га стагодзьдзя. Францускі дасьледчык Польшчы зь Лілю – [...] – добра падрыхтаваў рэфэрат. Было шмат украінцаў. Гаварыў ён пра нашыя землі пераважна, але так, як-бы гэта зусім і не нашыя – нешта ні-то Польшча, ні-то Расея. Вось нам не вязе. Але добра, што пайшлі, зарэкамэндаваліся. Прынамсі палякі ведаюць, што ёсьць і беларусы на сьвеце. (Запрасіў нас Gramada[1]). Ага, даведаліся, што памёр Сіранка[2]. Вітаўт яго толькі нядаўна бачыў у Пасэйку.

Даехалі дахаты без прыгодаў.

---

[1] *Прафэсар Тадэвуш Грамада.*

[2] *Siranko – славацкі дзеяч. Вельмі пазытыўна быў настаўлены да беларусаў.*

**Серада 22 кастрычніка**

Пазваніла дэнтысту – зламаўся кавалак зубу.

Зрабіла Белямуку матар'ялы. Вітаўт перашле.

Вечарам званіла Галіна. Яна ўжо робіць шум – рыхтуе выстаўку у Rutgers. Нагаварыла шмат. Яна, як што выпадкова даведаецца, адразу-ж робіць выгляд, што яна ў курсе спраў, усё ведае. Гаварыла

пра этнічную прэсу (над чым Вітаўт ужо год працуе[1]), пра AAASS[2] у Philadelphia (усё адкрываюць Амэрыку).

---

*[1] На той час матэрыялы для даведніка этнічнай прэсы ў ЗША былі ўжо пададзеныя.*

*[2] AAASS — амэрыканскі скарот Асацыяцыі дасьледаваньня славянаведы ў Амэрыцы. Арганізацыя існуе больш за 60 гадоў. Сярод членаў асацыяцыі — зь дзясятак беларусаў.*

**Чацьвер 23 кастрычніка**

Здала Лізе[1] інфармацыю пра Трыстана — заказаць мікрафільм рукапісу з Пазнанскай бібліятэкі.

Вітаўт пайшоў на канфэрэнцыю аб Дэкалянізацыі[2].

Званіла Joann Bradford — славянская выстаўка тэкстыляў[2]. Дамовіліся на пятніцу.

Хадзіла да дэнтыста. Ён толькі паглядзеў зуб — будзе рабіць каронку.

Вітаўт прыйшоў дахаты даволі позна — зацягнулася канфэрэнцыя. Прыехаў з Смародзкімі. Канфэрэнцыя была добрая. Былі ад нас яшчэ: Запруднік, Шук[*елойць*], Рая, Мярляк, Гарошка. Прынёс газэту. Як заўсёды, вялікія артыкулы — два Зініны. Пра сустрэчу даў усё, але неяк зусім ня мае выгляду, тапорна. Здымкаў няма.

---

*[1] Ліза Гофман — з новых эмігрантаў. Вельмі добра падрыхтаваная бібліятэкарка, працавала разам з Зорай. Замовілі праз яе копію рукапісу Трышчана.*

*[2] У горадзе Бінгэмптан.*

**Пятніца 24 кастрычніка**

Тумаш прынёс бібліяграфію. Пару апіскаў, пару памылак дробных. Паўстала спрэчка, што да гарадоў, у якой форме падаваць. Счапіліся за Kiev — Тумаш кажа, што трэба ў украінскае форме Kyiv. Уся бібліяграфія па-ангельску перадае гарады. Я старалася гэта яму растлумачыць; але ён як упрэцца — нашто нам русыфікаваць. [redacted] разнэрвавалася. Так і разышліся, не пераканаўшы адно аднаго. Найбольш ён, мусіць, мяне раззлаваў сваімі інструкцыямі, як пісаць рэпорт[1] аб працы праробленай. Якія ўсе зазнаўшыся, думаюць, што толькі яны ведаюць, што й як рабіць. Крыўдна. Мы-ж ужо ня дзеці. Прафэсійныя людзі, ведаем амэрыканскае жыцьцё, звычаі.

Вечарам спаткаліся з Joann Bradford[2] і паехалі дахаты. Яна даволі сымпатычная. Ведае, што робіць — прафэсіянал. За абедам ужо даведаліся, што яна жыдоўка, замужам за нэграм. Як трэба быць заўсёды асьцярожным з незнаёмымі людзьмі — не выказваць сваіх думак ці перакананьняў. Адным словам, проста не балтаць бяз толку. Павячэралі й сталі разглядаць калекцыю, кніжкі. Яна была вельмі захоплена маёй калекцыяй. Добрыя матар'ялы, шмат дакумэнтацы-

яў. Працавалі да позьняй ночы. Прасьвяцілі яе ў беларускай справе таксама.

---

[1] *Справаздачу.*

[2] *Джоан Брэдфард з унівэрсытэту Cornell. Яна была прызначаная арганізаваць выстаўку тэкстыльных вырабаў у горадзе Бінгэмптан, дзе раней панавала тэкстыльная прамысловасьць. Мы меліся ўзяць удзел у выстаўцы. Ад нас гэта за 160–180 кілямэтраў.*

**Субота 25 кастрычніка**

Устала яна рана — пераглядала кніжкі пра народнае мастацтва. Хутка й мы падняліся. Пасьнедалі, і я пайшла рабіць валасы, а яна стала фатаграфаваць рэчы[1]. Зробіць копіі й для мяне. Яна шмат мне чаго паказала, растлумачыла. Цяпер [redacted] на сваю калекцыю другімі вачыма гляджу.

Вітаўт павез яе недзе у паўднёвае N.J. Яна там мела спаткацца з Славачкай.

Я схадзіла пазьней, як трохі дождж сьціх, у Shop Rite[2] — купіла ўсё для вінэгрэту.

Вечарам адпачывалі. Надта-ж стаміліся за гэты час.

Званіла Галіна ад Ірэны — трохі, мусіць, падпітая, бо вельмі выдурнялася. Ірэна [redacted] Нік згадзіліся ехаць на спатканьне з Mrs Carter[3].

---

[1] *Джоан фатаграфавала нашы тэкстыльныя зборы, каб вырашыць — што ўзяць на выстаўку.*

[2] *Прадуктовая крама.*

[3] *Жонка прэзыдэнта Джымі Картэра мелася прыехаць у Нью Джэрзі. Нас запрасілі на сустрэчу.*

**Нядзеля 26 кастрычніка**

Зрабіла вінэгрэт. У царкву паехалі ўжо даволі позна. Там ужо ўсё скончылася. Расстаўлялі сталы, рыхтаваліся да дажынкаў. Я разьмясьціла снапы. Добра выглядае. Станкевічыха была надта-ж лагодная, прыміральчая. Усё хацела гаварыць. Людзей мала. Яна ўсё наракае, што прыватныя сваркі пераносяць на грамадзкае.

Усё было даволі добра. Праўда, яда была ня надта смачная — накуплялі зашмат і прыстроена было вельмі тапорна. Трохі нават і грошаў зарабілі — лятарэяй. Прабавалі сьпяваць — нешта ня клеілася, хоць і Конюх быў (а можа й дзеля гэтага — бо ён толькі бубніць, а нешта нічога ў яго не выходзіць). [*Уладзімер*] Русак выдурняўся, Станкевічыхі скакалі. Неяк трохі было ўсё штучна. Я зрабіла пару здымкаў і нешта заскочыла ў фота-апараце. Стала поркацца, каб паправіць, адкрыла і, здаецца, засьвяціла фільм.

Памагала прыбіраць. Вітаўт чакаў мяне і нецярплівіўся. Я гэтага й не заўважыла. Як выходзілі, ён пачаў сварыцца. Так цэлую дарогу й перасварыліся — хоць ён і ня быў моцна падпіты. Але, мусіць, яму й трохі дрэнна на арганізм адбіваецца. Можа, і я была вінаватая част-

кова, але ён нейк вельмі хвараблівa рэагуе на некаторыя рэчы. Факт той, што вечар быў сапсуты.

А 7-ай паехаў Вітаўт спатыкаць Юру. У Юры й Алеські ўсё добра.

Вечарам сядзелі, глядзелі T.V. Усё, здавалася, наладзілася. Але неяк час ад часу ўсплывала горыч, крыўда. Неасьцярожнае слова – й зноў сварка.

Званіла да мамы. У яе ўсё добра, толькі кажа, што сумна. Я, мусіць, выберуся на наступным тыдні да яе.

Званіла Надзі. Яна гаварыла са Згірскай. Тая нечага не разабралася ў заказе ад мяне. Я растлумачыла Надзі — Надзя ёй перадасьць.

Вітаўт звоніць усё Ірэне аб заўтрашнім спатканьні з Mrs. Carter. Я, прызнацца, ня думала, што яна адважыцца ехаць, калі будзе ведаць, што Вітаўта там ня будзе.

**Панядзелак 27 кастрычніка**

Вітаўт дома. Здала раніцай фільм. Цікава, ці што выйдзе.

Званіў Тумаш — ён знайшоў адрас [*Чэслава*] Мілоша — вельмі выбачаўся, што турбаваў Вітаўта з гэтым. Я яму параіла званіць Вітаўту.

Вітаўт езьдзіў (усё-ж паехаў!) на спатканьне з Mrs Carter[1]. Было добра. Ірэна й Нік добра рэпрэзэнтаваліся. Вітаўт задаволены. Між іншага бачыў машыну губэрнатара і... на заднім вакне — нашая беларуская падушка. Цяпер ужо сваімі вачыма бачыў. Ліза заказала Трыстана.

Забрала фота. На вялікае маё зьдзіўленьне, выйшлі усе й даволі добра, акрамя самых апошніх з дажынкаў — гэтыя ўжо былі засьвечаныя зусім.

Вечарам [redacted] адпачывала. Ня было зусім энэргіі рабіць бібліяграфію.

Ужо позна ноччу званіла Галіна. Яна нешта гізуе. Будзе ў Нью Ёрку, каб не званіў Вітаўт да яе на работу. Ужо новую бібліяграфію «робіць» пра літаратуру. Васіль гаварыў пра царкоўны сход.

---

[1] *Rosalyn Carter — жонка прэзыдэнта Джымі Картэра. Мы сустрэліся зь ёй у Maplewood, N.J.*

**Аўторак 28 кастрычніка**

Ехала з Каміль. Яна нешта надта разгаварылася пра мужа. У іх, здаецца, праблемы матрыманіяльныя.

Вітаўт паехаў у Трэнтан на зборку з Commissioner of Higher Ed.[1] Зьбіраецца заехаць у South River — купіць калбасы.

У мяне нічога цікавага. Пайшла сама на каву й цяпер парадкую дзёньнік.

Тумаш прыйшоў сам. Мусіла выбачацца, што ня скончыла бібліяграфію.

Вітаўт прыехаў ня позна, але пасьля мяне. Зборка добрая — ён за-

даволены. Заехаў і ў S.R., аддаў там значкі «Беларусы за Рэгана». Купіў калбасы.

[1] *Я выступаў у нейкай камісіі ў падтрымку сакратара (commissioner) Аддзелу Вышэйшай Адукацыі. Маўляў, ён падтрымлівае праграмы вывучэньня этнічнае спадчыны штату.*

**Серада 29 кастрычніка**

Раніцай хадзіла да дэнтыста. Ён зьняў меркі на каронку — вазіўся доўга. Уставіў часовы зуб — трохі пабольвае.

Вечарам рабіла бібліяграфію. Марудна — зрабіла толькі палову працы. Надакучыла яна мне ўжо надта.

**Чацьвер 30 кастрычніка**

На рабоце нічога цікавага.

Вечарам выканчвала бібліяграфію. Чуюся нібы пачынаецца прастуда, але сядзела, аж пакуль усё ня скончыла. Зуб трохі яшчэ баліць. Пазваніла маме, што не прыеду да яе на гэты weekend, як плянавалі.

**Пятніца 31 кастрычніка**

Засталася дома. Вітаўт забраў усе матар'ялы — перадасьць Тумашу. Раніцай яшчэ хуценька напісала «вытлумачальную даведку» — Ballarine праверыць і Вітаўт перадрукуе. Доўга вагалася, ці заставацца дома, але Вітаўт пераканаў. Цэлы дзень адпачывала. Добра так час ад часу паваляцца. Баліць галава, горла, але каб надта ўжо хвора чулася — то не.

Вітаўт усё зрабіў, перадаў Тумашу. Збылі! Тумаш нават і занёс адразу ў Польскі Інстытут. Атрымалі палучку. Мой чэк Вітаўт забраў ад Devor'а, але яшчэ не перамянялі. Пробу танцаў адклалі. Юра паехаў у New Br[*unswick*] да сяброў. Дзеці па цукеркі мала прыходзілі — засталося. Юра прыехаў позна, але мы не хваляваліся.

**Субота 1 лістапада**

Раніцай зьезьдзілі ў Bradley. Купіла просьціны (трэба ўжо было аднавіць). Добра ўдалося купіць — танныя.

Пазьней паехалі зь Юрам у Патэрсон.

Вітаўт паехаў недзе ў West New York. Там да Кубінцаў з Washington нейкі фонд прызначылі — Barbara Taylor яго запрасіла[1].

У Патэрсоне нічога з адзеньня не купілі. Заехалі на базар. Купілі фруктаў. Юра для сваёй «парты», я — для хаты.

Пакуль мы прыехалі, вярнуўся й Вітаўт. Я зноў паехала па пакупкі — штаны для Вітаўта у Пасэйку. Ужо як была там на Market St., то купіла й калбасы Юру. Пашыла пададзяяльнікі.

Юра паехаў на «парты» моладзі. Яны ладзяць вечарынку ў касьцюмах. Прыехаў позна, але зноў мы не хваляваліся. Вітаўт спаў, — я чула, як ён прыехаў. Мы ўжо, мусіць, пачынаем прывыкаць, што трэба быць даверлівым, цярплівым, зразумелым, — адным словам «cool».

Вітаўт папрасіў Рагнеду[2] пасядзець у дэмакратычнай галоўнай кватэры. Добра, што не настойваў, каб Юра гэта рабіў. Нам трэба неяк актыўнасьць паказаць, але найменшай затратай сілаў.

Прыходзілі да бабкі Жамойды з Алай. Яна цяпер у New York'у шукае працу.

---

[1] *Трэба было выступіць ад Этнічнае Рады.*

[2] *Рагнеда Жамойда з Passaic, N.J.*

**Нядзеля 2 лістапада**

Мы сягоньня дома ўсе. Вітаўт даў нашую машыну Жамойду. Яны паехалі ў царкву. Там сёньня адзначаюць Кірылу Тураўскага. Мае шмат быць і з нашай царквы. Бабка паехала з Жамойдамі.

Юрачка нарэшце напісаў артыкул для «Моладзі». Я ўжо настаяла.

На сход БАЗА я не паехала — перадала сваё ўпаўнаважаньне праз Тумаша. Не хачу я ўжо ўваходзіць ні ў якія грамадзкія функцыі, абавязкі. Перш за ўсё, бо шкада часу. А па-другое, зь некаторымі нічога ня хочацца мець супольнага.

**Панядзелак 3 лістапада**

Юра завёз сваю машыну ў гараж. Нешта яшчэ трэба падправіць. Ён цяпер глядзіць за сваёй машынай.

Перамянялі мой чэк. Зь Вітаўтавага ўжо амаль нічога не засталося. Вось грошы плывуць.

Я чуюся лепей, але зуб усё дакучае. Нешта ён ня добра зрабіў, але-ж гэта часова — то цярплю.

**Аўторак 4 лістапада**

Выбары. Зьезьдзілі рана — прагаласавалі. Я, Юра й бабка. Вітаўт спаў. Паедзе пазьней.

Юрачка забраў машыну. Усё ў парадку. Я паехала па пакупкі ў Paramus. Доўга хадзіла, стамілася. Купіла спадніцу й блюзачку. Добра.

Вечарам — глядзелі T.V. — рэзультаты выбараў. Вельмі рана стала відавочна, што выйграе Reagan. Мы спачатку былі трохі незадаволеныя, але хутка згадзіліся, што, можа, для краіны цяпер ён будзе лепш, асабліва з эканамічнага пункту.

Званіла маме — у яе ўсё добра. Яна ўжо згадзілася й вырашыла, што варта падаваць на SSI. Трэба будзе неяк паехаць і зрабіць.

**Серада 5 лістапада**

Раніцай спаткалі Раю, перадалі ёй Юраў артыкул. Гаварылі пра Slavic Week[1].

---

[1] *Штогод у Нью Ёрку ладзіліся ўвосень Славянскія Тыдні. Былі яны досыць пасьпяховыя, беларусы ў іх заўсёды бралі ўдзел. Асаблівым посьпехам карыстаўся Данчык, бо славянская грамада яго добра ведала.*

**Чацьвер 6 лістапада**

Памёр Стась Станкевіч. Раптоўна, у сьне. Што цяпер будзе з газэтай? Як павядзецца? Хоць ён і блага вёў апошнім часам, але ўсё-ж вёў. Цяпер новы клопат камусь.

**Пятніца 7 лістапада**

Прыходзіла Тамара. Хадзілі разам на абед у кафэтэрыю нашую: Тумаш, Тамара, я й Вітаўт. Гутарка была пра ўсё — пачынаючы ад Cook Book да Скарыны партрэту з Падуі, да Славянскай выстаўкі, да царквы.

Пазьней хадзілі з Тумашам на каву. Гаварылі пра Статут — аўстралійцы прасілі прыслаць ім матар'ялы. Вітаўт атрымаў з Каліфорніі кнігі, дзе артыкул Таўсталеса пра сямейнае права і іншыя. Зробіць копіі. Артыкул так-сабе, нічога новага для мяне. Тумаш мае здольнасьць псаваць людзям настрой. Калі я заўважыла, што ў артыкуле нічога новага, толькі пражоўваньне — ён сказаў: «Так, але ён пражоўваў 50 гадоў раней за Вас».

Праверыў Вітаўту ціск — О.К. Пігулкаў В[*ітаўт*] ужо не прыймае пару тыдняў. Добра.

Вечарам Вітаўт працаваў над сваёй кнігай аб Кліўлендзе — прыслалі для карэкты зрэзаную вэрсыю (але добра зрэзаную). Выкінулі шмат патрэбных рэчаў. Вітаўт мусіць пераглядаць, дапаўняць.

**Субота 8 лістапада**

Раніцай Вітаўт завёз Юру на аэрадром. Паляцеў у Вашынгтон.

Паховіны Стася. Пазваніў нам Дутка, што хоча ехаць з намі на магілкі. Я выкарыстала нагоду й папрасіла, каб прынёс свае тканіны для выстаўкі. Прыехаў яшчэ трохі зараньне — мы пасьпелі пераглядзець рэчы, я сьпісала інфармацыю.

Прыехалі на могільнік рана. Яшчэ трохі прыйшлося чакаць. Я трохі папарадкавала папаву магілку — зарасла. Людзей сабралася шмат. Пагода добрая. Пагаварылі з тым-сім. Было шмат і сьвятароў — Тарасэвіч, Мікалай, Аляксандар, Строк. Было даволі сымпатычна. Усе добра захоўваліся. Сям'я добра трымалася. На памінальны абед мы не засталіся — проста было неяк ніякава заставацца, калі ў нас такія нацягнутыя адносіны зь імі. Там было шмат прамоваў, зразумела.

Заехалі яшчэ купілі калбасы. Вечар правялі спакойна.

**Нядзеля 9 лістапада**

Вітаўт спаткаў Юру і адвёз у New York — на пробу, й прыехаў па нас. Мы паехалі на канцэрт славянскі ўсе разам. Канцэрт удаўся добра. Нашыя танцавалі значна лепш як у мінулым годзе. Трохі мне не спадабалася іхная прысядка. Ніяк Алу не пераканаем, што гэта не патрэбна.

Заехалі яшчэ на «гамбургэрс» пасьля канцэрту. Дзень быў прыемны.

Званіла Алеся — памёр [*прафэсар Леў*] Акіншэвіч.

**Панядзелак 10 лістапада**

Званіла нам Алеся на работу — але даўжэйшы час не маглі адно на аднаго натрапіць. Ужо хваляваліся, што там у яе. Нарэшце зьвязаліся — яна патрабуе сваю працу для інтэрв'ю[1]. Добра ёсьць адбіткі — пашлецца. Запісы таксама ўжо хутка выйдуць.

Па абедзе прыйшоў у бібліятэку Уладыка Мікалай. Далі яму матар'ялу — працаваў у славянскім аддзеле. Ён нешта піша пра сваю вёску Моталь.

Павячэралі. Гаварылі пра царкву, пра Мітрапаліта. Ён вельмі крытычна аб ім адзываецца. Дай Божа, каб гэта ўсё неяк наладзілася. Мне не зусім падабаецца стаўленьне Мікалая, на маю думку ён трохі неяк свавольна захоўваецца (свавольна, можа, трохі няўдалае слова — сваявольна будзе больш адпаведна). Усё-ж Мітрапаліт — галава.

Паехалі ў Украінскі Інстытут на адчыненьне Славянскага Тыдню. Неяк раптам захаладала — зьмерзьлі. Там было добра. Сабралася шмат людзей. Беларусаў было таксама спорна. Прамаўлялі. Гаварыў і Вітаўт — гаварыў добра, толькі выйшаў канфуз з прээзэнтацыяй яго. Забыліся яго прадставіць ад N.J. Gov'nor Council. Але ён добра выйшаў з палажэньня. Прадставілі й прадстаўнікоў ад Бел. Моладзі — Юру [*Кіпеля*] й Аню Бойчук. Юра вельмі цяпер стаў актыўны ў беларускіх справах. Зрабілі супольную здымку.

Завезьлі Уладыку на аўтобус (ён ужо паехаў дахаты); Аню пад яе хату й самі паехалі да дому.

Заехалі яшчэ па Hamburgers для Юры. Дамовіліся зь Юляй, што яна прывязе мне рэчы на вясельле, ў суботу.

---

[1] *Алесіна тэза «АРА і дапамога СССР» мела таксама разьдзел, прысьвечаны Беларусі — «АРА ў БССР». Для інтэрвію-гутаркі пры прыёме на работу Алеся мусіла мець гэтыя працы.*

**Аўторак 11 лістапада**

Паехалі на пахавіны Акіншэвіча у Bound Brook[1]. Прыехалі рана, то мелі час заехаць да Надзі. Перамяніліся лялькамі. Я ўжо ўсе маю свае ў парадку. Выпілі кавы, бо зьмерзьлі былі на двары страшэнна — холадна, ветрана. У царкве (царква іх усярэдзіне вельмі маленькая — расчараваньне) служыў нейкі ўкраінскі сьвятар і ... Бруцкі (як прытычка). Служба даўгая даволі была. Сьпявалі й нашыя Швэдзіха й Бойчук і Войтэнка. Трохі падцягваў і Вітаўт. На могільніку справіліся хутка. Прасьпявалі нават «Сьпі пад курганам гэрояў». Украінцам вельмі спадабалася. Было шмат людзей ад сям'і жонкі — украінцы.

На прыняцьці было сымпатычна. Праўда, на пачатку ўкраінцы пачалі ігнараваць ягонае беларускае паходжаньне й актыўнасьць у бел. навуцы, але пазьней, мусіць, зразумелі, што глупства робяць і зьмянілі тон. Добра сказаў Вітаўт пра яго беларускасьць. Сабралі

й грошы (зьбірала я й нейкі з украінцаў) ды вырашылі падзяліць на два Інстытуты — наш і Шэўчэнкі. Гаварылі з прэзыдэнтам Акадэміі Шэўч[*энкі*], каб наладзіць супольную ўрачыстасьць ды наагул навязаць лучнасьць.

Прабавалі гаварыць із Бруцкім, але ён не даецца (фактычна Войтэнка яму не дае гаварыць). Удава прыпомніла й пра палічкі — казала, што я магу мець адну[2].

Час прайшоў даволі прыемна, хоць і зацягнулася.

---

*[1] Недалёка ад Нью Брансуіку.*

*[2] Зоры падабаліся кніжныя палічкі ў іх хаце ў Вашынгтоне, мы там часта бывалі.*

**Серада 12 лістапада**

Засталася дома — трохі яшчэ нядобра чуюся, ды, галоўнае, хацела скончыць сукенку для вясельля.

Шмат зрабіла, але я не зусім задаволеная. Неяк ужо ня тыя часы, каб аддаваць час на гэта, дый выходзіць ня гэтак ужо прафэсійна.

Юрачка паехаў да бабкі. Заўтра і ў пятніцу ў яго канвэнцыя ў At[*lantic*] City[1].

---

*[1] Гадавая канфэрэнцыя настаўнікаў штату Нью Джэрзі.*

**Чацьвер 13 лістапада**

Юра ў бабкі. Званілі ім. У іх усё добра.

Больш нічога цікавага не прыпамінаю. Наагул чацьвер нейкі заўсёды пусты на здарэньні.

**Пятніца 14 лістапада**

Палучка. Памянялі частку грошай. Тумаш прыходзіў, але нічога цікавага не гаварылася. Усё пра старое — Салавей, ягоная бібліяграфія, пра «Запісы».

Прыйшлі дахаты — Юра ўжо дома. Прывёз ад бабкі печыва, яблыкаў. Прыемна пагаварылі. Я яшчэ трохі шыла.

Алеся прыехала да Надзін. Мы ёй ужо пачалі званіць, бо Алеся не адазвалася. Усё ў парадку. Даехала добра.

**Субота 15 лістапада**

Выканчвала яшчэ сукенку. Зрабіла валасы. Прыехала Алеся. Трохі было яшчэ часу й пагаварыць. Зьбіраліся выехаць а 2-ой. Пазваніла Надзя, каб сьпяшаліся, не пазьніліся, але ўсё роўна раней не пасьпелі там, у іх, быць, як на 3-юю. Там яшчэ фатаграфаваліся. Паехалі сваты ў асобнай машыне. Я ехала адна. На дарозе быў аксыдэнт[1]. Затрымаліся даволі доўга. Вясельле[2] пачалося са спазьненьнем. Было шмат людзей. Коўш пару малітваў гаварыў па-беларуску (Так Ірэна зажадала). Наагул была вялікая патуга зрабіць вясельле беларускім, быў і каравай, і ручнікі ў сватоў, і іконка й падарунанчкі — сувэніры

для гасьцей (якія, дарэчы, людзі нахапалі з чужых сталоў)... але іграла украінская аркестра й настрой стварыўся не зусім адпаведны. Маладыя хутка пасьля караваю (які несьлі й дзялілі сваты — між іншага, і Вітаўт і Галіна былі на мейсцы — удалыя сваты) маладыя «змыліся». Гэта дадало да нейкага не зусім сымпатычнага настрою, які ўжо існаваў.

Я залагодзіла справы з Юляй — купіла ў яе лялькі яшчэ адну й касьцюм беларускі. Дорага. Яна ўжо трохі пачынае губляць меру.

Назад ехалі трохі напружана. Вітаўт, хоць і ня піў шмат, але неяк разьвязло яго. Я трымалася, каб яго не нэрваваць, але настрой сапсуўся.

Дзеці выехалі зь вясельля раней і паехалі да Русакоў.

Ага, яшчэ адна дэталь: надта мы ўсе прасілі Данчыка засьпяваць — не захацеў. Упёрся — не ўгаварылі.

---

[1] *Аварыя, але ня ў нас.*

[2] *Вясельле Ірыны Рагалевіч зь Мікалаем Дуткам.*

**Нядзеля 16 лістапада**

Раніцай доўга яшчэ валяліся ў ложку — не хацелася кратацца. Дыскутавалі ўчарайшае вясельле.

Пасьнедалі. Прыехалі дзеці. Добра правялі другую палову дня. Езьдзілі з Алесяй у магазын. Яна сабе накупляла шмат бялізны. На выстаўку славянскую не паехалі. Запрасілі Шук[*елойця*] ўчора да сябе на «індыка». Так склалася, што трэба было усё-ж яшчэ гэты год запрасіць — бо шмат было з боку іншых людзей пытаньняў. Дзіўна, што людзі гэта ўсё заўважаюць і прыдаюць гэтаму значаньне. Пазванілі й Адамовічу — ён вельмі ахвочы прыехаць. Шук[*елойць*] нешта няпэўны.

Званіла вечарам Надзя — запрасіла на заўтра да яе на вячэру.

**Панядзелак 17 лістапада**

Вітаўт дома. Завёз рана Алесю на аэрадром.

Я памяняла свой чэк. Палажыла амаль усё на чэкавую кніжку.

Вечарам Вітаўт спаткаў мяне на астаноўцы, й мы адразу-ж паехалі да Надзі. Там было даволі прыемна. Павячэралі, трохі яшчэ пагаварылі. У іх заўсёды сымпатычна.

Пайшоў сьнег. Ехаць было ня дужа прыемна — стаміліся трохі.

**Аўторак 18 лістапада**

Нічога цікавага на рабоце. Тумаш прыходзіў, але нічога надта важнага не гаварылася.

Да Алесі ўлезьлі ў хату[1]. Нічога надта каштоўнага ня ўзялі — радыё-гадзіньнік і сакваяж. Але ўсё роўна прыкра. Там ужо ў іх робіцца зусім як джунглі.

Вечарам званіў Шук[*елойць*] — надрукаваць запросіны на зборку

«Беларуса» й БАЗА. Друкавала. Пазваніла маме ў яе нічога не чуваць яшчэ з SSI — установа была зачыненая. Папрасіла маму даведацца пра жанчыну, што мае беларускія рэчы.

---

[1] *Алеся казала, што ўлезьлі ззаду — выпілавалі квадратам частку сьцяны. Ззаду ў іх невялічкі палісаднік.*

**Серада 19 лістапада**

Алеся сяньня мае інтэрв'ю з добрай кампаніяй, куды хацела-б папасьці[1].

Аддалі Шук[*елойцю*] запросіны.

Юрачка сяньня вечарам мае быць шапэронам на школьных танцах.

Званіла мама. Яна даведалася ад Віслоўскай аб той жанчыне, завецца Курас, жыве недзе не далёка ад мамы[2].

---

[1] *Алеся шукала працу ў юрыдычнай кампаніі.*
[2] *У іх маглі быць тканіны зь Беларусі.*

**Чацьвер 20 лістапада**

Як я ўжо заўважала, у чацьвер неяк нічога цікавага ня бывае. Выпадкова? Ці проста, што біб[*ліятэка*] закрыта, дык менш актыўнасьці? Ці забываюся дэталі?

**Пятніца 21 лістапада**

Званіла Юля — пыталася пра Юрыкавую заяву на пазычку[1]. Цікавілася, ці мы запрасілі Шук[*елойця*]. Пыталася, ці спадабалася мне лялька. Я сказала, што касьцюм мог бы быць больш вышыты.

Тумаш прыходзіў. Зрабіла адбіткі з каталёгу Геніюшавай кнігі, што яна падпісала для бібліятэкі. Тумаш усё клапоціцца, каб ёй выслалі падзяку[2].

Юра сяньня вечарам наглядальнік у сваёй школе на вечарынцы. Прыехаў дахаты ня позна. Задаволены. Добра пайшло.

Алеся сёньня пайшла на зборку «Captive Nations». Пасьля зборкі — якая дарэчы была вельмі пасярэдняя — нічога й нікога разумнага ня было там — пайшла зь нейкімі казакамі, што былі на зборцы, паказаць ім Вашынгтон.

---

[1] *Юры Андрусышын зьвярнуўся ў БІНіМ па пазыку.*
[2] *Хоць гэта звычайна й ня робіцца, але я пераканаў адпаведных асобаў, каб Ларысе Геніюш падзяка была пасланая па-беларуску, што і было зроблена.*

**Субота 22 лістапада**

Вітаўт працуе.

Раніцай зазваніў мне дэнтыст, што гатовая каронка. Пазваніла Залеўскай — назначыла на аўторак візыту.

Зрабіла валасы. Званіла Галіна — гаварылі пра Юлю, яна лічыць,

што Юля трохі задарагая зрабілася. Яна зрабіла чэк Юлі за альбом. Я цяпер вінавата Галіне $32.50.

Юра паехаў на інтэрв'ю у Нью Ёрк у Мэксыканскую Мэд. Школу. Прайшло добра: каб хацеў ехаць на зімовы сэмэстр, дык адразу-ж прынялі-б.

Дэнтыст уставіў каронку. Трохі непрывычна адразу — перашкаджае. Заплаціла яму частку грошай — яшчэ вінавата $100.

Купіла ўсё амаль, што трэба для «індыка». Жыцьцё так падаражала. Выдаткавалася зусім.

Прыгатавала Вітаўту, што перакусіць і паехала ў Нью Ёрк. Ехалася добра, але на Grand Central, як заўсёды, затрымка. У Крэчэўскага ўжо амаль усе былі сабраўшыся. Пачалі паседжаньне. Настрой трохі нейкі напружаны. Выглядае так, што ўжо ўсё дагаворана паміж Станкевічыхамі, Шук[*елойцем*], Запруднікам. Нашай дапамогі ім не патрэбна. Зіна й Рая ўсё пад сябе падгарнулі. Няхай сабе робяць. Мы неяк чуліся зусім ня пры чым, асабліва я. З Шук[*елойцем*] нічога не гаварыла. Наагул я ні з кім неяк не гаварыла. Настрой быў кепскі, як ехалі назад дахаты. Адно толькі пазытыўнае, што гэткім чынам мы застанемся ў старане, будзе менш клопатаў, менш працы.

**Нядзеля 23 лістапада**

Мы сёньня дома. У N.Y. мае быць паседжаньне БАЗА, але мы нікуды не паехалі. Я не хачу быць у ўрадзе, не хачу, каб перавыбіралі, то лепш і ня быць на зборцы.

Пачала пераглядаць «Бацькаўшчыну» для бібліяграфіі Купалы й Коласа[1] (Далей буду ўжываць КК). Спакойна ў хаце. Званілі Алесі. Яна добра чуецца, добра правяла час з казакамі. Зарэгістравала БАЗА ў арганізацыі Сакса[2] (ня ведаю афіцыйнай назвы). Яна сама зазвоніць да бабкі — калі прыедзе па яе.

---

*[1] Поўным ходам ішла праца над бібліяграфіяй «Купала і Колас на Захадзе». Кніга выйшла ў 1985 годзе.*

*[2] Д-р Сакс — стварыў Цэнтар этн. арг. у Вашынгтоне.*

**Панядзелак 24 лістапада**

Пераглядаю часопісы старыя расейскія для бел. рукапісаў і інш. Знайшла добры артыкул Владімірава у Жур. Нар. Просв., які і для мяне й для Вітаўта й для Тумаша цікавы. Здала формы дэнтыста.

Юра нарэшце выпаўніў формы для Амэрыканскіх Мэд. школаў — мы ўсе яго штурхалі, а ён чамусьці цягнуў.

Пераглядаю «Бацьк[*аўшчыну*]» для КК.

**Аўторак 25 лістапада**

Засталася дома. Раніцай трохі парадкавалася.

А першай пайшла да Залеўскай. Добра агледзела. Усё выглядае ў парадку.

Купіла маку й яшчэ розных смакалыкаў. Зайшла на пошту, даведалася пра пасылкі ў Польшчу.

Купіла плашч у тым магазыне, што супроць маку. Званіў Вітаўт даведацца, як у мяне прайшоў агляд.

Атрымалі чэк ад украінцаў з Акіншэвічавых памінкаў на $65. Гэтаксама паведамленьне, што Wexler грошы атрымаў. Добра.

Паехалі яшчэ на закупы. [redacted] забрала свае бацінкі ад шаўца, схадзіла ў аптэку. Залеўская прыпісала мне нейкую мазь, для тога прышчыку, што на ілбу. Шмат зрабіла за дзень. Нават пасылку для Ані[1] сабрала. Занесла дэнтысту рэшту грошай.

---

*[1] Аня Красько — беларуска зь Беласточчыны, гасьцявала ў нас і ў Кліўлендзе. Пасябравалі на гады.*

**Серада 26 лістапада**

Мэланчук прынёс мэню для абеду Ільніцкаму[1]. Гэтаксама альбом для ўпісу розных пажаданьняў. Я прыпомніла, што бачыла ў 1-ым нумары «Бацькаўшчыны» падзяку яму — напісала гэта. Ільніцкі адыходзіць — хутка пойдзе й Мэланчук. Я думаю падаць на L-3 ў Славянскі аддзел. Я там буду лепш чуцца, ня будзе гэткага пачуцьця віны, што шмат бібліятэчнага часу аддаю беларускай працы[2].

Алеся прыехала па бабку вельмі позна — быў страшэнны трафік. Мы ўжо ўсе хваляваліся. Дахаты прыехалі ўжо пасьля 3-яй уначы.

---

*[1] Калегі-бібліятэкары, украінцы.*

*[2] Зора пераканалася, што трэба перайсьці з агульнага Аддзелу каталягізацыі, дзе яна мела моцныя пазыцыі, у Славянскі аддзел, бо там можна зрабіць больш беларускага.*

**Чацьвер 27 лістапада**

Thanksgiving[1].

Устала я раней за ўсіх, каб падрыхтаваць індыка. Але хутка ўжо пачалі паднімацца ўсе. Юра з First Aid на гульню; Алеся з Дыон на гульню; бабкі пячы піражкі пачалі зьбірацца ад самага раньня.

Пазванілі да Шук[*елойцю*] — ён нібыта хворы — не прыедзе. Пазванілі да Адамовіча — ён нешта няпэўны. Я адразу ўбачыла, што не прыедуць[2]. Ну й добра. Толькі лішні клопат. І нам і ім гэта ўжо не патрэбна.

А гадзіне 3-яй сабраліся ўсе. Абед прайшоў добра, спакойна, утульна. Усё было смачнае. Моладзі і Вітаўт на адным канцы стала — яны найбольш і гаварылі; я з бабкамі на другім канцы — мы больш слухалі. Пасьля яшчэ трохі пасядзелі пагаварылі.

Вітаўт працаваў. Мы з Алесяй адпачывалі, глядзелі T.V.

---

*[1] Дзень Дзякаваньня.*

*[2] Перад тым яны зь дзясятак гадоў у гэты дзень бывалі ў нас.*

**Пятніца 28 лістапада**

Дождж — прыкрае надвор'е. Мы, аднак, маем машыну — добра[1]. Прыехалі цудоўна. Ужо з раніцы вырашылі, што Алесі ў N.Y. ехаць ня варта.

У абед схадзіла ў магазын, але нічога не купіла — думала выкарыстаць, што з машынай сяньня.

Прыходзіў у бібліятэку Адамовіч. Да нас не аказаўся. Тумаш яго бачыў.

Тумаш расказваў нам пра Олю [*Запруднік*] — выглядае, што яна мае рак грудзі — будуць яшчэ рабіць тэсты, але апэрацыя назначаная на наступную пятніцу. Бедная. Я ўяўляю, як яна перажывае. Як усе ў сям'і перажываюць.

Тумаш праверыў ціск Вітаўту. Трохі паднімаецца. Гаварылі пра тое, што Ад[*амовіч*] і Шук[*елойць*] не прыехалі да нас.

Прыехалі дахаты добра. Алеся недзе ў Надзін — рыхтуюць вячэру для Дыон і яе жаніха[2].

Я пасядзела трохі з бабкамі.

---

[1] *Ехалі на работу на машыне — я атрымаў дазвол на паркінг.*

[2] *Алесіны сябры.*

**Субота 29 лістапада**

Раненька схадзіла зрабіць валасы, купіла на сьняданьне. Пасьнедалі, й мы з мамай паехалі. Вітаўт рашыў застацца дома й рыхтавацца да рэфэрату для вэтэранаў.

Ехалася добра — гаварылі. Я расказала маме пра выстаўку Славянскага тэкстылю. У хаце ў мамы ўсё ў парадку, праўда, пад умывальнікам у кухні нехта пачаў падгрызацца — мусіць, зноў chipmunk[1].

Паехалі памянялі грошы. Зазваніла мама да Курас. Гэта — дачка Казьлякоўскага. Нічога ў яе, відаць, няма[2] (яна мела гасьцей якраз — мама, можа, калі другім разам да яе паедзе).

Пазваніла Дзядзю Ваню й адразу-ж паехала. Купіла яшчэ яблыкаў. Мы зь ім паехалі да Нічык. Сымпатычныя людзі, але самой старой, што мае рэчы, ня было (яна недзе жыве асобна). Яны знайшлі толькі «сярмягу». Я спадзявалася на касьцюм. Пазычылі тым часам на выстаўку. Пасядзелі трохі ў іх. Стары расказваў пра іхную вёску. Гавораць яны «па-расейску». Вось трагэдыя нашая! Людзі з-пад Кобрына!

Вярнуліся назад да Нядзьвігаў. Я яшчэ трохі там пасядзела — выпілі кавы. Антаніна, як заўсёды, напакавала markdown рознай дрэні. Мне было трохі сорамна, што не прывезла кілбасы.

Паехала яшчэ да мамы. Перакусіла й лягла трохі адпачыць. Пагаварылі яшчэ трохі й паехалі. Я ўжо шкадую, што маме расказвала пра паседжаньне Рэдкалегіі «Беларуса». Можа, я й гучала пакрыўджаная — надта-ж яна гэтым прынялася.

Даехала добра. Дома яшчэ адпачыла. Алеся езьдзіла Shoping, а тады з Artis паехала ў кіно. Яна наагул цэлы дзень амаль ня была дома. Начавала ў Надзін, тады прыехала й паехала ізноў. Прыязджаў Дутка. Прывёз зьмест песьняў для хегох і грошы.

---

[1] *Бурундук.*
[2] *Зора шукала тэкстыльныя вырабы зь Беларусі, апытвала людзей.*

**Нядзеля 30 лістапада**

Раніцай сабраліся разам, пасьнедалі. Вітаўт паехаў на зборку Вэтэранаў у New Brunswick. Мае чытаць для іх рэфэрат. Мы яшчэ трохі папарадкаваліся ў хаце й паехалі з Алесяй па пакупкі. Юра недзе ў сваім First Aid.

Хадзілі па магазынах доўга. Я ўжо й стамілася. Алеся тое-сёе для сябе купіла. Прыехалі дахаты ўжо даволі позна. Там ужо трывога — дзе мы. Алесі-ж трэба ехаць у Wash[*ington*]. Вітаўт пачаў сварыцца. Ну, але неяк наладзілася. Я яшчэ хуценька зрабіла вячэру. Павячэралі. Прыехала дзяўчына, якая мае з Алесяй ехаць. Алеся ўпакавалася й паехала па Карэн і тады ўжо адразу ў Wash[*ington*].

Канец дня прайшоў спакойна. Адпачывала. Вітаўт працаваў яшчэ.

**Панядзелак 1 сьнежня**

Мэланчук прынёс мне сваю бібліяграфію аб Віньнічэнку[1], якую ён ужо амаль скончыў, для крытычнай праверкі й заўвагаў. Перагледзела. Добра зробленая. Зрабіла колькі заўвагаў. Ён гэтаксама папрасіў пашукаць, ці нічога ня было перакладзена на беларускую мову. Падпісала альбом для Ільніцкага — ён выходзіць на пэнсію.

Вечарам пачала пераглядаць «Бацькаўшчыну» для бібліяграфіі КК. Шмат матар'ялаў знаходзіцца. Ды наагул прыемна пераглядаць старыя газэты.

---

[1] *Аб Віньнічэнку мы знайшлі беларускія заўвагі і артыкулы і ўлезьлі ў бібліяграфію.*

**Аўторак 2 сьнежня**

Пазванілі Адамовічу, што заўтра да яго прыедзем — ён мае ліст ад Каднячыхі[1]. Я фактычна званіла, бо хацела даведацца, ці няма ў яго Шук[*елойця*]. Мне трэба зь ім пагаварыць наконта рэчаў для выстаўкі. Joann прыедзе у нядзелю па рэчы[2].

Тумаш, як даведаўся, што мы будзем у Адамовіча, надаваў паручэньняў: дастаць слоўнік ангельска-польскі ці хоць літару «С»; перадаць Зап[*рудніку*] верш Ларысы Геніюш для газэты; разьведаць, што з «Салаўём». Тумаш зноў надаваў розных паручэньняў: пасьлаць кнігі, адказаць лісты й падобнае. Я ўсё гэтым разам запісала «на цыдулку», каб пасьля выкрэсьліваць зробленае, як і ён. Пасьпяшалася наверх, але Шук[*елойць*] ужо званіў — не пасьпела.

Шукала для Мэланчука беларускага матар'ялу пра Віньнічэнка. Знайшла толькі дробныя весткі.

Вечарам прыходзіў Perreira да Вітаўта[3]. Я рабіла КК.

---

[1] *Жонка Салаўя.*

[2] *Падрыхтоўка да выстаўкі тэкстыльных вырабаў.*

[3] *У партугальскіх справах.*

**Серада 3 сьнежня**

Раніцай званіў Шук[*елойць*]. Дамовіліся, што ён прыедзе ў чацьвер і прынясе рэчы.

У абед паехалі да Адамовіча. У іх цяпер не так сымпатычна. Адкрыта, стадольна. Адамовіч слоўніка не захацеў даваць у Канаду для Пашкевічыхі[1] і літара «С» рабіць адбіткі амаль немагчыма. Але я ўбачыла, што слоўнік гэты выдадзены Фундацыяй Касьцюшкі — можна яго дастаць. Зазваніла да іх — ёсьць. Сказалі Тумашу, каб пад'ехаў купіў. (Галіна Т[*умаш*] едзе ў Канаду ў пятніцу, дык перадасьць — таму й сьпешка такая).

Працую шмат для сябе: Трыстан і іншыя рукапісы, КК, для Мэланчука яшчэ шукала.

Вечарам Юра хадзіў у тэатр. Задаволены. Добры спэктакль.

Прыходзіў Perreira, ■ толькі прыняла ад яго ліст — сказала, што В[*ітаўта*] няма. Працавала з «Бацькаўшчынай».

---

[1] *Валянтына Пашкевіч працавала над ангельска-беларускім слоўнікам.*

**Чацьвер 4 сьнежня**

Раніцай ехалі разам з Camille. Яе муж яшчэ ў Мадрыдзе[1]. Яна трохі, мусіць, крыўдуе на яго — кажа, што ніколі яго няма, як звоніць.

Працую над сваімі рукапісамі. У міжчасьсі шукаю й для КК і для Тумаша й для Вітаўта. Шмат матар'ялаў трэба пераглядаць, а як перачытаеш — то нічога й няма для сябе. Добра толькі, што трохі пазнаецца літаратура.

Пад канец дня прыходзіў Bird. Расказваў пра Мадрыдзкую канфэрэнцыю. Амэрыканская дэлегацыя была вельмі добрая, добра падрыхтаваная й арганізаваная. Ён лічыць, што нечага дабіліся, калі нават толькі завастрылі ўвагу. Надта хваліў украінцаў. За нас гаварылі ён сам і Fenwick[2]. Сядзелі гаварылі доўга.

Я прыпомніла, што Шук[*елойць*] будзе нас чакаць пры выхадзе. Спаткала яго. Прынёс рэчы (я, прызнацца, думала, што не прынясе): паясы й «Новы Шлях». Яшчэ трохі пагаварылі паехалі дахаты.

---

[1] *Мірон Смародзкі — адвакат, украінец. Прадстаўляў беларускія дакумэнты на канфэрэнцыі ў Мадрыдзе.*

[2] *Millicent Fenwick — кангрэсмэнка ад штату Нью Джэрзі. Выдатна ведала беларускія справы, сытуацыю ў БССР. Заўсёды ў Кангрэсе выступала на 25 Сакавіка.*

**Пятніца 5 сьнежня**

Оля [*Запруднік*] сяньня мае апэрацыю. Няхай каб усё было добра! Тумаш прынёс чэк ад Польскага Інстытуту за «Бібліяграфію Фіоля». Добра, будзе на беларускія рэчы, менавіта паясы ад Згірскай, якія ўжо заказаныя і, званіла Надзя, гатовыя. Усё толькі не зьбяруся паехаць забраць.

Надаваў Тумаш зноў паручэньняў — адказваць на лісты. Праверыў В[*ітаўту*] ціск. Будзе зноў прыймаць пігулкі, бо трохі паднімаецца.

Званілі мне ад сэнатара Japsen'a [*з Вашынгтону*] — як мы былі на каве. Адзваніліся пазьней. Яны хочуць перакласьці «Адозву для Хрысьціян» па-беларуску.

Прыйшоў пакет з бібліяграфіяй да «Тэатру»[1]. Нешта мы там глупства нарабілі — трэба паправіць. Юры позна ня было — злаваліся, хваляваліся, бо заўтра рана ў Wash[*ington*].

---

[1] *Мы апрацоўвалі артыкул і бібліяграфію «Беларускі тэатар у Амэрыцы» (быў надрукаваны ў кнізе «Нацыянальныя тэатры Амэрыкі» ў 1983 годзе).*

**Субота 6 сьнежня**

Ранічкай усталі, хутка сабраліся й паехалі. Чуемся трохі разьбітыя — мала спалі. Ехалася добра. Вітаўт, пасьля Юра, а Вітаўт добра паспаў. Пасьнедалі вельмі прыемна. Прыехалі ў Wash[*ington*] якраз у час. Вітаўту на канфэрэнцыю «Slavic Congress». Заскочылі яшчэ да Алесі, сказаць, што мы тут. Спусьцілі мяне ў Бібліятэцы. Тады Юрачка спусьціў В[*ітаўта*] і паехаў да Карэн[1].

Я для сябе мала знайшла. Шукала ўсё для Тумаша. Рабіла xerox для Дуткі — вайсковыя песьні. А 3-яй прыйшоў у бібліят[*эку*] В[*ітаўт*]. Зборка прайшла добра. Ён шукаў пра КК. А 5-ай спаткаліся ўсе разам, Юра ўжо падабраў Алесю. Пайшлі павячэралі. Алеся шмат працуе. Доўга не сядзелі — завезьлі яе назад у Law School і паехалі дахаты. Ехалася без прыгодаў, спакойна. Я была надта стомленая й сонная, але так і не заснула — трымала Вітаўту кампанію, — Юра спаў.

---

[1] *Юрына сяброўка.*

**Нядзеля 7 сьнежня**

Раніцай доўга спаць ня было як — бо я стала рыхтавацца да прыезду Joann Bradford. Вітаўт яшчэ зьезьдзіў у N.Y. забраць ад Шук[*елойця*] рэчы.

А 1-ай прыехала й яна. Цэлы дзень правялі, працуючы над матар'яламі для выстаўкі. Выбрала яна 13 экспанатаў. Перавагу аддавала тым, што маюць дакумэнтацыю — пэўнае мейсца, час і асобу, што вырабляла.

Шукелойцевымі рэчамі не зацікавілася. Мусіць, бачыла ўжо іх на славянскай выстаўцы ў N.Y. Зь яе колькі рэплікаў я ўбачыла, што яна

з Раяй не зусім сышлася. Рая не магла ад яе схаваць няпрыязьні да мяне — яна, чужы чалавек, вычула.

В[*ітаўт*] зьезьдзіў па курку — трохі перакусілі й зноў пачалі працаваць. Яна выпісала паперу на рэчы, якія ўзяла. Паехала яна недзе каля 9-ай. Даўгі дзень!

**Панядзелак 8 сьнежня**

Пачалі дыету. Я дык страшэнна ўжо прыбавіла апошнім часам.

Нічога цікавага цэлы дзень ня было. В[*ітаўт*] паехаў на зборку Ethnic Council N.Y. Яго запрасілі як дарадніка[1]. Прыехаў ня позна — хутка сваё сказаў і паехаў. У іх ня гэтак актыўна, як у N.J.

---

[1] *Этнічную Раду плянавалі стварыць і ў Нью Ёрку. З суседняга штату, дзе Этнічная Рада ўжо дзеяла, запрасілі старшыню Рады — мяне, — каб расказаць, як працуе рада. На зборцы быў таксама губэрнатар Нью Ёрку Марыё Куома.*

**Аўторак 9 сьнежня**

Паслалі матар'ял Уладыку Мікалаю пра ягоны Моталь, што я знайшла. Прыходзіў Тумаш, тады Шук[*елойць*]. Дзень быў нейкі суетлівы, беганіна. Расказала Шук[*елойцю*] пра выстаўку, пра экспанаты.

Я шукала матар'ялаў пра наміткі для Joann. Памятаю, што бачыла недзе, як завязваць, але не магу прыпомніць дзе. Шмат часу згубіла на гэта.

Дождж. Ішлі пад станцыю з Шук[*елойцем*]. Вітаўт быў трохі рэзкі й з нейкай горыччу гаварыў пра газэту. Мне здаецца, Шук[*елойця*] гэта трохі пакрыўдзіла.

Вечарам пачала разглядаць бібліяграфію «Тэатру». Глупства нароблена, але шмат працы ня будзе паправіць.

Юрачка на сваім First Aid. Councilman Sisco меў сардэчны ўдар — яны выратавалі яго, завезьлі ў шпіталь. Юра задаволены.

**Серада 10 сьнежня**

Напісала ліст Neag — пра Кліўлендскую канфэрэнцыю «Статут». Ballarine праверыла.

Вітаўт застаўся пасьля працы на нейкае прыймо ў Lincoln Center.

Прыйшлі арнамэнты ад Будзькі і чэк з Insurance[1] за зубы. Званіла маме. Мама якраз даведалася пра SSI[2]. Выпаўніла анкету. Здаецца ня будзе ніякіх праблемаў.

---

[1] *Страхавая фірма.*
[2] *Дадатковыя датацыі старым.*

**Чацьвер 11 сьнежня**

Укінула ліст Neag. Адно ўжо можна будзе з Тумашавай цыдулкі выкрасьліць. Правадзілі Ільніцкага[1].

У абед пайшлі у рэстаран. Добра прайшло, толькі вельмі-ж дарага абышлося.

Ад [*сэнатара*] Japsen прыйшоў ліст для перакладу. Пазванілі Запрудніку — ці заўтра мог-бы перадрукаваць. Ён заўтра будзе забіраць Олю са шпіталю.

Зрабіла пераклад.

Званіла мама — яна надумалася браць падданства[2]. Мы вельмі яе ў гэтым падтрымліваем.

---

[1] *Калега. Выйшаў на пэнсію.*

[2] *Амэрыканскае грамадзянства.*

**Пятніца 12 сьнежня**

Раніцай пазваніла Ruth F., дамовіліся што яна прыйдзе ў панядзелак — пойдзем купляць вазончык для ўпрыгожваньня нашага пакою [*ў бібліятэцы*].

Званіла ў Вашынгтон, каб даведацца, ці можна было-б адкласьці пераклад на панядзелак. Яны не адзваніліся. Мы рашылі, што няма сьпешкі — зробіцца ў панядзелак.

Вітаўт зрабіў шмат рэчаў залеглых для Тумаша: лісты, пачкі з кнігамі. Пачалі ўрачыста выкрэсьліваць. Але Тумаш мае яшчэ больш чаго зрабіць. Ніколі канца ня будзе.

**Субота 13 сьнежня**

Аддалі пачку для Ані [*ў Беласток*] на пошту, у Валінгтоне. Зрабіла валасы й паехала ў магазыны.

Купіла 4 свэтары за $20 — распрадажа на фабрыцы. Купіла сабе сукенку таксама танна. Маме — коўдра. Яшчэ сякія-такія дробязі.

Вечар правялі спакойна, адпачывалі, працавалі.

**Нядзеля 14 сьнежня**

Дома. Нідзе не паехалі. Пераглядзелі зь Вітаўтам «Тэатр»[1]. О.К. Ня будзе шмат клопатаў.

Зьезьдзілі зь Юрам у Патэрсон, купілі фруктаў.

Пазьней Юра купіў Pizza.

Пісала карткі. Пазваніла Ірэне, што не прыедзем да яе на party, бо я паеду да мамы. Пазваніла маме.

---

[1] *Поўнай параю ішла праца над артыкулам пра беларускі тэатар у ЗША.*

**Панядзелак 15 сьнежня**

Вітаўт панёс да Запрудніка пераклад «Пасланьня» да Хрысьціянаў. Праверылі, перадрукавалі й паслалі.

Папрасіла Куравецкага[1], каб прынёс калбасы. Я абяцала Дзядзю Ваню, што прывязу наступны раз.

Хадзілі зь Вітаўтам у банк — доўга прастаялі, але заладзілі ўсё. Схадзілі пасьнедалі яшчэ, і я пасьпяшалася назад, бо мела прыйсьці Ruth. Пайшлі зь ёй купіць калядную кветку. Знайшлі даволі прыгожую

й не такую ўжо дарагую. Devor даў грошы. Купілі яшчэ тое-сёе з пачастункаў. Прыбралі стол — і стала сьвята.

---

[1] *Куравецкі — калега-бібліятэкар. Бацькі ягоныя мелі невялічкую крамку, дзе прадавалася «нашынская» каўбаса. Зора часта прасіла прынесьці для яе каўбасы.*

**Аўторак 16 сьнежня**

Куравецкі прынёс калбасу — палажыў ў халадзільнік унізе. Я перанесла яе да Вітаўта[1]. Паклалі за вакно, каб халадней і каб не сьмярдзела часнаком.

У абед хадзіла па пакупкі. Слаба ў мяне неяк у гэтым годзе з падарункамі.

Тумаш паказаў ліст ад а. Надсона, дзе ўспамінаецца, што ў іх у бібліятэцы працуе цяпер нейкая італьянская навукоўка[2], якая нібы знайшла рукапіс «Трыстана», зь якога быў зроблены сэрбскі пераклад.

У мяне вельмі сапсуўся настрой. Не таму што нехта яшчэ над гэтым працуе, але зьдзівіла мяне Тумашава стаўленьне да маёй працы. Калі нехта чужы робіць, дык усе пачынаюць скакаць, а як я над гэтым працавала, дык Тумаш колькі разоў пытаўся, «а што вы з гэтым будзеце рабіць?»... Я вырашыла напісаць а. Надсону, каб неяк зьвязацца зь ёй. Ды вырашыла, што важна, каб яны ведалі, што нехта ўжо працуе над гэтай тэмай.

Вечарам пачала рабіць бібліяграфію для «Тэатру».

---

[1] *Вокны майго офісу зь вялікім падваконьнем выходзілі ў парк. Можна было зімой класьці на падваконьне што хочаш!*

[2] *Sgambatti.*

**Серада 17 сьнежня**

Вітаўт паехаў у Трэнтан, тады ў Прынстан па справах Ethnic Council.

Я парадкую кніжкі на сваім стале — што паставіць назад на паліцы, што зрабіць выпіску, што зрабіць xerox.

Напісала ліст а. Надсону.

Вечарам з работы паехала на New Brunswick. Вітаўт мяне спаткаў каля аўтобусу й паехалі да Русакоў на вячэру. Было вельмі прыемна. Добра правялі вечар. Былі два сьвятары: а. Яноўскі й яго сябра з Польшчы, які назаўтра меў вылятаць да хаты, й Надзя.

І яда была смачная, й кампанія сымпатычная, й Вітаўт добра захоўваўся.

Прыемнае адчуваньне, што вечар ня быў сапсуты. Галіна яшчэ хацела гаварыць пра свае праекты — выстаўка, бібліяграфія, артыкулы — «манаграфіі», як яна называе сваю працу пра мастацтва. Яна кажа, што будзе часьцей прыязджаць у бібліятэку.

Прыехалі дахаты ўжо позна, але настрой быў добры — толькі трохі мне жывот стаў балець.

**Чацьвер 18 сьнежня**

Зноў хадзіла па пакупкі. Па абедзе ў нас была «Party». Шмат людзей набралася. Я ніколі не любіла гэткіх стаячых-таўкучых-штучных вясельляў. Я трохі там пастаяла, пакаштавала тое-сёе й пайшла назад працаваць.

Юра паехаў у N[*ew*] Br[*unswick*] на нейкую «Party». Я працавала над «Тэатрам».

Званіла Алеся. Экзаменам не задаволеная. Усе ейныя дзяўчаты ўжо выехалі. Яна адна ў хаце. Мы ёй наказвалі, каб была асьцярожная й каб званіла да нас, і мы ёй будзем званіць.

**Пятніца 19 сьнежня**

У абед зноў хадзіла купляць. З Тумашам ня бачылася.

Прыехала з працы, запакавала падарункі для мамы, сабралася. Яшчэ трохі перакусіла з Вітаўтам і Юрам (Юра прынёс Pizza) й паехала. Ехалася добра. Прыехала ня позна. Толькі ў хату, аж і Вітаўт звоніць.

Перакусіла, пагаварылі трохі ды й спаць пайшлі. Ноччу балеў жывот. Уставала ўзяць Alka[1]. Раніцай даведалася, што й мама ўставала.

---

[1] *Содаўтрымальны прэпарат супраць пякоткі.*

**Субота 20 сьнежня**

Спалі доўга. Мама ня рухалася, то й [redacted] спала. Я першая пачала рухацца. Мама ня добра чуецца. Жывот расстроены. Мама ляжыць. Я паехала па справах: банк, аптэка, пошта, яблыкі.

Яблыкі былі закрытыя[1]. Заехала да Нядзьвігаў аддаць калбасу. Трохі пасядзела зь імі. У іх усё па-старому. Няўтульна. Прыехала дахаты. Трохі перакусіла, што было, і адпачывала. Трохі памагала маме. Яна ўжо трохі лепей чуецца. Юра паехаў у Вашынгтон — прывезьці Карэн.

---

[1] *У фэрмэра, які мае толькі яблычныя сады, яблыкі прадаюцца заўсёды і вельмі танна.*

**Нядзеля 21 сьнежня**

Усталі, агледзеліся. Мама ў царкву не паехала.

Паехала па ялінку і... няўдача. Зямля прамерзлая, і яны ня могуць выкапаць. Зрэзаную я не захацела браць. Прыехала дахаты, трохі перакусілі, ды я й сабралася ў дарогу. Пазваніла яшчэ Нічык — няма. Пазваніла Згірскай — няма. Неяк не вязе нешта.

Па дарозе купіла яблыкаў — добрыя, танныя. Ехала 206-ай [*дарогай*]. Выехаўшы ўжо на Turn Pike, пазваніла Згірскай, што прыеду. Добра справілася. Заехала яшчэ па калбасу. У яе зрабіла колькі здымкаў. Распыталася пра яе рукадзельле. Яна займаецца шмат чым

іншым акрамя паясоў. Паясы выйшлі добрыя, асабліва тыя, што яна зрабіла акрамя заказу. Я ўзяла й тыя. Шмат выдаткавалася, але гэта ўжо салідны набытак для «музэю».

Заехала яшчэ да Хараўцоў (яны званілі, каб прыехалі па капусту)[1]. Іх ня было дома. Трохі пачакала, бо хацела даведацца пра рэчы, якія нібы мае сьвякруха. Не дачакалася. Прыехала дахаты яшчэ ня позна. Агулам узяўшы, гэтая паездка ня была такая ўдалая для мяне. Юра прыехаў ня позна.

---

[1] *Часта беларускія сем'і квасілі капусту так, як у Беларусі. Сям'я Хараўцоў была адной з такіх. Нам яны часам капусту давалі, часам мы настойвалі, каб купіць, — і куплялі.*

**Панядзелак 22 сьнежня**

Занесла назад сукенку маміну ў магазын. Схадзіла ў банк паклала грошы на Checking[1]. Чуюся неяк вельмі ніякава. Можа, таксама нешта з жыватом, а можа, проста прастуда.

---

[1] *Бягучы рахунак.*

**Аўторак 23 сьнежня**

Засталася дома — блага чуюся. Цэлы дзень старалася ляжаць, але шмат было розных справаў — усё соўгалася. Атрымалі [*віншавальную*] картку зь Белага Дому.

Як прыехаў Юра — паехалі па пакупкі у Bradleys. Купілі Алесі падарункі. Юра хоча snow-tires, дык трэба яшчэ штось большае для Алесі. Купілі (фактычна заказалі) Filing cabinet[1] для Вітаўта. Так выглядае, што спраўлюся з усім.

Прыехала Алеся — усё ў парадку. Дарога ня была такая ўжо благая, як пужалі. Я хвалявалася.

---

[1] *Жалезная шафка з вэртыкальнымі перагародкамі.*

**Серада 24 сьнежня**

Раніцай яшчэ ўсе спалі — я схадзіла зрабіла валасы й купіла трохі на сьнеданьне. Пасьнедалі й пачалі парадкавацца. Памылі бялізну, што дзецям трэба было для лыжаў і занесьлі пасушыць. Надвор'е страшэннае — ні-то сьнег, ні-то дождж. Усё сыра. Юра прывёз са сваім сябрам кабінэт[1].

Паехалі з Алесяй па пакупкі ў Пасэйк. Купілі тое-сёе для Бабкі, Алеся сабе трохі купіла. паехалі ў Патэрсон на ялінку. Купілі вельмі ўдалую — гусьценькую, вялікую й трохі пахне. Прыехалі, перакусілі, й Алеся паехала з Вітаўтам, бо пачаўся сьнег і мы не хацелі, каб яна адна ехала. Яна яшчэ мае купіць тое-сёе.

Я засталася пакаваць падарункі й прыбіраць ялінку. Юра пайшоў да Карэн на вячэру, пасьля ў царкву.

Алесіна паездка ня была ўдалая, бо магазыны былі амаль усе зачыненыя пасьля 6-ай. Але нешта купіла. Сядзіць і пакуе падарункі.

---

[1] *Шафку для мяне.*

**Чацьвер 25 сьнежня**

Ранічкай доўга спалі ўсе. Я устала й пачала шукаць батарэйкі для [*фота*]апарата. Забылася купіць. Знайшла. Зрабіла колькі здымкаў з упрыгожанай ялінкі. Ялінка вельмі прыгожая з масай падарункаў пад ёй.

Сабраліся ўсе патрохі, пачалі разьбіраць падарункі. Усё ўдалае, патрэбнае. Усе задаволеныя.

Пасьнедалі ўсе разам. Хутка дзеці пачалі выбірацца на лыжы. Беганіна па хаце, зьбіраньне. На двары холадна. Вітаўт зь Юрам прывязваюць лыжы[1].

Нарэшце выехалі. Мы трохі супакоіліся, селі адпачыць. Але зусім адысьці не маглі, аж пакуль яны не пазванілі, што добра даехалі. Там вельмі холадна.

---

[1] *На дах машыны.*

**Пятніца 26 сьнежня**

Паехалі на працу. І аўтобус, і горад, і бібліятэка пустыя. Спакойна, прыемна.

Тумаш прыходзіў. Былі на сьнеданьні зь Вітаўтам. Я далучылася да іх ужо пад канец. Неяк няма аб чым гаварыць.

Дома спакойна.

**Субота 27 сьнежня**

Паехалі з М. В. у магазыны. Пахадзілі яшчэ трохі па Пасэйку й паехалі ў Патэрсон на рынак. Купілі мандарынаў, грушаў. Заехалі яшчэ ў Shop Rite[1].

Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Вялікая прадуктовая крама.*

**Нядзеля 28 сьнежня**

Вітаўт паехаў у царкву. Меўся быць сход парафіяльны, але адклалі. Прыехаў даволі позна, там, як заўсёды, была балтаўня.

Трохі нейкі быў нацягнуты настрой, але пазьней памірыліся.

**Панядзелак 29 сьнежня**

Дзень на рабоце прайшоў без ніякіх цікавых здарэньняў.

Як прыехалі вечарам дахаты, чакала ўжо нас Алеська — прыемная неспадзеўка. Яны прыехалі раней, бо там зрабілася цёпла й язда на лыжах ня была-б цікавай. Расказвалі пра свае паходжаньні, пра непаразуменьні з Вітаўтам Т[*умашам-малодшым*].

Задаволеныя, вясёлыя. Прыемна павячэралі. Мы з Алесяй паехалі

ў магазын. Усё, што плянавалі, купілі — гэта падарункі для мяне, для хаты. Трохі стаміліся, але прыемна з дачкой правялі час. Перачытала: зашмат «прыемна».

**Аўторак 30 сьнежня**

Прыехала Алеся ў бібліятэку, й мы пайшлі зь ёй у Fin'a глядзець срэбны набор на нашую гадавіну. Нагледзелі добры, але трохі дарагі. Прыйшлі ў бібліятэку зноў — Алеся перакусіла, трохі пасядзелі. Прыйшоў і Вітаўт з Тумашам. Гаварылі пра Алесіну працу «ARO». Мы хутка зь ёй пайшлі — яна яшчэ мае нешта купіць. Я вырашыла ўжо на працу не варочацца. Пахадзілі яшчэ зь ёй, купіла яна што трэба. Вагі электранічнай я не купіла — лічу, што гэта дурное, бо трэба батарэйкі.

Падвяла яе да Subway[1], яна паехала да Ані[2], а я дахаты. Падрыхтавала вячэру. Яна пазваніла, што трохі затрымаецца ў Ані. Мы павячэралі самі — Юра зьбіраецца ў Нью Брансуік, яны (бел. моладзь) рашылі спаткацца.

Я ўсё падрыхтавала, каб сфатаграфавацца разам каля ялінкі — але так нам цяжка ўсім разам сабрацца. Падрыхтавала й світары, што бабка для нас зьвязала. І прасіла ўжо ўсіх, каб слухаліся мяне, не пярэчылі, не сьмяяліся. Юра дачакаўся Алесі. Усе сабраліся, дзякаваць Богу!

М. В. зрабіла здымкі з нас. Цікава што выйдзе?

Юра паехаў. Мае заехаць да Хараўцоў па капусту. Алеся сабралася й таксама паехала з Надзін. Добра, што не адна, бо выбралася ўжо позна. Юра прыехаў ня надта позна. Пазванілі Алесі пасьля 1-ай. Яна даехала добра. У хаце ўсё ў парадку.

---

[1] *Мэтро.*
[2] *Алесіна сяброўка.*

**Серада 31 сьнежня**

Працавалі цэлы дзень. На рабоце мала людзей. Была парты[1] ў славянскім аддзеле, але мне неяк не хацелася ісьці. Вітаўт схадзіў на колькі хвілінак. Я пайшла дахаты сама, здала фільм стары. З тым фільмам было шмат праблемаў — цікава, што будзе. Калядныя здымкі на новым фільме.

Юра паехаў на Новы Год у Саўт Рывэр. Там моладзь зьбіраецца. Паехала й Карэн і Бары з сваёй дзяўчынай.

Мы пасядзелі да поўначы. Выпілі трошкі віна ды пайшлі спаць.

Юра прыйшоў надта позна, але мы не хваляваліся. Вітаўт спаў. Я-то чула, але заснула яшчэ.

Раніцай (хоць гэта ўжо новы дзень, але запісваю тут) пазванілі Юру з хуткай дапамогі — у Rutherford на Orient Way вялікі пажар — і клікалі ўсіх, хто быў вольны.

---

[1] *Вечарынка*

## 1981

**Чацьвер 1 студзеня**

Усталі ня позна. Я парадкавалася ў хаце. Юра прыйшоў пасьля 10-ай. Пасьнедалі. Пачалі ўстаўляць новае сядзеньне ў уборную. Вітаўт, як і належыць, доўга вазіўся, злаваўся, крытыкаваў. Я разабрала інструкцыі. Памагла яму. Ён губляецца ва усіх мэханічных рэчах, і злуецца тады. Але ўставілі. Я прыбрала, зьмяніла ўсе рэчы на новыя. Выйшла так чысьценька, беленька — проста прыемна ў уборную зайсьці.

Рэшта дня прайшла ў парадкаваньні, адпачынку, працы. Юрачка амаль цэлы дзень спаў. Пазванілі маме, Алесі, Запруднікам. У іх усё добра. Ага, разьбіла рамку ад акуляраў.

**Пятніца 2 студзеня**

Ранічкай адразу пайшла паправіла акуляры. У абед хадзіла купіць Алесі падарункі. Раніцай у аўтобусе пасварыліся. Вітаўт зьбіраецца аддаваць мамін артыкул пра сьмерць Купалавай маці Запрудніку для газэты. Я казала, што трэба ў мамы спытацца, перадрукаваць хоць, перагледзець. А ён так сыры рукапіс панёс. Я доўга яшчэ не магла адысьці. На падвячорак[1] хадзіла з Фоксам, але пазьней падышла да іх[2]. Гаварылі пра З. Верас, Л. Геніюш, пра адкрыткі 1000-годзьдзя Беларусі[3]. Тумаш думае, што гэта нехта з Віленскіх артыстаў зрабіў. Забрала фільм. Выйшла няблага, але шмат сапсутых кадраў.

---

[1] *Падвячоркі звычайна бывалі ад 3-яй да 4-ай, і звычайна людзі і госьці ішлі ў бібліятэчную кафэтэрыю, дык сустрэцца было няцяжка. Бывала, што мы, беларусы, дамаўляліся сустрэцца ў кафэтэрыі альбо «паміж ільвоў» (калі вонкі). Пры ўваходзе ў бібліятэку з боку 5th Avenue стаяць дзьве статуі вялікіх ільвоў (эмблема бібліятэкі). Паміж ільвамі мэтраў 30—40, дык, стоячы паміж імі, разьмінуцца было нельга. Таму мы ў нашым асяродзьдзі і казалі: «паміж ільвоў».*

[2] *Тумаша і мяне.*

[3] *Толькі што атрымалі зь Беларусі.*

**Субота 3 студзеня**

Паехалі ў Вашынгтон. Ехалася добра. Спусьцілі Вітаўта ў Бібліятэцы, а самі паехалі купляць стол [*для Алесі*]. Доўга езьдзілі, наглядалі, але выбралі, толькі не адважыліся самі купляць. Спаткалі Вітаўта, пайшлі на вячэру. Добра, прыемна правялі час, ды... пасьпелі яшчэ паехаць і купіць стол. Алеся задаволеная. Мы хутка пайшлі спаць, а Алеся з Надзін і Майкам яшчэ недзе пайшлі, а пазьней прыйшоўшы дахаты, яшчэ торцік яны елі (торцік зрабіў Майкал).

Пазванілі да Зоі Лапчанка[1], да Акіншэвічыхі[2].

---

[1] *Супрацоўніца Бібліятэкі Кангрэсу.*

[2] *Удава Льва Акіншэвіча.*

**Нядзеля 4 студзеня, Алесін дзень народзінаў**

Усталі, пасьнедалі, запалілі сьвечкі ў торце і кончылі торт. Алеся задаволеная з падаруначкаў. Я зрабіла здымкі. Сталі зьбірацца. Заехалі да Mrs. Акіншэвіч. Пасядзелі ў яе больш чымся спадзяваліся. Яна расказвала пра сябе, пра Акіншэвіча. Аддала яшчэ кнігі, успаміны. Пра палічку не ўспаміналаʼ[1]. Ехалі назад добра. Захададала. Застанавіліся, перакусілі. Прыехалі дахаты перад 9-ай. У Rutherford поўна сьнегу. У хаце ўсё добра.

[1] *Зора мела вока на гэтую кніжную палічку.*

**Панядзелак 5 студзеня**

Скончыліся ўсе вольныя дні. Праўда сьвяты яшчэ будзем мець, але ужо вольных дзён ня будзе аж да лютага. Пачалі дыету. Юра таксама першы дзень на працу пайшоў.

Прыйшлі дахаты, і ў хаце прыкрасьць. У М[*арыі*] В[*асільеўны*] прапала сумачка. У магазыне, яна прыпушчае, укралі. Мы думаем, што недзе пакінула й нехта тады падабраў. Яна вельмі расстроеная, асабліва, што ключы ад хаты прапалі. Заявілі ў паліцыю. Прыходзіў вельмі сымпатычны малады паліцэйскі, сьпісаў. Але нічога з гэтага, зразумела, ня выйдзе.

Пазваніла да мамы. У яе ўсё добра. Праўда, было ў уборнай замерзла, але направілі.

**Аўторак 6 студзеня**

Дзень прайшоў трохі ў беганіне. Раніцай спазьніліся. Вітаўт зайшоў у банк пакласьці грошы. У мяне зноў акуляры не ў парадку — выскачыла шкло з рамкі. У абед пайшла паправіць. Купіла таксама падарункі для Алюньцевых дзяцей. Заўтра аддадзім. Вітаўту званілі з ФБІ, спаткаецца зь ім у чацьвер.

Хадзілі з Тумашам на падвячорак. Зноў тое самае: наракае, што Вітаўт нешта ня выслаў — зноў прыйшоў ліст аднекуль. Зноў валкавалі «Запісы» й праблему для бібліятэкаў зь імі[1]. Між іншага Т[*умаш*] сказаў, што назоў гэта ягоная ідэя, яшчэ даўно. Тумаш ніяк ня можа згадзіцца, што мы самыя вінаватыя ўва ўсім гэтым канфузе. Яму званіў нейкі жыд, які працуе над жыдоўскімі народнымі песьнямі й бел. уплывам на іх, — шукае матар'ялаў. Тумаш, зразумела, просіць Вітаўта, каб зрабіў копіі. Гэтаксама копіі для Сядуры. Той працуе над нейкім гістарычным апавяданьнем.

Мелі прыемную Куцьцю. М[*арыя*] В[*асільеўна*] яшчэ ўсё не адышла ад учарайшага, але Куцьцю падрыхтавала добрую. Усё было смачнае й ня шмат. Запалілі яшчэ лямпачкі й сьвечачкі. Прыемна правялі вечар. Юра пайшоў на свой дыжур [*у Хуткую дапамогу*]. Ноччу быў сьнег.

[1] *«Праблема» была ў тым, што «Запісы» выходзілі ў розных гарадох і краінах:*

*першыя шэсьць выпускаў у Нью Ёрку, наступныя пяць у Мюнхене, [redacted] ад № 12 зноў [redacted] Нью Ёрку. У каталёгах гэта трэба было ўсё адзначыць, а некаторыя бібліятэкі затрымоўвалі — не каталягавалі. Нарэшце Зора напісала дзясятак лістоў і аформіла на самых «Запісаў».*

### Серада 7 студзеня

Сьнегу нападала даволі шмат. Прыгожа. Маем White Christmas[1]. Пазванілі рана Юру, што школы ня будзе. Мы ўсё прыслухоўваліся, думалі, што можа й бібліятэку зачыняць. Але, выглядае, што сьнегапад у Нью Ёрку ня быў такі моцны. Паехалі адразу ў царкву. Там яшчэ служба не пачалася — а. Войтэнка прыехаў пазьней. Нарэшце трохі сабралася людзей, пачалі службу. Мы трохі пастаялі й паехалі на працу.

[*Уладзімер*] Русак усё ня можа супакоіцца з царквой Мерляковай. Усё дакучае Вітаўту[2], каб пагаварыў з грэкамі, каб перавесьці яе, аддзяліць ад Каўша. Са мной гаварыў пра БАЗУ. Я ў прынцыпе згадзілася быць ва ўрадзе. Станкевічыха, здаецца, адышла.

Прынесла макаўку на работу. Аддала падарункі дзецям [*Алы Рамана*]. Добра пасуюць. Коля быў вельмі задаволены. Павел, здаецца, не надта.

Сабвэямі ехаць вельмі непрыемна. Добра, што мы ад іх не залежым.

---

*[1] Стандартна-банальны амэрыканскі выраз «Белыя Каляды» — лепш было б сказаць «Сьнежныя каляды».*

*[2] Гаварыў са мной пра царкву, бо я па лініі рэспубліканскай дзейнасьці блізка сябраваў з Майклам Сатырасам, рэспубліканскім дзеячам зь Нью Ёрку, амэрыканскім грэкам. Майкл, у сваю чаргу, быў вельмі блізкі да грэкаў юрысдыкцыі Канстантынопальскага патрыярхату — дапамагаў ім і палітычна, і фінансава. Праз мяне было наладжана некалькі сустрэчаў з царкоўнымі дзеячамі. Дарэчы, у сярэдзіне 1980-х гадоў пры прэзыдэнту Рэйгану Майкл Сатырас быў прызначаны амбасадарам ЗША ў Грэцыі.*

### Чацьвер 8 студзеня

Вітаўт меў спатканьне з агентам ФБІ. Яны пачалі зноў цікавіцца місіяй бел. Нічога надта цікавага. Агент малады чалавек, ня ведае шмат[1].

Я парадкавала дзёньнік. Давяла нарэшце да апошняй даты. Гэткім парадкам шмат чаго забываецца. Трэба не ляніцца ды кожны дзень запісваць. Трохі мала месца пакінула на Вашынгтон. Мусіла пісаць вельмі сьцісла. А шкада, бо было вельмі прыемнае падарожжа. Вітаўт папрацаваў у бібліятэцы. Мы з Алесяй добра правялі час. Разам усе прыемна павячэралі, езьдзілі купляць. Неяк было асабліва дружна, спакойна. У дзень ейных народзінаў былі самыя — Надзін ужо выехала рана. Адно толькі, што Алеся трохі нецярплівілася, хацела працаваць, а мы трохі цягнулі з ад'ездам, бо дамовіліся да Акіншэвічыхі на першую. Але выехалі ад Алесі раней. Яшчэ трохі паезьдзілі па

Вашынгтоне. Там ужо рыхтуюцца да інаўгурацыі, будуюць трыбуны. Купілі яшчэ цукеркаў для Акіншэвіч. У яе затрымаліся, бо надта-ж яна была гаваркая. Усё ўспамінала пра сваіх мужоў (3!!!), пра сына, пра свае маладыя гады. Сумна ёй, мусіць. Гаварыла па-расейску. Мусіць, ёй расейская мова бліжэй.

Ну, вось гэта маё падарожжа ў «мінуўшчыну», каб трохі недагаворанае аднавіць.

Юра вечарам пайшоў на працу ў Rutherford Swimming Pool[2]. Званілі Алесі. Стол прывезьлі — кажа, што добра выглядае.

Прыйшоў ліст з Prudential[3] — рэкляма на аўтаіншуранс. Вітаўт запоўніў — можа, лепш будзе як у Allstate. Яны на днях прыслалі на новы — $1800. Гэта-ж рабунак. Напомнілі Алесі, каб заладзіла са сваёй машынай.

---

*[1] Агульна цікавіўся беларусамі, як у ЗША, гэтак і ў Беларусі.*
*[2] Юра часова працаваў у басэйне.*
*[3] Страхавая кампанія.*

### Пятніца 9 студзеня

Пераглядаю кнігі для Трыстана і інш. Хадзіла ў абед у магазын. Купіла дробязі. На падвячорак пайшла з Фоксам. Добра гаварылі пра літаратуру, палітыку, бібліятэчныя справы. З Тумашам Вітаўт пайшоў сам раней. Пасьля працы йшлі разам. Не прыпамінаю, каб што цікавае гаварылася.

Прыходзіла Theresa Alt са сваім сябрам. Яны едуць у Югаславію. Перадала свой артыкул пра мову Статуту. Вітаўт прасіў яе пашукаць пэўныя рэчы для Тумаша. Я — пра Трыстана. Вельмі прыемна пагаварылі.

### Субота 10 студзеня

Раніцай пазваніла Joanne Bradford[1]. Просіць дадатковую інфармацыю й яшчэ адзін ручнік (той, што Карніловіч даў). Мы толькі садзіліся сьнедаць. Сказала ёй што пазваню пазьней.

Зрабіла прычоску. Адзванілася Joanne. Дала ёй часткова інфармацыяў, часткова на днях адкажу.

Перамыла свае рэчы. Трохі папарадкавалася і пачалі зьбірацца на Вясельле[2]. Тут я мела праблему — нічога не пасуе (я сапраўды шмат прыбыла на вазе). Неяк расшыла сваю чырвона-аранжавую спадніцу — зь белай блюзачкай і вышыванай падвесачкай выйшла нядрэнна. Нават Губэрнатар Byrne заўважыў падвескі й пахваліў. Так, і ён быў на вясельлі Steve Richer. Наагул вясельле было ўдалае. Шмат людзей і ўсё нейкія важныя асобы, быў і былы губ. Майнэр[3]. Усе было прыстойна, «культурна». Прыемная цывільная цырымонія. Абед быў вельмі звычайны. Мы сядзелі з індусамі (Duto). Вельмі прыемныя людзі, асабліва ён. Яна дык, як мы ўжо ведаем, вельмі гаваркая. Трохі

й патанцавалі. Доўга не бавіліся. Прыехалі дахаты яшчэ перад 10-ай. Яшчэ й пасядзелі трохі дома.

[1] *Як згадвалася раней — асоба, адказная за арганізацыю выстаўкі тэкстыльных вырабаў у Бінгэмптане.*

[2] *Вясельле нашага сябры Стывэна Рычэра — дарадніка губэрнатара штату Брэндана Бэрна. Была нагода добра пазнаёміцца і пагутарыць з губэрнатарам. Запрасіў ён на прыватнае спатканьне. Вясельле было сапраўды ўдалае, а мы былі ганаровыя госьці, бо неаднойчы ў тостах прыпомнілі і беларусаў. Стывэн Рычэр — яўрэйскага паходжаньня. Расказаў, як стаўся «Richer». Дзед ягоны з «Овруча» (Украіна), у часе эміграцыйнага працэсу сказалі: ты будзеш «Richer», Овручер — Obrucher — Richer. Дзед не пратэставаў. Са Стывэнам у мяне наладзіліся блізкія, прыяцельскія адносіны. Пачалося гэта тым, што калі аднойчы Стывэну гэта было вельмі патрэбна, я аддаў за яго мой голас у Інтэрнацыянальным камітэце Bicentennial Commission, здаецца, у 1975 годзе. Той мой голас быў для Стывэна вырашальны. А я за яго галасаваў, бо ён нешта ведаў пра Беларусь.*

[3] *Rober Meyner — губэрнатар штату Нью Джэрзі ў 1954—1962 гадох.*

**Нядзеля 11 студзеня**

Рабіла амаль цэлы дзень апісаньне як завязваць намітку. Круціла сама, малявала, апісвала. Выйшла няблага.

Юрачка паехаў у Нью Брансуік на ялінку[1]. Моладзь памагала арганізоўваць. Прыехаў, расказваў. Было добра, казаў. Галіна гаварыла пра калядныя звычаі, дзеці сьпявалі, [*Пётра*] Кажура быў Дзедам Марозам. Айцец Аляксандар дадаў ад сябе пра калядныя звычаі. Між іншага, яму ладзілі нейкія ўгодкі. Трохі «пракаціўся» па Галіне. Ён некалі будзе сапраўды мець клопаты са сваімі заўвагамі нетактоўнымі. Я цяпер бачу, што ўсе гэтыя сваркі ў царкве да пэўнай ступені й яго віна.

[1] *Ялінка для моладзі ў беларускай царкве.*

**Панядзелак 12 студзеня**

Пачалі дыету. Я важыла раніцай 166[1]!!! Страх! На двары страшэнны холад.

Прыходзіла ў бібліятэку Галіна [*Русак*]. Выходзілі на абед. Пагаварылі пра яе праэкты, пра выстаўку. Яна зашмат зазнаецца. Але мы ўсе гэтым грашым. Хочацца зрабіць як мага болей. Нічога няма, усюды трэба затыкаць дзіркі. Далі ёй трохі матар'ялаў.

Ballarine праверыла матар'ял для Joanne[2]. Зрабіла копіі.

Атрымала ліст ад айца Надсона з адрасам італьянскай дасьледніцы рукапісу «Трыстана». Сымпатычны ліст.

Цэлы вечар прыводзіла ў парадак «Інструкцыі» да наміткі й ліст да Joanne; пакавала пачкі: Алесі свэтар ад Аллы й Joanne ручнік.

Вітаўт пайшоў да Камілі слухаць на Cable T.V. выступ Мірона [*Смародзкага*] аб Мадрыдзкай канфэрэнцыі. Я трохі неяк пакрыўджаная, але трымаюся (я ня думаю, што яму трэба былоісьці туды).

[1] *166 фунтаў = 80 кг.*

[2] *Падрыхтавалі апісаньне беларускіх матэрыялаў на выстаўку тэкстыльных вырабаў. Нашая сяброўка Кацярына навяла рэдактарскі парадак.*

**Аўторак 13 студзеня**

Вітаўт панёс пачкі на пошту. У аўтобусе была Каміля — мне зусім сапсуўся настрой, мне праціўна, што Вітаўт так заўсёды зь ёй гаворыць, з такой пустышкай — праціўна ейнае хваленьне, задаваньне. Усе яны такія Phony[1] (ня ведаю, як пішацца, але слова такое трапнае).

У абед хадзіла купляць падарунак для М[*арыі*] В[*асільеўны*].

Тумаш прыходзіў. Гаварылі пра новыя заказы, пра Гусоўскага пераклады й адзначэньне яго ў Беларусі. Арсеньневай перакладам Т[*умаш*] не зусім задаволены — выглядае, што яна занадта налягае на расейскі пераклад. Сказала Тум[*ашу*] пра ліст ад Надсона і што далі рэцэнзыю на «Повесть о Трыстане». Т[*умаш*] папрасіў перакласьці ліст для яго.

Прыходзіў Bird, але ня было часу зь ім гаварыць — нічога яшчэ для яго не падрыхтавалі.

Пасьпяшаліся дахаты, каб паглядзець беларускую «мінутку» на 13 канале. Пасьпелі, паглядзелі, але каб зазяваў чалавек у гэтую часінку, дык і прапусьціў-бы. Коратка, без падрыхтоўкі адпаведнай. Ну, але добра й гэта. Але высілак не адпавядае рэзультату.

Пазваніла маме — у яе ўсё добра. Атрымала ліст ад [*Аўгена*] Каханоўскага (яму мама адказала даўно, адразу-ж). Ён піша, што пачын наш зь бібліяграфіяй К.К.[2] вельмі карысны й важны. Трэба будзе яму напісаць. Нам ён, хіба, не напіша сам першы.

---

[1] *Ненатуральныя, штучныя, няшчырыя.*
[2] *«Купала і Колас на Захадзе».*

**Серада 14 студзеня**

Хадзіла яшчэ купляць для М[*арыі*] В[*асільеўны*][1]. Прыехалі дахаты з торцікам. Павячэралі, прывіталі, падарункі добра прыйшліся. М[*арыя*] В[*асільеўна*], здаецца, задаволеная.

Я яшчэ рабіла для Bird[2]. Папрасіла Вітаўта перагледзець, і тут, як і можна было спадзявацца, наткнулася на нейкі сварлівы супраціў. Да яго трэба падыходзіць у адпаведныя хвіліны, з адпаведным тонам, з адпаведнымі словамі. Рагаты ён. І колькі не жывем зь ім, цяжка дапасавацца, як, калі й што сказаць. Я ўжо, здаецца, вывучыла яго, але ўсё не пападзеш. Але памог трохі, — хутка адыходзіць.

---

[1] *У мамы дзень народзінаў (яна з 1904 году).*
[2] *Тома Бэрда.*

**Чацьвер 15 студзеня**

Юра дома. Martin Luther King's b.d.[1] Мы атрымалі чэкі[2]. Вітаўт выслаў пачкі, лісты, што былі ўжо заляжаліся з адказамі. Заўтра будзе ўжо што выкрасьліць з Тумашавай «цыдулкі»[3].

Ballarine перагледзела пераклад Тумашавага ліста — мала паправак — мы ўжо робімся ўсё лепш і лепш у ангельскай. Хадзіла купляць для Нестараў.

Пазваніла Мані, што прыедзем да іх у наступны чацьвер.

Званіла Галіна — прыедуць заўтра па кнігі.

Юра паехаў у шпіталь адведаць маці Карэн — яна мела апэрацыю, як і ў Олі — выразалі грудзь.

---

[1] *Дзень народзінаў Марціна Лютэра Кінга, амэрыканскага пастара, барацьбіта за правы найперш чорных, але і наагул усіх прыгнечаных.*

[2] *Зарплату.*

[3] *Д-р Тумаш заўсёды пакідаў сьпісачак «што зрабіць».*

[4] *Юравай сяброўкі.*

**Пятніца 16 студзеня**

Вітаўт выслаў яшчэ пачкі й лісты. Засталіся толькі, здаецца, два не адказаныя лісты.

На падвячорак хадзіла з Факсам, а пасьля далучылася да Вітаўтаў. Аддала Т[*умашу*] пераклад. Гаварылі пра наступныя «Запісы», што трэба ўжо пачаць рыхтаваць матар'ял з першай канфэрэнцыі. Т[*умаш*] наракаў на Галінін артыкул, кажа, што цяжка будзе нешта зь яго зрабіць. Жучыхі[1] дык, зрэзаўшы трохі, можна пускаць, але Галінін дык цяжка будзе прывесьці ў парадак. Танцаў ня будзе[2].

Пайшла я дахаты раней, каб трохі прыгатавацца. Шук[*елойць*] прынёс пакет з Dept. of Emig.[3]

Русакі прыехалі позна, мы ўжо прачакаліся. Павячэралі, пагаварылі. Пачалі выбіраць кніжкі. Яна спачатку выбрала з маіх, пазьней зь Вітавых. Я ўсё сьпісала. Сядзелі яны даволі позна. Шмат пра што гаварылі: пра царкву, пра дом, што прадаецца[4]. Усе такой думкі, што трэба купляць. Васіль вельмі асьцярожны. Пра кнігу аб Беларусі[5]. Тут трохі мае пагляды разыходзяцца зь іхнымі. Яны лічаць, што трэба папулярную, якая ўключаць мае ўсё — й гісторыю, й экан. геаграфію, й прыроду, й культуру. Я лічу, што самае важнае цяпер навуковая манаграфія з гісторыі Бел., каб задаць тон, зьмяніць (ці хоць бы пастарацца мяняць) устаноўленыя памылковыя тэорыі й асьвятленьні нашай гісторыі. Зразумела было-б найлепш зрабіць і тое, й другое. Вечар прайшоў прыемна.

---

[1] *Артыкул Раісы Жук-Грышкевіч.*

[2] *Рэпэтыцыі танцавальнага гуртка. Нам часта на працу тэлефанавала Ала Рамана — калі і дзе будзе «проба» танцавальнага гуртка, каб гэта перадаць Юру, бо яго цяжка было «злавіць».*

[3] *Нешта трэба было зрабіць для БАЗА.*

[4] *Побач з царквой прадаваўся дом. Галіна ўважала, што яго трэба было купіць, каб мець большую маёмасьць. Васіль Русак — важны, уплывовы чалавек у царкоўных справах — супраціўляўся, бо не хацеў браць пазыку ў банку. Дом так і не купілі.*

[5] *Шмат валкавалася, каб апрацаваць новую англамоўную кнігу аб Беларусі. Былі гутаркі з асобамі, якія мелі нешта напісаць у запляналаваную кнігу. Але да зьдзяйсьненьня не дайшло — было зашмат разыходжаньняў у поглядах. Урэшце ў 1988 годзе была выдадзеная кніга «Byelorussian Statehood».*

**Субота 17 студзеня**

Сёньня мы дома — нікуды ня трэба ехаць. Зраньня зрабіла прычоску, купіла на сьняданьне. Затрымалася, праўда, спусьціла кола, але ўсе яшчэ толькі краталіся, як я прыйшла. Пасьнедалі. Юра паехаў на працу ў басэйн. Я з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*] зьезьдзілі ў Paterson па фрукты. Шмат і добра купілі. Заехалі яшчэ у Shop Rite, купілі ўсё на заўтра (каб раніцай нікому не турбавацца).

Рэшту дня працавалі, адпачывалі. Я пачала разьбіраць бібліяграфію К. К. Уклала ў альфабэтычны парадак (тым часам толькі Купалу). Вітаўт працуе над нечым сваім. Раніцай шукаў пад гаражом кніжкі[1].

---

[1] *У Рутэрфордзе ў нас было шмат месца. Гаражы былі прыстасаваныя з старога будынку, які быў двухпавярховы. Другі паверх быў пусты — там быў склад беларускіх кніжак. Часам кніжак бывала і пару тысячаў.*

**Нядзеля 18 студзеня**

Сёньня зноў дома зусім.

Званіла Алеся — яна нядобра чуецца, ня пойдзе на рэспубліканскае прыймо. Позна было ўжо камусь званіць, каб замянілі.

Я трохі парадкавалася каля хаты. Юра паехаў у N[*ew*] B[*runswick*] — калядаваць[1].

Вітаўт працуе, адпачывае, слухае сваё радыё. Я па абедзе адпачывала. Глядзела T.V. Добрыя навіны з заложнікамі [*ў Іране*]. Выглядае, што нарэшце Іранцы адпусьцяць іх.

Юрачка прыйшоў позна. Калядаваньне прайшло вельмі ўдала. Са старэйшых былі толькі ён і Ната [*Русак*].

---

[1] *Гурток моладзі езьдзіў у беларускія сем'і з калядкамі. Яны падчас такіх паездак добра «падмацоўвалі» касу арганізацыі.*

**Панядзелак 19 студзеня**

Парадкавала дзёньнік. Пераглядала «Kultura». Нічога для К. К. не знаходжу, але даволі шмат артыкулаў на беларускія тэмы — [*Ул.*] Брылеўскі, Sukiennicki, часам нейкі Zellis — праціўны, відаць спольшчаны жмудзін, вельмі непрыхільны да нас.

**Аўторак 20 студзеня**

Вітаўт дома. Паедзе ў Трэнтан на зборку з Dept. of Higher Ed.[1]

Прыехала Галіна [*Русак*]. У абед мы зь ёй паехалі ў 4 continents[2]. Купіла Byelorussian Cuisine і казкі ў анг. перакладзе. Галіна купіла сабе сёе-тое. Яна ўсё зьбірае на выстаўку. Там пачулі, што «hostages» ужо адпусьцілі[3].

Прыходзіў Тумаш. Хадзілі на падвячорак. Гаварылі пра бел. кніжкі

новыя й старыя, пра кніжкі для Галінінай выстаўкі. Галіна закранула свой артыкул. Тумаш ня двузначна ёй сказаў, што завялікі — трэба скараціць. Яна ўсё яшчэ чапурыцца, што каб выдаць асобнай кніжнай.

Вітаўтава зборка была ўдалая. Уставіў і беларускую мову, як магчымую мову да залічэньня крэдытаў[4].

---

*[1] Я разам з Этнічнай Радай наладзіў добрае супрацоўніцтва з штатным Аддзелам Вышэйшай Адукацыі.*

*[2] Кнігарня, дзе прадаваліся кнігі з СССР.*

*[3] Выпусьцілі закладнікаў з амэрыканскай амбасады ў Тэгеране. 52 амэрыканцаў трымалі закладнікамі 444 дні. Амэрыка сьвяткавала!*

*[4] Валкаваліся, каб залічаць вучням веданьне моваў, якія яны вучаць у парафіяльных школах. Гэта можна было зрабіць — улучна зь беларускай мовай — аднак было шмат бюракратыі.*

**Серада 21 студзеня**

Вітаўт дома.

Я пераглядаю «Культуру»[1]. Нічога цікавага.

Вечарам прыходзілі з «Prudential» па аўтамабільны іншуранс. Як пачалі яны вылічаць, дык налічылі яшчэ болей, як нам з нашым старым выходзіць[2]. Затрымаем стары, толькі Алеся перапішацца ў Вашынгтон.

Атрымала назад чэк на $13 ад Passaic Gen. Hospital, што пераплаціла[3].

Атрымала ліст з падзякай і запросінамі ад Joanne. Запакавала падарункі для Вітаўта й Сашкі[4].

Пазваніў Русак Ул., што ў пятніцу суд царквы[5].

---

*[1] Польскі часопіс, які выдаваўся ў Парыжы.*

*[2] Мы плацілі вялікія страхоўкі за аўтамабілі, бо мелі дзяцей на сваіх страхоўках. Дык шукалі агенцтва, якое давала б лепшую страхоўку за меншую аплату.*

*[3] Шпіталь у Пасэйку вярнуў пераплачаныя грошы.*

*[4] Нэстары — нашы беларускія сябры.*

*[5] Працяг царкоўнай валакіты.*

**Чацьвер 22 студзеня**

Цэлы дзень нічога цікавага. Працавалі хто з чым.

Вечарам Юрачка спаткаў нас на пачатку Rutherford, каля 3-яй дарогі й паехалі да Нэстараў. Даехалі добра. Пагода добрая. Сьнегу няма. Там прыемна правялі час. Павячэралі, пагаварылі, аддалі падарункі. Сашку добра. Вітаўту трэба абменьваць[1].

Аўген[2], як заўсёды, пачаў гаварыць глупства. Гэты раз з царквой нашай. Ён шмат не арыентуецца, але апінію сваю (пэўна-ж памылковую) выказвае. Нешта ўжо новае! Нібы Мікалай хоча падабраць парафіі сабе ды перайсьці ў Уніяцтва. Але агулам добра правялі вечар. Вярнуліся дахаты позна, але добра што адбылі, не пакідалі на weekend, на пазьней.

---

*[1] Падарункі — адзеньне.*

*[2] Аўген Нэстар (Несьцяровіч) — прыхільнік уладыкі Ізяслава Бруцкага, быў заця-*

*ты ў царкоўных справах. Баяўся ўяўнай «вуніі». Я ў гутарках зь ім стараўся пазьбягаць царкоўныя тэмы. Наагул жа Аўген, будучы настаўнікам фізыкі ў сярэдняй школе, шмат даваў вучням інфармацыі пра Беларусь.*

**Пятніца 23 студзеня**

Дзень пачаўся суетліва, так і быў дурны, хаатычны, заняты, нэрвовы. Вітаўт рана паехаў у Brooklyn у суд. Кендыш падаў на Міцкевіча й на прыхажанаў у суд за тое, што хацелі склікаць сход, каб вырашаць пытаньне настаяцеля прыходу й епіскапа. Фактычна гэта было толькі першае слуханьне. Пастанавілі адкласьці сход на колькі тыдняў.

Прыехала Галіна ў бібліятэку. Я ёй сказала, што як зьбярэмся йсьці на абед — паклічам яе. Прыйшоў і Тумаш. Я ўсё надчыквала Вітаўта, бо пад абед меліся спаткацца з Запруднікам. Прыйшоў і Зап[руднік], а Вітаўта ўсё няма. Запруднік гаварыў з Тумашам — падпісалі ліст ад Інстытуту на вызаў мастака Паўлоўскага з Парыжу (новапрыбылы зь Менску). Я знайшла Інстытуцкую пячатку ў Вітаўта ў стале. Нарэшце ўсе сабраліся. Была й Рая (прыйшла зь Вітаўтам). Пайшлі на абед. Гаварылі, зразумела, больш пра суд і пра царкву, Гарошку і інш. Мы з Францам[1] трохі пагаварылі наконта беларускага Who is who (дзеля гэтага ён і прыходзіў). Але нічога канкрэтнага ня вырашылі. Неяк зашмат было ўсякіх розных справаў. Гаварылі й пра Галініну выстаўку. Адным словам было шмат гаворкі, але нічога важнага не пастанавілі. Але настрой быў прыўзьняты. Сабраліся «беларускія інтэлектуалісты»!

На падвячорак я пайшла з Фоксам, пасьля далучылася да В[*ітаў-та*] й Тум[*аша*]. Тумаш сказаў, што Галінін артыкул так пускаць нельга — быў вельмі крытычны. Раісін, скараціўшы трохі, будзе добры. Гаварылі зноў пра наступныя «Запісы».

Ужо зусім пад канец працы прыйшоў Bird. Паказала яму, тое што ўжо зроблена — ён задаволены; кажа, што не спадзяваўся, што так шмат знойдзецца. Пакінуў мне яшчэ сьпіскі, каб шукаць больш. Яны зь Вітаўтам пайшлі яшчэ пагаварыць. Вітаўт хоча намовіць яго рабіць дактарат пра «Нашую Ніву». Ішлі дахаты з Тумашам. В[*ітаўт*] расказваў пра гутарку з Bird'ам.

Прыехалі дахаты, я сабралася й паехала да мамы. Ехалася добра. Слухала радыё. У мамы ўсё добра. Яна чуецца лепш — была прастуда.

Павячэралі, трохі пагаварылі й пайшлі адпачываць. Пазваніў Вітаўт.

---

[1] *Мянушка Яна Запрудніка.*

**Субота 24 студзеня**

Усталі ня позна. Надвор'е прыемнае. Пасьнедалі. Я зьезьдзіла ў магазын, купіла прадукты. Па яблыкі ехаць не захацелася.

Дзень правялі адпачываючы, гаворачы, чытаючы, гледзячы T.V. Званіла Helen. Перагледзіла мамін пошту. Мама дала ліст ад Кахаўоўскага — ён пачаў ужо друкаваць успаміны пра К[*упалу*]-К[*оласа*].

Мама паправіла сьвэтары.

**Нядзеля 25 студзеня**

Мама раніцай робіць галубцы. Я добра спала. Пасьнедалі. Завезла маму ў царкву[1]. Пакуль мама ў царкве я прыбрала ў хаце, вынесла сьмецьце. Пагода цудоўная. Мама чуецца ўжо зусім добра, нават пакупалася, выкарыстваючы, што я тут і што цёпленька.

Прыходзіла Гэлэн, — я ўжо была пачала выбірацца дахаты[2]. Трохі яшчэ паглядзелі T.V. (прыезд заложнікаў у West Point) ды паехала. Слухала радыё ў машыне. Даехала добра. Дома Юры няма. Вітаўт вельмі расстроены, бо Юра мае пабітую машыну і нічога не сказаў, як нічога не сказаў, што атрымаў адказ з Мэд. школаў, што запазьніўся з пасьветкамі і 5 школаў ужо прапала. Доўга мы разважалі, што зь ім будзе. Неяк ён апошнім часам дзіўна захоўваецца.

Прыходзіў [*Уладзімер*] Дутка. Аддала яму зробленыя адбіткі песьняў (нейкіх 65 лістоў). Узяў ён таксама й «Новы Шлях». Трохі пасядзеў, гаварылі пра нашыя цэрквы. Цяпер гэта ва ўсіх на языку. Званіў Юра — ён у John'a[3]. Вітаўт быў у царкве. Там прыціснуты настрой, людзі вельмі крыўдуюць на Кендыша, Уладыку Андрэя. Сход адкладзены. Гарошка захоўваецца вызываюча. Манькоўскі зусім вар'ят — абвінавачвае усіх у камуністычнай рабоце — страшыць судамі.

Прыйшоў Юра. Мы яго стараліся выцягнуць на гутарку са школамі. Нічога не сказаў. Хоць я й разумею, чаму ён гэта робіць — надта-ж ён ня любіць, баіцца усякіх сваркаў, дыскусыяў. Але настрой у яго быў не благі. Пазваніў да Карэн (яна яму званіла раней) і ў яго зусім сапсуўся настрой.

Вітаўт трохі блага чуецца — ні-то праступа, ні-то жывот.

---

[1] *Каталіцкі касьцёл, у які хадзіла Зорына мама.*
[2] *У Рутэрфорд.*
[3] *Юраў сябар.*

**Панядзелак 26 студзеня**

Юра застаўся дома. Кажа, што стомлены ды хоча пачаць ужо рабіць патрэбныя захады й дакумэнты для Мэксыкі[1]. Мусіць адчуў нашае незадаваленьне.

Пазваніў мне на працу каля 3-яй, што яму патрэбен стары пашпарт і мэтрыка. Вітаўт яму адзваніўся, расказаў, дзе шукаць. Пашпарт знайшоў, а мэтрыку не. Зноў пачалося хваляваньне. Неяк усё ня ладзіцца ў яго.

Вечарам мы яго чакалі позна, каб даведацца, што зрабіў. Прыйшоў дахаты а 1-ай. Мы на яго трохі насварыліся, пажурылі, за тое, што ён неяк бесклапотна, бесталкова захоўваецца ў дачыненьні да сваёй далейшай навукі — чаму не стараўся больш, каб папасьці ў Амэрыканскія школы. Так і разышліся нацягнута.

---

[1] *Дакумэнты на паступленьне на мэдычны факультэт унівэрсытэту ў Тампіка (Мэксыка).*

### Аўторак 27 студзеня

Забрала фільм[1] у абед. Вельмі добра выйшла, асабліва каля ялінкі. Трэба будзе заўсёды здаваць у Kodak. Я, здаецца, ужо апанавала фота-апарат.

Прыходзіў Тумаш, паказала яму ліст Каханоўскага, гаварылі пра публікаваньне «ўспамінаў», пра «Запісы» цяперашнія (якія ўжо вось-вось выходзяць) ды ўжо наступныя трэба хутчэй рабіць. Наступныя будуць 1978 году канфэрэнцыя[2]. Прыйшоў Шук[*елойць*].

Вечарам пайшлі з Шук[*елойцем*] і Тумашам на вячэру. Добра правялі час. Гаварылі шмат пра царкву, пра газэту, але гутарка была мірная, прыемная. Шук[*елойць*] нешта мне меў перадаць, але не меў зробленае. Дамовіліся спаткацца ў пятніцу. Наракае ўжо на Станкевічаў — перагаварыў зь імі.

---

*[1] Фільм у мове амэрыканскіх беларусаў — фотастужка.*

*[2] Наступны выпуск «Запісаў» быў прысьвечаны юбілейнай канфэрэнцыі БІНіМу 1978 году, калі адзначаліся 25-я ўгодкі БІНіМу ва Ўнівэрсытэце Сытан Гол у Нью Джэрзі, выпуск № 17.*

### Серада 28 студзеня

Вітаўт застаўся дома, трохі парадкаваўся, працаваў. Вельмі добра якраз выйшла, бо пазванілі з Star Ledger[1] пра інтэрв'ю. Пазьней прыйшла й фатаграфка. У 5:30 Вітаўт пад'ехаў пад бібліятэку. Мы схадзілі на вячэру й паехалі ў Queens Colledge на канфэрэнцыю пра Этнічны Інфармацыйны Цэнтар. Добрая была канфэрэнцыя, важна, што мы прысутнічалі, бо яны зьбіраюцца выдаваць даведнік этнічных групаў Queens. Нам вельмі важна не прапусьціць гэта, бо ў нас фактычна вельмі шмат арганізацыяў і людзей сканцэнтравана ў Q[*ueens*][2]. Гаварылі з Бірдам — ён там адзін з ініцыятараў. Пазнаёміліся зь людзьмі, арганізатарамі.

---

*[1] Папулярная мясцовая газэта ў паўночнай частцы штату Нью Джэрзі.*

*[2] Нашы грамадзкія арганізацыі — БАЗА, БІНІМ, царква, моладзь — зарэгістраваныя на адрасе ў раёне Куінз — адным зь пяці раёнаў Нью Ёрку.*

### Чацьвер 29 студзеня

Напісала ліст Каханоўскаму, пра бібліяграфію К.-К. Падалі яму яшчэ некаторыя ўспаміны, прапанавалі дапамогу. Ліст ад Сядуры — аб яго бібліяграфіі.

Вечарам за даўгі час сабраліся разам пры стале. Мы зь Вітаўтам рашылі не бадраваць[1] яго са школамі, не дакучаць яму. Хай сам разьвязвае свае праблемы. Бо йнакш толькі выклічам да сябе няпрыязьнь, засьцярогу, злосьць. Трэба верыць у ягоны розум, сэнс.

---

*[1] Дакучаць (bother). Вырашылі пакінуць справу паступленьня на мэдычны факультэт на Юраву адказнасьць.*

**Пятніца 30 студзеня**

Тумаш прынёс пробны адбітак «Запісаў»[1]. Добра выглядае. Разьбіралі кожны артыкул. Зьмястоўны, цікавы. Тумаш задаволены сваімі артыкуламі — новае пра Скарынавыя гравюры. Добра адзываўся аб Алесіным артыкуле, аб маміных успамінах, аб маім Сміце. Кажа, што гэты нумар палавіна ягоная, палавіна Кіпелевых. Паказала Тумашу ліст Сядуры. Біб[*ліяграфію*] рабіць ня буду. Пашлю яму, што маю.

Хадзілі зноў на вячэру з Тум[*ашам*] і Шук[*елойцем*]. Але гэтым разам ня было так прыемна. Шук[*елойць*] прынёс макет «Беларуса», які рабіла Станкевічыха, а тады Запруднік з Шук[*елойцем*] мусілі перарабляць. Шмат дрэні — ізноў жаночая старонка, ізноў пра Тамару. А важных рэчаў з хронікі адкінулі. Раісы артыкул пра Славянскі фэстываль ізноў — на цэлую старонку амаль. Адным словам, яны пачынаюць сваволіць больш як Стась. Сапсуўся настрой ва ўсіх, нейк нацягнута стала. Шук[*елойць*] пасьмейваецца. Дзіўны ён. Нічога зноў не перадаў, [redacted] й не прыпамінала. Ён нават быў званіў, што ня зможа прыйсьці да нас, але [redacted] настаяла каб прыйшоў, бо трэба было перадаць [*Ул.*] Русаку нейкія там царкоўныя паперы ды для Юлі вышываньне.

---

[1] *Запісы № 16.*

**Субота 31 студзеня**

Ранічкай схадзіла зрабіла прычоску, купіла прадуктаў на сьнеданьне. Як прыйшла дахаты, яны ўжо пачалі ўставаць. Прыемна пасьнедалі ды пачалі вельмі заняты, напружаны дзень. Зьезьдзілі з Юрам у магазын срэбра, паглядзець, прыцаніцца[1]. Нічога цікавага на выставе ня было. У каталёгу нешта падыходзячае знайшлі. Але ня бачыўшы, не патрымаўшы ў руках рэчы (такой дарагой), заказваць неразумна, хоць тут-бы было й таньней.

Назад едучы заехалі у Hackensack купілі Юру абутак. Купіла й я сабе, але ня тое, што мне цяпер патрэбна, але сьветлыя, на пазьней. Значыць, яшчэ трэба хадзіць, шукаць.

Прыехаўшы дахаты, Юра пайшоў на працу у басэйн[2], а [redacted] памыла бялізну й паехалі з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*] у Патэрсон. Купілі мандарынкаў, яблычкаў, семачкаў. Заехалі ў Bradley. Купіла простыні, каб пашыць наўлечкі (замест тых, што не пасуюць). Купілі там-жа й прадукты. Вечар прайшоў у адпачынку. Разабралі нарэшце ялінку.

Званіў Tom Bird. Паінфармаваў нас, што ў Slavic Review ёсьць артыкул Stankevich'а[3] пра беларускую мову. Я перадала яму інфармацыю пра канфуз з ягонымі датамі у каталёзе.

Вітаўт пачаў парадкаваць артыкулы для наступных «Запісаў»: Жучыхі, Галіны, Верасава...

---

[1] *На падарунак.*

[2] *У Рутэрфордзе гарадзкі басэйн быў адчынены круглы год, Юра працаваў там ратаўніком.*

*[3] Станкевіч, навуковец яўрэйскага паходжаньня.*

**Нядзеля 1 лютага**

Выехалі трохі пасьля 8-ай. Купілі газэту[1]. Вітаўтава інтэрвью і здымак зьмешчаны. Добра ўспомненая Беларусь 2 разы. Інтэрвью гэтаксама і зь іншымі усходня-Эўрапэйскімі лідэрамі на тэму «Людзкіх правоў». Фатаграфія каля лялькаў.

Ехалася добра. Па дарозе сталі пасьнедаць каля Скрэнтану. Прыемны прыдарожны рэстаран з вывескай «Welcome home Mike Metrinko»[2]. Прыехалі раней часу. Выстаўка яшчэ не пачалася[3]. Спаткалі Тэрэзу Алт і яе сябру. Гаварылі зь імі, разглядалі музэй. Яны робяць рэцэнзыю на артыкул Станкевіча. Малы сьвет!

Я пераапранулася ў беларускі касьцюм. Разглядалі карту, паставілі свае шпілечкі на мейсца[4]. Было колькі шпілек, акрамя нашых. Выстаўка адкрылася са спазьненьнем. Я, як толькі зайшлі, пачала рабіць здымкі, але была спыненая. — Ня можна. Зрабіла толькі адзін — дываны. Толькі мерылася рабіць Слуцкія Паясы, як перашкодзілі.

Выстаўка добрая. Нашыя рэчы раскіданыя па розных мейсцах[5], але разам з тым і ў кучках — дзяружкі дзьве разам; ручнікі ўсе ў адным мейсцы. Паясы ўсе тры разам раскладзеныя ва ўсю даўжыню, пад пластыкай. Сярмяга разам з іншай верхняй вопраткай. Наміткі яшчэ ня было. Буду званіць Joanne, даведацца чаму. Наагул, зь ёй нам мала прыйшлося гаварыць. Вельмі-ж яна была занятая, стомленая. Але зрабіла добрую работу (хоць, праўда, некаторых беларускіх апісаньняў яшчэ ня было). Самае важнае, зразумела, тое, што яна слуцкія паясы паставіла там, дзе яны належаць[6] (я трохі баялася, каб палякі на яе не паўплывалі, ды не зрабілі іх Polish nobleman's). Паясы цудоўныя. У добрым стане. Адзін з Вашынгтонскага музэю, другі з Buffalo. З надпісамі Sluck на абодвух. Мы ўжо зь Вітаўтам гаварылі: «Дзякаваць Богу, што Слуцак у самым цэнтры Беларусі». Зрабіла здымак з карты. Вітаўт зрабіў карту са мной. Шкада, што не ўдалося зрабіць больш здымкаў. Але Joanne паабяцала, што прышле афіцыйныя фатаграфіі — для газэты.

Па дарозе назад пачаў у гарах ісьці сьнег. Ехаць было ня гэтак ужо прыемна[7]. Але грызьлі семачкі, гаварылі.

Трохі стаміліся. Пад канец дарогі ўжо адчулі, што хапіла. Толькі мы так можам — 200 міляў, быць на выставе, 200 міляў назад — за адзін дзень.

Ага, пазнаёміліся з арганізатарамі. Ёсьць магчымасьць выступаць з танцамі на адным з фэстываляў, якія будуць адбывацца падчас выстаўкі. Сур'ёзна думаем, ці варта нам пачынаць усё гэта.

Вечарам адпачывалі. Пазьней я яшчэ перагледзела «Слуцкія Паясы» — буду пра выстаўку пісаць справазданьне-хроніку ў «Беларуса»[8].

Юрачка быў дома. Зьбіраецца заўтра ў Вашынгтон.

---

*[1] StarLedger.*

*² Супрацоўнік амбасады ЗША ў Тэгеране, украінскага паходжаньня, служыў у марской пяхоце, дэмабілізаваўся. Герой гісторыі з закладнікамі.*

*³ Адкрыцьцё выстаўкі, прысьвечанай тэкстылю ў горадзе Бінгэмптан, штат Нью Ёрк.*

*⁴ На выстаўцы была карта Беларусі, і наведнікі выстаўкі, калі жадалі, маглі ставіць на карце невялічкія шпілечкі ў мясьціны, адкуль яны самі паходзілі або адкуль былі іх родзічы.*

*⁵ Разьмяшчаліся экспанаты паводле тэхнікі вырабу. Гэта вызначалі спэцыялісты.*

*⁶ Ці не ўпершыню ў ЗША былі выстаўленыя слуцкія паясы.*

*⁷ Дарога зь Нью Джэрзі ў Нью Ёрк вядзе праз некалькі горных хрыбтоў, праўда, невысокіх, у штаце Пэнсыльванія.*

*⁸ Зорын рэпартаж з выстаўкі ў газэце «Беларус»:*

## СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ НА СЛАВЯНСКАЙ ВЫСТАЎЦЫ

Першага лютага сёлета ў горадзе Бінгамтане ў штаце Нью Ёрк, у Цэнтры Мастацтваў імя Робэрсана, адчынілася выстаўка славянскіх тканінаў пад назовам «Нашая бліскучая спадчына». Выстаўлена па-над сотню экспанатаў, пазычаных з гэткіх музэяў, як Мэтраполітан у Нью Ёрку, Сьмітсоніян у Вашынгтоне ды іншых, а таксама з розных прыватных калекцыяў. Выбраныя выдатныя арыгінальныя ткацкія вырабы з краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы — пераважна славянаў ды часткава іхных суседзяў: Альбанцаў, Беларусаў, Гэбрэяў, Мадзяраў, Літоўцаў, Палякоў, Румынцаў, Расейцаў, Славакаў, Сэрбаў, Украінцаў, Харватаў і Чэхаў.

Горад Бінгамтан ды прылеглыя ваколіцы налічваюць каля 30-ёх працэнтаў славянскага жыхарства: пераважна Палякі, Славакі, Украінцы-Русіны, Беларусы ды шмат іншых, якія, як зазначыла адна зь кіраўнічак выстаўкі ў гутарцы з намі, самі ня ведаюць, хто яны. Вось дзеля гэтага, каб людзі пазналі сябе, сваю культуру ды ганарыліся ёю, і была зладжаная гэтая вельмі цікавая выстаўка. Зробленая прафэсійна, зь любоўю й знаньнем справы, выстаўка запраўды робіць наведвальнікаў гордымі за сваю спадчыну.

Так горда пачуліся й мы, як убачылі на цэнтральным месцы расьцягнутыя на ўсю сваю маэстэтычную даўжыню два цудоўныя слуцкія паясы. Паясы гэтыя пазычаныя для выстаўкі, адзін з Тэкстыльнага Музэю ў Вашынгтоне, а другі з Музэю Навукаў у Бафала.

Мы доўга разглядалі паясы, цешыліся, захапляліся — я старалася зрабіць замалёўку (фатаграфаваць, на жаль, не дазволена) — адыходзілі, вярталіся. Вітаўт узбуджана заўважыў: «Першы раз бачу «жывы» Слуцкі пояс і дзе... у Амэрыцы».

Іншыя беларускія экспанаты (аж 12) былі нам ужо знаёмыя, бо перададзеныя на выстаўку за пасярэдніцтвам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Рэчы былі выбраныя арганізатаркай выстаўкі Джоанай Брадфард з калекцыі БІНіМ ды розных прыватных калекцыяў як характэрныя, выключныя, цікавыя з гледзішча тэхнікі тканьня, узору ці расхварбоўкі.

Ёсьць тут і мастацкія дзяружкі з Случчыны, зь Вялейшчыны, ручнікі з Лані, што каля Нясьвіжу, з Гарадзеншчыны, Беласточчыны, Віцебшчыны ды дэкаратыўны, яскравы, вялізарны ручнік зь Неглюбкі, які асабліва прыцягваў увагу наведвальнікаў, прэсы й тэлебачаньня.

Ручнікі, падвешаныя на папярэчках, ува ўсю даўжыню, добра дэманструюць дэталі ткацтва, арнамэнтацыю ды ствараюць надзвычайна прыгожы эфэкт. Ёсьць і сярмяга з Кобрыншчыны й намітка. Ёсьць і цікавыя паясы з Горадзеншчыны, Нясьвіжу, з Забрэжжа, што каля Маладэчна, зробленыя Нінай Зьгірскай у 1937 годзе.

Але вярнемся зноў да тых славутых слуцкіх паясоў, ды крыху да іхнай гісторыі.

Вытворчасьць слуцкіх паясоў пачалася ў 1750-ых гадох, калі князь Міхал-Казімер Радзівіл, ваявода віленскі, заснаваў у Слуцку хвабрыку паясоў — пэрсярню. Спачатку на слуцкай хвабрыцы на ручных станках выраблялся шаўковыя паясы пэрсыдзкімі

й турэцкімі вузорамі, але паступова беларускія майстры пачалі перайначаваць усходнія малюнкі — надавалі ім нацыянальны характар (як у вершы Максіма Багдановіча: «і тчэ, забыўшыся, рука заміж пэрсыдзкага вузору цьвяток радзімы васілька»). У 60-ых гадох 18-га стагодзьдзя хвабрыкай пачаў кіраваць Ян Мажарскі. У гэным часе і быў створаны тып поясу, які стаўся ведамы як «слуцкі пояс».

Пад канец 18-га стагодзьдзя, па далучэньні Беларусі да Расеі, вытворчасьць паясоў пачала зьмяншацца, але ўсё-ж у 1796 годзе было выпушчана яшчэ каля 200 паясоў.

На пачатку 19-га стагодзьдзя, калі расейскія ўлады забаранілі беларускай шляхце насіць кафтаны (кунтушы) , адпала й патрэба ў паясох, і вытворчасьць слуцкіх паясоў зусім спынілася. Хвабрыка праіснавала яшчэ да 1844 году, аднак характар прадукцыі зьмяніўся — пачалі вырабляць галоўным чынам тканіны для царкоўнага ўжытку.

Слуцкія паясы славіліся на цэлую Эўропу як высакаякасныя, мастацкія. Калі паясы страцілі сваё практычнае значаньне, імі пачалі цікавіцца як гістарычнымі рэдкасьцямі. Музэі й калекцыянеры пачалі зьбіраць слуцкія паясы ўжо ў другой палове 19-га стагадзьдзя. Такім парадкам трапілі слуцкія паясы й да Амэрыкі.

Абодва паясы на выстаўцы належаць да тыповых слуцкіх паясоў, з утканай меткай «Слуцк» лацінскімі літарамі, значыцца, зробленыя недзе напрыканцы 18-га стагодзьдзя, перад 1793 годам, калі Слуцак падпаў пад Маскоўшчыну й меткі сталі вытыкацца ўжо, кірылічнымі літарамі. На тлумачэньнях, якія суправаджаюць паясы, аднак, ня зусім дакладна, час вырабу азначаны канцом 18-га — пачаткам 19-га стагодзьдзя.

Пояс з музэю ў Бафала двухбакавы, чатырохліцовы. Сярэднік у папярэчныя палосы — на аднэй палове чырвоныя, на другой белыя. З другога боку на аднэй палове зялёныя на другой аранжавыя. Ува ўсю шырыню сярэдніка йдуць вузкія разьмяжоўвальныя палосы. Край: на залачоным полі чырвоныя невялікія кветкі. Арнамэнт канцоў: на жоўта-зялёным полі два буйныя букеты кветак, заключаныя ў хвалепадобнае абрамленьне. Срэбныя матузы.

Пояс з Вашынгтону аднабаковы двухліцовы. Адна палова залатая, другая срэбная. Сярэднік тут больш арнамэнтаваны, складаецца з палосаў гэамэтрычных і расьлінных узораў. Дзеля гэтага можна прыпушчаць, што зроблены пояс у пазьнейшым пэрыядзе, калі хвабрыкай кіраваў Лявон Мажарскі, сын Яна, бо ён якраз канцэнтраваў увагу на сярэднік. Арнамэнт канцоў вельмі цікавы: на карані сьцябл зь лісткамі й кветкамі розных відаў. Край асабліва цікавы, бо на срэбным полі, сярод іншых кветак выткала, «забыўшыся, рука цьвяток радзімы васілька».

Глядзіш і ня верыцца, што гэтыя паясы былі вытканыя рукамі нашых случчанак амаль 200 гадоў таму. Шчыра дзякуем арганізатарам выстаўкі за такі прыемны падарунак.

Выстаўка пратрывае да сярэдзіны сакавіка. Адкрытая для наведвальнікаў у будныя дні ад 10-ай ураньні да 4-ай гадзіны папаўдні.

Падзяку за матар'ялы атрымаў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды асабіста за дапамагу й парады — **Зора Кіпель.**

*«Беларус», № 287, сакавік 1981*

**Панядзелак 2 лютага**

Едучы рана ў аўтобусе яшчэ разважалі, ці варта пачынаць справу з танцамі — як Вітаўт сказаў: «Больш колецца, чым хочацца». Пачала пра выстаўку пісаць.

Вітаўт пайшоў дахаты раней — завезьці Юру на аэрадром. Юра паехаў у Вашынгтон.

Званіла Галіна — пра «бал»[1]. Яна ўжо гэтым занялася.

Вечарам паехалі па Алесю на аэрадром. Яна была у Ann[2] у Бастоне. Спаткалі Алесю. Трохі намерзлася я, стамілася неяк. Павячэралі, паглядзелі T.V., пагаварылі. У Алесі ўсё добра. Шмат працуе, але задаволеная. З паездкі таксама задаволеная. Пабачыла шмат знаёмых.

Быў сяньня ліст ад Пruскага[3]: «Ну й падвёў-жа вас Адамовіч — кажа. Каб па слову ў дзень пісаў, дык ужо напісаў-бы артыкул». Просіць карэкту Быкава й артыкул пра Цётку.

[1] *Штогадовы этнічны баль.*
[2] *Алесіна сяброўка з Прынстану.*
[3] *Мікола Прускі закончваў друк кнігі Салаўя.*

**Аўторак 3 лютага**

Ранічкай Вітаўт завёз Алесю на аэрадром — паехала назад [у *Вашынгтон*].

На двары захаладала. Я вельмі зьмерзла. Думала ўжо, што захварэю. Цэлы дзень не магла ўгрэцца. Пісала артыкул пра выстаўку.

Тумаш прыходзіў. Расказалі яму пра выстаўку, пра Слуцкія паясы. Т[*умаш*] паказаў ліст ад Верас, дзе яна дзякуе за ліст з Бібліятэкі. Рашылі папрабаваць паслаць ёй Арсеньневу праз Бібліятэку. Гаварылі пра наступныя «Запісы» — трэба ў гэтым годзе выдаць 2 нумары: канфэрэнцыя[1] й агульны, каб падвесьці больш-менш да даты. Расказалі яму пра ліст Пruскага, пра Адамовіча. Гаварылі й пра гэта. Запруднік казаў Вітаўту, што А[*дамовіч*] нічога ня робіць — сядзіць і чытае «Н[*овае*] Рускае С[*лова*]». Зап[*руднік*] мае клопаты з гэтым нумарам «Беларуса». Станкевічыха нарабіла там глупства.

Вечарам В[*ітаўт*] паехаў па Юру на аэрадром (нарэшце «таксі» канчаецца). Я пазваніла маме. У яе ўсё добра, трохі, праўда, яшчэ прастуджаная. У Юрачкі ўсё добра. Трохі яшчэ пасядзелі разам. Я мелася пазваніць Joanne, Пruскаму, пісаць артыкул. Нічога гэтага не зрабіла. Неяк стамляешся, чалавек, мала што вечарам можна зрабіць.

Вітаўт, праўда, стала працуе. Ён мае больш энэргіі, настойлівасьці.

[1] *Прысьвечаная 25-годзьдзю БІНІМу.*

**Серада 4 лютага**

Вітаўт дома. Я на каву пайшла сама й парадкую дзёньнік. Вітаўт робіць пераклад для Іосіфа (Дыяманты)[1].

Пісала артыкул-рэпартаж пра выстаўку. Пазваніла Юлі. Шук[*елойць*] перадаў ёй фартушок і капшучок. Ліста да [*Аўгена*] Вярбіцкага не перадаў. Нейкі ён дзіўны, часам ягоныя дзеяньні цяжка вытлумачыць.

Вечарам званіла да Joanne Bradford. Распыталася ў яе пра Слуцкія паясы — некаторыя дэталі былі патрэбныя для артыкулу; прыпомніла ёй аб фатаграфіі. Націткі яна ня выставіла — не змагла завязаць. Сказалі ёй, што Вітаўт напіша пра каталёг[2].

Званілі Пruскаму. Сказала яму, што карэкту зробіць маці[3]. Паабяцала артыкул пра Цётку.

Пагаварыла з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*] пра карэкту. Яна, як заўсёды, пачала ўжо пра форму, граматыку, «без арыгіналу няма як рабіць

карэкту»[3]. Адным словам перш — «Не», а тады ўжо рабіць. Гэткая яе натура. Але мы яе добра ведаем, разумеем і прыймаем адпаведна.

---

[1] *Часам траляліся пераклады тэхнічнай літаратуры — для падзаробкі.*
[2] *Трэба было напісаць пра беларускі тэкстыль невялічкую зацемку ў каталёг выставкі, які рассылаўся.*
[3] *Карэкту кнігі Салаўя папрасілі зрабіць маю маці Марыю Васільеўну.*

**Чацьвер 5 лютага**

Вітаўт раніцай на паседжаньні[1]. На сьнеданьне хадзіла сама. Скончыла артыкул. У абед прачытала яго Вітаўту, кажа добры.

На падвячорак хадзіла з Фоксам. Гаварылі пра ўсякае глупства. Нічога важнага.

Пасьля працы спаткаліся з Bird'ам, пайшлі на вячэру. Гаварылі пра «Запісы»—»Сымпозыюм»[2]. Вітаўт перадаў яму колькі ангельскіх артыкулаў для рэдагаваньня. Ён з прыемнасьцю ўзяўся за рэдакцыю гэтага адмысловага нумару, тым больш, што яму й для ягонай кар'еры гэта патрэбна якраз. Яму зьвярнулі ўвагу, што зашмат піша рэцэнзыяў і ў энцыкляпэдыі. Гэта «no-no» ў акадэмічных колах. Ён гэтак сама мае пісаць артыкул пра беларускі фальклор. Я абяцала яму дапамагчы матар'яламі. Добра пагаварылі.

Вечарам яшчэ я перадрукавала артыкул. Вітаўт канчаў пераклад.

---

[1] *Штотыднёвае бібліятэчнае паседжаньне.*
[2] *Матэрыялы канфэрэнцыі, прысьвечанай 25-годзьдзю БІНіМу.*

**Пятніца 6 лютага**

Вітаўт пайшоў раніцай да Запрудніка, аддаў мой артыкул. Занёс Адамовічу «2-гі Кангрэс» Касяка[1]. Усё-ж яшчэ возіцца з артыкулам пра Салаўя. Так выглядае, што ізноў паехаў у Менск, — бо нібы Салавей напісаў верш у дзень Кангрэсу[2].

Хадзіла ў магазын. Купіла для Алесі кухонныя прылады. Купіла цукерак. Зноў зьехала з дыеты.

Вітаўт здаў пераклад. Атрымаў $60. Добра.

З Тумашам гаварылі пра ўчарайшую гутарку з Bird, пра запісы й таксама, што Bird рэдагуе кнігу Zimmera[3]. Томаву заўвагу наконта «Byelo», «Belo» (трэба трымацца ўжо ўстаноўленага Byelo). Валкавалі гэта балючае для Т[*умаша*] пытаньне — ён наагул ня любіць формы Byelorussian; лічыць, што лепш Whiteruthenian. Задзела Тумаша, чамусьці, што Bird рэдагуе Zimmera.

Тумаш цяпер усё гаворыць пра Гусоўскага, пра адзначэньне яго ў Беларусі — гэта-ж той самы пэрыяд, што й Скарына. Званіў Васіль [*Русак*]. У іх уладыка Мікалай. Прыедзе ў панядзелак у бібліятэку.

---

[1] *Пераклады на ангельскую мову кніжак «Другі Ўсебеларускі Кангрэс» і «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі», якія выдаў Іван Касяк.*

² *У 1944 годзе.*
³ *Кніга пра кірылічны друк у Кракаве.*

**Субота 7 лютага**

Вітаўт працуе. Раніцай званіў зноў Васіль да Вітаўта. Галіна праз яго спыталася пра выставу [*тэкстылю*] — калі мы паедзем на адчыненьне. Спазьнілася.

Хутка пасьля яго званіў Шук[*елойць*]. Доўга распытваў пра выставу. Таксама пытаўся, калі мы паедзем. Званіла Галіна й да яго: пра кніжкі й пра выставу. Як быццам ён нешта ведае. Я яму расказала ўсё падрабязна. Неяк як я зь ім пагавару — псуецца пазьней настрой.

Зрабіла валасы. Паехалі з М. В. да Kurz'a[1]. Нагледзелі срэбра. Такое самае (здаецца) як і ў Fina. Kurz сказаў, што пазвоніць наконта цаны. Тут яно мне менш спадабалася. Можа, абстаноўка. Зьезьдзілі і ў Патэрсон. Купілі толькі трохі мандарынкаў, бананаў. Неяк менш было фруктаў і даражэйшыя.

Так і дзень прайшоў. Зрабіла курку, павячэралі. Юра недзе з Карэн — яна прыехала.

---

¹ *Ювэлірная крама.*

**Нядзеля 8 лютага**

Вітаўт паехаў у царкву. Я засталася парадкавацца. Прывяла ў парадак на сваім камодзе. Напісала лісты Прускаму. Бабка зрабіла карэкту «Мёртвым не баліць» [*Быкава*]. Напісала таксама Акіншэвічысе. Уклала ей адбітку яго апавяданьня й «Сьпі пад курганам»[1].

Вітаўт прыйшоў даволі позна — гаварыў з [*А.*] Міцкевічам. Там зусім дрэнь справы. Міцкевіча зьнялі са старшыні царк. рады. Гарошка, Данілюк і Кендыш будуць судзіць нашую парафію. За што? Проста даходзіць да абсурду.

Прыходзіў Дутка — прынёс падушкі. Добрыя ўзоры новыя, асабліва зь Belarus[2]. Заказала. Дутка прынёс «Новы Шлях» — больш нікому яго даваць ня будзем, бо, як мы даведаліся, Ізыдар[3] хацеў выбраць адтуль усе перадавіцы Сядуры ды паслаць іх да Сядова. Добра, што Адамовіч прагаварыўся. Зусім ужо шкодная й подлая справа.

---

¹ *Творы Л. Акіншэвіча.*
² *З вышытым словам «Belarus».*
³ *Плашчынскі, брат Язэпа Пушчы.*

**Панядзелак 9 лютага**

Прыходзіў у бібліятэку уладыка Мікалай. Ну й навазіліся мы зь ім. Такі ён вымагальны, патрабавальны. І нейкі такі суетлівы, што мне аж галава разбалелася ад яго.

Прыходзіла Тамара. Хадзілі з Уладыкам на каву. Ён гэты раз быў

не такі ваяўнічы у царкоўных справах — мусіць, рашыў, што трэба не заядацца з Андрэям і Бруцкім. Казаў, што Бруцкага будуць высьвячаць Украінцы. І, нібыта, запросяць і яго. Але быў ён ужо трохі subdued[1].

Тамара сваю казку пра хвасты мусіла перарабіць[2]. Пра кухарскую кнігу тым часам нічога не гавора.

Цэлы дзень вазіліся з ул. Мікалаем.

---

*[1] Прыгнечаны.*
*[2] Тамара недзе ў зборніку друкавала беларускую казку.*

**Аўторак 10 лютага**

Укінулі лісты Прускаму і Сп-ні Акіншэвіч.

Зноў прыходзіў Уладыка. Зноў вазіліся зь ім — нарабілі яму адбіткаў. Шмат новага матар'ялу знайшлі. Надаеў ён. Мае спатканьне з Курылам[1].

Быў Тумаш. Уся цяпер гутарка пра «Запісы», царкву. Гаварылі й пра Уладыку. Нічога цікавага.

Званіў Курц[2] — сэрвіз будзе каштаваць $2700. Добра. Цяпер толькі мушу праверыць, ці гэта такі самы, што ў Fina[3].

---

*[1] Прадстаўнік другога боку ў судзе.*
*[2] Дырэктар ювэлірнай крамы.*
*[3] Іншая крама ювэлірных вырабаў.*

**Серада 11 лютага**

Званіла ў розныя мейсцы даведацца пра срэбра[1]. Так выглядае, што гэта ўжо спынены ўзор і што Kurz самы танны будзе. Купіла маме гадзіньнік, кофтачку. Таксама й М. В.

Прыехала дахаты, спакавалася й паехала да мамы. Ехалася добра. Трохі быў дождж па дарозе, трохі вецер, трохі туман. Але даехала ў парадку. У мамы ўсё добра. Праўда, баліць ёй вуха — захутаная. Заўтра трэба будзе да доктара зьезьдзіць.

---

*[1] Набліжаліся 25-я ўгодкі нашага вясельля, дзеці і бабкі сказалі, што яны купяць срэбны сэрвіз. Зора шукала.*

**Чацьвер 12 лютага**

Зраньня пачалі званіць да доктара. Удалося добра дастаць візыту на 11-ую. Новы доктар у Pamona. Інфэкцыя вуха, горла. Даў маме лекаў розных. Ужылі першы раз Medicaid[1]. Нічога ня трэба было даплачваць — цудоўна, проста. Гэтак сама й з лекамі. Усё заладзілі, зьезьдзілі нават у магазын. Я завезла маму дахаты, а сама паехала па яблыкі. Купіла добрых. Прыехала, паабедалі, яшчэ трохі адпачыла. Разглядзелі паперы. Пераглядзелі маміны ўспаміны пра Купалаву маці — мама на ўсе зьмены згаджаецца. Хутка паехала й дамоў. Даехала добра. Трохі стамленьне дало сябе адчуваць ужо пад канец

дарогі. Прывезла яду, а Юры няма. Мы зь Вітаўтам перакусілі, і я адпачывала.

---

[1] *Дапаможная праграма мэдыцынскага абслугоўваньня для старых.*

**Пятніца 13 лютага**

У абед схадзілі да Fina. Сэрвіз гэта той самы — ідэнтычны. Толькі ў Курца, нават лепшы, — бо не ўжываны. Зноў спыталася цану — $3750. Якая розьніца! Заўтра пойдзем да Kurz купляць.

Тумаш прынёс «Запісы». Добры вельмі гэты нумар: Алесін, мой, мамін артыкулы. Вітаўта рэцэнзыя, пра выстаўкі. Адным словам, сапраўды, Кіпеляўскі й Тумашаў нумар. Шкада, што я ня мела раней — завезьці маме. Уся гутарка была, зразумела, пра «Запісы». Гаварылі й пра ўспаміны К.-К. Ён выказаў думку, што можна будзе купіць ад іх[1] якіх 50 кніжкаў. Гэта будзе ўжо дапамога.

---

[1] *Ад Каханоўскіх, якія выдалі кнігу ўспамінаў пра Купалу і Коласа. Тумаш плянаваў бібліяграфію «Купала і Колас на Захадзе» шырака разаслаць за Жалезную заслону.*

**Субота 14 лютага**

Схадзіла зрабіць прычоску й паехалі да Kurz. Купілі[1]. Купілі добра ў расплату. Заклалі палову, а палову будзем сплачваць праз 6 месяцаў, без інтэрасу. Не абышлося без канфлікту невялічкага. Яны падрыхтавалі для нас нейкі страшэнны, вычурны, грубы, танна выглядаючы паднос. Мне ён адразу не спадабаўся, а Вітаўту спадабаўся. Доўга ўзяло мне, каб пераканаць, што ён зусім да нашага простага, густоўнага сэрвізу не пасуе. Нарэшце пераканала. Выбралі вельмі просты, скромны, авальны паднос. Усе задаволеныя. Срэбра забралі з сабой. Прыехалі дахаты — расклалі. Вельмі прыгожа. Усім падабаецца. Званілі Алесі. Бабка дала $1000. Дзеці дадуць $1000. Мама дала $100. Ну а рэшту будзем сплачваць мы[2].

Пачала пісаць пра «Цётку»[3].

---

[1] *Цяпер гэты сэрвіз у Алесі.*
[2] *Зора была на дзясятым небе!*
[3] *Артыкул для М. Прускага.*

**Нядзеля 15 лютага**

Раніцай за сьнеданьнем мелі сур'ёзную гутарку зь Юрам пра яго навуку, пра Мэксыку, пра яго, апошнім часам, частыя начныя хаджэньні. Добра, спакойна пагаварылі. У рэзультаце ён прынёс і аддаў М. В. грошы за машыну[1], бо апошнім часам ужо не даваў — грошы распускаў. Сказаў, што ўжо зрабіў, што яшчэ трэба зрабіць для Мэксыкі. Адным словам, гутарка пайшла на карысьць.

Скончыла артыкул пра «Цётку». Занесла да М. В., каб пераглядзела.

Званіла Сп-ня Акіншэвіч. Дзякавала за прысланыя матар'ялы. За-

прашала да сябе, як будзем у Вашынгтоне. Нічога не гаварыла пра палічку.

---

[1] *Юра, калі купляў машыну, пазычыў грошы ў бабкі.*

**Панядзелак 16 лютага**

Сяньня дома — Wash. Birthday[1]. Я парадкавалася, шыла.

Перадрукавала «Цётку». Званілі Прускаму, сказалі, што высылаем артыкул, гаварылі пра іхную кніжку ўспамінаў К.-К. Ён раіць гаварыць пра ўсё з Каханоўскім.

Вітаўт пераглядае артыкул Ґаліны. Шмат возіцца зь ім.

Дзень прайшоў працавіта, памысна.

---

[1] *Дзень народзінаў Джорджа Вашынгтона — выходны дзень.*

**Аўторак 17 лютага**

Зрабіла копіі з артыкула пра «Цётку» й выслалі Прускаму.

Зрабілі гэтаксама копіі ўспамінаў пра К.-К. для Каханоўскага.

Тумаш прынёс плякат з Binghamton з «Славянскіх Тэкстыляў». Прыйшоў на адрас Інстытуту для мяне. Павесілі яго ў Славянскім Аддзеле.

**Серада 18 лютага**

Прыходзіла Ґаліна. Зрабілі ёй трохі адбіткаў, але галоўнае — Вітаўт пагаварыў зь ёй наконта ейнага артыкулу — «Манаграфіі». Згадзілася скараціць, паправіць. Яна дала цэлы сьпісак, што яшчэ ёй трэба. Вітаўт, як заўсёды, паабяцаў, схапіў — і недзе закладзе й ня зробіць. Праўда, можа й зробіць, але ўжо насьпех, у апошнюю хвіліну. Але яму ўсё сходзіць, бо ўсё роўна ён робіць больш, чымся хто другі, — ды часам разаб'ецца, а зробіць.

У абед пайшла купіць білеты[1]. Да Broadway ішлі разам з Ґалінай. Гаварылі пра выстаўку ў South River, пра альбом для Byrne[2].

Купіла білеты на п'есу «Lunch Hour». Па дарозе яшчэ купіла тоесёе. На дварэ гарачыня. Уся спацела, пакуль дайшла назад — сонца ў вочы.

---

[1] *У дзень нашага вясельля — 25 лютага — мы плянавалі пайсьці ў тэатар.*

[2] *Губэрнатара Брэндана Бэрна.*

**Чацьвер 19 лютага**

Хадзілі на абед да Мэланчука[1]. Было даволі сымпатычна. Я яшчэ ня пэўная, ці буду падаваць на ягонае мейсца ў Slav. Здаецца, гэтае мейсца ўжо запэўненае Лізе [*Гофман*]. Ня хочацца ўваходзіць у канфлікт, быць адкінутай. Ды наагул, ці будзе яшчэ гэтая пазыцыя запаўняцца.

На падвячорак хадзіла з Факсам, падселі да Silvia[2]. Яна растлумачыла новае гэаграфічнае падразьдзяленьне: White Russia is out (доб-

ра!), а за гэта будзе Byelorussian SSR (трохі лепей). Але Ukraine, Lith., Lat. і Est. проста, без дадаткаў SSR. Вось нам не вязе! Ня можам нават разьлічваць на аўтаматычнае насьледаваньне, як напрыклад, для Украінцаў. Мне вельмі сапсуўся настрой.

Вечарам друкавала мамін артыкул. Званіў Шук[*елойць*] — аб зборцы БАЗА. Дамовіліся на Крычэўскага ў нядзелю. Званіў Рамук — усё клапоціцца пра сваю хроніку. Яны цяпер пачалі больш дасылаць у газэту.

---

*[1] Калега-бібліятэкар, які адыходзіў на пэнсію.*

*[2] Сыльвія — каталёгер, яна вызначала геаграфічную адпаведнасьць у каталёгу, узгадніўшы перад тым зь Бібліятэкай Кангрэсу. З каталёгу выкідаўся тэрмін «White Russia» (ён нам нарабіў шкоды!), а ўводзіўся «Byelorussian SSR».*

### Пятніца 20 лютага

Прыйшоў у Бібліятэку Гапановіч[1] (беларус, выхаваны паляком, які сам сябе знайшоў). Гаварылі зь ім, памагалі яму з матар'яламі. Ён звычайны мясьнік, які зацікавіўся гісторыяй сваёй сям'і. Апошнім часам усё больш і больш такіх старых эмігрантаў аб'яўляецца. Мне прыйшла думка зрабіць невялічкі даведнік «Як шукаць свае бел. карані».

Званіў Шук[*елойць*] — зборка ў Крычэўскага, будзе яшчэ гаварыць з Русаком.

Па абедзе было ў нас паседжаньне наконта новага каталёгу. Выглядае, што будзе балаган на колькі гадоў зноў.

Прыходзіў Tom Bird — прынёс зрэдагаваныя артыкулы.

З Тумашам вельмі каротка гаварыла. Ён ужо падпіхае пісаць для наступных запісаў.

Юра заехаў па Вітаўта, і яны паехалі забраць з друкарні «Запісы». Няўдала. Друкарня закрытая. Вітаўт ужо рашыў ехаць з Юрам на пробу танцаў. Там трывога, балаган. Няма музыкі. Ната й Юра не дагледзелі. Ала на Юру злавалася (Наты ня было, дык Юра адзін мусіў адказваць!). Але яна й сама вінаватая, бо, здаецца, на той істужцы няма карагоду, які яны рыхтаваліся танцаваць. Адным словам — канфуз, званкі, нэрвы.

Вітаўт званіў у Кліўленд да Бануты аб кніжцы[2]. Зноў нейкая затрымка. Зноў клопат.

---

*[1] Гапановіч з гораду Бафала, штат Нью Ёрк. Апавядаў, як у польскіх каталіцкіх касьцёлах у Амэрыцы вернікі трымаюцца зямляцкімі групкамі — менскія, гарадзенскія. Гапановічы — сям'я зь Меншчыны.*

*[2] Гаварылі з праф. Карлам Бануты пра кнігу «Беларусы ў Кліўлендзе».*

### Субота 21 лютага

Цэлая раніца прайшла ў званкох пра музыку. Але нарэшце ўсё разьвязалася на лепшае — Ала дастала Рудзінскага[1] граць.

Вітаўт працуе. Прыйшла фатаграфія з выстаўкі — мне не падабаецца, зашмат захоплена — ручнікі нашыя неяк на другім пляне. Вітаўт кажа, што добрая здымка. (Ён то апраўдвае, то нападае — гэтым разам чамусьці апраўдвае).

Вітаўт зрабіў, што трэба, й адаслаў усё ў Кліўленд. Раніцай быў у вельмі нэрвовым стане. Я ўжо баялася, што вечар будзе сапсуты. Але ён трохі адпружыўся, як паслаў матар'ял Banutti.

Як толькі прыйшоў Вітаўт сабраліся й паехалі на Heritage Ball[2]. Было даволі прыемна. Сядзелі за сталом з Русакамі й з Саўтрывэрскімі: Ліза, Рэня, Сенька, Палюховіч.

Усе былі ў бел. строях. Выглядала добра. Моладзь сабралася на час. Усё гладка пайшло. Добра танцавалі, добра выглядалі. Зрабілі агульны здымак.

Мы зь Вітаўтам добра чуліся, нават танцавалі трохі.

---

[1] *Лёня Рудзінскі, сябар ЗБМА.*

[2] *Гадавы баль нацыянальнасьцяў штату Нью Джэрзі.*

**Нядзеля 22 лютага**

Раніцай пасьнедалі, парадкаваліся. Па абедзе паехалі на зборку БАЗА. Вітаўт працаваў у бібліятэцы-архівах Крычэўскага ўвесь час, як мы мелі зборку. Зборка прайшла талкова. Гаварылі галоўным чынам пра сьвяткаваньне 25 Сакавіка. Таксама Шук[*елойць*] закрануў пытаньне аплаты за брашурку пра Дэкаланізацыю. Ён тым часам сам заплаціў. Рагуля нічога не рэагуе на Вітаўтавы лісты. БНР таксама адмовілася плаціць[1].

Шук[*елойць*] прынёс мне альбомы ад Юлі. Добрыя. Купіла два. Прынёс гэтаксама «Cookbook Bel.»[2]. Пагаварылі з Русаком і Кажурам пра альбом для Вугпе[3]. Яны згаджаюцца. Трэба рабіць.

Васіль заклапочаны дзе tape[4]. Вось нам нешта не вязе зь ім. Пытаўся, ці Юра не ўзяў. Ната ня мае.

Як прыйшлі дахаты — Вітаўт стаў званіць Але. Дзякаваць Богу — у Вітаўта Тумаша[5]. Да Русакоў не маглі дазваніцца, каб ім сказаць. Нарэшце Васіль сам пазваніў. Сказаў, што высьвяцілі Бруцкага ў Епіскапы.

---

[1] *Трэба было аплаціць кошты друку кнігі «Дэкалянізацыя СССР». Кніга друкавалася два разы, бо была зробленая памылка, таму ўзьніклі непрадбачаныя выдаткі.*

[2] *Кніга «Byelorussian Cuisine» выдавецтва «Ураджай» была вельмі хадавая. Мы гэтую кнігу закупілі ва ўсіх кнігарнях і раздавалі як падарункі.*

[3] *Губэрнатара Бэрна.*

[4] *Гаворка пра найграныя на стужку мэлёдыі танцаў. Ната, дачка Васіля, дамагалася — куды падзеліся стужкі — яны былі ёй патрэбныя для танцавальнай групы «Матылькі».*

[5] *Стужкі знайшліся — былі ў Вітаўта Тумаша-малодшага.*

**Панядзелак 23 лютага**

Цэлы дзень працавала над зьбіраньнем матар'ялу для Genealogy. Ніяк не магу знайсьці аднэй кнігі, дзе некалі знайшла пра Раткевічаў[1].

Папраціла ў нашым Authority File[2] дату нараджаньня Tom Bird.

Вітаўт паехаў на мітынг Этнічнай Рады [ў *Трэнтан*].

Тэлефанавалі з AAASS пра нашыя дадзеныя для ўключэньня ў даведнік[3].

Званіла маме. Яна трохі сумуе — угодкі як памёр папа.

---

[1] *Зора шукала зьвесткі пра сваё сям'ю.*

[2] *Authority File — "terra sacra" ў бібліятэцы. «Аўтарытэтная картатэка» — дзясяткі разоў правераная картатэка аўтараў, якой карыстаюцца толькі бібліятэкары-каталёгеры. Бадай ці ня самая важная картатэка ў бібліятэцы.*

[3] *Амэрыканская асацыяцыя дасьледнікаў славянаведы (AAASS) выдае раз на 5 гадоў даведнік. Важна, каб там былі беларусісты — і яны заўсёды там ёсьць.*

**Аўторак 24 лютага**

Вітаўт пайшоў у Радыё да Запрудніка занесьці фота з выстаўкі. Так выглядае, што ня зьмесьцяць артыкулу ў гэтым нумары. Тумаш прынёс шмат карэспандэнцыі: ліст з чэкам з South River'а ад Наумчыка на «Купалаўскую юбілейную кнігу». Прыслаў на Інстытут. Цяпер праблема, што рабіць. Наагул з гэтай Станкевічавай кнігай будзе шмат клопатаў і прыкрасьцяў — людзі думаюць, што гэта Купалавы творы, а не Станкевічавы артыкулы пра Купалу. Шмат запросаў на «Запісы». Разьмяркоўвалі й зьвяралі, каму пасланы «Запісы».

Тумаш расказаў пра гутарку з Гапановічам пра паходжаньне імя. Паглядзеў пазьней у Бурлыга[1] і знайшоў, што паходзіць ад «Агафон». Трэба будзе зрабіць адбіткі й пасланы Гапановічу.

Дома быў ліст ад Вярбіцкага[2] з формамі для пазычкі Юрчыку Андрусышыну. Вітаўт пачаў званіць Юлі.

Паехалі спаткаць Алесю. У яе ўсё добра. Яна, здаецца, чуецца зусім О.К. Вечарам гаварылі. Срэбра ёй спадабалася.

Званіў Карніловіч, каб даць яшчэ Banutti беларускай літаратуры. Ён пачаў ужо цікавіцца кніжкай пра «Бел. у Кліўлендзе» — уцягнуўся. Абяцаюць, што да 25 сакавіка выйдзе.

Званіла Рая — суд царкоўны адкладзены. Ну й добра, — тым часам хоць спакой, а там, можа, паміраццца.

---

[1] *Магчыма, у «Беларускай антрапаніміі» Бірылы.*

[2] *Аўгена Вярбіцкага. Маецца на ўвазе стыпэндыяльны фонд: давалі пазыку Юрчыку Андрусышыну для заканчэньня студыяў права на Калюмбійскім унівэрсытэце. Я даваў Юрчыку рэкамэндацыю.*

**Серада 25 лютага, нашыя 25-ыя угодкі[1]**

Вітаўт дома. Завёз Юру ў школу. Юра сваю машыну хоча здаць на агляд перад тым, як сьцячэ гарантыя — беражэ мілі. Я паехала на працу. Алеся цэлы дзень недзе езьдзіла на пакупкі.

Я пераглядаю матар'ял для артыкулу аб гэнэалёгіі. Дзень прайшоў спакойна. Вечарам [redacted] першая выйшла іх чакаць. Юра прыйшоў праз якія поў-гадзіны (ён ехаў аўтобусам з працы). Незадоўга прыехалі й Вітаўт з Алесяй (яны заехалі забралі «Запісы» ў друкара). Юра прынёс мне кветку.

Паехалі шукаць рэстаран Beefstake Charlie. Знайшлі добры паркінг. Добра павячэралі. Якраз быў ужо час ісьці ў тэатр. П'еса «Lunch Hour» вельмі прыемная. Добрыя артысты. Лёгкі, вясёлы сюжэт. Вельмі прыемна правялі вечар.

Прыехалі дахаты яшчэ ня так і позна. Чакаў нас прыгожы букет кветак і торцік. Зрабілі чай — у новым сэрвізе! Смакуе зусім інакш. Прыемна, прыгожа. Пасядзелі яшчэ пагаварылі. Дзень прайшоў на славу!

---

[1] *Мы ажаніліся 25 лютага 1956 году.*

**Чацьвер 26 лютага**

Юра завёз Алесю на самалёт.

Мы цэлы дзень працавалі кожны над сваім. Я — усё шукаю [*матар'ялы*] для гэнэалёгіі. Вітаўт парадкуе матар'ялы для «Запісаў» наступных — пра канфэрэнцыю.

На падвячорак хадзіла з Fox. Расказала яму пра срэбра, пра ўчарайшы дзень. Ён вельмі зацікавіўся. «Good story» — раскажа жонцы.

**Пятніца 27 лютага**

Вітаўт рассылае «Запісы» і людзям і ўстановам. Шмат ужо разаслаў.

Пра рассылку «Запісаў» гаварылі і з Тумашам. Гэтаксама дыскутавалі пра матар'ял для новых «Запісаў». Том Б[*эрд*] добра спраўляецца з рэдакцыяй.

Тумаш зноў гаварыў пра Гусавяніна, пра сваю рэцэнзыю на пераклад Семяжона. Гусавянін не дае Тумашу спакою. Амаль ужо як Скарына робіцца для яго.

Прынёс польскую Гісторыю Беларусі для Мельяновіча.

Чакалі Шук[*елойця*], каб перадаць яму ліст і фармуляр для Юрчыка Андрусышына. Не дачакаліся. Вечарам званіў, што прыходзіў і ня мог нас знайсьці. Мусіць, калі мы былі з Тумашам на каве.

**Субота 28 лютага**

Пасьнедалі, гаварылі, чуць не спазьнілася ў парыкмахерскую. Зрабіла прычоску. Зьезьдзіла ў Патэрсон, купілі фруктаў. Пачаўся дождж.

Пачала рабіць анатацыі для каталёга[1]. Шмат сабралася кніжак дадатковых.

Званіла маме. У яе ўсё добра. Юра прыйшоў дахаты (ён працаваў у Pool) зь нейкай дзяўчынай. Пайшоў зь ёй у кіно.

Вітаўт працуе над артыкуламі для «Запісаў». Я адпачывала. Неяк пачаў балець жывот.

---

[1] *Рабіліся каталёгі беларускіх кніжак, якія можна было набыць у БІНіМе.*

**Нядзеля 1 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі усе разам, мы паехалі ў царкву[1] на сход.

Служба была ўжо скончылася, як мы прыехалі. Была вельмі ўрачыстая з двума епіскапамі (Андрэй і Бруцкі), двума сьвятарамі (Войтэнка й Карп), нейкія яшчэ манахі. А мы й ня ведалі. Было шмат зь New Brunswick. Атмасфэра нацягнутая. Усе напружаныя, варожыя. Войтэнка раіў адкласьці сход. Гарошку ніхто ня стаў слухаць.

Я зь Юляй разглядзелі яе рэчы. Яна перадала пачку для выстаўкі ў S[*outh*] R[*iver*]. [redacted] яшчэ купіла ў яе запісную кніжачку, заказала для акуляраў, гаварылі пра лялькку. Русачыха абяцала льняное палатно.

Пачаўся сход. Той бок разышоўся адзін па адным. Пайшоў і Мітрапаліт. Мы з Орсіхай стараліся яго ўгаварыць застацца благаславіць сход — не захацеў, кажа: «Як [redacted] буду благаслаўляць ваш сход, калі вы зьбіраецеся мяне выкінуць». [redacted] кажу: «Не абавязкава». Ён нават ня слухае. Як да сьценкі. Ён не цікавы, абмежаваны, упарты, але ўсё-ж ён галава БАПЦ, і нам трэба было-б неяк пагадзіцца. Я гэта й выказвала, але ніхто ня хоча слухаць. Усе настроеныя ваяваць. Расьціслаў Войтэнка адыграў дзіўную ролю. Чаму ён страшыў судам, турмой, калі сход будзе адбывацца?[2] Гарошка пачаў быў гаварыць, але яму не далі й скончыць. Былі людзі і з N[*ew*] B[*runswick*]. Так выглядала, што самае важнае цяпер перайсьці да Мікалая[3]. Мікалай у апале ў Мітрапаліта. І каб яго ня выкінулі з Царквы — важна было выказаць яму падтрымку. З такім плянам прыехалі і зь N[*ew*] B[*runswick*], такі плян меў і Русак Ул. ды іншыя. Запруднік прабаваў трохі ацьверазіць, я прабавала трохі прытармазіць — нічога. Усе ваяўніча настроеныя. Вынесьлі рэзалюцыю: што нам важна дабро БАПЦ, што хочам перайсьці да Мікалая, каб склікалі Сабор і што ня лічым Бруцкага сваім епіскапам да Сабору БАПЦ. Разышліся неяк з прыкрым настроем усе.

Прыехалі дахаты ўжо пазнавата. Юрачка зьезьдзіў па курку.

Пачаліся тэлефоны: Дутка сказаў, што падушкі будуць гатовыя ў суботу — што прынясе. Дамовіліся зь ім на наступную нядзелю, як прыеду ад мамы. Юля, што забыліся паглядзець брошкі — перашле з Шук[*елойцем*]. Кажура пра царкоўны сход. Карніловіч пра кніжку Кліўлендскую ды пытаў пра царкву.

Вечар быў таксама суетлівы й напружаны.

---

[1] *401 Atlantic Avenue, Brooklyn.*

[2] *Айцец Расьціслаў выступіў перад сходам з прамовай як бы папераджальнай: «Думайце, што будзеце рабіць! Калі пападзеце ў турму — самі вінаватыя, хто вам панясе перадачу?» Надта дзіўная прамова!*

[3] *У падначаленьне да ўладыкі Мікалая.*

**Панядзелак 2 сакавіка**

Я цэлы дзень, амаль (зразумела — трохі працавала й для бібліятэкі, але вельмі трохі) правяла над шуканьнем матар'ялаў для гэнэалёгіі. Цяпер ужо кожную кніжку, што пераглядаю — запісваю, анатую. Так шмат часу й энэргіі губляецца на пошукі (часам другі й трэйці раз тыя самыя кнігі пераглядаюцца, шукаюцца без патрэбы).

У абед хадзіла купляць сабе туфлі — нічога не знайшла.

Пасьля працы прыйшоў Шук[*елойць*], прынёс паперу, канвэрты, абразцы лістоў да губэрнатараў. Застацца даўжэй ня мог — мусіў ісьці ў друкарню. Газэты яшчэ няма, яшчэ ў друкарні. Так крыўдна, што ня ўставілі артыкулы пра выстаўкі.

Мы былі настроіліся ісьці разам вячэраць, — нават дома нічога не рабілася. Але нешта скамбінавалі.

Я пачала ўкладаць лісту кніжак, што трэба ўключыць у каталёг, каб падыскутаваць заўтра з Тумашам. Аж каля 30-ёх новых пазыцыяў сабралася.

Званіла Галіна, просіць яшчэ кніжак для выстаўкі. Я зь ёй пагаварыла пра выстаўку ў S[*outh*] R[*iver*]. Яны хочуць падушкі, нешта ад Шудзейкі. Трэба будзе званіць.

**Аўторак 3 сакавіка**

Я зноў працую для гэнэалёгіі. Вітаўт рыхтуе свой і іншыя артыкулы для «Запісаў». Мае прыйсьці Bird, абгаварваць, правяраць артыкулы.

Званіла Ала, каб мы (яна, Запруднік і я — тыя, што на сходзе былі больш памяркоўныя) пайшлі да Мітрапаліта [*Андрэя*] пагаварыць. Я ня надта энтузыяст, Зап[*руднік*] таксама адмовіўся. Я зусім не зьбіраюся ўмешвацца ў гэтыя справы — цяпер ужо позна, нічога не парадзіш — людзі раззлобіліся адзін на аднаго.

З Тумашам нічога цікавага не гаварылася: трохі пра царкву, пра «Запісы».

Званіў Вітаўт да Панькова — Кахаоўскі пісаў і яму матар'ял. Бірд прыйшоў раней — добра папрацавалі зь Вітаўтам.

Шук[*елойця*] спаткалі пасьля працы. Перадаў ён мне лісту арганізацыяў, якім трэба выслаць прывітаньні на Сакавік. Быў вельмі заняты дзень. З Шук[*елойцем*] не захацелася затрымлівацца. Сталі чакаць Тумаша, каб разам ісьці дахаты, але мусіць разьмінуліся. Трохі прайшліся з Шук[*елойцем*] ды пайшлі сабе дахаты. Шук[*елойць*] таксама прынёс ад Зап[*рудніка*] рэзалюцыю сходу, каб Віт[*аўт*] падпісаў ды адаслаў [*Лёню*] Норыку (другому сэкратару сходу).

Стамілася. Нічога вечарам не рабіла.

**Серада 4 сакавіка**

Працавалі кожны над сваім.

У абед схадзілі у 4 Continents[1]. Купілі «Летапісы», «Бел. кухарку»,

«Анталёгію», энцыклапэдыю для [*Міхася*] Палюховіча. Добра купілі, атрымалі зьніжку. Пагода была прыемная — назад ішлі. Добрая была прагулка.

Вечарам званіла Дутку, даведалася імя Капуры (Янка)[2] — дамовіліся на нядзелю. Пазваніла Надзі — дала ёй імя, спыталася, што яна хоча ад [*Валі*] Шудзейкі. Пазваніла Шудзейчысе. Яна дасьць тое-сёе сваё, ды сказала, што ведае адну мастачку-аматарку — Пашу Бендзераву, цяпер замужам за ўкраінцам.

Пазваніў Васіль — гаварылі зь Вітаўтам пра царкву, зразумела. Я зь ім дамовілася, што як прыедзем у панядзелак (ці аўторак) з рэчмі для Галіны й для выстаўкі — паглядзім і альбом.

Званілі Алесі. У яе ўсё добра. Напісала ліст Кахаlistоўскаму, але перапісаць начыста ўжо энэргіі не хапіла.

---

[1] *Кнігарня.*
[2] *Рабіў падушкі.*

**Чацьвер 5 сакавіка**

Пад раніцу пайшоў сьнег. Настрой нейкі з раніцы ў нас быў нэрвовы. Я пайшла на працу сама. Юра сёньня дома. Вітаўт ішоў сам. Каля бібліятэкі ўпаў, але нічога дрэннага ня сталася, толькі трохі руку пабіў. Адправілі ліст Кахаlistоўскаму.

Па абедзе В[*ітаўт*] меў meeting аб славянскай навуковай літаратуры — трэба зрэзаць частку. Раззлаваўся на іх — Сэлігман[1] лезе не туды дзе трэба — казала, што 4 Continents наракаюць, што мала заказаў на навуковыя рускія кнігі[2].

Вечарам званіла Іне Ів.[3], аб уключэньні ў Каталёг ейнай аповесьці «Браты». Яна, зразумела, згодная, але кніжкі ўсе мае Даніловіч. Казала таксама, каб прысылала свае ўспаміны ў «Запісы». Званіла Надзі пра карціны Пашы [*Бендзеравай*]. Яшчэ здаецца будзе час уставіць у каталёг. Стомлена чуюся. Нават гэтыя два тэлефоны былі вялікі высілак.

---

[1] *Seligmen, бібліятэчная начальніца.*
[2] *Паседжаньне бібліятэчнага камітэту, які пільнуе выдаткі. Паколькі Навуковы аддзел, дзе я працаваў, быў адказны за камплектаваньне навуковай літаратуры і ў Славянскім аддзеле, — я лічыўся адказным за выдаткі. Я ўважаў, што трэба ўваходзіць у непасрэдны кантакт з установамі ў СССР і мінаць пасярэднікаў. Амэрыканскія фірмы гэта разумелі і скардзіліся ў бібліятэку «вышэйшым шышкам» — так стварыўся канфлікт.*
[3] *Іне Іванаўне Кахаnoўскай у Клівленд.*

**Пятніца 6 сакавіка**

Вітаўт з раніцы ўжо меў непрыемную гутарку з Сэлігман. Яна яго ўбачыла й пачала сама гаварыць пра славянскія навуковыя заказы. Гэта ўжо Вітаўта раззлавала. Ён ня любіць, калі нехта яму робіць заўвагі[1].

Тумаш прынёс ліст ад Зоські Верас. Яна піша, што ўжо слаба чуецца.

Гэтаксама прынёс гэнэалёгію Дубейкоўскіх, і пераклад вершу Арсеньневай. Нявыразна, чый пераклад. [redacted] выказала думку, што гэта, мусіць, самой Дубейкоўскай. Сабраў ён шмат інфармацыі й для Гапановіча (надта-ж ён шмат гэтым займаецца). Вітаўт тут-жа, да слова, сказаў, што [redacted] зьбіраюся пісаць артыкул пра беларускую гэнэалёгію. Рэакцыя Тумаша была вельмі дзіўная: «Колькі Вы ўжо артыкулаў зьбіраецеся пісаць!» Пасьля, праўда, сказаў, што важна й добра было-б у «Запісы».

Даў літоўскую кніжку пра бел. манускрыпты — добры матар'ял — ёсьць расейскія й ангельскія агляды. Я пайшла рабіць адбіткі — усяго не пасьпела зрабіць (і добра, бо Вітаўт пазьней знайшоў яе ў нас дома). Вітаўт рабіў адбіткі Тумашу, і яму зрабіў заўвагу Jay, што гэта супроць бібл. законаў[2]. Трэба нам цяпер высьцерагацца.

Званіў Bird, каб пайсьці зь ім на вячэру, — [redacted] сказала, што мушу сьпяшацца дахаты — еду да мамы. Вітаўт таксама не захацеў заставацца. Я выйшла з працы раней, купіла маме яшчэ кофтачку.

На аўтобусе спаткаліся. Прыехалі. Забралі машыну. Я сабралася й паехала. Ехалася добра. У мамы ўсё добра. Павячэралі, трохі пагаварылі ды й адпачываць. Я неяк слаба спала.

---

*[1] Аснова канфлікту была ў тым, што амэрыканскія кнігапастаўшчыкі зараблялі на савецкіх кнігах, [redacted] я ўважаў, што калі ў нас будуць непасрэдныя кантакты з СССР, дык мы будзем мець шырэйшы абсяг навуковай літаратуры з СССР. Сэлігмэн была высокай начальніцай, распараджалася вялікімі сумамі, сотнямі тысячаў, аднак зьмест набываных кніг — што і ад каго набываць — вырашаўся навуковым аддзелам, [redacted] славянскі, кірылічны рэгіён «належаў» мне.*

*[2] Дзясятак-другі старонак дазвалялася капіяваць бясплатна, але ня сотні старонак. Доналд Джэй вёў улік коштаў ксэраграфіі. Канфлікту не было, але я пачаў аплачваць выдаткі сваімі грашыма.*

**Субота 7 сакавіка**

Раніцай паехалі па справах — банк, яблыкі (ужо апошнія ў гэтым годзе), магазын. Уважала грошы, бо мала ўзяла з сабой.

Разгледзелі маміну пошту, паперы.

Адпачывала. Чуюся не зусім цікава.

**Нядзеля 8 сакавіка**

Завезла маму ў царкву. Пахадзіла трохі па двары. Ужо пачынае выглядаць як вясна. Шмат трэба аглядаць — шмат запушчана.

Паабедалі. Мама зрабіла катлеткі і вінігрэт мне з сабой.

Выехала дахаты каля 2-ой.

Віты яшчэ дома ня было з царквы. Пазваніла — яны яшчэ там, спрачаюцца. Назад ехаў сам аўтобусам (туды з Болесям). Расказваў, што прабаваў гаварыць з Мітрапалітам [*Андрэем*] — нічога, як да сьценкі. Пасварыўся з Бруцкім. Ён пачаў зусім па-дурному пытацца: «А колькі

вы грошы далі на царкву?» «А дзе вашыя дзеці?» і падобнае. Прыйшоў Вітаўт дахаты зусім абезкуражаны. Выглядае, што ладу ня будзе.

А сёмай я паехала да Дуткі, да Капуры па падушкі. Ён надаваў поўна. Забрала й свае, што было заказана, і яшчэ дзьве. Патрацілася зноў. Не спадзявалася, што яшчэ буду нешта ў яго купляць.

Шудзейчыхі ня было. Я трохі пачакала й паехала дахаты. Стамілася за цэлы дзень.

**Панядзелак 9 сакавіка**

Прыходзіла Рая глядзець матар'ялы для сваёй paper[1]. Я яе ня бачыла.

Схадзіла палажыла грошы ў банк, на чэкавую кніжку. Званіла Юля — зьмяніла цэны на некаторыя свае рэчы — кажа, ніткі падаражалі.

Вітаўт паехаў на зборку пра «Symposium»[2] да Kanak Duta. Да Русакоў вырашылі ня ехаць.

Я рабіла лісты беларускія — прывітаньні сакавіковыя арганізацыям. Чуюся прастуджана. Чулася дрэнна ўжо на рабоце. Неяк была вельмі стомленая. Думала, што гэта ад дарогі.

---

*[1] Рая Станкевіч запісалася на ўнівэрсытэт Гантэр, на факультэт гуманітарных навукаў, каб крыху падвучыцца гісторыі, бо адчувала патрэбу. Гэта была адна з сэмінарскіх працаў пра Беларусь.*

*[2] Этнічная Рада плянавала канфэрэнцыю-сымпозіюм.*

**Аўторак 10 сакавіка**

Засталася дома — прастуджаная.

Вітаўт узяў адбіць лісты[1], Шукелойцю ніяк не дазваніўся, каб падпісаў.

Вітаўт зноў мае зборку — Ethnic Center[2]. Да Русакоў і да Надзі я зноў не паехала.

На рабоце Вітаўт, Тумаш і Падах[3] мелі нараду аб вечары ўспамінаў Акіншэвіча. Я выканчвала лісты. Лісты Губэрнатарам сакратарка надрукавала.

---

*[1] Узяў з сабой сакавіковы ліст ад БАЗА — нарабіць копіяў.*

*[2] Зборка ў Джэрзі Сіты ў справе пабудовы Этнічнага Цэнтру.*

*[3] Яраслаў Падах — старшыня Украінскага Навуковага Таварыства імя Шаўчэнкі.*

**Серада 11 сакавіка**

Зноў дома. Вітаўт узяў лісты для подпісу Шук[*елойцем*]. Але Шук. зноў не зьявіўся.

Я езьдзіла па пакупкі. Дождж. Прыкра. Нічога не купіла, што хацела.

Вітаўт хадзіў з T. Bird на вячэру і абгаворвалі «Запісы». Tom прыпомніў, што я абяцала яму матар'ялы для этнаграфіі. Трэба будзе ўзяцца ды падрыхтаваць.

**Чацьвер 12 сакавіка**

Зноў дома. З раніцы зусім слаба чулася — ляжала. Па абедзе зьезьдзілі з М. В. па акуляры. Чуюся трохі лепш. Працавала над каталёгам [*для БІНіМу*].

Шукала фатаграфіі з Gov[*ernor*] Byrne[1] — трохі знайшла.

Вітаўт хадзіў да Зап[*рудніка*] узяць кніжкі для Ґаліны. Шук[*елойць*] зноў не зьявіўся. Як толькі Вітаўт прыехаў — паехалі да Русакоў. Павячэралі добра ў іх. Галіна прыгатавала смачную яду.

Пасьля вячэры я пайшла да Надзі, а яны пачалі гаварыць пра выстаўку[2]. Аддала Надзі Юліны рэчы, падушкі. Яна адабрала, што лепш для іх надаецца. Рэшту я ўзяла назад. Свае падушкі таксама ўзяла назад. Прывязу на першы дзень выстаўкі. Пагаварылі трохі зь ёй і пайшлі назад да Русакоў.

Дала Васілю альбом і фатаграфіі. Хай яны робяць.

Там Галіна пачала раскладаць і паказваць выстаўку. Зрабіла яна ўжо й запросіны — сваё імя аж 2 разы ўставіла, а назоў выстаўкі неяк зусім невыразна выглядае. Беларускі арнамэнт таксама не на мейсцы. Адным словам надта-ж ёй хочацца быць на паверхні, але ўсё-ж нешта робіць. Яна яшчэ адна, што нешта самастойна (праўда, з дапамогай і з апрабацыяй цэлага сьвету) можа зрабіць. Я ўжо раблюся несправядлівай.

Пазванілі Шук[*елойцю*] — дамовіліся заўтра спаткацца.

---

[1] *З губэрнатарам Бэрнам.*
[2] *Рыхтавалася чародная мастацкая выстаўка ў Саўт Рывэры.*

**Пятніца 13 сакавіка**

Я чуюся яшчэ трохі слаба, але пайшла на працу. Атрымалі чэкі. Доўга ўзяло нам часу ў банку — шмат было справаў. Зайшлі на каву.

Пазьней рабіла для Тома — зьбірала матар'ялы для этнаграфіі. Трэба яму дапамагчы — артыкул па-ангельску нам вельмі патрэбны.

Тумаш прыходзіў. Нічога надта цікавага не гаварылася. Звычайныя гутаркі. Гаварылі пра нашую трагічную гістарычную сытуацыю. Выказалася думка, што заняпад гарадоў, што ня вытварылася купецтва беларускае — шмат нам перашкодзіла ў нармальным гіст.-эканам. развоі.

Вітаўт прывёў мне нейкага Stankewich — славянскі лінгвіст[1]. Правяла зь ім амаль гадзіну. Пытаўся, як гаворыцца, як прынята вымаўляць некаторыя словы, фразы.

Толькі й пасьпела ўзяць лісты, ды пабегла да Шук[*елойця*]. Ён ужо чакаў. Падпісаў лісты. Я яму дала некаторыя адправіць. Некаторыя забрала сабе, яшчэ дапісаць і адправіць.

Дзень быў вельмі суетлівы.

---

[1] *Прафэсар Станкевіч, яўрэйскага паходжаньня, зь Вільні, ведаў беларускую мову, выступаў зь лекцыямі, пісаў артыкулы.*

**Субота 14 сакавіка**

Раніцай Вітаўт паехаў на сьнеданьне, а [redacted] рыхтавалася, мусіць засьпяшалася, — пабіла сабе аб ложак маленькі палец наназе. Вельмі балела — баюся, што вывіхнула можа што. Забандажавала — трохі лепш.

Зрабіла валасы. Юра мяне спаткаў і паехалі купіць радыё-гадзіньнік (наш нешта пачынае куралесіць). Нічога не знайшлі.

Аддалі Курцу[1] першую рату за срэбра — $250.

Пазваніла Joanne[2], што заўтра прыедзем па рэчы. Добра, што зазваніла, бо яна сказала, што рэчы можна будзе забраць толькі пасьля 5-ай.

Вечарам адпачывалі, працавалі. Хто — што.

---

*[1] Уладальнік ювэлірнай крамы.*
*[2] З выстаўкі тэкстылю.*

**Нядзеля 15 сакавіка**

Раніцай яшчэ ўсе разам пасьнедалі. Пазванілі Алесі. У яе ўсё добра. Яна мае да аўторка вырашыць, ці застаецца на сваёй старой працы.

А гадзіне 12-ай выехалі у Binghamton. Ехалася добра. Пагода прыгожая. Сталі раз — мне трэба было недзе забегчыся. Нага трохі пабольвае. Шкадавалі толькі, што ня было семачкаў[1].

Там[2] былі нейкія выступы — высьвятлялі slides з Югаславіі — нейкі ведамы для іх этнограф. Спаталілі Тэрэзінага партнёра — Вэйлс. Пайшлі зь ім на каву. Вярнуліся зноў на выступы. Танцавалі украінскія дзеці. Дрэнь — непадрыхтаваныя, таўкуцца на сцэне. Публіка сьмяецца — Cute!

А 5-ай пайшлі на выстаўку. Ага, яшчэ раней зайшлі на выстаўку, і мне ўдалося зрабіць адно фота з Слуцкага поясу. Яшчэ адна недарэчнасьць. Даставілі да аднаго з поясаў тлумачэньне, што пояс — частка адзеньня польскага шляхціча, і цэлую камплікаваную гісторыю. Аднак на канцы зазначана, што пояс роблены ў Слуцку, як паказвае напіс на ім. Joanne кажа, што мусіла гэтую картку зрабіць пад уплывам палякоў. Наагул палякі там мусіць вядуць рэй, як відаць і на карце — уся Польшча ўтыканая кнопачкамі. На Беларусі таксама трохі дадалася. Выглядае зусім няблага.

Мае рэчы зьнялі й мы паехалі. Прыехалі дахаты а 9-ай з адным танкам[3] газаліны. Эканомна. Трохі стаміліся, але прыемнае падарожжа.

---

*[1] Часта ў падарожжы мы куплялі гарбузовыя семачкі ды ўсю дарогу іх шчоўкалі.*
*[2] У аўдыторыі Цэнтру мастацтваў.*
*[3] Бакам (tank).*

**Панядзелак 16 сакавіка**

Юра застаўся сёньня дома — прастуджаны.

Рабіла здымак для I.D.[1] Зьбірала матар'ял для Тома Б[*эрда*]. Знайшла артыкулы для Адамовіча. Вітаўт пазваніў да яго даведацца, які яму важней, бо надта даўгія, дык ён сказаў, што ўжо яму ня так і трэба. Вось чалавек! Я столькі патраціла часу шукаючы — а яму й «ня так ужо важна». Добра яшчэ што не рабілі адбіткаў.

Стомленая. Нічога дома не рабіла. Пазваніла жанчына з Avon[2]. Прыйдзе ў суботу.

Шмат было званкоў: Галіна з сваёй выстаўкай, Калоша з царквой, Алеся (рашыла затрымаць сваю старую працу).

---

*[1] Бібліятэка вырабіла новыя, «свае» бібліятэчныя карткі-пропускі.*

*[2] Фірма, што прадае касмэтыку, разносячы па хатах.*

**Аўторак 17 сакавіка, St. Patrick**

Раніцай спазьнілася — трафік дзеля [*Дня*] Св. Патрыка. Усё больш і больш едуць у N.Y., асабліва маладыя людзі, п'юць, дурэюць. Прыходзіла Тамара. Яна зламала была правую руку, была камплікацыя з малюнкамі — мусіла нават левай рукой маляваць. Пра казку бел. адказу яшчэ ня мае.

Выканчвала фальклёр.

Тумаш прынёс лісты ад Bezugloff[1] з Кліўленду — запрос на каталёгі; з Slavic Culture week ад Веры V.W.-G. — яны нешта ўжо варушацца[2]. Нам ня раяць да іх далучацца.

Вітаўт прачытаў яму лісты з Аўстраліі, з радыё.

Гаварылі пра дамы Крычэўскага. Спадзяюцца яшчэ адзін дом хутка прадаць. Але нічога не гаварылі пра паліцы і пра тое, каб купіць нейкі будынак[3].

Званіў Шук[*елойць*] — недзе знайшоў публікацыю, дзе дрэнна насьвятляецца Беларусь. Трэба рэагаваць.

Дома былі лісты ад М. Станкевіч з сьпіскам кніжак і ад Пятроўскага кніжка й просьба пра грошы. Званіла Галіна. Скончыла фальклёр для Bird'a[4].

---

*[1] Безуглова, бібліятэкарка Кліўлендзкай бібліятэкі.*

*[2] Падрыхтоўка да Славянскага Тыдня Культуры ў Нью Ёрку. Канкурэнтная група, кіраўнічка — Вера фон Вірэн-Гарчынская, полька расейскага паходжаньня, выкладала ва ўнівэрсытэце. Беларусаў цярпела, але часам была ня супраць і нам «паказваць дарогу». Мы яе хутка паставілі на месца.*

*[3] Нейкі іншы будынак, у Мангэтане.*

*[4] Бібліяграфію беларускага фальклёру для Тома Бэрда.*

**Серада 18 сакавіка**

Адбіла копіі «фальклёру». Сяньня вечарам перадам Тому.

Схадзіла падала на L-4 пазыцыю ў Славянскім Аддзеле. Ня маю вялікіх надзеяў, але падала[1].

Вечарам спаткаліся з Томам B[*ird'ам*]. Ён недзе сьпяшаўся, дык мы толькі зайшлі ў Arbys[2] на кароткі час, перадалі яму матар'ялы:

Вітаўт свой артыкул, я — пра фальклор. Трохі пагаварылі. «Запісы — Сымпозыум» пасоўваюцца. Вітаўт цісьне Тумаша, каб ужо частку здаваць у друк.

Вечарам я ўжо нічога не рабіла — зусім стомленая. Палец яшчэ баліць.

---

[1] *Была абвешчаная вакансія ў Славянскім аддзеле. Разрад L-4 — досыць высокі ў бібліятэчнай шкале. Вялікая адказнасьць: падбор пэрсаналу, кантроль над кніжным бюджэтам. Зора ня мела надзеяў атрымаць гэтую пасаду.*

[2] *Рэстаран.*

**Чацьвер 19 сакавіка**

Рабіла трохі для гэнэалёгіі[1].

Хадзілі на падвячорак з Факсам. Гаварылі пра Binghamton, — ён расказваў пра свае апошнія набыткі Stevenson[2].

Вечарам мелі прыемныя лісты дома: ад Брылеўскага — атрымаў «Запісы», хвале мой артыкул, прыслаў грошы. Ад Каханоўскага — падзяка за матар'ял — адбіткі. Кажа, што Таполі й Казака выкарыстаць ня можа[3] — бо лічыць, што яны не на ўзроўні, шмат выдумкаў. Свае кніжкі для каталёга прышле. Наагул ліст вельмі сымпатычны.

Прыйшоў таксама каталёг ад Камкіна. Шмат беларускіх кніжак, але асабліва, што мяне ўсьцешыла — Легенда о Трыстане. Заўтра адразу-ж закажу.

---

[1] *Зора зьбірала матэрыялы па гензалёгіі.*

[2] *Зорын калега Факс спэцыялізаваўся на Р. Стывэнсане. Мы падаравалі яму выданьне: Стывэнсан, Р. Л. «Чортава бутэлька». Пераклад Б. Грабінскага і В. Тумаша, 1947.*

[3] *У сваю кнігу «Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў» (1982) Аўген Каханоўскі не ўлучыў успаміны Вольгі Таполі і Рыгора Казака.*

**Пятніца 20 сакавіка**

Як толькі прыйшла на працу — была ўжо вестка, што званілі з Personnel[1]. Пазваніла і адразу-ж пайшла на інтэрв'ю. Прайшло даволі добра, але я усё-ж вялікай надзеі ня маю.

Напісала Камкіну. Выпісала кніжак аж на 49 даляраў.

Вітаўт пайшоў у 4 Continents па энцыкляпэдыі[2].

Званіў Шук[*елойць*] — прыйдзе а 4-ай гадзіне. Вітаўт дастаў энцыкляпэдыі й індэкс. Купіў яшчэ адну «Cook Book»[3] ужо цану падвысілі і амаль няма ўжо іх. Добра, што тады купілі.

Хадзілі з Тумашам на каву. Нічога надта цікавага не дыскутавалася.

Шук. прынёс нейкія нязначныя лісты: ад Slavic Culture — V. Wiren (тое, што ўжо Тумаш прыносіў) з Queens Ethnic Center. Казаў, што ўжо ёсьць праклямацыі ад N.Y. Govn., ад N.Y.C. мэра. Дэлегацыя ньюёркская ідзе ў сераду 25 Сак.

Прыйшлі дахаты, разгледзелі пошту. Надзін прынесла ад Алесі яе

працу пра Human Rights[4]. Страшэнна дрэнная копія — нічога не відаць. Вітаўт раззлаваўся. Нeяк напружана было, калі паехалі вячэраць. У адным рэстаране шмат было людзей — паехалі далей. Нарэшце, як асталі яду, трохі наладзілася — павесялелі ўсе. Нават добра правялі вечар — елі рыбу «колькі хочаш»[5].

Пазваніла Алеся. Вітаўт ужо на яе не сварыўся (як Юра сказаў: пачаў сварыцца на нас, а Алесі ўсё сыйдзе). Я яе папрасіла пазваніць Камкіну, каб затрымалі для мяне «Трыстана». Казала, што прыедзе на Вялікдзень.

---

[1] *З аддзелу кадраў. Паклікалі на гутарку наконт вакантнага месца бібліятэкара 4-га разраду.*

[2] *Кнігарні — Камкіна і «4 кантынэнты», якія прадавалі кнігі з СССР.*

[3] *Byelorussian Cuisine.*

[4] *Надзін — вельмі блізкая сяброўка Алесі, дантыстка, думала пераяжджаць у Вашынгтон, часта там бывала. Гэтым разам прывезла Алесіну сэмінарскую працу «Парушэньне правоў чалавека ў БССР».*

[5] *У рэстаране, дзе за фіксаваную цану можна «есьці, колькі хочаш».*

### Субота 21 сакавіка

Рабіла завіўку. Вельмі добра выйшла. Вітаўт паехаў на зборку — нейкая ўжо перадвыбарная. Яму трэба гэтага будзе пазьбягаць, каб не ўцягнуцца.

Прыходзіла Avon Lady[1]. Узяла ў яе трохі рэчаў.

Вітаўт прыехаў ня позна. Паелі трохі й адпачывалі.

Юра недзе ў басэйне працуе. Нанач паехаў у First Aid.

Вітаўт вечарам спугнуў нейкіх хлопцаў з нашага гаражу[2].

М.В. трохі прастуджаная.

---

[1] *Прадавачка касмэтыкі.*

[2] *Гараж ніколі не зачыняўся, дык чужыя хлопцы туды часам заглядалі. Але там былі толькі кнігі — тавар не хадавы...*

### Нядзеля 22 сакавіка

Пасьнедалі і Вітаўт паехаў у царкву. Фактычна Юра падвёз яго пад самую царкву. Сход быў вельмі бурны.

Я паехала у South River на выстаўку. Прывезла падушкі (чым яны, здаецца, ня былі надта задаволеныя). Наагул у іх было ўсё ўжо ўладжана. Выстаўка, як заўсёды, неблагая, калярытная. З новага была беларуская хатка й дворык. Добра выйшла. Дэманстравалі толькі яйкі ды Лора Рагалевіч трохі прала. Я зрабіла колькі здымкаў. Залагодзіла, што мела: аддала энцыклапэдыі [*М.*] Палюховічу, узяла ў Золака кніжкі «Браты» [*Аляксандры Саковіч*]. Аддала Галіне кніжкі. Яна й там скакала. Наагул атмасфэра ня была вельмі мілай. Нічога не купіла, толькі адзін пояс у [*майстрыхі*] Згірскай нагледзела. Сказала Надзі, што пісаць пра выстаўку ня буду (яны, здаецца, й не чакалі).

Паехала дахаты ня позна. Вітаўт ужо быў дома. Селі перакусіць —

ён пачаў расказваць, як там было і... пачаліся званкі. Так фрагмэнтамі я дазналася, што было вельмі бурна, істэрычна (матушка, Гарошчыха й Курыліха вельмі дрэнна захоўваліся). Выглядае, што сварка ў нас у царкве ўжо зусім сур'ёзная. Да згоды, мусіць, ня дойдзе. Перагаласавалі, але выбралі ўвесь стары ўрад, што й на мінулым сходзе (усё-ж бальшыня за Мікалая). Калі зайшло пра Мікалая, то ўся гістэрыка й пачалася. Блага.

Вечар правялі неяк нэрвова.

**Панядзелак 23 сакавіка**

Засталіся дома, бо сёньня шмат актыўнасьцяў.

Ужо перад адыходам прынёс паштар пачку кніжкаў ад Прускага «Мёртвым не баліць». Выдаў ён яе заднім годам, без азначэньня мейсца. Добра выглядае. Ён толькі бядуе, каб прадаць, бо ягоная друкарская дзейнасьць інакш пацерпіць.

Вітаўт узяў кніжкі з сабой. Заехалі забраць на пошце ліст (ужо колькі дзён ляжала паведамленьне) ад Сінькевіча[1] з Гішпаніі. Добры, даўгі ліст з інфармацыяй для К.-К. бібліяграфіі, з матар'яламі. Гэтаксама прыслаў грошы на «Запісы». Ён маладзец.

Забралі па дарозе Галіну Бахар і паехалі ў Трэнтан. Падушку яна зрабіла трохі слабенькую[2].

У Губэрнатара прайшло вельмі ўдала: аддалі падушку і ён зрабіў цэлую цырымонію з заменай падушак: старую прынесьлі з машыны ягонай. Ён расказваў цэлую гісторыю зь ёй. Была вялікая група школьнікаў. Вельмі было сымпатычна, проста, весела і ўдала. Падушка, хоць мне адразу не спадабалася, але выглядала значна лепш, як старая. Маладзец Галіна. Яна была цэнтрам увагі.

Зайшлі яшчэ пасьля да Барбары Тэйлар і да маці Sandie (яна была з намі на прыёме)[3].

Паехалі да Галіны Русак на выстаўку[4]. Выстаўка выйшла добра. Матар'ял добра разьмешчаны, прыгожа выглядае на дзяружках, падсьцілачках. Надпісы добрыя (шмат выкарыстала, што Вітаўт даў). Гаварыла яна, праўда, слаба. Неяк мямліла, нічога моцнага не заначыла. Неяк няскладна выйшла. Найбольшым посьпехам, мусіць, карыстаўся пачастунак і віно. Юрачка прыйшоў, трохі памагаў. Вітаўт прадаў колькі кніжак для Прускага[5].

Паехалі на вячэру. Прыемна правялі час, хоць В. ўжо быў пачаў нецярплівіцца.

Мы зь Юрам паехалі дахаты, а В[*ітаўт*] на зборку Ethnic Council[6]. Нам зь Юрам было вельмі прыемна, гаварылі, разважалі. Ён паехаў у басэйн. Я адпачывала. В[*ітаўт*] прыехаў ня позна. Вёз Camille. Яны разыходзяцца [*з мужам*].

---

[1] *Віктар Сянькевіч — наш добры сябар яшчэ зь Лювэну. Працаваў на Радыё Свабода пад псэўданімам «Язэп Барзыка».*

*[2] У Трэнтане — сталіцы штату Нью Джэрзі — адзначалася 25 Сакавіка. Падушка — каб падараваць губэрнатару.*

*[3] Барбара Тэйлар і Сэндзі дапамагалі весьці справаводзтва Этнічнай Рады і адзначыць 25 Сакавіка ў Трэнтане.*

*[4] Сакавіцкая выстаўка ў Ратгерскім унівэрсытэце.*

*[5] Кніжкі В. Быкава «Мёртвым не баліць» разышліся, М. Прускі свае выдаткі вярнуў. Потым шкадаваў, што выдаў малым тыражом.*

*[6] У Іглтан-Цэнтар Ратгерскага ўнівэрсытэту.*

**Аўторак 24 сакавіка**

Здала фільм. Палажылі грошы на чэк. [redacted] паслала на Rutgers Fund (між іншага, на выстаўцы пазнаёмілася з той маладой жанчынай, што званіла. Вельмі сымпатычная. Муж яе выкладае Ethnic Studies — карыстаюць з N. J. Ethnic Experience[1]).

У абед хадзілі заказаць білеты на самалёт В[*ітаўту*] у Кліўленд. Вельмі падаражала: $270 у два бакі. В[*ітаўт*] рашыў ехаць туды аўтобусам.

З Тумашам гаварылі пра вечар успамінаў па Акіншэвічу[2]: праграмка, пра чытаньне яго «Стэпу». Гаварылі й пра «Мёртвым не баліць». Тумаш лічыць, што трэба ў каталёг уставіць.

Вечарам званілі Прускаму. Гаварылі, што кніга добра разыходзіцца, што ўключым яе ў каталёг. Ён рыхтуе цяпер свой часопіс (пра Цётку атрымаў і набраў ужо). Гаварылі, што Інстытут купіць у іх якіх 50 экз. «Успамінаў» і, можа, й «Мёртвым»[3].

Званілі Акіншэвічысе. Яна, можа, прыедзе на акадэмію. Старонкі[4], якіх нехапае ў нас — паглядзіць.

Нічога вечарам амаль не рабіла, толькі пару анатацыяў для каталёгу. Неяк апошнім часам вельмі стомленая вечарамі. Нічога ня робіцца, ня можацца. Вітаўт, праўда, нешта ўсё робіць. У яго больш энэргіі, настойлівасьці.

---

*[1] Кніжка New Jersey Ethnic Experience выкарыстоўваецца таксама ў сярэдніх школах як падручнік. У ёй ёсьць артыкул і пра беларусаў.*

*[2] Супольная ўрачыстасьць разам з украінцамі.*

*[3] БІНіМ забраў увесь наклад кнігі «Мёртвым не баліць».*

*[4] З твораў Акіншэвіча.*

**Серада 25 сакавіка**

Цікавая рэч, што нічога няма для запісваньня, хоць і 25 Сакавіка.

Ньюёркская дэлегацыя хадзіла сёньня да мэра. Мы не прымалі ўдзелу.

**Чацьвер 26 сакавіка**

Зраньня мела інтэрв'ю з Карэсарам[1]. Прайшло нядрэнна. Ён быў вельмі нэўтральны, дыпляматычны: ні так, ні не. Я надзеяў шмат ня маю. Як будзе — так будзе.

Правяла ў абед Вітаўта трошкі. Ён паехаў у Кліўленд аўтобусам.

Забрала фатаграфіі. Выйшлі вельмі добра.

Вечарам адпачывала. Званіла маме, у яе ўсё добра.

---

[1] *Кіраўнік Славянскага аддзелу. Вырашалася пытаньне: хто атрымае вакантную пасаду ў Славянскім аддзеле.*

**Пятніца 27 сакавіка**

На ранішняй каве Ballarine паправіла мне мову для каталёгу.

Званіў Запруднік. Адзванілася яму. Гаварыла трохі з Адамовічам. Яму трэба успаміны [*Валі*] Яцэвіч. Кажа, што за які месяц скончыць [*Салаўя*]. Дай Божа!

Запр[*уднік*] на пару тыдняў, дзеля крызысу ў Польшчы, будзе выкліканы ў Мюнхэн. Пытаўся, ці зможа Віт[*аўт*] яго падмяніць тут. Я сказала, што выглядае, што ня будзе праблемы. В[*ітаўт*] можа ўзяць вакацыі на пару тыдняў.

Прыходзіў Тумаш. На каве гаварылі пра вечар-акадэмію Акіншэвіча. Я скараціла апавяданьне[1]. Дала Т[*умашу*] копію. Можа, ён яшчэ што скароціць.

Прыйшоў мікрафільм «Трыстана» з Пазнані. Добры. Цэлы сьпісак: Трыстан, Атыла, Бова, Гвідон і летапіс Князёў Літоўскіх.

Сказала Тумашу пра гэта. Ён задаволены. Гаварылі й пра гэта й пра італьянскую дасьледніцу[2]. Я яшчэ ўсё не напісала ёй ліст.

Званіў Вітаўт. Там усё добра. Быў у Бануты. Выглядае, што кніжка хутка выйдзе. Я неяк трохі на яго пакрыўдзілася, бо першае яго пытаньне было: «Ну, званіла Алесі?» Яму хадзіла даведацца, ці была яна на мітынгу. Алесі я ніяк не дазванілася яшчэ. Гаварыла трохі з Калошам. У яго, як заўсёды, свае вузкія праблемы: царква, Ева Дунец (жыве цяпер на Полацку). Сказаў, што перашле грошы для галоўнай кватэры БАЗА.

---

[1] *Апавяданьне Акіншэвіча «Дзікі стэп». Зора прачытала яго на акадэміі ў памяць Акіншэвіча.*

[2] *Sgambatti.*

**Субота 28 сакавіка**

Схадзіла рана зрабіць валасы, каб пасьля мець час на пакупкі.

Пазваніла Алесі — злавіла яе. Пра тую тэлефонную гутарку з В[*ітаўтам*] у панядзелак яна зусім нічога не памятае — гаварыла, мусіць, зусім у сьне. Казала, што ўсю ноч перад гэтым пісала, увесь дзень у панядзелак працавала, а вечарам — зусім «з катушак». Так што нікому не званіла, нікуды не хадзіла. Мы зь ёй добра пагаварылі. Прыедзе на наш Вялікдзень. Камкіну не званіла. Калі я цяпер празяваю «Трыстана» — будзе вельмі крыўдна.

Паехала у магазыны. Купіла вагі, В[*ітаўту*] падушку, пару сукенак. паехала далей паглядзець паліто. Нічога цікавага не знайшла. Купіла там, у Burlington[1], прастыні для мамы.

Шмат патрацілася, стамілася. Але прыйшоўшы, яшчэ памыла свае рэчы й пашыла маме пададзяяльнік і наўлечкі.

Вечарам адпачывала. Юра быў дома. І ён стомлены.

Званіў В[*ітаўт*]. Сказала яму пра Запр[*удніка*], пра Алесю. Там усё добра. Прыехаў [*у Нью Ёрк*] Сажыц.

[1] *Фабрыка-магазын.*

**Нядзеля 29 сакавіка**

Пагода вельмі прыемная. Вывесіла на вяроўку пасьцель, каб праветрыць. Паадчыняла вокны. Пасьнедалі трохі разам. Юра схадзіў па яду. Трохі спарадкавалася.

Паехалі ў Бруклін на сьвяткаваньне. Там ужо служба была скончылася. Гарошка і Со. на сьвяткаваньне не засталіся. Калі [redacted] спыталася ў Зіны Г[*арошкі*]: «Што-ж вы ўжо адыходзіце, ня будзеце на сьвяткаваньні?» Яна сказала: «Што мы будзем сьвяткаваць Савецкую Бел. Рэспубліку». Я пакрыўдзілася. Толькі пазьней даведалася, што «Н.Р.С.» зьмясьціла паведамленьне, што ў Брукліне адбудзецца сьвяткаваньне 63 угодкаў «Бел. Сацыяліст. Рэспублікі»[1]. Яны, расейцы, нам стараюцца шкодзіць там дзе могуць.

Сьвяткаваньне было даволі ўдалае. Афіцыйная частка зьвялася да мінімуму: прачыталі праклямацыі, прывітаньні я чытала, Зап[*рудник*] зрабіў кароткі агляд, прамаўлялі й госьці (Калынік (укр.) і Uhlrich (з Captive Nations). Сабралася шмат людзей. Былі й мерлякоўцы. Фактычна, іхны сьвятар быў адзіны прысутны сьвятар. Абед быў таксама ўдалы. Я трохі памагала, але не зашмат. Як толькі была нагода пайсьці — мы з М[*арыяй* ] В[*асільеўнай*] і ўсьлізнулі. Ага, купіла ў Юлі ляльку й капшучок. Дарабіла яна й фартушок.

Паехалі у South River. Было горача, трохі ўжо пачалі стамляцца. Але ў S[*outh*] R[*iver*] было прыемна. Яшчэ папалі на іхную ўрачыстасьць. У іх заўсёды бывае вельмі ўрачыста. Амаль заўсёды й выстаўка ёсьць: гэта шмат дадае да агульнага ўрачыстага настрою. Пасьля заканчэньня сабрала свае рэчы. Сп-ня [*Ніна*] Орса дала яшчэ мне ручнік з мярэжкай. Паказала фатаграфіі сяму-таму. Вельмі спадабаліся й прасілі заказаць і ім (Літаровіч Ліза й удава).

Прыехалі дахаты ўжо каля 8-ай. Юра яшчэ прывёў нейкую дзяўчыну, дык я й распружыцца не магла. Пачала друкаваць для каталёгу[2].

Юра паехаў спатыкаць В[*ітаўта*], і я трошкі пачала адпачываць. Вітаўт прыехаўшы пачаў расказваць, як там было й пачаліся тэлефоны. Званіў Калоша яшчэ раней. Званіў Васіль. Вітаўт адзвоньваўся Калошу. Калі нарэшце леглі спаць, было ўжо па 12-ай.

Там было добра. Вітаўт гаварыў з Мітрапалітам [*Андрэем*], ня ведаючы, што той адлучыў ад царквы [*Алеся*] Міцкевіча й [*Васіля*] Русака.

[1] *Відавочна, абвестка ў «Новое русское слово» была дадзеная аб сьвяткаваньні 25 Сакавіка, але ў газэце нешта пераблыталі. Дый наагул, ці варта даваць такія абвесткі ў расейскую газэту?*

[2] *Матэрыялы для каталёгу БІНІМу.*

**Панядзелак 30 сакавіка**

Нічога вартага запісваць ня было.

Адно што пагаварыла з Раісай Ст[*анкевіч*], каб яна ўзялася арганізаваць выстаўку ў Пэнсыльваніі[1]. Яна паабяцала, што зоймецца.

---

[1] *Запрасіў арганізаваць беларускую выстаўку штатны ўнівэрсытэт у горадзе Коледж, у цэнтральнай Пэнсыльваніі.*

**Аўторак 31 сакавіка**

Палец усё баліць. Рашыла схадзіць да сястры. Яна параіла выпаўніць анкету для accident[1]. Зрабіла гэта, хоць трохі й нялоўка чулася. Неяк усё гладка пайшло. Яна паслала мяне да доктара. Палец трэснуты — ня дзіва, што мне ўсё балеў. Доктар сказаў, што нічога надта ня зробіш — пару дзён параіў прыкладаць халодныя кампрэсы, трымаць нагу паднятай і паменш хадзіць.

Званіла Рая — яна ўжо ўсё дагаварылася з выстаўкай. Паслала й грошы ім. Усё ў парадку. Яна ўсё-ж маладзец. Гаварыла і з Шук[*елойцем*]. І ён будзе ёй памагаць.

Тумаш паказаў ліст ад Жучыхі, дзе яна крытыкуе артыкул Сядуры й Вітаўта[*ву*] рэцэнзыю на Судзілоўскага. Нас гэта абаіх вельмі абышло. Такі вузкі, абмежаваны падыход — у «Запісах» ня мейсца на людзей, якія тварылі для чужой культуры. Так мы пад гэтым настроем і былі цэлы вечар. Аднак пазьней усё пачало дагары-нагамі.

Пазваніў Дзядзя Ваня, што яго брат прыехаў і сядзіць недзе на аэрадроме ў N.Y.[2] Вітаўт пачаў званіць на [*аэрадром*] Kennedy, каб штось даведацца. Нічога. Паехаў, каб шукаць. Праўда, хутка званіць назад. Знайшоў. Едуць да нас. Мы з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*] пачалі рыхтавацца. Прыехалі. Ён даволі сымпатычны. Вельмі падобны на Д[*зядзя*] В[*аня*] і выглядам і захаваньнем. М. В. ім ужо заапекавалася. Спачатку мы рашылі, што я яго заўтра рана завязу да Д. В. Але пазьней перадумалі. Мне ўсё-ж варта пасядзець са сваім пальцам дома. А Вітаўту усё роўна трэба у N[*ew*] B[*runswick*] — пабачыцца з ул[*адыкам*] Мікалаем. Пайшлі спаць позна.

---

[1] *Звалілася са стала машынка на нагу. Няшчасны выпадак на працы.*
[2] *Брат Дзядзі Вані Сяргей, зь Сібіры.*

**Серада 1 красавіка**

Я засталася дома. Вітаўт таксама пазваніў, што ня прыедзе. Раніцай яшчэ В[*ітаўт*] зьезьдзіў па сьнеданьне. Пасьнедалі, пагаварылі. Ён, як і Д[*зядзя*] В[*аня*], любіць і ўмее расказваць. В[*ітаўт*] павёз яго.

Я цэлы дзень адпачывала, старалася не хадзіць, ставіла халодныя кампрэсы.

Вітаўт па дарозе назад заехаў да Русакоў. Там былі ул. Мікалай

і Ул. Русак. В. перакладаў лісты да адваката аб адлучэньні Русака й Міцкевіча ад царквы. Пагаварыў з Мікалаем. Завёз яго на аэрадром. Ён паляцеў у Кліўленд да Мітрапаліта [*Андрэя*] на гутарку. Можа? што наладзіцца!

Прыйшлі кніжкі ад Joanne[1].

Вітаўт прыехаў каля 7-ай. Павячэралі. Ён вельмі стаміўся осім гэтым. Гэта так нам не патрэбна (я маю на ўвазе царкоўныя справы).

---

[1] *Пазычаныя для выстаўкі тэкстыляў.*

**Чацьвер 2 красавіка**

Пайшла на працу, бо, па-першае, мусіла здаць свой расклад на канікулы, а па-другое, маем сёньня паседжаньне аб новым каталагаваньні[1].

Цяпер сяджу з кампрэсам і пішу дзёньнік. А 2-ой пачалася сэсія новага каталёгу. Выглядае вельмі камплікавана.

Схадзілі на падвячорак з Факсам. Ён гэтаксама ня вельмі энтузыясты новага каталагаваньня.

---

[1] *Пачатак кампутарнай каталягізацыі.*

**Пятніца 3 красавіка**

Па абедзе [*ў бібліятэцы*] быў зноў сэмінар аб каталагізацыі. Сяньня яшчэ больш складана выглядае. Хадзіла зноў з Факсам на каву. Але зышла пазьней, як скончылі сэмінар, уніз. В[*ітаўт*] і Тумаш яшчэ там былі. Пагаварылі трохі пра акадэмію па Акіншэвічу.

Як толькі прыехалі дахаты — сабраліся й паехалі мы зь Юрам на фарму. В. быў плянаваў ехаць з намі, але мае у суботу паседжаньне й хоча папрацаваць над раскладам.

Ехалася добра. Юрачка напачатку быў трохі стомлены, неразгаворлівы, але пазьней разышоўся. Гаварылі, разважалі пра яго працу, пра Мэксыку.

У мамы ўсё добра. Паелі й пайшлі адпачываць. Стомленыя, сонныя.

**Субота 4 красавіка**

Зраньня Юрачка зьезьдзіў у банк. Зрабіў усё што трэба — памяняў чэкі, зрабіў плацяжы. Зьнялі пластыку з вокнаў[1]. Мама чуецца слаба. Прыняла пігулку (нітрагліцэрын) — палепшала. Мы зь Юрам пайшлі парадкаваць маліну. Пачалі капаць, аж прыйшоў сусед і сказаў, што заўтра ўзарэ[2]. Мы пакінулі капаць.

Паабедалі, сталі адпачываць. Хутка прыехаў і Вітаўт. Зборка яго з Sec. of Labor[3] прайшла цікава. Была там і Ming [*Шу*] і [*Жорж*] Наумчык.

Вечарам адпачывалі. Нейк усе такія стомленыя.

---

[1] *Звонку абклейвалі вокны пластыкай на зіму, каб не выдзімала.*

*[2] Сусед меў малы трактар і плугі.*

*[3] Паседжаньне Этнічнай Рады разам з Аддзелам працы. У Аддзеле працы была праблема зь неангламоўнымі работнікамі, яны пыталіся: ці Этнічная Рада можа нечым дапамагчы. Наш адказ быў: толькі зрабіць надпісы.*

**Нядзеля 5 красавіка**

Завезла маму ў царкву. Забіраць яе прыехалі з Юрам і заехалі купілі кветак на Вялікдзень (гэта ўжо Юрава традыцыя). Прыехалі й пачалі парадкаваць маліну. Хутка прыйшоў і сусед. Добра ўзараў. Мы адразу-ж пачалі перасаджаваць. Стаміліся, пакалоліся, але шмат зрабілі.

Юра паехаў раней. Мы яшчэ зь В[*ітаўтам*] засталіся. Неяк я гэты раз з мамай мала часу правяла. Як зь некім прыедзеш, то ўвага разьбіваецца.

Выехалі мы з фармы недзе пасьля 4-ай. Добра ехалася. Праўда пачаўся дождж, дык трохі напружана. Але добра для маліны.

Прыехалі яшчэ ня позна, дык і адпачылі.

**Панядзелак 6 красавіка**

Пачала каталягаваць па-новаму. Уся ўвага на гэта.

Вечарам пазванілі Акіншэвічысе. Яна нам званіла раней, як нас ня было. Яна ў паніцы, што нібы ёй пляменьнік сказаў, што пачнецца а 8-ай. Званілі пляменьніку — разабраліся.

Званілі й Тумашу й Падаху[1]. Пачынаецца суета і нейкая непаладка, інтрыгі. Акіншэвічысе не падабаецца таксама, што прыймаюць удзел толькі два інстытуты. Чаму [*Украінскай*] Акадэміі няма? У іх, здаецца, яшчэ горш як у нас з рывалізацыяй. А мы папаліся ўсярэдзіну іхных сварак.

---

*[1] Старшыня Таварыства імя Шаўчэнкі.*

**Аўторак 7 красавіка**

Каталягавала па-новаму. Нічога — выходзіць. Перад абедам пайшла да доктара з пальцам. Гэты раз ён сказаў купіць туфлі на нізкім каблуку, рабіць цёплыя кампрэсы. Сказаў прыйсьці яшчэ за 2 тыдні.

Прыйшла ад доктара ў сталоўку перакусіць, а там — Надзя, Ірэна зь Вітаўтам і Тумашам. Пагаварылі трохі. Ірэна будзе на наступны год — General Chairperson Heritage Ball[1]. Мяне раззлавала, што Вітаўт ужо пачаў скакаць — «Трэба будзе шмат сталоў прадаваць»[2] — ужо ў цялячым настроі. Нешта ён яшчэ сказаў, і я на яго пакрыўдзілася. Ня трэба было так перад імі. Але часам зьбег абставінаў: палец, стамілася, яны ўжо сядзелі — вытварыла нейкае раздражлівае адчуваньне. Ды й В[*ітаўт*] не памагае — заўсёды ўсім кажа: «Не скачы», — а сам як цялё скача.

Пазьней яшчэ схадзілі з Т[*умашам*] на каву. Гаварылі ўсё больш пра акадэмію, [*прысьвечаную памяці*] Акіншэвіча. Т. зрабіў добры касьцяк В. для рэфэрату.

Прыйшлі фатаграфіі з Heritage Ball — вельмі ўдалыя: вялікая, прыгожая група. Вітаўт лічыць, што трэба даць у газэту. Ён трохі нешта напіша, а мяне просіць пераглядзець і падпісаць.

Друкавала «Стэп»[3].

Званіў Шук[*елойць*], каб забраць паясы для выстаўкі. Дамовіліся спаткацца ў чацьвер.

---

[1] *Кіраўніца штогадовага балю.*

[2] *Г. зн. прадаваць білеты дзясяткамі: кожны стол — дзесяць месцаў. Дзеля таго, што кіраўніца была беларуска, трэба было сабраць добра людзей.*

[3] *Акіншэвічава апавяданьне, якое Зора мелася чытаць на акадэміі.*

**Серада 8 красавіка**

Засталася дома. Дома й Вітаўт. Раніцой усё чакалі, што прыедзе чалавек папраўляць T.V. у М[*арыі*] В[*асільеўны*]. Прыехаў ужо па 12-ай. Мы пачалі ўжо нават сварыцца (ужо й ня памятаю, што было зачэпкай), і я ўжо хацела ехаць сама. Як усё наладзілася. Паехалі, купілі мне туфлі. Заехалі у Патэрсон [*на рынак*] — купілі фруктаў, мяса.

Прыйшлі кнігі ад Камкіна. «Жывапіс Беларусі» — цудоўная кніга. Добрыя рэпрадукцыі. Зразумела, добры й «Трыстан». Іншыя — перагледжу пазьней.

Друкавала й сконыла «Стэп». Перарабіла й перадрукавала артыкул пра Баль[1].

Пераглядала бібліяграфію «Бел. лінгвістыкі», добрыя ёсьць артыкулы, што да мовы «Статуту», «Скарыны» і «Трыстана» (сярод іншых літ. твораў XIV—XVIII ст.). Пара кніжак зусім дрэнь.

Званіла Nancy Shatell ад сэнатара Japsen аб 25 сакавіку[2]. Яны выказалі замер старацца аб Голас Амэрыкі для нас. Патрабуюць матар'ялаў. Пашлем.

---

[1] *Heritage Ball.*

[2] *Роджэр Джэпсэн — сэнатар-рэспубліканец ад штату Аява (1979—1984). Зьмясьціў добры даклад аб 25 Сакавіка ў «Кангрэсавых Запісах».*

**Чацьвер 9 красавіка**

Вітаўт пайшоў да Зап[*рудніка*] — занёс артыкул і фатаграфію. Вельмі цікавая была гутарка з Адамовічам[1], каб зрабіць ягоны артыкул пры канцы кніжкі Салаў'я — пасьля вершаў. Гэта шмат што разьвяжа. Па-першае, будзе лепш выглядаць, што такая вялікая частка кнігі Салаўя будзе пачынацца не артыкулам кагось, а Салаўёвымі вершамі. Па-другое, у такім выпадку, ня страшна, што артыкул такі вялікі. Адамовіч ужо, здаецца, сур'ёзна хоча хутчэй скончыць. Я пачала каталягаваць (orig cat) па-новаму[2]. Шмат трэба ўважаць, але неяк цікавей стала. Але затое ўжо ўся ўвага на гэта аддаецца.

Хадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Гаварылі пра выстаўку — і што была ў Binghamton і пра Pennsylvania, што яны з Раяй будуць рабіць.

Шук. усё ўспамінае пра сваю працу ў Музэі ў Менску, пра сваю навуковую працу, неяк усё стараецца вытлумачыць.

Гаварылі й пра царкву. Аддала яму паясы. Ён казаў, што яшчэ, можа, дастане. Паабяцаў мне.

---

[1] *Гэта была далікатная гутарка. Адамовіч паступова схіляўся да пагляду: даць меншы ўступ у кнігу, а потым надрукаваць асобную кнігу пра творчасьць Алеся Салаўя.*

[2] *Зора пачала кампутарнае каталягаваньне. Усе беларускія кнігі, закаталягізаваныя ў аддзеле — original cataloging. У гэтай форме іх каталягізавалі і іншыя бібліятэкі. Пры original cataloging заўсёды стаяць ініцыялы каталягізатара.*

**Пятніца 10 красавіка**

Прыязджаў Юра ў N.Y., каб заладзіць справы ў Мэксыканскім кансулаце. Прыехаў неспадзявана з дзяўчынай. Прынёс мне кветкі. Наагул быў нейкі нарваны. Нічога амаль за цэлы дзень не залагодзіў. Пакінуў паперы ў Кансулаце. Бегаў па грошы да нас.

Прыходзіў Тумаш. Гаварылі пра «Жывапіс» — і ён атрымаў. Добрае ўражаньне і ў яго. Таксама пра публікацыі Булыкі — што ён выглядае, як паважны навуковец. Артыкул, што прыслаў Тамушанскі для «Запісаў», якраз можа выкарыстаць з Булыкі. Гаварылі й пра заўтрашняе сьвяткаваньне-акадэмію Акіншэвіча. Тумаш усё клапоціцца, каб добра выйшла.

Падчыквалі Юру ўсё, але ён не зайшоў да нас.

Дахаты йшла адна — В[*imaўт*] застаўся да 6-ай. У аўтобусе спаткала Юру. Добра выйшла, бо ён меў кару[1] запаркаваную на Orient way[2].

---

[1] *Аўта (car).*

[2] *Вуліца, дзе спыняецца аўтобус.*

**Субота 11 красавіка**

Раніцай зрабіла валасы. Юра купіў сьнеданьне. Пасьнедалі разам. Яшчэ трохі папрацавалі над сваімі прэзэнтацыямі[1]. Я баюся, што пачну зьбівацца, памыляцца. В[*imaўт*] то будзе О.К. Ён заўсёды добра.

Паехалі ў N.Y. а 3-яй. Добра знайшлі паркінг — амаль каля самага [*Украінскага*] Інстытуту. Людзей яшчэ было мала, але арганізатары былі. Была й Акіншэвічыха з сынам. Патрохі зьбіраліся. Прыйшло нямала й нашых. Я неяк не хвалявалася, дык пачала ўжо хвалявацца, што не хвалююся. Але ўсё выйшла добра. Мы добра зарэпрэзэнтаваліся. Адно Адамовіч пачаў гаварыць па-ўкраінску, дык нашым людзям не спадабалася. І В[*imaўтаў*] рэфэрат і маё чытаньне добра пайшло. Добры быў і пачастунак. Назад везьлі Васіля пад аўтобус. Яны ўсё пра царкоўныя справы клапоцяцца — былі там і [*А.*] Міцкевіч і Ул. Русак. Юра паехаў у New Br[*unswick*].

---

[1] *На дзень ушанаваньня памяці Льва Акіншэвіча.*

### Нядзеля 12 красавіка

Пасьнедалі самі. М[*арыя*] В[*асільеўна*] паехала ў царкву з Жамойдам (узялі нашую машыну). Юры яшчэ няма з New Br[*unswick*]. Слухалі [*беларускія*] плёнкі з Аўстралійскага радыё. Як толькі Юра прыехаў, пачалі зьбірацца на зборку PLASMA (бацькі студэнтаў мэд. школаў замежных)[1]. Адразу пачалася суета, бо Юра недзе пазваніў і даведаўся, што пачынаецца раней. Сьпешна паехалі — В[*ітаўт*] пачаў злавацца яшчэ дома, а ў дарозе зусім разышоўся. Прыехалі туды — там яшчэ нікога няма. Пачынаецца праз ½ гадзіны. Тут ужо В. выйшаў зь сябе. Паехалі назад дахаты. Цэлую дарогу сварыліся. Спусьцілі В. — думалі ехаць самі назад. Разнэрваваліся. Расплакаўся й Юра, й я. Але рашылі ўсё-ж, каб В. ехаў з намі. Цэлую дарогу маўчаў, але паехаў. Зборка аказалася вельмі цікавай. Настрой паступова палепшаў. Але ўжо пляма засталася, і Юра ўзнэрваваўся, й мы. Вечар прайшоў больш-менш спакойна.

---

*[1] PLASMA (Parents League of Americans Studying Medicine Abroad). Арганізацыя бацькоў студэнтаў-мэдыкаў у замежных унівэрсытэтах. Бацькі знаёмыя міжсобку. Кіраўнік арганізацыі — ведамы амэрыканскі хірург — сказаў прамову гэткага зьместу: «Мы, амэрыканскія дактары, вельмі прыхільна ставімся да студэнтаў-мэдыкаў замежных школаў. Мае два сыны вучацца ў Падуі. Майце на ўвазе, што ўсе мэдычныя школы сьвету вучаць аднаму — лячыць чалавека. Можа, у нас у Амэрыцы больш тэхнікі пры лячэньні, але затое замежныя школы могуць ведаць больш народнае мэдыцыны, больш вывучаць біялёгію чалавека. Вашы дзеці, стаўшы дактарамі ў іншых краінах, прыехаўшы ў Амэрыку, нешта дададуць і да мэдыцыны амэрыканскае». Прамова была глыбокая і зьмястоўная.*

### Панядзелак 13 красавіка

Цяпер, як пачаўся наш новы каталёгінг, я вельмі мала раблю для сябе на рабоце. Дні праходзяць за працай.

Вечарам былі лісты ад Каханоўскіх: і ад І. Ів.[2] і ад яго. Дзякуюць за «Запісы». І. Ів. перашле артыкул свой пра Коласа. Ках. перашле свае кніжкі.

Адпісала Joann'е. Падзяквала за ўсё, што яна прысылала — ўжо разам. Нарэшце адаслала ёй і газэту[3].

---

*[1] Каталягізацыя паводле новай сыстэмы.*

*[2] Іна Іванаўна Рытэр-Каханоўская, жонка Аўгена Каханоўскага (Калубовіча).*

*[3] «Беларус» з рэпартажам пра выстаўку.*

### Аўторак 14 красавіка

Раніцай пазваніла Тамара [*Стагановіч*]. Дамовіліся спаткацца ў абед. Пагаварылі трохі — найбольш пра царкву. З ейнай беларускай сказкай, мусіць, нічога ня выйдзе — будзе шукаць другога выдаўца.

З Тумашам гаварылі пра акадэмію — нічога не казаў. Неяк ён дзіўна захоўваецца. Але, здаецца, задаволены. Прынесла яму бібліяграфію мовазнаўства. Ён усе гэтыя артыкулы пра Скарыну мае. Кніжку сам выпіша. Гаварылі пра акадэмію для Сядуры — недзе ў маі.

Вечарам пазваніў Дзядзя Ваня. Галоўна, каб прывезьлі калбасу. Гэта мне адразу вырашыла маё ваганьне, ці ехаць да мамы на Вялікдзень. Мне вельмі хацелася паехаць, але я ўсё не магла наважыцца.

Пазваніла да мамы. Яна адразу ж сказала, што на памінальную нядзелю яна не зьбіраецца ехаць. Я ёй сказала тады, што прыеду да яе на Вялікдзень. Надта-ж яна была радая.

Пазьней яшчэ апісала колькі кніжак для каталёгу [*БІНіМу*]. Слаба йдзе праца вечарам. І Віт[*аўт*] заўважыў ужо, што цяжка сябе заставіць працаваць. Стамляемся!

**Серада 15 красавіка**

Сяньня палучка. Хадзілі ў банк, хутка заладзілі. У абед хадзіла паглядзець сабе нешта. Нічога ня купіла, адно прыцанілася да валізачкі Вітаўту. Так выглядае, што трэба купляць тую, што бачыла за $50. Ballarine перагледзела анатацыі для каталёгу. Неяк слаба йдзе, усё адкладаецца. Трэба сябе ўзяць у рукі й зрабіць — і забыцца.

Юра спаткаў нас каля аўтобусу. Аддаў рэшту грошай за срэбны падарунак.

Вечарам думала рабіць (канчаць) анатацыі для каталёгу, аднак нічога не рабілася.

**Чацьвер 16 красавіка**

Укінулі запросіны на вясельле Цупрыкавых і Арцюшэнкаў. Паедзем.

Куравецкі прынёс калбасы. Пахне на цэлы сьвет! Вітаўт хадзіў да Зап[*рудніка*]. Адамовіч хоча нейкі артыкул пра Салаўя з «Беларуса» і дэфініцыю «гневу».

Пасьля працы спаткаліся з Томам Bird. Перадала яму кніжачку пра этнаграфію й колькі бібліяграфіяў этнографаў (Карскага, Доўнар-Запольскага, Раманава, Сяржпутоўскага й Федароўскага). Ён прынёс папраўленыя артыкулы. «Запісы-Канфэрэнцыя» ўжо амаль гатовыя да друку — яшчэ толькі пару артыкулаў бракуе[1]. Гаварылі шмат пра рэлігію, пра Папу, пра Кэры[2], пра палітыку — ён лічыць, што цяперашняй адміністрацыяй патроху пачынае ўплываць-кіраваць Ніксан праз Haig, Bush і Кісэнджэра. Добра правялі з гадзінку[3].

Дома трохі папарадкавала, бо Юра меўся прыйсьці з хлопцамі пасьля працы.

---

[1] *Рыхтаваўся 17-ты выпуск «Запісаў».*

[2] *Дэмакрат Г'ю Кэры (Hugh Carey) — губэрнатар штату Нью Ёрк (1975—1982).*

[3] *З Томам Бэрдам мы часта абмяркоўвалі амэрыканскую палітыку, асабліва тыя яе аспэкты, што датычылі дапамогі навучальным установам.*

**Пятніца 17 красавіка**

У абед хадзіла тое-сёе купіць. Нічога надта ня купіла — толькі дробязі ў танным магазыне.

Званіла Алеся, каб дагаварыцца, калі прыедзе. У яе ўсё добра.

Вырашылі, што прыляціць у пятніцу вечарам, а ад'едзе ў нядзелю а 5-ай.

З Тумашам пайшлі на каву. Паказваў ён ліст ад Зоські Верас. Яна, хоць ужо зусім старэнькая, але цікавіцца й рэагуе на ўсё. Пыталася больш пра Амэрыканскую дапамогу ў 20-х гадох[1], пра Чарапука. Паказваў Т[*умаш*] і ліст ад Нікана[2] — той усё клапоціцца пра [*кнігу*] Салаўя. Гаворачы аб Салаўю, — Адамовіч, здаецца, ужо ўзяўся, — хоча хутчэй скончыць. Дай Божа! Гаварылі й пра Сядуру, ягоны рэфэрат і акадэмію[3]. Правізарычна пастанавілі на 16 траўня.

Вечарам, як толькі сабралася, паехала да мамы. Юра паехаў на пробу танцаў. Ехалася добра. У мамы таксама ўсё добра. Павячэралі, адпачывалі.

---

[1] *Пра амэрыканскую дапамогу З.Верас падала пару дэталяў і для Алесі, якая ў гэтым спэцыялізавалася.*

[2] *Мікола Нікан з Аўстраліі.*

[3] *Прысьвечаныя дзейнасьці і творчасьці Уладзімера Сядуры.*

**Субота 18 красавіка**

Раніцай пачалі сьвяточнае печыва й варэньне. Зрабілі булачкі, мяса. Упарадкаваліся й паехалі трохі праехацца, купіць тое-сёе.

Пад вечар паехала да Нядзьвігаў. Завезла ім калбасу. Яны далі кулічоў, сялёдкі, яек для мамы. Пасядзела трохі зь імі, запісала рэцэпты на кулічы. Пазваніла да Нічык[1], папрасіла яшчэ патрымаць сярмягу. Брат Д[*зядзі*] В[*ані*] чуецца добра. Паслалі ўжо яны колькі пасылак дадому. У іх, як заўсёды, балаган, няўтульна.

Вечарам адпачывалі, глядзелі T.V. Прыемна, спакойна.

---

[1] *Нічык — беларуска, якая дала сякія-такія рэчы на выстаўку тэкстыляў.*

**Нядзеля 19 красавіка, Вялікдзень**

Схадзілі раніцай у царкву з мамай. Прыехалі, разгавеліся. Пагода прыгожая. Я села трохі на сонца і пішу дзёньнік. Пазваніў Шук[*елойць*] да мамы — прывітаць са сьвятамі. На выстаўцы было добра, казаў.

Неяк ужо не сядзіцца. Мусіць, буду патроху зьбірацца ды паеду. Добра, што прыехала, але неяк не спакойна, як дома. Шукала газэту для Адамовіча.

Выехала недзе а 2-ой. Ехалася добра, але дома, як прыехала, — балаган. Юры няма. Вітаўт злуецца, што Юры за гэтыя дні й ня бачыў.

Як прыйшоў Юра — пагаварылі. Ён расказаў свой бок. В[*ітаўт*] спаў увесь час. Юра быў і дома, і хадзіў на працу й на First Aid. Адным словам — брак камунікацыі, хоць Юра й запісачкі пакідаў. Вітаўта нешта ўкалола. Можа, проста было сумна. Неяк дагаварыліся, памірыліся, але настрой усё роўна быў цэлы вечар напружаны. Дзень, які пачаўся прыемна, — быў сапсуты.

Званіла Адамовічу пра [*кнігу*] Салаўя. Ён наблытаў нумарацыю, але ня хоча прызнацца — кажа, што ў друку так.

**Панядзелак 20 красавіка**

Раніцай паглядзела Congress. Records[1], што было пісана пра 25 Сакавіка. Знайшла даволі шмат. Вітаўт прывёў да мяне наверх дачку д-ра Занковіча[2] — прыйшла ў бібл[*іятэку*]. Яна тут вучыцца, робіць дактарат у N.Y.U. з гісторыі мастацтва. Прыемная дзяўчынка.

Юра ў N.Y. — залатвяе свае справы са школай [*у Мэксыцы*]. Прыйшоў зрабіць копіі. Выглядае, што ўсё ўжо пайшло гладка. Настрой ва ўсіх папраўляецца.

Але паўстала новая праблема. Хацелі праверыць, як у друку ў бібліяграфіі гэтая Салаўёва зноска — аж арыгіналу у В[*ітаўта*] няма. Стаў ён званіць Тумашу. Т. — ня мае. Пасьля я ўспомніла, што, мусіць, ён дома (бо я зьбіралася некалі правіць гады й старонкі). Званілі маці, каб паглядзела. Усё нэрвы, напружанасьць. Нарэшце дазваніліся — друкаваны арыгінал, набор дома. Усё ў парадку.

Званілі Зап[*рудніку*], каб сказаць пра Cong[*ressional*] Record. Пагаварыла і з Адамовічам. Ён усё яшчэ брыкаецца: «Стаіць як бык» — стаіць то стаіць, але ня тое, што ён даваў. Але добра, што памылкі ў друку няма. Пазванілі назад Т[*умашу*] — сказаць, што ўсё ў парадку, набор знайшоўся.

В[*ітаўт*] пазьней пайшоў у Радыё перадаць Cong. Rec. і забраў кніжкі, што прыслаў Адамовічу Сакрат Яновіч для бібліятэкі. Юрачка спаткаў мяне на аўтобуснай астаноўцы. Добра, бо [redacted] была з пакупкамі (купіла вялікодных шакалядаў).

Дома быў ліст ад Sen. Jepsen[3] (копія ліста да Шук[*елойця*]), што [redacted] абяцала прыслаць матар'ял для іхнага ходаньня аб «Голасу Амэрыкі» для нас.

Званіла Галіна — прыйшлі фатаграфіі з Трэнтану. Прасіла, каб дапамаглі ёй з выстаўкай у Douglas[4].

---

*[1] Congressional Record — Кангрэсавыя Запісы, афіцыйная публікацыя тэкстаў паседжаньняў, слуханьняў і дэбатаў Кангрэсу.*

*[2] Наш сябар зь Лювэну, доктар мэдыцыны, працаваў у Чыкага.*

*[3] Сэнатар Джэпсэн надрукаваў вялікі ліст за Зорыным подпісам.*

*[4] Даглас-Коледж — частка Ратгерскага ўнівэрсытэту, знаходзіцца ў горадзе Нью Брансуіку.*

**Аўторак 21 красавіка**

В[*ітаўт*] сёньня дома. Паедзе ў Трэнтан, на зборку Ethnic Council. Юра паедзе ў New Br. заладзіць справы з чэкам сваім. Заехаў да Галіны забраў фатаграфіі з Трэнтану з абвешчаньня 25 Сак. Выйшлі добра. Казаў, што як ехаў па дарозе — убачыў машыну губэрнатара з... двума падушкамі[1].

Хадзіла да доктара з пальцам. Выглядае, што ўжо загаіўся — ужо больш ня трэба прыходзіць, але трохі яшчэ сьцерагчыся — забінтоў-

ваць пальцы яшчэ які месяц. Прыцанілася з багажом для Алесі й валізачкі для В[*італўта*] і для сябе.

З Т[*умашам*] хадзіла на каву. Расказала яму пра цэлую гісторыю з Адамовічам, артыкулам, газэтай, бібліяграфіяй і цэлым спалохам, дзе арыгінал набору. Таксама, што Прускі дае «Мёртвым не баліць» для Інстытуту па $7 і што выдрукуе уступную старонку. Т. нeяк неахвотна, але ўзяўся зрабіць. Гаварылі яшчэ пра слоўнікі бел[*арускія*], што цяпер так шмат выходзіць у Менску, што [redacted] баюся, каб не празяваць чаго. Ён перадаў мне кнігу польскую, дзе ёсьць артыкул пра звычаёвае права й сужэнства для В. для бібліяграфіі Статуту[2]. [redacted] яму зазначыла, што гэты артыкул важны для мяне. Неяк мяне зьдзівіла й непрыемна ўразіла, што ён пра гэта не падумаў, ці забыўся, ці ня лічыць важным. Трохі пакрыўдзіла мяне гэта. Рабіла трохі хегох артыкулу — ён даўгі.

Вечарам чуць не паўстала сварка з-за артыкулу пра [*сьвяткаваньне ў*] Трэнтан[*е*]. Віт[*аўт*] напісаў і хацеў, каб пайшло ад мяне. Я не зусім згадзілася аб тым, як ён напісаў. Ён тады надуўся, парваў артыкул. Я склеіла, перачытала й сказала яму, што перараблю, толькі ня сёньня — было ўжо каля 10-ай.

В. гаварыў з Галінай па тэлефоне — у іх там быў суд ці слуханьне. Ёсьць добрая нагода купіць дом для царквы. Адвакат рае купляць — толькі каб цэлы прыход пастанавіў, ды дастаць дазвол ад судзьдзі.

---

*[1] Падушкі губэрнатар вазіў некалькі гадоў.*

*[2] Я ўкладаў бібліяграфію найбольш важных англамоўных і беларускіх працаў пра Статут. Бібліяграфія гэтая так і засталася ў форме картатэкі.*

### Серада 22 красавіка

Раніцай зайшлі ў банк, каб прадоўжыць «certificate»[1]. Чуць не пасварыліся, фактычна пасварыліся, з службоўкай. Але ўсё залагодзілі. В[*італўт*] званіў Зап[*руднiку*]. Артыкул ужо запозна. Цудоўна! Да наступнага нумару напішу спакойна, добра.

На каву хадзілі з Кудайбэргэнам[2]. Ён прыехаў зь Мюнхэну. Расказваў пра іхныя там праблемы, інтрыгі. Казаў, што ў яго было такое ўражаньне, што В. прапанавалі на працу і ён адмовіўся[3]. Мы так пачалі разважаць, што можа варта й падумаць. Плата значна вышэйшая, пажылі-б у Эўропе, пакарысталіся-б бібліятэкамі.

Паслаў В. пакет Sen. Jepsen пра «Голас Ам.». Віт. добра ўклаў ліст, сабраў матар'ял[4]. Я зрабіла яшчэ колькі старонак хегох з артыкулу пра «статут — сужэнства».

Юрачка рабіў каля хаты — пасыпаў вапнай двор. Настрой у яго добры.

Вечарам нічагусенькі не рабіла. В[*італўт*] дык хоць трохі нешта працуе.

---

*[1] Банкаўская дамова аб тэрміне трыманьня грошай у банку.*

*[2] Кудайбэрген Каджамбэрдыеў (Азамат Алтай) — адна з найяскравейшых постацяў кіргізскай эміграцыі, вэтэран «Радыё Свабода», мой знаёмы ад 1959 году.*

*[3] Нейкае непаразуменьне — ніякай прапановы я не атрымлівала.*

*[4] Ліст сэнатару Джэпсэну зь беларускімі матэрыяламі-аргумэнтамі на карысьць улучэньня ў праграмы «Голасу Амэрыкі» беларускай мовы.*

**Чацьвер 23 красавіка**

Раніцай мне добрая думка прыйшла, што вазьму пятніцу вольную й трохі папарадкуюся, бо мяне ўжо гэта турбавала, як я спраўлюся. Неяк адразу настрой паправіўся. Юра з бабкай езьдзілі па закупы.

Званіла у 4-Cont[*inents*], даведацца ці маюць 1-ы том Слоўніка бел. гаворак. Перакідалі мяне ад аднаго да другога, але нарэшце дабілася, што маюць. Рашыла пайсьці й адразу-ж купіць. Пачаўся дождж, але я наважылася йсьці. Купіла абодва тамы, каб ужо быць пэўнай. Выйшла са зьніжкай (для бібліятэкі) нават танней чымся было-б у Камкіна. Вельмі радая. Слоўнік добры.

**Пятніца 24 красавіка**

Засталася дома, каб парадкавацца. Зраньня пачала трохі прыбіраць. Пазьней паехалі па закупы. Перш у Paterson. Па дарозе заехалі па мак — зачынена. Мы ўжо былі спужаліся. У Патэрсоне накуплялі мяса, фруктаў. Патраціліся. Заехалі зноў па мак — цяпер магазын быў адчынены. Паехалі ў «Basic» у Garfield. Дакупілі ўсяго іншага — тварог і інш. для пасхі, усякую дробязь, паперу. Зноў выдаткаваліся. Я прыбірала. Юра недзе у First Aid[1].

Пазваніла Дутку, каб прыехаў забраў падушкі Капуры. Свае рэчы ён пакінуў мне. Мусіць ужо так і застануцца мне, г. зн. для музэю некалі.

Юра купіў Pizza на вячэру. Добра павячэралі. Я здорава стамілася за цэлы дзень. Вітаўт паехаў спатыкаць Алесю. Пагаварылі яшчэ з Алесяй даволі позна. Прыйшоў і Юрачка.

У Алесі ўсё добра. Яна маладзец.

---

*[1] Дзяжурыць на хуткай дапамозе.*

**Субота 25 красавіка**

Раніцай пазванілі Нэстарам, прывіталі Вітаўта [*Нэстара*] з днём народзінаў. Дамовіліся на 10 траўня да нас.

Пасьнедалі й пачалі парадкавацца. Я ўжо была зьбіралася ісьці рабіць валасы, як пазваніла Ballarine з вельмі прыкрай весткай — Krupp[1] меў страшэнны выпадак — цягнік адрэзаў яму абедзьве нагі. Мы ўсе вельмі расстроіліся й цэлы дзень былі пад гэтым цяжкім уражаньнем.

Вітаўт паехаў памагаць з выстаўкай у Douglas College. Зьмерзьлі там страшэнна, але людзей, кажуць, было даволі шмат[2].

Мы цэлы дзень варылі, пяклі, фарбавалі, цёрлі. Адным словам — рыхтаваліся да Вялікадня. Дзеці добра дапамагалі. Было прыемна, працавіта. Юра прынёс кветкі.

Алеся пазьней паехала да Надзін. А ўжо позна вечарам паехалі зь Юрачкам у N[ew] Br[unswick] на Усенашную. Прыехалі пасьля 4-ай.

---

[1] *Робэрт Круп — загадчык навуковага аддзелу бібліятэкі. Папаў пад цягнік.*
[2] *Выстаўка-кірмаш на двары ў Даглас-Коледжы ў Нью Брансуіку. Мы там раздалі шмат інфармацыйнай літаратуры пра Беларусь.*

**Нядзеля 26 красавіка, Вялікдзень**

Раніцай далі дзецям добра паспаць. Сама я парадкавалася, даканчвала, што яшчэ трэба варыць, трохі яшчэ прыгарнула тое-сёе. Паставіла ўсё на стол. Багата!

Ball.[1] прыехала пасьля 11-ай. Прывезла кветкі — традыцыйныя азаліі. Чакалі яшчэ трохі на Дэніс[2]. Яна прынесла торцік, які сама сьпякла (мусіць канчала, бо быў яшчэ цёплы). Селі за стол. Усё было смачнае, усяго было шмат. Добра паелі. Гаварылі за сталом шмат аб чым, але што ні раз, то варочалася гутарка на Krupp'a, на ягоны нешчасьлівы выпадак. Вельмі прыкра.

Пазваніў Спэрлінг[3]. Ніхто ня ведае дакладна, як усё сталася. Інакш кажуць ня лічаць патрэбным шмат гаварыць — дзеля іншурансаў?

Схадзілі з Ball. паглядзелі новыя дамы, што каля рэчкі пабудаваліся[4]. Прыгожыя, але вельмі дарагія (у 120—130 тысячах). Дзеці яшчэ недзе езьдзілі купляць. Павезьлі Алесю на аэрадром — сьпешна, як у Алесі заўсёды. Але пасьпела. Прыехалі дахаты і нарэшце самі, адны — трохі адпачыць можна. Вітаўт, праўда, хутка пачаў званіць па цэлай Амэрыцы — зьбіраць дэлегатаў і прадстаўнікоў на рэспубліканскі зьезд. Званіў Шукелойцю — заўтра спаткаемся.

---

[1] *Наша сяброўка Кацярына Балерыні.*
[2] *Наша сяброўка.*
[3] *Боб Спэрлінг — калега-бібліятэкар, блізкі сябра Крупа. Сказаў, што ніхто дакладна ня ведае, як сталася з Крупам, дый гаварыць шмат ня трэба. Бо нехта нешта ляпне, а страхавыя агенты падхопяць і перакруцяць на свой лад.*
[4] *Непадалёк ад нашай хаты.*

**Панядзелак 27 красавіка**

Прынесла [*велікодную*] макаўку на работу. Усім, як заўсёды, спадабалася.

Усе гавораць пра Krupp — усе вельмі ўражаныя.

Вітаўт меўся паехаць да яго ў шпіталь, але нешта ня выйшла — паедзе заўтра.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Прынёс лісты, пошту. Нічога цікавага. Ліст ад Sen[*ator*] Jepsen, копію якога я ўжо маю. Часопіс украінскіх жанчын. Гаварыў пра фільм[1]. Надта ён фільмам захапіўся. Добра. Можа што й выйдзе. Зрабіць добры прафэсійны фільм пра Беларусь на якіх 30 хвілін.

---

[1] *У часопісе была здымка пра беларускую царкву. Фільм: Шукелойць сказаў,*

*што ёсьць амэрыканцы-аматары, якія могуць зрабіць інфармацыйны фільм пра Беларусь.*

**Аўторак 28 красавіка**

У абед хадзіла ў магазын. Нічога цікавага ня купіла. Зайшлася выпіць каву. В[*ітаўт*] з Тум[*ашам*] былі ў кафэтэрыі. Пагаварылі трохі. Тумаш прынёс «Песьню пра Зубра» Гусавяніна. Добра выдадзеная, прыемная, карысная кніга. Вельмі ўсьцешыла. Трэба не прапусьціць.

Вітаўт паехаў раней — да Крупа ў шпіталь. Прыехаў ня позна. Krupp маецца ня блага, прыймаючы пад увагу ўсю трагэдыю яго палажэньня. Яшчэ ня зусім, мусіць, усьведамляе, што сталася[1].

---

[1] *Круп шмат не расказваў пра здарэньне.*

**Серада 29 красавіка**

Усе пытаюцца пра Kruppa. З усімі трэба гаварыць. У Sci & Tech.[1] усё ідзе нармальна. В[*ітаўт*] больш часу аддае бібліятэцы цяпер.

Прыходзіў зноў Шук[*елойць*]. Зноў прынёс нейкія лісты. Перадала яму чэк для Юлі. Ён мне перадаў ад Юлі рэцэпт на картафляную салатку. Гаварылі зноў пра фільм.

Прыйшоў Том [*Бэрд*]. Прынёс артыкул McMillin'а пра бел. мову з манаграфіі пра славянскія літаратурныя мовы. Добры артыкул. Пайшлі зь ім на каву. Пагаварылі трохі — пра артыкул, пра Ірляндыю.

---

[1] *Навуковы аддзел, дзе Круп быў загадчыкам.*

**Чацьвер 30 красавіка**

Атрымалі грошы. У банку вазіліся доўга з маім подпісам. Думаю, што гэтым разам залагодзяць.

Купіла В[*ітаўту*] тэчку. Добра ўдалося — танна. Нагледзела там і сабе.

На каву хадзілі з Foxam. Гаварылі, зразумела, пра Kruppa.

В. паехаў з М[*арыі*] В[*асільеўны*] аглядзець магілкі. Агледзелі, падсыпалі каменьчыкаў.

**Пятніца 1 траўня**

Тумаш прынёс 4-ты том тлумачальнага слоўніка. Казаў, што атрымаў другі том Этымалягічнага слоўніка. Трэба мне неяк дастаць. І яшчэ трэба ўважаць на Слоўнік гістарычны. Я, дык, у нейкую паніку ўвайшла, каб хаця не прапусьціць чаго. Паказала яму артыкул пра мову. Дыскутавалі трохі пра гэта. Вітаўта нешта раззлавала, пачаў чапляцца да словаў, фразаў. Артыкул зусім добра напісаны, наш пункт гледжаньня адлюстроўвае. Не разумею, чаго чапляцца.

Юра паехаў на пробу танцаў. Мы спакойна адпачывалі.

**Субота 2 траўня**

Рана схадзіла зрабіць валасы. Купіла на сьнеданьне. Пасьнедалі й паехалі ў Polish Institute на канфэрэнцыю. Яны побач са сваёй га-

давой канфэр[*энцыяй*] наладзілі panel[1] аб супольна ўсходне-эўрапэйскім акадэмічным супрацоўніцтве. Было даволі добра. Акрамя нас, былі ўкраінцы, «чэхаславакі».

Па абедзе мусіла быць у Украінскім Інстытуце акадэмія Шэўчэнказнаўства. Там мусіў быць Тумаш, але ён папрасіў прыйсьці [redacted] нас. Было яшчэ рана, дык мы паехалі назад дахаты. Трохі агледзеліся й... зноў у Нью Ёрк. Толькі мы так можам.

---

[1] *Сэкцыю канфэрэнцыі.*

**Нядзеля 3 траўня, Памінальная нядзеля**

Раніцай прыемна пасьнедалі й паехалі ў цэрквы: я зь Юрам у Highland P[*ark*], а В[*ітаўт*] з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*] у South River. Людзей у царкве было менш як звычайна. «Пратэстуючая» частка з абодвух цэркваў былі на могілках учора.

Мы зь Юрачкам яшчэ шукалі, каб купіць фруктаў для Кгupp. Не знайшлі, усё зачынена. Прыехалі на магілкі раней за Вітаўта. Яны гэтым разам затрымаліся, але пасьпелі яшчэ. Асьвячалі помнік Родзькам. На могілках сабралася трохі людзей. Пагода была цудоўная. Было даволі прыемна, радасна — не як на могілках. Мы паставілі на папіну магілку букет, паклалі яечкі. Стомаў ня было.

Пасьля могілкаў паехалі да Кгupp у шпіталь. Юра з М. В. — дахаты.

Круп маецца лепей — сядзеў. Відавочна, што ўжо не даюць яму так шмат лекаў. Ён ужо амаль сам свой: трохі нэрвовы, трохі нецярплівы. Нашая прысутнасьць, мне так здалося, яго цягаціла. Нічым ён не цікавіцца бібліятэчным. Выйшлі з вельмі прыгнечаным настроем. Фізычна ён моцны. Стараецца трымацца моцна, але як ён усярэдзіне чуецца цяжка сказаць[1].

Вечар так неяк і прайшоў: то ўспомніш пра яго, пра яго стан, то йзноў забудзешся. Званіла маме.

---

[1] *Пазьней яму зрабілі пратэзы. Быў судовы працэс — пра гэта мала гаварылася. Круп нейкую суму ад чыгункі атрымаў у якасьці адшкадаваньня, але ў бібліятэку больш не вярнуўся.*

**Панядзелак 4 траўня**

Селі на паважную дыету. Апошнім часам шмат прыбавілі, хоць я перад сьвятамі й вельмі ўважала.

У абед здала фільм[1]. Хадзіла паглядзець сабе туфлі. Нічога цікавага ня ўбачыла.

Вечарамі нічога не раблю. Праўда, і сярод дня цяпер нешта нічога ня робіцца. Дрэнь справа. Можа, гэта толькі часовая зьява.

---

[1] *Праявіць фотастужку.*

**Аўторак 5 траўня**

Раніцай пазваніла дэнтысту — дамовілася на сераду.

Званілі ад Sen. Jepsen. Не маглі доўга да мяне дазваніцца — з тэлефонамі новымі зусім дрэнь цяпер. Яны разглядаюць цяпер дакумэнты для Голасу Амэрыкі. Добра, каб што выйшла.

Тумаш хоча мець цэлую кніжку пра славянскія мовы, каб прачытаць іншыя артыкулы. У біб[*ліятэцы*] мы яе яшчэ ня маем. Папрасіла Лізу заказаць.

Прыходзіў Зап[*руднік*] пагаварыць з Тумашам. Прынёс ад Олі карэньне канаў[1]. Мусіць, яна ўжо лепш чуецца, калі пачала цікавіцца кветкамі. Дай Божа!

З Тум[*ашам*] гаварылі й пра Украінскую акадэмію. І ён такой думкі, што было гэта трохі штучна, перагнута.

Забрала фільм. Тыя здымкі, што на фарме й што лямпачка запалілася — добрыя. Нешта трэба паглядзець з лямпкай.

Вечарам званіў Д[*зядзя*] В[*аня*] — усё яшчэ няма грошай зь Бэльгіі. Званіў [*Алесь*] Міцкевіч — кажа, што ў царкве зусім дрэнь: ніхто ня прыходзіць, а. Войтэнка ўжо 2 тыдні як ня служыць. Адвакат раіць, каб людзі хадзілі ў царкву. Суд адкладзены.

Званіла Рая, таксама сказала, што суд адкладзены. Між іншага, праз яе з Вашынгтону даведаліся В[*ітаўтаў*] тэлефон і дазваніліся нарэшце да нас.

Я зноў цэлы вечар праспала. Проста ня дам рады, што мяне так стамляе. І вітаміны пачала прыймаць.

---

[1] *Кветкі.*

**Серада 6 траўня**

На каву пайшла сама й пішу дзёньнік. Вітаўт недзе мае біб[*ліятэчныя*] справы. Цяпер ён мае значна больш абавязкаў[1]. Хадзіла ў пэрсанэл[2] наконта дадатковага Master. Яны пераглядаюць. Можа, што й будзе[3].

Пайшла дахаты раней — маю спатканьне з дэнтыстам назначанае на 5:45. Якраз справілася. Ён толькі паглядзеў — інфэкцыя дзёснаў. Прыпісаў пініцыліну. Узяў $10, і за 5 хвілінаў я ўжо была назад дома. Схадзіла ў аптэку. Юрачка да дэнтыста спазьніўся. Вітаўт затрымаўся. Мы павячэралі зь Юрам самы.

---

[1] *Мусіў рабіць за Крупа і за сябе.*

[2] *Аддзел кадраў.*

[3] *Прыйшло штатнае распараджэньне — усім, хто мае магістарскі тытул зь іншае галіны, г. зн. дадатковы дыплём — будзе падвышка ў зарплаце. Але тыя дыплёмы трэба «заверыць» у адпаведных аддзелах асьветы.*

**Чацьвер 7 траўня**

Раніцай паехалі на машыне зь Юрам. Ён не пайшоў на працу — мае

залагодзіць у [*мэксыканскім*] кансулаце з пашпартам. Я забылася ўзяць Лювэнскія дыплёмы. Вярнуліся ўжо з дарогі. Юрачка нейкі нецярплівы. Хоча хутчэй справіцца ды мусіць недзе ехаць.

Юра ў кансулаце справіўся за пару хвілінаў. Так што й паркінг у бібліятэцы можна было-б ня браць[1]. Ён хуценька паехаў (нейкі нэрвовы), а мы зь Вітаўтам схадзілі на каву.

Схадзіла з дыплёмамі ў personnel. Яны зьнялі копіі. Трэба выпісаць чэк на $25 і нейкая арганізацыя будзе рабіць эвалюацыю. Дай Божа, каб выйшла[2].

Юра залагодзіў яшчэ з машынай сваёй. Прыцаніўся, колькі будзе каштаваць пачыніць. Цяпер трэба з іншурансам[3] залагодзіць.

Званіла сп-ня Нюра Р[*усак*]. Мае для мяне яшчэ нейкія рэчы. Заўтра ў абед спаткаемся. Пазваніла я Олі [*Запруднік*]. Дамовіліся, што яны прыедуць да нас 31 траўня.

---

[1] *Мэксыканскі кансулят знаходзіўся каля самай бібліятэкі.*

[2] *Зора занесла ў аддзел кадраў лювэнскія дыплёмы. Нейкая арганізацыя мелася даць ім ацэнку.*

[3] *Страхоўкай.*

**Пятніца 8 траўня**

Паказалі мне (са славянскага аддзелу) вельмі прыгожае выданьне Купалавай «Я й Яна». У абед спаткаліся з Русачыхай. Яна прынесла палатно, падушачку, ляльку з ільна і... падарунак мне на дзень маткі — адрэз вышываны на сукенку. Вельмі прыгожая, дэлікатная вышыўка, зь мярэжкай на шэранькім палатне. Вельмі-ж мяне гэта рашчуліла. Якая яна мілая. Схадзілі зь ёй на каву. А пазьней зайшлі ў 4-continents. Купілі толькі яшчэ 2 анталёгіі Mayo[1]. Занесла чэк у Personnel[2]. Паведамяць, як атрымаюць адказ.

З Тумашам гаварылі пра Купалава «Яна й Я» — гэта, аказваецца, кантравэрзыйнае выданьне — былі ў сав. прэсе крытыкі, што задорага каштуе, малы тыраж, цана нізкая. Адным словам, убытковае выданьне. Гаварылі яшчэ пра вечар Веры Рыч у суботу. Мы ня зможам быць. Сядуру нібы мяркуецца на 30-га траўня.

Юра паехаў на рэпэтыцыю танцаў адразу з працы. Пазваніў адтуль ужо. Вось ён маладзец — уважлівы.

---

[1] *Пераклады беларускай паэзіі.*

[2] *Аддзел кадраў.*

**Субота 9 траўня**

Вітаўт раніцай зь Юрачкам пачалі касіць траву. Я трохі парадкавалася. Схадзіла зрабіць валасы. Зрабіла закупкі. Прыехала распакавалася й паехалі зь Вітаўтам у Paterson па фрукты. Юра працуе у swimming pool.

Сабраліся й паехалі на вясельле. Там было даволі добра. Вітаўт

піў зусім мала, але трохі неяк мне ягоная канвэрсацыя за сталом не падабалася — надта-ж ужо шмат наракаў на жонак, жанчын. Мы сядзелі з Бахарамі, Літаровічамі, Ірэна. Кампанія была даволі прыемная. Усе былі відавочна задаволеныя, што мы прыйшлі.

Дагаварыліся зь Лізай [*Літаровіч*], што яна пашые мне сукенку з бел. купону. Выехалі ня позна, але па дарозе папалі ў трафік — нейкі выпадак быў. Прыехалі ўжо пасьля 12-ай. Трохі стаміліся, трохі, можа, Вітаўта разьвязло (у яго цяпер так бывае — ад невялікай колькасьці і пазьней), — адным словам, перагаварылі. Спаць леглі пасвараныя. Я доўга не магла заснуць.

**Нядзеля 10 траўня, Дзень Маткі**

Раніцай яшчэ было такое горкае адчуваньне. Нашто гэта ўсё нам. Ехаць, стамляцца, выдаваць грошы, ды яшчэ тады сварыцца, быць ворагамі адно аднаму.

Але неяк пакрыху расьсеялася. Стала я рыхтавацца да гасьцей. Усё добра справілася. Нэстары прыехалі пасьля 2-ой. Было добра, спакойна. Юрачка шмат мне дапамог — рабіў «лазанья», гуляў з хлопцамі. Адным словам, быў сапраўдны сын. Прынёс мне два вазоны кветак — прыгожыя, здаровенькія. Званіла Алеся. Я пазваніла маме.

Дзень прайшоў добра. Далі Вітаўту $60. Праўда, гутарка была ўсё каля царкоўных праблемаў. Трохі занудна, але Нэстары сядзелі доўга.

Званіў [*Алесь*] Міцкевіч, каб падрыхтаваць нешта на наступную нядзелю на абед. Ён думае, што зрабіць невялічкі абед паможа, каб сабралася трохі людзей у царкву.

**Панядзелак 11 траўня**

З раніцы дала кроў[1] і неяк слабавата чулася цэлы дзень. Дождж, холадна. Вечарам Юра спаткаў нас каля аўтобуса.

---

[1] *У бібліятэцы рэгулярна праводзіліся «дні донара». Добраахвотнікі здавалі кроў для шпіталяў. У такія дні ў бібліятэцы было поўна мэдычных працаўнікоў, на здачу крыві адводзіліся спэцыяльныя пакоі. Мы з Зорай таксама час-часом здавалі кроў.*

**Аўторак 12 траўня**

Засталася дома — трохі слаба чуюся. Нічога не рабіла, адпачывала. Юра ўзяў нашую машыну — сваю здаў нешта правіць. Пазваніла, каб прыйшлі паглядзець пылесос — паламаўся. Вітаўт казаў, што Тумаш расказваў пра вечар Веры Рыч[1] — было асобаў 13. Прайшло спакойна.

---

[1] *У фундацыі Крэчэўскага.*

**Серада 13 траўня**

Замах на Папу. В[*ітаўт*] рашыў занесьці газэту Ад[*амовічу*] і забраць ад Зап[*рудніка*] «Беларус». Пазваніў. Ад. сказаў, што ўжо мож-

на пачынаць правіць Салаўя і хацеў-бы, каб [redacted] прыйшла. У абед схадзілі да іх[1]. Пагаварылі з А. і вырашылі, што лепей, калі ўсе гэтыя папраўкі да кнігі будзе рабіць сам Тумаш. Пагаварыла трохі з Зап., ён задаволены з запросінаў. Яны з прыемнасьцю прыедуць да нас.

Выехала трохі раней, бо трэба было да дэнтыста. Ён папробваў яшчэ нейкі спосаб, каб заспакоіць зуб — усё роўна баліць.

Юра забраў машыну. Усё, здаецца, паправілі. Прыходзіў Біднік, паглядзеў пылесос — кажа, што ўсё ў парадку.

---

[1] *Схадзілі ў «Радыё Свабода», дзе працавалі і Ян Запруднік, і Антон Адамовіч. Раней радыё месьцілася на 42-й вуліцы, а потым пераехала на Брадвэй, каля 57-ай вуліцы. Мы хадзілі пешшу і туды і туды.*

**Чацьвер 14 траўня**

У абед хадзіла ў 4-Cont[*inents*]. Пазваніла ім раней даведацца ці маюць слоўнік этымалягічны. Купіла 2 тамы, падпісалася на наступныя. Падпісалася таксама на слоўнік старабеларускай мовы. Купіла таксама Гісторыю бел. літаратуры Лойкі. Вітаўт кажа, што мы ўжо яе маем — ён некалі яе прынёс з бібліятэкі [*дублікат*]. Тут цэлая літанія пачалася: «Трэба сачыць за тым, што ў хаце ёсьць», і г. д.

**Пятніца 15 траўня**

Палучка. Схадзілі ў банк. Фактычна, пасьнедалі й В[*ітаўт*] пайшоў у банк сам. У абед хадзіла па пакупкі. Купіла ўсялякай дробязі. Тумаш паказаў ліст ад Пашкевічыхі. Яна кажа, што пушачкі атрымала, але ні словам не аказалася да нас, ні падзякі, ні прывітаньня[1]. Тумаш іх стараецца агарадзіць. Перадавала яна яшчэ, што сын Геніюш рае зьвязацца з Александровічам[2] з Польшчы, гісторык Вял. Кн. Літоўскага (мы думалі, што ён ужо памёр — зь некім, мусіць, паблыталі).

Пашкевічыха хваліла «Запісы», асабліва Тумаша артыкулы.

Вечарам Юрачка паехаў на танцы. Зайшоў пасьля зь дзяўчынай, але, праўда, доўга не сядзелі.

Вячка [*Станкевіч*] заехаў, забраў карту й памфлеты[3], што мы падрыхтавалі для яго. Мы яго ня бачылі.

---

[1] *Валянціна Пашкевіч укладала слоўнікавую картатэку, мы ёй «пастаўлялі» і карткі і скрынкі для картак: тысячы картак і некалькі дзясяткаў скрынак.*

[2] *Язэп Найдзюк, які жыў у Польшчы пад імем Юзэф Александровіч.*

[3] *Буклеты (pamphlets). Інфармацыйныя матэрыялы пра Беларусь.*

**Субота 16 траўня**

Раніцай ніхто па сьнеданьне не паехаў, дык я зрабіла блінкі. Пасьнедалі й я паехала ў Passaic. Аддала Курцу[1] грошы, здала Алесіны рэчы паправіць. Купіла В[*ітаўту*] кашулю й гальштук. Зв[*аніла*] Алесі, у яе ўсё добра. Схадзіла зрабіць валасы («прывесьці галаву ў парадак» — як я вычытала ў «Кракадзіле»). Паехалі ў Mountain Lakes — там Вячка Ст[*анкевіч*] арганізаваў выстаўку й танцы[2]. Выстаўку

рабіла Рая. Добра рэпрэзэнтавалася — у будынку Gym — выкарысталіся ступенькавыя лаўкі. Моладзь добра танцавала. Яны малайцы, аж 8 параў. Алюньця ўсё-ж вялікую справу зь імі робіць.

Пасьля яшчэ заехалі на часінку да Станкевічаў — Джоан усіх запрасіла на невялічкі пачастунак. Юра паехаў на працу. Быў там зь дзяўчынай.

Заехалі ў Патэрсон, купілі фруктаў, курыцу на заўтра на абед у царкву. Заехалі яшчэ ў Shop Rite[3]. Усё справіліся.

Я скончыла перадрукоўваць артыкул аб 25 Сакавіка ў Трэнтане. Заўтра аддам Запрудніку. Юра прынёс pizza. Павячэралі разам. Добры быў дзень.

---

[1] *Ювэлірная крама.*

[2] *Вячка і Джоан Станкевічы там жылі, ад нас гэта кілямэтраў 35. Яны арганізавалі азнаямляльны выступ зь беларусамі — дапамога сярэдняй школе ў рамках праграмы вывучэньня ААН.*

[3] *Прадуктовая крама.*

**Нядзеля 17 траўня**

Юра яшчэ ў сваім амбулянсе[1]. Я пачала варыць для царкоўнага абеду. Выехалі ў царкву ўжо блізка 11-ай. Прыехалі, а там ужо сталы расстаўленыя, жанчыны на кухні. Канфуз. Ніхто ня ведае, як і што будзе. Ці рабіць разам, ці асобна, ці зусім адкласьці. Я пайшла ў царкву, каб уцячы ад праблемаў (я так думаю). У царкве чуць не паўстаў канфлікт. Гарошкі адабралі ад Міцкевіча й Вераб'я талерку[2]. Пайшлі самі з талеркай. Мы ўсе павыходзілі з царквы. Я вельмі расстроілася. Хацела йсьці дахаты. Але ўнізе неяк ужо наладзілася. Рашылі рабіць абед разам у аднэй залі, але кожны са сваёй ежай, што былі прыгатавалі, за сваімі сталамі. Усё, дзякаваць Богу, прайшло спакойна. Не сварыліся, не было ніякіх канфліктаў. Трохі паасобныя людзі дыскутавалі, нават чапляліся, але ўсё злагоджвалася. Сп-ня [*Нюра*] Русак перадала праз мужа яшчэ адзін ручнік. Былі Мітрапаліт [*Андрэй*], Ізяслаў, Расьціслаў і Карп. Расьціслаў, на маю думку, быў неяк ня зусім у сваёй талерцы. Мажліва, што ужо нейкае церце паміж імі паўстае. Матушка была вельмі прымірэнчая. Дай Божа, каб нешта добрае з гэтага выйшла. Было шмат людзей. Прыехалі й зь Нью Брансуіку. Адным словам, выехалі мы задаволеныя. Дома адпачывалі, усё было прыемна.

Я рабіла каталёг [*для БІНІМу*] — скончыла анатацыі. Вітаўт усё возіцца з артыкуламі для «Запісаў» з канфэрэнцыі. Артыкул аддалі Шук[*елойцю*]. Запруд[*ніка*] ня было.

---

[1] *Мясцовы аддзел хуткай дапамогі.*

[2] *Для збору ахвяраваньняў у царкве.*

**Панядзелак 18 траўня**

Ballerina праверыла каталёг. Так больш нічога цікавага не прыпамінаецца.

**Аўторак 19 траўня**

Тумаш паказваў ліст ад Л. Геніюш. Яе там запрашалі на зьезд пісьменьнікаў. Яна, здаецца, чуецца нядрэнна.

Вітаўт паехаў раней на зборку этнічнай рады.

Мы зь Юрам хуценька паелі й паехалі ў магазын. Туфляў я сабе не знайшла. Заехалі купілі просьціню для мамы.

Вітаўт прыехаў пазнавата. Зборка была добрая.

**Серада 20 траўня**

Зуб баліць усё роўна. Была вечарам у дэнтыста. Ён нечым мне такім пякучым памазаў дзясну, што ўсё апяклося, ўсё баліць. Мусіць, ён нешта ня тое робіць.

**Чацьвер 21 траўня**

У абед хадзіла ў магазыны. Нічога цікавага не знайшла. Купіла сабе панчохаў.

На падвячорак хадзіла з Факсам. Ґутарка была абыдзённая.

Вечарам атрымалі ліст і пачкі з кнігамі ад Каханоўскага. Ён просіць артыкул [*Язэпа*] Менскага[1].

[1] *Язэп Менскі (Ізыдар Плашчынскі) пісаў пра Купалу, Каханоўскі шукаў гэты артыкул. Зора яму паслала.*

**Пятніца 22 траўня**

У абед хадзіла ў магазын. Нічога ня купіла. Тумаш адразу-ж перадаў нам запросіны ад Русака ў суботу вечарам да іх — прывітаць прыехаўшую з Аўстраліі Каранеўскую, што ў радыё[1]. Я адразу-ж сказала, што еду да мамы, а В[*ітаўт*] працуе. Паказалі Т[*умашу*] ліст Каханоўскага. Ён мала гэтым цікавіцца — у яго свой круг перапіскі. Гаварыла зь ім пра Салаўя, што перадам яму папраўкі. Успамянулі й пра паліцы. Абяцалі пагаварыць.

Пазваніла Русаку, што ня прыедзем. Але вечарам у аўтобусе пачалі разважаць, што неяк трохі не выпадае. Мне ўжо быў зусім сапсуўся настрой, што мая паездка да мамы камячыцца. Вітаўт рашыў добра: пазвоніць да іх вечарам, пагаворыць, вычуе што й як, і калі трэба, то можа й пад'едзе да іх пасьля працы[2].

Я спакойна выехала. Праўда, трохі перад самым выездам зафыркалі, але наладзілі. Даехала добра, хоць трафік быў вялікі. Павячэралі, пагаварылі, паглядзелі T.V. Там прахладна, прыемна. Мама О.К. Простыня добрая. Паслалі ложак — усё новае.

[1] *Аўгіньня Каранеўская вяла перадачы ў беларускім радыё ў Сыднэі.*
[2] *У Русакоў ладзілася прыняцьцё для Каранеўскай.*

**Субота 23 траўня**

Пазваніла пра клубніку[1]. Будзе толькі праз тыдзень. Раніцай па-

ехалі ў магазыны. Купілі, што трэба, й хутчэй дахаты. На двары стала горача. Я пайшла загараць.

Трохі перарвала наш адпачынак прысутнасьць суседа – прыехаў касіць траву. Я гэта выкарыстала, каб пашукаць газэты з артыкулам [*Язэпа*] Менскага пра Купалу для Каханоўскага. Знайшла.

В[*ітаўт*] пазваніў, што паехаў да Русакоў. Зь бібліятэкі забрала яго Рая. Там трохі пабудзе — й дахаты, каб ня позна на сабвэях[2] ехаць. Я тады маме расказала ўсю гісторыю. Яшчэ трохі пагаварылі.

У мамы былі Нядзьвігі ў чацьвер. Зусім, кажа, ня ў добры час прыехалі. Трохі пасядзелі. Д[*зядзя*] В[*аня*] ўсё маўчаў, гаварыў брат. Павязе яго ў Вашынгтон нехта іншы, не Д. В.

Ноччу балеў зуб.

---

[1] *На фарму — ці пасьпела, ці можна ўжо зьбіраць.*
[2] *Мэтро.*

**Нядзеля 24 траўня**

Завезла маму ў царкву. Сама папарадкавала трохі ў хаце, пакуль ехаць забіраць [*маму з царквы*]. Пазьней загарала. Мама смажыла куркі. Горача. Чытала розныя рускія «саміздаты». Нічога цікавага не магла знайсьці.

Прыехала дахаты ня позна. Трохі перакусілі. У хаце горача. Баліць зуб. Чуюся вельмі разьбіта.

**Панядзелак 25 траўня**

Дома — Memorial Day[1]. Горача.

В[*ітаўт*] паехаў пашукаць дзесь адкрытага магазыну [*нешта купіць паесьці*]. Пасьнедалі. [redacted] памылася й паехалі ў магазыны — нешта купіць для В. Нічога не купілі.

Я парадкавала свае кнігі й матар'ялы, што каля ложку. Пасьля села рабіць Салаўя. Трохі зрабіла, але перадам рэшту заўтра Тумашу.

Павячэралі разам. Вечарам адпачывалі. Званіла Галіна. Просіць зрабіць копіі сьпіску кнігаў, што мы ёй пазычылі на выстаўку. Яна парадкуе кнігі. Магчыма, прыедзе ў біб[*ліятэку*] ў чацьвер.

---

[1] *Дзень Памяці — амэрыканскае сьвята памяці ўсіх, хто загінуў на вайсковай службе, адзначаецца ў апошні панядзелак траўня.*

**Аўторак 26 траўня**

Горача. В[*ітаўт*] застаўся з раніцы дома — прыйдзе камінар. Я парадкавала дзёньнік. Як прыйшоў В., пазваніла да Адамовіча — некаторыя пытаньні з Салаўём разьвязаць перад тым, як сьпіхну на Т[*умаша*]. З Т. гаварылі пра Русакову госьцю й party, добрае ўражаньне аб Каранеўскай. Т. паказаў ліст ад [*Я.*] Садоўскага. Хутка выйдзе ягоная кніга пра Беларусаў Канады. Гаварылі й пра Сядураў рэфэрат.

Выглядае так, што адкладзецца да 20 чэрвеня. Пазьней перагледзілі Салаўя і перадала Т. Вітаўт аддаў Т. артыкул Жучыхі[1].

Вечарам рабіла каталёг [*БІНіМу*]. Скончыла друкаваць, але прыпомніла пазьней, што яшчэ трэба ўлучыць Крушынавы зборнічкі.

---

[1] *Раісы Жук-Грышкевіч.*

**Серада 27 траўня**

Баліць зуб. Рабіла xerox для Каханоўскага. Раблю памалу, каб надта ня кідацца ў вочы.

Званіў Русак Вітаўту. Суд [*у справе царквы*] адбыўся — праз 10 дзён судзьдзя скажа выснаў.

Схадзіла да дэнтыста. Ён зрабіў хгау[1] і даў мне лекі ад болю. Прыняла — памагло. Вечарам глядзела Т. V. Нічога не рабіла. Зв[*аніў*] Дзядзя В[*аня*] — хоча ехаць у кансулат. Званіў Васіль Р[*усак*] — даведацца пра суд. Пазьней званіў Калоша — таксама аб судзе. Ён, здаецца, зьбіраецца на Беларусь.

---

[1] *Рэнтген.*

**Чацьвер 28 траўня**

В[*ітаўт*] пайшоў зраньня ў Annex[1] — у іх там зборка. Цяпер сяджу на каве й пішу дзёньнік.

Пад абед прыйшла Галіна [*Русак*]. Пайшлі разам у нашую кафэтэрыю. Перадала ёй сьпісак кніжак, што мы пазычалі на выстаўку. Яна падрыхтуе нам кнігі — некалі прыедзем забярэм. Яе сабатыкал[2] ужо хутка канчаецца. Нешта нічога не гаварыла пра свае «манаграфіі». Толькі ўсё пра выстаўкі. Прасіла, каб прыйшлі паглядзелі яе мастацкую выстаўку[3].

Кончыла рабіць xerox для Каханоўскага. Адно толькі не хапае тое, што выразана. Вітаўт усё ніяк ня сходзіць забраць ад Адамовіча газэты[4].

---

[1] *Асобны бібліятэчны будынак на 43-яй вуліцы.*

[2] *Sabbatical — у акадэмічных установах пасьля сямі гадоў працы ў дадзенай установе прафэсуры даецца вольны ад выкладаньня год на навуковую працу.*

[3] *Галіна часта ладзіла свае мастацкія выстаўкі ў Нью Ёрку ў галерэі Soho, і гэтым разам таксама.*

[4] *Пазычаныя, каб перагледзець вершы Салаўя.*

**Пятніца 29 траўня**

Заняты, суетлівы дзень.

Пазваніў Запр[*уднік*] перад абедам, што прыязджае ў N.Y. Баршчэўскі[1]. Трэба яму неяк мейсца знайсьці, на аэрадроме спаткаць, вечар устроіць. Адамовіч скача, выпісвае, а як да справы дойдзе — нехта мусіць рабіць. Мы якраз на гэты час ня будзем дома — едзем у Вашынгтон. Я перадала Тумашу, што Ад[*амовіч*] хоча зь ім на гэтую

тэму гаварыць. Сталі званіць. У абед я хадзіла ў магазын. Нічога важнага ня купіла. Зрабіла адбіткі каталёгу, першыя бачыны.

З Тумашам гаварылі ўсё пра Баршчэўскага. Пераглядзелі каталёг [*ці ёсьць ягоныя кнігі ў нас у бібліятэцы*].

Званіла Алеся, што вечарам прыедзе на пару гадзінак дахаты. Вельмі гэта нас усьцешыла. Я пазваніла М. В., каб Юра чакаў.

Прыехалі дахаты, ні Юры, ні Алесі яшчэ ня было. Я падрыхтавала Вітаўтавы падарункі (хоць тое, што ўжо было куплена). Прыйшла Алеся. Селі есьці торцік. Вітаўт адкрыў падарункі. Было вельмі прыемна. Прыйшоў і Юра з дзяўчынай. надта было сымпатычна. Дзеці яшчэ засталіся гаварыць, а мы паехалі на абед з Bradley[2]. Там было ўсё вельмі чынна, весела. Добра правялі час. Ехалі дахаты задаволеныя. Пагаварылі з Bradley пра «Ґолас Амэрыкі».

Прыехалі і... чакала нас вялікая прыкрасьць. Юру разьбілі машыну. Было й крыку й сваркі, але неяк усё прайшло лепей, чымся магло-б быць. В[*ітаўт*] быў даволі reasonnable[3]. Юрачка вельмі перажываў, тым больш, што гэта была не ягоная віна. Дзякаваць Богу, што нічога горшага ня сталася, ніхто не параніўся. (Дзяўчына трохі толькі нагу парэзала).

Так прыкра скончыўся такі прыемны дзень.

---

[1] *Аляксандар Баршчэўскі з Польшчы. Яго выпісаў Адамовіч.*
[2] *Біл Брэдлі, сэнатар-дэмакрат ад штату Ньюджэрзі (1979—1996).*
[3] *Разважны.*

**Субота 30 траўня**

Віт[*аўтаў*] дзень народзінаў, але мы ўжо нічога не рабілі, бо, папершае, адсьвяткавалі ўчора, па-другое, настрой неадпаведны, патрэйцяе, В. працуе.

Як толькі ён паехаў на працу, мы зь Юрам — па пакупкі. Купілі яму касьцюм. Юра паехаў да дэнтыста, а тады на працу. А я па сваіх справах: валасы, забрала Алесіны рэчы ад ювэліра, купіла прадукты, паехала ў Патэрсон. Прыехала, стала мыць свае рэчы, аж звоніць Дутка, што прывязе падушкі. Мусіла заплаціць сваім чэкам. Цяпер яшчэ клопаты — перадаць Ірэне й Валі[1], дастаць зь іх грошы. Нашто гэтыя ўсе клопаты мне?

Памыла й павесіла сушыць бялізну. Званіў Walles Brown (Theresa Alt)[2], што прыйшлі мікрафільмы для Тумаша з Загрэбу. Так цалюткі дзень і прайшоў.

Паехала па Вітаўта, тады на паседжаньне БАЗА й рэдкалегіі «Беларуса». БАЗА прайшла спакойна. Толькі Шук[*елойць*] нешта надта-ж рэзка зарэагаваў на тое, што вэтэраны хочуць рабіць разам [*чароднае сьвяткаваньне*].

Затое «Беларус» быў трохі бурны. В[*ітаўт*] счапіўся са Станкевічыхай. Усё неяк памалу да гэтага вялося. Яна ўсё з Раісай адстойвала

свой артыкул пра царкоўныя справы. Усе даволі далікатна казалі, што артыкул мусіць быць напісаны аўтарытэтнай асобай, што трэба быць вельмі асьцярожна, не ўваходзіць у палеміку з «Часам»[4]. Яна нічога ня хоча слухаць — усё сваё. Тады В., на маю думку, трохі зарэзка яе абсадзіў. Бартуль — на Вітаўта. І чуць ужо сварка ня была, але Запр[*уднік*] пастараўся зьвярнуць зборку [*у мірнае рэчышча*].

Мы падвезьлі Кажуру й Васіля пад аўтобус[5].

Вечарам яшчэ трохі зь Юрачкам пасядзелі (ён нас чакаў).

---

*[1] Яны рыхтавалі выстаўку.*

*[2] Вэлс Браўн і Тэрэза Альт — муж і жонка, прафэсары ў унівэрсытэце Карнэл у штаце Нью Ёрк. Цікавяцца беларусікай (аж да цяпер! — нядаўна купілі слоўнік).*

*[3] З Заграбу для Тумаша заказалі фільм з Скарынавымі кнігамі.*

*[4] «Byelorussian Times» (Беларускі Час) — часопіс, які рэдагаваў Расьціслаў Гарошка і які «займаў царкоўны бок».*

*[5] Яны зь Нью Брансуіку.*

**Нядзеля 31 траўня**

Раніцай пасьнедалі разам. Юра схадзіў у магазын. Аддалі В[*ітаўту*] рэшту падарункаў: касьцюм. Юрачка купіў картачкі. Я стала рыхтавацца, варыць, прыбіраць.

Запруднікі прыехалі [*да нас у госьці*] а 2-ой. Трохі яшчэ пагаварылі. Селі абедаць. Усё было добра, спакойна, прыстойна, сардэчна. Пакуль не пачалі гаварыць пра сьпеўнік Равенскага[1], каб Оля ўзялася за падрыхтоўку — руханьне. Яна разнэрвавалася, пакрыўдзілася. Я, прызнацца, не чакала такой рэакцыі. Здавалася-б, чалавек быў-бы рады ўцягнуцца ў нейкую актыўнасьць. Неяк наладзілася трохі пазьней, але ўжо такі прыязны настрой зьнік. Я-б вельмі не хацела, каб яна прыкра сябе адчувала, каб якісь прыкры асадак застаўся.

Званілі Карніловічу пра Барскага[2]. Ён нічога ня ведае пра ягоны прыезд.

Канец вечара правялі спакойна. В. памераў касьцюм — добра.

---

*[1] Сьпеўнік Міколы Равенскага быў падрыхтаваны яшчэ ў Лювэне, нават пачаўся набор у друкарні, але... потым усё сьціхла. Грошы, сабраныя на сьпеўнік, некуды разышліся. Зоры гэта не давала спакою, сьпеўнік Равенскага быў вечна ў яе ў галаве. Нарэшце... справа была даведзеная да канца, выдадзены быў ня толькі сьпеўнік, але і ўсе творы М. Равенскага — з нашай дапамогай і з нашай ініцыятывы (асабліва Яна Запрудніка) — Віктарам Скарабагатавым на пачатку 2000-х гадоў. Выдаўцы — БІНіМ і «Капэла».*

*[2] Наконт паездкі Алеся Барскага (Аляксандра Баршчэўскага) у Кліўленд.*

**Панядзелак 1 чэрвеня**

Раніцай у бібліятэку прыехаў Дзядзя Ваня зь нейкім казаком, каб ісьці ў Бэльгійскі консулат. Вітаўт пайшоў зь імі. Нічога канкрэтнага яны не зрабілі — трэба пісаць у Бэльгію. Званіў Юра Вітаўту пра машыну, што ён ужо зрабіў, куды званіў.

Вечарам, як прыехалі, машына ўжо была адвезеная ў гараж — для

пачынкі. Маладзец Юра — сам ужо аб усім дбае. Ад Прускага былі часопісы — добра выглядае, салідны часопіс[1], пару добрых артыкулаў, асабліва апавяданьне-успамін [*Васіля*] Стомы. Вярнуўся ліст і «Запісы» ад Barbour — мусіць, ужо няма яго[2]. Шкада.

---

*[1] «Беларускі Сьвет».*

*[2] Філіп Барбур, амэрыканскі гісторык, дасьледнік біяграфіі Джона Сміта — першага губэрнатара калёніі ў Вірджыніі. Зора апрацавала артыкул «Сміт на Беларусі» і стала расшукваць Барбура, каб пазнаёміць яго зь Беларусьсю. Але Барбур памёр у 1980 годзе. Матэрыял аб Сміту — у «Запісах» № 16.*

**Аўторак 2 чэрвеня**

Зазваніла да Адамовіча, каб ён паглядзеў артыкул Менскага ў «Беларусе», як шмат не стае ў мяне[1]. Аказалася толькі 8 радкоў. Ён мне прачытаў — [redacted] запісала. Пачаў ён таксама гаварыць пра Барскага, як яго прыстроіць. Выглядае, што ён хоча сьпіхнуць на нас. Прасіў, каб В[*ітаўт*] зазваніў яму.

З Тумашам гаварылі пра Баршчэўскага, пра «Запісы» — ужо зьбіраюцца матар'ялы на наступныя.

Вечарам перадрукавала той кавалачак артыкула для Каханоўскага. Пазванілі ім. Усё растлумачыла, падзякавала за усё, сказала І. Ів.[2] пра яе артыкул — пойдзе бязь зьменаў у наступны нумар «Запісаў».

---

*[1] Зора дапамагала А. Каханоўскаму зьбіраць матэрыялы для кніжкі пра Купалу.*

*[2] Іне Іванаўне Каханоўскай.*

**Серада 3 чэрвеня**

Раніцай В[*ітаўт*] укінуў [*на пошту*] пачку Каханоўскаму. З гэтым ужо ў парадку.

Па абедзе прыйшла Галіна. Прыйшоў таксама й япіскап Мікалай. В. меў клопат дазваніцца, дабіцца толку. Мікалай патрэбен быў сьпешна ў New Br[*unswick*]. Паехалі з Галінай. Але Галіна яшчэ перад выездам пасьпела сказаць, што хоча з намі ехаць у Ваш[*ынгтон*]. Я вельмі расстроілася, бо думала, што? можа? яна ўжо забылася пра гэта. Так ня хочацца зь нікім зьвязвацца. Хочацца ўжо самім быць. Цяпер неяк трэба камбінаваць.

Вечарам села рабіць каталёг. Пачаліся розныя званкі. Адзін ад Стрэчаня вывеў мяне зусім з раўнавагі. Ня толькі, што трэба будзе з Г[*алінай*] вазіцца, а яшчэ (я толькі цяпер усьведаміла, што гэта за канфэрэнцыя) й з гэтай кампаніяй мець дачыненьне[1]. Мой настрой перадаўся й В[*ітаўту*], і ён зусім пачаў псіхаваць, зазлаваў на мяне. Так крыўдна ўсё гэта. Нашто нам усе гэтыя нэрвы, прыкрасьці, непаладкі паміж намі з-за гэтага? Нешта тут ня тое, нешта несправядліва.

---

*[1] У Вашынгтоне адбывалася рэспубліканская канфэрэнцыя, у якой удзельнічалі і беларусы зь некалькіх штатаў. Мелася быць прыняцьцё ў Белым Доме, а для*

*гэтага загадзя трэба было даць дадзеныя аб сабе для праверкі аховай. У Андрэя Стрэчаня нешта было не ў парадку — нечага не хапала, трэба было залагодзіць. Але Зора ў часе канфэрэнцыі думала працаваць у Бібліятэцы Кангрэсу. Узьніклі няўвязкі з часам — адсюль нэрвовасьць.*

**Чацьвер 4 чэрвеня**

З раніцы зазванілі Алесі. Я яшчэ пад цяжкім уражаньнем. Адносіны нацягнутыя. Алеся будзе нас чакаць. Кажа, што й Галіна зможа затрымацца ў яе[1].

У перапынак ранішні хадзіла ў новы магазын. Купіла тое-сёе, Вітаўту бялізны.

Парадкавала свае запіскі, што для L[*ibrary of*] C[*ongress*] патрэбна пераглядзець. Набралася шмат дрэні — трэба ўсё прывесьці да парадку. Шмат паўтараецца, шмат непатрэбнага высілку.

Вечарам пазванілі да Галіны. Яна ня едзе. Усе гэтыя нэрвы непатрэбныя былі. Чаму так у нас бывае?

Пазваніла маме, сказала, што прыедзем да яе ў суботу ноччу. Мама ОК. Сабралася й пайшлі адпачываць. Вітаўт хутка заснуў. Я ўсё падчэквала Юру, хвалявалася, выбілася са сну. Юра прыйшоў толькі каля 2-ой. А а 4-ай ужо пачалі ўставаць.

---

[1] *У Вашынгтоне мы затрымоўваліся ў Алесі.*

**Пятніца 5 чэрвеня**

Спаць рана хацелася, але настрой быў неблагі, дык неяк лягчэй усё пераносіць. Ехалася добра. Раз сталі, выпілі кавы. Прыехалі ў Ваш[*ынгтон*] а 9-ай. Алеся нас чакала. Мы толькі распакаваліся й паехалі хто куды: я ў бібліятэку, Алеся на працу, Віт[*аўт*] на паседжаньні [*рэспубліканскіх клюбаў*].

Я цэлы дзень добра працавала. Стомленасьці не адчувала. В., як я й была ўпэўненая, не падышоў у біб[*ліятэку*] — быў цэлы дзень заняты. Я зрабіла Дутку адбіткі.

Спаткаліся ўжо каля 7-ай. Павячэралі й паехалі спаткаць Алесю (яна пасьля працы паехала на прыймо замест быць з намі). Доўга чакалі яе — нарэшце яна выйшла зь нейкімі двума хлопцамі й пайшлі яшчэ недзе. Мы паехалі дахаты — адпачываць. Дзень быў памысны і ў мяне і ў Вітаўта.

**Субота 6 чэрвеня**

[redacted] зноў у бібліятэку. В[*ітаўт*] — на паседжаньне. Сёньня знайшла шмат цікавага. У кнігасховы пайшла толькі недзе пасьля 2-ой. Знайшла тое-сёе цікавае. Трохі з Супрасьлю, трохі з гэнэалёгіі, а асабліва важнае аб Трыстане (сэрбскі пераклад з нашага). Парабіла адбіткі. Можа, некаторыя кніжкі мы маем у NYPL.

Пасьля 5-ай (біб. закрываецца) пайшла да Алесі. Яна спаткала мяне па дарозе. Лягла трошкі адпачыць. Алеся абразае кусты. В. прыйшоў пасьля 6-ай. Трохі навесяле. Мы пачалі зьбірацца — ён усё падганяе,

сьпяшае, адным словам — скача. [redacted] дык ужо пачала нэрвавацца, як там будзе, але стрымлівалася.

Паехалі. Папалі на канец перадабедняга прыёму. Было добра, бо я з Алесяй была. В. скакаў — падводзіў фатографаў, зьбіраў нас усіх. Але неяк-жа прайшло.

За абедам падселі на наш стол нейкія казакі. В[*ітаўт*] пачаў вярзьці глупства — неяк у яго налётамі. То зусім нармальна, то зусім нейкі дурны. Мяне ўжо пачало гэта пужаць. Але [redacted] цьвёрда вырашыла трымацца. І прайшло. Як ехалі да Алесі ўжо было ўсё ў парадку. Праўда, й за абедам пад канец ужо было лепш. Дзіўна на яго ўсё гэта дзейнічае, бо ня думаю, каб ён шмат выпіў — можа, пару чарак. Спусьцілі Алесю й паехалі на фарму да мамы. Ехалася даволі добра. Трохі стаміліся. Асабліва ўжо на дарозе 40-ой. Але даехалі спакойна. У агуле, паездка была прыемная.

**Нядзеля 7 чэрвеня**

Ранічкай ня позна паехалі ў ягады. Мама ў царкву не паехала — была ў суботу. Сабралі ягадаў, але ягады няважныя. Мама яшчэ мае праблему з страўнікам. Нядобра чулася. Трохі яшчэ адпачылі. Пачынаюць сьпець маліны. Пагода цудоўная. Паехалі дахаты ня позна, але ў трафік усё-ж папалі. Дома яшчэ трохі адпачылі. Паездка гэтая нашая была вельмі памысная.

**Панядзелак 8 чэрвеня**

Раніцай шукала [*ў кнігасховішчах*] кніжкі пра Трыстана. У нас іх, на жаль, няма. Няма й сэрбскай, няма й ангельскай. Няма й францускай Бэд'е (выд. у Маскве). Проста ня верыцца, што мы іх прапусьцілі.

Званіў колькі разоў Адамовіч. Ён скача з Барскім. Барскі ў Русакоў.

Па абедзе [*Адамовіч, Барскі і Русакі*] прыйшлі ў бібліятэку. Пазнаёміліся. Ён робіць даволі прыемнае ўражаньне. В[*ітаўт*] паказваў яму бібліятэку. Русакі ім ужо зусім заапекаваліся — мы спакойныя.

**Аўторак 9 чэрвеня**

Юра застаўся дома. Ды так неяк па-дурному выйшла. Забыўся ключы — мусіў ехаць у школу. Я ўжо казала — «калі едзеш, то заставайся ўжо працуй». Але ён, мусіць, меў нейкія пляны — паехаў і прыехаў.

Усё яшчэ шукала кніжкі пра Трыстана. Вакольнымі шляхамі знайшла, што ангельскую мы мусім мець, ужо й закаталягавана, але кніжкі [*на паліцы*] не знайшла. Заказала з L[*ibrary of*] C[*ongress*] сэрбскую.

Тумаш прыходзіў. Расказвалі пра Вашынгтон. Гаварылі й пра Барскага. Тумаш, як заўсёды, меў колькі справаў са сваёй «цыдулачкі».

**Серада 10 чэрвеня**

Нічога неяк не прыпамінаецца цікавага.

Пасьля работы хадзіла да дэнтыста. Даў нейкі новы лек — мазь. Я дык нешта ня веру, што паправіцца зуб.

**Чацьвер 11 чэрвеня**

Не запісала адразу дык цяпер цяжка ўстанавіць, ці што цікавае было. Адзін з гэтых дзён званілі Ірэне, папрасілі яе зрабіць плякат на дэманстрацыю.

Скончыла каталёг. Цяпер толькі перадрукаваць.

**Пятніца 12 чэрвеня**

З Тумашам гаварылі пра Барскага: ён добрага ўражаньня аб ім. Гаварылі пра Сядураў вечар. Тумаш знайшоў артыкул, які трохі тычыцца Трыстана. Зрабіла копію. Расказала Тумашу пра пераклады Трыстана — рэцэнзыю добра будзе рабіць на 3 кніжкі.

**Субота 13 чэрвеня**

Раніцай схадзіла зрабіць прычоску. Сабралася ўжо была ехаць па розных справах, але агледзелася, што не працуе air-conditioning. Завезла пачыняць — і ўжо нікуды не магла паехаць. Зайшлася толькі ў магазын, купіла тое-сёе з прадуктаў. Настрой нейкі ня надта важны. Вітаўт яшчэ ніякіх захадаў не зрабіў, каб пачаць пачыняць уборную наверсе. Юра працуе.

Паехалі на вясельле Трэвара[1]. Вянчаньне хутка вельмі скончылася. Мы яшчэ знайшлі, дзе будзе прыймо й паехалі дахаты. Пагода прыемная — зусім ня так страшна, як прадказвалі.

Вясельле было прыемнае. Сядзелі мы з напоўзнаёмымі людзьмі. Чуліся добра.

---

[1] *Сябар амэрыканец.*

**Нядзеля 14 чэрвеня**

Раніцай пасьнедалі разам. М. В. паехала ў царкву з Рагнедай[1].

Паехалі на зборку бацькоў і вучняў, што едуць у Tampico[2]. Зборка была вельмі цікавая, добра арганізаваная, шмат мы выкарысталі. Дзень добра прайшоў.

Пазванілі яшчэ й Болесю[3]. Прыйдзе паглядзіць, што можна зрабіць, направіць уборную.

---

[1] *Дачка С. Жамойды.*
[2] *Горад у Мэксыцы, куды ехаў вучыцца Юра.*
[3] *Наш сусед беларус.*

**Панядзелак 15 чэрвеня**

Сяньня палучка. Вітаўт пайшоў у банк сам. У абед хадзіла ў магазын, але нічога цікавага ня купіла.

Вечарам званіў [*Кастусь*] Калоша, што Сяргей [*Карніловіч*] заўтра зьбіраецца прыехаць. У міжчасьсі, відаць, падышоў да яго і Сяргей і сказаў, што напэўна прыедзе заўтра. Прыйдзе ў бібліятэку, а тады ўжо пойдзем на лекцыю. Сказала Калошу, што чэк атрымалі — заўтра перадам Шук[*елойцю*] ці Русаку.

**Аўторак 16 чэрвеня**

У абед хадзіла ў магазын. Купіла яшчэ В[*ітаўту*] кашуляк. Як прыйшла ў бібліятэку, ужо сказалі, што ТНІ. Так-жа неяк няўдала — адзін дзень, што трэба заставацца пазьней, якраз вольны пайсьці дахаты. Ды й горача страшэнна. А трэба будзе прыймаць людзей. Пагаварылі трохі з Тумашам у абед. І пайшлі ў Slav. аддзел працаваць. Неяк нічога надта не працавалася. Хутка прыехаў і Сяргей. Занялася ім.

Тады стала чакаць Юру, а яны пайшлі насупраць, на лекцыю. Юра затрымаўся, я ўжо пачала хваляваца. Але пасьпелі.

Лекцыя была вельмі добрая[1]. Сабралася добра людзей. Гаварыў Барскі пра 25 гадоў Кафэдры Бел. Літ. на Варшаўскім Унівэрсытэце. Гавора ён добра, цікава. Усе засталіся задаволеныя. Сп-ня Русак прапанавала купіць дзяружку, але я сказала, што зрызыгную ($100 трохі зашмат цяпер мне).

Пад канец вечара Барскі падараваў для [*будучага*] музэю серп[2]. Вельмі было гэта сымпатычна.

Паехалі да нас. Павячэралі, трохі яны яшчэ й выпілі. Пасядзелі, пагаварылі. Вельмі-ж горача! Ён шмат расказваў і пра бел. у Польшчы й пра Сав. Беларусь. Ён шмат каго ведае, шмат што ведае. Цікавы даволі чалавек. Запісвае некаторыя рэчы ў сваю чорненькую кніжачку.

Оля [*Запруднік*] прынесла мне прэпараты для пробы мачы.

---

[1] *Адбывалася ў памешканьні унівэрсытэту.*

[2] *Сказаў, што гэты серп зь іхняе гаспадаркі, яго маці некалі гэтым сярпом жала.*

**Серада 17 чэрвеня**

Вітаўт з Сяргеем і Барскім паехалі ў Трэнтан. Віт[*аўту*] трэба было па справах. Паказаў ім Трэнтан. Былі у губ. office[1]. Вельмі ім імпанавала, атрымалі нават падарункі. Спадабаўся й Princeton[2]. Едучы ўжо ў Нью Ёрк паглядзелі й Гарлем[3]. Адным словам В. наладзіў ім тур.

Я ў абед купіла сабе сумку.

А гадзіне 4-ай схадзілі зь імі ў [*рэстаран*] Tad stэйк. Спадабалася. Зноў чорненькая кніжачка пару разоў выцягвалася, і цяпер я заўважыла, што ў нэгатыўных выпадках. Можа, я памыляюся. Разьвіталіся зь імі — яны самі паехалі на аэрадром — Барскі будзе ў Кліўлендзе пару тыдняў.

Паехалі дахаты на машыне. [redacted] пазваніла дэнтысту, што ня прыеду. Баларына з намі ўткнулася. Вельмі вялікі быў трафік. Прыехалі дахаты ўжо пасьля 7-ай.

Прыходзіў Болесь. Паглядзеў, што трэба купіць, што рабіць. Далі яму $50 на закупы. Выглядае, што пачыніць.

Вечарам ужо па 11-ай званіў Калоша. Сяргея і Барскага яшчэ ня было. Але ў міжчасьсі прыехалі й яны.

Званіў [*Андрэй*] Стрэчань — усё клапоціцца, каб прыехаў [*уладыка*] Мікалай на дэманстрацыю. Сам ён ня прыедзе.

---

[1] *Офіс губэрнатара (Трэнтан — сталіца штату Нью Джэрзі).*
[2] *Наведалі Прынстанскі ўнівэрсытэт.*
[3] *Барскі настойваў.*

**Чацьвер 18 чэрвеня**

Раніцай заехала ў аптэку, аднавіла лекі для зубу — дэнтыст сказаў яшчэ мазаць. Здала машыну Коленсу ў гараж — трэба зьмяніць колы. Прыехала на працу позна. В[*ітаўт*] на мітынгу ў [*сваім*] аддзеле.

Прыходзіў Tom B[*ird*] забраць набор[1]. Пагаварыла трохі зь ім пра Барскага, пра вечар. Ён заўважыў, што Тумаш дрэнна выглядае. Я не заўважыла.

Хадзіла на каву з Факсам.

Званіў Калоша, кажа, што палова кніжкі[2] ўжо набраная.

---

[1] *Чарoднага выпуску «Запісаў».*
[2] *«Беларусы ў Кліўлендзе».*

**Пятніца 19 чэрвеня**

Ранічкай пазваніла Ірэна, што гатовы плякат. Сказалі ёй, каб перадала Русаку ці Надзі. Завезьлі машыну зноў у гараж — рэгулярнае ўтрыманьне: ал̈іва, фільтры і пад.

З Тумашам нічога надта цікавага не гаварылася, інакш кажучы, не прыпамінаю нічога асаблівага. Гаварылі пра «Запісы», што трэба здаваць у набор. Тумаш усё нешта цягне. Дагаварыліся, што я буду рабіць каву заўтра на Сядуравым вечары.

**Субота 20 чэрвеня**

Вітаўт працуе. Паехаў са Sperling'ам[1].

Я з раніцы схадзіла да дэнтыста. Нічога новага. Ён кажа, што паляпшаецца, але мне здаецца, што ўсё горш і горш робіцца.

Зьезьдзіла ў Пасэйк, аддала грошы Курцу[2] за срэбра. У Патэрсоне купіла фруктаў. Купіла В[*ітаўту*] штаны й скарпэткі. Купіла печыва. Чуць не спазьнілася валасы рабіць.

Болесь прыйшоў па абедзе рабіць плямбэрку[3]. Я хутка пачала зьбірацца ў N.Y. Пакінула яго працаваць і паехала. Даехала добра, спаткала Віт. і паехалі на рэфэрат [*Сядуры*].

У Крычэўскага ўжо было шмат людзей. Яны там рабілі плякаты. Я стала рабіць каву, прыгатавала ўсё.

Рэфэрат прайшоў даволі ўдала. Фактычна гэта было чытаньне з Сядуравай аповесьці пра Багдановіча. Трошкі выглядае слабавата. Былі й заўвагі, асабліва да мовы. Паланевіч на канцы выступіў і зьедліва заўважыў, што трэба было-б некалі запрасіць тых «аўтараў», што пісалі пра Сядуру ў «Бел[*арускім*] Часе» і ў «Н[*овом*] Р[*усском*] С[*ло-*

*ве*]». Ня ведаю, ці шмат хто зразумеў, што ён кпіў, бо гэтыя артыкулы пісаў сам Сядура. В[*ітаўт*], ва ўсялякім выпадку, не зразумеў.

Але агулам вечар прайшоў вельмі ўдала. Мы ўзялі з сабой плякаты, сьцяг для заўтрашняй дэманстрацыі.

---

[1] *Калега бібліятэкар Боб Спэрлінг, жыў ад нас непадалёку.*
[2] *Ювэлірная крама.*
[3] *Рамантаваць сантэхніку.*

**Нядзеля 21 чэрвеня**

Ранічкай пасьнедалі разам. Прывіталі В[*ітаўта*] з «днём бацькі», далі падарункі (штаны й скарпэткі — практычныя падарункі). Вітаўт перадрукаваў тое, што Юра мае гаварыць на дэманстрацыі. Юра практыкаваўся. Спачатку [redacted] была вельмі скэптычна настроеная, але троху-патроху пачало ў яго згладжвацца, ісьці страйней.

Паехалі ў N.Y. пасьля 1-ай. Там ужо было сабралася людзей[1]. Раздалі плякаты. Васіль прывёз [*уладыку*] Мікалая. Плякат, што рабіла Ірэна, добры, адно беларускі тэкст яна зрабіла лацініцай (мусіць, не зразумела).

Цэлая дэманстрацыя за Кукабаку выйшла даволі ўдала. Сабралася й людзей: і зь N.Y., і зь New Bruns[*wick*], і з Саўт Рывэр. Прыехаў і Ханенка з Кліўленду. Выступала Грыгарэнчыха, якая асабіста знала Кукабаку, і Рутман, і яшчэ нейкі дысыдэнт, што толькі колькі дзён як зь Менску. Усё было прыстойна. Добры быў дзень. Моладзь была вельмі актыўная, прыемная. Юра й Ніна добра выступалі. Маладзейшыя (Паўлік і Заморская) зьбіралі подпісы. Малайцы дзеці.

Рэшту дня адпачывалі. Было (не бяз гэтага) й пару тэлефонаў, але здаецца нічога важнага.

---

[1] *На пляцы перад будынкам ААН была дэманстрацыя ў падтрымку дысыдэнтаў у БССР.*

**Панядзелак 22 чэрвеня**

Зрабіла раніцай аналізы мачы (што Оля дала прэпараты). Выглядае нармальна ў абаіх нас. Хадзілі ўзяць формы на пашпарт. Сяньня зноў THI. Пайшла дахаты, прыбірала наверсе. Вельмі стамілася. Вечарам званілі Алесі. У яе ўсё добра. Прыедзе на Юрава сьвяткаваньне.

**Аўторак 23 чэрвеня**

Вітаўт хадзіў здаць аплікацыі[1] на пашпарты. У Вітаўта па абедзе зборка. З Тумашам на каву не хадзілі. Я, як дурная, без патрэбы яшчэ ў абед схадзіла ў пашпартнае бюро, бо В[*ітаўта*] доўга ня было назад. Я ўжо думала яго падмяняць там у чарзе. Але мы якраз разьмінуліся.

Вітаўт паехаў раней дахаты. У яго зборка Ed. Committee[2].

Я зазваніла Дутку, каб сказаць, што скапіявала для яго песьні. Яго

ня было — спадарыня казала, што ў доктара. Нешта ў яго кроў з носу йдзе. Хварэў ужо колькі дзён. Вітаўт прыйшоў дахаты з Ануфрыкам[3], але той доўга не сядзеў. Зборка была вельмі ўдалая. Яны дамагаюцца, каб залічвалі ў школах чужыя мовы, што дзеці вучаць у суботніх школках.

---

[1] *Блянкі заяваў.*
[2] *Адукацыйны камітэт.*
[3] *Сябра ўкраінец, арганізатар украінскіх урачыстасьцяў.*

**Серада 24 чэрвеня**

Напісала Камкіну, заказала дзьве кніжкі. Нічога надта цікавага ня было ў каталёгу. Здала фільм. Паехала дахаты раней. Хадзіла да дэнтыста. Нічога новага ён мне не рабіў, казаў прадаўжаць мазаць. Нешта нічога з гэтага ня выходзіць — дзясна адступае ўсё далей і далей.

Прыходзіў Дутка са сваім шваграм, які прыехаў да іх у госьці з Польшчы. Аддала песьні. Доўга не сядзелі.

Вітаўт фарбаваў наверсе. Добра зрабіў, толькі надта-ж фарба сьмярдзіць. Неяк вельмі войстра й прыкра.

**Чацьвер 25 чэрвеня**

Засталася дома, каб трохі спарадкавацца.

Раніцай зьезьдзілі зь Юрам у Патэрсон, купілі соды, кавун, фруктаў для нас. Юра паехаў на працу, а я стала прыбіраць. Горача, парна. Але [redacted] памаленьку спарадкавала ўсё наверсе. Уборная й умывальнік цудоўна працуюць, але фарба яшчэ ўсё страшэнна сьмярдзіць. Прыбрала ўсё чысьценька. Верх зусім інакш выглядае.

Да В[*ітаўта*] прыходзіў чалавек з «Army» наконта кніжкі пра Беларусь[1]. У В. асталося прыкрае ўражаньне — з намі зусім ня лічацца ў State Dep[*artment*].

Пасьля вячэры паехалі з М. В. у магазын. У міжчасьсі прыходзіў з Insurance[2] — перарабіць страхоўку на хату. Прыходзіў і Болесь. Пачыніў у бабкі дзьверы. Цяпер ужо ўсё больш-менш у парадку для Юравай Party[3]. У магазыне мы купілі сёе-тое. Пачаўся страшэнны лівень, як мы былі там. Вітаўт чуць справіўся пазачыняць вокны.

---

[1] *У арміі рыхтавалі невялічкія кніжачкі пра рэспублікі СССР, я даў інфармацыю.*
[2] *Страхавой канторы.*
[3] *Юра заплянаваў вялікую вечарынку.*

**Пятніца 26 чэрвеня**

Прыходзіў Тумаш. В[*ітаўт*] расказаў яму пра гутарку з тым чалавекам з «Army», пра свае ўражаньні аб нашай незараднасьці, што ў дзяржаўных колах пра нас, як народ, нецікавая апінія, ня думаюць, што мы нейкая рэальная сіла, што не дарасьлі да незалежнасьці. Той чалавек, аднак, на нашым баку. Ён гаварыў і з Запруднікам. Абмяр-

коўвалі й пра адзначэньне Акіншэвіча і ў Мюнхэне. Падах[1] хоча й там зрабіць супольна. Больш-менш паўтарэньне ньюёркскага. Тумаш паказаў ліст ад Зосьці Верас. Там рыхтуецца кніжка пра Багдановіча. Т[*умаш*] лічыць, што варта пераслаць ім маміны ўспаміны з «Бел. Моладзі»[2]. Зрабіла адбіткі.

Прыходзіў Bird. Схадзілі павячэраць і пагаварыць. Гаварылі пра розныя рэчы; [redacted] расказала яму пра Трыстана. Цікавае выйшла з гутаркі, што ён падумвае, каб зрабіць сэрыю лекцыяў пра бел. літаратуру ў Queens. Я, праўда, сядзела, як на іголках, бо трэба яшчэ сёньня ехаць на фарму.

Прыехалі дахаты ўжо па сёмай. Сабраліся й паехалі з М. В. Ехалася добра, хоць трохі трафік і быў. У мамы павячэралі й пайшлі спаць.

Алеся прыехала дахаты позна. Юра там ужо рыхтаваўся. Рабіў апошнія закупы, прыгатоўваў катлеткі.

---

[1] *Кіраўнік навуковага таварыства імя Шаўчэнкі. Гаворка ішла пра супольную беларуска-украінскую ўрачыстасьць.*

[2] *У часапісе «Беларуская Моладзь» былі ўспаміны Апалёніі Савёнак аб вечары ў Менску, калі Максім Багдановіч упершыню прачытаў свой верш «Пагоня».*

**Субота 27 чэрвеня**

Раніцай зьезьдзілі ў ягады. Клубнікі ўжо ня было. Натрапілі на чарніцы. Назьбіралі трохі, але ягады нецікавыя. Пазьбіралі й маліны каля хаты.

Прыехала дахаты недзе ўжо каля 7-ай. Party ў поўным разгары. Шмат моладзі, шумна (нейкую аркестру запрасілі), але прыстойна. Пад вечар пачалі ўжо трохі падпіваць. Тады мы пахавалі ўвесь алкаголь (які прыносілі госьці, бо Юра меў толькі піва й пунч). Пазьней сканфіскавалі й піва. Фактычна моцна падпітыя былі толькі Вітаўт Т[*умаш-малодшы*] і Віктар Тур. Музыка сьцішылася пасьля 10-ай, але ўсё час-ад-часу яшчэ прабавалі йграць. Але а 12-ай мы ўжо ўсялякую музыку забаранілі. Бальшыня «гасьцей» разьехалася. Нейкіх 16 засталося на нач.

Мы ляглі спаць, але пазьней прачнуліся. Юры няма. Чакаюць яго яшчэ Карэн і яго сябра з Ратгэрсу. Вітаўт пачаў ужо псіхаваць, але я яго неяк супакоіла трохі. Нарэшце Юра прыйшоў пасьля 4-ай. Я трохі яго пажурыла. Віт. ужо нават і ня ўмешваўся. Пайшлі ўсе спаць, адно Юра яшчэ з Карэн гаварылі аж да 7-ай.

**Нядзеля 28 чэрвеня**

Раніцай я зрабіла каву. Юра зьезьдзіў па сьнеданьне. Пасьнедалі хто калі.

Раніцай званіў [*Алесь*] Міцкевіч, што каб тыя грошы $250, што далі на пазычку царкве, лічыць ахвярай. Я так і думала, што гэта будзе. Што-ж, нічога ня зробіш.

А гадзіне 1-ай пачалі яны зноў смажыцца ды бавіцца на двары. Але

ўсё было вельмі спакойна й прыстойна. Засталіся толькі беларускія дзеці ды ягоныя бліжэйшыя сябры са школы.

А 4-ай недзе паехала Алеся дахаты, а каля 6-ай разышліся ўсе.

Званіла Юзэфа [*Найдзюк*]. Як заўсёды шмат гаварыла.

Пазьней званіў Васіль Р[*усак*]. Расказваў пра дом, што маюць купляць[1]. Клікаў нас да іх. Дамовіліся на аўторак.

Адпачывалі пасьля такога бурнага weekend'у. Я трохі прыбрала ў бабкі.

---

[1] *Дом так ніколі й не купілі.*

**Панядзелак 29 чэрвеня**

Забрала фільм. Выйшла так-сабе. Нічога важнага. Тое, што ў хаце, — ня выйшла. Трэба здаць апарат паправіць. Ямо астаткі з Юравай Party. Больш нічога з гэтага дня не прыпамінаю.

**Аўторак 30 чэрвеня**

Тумаш прынёс мне падарунак на заўтрашні дзень народзінаў — кніжку Гусоўскага — «Песьню пра Зубра». Я вельмі была радая й удзячная.

Вечарам езьдзілі да Русакоў. Я зайшлася да Надзі аддаць падушкі для Ірэны й Валі, што рабіў Капура. У іх там Брылеўскія. Пагаварылі трохі. Яны ўжо тут колькі дзён — на вакацыях. Надзя аддала грошы. Расказвала ім пра Барскага.

Пазьней і яны ўсе прыйшлі да Русакоў. Вячэралі. Добра, прыемна было. Шмат жартавалі, расказвалі анэкдотаў. Пасьля, як іншыя разышліся, гаварылі пра царкоўныя справы, пра куплю дому. Але было ўжо позна, дык так да нічога не дагаварыліся. Вырашылі, што яны прыедуць да нас пагаварыць яшчэ. Прыехалі дахаты ўжо зусім позна.

**Серада 1 ліпеня [*дзень народзінаў Зоры*]**

Вітаўт зь Юрам сёньня робяць купляньне для мяне. Што ўжо яны там накупляюць. Званіла Алеся — прывітала. Яна ім нешта камандавала, што купіць, але Юра яе ня слухае.

Я прыйшла трохі раней. Юры яшчэ ня было з работы. Я трохі ўжо распранулася, дык зусім пасьля ня было ахвоты ісьці недзе на вячэру. Рашылі ўзяць смажаную курку і павячэраць дома. Так і зрабілі. Прыемна павячэралі зь вінам (канфіскаваным ад моладзі). Трохі неяк нават ап'янелі. Быў і торцік. Раскрыла падарункі [*на віншавальнай картцы было напісана*]: «Грошы на крэсла і яшчэ на што хочаш», нейкую кафэльку, кубак, дакляраваньне на візытныя карткі (адным словам, што маглі прыдумаць). Алеся прыслала прыгожыя кветкі. Прыемна пасядзелі, пагаварылі.

Ага, на рабоце мела таксама прыемны «падарунак» сёньня — прыйшоў сэрбскі «Трыстан» з Каліфарнійскай бібліятэкі. Вельмі мяне гэта

ўсьцешыла. Ангельскага перакладу яшчэ ўсё на паліцы няма (cl. mark[1] ужо ведаю).

[1] *Бібліятэчны код.*

**Чацьвер 2 ліпеня**

Сяньня бібліятэка адкрыта (замест заўтра). У абед хадзіла ў магазын — нічога не купіла.

Вечарам адразу-ж паехала на фарму. Яны мне абяцалі, што дома будзе ўсё добра.

На фарме ўжо бабкі чакалі мяне з торцікам. Павячэралі. Я трохі стомлена чулася. Пайшлі рана спаць.

**Пятніца 3 ліпеня**

Раніцай мама зазваніла да сваіх знаёмых пра ягады. Зьезьдзілі ў банк і тады адразу ў ягады. Ягады вялікія, але мала сьпелыя. Сабралі, праўда, дзьве банкі. Не дарагія.

Пазьней мы яшчэ зьезьдзілі з мамай у магазын. Так больш нікуды й не выбраліся. Соўгаліся па хаце, на двары.

**Субота 4 ліпеня**

З самага раньня дождж — ды й моцны. Нікуды не паехаць, нічога цікавага рабіць няма. Зазванілі да Нядзьвігаў. Зьездзілі да іх. Там, праўда, на хвілінку дождж перасьціх. Сабралі нават агрэст. Пазваніла да Нічык наконта сярмягі. Дамовіліся, што пакіну ў Нядзьвігаў. Можа, яны й не забяруць яе. Дзень няўдалы. Пакінула Дз[*ядзю*] В[*аню*] крэсла — можа паправіць.

**Нядзеля 5 ліпеня**

Завезла маму ў царкву. Тады паехалі па ягады да той удавы, што на рагу. Ягады дробныя, але сабралі банку. Рашылі яшчэ заехаць у тое мейсца, дзе дарагія. Там сапраўды з прыемнасьцю, хутка сабралі. Патрошкі пачалі парадкавацца, зьбірацца і хутка паехалі.

Ага, як былі ў ягадах — паламалася ручка ад машыны, што зачыняе вакно. Так і засталося вакно напоўадчыненае: ні туды, ні сюды. Вельмі я расстроілася. Па-першае, клопат, як паправіць, а па-другое, будзе нам прыкра ехаць з адчыненым вакном без халаджэньня. Добра, што пагода неблагая.

Даехалі, праўда, добра. У хаце ўсё ў парадку. Яшчэ й адпачылі трохі.

**Панядзелак 6 ліпеня**

Вітаўт хадзіў да Запр[*удніка*]. Гаварылі пра газэту. Кажа, каб пісалі[1]. Быў там і Шук[*елойць*]. Перадаў запросіны й паведамленьне аб зьезьдзе БАЗА.

Адамовіч сказаў, што ўжо канчае Салаўя[2]. Дай Божа!

Напісала ліст Юрку Станкевічу, каб прыслаў сваю частку пратаколу з мінулага зьезду БАЗА.

Пазваніла да Русачыхі, што хачу падаць у газэту падзяку за рэчы. Яна мне дала дакладныя весткі, але казала, што яна надта не афішуецца, адкуль і што — там[3] яшчэ сям'я. Трэба будзе, пішучы, уважаць.

Званілі з Кліўленду — Барскі прыедзе ў Нью Ёрк, каб ім тут заапекаваліся.

---

[1] *Каб павялічыць лік супрацоўнікаў і карэспандэнтаў.*
[2] *Уступны артыкул да кнігі.*
[3] *У Беларусі.*

**Аўторак 7 ліпеня**

Напісала ліст (фактычна, выпаўніла анкету) у Insurance з пальцам[1]. Яны там нешта наблыталі. Усё яшчэ не залагоджана, але гэта ўжо не мая справа. Тумаш прынёс папраўленага Салаўя. Ён таксама чуў ад Ад[*амовіча*], што ўжо выканчвае артыкул. Але паверым, як будзем мець ужо ў руках.

Матар'ялаў для «Запісаў» выглядае, што хопіць. З Рэцэнзыяй на «Трыстана» ў гэты нумар няма чаго сьпяшацца. Пасьля працы пасьпяшаліся дахаты, бо прыедуць да нас Русакі.

Русакі, як і можна было чакаць, прыехалі позна. Мы ўжо прагаладаліся іх чакаючы. Пагаварылі пра царкоўныя справы для паданьня ў газэту. Васіль трохі падпіў. Параілі ім ехаць у Nags Head[2] — яны за пару дзён зьбіраюцца на вакацыі. Было даволі сымпатычна, толькі што без патрэбы шмат пілося.

Пазваніў Ул. Русак. Барскі ўжо прыехаў да іх. Яны зноў ім заапякуюцца.

---

[1] *Ліст у страхавую кантору, што ў магазыне парэзала палец.*
[2] *Курорт у штаце Паўночная Караліна.*

**Серада 8 ліпеня**

Раніцай пераглядзела «World Lit.»[1]. Знайшла пару рэцэнзыяў на бел. кніжкі.

Сяньня ТНІ. Пачакала В[*ітаўта*] і схадзілі зь ім у Liberty Travel[2] даведацца пра білет Юру. Адна магчымасьць таньней дастаць білет, калі купіць у два бакі і ехаць ад аўторка да суботы. Папыталіся і пра Эўропу. Зьніжаныя цэны толькі пасьля 15 верасьня.

Прыйшлі кніжкі ад Камкіна. Нічога асаблівага. Шыла. Схадзіла да дэнтыста. Усё яшчэ нічога канкрэтнага — мазаць, а больш нічога няма рабіць. Кажа, што можа й зацягнецца.

Болесь паправіў ручку ў машыне. Добра.

---

[1] *Часапіс «World Literature».*
[2] *Бюро падарожжаў.*

**Чацьвер 9 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў на паседжаньне ў Трэнтан. У нас зноў ТНІ. Прыехала дахаты й чакалі В. ды паехалі па пакупкі зь Юрам. Купілі мне крэсла, падсьцілкі. Купілі й яму тое-сёе.

Шыла спадніцу сабе. Неяк няважна выйшла.

В. вечарам званіў Адамовічу — канчае Салаўя! Гаварыў ён з Сіповічам. Той дамагаецца «Раніцы». Трэба нешта рабіць. Пагаварыла зь В., што [redacted] займуся гэтым. Перш за ўсё палічыць, колькі нумароў [*ёсьць у нас у бібліятэцы*].

**Пятніца 10 ліпеня**

Ранічкай неяк ня спалася. Праверыла [*на працы*], падлічыла «Раніцу». Добра, што раней усё ўпарадкавала, то было проста. Аказваецца, не хапае амаль цэлага 1943 году. Шкада.

Зноў у нас ТНІ. Пайшла дахаты адразу. Па дарозе купіла матар'ялу для [*перацяжкі*] крэсла. Можа, так выйдзе, што нам трэба будзе везьці Барскага ў Bel Air[1], дык каб хоць троху мець нейкую прыемнасьць.

Шыла [*пакрыўку*] для крэсла. Добра выйшла.

---

[1] *Бэлэр-Менск — беларускі цэнтар летняга адпачынку ў летнія месяцы ў штаце Нью Ёрк.*

**Субота 11 ліпеня**

Мы дома. Барскім займаюцца Русакі й Рая. Ну й цудоўна. Яны паедуць у Bel Air і яшчэ можа дзе.

Схадзіла зрабіць валасы, тады зьезьдзілі у Passaic з М. В. Тое-сёе купілі. Ня памятаю ўжо нават, па што й заязджалі. У Патэрсоне купілі фруктаў.

Пасьля пайшла на двор, на сваім новым крэсьле й пісала артыкул пра музэйныя набыткі[1]. Чытала Трыстана. Было вельмі прыемна, толькі трохі горача. Юра працуе. В[*ітаўт*] адпачывае й працуе для сябе.

---

[1] *Зора часта піша «музэй», «музэйныя набыткі». Яна і іншыя энтузіясты марылі некалі купіць дом і стварыць у ім Беларускі музэй у ЗША. Гэтая думка так і застаецца марай яшчэ й сёньня.*

**Нядзеля 12 ліпеня**

Пасьнедалі разам. Парадкавалася каля хаты. Шыла блюзку. Добра выйшла. Пазваніла Тамары й Лізе, каб удакладніць прозьвішчы, хто рабіў касьцюмы. Бо рашыла ўставіць і тое, што БІНіМ перахоўвае й калекцыю касьцюмаў. Вечарам перадрукавала артыкул. В[*ітаўт*] працуе са сваім — выкончвае, рэдагуе артыкул пра царкоўныя справы ў «Бел[*арус*]». Дзень добра прайшоў.

**Панядзелак 13 ліпеня**

Зноў ТНІ. Віт[*аўт*] занёс Запрудніку артыкулы. Адамовіч усё яшчэ «канчае». Не зрабіў яшчэ. Кажа цяпер на наступным тыдні кончыць.

Прыходзіў [*Уладзімер*] Брылеўскі ў Бібліятэку. Схадзілі зь ім на каву, пагаварылі. Яны ўжо хутка ад'язджаюць. Шкадуе, што не ўдалося пабачыць Барскага. Ён яшчэ застаўся — будзе чакаць В., а я пайшла дахаты. Зайшлася яшчэ ў той магазын, дзе купляла фотаапарат. Магазыну ўжо няма — kaput (як сказаў сторож)[1]. Я ўжо й ня ведаю, што рабіць. Недзе здаваць у пачынку, калі можа там нейкая драбніца? А зь мяне зьдзяруць.

Ліза на вакацыях. (Я хацела зь ёй лепш пагаварыць пра «Раніцу»). Прыйдзецца гаварыць з Карэсарам[2].

Дома парадкавалася.

---

[1] *Часта так бывае: рэкляма — танны распродаж! А праз тыдзень-два магазын збанкрутаваў. Хітрая прыхватка бізнэсу. І на гэта часта ловяцца!*

[2] *Калегі ў бібліятэцы, якія маюць дачыненьні да беларускіх матэрыялаў.*

**Аўторак 14 ліпеня**

Зноў ТНІ. Прыйшоў яшчэ адзін «Трыстан» з L[*ibrary of*] C[*ongress*]. Аднесла ім першы, бо гэты дзейны на даўжэй[1].

Быў у біб. Запруднік — нешта пагаварыць з Тумашам пра Крэчэўскага (здаецца прадалі яшчэ адзін дом). Я і Т. і Зап. бачыла толькі прабегам. Тумаш пайшоў у друкарню — здаць артыкул Кенэдзіхі[2] (яна ужо піша ругальныя лісты адзін за другім: «Што з артыкулам?»).

Сёньня ўдалы дзень. Пагаварыла з Карэсарам наконта «Раніцы». Усё ў парадку. Ім якраз трэба здаваць месячную квоту да фільмаваньня і яшчэ ёсьць мейсца[3]. Так шчасьліва прыйшлося.

Па абедзе прыехаў Юра з машынай. Мы яго ўжо чакалі й В[*ітаўт*] пачаў быў нэрвавацца. Запаркавалі машыну ў бібліятэцы й паехалі аўтобусам у кніжны магазын. Купілі, што там было, — патрацілі шмат грошай. Кніжкі дарагія. Пайшлі ў другі — там некаторыя кніжкі танней. Купілі таннейшыя і пайшлі абмяняць назад даражэйшыя. Усё гэта пехатой. Добра, што надвор'е прыемнае. Зайшлі зьелі па дарозе марожанага. Пазванілі В., дамовіліся, што ён нас з машынай спаткае каля Barns & Noble[4]. Стаміліся, але шмат зрабілі. Праўда, акрамя кніжак, нічога ня было часу й купляць. Ужо ў N.J. заехалі купілі паесьці. Неяк не хацелася заставацца у N.Y. і есьці ў рэстаран, як раней плянавалі. Дзень быў удалы, хоць і суетлівы.

---

[1] *Калі пазычаліся кнігі зь іншых бібліятэк, дык трэба было пільнаваць тэрмінаў, да якіх тыя кнігі можна трымаць. З гэтым трэба было быць вельмі асьцярожна, калі ператрымаеш — могуць больш не пазычыць.*

[2] *Патрыцыя Грымстэд-Кенэды — дасьледніца архіваў СССР, брала ўдзел у канфэрэнцыі БІНіМу і дала артыкул у «Запісы», дык падганяла, каб хутчэй друкавалі.*

[3] *Бібліятэчныя працэсы вельмі павольныя. Газэта «Раніца», як і іншыя беларускія пэрыёдыкі, была сьфільмаваная на мікрафільм.*

[4] *Адна з найбольшых амэрыканскіх кнігарняў зь сеткай крамаў па ўсёй Амэрыцы. Калі я ў 1961 годзе вучыўся на бібліятэчным факультэце, дык адна мая сэмінарская праца была на тэму «Навуковая кніга ў кнігарні Barnes & Noble» — я правёў*

*тады ў іх у магазыне два дні. Тады яны мелі ўсяго адзін магазынчык на рагу 19-ай і Брадвэю. Як яны ад таго часу разрасьліся!*

**Серада 15 ліпеня**

Атрымалі палучку з прыбаўкай. Цяпер я маю ўжо [*на год*] $22.000. Нейкая была памылка ў маім PCN[1]. Схадзіла ў Personnel[2] — паправілі. Прынесла й здала «Раніцу» у Slavonic[3]. У добры час! Кажуць, што за месяц будзе гатова.

Пасьля працы паехалі да Ballarine. Пасядзелі ў яе, пачаставаліся, забралі машынку, што пазычалі ёй. Яна дала для Юры Toaster-oven. Добры.

Званіла Русачыха, каб заняліся Барскім заўтра. В. заўтра не працуе, хацеў аддыхнуць дома. Вельмі-ж яму гэта не выпадае. Заўтра будуць яшчэ дагаварвацца.

---

[1] *PCN — Personal Change Notice — бюрактатычны скарот амэрыканскай канцылярыі. Любая зьмена ў зарплаце або ў гадзінах працы мусіць быць запісаная ў PCN. Кожны раз, зь любой зьменай на працы работніку выдаецца PCN.*

[2] *Аддзел кадраў.*

[3] *Славянскі аддзел.*

**Чацьвер 16 ліпеня**

В[*ітаўт*] дома. Зазваніў да Русакоў. Яны ўжо самі апякуюцца Барскім — паедуць, здаецца, на мора. В. аж мне пазваніў, што ўсё ў парадку — ня трэба яму фатыгавацца.

Парадкаваліся зь Юрам на двары. Зьезьдзілі заплацілі Курцу за срэбра.

У мяне нічога цікавага. Рабіла тое-сёе для Трыстана.

**Пятніца 17 ліпеня**

Прыехалі ў біб[*ліятэку*] Пашкевічы[1]. Схадзілі зь імі на каву, пагаварылі. Яны, як даведаліся, што будзе вечар Барскага, захацелі застацца ў нас. Пасьля ў гутарцы неяк высьветлілася, што вечар у суботу, што В[*ітаўт*] працуе, што я па яго прыеду ў бібл. Яны вырашылі ехаць назад да Галячыхі (дзе затрымаліся), а заўтра прыехаць пад бібліятэку й разам паедзем на рэфэрат. Мне гэтая разьвязка даспадобы. Спаткаліся яны й з Тумашам ды пайшлі зь ім у 4-Cont[*inents*]. Схадзілі яшчэ пазьней разам на каву, ды яны паехалі (заехаў за імі Касяк[2], які таксама з жонкай гасьціць у Галячыхі).

Вечарам званіў Сяргей [*Карніловіч*] — хоча прыехаць гэтаксама на рэфэрат. Дамовіліся, што прыедзе заўтра ў N.Y., у бібліятэку.

---

[1] *З Канады.*

[2] *Іван Іванавіч Касяк. Усе гэтыя — тады старэйшыя дзеячы — былі сябрамі зь віленскіх міжваенных часоў.*

**Субота 18 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў на працу з Sperling. Юра таксама працуе. Я зра-

біла прычоску й пачала езьдзіць, купляць, рыхтавацца да вечара. Я маю зрабіць пачастунак. Да В[*ітаўта*] прыйшлі Русакі з Барскім, прыехаў Сяргей [*Карніловіч*]. Пайшлі яны купляць нейкую прыладу да рэкордэра. Яшчэ адна невялічкая канфузія[1]. Пакуль яны хадзілі куплялі (з Джанам[2] са Sci. & Tech.), Русак чакаў у машыне. Не дачакаўся, кінуў іх і паехаў дахаты. Яны мусілі ехаць падземкай. Сяргей зноў мае сваю хваробу з пальцам[3]. Горача, стаміліся.

У мяне гэтаксама беганіна, хваляваньне: Shop Rite, Paterson, Donuts (той стары быў зачынены — шукала новага). Чуць справілася. Пад канец ужо так сьпяшалася. Яшчэ спачатку трохі парадкавала ў хаце — можа-ж прыедуць людзі нанач. Хоць В. пазваніў, што яны вырашылі прыехаць з Галячыхай і Протасам[4], і, праўдападобна, паедуць зь імі-ж назад. Але хто іх ведае. Сяргей то напэўна прыедзе да нас.

Прыехала ў N.Y. якраз па 5-ай. Але В. ужо чакаў і нецярпліваўся. Добра даехалі. Там я ўсё прыгатавала спакойна. Было віно, кава, сухарыкі з сырам і калбасой і пончыкі. Сп. [*Нюра*] Русак купіла для нас калбасы.

Вечар прайшоў вельмі удала. Сабралася шмат людзей. Ён [*Барскі*] гаварыў пра сваю літ. кар'еру, чытаў вершы, гаварыў і пра іншыя рэчы — жыцьцё беларускае ў Польшчы, іх праблемы і інш. Былі й пытаньні — гэтаксама пра ўсё. Ён вельмі тактоўна адказваў што мог, а што не хацеў ці не лічыў патрэбным адказваць, так і казаў, што гэта не ў ягонай кампэтэнцыі. Падкаваны ён, але прыемны, і што важней за ўсё — беларус перадусім. І пачастунак быў прыемны. Толькі-ж надта было горача. Як Барскі зазначыў: «Ніколі яшчэ так у сваім жыцьці не пацеў». З нашага страху, што будуць начаваць у нас шмат — выйшла нічога. Ня прыйшлося нікога гасьціць. Паехалі дамоў самі, спакойна. Пашкевічы паехалі назад да Галячыхі. Сяргей да Русакоў.

Заняты, суетлівы, няпэўны дзень — скончыўся вельмі памысна.

Пагаварыла з Шук[*елойцем*] наконта Кангрэсу БАЗА.

---

*[1] Блытаніна (confuision).*

*[2] Джан Краноўка — мой сябар з Навуковага аддзелу. Добра знаўся на электронных прыладах, часта дапамагаў нам купляць.*

*[3] Меў «шляхотную хваробу» — падагру, часта пухлі суставы.*

*[4] Галякі, Протасы, Касякі часта заяжджалі ў бібліятэку. Мы зь імі былі ў сяброўскіх дачыненьнях.*

### Нядзеля 19 ліпеня

Пасьнедалі разам усе. Юрачка працуе. Я трохі парадкавалася. Пасьля абеда паехалі ў New Brunswick на лекцыю Барскага[1]. Прыехалі у Douglas College заранься, але людзі ўжо пачалі патроху зьбірацца. Заля закрытая, Галіны няма. Нарэшце, пасьля поў-гадзіннай беганіны, тэлефанаваньня, клопатаў увайшлі ў прахладную залю. Зборка прайшла добра. Сабралася вельмі шмат людзей. Прыехалі

зноў Пашкевічы і Со. Гаварыў Барскі й тут пра ўсё, трохі паўтараўся, але было цікава слухаць — гаварыць ён умее. Галіна адчыніла. Вітаўт сказаў пару словаў. Прадумана, узважана. Былі й пытаньні, было трохі й непатрэбнага чапляньня, але агулам усё вельмі добра ўдалося[2].

Пазьней паехалі да Галіны. Там сабраліся знаёмыя зусім людзі: Сільвановічы, Літаровічы, Люда Махнюк, Станкевічыхі, ну й, зразумела, Русакі й Барскі й Сяргей. Было добра, але мне неяк разбалелася галава, неяк стала прыкра — Вітаўт, хоць і не шмат падпіў, але неяк дурачыўся. Але як паехалі дахаты — то супакоілася. Далі Барскаму кубак і падсьцілачкі[3].

---

[1] *Лекцыю арганізавалі ва Ўнівэрсытэце Галіна Русак і я.*

[2] *Вельмі разумна і ўдала падсумаваў выступ Барскага сп. Ігар Шчорс з Саўт Рывэру. Дарэчы, з Саўт Рывэру было парадачна людзей.*

[3] *Падарункі: кубачак зь беларускім надпісам і падсьцілачкі з нацыянальным арнамэнтам.*

**Панядзелак 20 ліпеня**

Зноў ТНІ. Пазваніла Тамара [*Стагановіч*]. Пайшлі зь ёй на каву, пазьней падышоў і В[*ітаўт*]. Ён усё падчэквае Барскага й Русака. Тамара вельмі задаволеная ўчарайшым выступам. Прыйшлі нарэшце й Б.-Р. В. хацеў наладзіць зь ім афіцыйны абмен публікацыямі. Але Б. неяк гэтым усім мала цікавіцца. Яму абходзіла дастаць ліст ад бібліятэкі для перавозу магнэтафонаў[1]. Пагаварылі трохі, але відаць было, што ён ужо сядзіць на валізках. Яшчэ меўся ісьці ў самалётную кампанію. Разьвіталіся й яны пайшлі. Пайшла й я дахаты.

Дома быў ліст ад Юркі Ст[*анкевіча*] і пратакол БАЗА. Дождж. Нічога не рабілася. Выпісала чэкі на элект., тэлефон і пад. Паправіла [*фота*]апарат. Нічога асаблівага там ня было — трэба было толькі трохі папстрыкаць лямпачку і... зьмяніла батарэйкі (можа, гэта й была прычына). Юра на працы, машыны няма дома, дык я так і правяла дзень бяз толку.

---

[1] *Барскі купіў некалькі электронных прыладаў. Я атрымаў ад бібліятэкі ліст на імя Барскага як паэта і этнографа, што яму гэтыя апараты патрэбныя ў фальклёрна-этнаграфічных экспэдыцыях на Беласточчыне. У бібліятэцы Барскага ведалі як паэта і навукоўца.*

**Аўторак 21 ліпеня**

Зноў ТНІ. Зраньня ўкінулі лісты. Страйку [*транспартнікаў*], што былі страшылі, — няма. Схадзіла яшчэ ў магазын, купіла тое-сёе. І адразу-ж а 12-ай паехала дахаты.

Паехалі зь Юрам па пакупкі. Купілі яму баціны, штаны. Юра пазваніў аб машыну — яшчэ не гатовая[1]. Я тады зьезьдзіла сама да іх, каб паглядзець і даведацца ў якім стане ўсё. Ну, так, як Юра й гаварыў — яны сумленныя людзі, чакаюць частак, самі хочуць

хутчэй збавіцца, абяцаюць, як толькі прыйдуць часткі, — адразу-ж скончаць. цяпер амаль усё ўжо гатова — толькі чакаць. Трохі парадкавалі, але машына нам сапсула настрой — так выглядае, што можа й зацягнуцца.

В. позна працуе. Нічога вечарам ужо не гаварылі — Юра недзе паехаў.

---

[1] *Машына пасьля аварыі была ў рамонце.*

### Серада 22 ліпеня

Раніцай у нас завязалася вельмі прыкрая дыскусыя пра Юраву машыну. Было шмат абвінавачаньняў, грубых словаў, нэрваў, нават сьлёзаў. Усе расстроіліся. Так пасвараныя й разышліся. Я паехала сама. В[*італьт*] меў зборку ў бібліятэцы, ды я яго й ня бачыла аж па абедзе. У абед хадзіла па пакупкі. Прыходзілі Пашкевічы — яны ўжо ад'язджаюць дахаты. Трохі пагаварылі за кавай, але яны сьпяшаліся. Разышліся вельмі міла й прыемна. В. іх забясьпечыў картачкамі й скрынкамі[1].

Паехала дахаты раней. Дэнтыст пачаў ужо плямбаваць зубы. Той зуб выглядае, што трохі гоіцца.

Машыны яшчэ няма — абяцае на пятніцу. В. прыйшоў пазьней — затрымаўся з Томам — хадзілі ў друкарню. Настрой трохі нояк направіўся, але ўсё роўна нейкае напружаньне.

---

[1] *Для працы над ангельска-беларускім слоўнікам былі патрэбныя карткі. Я атрымаў і карткі і скрынкі праз бібліятэку за зьніжаную цану, амаль за сабекошт.*

### Чацьвер 23 ліпеня

Раніцай пагаварылі сур'ёзна пра Мэксыку. Што рабіць з машынай? Рашылі, што калі ня будзе гатова да Юравага ад'езду — папрасіць Barry[1], каб заняўся прадажай.

В[*італьт*] дома. Нацягнуў вяроўку[2].

Я зрабіла копію з NADA[3] для Ю. машыны.

Пазваніў В. — перадала яму адрас Кенэдзіхі. Пазваніла маме, што Юра прыедзе да яе.

У абед схадзіла у ААА[4], узяла яшчэ дадатковыя кніжачкі й мапы. Мы вырашылі, што ехаць нам у Мэксыку будзе лепш паўдзённай дарогай праз N[*ew*] Orleans.

Юра з сваімі сябрамі паехаў у Atl. City. Па дарозе заедуць да бабкі. Мы трохі непакоіліся, бо ўсё-ж ноччу, недзе у казінах там — каб не прайграліся, каб у нейкую прыкрую сытуацыю не папалі. Але ўсё было добра. Прыехаў ён ня так ужо й позна, недзе каля 3-яй. Вельмі задаволены, што заехаў да бабкі. Бабка іх добра прыняла, дала яму $100 на дарогу. Прывёз ён ад бабкі й кветкі й зеляніну. Адным сло-

вам — памыснае падарожжа. Праўда, усе яны праігралі, але, кажа, што няшмат.

[1] *Barry — Юраў сябар, цяпер хірург у Вашынгтоне.*

[2] *Вяроўка сушыць бялізну. Даўгая — мэтраў 30 — была парвалася, трэба было перацягнуць.*

[3] *NADA Blue Book — National Automobile Dealers Association — даведнік з цэнамі на патрыманыя машыны — ад бягучага году і сем гадоў назад.*

[4] *AAA — American Automobile Association — кампанія для дапамогі аўтамабільнаму турызму. Выдаюць карты, даведнікі гатэляў і г. д.*

**Пятніца 24 ліпеня**

В[*імаўт*] рана меў зборку са Stam[1]. Прайшла добра. Але галоўнае, што рана атрымаў паведамленьне, што мае прыбаўку — добрую. Якраз нам цяпер гэта вельмі важна[2].

З Тумашам дыскутаваліся «Запісы», гаварылі пра Барскага. У Т. вырвалася, што фактычна зь яго не вялікі навуковец. Гэта была й мая думка. Неяк мне заўсёды было трохі ніякава, што ён так мала цікавіўся бібліятэкай, літаратурай, нашай навуковай працай.

[1] *Адзін зь бібліятэчных начальнікаў.*

[2] *Я тады рабіў і за сябе, як заступнік шэфа, і за шэфа, які ляжаў у шпіталі.*

**Субота 25 ліпеня**

Раніцай схадзіла зрабіць валасы. Дамовілася на 7:30, але праспала (дакладней кажучы, не праспала, але забылася — бо ўжо ня спала была, а гаварылі, нават, здаецца, трохі паплакала — хвалюемся, стомленыя).

Юра пайшоў на працу пасьля сьнеданьня. Я парадкавалася. Зьезьдзілі ў Paterson, купілі фруктаў. Рэшта дня так і прайшла ў зьбіраньні, парадкаваньні. Вечарам Юра з Barry and Ricky[1] мелі сваю «Party» — сабраліся расьпіць тую бутэльку гарэлкі, што пакідалі на аказыю, калі ўсе трох пападуць у мэд. школы. Я трохі хвалявалася, а В[*імаўт*], праўда, спаў. Я не магла заснуць, глядзела T.V. Юрачка прыйшоў ня так ужо й позна — зусім у парадку. Ён амаль і ня піў. Хлопцы зусім падпілі, аж захварэлі. Ён іх укладаў спаць у Barry. Так неяк стала горда за яго, што ён цьвярозы, разумны чалавек. Хлопцы зьбіраліся яго падпаіць, але як Юра кажа: «Нас, настаўнікаў, не падвядзеш».

[1] *Barry і Ricky таксама сталі дактарамі. Так усе трое і сябруюць да сёньня.*

**Нядзеля 26 ліпеня**

Пасьнедалі ўсе разам — можа апошні раз на даўгі час. Юра пайшоў на працу. Я пакавала й парадкавала яго рэчы. В[*імаўт*] паехаў у царкву, на пікнік. Прадаваў кніжкі. Канфлікт з Міцкевічам старым[1].

Пасьля працы Ю[*ра*] паехаў у N[*ew*] Br[*unswick*] перадаць Наце [*Ру-*

*сак*] касу BAYO[2] й старшынства. Меў заехаць і да [*Юркі*] Азаркі, але яго ня было. В. трохі адышоў, паспаў, бо прыехаў расстроены: у царкве дрэнь справы.

Пачаўся вялікі лівень пасьля поўначы. Юра якраз быў у дарозе. Але прыехаў добра. Яшчэ В. ня спаў — трохі пагаварылі.

---

[1] *Міхась Міцкевіч — «дзядзька Міхась» — усё закідаў мне, што я зашмат цягаю «ААНаўцаў-савецкіх», а я заўдёды адказваў, што трэба гаварыць з усімі беларусамі, бо мы ўсе — адзін народ. Гутаркі бывалі вострыя.*

[2] *Belarusian-American Youth Organization — Арганізацыя беларуска-амэрыканскай моладзі.*

**Панядзелак 27 ліпеня**

Засталася дома, каб парадкавацца. Доўга вагалася ці заставацца, бо думала, што можа будзе ТНІ, дык тады ад поў-дня ўжо буду свабодная, й дня не згублю. Але В[*ітаўт*] парадзіў застацца. Ну і што — не было ТНІ. Такая шкода.

Але парадкавалася. Усё чыста спакавала. Ю. яшчэ цэлую раніцу недзе хадзіў — разьвітваўся. Машына яго не гатовая. Вельмі мы расстроіліся. Ня ведалі ўжо, што рабіць. Юра зрабіў усе захады: пазваніў у Insurance, пазваніў у газэты, запісаў нам усё на паперках. Адным словам, падрыхтаваў усё, калі-б машына была гатовая. Barry мае заняцца продажам.

Але Віту прыйшла бліскучая ідэя — каб Ю[*ра*] выкарыстаў свой адваротны білет. Як толькі знойдзе там хату, каб прыехаў назад дахаты і пастараецца заладзіць з машынай сам яшчэ. Проста й спраўна! Адно толькі каб машына была гатовая. Я ўзялася ўжо за камунікацыю з гаражыстам. Званілі Алесі —расказалі ёй, як усе справы кіруюцца. Юра ўжо зь ёй разьвітаўся і пайшоў недзе з хлопцамі.

Да нас заўтра мае прыехаць Белямук. Вось табе!

**Аўторак 28 ліпеня**

Ранічкай завезьлі Юрачку на аэрадром. Ён яшчэ залатвіў прыезд назад — на наступную сераду. Мелі шмат часу, яшчэ й на каву зайшліся. Дай Божа, каб у добры час! Страх, што дзень перад тым мелі, як будзе дабрацца на аэрадром, — быў дармовым: дарога нашая была адкрытая.

Прыехаў у бібліятэку Белямук. Расказваў, што зусім выпадкам спаткаў Бруцкага ў... уборнай на Port Authority (вось выпадак!), гаварыў зь ім. Бел[*ямук*] падараваў мне дыяманцік.

Тумаш паказаў В[*ітаўту*] Інстытуцкую кніжку[1] — дакладзеныя $4,000 (мусіць прадалі яшчэ адзін дом Крэчэўскага).

Гаварылі з Т[*умашам*] пра славянскую канфэрэнцыю ў Чыкага. Ён неяк бязудзельны — «рабіце, але мяне не чапайце» стаўленьне. Гаварылі й пра рэцэнзыі й артыкулы для «Запісаў». Белямук неяк мала прыймаў удзелу ў гутарцы — мусіць Т. яго стрымлівае. Здала «Тры-

стана»[2]. Зрабіла яшчэ трохі копіяў: зьмест і пачаткі разьдзелаў. Белямук паехаў да нас.

---

[1] *Банкаўскі рахунак БІНіМу.*
[2] *Зрабіць копіі зь мікрафільма.*

**Серада 29 ліпеня**

Пагаварыла зь Лізай, каб папробваць заказаць «Трыстана»[1]. Была ў дэнтыста.

Машыны яшчэ няма. Кажа званіць кожны дзень. Абяцае з дня-надзень. Вечарам пазваніла Шук[*елойцю*], каб перадаць яму надрукаваныя «Запросіны». Стала парадкаваць пратаколы БАЗА. Цяпер, як Б[*елямук*] у хаце, усё роўна не адпачываеш вечарамі, дык займуся гэтым. Хоць як выкарыстаць сытуацыю. Ліст ад Доры Рак аб музэі. Ад нас нікога ў дырэкцыі няма — Галіна праспала![2]

---

[1] *Зора вырашыла сабраць у бібліятэцы ўсе ведамыя выданьні Трыстана на славянскіх мовах. Гэтым заняўся Славянскі аддзел.*
[2] *У гарадзкім музэі Ньюарку быў этнаграфічны аддзел. Мы далі туды пару беларускіх экспанатаў. «Праспалі» выбары ў дарадчую раду музэю. Дора Рак — украінка, працавала ў тым музэі. Вельмі нам дапамагала.*

**Чацьвер 30 ліпеня**

В[*ітаўт*] і Белямук дома. В. мае зборку ў Liberty Park з Gov. Byrne аб этнічным музэі. Бел[*ямук*] паехаў зь ім, быў на Статуі. Пасьля нарады паехалі ў N.Y. да 4-Cont[*inents*]. Там В. купіў яшчэ кухарак. Бел. згубіў свой канвэрт з паперамі, чэкамі, але кажа, што нічога важнага. Я з Ballarine мела каву раніцай. Яна едзе заўтра на вакацыі. Званіла якраз Camille і Марцышын. Яны ўжо пачынаюць актыўнічаць, гізаваць з выбарамі[1]. На падвячорак хадзіла з Фоксам. Расказала яму пра Юраву машыну і цяпер нашую няпэўнасьць, што рабіць. Машыны яшчэ няма: я званіла. В. прыехаў па мяне. Паехалі дахаты, а тады ў рэстаран павячэраць.

Вечарам друкавала пратакол БАЗА, што Юрка прыслаў (ён надрукаваў лацініцай). Бел[*ямук*] не замінае, але ўсё роўна чужы чалавек у хаце — няма як распаясацца.

---

[1] *Украінскія актывісты. Я папярэдзіў, што ў выбарчай кампаніі буду ўдзельнічаць мінімальна, але будуць іншыя беларусы.*

**Пятніца 31 ліпеня**

Сяньня палучка. В[*ітаўт*] мае зборку у Annex[1]. Я схадзіла памяняла свой чэк. Пазваніла ў гараж: чаму ён не выкарыстаў частак з Ю[*равых*] старых дзьвярэй. Ён гучэў ужо неяк зусім інакш: нецярпліва, кажа, што не ад яго залежыць, што ён чакае на часткі. Даў тэлефон тога чалавека з часткамі. Я ўжо была зусім у роспачы, бо неяк раптам спужалася, што гэта можа яшчэ цягнуцца тыдні. Пазваніла пра

часткі — кажуць, што ўжо паслалі, ужо ўсе 3 часткі на траку[2]. Па абедзе маюць атрымаць. У мяне ізноў настрой палепшыўся, але я яшчэ ўсё старалася свае надзеі надта не ўзьнімаць. Паглядзім і паверым, як будзе гатова.

З Тумашам доўна не сядзела. Ён прынёс матрыцы кніжкі аб Фіолю[3]. Ужо частка набраная — ён праглядае. Надта-ж хваліў і друк і спраўнасьць друкарні. Наагул ён задаволены гэтай кнігай.

Пазваніла зноў да гаражыста (з затаеннай надзеяй, што ён скажа: усё ў парадку — забірайце машыну). Аднак, паводле яго, прыслалі толькі дзьве часткі. Хто зь іх маніць? Што там робіцца? Кажа званіць у аўторак. Чаму не ў панядзелак, калі раней ён сказаў, што як толькі будуць часткі — адразу-ж машына будзе гатовая. Я была ўжо расстроеная і ён нейкі рэзкі, нецярплівы. Мне ўжо гэта зусім надаела[4]. Хай цяпер В. зь ім гаворыць.

Спаткалася з Шук[*елойцем*], перадала яму «запросіны». Ён шмат часу ня меў — ішоў у друкарню. Да Кажаноў на вясельле едзе. Я зь ім перадам падарунак. Ліст ім ужо ўкінула.

Вечарам узялі Pizza, хуценька паелі й паехалі спатыкаць Алесю на аэрадром. Самалёт трохі спазьніўся. У А[*лесі*] ўсё добра. Завезьлі яе да Наты, а адтуль яны ўжо самі паехалі на Bel-Air. А мы яшчэ пасядзелі ў Русакоў — былі там і Сільвановічы. Пагаварылі пра царкву, зразумела. У іх у панядзелак мае быць суд. Трохі яны баяцца. Галіна, як дзевачка, скакала. Так і хацелася яе абсадзіць, што з Этнічным Музэем празявала. Пра фэстываль яны таксама нічога ня думаюць — кажуць, не атрымалі запросінаў. Прыехалі дахаты ўжо позна.

---

*[1] Паседжаньне Навуковага аддзелу ў іншым корпусе бібліятэкі.*

*[2] Высланыя паводле графіку (on track).*

*[3] Кніжка аб Фіолю выданьня Польскага Інстытуту ў ЗША: The Beginning of Cyrillic Printing, Cracow, 1491 by Szczepan K. Zimmer.*

*[4] Чаму так шмат клопату зь Юравай машынай: мы яе хацелі прадаць як найхутчэй. За яе плацілі страхоўку, а дзеля таго, што Юра ехаў у Мэксыку, дык машына была зусім не патрэбная.*

**Субота 1 жніўня**

Раніцай зрабіла валасы, купіла на сьнеданьне. Дома яны ўжо ўсе былі ўстаўшы. Бел[*ямук*] ужо падрыхтаваўся ехаць у N.Y. Я думала, што ён ужо тады паедзе у N. Br., ці ў тыя краі, аднак ён пляну вярнуцца вечарам да нас. А назаўтра яны ўжо размеркавалі ехаць у царкву, а тады чакаць на Алесю й прыехаць ужо разам дахаты. Мяне гэта так узбурыла. Па-першае: заўтра мае званіць Юра, па-другое, ня ведама, калі А[*леся*] прыедзе й куды. Дзе яе чакаць? Адным словам, я раскрычэлася. Вырашылі, што ён паедзе ў N. Br. у нядзелю сам на аўтобусе. Але настрой нацягнуўся, напружыўся. Як толькі ён выйшаў — я расплакалася. Ужо нэрвы паддаліся. Зь Юрам няпэўна, з машынай няпэўна, а тут яшчэ чужы чалавек у хаце і зь ім вазіся. Ён вяр-

нуўся пачысьціць зубы, а мы й не пачулі. Надта-ж я перажывала, што ён мог пачуць мой выбух. Але здаецца, нічога ня чуў ці не зразумеў, што аб ім, бо вечарам прыйшоў як ні ў чым не бывала.

Завезьлі Курцу[1] рэшту грошай. Разьлічыліся за сэрвіз. Я прыбірала, трохі шыла, парадкавала. Прыстроіла вячэру. Бел[*ямук*] у парадку. Вечарам яны глядзелі T.V., а я друкавала. Скончыла перадрукоўваць пратакол зьезду. Цяпер пачну парадкаваць пратаколы паседжаньняў Гал[*оўнай*] Управы [*БАЗА*]. Усё прывяду ў парадак, але пастараюся, каб больш не ўваходзіць нікуды. Няма чаго губляць на гэта й часу, й энэргіі, й, здараецца, нэрваў.

---

[1] *У ювэлірную краму.*

**Нядзеля 2 жніўня**

Белямук паехаў у царкву. Прыедзе вечарам сам. Калі-б мы па Алесю ехалі ня позна — падбярэм яго.

Па 8-ай пазваніў [*з Мэксыкі*] Юрачка. Са <u>сваёй</u> хаты, па <u>сваім</u> тэлефоне. Знайшоў добрую хату, з мэбляй і абсталяваньнем, $600 на месяц. Цяпер толькі знайсьці напарнікаў. У сераду прыедзе. Гучаў вельмі задаволена. Мусіў заплаціць за хату наперад, але грошай у яго хопіць. Цяпер каб толькі з машынай наладзілася.

Цяпер сяджу на двары й пішу дзёньнік. Шмат ужо зайшло назад — трэба было падагнаць. Надвор'е добрае.

Цэлы дзень усё падчэквалі тэлефону ад Алесі. Пазваніла толькі позна вечарам, што ня прыедзе дахаты — застанецца ў Bel Air да панядзелка, Ната завязе яе на аэрадром. Пазванілі да Русакоў. Белямук у іх і застанецца нанач. Мы хоць трохі адпачнем. Ён О.К., але ўсё-ж чалавек у хаце — клопат.

**Панядзелак 3 жніўня**

Алеся паляцела (й ня ведалі, праўда, ці паляцела — бо забастоўка авіяцыйных кантралёраў) у Вашынгтон.

Белямук адразу з N. Br. паехаў у Нью Ёрк у бібліятэку.

Вітаўт званіў з машынай. Яны яму пачалі тую самую песьню, што няма ўсіх частак. Ды яшчэ ў дадатак да ўсяго той, зь якім мы мелі дачыненьне, пайшоў на вакацыі. Надта мы расстроіліся. Я дык проста ўжо страціла веру, што нешта з машынай будзе.

Пазваніў Адамовіч, каб нехта прыйшоў забраў матар'ял — нарэшце скончыў Салаўя! Просіць гэтаксама, каб прынесьлі лісты ад Сінькевіча й Сінькоўскага — хоча пачытаць. Ён толькі Мюнхэнам і жыве. Сказалі яму, што прыдзем хіба заўтра. Яму хадзіла, каб хутчэй перадаць Тумашу.

Настрой быў вельмі паскудны з машынай, нічога нeяк не рабілася.

Вечарам я трохі друкавала, каб хоць неяк выкарыстаць час, што ў хаце нехта. Вечарам пазваніла Алеся, што даехала добра. Узяла

пазьнейшы самалёт У Бэлэры было добра. Яна задаволеная. Дамовіліся, што, калі ўсё будзе добра, выедзем у пятніцу, перш да яе, а тады ў суботу ўсе разам паедзем далей.

**Аўторак 4 жніўня**

У абед схадзілі да Адамовіча. Ён даў адзін экзэмпляр для нас і адзін для Тумаша (фактычна толькі канец, бо рэшту Т[*умаш*] мае забраць ад Русака). Адамовіч паказваў сваю працу Баршчэўскаму. Пагаварылі трохі зь ім ды паехалі назад на працу, але спадзяваліся, што, можа, будзе Т.Н.І. Горача. Аднак ня было аж да самога канца дня — 4:45.

Т[*умаш*] паказваў ліст ад Зоські Верас, дзе яна прыпамінае пра Багдановіча. А гэтаксама малюначак «Беларускай Хаткі», што яна намалявала з памяці. Цікава, што мама на гэта скажа, як яна сабе прыпамінае гэты домік[1].

Аддалі Тумашу Адамовічаву пісаніну. Далі яму свой экзэмпляр, бо ён хацеў мець цэласьць, а мы ўсё роўна цяпер чытаць ня будзем.

Вечарам званіў Юра. Ён клапаціўся, як з самалётамі. Заўтра вылятае дахаты. Дай Божа, каб [з *машынай*] нешта заладзілася. Надта-ж мы ўжо стаміліся ад усяго гэтага. Нэрвы напружаныя дарэшты.

---

*[1] Зоська Верас і Апалёнія Савёнак хадзілі ў тую самую «Беларускую Хатку» ў Менску ў 1917—1918 гадох. Яны пачалі перапісвацца.*

**Серада 5 жніўня**

З раньня ўжо абвесьцілі Т.Н.І. Я вырашыла, што пайду сама ў гараж паглядзець, што як [з *машынай*] і сур'ёзна пагаварыць зь імі.

Яны былі вельмі сымпатычныя. Паказалі мне ўсё, што яны маюць і растлумачылі, чаго няма. Мы разам вырашылі, што з тымі часткамі, што ёсьць, машыну можна скончыць і забраць. Выглядае яно добра. Калі нават будзе нешта ня зусім дасканальнае нам важней цяпер ужо хутчэй мець машыну й пачаць прадаваць, чымся чакаць няведама колькі на тыя часткі. У мяне трохі палепшыўся настрой — нейкі прасьвет.

Зрабіла трохі закупы. Не захацелася нават ехаць у Патэрсон. Купіла трохі фруктаў у Shop Rite для Юры. Паехалі каля 10-ай на аэрадром. Юра даехаў добра. Пахудзеў трохі. Добра выглядае. Так было прыемна яго бачыць. У яго ўсё добра. Меў, праўда, праблему з выездам з Мэксыкі па студэнцкай візе. Але ён, відавочна, дае сабе рады. Расказваў, як камбінуе, як начаваў у Mexico City на аэрадроме. Добра паеў яшчэ. Трохі пагаварылі. Ён быў, мусіць,ператомлены, шмат перажываў — ня мог спаць. Але лёг у T.V. room і адпачываў.

**Чацьвер 6 жніўня**

Белямук ужо выехаў з дому з рэчмі. Адлятае а 5-ай [у *Клíўленд*].

Юра пайшоў раніцай у гараж. Яны паабяцалі яму машыну а 4-ай. Аж ня верыцца. Я ўжо баюся й спадзявацца.

Зь Белямуком яшчэ схадзілі на абед. Трохі пагаварылі, і ён ужо накіраваўся пад аэрадром для пэўнасьці.

Як ехалі дахаты, я ўсё яшчэ ня была пэўная, ці будзе машына, але недзе ў куточку была надзея, што Юра будзе нас чакаць пры аўтобусе. Але мы прыехалі раней, як заўсёды, — Юры няма. Яшчэ колькі напружаных хвілін і... бачым чырвоная, прыгожая машына стаіць. Якая палёгка! Машына выглядае, як новенькая.

Мы зь Юрам яшчэ пасьля вячэры зьезьдзілі да гаражыста, дзе куплялі машыну. Ён дае $3800. Заўтра Юра яшчэ прыцэніцца. Падаў абвестку ў газэту. Можа, хто адзавецца. Калі ж не, дык будзе прадаваць. Мы пагаварылі й вырашылі, што гэтак будзе спакайней — дылер адразу дасьць чэк, ніякіх праблемаў. А з прыватнымі людзьмі хто ведае, як яны будуць плаціць. Усё неяк патроху разблытваецца.

Пазванілі Алесі, каб была гатовая на пятніцу. Яна ня думае, што зможа з намі паехаць, калі мы не выберамся ў пятніцу. Ды й для нас будзе не разумна губляць дзень вакацыяў. Выглядае, што ўсё будзе, як плянавалася. Але хто ведае, можа, яшчэ нейкая праблема выплыве.

**Пятніца 7 жніўня**

Рашыла пайсьці раней дахаты, каб пачаць зьбірацца. Зайшла яшчэ ў магазын. Купіла тое-сёе. Юра меў цэлую лісту рэчаў, што яму патрэбна. Усяго не знайшла, але напакавалася мяшкамі. Горача, але не дастаткова да Т.Н.І.

Дома Юра чакае на тэлефон — нехта цікавіцца машынай за $4500. Варта пачакаць. Я яшчэ паехала па пакупкі ў Пасэйк, у Bradley's. Амаль усё, што было ў Юры на лісьце купіла. Яшчэ іншыя рэчы, што прыпомніла. Спакавала нашую валізку. Сядзелі буквальна на чамаданах — усё яшчэ ня пэўныя, ці зможам сёньня выехаць, ці ўсё заладзім.

А гадзіне 5-ай зазваніў той чалавек, што ня можа цяпер наважыцца купляць. Застаецца толькі «дылер». Больш ніхто не адазваўся. Пазванілі «дылеру» і зноў праблема: у іх ужо закрыты сэйф і яны чэк ня могуць даць аж да панядзелка. Я дык ужо й ня ведаю, як мы разьвяжам усе нашыя праблемы. Ні тое, дык тое. Усё, здаецца, ідзе добра, — а тады зноў удар. Як быццам нехта ўсё нас выпрабоўвае — колькі яны могуць выцерпець? Так у няведаньні й няпэўнасьці дачакаліся Віт[*аўта*]. Параіліся й рашылі завесьці машыну да «дылера» — а чэк ён перашле па пошце. Так і зрабілі. І пачалі сьпешна ладаваць сваю машыну. Запакавалі да адказу. Выйшла добра, бо Юра ў некага пераначуе з машынай, бо каля Алесі небясьпечна пакідаць заладаваную машыну нанач.

Пазваніла яшчэ маме і... адправіліся[1]. Даехалі добра. У Алесі адразу-ж пайшлі спаць.

---

[1] *Паехалі ў Мэксыку завезьці Юру на Ўнівэрсытэт.*

### Субота 8 жніўня

Выехалі рана, але пакуль выехалі з Ваш[*ынгтону*] на дарогу шмат страцілі часу. Толькі трохі ад'ехалі і — спусьціла кола. Ды ў такім дрэнным мейсцы, дзе ня было бочнай дарожкі. Зьмянілі і ехалі асьцярожна да бліжэйшага гарадку, каб купіць запаснОе кола. Гэта зусім лопнула. Пакуль мянялі кола ў гаражы, схадзілі пасьнедалі. Пазьней ехалі добра. Дарога прыемная. Дрэвы й кусты пры дарозе, агорнутыя ў айві[1], выглядаюць як «Ghosts»[2] альбо як мэбля, пакрытая прасьцінямі ў пустым доме. Гаварылі, спалі. Юра падмяніў В[*ітаўта*] у поў-дарозе. Настрой добры. Застанавіліся ў Comerce, G[*eorgi*]a. Спакойнае мейсца ўдалі ад дарогі. Гатэль добры, не дарагі. З дарогі былі пазванілі, каб замовіць.

---

[1] *Плюшчом (ivy).*
[2] *Прывіды.*

### Нядзеля 9 жніўня

Выехалі рана. Дарога сёньня нудная праз Miss[*issippi*], Louisiana. Балоты, дзікія зарасьлі. Учарайшыя айві яшчэ трохі спатыкаліся, але радзей. Былі прыгожыя ялінкі, пушыстыя, як вавёрчыны хвосьцікі. Дзеці ўсё сьмяяліся з маіх параўнаньняў.

Затрымаліся нанач у Baton Rouge, L[*ouisian*]a. Доўга круціліся, пакуль знайшлі матэль. Паехалі пашукаць, што паесьці. Алеся ўсё хацела нешта рыбнае. Зайшлі ў даволі прыемны рэстаран, але цэны былі высокія. Алеся зьела свае шрымпы[1], а мы заказалі салаты — неяк ня было ні настрою, ні апэтыту. Амаль ня было скандалу, але В[*ітаўт*] неяк сябе стрымаў — пад канец вячэры добра ўсе сябе адчувалі. Юра яшчэ заехаў па свае «гамбургэры». Пазьней яшчэ шукалі нейкага адкрытага магазыну, каб купіць соды[2], й мне трэба было Hair Spray[3].

Матэль не благі, але не такі ўтульны, як першы.

---

[1] *Крэвэткі (shrimps).*
[2] *Напой з газаванай вадой (soda).*
[3] *Лак-аэразоль на валасы.*

### Панядзелак 10 жніўня

Выехалі з Louisiana. Усё шукалі дзе пасьнедаць. Даехалі аж да Тэксасу. Пасьнедалі. Пазванілі, каб заказаць гатэль каля граніцы ў Brounsville. Нічога ня было. Рашылі застанавіцца колькі міляў перад гэтым у Harlington. На наступнай перарыўцы сталі званіць туды — й там няма. Рашылі ехаць і там шукаць. Нешта-ж знойдзем.

Ехалася сёньня ня так прыемна. Мінулі Houston. Дарога прыкрая. Юра кіраваў шмат. Мне дык яго аж шкада стала. Усё шукалі добрага магазыну, каб закупіць яму прадуктаў. Нічога па дарозе не знайшлі — гарадкі маленькія, старыя. Нарэшце знайшлі, купілі добра. Але неяк настрой напружаны. Як перабярэмся праз граніцу. У Юры няма

турыстычнай карты. Зь ягонай студэнцкай картай могуць быць прыкрасьці.

У Harlington, праўда, матэль знайшлі адразу, і не дарагі. Не такі ўжо шыкарны, але пераспаць будзе О.К.

Паехалі яны ў горад, купіць нешта паесьці. Прыехалі зь ядой і ўбачылі, што забыліся фрыты ў рэстаране. В[*imaўт*] пачаў псіхаваць: «выкідаюцца грошы, не глядзіць, што робіць»... і усё на Юру. Я паслала Юру, каб паехаў і сказаў ім, што забыліся. Юра паехаў, а В. разышоўся. Кідаецца, лаецца. Я разумею, што ўжо за дарогу стаміліся, нэрвуемся, як будзе заўтра, але нашто-ж так сябе распускаць, нашто так бэсьціць усіх? Неяк гэта ўсё несправядліва. Юра прывёз тыя няшчасныя фрыты. Апэтыту ўжо ні ў кога ня было. Але паелі й трохі неяк супакоілася. В. ужо выбачаецца, цісьне руку. Гэта няроўнасьць, нэрвовасьць так ужо надаела. Неяк трэба, каб ён сябе больш кантраляваў. Калі-небудзь нехта ня вытрымае.

**Аўторак 11 жніўня**

Праз граніцу праехалі добра. Усё было ў парадку. Юра яшчэ нават зьбегаў на амэрыканскі бок, каб укінуць ліст. Адно дрэнна, што за ўсім гэтым хваляваньнем (сёньня ўжо я была вельмі нэрвовая й нецярплівая — неяк вельмі хвалявалася за Юру) не пасьнедалі ў Амэрыцы. На мэксыканскім боку ў Matamoras трохі паблудзілі, але выехалі на дарогу й хутка ўбачылі, што ўжо не пасьнедаем нідзе. Так нічога й ня елі цэлы дзень — толькі якія фрыты былі з сабой. Добра, што было што піць. Дарога дрэнная. Была адна яшчэ застава. Усё прайшло добра — толькі Юра сваю турыстычную карту доўга знайсьці ня мог. На дарозе трохі далей абагнала нас нейкая машына з N[*ew*] J[*ersey*]. Мы ўсё думалі, куды яны едуць.

Набралі газаліны[1], купілі марожанага. Ехалася ня так ужо й блага. Праўда, неяк сонна было. На двары горача. Мінулі тропік рака.

Прыехалі у Tampico[2] каля 4-ай. Хата Юры цудоўная. Я ніколі не спадзявалася, што такая будзе добрая. Добра ўмэбляваная, даволі мадэрная (на іхныя стандарты дык мусіць зусім мадэрная). Юра паехаў у школу, да сваіх знаёмых студэнтаў, а мы з Алесяй сталі прыбіраць. Пачалі з кухні. Хата ўтрымлівалася відавочна добра, не запушчаная. Хутка ўпарадкаваліся, але стаміліся, напацеліся. Прыйшоў Юра з сваімі знаёмымі — яны хацелі пазваніць дахаты. І тут пачалося! Вітаўт зноў разышоўся. Ругаўся, абражаў, што Юру ўсе выкарыстоўваюць, абдураюць: «Не заплоцяць». Быў вельмі грубы. Прыпомніў усё: і што Ю. шмат грошы патраціў, і ўчарайшыя фрыты, і машыну, і ўсё, што толькі можна было прыдумаць. Схапіўся: «Не хачу тут больш быць. Вязі мяне на аэрадром — паеду дахаты». Пачаў кідацца дакумэнтамі. Мы ўсе расстроіліся, расплакаліся. І Алеся нават расстроілася. Юра, дык той, бедны ня ведае, што рабіць, як яго супакоіць!

Нарэшце паехалі яны недзе зь Юрам, але ўсё яшчэ не наладзіла-

ся, усё В. яшчэ псіхаваў. Я адправіла дзяцей схадзіць нешта купіць паесьці. В. пайшоў наверх. Я думала, можа, трохі супакоіцца. Я ўсё яшчэ прыбірала. Абы нешта рабіць, абы быць пры занятку, каб ня думаць аб тым, што сталася. Чаму ў нас так выходзе? Чаму мы самі сабе ствараем столькі прыкрасьцяў?

Селі, паелі і неяк патрошку пачало ўлягацца. Трохі [*Вітаўт*] супакоіўся. Пагаварылі сур'ёзна. В. спадзяваўся мусіць, што як прыедзем — будзе ўжо нешта вырашана з кварцірантамі. Яго ўзьдзёрнулі, што гэтыя людзі пакарысталіся тэлефонам, але для Юры нічога не зрабілі, нікога не знайшлі. Мы яго стараліся пераканаць, што за тэлефон яны заплоцяць, што тут студэнты мусяць адзін другому дапамагаць. Неяк памаленьку супакоілася, пайшлі спаць. Усе такія былі стомленыя, вычарпаныя й фізычна й духова.

---

[1] *Бэнзін (gasoline).*
[2] *Горад з унівэрсытэтам, дзе Юра пражыве два гады.*

**Серада 12 жніўня**

Раніцай Юрачка схадзіў купіў трохі прадуктаў, і я пачала варыць сьнеданьне. Прыбрала наверсе ванную. Добра пасьнедалі. Юра паехаў павесіць у школу абвесткі. Памяняў у банку грошы. Хутка пачаліся тэлефонныя званкі, пачалі прыходзіць людзі аглядаць хату. Настрой ва ўсіх палепшыўся. В[*ітаўт*] усё ходзе, аглядае ваколіцы. Пасьля абеду Юра завёз нас на пляж. Здаў адзін пакой (разам зь ім у пакоі). Сымпатычны хлопец нейкі ўсходні. Маці яго доктар. Бацька памёр — таксама быў доктар. Даў Юру задатак. Банкі былі ўжо закрытыя — ня змог памяняць грошы.

На пляжы горача, але ў цяньку, пад навесікам — грыбком з травы — прыемна. Павявае вецярок, п пішу свой дзёньнік. Забылася акуляры, але пісаць неяк патрапляю. Ю. прыехаў па нас пасьля 5-ай. Яшчэ трохі пасядзелі на беразе, ды паехалі дахаты. Купілі прадуктаў па дарозе. Павячэралі. Я пайшла мыцца, аж прыходзіць той Юраў кварцірант яшчэ зь нейкім хлопцам. Сядзелі, гаварылі да позна. Мы зь В. сядзелі на двары. Ужо неяк сямейная атмасфэра нарушылася. Добра нам было-б выехаць у гатэль заўтра.

Хлопец той другі не знайшоў сабе гатэлю — прыйшоў начаваць да нас. Але другога пакою мусіць ня возьме — задорага для яго. Больш ніхто не адазваўся.

**Чацьвер 13 жніўня**

Раніцай прыгатавала сьнеданьне для ўсіх. Яны вельмі сымпатычныя хлопцы. Але Юру патрэбна хутчэй квартырант. Ды каб той скарэй грошы заплаціў.

Паехалі мы з Алесяй у горад, зрабіць можа якія закупы, сувэніры. Нічога не купілі. У горадзе брудна. Дзень сяньня вельмі душны. Спа-

лася ноччу дрэнна — горача. Мы з Алесяй вырашылі, што пойдзем у гатэль. Гэта й для Юры будзе лепш. [redacted] баюся, што тыя людзі, што прыходзілі глядзець пакоі маглі спужацца прысутнасьці столькі людзей.

Пайшлі мы яшчэ трохі з Алесяй пехатой, паглядзелі магазыны. Нічога няма цікавага. А. нагледзіла толькі сабе лікёр.

Занесьлі зь Юрам бялізну мыць. Усё тут ня так проста: «Magniana»[1] (ці як там гэта пішацца). Паехалі шукаць гатэлю — няма, ўсё занята.

Юрачка завёз нас на пляж. Сёньня сонца ня так пячэ, але больш вільготна, душна. Вада, праўда, прахладнейшая. Быў дождж раней, дык ахалодала. Цяпер сяджу у цяньку й пішу. Прыемна, вецер павявае, зрабілася сьвяжэй. Як там у Юры дома? Мне дык ужо дахаты ехаць карціць, але А[*леся*] яшчэ хоча заставацца. Гэта яе вакацыі, ды й самалёт зьмяніць, мусіць, былі-б камплікацыі. Але [redacted] дык бы ўжо нічога ня мела супраць ехаць назад. Тым больш, як падумаеш, якая даўгая дарога наперадзе. Ды й сядзець у Юры ўжо нейк ня зручна. Гатэлю, мусіць, ужо ня знойдзем. Тут усё складана, усё камплікавана.

Юра сёньня нікога яшчэ на пакой не знайшоў. І гэта справа нейк зноў пайшла слаба. [redacted] думала, пасьля ўчарайшай гарачкі, што знайсьці кампаньёнаў яму ня будзе праблемы. Ужо робіцца позна, сонца хаваецца, а Юры няма. Каля нас сядзіць нейкая кампанія маладых мэксыканцаў зь півам. Захоўваюцца яны прыстойна, але я усё роўна нейк трохі напружана чуюся. Хутчэй бы Юра прыязджаў па нас.

Юра прыехаў па на ужо пасьля 6-ай. Нікога яны яшчэ не знайшлі. Званіў нейкі амэрыканец пра кватэру для свайго сына. В[*ітаўт*] казаў, што быў вельмі працівны. Добра, каб такі й ня браў пакою.

Схадзілі ў мэксыканскі рэстаранчык павячэраць. Нешта накшталт Kentucky Fried Chicken. Заказалі й елі на двары, пад парасонікамі. Было прыемна, трохі ахалодала пад вечар. Але, агулам, горача.

---

[1] *Mañana — заўтра (гішп.).*

**Пятніца 14 жніўня**

Раніцай схадзілі з Алесяй пехатой па пакупкі. Нічога надта ня купілі. Толькі для Ball[*arine*] падарунак, цукеркі. Крапаў трохі дожджык — мы ўжо думалі, што ня будзе як паехаць на пляж. Але распагодзілася, й па абедзе Юра нас зноў завёз. Па дарозе яшчэ паглядзелі вазы — нічога. На пляжы сяньня было добра, толькі вада была нейкая надта брудная. Алеся пазьбірала трохі ракушкаў. Я пісала, чытала.

Вечарам знайшоўся трэйці кампаньён для Юры. Нейкі Біл Кэнэды. Трохі старэйшы, працаваў ужо даўжэйшы час у шпіталі. Здаецца, будзе добрая кампанія. Так што Юра ўжо ў парадку. І нам ужо пара

дахаты — мы ўжо на перашкодзе. Схадзілі павячэралі. Прыйшлі дахаты ... і ня маем ключа. Стукалі, круціліся — нічога. Юра пайшоў да гаспадароў па запасны ключ. У міжчасьсі прыйшоў Віт[*аўт*]. Ён ключа таксама ня меў. Але хутка прыйшоў Юра. Усё ў парадку.

Спакаваліся. Неяк перасьпім ужо ноч, [redacted] заўтра — дахаты.

**Субота 15 жніўня**

Выехалі рана. Ехалася даволі добра. Гэтым разам і дарога была нейкая прыямнейшая. Трафіку ня было шмат. Затрымаліся раз — набралі газаліны, выпілі кокі. Праз граніцу праехалі бяз ніякіх праблемаў. Яшчэ заехалі у Matamoras, на Мэксыканскай старане. Купілі паштовак. Алеся купіла яшчэ бутылку лікёру. Затрымаліся ў Brownsville: паабедалі, напісалі паштоўкі, укінулі іх. Алеся зазваніла на аэрадром — усё ў парадку. Купілі яшчэ тое-сёе зь яды. Горача. Горад вельмі людны. Рады былі сесьці зноў у прахладную машыну й ехаць. Затрымаліся нанач у Kingsville, Tex[*as*]. Гатэль нічога асаблівага, але чыста, ды ўжо й стаміліся. Пазванілі да М. В. У хаце ўсё добра. Прыйшоў чэк за машыну. Павячэралі ў пакоі. Я памыла валасы.

**Нядзеля 16 жніўня**

Выехалі ня надта рана. Добра выспаліся. Ехалася раніцай прыемна. Па бакох дарогі баваўняныя палі. [redacted] нават сарвала галінку бавоўны — зусім як ватка: беленькая, мякенькая.

Затрымаліся на сьнеданьне ў вельмі сымпатычным рэстаране. Алеся, нарэшце, мела свой стэйк. Да Houston даехалі каля 3-яй. Завезлі А[*лесю*] на аэрадром, купілі білет (хацелі збыць trav[*eller's*] checks), пакінулі яе, а самі паехалі далей. Праехалі яшчэ даволі вялікі кавалак дарогі. Затрымаліся ў Cartage, Tex[*as*]. Па-дарозе чуць былі ня зблудзілі — пачаўся дождж, вецер, амаль бура. Трохі ўжо й сварыцца пачалі, але стрымаліся. Знайшлі пакой. Я неяк была зьмерзла — не магла ўгрэцца. Трохі выпілі віна... Было О.К. Вітаўт яшчэ званіў пазней А[*лесі*]. Яна даехала дахаты ў парадку. Я дык спала й нават ня чула, як ён хадзіў.

**Панядзелак 17 жніўня**

Выехалі недзе каля 8-ай. Хутка праехалі граніцу ў Луізіяну і на вялікую дарогу 20, па якой будзем ехаць амаль да самага канца. Дарога прыемная. Мясцовасьць куды цікавейшая, як ніжэй, на поўдні. Праехалі L[*ouisian*]a, Місісіпі, Alabama. Ехалася добра. Я трохі падмяніла Вітаўта. Па дарозе вырашылі, што сёньня важна праехаць Атланту, G[*eorgi*]a, бо заўтра раніцай будзе праблема ехаць праз такі вялікі горад у будні, рабочы дзень. Застанавіліся, заказалі гатэль, каб быць пэўным, што будзе дзе затрымацца, як прыедзем позна. Згубілі гадзіну часу на граніцы паміж Al[*abam*]a і G[*eorgi*]a. Прыехалі на мейсца ўжо а 10-ай. Стаміліся трохі. Матэль няцікавы: вялікі, канфузьлівы. Пакой наш аж на 3-ім паверсе. Ну, але неяк улякаваліся.

Пазванілі маме, што, мусіць, прыедзем у сераду, а не ў аўторак, як меліся. Яшчэ перад намі вялікая дарога.

**Аўторак 18 жніўня**

Выехалі рана. Надта-ж яшчэ хацелася спаць, але паехалі. Надвор'е пахмурнае, трохі марасіць дожджык. Прыкра. Затрымаліся на сьнеданьне ў Holliday Inn. Добра, прыемна пасьнедалі. Думалі сабе на вечар ужо замовіць матэль, але яны такія дарагія, што рашылі ехаць і заарыентавацца пазьней у дарозе, дзе станем.

Ехалася даволі добра, і хутка мы пачалі думаць, што можа й справімся сёньня даехаць да N.J.

Праехалі Ga., South Car., North Caroline. Як былі ўжо ў Вірджыніі, то магчымасьць даехаць да мамы стала выглядаць зусім рэальнай. Нават можа яшчэ пасьпеем на апошні паром[1] (я знайшла стары расклад). Ня гублялі часу, але й не ляцелі. Ехалі нармальным тэмпам, ведаючы, што тут паліцыя чапляецца за хутчыню.

Так усё памысна склалася, што й на паром пасьпелі (ён трохі спазьніўся) й маме пазванілі — яна яшчэ ня спала й даехалі да яе ня так ужо й позна. Вялікая дарога (амаль 900 міляў) добра прайшла. І не стаміліся ўжо так моцна. Дзень прайшоў удала.

---

[1] *Паром з штату Дэлавэр у штат Нью Джэрзі.*

**Серада 19 жніўня**

Раніцай на фарме ўсё яшчэ былі дызарыентаваныя — дзе мы, у якім штаце, у якім гатэлі? Але добра адпачылі. Я расказала маме пра Ю[*ру*], пра дарогу. Зьезьдзілі з мамай па памідоры. Набралі аж 2 кошыкі. Зьезьдзілі яшчэ й па ягады. Ужо мала й дробненькія, праўда смачныя, але сабралі банку. Зьезьдзілі і ў магазын. Мама яшчэ нам зварыла супу (які В[*ітаўт*] так любіць, але сёньня нешта ня зусім удаўся), катлеткаў. Запакаваліся й — дахаты.

У хаце ўсё добра. Чысьценька, акуратна. Пагода добрая — ня горача. Шмат лістоў. Ня ведалі, за што перш узяцца ці распакоўвацца, ці лісты чытаць, ці расказваць М. В. пра ўсё. Але неяк упарадкаваліся. Я распакоўвалася й расказвала М. В. Вітаўт усё прыносіў у хату, вывеў Рэкса[1], разгледзеў лісты. Нарэшце селі адпачываць, але хутка й спаць захацелася. Стамленьне дарожнае дае сябе знаць і хіба будзе яшчэ доўга чуцца.

---

[1] *Наш сабака.*

**Чацьвер 20 жніўня**

Пасьля столькі дзён — першы дзень на працу. Прынесла я цукеркі — смакталкі з Мэксыкі. Усім спадабаліся. Картка мая з дарогі якраз прыйшла й хадзіла па сталох. Я расказвала ўсім пра Мэксіку. На каву хадзілі з Ball[*arine*]. Але гутарка была нейкая нецікавая. Яна ўсё

толькі пра аддзел хацела гаварыць. Аддалі ёй падарунак і памідоры. Таксама неяк прайшло без вялікай увагі. Яна зноў нейкая ўзбаламошаная. Атрымалі чэкі. В[*ітаўт*] свой памяняў.

На падвячорак я хадзіла з Фоксам. Расказвала яму пра дарогу.

Вечарам былі надта стомленыя, але [redacted] яшчэ напісала ліст Юру. Мы рашылі, перш чымся слаць яму чэкі, праверыць добра адрас і як даходзяць лісты.

Званілі тэлефоны, але мы ня бралі. Ніхто важны свой не павінен званіць, а для чужых мы яшчэ можам быць ня дома.

Пятніца 21 жніўня

На працу зусім ня хочацца, але сёньня пятніца — неяк дзень пройдзе, а тады — адпачынак. Неяк раптам вырашылі, што калі везьці М. В. да мамы, то трэба толькі ў гэты вікенд[1]. Пазьней ужо ня выпадзе. Трэба зь імі вечарам пагаварыць, ды ў суботу можна будзе паехаць.

Тумаш гаварыў пра Адамовічаў артыкул. Ён згадзіўся яго скараціць. Ужо хутка зробіць. Выглядае, што хутка кніжка будзе. Нарэшце! Перадала Т. упаўнаважненьне на сход N.Y. БАЗА. Я ўсё роўна не пайшла-б, але цяпер ёсьць адгаворка, што паеду да мамы. Т. гэтаксама даў прачытаць свой уступ да Салаўя «ад Рэдакцыі».

Вечарам чулася неяк вельмі дрэнна, але зрабіла ўсе чэкі, напісала Алесі ліст да чэку. Мы рашылі, што трэба ім пісаць час-ад-часу пабеларуску, каб не забываліся. Пагаварыла з М[*арыяй*] В[*асільеўнай*]. Пазванілі да мамы. Дамовіліся, што заўтра прывязу М. В.

Пазваніла Ball[*arine*]. Яна нам званіла ўчора — хацела, каб мы да яе прыехалі. Цяпер ёсьць адгаворка.

---

[1] *Бабкі — Зорына маці Апалёнія Восіпаўна і мая Марыя Васільеўна — часта бывалі разам, гасьцявалі адна ў адной. Яны выдатна паразумяваліся, мелі шмат супольных знаёмых. Абедзьве — мянчанкі.*

**Субота 22 жніўня**

Схадзіла ранічкай зрабіць прычоску. Заехала ў магазын купіць сьнеданьне. Добра, прыемна пасьнедалі. В[*ітаўт*] яшчэ паехаў укінуў лісты. Выбраліся й паехалі да мамы. Ехалася добра. Трафік, праўда, быў даволі вялікі. Мама ўжо чакала нас з абедам.

Я зьезьдзіла пазьней праведаць, ці няма яшчэ ягадаў (нашыя так хутка пайшлі) — нікога ня было ўжо, але ягады яшчэ на кустах ёсьць. Шкада.

Зьезьдзілі яшчэ ў магазын — купілі ежы, каб бабкам было на тыдзень.

Дзень дажджлівы, прыкры. Пазванілі Нядзьвігам. Спачатку ніхто не адзываўся, пазьней А. Ф.[1] узяла, але нічога не магла ні пачуць, ні сказаць. Пазьней пазваніў Д[*зядзя*] В[*аня*]. Крэсла ён пачыніў, з Бэльгіі нічога няма.

Вечарам званіў Вітаўт. У яго ўсё добра. Званіў ён Тумашу, той казаў, што можна будзе забраць паліцы ад Крычэўскага. Прадалі яшчэ адзін дом [*з фундацыі Крэчэўскага*].

[1] *Антаніна Філіпаўна, жонка Дзядзі Вані, яна недачувала.*

**Нядзеля 23 жніўня**

Звазіла маму ў царкву. Пасьнедалі. Пагода наладзілася. Я цяпер сяджу на сонцы й пішу. Схадзіла была ў лес. Там добра, прыемна, чыста даволі, але грыбоў няма. Бабкі парадкуюцца: вараць, смажаць. Прыемна, спакойна. Сонца ўжо трохі зашмат прыпякае — трэба ў цянёк.

Выбралася дахаты ня позна, але трафік быў даволі вялікі, то прыехала пасьля 5-ай. В[*ітаўт*] ужо чакаў мяне. Паелі. Я памыла яшчэ свае рэчы. Адпачывалі. Слухалі Вітаўтаву расейскую перадачу па радыё[1]. Глядзелі T.V. Усе баяліся заснуць, бо мелі аб 11-ай званіць Юру.

У Юры усё добра. Ён бадзёры, вясёлы. У Мэксыко City яшчэ раз трэба ехаць — ня ўсё залатвіў. Жывуць яны з хлопцамі добра. Заплацілі яму грошы ўжо ўсе. Заняткі пачнуцца за 1½ тыдні. Хадзіў з Kennedy ў касьцёл. Пасьля гутаркі з Юрачкам неяк доўга не маглі заснуць — узбудзіліся.

[1] *У гэтым часе я арганізаваў выстаўку, прысьвечаную пэрыядычнай табліцы Мендзялеева. Быў вялікі розгалас, я даваў шмат інтэрвію. У «Голасе Амэрыкі» была перадача, прысьвечаная рускім рукапісам навуковага зьместу ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы.*

**Панядзелак 24 жніўня**

Раніцай вельмі цяжка было ўстаць, зьбірацца на работу.

Прыглядаемся да банкаў — якія працэнты на доўгатэрміновую ўкладку грошай для Юры. Ягоныя чэкі ўжо амаль усе прыйшлі — трэба іх неяк найлепш упарадкаваць.

В[*ітаўт*] пайшоў дахаты раней — завезьці машыну на інспэкцыю[1], заладзіць іншыя рэчы. Я ў абед схадзіла купіць усялякія дробязі. Трохі чытаю для Трыстана.

Інспэкцыю машына прайшла, акрамя вакна,[2] — трэба мяняць. Яшчэ будзе выдатак, але добра, што нарэшце зьменім, бо трохі небясьпечна з лопнутым вакном ужо столькі часу езьдзіць.

Пазванілі на фарму да бабкаў, расказалі ім пра Юрачку. У іх усё добра.

Пазванілі таксама Галіне, каб нешта пачала рабіць наконта фэстывалю ў Лібэрты Park. Вітаўту званілі з Трэнтану, што беларусы не адгукнуліся[3]. Галіна яшчэ ўсё брыкаецца — «хто-ж як не яна зробіць выстаўку» і падобнае. Уявіла сябе вялікай дзеячкай, вялікай навукоўкай. Яна дзіўная. Шчырая і працавітая, але ўсё неяк не там дзе

трэба: улезла цяпер у палітыку — выбары губэрнатара, а музэй праспала. Кідаецца з тэмы на тэму, а сабатыкал[4] свой сапсула — нічога за гэтыя месяцы не зрабіла. Але, хопіць пра яе. Яна ўсё-ж яшчэ самая згаворлівая і на якую можна палажыцца.

Неспадзявана званок з Лёндану ад а. Надсона. Ён вельмі расстроіўся, што, ня хочучы, быў прычынай нашай крыўды, — кажа, што падобнай гутаркі з Лашуком ці кімсь іншым ня меў[5]. Вельмі выбачаўся і вельмі шкадаваў, што мы ня прыедзем да іх.

---

[1] *Штогадовы тэхагляд.*

[2] *У пярэднюю шыбу трапіў камень — патрэскалася.*

[3] *У Трэнтане — сталіцы штату — быў фэстываль. Беларусы ня ўдзельнічалі, хоць я абяцаў, што будуць удзельнічаць. Я хацеў, каб удзельнічалі мясцовыя беларусы, і мы рассварыліся.*

[4] *Вольны год на навуковую працу.*

[5] *Відаць, нейкія беларускія плёткі.*

**Аўторак 25 жніўня**

В[*ітаўт*] зноў паедзе дахаты раней, дык з Т[*умашам*] хадзілі на каву ў абед. Т. перш-наперш паказаў ліст ад Зоські Верас. Яна атрымала ўжо мамін артыкул пра Багдановіча. І цэлы ліст, фактычна, адказ на гэты артыкул. Шмат папраўляе недакладнасьцяў, шмат дадае. Вельмі хваліць маміна апісаньне самаго Багдановіча і вечара, калі ён чытаў «Пагоню».

Перадалі Т. ягоны артыкул «Ад выдавецтва», які і я, і В. пачыталі й зрабілі папраўкі. Т. гэтаксама прынёс ліст ад Урбана — яны прымалі ўдзел у адзначэньні ўгодкаў сьмерці Акіншэвіча. Рэфэраты і Т. і В. ён перарабіў, ды ня зусім удала. Чытала яго Урбаніха[1]. Прыслаў таксама й перароблены рэфэрат.

Быў і ліст ад Надсона да Адамовіча, у якім ён зноў выбачаецца і шкадуе, што такое непаразуменьне выйшла. Гэта ўсё добра, але добра, што мы рашылі сёлета у Эўропу ня ехаць. Па-першае, фінансава ў нас цяпер не выпадае, ды й вакацыяў ня так ужо й шмат засталося. А па-другое — няхай яны зразумеюць, што з намі трэба быць больш уважліва[2]. Мы зашмат працуем для справы, каб з намі гуляць і намі спэкуляваць. Можа, гэта ня зусім скромна гучыць, але аб'ектыўна гаворачы — праўда.

---

[1] *Ларыса Урбан. Мы паслалі ім свае рэфэраты, але сказалі, што яны ў Мюнхене могуць іх перарабіць.*

[2] *Відаць, было нешта такое: у Лёндане плянавалі канфэрэнцыю, а мы сказалі, што мы не запрошаныя, дык і не паедзем.*

**Серада 26 жніўня**

Пачала зноў праглядаць Трыстана. Трэба зноў сабраць патрэбныя кніжкі. Той ангельскай (пераклад з сэрбскай) яшчэ ўсё на паліцы няма. Дні неяк доўга цягнуцца — працаваць лень.

В[*imaўт*] ідзе дахаты гэтыя дні раней — каб не пакідаць пустую хату надоўга[1]. Зьмянілі шкло ў машыне — $190. Усё каштуе — грошы цякуць.

Хадзіла да дэнтыста — ён ужо скончыў плёмбы. Наступны раз тольκі пачысьціць. Зноў выдатак, але тут нешта, можа, зьвернуць.

Званілі Русакам пра фэстываль. Галіна ўжо пачала актыўнічаць.

---

[1] *Бо бабка гасьцюе ў другой бабкі.*

**Чацьвер 27 жніўня**

Вітаўт застаўся дома. Зьезьдзіў здаў Юравы нумары з машыны[1]. Цяпер ужо мы ў парадку зь Ю. машынай. Гэтаксама напісаў у Motor Vehicle, што Алесіна машына перарэгістраваная ў іншым штаце.

Завёз вечарам дзяўчатаў (прыехалі толькі Ната й Галіна Бахар) на Liberty Park, каб зрабіць рэклямныя здымкі — фатографы круцілі іх у розных позах. Рэкляма мае быць у розных газэтах для этнічнага фэстывалю[2]. Добра, што выбралі наш «Васілёк» — мусіць, каб дагадзіць Вітаўту.

Вечарам званіў Шук[*елойць*]. Хоча пратакол мінулага зьезду БАЗА. Заўтра спаткаемся.

---

[1] *Калі прадавалася машына, нумарны знак трэба было асабіста здаць у штатны Аддзел транспарту (Motor Vehicle).*

[2] *Рэкляма была вельмі шырокая.*

**Пятніца 28 жніўня**

У абед В[*imaўт*] хадзіў з Міцкевічам забраць з суду прысуд. Гэтак званыя «адшчапенцы» — наш бок — прайграў. Прысуд быў у карысьць тых, хто засталіся лаяльнымі мітрапаліту. У N.Y. бальшыня ў падобных выпадках ня мае вагі. Я, прызнацца, лічу, што прысуд справядлівы. Асабіста я ніколі ня была за тое, каб пераходзілі да [*уладыкі*] Мікалая. Трэба было вычакаць. Упаролі гарачку — пасвараныя цяпер, без царквы. Але зразумела, мая апінія ані мела вагі, ані была папулярнай у тыя часы. Апроч Запрудніка, ды трохі В[*imaўта*], ніхто ня лічыў, што ня трэба было галасаваць за адыход ад Мітрапаліта [*Андрэя*]. Міцкевіч вельмі расстроены. Яго мне шкада. Ён неяк міжволі ўцягнуўся ў гэтую гісторыю, найбольш пацярпеў. Дый абходзіць яму царква найбольш, як нам усім. Ён шчыра хоча, каб было лепей.

Тумаш прынёс ліст ад Прускага, дзе ён піша, што ўжо выканчвае «Успаміны»[1]. Дыскутавалі колькі кніжак возьме інстытут. Некалі я паабяцала Каханоўскаму — найменш 50. Рашылі ўзяць 100. П[*рускі*] таксама піша, што мусіць возьмецца за ўспаміны Галяка. Тады В. прыпомніў, што званіў яму Панькоў у гэтай справе — ён нібы рэдагуе ўспаміны. Т[*умаш*] перасьцерагаў, што трэба з гэтым быць асьцярожна, ведаючы, што Галяк можа напісаць.

Спаткаліся з Шук[*елойцем*], перадала яму копію пратаколу. Рас-

казала трохі пра Мэксыку. Ён нас падвёў да аўтобуса. Гаварылі пра царкву. Пра царкву гаварылася, зразумела, і з Т[*умашам*]. Шук. такой думкі, што трэба купляць дом недзе ў Мангэтэне. Гэта нашая закадычная думка — можа, цяпер неяк ажыцьцявіцца.

Прыехалі дахаты, заладавалася й паехала на фарму. Ехалася добра, хоць, праўда, трафік быў вялікі. Там ужо чакала мяне смачная яда: курка з начынкай, галубцы, торцік. Па ўсёй маёй дыеце!

---

[1] *Гутарка пра «Успаміны пра Купалу й Коласа», укладзеныя А. Каханоўскім.*

**Субота 29 жніўня**

Раніцай пагода была нейкая нявыразная. Доўга не маглі наважыцца, што рабіць. Нарэшце вырашылі ехаць у Atlantic C[*ity*]. І добра зрабілі: там было вельмі прыемна. Пасядзелі трохі на набярэжнай, зьелі марожанага, пахадзілі. Схадзілі ў казіно. Бабкі папрабавалі гуляць — нічога ня выйгралі, але, здаецца, добра сябе адчувалі. Я пазьней яшчэ сама пайшла й адыгралася — прынамсі вярнула амаль усе грошы. Купілі яшчэ фісташкаў, пакармілі галубкоў. Вельмі добра правялі час.

Завезла маму ў царкву вечарам, каб заўтра быць вольнымі рана — званіць Юру.

**Нядзеля 30 жніўня**

Раніцай пасьнедалі й пачалі рыхтавацца званіць. Аднак нічога з гэтага ня выйшла — мамін тэлефон вельмі дрэнна чуваць — не маглі дазваніцца нават да апэрэйтара. Я хуценька пазваніла Вітаўту, каб ён званіў з дому, а тады нам. У Юры ўсё добра. У Вітаўта дома таксама ўсё добра.

Зьезьдзілі па памідоры, па дынькі. Трохі яшчэ пасядзелі, пагаварылі ды хутка пачалі зьбірацца дахаты. Расказала маме пра ліст З. Верас — мама некаторыя мамэнты, кажа, што ня зусім добра памятае — можа, яна й больш прыпамінае, але мама зусім станоўча гаворыць, што Бядуля на суботніках бываў, і мама добра гэта памятае, бо ён іх, маладых, забаўляў, жартаваў зь імі. Мусіць пэрсанальная крыўда на Бядулю сьцерла ў памяці З. Верас і дэталі пра яго ў той час. Малюнак «Хаткі» мама пастараецца трохі ўдакладніць. Я маме, зразумела, не расказвала ўсяго, што З. Верас пісала, не перадавала ўсіх заўвагаў і папраўак. Хто ведае чыя памяць лепшая?

Заехалі па дарозе да Нядзьвігаў. У іх, як заўсёды, балаганчык. Праўда, гэтым разам было трохі акуратней. Паглядзелі іхны агарод. Доўга не сядзелі. Яна, зразумела, надавала нам усяго. Па дарозе купілі яшчэ персікаў. Прывезьлі дахаты поўна ўсяго. В[*ітаўт*] ужо нас чакаў. Паелі й адпачывалі.

**Панядзелак 31 жніўня**

Сяньня палучка. Памянялі грошы. У абед хадзіла ў магазыны і ўба-

чыла ў горадзе Тамару. Трохі зь ёй пагаварылі. Яна будзе на фэстывалі плясьці паясы. Зьбіраецца часьцей цяпер бываць у N.Y.

Разглядала ў Map Div.[1] карту Менскай Губ. Вельмі добрая карта — знайшла ўсе мясцовасьці, што трэба было для адказаў на лісты. Трэба лісты будзе адказаць.

Вітаўт паехаў на зборку Этнічнай Рады. Я працавала над гэнэалёгіяй. Неяк была закінула гэта. Шмат матар'ялу ўжо ёсьць. Будзе добры і цікавы артыкул.

---

[1] *Картаграфічны аддзел бібліятэкі.*

**Аўторак 1 верасьня**

Раніцай выпісала чэкі за тэлефон, электрыку і інш. Цяпер я гэтым займаюся. В[*ітаўт*] паслаў Юрачку ліст з выразкамі з газэты пра Babe Ruth[1].

У абед зноў разглядала карту.

Тумаш найбольш гаварыў пра «Запісы». Зганіў Вітаўтаву рэцэнзыю на «Библиотечное дело» — кажа, зусім «сыра». Гаварылі й пра фэстываль, што будзе ў Liberty Park.

Вечарам званілі Русакам пра фэстываль. З Трэнтану клапоцяцца, што беларусы нічога не адказваюць. Мы Галіну узялі ў абарот. Цяпер яна пачне актыўнічаць. Важна, каб былі танцы. Выстаўка не праблема.

Неспадзявана пазваніў Юрачка — ён у Braunsville [*штат Тэксас*]. Прыехаў з Білам на адзін дзень перад пачаткам лекцый зрабіць сякія-такія закупы, дый проста, мусіць, хацелася праехацца[2]. У яго ўсё добра. Але нам неяк сапсуўся настрой — неяк стала неспакойна, але мы стараліся адганяць ад сябе прыкрае адчуваньне. Дай Божа, каб у яго там усё добра было. Заняткі пачынаюцца ў чацьвер. Упарадкавала папкі БАЗА для рэвізыі.

---

[1] *Легенда амэрыканскага бэйсболу, найлепшы гулец у гісторыі.*

[2] *Часта амэрыканскія студэнты, што вучыліся ў Мэксыцы, трымалі грошы ў амэрыканскіх банках — дзеля пэўнасьці.*

**Серада 2 верасьня**

Нічога цікавага не прыпамінаю.

Вечарам хадзіла да дэнтыста апошні раз. Тым часам скончыла, але ўсё больш і больш пачынаю пераконвацца, што трэба будзе ўстаўляць зубы. Усё яшчэ толькі не магу з гэтым згадзіцца.

Надрукавала праграму паседжаньняў БАЗА. У пятн. прыйдзе Шук[*елойць*] забраць. Званіла Алеся. Справаздачу прышле.

**Чацьвер 3 верасьня**

Нечакана пазванілі на інтэрв'ю з Gold і з Jay[1]. Па абедзе а 2-ой і а 3-яй. З Gold'ам прайшло даволі добра, але я вычула, што ён мяне

не ўважае за падыходзячую кандыдатуру, што ён ужо вырашыў Лізу. З Јау'ям выглядала, што ён мяне прыймае пад увагу. Усё цяпер залежыць ад Карэсара[2] — ён яшчэ на вакацыях. Я толькі цяпер добра неяк сабе ўсьведаміла, якая гэта будзе вялікая, непатрэбная нагрузка й высілак. Я ўжо й шкадую, што падала. І шчыра хачу, каб нічога з гэтага ня выйшла. Добра было-б, каб атрымала Ліза. Я зь ёй тады шмат чаго змагу зрабіць.

Пасьля інтэрв'ю хадзілі з Факсам на каву. Расказвала яму пра ўсё.

Прыйшла ад Алесі справаздача. Добра зроблена. Спаткаліся з Шук[*елойцем*]. Перадала яму матар'ялы.

---

[1] *Усё яшчэ цягнулася справа з вакансіяй у Славянскім аддзеле. Гутарка з двума начальнікамі: д-р Голд з Яўрэйскага аддзелу, Донал Джэй — начальнік над бібліятэкарамі даведачных аддзелаў.*

[2] *Загадчык Славянскага аддзелу.*

**Пятніца 4 верасьня**

З Тумашам гаварылі, каб Тамара напісала рэцэнзыю на «Жывапіс XVII–XVIII ст.». Я ўсё думаю, што Галіна была-б лепш, але Т[*умаш*] і В[*ітаўт*] лічаць, што трэба прыцягнуць Тамару. Больш неяк нічога не прыпамінаю, але ўпэўнена, што нешта яшчэ цікавае абмяркоўвалі, як заўсёды.

**Субота 5 верасьня**

Пасьнедалі й паехалі на зборку БАЗА.

Сход прайшоў добра, без вялікіх адвалокаў, бяз сварак ці канфліктаў. Ага, чуць не забылася — ранічкай В[*ітаўт*] зьезьдзіў на аэрадром спаткаў сп-ню Стрэчань[1]. Яны ўсі прыехалі машынамі раней, а яна мусіла працаваць, дык прыляцела. Яна вельмі гаваркая, разьвязная — як я магла забыцца аб гэтым?

На сходзе Галіна ўсё надта-ж скакала. Я Вітаўту адразу сказала, што яна хоча папасьці у Гал[*оўную*] Управу. Ёй-жа была даўно нагода актыўнічаць. Чаму яна цяпер раптам захацела, як і я стала ў БАЗА. Аж сьмешна мне было, як яна лезла, больш як Станкевічыхі. Яны былі даволі спакойныя. Толькі Зіна ўсё пад'ялдыквала, як і можна было чакаць. Яна ня можа бяз гэтага.

В. прадаваў кніжкі — добра прадаў.

Пасьля супольнай вячэры быў Адамовічаў рэфэрат пра Івана Луцкевіча. Вельмі добра на гэты раз, вельмі на ўзроўні. Просты, цікавы, без успамінаньня сябе. Я сапраўды з цікавасьцю паслухала, хоць і ведала добра тэму — ён шмат узяў з успамінаў Дубейкаўскай, якія я ўжо чытала раней.

Ага, яшчэ адна дэталь. [*Міхась*] Тулейка хацеў быў наладзіць нейкія больш шырэйшыя ўгодкі маміны. Я яго вельмі станоўча папярэдзіла, каб гэтага не рабіў. Маме гэта было-б толькі прыкра. Я так думаю. Яна ўжо ад грамады адарвалася. Нашто гэтыя клопаты і для

людзей і для ўсіх нас. Гэта-ж сямейная ўрачыстасьць. Была нейкая зборка й царкоўнікаў, але, на шчасьце, нас туды не паклікалі. Выбралі зноў Шук[*елойця*] на старшыню і ўвесь стары ўрад. Так што я зноў сакратар. Але ўжо наступны раз адмоўлюся.

Прыехалі дахаты ня позна. Дзень быў даволі ўдалы.

---

[1] *Вольга Стрэчань з Кліўленду. Мы Стрэчаняў добра ведалі яшчэ з Бэльгіі.*

**Нядзеля 6 верасьня**

Званілі Юрачку. У яго ўжо пачаліся лекцыі. Выглядае, што ўсё ідзе добра. Шмат ён гаварыў — хочацца, мусіць, сувязі з домам. Яны спраўляюцца добра. Як езьдзіў тады ў Тэксас, памыў там бялізну. Была невялічкая ў яго на граніцы затрымка зь візай, але ўсё добра абышлося. Ня дзіва, у нас тады такі цяжкі настрой быў!

Паехалі зноў у New Brunswick — на могілках высьвячалі «Памятнік гэроям». Мусіць, гэта і патрэбна. Пачула выпадкова гутарку Галіны [*Русак*] з Зінай С[*танкевіч*]. Так, як я й бачыла, яна хацела быць выбранай і злавалася зь Зінай разам, што жанчынам не даюць ходу. «Як на старшыню — дык мужчыну, а як на сакратарку — дык жанчыну». Гэта яна хоча маю ролю ў БАЗА зьменшыць. Так-жа гэта неяк сьмешна выходзіць. Жаночае раўнапраўе важнае там, дзе тычыцца яе, а калі другая жанчына нешта даб'ецца, дык тады гэта трэба зьменшыць, збэсьціць. Я ёй так проста й сказала, што сакратарства самая важная пасада — няма чаго зьбядняцца. Я тут толькі належу з думкай і з мэтай, што калі нешта трэба важнае, ды й хутка, зрабіць — ды заўсёды ёсьць магчымасьць ад БАЗА выступаць. Толькі гэта нам і абходзіць. Мець нейкую адзінку за сабой у выпадку патрэбы нешта зрабіць. А рабіць можна шмат, асабліва з Шук[*елойцем*] — ён ня будзе перашкаджаць — ён з усім згодзіцца.

Пагаварылі і з Алай. Здаецца, яны зьбяруцца з танцамі. Будуць яшчэ сяньня на забаве раіцца, хто зможа прыехаць, якія танцы.

Мы ўжо на банкет вэтэранаў і на забаву моладзі не паехалі. Нам трэба было ехаць да Ballarine. Даўно ўжо яна запрашала. У яе добра правялі час. Зрабіла ёй здымкі з кватэры — яна хоча паказаць сваім родзічам.

**Панядзелак 7 верасьня**

Сяньня дома. Нікуды ўжо ехаць ня трэба. Спарадкавалася дома. Пасьля праехаліся з М. В. у магазын. Нічога важнага ня купіла — так, дробязь.

Вечарам званіла Алеся. Яны ўжо маюць 3-яга квартэранта — хлопца[1]. Кажа, вельмі сымпатычны, падобны на Юру. Маюць сабе цяпер малодшага брата. Ён з Прынстану, але цяпер працуе у Sen[*ator*] Bradley.

---

[1] *Спачатку тры дзяўчыны наймалі цэлы дом. Потым адна ад'ехала. Ім быў патрэбны трэці кватарант — знайшлі.*

**Аўторак 8 верасьня**

ПрыходзілаТамара. Сказалі ёй, каб напісала рэцэнзыю на «Жывапіс». Яна трохі скромнічала, але нібы згадзілася. Заўтра дамовіліся ісьці ў магазын купіць кніжку.

Тумаш прынёс Адамовічаў скарочаны артыкул, каб мы яшчэ пераглездзілі. Гаварылі пра сымпозыум Купалы-Коласа на наступнай сустрэчы беларусаў у 1982 г. Нібы Шук[*елойць*] ужо пра гэта пачынае клапаціцца. Мы зь В[*ітаўтам*] ужо даўно пра гэта думалі і плянавалі. Таксама прынёс ліст ад Прускага (аб Скарынавай Бібліяграфіі, аб кніжцы ўспамінаў, аб кнізе Салаўя).

**Серада 9 верасьня**

Прыходзіў у бібліятэку сваяк Мерляка, які толькі прыехаў зь Беларусі. В[*ітаўт*] яму паказваў бібліятэку, расказваў трохі пра беларусаў-амэрыканцаў. Я толькі заскочыла сказаць «добры дзень». Мы з Тамарай паехалі ў 4-Continents. Кнігі «Жывапіс» там ня было, але Тумаш мае адну лішнюю — адступіць ёй. Купіла [redacted] яшчэ колькі кухарскіх кнігаў і «Полымя» для Тумаша. «Песьні пра Зубра» Гусоўскага таксама ўжо ня было. Наагул у іх неяк слаба зь беларускімі кніжкамі. Тамара сабе купіла колькі.

Вечарам напісала Юру ліст. Ужо нарэшце заладзілі зь ягонымі грашыма — пакладзем на Certificat[1] разам з бабчынымі.

---

[1] *Банкаўскі дакумэнт*

**Чацьвер 10 верасьня**

Працую над Трыстанам. Усё больш і больш зьбіраецца матар'ялаў. Усё цікавей робіцца. У абед хадзілі зрабіць Ю[*ру*] Certificate. Усю пісаніну справілі, але яшчэ не залатвілі, бо трэба подпісы (хоць аднаго з іх). Заўтра В[*ітаўт*] прынясе бабчын подпіс і зробіць, а тады пашлецца Юру, каб і ён падпісаў.

В. паехаў дахаты раней — меў спаткацца з Барбарай Тэйлар і з актывістамі за Флорыё[1]. Трохі было няпрыемна, бо ён меўся мець [*у бібліятэцы*] паседжаньне з Jay. Быў яшчэ званок і ад M. Bennoff[2] і яшчэ ад некага. Якраз-жа як яго няма — дык усе звоняць. Купіў В. калбасы беларускай, едучы назад дахаты (для нас на падарожжа).

---

[1] *Адным з галоўных актывістаў быў Васіль Русак. Джым Флорыё — кандыдат у губэрнатары ад дэмакратаў. У 1990—1994 гг. губэрнатар штату Нью Джэрзі. У нас зь ім склаліся прыяцельскія дачыненьні. Ён некалькі разоў абвяшчаў 25 Сакавіка Беларускім Днём у штаце Нью Джэрзі.*

[2] *Супрацоўнік выбарчага штабу Флорыё.*

**Пятніца 11 верасьня**

Цэлую раніцу чытала Адамовічаў артыкул (зусім мы пра яго забыліся). Артыкул ня дрэнны. Ён добра скараціў, хоць яшчэ там шмат

вады. Трохі скараціў і Тумаш. Я яшчэ ў пару мейсцах зазначыла, дзе можна было-б зрэзаць.

В[ітаўт] меў зборку ў бібліятэцы, ды мы з Тумашам пайшлі на каву раней. Дыскутавалі Адамов[ічаў] артыкул. Хутка прыйшоў і В. Тумаш расказаў пра крытычную рэцэнзыю на Семяжонаў пераклад «Зуброў». Вельмі-ж ён цешыўся, што ён сам першы заўважыў хібы і зкрытыкаваў.

Аддала «Бел. Работніка» для мікрафільму. Атрымалі запросіны ад Надсона на сьвяткаваньне ўгодкаў Бібліятэкі[1]. Ужо амаль канчальна вырашылі, што зрызыгнуем — не паедзем. Не выпадае сёлета нам.

Вечарам трохі пакавалася, трохі зьбірала рэчы для фэстывалю. Званіла Галіна, прасіла прывезьці некаторыя рэчы.

[1] *Дзесяцігодзьдзе Скарынаўскай бібліятэкі ў Лёндане.*

**Субота 12 верасьня**

Ранічкай «зрабіла» валасы. Пасьнедалі і паехалі на фэстываль. Там ужо былі жанчыны Надзя, Ліза, Тамара з выстаўкай і Дубяга з ядой. Галіна прыехала пазьней. Мы ўжо ўсё расставілі, арганізавалі. Выстаўка выглядае добра. Надзя й Тамара дэманструюць прадзеньне й паясы. Шмат людзей, але нейкая публіка ня цікавая. Прыехала й Рая з Шук[елойцем], прывезла памфлеты[1]. Яна стаяла каля кніжкаў, добра дапамагала. Яда йдзе слаба. Моладзь хутка пад'ехала. Яны ўсё каля стэндаў хадзілі — добрае ўражаньне. Танцавалі таксабе. Неяк музыка сабе, а яны сабе. Ды й сцэна была не зуісм добрая для танцаў. Але іх прысутнасьць наагул зрабіла шмат. Шмат фатаграфавалі, шмат цікавіліся. Вельмі добра прайшло з кандыдатамі на губэрнатара. Нашая група сапраўды рабіла ўражаньне і прыцягвала ўвагу. Сам губэрнатар вельмі міла таксама з намі пагасьціў (мяне нават пацалаваў, як убачыў). Адным словам, наша прысутнасьць была вельмі эфэктоўнай з важнейшымі асобамі. Але з масай, я сказала-б, гэтым разам мы мелі неяк менш эфэкту, чымся другія разы. Колькі асобаў неяк з засьцярогай глядзелі на Надзіну пражу (як бы гэта нешта прыкрае). Яда ня была прывабная. Выстаўкай людзі цікавяцца мала, ім ходзіць больш, каб што танна купіць. Але агулам было вельмі ўдала — былі й рэпарцёры з газэтаў. T.V. ня было.

[1] *Інфармацыйныя буклеты. Зрабілі новыя, з ілюстрацыямі.*

**Нядзеля 13 верасьня**

Пазванілі Юрачку. Ён у парадку. Заняткі ідуць добра. Пачалі ўжо й анатамічную лябараторыю. Ён ужо папрасіў нас праведаць пра самалёты на калядныя вакацыі. За пару тыдняў будзе ўжо мець экзамэны.

Паехалі зноў на фэстываль, ужо зусім сабраўшыся ехаць пасьля

гэтага да губэрнатара, а пазьней да мамы і... на вакацыі. Я ўжо больш нічога з рэчаў ня прывозіла. Прывезьлі толькі кніжкі. Кніжкі, між іншага, зусім ня йшлі. Толькі Ірэна ўчора купіла 2 кухаркі[1]. Прывезла для Ірэны матар'ял для Сміта — перадала Галіне. Ірэна сёньня не прыехала. З кухняй сёньня сп-ня Кажура. Была й T.V. Зрабілі з Надзяй інтэрв'ю. І В[*ітаўт*] папаў у невялічкую кантравэрзыю — дыскусыю. Група, якая супраць, каб гэтае мейсца аддаваць прыватнай канцэсыі, апанавала T.V. і Вітаўта[2]. Дыскусыя была даволі гарачая — дык мусіць, яны на T.V. гэтага не дадуць[3].

Мы хутка паехалі да губэрнатара[4]. Прыехалі туды якраз у час, як ён гаварыў. Каб яшчэ трохі дык і прамінулі-б яго, бо хутка пасьля выступу яны й паехалі на аэрадром (едуць у Эўропу). Паехалі й мы за гэтым да мамы. У мамы, як заўсёды, яда прыгатаваная. Але мы ня былі галодныя. Мне дык трохі галава разбалелася ад пітва ў губэрнатара. Я трохі паела ў мамы, каб яе не пакрыўдзіць, ды й думала, што можа галава пройдзе. Трохі яшчэ пасядзелі, паглядзелі T.V. ды й спаць. В. пазваніў да М. В. даведацца, што было на Channel 2 пра фэстываль. Вельмі коратка паказалі Надзю. Пазванілі яшчэ й Алесі, але яе ня было дома. Яна адзванілася позна ўжо ноччу. Мы ўжо спалі. Пагаварылі зь ёй, сказалі, куды едзем, каб яна, калі што, ведала дзе мы. Неяк разьбіўся сон.

---

[1] *Кнігі «Byelorussian cuisine».*

[2] *Пытаньне стаяла так: ці аддаваць разбудову парку прыватным групам, ці штат мусіць аднавіць парк, прычал, вакзал (сюды прыяжджалі эмігранты пасьля «Воставу сьлёз» і адсюль адыходзіла шэсьць чыгуначных лініяў углыб краіны). Я ўважаў і казаў рэпартэрам, што кантроль над паркам трэба пакінуць штату, але некаторыя аб'екты могуць быць распрацаваныя прыватнымі кампаніямі. Апрача гэтага, я падкрэсьліваў, што тут добрае месца для Музэю эміграцыі. У выніку кантроль застаўся за штатам.*

[3] *Гутарку ў тэлевізіі паказалі.*

[4] *У Прынстан да Брэндана Бэрна.*

### Панядзелак 14 верасьня

Ранічкай пасьнедалі. Я яшчэ схадзіла паглядзела малінкі. Сабраліся ды паехалі[1]. Добра папалі на паром. Пагода цудоўная. Можа, нават загорача. На пароме, праўда, было неяк вельмі людна гэтым разам. Дык мы не адчувалі сябе так прыемна, як заўсёды. Прыехалі ў матэль, трохі агледзеліся — ды на бераг. Сонца пячэ, вада добрая. Купаліся, загаралі. А гадзіне 4-ай пайшлі ў пакой, паелі й адпачывалі. Вечарам В[*ітаўт*] яшчэ зьезьдзіў па соду, па фрукты. Чуемся вельмі добра.

---

[1] *У штат Дэлавэр.*

### Аўторак 15 верасьня

Раніцай пакуль раскачаліся, дык ужо й 10-ая гадзіна. Паехалі па-

сьнедаць. Рашылі сабраць яблыкаў, як ужо былі там[1]. Яблыкі добрыя сёлета: буйныя, смачныя. Пасьнедалі й адразу-ж на бераг. Пагода сёньня не такая яркая, як учора, але вельмі цёпла, нават загорача. Пакупаліся. Вітаўт пайшоў у пакой, а [redacted] пішу дзёньнік. Даўно ўжо не запісвала, прыйшлося шмат прыпамінаць. Цяпер ужо канчаю, дык аж пальцы баляць — так напісалася. Сонца ўжо ніжэй спусьцілася. Стала вельмі прыемна, прахладней. Людзей у гэтым годзе на пляжы значна болей. Цяпер ужо трохі разышліся. Хутка пайду й я. Вітаўт ужо хіба ня прыйдзе — сьпіць, мусіць. Добра нам.

Трохі спалілася. Дзень быў гарачы, але сонца не такое яркае, дык я не ўважала. Паелі, што было ў хаце. Нідзе ў рэстаран не хацелася ехаць. Пазней пад'ехалі ў горад, патэлефанавалі бабцы, зьелі марожанага.

---

[1] *Яблычная фарма — сам зьбіраеш.*

**Серада 16 верасьня**

Сяньня з раньня ідзе дождж. Для мяне й добра, што няма сонца, бо была-б спакуса, а гэтак дык цела трохі адыйдзе. Схадзілі пасьнедалі, купілі картачкаў паслаць Юру на яго дзень народзінаў. Удаліся добрыя — гумарыстычныя. Юра будзе задаволены. Пасьля трохі паваляліся ў пакоі. Пагода трохі направілася. Пайшлі прайсьціся па беразе. Далёка зайшлі. Было прахладна, прыемна, здорава. Вельмі добра правялі час. Схадзілі павячэралі і зноў адпачывалі. Вітаўт ужо хіба добра адаспаўся за гэтыя дні. Я неяк ня так важна сплю.

**Чацьвер 17 верасьня**

Сёньня зноў распагодзілася, але нам ужо выязджаць трэба. Па вакацыях. Праўда, сёньня яшчэ правядзём дзень добра ў Atlantic City.

Цяпер на пароме. Вітаўт недзе йзноў сьпіць, а я пішу. Сонца цяпер зноў прыпякае. Я села ў зацішку ад ветру, дык нават і горача робіцца. Гэтым разам на лодцы людзей мала, няма такой суеты, прыемна, спакойна, лёгенька калыша. Трохі яшчэ пазагарала. У Atlantic City купілі Вітаўту білет на заўтра на N.Y.[1] Паслалі Юрачку яшчэ адну картку зь ягонага гораду.

---

[1] *На аўтобус.*

**Пятніца 18 верасьня**

Завезла Вітаўта на аўтобус у A[*tlantic*] City. Прыехаўшы, пасьнедалі ды пачалі залатвяць справы розныя маміны.

Па абедзе паехалі у Egg Harbor. Купілі прадуктаў, маме ніжнюю бялізну й будзільнік (В[*itaўт*] учора паламаў мамін, як накручваў). Былі ў доктара. Вельмі ўдалая візыта. Ён зараз і з вуха дастаў добры кавалак воску і барадаўку, што каля вока, зрэзаў. Мама вельмі за-

даволеная. Ага, мама ўсё-ж мае Medicaid[1]. Цудоўна! Зьезьдзіла й па лекі, а мама тым часам пякла аладачкі. Прыходзіла Helen[2]. Вечар правялі спакойна. Мне, праўда, стала неяк холадна — баялася, што прастудзілася. Званіў В. У хаце ўсё добра.

---

[1] *Дапаможная мэдычная праграма для старых.*
[2] *Маміна суседка.*

**Субота 19 верасьня**

З раніцы зьезьдзілі купілі персікаў, сабралі памідоры. [redacted] яшчэ трохі пасядзела на сонцы. Паехала дахаты каля 4-ай. У хаце пакуль распакаваліся, пакуль паелі дык ужо й вечар. Трохі яшчэ паглядзела T.V. Памыла валасы, бо як выглядае заўтра трэба будзе ехаць на перадвыбарны абед да Канак Дата[1]. Трохі мяне гэта расстроіла. Званіў Міцкевіч. З царквой нічога цікавага. У Брукліне — Бруцкі. Мітрапаліт сядзіць у N[*ew*] Br[*unswick*] — там, мусіць, суды цяпер. У царкве ў нас нікога няма — тыя злуюцца, ня хочуць плаціць іншурансаў[2]. Думаю, што яны хутка царкву тую прададуць.

---

[1] *Канак Дата — індуска з Этнічнай рады. У яе меўся быць сэнатар Біл Брэдлі, а мы зь ім у вельмі добрых дачыненьнях.*
[2] *Страхоўку.*

**Нядзеля 20 верасьня**

Пазванілі Юрачку. У яго ўсё добра. Быў ужо нават нейкі тэст. У пятніцу будзе экзамэн. Ужо прывіталі яго з днём народзінаў, бо ў пятніцу яны хіба дома ня будуць — пасьля экзамэнаў пойдуць гуляць.

Паехалі адразу-ж да Канак. Не хацелася ехаць, але выйшла вельмі добра. Было там сымпатычна, былі й Barbara й Mike і Steven[1]. Трохі пазьней прыехаў і Bradley[2]. Мы былі вельмі прыемна зьдзіўленыя, што ён нас памятаваў і помніў і тое, што гаварылі яму пра «Голас Амэрыкі» і пра Jepsen'a[3]. Ён надзвычайна сур'ёзны палітык. Такіх мала. [redacted] прадказваю, што ён будзе некалі прэзыдэнтам. Добра такога чалавека мець знаёмым. Вельмі былі задаволеныя, што паехалі. Пагаварылі і са Steven наконта «Directory». Так выглядае, што можна будзе пачынаць новае выданьне[4].

Цяпер выйшла на двор: загараю й пішу. Сказала «загараю» й зрэалізавала, што сонца схавалася за хмары. А як сонца няма, дык ужо й прахладненька.

---

[1] *Нашы сябры-амэрыканцы. Усе засталіся ў палітычным жыцьці штату. Трымаем зь імі лучнасьць. Стывэн званіў нам, калі БССР ператварылася ў дзяржаву Беларусь.*
[2] *Сэнатар.*
[3] *Сэнатар Джэпсэн зрабіў прадмову да Зорынай брашуры пра рэлігійную сытуацыю ў БССР.*
[4] *New Jersey Ethnic Directory (1979).*

**Панядзелак 21 верасьня**

Першы дзень на рабоце пасьля вакацыяў. Памянялі грошы. Неяк не працуецца. Чытала амаль цэлы дзень новыя падручнікі для каталёгу. Зноў зьмянілі, наблізіліся да старога — зноў перавучвайся. Але, праўду сказаць, новы спосаб трохі больш лягічны, лягчэйшы.

**Аўторак 22 верасьня**

Нічога не магу прыпомніць цікавага. Пэўна-ж быў Тумаш. Гутарка, як заўсёды — пра ўсё. Званіла Steven'у, каб дамовіцца на абед.

**Серада 23 верасьня**

Цяжка пасьля вакацыяў уцягнуцца ў каляю. Пазваніў Стывэн — дамовіліся на нядзелю.

**Чацьвер 24 верасьня**

Вітаўт мае зборку Адукацыйнага Камітэту. Паехаў з Каміліяй і ейнай дачкой. Стывэн запрасіў і яе на абед да сябе, дык нам яе прыйдзецца прывезьці. Вось яшчэ не хапала!

**Пятніца 25 верасьня**

Званіла Галіна, але мяне не было — хадзіла купляць падарунак для Steven. Купіла вельмі прыгожы крышталёвы званочак. Адзванілася Русакам. Галіны ня было, а Васіль казаў, што гэта Галіна, мусіць, пра Фэстываль званіла. Яна занятая ў суботу, дык ці не магла-б я прыехаць. Я-б можа й выбралася, але ведала, што няма памфлетаў[1], дык сэнсу няма ехаць. Гэта ўсё пустое: і нашае выстаўленьне й дэманстраваньне, калі няма літаратуры, што раздаваць. Так усё гэта сабе ўбачыцца, але ніякага далейшага ўражаньня, ніякага павучальнага фактару. На пустое!

З Тумашам гаварылі пра бібліяграфію Купалы й Коласа, пра сымпозіум К.-К. Купіла падарунак для Steven.

---

[1] *Брашуркі пра Беларусь — яшчэ не падрыхтавалі.*

**Субота 26 верасьня**

Зрабіла валасы. Пасьнедалі.

Сёньня фэстываль у Sandy Hook[1]. Тамара будзе рабіць паясы. Замест Галіны будзе Васіль і Валя Рагалевіч з Лорай, якая падменіць і Надзю.

---

[1] *Фэдэральны парк. Там мы выступалі ўпершыню.*

**Нядзеля 27 верасьня**

Раніцай пасьнедалі й пачалі званіць Юру. Яго дома ня было — учора вечарам пайшоў недзе ў кіно і, мусіць, (як мяркаваў Bill) заначаваў у сяброў. Мы пачалі хваляваца. Папрасілі, каб зазваніў, як толькі прыйдзе. Тэлефону ўсё няма ды няма. Мы сталі самі прабаваць званіць. Нам ужо й выязджаць да Steven трэба, а ўсё ніяк ня можам

дазваніцца — лініі занятыя. Трохі нас гэта супакоіла, бо, мусіць, і ён мае такую-ж праблему. Але паехалі усё-ж з цяжкім настроем. Забралі Каміль з дачкой.

У Стывэна было добра. Хата ў іх добрая, добра ўмэбляваная. Абед добры. Кампанія таксама нядрэнная. Каміль трохі спачатку скакала, але пасьля прыціхла. Пасьля абеду яшчэ Steven паказваў slides з свайго падарожжа ў Індыю. Было цікава, але мы ўжо сядзелі, як на іголках, — хацелі дахаты, ды званіць Юру. Прыехалі, адразу-ж званім — яго зноў няма. Але, на шчасьце, якраз прыйшоў. Ну, пагаварылі. Ён, як мы й думалі, ня мог да нас дазваніцца, а пазьней нас ня было. У яго ўсё добра. Меў экзамэн. Кажа, што нядрэнна прайшоў. Прасіў ужо глядзець самалёты[1].

---

[1] *Пільнаваць цэны і расклады.*

**Панядзелак 28 верасьня**

Прыходзіла Тамара. Расказвала, як было на фэстывалі. Казала, што было добра, толькі шкада, што ня было брашурак. Таксама крытычна адзывалася аб Галіне, што тая неяк ня была арганізаваная. «Віхор»[1] таксама для нас вялікай рэклямы не зрабіў. Яны захоўваюцца, як артысты. Беларускае ім не абходзіць. Гаварылі, каб неяк зноў сабрацца ды аднавіць наш Arts & Crafts[2]. Тамара казала пра памешканьне на Sandy Hook для музэю-workshop. Трэба даведацца. Гаварылі й пра тое, каб павучыцца ў Шуста працаваць з саломкай.

---

[1] *Музычны ансамбаль.*
[2] *«Клюб», які б рыхтаваў выстаўкі.*

**Аўторак 29 верасьня**

Сёньня мелі машыну. Так прыемна даехалі на працу.

Пасьля абеду сказалі, што гатовая газэта «Бел. работнік»[1]. Хутка, але ўжо перадаць з Адамовічам ня выпадзе.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Пагаварылі пра зборку БАЗА, што трэба неяк сабрацца. Больш-менш вырашылі на наступную суботу.

З Тумашам была гутарка пра Тамару, рэцэнзію на «Жывапіс», пра Лёндан. Т. сказаў, што мае колькі нумароў «Нашай Нівы».

---

[1] *Мікрафільм.*

**Серада 30 верасьня**

Вітаўт занёс «Раніцу» Адамовічу.

Хадзіла па білеты ў тэатр. Не разьлічыла, што сёньня ранішнікі — шмат народу. Білетаў ня купіла — была вялікая чарга.

**Чацьвер 1 кастрычніка**

Зноў пайшла па білеты. Дожджык крапае, даволі прыкра на двары. Купіла білеты на «Annie» — добрыя, у першым радзе балькону.

Адамовіч паляцеў сёньня ў Лёндан. Газэтаў з сабой ня ўзяў. Ну, вось табе! Столькі было гутаркі, беганіны, прыкрасьцяў, і... пшык.

**Пятніца 2 кастрычніка**

Хадзілі даведацца пра білеты для Юры. Выглядае, што Braniff[1] праз Mexico City самае таннае. Заказалі, але яшчэ канчальна пагаворым зь Юрам у нядзелю. Пісала артыкул пра Фэстываль у Парку Свабоды. Выйшла добра. Вечарам перадрукавала артыкул, каб заўтра на зборцы перадаць Запрудніку. Званіў Белямук, што нібы прыедзе да Каўша[2].

[1] *Авіялінія.*

[2] *Сьвятаслаў Коўш, які жыў у Саўт Рывэры.*

**Субота 3 кастрычніка**

Сяньня Алеся перабіраецца ў новы дом. Хадзіла рабіць завіўку. Здаецца, добра выйшла.

Вечарам паехалі на зборку БАЗА. Паехалі трохі раней, каб паглядзець у Крэчэўскага паліцы, часопісы для [*бібліяграфіі*] К[*упалы*]-К[*оласа*]. Вітаўт усё мяне цісьне, каб я ўзялася яму памагаць зь бібліяграфіяй. А мне неяк ня хочацца. Я лічу, што ён сам адзін справіцца.

Зборка прайшла добра. Адно яшчэ перад зборкай Вітаўт шчапіўся зноў з Раісай — з-за газэты. В. трохі нястрыманы, а яна яго ірытуе. Адным словам было трохі прыкра. Дарослыя, выхаваныя людзі мусяць больш сябе ўмець апанаваць.

Прыехалі дахаты, а маці кажа, што ў нас Белямук. Ён да Каўша не дастаўся, дык прыехаў да нас! Праўда, ужо спаў, дык мы сабе самі яшчэ правялі вечар.

**Нядзеля 4 кастрычніка**

Белямук з раньня паехаў у N[*ew*] Br[*unswick*] у царкву.

Мы пасьнедалі. Пазваніў Віктар Тур, што памёр біскуп Сіповіч. Вельмі нас гэта расстроіла. Яшчэ адзін энэргічны, працавіты чалавек. Што ў нас застанецца праз пару гадоў? Як цяпер будзе ў Лёндане, у Рыме? Сталася гэта падчас якраз урачыстасьці 10-годзьдзя бібліятэкі. Мы цяпер ужо й радыя, што так выйшла, што не паехалі ў Лёндан.

Званілі Юру, расказалі яму пра білеты, што праз M[*exico*] City найтанней (ён думаў праз Houston). У яго ўсё добра. Экзамэны здаў ня дрэнна. Наагул, ён, выглядае, маецца О.К. Па абедзе яшчэ паехалі з М. В. у магазын. Купіла маме просьціны. Неяк гэтым разам падарункі будуць празаічныя.

Белямук прыехаў пад вечар.

**Панядзелак 5 кастрычніка**

У абед хадзіла ў магазын купіць нешта для мамы. Купіла начную кашульку — гэта будзе ад М. В. Памерла маці Куравецкага[1].

Вечарам пазваніў Юра, каб куплялі білеты праз Mex[*ico*] C[*ity*] і каб куплялі хутчэй, бо зь білетамі ўжо слаба. У хаце, як не ў хаце, калі чужы чалавек тут.

---

[1] *Калега на працы.*

**Аўторак 6 кастрычніка**

Раніцай на навінах пачулі, што быў замах на Садата. Пазьней, ужо на рабоце, даведаліся, што ён забіты. Гэта ўжо трэйцяя прыкрая навіна за гэтыя пару дзён. У абед паехала на даўнтаўн — думала зайсьці аддаць пашану Куравецкім, але яшчэ ня было гатова. Спаткалася зь Юляй. Зайшлі мы ў мясную краму, купілі калбасаў для Нядзьвігаў. Пайшлі да Юлі на каву. Яна мне паказвала свае працы. Занесла ёй матар'ял для вышываньня (палатно, што ад Русачыхі).

Пачаўся дождж. [redacted] вельмі доўга забавілася. Нават на каву ўжо не пайшла з Т[*умашам*] і Белямуком.

Вечарам чытала Белямукоў артыкул пра першых полацкіх япіскапаў. Артыкул добры, але слаба, прымітыўна арганізаваны. Зазначыла яму гэта. Паднялася дыскусія. Я ўжо й ня радая была, што пачала. Артыкул гэты для Каўша — што мяне гэта абходзіць? Белямук надзьмуўся.

Званіла Оля — запрасіць на вясельле. Ніна выходзіць замуж. Будзе цывільная цырымонія.

Званілі Юру, сказаць, што купілі білеты і дакладныя даты й час, каб ён там дапасоўваўся. Пазванілі да Нядзьвігаў, каб дамовілася з Нічык паглядзець рэчы.

**Серада 7 кастрычніка**

У абед спаткаліся з Шук[*елойцем*]. Аддала яму «Бел. работніка». Бартуль едзе на паховіны Сіповіча — можа завязе. Шук. пачаў бедаваць, як перадаць газэту, бо Зап[*рудніка*] на рабоце няма. Прабавалі дазваніцца да Бартуліхі — нічога.

Я яшчэ зайшлася ўзяць здымкі. Добра выйшлі, але дарага. Ня думаю, што аплачваецца пабольшваць. Я пабольшыла цяпер для альбому, што маем перадаць Губэрнатару — там, дзе Надзя з Губ[*эрнатарам*] і моладзь.

Вітаўт паехаў па маму.

Белямук паехаў да Каўша. Там і заначуе. Купіў ён кветкі для мамы. Гэта вельмі сымпатычна.

Прыехалі яны з фармы ня позна. Яшчэ трохі пагаварылі ды пайшлі адпачываць. Мама вельмі задаволеная. Віт[*аўт*] кажа, што ён быў вельмі добры: усё еў, усё хваліў, гаварылі дарогай.

**Чацьвер 8 кастрычніка, Маміны народзіны**

Сяньня зноў на машыне. Дзень прайшоў спакойна. Паехалі дахаты крыху раней. У бібліятэцы і на вуліцах вельмі ціха, бязьлюдна.

Павячэралі разам. Быў і торцік. Мама сама сьпякла. Цудоўны торцік з ромам. Вельмі ёй добра ўдаецца. Распакавалі падарункі. Мне здаецца, што мама трохі была расчараваная, што такія празаічныя.

В[*ітаўт*] павёз нас у тэатр. Пастаноўка была ня дрэнная, але яны ўсё параўноўвалі з «Fiddler»[1]. І, зразумела, у параўнаньні «Annie» губляе.

Прыехалі дамоў ня позна, але ўся гэта беганіна і тузаніна стамляе.

Ага, як елі ўжо торцік — прыехаў і Белямук. Ён яшчэ будзе ў нас да нядзелі. Добра, што [redacted] заўтра выяжджаю.

---

[1] *Параўноўвалі... Некалі, калі Савёнкі адзначалі «залатое вясельле» (1972 год), мы ўзялі іх у тэатар на пастаноўку «Fiddler on the Roof» (паводле «Тэўе-Малочніка» Шолама-Алэйхэма). Тая пастаноўка ўсім вельмі спадабалася.*

**Пятніца 9 кастрычніка**

З Т[*умашам*] гаварылася пра рэцэнзыю на кнігу «Жывапісь», пра Сіповіча. Шук[*елойць*] газэту Бартулю так і не перадаў, але Бартуль забраў хоць «Раніцу».

Пасьля работы адразу-ж паехалі на фарму, нават не вячэрала. В[*ітаўт*] і Бел[*ямук*] заказалі pizza.

Даехалі добра. У хаце ўсё ў парадку. Ня дужа й холадна.

**Субота 10 кастрычніка**

Раніцай зазваніла да Нядзьвігаў, што прыеду да іх, каб паехаць да Нічык. паехала перад 12-ай, каб пасьпець на яблыкі — але ж яблыкі адкрытыя да 5-ай. Аддала ім калбасу. Паехалі мы зь Дз[*ядзем*] Ванем да Нічык. Трохі блудзілі, але ўрэшце знайшлі. Я купіла яшчэ цукеркаў для яе. Там доўга забавіліся. Паказвала яна мне свае рэчы: спадніцу (распораная), фартух (таксама распораны), намітку і сярмягу. Паказвала яшчэ й абрусы. Доўга расказвала пра сябе, пра рэчы, пра жыцьцё на вёсцы. Я ўсё запісвала. Яна даволі цікавая жанчына — знае сабе цану. Як дайшло да цаны — пачала какетаваць: «Ня ведаю», «ніколі не прадавала», «Вы, можа, лепш ведаеце». Так цягнулася яшчэ з гадзіну. Нарэшце я прапанавала $100. Яна тады ўжо сказала — $200. Так мы й разышліся. Я ня была гатовая плаціць $200. Трохі мяне гэта расстроіла. Сапсуты дзень — і мой, і Д[*зядзі*] В[*ані*]. Я спадзявалася, што ўжо сяньня буду мець гэтыя рэчы. Цяпер яшчэ нешта трэба камбінаваць.

У Нядзьвігаў яшчэ трохі пасядзела, паелі, яна напакавала ўсяго. Усё надта-ж просіць, каб напісалі ў Бэльгію. Усё яшчэ ён ня мае пэнсіі.

Прыехала дахаты ўжо каля 6-ай. Яшчэ й дома мусіла паесьці — бо мама нарыхтавала. Пагода прыгожая, але не пасядзела нават на сонцы. Так дзень і прайшоў.

**Нядзеля 11 кастрычніка**

Завезла маму ў царкву. Пасьнедалі. Хадзіла пагляздець малінкі —

яшчэ трохі ёсьць. У гэтым годзе добра ўдаліся. Мама трохі наварыла. Я вазьму з сабой.

Зьезьдзілі ў памідоры. Яшчэ перад памідорамі праехалі трохі пашукаць цыбулі, мёду. Знайшлі, купіла, але даволі дорага.

Памідораў сабралі добрых — зялёных. Купіла яшчэ й гарбузоў у іх-жа.

Дома перакусілі. Распагодзілася, дык я яшчэ трохі й на сонцы пасядзела.

Але хутка пачала зьбірацца дахаты. Ехалася добра. Заехала па газаліну, выпіла кавы. Прыехала ня позна. Павячэралі й адпачывалі. Нарэшце самі — без гасьцей!

**Панядзелак 12 кастрычніка, Columbus Day**

Сёньня дома. Адпачываем, парадкуемся, працуем.

Вечарам Вітаўт зьезьдзіў да Krupp'а. Ён цяпер зноў у Rehabilitation. Выглядае ня дрэнна, але ўжо не спадзяецца так хутка на працу. Гэта даўгі, марудны працэс — навучыцца хадзіць бяз ног! Цяпер ён больш у крэсьле.

**Аўторак 13 кастрычніка**

Цяжка раскачвацца на рабоце пасьля даўгога вікенду, пасьля такога дзейнага тыдню.

З Тумашам гаварылі пра Адамовічаву паездку ў Лёндан. Ён ужо вярнуўся й расказваў, як усё сталася. Сіповічу зрабілася дрэнна падчас Акулавай прамовы. Яму нібы й не хацелі даваць голасу. Але, мусіць, вырашылі лепш даць. Сіповіч відавочна хваляваўся. Праўда, д-р Т[*умаш*] кажа, што, як выглядае, гэта ня была прычына сьмерці — хутчэй за ўсё, згустак крыві.

Расказала Т. пра сваю этнаграфічную вылазку. Ён зацікавіўся. Можа, нават дастануцца якія грошы з Інстытуту. В[*ітаўт*] казаў, што, можа, ад продажу кніжак.

**Серада 14 кастрычніка**

Сяньня ў нас у аддзеле Party — адыходзіць адна супрацоўніца з Schumburg[1]. Мы прыстроілі вельмі прыемны абед. Прынес хто-што. Я прынесла памідораў і ўсё для кавы.

Вечарам пачала пісаць артыкул для газэты пра зьезд БАЗА. Але неяк не пісалася. Пазваніла да Запрудніка — ці можна адлажыць да заўтра. О.К. Дамовіліся, што прыдзем да іх (на радыё) у пятніцу. Пасьля гэтага я ўжо спакойна адпачывала, глядзела T.V.

---

[1] *Афраамэрыканская калекцыя.*

**Чацьвер 15 кастрычніка**

Зрабіла хегох апошніх старонак Löseth і здала кнігу, і так ужо адзін дзень прасрочыла.

У нас яшчэ ў аддзеле «Party» — канчаем учарайшае. Я прынесла

новых памідораў, купіла кавы, чаю, малака — учарайшае ўжо занесла дахаты, але ня думала, што яшчэ будзем «баляваць».

Вітаўт пайшоў на прыймо — абед, які рабіў новы дырэктар бібліятэкі. Кажуць, было вельмі просьценька. З нашых быў Фокс і Проктар. Фатаграфаваліся ўсе разам для памяткі.

Пісала артыкул. Вечарам перадрукавала яго, напісала ліст Юру. Юру перасылаем $400.

**Пятніца 16 кастрычніка**

У абед хадзілі да Запрудніка й Адамовіча. Адамовіч расказваў пра Лёндан. (Усё тое, што мы ўжо чулі ад Тумаша). Пра Салаўя казаў, што ўжо канчае правяраць апошнюю частку. Цяпер ужо мы будзем вінаватыя, што кніжка ня выходзіць — ён ужо сваё зрабіў.

Вітаўт зрабіў колькі копіяў з «Нашай Нівы» на іхняй [*капіявальнай*] машыне. Аддала Запрудніку артыкул пра БАЗА.

З Тумашам гаварылі пра Салаўя пераважна. Ён ня думае, што перад новым годам справімся. Цяпер ужо ён будзе нудзіць.

**Субота 17 кастрычніка**

Прыгожы дзень. Зрабіла прычоску. Папарадкавалася, сабраліся й чакалі Алесю. Як толькі яна прыехала з Нью Ёрку, дзе глядзелі сукенку, пераадзелася — мы паехалі на вясельле Гутырчыкавай. Па дарозе ўжо гаварылі, расказвала Алеся, як там у яе. Хатай задаволеная. Шмат працуе. І ў школе, і на рабоце, і з газэтай[1]. Сукенкай на вясельле Dean[2] яна не зусім задаволеная.

Шлюб Берні [*Гутырчык*] быў вельмі прыемны. Пабачылі шмат каго, паказаліся й паехалі дахаты, а Алеся засталася на вясельле. Аддала фатаграфіі Лідзе [*Данілюк*] з танцав. групы «Васількоў» з фэстывалю ў Jersey City.

Вечарам адпачывалі, працавалі. Алеся пазваніла, што застанецца там начаваць. Вясельле прыемнае, шмат было моладзі.

---

[1] *Алеся была рэдактарам студэнцкай тыднёвай газэты на сваім факультэце.*
[2] *Алесіна сяброўка.*

**Нядзеля 18 кастрычніка**

Раніцай В[*ітаўт*] зьезьдзіў па сьнеданьне ды паехаў па Алесю да Русакоў. Прыехалі яны ўжо якраз, як трэба было званіць Юру. У Юры ўсё добра, толькі адна навіна — пераязджаюць на другую кватэру. Знайшлі недзе трохі таннейшую. Юра зь Білам будуць жыць разам, а Дуіджыян недзе яшчэ ў другім мейсцы. Нешта ў іх расстроілася. Экзамэны, кажа, былі цяжкія. Пагаварыў ён і з Алесяй. Па абедзе В. паехаў на зборку перадвыбарную у Jersey City. Казаў, што будзе ня позна, але затрымаўся — зборка была добрая[1]. Мы з Алесяй усё падчэквалі яго, бо хацелі паехаць у магазын. Так і не дачакаліся — магазыны закрываюцца ў нядзелю а 5-ай.

Алеся цэлы дзень амаль прасядзела на тэлефоне. У яе дзень таксама разьбіўся. Яна ўжо й шкадавала, што не паехала дахаты.

Вечарам яшчэ трохі пасядзелі, пагаварылі. А[*леся*] пайшла да Надзін. Так неяк і прайшло бяз толку. Але трохі адпачылі.

---

[1] *У перадвыбарчай кампаніі пры пераліку нацыянальнасьцяў, якія жылі ў Джэрзі Сіты былі згаданыя і беларусы. Відаць, таму што кандыдат-рэспубліканец быў кубінскага паходжаньня. Кубінцы знаёмыя з нацыянальным пытаньнем.*

**Панядзелак 19 кастрычніка**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

У абед залагодзілі справы ў банку. Ужо кончыўся тэрмін Certificate. Палажылі свае грошы на кніжку. Частку М. В. грошай яшчэ залажылі на 6 месяцаў.

Пазваніла да [*доктара*] Залеўскай, каб прыйсьці на агляд. Яна якраз будзе вольная заўтра. Добра. Прыме й М. В.

**Аўторак 20 кастрычніка**

Раніцай яшчэ вырашыла пайсьці на працу. Паехала дахаты а 12-ай. Добра справілася. У Залеўскай трохі яшчэ чакалі, як заўсёды. Яна мяне агледзела — нічога канкрэтнага не сказала, бо яшчэ будзе тэст. Праўда, й ціск, і мача ў парадку.

Як заўсёды, пасьля візыты да яе ў мяне неяк сапсуўся настрой, неяк я была прыгнечаная цэлы дзень. Так яна на мяне дзейнічае. М. В. барадаўку ня зрэзала яшчэ, дамовіліся прыйсьці да яе праз два тыдні.

Вечарам званіў Crowley[1]. Пытаўся, што з кніжкай. Мы добра пагаварылі пра ўсё. Між іншага закранулі й вокладку. Ён таксама лічыць, што для такога назову — «Нятускная краса» — шэры колер вокладкі не падыходзіць. Пагадзіліся на васільковым. Цяпер толькі з Тумашам дагаварыцца. (Ён і В[*ітаўт*] за шэры колер). Гаварылі й пра Directory. Crowley лічыць, што да 1983 трэба ўжо падрыхтаваць новае выданьне.

---

[1] *Выдавец, які друкаваў Салаўя.*

**Серада 21 кастрычніка**

Вітаўт меў раніцай бібліятэчную зборку. Кажа, што трата часу. Яны там адзін перад адным стараюцца паказацца, а ў сутнасьці — пустата.

У абед хадзіла купляць. Купіла сабе туфлі, але прыйшоўшы дахаты, памерала лепей — выйшлі завялікія. Трэба, мусіць, адносіць назад.

Вечарам рабіла [*бібліяграфію*] Купалу-Коласа. Цяпер займаюся перакладамі — вышукваю калі В[*ітаўт*] не падаў, беларускія назовы вершаў[1]. А разам з гэтым ужо трохі й рэдагую. Разбалелася галава. Мусіць, ад дыеты. Я зноў села на дыету, але нешта слаба йдзе.

---

[1] *У бібліяграфіі Купалы-Коласа мы вырашылі абавязкова знайсьці загаловак ары-*

*гіналу, калі знаходзіўся ангельскі пераклад. Часта пераклады не давалі арыгінальных назоваў.*

**Чацьвер 22 кастрычніка**

Ґалава яшчэ баліць. Слаба неяк.

Са славянскага аддзелу прынесьлі праверыць апісаньне пра Менск для выстаўкі. Праверыла, зрабіла заўвагі. Ня ведаю, ці прымуць іх пад увагу. Яны там таксама самі сабе на ўме.

У абед нідзе не пайшла — парадкавала дзёньнік — запусьціла была.

Вечарам зноў трохі парабіла [*бібліяграфію*] К.-К. Шмат правяраць трэба.

Званіла Надзя: Аўген яшчэ ў тым далейшым шпіталі, а тут [*у бліжэйшым шпіталі*] на чарзе. Расказвала пра палітычную зборку, што была ў аўторак (на якую мы вырашылі ня ехаць). Пагаварылі зь ёй пра яе жыцьцё, пра Ірэну й яе новае жыцьцё.

Надзя маладзец — трымаецца.

**Пятніца 23 кастрычніка**

В[*ітаўт*] зраньня праверыў некаторыя карткі Купалавых перакладаў — запісаў першыя радкі вершаў, каб лягчэй устанавіць беларускі назоў. Часам гэта вялікая праблема — перакладнік дае свае назовы, якія вельмі далёкія ад беларускіх.

У абед зноў парадкавала дзёньнік. З Тумашам гаварылі пра каталёг — сакратарка ўжо пачала перадрукоўваць. Т. прынёс кніжку Каханоўскага «Успаміны пра К.-К.». Слаба выдадзеная. Бяз уводнага артыкулу. Без ангельскай тытульнай старонкі, бяз мейсца. Адным словам — прымітыўна.

Гаварылі й пра этнаграфічныя рэчы Нічык. Тумаш думае, што трэба набыць і што ня выпадае ўжо так надта таргавацца. Але як заплаціць — не дбае.

Расказала я яму пра гутарку з [*выдаўцом*] Crowley. Наагул гаварылі пра Салаўя. Яшчэ не стае біяграфічнага артыкулу па-ангельску, ды канчальны зьмест будзе ўжо толькі пасьля таго, як усё набярэцца й зламаецца. Яшчэ ўсё возіцца з уводзінамі «Ад рэдакцыі». Яшчэ даў прачытаць новую рэдакцыю. Пра вокладку (я яму дала кавалачак пробны) — лічыць, што зацёмны. Але, здаецца, згаджаецца, што васільковая будзе добрая.

Пайшла паглядзець, як сакратарка пачала друкаваць каталёг — яна там наблытала. Трэба будзе перадрукоўваць. У панядзелак я ёй растлумачу.

Вечарам рабіла трохі [*бібліяграфію*] К.-К. Цяпер я ўжо ўцягнулася.

**Субота 24 кастрычніка**

Раніцай зрабіла прычоску, трохі пасьнедалі.Я яшчэ хуценька зьбегала да дэнтыста — ён праверыў і сказаў, што інфэкцыя дзёснаў.

Прыпісаў пэніцыліну. Сказаў паласкаць далей. (Я яму званіла перад гэтым, здаецца, у чацьвер). Паехалі зь Вітаўтам па пакупкі. Спачатку ў Патэрсон. Купілі яму касьцюм і мне жакецік. Тады ў Пасэйк — штаны, бацінкі, скарпэткі. Адным словам: адзелі з ног да галавы. Заехалі і па фрукты ў Патэрсон, каб завезьці Алесі яблыкаў, як паедзем. Добра справіліся. Заехалі ў аптэку.

Вечарам я працавала з [*бібліяграфіяй*] К.-К. Вітаўт займаўся сваім.

**Нядзеля 25 кастрычніка**

Пасьнедалі і сталі званіць Юру. У яго з экзамэнамі ОК, але толькі-толькі здаў. Кажа, што цяжка, шмат працы. Будуць перабірацца на гэтым тыдні. Дамовіліся званіць у суботу — яны там будуць прыбіраць у хаце. Трохі мне не падабаецца, што ён перабіраецца. Хай-бы ўжо сядзеў у гэтай хаце. Хата добрая.

Пазваніла маме. У яе ўсё добра. Сказала ёй, што прыедзем у сераду да яе, пасьля Вашынгтону. (В[*ітаўт*] мае ехаць ад бібліятэкі, на канфэрэнцыю, а я ужо зь ім).

Разбалеўся мне жывот моцна. Наагул апошнім часам часта баліць. Пазваніла да Тумаша, ці можна прыймаць Gelusil, калі прыймаеш пэніцылін. Ён сказаў, што О.К. Прыняла, але ўсё яшчэ не праходзіць. Моцна разбалеўся. Цэлую ноч прамучылася.

**Панядзелак 26 кастрычніка**

Чуюся разьбітая. Баюся штось есьці, каб зноў не разбалеўся жывот.

У абед парадкавала дзёньнік. Заладзіла з сакратаркай друк каталёгу. Вечарам неяк нічога не рабілася.

**Аўторак 27 кастрычніка**

У абед схадзіла ў магазын. Думала, можа што куплю для Алесі. Купіла нейкай дробязі і кніжку пра дзікія кветкі Паў[*ночнай*] Амэрыкі (адзін том з энцыкляпэдыі). Дала Т[*умашу*] для перасылкі Зосьцы Верас. Т., як Т., першае, што сказаў, што гэта ня тое, што ён шукаў. Не, ня можна яму ніякіх паслугаў рабіць. Усё прыймаецца неяк у рогі.

Т. прасіў паглядзець яму некаторыя кніжкі у L[*ibrary of*] C[*ongress*]. Даў цэлы сьпісак. Раілася зь ім і пра куплю рэчаў у Нічык. Мы зьбіраемся заехаць да іх.

Вечарам трохі спарадкавалася. Запаркавалі машыну, бо заўтра зьбіраемся выехаць вельмі рана. На двары страшэнны туман. Але абяцаюць, што заўтра будзе добра. Ляглі спаць рана, але мне неяк ня спалася.

**Серада 28 кастрычніка**

Усталі рана. В[*ітаўт*] нейкі вельмі нэрвовы. Чуць не пасварыліся. Але неяк апанавалі, перамаглі сябе абое. Сабраліся. Выехалі а 4-ай. Ехалася добра. Сталі пасьнедаць. Я ўсё яшчэ ня важна чуюся з жыватом. Купіла Tums і цэлы дзень смактала іх.

В. мяне скінуў каля L[*ibrary of*] C[*ongress*], а сам паехаў на канфэрэнцыю (Канф. аб патэнтах[1]). Мне працавалася так сабе. Неяк ня было прадукцыйна. Але тое-сёе знайшла. Была і ў стаках і каля каталёгаў і з камп'ютарамі трохі «пагуляла». Зрабіла колькі адбіткаў. Але каб сказаць, што быў пасьпяховы дзень для мяне, дык — не. А 5-ай спаткаліся каля бібліятэкі з Алесяй. Яна добра выглядае. Прыехаў і В. паехалі да Алесі дахаты. Хата мне яе не дужа спадабалася. На маю думку ня вартая гэтых грошай[2]. Трохі пабылі ў яе й пайшлі на вячэру. Я ўсё яшчэ баялася пра свой жывот, дык і зь вячэры прыемнасьці ня мела. Неяк усё ў гэты дзень ня клеілася.

Павячэралі, падвялі Алесю дахаты, ды паехалі дамоў. Алеся яшчэ пайшла ў школу. В. сваім днём задаволены. Канфэрэнцыя была ўдалая. Адно шкадаваў, што не пасьпеў у бібліятэку. Па дарозе я хутка пачала драмаць. Неяк з жыватом трохі адлягло. Добра паспала частку дарогі, але ўсё роўна стомленая. Прыехалі да мамы ня вельмі й позна. Але ўжо нічога не рабілі — ■ адразу-ж пайшла спаць.

---

[1] *З працоўнага абавязку — патэнты захоўваліся ў Навуковым аддзеле — трэба было быць на гэтай канфэрэнцыі. Упершыню нас — дзясятак-два амэрыканскіх бібліятэкараў з навуковых і інжынерных бібліятэкаў — азнаёмілі з патэнтамі ў камп'ютарах і на CD. Аб кампактных дысках, як будучых сродках захаваньня патэнтаў, гаварылася гадзіны тры. Для нас гэта было нешта новае.*

[2] *Алеся хутка купіла сабе новую хату.*

## Чацьвер 29 кастрычніка

Раніцай трохі пагаварылі з мамай. В[*ітаўт*] спаў. Мы пасьнедалі, разабралі яе паперы. Паехалі па справах — заплацілі таксу[1], схадзілі ў банк, купілі ёй туфлі, ды яшчэ дробязяў. Купілі й прадуктаў там-жа у Egg Harbor. Нідзе далёка ня езьдзілі. Марасіць дождж, але мы вырашылі зьезьдзіць па памідоры. Сабралі аж два кошыкі. Намачыліся, забрудзіліся, але задаволеныя, што адважыліся, бо хто ведае, як будзе далей.

В. усё то ўстае, то зноў сьпіць. Добра, што хоць ён адпачне. Я сёньня таксама чуюся ўжо лепш.

Нарэшце В. устаў, і мы паехалі да Нядзьвігаў і далей. Купілі й яблыкаў. Я ўзяла Антаніну з сабой да Нічык. В. застася зь Д[*зядзем*] В[*анем*]. У Нічык нічога нам не ўдалося вытаргаваць. Яна хітрэйшая за нас. Пачала ўжо гаварыць, што ня думае, ці будзе прадаваць. Адным словам, яна сябе ў абіду ня дасьць. Заплаціла ёй, што яна хацела — $200. Дала яшчэ яна, праўда, у прыдатак кавалачак (буквальна кавалачак) палатна сваёй работы. Надта-ж яна жадная. Ну, але мне абходзіла, каб гэтыя рэчы не прапалі, не зьнішчыліся. Дык нічога ня зробіш — трэба было плаціць. На добры лад, яна мусіла-б аддаць усё задарма. Гэта-ж дзеля музэю, дзеля перахаваньня.

Купілі яшчэ яблыкаў, едучы назад. Пасядзелі яшчэ трохі ў Нядзь-

вігаў, ды да мамы. Там таксама ўжо не расьседжваліся. Сабраліся ды — дахаты.

Даехалі добра. У хаце ўсё добра. Сяньняшні дзень быў удалы, больш прыемны для мяне, як учарайшы. Але агулам цэлая паездка — была О.К.

[1] *Падаткі (taxes).*

**Пятніца 30 кастрычніка**

Сяньня палучка, але ў банк В[*ітаўт*] пайшоў сам пазьней — на каву мусілі з Ballarine быць — яна нешта правярае для Вітаўта. З Тумашам гаварылі пра L[*ibrary of*] C[*ongress*] — вытлумачыла яму мае пошукі і няўдачы. Ён папрасіў выпісаць адну кніжку, якой ня было ў L.C. праз Interlibrary loans[1]. Расказала яму й пра Нічык, што купіла рэчы. Пра грошы ён нічога не заікнуўся. Мусіць, ужо так і застанецца, што я сваімі грашмі заплаціла. Канец дня рабочага быў нейкі вельмі заняты — беганіна, шуканьне ў каталёгу, дзе ёсьць кніжкі, што патрэбныя Т[*умашу*]. Прыпомніла яшчэ, што гаварылася пра запісы, — праблема цяпер, бо Bird у шпіталі. Гаварылі й пра В[*ітаўтаў*] рэфэрат.

[1] *Праз міжбібліятэчны абмен.*

**Субота 31 кастрычніка**

Раніцай зрабіла валасы, купіла на сьняданьне. Пасьнедалі і пазванілі Юру. Ён быў у хаце старой, прыбіралі. Зноў новае — перабраўся ўжо ў другую хату (ня там, дзе меўся). Фактычна яшчэ не перабраўся, бо там яшчэ жывуць людзі. Ён сам цяпер жыве часова недзе ў хлопцаў. Хата гэтая недалёка ад старой. Нешта ў іх там ня клеіцца. Я дык ужо шкадую яго старой хаты. Галоўнае, што быў тэлефон. Цяпер будзе складана званіць. Юра даў свой новы адрас. Пашлем яму пробны ліст, а пазьней грошы й білеты самалётныя. Ага, хата новая бяз мэблі. Яны мусілі адкупіць мэблю ад былых жыхароў. Я ня ведаю, ці будзе гэта эканомней? Ну, але нічога ня зробіш — хай ён ужо сам там камбінуе.

Трохі я папарадкавалася. Прыходзілі да бабкі Жамойды. Як толькі яны пайшлі — мы паехалі па пакупкі. Купіла я сабе блюзачку да жакеткі і сукенку. Спадніцу добрую не магла знайсьці. В[*ітаўта*] пакінулі раздаваць цукеркі — сёньня Halloween. Дзяцей было шмат, бо субота.

Вечарам рабіла [*бібліяграфію*] К.-К.

**Нядзеля 1 лістапада**

Пасьнедалі. Я мыла свае рэчы. Бяліла істужачку для фартуха (фартух Нічык распарола была, але дала мне кавалак нябеленага палатна для шнурка й паска). Вітаўт капашыцца ў гаражы — шукае нешта, разглядае кніжкі.

Званіў Запруднік, каб В. напісаў для ангельскай старонкі пра «Нашу Ніву».

Парадкавалася трохі каля хаты, а пазьней працавала над К.-К. В[*ітаўт*] сваё піша: у яго цяпер два праэкты — «Наша Ніва» і «Беларусы ў Амэрыцы».

**Панядзелак 2 лістапада**

Сяньня на машыне прыехалі. Добра. У абед хадзіла ў магазын, каб купіць грамоздкія рэчы — скарыстаць машыну. Купіла тое-сёе.

В[*ітаўту*] пазванілі, што сёньня зборка Ethnic Council[1]. Я выра-шыла ехаць зь ім, каб пагаварыць з Галінай пра альбом. Пазванілі да яе — яна сяньня якраз працуе вечарам. Падыду да яе ў бібліятэку, бо зборка ў тым самым мейсцы.

Прыехалі з работы — паелі й зноў у дарогу. Падвязалася з намі й Каміль. Я ўжо й ехаць адхацела, але ўсё-ж паехала. Яна, як заў-сёды, цэлую дарогу балтала бяз толку. Вельмі-ж яна балтлівая, хоць і ня дрэнная жанчына.

З Галінай трохі пагаварылі. Аддала ёй загаловак для альбому, каб пагаварыла з Ірэнай. Яна прынесла трохі здымкаў, але ўсе тыя, што я ўжо мела. Яна кажа, што неяк слаба чуецца апошнім часам. Пася-дзелі трохі ды я пайшла пехатой пад Вітаўта. Хутка скончылася і [*па-седжаньне*] ў В. Дарогай зноў мусілі слухаць Каміль. Але настрой быў добры, дык гэта нас толькі сьмяшыла.

Вечарам ужо толькі адпачывалі.

[1] *У Douglas College. Паседжаньні Этнічнай Рады, як і розных яе камітэтаў (у Ра-дзе быў адукацыйны камітэт, камітэт сацыяльных спраў і г. д.) адбываліся ў роз-ных месцах, пераважна ва ўнівэрсытэтах і ў Трэнтане.*

**Аўторак 3 лістапада, Election Day**

Зраньня пазваніла Залеўская, што ня можа нас сёньня прыняць. Я й радая была — неяк не хацелася да яе йсьці.

Трохі спарадкаваліся, ды паехалі з М. В. ў магазын. Купіла сабе спадніцу. Цяпер ужо цэлы нарад. Добра падабрала ўсё. Пазваніла да Залеўскай, каб дамовіцца калі прыйсьці. У мяне ўсё ў парадку. Яна ня хоча рабіць М. В. апэрацыю.

Схадзілі пагаласавалі. Галасавалі за Florio (пазьней я ўжо шкадавала).

Працавала над [*бібліяграфіяй*] К.-К. Вечарам глядзелі T.V. — рэзуль-таты выбараў. Так і ня вырашылася, хто выйграў, — вельмі блізкія рэ-зультаты, будуць пералічваць. Але паводле галасоў Кеап выйграў[1].

[1] *Рэспубліканец Томас Кін быў губэрнатарам штату Нью Джэрзі ў 1982—1990 гадох.*

**Серада 4 лістапада**

У В[*ітаўта*] зраньня зборка — ён пайшоў раней. Пагода добрая.

Я надзела свой новы нарад — прыгожы. І В. надзеў свой новы касьцюм.

У абед парадкавала дзёньнік. Па абедзе В. пайшоў да Запрудніка зрабіць копіі з «Н. Н.»[1] У іх там зноў праблема з газэтай. Здаецца, майго нічога (акрамя БАЗА) зноў ня пусьцілі.

Адамовіч ужо зацікавіўся «Нашай Нівай». Усе яны спрытныя, як нехта пачне.

Пазваніў Шук[*елойць*]: у пятніцу будзе Данчыкаў рэфэрат. Ня ведаю, ці нам удасца паехаць.

Вечарам трохі адпачывала, але паглядзела й [*бібліяграфію*] К.-К. Хадзіла да дэнтыста. Званіў Калоша — пойдзе ў пятніцу да Banutti з кніжкай. Кажа, што ня думае, ці ў гэтым годзе ўжо выйдзе. Пра Хмараўскі паклёп на яго яшчэ ня ведаў[2].

---

[1] *Наша бібліятэка была адзіная на Захадзе, якая мела на мікрафільмах поўны камплект «Нашай Нівы». Мы атрымалі яе зь бібліятэкі Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе, дзякуючы маёй просьбе да Мікалая Сікорскага, калі той быў у нас у бібліятэцы. На той час Сікорскі быў дырэктарам Ленінскай бібліятэкі ў Маскве. З «Нашай Нівы» мы часта рабілі копіі розных старонак.*

[2] *У Канадзе выходзіла месячная газэта «Беларускі Голас». Рэдактар газэты Сяргей Хмара часта друкаваў «скандальныя гісторыйкі», чуткі і г. д. у гэтай газэце. Газэта мела нізкую апінію ў грамадзтве, але ўсе разумелі, што рэгулярны выхад газэты ў Канадзе — добрая справа для беларускай эміграцыі.*

### Чацьвер 5 лістапада

В[*ітаўт*] цэлую раніцу на паседжаньнях. Я на каву хадзіла сама й парадкавала дзёньнік.

Пазваніла ў Burt Franklin Publish. пра Løseth. Яны маюць яшчэ гэты перадрук: $32.50. Думаю, што трэба купіць. Хадзіла да Шабо, каб бібліятэка таксама купіла[1].

У абед парадкавала зноў дзёньнік. Нарэшце дайшла да бягучай даты.

---

[1] *Гэтыя выданьні былі патрэбныя Зоры для працы над Трыстанам. Элізабэт Шабо — наша добрая прыяцелька мадзярка, была загадчыцай аддзелу набыцьця мастацкай літаратуры.*

### Пятніца 6 лістапада

З Тумашам дыскутавалі пра ліст ад Барскага, які прыйшоў на адрас Інстытуту, фактычна быў для Вітаўта, але Т. адкрыў. Сказалі Т., што, мусіць, не паедзем на Данчыка. Прабавала нават пазваніць да Юлі, але не дазванілася.

Тады, раптам, пасьля 4-ай гадзіны ўжо тэлефон з Personnel[1] — я атрымала [*пасаду*] заступніка [*кіраўніка*] ў Славянскі аддзел. Вельмі была зьдзіўленая, трохі разгубленая. Пагаварыла з Дэворам[2]. Ён таксама трохі заскочаны — ня думаю, што ён верыў, што я дастану. Але вельмі сымпатычна пажадаў усяго найлепшага.

Пайшла сказаць Вітаўту аб гэтым, але ён ужо сам да мяне йдзе са сваёй навінай — ён атрымаў Acting chief[3]. Вось які шчасьлівы дзень для Кіпеляў! Дзеля гэтага рашылі ўжо паехаць на Данчыка. Тумаш прыйшоў прывітаць — ён таксама неяк зь недаверам. Прыйшла да мяне Ліза[4] — прывітала. Мы добра зь ёй пагаварылі. Яна, здаецца, ня надта расстроеная (ва ўсялякім выпадку не паказвае). Але добра, што яна выязджае, што ня будзе, як я пачну сваю працу. А як я ўжо стану на ногі, дык тады будзе відаць.

Паехалі ў Крычэўскага аўтобусам. Есьці не заходзілі — былі трохі прыўзьнятыя — ня было апэтыту. Трохі марасіў дожджык. Прыехалі ўжо туды, зайшлі на каву.

У Крычэўскага ўжо былі людзі. Пагаварылі трохі, перакусілі. (Не патрэбна было купляць, бо там рыхтаваўся пачастунак).

Данчык добра расказваў пра сваё падарожжа. Ён зусім добра валодае бел. мовай. Больш задавалі яму пытаньні, а ён тады адказваў, разьвіваў. Прыехала шмат людзей. Назад ехалі з Русаком Васілём. Прыехалі дамоў ужо даволі позна.

---

[1] *Аддзел кадраў.*

[2] *Загадчык аддзелу каталягізацыі.*

[3] *Acting chief — выканаўца абавязкаў начальніка. Гэтая пасада звычайна даецца, калі ёсьць яшчэ нейкія няўвязкі з папярэднім шэфам. У гэтым выпадку папярэдні шэф быў хворы — застаўся бяз ног, але звольніць яго з працы было проста немагчыма. Можна было «прыпыніць» ягоную дзейнасьць на пасадзе, што і было зроблена на пару гадоў.*

[4] *Канкурэнтка Зоры на пасаду.*

**Субота 7 лістапада**

Вітаўт сёння працуе, паехаў з Спэрлінгам. Я зрабіла прычоску. Тады парадкавалася, шыла фартушок, спадніцу. Шмат было клопатаў зь ніткамі: выцягвала з палатна, сучыла іх, тады васкавала. Шмат павазілася, але пашыла добра фартушок. Са спадніцай было больш вазьні.

Вечарам, як прыйшоў В[*ітаўт*] з працы, трохі адсьвяткавалі нашыя падвышкі. Вечар прайшоў спакойна — адпачывалі.

**Нядзеля 8 лістапада**

Цэлы дзень усё падчыквалі тэлефону ад Юры — не дачакаліся. Я так і думала, што ён ня выберацца пазваніць. Як было добра, калі ён меў тэлефон!

Так нядзеля й прайшла бяз прыгодаў. Званіла маме. Ёй баляць вочы. Прыйдзецца пад'ехаць.

**Панядзелак 9 лістапада**

Дзень прайшоў без здарэньняў — усё яшчэ пераварваем зь Вітаўтам нашыя новыя пазыцыі.

Вечарам паехалі на адчыненьне Славянскага Тыдню. Усё прайшло добра, адно шкада, нікога з нашых мастакоў ня было. Вітаўт сказаў

пару словаў. Наагул было сымпатычна, але ўжо пачынае надаядаць — усё тое самае штогоду.

Ехалі дахаты назад з Голы[1]. Добра хоць гэта, бо надта-б стаміліся, каб прыйшлося яшчэ дабірацца дахаты аўтобусам.

---

[1] *John Holy — славак, рэдактар газэты. Шмат мае сувязяў з Славаччынай. Цяперашні нунцый у Менску — ягоны сябра.*

**Аўторак 10 лістапада**

Схадзіла ў Славянскі Аддзел да Карэсара. Падзякавала яму. К[*арэсар*] сказаў, што 16-га ўжо пачынаю працу — яму званілі.

У абед схадзіла заказаць акуляры. З Тумашам гаварылі пра канцэрт Казацкага Хору, у якім удзельнічае [*Пётра*] Конюх, і будзе сьпяваць солё. Надта ж прасіў, каб прыехаў хтось зь Беларусаў. Гаварылі гэтаксама пра кніжку Салаўя. Усё нешта ня клеіцца, але здаецца, неяк дацягнем да канца.

Як толькі прыехала дахаты, сабралася і... на фарму. Даехала добра. У мамы была зусім ня позна. Перакусіла, ды стала адпачываць. Заўтра заняты дзень.

**Серада 11 лістапада, Veteran's Day**

Зраньня зьезьдзілі па памідоры. Сабралі яшчэ вельмі добра. Гэта ўжо, напэўна, апошні раз.

Тады памыліся, адзеліся і ў далейшы паход: Спачатку па яблыкі, тады купілі віна ў мясцовай «вінярні». Тады паехалі да доктара. У мамы запаленьне нейкае — заразнае. Прыпісаў нейкія кроплі. Мама чуецца О.К. Заехалі яшчэ ў магазын, купілі, што трэба, й я хутка пачала зьбірацца дахаты. Ня памятаю нават ці што прывезла зь яды дахаты. Даехала добра. Яшчэ трохі й адпачыла дома.

**Чацьвер 12 лістапада**

На сваёй старой працы канчала каталягаваньне, парадкавала свой стол, кніжкі. Так шмат назьбіралася рознай дрэні, так шмат недакончаных рэчаў. Шмат чаго павыкідала, трохі спарадкавала, але бальшыню пакідаю ня зробленую, ня выканчаную. Нічога ня зробіш.

**Пятніца 13 лістапада**

Канчаю парадкаваць свой стол. У абед зрабілі для мяне Party[1]. Было неяк нацягнута. Ня было ні Фокса, ні Piggott[2] — усе астатнія навыя, нічога зь імі ў мяне супольнага няма. Але прайшло неяк. Падаравалі яны мне шалік, які я, мусіць, перамяняю.

Пад вечар Карэсар прыйшоў і сказаў, што ў панядзелак ён цэлы дзень заняты на паседжаньнях і добра было-б, каб я пачакала да аўторка. Devor згадзіўся ахвотна. Для мяне таксама добра, бо дае мне больш часу спарадкавацца.

---

[1] *Разьвітальная пачостка.*

*[2] Бібліятэкары Абрам Факс і Джон Пігот — Зора працавала побач зь імі каля 12 гадоў.*

**Субота 14 лістапада**

Раніцай зрабіла валасы. Цэлы дзень парадкавалася каля хаты. Чуюся неяк прастуджана, хваравата. Баюся, каб не захварэць цяпер.

Па абедзе, фактычна пад вечар, прыехаў да нас Тумаш. Я хуценька прыстроіла вячэру. Хутка, спраўна, смачна. Аж сама зьдзівілася. Павячэралі, паказала Т[*умашу*] купленыя рэчы. Ён адобрыў і сказаў, што Інстытут заплаціць. Гэта вельмі добра, бо ўжо неяк ніякава выдаваць свае грошы на гэта. На канцэрт я не паехала, бо чуюся нядобра, а яшчэ заўтра трэба да Нэстараў. Паехала зь імі М. В.

Канцэрт быў добры[1]. Конюхава солё было, кажуць, на ўзроўні. Тумаш яшчэ трохі пасядзеў ды паехаў дахаты.

---

*[1] Недалёка ад нас, у аўдыторыі коледжу ў горадзе Блумфілдзе. Пётра Конюх выступаў разам з казацкім хорам. Мы езьдзілі разам з д-рам Тумашам.*

**Нядзеля 15 лістапада**

Пасьнедалі разам. Хутка пачалі зьбірацца да Нэстараў[1]. Прыехалі да іх якраз у час, яны ўжо выязджалі з дому. Цырымонія прайшла вельмі ўдала. Бруцкі адчыняў малітвай. Былі й Войтэнкі. Яны Бруцкага ад сябе баяцца адпусьціць. Былі й Кажаны, й бацька, й брат Мані, й сястра Аўгена. Вітаўт вельмі добра гаварыў. Добра гаварыў і Вітаўт Нэстар. Адным словам, цырымонія была на ўзроўні. Пасьля яшчэ заехалі да іх на пачастунак, але доўга не затрымліваліся, сьпяшаліся дахаты, каб яшчэ трохі адпачыць.

---

*[1] Мой хросьнік Вітаўт Нэстар атрымаў годнасьць Eagle Scout — важная ўрачыстасьць.*

**Панядзелак 16 лістапада**

Сяньня яшчэ ў каталёгінгу — Карэсар мае цэлы дзень паседжаньні, дык папрасіў мяне прыйсьці заўтра ў Славянскі, каб ужо тады мяне ўвесьці ў аддзел.

У абед мелі яшчэ пачастунак — астатак зь пятніцы. Яшчэ прыемна пасядзелі, пагаварылі. Я ўжо чуюся тут «на чамаданах». Ужо ўсё прыбрала, толькі пад канец дня памыю стол.

**Аўторак 17 лістапада**

Першы дзень у Славянскім Аддзеле. Раніцай схадзілі з Карэсарам на Inspection Shelves[1]. Гэта для мяне ня цяжкая справа.

У абед схадзілі з Т[*умашам*]. Ня памятаю, аб чым была гутарка. Я, мусіць, была занятая сваім.

Па абедзе была на дэску з Юрам[2]. Здаецца, й тут праблемаў ня будзе. Званіў Юрачка на Вітатаў тэлефон. На шчасьце В. якраз быў у сваім пакойчыку. Юра атрымаў ліст. Адрас добры. Просіць, каб вы-

слалі грошы. У яго шмат працы, жыве яшчэ з хлопцамі. Вітаўт сказаў яму пра нашыя павышэньні. Ён вельмі быў рады.

Ідзе страшэнны дождж. В. вечарам працуе. Ішла дахаты сама. Напісала Юру ліст. Заўтра пашлем грошы.

---

[1] *Адзін з абавязкаў заступніка шэфа аддзелу або ўпаўнаважанага бібліятэкара — штотыдня пераглядаць паліцы з кнігамі, якія ідуць на каталягізацыю. Сярод гэтых кнігаў трэба выбраць і пазначыць чырвонай стужкай тыя кнігі, якія сёньня мусяць быць закаталягізаваныя — даведнікі, энцыкляпэдыі і падобнае. Гэтыя кнігі адразу здымаюцца з паліцы і ідуць да каталёгера. Яны становяцца даступныя для публікі праз тыдзень.*

[2] *Еўстаф'еў, асыстэнт у Славянскім аддзеле. Дэск — стол даведак.*

**Серада 18 лістапада**

Паслалі Юру грошы.

У абед [redacted] хадзіла купляць сабе гадзіньнік. Тут мне без гадзіньніка немагчыма. Нічога ня купіла — альбо не падыходзіць, альбо задарага.

Па абедзе прыходзіла ў бібліятэку Рая [*Станкевіч*]. В[*ітаўт*] нешта ёй дапамагаў. Я зусім ня мела часу зь ёй займацца.

Шмат працую, напружана, сканцэнтравана. Неяк вельмі стамляюся, але ўсё ідзе добра. Прывыкаю хутка.

**Чацьвер 19 лістапада**

Сяньня з раніцы разглядалі вялікі заказ на мікрафільмы з Аўстраліі. Таксама пераглядаю каталёгі, дыжуру пры стале. (Сёньня, праўда, не — закрыты аддзел). Працы хапае[1].

Чуюся прастуджаная. Каб хаця не захварэць.

---

[1] *Абавязак заступніка шэфа аддзелу — рабіць дзённы расклад працы для аддзелу: стол даведак, новыя паступленьні, агляд картатэкі заказаў і г. д.*

**Пятніца 20 лістапада**

Сёньня з раніцы была на дэску[1] сама. Пайшло добра. Толькі мушу яшчэ некаторыя працэдуры запамятаваць, каб ішло ўсё гладка.

З Т[*умашам*] хадзілі на каву, але [redacted] была зь імі вельмі коратка. Цяпер ужо ня будзе такіх даўгіх перапынкаў. Ва ўсялякім выпадку — не адразу.

Была яшчэ на дэску з Юрам, зрабіла колькі нататкаў. Цяпер, здаецца, усе сытуацыі маю пакрытыя.

**Субота 21 лістапада**

Зраньня схадзіла зрабіла прычоску.

В[*ітаўт*] паехаў на канфэрэнцыю этнічную. Я паехала спаткаць Алесю на аэрадром. Там бачыла й Сільвановічаў (яны спатыкалі Нату Каракулька[1] — той самы самалёт, што й Алеся). Самалёт спазьніўся.

Зьезьдзілі яшчэ з Алесяй у Passaic. Я купіла сабе гадзіньнік. Завезла Алесю да Надзін — яны робяць Shower для Dion[2]. Сама паехала

яшчэ ў магазын. Купіла сабе вельмі ўдалы касьцюмчык на работу. Добры, зграбны й ня дарага. Купіла таксама сукенку на заўтра на Ніны вясельле. Вельмі ўдалая паездка.

Вітаўт прыехаў ня позна. Канфэрэнцыя была добрая. Нечакана пазваніў Юрачка. Я так была радая зь ім пагаварыць. Ён пазваніў са сваёй старой хаты — мае яшчэ ключы. Мы яму адразу-ж пазванілі назад і доўга пагаварылі. У яго ўсё добра, шмат працуе, але задаволены. Кажа, што з гэтымі хлопцамі яму вельмі добра. Яшчэ ня ведае, калі пераедзе на новую кватэру. Вырашыў, што ня прыедзе дахаты на Каляды — пачакае аж пасьля экзамэнаў. Трэба залагодзіць зь білетамі. Я лічу, што гэта ён разумна вырашыў — усё роўна ня будзе сапраўдны адпачынак, калі будуць экзамэны ў галаве. Алеся прыехала дахаты ня позна. Быў добры Shower.

---

[1] З Тэксасу.
[2] Алесіна сяброўка Дын выходзіла замуж. Shower — вечарынка зь нявестай.

**Нядзеля 22 лістапада**

Пасьнедалі разам ды хутка пачалі зьбірацца на вясельле. Выехалі рана, бо баяліся, што будзе трафік, ня ведалі, колькі часу зойме даехаць. Дык прыехалі туды яшчэ заранься. Трохі паезьдзілі па вуліцах. Прыемны гарадок, але даезд туды такі нецікавы, што мы ўжо казалі, каб і задарма там дом давалі, дык падумаў-бы чалавек, ці браць.

Вясельле было вельмі прыемнае[1]. Спачатку цырымонія — нейкая царкоўная асоба без дэнамінацыі. Урачыста, проста. Ніна мела вельмі прыгожую сукенку. Усе былі ветлыя, нават вясёлыя. Акрамя, зразумела, Волі[2]. Ну, але, з гледзішча на яе стан, дык нават яна была О.К.

Само вясельле было добра арганізаванае — шмат ежы й пітва. Але дзеля таго, што госьці былі выбраныя — ня было ніякіх эксцэсаў. Усе вельмі прыстойна захоўваліся. Мы сядзелі з Андрусышынымі, з Набагезамі і са Зміямі[3].

Вельмі прыемна, прачула сьпяваў Данчык, аж сьлёзы шмат хто праліў, як сьпяваў сваю традыцыйную вясельную песьню для нявесты й бацькі. Мы вельмі прыемна правялі час. Гэта было адно з рэдкіх вясельляў, што я добра чулася.

Прыехалі дахаты ня позна. Яшчэ й адпачылі. Алеся сядзела на тэлефоне, але ўжо нікуды ня езьдзіла.

---

[1] *Замуж выходзіла Ніна Запруднік, вельмі блізкая Алесіна сяброўка. Жаніх — яўрэй, цырымонія цывільная.*
[2] *Оля Запруднік крыху злавалася.*
[3] *Супрацоўнік на «Радыё Свабода».*

**Панядзелак 23 лістапада**

Раніцай В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром. Маці нешта баліць

рука. Фактычна, не баліць, але трохі паралізавана. Сьпісалі ўсё на артрыт.

На рабоце я сёньня сама[1] — Карэсара няма. Спраўляюся ОК.

У абед купіла сабе чорныя туфлі. Нейк стамляюцца ногі — трэба добры абутак.

Вечарам маці стала горш з рукой. Зусім амярцьвела. Мы ўжо пачалі непакоіцца. Пазванілі да Тумаша. Т. падазрае, што гэта быў невялічкі ўдар. Параіў пачакаць да заўтра, калі не палепшае, дык — у шпіталь.

---

[1] *Упершыню за працу ў Славянскім аддзеле.*

**Аўторак 24 лістапада**

М. В. чуецца горш — пазванілі Залеўскай. Яна сказала везьці ў шпіталь. Вітаўт застаўся дома, усё залатвіў. Выклікалі хуткую дапамогу і завезьлі М. В. у шпіталь.

На рабоце ў мяне ўсё йдзе добра. Была сама на дэску. Па абедзе прыехаў на работу й Вітаўт. Дома ўсё ў парадку. Гаварылі з Т[*ума-шам*] пра М. В. — выглядае па ўсім, што лёгкі ўдар. Т. кажа, што можа трохі рука адыйдзе — некалькі першых дзён пакажуць, ці будзе на паляпшэньне ці не.

Вечарам зьезьдзілі да М. В. у шпіталь. Яна чуецца слабавата — рука ўжо цэлая параліжаваная, трохі й нага правая й трохі скрыўленая правая частка твару. Але гавора й памяць не пашкоджаная. Дзякаваць Богу, што гэта ў парадку.

Пазванілі Нэстарам, каб не прыязджалі да нас на індыка. Мы то будзем рабіць для сябе, але гасьцей мець нейк не выпадае ды накладна.

**Серада 25 лістапада**

На рабоце ўсё добра. Трохі стамляемся, але настрой добры. Адно прыкра, што Балерына фыркае нешта. Яна ўжо ад таго, як даведалася, што В[*ітаўт*] і я атрымалі павышэньні, перастала з намі «гуляць» і нават «аддала цацкі» — зьвярнула падарункі, якія мы ёй давалі. Нейк цяжка вытлумачыць яе рэакцыю на ўсё гэта. Мы думалі, што яна нам сяброўка, што яна будзе радая нашым посьпехам. Ну, але Бог зь ёй. Мы яе стараемся пазьбягаць, не пападаць на вочы — можа, яна адумаецца.

Вечарам зьезьдзілі ў шпіталь. Званіла Алеся. Мы сказалі ёй пра бабку. Яна шчыра пранялася. Прыедзе заўтра.

Паставіла варыць мяса на начынку.

**Чацьвер 26 лістапада, Thanksgiving**

Вітаўт паехаў спатыкаць Алесю на станцыю у Нью Арк. А я ўзялася за індыка. Усё спарадкавала пакуль яны прыехалі. Паставіла ў духоўку. Добра справілася.

Пасьнедалі разам. Я парадкавалася, а В[*ітаўт*] і Алеся паехалі да М. В. Алеся добра пагаварыла з бабкай.

Як прыехалі ад бабкі — хутка й сталі рыхтавацца да індыка. Першы раз за шмат гадоў былі такой малой сям'ёй — толькі нас трох. Але падзякавалі за тое, што яшчэ так сталася, а ня горш. Можа, яшчэ ўсё будзе добра.

Вечарам Алеся пайшла яшчэ недзе да дзяўчатаў. Пазваніў Юрачка. Сказалі яму пра бабку, але вельмі асьцярожна, каб ён там не перажываў.

Схадзілі яшчэ зь В. да М. В. Яна па-старому.

**Пятніца 27 лістапада**

Алеся дома. Мы мусілі йсьці на працу — Карэсара сёньня няма, я сама. На рабоце ўсё добра, толькі я вельмі-ж, мусіць, напрацавалася ўчора — вельмі баліць сьпіна ды наагул усё цела. Зусім фізычна разьбітая.

Прыехалі дахаты стомленыя — спадзяваліся, што А[*леся*] будзе нас чакаць зь вячэрай. Але хата пустая — Алесі няма. У духоўцы нешта стаіць, грэецца. Паелі неяк без апэтыту — разачараваныя. Праўда, хутка прыйшла й Алеся. Яна была ў бабкі. Забавілася недзе зь дзяўчатамі, дык чуць пасьпела паставіць штось у печку ды — да бабкі. Мы на яе былі злаваліся, але ці-ж будзеш доўга злавацца на дачушку — як прыйшла ды сказала, што была ў бабкі, дык і злосьць прайшла.

Завезьлі мы В[*ітаўта*] пад шпіталь ды паехалі па пакупкі. Нічога цікавага ня купілі — позна ўжо было, стомленыя. [illegible] чуць ногі валакла. В. прывёз дахаты Жамойда.

**Субота 28 лістапада**

Ранічкай схадзіла зрабіць валасы і купіла на сьнеданьне. Пасьпелі яшчэ й пасьнедаць перад выездам В[*ітаўта*] на работу. Ён паехаў са Спэрлінгам. А мы з Алесяй — па пакупкі. Купілі ня шмат. Я сабе блюзачку, Алеся сумку. Пасьпелі толькі ў пару магазынаў — бо А. трэба было ўжо а 1-ай выязджаць. Чуць пасьпелі сабрацца й на аэрадром. Праўда, там часу мелі шмат. А. яшчэ мусіла купіць білет. Была невялічкая замінка зь білетамі, але ўсё добра выйшла. Самалёт адляцеў пазьней. Было надта ветрана. Мне неяк неспакойна стала, дык я пачакала пакуль самалёт не падняўся (гэта маленькі самалёт N.Y. Air[1]).

Тады адразу, не заязджаючы дахаты, да бабкі ў шпіталь. Трохі пабыла ў яе і... далей. Прыбегла дахаты, вывела яшчэ Рэкса, сабрала ўсё да кавы, зрабіла В. перакуску і... у New York. Даехала добра, толькі ўжо ў N.Y. паволі сунулася. В. ужо чакаў мяне. Даехалі да Крычэўскага якраз у час — трафік быў страшэнны.

Там ужо жанчыны мелі паседжаньне наконта дапамогі Беласточчыне. Выглядае, што сур'ёзна ўзяліся. Зрабіла каву.

Рэфэрат В[*ітаўта*] быў вельмі цікавы. Было добра людзей — акрамя сталых, засталіся й жанчыны: Ала, Бартуліха, Юля. Шмат было пытаньняў. Адамовіч вельмі хваліў Вітаўта. Кава й пончыкі таксама

добра ўдаліся. Адным словам, вечар прайшоў удала. Назад падвезьлі Васіля пад аўтобус.

Прыехалі дахаты ўжо позна, стомленыя.

---

[1] *Авіялінія.*

**Нядзеля 29 лістапада**

Пасьнедалі, і [redacted] пачала парадкавацца. немагчыма баліць сьпіна — перапрацавалася я гэтыя дні.

Па абедзе зьезьдзілі да М. В. пасядзелі ў яе трохі, ды паехалі дахаты адпачываць.

Пад вечар я прыняла ванну — трохі палепшала сьпіна, адпачывалі.

**Панядзелак 30 лістапада**

На рабоце я сёньня сама, раздавала [*зарплатныя*] чэкі. Купіла цукеркаў для нашага аддзелу й для каталёгараў. Усё йдзе добра на маім новым мейсцы. Чуюся добра, шмат працы, але цікава. Званілі Залеўскай, каб даведацца, што з М. В. Яна пацьвердзіла, што гэта невялічкі ўдар, думае, што далей не пойдзе, але ўжо што зробленае, то застанецца (можа трохі палепшыцца, але няшмат). Яна будзе гаварыць са спэцыялістам-нэўролягам. Пасьля таго, як нешта будзе ведама — пазвоніць ёй. Сказала пазваніць у чацьвер.

Вечарам езьдзілі да М. В.

**Аўторак 1 сьнежня**

Сьпіна мая трохі лепш стала. Стала насіць лапці на рабоце час-адчасу, зьмяніла крэсла. На рабоце ўсё добра.

На каву хадзілі з Тумашам. Ён хваліў Віт[*аўтаў*] рэфэрат. [redacted] цяпер маю мала часу на хаджэньне на каву, дык мала чаго магу напісаць пра нашыя гутаркі з Тумашам.

Вечарам езьдзілі да М. В. Расказалі ёй, што гаварыла Залеўская. Ёй будуць рабіць рэнтгэнныя здымкі й розныя іншыя экзамэны, каб дасьледзіць, дзе сталася пашкоджаньне. Чуецца яна лепей, але наракае на яду — нясмачная, бяз солі.

**Серада 2 сьнежня**

Раніцай не завялася машына: В[*ітаўт*] учора забыўся выключыць сьвятло маленькае. Але батарэя выладавалася. Разам прабавалі вывезьці на вуліцу, каб Collens'у[1] было лягчэй наладаваць. Нічога ня выйшла — толькі патузаліся й пасварыліся. Я са злосьці кінула й пайшла на аўтобус. В[*ітаўт*] тады неяк з Стартэкам[2] прабавалі нешта зрабіць, але толькі горш зрабілі — батарэя зусім перагарэла. Неяк пазьней Collens забраў машыну ў гараж.

На рабоце ўсё добра. У абед схадзіла заказаць новыя акуляры — тыя, што зрабілі зусім слабыя. Нанова агледзелі вочы. Спадзяюся, што гэтыя будуць лепшыя.

Машыну ад Collens забралі й паехалі ў шпіталь. Там трохі пася-

дзелі. М. В. чуецца ня дрэнна — толькі наракае на яду ўсё. Доўга ня былі, бо стомленыя, галодныя. Выйшлі і... не заводзіцца машына. Патузаліся трохі ды сталі званіць у ААА. Прабавалі пазваніць да гаражыста, але ён ужо закрыў. ААА даволі хутка прыехалі, але мы ўжо зусім стаміліся, дык кожная хвілінка цягнецца. Папрабаваў ён завесьці — нічога. Трэба цягнуць. Зноў чакалі каля гадзіны пакуль прыехаў з спэцыяльным кранам. Праўда, узяў нас з сабой і прыцягнуў да Collens'a.

Да хаты прыйшлі ўжо каля 11-ай. Такі не памысны дзень.

---

*[1] Гаражыст (аўтарэмонтнік) недалёка ад нашай хаты.*
*[2] Сусед.*

**Чацьвер 3 сьнежня**

Сёньня зрана ў нас на працы паседжаньне. Я мусіла весьці пратакол — якраз мне прыпала па альфабэце. Усё прайшло добра.

Званілі па абедзе Залеўскай даведацца, як з маці. Яна нічога канкрэтнага не сказала. Адно толькі раіць паслаць у нейкі цэнтар для далейшай папраўкі. Залеўская нейкая няўважлівая, раскіданая. Мусіць, ужо пара ёй выходзіць на адпачынак. Я дык зь ёй зусім неяк дагаварыцца ня ўмею.

Вечарам Collins пазычыў нам сваю машыну — нашая яшчэ не гатовая. Заехалі купілі М. В. печыва па дарозе ў шпіталь.

**Пятніца 4 сьнежня**

Вітаўт дома. Паехаў у шпіталь пагаварыць з Social Worker[1]. Завёз маці катлеткі, што я зрабіла. Яна вельмі з апэтытам зьела. Забраў з гаража машыну.

На рабоце ў нас сёньня клопат — памерла маці Аліны[2]. Трэба было арганізаваць вянок, спачуваньне. Поў дня быў пад гэтым уражаньнем і ў беганіне.

Забрала акуляры — здаецца ОК.

З Тумашам хадзіла на каву. Гаварылі пра новую друкарню[2]. Выглядае, што гэтая будзе для нас падручней — знаходзіцца недзе на 34-ай вуліцы. Шрыфт не благі.

---

*[1] Асоба з Аддзелу сацыяльнай апекі.*
*[2] Супрацоўніца.*
*[3] Для газэты «Беларус».*

**Субота 5 сьнежня**

Мы абодва сёньня працуем. Прыехаў за намі Sperling. На працы было ОК. Зноў толькі было клопатаў з кветкамі, званкамі да супрацоўнікаў пра час і мейсца паховінаў.

Вечарам яшчэ зьезьдзілі да М. В., а тады адпачывалі. Неяк сабралася ўсё разам — нашыя павышэньні, хвароба М. В. — усё гэта дадае да стамленьня.

Нядзеля 6 сьнежня

Пасьнедалі. Я трохі парадкавалася. Зьезьдзілі да М. В. Яна чуецца лепей.

Астатак дня то адпачывалі, то трохі працавалі, то гляделі T.V. Нічога цікавага не прыпамінаецца.

Панядзелак 7 сьнежня

Я дома (замест суботы)[1].

Памыла бялізну — сабралася аж 4-ы машыны. Але ўсё памылася, падсохла. нават частку й папрасавала. Зьезьдзіла да М. В., а пазьней у Passaic — купіла сёе-тое.

Цэлы дзень парадкавалася. Стамілася, але шмат пасьпела.

---

[1] *У суботу трэба будзе працаваць.*

**Аўторак 8 сьнежня**

Званілі ў шпіталь да Social Worker. Вырашылі, што пашлюць М. В. у цэнтар для папраўкі.

З Тумашам гаварылі пра друк Салаўя. Ужо амаль усё гатова да друку. Т. хоча яшчэ папрабаваць недзе тут у Нью Ёрку, але я лічу, што ўжо трэба трымацца [*выдаўца*] Crowley.

Агледзела новую Славянскую энцыкляпэдыю па-ангельску. Яшчэ толькі пару тамоў выйшла, але якраз ёсьць артыкулы зь беларускай літаратуры і мовы. Паказвала Тумашу — там ёсьць і пра Скарыну.

Вечарам паехалі да М. В. у шпіталь. Быў таксама для яе ліст ад Юры. Яна вельмі ўсьцешылася. Ліст харошы, мілы — па-беларуску. Маладзец Юрачка.

**Серада 9 сьнежня**

На рабоце ўсё добра. Шмат працы, але я задаволеная.

Паслала маме гузікі для дзедаў марозаў[1].

Так больш нічога не прыпамінаю. Мусіць-жа хадзілі да М. В. вечарам, але не прыпамінаю, што там было. Цяпер, як яна ў шпіталі, для нас двайная нагрузка: й зрабіць усё сабе, й да яе яшчэ зьезьдзіць. Дык вечарамі ўжо зусім з ног звальваемся.

---

[1] *Яна шыла цацкі на ялінку.*

**Чацьвер 10 сьнежня**

Вітаўт сёньня з раньня з Тумашам, па ягоных справах недзе паехалі[1]. Цэлы дзень амаль затрымаўся там. Пазваніў толькі раз, што яшчэ заняты.

Мы ў славянскім аддзеле мелі невялічкае паседжаньне пра нашую «Party»[2]. Разьмеркавалі ўсе функцыі. Ага, прыехала ўжо Ліза [*Гофман*] з канікулаў. Здаецца, ўсё будзе ў парадку — яна выглядае, што ня будзе мне рабіць ніякіх прыкрасьцяў. Добра, што яе ня было, як я пачала працу. Цяпер я ўжо агледзелася, стала на ногі.

З Т[умашам] прайшло ўсё добра. Шмат было гутаркаў. В[ітаўт] задаволены, што пайшоў зь ім. І Т. вельмі ўдзячны, што В. яму дапамог, быў зь ім.

Так цэлы дзень В. і ня бачыла. Толькі вечарам расказаў усё як было.

---

[1] *Тумаша выклікалі ў Аддзел Спэцыяльных Расьсьледаваньняў. Я быў і перакладчыкам, і сьведкам. Цягнулася вельмі доўга. Аднак на разьвітаньне ўрадоўцы цьвёрда выказаліся, што Тумаш у парадку — былі даносы, якія трэба было расьсьледаваць.*

[2] *Калядная вечарына.*

**Пятніца 11 сьнежня**

В. паехаў зраньня ў шпіталь — пагаварыць з Social Worker. Рашылі ўжо канчальна, што перавязуць М. В. у Theresa Brotta Center[1] у панядзелак.

На рабоце ўсё добра. З Тумашам была коратка. Наагул, я цяпер на каву бегаю коратка, а часам дык і зусім няма часу схадзіць.

Вечарам зьезьдзілі да М. В. Яна задаволеная, што ўжо са шпіталю выедзе.

Заніў Юрачка — гучыць добра. Быў зьдзіўлены, што бабка яшчэ ў шпіталі. Кватэры ён яшчэ ня мае, але дасьць нам адрас, куды паслаць білеты. Экзамэны ў яго пайшлі добра. Ён вельмі задаволены. На Каляды не прыязджаць ужо канчаткова вырашыў. Даў нам даты на калі мяняць білеты.

---

[1] *Цэнтар рэабілітацыі для часткова паралізаваных.*

**Субота 12 сьнежня**

Зрабіла раніцай прычоску. Тады памыла яшчэ бялізну і паехала ў магазын. Нічога цікавага ня купіла. Поўна людзей у магазынах. Купіла занавескі на вокны ў пакой на нізе, дзе будзе М. В. спаць, як выйдзе са шпіталю.

Езьдзілі да М. В. Тады адпачывалі. Кожны сам сабе займаўся сваім. Я апошнім часам мала працую для сябе.

**Нядзеля 13 сьнежня**

Парадкавалася трохі зраньня.

Зьезьдзілі ня позна да М. В. Купілі яшчэ для яе цукеркаў — каб пачаставаць сёстраў перад адыходам са шпіталю. Яна чуецца лепш.

Вечарам званіла Алеся. У яе ўсё добра, рыхтуецца да экзамэнаў. Шмат працуе. Адзін экзамэн ужо здала — задаволеная.

Пазваніла маме. Мы неяк яе цяпер занядбалі. Уся ўвага на М. В. Мама чуецца добра. Клапоціцца пра М. В. і пра нас, як мы спраўляемся. Усё хоча ведаць, калі мы прыедзем да яе.

**Панядзелак 14 сьнежня**

М. В. павезьлі у цэнтар для папраўы. Вітаўт паехаў туды таксама.

Там выглядае, што будзе ёй даволі добра. Праўда, у пакоі іх 4-ох — гэта можа быць мінус. У шпіталі яна была бальшыню часу сама адна, хоць пакой і быў на дзьвюх.

В[*ітаўт*] паслаў, што трэба было для тэатру[1] — канчальная ўжо рэдакцыя й карэкта. Цікава, як яшчэ доўга будзе, пакуль кніга зьявіцца з друку.

Я паслала формы для чэкаў[2].

---

[1] *Матэрыялы аб беларускім тэатры ў ЗША для кнігі Ethnic Theatre in the United States (Seller, 1983). Наш разьдзел называўся «Byelorussian-American Theatre».*

[2] *Для атрыманьня авансу зарплаты.*

**Аўторак 15 сьнежня**

Заказала «Трыстана» — перадрук Löseth. Спадзяюся, што друкар яшчэ мае кнігу. Я сабе тады не прабачу, бо як [redacted] званіла (якіх пару тыдняў таму) яшчэ была. Чаму я адразу не заказала?

Паслала гэтаксама яшчэ формачкі для чэкаў. Цяпер ужо ўсё ў парадку.

Гутаркі з Т[*умашам*] не памятаю. Напэўна нешта, што заўсёды дыскутуецца: Салавей, «Запісы», новыя кнігі. На рабоце ўсё добра.

Езьдзілі да М. В. Мейсца новае робіць добрае ўражаньне. Праўда, М. В. наракае, што абслуга вельмі дрэнная, асабліва вечарам — няўважлівыя, грубыя.

Званіла Алеся. Экзамэны ідуць у яе добра. Прыедзе яна альбо ў сераду, альбо ў чацьвер рана.

Вечарам як мы ўжо паехалі дахаты — прыходзіў да М. В. доктар. Агледзеў яе і прыпісаў практыкаваньні.

**Серада 16 сьнежня**

Заказала торт для Слав. аддзелу на нашую заўтрашнюю Party. Усё йдзе добра з падрыхтоўкай.

Купіла таксама цукеркі для Orig. Cat[1]. Занесла ім — былі вельмі задаволеныя.

В[*ітаўт*] паехаў да М. В. удзень, каб нам тады вечарам ня езьдзіць. Стамляе нас гэта ўсё

Я яшчэ мусіла сёе-тое дакупіць для Party.

М. В. чуецца трохі лепей. Пачалі тэрапію, дык у яе ўжо трохі палепшыўся настрой.

---

[1] *«Стары» аддзел каталягізацыі.*

**Чацьвер 17 сьнежня**

Вітаўт пазваніў да Seller[1] даведацца, ці атрымала яна матар'ял пра тэатр. Усё ў парадку. Кніга, праўда, ня думае, што выйдзе перад летам.

Па абедзе пачалі рыхтавацца да Party. Усе прыйшлі, усё купілася,

прынеслася. Усё ідзе, як па масьле. Вельмі ўсё добра было арганізавана, прайшло вельмі памысна. Прыйшло шмат гасьцей — тых, што мы запрашалі (бо запрасілі мы толькі сваіх старых працаўнікоў ды начальства). Party ўдалося на славу — усё было смачнае, прыгожа ўстроенае. Адным словам — кляс!

Вечарам званіла мама даведацца пра М. В. Ды так неяк паставіла пытаньне: «Як жа там бедная М. В.? Куды вы яе загналі?» Мяне неяк гэта надта абурыла. Мы ўжо так стараемся, каб было лепей, а каму можа й выглядае, што «сьпіхаем старуху з рук». Я вельмі расстроілася — можа трохі нагрубіла маме.

---

[1] *Укладальніца кнігі пра этнічны тэатар у ЗША.*

**Пятніца 18 сьнежня**

Пазваніла з цэнтру Social Worker: М. В. трохі мусіць перанатужылася з практыкаваньнямі — ёй стала балець нага. Доктар прыпісаў тры дні адпачынку ў ложку.

На рабоце ўсё добра. Усе задаволеныя ўчарайшай урачыстасьцяй. З Тумашам цяпер, калі й хаджу на каву, бываю меней і карацей; дык гутаркаў бывае мала і толькі вельмі агульна.

Вечарам паехалі да М. В. Яна чуецца лепей. Нага ўжо не баліць, але праз weekend паляжыць у ложку.

**Субота 19 сьнежня**

Раніцай зрабіла прычоску. Тады паехала па пакупкі ў Пасэйк. Купіла для В. кашулю й гальштук. Яшчэ дробязі. Неяк паволі сёлета йдзе Калядовая падрыхтоўка. Добра, што ня трэба шмат купляць.

Пакуль я была ў горадзе — званіў Юра. Так мне крыўдна было, што не пагаварыла зь ім. У яго ўсё там добра. Грошы яшчэ не атрымаў. Мы паслалі, здаецца, у панядзелак на адрас, дзе ён зьбіраўся жыць. Што ў яго там з кватэрай выйшла — цяжка зразумець. Толькі прыкра, што ня маем куды пазваніць ды нават цяпер і напісаць. Усе ягоныя сябры таксама адрасу дамагаюцца.

**Нядзеля 20 сьнежня**

Мыла бялізну зраньня. Цяпер трэба камбінаваць, калі надвор'е адпаведнае.

Паехалі пазьней да М. В. Ніякай там зьмены. Вечарам пісала [*віншавальныя*] картачкі. З гэтым таксама запазьнілася сёлета. Пішу толькі тым, што пэўна атрымаю. А так дык толькі адказваю.

Атрымалі зноў картку з Белага Дому. Гэта ўжо ад чацьвертага прэзыдэнта: Nixon, Ford, Carter і цяпер Reagan. Я іх стала перахоўваць. Некалі будзе прыемна ўспамянуць.

**Панядзелак 21 сьнежня**

На рабоце ўсё добра. У абед хадзіла купіць Алесі чамадан на калядны падарунак.

В[*imaўm*] пайшоў дахаты раней з гэтым чамаданам. Меў цяжкасьці пры выхадзе зь бібліятэкі — нейкі прыдзірлівы швайцар папаўся. Паехаў да маці, а тады ўжо чакаў мяне зь вячэрай. Мы цяпер стараемся неяк супольна хатняй працай займацца.

Званіла Алеся — прыедзе ў сераду вечарам.

**Аўторак 22 сьнежня**

У абед хадзіла купляць нешта на Каляды. Цяжка йдзе купля. Магазыны поўныя людзей, усё дарагое, тога, што хочаш — няма. Цяпер для мяне купля зрабілася вялікай нагрузкай. Ніякай прыемнасьці няма ад гэтага. Нават для сябе ня люблю купляць.

Вечарам паехалі да М. В. Мелі спатканьне з Social Worker. Вельмі мілая маладая асоба. Выглядае кампэтэнтнай. Яна задаволеная прагрэсам М. В., але раіць патрымаць яе ў цэнтры яшчэ пару тыдняў, тады толькі можна будзе сказаць, як ідзе папраўка.

Пасядзелі яшчэ трохі і з М. В. Але ўжо было позна — пасьля 8-ай там ужо пачынаюць парадкавацца на ноч.

**Серада 23 сьнежня**

У абед зноў хадзіла на закупы. Больш-менш ужо ўпарадкавалася. Усім нешта будзе пад ялінкай.

Вечарам толькі селі адпачываць — як тэлефон ад Ball[*arini*] — просіць В[*imaўma*], каб завёз яе да доктара — яна зусім дрэнна чуецца. Тут я мушу трохі адысьці назад. Ужо пару месяцаў, як Ball. пасварылася зь В., перастала з намі гаварыць, нават дайшло да таго, што вярнула ўсе нашыя падарункі, якія мы ў той ці другі час ёй давалі. Усялякая дробязь — ня вартая нават увагі. Яна ўжо колькі тыдняў як нэрвова не ў парадку. Мы стараліся яе не чапаць, счакаць, пакуль пярэйдзе гэты яе стан. (Было гэтак зь ёй і раней). І неяк раптам зноў пачаліся ранейшыя адносіны. Зноў яна стала гаварыць, зноў сталі хадзіць на каву. І вось, цяпер пазваніла, каб В. паехаў зь ёй да доктара — бо яна сама пасьля уколаў баіцца ехаць.

Доўга ён там зь ёй быў — яна пасьля ўколу там заснула.

Мы ўсё падчэкваем Алесю. Ужо пачалі хваляваца былі, але прыехала памысна. Яшчэ нават перакусіла — [redacted] зрабіла катлеткі з пюрэ. Трохі пагаварылі і пайшлі спаць — заўтра вялікі дзень.

**Чацьвер 24 сьнежня**

Бібліятэка сёньня адкрытая для публікі, але затое заўтра й ў суботу закрытая. Я пайшла на працу, а В[*imaўm*] застаўся з раньня дома. Паехалі з Алесяй, купілі ялінку. Купілі нейкую крывенькую, ужо абсыпаецца — шырокая й прысадзістая. Адным словам — не цікавая.

В. прыехаў на працу. Алеся — у магазыны. Я яшчэ ў абед хадзіла купляць. На рабоце было вельмі занята — на дзіва людзі папрыходзілі[1]. Шмат было беганіны. Але затое, як прыйшлі дахаты — чакала нас смачная й прыгожая вячэра. Алеся маладзец. Так нам было прыемна.

Вечарам яна недзе паехала з Надзін. В. паехаў да М. В. А я прыбірала ялінку, пакавала падарункі. Стамілася, але ўсё, што трэба было, зрабіла — нават ялінку на двары ўпрыгожыла й запаліла. Як прыйшоў В., ■ была ўжо амаль гатовая. Алеся прыйшла позна, але яшчэ пасьпела запакаваць свае падарункі, павесіла панчошку. Ялінка, як прыбралася, выглядае зусім ня блага. Асабліва з падарункамі пад ёй.

---

[1] *У калядную пару часьцей прыходзілі студэнты — яны мелі канікулы і канчалі свае сэмэстральныя працы.*

**Пятніца 25 сьнежня, Каляды**

Раніцай разабралі ялінку — падарункі. Усё ўсім падыходзіць. Алеся, здаецца, задаволеная.

Пасьнедалі разам, ды мы сабраліся з Алесяй у дарогу. Вітаўт застаецца дома, але мае Алесіну машыну, дык будзе мець магчымасьць перасоўвацца.

Заехалі спачатку да бабкі ў цэнтар. Перадалі ёй падарункі, пасядзелі трохі зь ёй. Яна была радая бачыць Алесю. Падарункі таксама адпаведныя, падыходзячыя: радыё на батарэйках, халацік, сукенка. Трохі паблудзілі, едучы да бабкі — празявалі выезд. Трохі пачалі блудзіць, выехаўшы ад яе. Адным словам, Алесі было, што на маму наракаць і кпіць. Але даехалі добра. бабка на фарме ўжо нас чакала са смачнай каляднай вячэрай. Павячэралі й адпачывалі — ляніліся — і я, й Алеся. Яна таксама, бедная, стамляецца. Ды й мама, рыхтуючыся да нашага прыезду, забегалася.

**Субота 26 сьнежня**

Раніцай пасьнедалі ды хутка пачалі выбірацца «з візытамі». Спачатку паехалі па яблыкі — было зачынена. Тады да Нядзьвігаў. Аддалі ім усё святочнае — калбасу, мак, крухмал. Тады зь Д[*зядзем*] В[*анем*] паехалі да Беразоўскага[1] — аддала яму дзяружку. Са скрыпам сэрца рабіла гэта, бо ведаю, што ўжо назад ад яго не атрымаю, а ў іх недзе загубіцца, зьнішчыцца. Але я больш не магла ўжо трымаць дзяружку ў сябе, калі яна толькі была нам пазычаная на час. Ды з такімі людзьмі, як Беразоўскі, трэба быць асьцярожным.

А[*нтаніна*] Ф[*іліпаўна*] зноў надавала нам сваіх рэчаў — рыбы, капусты — далі таксама яблыкаў, што мелі купленыя.

Па дарозе заехалі ў Lenox[2] — было зачынена.

Прыехалі назад дахаты, перакусілі ды... паехалі ў Atlantic City ў казіно (Harras). Там было вельмі прыемна, адбудавалі ўжо яго ад таго часу, як мы былі зь Юрам. Добра правялі час, паігралі, але нічога не прайгралі — вярнулі назад.

Назад едучы, заехалі купілі яшчэ ніткаў для коўдрачка, для М. В. Якраз добра ўдалося падабраць колеры.

Дахаты паехалі ня позна. Добра даехалі. Час правялі добра. І маме было прыемна, і нам.

---

[1] Сусед беларус, у якога пазычалі дзяружку на выстаўку.
[2] Старая амэрыканская фірма, што вырабляе посуд.

**Нядзеля 27 сьнежня**

Пасьнедалі разам — за даўгі час што ня толькі мы ўдвух. Паехалі з Алесяй па пакупкі. Надвор'е прыкрае — дождж. паехалі ў Passaic Co. у Burlington — бо ў Bergen[1] у нядзелю магазыны закрытыя. Купілі мне паліто. Даволі добрае й не дарагое. Алеся нагледзела й сабе, але хоча спачатку паказаць Надзін. Заязджалі яшчэ і ў другія магазыны, але нічога надта ня купілі. Стамілася я. Цяпер мяне хаджэньне ў магазыны вельмі стамляе.

Памыла валасы й накруціла. Сядзелі дома. Нават ня памятаю, ці В[*ітаўт*] езьдзіў да М. В. Мусіць, езьдзіў.

Алеся недзе пайшла, зразумела.

---

[1] *У ЗША ў некаторых акругах (county) магазыны ў нядзелю зачыненыя, а ў некаторых — адчыненыя. Залежыць ад людзей. Дзе больш кансэрватыўнае жыхарства — магазыны зачыненыя, калі жыхарства лібэральнае — адчыненыя. Вырашаецца галасаваньнем.*

**Панядзелак 28 сьнежня**

Прыехаў у бібліятэку Белямук. Па абедзе, калі нас яшчэ ня было дома, званіў Юра. Алеся была дома, дык яны пагаварылі трохі. У яго ўсё добра — рыхтуецца да экзамэнаў.

Алеся прыгатавала нам вячэру, але неяк было ня ўтульна, не пасямейнаму — чужы чалавек у хаце.

Алеся купіла сабе паліто, тое, што мы глядзелі. Вельмі добрае, добра ёй пасуе.

Па вячэры А. пайшла недзе з Надзін, а мы мусілі сядзець і слухаць Белямуковыя пагадкі. Прывёз ён падарунак — парцэлянавую ялінку. Даволі прыгожая, але мне яна не патрэбная — лішняя гаргарына, якую трэба недзе перахоўваць цэлы год[1].

Прыйшлі А. і Н. з сукенкамі на вясельле. Вельмі расчаравалася я — сукенкі можа й не такія благія былі-б, каб былі лепш выканчаныя, акуратней пашытыя і зь лепшага матар'ялу. А так, як ёсьць — выглядаюць вельмі марна, а дорага.

---

[1] *Цяпер яна ў Алесі.*

**Аўторак 29 сьнежня**

Дзень быў заняты, але нічога асаблівага ці цікавага не прыпамінаю. На каву зь імі не хадзіла — была занятая.

Вячэралі самі — Белямук застаўся ў бібліятэцы. Дык было вельмі нам самім прыемна.

Пазьней паехалі яшчэ з Алесяй дакупіць прадукты для лазаньня. Алеся зробіць нам на заўтра, бо заўтра запрасілі Баларыну на вячэру, а тады В[*ітаўт*] павязе яе да доктара.

Рыхтавалі вячэру на заўтра. А. яшчэ недзе пайшла.

**Серада 30 сьнежня**

Алеся паехала ў Нью Ёрк з кузынам Надзін, што пазнаёмілася на Каляды у бабкі Н.

Мы прыехалі з Баларыны. Белямук трохі затрымаўся, але хутка прыйшоў і ён. Я хуценька стала разаграваць вячэру. Але В[*ітаўт*], як заўсёды, пачаў падганяць, нецярлівіцца, дык пачалі есьці яшчэ ня зусім угрэтую. Шмат ад гэтага вячэра наша згубіла.

Павячэралі ды В. паехаў з Б[*аларынай*], а я, каб не займацца зь Белямуком, пачала парадкавацца, мыць пасуду, тады пазваніла маме. Яна прастуджаная. Я так і баялася, што яна застудзіцца, усё бегаючы й нас адпраўляючы.

Пазваніла Камілл. Яна на нейкай вечарыне спаткала некага, што вучыўся ў Тампіко[1]. Нагаварыла, набалтала, як яна заўсёды, — кажа, што той чалавек нам зазвоніць. Калі я ведаю Камілл (а я яе, здаецца, ужо пазнала), то ніхто ніколі не пазвоніць, нічога з гэтага ня выйдзе.

Званілі Русакі. Запрашалі да сябе на Новы Год. Я адразу сказала, што мы нідзе не зьбіраемся.

Так [redacted] й прасядзела на тэлефонах, аж пакуль ня прыйшоў Вітаўт. Тады яны сталі званіць зь Белямуком да ягоных знаёмых, тады да Русакоў.

Нарэшце ўсё залагодзілі — заўтра Белямук паедзе да Русакоў, а тады да свайго знаёмага — так што мы на Новы Год будзем самыя, будзем мець невялічкі адпачынак.

---

[1] *Дзе цяпер вучыўся Юра.*

**Чацьвер 31 сьнежня**

Сяньня яшчэ працуем. Белямук паехаў у Нью Ёрк у магазын і яшчэ недзе, а тады зь Нью Ёрку адразу да Русакоў.

Алеся мыла бялізну. Яе прысутнасьць у хаце вельмі для нас прыемная й карысная. Шмат яна дапамагае.

Я купіла Алесі пацеркі Rose quartz на яе дзень народзінаў. Разам купіла й сабе гарнэт.

Алеся нешта прыгатавала нам на вячэру. Павячэралі й мы паехалі да М. В. У яе ўсё добра. Доўга там ня былі.

Баліць мне моцна пятка.

Алеся й Надзін пайшлі да сваякоў Надзін Baby Sitting — бо бацькі недзе пайшлі на Спатканьне Новага Году. Яны добра сябе адчувалі — там і начавалі.

Мы зь Вітаўтам дачакалі Новага Году — выпілі трохі нейкага віна. Было спакойна, прыемна. Так і прайшоў канун Новага Году — спакойна, толькі мы ўдваіх. Мусіць, гэтакі стан рэчаў будзе ўжо нашым нармальным — ужо часьцей і часьцей мы будзем толькі ўдваіх на ўсялякія ўрачыстасьці. Праўда, Новы Год мы найчасьцей праводзілі самы адны. Дзеці недзе самі гулялі.

Вось так і кончыўся
1981 год.

## *1982*

**Пятніца 1 студзеня**

Сёньня ўсе дома. Алеся, праўда, прыйшла трохі пазьней — пасьнедалі там, дзе начавалі.

Мы пасьнедалі самі, без Алескі. Каля 12-ай прыйшла й яна. Добра правяла час з Надзін.

В[*ітаўт*] паехаў да бабкі[1]. Алеся перагледзела мне справаздачу па-ангельску з нашага славянскага паседжаньня.

Пасьля недзе пайшла. Мы сабе трохі адпачывалі.

Пад вечар прыехаў Белямук. Ён быў у свайго сябры. Трохі перакусіў яшчэ. Сядзелі, гаварылі. Я, каб не губляць часу, бо ўсё роўна не адпачываецца, пачала рабіць Купалу-Коласа[2]. Пасьля чытала артыкул Запрудніка — ён прасіў перагледзець. Так першы дзень Новага году й прайшоў: спакойна, сямейна, трохі папрацавалі, трохі й пагасьцілі. Калі кажуць, што праўда, як пройдзе першы дзень — так і цэлы год — дык год павінен быць не благі.

---

[1] *Пасьля інсульту і побыту ў шпіталі Марыя Васільеўна была нейкі час у рэабілітацыйным цэнтры (Nursing home), дзе яе вучылі «працаваць» левай рукой, бо правая аднялася.*

[2] *Бібліяграфію.*

**Субота 2 студзеня**

Белямук паехаў: спачатку ў Нью Ёрк, а тады ў Нью Брансуік — будзе там мець рэфэрат пад царквой[1]. Я нават ня ўставала.

Вітаўт паехаў па сьнеданьне, як толькі адправіў Белямука. Пасьнедалі ўсе разам.

Алеся і В. паехалі да бабкі, а пазьней А. на вясельнае практыкаваньне і на вячэру пасьля гэтага.

В. паехаў у Нью Брансуік на рэфэрат Белямука.

Я працавала з [*бібліяграфіяй*] К.-К.

Рэфэрат кончыўся ня позна. Прайшоў так-сабе. Людзей было мала. В. казаў, што было даволі нядрэнна, але Б[*елямук*] усё яшчэ пыжыцца. Галіна скакала, як заўсёды.

Мне баліць пятка.

---

[1] *Выступаць з дакладам у залі на цокальным паверсе царквы.*

**Нядзеля 3 студзеня**

Раніцай зрабіла прычоску — схадзіла там, дзе адкрыта ў нядзелю. Выйшла ня дрэнна. Пасьнедалі разам.

В[*ітаўт*] паехаў да М. В., а я парадкавалася. Алеся занятая «сваім» вясельлем[1].

Я зрабіла тэкст для надпісаў на альбом для губэрнатара.

Вечарам паехалі на вясельле Dion. Было вельмі прыемна, прыгожа. Дзяўчаткі выглядалі зусім ня блага ў сваіх сукенках. Асабліва прыгожа выглядала Алеся. Пазнаёміліся таксама з жаніхом Надзін — Томам. Вельмі прыемны хлапец.

Паміж вянчаньнем у царкве й вясельлем пасьпелі яшчэ заехаць па торцік для Алесі на заўтра.

Вясельле было вельмі прыстойнае. Мы сядзелі з Согамі і Мэсонамі[2]. Добра сябе адчувалі. Паехалі дахаты ня позна. Вясельле было адно з прыямнейшых, што мы былі, а можа я проста цяпер сябе лепш адчуваю ў людзях — пэўней, больш адпружана.

---

[1] *Падрыхтоўкай да вясельля сяброўкі.*
[2] *Нашы суседзі й сябры ў Рутэрфордзе.*

**Панядзелак 4 студзеня, Алесін дзень народзінаў**

Ідзе дождж. Вельмі прыкрае надвор'е. Раніцай разбудзілі Алеську, зьелі торціка. Падаравала ёй пацеркі — здаецца, ёй спадабаліся.

Пазваніла мама, прывітала Алесю з днём народзінаў.

Мы паехалі на працу, а Алеся яшчэ засталася дома. Яны (А[*леся*], Н[*адзін*] і Том) паедуць трохі пазьней — няма куды ім сьпяшацца.

Я парадкавала «Minutes» з нашага паседжаньня[1]. В[*ітаўт*] паехаў да М. В. раней. Алеся праверыла мне яшчэ перад ад'ездам надпісы для альбому Губэрнатару. Позна мы з гэтым зацягнулі — ня ведаю, ці ўдасца нам ужо зь ім пабачыцца й перадаць альбом[2]. Шкада!

Вечарам пазванілі Алесі — яны даехалі добра. Недзе хадзілі на вячэру,канчалі торцік.

---

[1] *Пратакол паседжаньня Славянскага аддзелу.*
[2] *Губэрнатар Бэрн дабываў на сваёй пасадзе апошнія тыдні.*

**Аўторак 5 студзеня**

Баліць мне моцна нага. В[*ітаўт*] падвёз да аўтобуса, а сам тады прыйшоў пехатой. У абед парадкавала дзёньнік. Цяпер шмат трэба наганяць — запусьціла. Рабіла для Запрудніка — дапаўняла да яго бібліяграфіі.

З Т[*умашам*] была коратка. Ён меў нейкія там заўвагі ад Zimmera,

што да транслітэрацыі і каталагізацыі ў нашай бібліятэцы[1]. На жаль, цяпер нічога нельга зрабіць — пакуль не каталагуем.

Вітаўт паехаў да М. В. раней. Спаткаў мяне каля аўтобуса.

Дома быў ліст ад Юры — картка Алесі на яе дзень народзінаў.

Рыхтавала на Куцьцю[2].

---

[1] *Ня толькі Зымэр, але і шмат хто іншы меў заўвагі да трансьлітарацыі і тэматычнай каталягізацыі Ньюёркскай публічнай бібліятэкі. Яшчэ на пачатку XX стагодзьдзя бібліятэка распрацавала сваю — адзіную ў ЗША — трансьлітарацыю і крыху зьмяніла агульнапрынятыя ў ЗША правілы вызначэньня тэмы кнігі для каталягізацыі. Для беларускіх кніг гэтыя зьмены былі і нядрэнныя.*

[2] *Звычайна на Куцьцю ў нас заўсёды былі госьці.*

**Серада 6 студзеня**

Усё яшчэ баліць нага. Стараюся менш хадзіць, што, зразумела, амаль не магчыма — працы шмат.

В[*італт*] пайшоў да Запрудніка пагаварыць пра «Запісы», газэту. Я ў абед парадкавала дзёньнік.

Пайшла дахаты раней, каб трохі падрыхтавацца да куцьці. В. прыехаў з Ballar[*ine*]. Добра правялі куцьцю — усё было смачнае. Ball. была ОК. Пасьля В. павёз яе да доктара. Я адпачывала.

**Чацьвер 7 студзеня**

Пазваніла рана да нажнога доктара — дастала візыту[1]. Засталася дома.

В[*італт*] паехаў на зборку «Solidarity», якую арганізоўвалі Амэрыканскія-Польскія колы[2]. Тады паехаў да М. В.

Прывёз мне машыну, а сам паехаў на працу.

Хадзіла да доктара — ён мне добра агледзеў ногі — пазразаў мазалі, усякія зацьвярдзеньні. Узяў x-ray[3]. Сказаў прыйсьці ў панядзелак па рэзультаты. Даў мне ўкол у пятку — балела трохі, але адразу палягчэла. Я ўжо ўзрадавалася — можа пройдзе.

Званіла мама — скончыла яна ўжо коўдра — перашле на нас, а мы ўжо тады завязем М. В. Картачкі яна пашле адразу на цэнтар. Прыпомніла, каб я прыслала ёй чужынецкіх карткаў-рэгістрацыяў.

Вечарам званіў Калоша. Выглядае, што кніга[4] ўжо выканчваецца, трэба апошняя карэкта — просіць, каб В. прыехаў у Кліўленд на пару дзён.

---

[1] *Дамовілася аб прыёме.*

[2] *Падтрымка «Салідарнасьці» была гіганцкая, і мы заўсёды казалі, што ў гэтым руху ёсьць і беларусы. Як пазьней выявілася — мы не памыляліся.*

[3] *Зрабіў рэнтген.*

[4] *Пра беларусаў Кліўленду.*

**Пятніца 8 студзеня**

У абед схадзіла на пошту, каб узяць карткі для [*гадавое рэгістрацыі*] чужынцаў. Вельмі прыемная для мамы будзе навіна — у гэтым годзе карткаў выпаўняць ня трэба.

З Тумашам і В[*ітаўтам*] на каву не хадзіла — занятая была ў аддзеле.

Завезла Вітаўта на аэрадром — паехаў у Кліўленд на пару дзён.

Віт. вывеў Рэкса раней. [redacted] ўжо ня выводзіла. Замкнулася й сядзела дома. Гэта мусіць першы раз, што [redacted] была адна ў хаце.

**Субота 9 студзеня**

Раніцай памыла бялізну. Выпусьціла Рэкса на двор — ён, зразумела, адразу-ж пабег недзе і не хацеўісьці назад у хату. Я надта й ня бегала за ім. Пару разоў паклікала, але — у пустое. Запакавала для Алесі матар'ял пра Pinelands[1], каб перад 12-ай завезьці на пошту. Выйшла ўжо на двор, каб ехаць на пошту, а пазьней валасы рабіць — Рэкс круціцца каля хаты, але ў падвал ня хоча йсьці. Паклікала яго яшчэ пару разоў, ды пайшла да машыны. Ён пачаў круціцца каля машыны і буквальна ня даў мне ехаць. Бег за машынай, перад машынай. Мусіла завярнуць дахаты. Тады ўжо ён паслушна пайшоў за мной у падвал. Прывязала яго. Чуць не спазьнілася на пошту. Але ўсё зрабіла.

Па абедзе паехала да М. В. Пачаўся сьнег. У М. В. усё добра, яна чуецца лепей, шмат ужо зрабіла прагрэсу. Доўга ў яе не сядзела, бо сьнег пачаў ісьці мацней.

Рабіла трохі К.-К.[2] Сьнег то ідзе, то спыняецца. Не выглядае, каб было вельмі дрэнна вечарам.

Спаткала В[*ітаўта на аэрадроме*]. У Кліўлендзе было ўсё вельмі памысна. Шмат папрацавалі — зрабілі што трэба. Цяпер толькі канчальны друк[3].

---

[1] *Пайнлэндс — запаведнік, абвешчаны й акрэсьлены адміністрацыяй губэрнатара Брэндана Бэрна — значная частка штату, парослая пераважна малымі сасонкамі. Алеся нешта пра гэта пісала.*

[2] *Бібліяграфію Купалы і Коласа.*

[3] *Кніга пра беларусаў Кліўленду.*

**Нядзеля 10 студзеня**

Пасьнедалі. Мы ўсё трымаем нашую традыцыю[1] — хоць толькі ўжо самі засталіся.

Па абедзе паехалі на зборку БАЗА. Зборка прайшла ОК. Гаварылі й пра газэту. Галоўна абгаварылі сьвяткаваньне Сакавіка. БАЗА мне ўжо пачынае добра надакучаць — робіцца вельмі пустой працай, пустой гутаркай. Зап[*руднік*] з газэтай таксама ўсё круціцца, каб Зіне [*Станкевіч*] дагадзіць. Яна сябе лічыць, зразумела, усёй газэтай.

Вечарам адпачывалі, працавалі трохі. Званіла Алеся. Сказала ёй, што матар'ял [*пра Пэйнлэндс*] выслала. У яе ўсё добра.

---

[1] *Сьнедаць усім разам у нядзелю.*

**Панядзелак 11 студзеня**

Вельмі захаладала. Зьмерзьлі на астаноўцы, чакаючы аўтобуса. Прыйшлося стаяць і ў аўтобусе. Вельмі мне разбалелася нага.

У абед парадкавала дзёньнік. Стараюся найменш хадзіць.

В. паехаў раней дахаты, каб зьезьдзіць да М. В.

Хадзіла да доктара — у мяне на пятцы нарост кальцыявы. Гэта вельмі балючая й дакучлівая рэч. Ён будзе старацца неяк палягчыць. Тымчасам зрабіў яшчэ ўкол, трохі забандажаваў[1]. Стала лепей. В. спаткаў мяне. Павячэралі й адпачывалі. Вось не павязло мне з нагой.

---

[1] *Забінтаваў.*

**Аўторак 12 студзеня**

У абед хадзіла ў магазын — купіць нешта для М. В. на дзень нарадзінаў. Нічога ня купіла.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Была вельмі занятая. Ня мела нават магчымасьці пагаварыць зь ім. Не хадзіла й на каву з Т[*умашам*] і В[*ітаўтам*].

В. паехаў раней на зборку Этнічнай Рады [*ў Трэнтан*].

Вечарам перадрукавала колькі пробных старонкаў зь бібліяграфіі[1], каб паслаць Прускаму для набору.

Званіў Калоша —з кнігай выглядае ОК. Расказалі пра зборку БАЗА.

Вітава зборка была добрая — яны яшчэ фактычна застаюцца правамоцнымі да канца іхнага тэрміну[2].

---

[1] *«Купала і Колас на Захадзе».*
[2] *Тэрмін паўнамоцтваў Этнічнай Рады канчаўся ў лістападзе.*

**Серада 13 студзеня**

У абед зноў хадзіла купляць — нічога важнага ня купіла. Ідзе сьнег. В[*ітаўт*] паехаў дахаты раней, каб зьезьдзіць да М. В., але не паехаў дзеля сьнегу.

Я ў аўтобусе застрала на колькі гадзінаў. Поў дарогі нават мусіла стаяць. Зусім зьнемаглася. Прыехала дахаты па 11-ай. Добра, Вітаўт мяне чакаў на астаноўцы. Я зусім разьбітая. [*Сьнегу наваліла больш за мэтр.*]

**Чацьвер 14 студзеня,**
**М[*арыі*] В[*асільеўны*] дзень нар[*одзінаў*]**

Сяньня мелі зборку неафіцыйную — практыкаваньне й дыскусыі пра «Book continuations» — наш «project»[1]. Прайшла добра.

Званіла Алеся, каб прывітаць бабку.

Паехала дахаты раней. Па-першае, каб не папасьці зноў у трафік, а па-другое каб хутчэй за сьвятлом зьезьдзіць да М. В.

Да М. В. заехалі О.К. Купілі ёй кветак і нейкай яшчэ дробязі. Яна была задаволеная нашым прыездам. Сказалі ёй, што Алеся не магла

да яе дазваніцца, што вітае яе з днём народзінаў. Доўга не сядзелі ў яе.

Вечарам пазваніла маме. У яе ўсё добра. Коўдрачка яшчэ не прыйшло.

---

[1] *У бібліятэчнай практыцы праблема: як каталягізаваць сэрыю без назову, але нумараваную, у якой кожная кніжка мае свой назоў?*

**Пятніца 15 студзеня**

Званіў Запруднік, каб нешта напісалі ў ангельскую старонку[1]. В. нешта мае ўжо падрыхтаванае. Нешта дамо.

Прыходзіў Т[*умаш*], але ня памятаю ўжо ці што цікавае дыскутавалася.

Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Для газэты «Беларус».*

**Субота 16 студзеня**

Сяньня абодва працавалі. Раніцай зрабіла валасы. Добра справілася. На рабоце ўсё добра. Хадзіла ў абед нешта купіць для Юры — выкарыстаць што з машынай. Нічога надта важнага ня купіла, але нешта яму пад ялінку назьбіраецца.

**Нядзеля 17 студзеня**

Парадкавалася ў хаце. Стамілася, але шмат зрабіла. В[*ітаўт*] паехаў з Жамойдамі да М. В. Я за гэты час зрабіла тое, што пры ім не зрабіла-б (як, прыкладам, пачысьціць у карыдоры).

Вечарам адпачывалі. Разбалелася здарова нага — трохі перадала прыбіраючы.

**Панядзелак 18 студзеня**

Нічога цікавага. Баліць нага ўсё яшчэ. Хадзіла яшчэ нешта купіць для Юры. Рыхтуемся да яго прыезду.

Вечарам была ў доктара. Даў зноў укол, забандажаваў ступню — чуецца трохі лепей. Прыгатавала падарункі Юру пад маленькую ялінку.

**Аўторак 19 студзеня**

Запр[*уднік*] прыйшоў забраць артыкулы — нешта напісалі.

З Т[*умашам*] пайшлі на каву перад 3-яй, бо я а 3-яй на дзяжурстве. Гаварылі пра «Запісы», каб друкаваць недзе ў другой друкарні. Надта-ж тут павольна яны працуюць. «Запісы» амаль гатовыя — за выключэньнем колькіх артыкулаў — чакаецца на Тома з папраўкай.

В[*ітаўт*] паехаў дахаты раней.

Паехалі спатыкаць Юру на аэрадром. Холадна — узялі яму цёплую куртку. Чакалі ня доўга. Юрачка вельмі пахудзеў — трохі стомлена выглядае. Усё ў яго добра. Даехаў добра, толькі па дарозе разьбілася бутэлька лікёру, што купіў для Алесі.

Расказваў нам пра сваю навуку. Перш-наперш паказаў адзнакі —

сярэднія. Але самае галоўнае, што вучыцца, стараецца. Жыцьцём сваім задаволены, хоць, кажа, што часам бывае цяжка звыкацца зь іхным спосабам жыцьця, карупцыяй, круцельствам (нават сярод выкладчыкаў).

Цэлы вечар гаварылі. Ю. распакаваў падарункі.

**Серада 20 студзеня**

Сяньня я засталася дома, каб першы дзень дома Юра ня быў сам-адзін. Зьезьдзілі да М. В. Яна была вельмі радая бачыць Юру.

Пазьней паехалі яшчэ за пакупкамі. Яму шмат што трэба купіць. Так дзень і прасоўгаліся.

Павячэралі, і В[*ітаўт*] павёз Б[*алерыне*] да доктара.

Юра паехаў недзе да хлапцоў. Прыехаў вельмі позна. Я ня спала. В. прастуджаны.

**Чацьвер 21 студзеня**

В[*ітаўт*] дома — прастуджаны. Я таксама чуюся прастуджана-стомлена.

Хадзіла з Фоксам на каву. Расказвала яму пра Юру.

Вечарам добра павячэралі. Юра цяпер нам кухарыць, да бабкі езьдзіць. Адным словам — дапамога вялікая.

Вечарам званілі Прускаму пра бібліяграфію К.-К. Ён усё зробіць, і набярэ і надрукуе. Мы хутка пашлём яму колькі старонак пробных, каб паглядзець, як будзе выглядаць друк.

**Пятніца 22 студзеня**

Мы зь Юрам ехалі раніцай у N.Y. Юра меў нешта залагодзіць у UN[1] office і ў Мэксыканскім консуляце, купіць кніжкі.

В[*ітаўт*] прыехаў на працу трохі пазьней — нейкая была патрэба раніцай зрабіць — часопісы ад Прускага, што ўсё ніяк не маглі з U.P.[2] дастаць.

Тумаш паказаў ліст ад Зоські Верас. На надвячорак хадзілі разам з Томам, Тум[*ашам*]. Гаварылі пра трансьлітэрацыю для ўжываньня ў нашых інстытуцкіх выданьнях па-ангельску. Том і я лічым, што мусіць быць нейкая мерка ўстаноўленая. Я прапаную LC трансьлітэрацыю[3]. Гаварылі пра «Запісы». В. і Том пайшлі ў друкарню новую — паглядзець, якія там умовы.

Выглядае нядрэнна, але ўжо гэты нумар[4] скончыцца ў старой друкарні. Зашмат ужо зроблена імі.

Вечарам паехалі з Юрам да бабкі на фарму. Даехалі добра. Цэлую дарогу гаварылі. Дарога была даволі добрая.

На фарме бабка, як заўсёды, займалася ежай. Юра ўсё стараўся ёй расказваць, але бабка ня была ўважлівая. Мне здаецца, Юру гэта трохі ўразіла. Рана пайшлі адпачываць.

---

[1] *ААН.*

[2] *United Parcels — служба дастаўкі пасылак, канкурэнты пошты.*
[3] *Сыстэма трансьлітарацыі, прынятая ў Бібліятэцы Кангрэсу.*
[4] *«Запісы», нумар 16.*

**Субота 23 студзеня**

Раніцай толькі ўбачылі, якая благая дарога, асабліва бочныя дарогі, як Odessa[1]. Добра, што я ехала павольна і што ня трэба было нідзе тармазіць. Паехалі зь Юрам купіць яблыкі. Пачаўся дождж, дык трохі пазмывала, што было лёду на дарогах. Але мы ўсё роўна мусілі ехаць вельмі павольна.

Прыехалі дахаты, трохі перакусілі, ды паехалі ў Атлантык City, у казіно. Нічога неяк нам не шанціла. Прайгралі трохі грошай. Доўга там ня былі. Хутка й дахаты пачалі зьбірацца.

Даехалі добра. Але неяк цэлая паездка была скомканая. Ні адпачынку, ні прыемнасьці вялікай не атрымалі.

---

[1] *Усё заледзянела. Odessa — назва дарогі, дзе фэрма.*

**Нядзеля 24 студзеня**

Цэлы дзень сядзелі дома. На двары холадна, сьлізка, прыкра. Так і ня вылазілі з хаты.

Пазванілі Алесі. Дзеці трохі пагаварылі. Дагаварыліся, што Юра прыедзе да яе ў наступны тыдзень, на ейнае Party.

Юра пачаў шукаць свае білеты назад у Мэксыка. Цэлую хату перавярнулі. Нарэшце, ён вырашыў, што згубіў іх у N[*ew*] Y[*ork*], як езьдзіў купляць кніжкі — ён меўся перамяніць дзень ад'езду. Цяпер мусіць неяк залагодзіць.

**Панядзелак 25 студзеня**

Юра залагодзіў з самага раньня зь білетамі. Усё ў парадку — далі яму новыя.

Званіў у мэдычныя школы вакол, каб даведацца, якія ў іх умовы пераводу, якая ёсьць магчымасьць устроіцца на лета на практыку-студыі[1].

Езьдзіў да бабкі. Падрыхтаваў нам вячэру. Ён маладзец.

---

[1] *Мэксыка мае дамоўленасьць з ЗША аб практыцы мэксыканскіх студэнтаў у амэрыканскіх шпіталях. Тым болей амэрыканцы бяруць сваіх амэрыканцаў з мэксыканскіх унівэрсытэтаў.*

**Аўторак 26 студзеня**

Юра паехаў з сяброўкай на лыжы. В[*ітаўт*] хадзіў у друкарню (украінскую) пагаварыць зь імі наконта «Запісаў». Яны кажуць, як здамо ўвесь матар'ял, дык яны хутка нам іх зробяць. Вырашылі яшчэ пакуль зь імі трымацца.

Юра вечарам пазваніў, што ў іх сапсулася машына (ехалі яны не на нашай). Эрык паехаў іх падабраць. Вось маладзец. Прыехалі яны дахаты ня так ужо й позна. Прыйшлі ўсе ўтрох і яшчэ елі сэндвічы.

Прыемна, калі моладзь сабе дае рады, трымаюцца разам, дапамагаюць адно аднаму.

**Серада 27 студзеня**

На рабоце шмат працы ці наадварот на працы шмат работы. Як ня круці, а працы шмат. Нічога для сябе не раблю апошнім часам.

У абед, праўда, пайшла купіць сёе-тое для Юры. Яго трэба добра зноў экіпаваць.

**Чацьвер 28 студзеня**

Засталася дома, за суботу — бо ў суботу буду працаваць.

В[*ітаўт*] мае важны мітынг[1] дык паехаў.

Мыла бялізну — усё Юрава трэба спарадкаваць, ды й нашага шмат ужо назьбіралася. Зрабіла валасы.

Езьдзілі зь Юрам у магазыны — усё для яго яшчэ купляем.

Зьезьдзілі да бабкі. Так і дзень прайшоў.

---

[1] *Паседжаньне.*

**Пятніца 29 студзеня**

Сёньня палучка. Мы абое мелі паседжаньні [*у сваіх аддзелах*], дык у банк хадзілі пазьней.

Па абедзе прыехала Patricia Grimstead[1]. Меўся прыйсьці й Том [*Бэрд*], яны мелі абгаварыць і праверыць карэкту ейнага артыкулу. Цяжка было іх разам сабраць.

Т[*ом*] прыходзіў, але ўвесь клопат быў, каб зьвесьці гэтых дваіх, то й гутаркі вялікай ня было.

Нарэшце дамовіліся спаткацца ў Harvard Club[2] пасьля 5-ай. Я пайшла дахаты, а В[*ітаўт*] застаўся.

Юра паехаў у New Brunswick. В. прыехаў ня позна, але вельмі стомлены, нейкі нэрвовы.

Юра прыехаў дахаты вельмі позна. В. пачаў псіхаваць. Была даволі прыкрая сцэна. Мне дык ужо й страшна, што як дзеці прыязджаюць дахаты, дык у нас пачынаюцца старыя нэрвы. Знэрваваліся, ня спалі, а заўтра мне працаваць.

---

[1] *Патрыцыя гэтым разам рыхтавала матэрыял для «Запісаў». Мы зь ёй у сталай сувязі.*

[2] *Большыя ўнівэрсытэты ЗША маюць у Нью Ёрку свае дамы-клюбы. Мы часта сустракаліся ў Прынстанскім клюбе на 43-яй вуліцы. Каб спаткацца і пасядзець у такім клюбе, нехта павінен быць выпускніком адпаведнага ўнівэрсытэту. Том Бэрд і Алеся былі з Прынстану, таму мы там і сустракаліся.*

**Субота 30 студзеня**

Юра паехаў раніцай у Вашынгтон. В[*ітаўт*] завёз яго на цягнік. Я працую. Вітаўт завёз мяне ў N.Y. Працавалася добра. У абед хадзіла ў магазын купіць для Юры валізку. В. прыехаў па мяне. Даехалі дахаты добра. Вечарам адпачывалі.

**Нядзеля 31 студзеня**

Мыла бялізну.

В[*ітаўт*] паехаў да М. В. праведаць. Я парадкавалася.

Вечарам пазванілі Алеся й Юра. Яны там добра сябе адчуваюць. Алесіна «парты» добра прайшла. Юра быў вялікі сукцэс — усім спадабаўся. Юра прыедзе дахаты заўтра.

Працавала над Купалам-Коласам.

**Панядзелак 1 лютага**

Прыехаў Юра. Паедзе сёньня ў Патэрсон у шпіталь старацца на лета працы.

Я хадзіла ў абед па магазынах. Усё для Юры купляю дробязь.

Хадзіла да доктара з нагой. Няма яшчэ supports[1]. Нага баліць усё яшчэ. Юра спаткаў мяне.

Вечарам трохі працавала.

Юра недзе паехаў. Прыехаў позна.

---

[1] *Спэцыяльныя панчохі.*

**Аўторак 2 лютага**

Юра з раніцы паехаў у New York залагодзіць нешта сваё[1]. Справіўся хутка і паехаў у Патэрсон. Там зрабіў, што трэба. Яны пастараюцца дастаць для яго працу на лета, але ня пэўныя. Пасьпеў Юра яшчэ й да Ані Бойчык зьезьдзіць на абед.

Напісала ліст да Славянскіх Абстрактаў — што яны праз Арэхвіху дабіваліся[2], а тады Тум[*ашу*] на Інстытут прыслалі. Ня ведама, ці з гэтай публікацыі што выйдзе, але трэба ўдзельнічаць.

У каляндарчыку ў мяне запісана: Т. адбітак К.-К. Ня ведаю ўжо цяпер, ці то [redacted] рабіла Тумашу адбітак, ці то ён зрабіў адбітак? Чаму К.-К.? Можа, некалі ўстанаўлю, што гэта мае значыць.

В[*ітаўт*] працуе вечарам. Мы зь Юрачкам перакусілі. Пасьля рабілі галубцы, каб ён навучыўся, як варыць. Прыйшла Stephany[3], прынесла яму печыва. Пасядзела, пагаварыла. Галубцы так я сама й канчала.

---

[1] *Шукаў магчымасьці летняй практыкі ў шпіталі.*

[2] *Пры Ілінойскім унівэрсытэце, дзе ў адным з інстытутаў працавала д-р Вольга Арэхва (сябра БІНіМу), пачалі выдаваць «Абстракты славістыкі» (анатацыі). Мы там надрукавалі пару беларусаведных зацемак. Але публікацыя доўга не праіснавала і неўзабаве спынілася.*

[3] *Сяброўка.*

**Серада 3 лютага**

Праверыла з Бал[*арынай*] ліст пра Абстракты. Сёньня Лізы[1] дзень народзінаў. Купіла ёй кветкі. Яна атрымала шмат падарункаў.

Юрачка прыгатаваў вячэру. Павячэралі разам. Пасьля пачалі па-

каваца. У Юры сабралася вельмі шмат рэчаў. Ды ўсё цяжкое. Накупляў ён сабе ежы. Цэлы вечар былі тэлефоны — да Юры пераважна.

Пазваніла я маме. У яе ўсё добра. Пазваніла Алеся — разьвітацца з Юрам. Ужо перадад'ездная суета.

---

[1] *Зорына супрацоўніца.*

**Чацьвер 4 лютага**

Завезьлі Юру на аэрадром. Добра справіліся. Нічога не сказалі яму наконта вагі багажу.

На работу пасьпела. У мяне сягодня мітынг[1]. Добра прайшоў.

В. застаўся дома. Паехаў да М. В. Залагодзіў з іншурансамі[2] для М. В. Званіў Запр[*уднік*] — памёр Муха[3].

Вечарам званіла Алеся. Яна прыедзе дахаты 12-га. Казала, што абрэзала валасы. Цікава, як ёй пасуе з кароткімі?

---

[1] *Паседжаньне.*
[2] *Са страхоўкамі.*
[3] *Іван Муха — наш настаўнік з гімназіі.*

**Пятніца 5 лютага**

Перадрукавала ліст для Abstracting Service ад Інстытуту, у якім гаворыцца, што я ангажуюся рабіць абстракты для іх зь беларускіх часопісаў[1].

Пішу дзёньнік у абед. Запусьціла. Трэба шмат прыпамінаць.

Дала ліст Т[*умашу*] для подпісу, і адправіла адразу-ж.

Тумаш прыпамінаў мне, каб зрабіла акт куплі рэчаў ад Нічык. Гаварылі пра акадэмію ў памяць Забэйды-Суміцкага, пра кнігу Салаўя.

Вечарам пасьля працы паехалі на паніхіду па Муху. Шмат прыехала людзей — яго ўсе любілі[2].

Прыехалі дахаты ня позна, бо былі з машынай.

---

[1] *У Каліфорніі пачаў выходзіць месячны часапіс «Абстракты славянскіх газэтаў і часапісаў». Зору запрасілі да супрацоўніцтва, яна згадзілася.*
[2] *Я напісаў нэкралёг.*

**Субота 6 лютага**

Пасьнедалі самі. Вітаўт паехаў забраць М. В. Яна больш-менш у парадку. Дае сабе раду. Праўда, трохі аслабела.

В. паехаў на працу.

Я схадзіла зрабіць валасы, а тады паехала ў магазын у Пасэйк купіць тое-сёе для М. В. — зацямненьне.

Пасьля трохі парадкавалася. Шмат што сабралася рабіць. Апошнім часам закінула хату зусім. Толькі тое, што В. прыбярэ ці купіць.

Вечарам званіў Юрачка. Ён даехаў добра. Усё ў яго ў парадку. Мусіў, праўда, даплаціць да багажу ў Мексіка, ды парвалася ручка ад валізкі.

**Нядзеля 7 лютага**

Сьнедалі разам. Пасьля я парадкавалася каля хаты. В[*ітаўт*] паехаў на зборку БАЗА ў [*фундацыі*] Крэчэўскага. Міцкевіч цяпер старшыня Ньюёркскага аддзелу.

Я працавала над Купалам-Коласам. В. прыйшоў дахаты даволі позна. Я трохі неяк была расстроілася — неяк крыўдна. Але трэба аддаць справядлівасьць В[*ітаўту*], што ён ужо трымаецца.

Панядзелак 8 лютага

Карэсара няма — хворы. Шмат працы. Шмат чаго трэба залагодзіць.

В[*ітаўт*] паехаў да Панькова — паглядзець яго калекцыю для Купалы-Коласа[1]. Узяў ад яго некаторыя часопісы для фільмаваньня [*ў бібліятэцы*].

Па абедзе быў бібліятэчны форум. Цікавая даволі тэма[2].

Забылася пазваніць да доктара наконта ўкладкаў. Нага трохі лепш, але яшчэ кульгаю здарава.

Вечарам званіла мама. У яе ўсё добра. Дамовіліся, што я прыеду ў чацьвер на фарму.

---

[1] *Пашукаць матэрыялы для нашай бібліяграфіі.*

[2] *Абмяркоўваліся справы бібліятэкі — як кніжныя, гэтак і зьвязаныя з зарплатамі.*

**Аўторак 9 лютага**

Быў сёньня ў бібліятэцы і Тумаш і Шукелойць. Шукалі ў «Работніку» і «Раніцы» артыкулы пра Забэйду-Суміцкага. Званіла доктару — supports яшчэ няма. Нага баліць. Я дык ужо й ня веру, што некалі будзе добра хадзіць.

**Серада 10 лютага**

Нічога не запісана ў маленькім каляндарыку. Нічога цікавага не адбылося, не прыпамінаю.

**Чацьвер 11 лютага**

Званіла доктару — падкладкі [*ў туфлі*] гатовыя. Сёньня ўжо ня буду мець часу заехаць, дамовілася на панядзелак.

Прыехала дахаты, сабралася ды на фарму. Даехала добра, праўда, нага трохі дакучае. На фарме ўсё добра. Прыемна, утульна.

**Пятніца 12 лютага, Lincoln Day**

Зраньня зьезьдзілі па яблыкі. Да Нядзьвігаў не заязджала. Адпачывалі, гаварылі з мамай. Добра, прыемна правялі час.

Прыехала Алеся дахаты. Нейкая там у Надзін парты[1]. Мне дык ужо й карціла дахаты, але і з мамай хацелася больш пабыць.

---

[1] *Вечарына.*

**Субота 13 лютага**

Пачаў тут іосьці снег уначы. Я трохі струсіла, бо сьнег выглядаў

вельмі страшны, ды яшчэ да старога марозу ды лёду, дык і зусім страх браў. Сабралася я ды паехала зраньня дахаты, бо ўсё роўна ўжо ні мне, ні маме ня было ніякай пацехі ад майго тут побыту.

Заехала яшчэ ў магазын у Ратэрфордзе, як прыехала. Купіла сьняданьне. Перамовіла валасы, бо прыехала раней.

Добра, усе разам пасьнедалі. Я тады зрабіла валасы. Трохі парадкаваліся. Пачалі зьбірацца хто-куды. Мы на Heritage Ball[1]. Алеся да Надзін.

На балі было даволі прыемна. Сядзелі ў добрай кампаніі, былі і зь Нью Ёрку Рая і Шук[*елойць*]. Нашыя сталы зноў выдзяляліся — шмат у нацыянальных вопратках. Зноў Надзя і Сяргей мадэлявалі. Русакі прыехалі пазьней. Мы позна не сядзелі, як толькі натрапіла нагода — паехалі дахаты. Алеся прыйшла позна.

---

[1] *Гадавы Баль Нацыянальнасьцяў.*

**Нядзеля 14 лютага**

Адпачывалі. Здаецца, нават ня сьнедалі. Алеся праспала амаль цэлы дзень.

Я памыла трохі бялізны, але ня ўсё.

Так дзень і прайшоў. Нічога надта не зрабілі. Трохі пагасьцілі з Алесяй. Рабілі пляны на заўтра.

**Панядзелак 15 лютага**

Памыла яшчэ адну машыну бялізны. Схадзіла да доктара. З падсьцілкамі [*ў туфлях*] трохі лепш — нага ня гэтак баліць. Але затое й каштуюць яны дорага. Я так шмат і не спадзявалася.

Паехалі з Алесяй у магазын. Нічога надта ня купілі. Я стамілася, хоць і пасьцілкі, але ўсё-ж нага яшчэ баліць. Як прыехалі з магазыну — трохі перакусілі й Алеся паехала назад дахаты. Так і прайшоў наш так доўга чаканы даўгі weekend.

**Аўторак 16 лютага**

Сяньня мы працуем вечарам — дык зраньня дома[1]. Зноў мыла бялізну. Колькі-ж назьбіралася?

Паехалі на працу на машыне. Працавалася добра. Быў і Тумаш.

---

[1] *Бывалі пэрыяды, калі бібліятэка была адчыненая для публікі ад 9-ай раніцы да 10-ай увечары. Трэба было дапасоўвацца. Мы з Зорай стараліся працаваць вечарамі — можна было шмат пачытаць, бо вечарамі публікі бывала меней.*

**Серада 17 лютага**

Нічога цікавага не прыпамінаецца. Неяк серада заўсёды церпіць. Нічога цікавага не бывае ў сераду.

**Чацьвер 18 лютага**

В[*італь*] застаўся дома. Меўся заладзіць справы з дактарамі М. В. Званіў у шпіталь, ці нават і зьезьдзіў, але нічога не дабіўся. Заладзіў

з Залеўскай. Былі ёй яшчэ павінныя грошы, дык яна запоўніла анкету для мэдычнай аплаты.

Тады В. добра прыбраў у хаце. Ён цяпер вельмі шмат каля хаты дапамагае.

Заехаў забраў ліст ад Сінькевіча, што быў прыходзіў заказны і мы ніяк не маглі яго атрымаць.

В. і Тумаш езьдзілі да Crowley[1]. Дамовіліся ўжо пра Салаўя — выбралі вокладку, паперу. Але яшчэ хочуць, каб я паглядзела. Т. яшчэ ў нас трохі пасядзеў — павячэралі, паказала яму.

---

[1] *У якога друкаваўся Салавей.*

**Пятніца 19 лютага**

Званіў Crowley, даў ужо канчальную цану[1]. Выйшла трохі даражэй, як Арсеньнева, але не так страшна. Дамовіліся, што спаткаемся зь ім у суботу, каб я яшчэ паглядзела вокладку.

Паказала Тум[*ашу*] артыкул у [*часапісе*] «Бел. Мова» што нядаўна прыйшла — пра Скарыну. Вельмі ён зацікавіўся. Наагул гэты зборнічак меў колькі добрых артыкулаў.

Т. прынёс «Лісты апосталаў»[2], што ў нас у бібліятэцы ня было.

---

[1] *Выйшла каля $6000.*

[2] *Пераклад кс. П. Татарыновіча.*

**Субота 20 лютага**

Званіла Галіна зраньня. Нешта ў яе там ня выходзіць з рэфэратам у South River — нейкую яны выдалі ня добрую брашурку — ізноў нас пад Russian паставілі[1].

Зрабіла валасы. Паехалі да Crowley. Там неяк ня складна йшло. В[*ітаўт*] нечага ірытаваўся. Crowley таксама быў нейкі нэрвовы. Але дамовіліся пра колер вокладкі. Ня ведаю, за што зачапілася, што было штуршком, якое неасьцярожнае слова, але па дарозе назад здорава пасварыліся. В. зноў пачаў вар'яваць. Як я баюся гэтага яго стану. Ён тады сам ня свой. Ну, але неяк уляглося.

Ад мамы прыйшоў пакецік з жакецікам для мяне. Вельмі прыгожы, ліловы, бяз рукавоў. Добра пасуе.

Вечарам яшчэ званіла Галіна пра свой рэфэрат. Яна хоча касьцюмы на паказ.

Працавала над [*бібліяграфіяй*] К.-К.

---

[1] *Галіна Русак мелася чытаць даклад у бібліятэцы — зноў была блытаніна з назовам.*

**Нядзеля 21 лютага**

Званілі Рамукі — запрашалі В[*ітаўта ў Чыкага*] на 25-га сакавіка да іх прачытаць рэфэрат. В. у прынцыпе згадзіўся — калі ня будзе канфлікту з Кліўлендам, бо і да іх ён запрошаны.

Пазванілі Алесі — яе дома ня было. Яна пазьней адзванілася. Папрасілі яе дастаць для Салаўя LC number[1]. Дала ёй усе дадзеныя. Яна паабяцала зрабіць гэта адразу-ж у панядзелак. Гэта нам шмат дапаможа з кнігай. Усё ўжо друкуецца — толькі за нумарам застаноўка.

Скончыла [*частку бібліяграфіі*] пра Купалу. Гэта ўжо вялікая частка зробленая. Цяпер пераклады, а тады [*частка пра*] Коласа.

---

*[1] Рэгістрацыйны нумар Бібліятэкі Кангрэсу. Перад друкам туды пасылаецца кніга — некалькі старонак. Бібліятэка Кангрэсу каталягуе, дае нумар, і гэты нумар падаецца ў кнізе. Важная справа, бо калі пасьля выхаду кнігі яе купляе іншая бібліятэка, адразу сьпісваюць каталягізацыю і нумар Бібліятэкі Кангрэсу. Бібліятэкары вельмі паважаюць такі працэс. Нумар Бібліятэкі Кангрэсу мелі ўсе друкі БІНіМу.*

**Панядзелак 22 лютага**

Хадзіла ў магазын нешта купіць сабе. Зноў баліць нага. Мне яшчэ трэба менш хадзіць, у абед адпачываць.

В[*ітаўт*] пайшоў да Зап[*рудніка*] пераглядзець [*бібліяграфію*] К.-К. Званілі да Калошы, што ў іх там з кніжкай? Калі будзе Сакавік[1]. Нічога яшчэ канкрэтнага няма. Спадзяюцца, што да 25-га сак. выйдзе.

В. пайшоў дахаты раней.

Я чуюся вельмі праступдна — зусім разьбітая. Вечарам нічога не магла рабіць.

Пазваніла Алеся. З LC нумарам усё ў парадку — за пару дзён перашлюць да Crowley. Яна маладзец — шмат нам дапамагла.

---

*[1] Адзначэньне 25 Сакавіка.*

**Аўторак 23 лютага**

Прыйшла ў біб[*ліятэку*] Тамара [*Стагановіч*], пачала працаваць над рэцэнзыяй на «Бел. жывапіс». Т[*умаш*] даў ёй шмат матар'ялаў.

Хадзілі з Т. на каву. Гаварылі пра кніжку Горака[1]. Пра таблічку шрыфтоў з значкамі для Прускага[2]. Трэба выбраць ды пераслаць яму перад тым, як пачне набіраць і Скарыну і нашую бібліяграфію К.-К.

---

*[1] Сьцяпан Горак — прафэсар украінскага паходжаньня, вельмі прыхільна ставіўся да беларусаў. Некалі, калі ён трапіў у нямецкі палон у 1941 годзе як жаўнер Чырвонай Арміі, беларускія сяляне на Магілёўшчыне ўратавалі яго ад голаду. Аб гэтым ён часта апавядаў на розных форумах.*

*[2] Трэба было падрыхтаваць таблічку зь дзясяткам розных трансьлітарацыяў.*

**Серада 24 лютага**

Прыехала Тамара сёньня з [*мужам*] Аляксандрам. Цэлы дзень працавалі ў бібліятэцы. В[*ітаўт*] пайшоў зноў да Запрудніка. Я зусім дрэнна чуюся — пайшла раней дахаты.

**Чацьвер 25 лютага, нашыя ўгодкі[1]**

Званіў Weck[2] — што мы думаем з фэстывалем? Хадзіла ў магазын, у аптэку — нешта трэба было купіць з хатніх і туалетных рэчаў.

Цэлы дзень працую над інструкцыямі для каталягаваньня[3]. Шмат працы.

В[*ітаўт*] пайшоў дахаты раней. Парадкаваўся, прыгатаваў вячэру — нашыя ўгодкі. Купіў мне розачкі. Але інакш усё было вельмі праззаічна. Прыйшлі [*віншавальныя*] картачкі ад Юры, ад мамы. Пазваніла Алеся.

---

[1] *Угодкі нашага вясельля (25.02.1956).*

[2] *Дырэктар этнічных фэстываляў у Цэнтры мастацтваў у штаце Нью Джэрзі. Пытаўся, ці ня думаем мы зноў арганізоўваць фэстываль.*

[3] *Інструкцыі кірылічнага каталягаваньня з ужываньнем кампутара — новае для Славянскага аддзелу.*

**Пятніца 26 лютага**

Сёньня палучка. Была надта занятая на працы. Не хадзіла на каву з Т[*умашам*] і В[*ітаўтам*]. Раззлавалася на Т. за яго заўсёднае крытыкаваньне й адкіданьне таго, што чалавек зробіць, падрыхтуе. Цяпер гэтая таблічка для Прускага — «Ня добра, не падыходзе, зашмат аднога, мала другога...» і падобнае[1]. Замест таго, каб сказаць: «Ну, вось добра — маем таблічку — можна выбраць, што нам патрэбна

Яны гаварылі пра рэфэрат ад Забэйдзе-Суміцкім[2].

---

[1] *Тумаш пакрытыкаваў тую таблічку з рознымі ўжыванымі ў ЗША трансьлітарацыямі беларускіх тэкстаў, якую Зора падрыхтавала для Міколы Прускага (Бібліятэкі Кангрэсу, Ньюёркскай публічнай бібліятэкі, міжнародная, эўрапейская і г. д.).*

[2] *Акадэмія, прысьвечаная Забэйду-Суміцкаму, рыхтавалася ў БІНіМе.*

**Субота 27 лютага**

Зрабіла валасы. Парадкавала бялізну. Сьпякла пернік з яблачнага павідла, што мама дала рэцэпт. Езьдзіла ў магазын. Нічога надта ня купіла.

Рабіла [*бібліяграфію*] К[*упалы*]-К[*оласа*].

**Нядзеля 28 лютага**

Трохі парадкавалася. Памыла сваю бялізну. Працавала над К.-К.

Вечарам зазванілі Прускаму. Добра зь ім пагаварылі — перашлём яму таблічку са значкамі. Ён кажа, што К.-К. хутка зробіць, як мы прышлём. Зь ім добра мець дачыненьне. Ён адказны чалавек.

**Панядзелак 1 сакавіка**

Села на дыету. Карэсара[1] няма, шмат працы, раблю інструкцыі для [*кампутарнага*] каталёгінгу.

В[*ітаўт*] пайшоў дахаты раней. Я заехала пасьля працы да доктара. Чуюся ўжо значна лепей. В. мяне спаткаў. Заехалі яшчэ ў магазын, купілі прадуктаў наперад, бо зьбіраемся сур'ёзна на дыету.

---

[1] *Загадчык Славянскага аддзелу.*

**Аўторак 2 сакавіка**

В[*ітаўт*] зраньня застаўся дома — направіць нешта з бакам для вады — нешта там сапсавалася — паклікалі [*майстра*] пачыніць.

З Т[*умашам*] хадзілі на каву. Ужо спакойна пагаварылі пра шрыфты, пра Салаўя, пра Забэйду.

Мне шмат працы[1].

---

[1] *У сувязі з паступовай кампутарызацыяй Славянскага аддзелу.*

**Серада 3 сакавіка**

Зноў шмат працы набралася. Мушу канчаць інструкцыі. Трэба было зрабіць Service Review для Наташы[1]. Была на дэску[2] — вельмі напружана.

В[*ітаўт*] паехаў раней, забраў Салаўя ад [*выдаўца*] Crowley, ужо ўсё гатова — праверыць толькі, ці ўсе старонкі на мейсцы — пойдзе ў друк (нарэшце!).

---

[1] *Наташа — бібліятэкарка ў Славянскім аддзеле. Адным з важных абавязкаў заступніка шэфа кожнага аддзелу была падрыхтоўка пэрыядычных Service Review — аглядаў працы бібліятэкараў аддзелу. Асоба, чыя праца разглядалася, магла з аглядам не пагадзіцца і даць свае камэнтары. У Славянскім аддзеле гэтыя агляды рабіла Зора.*

[2] *Інфармацыйна-даведачны стол.*

**Чацьвер 4 сакавіка**

У нас Staff meeting[1]. Я прадставіла праэкт часовага каталягаваньня. Неяк трохі, здаецца, усе былі запужаныя новай працай. Але як пачнем рабіць, дык убачаць, што гэта вельмі просты працэс.

В[*ітаўт*] павёз Салаўя да Т[*умаша*]. Той пераглядзіць і заўтра прывязе. Тады ўжо з нашага боку ўсё скончана.

З працы як прыйшлі — прыемны сюрпрыз — ліст ад італьянскай навукоўкі[2] пра Трыстана й ейная праца. Вельмі мне было цікава хутчэй разабрацца. Збольшага прачытала і зразумела, што і яна спасылаецца на Tristano Veneto, як на прататып Беларускага Трыштана. Вельмі мне было цікава. Яшчэ цікавей будзе пазнаёміцца з яе кнігай на гэтую тэму, якая хутка выйдзе.

---

[1] *Агульная нарада аддзелу.*

[2] *Emanuela Sgambati.*

**Пятніца 5 сакавіка**

Зраньня Т[*умаш*] пазваніў, каб В[*ітаўт*] да яго сьпешна прыехаў. Па тону В. зразумеў, што гэта нешта паважнае і адразу-ж паехаў. Там жа пры ім Т. стала горш — атрымаў невялічкі ўдар[1].

Баларына пераклала мне пару слоў з артыкула Sgambatti, але яе італьянская мова не нашмат лепшая за маю. Тое, што яна пераклала, падцьвердзіла тое, што я сама ўжо дагадвалася.

В. завёз Т. у шпіталь — у яго сапраўды невялікі ўдар. Але здаецца, усё будзе ў парадку. Ніякіх пашкоджаньняў няма. Вось табе й на! Усё больш і больш мы губляем людзей. Бо гэта ўжо згуба — ён ня зможа так актыўна працаваць[2].

Званілі Дудку, каб прывёз падушкі ад Кажуры[3] для Саўт Рывэрскай выстаўкі.

---

[1] *Калі я прыехаў, Тумаш ляжаў на падлозе ў сваім кабінэце. (Я меў ключы ад хаты.) Ён быў пры памяці, але не гаварыў. Я адразу выклікаў хуткую дапамогу й пазваніў Яры. Яна паехала ў шпіталь, ■ таксама пазваніла Вітаўту (сыну) на працу, што ў бацькі лёгкі ўдар. Увесь «Салавей» ляжаў у Тумаша на стале, я ўсё забраў і перадаў Зоры.*

[2] *Д-р Вітаўт Тумаш пабыў у шпіталі дні чатыры. Яра прывезла яго дахаты на наступным тыдні. Я пачаў езьдзіць да яго амаль штодня і заўважыў — дакладней, сам Тумаш мне сказаў — што ён ня можа чытаць, скачуць літары. Да таго ж, у яго пачаўся прыступ бранхіту, які ў яго ў лёгкай форме быў заўсёды. Вось і сытуацыя — трэба канчаць друк кнігі Салаўя ўжо бяз Тумаша...*

[3] *Кажура з Вашынгтону вышыў на падушках беларускі арнамэнт.*

**Субота 6 сакавіка**

Зрабіла раненька валасы. Працавала. Як працуеш у суботу, дык усё нарушаецца. Не спарадкуешся, не памыеш.

**Нядзеля 7 сакавіка**

Пасьнедалі, і я стала мыць бялізну. Цяпер, як М[*арыя*] В[*асільеўна*] ня можа гэтым займацца, шмат новай працы на нас скінулася.

Прыехаў Дудка. Прывёз падушкі, матар'ял для [*бібліяграфіі*] К.-К. Шмат новага — вершы пакладзеныя на музыку. Сядзеў даволі доўга. Так і нядзеля прайшла, і чалавек і не адпачыў.

**Панядзелак 8 сакавіка**

Міш[1] быў у бібліятэцы. Папрасіла яго перакласьці пару пасажаў з артыкулу пра Трыстана — ён дасканальна ведае італьянскую мову.

---

[1] *Джон Міш — былы загадчык Славянскага аддзелу. Навуковец польска-яўрэйскага паходжаньня, досыць прыязны да беларусаў.*

**Аўторак 9 сакавіка**

Нічога цікавага. Т[*умаш*] сёньня хіба першы раз за шмат часу[1] ня прыйшоў у бібліятэку.

---

[1] *За шмат гадоў!*

**Серада 10 сакавіка**

Мела паседжаньне з Доарэс[1]. Нічога цікавага. Яна гуляе ў занятасьць і другіх у сваю гульню прыцягвае.

Напісала ліст да Sgambatti.

Па абедзе быў даклад у бібліятэцы. Гэтыя пэрыядычныя даклады добрых спэцыялістаў-навукоўцаў бываюць звычайна вельмі цікавыя[2].

Вечарам прыехаў яшчэ Дутка, прывёз матар'ял пра К.-К.

---

[1] *Бібліятэкарка ў фінансавым аддзеле, якая пільнавала бюджэт на кнігі Славянскага аддзелу. Пра Беларусь ведала няшмат, але затое была вельмі левых пераканальняў.*

[2] *Гэтым разам даклад быў на тэму «Як ведаць, што чытач знайшоў тое, што яму патрэбна?» Цікавае пытаньне, бо чытачы не заўсёды знаходзяць і не заўсёды вам кажуць, што яны незадаволеныя!*

**Чацьвер 11 сакавіка**

Хадзіла з Фоксам на каву. Нічога больш цікавага ня прыпамінаю.

**Пятніца 12 сакавіка**

Прыходзіў Шук[*елойць*] у бібліятэку — ня памятаю ўжо зь якой нагоды, па якой патрэбе. Ага, прынёс ад украінскай друкарні набіты загаловак для Салаўёвай кнігі на сьпінку[1].

Дома быў ліст ад Юры. У яго ўсё добра. Яго лісты такія мілыя, такая пацеха.

---

[1] *У Міколы Прускага не было такога малога і тлустага шрыфту.*

**Субота 13 сакавіка**

Вітаўт працуе. Я зрабіла прычоску. Парадкавалася. Памыла бялізну.

Па абедзе паехала ў South River — завезьці экспанаты на выстаўку. Думала, што сёньня адчыненьне, аднак гэта толькі ўстанаўленьне, разьвешваньне, падрыхтоўка. Так мой зарад і прапаў, бо хацела ўжо адбыць і нават меркавала апісаць выстаўку гэтым разам. Заўтра мы занятыя — ня зможам паехаць.

**Нядзеля 14 сакавіка**

Зраньня трохі парадкавалася. Па абедзе паехалі на Baby Shower[1] для жонкі Стывэн Рычэр. Нейкія знаёмыя Канак рабілі ў сваёй хаце. Хата прыгожая, вялікая. Shower быў вельмі сымпатычны. Мы добра чуліся. Мая срэбная лыжачка была вельмі эфэктная. Прыехалі дахаты ня позна. Мела яшчэ час перадрукаваць лісты прывітальныя ад БАЗА. Напісала ліст і Юрачку.

Званіла Юля, каб перадаць неяк рэчы для Беласточчыны. Я ўсё ніяк не магу разгледзець Юравы рэчы — што Вітаўту, Сашку[2], а што для пасылак.

---

[1] *Вечарына, калі робяцца падарункі нованароджанаму дзіцяці.*

[2] *Нэстарам.*

**Панядзелак 15 сакавіка**

Палучка. Паслалі грошы Юру, Алесі. У абед хадзілі ў магазын, нічога цікавага ня купіла.

Хадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Аддала яму частку лістоў[1], частку [redacted] сама разашлю.

Бабка атрымала ліст ад Юры — вось ён маладзец.

---

[1] *Лісты-запрашэньні на Сакавіковае сьвяткаваньне.*

**Аўторак 16 сакавіка**

В[*ітаўт*] занёс да Запрудніка матар'ял для газэты.

Вечарам паехалі на зборку фэстывальных камітэтаў — партызанская зборка — бяз ведама Arts Center. Нічога важнага, але трэба зь імі трымацца. Усе незадаволеныя вымогамі, вялікай сумай, якую Arts Center патрабуе ад групаў[1]. Шмат якія нацыянальнасьці адыходзяць ці плянуюць адысьці.

Стаміліся. Пасьля працы цяжка ўжо езьдзіць на такія паседжаньні.

---

[1] *Штатны Цэнтар мастацтваў, дзе адбываліся фэстывалі. Праблемы паміж дырэкцыяй і нацыянальнымі групамі ўзьнікалі з-за таго, што прадаць 5 тысячаў білетаў (як патрабавала дырэкцыя) нікому не было лёгка!*

**Серада 17 сакавіка**

Прыходзіла Тамара [*Стагановіч*]. Расказалі ёй пра ўчарайшую зборку. Мусіць, з нашых плянаў на фэстываль у гэтым годзе нічога ўжо ня выйдзе[1].

---

[1] *Мы цвёрда і не плянавалі, [redacted] толькі гаварылі.*

**Чацьвер 18 сакавіка**

На рабоце нічога цікавага.

Вечарам езьдзілі да Русакоў. Галіна плянуе падаць на нейкую дапамогу для наладжаньня канфэрэнцыі беларускай у Ратгэрсе. Гаварылі пра праграму, якіх людзей прыцягнуць, як арганізаваць. Ня думаю, што што з гэтага выйдзе, але прабаваць трэба. Добра, што Галіна мае ахвоту гэтым заняцца.

Добра ў іх павячэралі. Яна даволі добра падрыхтоўвае. Прыемна правялі час, але таксама стаміліся. Ехалі назад, дык мне вельмі разбалеўся жывот.

**Пятніца 19 сакавіка**

Дзень прайшоў нармальна — толькі былі стомленыя. Ужо няможна нам так раз'язджаць вечарамі — трэба адпачываць.

Пасьля работы сабралася й паехала на фарму — гэта адзін магчымы канец тыдня будзе на некалькі тыдняў наперад. Ад'ехаўшы трохі — ужо за аэрадромам, — лопнула ў мяне кола. Прабавала зьмяніць сама, але ў міжчасьсі пад'ехаў паліцэйскі і выклікаў дапамогу. Добра зьмянілі, але каштавала мне гэта $20. Я вельмі была расстроілася. Ужо думала вяртацца назад дахаты. Пазваніла В[*ітаўту*] — ён мяне супакоіў, і я паехала памаленьку, бо кола запасное ня было ўжо

такое добрае. Даехала ў парадку, але была такая змучаная, такая вычарпаная.

**Субота 20 сакавіка**

Цэлы дзень сядзелі дома, я ўжо не хацела нідзе езьдзіць. Надвор'е цудоўнае. Мы папарадкавалі з мамай газэты. Абчысьцілі бочныя пакойчыкі — там будуць пачыняць падлогу.

Завезла маму ў царкву вечарам. Адпачывалі. Добранька пагаварылі. Так было прыемна — толькі кола было ўсё на думцы. Як заўтра даеду?

**Нядзеля 21 сакавіка**

Паехала дахаты ня позна, бо В[*італўт*] зьбіраўся ехаць у South River на сьвяткаваньне 25-га Сакавіка. Ніяк нам не ўдаецца з мамай доўга й добра пагасьціць.

Прыехала добра, у час. В. паехаў, а я адпачывала, трохі парадкавалася.

**Панядзелак 22 сакавіка**

Нічога цікавага. Нават у маленькім календарыку нічога не запісана.

**Аўторак 23 сакавіка**

І сяньня нічога вартага запісу ня было.

**Серада 24 сакавіка**

Сёньня вельмі прыкрая навіна — памерла маленькая дзяўчынка Аліны[1]. Мы ўсе вельмі расстроіліся. Колькі гэтая бедная маладая жанчына перажыла. Колькі чалавек можа выцерпець? Дай Божа, каб толькі гэта не пакінула на ёй нейкага нядобрага сьледу.

[1] *Супрацоўніцы.*

**Чацьвер 25 сакавіка**

Сёньня сьвята наша, але неяк зусім не адчуваецца. Перастала я ўжо гэтым праймацца! Нічога з нашай мітусьні ня выходзіць. Ніхто намі ня цікавіцца — горш — ніхто нас ня ведае й ведаць ня хоча.

Заказалі вянок для Алінінай baby.

**Пятніца 26 сакавіка**

Езьдзілі на паховіны Baby. Аліна трымалася вельмі добра. Яна, здаецца, вельмі моцная асоба.

Званілі з Вашынгтону, каб даведацца пра нас, пра БАЗА, Шук[*елойця*] і каб паведаміць нам, што на наш ліст у Белы Дом (Шук. выслаў руцінны ліст, каб абвесьцілі 25 Сак.) яны зарэагаваць ня могуць, але нам сымпатызуюць, і калі што калі могуць дапамагчы — зьвяртацца. Вось я напрасна ўчора так пэсымістычна разважала. Можа, калі мы будзем варушыцца, то нешта й зробім.

Пазваніла Запр[*уднікү*] аб гэтым. Ён выкарыстае інфармацыю на сьвяткаваньні ў нядзелю.

В[*італўт*] паехаў у Чыкага — робіць для іх рэфэрат.

**Субота 27 сакавіка**

Працавала. Прыехаў па мяне Спэрлінг[1]. Працавалася добра, бяз прыгодаў.

[1] *Боб Спэрлінг — сусед, мой сябар з Навуковага аддзелу бібліятэкі.*

**Нядзеля 28 сакавіка**

Паехала ў Саўт Рывэр. Сяньня ў іх разьбіраецца выстаўка і сьвяткуюць угодкі Купалы й Коласа. Мне хадзіла, каб забраць кніжкі, што мы пазычалі на выстаўку, й падушкі Кажуры.

Угодкі былі вельмі-ж слабенькія. Коўш такі нудны даўгі рэфэрат меў. Яшчэ слабейшая была выстаўка. Але нешта-ж робіцца. Сабрала свае рэчы ды дахаты.

Вечарам паехала спаткаць Вітаўта. У яго там было ўсё добра. Трохі папрацаваў у бібліятэцы, знайшоў цікавыя матар'ялы пра Варонку. Рэфэрат быў удалы. Заплацілі яму за дарогу — гэта добра. Раней бы мы і ня думалі браць грошы, але цяпер надта-ж шмат выдаецца на ўсё. Падаравалі таксама й ляльку мне яшчэ адну. Цудоўна.

Добра ўжо быць разам — нуднавата аднэй, хоць і занятая была.

**Панядзелак 29 сакавіка**

Карэсар дрэнна чуецца — пайшоў па абедзе дахаты. Я мусіла залагодзіць сякія-такія справы, бо заўтра-ж і я ня буду. Карэсар запэўняе, што ўсё будзе ў парадку.

**Аўторак 30 сакавіка**

Паехалі ў Вашынгтон. Выехалі раненька. Якраз пасьпелі, хоць ужо трохі хваляваліся, бо перад Балтыморам быў вялікі трафік. Я якраз кіравала, бо В[*ітаўт*] трохі прыдрамаць захацеў.

Я цэлы дзень працавала ў бібліятэцы. Дастала дазвол у сховішчы. В. цэлы дзень быў на канфэрэнцыі[1]. Пад канец дня прыйшоў у бібліятэку. А 6-ай спаткаліся ўсе разам. Схадзілі павячэралі. Завезьлі Алесю ў школу, а самі паехалі шукаць матэль. У Алесі не захацелі затрымлівацца, бо й ёй клопат і нам ня выгодна. Тым больш, што начлег аплачваецца. Знайшлі матэль хутка — супроць мейсца, дзе канфэрэнцыя і блізка мэтро. Добра адпачылі.

[1] *Канфэрэнцыя па пераводзе друкаваных патэнтаў на кампакт-дыскі. Я прадстаўляў нашу бібліятэку, бо патэнтамі ў нас займаўся Навуковы аддзел.*

**Серада 31 сакавіка**

Ранічкай пасьнедалі ў Cristal City[1]. І [redacted] паехала на мэтро[2] ў бібліятэку. Між іншага мэтро цудоўнае: чыстае, зручнае, лёгка арыентавацца. Я першы раз ехала, і добра чулася. В[*ітаўт*] — на канфэрэнцыю. Па абедзе прыйшоў у бібліятэку. Папрацавалі. Я гэтым разам неяк ня надта прадукцыйна правяла час. Цяпер ужо трэба мець больш спэцыфічнай інфармацыі — бо агульнае ўжо пераглядзелася. Шмат чаго не

знайшла і ў LC[3]. Я ўсё пераважна для Трыстана глядзела. Трохі для гэнеалёгіі, трохі для [*бібліяграфіі*] К.-К.

А гадзіне 6-ай спаткаліся й паехалі дахаты. Да Алесі ўжо не заходзілі. Даехалі добра. Праўда, амаль цэлую дарогу ліў дождж. У хаце ўсё добра. Рэкса выводзіў Стартэк[4] ды, здаецца, адзін раз Жамойда.

Алеся абяцала прыехаць дахаты на той час, як мы паедзем у Кліўленд.

---

[1] *Мясцовасьць у штаце Вірджынія, на поўдзень ад Вашынгтону.*
[2] *Вашынгтонскае мэтро.*
[3] *Бібліятэка Кангрэсу.*
[4] *Наш сусед.*

**Чацьвер 1 красавіка**

На працы шмат клопатаў. Карэсар яшчэ хворы. Гэтыя дні былі бяз шэфаў. У Тані быў канфлікт з чытачом — яна мусіла нават паклікаць паліцэйскіх і тады званіла да Simkin, бо ні Gold'а, ні Jay ня было[1]. Я мусіла ўсе гэтыя праблемы загладзіць. Усё патрошку залагодзілася. Працы, праўда, шмат.

Вечарам быў Юру ліст з інфармацыяй пра экзамэны. Заўтра перашлём яму.

---

[1] *У бібліятэцы быў свой «пратакол»: калі чытач «буйны», дык выклікаецца паліцэйскі і некалькі вышэйшых начальнікаў. Аднак звычайна справа залагоджвалася тым, што бібліятэкар папераджаў чытача, і той супакойваўся.*

**Пятніца 2 красавіка**

Шмат працы. К[*арэсара*] яшчэ няма. У абед схадзіла зрабіць валасы. Зрабіла добра, але, здаецца, папырскала лакам. Я й не заўважыла спачатку. Пасьля працы сабраліся й паехалі [*ў Кліўленд*]. Ехалася добра. Мае пляны, дзе затрымацца на ноч, ня зусім былі адпаведныя, бо за пару гадзінаў ад'ехалі ня так далёка і былі ня стомленыя, дык рашылі ехаць трохі далей. Як ужо пачалі стамляцца — добра якраз удалося знайсьці недарагі матэль. Адпачылі добра. Але я ўжо пачала заўважаць, што валасы нейкія дзіўныя.

Пазванілі дахаты — Алеся прыехала. Так што нам ужо спакойна, што дома ўсё ў парадку.

**Субота 3 красавіка**

Рана ўсталі, пасьнедалі і адправіліся далей. Валасы мае — жудасьць. Клейкія, вільготныя — нічога ня можна зрабіць. Вось не пашчасьціла. Хочацца-ж на людзях добра выглядаць.

Прыехалі ў Кліўленд каля поўдня. Пагаварылі. Сабралі матар'ял для выстаўкі. Калоша папрасіў, каб я дапамагла арганізаваць выстаўку. У іх шмат добрых рэчаў. Паехалі пад царкву. Уставілі выстаўку з Кабячыхай. (Вельмі мілая, разумная жанчына). Пачыналася вячэрня. Я рашыла пайсьці да споведзі. Даўно ўжо ня была.

Вечарам яшчэ сядзелі гаварылі. У Полацку затрымаўся й Сажыц. Шуст таксама прыехаў да іх, але начаваў недзе інакш. Сажыц трохі падпіў. Я пайшла спаць рана.

**Нядзеля 4 красавіка**

Пачаў ісьці сьнег. Валасы мае проста страх. Нават да царквы як ехалі, то было вельмі сьлізка й непрыемна. У царкве было добра. Прычасьцілася. Пасьля пачалі сьвяткаваньне. Сабралася шмат гасьцей, нягледзячы на пагоду. Праўда сьнег прасьціг і трохі нібы распагоджвалася. Сьвяткаваньне 25 Сакавіка ўдалося добра. В[*ітаўтаў*] рэфэрат добры, кароткі. Кніга таксама вельмі ўдала была прадстаўленая. Вельмі добра сказаў Бануты[1]. Быў таксама смачны посны абед.

Пасьля ўрачыстасьці прадавалі кніжку, і В. падпісваў яе. Кніга добрая — не шкада ўсяе працы й часу, што В. у яе ўклаў[2].

Мне ўсё карцела, каб хутчэй выехаць дахаты, але В. быў вельмі стомлены, узбуджаны ўсім гэтым і ўсё адцягваў. Нарэшце вырашылі, інакш кажучы — я згадзілася, застацца нанач у іх. Я вельмі дрэнны настрой мела, але [redacted] бачыла, што В. ня хоча й ня можа ў такім стане ехаць.

---

[1] *Праф. Karl Bonutti. Ён пахваліў калёнію — што дапамагалі пры пісаньні кнігі, давалі інтэрвію, матэрыялы.*

[2] *Кніга добра разыходзілася ў той дзень, і пазьней. Разьлічвалася за кнігу БАЗА з Унівэрсытэтам, выдаўцамі.*

**Панядзелак 5 красавіка**

Ранічкай усталі і паехалі дахаты. Сьнег ужо перастаў. Дарогі добрыя. Галоўнае, чаго мы баяліся, — недзе ў гарах магло быць дрэнна, сьлізка, [redacted] мы ўжо свае сьнежныя колы зьнялі. Але ўсё было добра. Дзень быў сонечны, дык усё падтаяла. Ехалася добра. Я трохі падмяніла В[*ітаўта*] — ён адпачыў. Пад канец падарожжа, праўда, мы здорава стаміліся.

Але яшчэ, прыехаўшы дахаты, паехалі з Алесяй у магазын. Я дык ужо была зусім разьбітая. Чуць соўгалася па магазыне. Купілі Алесе тое-сёе. Я сабе нічога — толькі цукеркі для работы заўтра.

Яшчэ вечарам кухарылі з Алесяй.

**Аўторак 6 красавіка**

Пачаўся сьнег — ды добры сьнег!

Прыйшоў Карэсар першы дзень на працу, але яшчэ чуецца ня зусім добра.

Цукеркі мае ўсім спадабаліся. На рабоце нейк трохі прыўзьнята, як заўсёды, калі нейкае ці прыроднае ці выпадковае здарэньне. Паехалі дахаты раней. Даехалі зусім добра. Каля хаты зусім засьнежана. Хлопчык Брукса[1] пачысьціў сьнег. Мы адпачывалі сабе ўсе ў хаце.

Вечарам званіла Галіна. Яна ўсё яшчэ думае, што можна падаць на

grant, каб арганізаваць беларускую канфэрэнцыю, дык трэба сьпешна падаваць інфармацыю.

---

[1] *Суседа.*

**Серада 7 красавіка**

Яшчэ ўсё сьнег, але сёньня ўжо трохі лепей, але з машынай яшчэ выехаць дрэнна. На працы нічога цікавага. Алеся парадкавалася дома, расчысьціла машыну й недзе езьдзіла. Вечарам былі ўсе дома.

**Чацьвер 8 красавіка**

Паехала Алеся ў Вашынгтон.

У Нью Ёрку на працы ды наагул у горадзе пуста — Пасовэр[1].

Вечарам пазваніла маме. Яшчэ як прыехала, то й не званіла. У яе ўсё добра. Яна была вельмі радая, што я пазваніла, бо хвалявалася, як мы там былі, як даехалі. Добранька пагаварылі.

---

[1] *Passover — яўрэйская Пасха.*

**Пятніца 9 красавіка**

Карэсара зноў няма на працы. Шмат клопатаў, шмат нагрузкі. Так больш нічога цікавага. Сёньня Вялікая Пятніца — шмат людзей узялі вольны дзень. У нас, праўда, амаль усе прыйшлі. Праваслаўны Вялікдзень яшчэ за тыдзень пазьней.

**Субота 10 красавіка**

Сёньня працуем абое. На працы ўсё добра.

Вечарам, як толькі прыйшлі дахаты — тэлефон ад Кэнан[1] з фармы. Яна цэлы дзень не магла да нас дазваніцца. Узяў тэлефон Вітаўт, і я ўжо па тону яго адказаў адчула, што нешта трагічнае сталася, але ўсё яшчэ адганяла ад сябе нешта. І калі ён сказаў: «Памерла мама», — дык я яшчэ спыталася: «Якая мама», — хоць ужо недзе ўсярэдзіне добра знала, што памерла мая мамачка.

Мы былі пад нейкім чадам, неяк яшчэ ня ўсьведамілі сабе і адначасна ўжо ўсьведамілі, што сталася. Цэлую дарогу на фарму я праплакала. То трохі супакоюся, то зноў зробіцца ясна, што мамы ўжо няма. Добра мы й ня ведалі, як усё сталася. Толькі ведалі, што нехта прыйшоў і застаў яе ўжо нежывой. паклікалі хуткаю дапамогу й забралі яе ў шпіталь. Што яна была адзетая і на сваім ложку. Як даехалі ўжо й ня памятаю.

Прыехалі дахаты і першым, што заўважылі, што на стале былі рассыпаныя пігулкі[2] — мама шукала, відавочна, пігулку ад укусу асы, бо былі таксама й гэтыя пігулкі ў алюміневых апакоўках і нажнічкі. Мусіць не знайшла выразанай, дык вырэзвала. Я адразу ўбачыла, што гэта была аса. Каля ложку стаяла пасудзінка ад лёду — прыкладала лёд. Мела час. Чаму не зазваніла куды? Мусіць, гэта сталася пасьля таго, як пазваніла ў паліцыю. Petty (што знайшла маму) казала, што

пачала ёй званіць пасьля 9-ай ды ўсё ня было адказу. Мама пякла на сьвята. Было ўжо ўсё выпечана. Падрыхтавала для фарбаваньня яйкі. Чулася відаць добра. Божа, Божа, чаму так трэба было стацца? Яна-ж яшчэ была здаровая, жыцьцярадасная. Як я званіла да яе ў чацьвер, была такая вясёлая — хадзіла ў касьцёл, рыхтавалася да сьвята[3].

Каб я ў гэтую суботу не працавала, каб я да яе прыехала на сьвята — усё было-б інакш. Я сябе ня віню. Я ўжо разважала над усім гэтым. Пачуцьця віны ў мяне зусім няма. Толькі крыўда трохі. Я, што сьмерць яна такую лёгкую, хуткую мела, дык [redacted] і вельмі ўдзячная. Ведаючы маму — самае, што для яе было-б цяжкім, гэта быць хворай, бездапаможнай, у цягасьць камусь. Божачка, усё як сталася, так, мусіць, трэба было. Хацелася-б разьвітацца зь ёй, сказаць як я яе люблю, як яна заўсёды будзе ў маёй памяці, як найлепшая маці ў сьвеце[4].

Яшчэ пазванілі да Кэнан, яна нам сказала, хто знайшоў маму. Стала я званіць ім. Пазванілі пахавальніку. Ён прыехаў у той-жа вечар. Усё залагодзілі больш-менш. Заўтра паедзем да яго, каб канчальна дагаварыцца. Ён вельмі сымпатычны, неяк адразу супакоіў.

У хаце холадна. Не патрафім запаліць печку. Ляглі ў лівінгу спаць — зьмерзьлі.

---

[1] *Суседка мамы.*

[2] *Апалёнія Восіпаўна мела алергію на ўкусы восаў. Пчолы — ОК, але восы — небясьпека. Асіная атрута звужала дыхальныя сасуды — чалавек задыхаецца, траціць прытомнасьць і памірае. «Супрацьвосавыя» пігулкі былі ў хаце — яна не пасьпела іх прыняць.*

[3] *Гэта была субота перад каталіцкім Вялікаднем.*

[4] *Зорын біяграфічны артыкул пра маму ў газэце «Беларус»:*

**АПАЛЁНІЯ САВЁНАК (На 10-я ўгодкі сьмерці)**

Нарадзілася 8-га кастрычніка 1901 г. у засьценку Аўгустова ў Лагойшчыне, у сям'і зьбяднелай шляхты. Дзед Апалёніі, Пётра Раткевіч, за ўдзел у Паўстаньні 1863-га году быў расейскім урадам пазбаўлены шляхецтва. Бацька, Язэп Раткевіч, жыў і працаваў яшчэ на гаспадарцы. Мама зь любасьцяй заўсёды ўспамінала свае дзіцячыя гады на Лагойшчыне.

У пачатку стагодзьдзя сям'я Раткевічаў пераехала ў Менск. Вучылася Апалёнія ў Царкоўна-прыхадзкой школе ў Менску, вучылася заўсёды вельмі добра. Была здольная й працавітая.

Вайна 1914-га году застала іх у Менску. Тут-жа ў Менску мама хутка далучылася да беларускага руху. Ужо ў 1916-ым годзе спаткалася са старэйшымі беларускімі дзеячамі, Антонам Лявіцкім і ягонай дачкой Вандай Лявіцкай, якія заапекаваліся маладой Апалёніяй, усьведамілі яе і прыцягнулі ў «Беларускую Хатку».

У 1918-ым годзе, пасьля сканчэньня настаўніцкіх курсаў, яна пачала выкладаць у школе. Вось вытрымка зь яе ўспамінаў:

«Калі ўвосень 1918 году адчыніліся беларускія школы ,я была якраз скончыўшы каротка-тэрміновыя настаўніцкія курсы, хоць мела толькі сямнаццаць гадоў, мяне далучылі да групы першых беларускіх настаўнікаў».

Так яна й засталася настаўніцай-пэдагогам на ўсё сваё жыцьцё.

У 1921 годзе выйшла замуж за Лявона Савёнка. Дваццатыя і пачаткі трыццатых гадоў былі плённыя ў жыцьці Апалёніі — яна шмат працавала ў пэдагагічнай галіне,

пісала, публікавала. Цяпер пераглядаючы «Летапіс Беларускага друку» за тыя гады, натрапіла больш за паўтузіны кніжак, якія мама напісала ці-то сама, ці-то ў супрацоўніцтве зь іншымі пэдагогамі.

Скончыла мама Пэдагагічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, а пазьней Факультэт мовы й літаратуры.

Шмат перажылося й пацярпелася ў 30-ыя ды 40-ыя гады, але мама заўсёды заставалася беларускім настаўнікам. У часе 2-гой сусьветнай вайны лёс кідаў сям'ю па сьвеце: Польшча, Сілезія, Баварыя. Ды-Пі лягеры. Тут зноў настаўніцкая праца: беларускія дзіцячыя садкі, пачатковыя школы, гімназіі. У 1946 годзе выдала першы на эміграцыі Беларускі Лемантар, на якім сотні дзяцей, а нават і дарослых, вывучалі беларускую мову. Яшчэ ня гэтак даўно спаткала ў Кліўлендзе вельмі мілую старэйшую жанчыну, якая ўспамінала, як некалі ў Ды-Пі лягеры мама працавала зь імі, дарослымі, і вучыла мову.

У 1950-ым годзе нарэшце апынулася ў Вольным сьвеце, у краіне Вашынгтона, у благаслаўёнай краіне, як мама любіла яе называць. Тут, у Нью Ёрку працавала як мага й дзе мага — і на фабрыцы і ў майстэрнях, але заўсёды была актыўнай ва ўсіх беларускіх пачынаньнях.

У 1954 годзе набылі кавалак свае зямлі — «Новае Зямлі» — і пераехалі на сваю гаспадарку ў Памоне, у Штаце Нью Джэрзі. Адвечная цяга беларуская да свае зямлі. Там на гаспадарцы памёр бацька, Лявон Савёнак у 1974-ым годзе. А 10 красавіка 1982 году, у суботу перад Вялікаднем памерла Мама. Памерла раптоўна, спакойна. Была актыўнай і жыцьцярадаснай да апошняй хвіліны — рыхтавалася да сьвята. Была мама глыбока рэлігійнай. Пераклала шмат малітваў на беларускую мову, якія незадоўга да сьмерці ў рукапісах перадала ў Беларускі Музэй і Бібліятэку ў Лёндане.

Усе гэтыя ўспаміны наплылі ў 10-ыя ўгодкі яе сьмерці.

Трымайся, мамачка!

Твая Зора

*«Беларус», № 389, 1992*

**Нядзеля 11 красавіка**

Раніцай парадкаваліся. Званіла ўсім суседзям.

Зьезьдзілі ў Egg Harbor да пахавальніка. Усё залагодзілі. Ён званіў у шпіталь, каб атрымаць дазвол на паховіны. Усё яшчэ не зрабілі аўтапсію. Мяне зноў гэта вельмі расстроіла, што мама недзе там у халадзе ляжыць. Выбралі труну — дубовую. Я не магла сабе ўявіць, каб мама яшчэ пасьля ўсяго гэтага ды ў мэталёвай дамавіне ляжала.

Цэлы дзень не маглі дазваніцца да Алесі й да Юры. Мне гэта найбольш абходзіла, каб дзеці прыехалі на паховіны.

Дамовіліся, што служба будзе заўтра ў мамінай царкве — там-жа будзе й наведваньне. Гэта маме было-б так даспадобы! А тады павязецца ў South River да Малішэўскага[1]. Паніхіда там і ў Аўторак паховіны.

Вечарам прыйшла яшчэ Пэты і яе сяброўка (гэта яна знайшла маму). Пагаварылі, яна расказала, як знайшла маму. Мусіла ўлезьці праз вакно, бо дзьверы былі зачыненыя. Мама спакойна ляжала на ложку.

Аддала ім печыва. Пакінула сабе толькі трохі. Зноў холадна. Удзень трохі было цяплей, а ноччу даволі прахладна.

---

[1] *Пахавальнае бюро Малішэўскага абслугоўвае 99% беларусаў і ў штаце Нью Джэрзі, і ў іншых мясцовасьцях.*

**Панядзелак 12 красавіка**

Нарэшце дазваніліся да дзяцей. Спачатку да Алесі. Яна была вельмі расстроеная, але апанаваная. Прыедзе сёньня вечарам. Пазьней дазваніліся й да Юры праз Саадыю, яго сяброўку. Так-жа пашчасьціла, што яна ўжо была прыехала з канікулаў ды была дома. Яна яго паклікала. Юрачка быў таксама вельмі расстроены і сказаў, што зробіць усё, каб прыехаць.

Паехала [redacted] ўжо тады са спакайнейшым сэрцам у Egg Harbor. В[*ітаўт*] застаўся ў хаце — бо было шмат званкоў. Усе дакумэнты й паперы мы знайшлі. Знайшлі й даволі шмат грошаў. Я ня думала, што ў мамы так шмат было — каля $2000, акрамя банку. Я паехала забраць гэтыя грошы з банку. Мне аддалі, без ніякіх пытаньняў. Купіла я сабе тады яшчэ чорныя туфлі, бо з сабой мела толькі мае плоскія старыя «артапэдычныя», як я іх лічу. Пагода стаіць цудоўная.

А 1-ай была імша ў касьцеле[1]. Прыйшло даволі шмат людзей. Прыехалі Нядзьвігі, прывезьлі кулічы. Было вельмі ўрачыста, прыстойна. Ксёндз сказаў вельмі добра, прачула. Першы раз [redacted] пабачыла маму. Выглядала добра — трохі апухшая шыя, праўда. Я трымаюся добра. На душы неяк спакойна. Як-бы яна ўсё роўна кажа: «Усё добра, Зорачка».

Папрасіла, каб праехаліся яшчэ каля мамінай хаты. Я яшчэ заехала забраць лілейку, якую мама купіла на Вялікдзень. Ґэта лілейка была нібы купляная для мяне. Паехалі й мы дахаты. Па дарозе заехалі на аэрадром падабраць Алесю. Яна нас ужо чакала. Прыехалі дахаты. Трохі агледзеліся, пераадзеліся ды да Малішэўскага. Ужо там людзі былі. Сабралася й тут даволі шмат людзей, а. Аляксандар добра адслужыў паніхіду. Бабка паехала з намі на паніхіду, але чуецца яшчэ ня зусім добра.

Вечарам зазваніў Юра. Ён ужо ў дарозе. Будзе ехаць цэлую ноч і заўтра рана мы яго спаткаем.

Усё так добра, так памысна наладжваецца. Я ўпэўненая, што мама ўсім гэтым кіруе, а калі й не, дык вельмі цешыцца, што ўсё так кіруецца.

---

*[1] Зора ўжывае слова «царква/касьцёл» вельмі вольна. Апалёнія належала да Касьцёлу, была вельмі веруючай каталічкай.*

**Аўторак 13 красавіка**

В[*ітаўт*] паехаў па Юрачку. Прыехаў ён такі загарэлы, такі прыгожы. Для мяне гэта такая падтрымка мець іх дома, мець іх пры сабе. Якія яны харошыя. Сабраліся хуценька і паехалі на пахавіны. Там ужо зноў былі людзі. Зноў усё вельмі прыстойна, прыемна, спакойна. Заўважыла я, што над дамавінай павесілі яны праваслаўны крыж — папрасіла іх пераняніць. І так гэты крыжык захістаўся лагодненька, як бы падзякавала мама. Наагул я ва ўсім пачынаю бачыць знакі апраба-

цыі, падзякі. Можа, гэта знак, што я ўсё-ж чуюся вінаватай. Але чаму тады [redacted] ўсярэдзіне так спакойна, так ясна, так нават радасна чуюся? Я-ж вельмі адчувалая.

Зноў на могілках, пасьля адпяваньня, пасьля прамовы Шукелойця ці можа нават падчас — дамавіна пачала так лагодненька, спакойна хістацца, як-бы апошняе разьвітаньне, як бы памахала рукой.

Вельмі было для мяне таксама пацяшальна, што прыехалі на пахаваньне мае супрацоўніцы са славянскага аддзелу — Наташа і Румяна. Як гэта зь іхнага боку ахвярна. Тым больш, што гэта была першая вялікая дарога для Румяны — яна толькі навучылася кіраваць. Аддалі Яні куліч ад Антаніны [*Нядзьвігі*].

Пасьля паехалі ўсе на памінкі пад царкву. Добра прамаўлялі Шук., [*Ул.*] Русак, а. Аляксандар. Вітаўт сказаў пару слоў ад сям'і. Дзеці былі такія харошыя, такія прыстойныя. Бабка так, мусіць, імі ганарылася.

Пасьля паніхіды павезьлі Алесю на аэрадром, але самалёту яна ня мела. Паехалі дахаты. Паедзе яна заўтра рана.

Мы сядзелі дома. Алеся паехала яшчэ недзе да Надзін.

Юра якраз цяпер мае канікулы, дык пабудзе дома яшчэ колькі дзён.

**Серада 14 красавіка**

В[*ітаўт*] паехаў на працу. Я дома.

В. мае забраць ад Тумаша паштоўкі беларускія для выстаўкі ў Славянскім Аддзеле.

Я з М. В. зьезьдзіла раніцай у банк. Яна мусіла шмат чаго залагодзіць. Пасьля я заехала на пошту — купіць марак. Зрабіла запасны ключ для фармы.

Адпісвала паштоўкі. Вельмі шмат прыходзіць спачуваньняў — вельмі людзі адазваліся. Шмат заказваюць імшу. Я ўжо стараюся ўсім добра адказаць.

Мы зь Юрам езьдзілі ў магазын купіць для яго тое-сёе. Ён ужо хоча выкарыстаць нагоду, што прыехаў, каб сабе трохі закупіць. Купілі таксама ўсё для пасхі сырнай. Я зраблю для Юры.

Купілі піццу — паелі і паехалі зь В. на фарму.

**Чацьвер 15 красавіка**

Парадкаваліся раніцай на фарме. Я прыбрала ўсе маміны рэчы, памыла, што трэба. Што ня трэба, адкінула. Што можна даць людзям — асобна. Прадукты ўсе папарадкавала. Што аддала Гэлэн, што Гертрудзе[1], што Нядзьвігам. Што сабе пакінула.

Паехалі да лоера[2] ў Egg Harbor. Вельмі гэтая сымпатычная ўкраінка, што мама зь ёй мела дачыненьне, заапекавалася намі. Езьдзілі зь ёй у Mays Landing[3]. Усё што можна было залагодзілі. Цяпер толькі трэба будзе ўсе рахункі зьвязаныя з паховінамі ім перасылаць, а яны

ўжо ўсё будуць рабіць. Добра, што нам ніякіх клопатаў, акрамя плаціць грошы, ня будзе.

Пайшлі зь ёй[4] на абед. Тады яшчэ заехалі дахаты, папарадкаваліся. Пагода цудоўная. Чуемся мы там так добра, як бы мама нас чакае, спатыкае, клапоціцца. У халадзільніку поўна яды. У хаце ўтульна. Ужо пацяплела.

Паехалі дахаты, але па дарозе заехалі да Нядзьвігаў. Яна дала нам яшчэ печыва, яйкаў, рыбы. Цяпер усё маем для Вялікадня[5].

Добра даехалі дахаты. Дома трохі парадкаваліся. Рыхтаваліся да Вялікадня. Трохі пакавалі Юру. Ён сабе накупляў яды. Будзе мець сабе таксама й на сьвята.

---

[1] *Суседкі.*

[2] *Адваката (lawyer).*

[3] *Сталіца павету. Савёнкі мелі маёмасьць: хата, зямля — трэба было ўсё перапісаць праз тэстамэнт на Зору.*

[4] *З адвакаткай.*

[5] *Наступная нядзеля — праваслаўны Вялікдзень.*

**Пятніца 16 красавіка**

Пайшла на працу. Усе вельмі спагадлівыя, спачувальныя. Але я трымалася, не распускала сябе. Рабіла надпісы для паштовак. Вельмі ўжо шмат адказала, але кожны дзень прыходзяць новыя.

Вечарам зь Юрам адпачывалі, парадкаваліся, пакаваліся. Ён, праўда, амаль усё сам спакаваў.

**Субота 17 красавіка**

Завезьлі Юру на аэрадром.

Я зрабіла валасы. Адказвала карткі[1]. Падрыхтавала ўсё да Вялікадня. Зробім сабе ўсё, што можам. Жыцьцё мусіцьісьці.

Адпісвала карткі.

---

[1] *На дасланыя спачуваньні.*

**Нядзеля 18 красавіка**

Раніцай разгавеліся. Толькі нас трох. Але неяк адчуваецца, як мы ўсе сабраліся на Сьвята. Дзякуючы маме неяк уся сям'я пачулася бліжэй.

Паехалі на фарму. Пагода надзвычайная. Даехалі добра. Едучы туды заўважылі каля Garden State Arts Center сьцягі. І здалося нам, што нібы й беларускі там. Зрабілі ня зусім дазволены заварот ды паехалі паглядзець. І праўда — сярод іншых і беларускі бел-чырвона-белы. Сьцягі ўсіх нацыянальнасьцяў, што мелі фэстывалі. Вельмі было нам прыемна. Наш сьцяг так прыгожа відаць[1].

На фарме ўсё добра. Чысьценька, прыемна. Трохі парадкаваліся. Прыехала Гертруда з тымі людзьмі, што хацелі б наняць нашую хату. Яны сымпатычныя маладыя людзі. Мусіць, мы ім здамо. Толькі хо-

чацца яшчэ патрымаць праз лета. Так нам тут прыемна бывае, як прыязджаем.

Вечарам паехалі дахаты. Ехалася добра.

---

[1] *Часта на гэтай вялізарнай магістралі, якая ішла паўз Цэнтар Мастацтваў, вывешваліся сьцягі нацыянальнасьцяў, якія мелі свае фэстывалі. Бел-чырвона-белы сьцяг вывешваецца і дагэтуль. Надзвычайная рэкляма. Гэтаксама часам у Цэнтры робяцца выставы фэстывальных плякатаў — выстаўляюцца плякаты ўсіх трох нашых фэстываляў. Вось як пра гэта пісалася ў «Беларусе»:*

БЕЛАРУСКІ СЬЦЯГ

Бел-чырвона-белы сьцяг, адзін з 12-ёх сьцягоў, кажнага летняга сэзону (травень-кастрычнік) упрыгожвае амфітэатр Цэнтру Мастацтваў штату Нью Джэрзі. Ад 1980 г. Цэнтар Мастацтваў вывешвае сьцягі нацыянальнасьцяў, што бралі ўдзел у фэстывалях Цэнтру. Беларусы мелі ў Цэнтры тры фэстывалі: у 1977, 1978 і 1979 гадох.

*«Беларус», № 312, 1983*

**Панядзелак 19 красавіка**

На працы ўсё ОК. Карэсара сёньня няма, дык больш беганіны, клопатаў. Пазваніла раніцай Ірэна Дуцікава[1] — Каця мела выпадак на кары[2]. Вельмі дрэнна выглядае, але спадзяюцца, што аправіцца. Цэлы дзень былі пад гэтым уражаньнем. Так шмат здарэньняў у нашым аддзеле за апошнія месяцы. Хаця-б усё было добра. [redacted] чуюся прастудна — мусіць, цяпер усё перажытае адбіваецца.

---

[1] *Ірэна Дуцікава — расейка, працавала раней у нашай бібліятэцы, а потым у Радыё Свабода. Ейная дачка Каця працавала ў Славянскім аддзеле.*

[2] *Аўтамабільную аварыю.*

**Аўторак 20 красавіка**

Чуюся зусім дрэнна, але на работу пайшла — думала, разыйдуся.

Адказала ўжо ўсе картачкі, лісты. Але штодня прыходзяць новыя. Праўда, цяпер — менш.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Пагаварылі трохі пра маму — ён напіша нэкралёг пазьней, а ў гэты нумар падасьць толькі вестку.

Дома быў ліст ад адваката — трэба нейкую дадатковую інфармацыю — пасьведкі пра сьмерць папы. Заўтра зробім копіі і адашлем.

**Серада 21 красавіка**

Яшчэ ўсё дрэнна чуюся. І здаецца, усё горш і горш. Цяпер ужо насмарк. Напісала ліст у Чыкага — замовіла імшу па маме ў іхнай царкве.

**Чацьвер 22 красавіка**

Паехалі на работу машынай. У абед я схадзіла забрала валізку, што заказала для Алесі. Усё чакала нагоды, калі будзем з машынай, каб забраць. Пагода добрая — цёпленька. Я чуюся прастудна. Вырашылі ехаць дахаты раней.

Дома адпачывала.

**Пятніца 23 красавіка**

Засталася дома. Хоць чуюся яшчэ вельмі дрэнна, але трэба было шмат зрабіць, дык пачала адразу-ж рухацца.

Зрабіла валасы, бо заўтра паедзем на фарму, а ў нядзелю ў царкву, на могілкі, на PLASMA meeting[1]. Тады зьезьдзіла ў магазын, купіла прадуктаў, нешта зь печыва для Дашкевічаў.

Паехалі з М. В. у South River, паглядзець магілку[2]. Заехалі да Дашкевічаў, але доўга там не сядзелі. Я ўсё яшчэ блага чуюся. Пагода, добра, стаіць прыгожая, цёплая.

Вечарам званіла Алеся. У яе ўсё добра. Шмат працуе, але чуецца О.К.

---

[1] *Паседжаньні асацыяцыі амэрыканскіх бацькоў, чые дзеці навучаюцца за межамі ЗША, мы заўсёды наведвалі. Там давалася шмат інфармацыі, як новае заканадаўства для студэнтаў-мэдыкаў і падобнае.*

[2] *На могілках у Саўт Рывэры пахаваны Яўхім Кіпель, пазьней там будзе пахаваная і Марыя Васільеўна.*

**Субота 24 красавіка**

Раніцай паехалі на фарму. Сьцягі[1] яшчэ вісяць — шкада, што ня ўзяла камэры сфатаграфаваць. Пагода цудоўная. Трохі парадкаваліся, трохі адпачывалі. Чуемся тут цудоўна, так спакойна, згодна.

А 6-ай паехалі назад дахаты.

---

[1] *На Цэнтры Мастацтваў.*

**Нядзеля 25 красавіка, Памінальная**

Гэтым разам у нас зусім нясkладна выйшла. Разьбіліся зусім.

Я паехала ў царкву і на могілкі адна. В[*ітаўт*] застаўся дома, бо мусілі ехаць на PLASMA meeting а 1-ай. Ён папрасіў Баларыну, каб яго падвезла. А я ўжо з могілкаў паеду адразу туды, каб яшчэ хоць трохі паслухаць і забраць Вітаўта.

На могілках і ў царкве ўсё было спакойна, прыстойна. Толькі было мне так самой адной неяк прыкра, крыўдна, што не змаглі мы сабрацца каля мамы.

Паехала па Вітаўта. Крыху блудзіла, але прыехала добра і яшчэ шмат чаго пачула. Пасьля сходу заехалі ўсе разам у рэстаран. Добра правялі час. Я толькі трохі была ад усяго гэтага стомленая. Вечарам адпачывалі.

**Панядзелак 26 красавіка**

Прыйшла на працу Аліна першы дзень. Яна маладзец — трымаецца.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Дала яму весткі пра маму — дадзеныя народжаньня і сьмерці, а таксама копіі з Летапісу Бел. Друку аб ейных працах. Вітаўт знайшоў шмат. Мы й ня думалі, што мама так шмат пісала. Наогул мы цяпер як разьбіраем маміны рэчы, знаходзім шмат яе пісаніны. Яна была ў мяне маладзец.

В. пайшоў дахаты раней — нешта зрабіць. Ідзе дождж. Спаткаў мяне каля аўтобусу. Вечарам адпачывалі.

**Аўторак 27 красавіка**

Усё яшчэ чуюся прастуджана. Зацягнулася ў мяне гэтым разам. Шмат працы. Адказвала карткі ў абед і трохі вечарам. Адпачывала.

**Серада 28 красавіка**

Нічога цікавага. Ужо ўцягнулася ў рутыну. Адказвала карткі.

**Чацьвер 29 красавіка**

Не прыпамінаецца нічога важнага ці цікавага. Чацьвер заўсёды нуднейшы дзень.

**Пятніца 30 красавіка**

Палучка. Залагодзілі ў банку.

Сёньня прывезьлі кніжкі Салаўя. Нам пашчасьціла з кнігамі, што іх яшчэ зрабілі, бо кампанія банкрутуе[1]. Кнігі выглядаюць добра. Першае маё ўражаньне, праўда, ня было зусім прыемнае. Мне здалося, што неяк сьціснута, неяк мала паветра, неяк неахайна. Але чым далей прыглядаюся, тым больш і больш падабаецца. Добры артыкул Адамовічаў. Бібліяграфія выйшла нядрэнна таксама. Трохі ілюстрацыі маглі-б быць лепшыя. Але агулам О.К.

---

[1] *Праз паўгода пасьля выхаду кнігі Салаўя гэтае выдавецтва, пасьля 75 гадоў працы, збанкрутавала. Для нас гэта было непрыемна, бо мы мелі пляны мець зь імі далейшыя дачыненьні.*

**Субота 1 траўня**

Зрабіла прычоску ранічкай. Купіла на сьнеданьне. Пасьнедалі і паехалі ў Нью Ёрк. Я працую, а В[*ітаўт*] падвёз мяне і паехаў да Т[*умаша*] забраць некаторыя рэчы, завезьці яму кніжку Салаў'я. Тумаш ужо слаба зусім чуецца. На кніжку не зьвярнуў ніякай увагі. В. кажа, што забываецца, часам нават гавора ня зусім да толку. Вось страта, вось шкода![1]

В. прыехаў па мяне. Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Потым Тумаш адышоў, але працаваць ня змог. Бібліяграфію «500 год Скарыны» дакончвалі мы з Зорай.*

**Нядзеля 2 траўня**

Сяньня зноў трэба ехаць. Міцкевіч надумаўся рабіць абед-зборку, прысьвечаную Купалу-Коласу. Так мне не хацелася ехаць. Такое гэта губляньне часу. Там было ўсё даволі добра. Трохі гаварыў Запруднік. Трохі Адамовіч — ён дык карацей. Трохі Вітаўт пра бібліяграфію нашу — прайшло «як у лужу». Дзеці Аліны і Бартулёў чыталі вершы. Для справаздачы было — ОК, але што да сэнсу ды карысьці, дык сапсуты час. Пасьля была пачостка. Добра, смачна. Людзі задаволеныя.

**Панядзелак 3 траўня**

У абед хадзіла глядзела пэрлы[1] для Алесі на падарунак на заканчэньне школы. Ёсьць колькі магчымых магазынаў — розныя цэны, розная якасьць. Я нагледжу, але Алеся мусіць прыехаць выбраць канчаткова. Завялікі гэта выдатак, каб купляць завочы.

---

[1] *Пацеркі.*

**Аўторак 4 траўня**

Сяньня працую вечарам. Раніца вольная. Парадкуюся: памыла бялізну. Пад'ехала да доктара — адмовіцца ад візыты. Цяпер мне трохі не выпадае рабіць апэрацыю[1]. Адклалі на пазьней. Зьезьдзілі з М. В. у банк — памяняла чэкі. Тады ў магазын па прадукты. Шмат за раніцу пасьпелі.

На працу паехалі на машыне. На вячэру схадзілі ў Tad Steak. Працавалася добра. Прыехалі дахаты хутка. Вечарам нават прыемна працаваць.

---

[1] *Зразаць кальцыевыя нарасты на пятцы, пальцах.*

**Серада 5 траўня**

Прыходзіў Том [*Бэрд*]. Яны зь В[*ітаўтам*] нешта правілі. Падзякавала яму за паніхіду, якую ён заказаў па маме ў Чыкага.

**Чацьвер 6 траўня**

Сёньня ў нас паседжаньне ў аддзеле. Добра прайшло. Я рабіла справаздачу, як ідзе каталагізацыя. Пасьля мелі гутарку з Карэсарам — бо ён выходзіць на канікулы, а я вазьму гэтыя пару дзён, дык трэба ўзгодніць усе справы.

Дахаты паехалі раней. Заехалі да Малішэўскага. Ён яшчэ рахункаў ня мае, але сказаў што будзе каля $2000[1]. Мы думалі, што будзе трохі менш. Заехалі яшчэ ў беларускі цэнтар. Аддалі кніжкі Салаўя [*Ігару*] Шчорсу. Пагаварылі трохі там зь імі й паехалі на фарму нейкімі бочнымі дарогамі. Заняло нам трохі часу, але ехалася добра. Нам заўсёды цяпер прыемна, як едзем на фарму. Там усё добра. Чысьценька, утульна. Адпачывалі.

---

[1] *Кошты пахаваньня.*

**Пятніца 7 траўня**

Зраньня пазваніла да Гэлен[1] пра пошту. Яе ня было, але яе муж меў пошту. Я заехала ўзяць. Былі нейкія лісты.

Заплацілі таксу[2], бо ўжо было пара, На таксу мама грошы была прыгатавала. Так у яе ўсё было ў парадачку. Усе паперы, усе рахункі, грошы.

Заехалі да адваката — аддалі частку рахункаў, што мелі.

Пасьля прыбіралі трохі, трохі адпачывалі. Вельмі прыемна, спакойна.

Дахаты паехалі ня позна. Па дарозе зрабілі яшчэ здымкі са сьцягоў у Arts Center. Цікава, як выйдуць?

Вечарам званіла Алеська. Яна атрымала працу ў сваёй старой кампаніі. Вельмі задаволеная. Плата не такая ўжо вялікая — $24000-25000 [*на год*], але пэўная, ведамая з добрымі людзьмі.

---

[1] *Суседка на фарме. Раней мы зь ёй дамовіліся, што яна будзе даглядаць за паштовай скрынкай.*

[2] *Падатак (tax).*

**Субота 8 траўня**

Вітаўт працуе. Я з раніцы пайшла рабіць валасы — завіўку. Добра справілася. Па абедзе да свайго нажнога доктара. Мела апэрацыю, але сапраўдную, з маскай і ўсялякімі другімі «фэйкамі». На левай назе, на малым пальцы быў нарост кальцыявы. Таму й мазоль паміж пальцаў, таму так балела заўсёды. Пасьля апэрацыі трохі яшчэ пабальвае. Сядзела дома, рабіла Купалу й Коласа. Прыйшлі кветкі ад Алесі на дзень маці. Дзень быў прадуктыўны, добры.

**Нядзеля 9 траўня, Mother's day[1]**

Пасьнедалі разам. Пазваніла Алеся — прывітала. Пагаварылі зь ёй трохі. Пазьней пазваніў Юра. Малайцы яны. Гэта першы год, што ■ сваёй мамы ня маю. Крыўдна. Яна магла-б яшчэ жыць і цешыцца жыцьцём.

Рабіла [*бібліяграфію*] К.-К. Усё больш сяджу. Нага трохі пабальвае, але гэта ўжо другая боль — такая, што ведаеш, што хутка пройдзе. Самае непрыемнае, што няможна замачыць пальца — няможна браць душу.

---

[1] *Дзень Маці — адзначаецца ў ЗША ў другую нядзелю траўня.*

**Панядзелак 10 траўня**

Сёньня апошні дзень Карэсара на працы перад канікуламі. Яшчэ мелі зь ім гутарку-нараду. Усё, здаецца, залагодзілі. Але дзень быў вельмі заняты. Нага ОК.

**Аўторак 11 траўня**

Сёньня ўжо на рабоце сама — шмат працы. І не ўяўляеш сабе, як шмат адміністрацыі, канцэлярыі, штодзённай мітусьні, адказнасьці.

**Серада 12 траўня**

Шмат працы. Нічога больш і ня думаецца і ня можацца.

**Чацьвер 13 траўня**

На рабоце сёньня хоць трохі павальней, няма чытачоў, але іншай працы поўна.

Вечарам быў ліст ад а. Тарасевіча, падзяка за ахвяру[1]. Добры, сымпатычны ліст спачуваньня.

[1] *Ахвяраваньне за паніхіду, адслужаную па маме ў Чыкага.*

### Пятніца 14 траўня

Шмат працы, а тут яшчэ было візітараў[1]. Шукалі матар'ял для Раі. Я знайшла, хоць і часу ня было. Хоць разарвіся. Прыходзіў Том, дык зь ім ня было калі й пагаварыць. З Шук[*елойцем*] ішлі разам пад аўтобус[2], дык трохі хоць пагаварылі. Ён клапоціцца пра перадачу. Мы ўсе цяпер пра гэта толькі й думаем[3]. У нядзелю назначылі зборку БАЗА.

[1] *Наведнікаў (visitors).*
[2] *На аўтобусны вакзал.*
[3] *Перадача былога супрацоўніка Аддзелу Спэцыяльных Расьсьледаваньняў Джона Лофтуса «60-Minutes» на канале CBS, у якой амэрыканскія беларусы абвінавачваліся ў супрацоўніцтве з нацыстамі.*

### Субота 15 траўня

Зрабіла рана прычоску. Па абедзе да доктара. Ён зьняў швы. Добра гоіцца. Яшчэ трохі пабальвае, але гэта ўжо зусім нічога ў параўнаньні з тым, як было раней. Каштуе шмат, але варта ўсё гэта. Запоўнілі форму. Частка грошай вернецца.

Выйшла на двор пасядзець на сонцы. Прыемна так. Пішу пра маму, каб заўтра аддаць Шук[*елойцю*] — ён мае пісаць нэкралёг. Думала толькі пакінуць дадзеныя, але як села пісаць, дык амаль і напісала ўсё.

Сёньня вечарам паніхіда па маме ў Кліўлендзе[1].

[1] *Там у яе было шмат знаёмых.*

### Нядзеля 16 траўня

Сяньня паніхіда па маме ў Чыкаго. Званіла Алеся. Яна прыедзе дахаты ў аўторак. Скончыла ўжо заняткі, дык прыедзе трохі адпачыць.

Паехалі на зборку БАЗА. Добра прайшла. Трохі зноў з Станкевічыхай заеліся. Яны заўсёды ўнясуць такі дысананс. Гаварылі пра Спатканьне на Labor Day[1]. Вырашылі рабіць у New Brunswick. Цяпер толькі пытаньне залі. Доўга не заседжваліся, бо ўсе сьпяшаліся, каб не прапусьціць перадачу на *60 Minutes*.

Ну і перадача, ну і ўдар, ну і страх. Так нас апаскудзілі, так не сымпатычна, так не аб'ектыўна. Гэты Loftus нарабіў нам такіх прыкрасьцяў. Я дык была такая ўзнэрваваная. Мусіла ўзяць асьпірыну, каб трохі супакоіцца. Вельмі-ж баялася, каб хаця нашае імя не выйшла. Зьмяшаў ён нас з гразёй. Алеся таксама пачала глядзець і пачула, што нешта пра беларусаў, — звоніць нам такая ўсхваляваная, «Што гэта робіцца?» Мы дык трохі былі падрыхтаваныя. Ведалі, што было інтэрв'ю з Адамовічам, што да Тумаша дабіваліся[2]. Але я ўяўляю, як было прыкра нашым маладым пачуць такую перадачу — «Nazi connection»!

Я дык зусім была зьнішчаная. Вітаўт больш філязофска да гэтага падышоў[3]. Як там заўтра на рабоце будзе?

---

[1] *Зьезд Беларусаў Паўночнай Амэрыкі на Дзень працы ў верасьні.*

[2] *Адамовіч даў журналістам інтэрвію, а д-р Тумаш адмовіўся.*

[3] *Што сталася? Чаму паніка, і што такое «справа Лофтуса»?*

*Аснова гэтай «справы» такая. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ў 1945 г. у пэрыядзе 1945-1948 гг. вайсковая выведка ЗША мела досыць шырокія правы — каго прывозіць у ЗША. Выведка і вайскоўцы наагул у той час кіраваліся найбольш патрэбай перавезьці ў ЗША зь Нямеччыны найперш нямецкіх навукоўцаў-ракетчыкаў, улучна з Вэрнэрам вон Браўнам, ды стварыць ім умовы для працы ў новым месцы. Было сярод тых «імігрантаў» нямала і былых нацыстаў. Пры гэтым на эміграцыйныя законы ўвага зьвярталася, але павярхоўна.*

*У часе, калі ў 1948-1953 гг. у ЗША прыяжджала ў якасьці эмігрантаў хваля «дыпісаў» (DP — перамешчаных асобаў) пераважна з колішніх савецкіх тэрыторыяў, іміграцыйныя анкеты таксама ня надта праглядаліся, не дапільноўвалася літара закону, і шмат хто мог прыехаць, не даючы аб сабе праўдзівых дадзеных.*

*З такой сытуацыяй — што ў ЗША маглі папасьці нацысты — ніяк не пагаджаліся лібэральныя колы, а таксама шмат яўрэйскіх арганізацыяў. Каб сытуацыю неяк, заднім ходам, паправіць, пасьля перамогі дэмакратаў у 1976 годзе пры Міністэрстве Юстыцыі быў створаны Аддзел спэцыяльных расьсьледаваньняў, заданьнем якога і было выявіць былых нацыстаў, праверыць іх іміграцыйныя паперы і, калі нешта парушана, пазбавіць іх амэрыканскага грамадзянства і выслаць з краіны — альбо ў краіну, адкуль эмігрант прыехаў, альбо ў краіну ягонага паходжаньня.*

*У тым аддзеле працавала некалькі дзясяткаў адвакатаў. Адным зь іх быў Джон Лофтус. І вось ён, нагледзеўшыся на дзясяткі іншых дакумэнтаў, у сваёй галаве вырашыў, што сярод беларусаў ёсьць шмат нацыстаў. Пакінуўшы працу ў аддзеле, ён пачаў аб гэтым шырака гаварыць «шэрлак-холмсаўскім» тонам. Маўляў, у беларусаў ёсьць таемныя арганізацыі, іхныя эсэсаўцы ўсюды і г. д, і да т. п. Гэта трапіла ў шырокі друк, за гэта як за сэнсацыю ўхапілася тэлебачаньне. Гэты прэсава-тэлевізійны крык патрываў паўгоду і заціх. Лофтус кінуўся ў нешта іншае: шукаць прычыны канфлікту паміж арабамі і яўрэямі.*

*Аднак! У Аддзеле спэцыяльных расьсьледаваньняў былі сьпісы беларускіх эмігрантаў з часоў DP, якія трэба было праверыць. Справа гэтая была жывая да канца 1980-х гадоў. Правяралі каля 15 асобаў, зь іх толькі наконт адной асобы было прызнана, што яна парушыла іміграцыйны закон, і той асобе было запрапанавана выехаць у Заходнюю Нямеччыну, што і было зроблена. Усе іншыя правераныя былі «апраўданыя» і спакойна жылі ў ЗША да сваёй сьмерці.*

*«Справа Лофтуса» на нейкі час папсавала нэрвы беларусам-амэрыканцам, але яна трывала нядоўга і вялікага ўплыву не зрабіла.*

*Расьсьледаваньні закранулі ня толькі беларусаў — расьсьледавалі і сярод украінцаў (славутая справа Дзм'янюка), з ЗША былі змушаныя выехаць шмат літоўцаў, пацярпеў румынскі праваслаўны япіскап Трыффа, але найболей хіба з Аддзелам спэцыяльных расьсьледаваньняў мелі дачыненьні немцы — яны павыяжджалі ў Нямеччыну.*

### Панядзелак 17 траўня

На рабоце О.К. Ніхто нічога не сказаў. Ці-то яны ня бачылі. Ці-то не хацелі гаварыць. Але ні аднаго слова пра перадачу ня было. Я трохі супакоілася. Працы шмат, дык і забылася трохі аб гэтым.

Пачынаюць зьяўляцца артыкулы і ў газэтах. N.Y. Times, як заўсёды, не сымпатычна — наблыталі — у адным мейсцы беларусы — у дру-

гім — рускія. І тут яны ня могуць правільна напісаць. На T.V. дык хоць вымаўлялі правідлова — і назоў і прозьвішчы. Як трэба, дык навучацца. У іншых газэтах горш — больш спэцыфічна, накіравана на беларусаў, на беларускую калёнію ў South River. Асабліва дрэнна было ў мясцовых N[*ew*] J[*ersey*] газэтах.

Вечарам пазванілі з Home News[1] па інтэрв'ю з Вітаўтам. Ён добра гаварыў, але што яны напішуць? Цяпер ужо да журналістаў няма ніякага даверу.

Цэлы вечар тэлефоны. Усе ў роспачы.

[1] *Мясцовая газэта.*

**Аўторак 18 траўня**

Надта занятая на працы.

Вітаўту пазванілі на працу з газэты. Вельмі не сымпатычны журналіст. Задаваў такія непрыхільныя пытаньні. В. вельмі расстроіўся. Думае, што блага напіша. В. выступаў, як былы старшыня этнічнай рады і як беларус. Дазналіся-ж.

Артыкул у Home New не такі ўжо благі, але й ня добры. Асабліва дастаецца South River'у — Астроўскі, Ясюк, могілкі.

Вечарам цэлы час званкі.

Прыехала Алеся. Прыехала яна на машыне. У яе ўсё добра. Яна таксама вельмі расстроеная ўсім гэтым. У Ваш[*ынгтоне*] шмат хто бачыў перадачу.

**Серада 19 траўня**

Званілі сёньня з «Голасу Амэрыкі»[1]. Хацелі-б мець інтэрв'ю з намі пра польскую калекцыю. Я ў прынцыпе згадзілася, але сказала, каб пазванілі канчаткова дагаварыцца, як прыйдзе Карэсар. Яшчэ адна лішняя нагрузка.

У абед прыходзілі Шук[*елойць*] і Юрчык [*Андрусышын*]. Раіліся, што рабіць. Неяк трэба рэагаваць на ўсё гэта. Юрчык прапануе свае паслугі. Прыйшла Алеся. Мы толькі зайшлі сказаць гало да іх і пайшлі па пакупкі — па пэрлы. Прайшліся па ўсіх тых магчымых магазынах і застанавіліся на аднэй вельмі прыгожай (і дарагой — $1200) нітцы ў M. C. Fina[2].

Алеся з Надзін паехала на мора. Надзін прыехала па Алесю ў Беларускай кашульцы — мусіць, яшчэ нічога ня ведае пра гэты прыкры інцыдэнт.

Мы зь В[*ітаўтам*] думалі ехаць на фарму. Але так былі стомленыя, так расстроеныя. Столькі цяпер клопатаў, што рашылі застацца дома. Вырашылі, пагаварыўшы спачатку паміж сабой, а пасьля з другімі, сабрацца ў нас у нядзелю, каб абгаварыць, што рабіць, як рэагаваць на гэтую перадачу[3].

[1] *У Славянскі аддзел.*

[2] *Ювэлірная крама.*

[3] *Трэба было рэагаваць на паклёпы. Маладым беларусам-амэрыканцам шмат было няяснага. Як рэагаваць: сабраліся на нефармальнае паседжаньне ў нас у хаце. Было асобаў 15-20 як з БАЗА, гэтак і з вэтэранаў і з моладзі.*

**Чацьвер 20 траўня**

Ранічкай сабраліся й паехалі на фарму. Заехалі па дарозе дамовіцца пра памятнік. Даў ён нам рахунак для таксаў[1]. Замовілі й літары для мамы. Справіліся добра й паехалі бочнымі дарогамі на фарму. Нідзе неяк не ўдалося стаць на сьнеданьне. Так і даехалі да хаты. Купілі нешта перакусіць. Там схадзілі да адваката далі яшчэ рахунак ад памятніку. Ад Малішэўскага ўсё яшчэ няма. Трохі адпачылі ды й дахаты. Ганяем мы цяпер. Але неяк прыемна. Неяк гэта нас зусім не стамляе. Наадварот, заўсёды, неяк сілы набярэм. Па дарозе назад пачаўся вялікі дождж. Як там Алеся?

---

[1] *Падаткаў.*

**Пятніца 21 траўня**

Шмат працы. У абед схадзілі зь В[*ітаўтам*] да Fina — купілі Алесі пэрлы. Рашылі перасланць у N.J., бо такім чынам ня трэба плаціць таксы. Паабяцалі, што хутка перашлюць. Нам самае галоўнае, каб прыйшлі перад наступнай суботай, ды як нам ехаць да Алесі — прыйшлі.

Усе думкі цяпер пра перадачу, пра газэты, пра тое, як нам рэагаваць. Накінулі невялічкія заўвагі, каб як зьбяруцца ў нас людзі — абгаварыць. Вітаўт падрыхтаваў таксама рэзалюцыю па гэтаму поваду, каб заўтра правесьці на рэспубліканскай зборцы.

**Субота 22 траўня**

Я працую. На рабоце ўсё добра. В[*ітаўт*] на зборцы. Было добра. Правёў рэзалюцыю[1].

У абед схадзіла ў магазын. Купіла вельмі прыемную крыштальную пасудзінку для ікры. Трэба-ж нешта на заўтра прыгатаваць, як прыйдуць людзі.

Пагода стаіць неблагая. Ва ўсялякім выпадку горача ня будзе.

---

[1] *Ад імя нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў штату Нью Джэрзі.*

**Нядзеля 23 траўня**

Сабраліся ў нас каля 11-ай. Я падрыхтавала каву й трохі сяго-таго. Пакуль зьбіраліся — елі, гаварылі. Як усе прыйшлі, пачалі абгаварваць. Усё добра было, Напачатку выглядала, што Рая можа пачаць балаган. Яна ўсё прабавала крычаць: «Стася трэба бараніць». Але неяк накіравалася так, што ўсе згадзіліся, што асобаў тымчасам не чапаць. Бараніць трэба ўсіх беларусаў, бо абразілі яны цэлую эміграцыю. Той агульны артыкул, што В[*ітаўт*] падрыхтаваў, амаль цалкам

і выкарыстаецца. Было пару рэчовых заўвагаў, зьменаў. Прайшло ўсё вельмі ўдала, працавіта. І пачастунак быў добры і атмасфэра. Было холадна. Добра, я мела шмат свэтараў.

Пад час нашых нарадаў пазваніла да нас сп-ня [*Жэня*] Цярпіцкая, што ад іх[1] ніхто ня прыедзе (В. запрасіў і іх учора на рэспубліканскай зборцы). Сказала, што ўсе вельмі расстроеныя, бо ў Wash[*ington*] Post зьявіўся вельмі благі артыкул пра іх, іхную царкву, могілкі.

Званіла й Алеся вечарам. Яна таксама даведалася пра артыкул у Wash. Post. Да іх пазваніў Том з Вашынгтону. Алеся прыедзе заўтра. У іх там пагода няважная, але яны добра адпачылі.

---

[1] *Ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту.*

**Панядзелак 24 траўня**

Шмат працы. Нічога цікавага не прыпамінаю.

Прыехала Алеся. Яна заўтра ўжо паедзе назад у Вашынгтон.

**Аўторак 25 траўня**

Пісала для «Голасу Амэрыкі»[1]. Я напішу па-беларуску, а Шук[*елойць*] мне перакладзе па-польску. Тады трэба будзе практыкавацца яшчэ трохі.

Алеся паехала ў Вашынгтон. Мы ўжо зь ёй разьвіталіся раніцай. Вечарам спаткаліся з Шук. Пайшлі на вячэру. Я перадала яму тэкст. Заўтра, абяцаў, прынясе пераклад. Гаварылі пра гэта, што нас цяпер усіх найбольш турбуе. Ён шмат ведае пра гэтыя часы нямецкія. Шмат чаго цікавага расказаў. Мы яго папрасілі, каб ён запісваў усе гэтыя факты.

---

[1] *Матэрыял пра польскія кнігазборы.*

**Серада 26 траўня**

Я думала, што Карэсар прыходзіць сёньня, аднак — не. Пазваніў, добра, дык мы зь ім трохі перагаварылі. Я расказала яму пра «Голас Амэрыкі». Ён згодны. Я толькі мушу яму падрыхтаваць невялічкі ўступ па-ангельску пра наш славянскі Аддзел. Шук[*елойць*] прынёс пераклад у абед. Акуратна, добра зрабіў. Маладзец. Мы зь ім яшчэ перачыталі трохі. Лічбы перавялі на словы. Бо гэта-ж самае цяжкое. Я яшчэ папрактыкуюся. Будзе ОК.

Пасьля працы прыехалі дахаты. Узялі машыну й паехалі з Ballarine на вячэру ў Ho. Jo. на рыбу. Было добра, прыемна. Яна вельмі задаволеная — плаціла. Ёй хочацца, каб мы гэта рабілі часьцей.

**Чацьвер 27 траўня**

Прыйшла на працу раней, каб усё залагодзіць з Карэсарам, каб падрыхтавацца да «Голасу Амэрыкі».

Усё мы перагаварылі. Я зрабіла для яго ўступ. Шмат за раніцу нарабілася. Інтэрв'ю прайшло добра. Я зусім не хвалявалася. Я ўжо па-

чынаю больш і больш сабой валодаць. Перамагаю сваю нясьмеласьць ранейшую. Польская мая мова была нішто сабе. Адным словам усё прайшло добра.

На каву хадзіла з Факсам. Расказала яму пра інтэрв'ю, гаварылі пра фарму.

**Пятніца 28 траўня**

Раніцай было паседжаньне з Doares Selection Officers[1]. Нічога цікавага. Вялікая гэта трата часу. Сёньня палучка. Залагодзілі ў банку. Парадкуюся перад канікуламі. Трэба падчысьціць стол, паперы, залеглыя справы.

Напісала ў Staff News[2] пра «Голас Амэрыкі». Яны зацікавіліся. Хочуць напісаць трохі больш пра гэта.

Усё спарадкавала.

---

[1] *У кожным аддзеле былі спэцыялісты з розных галінаў. У іх абавязкі ўваходзіла сачыць за публікацыямі ў сваёй галіне — нічога не празяваць. Але ім трэба было й пільнаваць бюджэт. Пэрыядычна зьбіраліся паседжаньні з кіраўнікамі ўсяго бібліятэчнага бюджэту, што выдаваўся на кнігі. Бібліятэкары звычайна ставіліся крытычна да «ўсіх адміністратараў» і падбіралі калекцыі так, як лічылі патрэбным. Таму бывалі канфлікты.*

[2] *Тыднёвы бібліятэчны бюлетэнь, дзе падавалася інфармацыя пра тое, што робіцца ў бібліятэцы. Гэтым разам Зора дала кароткі зьмест таго, аб чым гаварыла «Голасу Амэрыкі».*

**Субота 29 траўня**

Паехалі раніцай, купілі В[*ітаўту*] піджак і гальштук. Добра купілі: ён задаволены, што нядорага; я задаволеная, што будзе мець нешта прылічнае адзець, як паедзе да Алесі.

[redacted] зрабіла валасы. Паехала ў магазын купіць нешта сабе. Купіла даволі добрую сукенку і нядорага. У міжчасьсі званіў Юрачка. Я так шкадавала, што не пагаварыла зь ім. І ён шкадаваў, што мяне не застаў. Так ужо мы ад яго ня мелі весткі. У яго ўсё добра. Ён пазвоніць у Вашынгтон на Алесін выпуск.

Заехала яшчэ, назад едучы ў магазын, купіла прадуктаў.

Вечарам паехалі з Ballarine у рэстаран. Спаткаліся каля рэстарану, каб пасьля ні да яе, ні да нас не заязджаць. Добра правялі час, але гэта нам ужо пачынае дакучаць. А яна хоча [*хадзіць з намі ў рэстараны*].

**Нядзеля 30 траўня, Вітаўтаў Дзень Нар.**

Раніцай пасьнедалі. Мелі торцік. Добра правялі дзень. Пазванілі Алесі, што заўтра прыедзем каля 10-ай, што Юра можа званіць. У яе ўсё добра.

Пасьля падрыхтаваліся да паездкі. Ня позна пайшлі спаць.

**Панядзелак 31 траўня**

Ранічкай выехалі. Ехалася добра. Сталі на сьнеданьне яшчэ ў N[*ew*]

J[*ersey*]. Шкадавалі, бо было й дорага й марудна. Не атрымалі ніякай прыемнасьці.

Прыехалі ў час. Яшчэ трохі адпачылі ў Алесі. У яе прыемна ў хаце. У спальні халадзільнік. На двары ў іх штосьць страшнае сёньня — горача. Сабраліся. Пазваніў Юра. Пагаварылі зь ім. Ён прывітаў Алеську. Праз Карэн заказаў ёй вялікі, прыгожы кошык з фруктамі. Пэрлы Алесі вельмі спадабаліся. Добры й чамадан. З чамаданам быў канфуз — не маглі адчыніць, але нарэшце знайшлі — «ларчык проста адчыняўся».

Паехалі на выпуск. У машыне горача — халадзільнік не працуе. Там горача — на адкрытым пляцы. Як заўсёды — трохі канфузу, трохі нэрваў, трохі сваркі: фільм ня выходзіць, Алесю не адразу заўважыла, ня ведаю, што лепш — ці фільм ці апарат — усё балтаецца пад рукамі. Горача. Але нарэшце ўсё супакоілася. Зрабіла й фільм, і здымкі[1]. Знайшлі Алесю. Пасьля афіцыйнай часткі быў яшчэ вельмі прыемны пачастунак — шампанскае, фрукты, зяляніна, сыры, паштэт. Усё вельмі прыгожа зроблена, шыкарна, смачна. Пасьля ўсяго гэтага і не хацелася больш есьці, але ўсё-ж у рэстаран заехалі — перакусілі. Зайшлі яшчэ да Алесі, трохі адпачылі. Алеся яшчэ напісала для В[*ітаўта*] невялічкі ліст, каб пасляць да галоўнага фэдэральнага судзьдзі наконта ўсёй гэтай Лофтусавай справы.

Выбраліся й паехалі. Ехалі добра. Было яшчэ трохі горача. Але ўжо як пераехалі [*штат*] Дэлавар, дык адразу пахаладала. А дома, як прыехалі, то было й зусім прахладна. Добра правялі дзень. Маем ужо аднаго скончанага. Маем свайго адваката. Хоць практычна ад яе, мусіць, ніякай легальнай дапамогі мець ня будзем. Хіба толькі парады. Маладзец дачушка.

[1] *На плошчы каля ўнівэрсытэту. Поўная назва ўнівэрсытэту: Джорджтаўнскі ўнівэрсытэт — Юрыдычны факультэт.*

**Аўторак 1 чэрвеня**

Сёньня ў мяне першы дзень канікулаў. Парадкавалася трохі. Схадзіла заказала Юру білет у нашай мясцовай падарожнай кампаніі. Добра, хутка й ня дорага. Так дзень і прайшоў у драбязговых справах.

**Серада 2 чэрвеня**

Парадкавалася ў хаце. Чакала Вітаўта. Прыгатавала яму перакуску ў дарогу, каб адразу ехаць. Але неяк усё капашыліся. В[*ітаўт*] яшчэ вывеў Рэкса. Выехалі ўжо пасьля 6-ай. Па дарозе яшчэ В. пачаў сварыцца. Я ўжо хацела на ўсё плюнуць і паехаць сама. Гэтыя капрызы беспадстаўныя пачынаюць здорава надаядаць. нашто гэта ўсё? Нашто так тузаць адно другога? Тым больш, што гэта толькі капрызы — праз хвіліну ўжо зусім другі. І праўда, паеў трохі і пачаў ужо адыходзіць.

А праз некаторы час ужо гавора, як добра, што паехалі. Такая нясталасьць вельмі выматвае. Калі мы ўжо гэта пераЖывём? Калі чалавек зраўняецца?

Даехалі добра. Пад канец дарогі ўжо й цяжкі асадак прайшоў.

На фарме ўсё добра. Спакойна. Чысьценька. Гэтыя людзі[1] пасадзілі гарод, загарадзілі яго, пакасілі траву.

---

[1] *Кватаранты.*

**Чацьвер 3 чэрвеня**

Раніцай трохі парадкаваліся. Тады паехалі да адваката. Аддалі апошнія рахункі. Цяпер ужо пойдзе ўсё ў Трэнтан. Сказала яна нам і цану: адвакату $2000, а за падаткі будзе трохі болей за $300. Ня так ужо й блага. Пасьля адваката паехалі адразу ў Атлянтык Сіты. Па дарозе мелі невялічкі аксыдэнт[1]. Нічога страшнага, толькі трохі бампэр пагнуўся сьпераду і адно сьвятло страслося. Але каб В[*італьт*] так хутка не зарэагаваў, магло-б быць вельмі дрэнна. Гэта нам мусіла паслужыць бы як папярэджаньне. Але мы паехалі далей у Казіно. Прайгралі там даволі шмат грошай, мусіць, больш за сотню. І прыемнасьці вялікай ня мелі. Доўга там ня былі. Вечар, праўда, добра адпачывалі.

---

[1] *Аварыя (accident).*

**Пятніца 4 чэрвеня**

Рана пазваніла Гэлэн. Яны мелі нешта з пошты. Заехала забрала пошту — зноў чэк SS[1]. Гэлэны муж сказаў, што ён папрасіў, каб пошту трымалі ў Egg Harbor, і ён будзе раз на тыдзень забіраць. На пошце яму пачалі рабіць цяжкасьці. Я рашыла паехаць пагаварыць — тым больш, што трэба ўсё роўна аддаць чэк.

Гэлэн казала, што ўжо й клубнікі ёсьць. Але мы не паехалі, бо ўбачылі, што ня маем часу. В[*італьт*] мае быць яшчэ сёньня а 3-яй на працы. Заехалі на пошту — а там праблемы. Ня хочуць і мне аддаваць пошту. Трэба нейкую паперку. Пабегла да адваката. Яна са мной ідзе на пошту — залагодзілі. Цяпер будуць перасылаць усё на мяне. А газэты й часопісы яны самі адмовяць. Добра, што залагодзілі адразу, а то магла-б быць вазьня.

Паехалі дахаты. Ехалася добра. Я В[*італьта*] пакінула на пачатку Orient Way[2]. Ён паехаў у N.Y. [*аўтобусам*], а я дахаты. Трохі яшчэ парадкавалася. Зьезьдзілі ў магазын па прадукты.

---

[1] *Дадатковая порцыя.*
[2] *Пры ўезьдзе ў горад.*

**Субота 5 чэрвеня**

Зрабіла валасы. Парадкаваліся дома. Нічога цікавага.

**Нядзеля 6 чэрвеня**

Дома зноў сядзім. Працуем, аддыхаем. Так і вакацыі мае прайшлі. І цяпер так будзе заўсёды. Ад дому надоўга адлучыцца няма як — сабака, М[*арыя*] В[*асільеўна*] ня зусім яшчэ здаровая. Вітаўт на рабоце заняты. Ня ведама, ці зможа ўзяць хоць пару дзён вакацыяў.

**Панядзелак 7 чэрвеня**

Першы дзень на працы. Пакуль зноў уцягнешся ў рутыну. Нічога цікавага.

**Аўторак 8 чэрвеня**

Нічога цікавага. Няма чаго пісаць. Можа, каб у гэты самы дзень запісвала, то нешта было-б. Але я заўсёды пару дзён пасьля пішу — заўсёды колькі дзён спазьнюся. А як цяпер, дык і доўга не запісвала была. Толькі па сваім маленькім календарыку ўстанаўліваю.

**Серада 9 чэрвеня**

Зноў нічога не запісала, а прыпомніць цяпер ужо нельга.

**Чацьвер 10 чэрвеня**

На рабоце нічога цікавага. Вечарам хадзіла да доктара. Ён зноў агледзеў усе мазалі, пазразаў усе зацьвярдзеласьці. Адным словам, спарадкаваў. Грошы яшчэ з іншурансу[1] ня прыслалі. В[*ітаўт*] мяне чакаў ужо.

---

[1] *Страхавой кампаніі (insurance).*

**Пятніца 11 чэрвеня**

Званіў Khotin[1]. Прасіў, каб хутчэй пераслаць абстракты. Адразу-ж выбрала часопісы й газэты. Перачытала інструкцыі. Пачала трохі рабіць. На рабоце ўсё добра.

---

[1] *Хоцін — рэдактар рэфэратыўнага часапісу славянскіх газэтаў. Новы эмігрант, яўрэй з Расеі.*

**Субота 12 чэрвеня**

Працавала. В[*ітаўт*] падвёз мяне пад бібліятэку, а сам паехаў у Крычэўскага, папрацаваць там з архівам — пашукаць яшчэ матар'ялаў пра К[*упалу*]-К[*оласа*]. Трэба ўжо [*манускрыпт бібліяграфіі*] выканчваць ды скарэй аддаваць у друк.

Добра працавалася. Трохі рабіла абстрактаў [*для Хоціна*], але да панядзелка, як паабяцала, мусіць, ня скончу. В. спаткаў мяне каля бібліятэкі. Ён шмат чаго знайшоў. Добра скарыстаў дзень.

**Нядзеля 13 чэрвеня**

Запрасілі Ballarine да сябе на сьнеданьне-абед. Добра было, але яна цэлы дзень прасядзела. Літаральна цэлы дзень. Ужо нам так карцела, каб хутчэй пайшла. Зь ёй цяпер вельмі цяжка.

**Панядзелак 14 чэрвеня**

Рабіла амаль цэлы дзень абстракты. Зрабіла ўсе «Запісы» No 16. Два артыкулы з апошняга нумару «Думкі» і два артыкулы з «Беларуса». Добрыя выходзяць. Нават ня буду даваць Ballarine пераглядаць. Яны самі трохі падправяць, калі трэба.

**Аўторак 15 чэрвеня**

Сёньня палучка. Памянялі грошы, залагодзілі ў банку. Цяпер ужо ня трэба слаць дзецям кожны месяц. Алеся дык ужо зусім на сваім хлебе, а Юра цэлае лета будзе дома. Ужо яму не пасылалі. Будзе трохі лягчэй.

Рабіла абстракты. Пачала ўжо перадрукоўваць. Вечарам дома скончыла.

**Серада 16 чэрвеня**

Зрабіла копіі з абстрактаў і пераслала Khotin'у [*ў Каліфорнію*]. Напісала яму ліст, што часопісы й газэты перашлю пазьней.

**Чацьвер 17 чэрвеня**

Была дэлегацыя ў Слав. Аддзеле людзей, што ўдзельнічаюць у сэмінары аб Славянскім Тэатры. Карэсар іх прывітаў, сказаў пару словаў пра аддзел і перадаў іх мне і Наташы[1]. Наташа зрабіла выстаўку. Я ім расказала пра практычны аспэкт аддзелу. Усё было вельмі добра. Паказалі ім і стакі[2], і агульную чытальню.

Вечарам правярала каталёг, каб сакратарка папраівіла.

---

[1] *Калега-бібліятэкар.*

[2] *Кнігасховішча (stacks).*

**Пятніца 18 чэрвеня**

Скончыла правяраць каталёг і аддала ёй. Яна нейкая капрызная, але робіць добра. Як скончыць, тады будзем рассылаць.

Вітаўт цяпер займаецца рассылкай Салаўёвай кнігі[1]. Вялікая гэта праца.

---

[1] *На кнігу было па-над сотню падпісчыкаў і заказчыкаў. А дойдуць яшчэ бібліятэкі ды дасылка ў Усходнюю Эўропу і ў БССР, куды ідзе штук 50.*

**Субота 19 чэрвеня**

Зрабіла валасы.

Паехалі да Запруднікаў у госьці. Трохі па дарозе паблудзілі. В[*ітаўт*] ужо пачаў псіхаваць. Але добра ўсё скончылася. Прыехалі. Там было даволі прыемна. Былі Русакі й Норыкі. Добра правялі час. Напачатку В. трохі быў навесяле, але хутка прайшло. Галіна трохі таксама падпіла. Гаварыла глупства. За сталом зь В. спрачалася. Але пад канец дня ўсе трохі паспакайнелі. Усе разьехаліся, а мы яшчэ трохі пасядзелі. В. нешта там з Запруднікам пераглядаў, а я з Оляй

пагаварыла. Яна трохі лепш цяпер чуецца. Толькі ўсё ня можа пагадзіцца з Ніпіным замужжам[1].

Дахаты ехалі добра. Толькі ўжо мне ў дарозе стаў балець жывот. В[*ітаўту*] пачаў балець трохі пазьней. Так мы абодва цэлую ноч прамучыліся. Мусіць, была ў нечым сьвіньніна. Бо так балела, як нам ад сьвіньніны бывае. Ну й намучыліся.

[1] *Хацела, каб шлюб быў царкоўны.*

**Нядзеля 20 чэрвеня**

Раніцай усё яшчэ было слабавата. Але рашылі на фарму ўсё роўна ехаць. І добра зрабілі, бо было гэтым разам так прыемна, так памысна.

Выехалі ня позна. Заехалі па дарозе купілі сабе што паесьці. Там усё добра. Усё ў парадачку. Маліна, вішні. Дзень быў цудоўны. Набрала я малінаў. Сабралі вішняў і заклалі ў бутлі на настойку.

Званіла Алеся, прывітала Вітаўта з днём бацькі. Тады пазваніў і Юра. Ён прыязджае заўтра дахаты, а не ў сераду, як раней меркавалі. У яго ўсё добра, здаў экзамэны. Была магчымасьць прыехаць раней, дык выкарыстаў. Добра, што нас знайшоў.

Я зварыла тры баначкі малінаў. Вечарам зьезьдзілі па марожанае. Так добра нам тут.

**Панядзелак 21 чэрвеня**

Сёньня гэта мой вольны дзень за мінулую суботу, што працавала. З раніцы зьезьдзілі па ягады. Ноччу быў дождж, дык мы ўжо баяліся, што ягады будуць дрэнныя. Але было добра. Ягады сёлета вельмі добрыя. Набралі тры банкі. Будзе Юры на пару дзён.

Прыехалі дахаты. Я яшчэ сабрала трохі маліны. Памыліся, трохі адпачылі і пачалі кіравацца дахаты. Па дарозе заехалі да Нядзьвігаў. Там трохі пасядзелі. Пачаставалі яны нас шчаўем. Панадавалі ўсяго. І паехалі мы далей. Даехалі добра, хоць гэтая дарога й значна даўжэйшая.

Яшчэ трохі адпачылі.

А 10-ай паехалі спатыкаць Юрачку. Добра ўсё было. Добра прыехаў. Толькі такі-ж ён худы, такі нейкі шэры. Я прывыкла яго бачыць здаровым, румяным. Ну але тут мы яго хутка вернем назад да ладу. Расказваў нам пра Мэксыку, пра школу. Рады быць дома. Дакучыла яму трохі ўжо там. Асабліва, што апошнім часам мелі клопат з кватэрай.

Накінуўся дома на ягады, гарбуз. Але апэтыт у яго нейкі меншы. Я дык ужо была й спужалася, ці ня хворы. Доўга яшчэ сядзелі, гаварылі. Добра, заўтра едзем на працу пазьней.

**Аўторак 22 чэрвеня**

Раніцай яшчэ зь Юрачкам гаварылі. На работу паехалі машынай. Ён будзе дома парадкавацца. Рэчы яго, што прывёз, усе трэба пе-

рамыць.Усе яны нясьвежыя, зьляжаныя. Кажа, што зашмат набраў рэчаў. Палавіну нават ніколі не адзяваў.

На працы ўсё добра. Вечарам з машынай даехалі ў мамэнт. Яшчэ сядзелі, гаварылі.

**Серада 23 чэрвеня**

На рабоце ўсё добра. Юрачка дома, таксама добра. Адпачывае, прыглядаецца на працу, гаспадарыць. Заўсёды ўжо нас чакае зь вячэрай. Маладзец ён.

Вечарам пазванілі Алесі. Яна, мусіць, прыедзе на гэты вікенд дахаты. Пагаварылі яны зь Юрам.

**Чацьвер 24 чэрвеня**

Паслала Хоціну часопісы й газэту.

Сёньня добра на рабоце. Нікога амаль няма. Добра працуецца. Рабіла каталягізацыю, каб хоць трохі статыстыку падагнаць.

Вечарам працавала над [*бібліяграфіяй*] К.-К. Дзень вельмі памысны быў.

**Пятніца 25 чэрвеня**

Званіла Алеся ранічкай. Сёньня вечарам прыедзе.

На рабоце ўсё добра. Каталягавала. Вечарам паехалі зь Юрам спатыкаць Алесю. Самалёт быў позна. Але ўсё добра. Спаткалі. Прыехалі дахаты. Я была падрыхтавала ўсё, каб паглядзець фільм з дзіцячых выпускаў[1]. Паглядзелі яшчэ. Бо хто ведае, калі ўсе разам так вечар будзем мець разам, вольны. Фільмы добрыя.

---

[1] *Здымалі выпускныя цырымоніі.*

**Субота 26 чэрвеня**

Пасьнедалі. Зрабіла валасы.

Паехалі з Алесяй па пакупкі. Цэлы дзень прахадзілі. Купілі даволі добра. І Алеся сабе аж тры рэчы. І [redacted] сабе сукенку вельмі прыемную і не дарагую. Пад канец ужо пакупкаў заўважылі, што багажнік дрэнна адкрываецца, але не зьвярнулі на гэта ўвагі шмат.

Прыехалі дахаты і ня можам адкрыць багажнік зусім. Тузаліся, тузаліся ўсе. Нарэшце я завезла машыну да гаража. Ён папоркаў — нічога. Тады мусіў узламаць замок. Неяк прымацавалі багажнік, што можна зачыніць і неяк адвёрткай адкрыць. У панядзелак паставіць новы замок. Вось і прыгоды.

Вечарам Ю[*ра*] і Алеся паехалі ў кіно. Я працавала з К.-К. Вітаўт нешта сваё робіць. Зноў пачаў працаваць над Беларусамі ў Амэрыцы. Ды яшчэ ўсё з Салаўём возіцца — уся рассылка цяпер на ім.

Дзеці прыйшлі ня позна.

**Нядзеля 27 чэрвеня**

В[*ітаўт*] паехаў пасьля сьнеданьня ў [*фундацыю*] Крычэўска-

га. Яшчэ нешта меў пераглядзець. Абяцаў доўга ня быць, бо Алеся, можа, захоча мець пазьней машыну.

Я сядзела на двары, пісала дзёньнік, загарала. Вельмі прыемна. Прыйшоў да Алесі хлопец — кузын Надзін. Яны недзе паехалі ў N.Y. Юра пабег у басэйн. Я адна сабе тут спакойненька. Неўзабаве прыехаў і Вітаўт. Ён добра папрацаваў, але сьпяшаўся, каб хутчэй машыну дахаты даставіць. Мы трохі перакусілі. І я зноў сядзела адпачывала.

Алеся прыехала ня позна, яле яшчэ трохі з хлопцам сядзела. Я пайшла спаць рана — неяк была стомленая. Але як той хлопец пайшоў, дык яшчэ трохі пагаварылі.

**Панядзелак 28 чэрвеня**

Алеся раніцай паехала назад у Вашынгтон. Юра яе павёз на аэрадром. Добра справіліся. На рабоце К[*арэсара*] няма. Я раблю каталягізацыю. Добра працуецца. Усё спакойна.

Вечарам павячэралі разам, і Юра недзе паехаў па свае рэчы. Прыйшоў разам з нейкім хлопцам. Трохі пасядзелі ў нас і паехалі да яго. Там трохі пабыў. Прыехаў, сьмяўся, што бацька гэтага хлапца — індус — яшчэ больш цікаўны, як тата. Пытаўся ў яго, хто бацькі, ці ён жыд, якая ў нас хата? Нават Вітаўт так ужо просталінейна ня будзе дапытвацца. Яшчэ трохі пагаварылі. Юрачка цяпер стараецца позна не хадзіць

**Аўторак 29 чэрвеня**

На рабоце ўсё добра. Раблю каталагізацыю. У абед парадкавала дзёньнік. Але доўга ня можаш рабіць. Мне цяпер каб падагнаць — трэба колькі спакойных гадзін.

**Серада 30 чэрвеня**

На рабоце О.К. За гэтых колькі дзён зрабіла каля 30-ёх кніжак. Трохі й Наташа падмагла.

Вечарам пайшлі з Ballarine на вячэру. Яна спаткала нас у Secaucus. Пайшлі ў [*рэстаран*] Ho. Jo. на рыбу. Я ўзяла нейкую дрэнь. Так пазьней балеў жывот. Наогул мне гэтая рыба тлустая зусім не даспадобы. Ды й кампанія. Ball. таксама ўжо пачынае цягаціць. Павячэралі, падвезла яна нас пад хату.

Вечар яшчэ трохі адпачылі. Юрачка недзе на плавальных курсах[1]. Прыйшоў ня позна. Трохі яшчэ пасядзелі. Заўтра ён пойдзе ў шпіталь. Успомнілі вечарам, што трэба памыць белы халат. Памыла. Павесіла на двор. Можа высахне.

---

[1] *Каб быць ратаўніком, штогод трэба здаваць новыя экзамэны: нешта новае рабіць у вадзе. Пакуль Юра быў у Мэксыцы, адарваўся ад «тэхналёгіі» і таму мусіў даганяць.*

**Чацьвер 1 ліпеня, Мой дзень народзінаў**

Юра пайшоў першы раз у Paterson у шпіталь на практыку.

На рабоце мне наладзілі вельмі прыемную неспадзеўку: торцік,

кветкі, падарункі. Так было міла, прыемна. Такія яны ўважлівыя ўсе. Сёньня бібліятэка адкрытая для публікі[1], але мы ўсё роўна мелі вельмі прыемную «party».

Прыходзіў Косьцік[2] з жонкай. Яны тут на вакацыях. Пагаварылі зь імі. Дамовіліся спаткацца заўтра на абед.

Дзень добра прайшоў.

Вечарам схадзілі ўсе разам у рэстаран. Таксама было прыемна.

Распакавала я падаруначкі: грошы ад Вітаўта і ад М. В., візытныя карткі — ад Юры. Пастараўся, заказаў — з беларускім арнамэнтам. Такі ён старанны.

Вечарам пазваніла Алеся — прывітала. Адным словам мой дзень народзінаў прайшоў вельмі ўдала.

---

[1] *У летнія месяцы часам бібліятэка зачынялася на дзень сярод тыдня.*
[2] *Вайцяхоўскі, наш сябра зь нямецкіх часоў.*

**Пятніца 2 ліпеня**

Яшчэ была прыемная неспадзеўка — кветкі ад Алесі. Яна пераслала на бібліятэку, бо я ад яе не атрымала яшчэ карткі павіншавальнай. Яна мусіць гэтым вельмі заклапацілася.

Хадзілі на абед з Вайцяхоўскімі. Добра правялі час — пагаварылі, успаміналі старыя часы. Яны добра маюцца. Едуць у Эўропу зь Нью Ёрку.

Прыйшлі з работы і пачалі зь Юрам зьбірацца на фарму. Па дарозе яшчэ заехалі ў Кліфтон, у кіно — Юра думаў там знайсьці працу. На пачаканьні зьелі гамбургэр у White Castle[1]. З працай нічога ня выйшла. Паехалі на фарму парквэям. Ехалася добра. Яшчэ пасьпелі заехаць і ў магазын, купілі прадуктаў на заўтра на сьнеданьне.

У хаце ўсё добра, толькі нейкі прыкры запах у карыдоры. Заўтра паглядзім.

---

[1] *Самая старая фірма гамбургераў — з 1922 году.*

**Субота 3 ліпеня**

Знайшлі дохлую мышку. Выглядае, што мышы разьвяліся.

Зьезьдзілі па ягады. Добра было зьбіраць. Гаварылі. Мы зь Юрам добра сябе адчуваем.

Паехалі ў Atlantic City. Па дарозе заехалі яшчэ ў Lennox[1]. Нічога ня купілі — усё вельмі дарагое.

У А. С. запаркавалі на гарадзкім паркінгу і пайшлі ў Казіна. Прайгралі трохі грошай. Спачатку я была трохі выйграла, але пасьлей усё прайгралі. Вярнуліся з няпрыемным настроем. Мусіць гэтыя гульні трэба спыніць — нічога, толькі незадаваленьне сабой пазьней.

Паехалі дахаты. Добра даехалі. У хаце ўсё добра.

---

[1] *Старая амэрыканская фірма парцалянавых і шкляных вырабаў.*

**Нядзеля 4 ліпеня**

Пасьнедалі ўсе разам. Я трохі парадкавалася. Мыла бялізну. Добрая пагода. Зрабілі сабе пікнік пад вечар. Прыемна спакойненька пасядзелі. Я яшчэ трохі пасядзела на двары. Юра паехаў з сябрамі паглядзець на фэйервэркі[1].

[1] *4 ліпеня — Дзень Незалежнасьці ЗША.*

**Панядзелак 5 ліпеня**

Пасьнедалі разам. Я паехала недзе пашукаць зрабіць сабе валасы — усё зачынена. Прыйдзецца самой рабіць.

Зноў памыла бялізну. Так шмат назьбіралася і Юравай, і нашай. Пазьней зьезьдзілі зь Юрам у магазын. Нічога ня купіла, нейкую дробязь толькі.

Узялі Pizza. Павячэралі. Я памыла валасы. Накруціла. Так даўгі weekend і прайшоў.

**Аўторак 6 ліпеня**

Карэсара няма. Я з раніцы схадзіла ў Fina — купіла Наташы падарунак — вазачку Lennox для архідэяў. Купіла й архідэю. Наладзілі дзень народзінаў для Наташы. Яна атрымала таксама шмат падарункаў — была задаволеная.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Гаварылі пра Сустрэчу[1]. Ён званіў Русакам. Залагодзілі ўсё, каб рабіць у Holiday Inn. Трэба зьвязацца з «Віхром»[2], каб яны ігралі.

[1] *Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*
[2] *Музычны ансамбаль: 2-4 асобы.*

**Серада 7 ліпеня**

Карэсара няма. Званіў Khotin — атрымаў мае абстракты. Вельмі задаволены. Пойдуць усе — кажа, што вельмі цікавыя. Прасіў рабіць для наступнага нумару.

На рабоце ўсё добра. У хаце таксама добра. Юра працуе. Задаволены. Шукае сабе толькі нейкай платнай працы. Цяжка знайсьці, але ён увесь час стараецца.

**Чацьвер 8 ліпеня**

Званілі з Вашынгтону, каб падалі 3 прозьвішчы для ўрачыстасьці падпісаньня Тыдня Паняволеных Народаў у Белым Доме ў Rose Garden.

Пабегла да Вітаўта — ён яшчэ заняты быў як звольніўся — сталі званіць у Вашынгтон. Падалі сябе і, думалі, Мельяновіча, але яны сказалі, што М. ня можа быць (ужо яго пыталіся). Дык далі Алесю. Добра будзе, калі ўсе разам пойдзем. Гэта прыемная нагода паехаць нам у Вашынгтон.

Сёньня вельмі горача ў Нью Ёрку. Дома яшчэ трохі лепей, але ўжо круцёлкі[1] мусілі працаваць кругом.

І трэба-ж, сапсуліся дзьве. Спачатку адна з навейшых, а ноччу нашая добрая старая (што яшчэ была М. В.). Трэба купляць новыя.

[1] Вэнтылятары.

**Пятніца 9 ліпеня**

Сёньня мой апошні дзень перад вакацыямі. Парадкавалася. Закончвала канцы. Шмат працы. Горача, але ТНІ яшчэ няма. На адыход N.Z.[1] падаравала мне кніжку пра вітаміны (я ў яе неяк пазычала чытаць). Якая-ж яна цудоўная жанчына!

Юра паехаў у Boston да Саадыі[2]. Мы званілі Алесе, расказаць пра Белы Дом. Яна можа й падыйдзе. Гэта-ж толькі на якую гадзінку. Шмат працуе, рыхтуецца да экзамэнаў «Bar»[3].

[1] *Наташа Зэльцэр, калега.*
[2] *Юрава сяброўка, студэнтка-мэдычка.*
[3] *Экзамэн на прыняцьцё ў калегію адвакатаў.*

**Субота 10 ліпеня**

Раненька зрабіла прычоску. Выпілі кавы ды паехалі ў Action Park[1]. Steven Richer запрасіў нас і яшчэ шмат этнічных лідэраў, каб агледзець парк, магчымасьці для фэстываляў. Мы прыехалі самыя першыя (як і можна было спадзявацца). Хутка прыйшоў Steven [*Рычэр*]. Пагаварылі трохі. Пачалі зьбірацца людзі. Паехалі аглядаць парк спачатку. Было вельмі горача. Парк прыгожы, шмат цікавых атракцыёнаў, асабліва вадзяныя. Як скончылі агляд, спаткалі мы й Русакоў — Галіну й Нату. Пайшлі зь імі пад палатку. Пагаварылі трохі. Мы з Натай пагулялі ў электронныя гульні. Я першы раз іграла. Даволі цікава.

Пад палаткай (там, дзе й фэстывалі адбываюцца) мелі абед і невялічкі канцэрт ды пару прамоваў. Адміністрацыя парку стараецца прыцягнуць больш людзей. Добра правялі час. Былі там і Новакі. На вялікі жаль, яны нам на Сустрэчу ня могуць граць — занятыя ўжо. Гэта было трохі прыкрая навіна.

Хутка й разьехаліся. Па дарозе яшчэ сталі зь В[*ітаўтам*] на марожанае. Дзень правялі прыемна.

Купілі ў Bradley круцёлку. Добрая выглядае й нядорага.

Вечарам яшчэ трохі пасядзела на двары.

[1] *Парк на поўначы штату Нью Джэрзі. Камэрцыйны, прыватны — сотні атракцыёнаў, карусэляў. Стывэн уставіў і нацыянальныя танцы — там выступала наша моладзь.*

**Нядзеля 11 ліпеня**

Парадкавалася трохі. Сядзела на двары, загарала. Пісала дзёньнік. Добры дзень. Прыехаў Юра даволі позна. Усё ў яго добра.

**Панядзелак 12 ліпеня**

Зраньня парадкавалася. Пазваніла да доктара для М. В. Залеўскай няма — накіравалі да Манскопфа. Добра, што ён быў свабодны. Па абедзе схадзілі да яго. У М. В. усё добра ідзе. Параіў ёй толькі браць асьпірын. Так цэлы дзень і прасоўгаліся. Купіла яды для Юры і В[*ітаўта*]. Спаткала Юру.

Званілі Русакі — запрасілі да сябе ў суботу.

**Аўторак 13 ліпеня**

Завезла Юру на работу. Купіла яшчэ на рынку фруктаў для іх. Вялізарны гарбуз, вішні. Уносіла ў хату гарбуз і... разьбіўся. Неяк уставілі ў М. В. халадзільнік. Я вельмі расстроілася.

Пазванілі, што прыедуць пачыняць ваду[1]. [redacted] ўжо была гатовая заставацца, каб толькі хутчэй гэта было зроблена, але ён вырашыў, што сёньня яшчэ яму будзе не зусім зручна. Могуць прыехаць альбо ў сераду, альбо ў чацьвер. Званю да В[*ітаўта*] — яго яшчэ няма на працы. Званю зноў — паплакала яму пра гарбуз, расказала пра пламбэрку. Вырашылі, што ў чацьвер В. возьме [*вольны*] дзень. Падбадзёрыў ён мяне трохі. Пазваніла да пачыншчыка ізноў. Дамовіліся на чацьвер. Дай Божа, каб усё было добра.

Сабраліся нарэшце з М. В. і выехалі. Горача. На дарозе была затрымка. Халадзільная сыстэма ў машыне слаба працавала. Стаміліся трохі. Угрэліся. Але прыехалі неяк. Трохі адпачылі. Зьезьдзілі па прадукты. Гэлэн была прынесла маленькія пасудзінкі для чайных мяшочкаў, што некалі абяцала. Пазваніла да яе, падзякавала. Яна прыедзе пагаварыць.

На двары расьцьвілі гладзіолізы, што [redacted] пасадзіла пасьля маміных пахавінаў. Так прыемна, што прадаўжаецца яшчэ маміна гаспадарка. На двары, праўда, крыху зарасло ўжо. Зьезьдзіла трохі сабрала ягадаў, каб нам было есьці.

---

[1] *Хатнія праблемы з вадой — старыя трубы, трэба мяняць, усё вельмі дорага!*

**Серада 14 ліпеня**

Зьезьдзіла рана ў ягады. Добра сабрала. Але горача даволі было.

Памылася, сабраліся й паехалі да Нядзьвігаў. Пасядзелі ў іх пару гадзінак. Далі нам рыбы, яйкаў. Назад едучы, купіла яшчэ па дарозе памідораў і персікаў для Юры. Добра правялі дзень. Вечарам адпачывалі. Прыходзіла Гэлэн. Трохі пагаварылі. Пазваніў В[*ітаўт*]. Зь Белым Домам выходзіць няўвязка. Васіль захацеў ехаць. В. сказаў яму, хай выкрасьляць Алесю — а яны выкрасьлілі нас абедзьвюх. В. трохі расстроіўся. Разачаравалася і я. Але ўсё-ж у Вашынгтон вырашыла ехаць. Папрацую ў бібліятэцы, пабачым Алесю.

**Чацьвер 15 ліпеня**

Зраньня сабрала зноў ягадаў.

Памылася, сабраліся й паехалі на пляж. Прыехалі ўжо пасьля 2-ой, дык ня трэба было плаціць. Пасядзелі пару гадзінак. Добра адпачылі. Я хадзіла пару разоў акунуцца. Загарала. Трохі нават загарэла — перадала. Едучы назад заехалі па гамбургэрс.

Прыехалі, а Д[*зядзя*] В[*аня*] ўжо чакае нас на двары, з кармушкамі на багажніку. Паелі, трохі пагаварылі. Як ён паехаў — [redacted] памылася, намазалася крэмам — палягчэла.

Званіў В[*ітаўт*]. Ён меў праблемы з вадой — паламалася галоўная плёмба, пацякла вада, выклікалі вадаправодчыкаў. Але ўсё зрабілі, усё паправілі.

З Белым Домам нічога, мусіць, ня будзе, але [redacted] ўсё роўна еду. У хаце ўсё добра. Юра езьдзіць на працу аўтобусам.

**Пятніца 16 ліпеня**

Зноў раніцай зьезьдзіла па ягады. Сёньня ўжо да Cannons. Ягады ў іх цудоўныя — вялікія, смачныя. Там спаткала Гэлэн. Трохі гаварылі, але я ўсё больш сама была, шукала ўсё лепшых ягадаў. Горача. Спацела ўся.

Прыехаўшы дахаты, вырашыла перад тым, як мыцца, трохі папарадкаваць. Памыла кавёрчык з уборнай, памыла ў кухні падлогу. Усё мне нешта сьмярдзіць. Ага, бачылі пару мышкаў. Паставілі пастку. Адна злавілася. Пачала парадкаваць рыбу. Намучылася, пакуль нарэзала. Угрэлася, пакуль падсмажыла. Упарадкавала яшчэ й ягады, што Антаніна дала. Адным словам, зусім затузалася. Так мне дрэнна стала, што ўжо баялася, каб не самлець.

Толькі як селі ў машыну, уключыла холад — дык трохі адышла.

Яшчэ ў час усёй гэтай варкі прыехалі Тулейкі. Яны былі ў ягадах і ім сказалі, што я тут. Трохі пагаварылі, пасядзелі ды паехалі.

Мы выехалі недзе каля пятай. Даехалі добра. У хаце ўсё добра. Юра паехаў на пробу танцаў[1]. Мы зь В[*ітаўтам*] паелі трохі рыбы. Ягады карыстаюцца посьпехам. Юра прыехаў ня позна. Задаволены. Пабачыў усіх.

---

[1] *У Бруклін пад царкву.*

**Субота 17 ліпеня**

Зрабіла прычоску. Юра падвёз мяне і сам пайшоў пастрыгчыся. Меў спаткаць мяне і мы паехалі-б забраць Алесіны гадзіньнікі з пачынкі. Выйшаў, аднак, канфуз — разьмінуліся неяк. Я пайшла дахаты — яго няма. Я назад на рог — няма. Тады стала шукаць машыну. Знайшла, узяла й паехала сама ў Пасэйк, бо а 12-ай Юру ўжо трэба ехаць недзе — наконта працы. Забрала гадзіньнікі — й дахаты. Юра ўжо дома і хвалюецца — дзе машына. Але ўсё залагодзілі. Ён паехаў, а мы сталі яго чакаць (фактычна не яго, а машыны — бо трэба ехаць да Русакоў). Прыляцеў ён сьпяшаючыся — нічога не заладзіў, бо ня

было той асобы, а чакаць ня мог, бо нам машына патрэбна. Тут нам прыйшла думка, што завязём мы яго назад, а самі паедзем далей да Р[*усакоў*]. А ён ужо неяк дахаты дабярэцца.

У Русакоў было даволі прыемна. Былі Арцюхі, Норыкі, Шук[*елойць*]. Пасядзелі, пагаварылі, павячэралі добра. Пагаварылі пра Сустрэчу. Шук. меў прыгатаваны ліст[1]. Дапоўнілі, паправілі. [redacted] ўзялася перадрукаваць. Прыйшла пасьля Надзя і Шура Сямёнава. Яны старыя сяброўкі зь Лялей А[*рцюх*]. Схадзілі да Надзі. В. паглядзеў часопісы. Надзя дала нам ручнік – добры, даўгі – [*выраб Ніны*] Згірскай. Вельмі добры набытак.

Пазванілі дахаты. Бабка сказала, што Юра мусіў ужо працаваць. Пасьпяшаліся ехаць дамоў. Мне пачаў балець жывот. Спаткалі Юру на працы. Працай ён задаволены. Добра зарабіў. Вярнуліся дахаты ўжо недзе каля 2-ой. Ну й дзянёк!

---

[1] *Паведамленьне аб сустрэчы.*

**Нядзеля 18 ліпеня**

Юра з Натай паехаў на пляж. Мы трохі адпачывалі. Сабраліся для Вашынгтону. Юра пазваніў што трохі пазьней прыедзе – пайшлі яны недзе ў кіно. Хаця-б ня надта позна, каб трохі аддыхнуць.

**Панядзелак 19 ліпеня**

Выехалі ў Вашынгтон ня надта рана. Ехалася добра. Сталі раз па дарозе на каву.

В[*ітаўт*] спусьціў мяне каля L.C.[1], а сам паехаў пад Белы Дом. Дамовіліся спаткацца а 5-ай і паехаць да Алесі. Мне працавалася ня дрэнна. Зрабіла адбіткі старонкаў для Слав. Аддзелу. Для сябе нічога надта цікавага не знайшла.

У В. было ўсё вельмі добра. Перш у Белым Доме – падпісаньне дэклярацыі тыдню паняволеных народаў, пасьля – каля Капітолю. (Reagan запрасіў іх усіх на нейкае яшчэ падпісаньне – для рабленьня публікі). Каля Белага Дому быў і пачастунак. Было каля 150 асобаў. В. вельмі задаволены, што паехаў.

Спаткаліся каля бібліятэкі і паехалі да Алесі. У яе ўсё добра. У хаце прыемна, чысьценька. Яна шмат вучыцца. Паехалі ў наш заўсёдны рэстаран. Добра правялі час. Завезьлі Алесю й паехалі дахаты. Пачаўся такі хуткі лівень. Здаецца, такога яшчэ ніколі ў дарозе ня мелі. Чуць выехалі з гораду. На дарозе ўжо стала трохі лепей. А пазьней і зусім распагодзілася. Да фармы ехалі 40-ой дарогай. Надта яна дакучлівая, але самая кароткая. Там усё добра. Добра адпачылі.

---

[1] *Бібліятэка Кангрэсу.*

**Аўторак 20 ліпеня**

Раніцай зьезьдзілі па ягады. Набралі аж 3 банкі. Добра зьбіралася.

Пазваніла Гертрудзе[1] — сказала ёй, што ўжо ў верасьні здамо хату. Яна была вельмі задаволеная.

Заплаціла таксу[2]. Паехалі да Дзядзі Вані. У іх там трохі пасядзелі, паелі. Д. В. пачыніў В[*ітаўту*] гадзіньнікі. Далі яны яйкаў. [redacted] папрасіла шчаўя, што застаўся. І паехалі патрошку дахаты. Заехалі яшчэ да Ірэны, але яе ня было дома.

В. паехаў на рэспубліканскую зборку ў Hilton у Secaucus[3]. Яны ўжо рыхтуюцца да чароднай канвэнцыі — плянуюць у N.J. Добра было. Добры гатэль, добры рэстаран.

---

*[1] Суседка.*

*[2] Падатак.*

*[3] Плянавалася гадавая Канвэнцыя Нацыянальных Рэспубліканскіх Клюбаў Амэрыкі, у якой звычайна брала ўдзел каля тысячы прадстаўнікоў. Паколькі гэтым разам канвэнцыя мела адбывацца ў Нью Джэрзі, беларусы бралі вельмі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы.*

**Серада 21 ліпеня**

Завезла Юру на працу ў шпіталь, каб мець сабе машыну. Ужо й канікулы падыходзяць да канца, а я нічога для сябе не зрабіла, нічога ня купіла.

Паехала ў магазыны. Купіла сабе сукенку. Неяк самой ня цікава езьдзіць па магазынах.

Паехала па Юру. Па дарозе заехала ў Пасэйк. Купіла сабе тое-сёе.

Прыехалі дахаты і сталі чакаць В[*ітаўта*] — ён абяцаў прыехаць раней, але забавіўся. Юра ўжо хваляваўся. Завезьлі Юру на працу ў рэстаран, а самі далей да Ірэны [*Рагалевіч*]. З Ірэнай пагаварылі, аддалі ёй матар'ял для працы над жэтонамі[1]. Далі таксама ягады для яе і для Надзі. Ірэна абяцала хутка зрабіць. паехалі дахаты, толькі каб за пару хвілін зноў ехаць па Юру. Так цэлы дзень і прайшоў у машыне, у соўганьні. Так і канікулы мае праходзяць і ўжо на працу хутка.

---

*[1] Беларускія паэты — Купала — Колас — 1882-1982.*

**Чацьвер 22 ліпеня**

Апошні мой дзень канікулаў. Зноў завезла Юру, каб мець машыну дома.

Зьезьдзілі з М. В. па прадукты, тады да дэнтыста. Тады зноў па Юру.

Юра паехаў на працу. Ужо сёньня хоць ня трэба па яго ехаць.

Трохі крыўднавата, што так праляцелі вакацыі.

**Пятніца 23 ліпеня**

На работу першы дзень. Зраньня мелі канфэрэнцыю з Карэсарам. Нічога надта важнага няма — толькі рутына. Прынесла кветак

і вішняў. Кветкі — гладзіолізы — тыя, што ■ пасадзіла, як памерла мама, — якраз ужо распусьціліся на фарме.

У абед хадзіла купіць вітаміны. Начыталася за канікулы кнігі, што Наташа падаравала. Між іншага, яна зьбіраецца ў Эўропу. Прыйшла ў бібліятэку на пару гадзінаў. Я ёй падаравала слоўнічкі мініятурныя, што мела на сваім стале. Хоць нешта й ёй падараваць. Яна была задаволеная. Дзень прайшоў хутка.

Юра сёньня зноў працуе.

**Субота 24 ліпеня**

Зрабіла рана прычоску. Юра паехаў на аэрадром спаткаць Саадыю. Пасьнедалі разам. Яна нейкая нявыразная. Ня ведаю, як Юру падаюцца такія.

Прыехаў па мяне Sperling — паехалі на работу.

Працавалася ня дрэнна.

Вячэралі на двары. Юра падрыхтаваў. Саадыя зноў спазьнілася на вячэру — спала. Яны езьдзілі ў N.Y. Трохі стаміліся. Спаткалі там Юравых сяброў. Да мяне ў бібліятэку не зайшлі, як меркавалі.

Вечарам прыйшлі яшчэ й Barry і Ricky[1]. пайшлі яны ўсе разам у кіно. Доўга ня былі — добра, бо мы ўжо зусім выбіліся са сну гэтыя апошнія дні.

---

*[1] Юравы сябры са школы, потым таксама сталі дактары, сябруюць дагэтуль.*

**Нядзеля 25 ліпеня**

Зраньня парадкавалася. Памыла бялізну. Юра і Саадыя паехалі ў Great Adventure[1]. Пагода добрая. Сядзела на двары. Рабіла трохі К.-К. Пісала дзёньнік. Адпачывала. Юра прыехаў ня позна.

---

*[1] Забаўляльны парк у цэнтральным Нью Джэрзі.*

**Панядзелак 26 ліпеня**

Зноў на працу. Карэсара няма. Шмат працы, а тут яшчэ й горача. Пазванілі, што THI[1]. Трэба было зрабіць расклад — каго пакінуць, каго адправіць дахаты. Сама засталася да 4-ай. Надта было цяжка — горача.

Юра зноў працуе.

---

*[1] Temperature/Humidity Index — паказьнік тэмпэратуры/вільготнасьці, калі дасягае пэўнага ўзроўню, тэмп працы прыпыняецца. Калі абвяшчаецца, што THI дасягнуў гэтага ўзроўню, на працы застаецца 25% пэрсаналу, астатнія ідуць дахаты.*

**Аўторак 27 ліпеня**

Сёньня трохі лягчэй. Шмат працы. Нічога надта цікавага не прыпамінаю. Пазваніла Ірэна, што гатовыя жэтоны[1].

---

*[1] Гатовыя ўзоры, можна здаваць у выраб.*

**Серада 28 ліпеня**

Дождж, душна, але ня так ужо й горача — дзіўна, што зноў THI. Зноў тое самае: хто застаецца, хто ідзе дахаты. [redacted] зноў засталася да 4-ай, бо была па раскладу. Але адразу-ж пасьля 4-ай паехала дахаты. Вельмі блага ішоў аўтобус — залітая дарога. Прыехала дахаты ўжо каля 6-ай. Юра і В[*ітаўт*] чакалі мяне каля аўтобуса. В., як заўсёды, зрабіў нейкую заўвагу. Я раззлавалася. Але хутка супакоіліся. Даехалі добра да таго мейсца, дзе меўся быць PLASMA пікнік. І добра, што не раней прыехалі, бо там фактычна рабіць ня было чаго. Паелі. Пачастунак быў наладжаны добры. Чакалі, пакуль пачнецца зборка. Зборка была добрая, толькі слаба было чуваць. Гаварылі пра магчымасьці адбываць клінічныя студыі ў N.Y. і ў N.J., пра экзамэны. Адным словам, усё, што баліць і бацькам і студэнтам. Студэнтаў было мала. Пасьля зборкі да Юры падыходзілі бацькі хлапцоў, што таксама ў Tampico.

Агулам было вельмі прыемна. Назад едучы, шмат гаварылі пра Юравы пляны і магчымасьці.

**Чацьвер 29 ліпеня**

Завезьлі Юру на працу й паехалі на фарму.

Перш за ўсё заехалі ў Egg Harbor. Палажыла ў банк чэк, што прыйшоў за маміну хату. Тады едучы ўжо дадому, па дарозе заўважылі, што ў Cannon адкрытыя ягады. Мы хуценька пераадзеліся і ў ягады. Сабралі аж 4 банкі. Стаміліся, угрэліся, але набралі добра ягадаў. Трохі аддыхнулі. У хаце так добра. Усё ў парадачку. Пагода ўдалася цудоўная. Але хутка й зьбірацца дахаты трэба было.

Заехалі да Кавыля — пагаварылі пра яго зборнік. Добра перагаварылі — ён пачне ўжо рыхтаваць[1].

Заехалі да Ірэны па малюнкі для жэтонаў. Яе ня было, але яна пакінула для нас канвэрт пад палавіком. Добра выйшлі. Зрабіла некалькі варыянтаў. Прыехалі дахаты яшчэ ня так і позна. Званіў Шук[*елойць*]. Сказала яму пра жэтоны. Ён сказаў, што зборкі ня будзе ў суботу. Ну, й добра. В[*ітаўт*] хоча ў суботу пад'ехаць у Бэлэр.

Паехалі па Юру. У міжчасьсі прыехала Алеся й паехала недзе да Надзін. Юра толькі скінуў нас і паехаў недзе на «парты» са сваімі знаёмымі з плаваньня.

Я была ўжо такая стомленая. Лягла спаць. Але прыехала Алеся і сталі яшчэ гаварыць. Яна трохі расстроеная. Ня думае, што здала экзамэны. Так яна шмат і ўзбуджана, голасна [*гаварыла*]. Я зусім ужо чуць трымалася. Выбілася са сну. Так і не заснула, пакуль ня прыйшоў Юра. А Юра прыйшоў каля 4-ай. Надта-ж актыўны дзень!

---

*[1] У БІНІМе друкуецца сэрыя «Беларускія Паэты й Пісьменьнікі на Эміграцыі», дагэтуль выйшла 11 кніжак. Зборнік М. Кавыля быў № 4.*

**Пятніца 30 ліпеня**

Сяньня палучка. На працы назьбіралася шмат пошты. Я была зусім стомленая. Нічога ня клеілася. У абед прыйшла Алеся. Пайшлі купляць ёй завушніцы. Нагледзелі й заказалі дзьве пары. Як прыйдзе — яна выбера, якая найбольш пасаваць будзе. Паабедалі зь ёй, схадзілі яшчэ ў пару магазынаў, і яна паехала, а я на працу. Працавалася неяк слаба. Не магла сканцэнтравацца.

Ішлі дахаты да аўтобуса з Шук[*елойцем*]. Паказала яму малюнкі жэтонаў. Яму спадабаўся якраз ня той, што падабаецца нам. Яшчэ з пару людзьмі трэба параіцца перад тым, як заказваць. А можа, закажам і ўсе, калі яны не дарагія.

Прыйшлі дахаты — а там клопат. Прыходзілі пачыняць ваду і нешта папсулі — пацякло на столь у бабкі. В[*ітаўт*] перакрыў ваду. Расстроіліся, раззлаваліся. Алеся прыйшла позна — была недзе з Надзін. Юра працуе, яна паедзе спачатку па Аню ў N.Y., а тады па Юру на працу, а тады ўжо ў Bel Air. Ну й бурнае нашае жыцьцё! Калі мы ўжо сьцішымся.

Званіў Калоша. Яны, мусіць, з хорам ня выберуцца[1]. Зноў праблема.

Настрой дрэнны. Пайшлі спаць, як выехала Алеся. Яна нам яшчэ раіла, як гаварыць з вадаправодчыкам.

---

[1] *На Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*

**Субота 31 ліпеня**

Раніцай пазваніла [*майстру*] з вадой. Ён быў спачувальны, але нічога ў суботу ня можа зрабіць — трэба чакаць да панядзелка. Адкрылі трохі ваду — памыліся. набрала вады ў пасудзіны. Зноў закрылі.

Схадзіла зрабіць прычоску. Купіла на сьнеданьне. Пасьнедалі й рашылі паехаць на Бэлэр[1] усё роўна.

Даехалі добра. Там ужо моладзь гуляе. Бачыла трохі Алесю. Юра недзе паехаў з Натай [*Русак*]. Нікога неяк больш не спаткала, з кім пагаварыць. Пайшла села каля басэйну і пісала дзёньнік. Хутка пачаў капаць дождж. Наагул пагода ня была прыемная — хмарна, душнавата, шмат мушак дакучлівых. Сабралася з крэслам — заклала ў машыну. Спаткала наверсе Заморскіх. Сталі гаварыць зь Верай. Добра правялі час. Ужо каля 6-ай пачалі шукаць мужоў. Якраз знайшлі іх на лавачцы абодвух разам. В[*ітаўт Кіпель*] пайшоў шукаць Вітаўта Тумаша. Той меў кнігі перадаць. Заморскія паехалі, а я села ў будынку і зноў стала пісаць дзёньнік. Нічога ня было больш рабіць. Гаварыць ні з кім надта не хацелася. Ужо хочацца дахаты ехаць. Але В. яшчэ недзе бегае.

Прыехаў Юра. Яны былі аж у New Branswick — Ната езьдзіла на вясельле сяброўкі, а Юра паехаў зь ёй за кампанію.

Дзеці чуюцца добра. Я яшчэ трохі пасядзела, а тады стала шукаць

В. Ён быў у бары — прадаваў кніжкі. Я сказала, што трэба ўжо ехаць, бо пачало ўжо цямнець. Дождж, які нядаўна быў пачаўся зноў, трохі спыніўся. Ехаць будзе ня добра.

В. яшчэ, як заўсёды, знайшоў нейкую важную справу. Некага пабачыць, зь некім пагаварыць. Я пайшла ў машыну. Ён паабяцаў хутка скончыць. Я ўжо сядзела даволі доўга, аж прыходзіць Бахарыха[2]. Кажа, што В. папрасіў яе знайсьці мяне. Ён яшчэ ў іх — абгаворваюць рэспубліканскія справы. Я пайшла зь ёй. Выпілі трохі кавы. Хутка й паехалі. Дарога мокрая. Пачало ўжо цямнець. Туман. Хутка пачаўся й дождж — лівень. А гэта самая кручаная частка дарогі. Вельмі было непрыемна ехаць.

Праўда, як мінулі ўжо High Point[3], стала трохі лепей. Дождж сьціх. Пазьней сталі нешта паесьці, тады марожанага. Наагул ужо пад канец дарогі было нават няблага. Сталіліся, праўда. Прыехалі пасьля 10-ай. Трохі яшчэ пасядзелі ды пайшлі спаць. Але неяк і спалася не спакойна.

---

[1] *«Бэлэр-Менск» — беларускі летні цэнтар адпачынку, прыблізна за 100 км ад Нью Ёрку.*

[2] *Люба, жонка Міхася Бахара.*

[3] *Перавал у гарах, сутык 3 штатаў — Нью Джэрзі, Нью Ёрк і Пэнсыльванія.*

**Нядзеля 1 жніўня**

Раніцай я ўстала першая — ня спалася. Пайшла ў T.V. пакой — уключыла тэлевізыю. Яшчэ трохі паляжала. В[*ітаўт*] устаў пасьля 9-ай. Зьезьдзіў па сьнеданьне. Пасьнедалі. Я памыла бялізну (на гадзінку ўключылі ваду).

Пайшла на двор. Парабіла трохі [*бібліяграфію*] К.-К. — [*апрацавала*] рукапісныя матар'ялы, што прыслаў Надсон.

Пазваніў Юра, што прыедзе на аўтобусе ў Парамус, каб яго спаткаць. Папрасавала яму кашульку белую ды яшчэ трохі рэчаў на пачаканьні. Паехалі па Юру. Як толькі прыехалі зь ім дахаты — памыла яго сінія штаны — можа яшчэ, пакуль яму на працу, трохі падсохнуць. Павячэралі.

Штаны яшчэ макраватыя — трохі пасушыла гарачым жалязкам.

Юра паехаў. Я пайшла назад на двор — пішу дзёньнік. Перагледзела «Беларускія Думкі» (пару нумароў былі яшчэ не прагледжаныя). В. знайшоў на гаражы. Знайшоў і партрэты К.-К. В. працуе над уступам. А гэтаксама рыхтуе ліст у рэдакцыю N.Y. Times. Там зьявіўся артыкул пра Хатынь. Зноў канфуз з назовамі Катынь — Хатынь[1]. Я яму параіла ўжыць яго артыкул на гэтую тэму, што ён пісаў у «Heritage Review» пасьля візыту Ніксана ў Беларусі. Іду ўжо ў хату — робіцца сыра.

---

[1] *У амэрыканскім друку часта блыталі Хатынь — спаленую нацыстамі ў 1943 го-*

*дзе беларускую вёску — і Катынь каля Смаленску, дзе ў 1939-1941 саветы зьнішчылі каля 12 тысяч палонных польскіх вайскоўцаў. Я на гэтую тэму меў артыкул у англамоўным выданьні Heritage Review, New Brunswick, NJ.*

**Панядзелак 2 жніўня**

У бібліятэцы быў Белямук. Прыехаў на свае вакацыі — будзе ў нас. Падараваў мне нейкія завушніцы. Гэтыя нават і Алесі не падыйдуць — для праколатых вушаў.

Прыехала Алеся. Пазваніла мне на працу. Яна была згубіла ключ ад машыны — таму й ня прыехала ўчора. Сёньня рана знайшлі. Яна прыгатуе вячэру.

Павячэралі ўсе разам, а тады дзеці паразьбягаліся хто-куды. Мы сядзелі, трохі гаварылі. Белямук прывез свой артыкул — даў пачытаць.

**Аўторак 3 жніўня**

Алеся паехала. Юра яе завёз на аэрадром. Мы сёньня пазьней едзем — я працую. Адправілі Белямука. Самі пасьнедалі.

Паехалі ў N.Y. на машыне. Добра. Здала рабіць пячатку для Інстытуту, званіла даведацца пра жэтоны. Сёньня мае прыйсьці Шук[*елойць*]. Канчальна дагаворымся, які рабіць і колькі.

Шук. ня прыйшоў. Мы пайшлі на вячэру з Белямуком.

Працавалася добра. Праўда, робіцца ўсё гарачэй.

Дахаты даехалі добра.

**Серада 4 жніўня**

У абед занесла жэтоны для рабленьня. Ужо ўзяла на сябе апошнюю дэцызыю. Будзе каштаваць недзе $170 за 500 штук[1].

А 5-ай гадзіне зазванілі, што THI. Я думала пайсьці дахаты адразу-ж, але В[*ітаўт*] пазваніў, што прыйшоў Шук[*елойць*] (ён, аказваецца, нас чакаў учора на вуліцы!). Пагаварылі трохі зь ім, а тут ужо й Белямук ідзе. Пайшлі пад аўтобус разам. Пагаварылі з Шук. аб Сустрэчы. У нядзелю зробім зборку ў New Branswick.

Пайшлі [зь *Белямуком*] вячэраць у рэстаран — Candlewick[2].

Юра на працы. Я чытала вечарам Белямуковую пісаніну. Надта-ж сырая. Матар'ял падабраны. Шмат папрацаваў, але напісана вельмі невыразна. Будзе мне зноў клопат зь ім гаварыць.

---

*[1] Зора знайшла прадпрыемства, якое робіць жэтоны: на рагу 43-яй вуліцы і 5-га авэню, амаль насупраць бібліятэкі.*

*[2] Рэстаран непадалёку ад хаты.*

**Чацьвер 5 жніўня**

Горача й цяжка з самага раньня. Сёньня напэўна будзе THI. Юра зьбіраецца прыехаць у N.Y. Дамовіліся, ня позна, бо сёньня ўжо я змагу пайсьці дахаты адразу-ж, як будзе.

Юра прыехаў каля 1-ай. Я ў міжчасьсі яшчэ зрабіла адбіткі з кнігі «Советское Славяноведение» для Адамовіча — В[*ітаўт*] меўся да яго ісьці. Пайшлі мы зь Юрам да Fina[1]. Купілі падарункі — і ён на вясельле,

і я для Аліны. Хутка й спраўна. Пайшлі назад пад бібліятэку — забралі В. і машыну і — дахаты. Па дарозе яшчэ заехалі абмянялі нявыкарыстаныя білеты[2]. Хутка знайшлі мейсца, але едучы назад, пачалі трохі блудзіць. Пачаўся лівень. Ехаць было вельмі прыкра. Ды яшчэ без холаду. На двары страшэнна душна. Але справіліся добра. Юра паехаў на працу. Я паехала купіла нешта на вячэру і стала рыхтаваць. Стамілася, угрэлася! Белямук сёньня недзе ў нумізматычнай бібліятэцы. Мы яго не дачакаліся — сталі вячэраць. Праўда, хутка прыйшоў і ён. Вечарам сталі разьбіраць ягоны артыкул. Зноў, амаль не пасварыліся.

Прыйшоў Болесь[3]. Ён зьбіраецца на пэнсію — дык патрабуе дапамогі з паперамі.

---

[1] *Ювэлірная крама.*

[2] *Аўтобусная кампанія, на якой мы езьдзілі ў Нью Ёрк, зьлілася зь іншай, старыя білеты абмянялі на новыя.*

[3] *Сусед Болесь Яновіч, які рамантаваў нам сантэхніку.*

**Пятніца 6 жніўня**

Сёньня дзень нарадзінаў Аліны[1]. Прыгатавалі мы ёй прыемнае адзначэньне. І падарункі, і пачастунак.

Я пачала рабіць падрыхтоўку для выстаўкі Купалы-Коласа[2]. Парадкавалася, бо ў панядзелак прыйдзе ўжо Карэсар, а тады і [redacted] пайду на пару дзён.

Забрала пячатку — добра выйшла. В[*ітаўт*] панёс Адамовічу матар'ял, што я зрабіла. Ён там яшчэ меў перагледзець скрыпты пра К.-К. Запрудніка няма — на канікулах. Пазваніў Адамовіч. Яшчэ яму нешта трэба зрабіць. Зрабіла. Зрабіла й адбіткі адрасоў славянскіх аддзелаў пры бібліятэках, студыяў пры ўнівэрсытэтах (гэта што даў для Слав. аддзелу Сташка[3]). Нам гэта будзе вельмі добра, для рассылкі каталёгаў.

Ехала дахаты з Балярынай. В. і Белямук трохі пазьней прыехалі. Я тым часам падрыхтавала салату. Яны купілі pizza. Павячэралі. Былі даволі стомленыя ўсе — пайшлі спаць.

Прачнулася, як прыйшоў Юра. Тады доўга не магла заснуць.

---

[1] *Супрацоўніца ў Славянскім аддзеле.*

[2] *Выстаўка ў бібліятэцы, прысьвечаная 100-годзьдзю з дня нараджэньня Янкі Купалы і Якуба Коласа.*

[3] *Язэп Сташка — славак, журналіст, шмат зь ім супрацоўнічалі.*

**Субота 7 жніўня**

Белямук паехаў — ужо будзе начаваць сёньня ў New Brunswick'у.

Я схадзіла зрабіла прычоску. Юра паехаў недзе з Карэн. Купіла на сьнеданьне. Надзін прынесла Юру матар'ялы для мэдычных экзамэнаў[1]. Гэта яму будзе такая дапамога. Яна якраз там працуе. Пасьнедалі. Юра прыйшоў, нават як мы яшчэ былі за сталом.

Сабраўся ён і паехаў на вясельле. Паедзе таксама зь імі і Рыкі зь дзяўчынай.

Я мыла бялізну. На двары добра. Думаю зрабіць сёньня колькі машынаў.

Выйшла трохі пасядзець. Пішу дзёньнік. Вельмі прыемна.

---

*[1] Канспэкты й пытаньні на экзамэнах і спэцыяльныя падручнікі. Надзін — сяброўка Алесі — якраз тым летам працавала ў выдавецтве, дзе такія падручнікі выдаваліся.*

**Нядзеля 8 жніўня**

Раніцай пасьнедалі разам. Яшчэ трохі папарадкаваліся й паехалі ў Нью Брансуік на пікнік. Юра недзе сваімі сьцежкамі.

На пікніку было добра. Пагода ня дужа добрая, але хоць ня горача.

Была добрая й зборка БАЗА. Абгаварылі ўсе справы да Сустрэчы. Шмат валкавалася, ці запрасіць афіцыйна Мітрапаліта[1]. Некалькі асобаў, у тым ліку й я, лічылі, што трэба. Але бальшыня галасістая пастанавіла, што ніяк не магчыма. Прыехалі дахаты ня позна. Яшчэ трохі й адпачылі.

---

*[1] Падрыхтоўка да Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Пачынаўся канфлікт у БАПЦ: мітрапалітаў было два!*

**Панядзелак 9 жніўня**

Сёньня мелі пачацца мае канікулы, але я пайшла на работу, каб пагаварыць з Карэсарам. Нічога надта ўжо такога важнага ня было, але трохі сякія-такія праблемы трэба было падыскутаваць. Ды галоўнае, [redacted] ўжо пачала арганізоўвацца з выстаўкай Купалы й Коласа. Заказала партрэты. І... у той-жа дзень яны мне іх зрабілі, й нават занесла іх умантаваць.

Сёньня ТНІ, але [redacted] засталася і шмат чаго зрабіла для выстаўкі.

**Аўторак 10 жніўня**

Зраньня яшчэ трохі парадкавалася. Потым сабраліся й паехалі з М. В. на фарму. Ехалася добра, толькі трафік ізноў быў даволі вялікі. У хаце ўсё добра. Трохі адпачылі. Зьезьдзілі па прадукты. Узялі сабе яшчэ нешта на вячэру з «гамбургэр».

Зьезьдзіла сабрала пару баначкаў ягадаў. Купіла ў іх і памідораў. Дарагія сёлета, дый мала неяк.

**Серада 11 жніўня**

Зраньня зьезьдзіла ў ягады. Але пакуль выбралася, дык так выйшла, што зьбірала ягады ў самую гарачыню. Але было спакойна, ціха. Нікога ня было, дык я даволі добра правяла час. Зьбірала сабе памаленьку, скакала ад куста да куста. Ягад ужо мала, але сабрала дзьве банкі.

Пасьля амаль цэлы дзень правялі ў парадкаваньні. Што з сабой забраць, што пакінуць, што выкінуць.

Прыязджала Helen. Трохі пасядзела. Званіў В[*ітаўт*]. У іх усё добра.

**Чацьвер 12 жніўня**

Парадкаваліся трохі.

Паехалі да Нядзьвігаў. Пасядзелі ў іх трохі. Паабедалі. Зразумела гаварылася пра пэнсію, ейныя шэры[1], завяшчаньне. Каб было надта прыемна, альбо сардэчна — не сказала-б. Неяк казённа — трэба-ж адбыць. Далі рыбіну і яшчэ там нейкую дрэнь. Усё тыя самыя гутаркі, тыя самыя праблемы. Надакучае ўжо да іх езьдзіць. Я прывезла ёй сякія-такія маміны рэчы. Яна спыталася пра мамін ружовы халат. Наступны раз прывязу.

Канец дня трохі адпачывалі.

Зв[*аніў*] В[*ітаўт*]. Юра гуляе — вечарамі позна прыходзіць. Заўтра вечарам з працы паедзе ў Boston. Алеся званіла, што прыедзе на канец тыдня да нас.

---

[1] *Біржавыя акцыі (shares).*

**Пятніца 13 жніўня**

З раніцы паехала сабраць ягады, але ўжо на новае мейсца. Учора, як ехалі ад Нядзьвігаў, убачылі, што ёсьць яшчэ ягады на Dürer Street. Зьбіралася добра, толькі трохі горача было. Робіцца неяк парна. Добра, што распагоджваецца. Добра будзе нам з Алесяй на моры. Сяньня ўжо мы й выбіраліся-б дахаты, але цяпер з Алесяй добра правядзем час.

Па абедзе парадкаваліся. Павыкідала я шмат рэчаў.

Званіла Helen. Я ёй сказала, што выкідаю, дык яна папрасіла, што шмат чаго можна скарыстаць. Заўтра пайду і ўсё падастаю, што можна, са сьметніка.

В[*ітаўт*] вечарам завёз Юру на працу. Тады [*Вітаўт*] мае пасьля працы (недзе а 3-яй) спаткаць ды завезьці на станцыю. Тады сам дахаты — пару гадзінак паспаць, ды на працу.

**Субота 14 жніўня**

В[*ітаўт*] працуе. Юра ў Boston.

Ранічкай сабралася ўжо як на пляж. Паехала спатыкаць Алесю. Аэрадром [*у Атлянтык Сіты*] маленькі. Прыпомніліся мне нашыя падарожжы ў экзатычных краінах, на маленькіх аэрадромах, на маленькіх самалётах. Самалёт прыляцеў, дык я чуць не расьсьмяялася — маленькі, матаровы. Як пачалі людзі выходзіць, дык мусілі зьгінацца, каб празь дзьверы прайсьці. Нарэшце й Алеся выйшла. Спаткаліся. Яна яшчэ зайшла ў уборную — пераадзелася.

Пагода цудоўная. Паехалі адразу пад паркінг, дзе заўсёды паркуем. Пайшлі пад казіно.

Рашылі спачатку пасьнедаць — тады ў казіно на пару хвілінак, тады ўжо на бераг. Горача. Парасоны не ўзялі, бо дарагія — дык мазаліся, каб не спаліцца. Хадзілі ў ваду. Добра было, толькі трохі зашмат людзей на пляжы.

Пайшлі на абед, на курку. Яшчэ трохі пабылі на пляжы і ўжо, як пачало халадаць — паехалі дахаты. Узялі па дарозе катлеткі для бабкі.

Дома павячэралі. Алеся яшчэ трохі паглядзела рэчы [*посьцілкі, рушнікі*]. Што-б яна хацела мець.

Як толькі прыехалі — бабка нам сказала прыкраю навіну: што Helen брата забілі[1], а бацьку й сястру зьбілі нейкія рабаўнікі. Сталася гэта мінулай ноччу.

Я зазваніла да Helen. Яна трымаецца, але вельмі ўсхваляваная. Такая-ж прыкрая гісторыя!

Вечар прайшоў спакойна. Глядзелі T.V., пайшлі спаць ня позна. Я спарадкавала сабе пакой апошні. Алеся спала ў лівінгу.

[1] *Helen — суседка. Забойства ў горадзе Плезантвіл, за 5 км ад Атлянтык Сіты.*

**Нядзеля 15 жніўня**

Зьезьдзілі з Алесяй у ягады. Я ў пятніцу дамовілася, што прыедзем сабраць, а грошы перашлю па пошце, бо яны ўжо ў суботу афіцыйна закончылі зборку. Сабралі адну банку. Было горача, ды й ягадаў мала, ды й на мора хутчэй хочацца. Паехалі адразу на пляж. Пасядзелі, пакупаліся, пазагаралі.

Сёньня ўжо трохі ня так добра сябе адчуваем, як учора. Учора сапраўды было цудоўна, як на заказ дзянёк. Сёньня, можа таму, што ўжо трэба ад'язджаць вечарам, можа яшчэ штось, але было ня так пэрфэктна.

Схадзілі на марожанае, заскочылі яшчэ ў казына. Нічога нам не вязло. Праўда, на кірмашы, супроць казына, я выйграла нейкую зьверынку мякенькую, напіханую. І гэта ўсе нашыя выйгрышы.

Пасядзелі яшчэ трохі ды пачалі зьбірацца дахаты. Купілі яшчэ курку на вячэру. Алеся купіла цукерак на працу.

Прыехалі дахаты. Павячэралі, спакаваліся ды дахаты. Па дарозе купілі яшчэ персікаў, памідораў. Напакавалі поўную машыну фруктаў і ягадаў. Паехалі 206 дарогай. Добра ехалася. В[*ітаўт*] ужо нас чакаў галодны. Але мы, акрамя памідораў, нічога яму ня мелі. Алеся яшчэ паехала недзе да Надзін.

**Панядзелак 16 жніўня**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

Пайшлі на працу. Так неяк цяжка раскачацца. Добрыя былі гэтыя канікулы. Трохі адпачыла хоць апошнія дні.

На рабоце ўсё добра, але, як ужо казала, цяжка ўцягнуцца.

Вечарам прыехаў Юра. Там яму было добра. Хадзіў у пару шпіта-

ляў, але нічога памыснага ня выйшла — яны для сваіх вучняў пакідаюць мейсца.

**Аўторак 17 жніўня**

Пачала рыхтавацца да выстаўкі[1]. Памалу зьбіраю матар'ялы. Рыхтую тэксты для надпісаў. Раблю пляны. Шмат працы і ідзе даволі павольна.

Цяпер гэтыя дні ў мяне гэтым толькі й будуць занятыя.

---

[1] *Купалы і Коласа.*

**Серада 18 жніўня**

Важуся з выстаўкай. Марудна. Думала, што будзе больш прадукцыйна. Але-ж і штодзённая праца даходзе.

Трэба наперад заказаць і плякат, і рамку для яго, і прэсавую камунікацыю, і каб партрэты павесілі, і каб вітрыны пераставілі. Адным словам, аб усім падумаць, усё прадбачыць.

Хочацца, каб было добра і з боку навуковага й з боку мастацкага.

**Чацьвер 19 жніўня**

Што ў які дзень было зроблена для выстаўкі, цяпер ужо й устанавіць ня здолею. Колькі дзён не запісвала нічога ў дзёньнік. Але ўсё рабілася ў час, усё ішло складна.

Убачыла, што новага матар'ялу трохі будзе замала, каб зрабіць цэлую вітрыну. Нешта трэба камбінаваць.

**Пятніца 20 жніўня**

У абед хадзілі да Адамовіча, каб зазваніць да Надсона, каб прывёз рукапісы і «Жалейку». Нічога ня выйшла. Прыйдзецца чакаць, пакуль Франц[1] прыедзе з вакацыяў, тады ён наладзіць. Адамовіч паказваў лісты ад Салаўіхі, ад Надсона. Папрасіў ён для яго нешта зрабіць. Гаварылі пра Ізыдара[2]. Ён апошнім часам прыходзіць у бібліятэку й дакучае. Усё яму падай. «Таго ў вас няма — а я некалі бачыў». Адным словам — дакука.

---

[1] *Мянушка Яна Запрудніка.*

[2] *Ізыдар Плашчынскі — брат Язэпа Пушчы, зьбіраў Пушчавы творы, думаў выдаць, але так і ня выдаў.*

**Субота 21 жніўня**

Працавалі абое сёньня. Я ўсё раблю выстаўку. На дыжуры[1] была мала.

Сёньня для нас вельмі цяжкі, нэрвовы дзень. Ня выспаліся, бо Юра позна прыйшоў дахаты. Але самае галоўнае, што яны сёньня з Вагту (на прыватным самалёце — Бары ляціць) паляцелі ў Вашынгтон[2]. Я папрасіла Юру, каб адразу пазваніў, як прылятуць.

Але цэлую раніцу ад Юры ня было званка. Я была ўжо зусім расстроеная. Нарэшце пазваніў каля 2-ой, што ўсё ў парадку — прыляцелі, яго спаткае Карэн. Да Алесі пойдзе пазьней.

У мяне ўжо трохі адлягло. Але-ж яшчэ заўтра назад.

Канец дня ўжо быў спакайнейшы. Спачатку думалі, што паедзем, можа, на фарму сяньня, але былі такія стомленыя, што рашылі пачакаць да заўтра. Хоць аб адзін дзень і цяжка, але сёньня зусім няма энэргіі.

---

[1] *Сядзець за даведачным сталом.*

[2] *Юра й ягоны сябра Бары надумаліся паляцець у Вашынгтон, наняўшы прыватны самалёт. Так і зрабілі. Мы нахваляваліся. А іх, калі яны ў Вашынгтоне заляцелі ў забароненую паветраную зону, ваенныя самалёты змусілі зьнізіцца і сесьці на маленькі аэрадром у Пэнсыльваніі. Праверылі, паківалі пальцамі ім пад носам — і пусьцілі.*

**Нядзеля 22 жніўня**

Ранічкай паехалі на фарму. Дамовіліся з квартэрантамі, што яны прыедуць каля 4-ай.

Цэлы дзень парадкаваліся.

Тады В[*ітаўт*] трохі лёг адпачыць, а я папарадкавала маліну. Прыйшоў сусед — іх сын, фактычна. Пагаварылі трохі, я пайшла трохі памыцца і хутка прыйшлі Prewitts. Яшчэ сядзелі ўсе й гаварылі даволі доўга. Яны знаёмыя з суседам. Але як толькі ён пайшоў, дык сталі гаварыць пра справу. Расказалі ім усё, паказалі што — дзе. Дамовіліся аб цане $250 на месяц. Яны будуць спачатку маляваць, а тады пасьля Labor Day ужо будуць пераязджаць. На наступным тыдні аддамо ўжо ім ключы[1].

Яшчэ нам трэба раз прыехаць, каб усё спарадкаваць.

Званілі Алесі. Юра ў яе быў толькі пару хвілінак ужо позна ноччу. Яна на яго злосная. Чакала, каб пайсьці недзе разам, а ён быў цэлы дзень з Карэн і нават ня даў ёй знаць нічога. Яна ня ведае, калі й як яны вылятаюць.

Як выехалі Prewitts, мы амаль адразу-ж і паехалі дахаты. Нічога гэтым разам ня купілі. Нічога не вязём.

Прыехалі дахаты — Юра ўжо дома. Усё ў яго добра. Задаволены, што зьезьдзіў, але відаць, што яго самалёт не зацікавіў так моцна. Добра, бо гэта небясьпечны спорт.

Так і прайшоў наш вікенд — нэрвова, суетліва, занята.

---

[1] *Здалі хату кватарантам.*

**Панядзелак 23 жніўня**

Рыхтуюся да выстаўкі.

У абед хадзілі да Запрудніка. З цяжкасьцямі, але дазваніліся да Надсона. Абяцаў прывезьці штосьць. Ну, хоць гэта ўжо добра. Будзе тады лепей выглядаць, калі будзе рукапіс і Коласа[1].

Усе рукапісы Купалавыя вельмі добра ўмантавалі на мінулым тыдні.

Сёньня занесла кнігі на паправу, падклейваньне. Спадзяюся, што

трохі будзе выглядаць прыгажэй. Бо, на жаль, кнігі няўзрачныя. Я ўжо пачынаю сумнявацца, ці будзе прыгожа выглядаць выстаўка.

Юра з Натай паехалі ў New York у тэатр. Ён фактычна прыехаў у N. Y. рана. Пайшоў хадзіць па шпіталях[2]. Прыехаў зь ім і Barry зь дзяўчынай. Прыехалі мы ўсе разам на машыне. Вечарам усе пайшлі ў тэатр. Тады Юра яшчэ завёз Нату дахаты. Прыехаў позна.

---

*[1] Купалы рукапіс у нас быў.*
*[2] Шукаў працу.*

**Аўторак 24 жніўня**

Рыхтуюся да выстаўкі. Мне ўжо й пісаць надаела — «рыхтуюся да выстаўкі». Але так ёсьць. Увесь час у мяне фактычна на гэта выходзіць. Вельмі мала іншага раблю. Раніцай купіла фрукты і маленькі электронны лічыльнік.

Карэсара няма. Сёньня рашылі адзначыць дзень народзінаў G.E.[1]. Яго дзень прыпадае на 23-га, але ён ня быў на працы. Купілі яму маленькія падарункі, цукеркі, фрукты, торцік, прынесьлі кавы — і зрабілі прыемны пачастунак. [redacted] якраз мусіла быць на дыжуры, а яны добра ўсе правялі час.

---

*[1] Супрацоўнік аддзелу George Estafy (Юра Еўстаф'еў).*

**Серада 25 жніўня**

Зноў выстаўка, зноў беганіна. Цяпер ужо друкую надпісы, наклейваю іх на адмысловы чырвоны фон. Выходзіць добра.

Усё ідзе паводле раскладу, але я ўжо пачынаю хвалявацца, ці спраўлюся. Добра, што пачала заранье.

Юра недзе з Бары ў N.Y.

**Чацьвер 26 жніўня**

Сёньня няма чытачоў. Я думала, што пачну ўстаўляць вітрыны, аднак яшчэ не гатова. Вялікая маруда з надпісамі. Трэба спачатку напісаць, даць некаму праверыць, тады перадрукаваць на чорна, а ўжо толькі тады друкаваць на спэцыяльныя карткі, якіх у мяне, на жаль, ня так шмат — дык мушу быць вельмі асьцярожна зь імі. Частку зрабіла мне Паўліна[1], частку сама надрукавала на пазычанай электрычнай машынцы.

Юра зноў недзе паехаў з Бары.

---

*[1] Сакратарка.*

**Пятніца 27 жніўня**

Сёньня ўжо ўставіла дзьве вітрыны Купалы перш, а тады Коласа. Купала добра выглядае, бо ёсьць манускрыпт, але затое Коласавых ёсьць больш першых выданьняў з прыгожымі вокладкамі — дык выглядае больш калярова.

Карэсар прыйшоў і пачаў крытыкаваць — няма балансу, не такія эфэктоўныя экспанаты. Адным словам сапсуў мне настрой. І рабіў гэта пры Наташы і Аліне. Наагул гэта Аліна пачынае мне ўжо на нэрвы дзеіць са сваім падлізваньнем да яго, з перадаваньнем яму ўсяго.

Я трохі перастаўляць пачала, але пасьля рашыла, што я мушу свайго трымацца. Прыняла да ведама, што істотнае, але дэталі — гэта мая справа. Забрала па абедзе значкі. Выйшлі цудоўна. Вельмі задаволеная. Нават уставіла ў абедзьве вітрыны па значку[1].

Вечарам пазваніла Ірэне пра значкі. Падзякавала, сказала, што вельмі добра выйшлі. Перадала для яе пару тым часам праз Юру. Ён у суботу паедзе да Наты — там яны маюць маёўку моладзі.

Юра прыехаў вельмі позна. Мы ўжо хваляваліся. Ён затрымаўся на працы і ня даў нам знаць. Пазванілі аж на працу пасьля 3-яй. Ён яшчэ быў там і сказаў, што за поўгадзіны выедзе. Як прыехаў дахаты, было ўжо амаль 4-ы. Трохі мы выбіліся са сну.

---

[1] *Жэтоны.*

**Субота 28 жніўня**

Раніцай ■ схадзіла зрабіць прычоску, купіла хлеба. Сьнедаць ужо не пачыналі. Паехалі на фарму. Па дарозе выпілі каву. Купілі персікі. Прыехалі ўжо недзе па абедзе. В[*ітаўт*] трохі адпачыў, перакусілі й паехалі палавіць рыбу. Рашылі сёньня адпачываць. Купілі Алесі віна[1]. Нічога не лавілася. Паехалі дахаты і адпачывалі. Я глядзела фільм. В. нешта разглядаў кнігі.

Юра на пікніку і застаўся ў Русакоў нанач. Сабаку выводзіў Стартак і сп. Жамойда.

---

[1] *На вінаробнай фарме.*

**Нядзеля 29 жніўня**

Сяньня парадкуемся. Склалі ўсе кнігі. Шмат чаго яшчэ выкінулася. Усё ўжо прыбралі, што мелі сабе пакінуць. Засталося толькі тое, што яны могуць ужываць. А там яны ўжо вымяркуюць, што ім трэба, а што не.

Прыйшлі яны[1], перадалі ім ключы, апошнія інструкцыі, апошнія дамовы. Грошы прышлюць за пару тыдняў. Папрасіла Гэлэн пазваніць у электрыку [*каб перапісалі на іх прозьвішча*]. Тэлефон пакуль пакінем на гэтым.

Спакаваліся. Разьвіталіся з хатай. Я трохі нават прасьлязілася. Столькі ўспамінаў і добрых і ня зусім прыемных, але ўсё гэта жыцьцё — 25 нейкіх гадоў зьвязана з фармай. Шмат прайшло там хвілінак. Папа й мама любілі гэтую хату. А я яе найбольш чамусьці палюбіла ўжо пасьля сьмерці мамы. Мусіць, падсьведама, хата яшчэ была нейкім лучнікам з мамай. Колькі мы зь В[*ітаўтам*] прыемных дзён там

правялі. Вось і кончылася цэлая эпоха. Але адно суцяшэньне, што гэта не канец — ніткі не парваныя. А толькі на некаторы час будзе перапынак, хата будзе пад наглядам, каб лепш перахавалася.

Купілі яшчэ па дарозе памідоры, яблыкі. Заехалі да Нядзьвігаў. Там трохі пасядзелі, пачаставаліся. Надавала нам Антаніна зноў усяго.

Даехалі дахаты добра. В. вывеў Рэкса, трохі распакаваліся. Селі адпачываць і чакаем Юры. Ужо й 11-ая, а яго няма. Трохі й непакоіцца пачалі. Добра, вырашылі зазваніць да Русакоў. Ён там — сядзяць гуляюць у карты. Хоча застацца зноў у іх. Добра, што пазваніла, а то сядзелі чакалі-б.

---

[1] *Кватаранты.*

**Панядзелак 30 жніўня**

Ладзіла выстаўку. Хачу сёньня зрабіць як мага больш, бо заўтра мушу ўзяць дзень вольны. Гэта адзіны дзень, які выпадае ўзяць (яшчэ за суботу 21-га) перад тым, як Карэсар пойдзе на вакацыі.

Уставіла ўсе чатыры ўжо выставы. Але яшчэ ня ўсё выканчана, дык пакінула карткі «Выстаўка ў падгатове». У апошнюю хвіліну мусіла рабіць зьмены. Вырашыла, што дзьве вітрыны будуць на Купалу й дзьве на Коласа. У галоўных, як ужо і выстаўлена — першыя выданьні, рукапісы, поўныя зборы твораў. А ў другіх — біяграфічныя матар'ялы, прыгожыя выданьні, мініятурныя й пераклады. Першапачаткова я мяркавала дзьве другія зрабіць мяшана — у аднэй біяграф., прыгожыя выданьні і інш. абодвух паэтаў. А ў другой — літаратура, зьвязаная з стагодзьдзем — таксама абодвух. Аднак для гэтай апошняй не сабралася дастаткова матар'ялу.

**Аўторак 31 жніўня**

Засталася дома.

Завезла зраньня Юру ў шпіталь[1]. Паехала дахаты, памыла бялізну. Тады зноў па Юру. Зьезьдзілі зь ім у магазын. Купілі яму патрэбныя рэчы — штаны, куртку.

Купілі прадуктаў. Прыехалі, і хутка ўжо трэба было рыхтаваць вячэру. В[*ітаўт*] прыйшоў ня позна. Павячэралі. І тады ўжо трохі адпачылі. Нават Юра нікуды не паехаў — сядзеў дома.

---

[1] *На працу.*

**Серада 1 верасьня**

Карэсар за пару дзён ідзе на канікулы. Дык пачалі ўжо гутарку сёньня. Шмат назьбіралася справаў — гадавая справаздача, Souchek, pages[1].

Прыйшоў а. Надсон і прынёс «Жалейку» і рукапіс Коласа. Зноў мусіла зрабіць новыя надпісы. Надсону выстаўка спадабалася, хоць яшчэ й ня выканчаная. Ён папрацаваў трохі ў бібліятэцы. Схадзілі на

абед. Гаварылі пра бібліятэкі і іхную і нашую. Дамовіліся, што ён прыедзе да нас у суботу пасьля спатканьня, каб паглядзець бібліяграфію [*Купалы і Коласа*].

Юра на працу паехаў — сёньня і ў пятніцу ў яго ўжо апошнія дні. Прыехаў дахаты ня так ужо й позна.

---

[1] *Трэба было ўпарадкаваць з пэрсаналам, які аплочваўся пагадзінна.*

**Чацьвер 2 верасьня**

Юра прыехаў з намі ў Нью Ёрк — фактычна мы зь ім прыехалі, бо ён ехаў, каб выкарыстаць тэлефон і пазваніць у ньюёркскія шпіталі.

Я яшчэ мела з Карэсарам гутарку — ён па абедзе ўжо адыходзіць. Пазванілі з U[*nited*] N[*ations*] місыі беларускай наконта выстаўкі. Абяцалі прынесьці кніжкі на выстаўку. Распытвалі, хто выстаўку арганізоўвае (ім, зразумела, хадзіла знаць, ці эмігранцкія бел. арганізацыі гэта робяць).

Я цэлы канец дня вазілася з выстаўкай. Плянавала сёньня ўсё скончыць, але яшчэ колькі нявыканчаных канцоў засталося. Заўтра перад 10-ай мушу скончыць — бо гэта ўжо афіцыйна дзень адкрыцьця выстаўкі.

Юра паехаў дахаты і будзе рабіць вячэру — маюць прыехаць Калошы[1]. Чакалі іх даволі доўга. Усё было гатовае, мы галодныя, а гасьцей няма. Нарэшце прыехалі — павячэраўшы ўжо. Ну, але селі за стол. Сажыц прынёс гарэлкі. Павячэралі, пагаварылі. Калошава сястра[2] усё сядзіць і слухае. Калоша ўсё баіцца, каб нічога лішняга не гаварылася. Але гаварылі даволі адкрыта. Усё больш пра царкоўныя справы. Трохі падпілі, асабліва Вітаўт. Нейкая вельмі моцная гарэлка. Але ўсё было добра.

Юра паехаў недзе з Галінай Бахар у кіно. Прыехаў позна. [illegible] зусім разьбітая.

---

[1] *Кастусь Калоша з гасьцямі.*

[2] *Калошава сястра прыехала на пару тыдняў з БССР.*

**Пятніца 3 верасьня**

Я паехала на працу. В[*ітаўт*] застаўся дома, каб заняцца гасьцямі.

Раніцай я яшчэ выкончвала выстаўку, але перад 10-ай усё было ў парадку. Выстаўка выйшла добрая сапраўды. Усе нашыя госьці (Калошы, Сажыц і сп-ня Каляда) прыехалі ў бібліятэку. Паглядзелі выстаўку, зрабілі здымкі. Спадабалася ім, асабліва жанчынам. Калошава сястра казала, як дома пачулася.

Прыйшоў і Запруднік, як яны яшчэ былі ў бібліятэцы. Ён хуценька прабегся, зрабіў пару нататкаў. Я яму тлумачыла, але ён пабег далей — недзе ў друкарню.

Па абедзе прыйшоў малады чалавек з [*беларускай*] місіі [*пры*

*ААН*]. Гаварылі мы зь ім па-ангельску. Ён можа й беларус, але па-беларуску, відочна, не гавора, а па-расейску пабаяўся. Праўда, у мяне ён нават не запытаўся, хто я. Прынёс шмат кніжак — усё да стагодзьдзя Купалы й Коласа — асабліва важная перадрук «Жалейкі». Вельмі ўдалы факсіміле. Прынёс і фатаграфіі, асабліва ўдалая адна: Купала й Колас разам у 20-ых гадох.

В. павёз усіх іх да Орсіхі[1]. Калядзіха[2] там застанецца; Сажыц паедзе ў New Brunswick, а Калошы зноў да нас.

Вечарам прыехалі пад бібліятэку па мяне, і мы паехалі дахаты на машыне. А ў хаце чакаюць ужо нас Рамукі і Махначы [з *Чыкага*]. Змайстравалі нейкую вячэру. Селі ўсе за стол. Махначы хутка паехалі, бо хацелі яшчэ ня позна заехаць у гатэль. Рамукі засталіся. Паклалі іх у бабкі. Яны, здаецца, былі трохі расчараваныя. Думалі, што будуць мець лепшыя мейсцы. Але яны ведалі, што ў нас Калошы затрымаліся.

Юра паехаў на пробу танцаў. На працу рашыў ня ехаць. Вельмі добра, што ён з моладзьдзю будзе на спатканьні.

Прыехалі з танцаў такія вясёлыя — з Натай і Галінай Бахар. Паехалі да Наты, ён там будзе начаваць і тады ўжо там застанецца да сустрэчы.

Мы яшчэ трохі пасядзелі, ды ўсе пайшлі адпачываць.

---

[1] *Сп-ня Натальля Орса.*
[2] *Клаўдзія Калядa.*

**Субота 4 верасьня**

Я ранічкай схадзіла зрабіць прычоску. Купіла сьнеданьне. Калоша да сьнеданьня не дачакаўся — паехалі ў N[*ew*] Br[*unswick*]. Ён так умее зрабіць — сарвецца, як падсмалены. Мы пасьнедалі з Рамукамі, і я паехала на працу са Спэрлінгам. Стомленая. Надаела мне ўсё гэта. Так у нас заўсёды бывае — усё ў адзін час награмозьдзіцца.

В[*ітаўт*] прыехаў з Рамукамі ў бібліятэку. Пaглядзелі выстаўку. Вельмі ім спадабалася. Рамучыха прасіла матар'ялы для іхнай выстаўкі. Паказала ім кніжкі, што прынесьлі з місіі. В. узяў пару для выставы на спатканьні. Завёз Рамукоў на аўтобус — яны паехалі ў N. Br.

Я папрацавала да 2-ой і паехалі й мы на спатканьне. Прыехалі — яшчэ нікога ў гатэлі ня было, акрамя Юлі. Яня напала на нас: «дзе Хрыстосік»[1]. Мы ведалі (Юра нам сказаў па тэлефоне), што яна хоча яго мець назад, але ня ведалі, што яна хоча яго мець адразу-ж. Няпрыемная была сытуацыя, бо Яня была нейкая вельмі сварлівa-настойлівая. Расклалі мы кніжкі. Я расклала жэтоны. Патроху сталі зьбірацца людзі. Усе былі на могілках, дзе Гутырчык устроіў нейкую вэтэранскую ўрачыстасьць. Прыйшоў Шуст, расклаўся са сваімі вырабамі. Пакуль я падышла да яго, дык шмат столікаў [*ягоных вырабаў*] было ўжо прададзена. Але я купіла адзін добры за $150. Шуст вельмі

добра прадаў. У Юлі ішло слабей. Жэтоны таксама добра пайшлі, але эфэкту, што я спадзявалася, ня было. Куплялі, як нешта, што трэба купіць, а не як нешта, што хочацца, што цікава купіць.

Банкет быў добры. Прамоваў трохі зашмат і нецікавыя. Нават Вітаўт гэтым разам быў нецікавы — расцягнуў, гаварыў неяк зашмат і не на мейсцы. Праклямацыя ад Рэгана выйшла неяк скомкана, бо В. хацеў падрыхтаваць настрой да гэтага, а выйшла наадварот — ён зашмат гаварыў, дык сьцерлася — эфэкт прапаў. Трохі ён неяк ап'янеў захутка, зь нічога (бо амаль нічога ня піў).

Пасьля банкету, канцэрт быў добры, каб не пласьцінка «Песьняроў», якая была слаба найграна. На такіх імпрэзах пласьцінкі няможна даваць. Лепш карацей, але жывы канцэрт, жывыя артысты. Моладзь была цудоўная.

Як пачаліся танцы, то й мы пачалі зьбірацца дадому. Айцец Надсон з намі едзе. Праўда, В., як заўсёды, цяжка было адарваць. Завёз ён на аўтобус спачатку Dingley (яны, між іншага, вельмі добра чуліся на сустрэчы). А пазьней Bird'а. Але нарэшце выехалі. Дома ў В. ужо ўсё прайшло — пагаварылі яшчэ трохі, паказалі Надсону бібліяграфію. Ён перагледзіць і паглядзіць, што яшчэ зможа нам прыслаць.

Рамукі засталіся ў гатэлі з Шустамі. Юрачка застаўся начаваць у Наты [*Русак*].

---

[1] *«Хрыстосік» — разьба з дрэва, нібыта ўласнасьць Луцкевічаў, пазычалі на іншую выстаўку, але перахоўвалася ў нас.*

**Нядзеля 5 верасьня**

Раніцай пасьнедалі і паехалі пад царкву. Пастаялі трохі ў царкве. А тады паехалі з Надсонам у каталіцкі касьцёл, дзе ён меў службу. Сабралася трохі й каталікоў. Ага, раніцай далі Надсону $300 на бібліятэку і [redacted] папрасіла адслужыць службу па маме на дзень народзінаў, 8 кастрычніка.

Пасьля службы (В[*ітаўт*] выстаяў цэлую службу ў царкве) паехалі на абед. Там ужо ўсе абедалі. Добра, што [redacted] заняла мейсца заранье.

Зноў прамовы, зноў балтаўня.

В. усё яшчэ стаяў каля кніжак — трохі прадаў. Рабілі лятэрэю. Шуст даў на лятэрэю свае вырабы, далі кніжкі, жэтоны. Добра пайшла. Пасьля ўсяго гэтага была даволі вялікая, непатрэбная пярэрва. Таўкліся, ня мелі чаго рабіць. Шмат хто паехаў назад у гатэль.

Рэфэрат Адамовічаў быў добры. Даўгі, але цікавы. Усе сядзелі і ўважліва слухалі. Пару мамэнтаў, праўда, было непатрэбных — як, прыкладам, разьвянчаньне Каліноўскага.

Пасьля рэфэрату мелі яшчэ невялічкае паседжаньне БАЗА — выбралі наступнае мейсца сустрэчы — Кліўленд.

Даехалі добра дахаты. Яшчэ падкінулі Рамукоў пад гатэль, бо мусілі забраць касьцюм Белямука, які я памылкова ўклала ў іхныя рэчы.

Юра зноў застаўся ў Русакоў. Яны езьдзілі ў Atlantic City цэлай грамадой.

**Панядзелак 6 верасьня**

Сяньня гасьцей ужо нікога ня маем — спакойна адпачываем.

Юра прыехаў аўтобусам у Newark. Вітаўт яго спаткаў. Трохі яшчэ пабыў дома, сабраўся. Я запакавала ўсё для Алесі — рэчы, якія яна захацела ўзяць ад бабкі. Юра вязе ёй машыну назад. За карыстаньне машынай будзе ёй віно ад Юры.

Я адпачывала, В. трохі працаваў.

Юра паехаў — па дарозе яны яшчэ зьбіраюцца заехаць у парк Adventure (ці як там гэта завецца). Добра, спакойна.

**Аўторак 7 верасьня**

На рабоце шмат працы, але ўсё добра, памысна. Прыходзіў уладыка Мікалай. Паглядзеў выстаўку, папрацаваў у аддзеле. Выстаўкай усе задаволеныя. Дзень прайшоў хутка. Добра, што ўчора трохі адпачылі.

Вечарам пазванілі да Алесі. Юра прыехаў ОК, але прыехаў толькі сёньня — пасьля вылазкі, яны рашылі, што ехаць яму позна і яшчэ ноч пераначаваў у Русакоў, а нарана ўжо выехаў у Вашынгтон.

Алеся задаволеная з усіх рэчаў. Віно добрае.

**Серада 8 верасьня**

Шмат працы. Усё-ж як няма Карэсара, дык цяжэй.

Прыходзіў зь [*беларускай*] місіі — прынёс мне яшчэ пару кніжкаў. У гутарцы выявілася, што гэтыя кніжкі яны толькі на выстаўку пазычылі, а не далі назаўсёды. Добра, што яны ўсе ёсьць. У мяне пасьля сустрэчы быў спалох — [redacted] думала, што некалькі кніжкаў прапала. Але гэта быў толькі спалох — усё на мейсцы.

Па абедзе была зборка з Fasana[1] і іншымі пра каталягаваньне нераманскіх матар'ялаў[2]. Зборка была добрая — рэзка паставілі пытаньне, што мы мусім дабівацца ад RLIN, каб хутчэй распрацавалі сыстэму, а ў міжчасьсі пачнем каталагаваць у транслітэрацыі. Мала мне давялося гаварыць, бо Карэсарава прыгатаванае мэмарандум было самовытлумачальнае. Persky[3] была вельмі разумная, але, на жаль, яна ўжо хутка адыходзіць. Пасьля я яшчэ зь ёй гаварыла, каб неяк навучыцца рабіць searching. Неяк гэты пункт прайшоў незаўважана.

---

[1] *Пол Фазана — адказны за каталягізацыю.*

[2] *Пераход на кампутарную каталягізацыю вымагаў шмат пераробак, падрыхтовак і г.д.*

[3] *Гэйл Пэрскі — наша сяброўка, якая пачала кампутарнае злучэньне нашай бібліятэкі зь іншымі ўнівэрсытэцкімі бібліятэкамі. Другога пакаленьня яўрэйка — дзяды зь Менску. Выдатная прабеларуская асоба. Добра — правільна — разумела беларускую праблему. Шкада, што пайшла.*

**Чацьвер 9 верасьня**

Раніцай званіла Марта[1], калі прыедзе Юра — ён да яе яшчэ не адазваўся. Я сказала ёй, што сёньня плянаваў прыехаць да яе, але калі — ня ведаю. Мы пачалі ўжо трохі непакоіцца.

На рабоце сёньня было неяк трохі прыкра. Прыйшоў Souchek[2]. Паўстала пытаньне, хто яго будзе вучыць каталягаваць. Мы з Карэсарам дагаварыліся, што ён пачне з Oriental[3] — таму лягічна, што яны яго [redacted] вучыць будуць. Тым больш, што [redacted] яшчэ не гатовая — ня мела часу перагледзіць правілы, а ўжо забылася. Выйшаў невялічкі канфлікт, але Oriental пераянялі яго. Мы толькі яму стол прыгатавалі — будзе сядзець у нашым пакоі.

Здала друкаваць гадавую справаздачу. Раніцай была яшчэ адна прыкрая рэч. Факс павёў паказаць мне, як рабіць searching на кампютары. Гэта зусім не складана — я хутка зарыентавалася. Але прыйшла Сільвія і мы ўбачылі, што яна незадаволеная з гэтага[4]. Я пазьней зь ёй пагаварыла, выбачылася, і ўсё наладзілася. Яна ня хоча, каб Oriental, якія ўжо каталягуюць, але яшчэ ніколі ня былі вучаныя searching, даведаліся, што нехта перад імі быў навучаны. Усё нейкія інтрыгі. Але ў мяне тым часам сапсуўся настрой на пару дзён — і чуць не сапсуліся адносіны і з Дэворам, і з Факсам, і з Сільвіяй.

Вечарам званілі да Алесі. Юра выляцеў сёньня даволі позна. У іх усё добра. Яму добра паводзілася ў Вашынгтоне.

---

[1] *Юрава сяброўка са школы.*

[2] *Сват Соўчэк — чэх, наш сябра. Скончыў Лювэнскі ўнівэрсытэт. Доўгі час працаваў у Турцыі. Спэцыяліст па славянскіх і арабскіх друкаваных выданьнях.*

[3] *Усходні аддзел.*

[4] *Бібліятэчныя праблемы ў сувязі зь пераходам на кампутары. Ускладнялася справа яшчэ тым, што Зора, перайшоўшы ў Славянскі аддзел, станавілася «незалежнай» ад агульнага аддзелу каталягізацыі.*

**Пятніца 10 верасьня**

Шмат клопатаў на рабоце. Хачу ўжо да прыходу Карэсара зрабіць, як мага больш. Парадкуем усё.

Прыходзіла разьвітвацца Persky[1]. Яна вельмі расчулілася. Шкада, што яна адыходзіць — вельмі салідная, вельмі працавітая — ведае, што робіць.

Паўліна[2] зрабіла невялічкую памылку ў друку. Трэба перадрукаваць, але яна сёньня ня прыйшла на працу. У панядзелак трэба з самага раньня зрабіць. Вось так і прайшлі амаль дні без Карэсара. З аднаго боку, я й люблю быць адказнай, а з другога боку — шмат працы.

---

[1] *З Гэйл Пэрскі мы сапраўды пасябравалі. Яна адыходзіла ў нейкі ўнівэрсытэт.*

[2] *Паўліна — сакратарка — зрабіла памылку ў беларускім тэксьце, трэба было перарабіць.*

### Субота 11 верасьня

Зрабіла раніцай прычоску. Званіла Надзя, каб прыехалі памаглі на фэстывалі[1]. Пасьнедалі й паехалі. Узялі сякія-такія рэчы і кнігі.

Сёлета мелі добрае мейсца, пры самым уваходзе. Выстаўка ўжо была прыгатаваная. Падушкі нашыя й патрэбныя ня былі — няма дзе іх палажыць. Кнігі В[*ітаўт*] разлажыў. Добра, што трохі брашурак было. Людзей было значна меней, як мінулыя гады. Кажурыха з ядой чуць сваё вярнула. Неяк у яе зусім ня йшло. Выстаўка была памысная. Інтэрв'ю з Надзяй было ў газэце. Шмат старых эмігрантаў падыходзіла, цікавіліся, але нашая заўсёдная праблема — «What part of Russia are you from?». «Never heard of it» і г. д. Але добра, што ўдзельнічаем, што прысутныя — можа нейкая частка і ўсьвядоміцца, пазнае, запамятае[2].

---

*[1] Фэстываль у парку Свабоды ў Джэрзі Сіты. Гэтыя фэстывалі запачаткаваў я, калі быў старшынём Этнічнае Рады штату пры губэрнатары Брэндане Бэрне. Фэстывалі працягваюцца і да сёньня.*

*[2] Гледачы амаль заўсёды ставяць пытаньне так: «Зь якой вы часткі Расеі? Ніколі назову Беларусь ня чулі...» Гэтак было дзесяцігодзьдзямі. Аднак мы настойліва рэклямавалі і прапагандавалі Беларусь.*

### Нядзеля 12 верасьня

Лёдзікаў[1] дзень народзінаў. Памалілася за яго добра. Сёньня яму 60 гадоў.

В[*ітаўт*] раніцай зьезьдзіў да Тумаша па кніжкі. Т. ужо дома[2]. Чуецца лепей трохі. Кніжку пра адзеньне не даў. [redacted] так хачу яе паглядзець.

Як толькі В. прыехаў — паехалі на фэстываль. Сёньня людзей крыху болей. Надта горача, але здаецца крыху лепей як учора. Вось шкада, што мы яшчэ не на вакацыях. Як-бы добра было сёньня выязджаць. Была газэта, дзе пра Надзю [*Кудасаву*] напісалі. Вельмі добра гэтым разам. Тэлевізыі сёлета ня было. Але людзі прыходзілі й казалі, што бачылі вас у газэце. Усё-ж нешта даходзіць.

Вечарам пазваніў Юрачка. Яму там добра паводзіцца. Хадзіў у пару шпіталяў, але нічога канкрэтнага. У панядзелак мае яшчэ адну надзею. Сказаў пра 60 minutes. В. глядзеў, а я не магла — пайшла да М. В. і там прасядзела. Пасьля Ю. пазваніў яшчэ раз і сказаў, што на яго думку ня было так дрэнна. В. таксама сказаў, што гэты раз яны трохі зьмякчылі. Некаторыя мамэнты выпусьцілі, трохі дадалі пра другія групы. Адным словам, выйшла трохі лепей[3].

---

*[1] Лёдзік — Зорын брат.*

*[2] Ужо выпісаўся са шпіталя.*

*[3] Тэлепраграма Лофтуса. Юра слушна заўважыў: у пазьнейшых праграмах пра лоўлю нацыстаў называлі і немцаў, і бэльгійцаў, і прадстаўнікоў балтыйскіх народаў, і расейцаў, і ўкраінцаў, а націск рабілі на... румынаў.*

**Панядзелак 13 верасьня**

Сёньня апошні дзень перад прыходам Карэсара, дык я маю шмат чаго падагнаць, скончыць, падрыхтаваць.

Выканчыла гадавую справаздачу [*аб працы аддзелу*]. Шмат іншых канцоў падагнала. Была цэлы дзень вельмі занятая.

Вечарам спаткалі Юрачку. Ён вельмі вясёлы. Гаварыў з кіраўніком мэдычнай школы ў Kansas City. Ёсьць надзеі перавесьціся на чацьвертым годзе. Было яму ў Марты[1] вельмі добра. Аддыхнуў. Добра чуецца.

---

[1] *Юрава сяброўка.*

**Аўторак 14 верасьня**

Прыйшоў Карэсар. Пагаварылі зь ім. Расказала яму ўсё, што важнае адбылося — зборка з Fasana, Souchek і інш. Добра пагутарылі.

Прыходзіла Орсіха з Галінай[1] — паглядзець выстаўку. Павяла іх, растлумачыла. Я бачу, што людзі мала чытаюць надпісы, а я на гэта найбольш патраціла часу — я лічу, што гэта самае галоўнае ў выстаўцы. Спадабалася ім. Орсіха казала, што, здаецца, мае «Жалейку». Я думаю, што яна нешта мыляецца. Але добра было-б, каб мела. Казала, пашукае.

Я ўжо сёньня трохі распружылася. Ужо ўсё зроблена, адміністрацыйныя праблемы з галавы спалі — цяпер можна спакойна працаваць.

Юра зрабіў вячэру. Павячэралі і ён паехаў да Наты. Але неяк хутка вярнуўся. Мусіць, нешта Ната зафыркала.

---

[1] *Натальля Орса і яе дачка Галіна.*

**Серада 15 верасьня**

Узяла вольны дзень, каб трохі спарадкавацца, спакаваць Юрачку.

Юра паехаў зь В[*ітаўтам*] у N.Y. раніцай. Залагодзілі з банкам. Ю. патэлефанаваў яшчэ ў пару мейсцаў, схадзіў у канцэлярыю школы. Я ў міжчасьсі памыла бялізну.

Надсон прыходзіў у бібліятэку забраць свой матар'ял з выстаўкі. Я дала В. дакладныя інструкцыі, што й як.

Тады яны паехалі разам да Тумаша. Мы зь Юрам зьезьдзілі ў магазын. Пачалі пакавацца. Спакавалі ўсё, акрамя air conditioning, але й яго ўжо ўсё падрыхтавалі да канчальнага пакаваньня, як прыйдзе В. Выйшла даволі цяжкое, але затое будзе мець толькі чатыры рэчы. Дай Бог, каб яму ўсё добра пайшло.

Заказалі на вячэру pizza (так ужо Юра захацеў). Павячэралі. Скончылі пакаваньне.

Вечарам Ю. яшчэ паехаў з Рыкі недзе. Заехалі да Бары сястры —

яна сьпякла Юру нешта. Якія яны ўсё-ж усе сымпатычныя — усе разам трымаюцца. Дай Бог ім усім памыснасьці ў іх кар'ерах[1].

---

[1] *Усе тры — Рыкі, Бары і Юра — сталі дактарамі.*

**Чацьвер 16 верасьня**

Ранічкай павезьлі Юру на аэрадром, на La Guardia[1]. Там усё з багажом прайшло памысна. Забралі бязь ніякіх пытаньняў. Яшчэ мелі часу. Зайшлі выпілі кавы. Адправілі яго, [redacted] самі паехалі на работу. Трохі зблудзілі, але нарэшце патрапілі і добра даехалі. Нават прыехалі трохі раней. В[*ітаўт*] спусьціў мяне, а сам паехаў шукаць паркінг.

Схадзілі пазьней у банк — памяняць мой чэк. Я яшчэ дапоўніла выстаўку. Палажыла на пустыя мейсцы[2] новыя кніжкі. Выйшла зусім добра.

На каву хадзіла з Фоксам. Расказвала пра Юру.

Чуюся стомленая, ну і, зразумела, трохі сумна. Ужо прывыклі мець Юру дома. Ды й няпэўнасьць, як у яго там пойдзе, як даедзе.

Добра, што дахаты на машыне — гэта неяк трохі падбадзёрвае. І другое, што хутка ўжо паедзем на вакацыі.

Даехалі дахаты цудоўна. Купілі па дарозе курку. Павячэралі разам з М. В. Адпачывалі.

---

[1] *Юра адлятаў у Мэксыку.*
[2] *Айцец Надсан забраў з сабой некаторыя экспанаты.*

**Пятніца 17 верасьня**

Сёньня апошні дзень на працы. Парадкую свае канцы.

Званіла Орсіха. «Жалейкі» яна не знайшла. Мае нейкія другія кнігі. Трэба будзе ў яе неяк дастаць іх.

Пасьля працы схадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Аддала яму грошы за жэтоны. Выручылі $201. Ня дрэнна. Але я спадзявалася больш. Ня так ужо шмат і засталося — неяк разышліся няведама куды. Запруднік мне чэк перадаў за тое, што я патраціла.

Вечарам званіў Дзядзя Ваня. Ён атрымаў чэк зь Бельгіі. Вось як добра — бо ўжо надакучыла кожны раз усё апраўдвацца, бараніцца, як быццам мы вінаватыя, што не прысылаюць[1]. Цяпер і ехаць да іх будзе прыямней.

---

[1] *Мы дапамагалі яму залагоджваць справы.*

**Субота 18 верасьня**

Схадзіла зрабіла завіўку. Тады сталі чакаць тэлефону ад Юры. Прыйшоў да бабкі сп. Жамойда — ён без машыны цяпер. Ня будзе як папрасіць яго выводзіць Рэкса. Стартэка ўжо папрасілі — ён будзе выводзіць рана. В[*ітаўт*] павёз сп. Жамойду, не дачакаўшыся тэл.

ад Юры. А тут Юра й пазваніў. У яго ўсё добра. Праз граніцу праехаў добра. Каштавала яму ўся гэта гісторыя $25, але ўсё добра пайшло — мусіў сказаць, што яму для здароўя патрэбен air conditioning. Трохі ў нас выйшла непаразуменьне. Ён нешта камбінуе з чэкам, што на навуку яму выпісаны. Нібы можна цяпер плаціць пэсамі, ды можна зэканоміць шмат грошай. Хацеў, каб мы абмянялі чэк у N.Y. на peso. Я яму даволі рэзка сказала, што мы ніякіх камбінацыяў ня хочам рабіць, тым больш, што едзем на вакацыі. Ён трохі, здаецца, пакрыўдзіўся. Шкада, што В. ня было дома. В. прыехаў, як толькі я павесіла трубку. Зноў нейкая камплікацыя, нейкі неспакой.

Я папрасіла В. падкінуць мяне ў Пасэйк — ён меў ехаць да Тумаша. У Пасэйку ўсе магазыны зачыненыя. Паехалі назад. Усё гэта часінкі і В. пачаў ужо нэрвавацца.

Я парадкавалася. Званіў Steven Richer, хацеў пагаварыць зь В. пра беларускі фэстываль.

В. прыехаў даволі позна, бо яшчэ меў заехаць да Крычэўскага. Там балаган з архівам — скінулі ўсё ў без парадку. В. клапоціцца за Віцьбічаў архіў.

В. прывёз мне ад Тумаша кнігу пра бел. адзеньне. Цэлы вечар разглядала. Трохі расчаравалася. Па-першае — гэта ня тое, што я спадзявалася. Я думала, што гэта мастацка выкананыя малюнкі. Аж гэта фатаграфіі аўтэнтычных касьцюмаў. Гэта было-б яшчэ цікавей, але прыходзіць па-другое — касьцюмы мадэлююць кабеты найчасьцей старыя, даволі брыдкія. Самыя касьцюмы ў шмат выпадках не папрасаваныя, скамячаныя, недапасаваныя. Выходзіць даволі прымітыўны эфэкт. Я сказала-б, нават нейкі неахайны — як-бы нарочна па-прасьцяцку — эфэкт. Шкада.

**Нядзеля 19 верасьня**

Пасьнедалі. Пачалі зьбірацца. Пазваніў Шук[*елойць*], што ў «Новым Руск. Слове» ёсьць рэцэнзыя на Вітаўтаву кнігу пра Кліўленд.

Мы яшчэ выехаўшы думалі па дарозе купіць газэту — але не знайшлі. Выехалі даволі позна. Пагода добрая. Ехалася добра, хоць і задоўга трохі. Прыехалі на мейсца ўжо пасьля 4-ай. Я яшчэ схадзіла на пляж. Добрая пагода. Прыемна пасядзела.

Вечарам ужо нідзе не паехалі — мелі, што есьці.

Пазванілі да бабкі. Да Алесі не дазваніліся. Дома ўсё добра. Грошай нашыя квартэранты яшчэ не прыслалі. Вось неспадзяваная камплікацыя.

**Панядзелак 20 верасьня**

З раніцы ішоў дождж. Я ўжо была расстроілася. Але пазьней трохі распагодзілася. Зьезьдзілі пасьнедаць. Тады паехалі па яблыкі, але сёньня не зьбіраюць дзеля пагоды.

Праехаліся яшчэ трохі, бо пакой ня быў прыбраны. Між часам рас-

пагодзілася. Я пайшла на бераг. Нават стала прыемна ў купальніку. Сядзела, пісала дзёньнік. В[*imaўm*] у пакоі сьпіць. Добра пасядзела, нават пра час забылася. Пачаў трохі кропаць дождж, пайшла ў пакой. Трохі яшчэ паглядзелі T.V. ды паехалі вячэраць. Павячэралі смачна, шмат. Пагода пахмурная, але вельмі прыемна.

Пазванілі маці — у хаце ўсё добра, але ад лякатэраў нічога няма. Пазванілі Алесі, але яе дома яшчэ няма.

Вечарам адпачывалі, глядзелі T.V. Вельмі прыемна, спакойна, згодна.

Дазваніліся да Алесі. У яе ўсё добра. Яна званіла да бабкі.

**Аўторак 21 верасьня**

Пайшлі пасьнедаць у другі рэстаран — нічога цікавага — у нашым старым найлепш. Паехалі па яблыкі[1]. Вялікай надзеі ня мелі. Але, неспадзявана, было адчынена. Яблыкі добрыя — вялікія, сьпелыя. Набралі аж два кошыкі. Прыемна было зьбіраць.

У пакоі яшчэ ня прыбралі, дык мы пайшлі на бераг разам. Прахладна, але прыемна. Вітаўтава крэсла парвалася — так мы яго на беразе й пакінулі. Стала трохі прахладна — пайшлі ў пакой. [redacted] зварыла супу — трохі ўгрэліся. В. сьпіць, а я выйшла на балкон і пішу дзёньнік. Падыходжу да даты нарэшце. Нядобра запускаць — цяжка тады прыпамінаць.

Зьмерзла. Пайшла ў пакой. Хутка пачалі зьбірацца на вячэру. Пайшлі ў тое самае мейсца. І мелі там цікавую, трохі сумную, трохі сьмешную неспадзеўку. У касе ў нас спыталіся ці мы Senior Citizen — бо для іх ёсьць зьніжка. Калі мы запратэставалі, што яшчэ не, — яна сказала, што ад 55 яны ўжо лічаць як такіх. Тут мы ўжо праглынулі свой гонар і... першы раз пакарысталіся прывілеямі Senior Citizen. Вось ужо да чаго дажылі! Ну, што-ж, трэба прывыкаць.

Вечар правялі прыемна. Адпачывалі. Пазванілі дахаты. Я трохі прамерзла, дык усё старалася ўгрэцца. У пакоі добра.

---

*[1] На фарму ў штат Дэлавэр, дзе яблыкі можна зьбіраць самым (pick-it-yourself).*

**Серада 22 верасьня**

Сёньня зраньня пахмурна, ветрана. Дзень прадказваюць хмурны, халодны. Рашылі не заставацца. Сабраліся і паехалі назад. Куды і што будзем рабіць, яшчэ ня вырашылі. Ня хочацца плянаваць далёка наперад. Заехалі яшчэ ў горад. Я купіла цукеркаў для работы. Сьнедаць рашылі на лодцы[1]. Прыехалі заранье. Чакалі каля прычалу. Пагода хоць і пахмурная, але ня вельмі холадна, даволі прыемна.

На лодцы адразу-ж пасьнедалі (фактычна сьнеданьня ўжо ня было і я зьела нейкі сандвіч). В[*imaўm*] есьць яблыкі. Цяпер я выйшла на палубу — пішу дзёньнік. В. пайшоў у машыну заснуць на пару хвілінак. Ён пачаў прыймаць новыя пігулкі — хадзіў на мінулым тыдні да

Manskopf'а — у яго трохі павышаны ціск. Пігулкі гэтыя яго трохі сьцішаюць. Чуемся добра. Шкада, што пагода не ўдалася, але гэта не ад нас залежыць. А што ад нас залежыць — то мы зрабілі сабе прыемна. Ну, тым часам канчаю — пайду шукаць, дзе В.

Хутка й прыехалі ў Сар Мау[2]. Пагода ўсё яшчэ пахмурная, але ня холадна.

Прыехалі да Нядзьвігаў. У іх, як заўсёды, раскідана, нейкія людзі, нешта варыцца, нешта робіцца. Яны ўжо рыхтуюцца да Дзядзі Ваніна-[redacted] дня народжаньня — будзе вялікае прыняцьцё ў суботу.

Мы там трохі пасядзелі, паелі ды паехалі на фарму паглядзець, што там. Пазванілі да М. В. — сказалі, што ў Нядзьвігаў. Чэка яшчэ няма[3]. На фарме зусім ужо як ня дома чуешся. Хата ў беспарадку. Яны памалу парадкуюцца. Пафарбавалі кухню і спальню. Між іншага, са спальні зрабілі гасьцінную, а спальню перанесьлі ў апошні пакой. Можа так і лепш.

Але зрабілася нейяк менш утульна. Адным словам, хата ўжо не маміна. Яна сказала, што чэк выслалі.

Пабылі там буквальна пару хвілінак і паехалі назад да Нядзьвігаў. Яшчэ трохі пасядзелі ды пайшлі спаць — заўтра рана на рыбу.

---

[1] *Паром, які курсуе паміж штатамі Нью Джэрзі і Дэлавэр.*
[2] *Мыс на поўдні штату Нью Джэрзі.*
[3] *Ад кватарантаў.*

**Чацьвер 23 верасьня**

Рана ўспароліся яшчэ перад 4-ай. Нехта нешта не зразумеў. Антаніна пачала рыхтаваць сьнеданьне. Пасьнедалі, ды час убівалі. Нарэшце пасьля 5-ай выехалі. Ехаць даволі далёка, але ўсё роўна прыехалі яшчэ зацёмна. Расклалі вудачкі і, як узышло сонца, сталі лавіць.

Нічога не лавілася. Прыехалі нейкія два яшчэ рыбакі — «свае рускія». Гаваркія, шумныя, але даволі сымпатычныя. Адзін даў мне нейкай прыманкі, і я пачала лавіць маленькую рыбку. Пасьля й Вітаўт і Д[*зядзя*] В[*аня*] пару злавілі. Але нічога вялікага. Так нічога і не выйшла ў нас.

Па дарозе назад купілі памідораў, персікаў, агуркоў.

Прыехалі — паелі ды пачалі ўжо патроху зьбірацца дахаты. Нейяк дзень прайшоў няцікава.

Даехалі добра. У хаце ўсё добра. Адпачывалі. Было й тэлефонаў ужо некалькі. Я дык спала амаль цэлы вечар. Званіў Мельяновіч — купіў для нас кніжак у Камкіна, сярод іх і «Бел. нар. адзеньне». Было ўсяго 2 экзэмпляры.

**Пятніца 24 верасьня**

Раніцай памыла бялізну. Пагода добрая. Тады паехала ў Пасэйк. Хацела купіць туфлі сабе і розныя дробязі. Туфляў, якіх хацела — не

знайшла. Купіла падвязкі. Яшчэ сёе-тое. Пашукала талеркі для Нядзьвігаў (я паабяцала, што куплю ім, як падарунак на Д. В. народзіны). Бачыла добрыя, але ня было 12 аднолькавых.

Паехала далей. У Bradley нічога ня купіла. У Shoe Town купіла туфлі. Але так стамілася да таго часу ўжо, што нічога не пасавала — ногі баляць. Я дык чуць не плакала, едучы дахаты. Так неяк бесталкова прайшлі вакацыі. Крыўдна.

Канец дня ўжо адпачывала. Вітаўт стараецца, каб я не нэрвавалася, адпачывала. Зьезьдзіў купіў мне нешта смачнае.

**Субота 25 верасьня**

Сёньня Юрачкаў дзень народзінаў. Ранічкай пасьнедалі, тады я пайшла зрабіць завіўку. Выйшла неяк слаба — цяжка яшчэ штось зрабіць — валасы кароткія, кручаныя.

Пасьля адразу-ж паехала ў Пасэйк. Хацела зрабіць пару рэчаў: 1. Абмяняць простыню, што купіла для Алесі — ня выйшла. 2. Узяла падвязкі, што ўчора не дадалі, і 3. Купіла ўсё-ж лёгкія, сьветлыя туфлі. Хай будуць на наступны год. Яны вельмі зручныя.

Прыехала дахаты і ўжо нідзе больш не хацелася ехаць. Ногі баляць. Так нічога сабе й ня купіла.

Зьезьдзіла толькі з М. В. у магазын. Накупіла яды — з панядзелка сядзем зноў на дыету.

Перамыла яшчэ свае рэчы. Выйшла на двор. Сяджу на сонейку і пішу дзёньнік. Прыемна. В[*itaўт*] нешта парадкуецца. Пераносіць кнігі і рэчы з вэранды ў гараж.

**Нядзеля 26 верасьня**

Вітаўт даў машыну сп. Жамойду — яго недзе ў пачынцы. М. В. паехала зь ім у царкву. Мы пасьнедалі. Яшчэ тады трохі адпачывалі. Так дзень неяк лянїва праходзіў. Як прыехаў Жамойда, Вітаўт зьезьдзіў да Тумаша. паступова будзе перавозіць ад яго ўсё інстытуцкае. Вечарам адпачывалі. Баляць мне ногі. Вось, і прайшлі вакацыі. Тыдзень, які так чакалі, так спадзяваліся добра правесьці! А выйшла трохі скамкана, не задавальняюча, ня поўна. Але хоць першыя дні было прыемна; а як пагода ўдасца — гэта ад нас не залежыць.

**Панядзелак 27 верасьня**

Першы дзень на працу паехалі на машыне. В[*itaўт*] дастаў parking[1], бо сёньня жыдоўскае сьвята. Ехалася цудоўна. Гэта адно задаваленьне.

У абед схадзіла да Fina, каб даведацца пра Алесіны завушніцы, але яны былі закрытыя. Наагул на вуліцах N.Y. пуста — магазынаў шмат пазачыняных. В. схадзіў забраў свае акуляры. Цяпер ужо мае свае, а мае ізноў будуць ляжаць на сваім мейсцы — яны мне добрыя на адлегласьць.

На рабоце нічога цікавага. Прыйшла таксама Таня з вакацыяў.

Вечарам прыйшоў Шук[*елойць*], але мы былі з машынай, дык зь ім не займаліся. Дамовіліся спаткацца ў сераду на вячэру.

Пачалі мы дыету.

---

[1] *Атрымаў дазвол на паркінг у двары бібліятэкі.*

**Аўторак 28 верасьня**

Шмат прыходзе лістоў Юру са шпіталяў, дык мы амаль штодня перасылаем яму тыя, што маюць нейкую канкрэтную магчымасьць. Кожны раз сёе-тое напішам яму.

У абед схадзіла да Fina[1]. Адны завушніцы ўжо прыйшлі, а другіх яшчэ няма, дык яны таму й не паведамлялі. Я папрасіла, каб даведаліся што з другімі й паведамілі нам хутчэй.

Вечарам званілі Алесі, але не дазваніліся. Цэлы вечар быў у іх заняты тэлефон. Мы вырашылі, што гэта Алеся сядзела на тэлефоне. Так і пайшлі спаць.

---

[1] *Ювэлірны магазын на 46-ай вуліцы.*

**Серада 29 верасьня**

На рабоце нічога цікавага. Працы ня так шмат, нават і без Карэсара. Ён на два дні ўзяў вакацыі. Было шмат каталёгаў, але я іх хутка праглядзела[1].

Вечарам схадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Было вельмі прыемна сёньня. Добра, спакойна пагаварылі. Гаварылі пра Марыяна Фальскага (я якраз цяпер чытаю вельмі цікавую кніжку Сьцяпана Александровіча). Гэта, аказваецца, брат нашага Фальскага. Гаварылі пра Інстытут, Крычэўскага. Шук. быў даволі цікавы сёньня.

Дома быў прыемны сюрпрыз — ліст ад Юры. Такі прыемны, разумны. У яго ўсё добра. Грошы памяняў і зэканоміў на гэтым $700 даляраў.

Пазьней пазваніў Вітаўт Тумаш[2] з прыкрай весткай — памёр Дзіма Сямёнаў[3].

Вечарам зноў прабавалі званіць Алесі — яе сёньня няма дома — працуе. Папрасілі, каб яна пазваніла, як прыйдзе. Цэлы вечар чакалі ад яе званка — ня было. Нам ужо трохі прыкра стала, што ня можам да яе дазваніцца ўжо два дні.

---

[1] *Каталёгі выдавецтваў, зь якіх бібліятэкары замаўляюць кнігі.*

[2] *Сын доктара Тумаша.*

[3] *Дзіма Сямёнаў — мянчанін, за часы нямецкай акупацыі працаваў з сп. Шукелойцем у Менскім музэі. Трымалі зь ім лучнасьць, але блізкімі сябрамі не былі.*

**Чацьвер 30 верасьня**

Сяньня паехалі раней, бо ў мяне а 9-ай канфэрэнцыя пра кампютарную сыстэму — DIALOG[1]. Было вельмі цікава і павучальна. Зусім

ня было шкада раніцы цэлай. Адправілі Юру лісты. Былі й чэкі, але я свой падпісала. В[*ітаўт*] пайшоў у банк сам.

В. чакаў тэлефону ад Адама[2] — той абяцаў, што перавязе паліцы ад Крычэўскага. Так цэлы дзень і не пазваніў. Нам вельмі абходзіць, каб прывезьці паліцы — упарадкаваць кнігі, часопісы.

Пасьля работы паехалі на паніхіду[3]. Трохі спазьніліся, але добра, што паехалі. Шура добра трымаецца. Раіна трохі больш пераймаецца. Было шмат людзей. Асабліва шмат ягоных супрацоўнікаў. Яго, відавочна, паважалі на працы[4]. Памер ён ад прыступу, зьвязанага з почкай. Ён, аказваецца, меў ад нараджаньня адну почку. Ягоны параліч быў вынікам апэрацыі, якую яму рабілі дзеля захвораваньня почкі. Вечная, яму, памяць!

Зноў званілі Алесі. Зноў яе няма. Цяпер то мы ўжо расстроіліся — дзе яна бывае, чаму не адзванілася? Усялякія прадпаложаньні выказвалі, часам зусім не разумныя, як гэта бывае, калі чалавек трохі знэрвуецца. Ужо й не чакалі, што яна пазвоніць. Так з жалем і прыкрым настроем і пайшлі спаць.

---

*[1] Першая сыстэма кампутарнага пошуку ў бібліятэцы.*
*[2] Адам Акуліч, нядаўні эмігрант, меў сваю перавозачную кампанію.*
*[3] Па Дзіму Сямёнаву. Шура — Дзімава жонка.*
*[4] Працаваў хімікам у вялікай фармацэўтычнай фірме.*

**Пятніца 1 кастрычніка**

Заняты сёньня дзень.

З раніцы зазванілі да Алесі на працу. У яе ўсё добра, шмат працы, застаецца, вечарам працаваць, прыходзе стомленая — таму й не званіла. Усе нашыя хваляваньні, дурныя вывады такімі цяпер сьмешнымі выдаюцца.

У абед хадзіла ў магазын. Купіла сякой-такой дрэні — нічога важнага.

Па абедзе прыходзілі зноў з місіі [*БССР пры ААН*]. Стаялі ўжо ў калідоры чакалі — мой стары знаёмы і Алесь Адамовіч — сучасны бел. літаратар-крытык. Прыехаў на адчыненьне UN сэсіі. Пазнаёміліся. Ґаварылі адразу па-беларуску. Яны глядзелі выстаўку. Прынесьлі кніжак яшчэ. Прынесьлі дзьве мэдалі Купалы й Коласа. Для выстаўкі і для мяне. Я адразу паставіла ў вітрыну. Папрасілі ўзамену нашы жэтоны. Папрасілі гэтаксама кнігу «Успамінаў»[1]. В[*ітаўт*] прынёс ім дзьве і меў якраз 2 жэтоны. Я паабяцала ім яшчэ прынесьці. Ага, якраз падышоў і В. й чакалі Палчанінава[2]. Пазнаёміўся і В. зь імі. Адамовіч робіць нядрэннае ўражаньне. В. зазваніў да Запр[*удніка*] — той сказаў, што Адамовіч адзін з наймацнейшых крытыкаў сучасных. Шмат піша й, часам, даволі сьмела. Параіў таксама наладзіць спатканьне зь ім — літаратурны вечар.

Пакуль яны яшчэ былі, прыйшоў Палчанінаў рабіць рэцэнзію пра

выстаўку для «Нового Русского слова». Бачыў іх, бачыў, як мы давалі мэдалі, і... выкарыстае гэта ў сваёй рэцэнзіі. Я яму расказала пра выстаўку, растлумачыла, падсказала некаторыя рэчы. Цікава, што ён напіша?

Надта-ж было завозна. Толькі скончыла зь імі, як звоніць В. — прыйшоў Том. Пайшлі зь ім на каву. Трохі пагаварылі, асабліва пра Адамовіча. Ён пашле ад Унівэрсытэту афіцыйныя запросіны на літаратурнае спатканьне. Доўга не сядзелі, бо ён меў ісьці ў опэру, а мы хацелі яшчэ папасьці на аўтобус. Доўга чакалі, дрэнна ехалася — стаміліся. Але ўжо дома адпачывалі.

Шмат лістоў для Юры. Цяпер кожны дзень 6-7 і толькі часам адзін добры.

---

[1] *Успаміны пра Купалу і Коласа, якія ўклаў А. КахаНоўскі.*

[2] *Расьціслаў Палчанінаў, карэспандэнт «Нового Русского Слова», супрацоўнік Расейскай рэдакцыі Радыё Свабода. З паходжаньня беларус, але ў поглядах — расеец. Далёкі сваяк Шатэрніка.*

**Субота 2 кастрычніка**

Пасьнедалі. Зрабіла прычоску. В[*ітаўт*] прыехаў па мяне й паехалі па пакупкі. Купілі В. бацінкі, скарпэткі. Паехалі далей у Патэрсон. Там купілі толькі мне — шарсьцяную спадніцу і сіні жакецік — вельмі ня дарага. Заехалі яшчэ на базар — купілі фруктаў.

Прыехалі перакусілі, і я паехала далей. Рашыла зьезьдзіць у Secaucus паглядзець пасуду для Нядзьвігаў. Нічога не знайшла. Заходзіла яшчэ ў пару магазынаў — нічога. Стамілася. Зьезьдзілі яшчэ з М. В. па прадукты. Адпачывалі. Нічога ўжо не рабілася.

В. званіў да Белямука. Той прыедзе на наступным тыдні да нас.

**Нядзеля 3 кастрычніка**

Далі зноў машыну Жамойду. М. В. паехала зь ім у царкву.

Я мыла бялізну, парадкавалася. Сабрала непатрэбныя рэчы ў каробку. Цяпер будзем зьбіраць усё, што ня трэба, для аўкцыону — летам, як дзеці будуць дома, — наладзім прадажу.

Спарадкавала настойкі — зрабіла наклейкі. Цяпер у нас розных віnaў цэлы склеп. Пайшла на двор загараць. Пішу дзёньнік. Добра, цёпла (нават загорача). В[*ітаўт*] паехаў да Тумаша. Сонца ўжо хаваецца за гараж — трэба йсьці ў хату.

**Панядзелак 4 кастрычніка**

Нічога не запісана. Ніяк не прыпомню нічога — мусіць, нічога цікавага й ня было. Купілі пасуду для Дз. Вані ў Food Fair. Якраз былі талеркі. Добра й танна.

**Аўторак 5 кастрычніка**

Зноў нічога. Я ўжо сабе загадала запісваць штодня, бо пасьля цяжка ўстанаўляць. Купілі рэшту пасуды. Усе 12 талерак (купілі нават 2 ў запас) каштавалі нешта каля $10.

**Серада 6 кастрычніка**

Нічога. Гаварылі з Карэсарам пра справы аддзелу, бо ён ідзе на вакацыі.

**Чацьвер 7 кастрычніка**

Адзінае, што было цікавае, гэта наш «staff meeting»[1]. Гаварылася пра выстаўку, часовае каталягаваньне, перанос кніжак, сьвятло — адным словам шмат, бо быў гэта першы мітынг пасьля летняга перапынку. Быў Jay.

---

[1] *Паседжаньні аддзелаў адбываліся рэгулярна. Прысутнічалі часам і прадстаўнікі адміністрацыі, як сп. Джэй. На такіх паседжаньнях дыскутавалася ўсё — рэакцыя чытачоў, недахопы, патрэбы і г.д.*

**Пятніца 8 кастрычніка, Мамін дзень народзінаў**

У абед схадзіла з Баларынай у царкву[1] — паставіла сьвечачкі. Памалілася за маму. Але атмасфэра ня была вельмі спрыяльная для малітвы. Я люблю сабе ціханька, спакойна памаліцца, а не сьлядзіць за службай, шукаць у кніжцы мейсца і падобнае.

Карэсар адышоў на вакацыі — цяпер [redacted] буду больш занятая.

---

[1] *Каталіцкая царква недалёка ад бібліятэкі.*

**Субота 9 кастрычніка**

Прыехала Алеся самалётам. Спаткалі яе й паехалі амаль адразу-ж у магазыны па пакупкі. Цэлы дзень правялі амаль у магазынах. Я ўжо пазваніла Вітаўту, каб не хваляваўся. Купілі Алесі шмат рэчаў і добрых. Купіла й [redacted] сабе сёе-тое, але ня шмат.

Вечарам заехалі ў кітайскі рэстаран — узялі яду дахаты. Павячэралі добра ўсе разам. Стаміліся, але прыемна.

**Нядзеля 10 кастрычніка**

Пасьнедалі. Алеся хутка пачала зьбірацца на вясельле. Жэніцца Мішка Швэд з беларускай дзяўчынай [*зь сям'і*] Завалока.

Мы мусілі зноў прасіць Баларыну, каб падвезла нас на PLASMA, бо Алеся ўзяла машыну.

Ballarina прыехала па нас, паехалі ў Тынэк. Зборка была цікавая. Пасьля зборкі заехалі на вячэру. Я ўжо, мусіць, чулася ня зусім добра. Апэтыту ня было. Заехалі яшчэ да нас, выпілі па чарцы маёй настойкі. Было вельмі прыемна. Бал. паехала, а мы трохі адпачывалі. Алеся прыехала ня позна. Вясельле было О.К., але нічога асаблівага. Я чуюся трохі ніякава, трохі паташнівае.

**Панядзелак 11 кастрычніка, Columbus day[1]**

Сёньня дома — Columbus Day. Я чуюся вельмі дрэнна, але мушу рухацца — паедзем у N.Y. Трафік ня быў такі ўжо дрэнны, як мы думалі будзе. Але добра, што Вітаўт паехаў з намі, дык ня трэба было клапаціцца пра паркінг.

Выбралі Алесі завушніцы — прыгожыя, пасуюць добра да пацеркаў. Доўга там вазіліся — нейкі надта марудны прадавец. Заблытаўся ў вылічэньнях. Але ўсё залагодзілі. Праехалі яшчэ пад 4-Continents, але, на жаль, магазын быў закрыты. Я дык чуць трымалася — так мяне нудзіла, так нядобра было наскрозь.

Прыехалі дахаты і [redacted] лягла ў ложак, каб трохі адпачыць. Алеся недзе пайшла. Мне трохі нібы лепей стала — дык як Алеся надумала ехаць у магазын, я адважылася зь ёй паехаць. У магазыне стала зусім дрэнна, чуць дабегла да ўборнай, але толькі нудзіла, а ня вырвала.

Купілі тое-сёе для Алесі. Ды паехалі дахаты, бо трэба было ўжо хутка й адлятаць. Усё справіліся. Павезьлі Алесю на аэрадром. Пачакалі, пакуль яна адляцела. Мне трохі лепей. Але цяпер ужо спакойна можна адпачываць.

---

*[1] Дзень Калюмба, адзначаецца ў другі панядзелак кастрычніка. У Нью Ёрку вялікі парад.*

**Аўторак 12 кастрычніка**

Сёньня працую вечарам[1]. Добра, бо ўсё яшчэ чуюся слаба. На рабоце было ўсё добра. Прыходзіў Белямук — ён затрымаўся ў свайго сябры. Я так задаволеная.

Мы з машынай, дык гэта ўжо добра.

---

*[1] Зьмена ад 13.00 да 22.00. На гэтай зьмене ад 18.00 да 22.00 трэба сядзець увесь час за «даведачным сталом». Звычайна да 19.00 бывае «завозна», [redacted] пазьней — ціха.*

**Серада 13 кастрычніка**

На рабоце ўсё ОК.

Вечарам Белямук ехаў з намі дахаты. Зайшліся яны купіць нейкага пітва. Я ўжо амаль не пачала злавацца, але стрымалася. Купілі яны гарэлкі (В[*ітаўт*] яго падгаварыў), дык будзе мне на настойку.

Павячэралі ды пачаліся гутаркі. Такі-ж ён нудны, такі ня цікавы. Мне дык ягоная прысутнасьць пачынае ўжо добра дакучаць. Тым больш, што я пачынаю падазраваць, што ён пасьля пра нас разносіць чуткі кругом.

**Чацьвер 14 кастрычніка**

Белямук недзе паехаў у бібліятэку, бо наша закрытая.

Была ў «каталогу»[1] на разьвітальны пачастунак для Romana Roma — ён пакідае бібліятэку, бо мае пісаць доктарскую працу. Было ОК, але трохі нацягнута — я ўжо зь імі чуюся, як госьць, хоць, праўда, апошнімі гадамі там было заўсёды неяк нацягнута, штучна — няма цяплыні.

Я значна лепш сябе адчуваю ў славянскім аддзеле!

Вечарам пазваніў Юра, каб пераслалі яму грошы на Brownsville[2], на конта яго сябры. Пэса цяпер вельмі таннае, і Юра можа зрабіць добры абмен і залаціць за навуку наперад. Было нам прыемна пачуць ад

Юры, але неяк стала клопатна. Як зрабіць лепш? Ці бясьпечна гэта? Адным словам, зноў нэрвы. А тут яшчэ чужы чалавек у хаце.

---

[1] *Аддзел каталёгу, дзе Зора працавала раней.*
[2] *Горад у Тэхасе на мяжы з Мэксыкай.*

**Пятніца 15 кастрычніка**

Вітаўт залагодзіў з грашыма для Юры. Добра дапамагла Баларына — праз ейны банк пераслалі грошы — было ўсё проста. Цяпер толькі ці дойдуць да аўторка, і ці Юра бясьпечна іх атрымае, перамяняе, перавязе.

Вечарам хадзілі з Белямуком у рэстаран. Зь ім там зусім ня было прыемна. Проста шкада захаду. Наагул ягоная прысутнасьць ужо добра надакучае.

**Субота 16 кастрычніка**

Працавала сёньня. Паехалі на машыне ўсе разам. Па дарозе купіла вінаграду.

На рабоце сёньня прыемна. Шмат рабіла для сябе. Рабіла абстракты[1].

Раптам пачало халадаць. Я маю толькі сукенку на сабе. Вітаўт недзе далёка запаркаваў машыну. Пакуль дабеглі, дык зусім зьмерзла.

Быў добры абед падрыхтаваны. М. В. зрабіла тушанае мяса. Добра павячэралі. Зноў пустыя гутаркі.

---

[1] *Для славянскага рэфэратыўнага часопісу (Хоціну).*

**Нядзеля 17 кастрычніка**

Пасьнедалі. Белямук яшчэ доўга тарчэў. нарэшце паехаў. Я толькі лягла адпачыць — бо была сапраўды стомленая ўсім, асабліва ягонай прысутнасьцяй — як пазваніла Баларына. У сьлязах уся — ёй сумна — прыедзьце да яе. Паехалі, забралі яе й паехалі на вячэру.

Неяк ня было прыемна й гэты раз. Мусіць, нам ужо здорава дакучаюць нудныя людзі. Нам так прыемна быць цяпер толькі самім — удвох. Мы найлепш сябе тады адчуваем.

Адвезьлі яе дахаты і... хоць трошкі яшчэ вечарам адпачылі.

**Панядзелак 18 кастрычніка**

Рабіла абстракты для Khotina. Гэтым разам зь «Беларуса», «Бел. Сьвета», «Journal of Bel. Studies». Выходзіць добра. Але самае важнае, што неяк разыходзіцца вестка пра нашыя публікацыі.

Вечарам званіў Юра, ці паслалі грошы. Заўтра ён едзе ў Brownsville. У яго ўсё добра. Даляр вельмі ў добрай цане — яму ў гэтым сэмэстры добра выйшла.

**Аўторак 19 кастрычніка**

Прыйшоў Карэсар назад на працу. Цяпер я на пару дзён вазьму адпачынак. Было даволі занята, суетліва.

Зэнон прынёс калбасы[1]. Я ўжо зьбіраю для Дзядзі Вані.

Паслала ліст Хоціну з абстрактамі. Усё гэта забірае час, энэргію.

---

[1] *Калега Зэнон Куравецкі прыносіў каўбасу з украінскай крамы.*

**Серада 20 кастрычніка**

Узяла вольны дзень. Езьдзіла па магазынах рабіла закупы для Нядзьвігаў для Helen. Купілі ўсё, што трэба было: маку, крахмалу, спэцыяў. Паглядзела сякія-такія рэчы для сябе, але нічога важнага ня купіла.

Вечарам В[*ітаўт*] прынёс ікры, што я заказвала ў нашых жанчынаў[1]. Добрая ікра. Толькі трэба неяк яе ўпарадкаваць, каб не сапсулася, бо аж два фунты. Склала ўсё, што трэба для фармы.

---

[1] *Гэткая ікра прадавалася на Брайтан Біч. Супрацоўнікі аддзелу, якія там жылі, часта нам тую ікру куплялі.*

**Чацьвер 21 кастрычніка**

Ранічкай паехалі ня позна на фарму. Ехалася добра. Заехалі першнаперш да Нядзьвігаў. Аддалі ім рэчы. Пасуда, здаецца, ня мела вялікага посьпеху. Калбаса прыйшлася добра. Ім неяк ня ведаеш, чым і калі ўгадзіць.

Тады паехалі заплацілі таксу[1]. Там усё гладка пайшло. Тады заехалі ў хату. Тут нікога ня было. Мы пахадзілі, пастукалі. Машына, праўда, стаяла каля хаты, але ніхто не адазваўся.

Паехалі да Гэлэн. Завезла ёй спэцыі розныя і папрасіла яе зрабіць для Алесі падстававачкі для чайных мяшочкаў. Яна з прыемнасьцю зробіць. Пасядзелі трохі ў іх. Дала мне Гэлен адростачкі ад вазону (Impatience), кавалак печыва.

Сабралі два баскэты[2] памідораў — яшчэ былі цудоўныя. Вельмі было прыемна зьбіраць.

Назад да Дзядзі Вані. Паабедалі ў іх. Заехалі яшчэ па яблыкі й... дахаты.

Ага, забылася, пасьля Гэлэн заехалі яшчэ раз пад хату. Нікога зноў ня было. Паглядзела я ў вакно — нікога, у хадзе раскідана, неяк няжыла. Наагул выглядае закінута, запушчана. У мяне зусім сапсуўся настрой. Выкапалі яшчэ куст півонаў.

Заехалі на маміну магілку, каб пасадзіць піоны. Там усё ў парадку. Спадзяюся, што піоны прыжывуць.

Дахаты прыехалі яшчэ ня так і позна. Трохі й адпачыць было магчымасьць.

---

[1] *Падатак з маёмасьці.*
[2] *Кошыкі (baskets).*

**Пятніца 22 кастрычніка**

На работу пайшлі. Трохі за гэтыя пару дзён адарвалася. Асабліва

адчуваецца адрыў, калі мы паедзем недзе, або на фарму, ці ў Вашынгтон.

Нічога цікавага не здарылася.

**Субота 23 кастрычніка**

В[ітаўт] працуе. Я паехала па пакупкі. Купіла сабе жакецікі: адзін чырвоны да шарсьцяной спадніцы і адзін чорны, вельмі стылёвы (думала, што будзе добра да гэтай-жа спадніцы — ажно не — дык цяпер буду шукаць пад яго спадніцу) і блюзку для чырвонага касьцюму. Вельмі ўсё прыгожа падабралася.

**Нядзеля 24 кастрычніка**

Пасьнедалі. Выкапала піоны для Олі [*Запруднік*]. Дам ёй таксама й частку што з фармы прывезла. Пагода цяпер стаіць нядрэнная — можа, добра прымуцца і ў яе.

Працавалі, парадкаваліся, адпачывалі.

**Панядзелак 25 кастрычніка**

Адзела чырвоны касьцюмчык — вельмі прыгожа выглядае. Усім спадабалася. Так дзень быў бяз прыгодаў.

**Аўторак 26 кастрычніка**

Прыходзілі Русакі (ньюёркскія)[1] на выстаўку. Трохі ім паказала, растлумачыла. Пасьля яны самі яшчэ глядзелі — чакалі нас. Пайшлі на вячэру разам, а тады на лекцыю Алеся Адамовіча ў Graduate Center[2].

Людзей сабралася добра. Але ўсё старэйшая публіка — беларусы. Моладзі было мала. Трохі было сьмешна — бо лекцыя мела быць для студэнтаў-славістаў. Але прайшло добра. Яны (зь місіі [*БССР пры ААН*]) прынесьлі кнігі і ўсялякую літаратуру для раздачы. Быў рэфэрат Адамовіча — слабенькі — пра мір і дружбу больш, чымся пра бел. літаратуру ці Купалу й Коласа. Паказалі фільм пра Коласа і яшчэ кароценькі прапагандны пра Беларусь. Былі й пытаньні. Некаторыя зь іх шчакатлівыя: пра бел. школы, мову, але больш адказвалі яму, на ягоны «плач аб міру» — што небясьпекі вайны з амэрыканскага боку няма. Мне здаецца, што ягоныя праваднікі з місіі ня будуць задаволеныя з гэтага вечара. Каб хаця яму гэта не нашкодзіла, бо ён выглядае, як шчыры беларус.

Дахаты паехалі машынай, дык было вельмі прыемна. Разважалі яшчэ пра цэлы вечар. Том адкрыў і хутка змыўся. Вітаўт прадаўжаў весьці і часам, можа, быў не такі дыпляматычны, як Bird[3].

---

*[1] У беларускім эміграцкім асяродзьдзі было шмат Русакоў. Часам казалі «Русакі ньюёркскія», «Русакі з Нью Джэрзі», «Русакі з Дэлавэру».*

*[2] Graduate Center — частка Ньюёркскага Ўнівэрсытэту на 42-ой вуліцы якраз насупраць бібліятэкі. Там часта адбываліся беларускія зборкі, даклады.*

*[3] Перад дакладам было дамоўлена, што праф. Том Бэрд пачне сэсію, а канчаць буду я. Алесь Адамовіч на гэта згадзіўся.*

**Серада 27 кастрычніка**

Працавала над рэцэнзіямі для Прускага — увялі новы разьдзел «На кніжнай паліцы»[1]. Вітаўт працуе над артыкулам пра Луцкевіча для яго.

Вечарам званіла Галіна Русак. Атрымалі [*ад штату*] грант на сымпозіум і выстаўку. Цяпер трэба будзе нешта рабіць. Часу ўжо ня так шмат і засталося. Яна яшчэ ня ведае, колькі далі і на што. Здаецца, ад выстаўкі шмат зрэзалі: і каталёг, выглядае што, ня зможам надрукаваць. Можа, так і лепш будзе — зрабіць добрую брашурку, а не каталёг.

---

*[1] У часапісе «Беларускі Сьвет».*

**Чацьвер 28 кастрычніка**

Вітаўт дома. Прыязджаў да яго Steven Richer. Гаварылі пра праграмы этнічных канцэртаў у Action Park[1]. В. яму ўзяўся дапамагчы.

У мяне ўсё добра. Нічога цікавага на рабоце не сталася.

Вечарам пазванілі Прускаму, што робім для яго.

---

*[1] У плянах было даць «нацыянальныя праграмы». Але да гэтага не дайшло, бо Стывэн прыняў спачатку на кароткі час пасаду дырэктара Залі Канфэрэнцыяў у Атлянтык Сіты, а пазьней — дырэктара Бюро Турызму ў штаце Місісіпі і выехаў зь Нью Джэрзі.*

**Пятніца 29 кастрычніка**

Працавала над рэфэратам для славянскага тыдню «Пераклады Купалавага «А хто там ідзе?». Здаецца, будзе нядрэнны рэфэрат.

Рабіла надпісы на кнігі й пасадзіла пляму на спадніцу. Пачала адразу чысьціць, але нічога ня выйшла — на воўне цяжка вывесьці (чырвоная спадніца). Вельмі-ж было мне крыўдна — толькі другі раз адзела.

Вечарам паехалі на памінкі па Mrs. Trevor[1]. Пабылі там даволі доўга. Ён трымаецца, таксама й Keith. Шкада жанчыны, шкада сям'і. Вельмі яна пад канец мучылася.

Пазванілі яшчэ Русакам пра грант. Яна яшчэ афіцыйна не атрымала паведамленьня, толькі тэлефанічна ёй сказалі, што далі. Думае, што шмат зрэжуць, але яшчэ ня ведае колькі. Дагаварыліся, што яны да нас прыедуць пагаварыць хутка, як толькі што-небудзь больш канкрэтнае будзе ведама.

---

*[1] Нашыя блізкія амэрыканскія сябры.*

**Субота 30 кастрычніка**

Працавала. Прыехалі на машыне, але паркінгу ня мелі. В[*ітаўт*] запаркаваў недзе ў гаражы.

Зрабілі здымкі з выстаўкі. З місіі казалі, што прыйдуць некалі зробяць здымкі, але яшчэ ня прыходзілі.

Працавалася добра. Зрабіла шмат адбіткаў зь перакладаў [*Купалавага*] «А хто там ідзе?» у розныя славянскія мовы. Будзе добры наглядны дапаможнік да майго рэфэрату.

З машынай хутка даехалі дахаты і яшчэ трохі й адпачылі.

**Нядзеля 31 кастрычніка**

Пасьнедалі, адпачывалі.

Вітаўт паехаў да Тумаша. Паступова прывозіць ад яго кнігі, часопісы і іншыя Інстытуцкія матар'ялы.

Званіла Алеся. У яе ўсё добра. Доўга пагаварылі. Яна расказвала пра свае справы: на працы, наагул пра сябе. Чуецца яна ў Вашынгтоне добра.

**Панядзелак 1 лістапада**

Раніцай В[*ітаўт*] пайшоў на работу раней. Я выкарыстала, што іду сама і здала ў чыстку спадніцу. Прабавала вывесьці пляму сама — нічога не выходзіць. Можа, у чыстцы паможа.

Прыехала рана, дык яшчэ зайшла купіла матар'ялу на спадніцу. Здала фільм. Так шмат за раніцу пасьпела. В. мае гутарку з Laker (той, што робіць агляд [*калекцыі*] Навуковага Аддзелу для рэпорту ў дырэкцыю Бібліятэкі). Гэта была, відавочна, Крупава ідэя. Гэты агляд ужо цягнецца колькі тыдняў і яшчэ будзе цягнуцца. Толькі трата часу й грошай.

В. паехаў дахаты раней, бо меў з доктарам візыту.

Я забрала фільм. Некаторыя здымкі выйшлі нядрэнна — гэта з выстаўкі Купалы-Коласа.

У В. з доктарам усё добра. Загадаў яму пахудзець. Пакуль не пахудае на 20 фунтаў — ня прыходзіць да яго. Даў яму іншыя пігулкі ад ціску крыві.

**Аўторак 2 лістапада, Выбары**

Сёньня дома. Пагода цудоўная. Лісты ападаюць, але яшчэ шмат на дрэвах.

Мыла бялізну. Вельмі была расстроеная — нешта, мусіць, сталася з машынай. Нарабілася шмат плямаў на бялізьне. Прыйшлося шмат перамываць — рукамі з мылам церці.

Схадзілі пагаласавалі.

Я шыла спадніцу й парадкавалася. Для спадніцы яшчэ мусіла дакупіць тое-сёе. Паехала ў Пасэйк. Усё, што трэба, дастала, але ўсё каштуе. Спадніца выйдзе даволі дарагая.

Забрала з чысткі спадніцу. Пляма яшчэ крыху відаць, асабліва, калі ведаеш, што яна ёсьць. Я трохі замалявала яе чырвоным чарнілам і... усё, як новае. Цудоўна.

Прыйшоў ад Камкіна[1] пакет з кніжкамі. Сярод іх — Бел. народная вопратка. Я ўжо бачыла яе. Перагледзела яшчэ раз. Трохі ўсё-ж неахайна зробленая, хоць гэтым разам уражаньне крыху лепшае.

Выйшла на двор, і пішу дзёньнік. Прыемна.

---

[1] З кнігарні Камкіна.

**Серада 3 лістапада**

Сабрала матар'ялы для выстаўкі Купалы-Коласа ў Чыкага. Трохі адбіткаў, трохі апісаньняў, ды пераклады «А хто там ідзе?» на розныя мовы. Гэта для іхнай выстаўкі будзе вельмі дарэчы.

Дома быў ліст ад Юры — гэта першая вестка ад яго пасьля таго, як паслалі яму грошы ў Brownsville. У яго ўсё добра. А нам столькі было хваляваньня.

**Чацьвер 4 лістапада**

Паслалі з Рамуком [*у Чыкага*] пачку з матар'яламі для выстаўкі. Так больш нічога цікавага.

**Пятніца 5 лістапада**

Нічога не запісана было. Мусіць нічога й ня было цікавага.

**Субота 6 лістапада**

Раніцай зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Купіла трохі прадуктаў, бо прыедуць Русакі.

Прыехалі, як заўсёды, са спазьненьнем. У мяне ўсё перастаялася, пераварылася. Але добра павячэралі. Гаварылі пра канфэрэнцыю, пра выстаўку. Паказала Галіна лісту, колькі на што прызначылі. Выглядае, што трэба будзе камбінаваць — аднімаць ад аднаго і дадаваць да другога. На выстаўку прызначылі толькі $500, але затое на фатаграфіі $2000. Яна неяк неразумна разьмеркавала. Каталёг адкінулі, workshops[1] адкінулі. Галіна цяпер мае адказаць ім і яшчэ будзе гаварыць, каб неяк з каталёгам наладзіць. Патрабуе фатаграфіі з экспанатаў.

Яны доўга не сядзелі, бо Галіна заўтра працуе.

---

[1] *Працоўныя сэмінары.*

**Нядзеля 7 лістапада**

Пасьнедалі й паехалі ў New Brunswick на могілкі — сёньня абыходзяцца Дзяды. На могільніку прыемна. Дзень цёплы. Сабралася шмат людзей. Пагаварылі з тым-сім. Русак (Ул.) прынёс лапці, што ён зрабіў для танцавальнай групы. Папрасіла яго зрабіць і мне. Паабяцаў.

Орсіха ўсіх нагаворвае ехаць у Кліўленд на спатканьне гімназістаў. Яна ўжо нам надаела са сваімі званкамі. Асабліва яна нешта на Дубягаў цісьне. Але дзе яны паедуць!

Шук[*елойць*] перадаў нам кнігу Лофтуса. Заехалі да Ґаліны на работу. Перадалі фатаграфіі, якія знайшлі. Яна кажа, што і яна ўжо нейкія мае. Пагаварылі трохі зь ёй і паехалі дахаты. Прыемна правялі час.

Маміна магілка ў парадку — [*Жэня*] Ліцяжыха яе ўпарадкавала.

Вечарам чытала Лофтуса. Ну і паскудства, ну і дрэнь. Адкуль у яго столькі нянавісьці да Беларусаў. Факты перакручаныя. Стыль нейкі нявыразны — ні-то дэдыктыўны раман, ні-то дакумэнтальны агляд. Безграматна! Прымітыўна! Ніжэй усялякай крытыкі. Нарабіў-жа ён нам! Сапсуўся толькі настрой. Я амаль усю кнігу прачытала. На маю думку — будзе яна проігрышная. Ня думаю, што хтось будзе купляць. Хіба, можа, такую рэкляму зробяць, што людзі абмануцца.

**Панядзелак 8 лістапада**

Селі на дыету. А так больш нічога цікавага.

**Аўторак 9 лістапада**

Прыходзіў Міхалюк з Англіі. Ён тут ужо колькі дзён і яшчэ будзе з пару тыдняў. Расказваў пра Англію, пра іхную канфэрэнцыю [*прысьвечаную*] К[*упалу*]-К[*оласу*]. Гаварылі, зразумела, і пра царкву.

На вячэру пайшлі з Шук[*елойцем*]. Гутарка была ўсё каля Лофтуса, зразумела. В[*ітаўт*] перадаў яму сьпіскі ахвяраў і падпіскі на Кавыля[2].

---

[1] *Янка Міхалюк — старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.*
[2] *Зьбіраліся сродкі на выданьне кнігі Міхася Кавыля.*

**Серада 10 лістапада**

Нічога цікавага на рабоце. У абед хадзіла купляць для Тані[1] падарунак.

---

[1] *Супрацоўніца.*

**Чацьвер 11 лістапада**

Сёньня дома. Рашылі заняцца гаспадарчымі справамі.

Паехалі купілі пральную машыну. Так і купілі — без вялікіх хадзеньняў, глядзеньняў. Машыну прывязуць пазьней — на наступным тыдні. Заехалі купілі маку.

Тым часам, пакуль машына прыйдзе, трэба было памыць бялізну — што рукамі, што завезла ў пральню. Так і дзень прайшоў.

Вечарам званіла Алеся — усё ў яе добра. Сказалі ёй, што паедзем у Кліўленд, каб званіла бабцы.

**Пятніца 12 лістапада**

Карэсара няма сёньня. Наладзілі Тані невялічкае адзначэньне яе дня народзінаў. Яна была вельмі задаволеная. Адна, праўда, прыкрая гісторыя выйшла — падаруначак, які Аліна пакінула Тані напярэдадні — зьнік. Нехта ў нас ня зусім чэсны, бо было ўжо колькі выпадкаў, што прападалі рэчы, грошы.

У абед схадзіла зрабіць прычоску. Добра зрабілі, але шмат даражэй, чымся дома.

Рыхтуюся да рэфэрата. Трошкі хвалююся, ці будуць людзі, як выйдзе.

Прыехалі ў Інстытут Украінскі даволі рана. Нікога яшчэ ня было. Там нейкая здымка рабілася. Усё раскідана — драты, экіпунак, людзі чужыя. Гэта неяк парушыла атмасфэру. Людзі патроху пачалі зьбірацца, але зацягнулі з пачаткам. Нарэшце пачалі. Сабралася трохі людзей. Асабліва я радая была, што прыйшоў Mr. Stasko[1]. Спачатку гаварыў Запруднік. Тады [redacted] рабіла сваю прэзэнтацыю пра «А хто там ідзе?». Выйшла добра. Было трохі і ад іншых славянскіх народаў. Раздалі вершы — у ангельскім перакладзе і ў перакладзе на яе ці яго мову.

Тады Вітаўт закончыў сваім рэфэратам пра пераклады Купалы й Коласа ды наогул студыі пра іх — тут на Захадзе. Пасьля яшчэ прамаўляў Сташка (славак), бо я ў сваім рэфэраце ўспамянула яго.

Я папрасіла Зап., каб прапанаваў, калі хто хоча зачытаць «А хто там ідзе?» у сваёй мове. Прачытаў славенец (Krieger) і сын Сташкі паславацку. Выйшла вельмі сымпатычна. Наагул вечар прайшоў добра. Мы адразу-ж па рэфэратах паехалі[2]. Заехалі яшчэ дахаты пераапрануліся і ў дарогу.

Пагода была паскудная. Дождж пачаў ліць ліўнем.

Ехалася трохі напружана. Але пазьней трохі перасьціх дождж. Мы праехалі гадзіны тры і сталі. Мейсца выдалася добрае. Былі, праўда, стомленыя, але прыемна правялі дзень.

---

[1] *Язэп Сташка — славак, рэдактар газэты. Добра арыентаваўся ў беларускіх справах. Ён дапамог перакладу «А хто там ідзе» у славацкую мову. Пераклад Зора ініцыявала і давяла да канца. Вось што яна напісала пра гэта ў газэце «Беларус» (№ 306-307, 1982):*

**КУПАЛАЎ ВЕРШ «А ХТО ТАМ ІДЗЕ?» У 82 МОВАХ**

Купала напісаў свой славуты верш «А хто там ідзе?» недзе паміж 1905 і 1907 гадамі. Быў ён надрукаваны ў першым Купалавым зборніку «Жалейка» ў 1908 годзе. У хуткім часе верш пачаў перакладацца ў розныя мовы, найперш зьявіўся ўкраінскі пераклад — у 1909 годзе, тады літоўскі — у 1910 г., чэскі ды расейскі — у 1911 г., польскі — у 1912 г. і г. д.

У 1910 г. кампазытар Людамір Рагоўскі напісаў музыку да вершу, які ў тым-жа годзе быў выдрукаваны разам з нотамі асобнай брашуркай (№ 15. Выданьне «Нашае Нівы»). Песьня сталася неафіцыйным беларускім гімнам.

Сёлета з нагоды Купалавага юбілею ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў Менску выйшла анталёгія перакладаў вершу «А хто там ідзе?» у 81 мове — амаль ува ўсіх важнейшых мовах сьвету. Аднак пры бліжэйшым азнаямленьні з публікацыяй заўважаем, што аднэй вельмі важнай славянскай мовы — славацкай — у перакладах няма.

З нашай ініцыятывы ды з дапамогай і стараньнем добрага прыяцеля Беларусаў д-ра Ёзэфа Сташко, аднаго з рэдактароў славацкага часапісу «Гарызонт», Купалаў верш быў перакладзены і ў славацкую мову ў кастрычніку сёлета. Пераклад зрабіў ведамы славацкі празаік, паэта ды літаратурны крытык Марыян Жыяр. Д-р Імрыч Кружляк (сапраўднае імя паэты) нарадзіўся ў 1914 годзе ў Дэтве ў Славаччыне. Ён аўтар шматлікіх навэляў, кніжок пра славацкую літаратуру ды інш., жыве цяпер у Мюнхэне ў Заходняй Нямеччыне і зьяўляецца галоўным рэдактарам успомненага ўжо часапісу «Гарызонт».

Купалаў верш зрабіў на Марыяна Жыяра глыбокае ўражаньне. Вось як ён пра гэта

піша: «Запраўдны сэнс Купалавага вершу — гэта ягоны гуманізм, ягоная прага да праўды й права чалавека стацца чалавекам... Славяне некалі выратуюць сьвет сваім глыбокім пачуцьцём гуманнасьці, справядлівасьці, праўды, бо гэтыя якасьці — частка іхнага характару... Будзем верыць і працаваць разам, каб наш славянскі сьвет вярнуўся да сябе, пазнаў зноў сваю душу і што ў ёй Боскае [redacted] чалавечае... Вітаю нашых братоў Беларусаў... Перакладам гэтага вершу [redacted] кланяюся перад гуманізмам іхнага вялікага паэты Купалы, які меў веру, нашую славянскую веру, што Славяне, як некалі сказаў Гэрдэр, прынясуць надзею ў прышласьць цэлага сьвету...»

Гэтта падаём пераклад вершу «А хто там ідзе?» па-славацку. Гэта 82-я мова, у якую Купалаў верш перакладзены дагэтуль.

Зора Кіпель

**Kto to tam ide?**

Kto to tam ide? Kto svojím nástupom
ukázal cestu tak veľkým zástupom?
— Bielorusi.

A čože vleču na chrbte zodratom,
v rukách krvavých a v kroku tak chradnom?
— Svoje krivdy.

A kamže nesu tieto krivdy svoje,
či niekto ich snád za ne poľutuje?
— Celému svetu.

Ktože im kázal vydať sa v šíry svet,
so svojou krivdou za právo zahorieť?
— Bieda, psota.

Počomže tužia, takto ponižení,
ked hluchým, slepým spravili všetkých z nich?
— Byť raz človekom.

*Preložil Marian Žiar*

[2] *У Кліўленд.*

## Субота 13 лістапада

Рана ўсталі, пасьнедалі. Не сьпяшаліся. У Cleveland прыехалі недзе каля 2-ой. Яны былі ўсе ў залі. У хаце ў іх жыве цяпер нейкі пэнсіянэр, пакуль яму пабудуюць кватэру «ў канюшні» (домік каля возера). Пад'ехалі туды. Хутка пачалі ўжо і рыхтавацца да спатканьня. Я з Евай [*Яраховіч*] зрабілі выстаўку Купалы-Коласа. Выйшла вельмі добра. Ева запрапанавала затрымацца ў яе, бо ў Калошы нехта меўся быць ужо. У яе вельмі прыемна. Наагул яна сымпатычная, мілая, ня дурная жанчына. Толькі так яе жыцьцё няўдала склалася з Дунцом[1].

Спатканьне былых вучняў гімназіі Я. Купалы прайшло вельмі ўдала. Шкада, што людзей было трохі замала. Дзеля таго што заўтра другая імпрэза — разьбілася трохі.

Выступаў Вітаўт ад вучняў. Кахаоўскі добра, коратка, фактуальна расказаў пра гісторыю Гімназіі. Орсіха трохі ўспомніла пра гімназію, але больш гаварыла пра свае сустрэчы з Купалам[2]. Прамаўляў і Цярэшка[3] (ён прыехаў з Pennsylvania). Усё было прыстойна, урачыста, і разам з тым сямейна.

Пайшлі начаваць да Евы ня позна, але яшчэ доўга гаварылі, успаміналі.

---

[1] *Яна зь ім разышлася.*
[2] *У 20-х гадох у Празе.*
[3] *Анатоль Цярэшка (Вожык), у той час новы эмігрант.*

**Нядзеля 14 лістапада**

Паехалі раніцай у царкву. Там ■ стаяла з Лук'янчыкавай (жонкай Толіка, ня памятаю яе імя). Яна сказала, што Аўген меў апэрацыю сэрца (by-pass). Папрасіла яе, каб спыталася ў Каваліхі пра беларускае адзеньне. Ня ведаю, ці што з гэтага выйдзе, а добра было-б для выстаўкі.

У Вітаўта была няпрыемная гутарка (фактычна абмена колькі сказамі) з Белямуком. Ён зноў нешта на ўсіх крыўдуе за спатканьне гімназістаў. Думае, што яго абышлі. Ён нейкі паталягічны тып. Ня прыйшоў ні на спатканьне, ні на Каханоўскага рэфэрат.

Пасьля царквы паехалі зноў на Полацак. Паабедалі і пачаўся рэфэрат. Каханоўскі добра, зьмястоўна гаварыў пра Купалу й Коласа, іх творчасьць, біяграфічныя інфармацыі. Адным словам — добра, на ўзроўні агляд. Пасьля была кароткая мастацкая частка на тэму Купалы й Коласа: хор, пару вакальных нумароў (Ірка Каляда толькі псавала — затое ваабражэньня хоць адбаўляй), Юрка Каляда нешта чытаў — гэтаксама з вялікім ваабражэньням. Ёсьць жа ў нас такія сем'і!

Яшчэ трохі пабылі там — Вітаўт прадаваў кнігі. Заказалі фатаграфіі — якраз быў там фатограф.

Сабраліся й паехалі.

Ехалася добра — ад'ехалі колькі гадзінаў і затрымаліся нанач. Ня было яшчэ так позна, дык добра адпачылі, паглядзелі T.V. Прыемна правялі час.

**Панядзелак 15 лістапада**

Учора зьвечару трохі пачаў падаць сьнег, трохі парашыла й раніцай, але ня страшна. Мы пасьнедалі ў тым-жа матэлі і паехалі дахаты. Распагодзілася. Ехалася прыемна. Па дарозе яшчэ сталі перакусілі. Ужо ў N.J. зьехалі зь вялікай дарогі, каб купіць яблыкаў. Купілі, але дарога гэта значна збочыла нас.

Дахаты прыехалі яшчэ ня позна. Перакусілі й адпачывалі.

Добрае было гэта наша падарожжа.

**Аўторак 16 лістапада**

Зраньня яшчэ трохі парадкаваліся, бо на работу сёньня пазьней паедзем — на машыне. Дык «mini-вакацыі» яшчэ прадаўжаюцца.

Сёньня год, як я ў Славянскім аддзеле.

Супрацоўнікі падаравалі мне кветкі, ручку з чорным і чырвоным чарнілам. Такая прыемная неспадзеўка. Такія яны ўважныя — год сапраўды быў шчасьлівы для мяне.

Прыходзіў Шук[*елойць*]. Нічога асаблівага. Хадзілі на вячэру разам. В[*ітаўт*] яму перадаў сьпіскі подпісаў на Кавыля — усё хоча яго ўцягнуць — а ён, здаецца, ня цікавіцца гэтым.

Працавалася добра. Толькі вечарам была няпрыемная замінка. Не маглі адчыніць вароты[1]... і не забралі машыну. Прыйшлося ехаць аўтобусам.

---

[1] *Браму бібліятэчнага дворыка, дзе была запаркаваная машына.*

**Серада 17 лістапада**

Вітаўт застаўся дома — прывязуць новую пральную машыну.

Машыну прывезьлі, але чалавек, які меў яе прымацаваць, яшчэ не прыехаў. В. яго не дачакаўся. Па абедзе прыехаў на працу.

Машыну прымацавалі па абедзе — бабка дала рады.

Дахаты ехалі машынай. Усё ў парадку — вароты адчынілі, здаецца, нават учора — хутка, як мы пайшлі.

Машына выглядае ОК. У суботу буду прабаваць, як працуе.

**Чацьвер 18 лістапада**

Зраньня пазваніла Алеся з такой прыемнай весткай — здала «Bar»[1]. Вельмі-ж мы ўсьцешыліся, бо, па-праўдзе сказаць, не спадзяваліся, што яна за першым разам здасьць.

Пазваніла да В[*ітаўта*], расказала ўсім у аддзеле. Усе вельмі цешыліся з намі. У абед пайшла купіла цукеркаў.

Прыемны памятны дзень!

---

[1] *Bar exam — экзамэн на прыняцьце ў адвакатуру.*

**Пятніца 19 лістапада**

Званіла Юлі, каб купіць альбомчык паслаць Еве ў Кліўленд за яе гасьціннасьць. Юля абяцала прывесьці ў нядзелю, што мае.

Вечарам пайшлі на вячэру з Шук[*елойцем*]. Гаварылася, як цяпер і трэба спадзявацца, пра Лофтуса, пра нямецкі пэрыяд. Шук. шмат памятае дэталяў, якія неяк трэба было запісваць.

**Субота 20 лістапада**

Мыла першы раз бялізну. Машына мые добра, але ўсё яшчэ трэба ўважаць, каб добра наставіць і ўзровень вады і адпаведную хутчыню і даўжыню мыцьця. Адно трохі здаецца злучэньні ня добра зробленыя — трохі капае вада каля трубаў. Трэба зноў клікаць майстра — зноў клопат.

В[*ітаўт*] паехаў на зборку Крэчэўскага — ён цяпер у дырэктарох.

Я паехала паглядзець Алесі тэчку на падарунак, што здала экзамэн. Бяз толку была мая паездка — нічога ня купіла, стамілася. Купіла ўсё для індыка[1].

У В. зборка прайшла добра — вырашылі пэўную суму рэгулярна пе-

раводзіць на Інстытут. Дамы яшчэ ўсё прадаюцца. Шмат праблемаў зь імі, зь лякатэрамі[2].

[1] *Неўзабаве — Дзень Удзячнасьці — «Дзень Індыка».*
[2] *З кватрантамі. гаворка пра дамы, што належалі фундацыі Крачэўскага.*

**Нядзеля 21 лістапада**

Раніцай, як заўсёды, пасьнедалі, трохі папарадкаваліся.

Па абедзе паехалі ў N.Y. Вітаўт скінуў мяне каля славацкага цэнтру, дзе была Славянская выстаўка, а сам паехаў да Тумаша. Я добра правяла там час. пагаварыла зь Юляй — купіла ў яе альбом для Евы і кніжачку чэкавую для Алесі. Выбрала некаторыя рэчы з Раінай калекцыі для выстаўкі ў New Brunswick. Наша выстаўка вельмі прыгожа выглядае.

За пару гадзінаў прыйшоў і Вітаўт. Яшчэ трохі пабылі там. В. гаварыў з Krügeram[1] — каб абмеркавалі магчымасьць прыймаць удзел у этнічных выступах у Action Park. Дамовіліся, што на іхную чарговую зборку В. прывядзе Steven Richer.

Прыехалі дахаты яшчэ ня позна. Трохі яшчэ папрацавалі, адпачывалі.

[1] *Старшыня арганізацыі «Славянская Спадчына» ў Нью Ёрку.*

**Панядзелак 22 лістапада**

Карэсара ня будзе на працы цэлы тыдзень — будзе заняты тыдзень, але я люблю гэта.

У абед схадзіла заказаць Алесі тэчку ў тым самым магазіне, дзе купляла валізку. Паабяцалі, што дастануць.

Працы шмат, але чуюся добра.

**Аўторак 23 лістапада**

У абед хадзіла ў магазыны, каб нешта купіць для Алесі, але нічога не знайшла.

На пятай авэню адкрыўся новы барахольны магазын. Паглядзела там можа што знайду. Купіла, праўда, для сябе начную кашульку — ня дорага, і, здаецца, добрая.

Так усё добра.

**Серада 24 лістапада**

Забрала Алесіну тэчку. Вельмі рада, што яны перад яе прыездам змаглі дастаць. Прыгожая. Павінна Алесі спадабацца. Дзень прайшоў добра.

Вечарам варыла для начынкі, прыгатавала ўсё, што трэба да заўтра. Сьпякла торцік па рэцэпту Евы. Выйшаў даволі добры, толькі трохі зацяжкі.

Алеся прыехала даволі позна на машыне. Ехала яна з Ann[1] — за-

везла яе недзе да сваякоў тут па суседству. Яшчэ трохі пагаварылі і пайшлі спаць.

[1] *Алесіна сяброўка.*

**Чацьвер 25 лістапада, Thanksgiving[1]**

Раніцай рабіла індыка. Вазілася пакуль начыніла. Як толькі паставіла ў печку — сталі сьнедаць. Добра, прыемна пасядзелі, пагаварылі. Алесі падарункі спадабаліся. Пасьля Алеся паехала да Dion, а я парадкавалася, рыхтавалася да абеду.

Абедалі. Індык гэтым разам выйшаў нейкі сухі. Гэта амаль, мусіць, першы раз, што мне не ўдалося. Усе казалі, што добры, але я сама ня была задаволеная. Былі мы толькі ўчатырох. Сям'я ўсё меншая робіцца, але прыпомнілі, што ў мінулым годзе было нас яшчэ меней — бабка была ў шпіталі. Праўда, мама яшчэ жыла, але яна таксама была ня з намі мінулы год. Цяпер ужо й мамы няма зусім. Але год быў для ўсіх памысны, шмат за што трэба быць удзячным. Шкада, што Юрачкі з намі не бывае ўжо 2 гады. Ну, можа ўжо на наступны Thanksgiving зьбярэмся ўсе разам — усе пяць нас.

Алеся паехала недзе да Надзін. Яна як прыязджае дахаты, дык больш часу праводзіць па чужых дамох, як у сябе дома.

[1] *Дзень Удзячнасьці, вельмі вялікае пабытовае амэрыканскае сьвята: індык, ежа, піцво, амэрыканскі футбол...*

**Пятніца 26 лістапада**

Прыехалі на работу на машыне. Працавалася добра. Людзей ня так шмат. Алеся прыехала ў N.Y. пад абед. Схадзілі зь ёй у магазыны. Купілі ўсялякай дробязі.

Пасьлей пайшлі ў Фіна, каб дастаць ацэнку завушніцаў. Пратарчэлі там столькі часу і нічога шмат не дабіліся. Пакінулі рахунак — прышлюць нібы.

Алеся пасьля гэтага паехала ў музэй — мела там спаткацца з Анн, а я на працу.

Алеся справілася яшчэ прыйсьці да нас у бібліятэку перад тым, як мы кончылі. Паехалі дахаты ўсе разам. Вячэралі, зразумела, астаткамі ад індыка.

**Субота 27 лістапада**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі.

Напісала ліст Еве, запакавала альбомчык і выслалі нарэшце. Гэта мне ўжо даўно карцела.

Паехалі ўсе разам паглядзець Алесі машыну і... купілі. Вось так і купілі. Пазьней па пакупкі. Накуплялі ўсяго для Алесі — частку яна сама плаціла, частку я. Бабка ёй дала грошы. Адным словам, накуплялі шмат.

**Нядзеля 28 лістапада**

Пасьнедалі, памыла бялізну і паехалі зноў па пакупкі ў Willowbrook. Ня памятаю, ці што купілі — мусіць, нешта купілі — напэўна купілі, але часу шмат ня было, бо Алеся ўжо па абедзе выязджае.

Пакуль Алеся сабралася, дык было ўжо добра па абедзе. Яшчэ мае заехаць па Ann.

Вечарам ужо трохі хваляваліся, што няма ад яе тэлефону.

Пазванілі самі — яна якраз убягала ў хату. Доўга ехалі, быў трафік, але ўсё добра.

**Панядзелак 29 лістапада**

Карэсар прыйшоў. Усё ўжо ўвайшло ў нармальны рух пасьля сьвятаў, пасьля прыезду Алесі. Нічога цікавага, нічога нязвычайнага. Мелі зь ім, як заўсёды, невялічкую канфэрэнцыю, як было [*ў аддзеле*].

Аўторак 30 лістапада

Нічога не запісана. Усё нармальна. Карэсар дастаў мне дазвол на машыну[1] на чацьвер.

---

*[1] На паркінг у бібліятэчным дворыку.*

**Серада 1 сьнежня**

Зноў нічога не запісана.

**Чацьвер 2 сьнежня**

Прыехалі на машыне, прывезьлі экран[1]. Сяньня мае быць невялічкая нарада аб тым, як мы наладзім Калядную «party» ў славянскім аддзеле. Добра, рэчова абгаварылі, разьмеркавалі функцыі. Цэлы дзень прайшоў у плянаваньні, гутарцы. Не працавалі шмат сяньня. Настрой прыўзьняты.

У абед схадзіла купіла цукерак — вельмі танныя, смачныя бэльгійскія цукеркі ў прыгожых пакунках. Вельмі добра будзе для падарункаў.

Па абедзе мелі невялічкую лекцыю з пражэктарам. Mr. Souchek разказаў пра сваю паездку ў Сярэднюю Азію. Было вельмі цікава. Пасьля мелі невялічкі, але вельмі шыкарны пачастунак — Наташа атрымала L-III[2]. (Я была прысьпешыла, ва ўсялякім выпадку, удакладніла гэтую справу).

---

*[1] Для паказу фільмаў у Славянскім аддзеле.*
*[2] Павышэньне — бібліятэкар трэцяга разраду.*

**Пятніца 3 сьнежня**

Нічога не запісана.

**Субота 4 сьнежня**

Працую сёньня. Раніцай зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Прыехалі на машыне. Купіла яшчэ цукерак.

Дзень прайшоў памысна.

**Нядзеля 5 сьнежня**

Мыла бялізну, парадкавалася. Адпачывалі, але аднаго дня неяк трохі мала для адпачынку.

**Панядзелак 6 сьнежня**

Нічога не запісана.

**Аўторак 7 сьнежня**

Дзень прайшоў нармальна, бяз ніякіх цікавых, для запісаньня рэчаў.

Вечарам хадзілі разам з Шук[*елойцем*] на вячэру. В[*ітаўт*] зноў даў яму сьпіскі падпішчыкаў на [*кнігу*] Кавыля, але ён гэтым зусім ня цікавіцца. Гаварылі пра Loftus'а. Шук. яшчэ ўсё жыве тым менскім пэрыядам — усё памятае, усё перажывае. Некаторыя мамэнты нават цікавыя й важныя, але-ж ён усё роўна нічога не напіша, не зарэгіструе.

**Серада 8 сьнежня**

Хадзіла ў абед купіць нейкі падарунак да Richer — яны запрасілі нас на абед у нядзелю.

Купіла таксама ляльку для малой дзяўчынкі на фарме.

Пад канец дня пайшлі зь В[*ітаўтам*] на прыймо — Бібліятэка дастала дапамогу пару мільёнаў ад ураду, дык была ўрачыстая перадача чэку. Былі запрошаныя толькі шэфы аддзелаў[1] і наагул шышкі. Я папала, як жонка. Было вельмі прыемна. Мы доўга ня былі, бо яшчэ шмат дома працы. Пакавала падарункі, зьбіралася да заўтрашняй паездкі.

---

[1] *Былі і прадстаўнікі з Вашынгтону. Я тады ўжо быў вядучым загадчыкам Навуковага аддзелу бібліятэкі.*

**Чацьвер 9 сьнежня**

Выехалі даволі рана. Ехалася добра. Найперш заехалі да Гэлен — яе ня было, але, як дамовіліся, яна пакінула рэчы, што зрабіла для Алеські, у гаражы. Я ёй там-жа пакінула цукеркі.

Заехалі да Гертруды — дала цукеркі, і яна мяне папярэдзіла, што Larry нешта ў хаце перарабляе[1].

Наступна — у хату. Там яшчэ ўсё ў раскіданым стане, але цёпленька. Яны паляць толькі печку на дровы і зусім цёпла па цэлай хаце. Нават загорача ў гасьцінай (там, дзе яны зрабілі спальню), дык яны надумалі ўцяпліць бочныя пакойчыкі, і ён пачаў ужо разломваць перагародку. У прынцыпе мы нічога ня маем супроць, але тое, што ён нам нічога не сказаў перад тым, як пачаць ламаць, — ня добра. Я трохі незадаволеная. Не падабаецца мне, як ён захоўваецца там, як гаспадар.

Ляльку дзяўчынка вельмі ўпадабала. Пабылі там трошкі. Забралі з сабой швэйную машыну, бо яна там перашкаджае — якраз улезла ў багажнік.

Паехалі да Frantuta[2]. Там трохі пабылі, аддалі цукеркі, пагаварылі, заладзілі, што трэба было, і паехалі да Нядзьвігаў. Там таксама доўга не сядзелі. Зьезьдзілі па яблыкі — набралі шмат. Заехалі да Беразоўскага[3]. В[*ітаўт*] меў яму нейкія матар'ялы, кніжкі. Я папыталася пра дзяружку — здаў, нібы, у чыстку, але абяцае, што дасьць. Будзем спадзявацца.

У Нядзьвігаў паабедалі, ды хутка й дахаты. Нядзьвігі надавалі зноў усяго. Печыва, капусты. Заехалі да Кавыля — ён даў свае прыгатаваныя манускрыпты. І нарэшце ўжо зусім дахаты. Поўны, плённы дзень.

---

[1] *Гэлен, Гертруда — суседкі. Лэры — кватарант.*
[2] *Суседзі.*
[3] *Мясцовы сьведамы беларус.*

**Пятніца 10 сьнежня**

Прынесла на работу печыва. Усім спадабалася, але я лічу, што трохі засалодкае, як у Антаніны [*Нядзьвігі*] заўсёды.

Трохі адчуваецца стомленасьць пасьля ўчарайшага такога поўнага дня.

**Субота 11 сьнежня**

Ідзе сьнег — нідзе не паехала, толькі зрабіла завіўку. Пазваніў Steven даведацца, ці прыедзем ад іх. Вырашылі, што ня варта ехаць дзеля пагоды. Рабіла [*бібліяграфію*] Куп.-Кол. Дзень прайшоў спакойна.

**Нядзеля 12 сьнежня**

Сядзелі дома — сьнег. Не памыла нават бялізны гэты тыдзень.

Званіла Joann[1], каб даведацца пра Слуцкія паясы. Яна абяцала прыслаць дакладныя дадзеныя. Наагул абяцала памагчы ў чым можа.

Прынесла ялінку, што Белямук падараваў. Уставіла — адразу Калядны настрой.

---

[1] *Асоба, якая ладзіла выстаўку ў Бінгэмптане — цяпер мы зь ёй блізка зышліся.*

**Панядзелак 13 сьнежня**

Хадзіла заказаць Алесі валізку для падарунку на Каляды. Нічога больш цікавага.

**Аўторак 14 сьнежня**

Званіла Запрудніку пра Калядкі. Ён прыпамінае, што ў Забэйды-Суміцкага ёсьць адна і адна ў Песьняроў. Паабяцаў, што дасьць. Прынесла цукеркі для «каталёгэраў», яны ўжо пачалі «пачастункі»[1].

Званіла ў Мэтраполітан Музэй[2], каб наладзіць спатканьне — дамовіліся на 6 студзеня. Doares папрасіла Сл. аддзел закупіць ці сьпячы трохі печыва на «Staff party». Папрасіла Аліну і Лізу заняцца гэтым.

---

[1] *Калядны звычай.*
[2] *Праведаць, ці ў іх у запасьніках няма слуцкіх паясоў.*

**Серада 15 сьнежня**

Аліна прынесла пячэньне.

**Чацьвер 16 сьнежня**

Я дома сёньня — за суботу. Сабрала рэчы для выстаўкі. Дождж, але я паехала па пакупкі. Вельмі было ня спорна, але трохі сёе-тое купіла. Галоўна — радыё Юру. Прыйшла паштоўка ад Joann з інфармацыяй пра Слуцкія паясы ў Baffalo і Textile Museum — якраз у час.

Вітаўт паехаў на работу, бо там быў сёньня прыём, на які ён лічыў, што трэба пайсьці. Пасьля работы паедзе аўтобусам да Русакоў. Я паехала да Русакоў на машыне. Добра ўсё перагаварылі. Паказалі Jeffrey Wexler'у бальшыню нашых экспанатаў. Канфуз з рэчмі ад Нічык. Галіна вельмі пакрыўдзілася, як даведалася, што я ўжо маю гэтыя рэчы. Хадзілі й да Надзі паглядзець, што ў яе[1]. Галіна прыгатавала вячэру. Але настрой быў трохі нацягнуты. Пасьля вячэры, як пайшоў Jeffrey, яшчэ трохі гаварылі, даволі прыўзьнятым тонам. Шмат рэчаў, зь якімі я не згаджаюся з Галінай. Разышліся на халоднай нотцы.

---

*[1] Рыхтавалася беларуская этнаграфічная выстаўка ў Ратгерскім унівэрсытэце ў Нью Брансуіку.*

**Пятніца 17 сьнежня**

Ранічкай памыла трохі бялізны.

Прынесла пласьцінку Забэйды. Румяна будзе наігрываць на істужку Калядкі розных славянскіх народаў для нашай «party».

Званіла Юля — яна перадала з Яняй для мяне рэчы. Вітаўт пойдзе да Зап[*рудніка*] пазьней.

Прыходзіў беларус з UN — Шчасны[1]. Добра пагаварылі. Ён даволі цікавы. Кажа, што часта прыходзіў у бібліятэку, але да нас ніколі не заявіўся. Далі яму трохі нашых кніжак. Ён цікавіўся кніжкай Агінскага для нейкага мясцовага музэю. Зрабіла яму толькі xerox загалоўнай бачынкі.

Пазванілі, што прыйшла валізка.

Была «Staff party»[2] — даволі ўдалая. Вітаўт забраў ад Зап. пласьцінку, рэчы ад Юлі і прынёс газэту.

---

*[1] Сп. Шчасны падараваў нам дзьве анталёгіі Купалавага «А хто там ідзе?»: адна зь перакладамі ў альфабэтычным парадку, другая — дзе расейскі пераклад наперадзе. Гэтыя кніжкі цяпер у спэцсховішчы.*

*[2] Вечарына ў Славянскім аддзеле.*

**Субота 18 сьнежня**

Памыла зраньня бялізну. Зрабіла валасы. Сёньня працую. Забрала валізку. Працавалася добра.

**Нядзеля 19 сьнежня**

Памыла свае рэчы. Прыбірала трохі. Пісала карткі. Вітаўт паехаў

да Тумаша. Ён лепей маецца, але хоча як мага болей рэчаў перадаць нам.

Паехалі спатыкаць Юрачку. Яго самалёт спазьніўся — доўга чакалі, але ўсё ў парадку. Юра выглядае трохі стомлены. Расказваў пра сваё жыцьцё, навуку. Прыемна яго мець ужо дома.

**Панядзелак 20 сьнежня**

У абед хадзіла па пакупкі — нічога.

Юрачка падрыхтаваў нам вячэру. Рабіла [*бібліяграфію*] К.-К.

**Аўторак 21 сьнежня**

Званіла Галіна, як справа з усім, ці даведаліся што пра паясы.

Я пазваніла ў Buffalo. Дастала добрую канкрэтную інфармацыю. Так выглядае, што адзін Слуцкі пояс мы дастанем[1].

На рабоце шмат беганіны, [redacted] яшчэ трэба па пакупкі бегаць. Купіла Юру кашулькі Izod. В[*ітаўт*] працуе вечарам. Мы зь Юрам езьдзілі ў магазыны. Купілі для бабкі [*электрычную*] печку.

Званіла Алеся. Пагаварыла зь Юрам. Прыедзе ў чацьвер.

---

[1] *Музэй у Бафала згадзіўся пазычыць слуцкі пояс на выстаўку ў Нью Джэрзі.*

**Серада 22 сьнежня**

Хадзіла зноў у магазын. Нічога ня купіла — толькі дробязі.

Юра нам зноў падрыхтаваў вячэру. Сёньня выйшла ў яго суп-каша.

**Чацьвер 23 сьнежня**

На работу паехалі на машыне — бо шмат рэчаў было трэба прывезьці. Рыхталіся да «Party». Карэсара няма. Party прайшла надзвычайна ўдала. Усе чуліся добра. Усё было добра падрыхтавана.

Як толькі мы прыехалі — Юра паехаў у магазын па свае пакупкі на Каляды. Пасьля паехаў па Алесю. І тут выйшаў такі прыкры канфуз — ён чакаў яе на адным вакзале, а яна прыехала на другі. Пасьля колькіх тэлефонных званкоў ад абодвух іх, пасьля невымяральных хваляваньняў і нэрваў з нашага боку — нарэшце яны неяк сабраліся разам і прыехалі дахаты. Яшчэ трохі гаварылі, але было ўжо позна, як нарэшце спакоіліся і пайшлі спаць.

**Пятніца 24 сьнежня**

Рана зрабіла валасы і адразу-ж на аўтобус. Сёньня яшчэ працуем. У абед рабіла апошнія закупы. Купіла Алесі кнігу, Юру гальштук. Дзеці таксама сяньня яшчэ маюць свае закупы зрабіць. Купілі Ялінку.

Вечарам прыбіралі Ялінку. Ялінка гэтым разам вельмі ўдалая.

Дзеці недзе паехалі. Я канчала пакаваць падарункі. Сабралася ўсё-ткі. Так прыгожа выглядаюць пад ялінкай, разам з мамінай царкавушкай.

**Субота 25 сьнежня, Каляды**

Ранічкай сталі разьбіраць падарункі. Усе былі задаволеныя, усё пасуе, усё патрэбнае. Вельмі мала будзе заменаў.

Пасьнедалі ўсе разам.

Прыходзіла Карэн[1], трохі пабыла ў нас. Алеся пайшла пазьней да Надзін, а Юра да Карэн. Дзень прайшоў вельмі прыемна. І Юра і Алеся прыйшлі дахаты ня позна.

---

*[1] Юрава сяброўка.*

**Нядзеля 26 сьнежня**

Мыла раніцай бялізну. Нядзеля — не нядзеля, а трэба зрабіць, што трэба — бо як у канцы тыдня ня зробіш, то калі-ж тады. Ды зімой яшчэ трэба камбінаваць, каб дзень быў добры.

Юра з Надзін паехаў на практыкаваньне — яна працуе для кампаніі, што падрыхтоўвае мэдычных студэнтаў да ўсялякіх тэстаў. Гэта для Юры вельмі карысна.

Мы з Алесяй паехалі ў магазын. Тое-сёе абмянялі. Тое-сёе яшчэ купілі.

Вячэралі разам. А тады дзеці паехалі ў кіно.

**Панядзелак 27 сьнежня**

На рабоце вельмі спакойна. Мала людзей.

Замяніла Юру адзін з гальштукаў і Алесі купіла новае жалязка, тое занесьлі назад — было толькі на адзін вольтадж.

Юра паехаў у Columbus на інтэрв'ю[1].

Алеся прыгатавала нам вячэру. Пазьней паехала да Надзін.

---

*[1] Сталіца штату Агаё, Юра шукаў там працу.*

**Аўторак 28 сьнежня**

У N.Y. Times была рэцэнзыя на Лофтусаву кнігу. Рэцэнзыя даволі добра напісаная — ня надта прыхільная да кнігі. Але наагул на кнігу рэклямa вялікая. Проста цяжка зразумець, што на такую дрэнь такая рэклямa. Нехта за ім стаіць — бяз сумліву.

Пазванілі з Мэт[*рапалітэн*] Музэю. Адклалі спатканьне на 13 студзеня.

Дома быў чэк за хату ад Prewitt і вельмі смачны пернік.

Спаткалі Юру на аэрадроме і паехалі на вячэру ў Candelwick. У Юры інтэрв'ю прайшло добра, але вялікай надзеі на гэта мейсца ён ня мае.

Алеся паехала яшчэ да Надзін. Яна, як прыязджае дахаты, бывае больш з Надзін, як з намі.

**Серада 29 сьнежня**

Юра з Надзін зноў на практыкаваньні.

Мы з Алесяй вечарам паехалі ў магазын.

**Чацьвер 30 сьнежня**

Юра з Надзін. Алеся ў Нью Ёрку з Anthony.

Вечарам да Юры прыйшлі хлопцы. Доўга яны сядзелі ў нас, але было вельмі спакойна, прыемна. Мы зусім не хваляваліся і не злаваліся. Як прыйшла Алеся, яны яшчэ сядзелі, гаварылі. Разышліся недзе пасьля 3-яй.

**Пятніца 31 сьнежня**

Сёньня дома, зразумела. Зраньня зрабіла валасы. Мыла бялізну. Пазванілі, што памёр [*Васіль*] Божка. Гэта было вельмі неспадзявана, але не магу сказаць, каб уразіла нас. Шкада толькі, што чалавек так сваё і блізкіх сабе людзей жыцьцё змарнаваў[1].

Езьдзілі зь Юрам у Патэрсон па фрукты. Па абедзе Алеся паехала дахаты. Надзін паехала зь ёй. Яны там плянуюць «Party».

Юрачка паехаў у New Branswick да Галіны Бахар, а зь ёй недзе зьбіраюцца на спатканьне Новага Году.

Мы зь Вітаўтам засталіся самі, як і шмат гадоў ужо.

Спакойненька правялі вечар, спаткалі Новы Год і пайшлі спаць.

Юрачка начаваў недзе там.

Вось і яшчэ адзін год прайшоў.

---

[1] *Божкі — беларуская сям'я, мы былі зь імі ў блізкіх дачыненьнях.*

## *1983*

**Субота 1 студзеня**

Пасьнедалі бяз Юры. Ён яшчэ недзе гуляе. Але ўжо як каля 2-ой ня прыехаў, я пазваніла да Бахараў. Ён якраз толькі выехаў.

Як толькі Юра прыехаў, Вітаўт паехаў да Тумаша.

Мы зь Юрам гаварылі, расказваў ён, як яму было ў Бахараў. Яны рашылі нікуды на забаву ня йсьці, бо выглядала пуста і ў Шакаў, і ў Цэнтры. Нікога зь іхных сяброў ня было, дык яны з Галінай Бахар пайшлі да іх дахаты і там і спаткалі Новы Год. Юра, здаецца, задаволены.

В. з Тумашам гаварылі пра мой артыкул пра Купалаў «А хто там ідзе?» Тумашу ён спадабаўся. Т. падаў колькі ідэяў. Адна цікавая рэч, якой я ня ведала, што Рагоўскі быў нібыта харват.

Я працавала далей над Купалам і Коласам. В. нешта сваё рабіў. Дзень (першы дзень году) прайшоў спакойна, працавіта.

**Нядзеля 2 студзеня**

Нідзе з хаты ня вылазілі. Я ўжо другі дзень хаджу не адзеўшыся. Хочацца неяк адпружыцца.

Памыла бялізну. Пагода стаіць прыемная.

Званіла Галіна. Гаварыла спачатку зь В. У іх зноў, здаецца, суд бу-

дзе[1]. Прыехаў да іх Уладыка Мікалай. Яна ўсё клапоціцца пра Лофтуса кніжку.

Мы зь ёй дамовіліся спаткацца ў сераду. Яна прыедзе да нас з Надзяй.

Юра пайшоў недзе з Бары. Прыйшлі ня позна. Мы нават не пачулі, што Бары зь ім. Бары начаваў у нас, а раненька ціха пайшоў. Гэтую ноч мы зусім добра спалі.

---

[1] *Царкоўныя справы.*

**Панядзелак 3 студзеня**

Першы раз у новым годзе на працу. Ня хочацца. Так за гэтыя пару дзён адарвалася.

Юра паехаў у White Plaines[1] падаць на Clerkship[2].

Заказалі кветкі для Божкі па тэлефоне. Юра, як прыехаў, заплаціў.

Юрачка чакаў нас каля аўтобуса зь ядой ужо. Паелі, ды паехалі на паніхіду. Па дарозе яшчэ падабралі сп. Жамойду.

На паніхідзе, як на паніхідзе. Пабачылі шмат знаёмых — «увесь Беларускі Passaic і ваколіцы». Бачылі і Сяргея Якімовіча[3]. Прыйдзе паглядзець машыну і T.V.

Прыехаўшы, яшчэ трохі папрацавала з [*бібліяграфіяй*] К.-К. Юра паехаў з хлопцамі — Бары ўжо заўтра адлятае ў школу.

Каля 1-ай прыйшлі яны да нас і сядзелі, гаварылі, гулялі там наверсе ў Юры. Вітаўт добра спаў, але я не заснула. А 3-яй недзе прачнуўся й В. Ну й пачалося! Расстроіліся абодва. Пасьля 4-ай я не вытрымала і пайшла наверх, каб яны ўжо хутчэй разыходзіліся. Ажно яны чакаюць да 5-ай, каб завесьці Бары на аэрадром. Хай-жа-б ён сказаў нам адразу гэта.

Адным словам, яшчэ не адразу супакоіліся. Але, нарэшце, заснулі на пару гадзінак. Вось і ночка!

---

[1] *Прадмесьце Нью Ёрку.*

[2] *Мэдычная спэцыялізацыя.*

[3] *Зь Сяргеем мы знаёмыя з 1945 году. Ён са Случчыны. Я пазнаёміўся зь ім у такіх абставінах: У Рэгенсбургу была аблава. Некага лавілі. Усіх затрыманых завялі на двор пры паліцыі. Тады сталі вылучаць па нацыянальнасьцях. Як сказалі «Weiss-russen», выйшлі Сяргей, я і яшчэ зь дзясятак асобаў. Усіх беларусаў «абшманалі» і адпусьцілі. Мы зь Сяргеем пайшлі разам у лягер Messerschmidt — там яны жылі. Гэтак зышліся на жыцьцё. Ён працаваў мэханікам у вялікай краме — напраўляў халадзільнікі, тэлевізары.*

**Аўторак 4 студзеня, Алесін дзень народзінаў**

Я рана дома: чуюся разьбіта, але я думала, што будзе горш. В[*ітаўт*] пайшоў на працу. Я яшчэ крыху паляжала і пачала рухацца.

Зрабіла мэню на куцьцю і сьпісак прадуктаў, што трэба купіць.

Тады стала нарэшце ўкладаць лісту рэчаў для выстаўкі, бо Галіна заўтра прыедзе.

Пасьля, як Юрачка ўстаў і я памылася й сабралася, паехалі ў магазын па прадукты. Купілі ўсё, што трэба было, толькі адно крахмалу для кісялю не знайшлі.

Паехала на работу. Тут яны ўжо нешта плянавалі для Міша[1] —ягоны сяньня дзень народзінаў таксама. Я ў гэтым не прымала ўдзелу, а стала друкаваць карткі для экспанатаў. Зрабіла гэта хутка, адбіла копіі. Зрабіла таксама мапу Беларусі, каб адзначаць мясцовасьці паходжаньня.

Mrs. Yuryeva[2] паказала мне свой ліст да прэзыдэнта NYU, з прапановай аднавіць славянскія студыі. [redacted] пагаварыла з В., і мы рашылі, што трэба зь ёй трымаць лучнасьць і памагчы ёй.

Падчас кавы пазванілі Алесі, прывіталі яе з днём народзінаў. У яе ўсё добра.

Выйшаў невялічкі канфуз з падарункам для Dr. Mish. Karessaar успыліў, бо жанчыны вырашылі купіць яму торцік (а ён плянаваў віна).

Цяпер сяджу на дыжуры[3] і пішу дзёньнік. Ціха. Людзі трохі ёсьць, але ўсе сядзяць і працуюць.

Юра нас чакаў каля бібліятэкі — прыехаў па нас на машыне. Добра даехалі. Яшчэ заехалі купілі паесьці (гамбургэрс і сандвічаў). Добра, прыемна правялі час і рана пайшлі спаць усе.

---

[1] *Былы дырэктар Славянскага аддзелу.*

[2] *Зоя Юр'ева — беларуска зь Беласточчыны, прафэсар літаратуры Ньюёркскага Ўнівэрсытэту. Беларускасьці Юр'ева не цуралася, але трымалася з рускімі.*

[3] *Дыжур — гэта гадзіны, якія трэба правесьці за даведачным сталом (Reference Desk). У Славянскім аддзеле звычайна дзьве гадзіны штодзённа.*

### Серада 5 студзеня

Падчас ранішняга перапынку пазванілі Галіне. Яны прыедуць а 7-ай, то я ня буду й сьпяшацца выходзіць з працы. Дзень прайшоў бяз вялікіх прыгодаў. Зраньня ня было Карэсара. Ідзе дождж, дык я й ня выходзіла на двор зусім. Падчас абеду пісала дзёньнік.

Вечарам быў даволі вялікі рух, дык мы прыехалі пазьней. Юрачка чакаў нас на астаноўцы з машынай. Заскочыла яшчэ купіла дрожджы і дробязь.

Толькі прыйшлі ў хату — тэлефон ад Галіны — ня прыедуць сёньня. Мне гэта вельмі на руку. Пачну адразу сваё печыва.

Вазілася цэлы вечар з макаўкай. Скончыла недзе каля 12-ай. Выйшла, здаецца, добра.

Юра цэлы вечар меў усякія тэлефоны — у аднэй іхнай сяброўкі трагічна загінулі маці, бацька й брат. Бары прылятае з Флярыды на паховіны. Юра мае яго спатыкаць на аэрадроме а 2-ой уначы. Зноў будзе «Усеначная»!

В[*ітаўт*] спаў добра да 3-яй, а я цэлую ноч не магла заснуць. Пры-

ехалі яны (Бары ў нас начаваў) пасьля 4-ай. Трохі ўжо залішне гэтага ўсяго. Стамляемся.

**Чацьвер 6 студзеня**

Чуюся вельмі стомленая.

Юра паехаў на паховіны з хлопцамі.

Я прынесла макаўкі на работу — для нашага аддзелу і для каталёгэраў. Усім вельмі спадабалася.

Мы мелі Staff meeting[1] — я гэты раз мела запісваць. Мітынг прайшоў добра — рашылі, што трэба пачаць пераносіць частку кніжак на 5 стак[2] — нарэшце абчысьцілі. Мы ў чацьвяргі яшчэ будзем закрытыя, хоць уся бібліятэка адкрытая[3].

Дахаты паехала раней і пачала рыхтавацца да куцьці. Юра з бабкай ужо пачалі рабіць рыбу. Усе добра справіліся. Куцьцю мелі добрую. Нават мелі аплатку. Як нейкае прывідзеньне — пару дзён таму прыйшоў ліст для мамы ад нейкай жанчыны, якая ня ведала, што мама памерла (пошта пераслала да нас). У лісьце была аплатка. Я вельмі расчулілася — усё роўна, як мама ўсё яшчэ клапоціцца пра нас, кіруе нас, апякуецца намі. Наагул я так часта й так добранька ўспамінаю маму. Куды ні глянеш, што ні возьмеш — прыпамінае нам маму.

---

[1] *Сход аддзелу.*

[2] *Славянскае кнігасховішча займала палову 6-га паверху. Месца было мала. Далі частку 5-га паверху.*

[3] *Зь фінансавых меркаваньняў бібліятэка часам была дзень-два зачыненая. Гэтым даваўся сыгнал публіцы — цісьніце на сваіх палітыкаў, бібліятэка ня мае грошай!*

**Пятніца 7 студзеня**

Хоць і сьвята сяньня, але мы паехалі на працу.

Юрачка паехаў з намі ў N.Y. Адкрыў сабе чэкі[1], заладзіў справы ў банку. Зайшоў у Мэксыканскі кансулят і да Когэна[2]. Таксама хадзіў купляць кнігі, але здаецца нічога не знайшоў. Вечарам разагрэлі астаткі ад куцьці. Юрачка з хлопцамі пайшоў у кіно. Прыйшоў ня надта позна.

---

[1] *Чэкавы рахунак.*

[2] *Дараднік студэнтаў, якія вучыліся Мэксыцы.*

**Субота 8 студзеня**

Пасьнедалі. Зрабіла прычоску.

Мыла бялізну — усе суботнія заняткі.

Пад вечар прыйшоў Якімовіч — паправіў пральную машыну. Добра зрабіў. Стаў глядзець T.V., але нічога не зрабіў. Паабяцаў, што, можа, пазьней прыедзе і яшчэ паглядзіць. Доўга яшчэ сядзеў.

Юра сёньня дома.

Спакойна прайшоў вечар, як ужо Якімовіч пайшоў.

Званіў Калоша, казаў, што здымкі яшчэ, можа, перашле. Я ўжо яму сказала, што ня варта турбавацца.

**Нядзеля 9 студзеня**

Дома сядзім. Юра паехаў з Надзін на практыку — дамовіліся, што яго спаткаем і пойдзем на вячэру.

Вітаўт паехаў да Тумаша. Я падрыхтавала рэчы для Галіны, яна прыедзе пазьней.

Званіла Алеся. У яе ўсё добра, яна хацела пагаварыць зь Юрам.

Па абедзе прыехала Галіна. Мы зь ёй яшчэ разгледзелі і адабралі некаторыя рэчы. Мне зноў трэба будзе зрабіць карткі на іх. Упарадкавалі карткі, што я мела і яна нейкія зрабіла. Добра пагаварылі, яна ўсё яшчэ, праўда, крыўду мае за рэчы ад Нічык. Я ёй старалася давесьці, што, каб я не адкупіла ад яе, то ніхто іх-бы ня меў — прапалі-б яны для нас.

Прыехаў В., але доўга ўжо з Галінай не сядзелі, бо трэба было ехаць па Юру. паехалі па яго, але вырашылі ў рэстаран ня йсьці. Усе нейкія стомленыя. Купілі нейкіх «гамбургаў» і паехалі дахаты вячэраць. Вечарам яшчэ прыязджаў Дутка. Прывёз рэчаў для пачкаў у Беласточчыну. Прывёз яшчэ нейкага матар'ялу пра К.-К. [*для бібліяграфіі*]. Яшчэ нешта для яго шукалі[1].

Пазваніла Эстэр. Яны ўжо атрымалі паперы з Трэнтана, цяпер толькі мусіць прайсьці праз мясцовыя ўстановы ў Mays Landing і тады ўжо [redacted] — гаспадыня. Я ёй сказала, што ў канцы месяца мы ўсё роўна будзем у тых краёх, дык можа да гэтага часу нешта выясьніцца.

---

*[1] Ён зьбіраў матэрыялы да народнага календара.*

**Панядзелак 10 студзеня**

Юра паехаў у New Haven. Вітаўт яго ранічкай завёз на цягнік.

Паслала ліст і рахунак тэлефонны Prewitt[1].

В. праехаў на рэспубліканскую зборку ў Secaucus[2].

Пазваніла Кахаоўскім. Яна неяк прыслала ліст — хоча ад нас дадзеныя з нашай бібліяграфіі, каб нешта напісаць. Далі ёй трохі вестак. Вітаўт абяцаў яшчэ больш напісаць.

Пазваніла да Доры Рак, каб нехта ад украінцаў быў прысутны на зборцы ў Bergen Community Museum[3]. Гаварылі й пра Музэй у Newark[4]. Трэба будзе сабраць матар'ялаў, ды ахвяраваць ім.

---

*[1] Нашы кватаранты.*

*[2] Як зазначалася раней, у гарадку Сікаўкус меўся адбыцца агульнаамэрыканскі зьезд нацыянальных рэспубліканскіх клюбаў. Беларусы актыўна ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы зьезду.*

*[3] Павет Бэрген, у якім мы жылі, — адзін з найстарэйшых у ЗША. Рыхтаваліся адзначаць яго 200-годзьдзе. Бралі ўдзел і беларусы — быў выдадзены прэс-рэліз.*

*[4] У музэй Ньюарку былі дадзеныя беларускія экспанаты.*

**Аўторак 11 студзеня**

Карэсара [*на працы*] няма. На работу спазьніліся — быў вялікі трафік.

Прыходзіў Steven у бібліятэку, яны зь В[*ітаўтам*] маюць ехаць на зборку з Славянскім Камітэтам наконта выступу ў Action Park[1].

Прыйшлі кніжкі ад Каханоўскага — «Айцы БССР».

Юрачка пайшоў да Рыкі, каб разьвітацца ўжо перад ад'ездам, але позна не сядзеў. Цяпер, як ён ужо ад'язджае, дык і сумна робіцца. Нам цяпер самім куды спакайней.

Званіў Прускі. Пагаварылі пра часапіс, пра кніжку Кавыля — ён выбіраецца недзе па працы ў Minnesota, хацеў нейкі адрас там.

---

*[1] Стывэн хацеў, каб беларусы выступалі і ў 1983 годзе.*

*[2] Прускі пытаўся пра Балтрушэвіча, беларуса-кнігалюба, які жыў у Сэн-Поле, штат Мінэсота. Ён ехаў у Мінэсоту на спэцыяльныя курсы друкароў — бо працаваў у банку, быў адказны за друк пэрсанальных чэкаў — канфідэнцыйная праца.*

**Серада 12 студзеня**

Завезьлі Юру на аэрадром. Адправілі. Гэтым разам ён едзе даволі лёгка. Добра справіліся. Пасьпелі на працу бязь ніякіх праблемаў.

Званіла мне Русачыха — прапанавала дзяружку. Трэба будзе купіць.

Цэлы дзень неяк стомлена чуюся. Можа, гэта рэакцыя на ўсе бяссонныя ночы.

Пазванілі з Мэтрапалітэн Музэю[1] — зноў адклалі візыту.

Так дзень і прайшоў — вечарам адпачывала.

---

*[1] Наконт слуцкіх паясоў.*

**Чацьвер 13 студзеня**

Сёньня дома — пазваніла, што нядобра чуюся.

Хадзіла да нажнога доктара. Зрабіла закупы. Але чуюся нядобра. Трымаюся толькі, бо трэба будзе вечарам усё роўна ехаць на зборку ў Bergen Com. Museum.

Зборка прайшла так-сабе. Руская група «Глінка» захоўвалася вельмі вызываюча. Наагул, я думала, што я там была пакліканая як дарадчык, аж выйшла, што я маю рэпрэзэнтаваць беларусаў. Гэта й добра, бо мне дадатковая нагрузка не патрэбна. А ўдзельнічаць нам усё роўна трэба, і нам (зн. мне і Вітаўту) гэта рабіць усё роўна прыйшлося-б. В. мяне прывёз, але сядзеў ціха, ня ўмешваўся.

**Пятніца 14 студзеня**

Зноў засталася дома.

Рабіла апісаньне астатніх рэчаў для Галіны[1]. Трохі парадкавалася, але больш адпачывала — чуюся неяк слаба.

---

*[1] Для выстаўкі, якую рыхтавала Галіна Русак.*

**Субота 15 студзеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі.

Званіла Галіна. Яна цяпер нам не дасьць спакою са сваёй выстаўкай і сымпозыумам. Сказала ёй, што зраблю карткі і перашлю ёй поштай.

Хадзіла да дэнтыста — забалелі нешта зноў дзёсны. Прыпісаў ён пініцыліну.

Пачаўся сьнег. Сядзелі дома. Адпачывалі. Працавалі. Я ўжо пачынаю падрыхтоўваць [*бібліяграфію*] К.-К. да друку.

**Нядзеля 16 студзеня**

Пасьнедалі.

Памыла бялізну. Пагода нішто сабе. Сабралі нарэшце ялінку. Яна ў гэтым годзе добра трымалася. Папарадкавала трохі пасьля ялінкі.

Вечарам пазваніла Ella May[1] — заклапочаная, бо апошнім часам шмат сталі цікавіцца хатай. Яны недзе чулі, нібы хата будзе прадавацца. Я яе супакоіла, што мы ніяк не зьбіраемся цяпер прадаваць, і што яны могуць быць спакойныя.

Працавала над К.-К. — пераглядаю ўжо канчальна. Пачалі развязваць усялякія праблемы, што раней адкладаліся.

---

[1] *Кватарантка.*

**Панядзелак 17 студзеня**

З раніцы зрабіла й паслала ў Bergen Community Museum інфармацыі пра этнічныя групы ў Bergen Co. Ня ведаю, ці гэта выкарыстаецца, але я сваё зрабіла. Перадрукавала карткі на экспанаты, што пойдуць на выстаўку ў New Brunswick. Назьбіралася ўжо даволі добрых рэчаў. Выстаўка павінна быць добрая, калі ўсё будзе, як мы хочам, але, здаецца, мы мала будзем мець да гаварэньня.

Вечарам зайшоў да нас Шук[*елойць*]. Ішлі разам да аўтобуса. Гутарка, як заўсёды зь ім [*пра нашыя праблемы, БАЗА*].

**Аўторак 18 студзеня**

Укінула ліст з карткамі для Галіны. Я сваё зрабіла.

Вельмі была на рабоце прыкрая рэч. Прапала кніга з тых кніг, што прынасілі для перагляду нам. Мы паднялі вялікі вэрхал у аддзеле, бо ёсьць падозраньне на адну асобу. Вельмі ўсім было прыкра. Так дзень прайшоў у шуканьні кнігі.

Вечарам В[*ітаўт*] паехаў на зборку наконта Garden State Arts Center. Зборка была недзе ў прыватным доме — шыкарная рэзыдэнцыя нова-плянаванай дырэктаршы Highway Authority[1].

---

[1] *У плянах: наладзіць фэстываль усіх нацыянальнасьцяў разам, бо нацыянальныя фэстывалі карысталіся посьпехам.*

**Серада 19 студзеня**

Пазваніла ў Met. Museum адмовіла, што не змагу прыехаць, — над-

та шмат працы. Гісторыя з прапажай кніжкі ўсіх нас вельмі ўсхвалявала.

Па абедзе было ў нас чарговае паседжаньне-рэфэрат. Staff forum. Ня памятаю, якая тэма, але толькі памятаю, што было, бо як сказала мне Румяна, што знайшлася кніжка, — я пабегла сказаць Карэсару, які быў яшчэ на гэтым сходзе. Усе вельмі цешацца, бо была-б пляма на ўсіх нас.

Хадзілі з Шук[*елойцем*] на вячэру. Вітаўт усё яго хоча ўцягнуць у зьбіраньне грошай на [*кнігу*] Кавыля, але нешта нічога ня выходзіць. Пагаварылі. Ён успамінае ўсё свае нямецкія часы. Гэта, здаецца, для яго самы цікавы пэрыяд жыцьця.

**Чацьвер 20 студзеня**

Сяньня не працуем і задумалі вялікую справу. Паехалі запісацца ў школу[1]. Доўга мы ўсё гэта валаклі, доўга разважалі й плянавалі. Але сёньня раптам сабраліся й паехалі. І ўсё так добра пайшло. Знайшлі мейсца, знайшлі асобу — быў яшчэ якраз час і... запісалася. Усё зрабіла, адно толькі канчальны адказ дам заўтра, бо ўсё-ж мушу пагаварыць з Карэсарам. І расклад падыходзячы (4-ая гадз. у пятніцу) і курс цікавы якраз быў — Medieval lit. Адным словам — усё пайшло як трэба — мусіць, так ужо сказана.

Мы ўжо надумаліся гэты дзень выкарыстаць поўнасьцю.

Наступная астаноўка быў музэй[2]. Паглядзела, якое там для нас прызначанае мейсца (яшчэ музэй ня выканчаны). Зайшліся да Галіны (яна цяпер на новым мейсцы ў Art Library), але яе ня было. Аддала Wexler[3] інфармацыю пра Слуцкі пояс — яны выпішуць ад Музэю.

Тады паехалі да Кавыля. Па дарозе яшчэ заехалі купілі калбасы. У Кавыля пагаварылі пра яго кніжку. Ён падрыхтаваў ужо шмат матар'ялаў. Выглядае, што ўсё добра пойдзе. Заехалі перакусілі ў [*рэстаране*] Gino's на 18-ай дарозе. Прыемна.

Кіруючыся ўжо дахаты заехалі да Хараўцоў па капусту[4]. Гэта ўжо традыцыйнае штогодняе заязджаньне.

Дахаты дабраліся добра. Памысны дзень.

Вечарам яшчэ званіла да сп. Шудзейкі[5]. Яна згаджаецца памагчы ў выстаўцы ў Bergen Co. Званіла да Надзі, яна, на жаль, ня зможа быць — у гэты дзень у яе ўжо нешта плянуецца.

Наступны званок да Алюньці — яна ў прынцыпе згаджаецца прыняць удзел[6], але будзе яшчэ гаварыць з моладзяй. Паабяцалі ім ад Інстытуту даць грошы на куплю фартушкоў. Яна была вельмі радая.

Запісана ў мяне, што званіла Юля, але не магу прыпомніць у якой справе.

---

[1] *Зора запісалася ў Ратгерскі штатны ўнівэрсытэт (Нью Брансуік, штат Нью Джэрзі) на літаратурны факультэт, аддзел параўнаўчых літаратураў.*

[2] *Мастацкі музэй Зымэрлі — частка Ратгерскага ўнівэрсытэту, таксама ў Нью Брансуіку.*

[3] *Намесьнік загадчыка музэю.*
[4] *Яны шынкавалі «беларускую капусту».*
[5] *Валянціна Шудзейка зь сям'ёй таксама жылі ў павеце Бэрген.*
[6] *Ва ўрачыстасьцях 200-годзьдзя павету Бэрген.*

**Пятніца 21 студзеня**

Забылася тэлефон[*ны*] нумар унівэрсытэцкі, каб пазваніць ім згоду[1]. Мусіла званіць М. В. Яна тэлефон знайшла (добра, я яго абкрэсьліла ў кнізе).

Пагаварыла з Карэсарам пра свой замер рабіць дактарат[2]. Ён быў вельмі добра настроены, задаволены. Пазваніла ў школу, каб усё ўжо пускалі ў ход. Такім чынам я сталася зноў студэнткай. Шмат працы на рабоце — забегалася.

Вечарам рабіла яшчэ Купалу-Коласа. Ужо апошні перагляд. Хутка пачну друкаваць.

---

[1] *На ўдзел у сымпозіюме, прысьвечаным беларусам.*
[2] *Зора плянавала рабіць дактарат, але потым вырашыла толькі выдаць кнігу пра Трышчана ў камэрцыйным выдавецтве.*

**Субота 22 студзеня**

Працую сёньня. В[*ітаўт*] таксама прыехаў папрацаваць для сябе. Дзень прайшоў добра.

**Нядзеля 23 студзеня**

Пасьнедалі. Трохі парадкавалася. Нічога цікавага.

Працавала над Купалам-Коласам.

**Панядзелак 24 студзеня**

Пачала сяньня вазіцца на кампютары з Williams[1]. Ідзе даволі добра, але шмат дэталяў і дробязяў, якія трэба памятаць.

---

[1] *Падрыхтоўка да ўводу славянскіх кніг у кампутар.*

**Аўторак 25 студзеня**

Нічога не прыпамінаю. Нічога не запісана.

**Серада 26 студзеня**

Хадзіла сяньня ў Мэтраполітан Музэй. Нарэшце дамовіліся з спатканьнем. Паказалі яны мне колькі цудоўных Слуцкіх паясоў. 2 зь іх з кірылічнымі надпісамі. Надзвычайна прыгожыя, у добрым стане. Я нахутка запісала, трохі замалявала, але пэўна-ж гэта ўсё вельмі на хаду. Трэба больш сур'ёзна над гэтым папрацаваць. Дала яна мне таксама колькі адрасоў, дзе яшчэ могуць быць паясы ў N.Y. Цікавая была сэсія. Я ёй таксама трохі расказала пра гісторыю Слуцкіх паясоў.

На рабоце ўсё добра.

**Чацьвер 27 студзеня**

Нічога не запісана.

**Пятніца 28 студзеня**

З самага раньня паехалі на фарму.

Па дарозе сталі папіць каву, але сьпяшаліся, бо шмат трэба сёньня заладзіць.

Перш за ўсё заехалі да Ester — на яе новую працу. Дала яна ўсе паперы — усё ўжо легальна заладжана[1]. Аддалі ёй чэк на адваката. Далі ёй таксама падарунак — вазу. Яна паабяцала залагодзіць з тэлефонам і з іншурансам. Разьвіталіся прыемна і далей.

Заплацілі таксу. Заехалі ў хату. Далі яны нам чэк[2]. Заехалі ў банк, але там нічога не зрабілі, бо параілі нам пачакаць да канца трымэстру, каб не згубіць працэнтаў.

Тады да Нядзьвігаў. Там трохі пасядзелі, паабедалі, заскочылі да Беразоўскага, каб дастаць дзяружку, але яго ня было дома. Купілі яблыкаў і далей.

Сёньня першая лекцыя ў мяне. Трохі хвалююся. Прыехалі заранье, схадзілі яшчэ на каву, але неяк не цярпелася. Спатканьне з прафэсарам Wilhelm было трохі нялоўкае. Я ня ведала, што гэта ён, а ён ня меў майго імя ад рэгістрацыі. Але ўсё пайшло добра. Цікава, але я адразу ўбачыла, як многа мне будзе вучыцца. Тэма лекцыі будзе Dante і Pound. Вучняў ня шмат, дык на кожнага будзе шмат увагі.

Выйшла я зь лекцыі, як ахлабучаная. Скончыў ён раней — зь В[*ітаўт*] мы дамовіліся на час — дык я да бібліятэкі (дзе В. чакае мяне) ішла ў адным касьцюмчыку, бо паліто пакінула ў машыне.

Паехалі яшчэ да Галіны. Раіліся пра брашурку[3]. Зрабілі плян, што ўключыць, каб выйшла так, што можна было-б пазьней карыстацца.

Даўгі, але памысны дзень. Шмат зрабілі.

---

[1] *Залагоджана справа зь перапісаньнем фармы на Зорына прозьвішча. Мы з Зорай сталі ўласьнікамі фармы.*

[2] *Кватаранты — аплата за кватэру.*

[3] *Інфармацыйны буклет пра Беларусь для плянаванага сымпозіюму.*

**Субота 29 студзеня**

Рана зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Парадкавалася. Мыла бялізну. Пасьля зьбірала кніжкі па цэлай хаце, якія мне будуць патрэбныя, будуць прыдатныя да школы. Шмат сабрала. Пачала трохі чытаць збольшага.

Зборка [*БАЗА*].

**Нядзеля 30 студзеня**

Трохі чытала, але яшчэ нічога канкрэтнага для лекцыі ня маю, усё больш агульнае (мне й гэта патрэбна, бо так я шмат чаго ня ведаю, так шмат чаго трэба будзе падвучваць).

Пачала друкаваць Купалу[1].

Пакуль арганізавалася, пакуль сабрала ўсё на мейсца. Разьмясьцілася ў «telephone room». Паставілі столік бліжэй да радыятара (так

як было, як працавала над даведнікам New Jersey). На стале дзьве машынкі — кірылічная і лацінічная. І ад адной да другой ёрзаю на крэсьле. Трохі марудна напачатку, але галоўнае — пачала[2].

*[1] Бібліяграфію «Купала і Колас» на Захадзе.*

*[2] Гэты пакойчык становіцца «Зорынай вучэльняй», дзе знаходзіцца ўсё, што зьвязана з Трыстанам.*

**Панядзелак 31 студзеня**

Сёньня палучка. Аддала В[*ітаўту*] чэк. Ён ужо сам хадзіў у банк. Пайшла ў бібліятэку Mid-Manhattan, дабрала кніжкі, якія трэба для навукі. Але, на жаль, ня ўсе змагла дастаць.

Трохі вучылася на рабоце. Прыйшоўшы дахаты, таксама вучылася. Трохі падрукавала. Так у мяне цяпер будзе — друкаваньне й навука.

А між гэтым яшчэ розныя справы. Не гаворачы ўжо пра працу. Каб выцягнуць! Ці не зашмат [redacted] на сябе набіраю.

Аўторак 1 лютага

Пазваніла да Simor[1] у Graduate Center, каб пазычыць у іх кніжкаў, якіх мне не дастае. Якраз было ў іх, што мне вельмі патрэбна, як падручнік, на цэлы сэмэстар. Зайшла да яго ў абед забраць яе. Пагаварыла трохі зь ім. Ён пахваляе ідэю маю вучыцца. Схадзіла яшчэ ў М. М.[2] Яшчэ больш кніжак дастала. Я цяпер зь вялікай цяжкой торбай буду хадзіць з працы й на працу. Ага, у школу [redacted] бяру сваю прыгожую тэчку, што Алеся падаравала.

Вучылася крыху на рабоце, крыху прыйшоўшы дахаты. Крыху друкавала.

*[1] Калега бібліятэкар, які працуе ва ўнівэрсытэце.*

*[2] Mid-Manhattan Library — частка Ньюёркскай публічнай бібліятэкі з арыентацыяй на студэнтаў, дзе кнігі можна пазычаць на месяц. Знаходзіцца па дыяганалі ад галоўнага будынку бібліятэкі.*

**Серада 2 лютага**

Заказала Алесі валізку — гэта ўжо апошняя для набору.

Схадзіла да Simor па другую кніжку. Гэта мне вялікая падмога — ня трэба будзе думаць праз цэлы сэмэстр, адно памятаваць яму зазваніць, каб прадоўжваць.

Вучылася.

Дома трохі падрукавала і пайшла вучыцца. Я так добранька ўстроілася ў Алесіным пакоі. Расклалася на ложку, абклала сябе кніжкамі, слоўнікамі. Падабаецца мне гэтая навука пакуль што. А як будзе пазьней, як пачнуцца экзамэны — паглядзім.

**Чацьвер 3 лютага**

Алеся ня прыедзе, бо яшчэ машыны няма. Нешта доўга яны возяцца. Перадрукавала пра лён для Галіны[1]. Вучылася і на рабоце й дома цэлы вечар. Добра падрыхтавалася да лекцыі заўтра. Але калі так

шмат прыйдзецца вучыцца й далей, дык ці аплоціцца. Хоць мне й цікава, але шмат бярэ часу й энэргіі.

---

[1] *Адна зь вітрынаў выстаўкі ў музэі Зымэрлі была прысьвечаная лёну і тэхналёгіі ткацтва зь лёну.*

**Пятніца 4 лютага**

Паехалі на працу на машыне. Раніцай прыходзіў у бібліятэку Хоцін[1] з Каліфорніі — «Abstracts». Пасядзелі зь ім, пагаварылі. Пазнаёміла яго зь Вітаўтам. Яны адзін другому вельмі спадабаліся.

Мелі невялічкую нараду пра выстаўку «Бібліі»[2]. Неяк слаба йдзе — няма супрацоўніцтва, няма энтузыязму.

Паехалі ў школу. Лекцыя была зноў цікавая. Я ўжо сябе цяпер трохі лепей адчуваю, бо падрыхтавалася — ведала аб чым гаворыцца. Лекцыя ўжо сёньня была даўгая. В. ужо чакаў мяне. Паехалі да Галіны. Аддала «Лён». Цяпер ад мяне ўжо толькі апісаньне «Саломкі», «Гліны» й «Касьцюмаў» патрабуецца[3].

---

[1] *Хоцін — яўрэй з новай эміграцыі. Друкаваў «Abstracts of ethnic publications» monthly. Аналізаваў беларускую пэрыёдыку. Мы дапамагалі.*

[2] *Невялічкая выстаўка ў Славянскім аддзеле — Славянскія Бібліі — шмат пра Скарыну і пару аркушаў з Скарынавай Бібліі.*

[3] *Рыхтаваліся да заплянаванага на красавік беларускага сымпозіюму й выстаўкі ў Ратгерскім унівэрсытэце.*

**Субота 5 лютага**

Вітаўт паехаў на працу. Я дома. Зрабіла прычоску. Вучылася. Мыла бялізну. Парадкавалася.

В. прывёз падарункі ад Акуліч: распісны паднос, каньяк і мне брошку й завушніцы эмальныя, размаляваныя. Прыгожае й прыемнае — гэта [*падарунак*] за тое, што [*Вітаўт*] прыстроіў яе на працу[1].

Друкавала Купалу. Ідзе добра. Памалу, але цягла — дык рэзультаты ёсьць.

---

[1] *Лена Акуліч, жонка Адама, атрымала працу ў бібліятэцы. Потым яна скончыла бібліятэчны факультэт Куінсаўскага Каледжу і зрабіла бібліяграфічны лік твораў В. Быкава.*

**Нядзеля 6 лютага**

Сёньня дома. Нідзе ня трэба ні ехаць, ні йсьці. Адпачываем. Пасьнедалі, трохі працуем, трохі вучымся, трохі адпачываем.

Друкавала Купалу. Добра за weekend падагнала.

**Панядзелак 7 лютага**

Карэсара няма. Раблю апісаньне для брашуркі [*на сымпозіюм*]. Трохі вучылася.

Схадзілі з Факсам на каву, бо ўсе гэтыя дні ня было неяк нам магчымасьці сабрацца. Расказала яму пра школу. Ён таксама за мяне

вельмі задаволены. Але ■ вычула нотку зайздрасьці, а можа мне так толькі здалося. Вечарам друкавала.

**Аўторак 8 лютага**

Зрабіла апісаньне для Галіны для брашуркі. Баларына праверыла. Выходзіць добра. Трохі вучылася для лекцыі. Мне падабаецца ўсё, але, мусіць, будзе шмат працы. Ці выцягну?

Вечарам друкавала Купалу. Ідзе добра. Пастанавіла сабе кожны вечар хоць пару лісткоў зрабіць.

**Серада 9 лютага**

Забралі Алесіну валізку — можа яна хутка прыедзе па машыну. Машыны яшчэ, праўда, няма, але мае з дня на дзень прыбыць.

Друкавала для брашуркі матар'ял. Крыху вучылася, што можна на рабоце. Вечарам зноў друкавала Купалу.

**Чацьвер 10 лютага**

Сёньня ўжо інтэнсыўна вучыся, рыхтуюся да заўтрашняй лекцыі.

Хадзілі з Факсам. Расказала яму пра навуку.

Вечарам цэлы час вучылася. Пазванілі Алесі, што машыны яшчэ няма, каб яна даведалася сама перад тым, як зьбірацца ехаць.

**Пятніца 11 лютага**

Я сёньня дома. Дома й Вітаўт. Парадкуемся. Завезла М. В. рабіць прычоску. Тады ў банкі. Пачаў трохі падаць сьнег. Званіла Алеся — машыны на гэты weekend яшчэ ня будзе. Гэта й добра, бо сьнег пачынае, здаецца, сур'ёзна брацца. Па абедзе сьнег сапраўды стаў падаць і зьбірацца. Пазваніла ў школу — лекцыі адкладзеныя дзеля сьнегу. Так нам адлягло, бо мы паехалі-б усё роўна, і магло быць-бы небясьпечна. Я чытала. Парадкавала трохі дзёньнік. Сьнег ідзе і йдзе. Людзі мелі вялікія праблемы дабрацца дахаты зь Нью Ёрка. А нам так добра сталася, што сёньня дома. Атрымала ад Юры прыемную картку Valentine.

**Субота 12 лютага**

Пазваніла рана пра прычоску — нікога там няма. Усё засьнежана.

Чысьцілі сьнег разам. Я добра напрацавалася. Трохі раскапаліся. Вітаўт учора загнаў машыну аж пад самы гараж. Ніколі так не рабіў. Ніколі гэтулькі сьнегу й ня было здаецца.

Я памыла валасы. Парадкавала дзёньнік. Адпачываем.

**Нядзеля 13 лютага**

Пасьнедалі. В[*ітаўт*] пехатой хадзіў у магазын. Машыну яшчэ не раскапалі, чысьцілі яшчэ сьнег. Пачынае патрошку таяць. Там дзе расчышчана, то добра. Сьнег робіцца цяжкі. Напісала Юру ліст.

**Панядзелак 14 лютага**

Сёньня дома, бо Lincoln Day[1]. Чысьцілі сьнег.

---

[1] *Дзень народзінаў Абрагама Лінкальна.*

**Аўторак 15 лютага**

На работу. Дарогі расчышчаныя. Даехалі добра. Паслала Галіне астатняе апісаньне для брашуркі.

На рабоце ўсе ў парадку. Працавала вечарам. Вечарам прыйшлі кнігі ад Камкіна. Нічога надта важнага. Ён мала беларускіх [*кніг*] выпісвае.

**Серада 16 лютага**

Пачала свой пост — каб нічога салодкага ці печыва здобнага ня есьці.

Зноў выпадак з кнігай [— *заваляласся*]. Вельмі прыкра што робіцца. Так і не знайшлі кнігі цэлы дзень.

**Чацьвер 17 лютага**

На рабоце ўсё добра. Кнігу, праўда, не знайшлі.

Надзін заехала па канькі Алесіны. Яна зьбіраецца ў Вашынгтон на гэты Weekend.

**Пятніца 18 лютага**

Засталася сёньня дома цэлы дзень, бо заўтра працую. Зьезьдзіла ў магазын. Пазваніла ў музэй даведацца расклад нашых выступаў і выстаўкі[1].

Да Алы не магла дазваніцца, каб сказаць ёй пра выступ.

Паехалі ў школу. Вельмі была цікавая лекцыя, бо я ўсё больш і больш разумею й падрыхтоўваюся да лекцыяў. Заехалі пасьля школы на вячэру. Прыемна нам гэта ўсё.

---

[1] *Адзначэньне 200-годзьдзя павету Бэрген у горадзе Парамус.*

**Субота 19 лютага**

Працавала сёньня. Заняты быў дзень. Мала для сябе магла зрабіць.

У абед схадзіла ў Mid-Manhattan узяла патрэбныя для сябе кніжкі. Усё-ж добра мець пад рукамі бібліятэку, толькі праблема, што шмат кніжак на паліцах няма — ва ўжытку.

**Нядзеля 20 лютага**

Раніцай пасьнедалі. Званіла Алюньця. Яны будуць танцаваць на выстаўцы ў Bergen Museum. Ужо рыхтуюцца. Фартушкі, ці фактычна матар'ял на фартушкі, купілі й будуць рабіць самі. Яны задаволеныя, але некаторыя дзяўчаты брыкаюцца — ня хочуць рабіць, як яна раіць з карункамі. Ну, але, ведаючы Алу, я ўпэўнена, што ўсё будзе добра.

Цэлы дзень амаль друкавала Купалу. Добра падагнала.

**Панядзелак 21 лютага**

Дома сёньня — Washington Day[1]. Мыла бялізну і пацякла машына. Мы ўжо заўважылі раней, што трохі капала — блага ўставілі. Усе гэтыя магазыны добрыя, пакуль прадаюць, а як ужо грошы ўзялі — дапамогі ад іх не дастанеш. Прыйшлося клікаць прыватнага майстру.

Паехала да [*Валі*] Шудзейкі, каб адабраць матар'ялы для выстаўкі. У яе нічога цікавага няма, але тое-сёе сабралі. Я яшчэ дадам крыху сваіх рэчаў — будзе добра. Мейсца там не вялікае.

Вечарам званіла Алеся. Яна прыедзе ў гэты Weekend. Машына ўжо ёсьць. Усё добра ладзіцца, бо якраз будзе й shower[2] для Люды.

---

[1] *Дзень народзінаў Джорджа Вашынгтона — амэрыканскае сьвята.*
[2] *Вечар падарункаў для нявесты.*

**Аўторак 22 лютага**

Карэсара сёньня няма. Шмат працы. Трэба выпаўняць «Time Sheets»[1]. Заняло мне гэта амаль цэлую раніцу. Для сябе мала чаго магла рабіць.

Атрымала запросіны на shower для Люды. Трэба нешта цяпер думаць купіць.

Вечарам трохі друкавала, трохі вучылася. Вучыцца мне прыемна й цікава.

---

[1] *Адна з функцыяў намесьніка шэфа аддзелу — падлічваць гадзіны працы работнікаў і запаўняць адпаведныя фармуляры — time sheets.*

**Серада 23 лютага**

Карэсара зноў няма, дык працы ў аддзеле поўна.

Званіла ў Музэй — зьмянілі яны час нашага выступу[1]. Пакуль заладзіла ўсё — асабліва важна было заладзіць мейсца, дзе будуць танцаваць, бо Ала катэгарычна сказала, што на каўры яны ня змогуць.

Зрабіла плян, як даехаць да музэю.

Званіла Але — не дазванілася.

Званіла вечарам Шудзейчысе — дагаварыцца пра выстаўку, пра ежу. Яна вельмі ахвочая памагчы. Здаецца, усё будзе ў парадку.

Пазваніла Алеся — у яе новая праблема — паламаліся рамкі ў акулярах, а без акуляраў яна баіцца ехаць, асабліва з новай машынай едучы назад. Параіла ёй падабраць новыя рамкі. Яна ўжо думала, што трэба мяняць цэлыя акуляры. Вельмі яна ўсьцешылася такой парадай.

Друкавала. Рыхтавалася да наступнай лекцыі.

---

[1] *Выступ з нагоды 200-годзьдзя павету Бэрген.*

**Чацьвер 24 лютага**

Зраньня паслала плян да Алюньці і Вітаўту Тумашу.

Званіла да Алы — усё ў парадку — моладзь рыхтуецца да выступу[1].

Працавала над пратаколам нашага месячнага паседжаньня [ў *аддзеле*]. На наступным тыдні будзе зноў, дык трэба падрыхтаваць пратакол.

У абед схадзіла ў Fina, купіла срэбную лыжачку для Люды. Таксама папрасіла іх зрабіць паперы на Алесіны завушніцы.

На каву хадзіла з Факсам. Рэдка нам цяпер даводзіцца спатыкацца, я вельмі бываю занятая.

Вечарам, пасьля працы, заходзіла да свайго нажнога доктара. Вельмі я задаволеная са сваіх рэгулярных візітаў. Агледзе ногі, абрэжа ўсе мазалі, пазногці. Цяпер значна лепш чуюся з нагамі.

Рыхтавалася да заўтрашняй лекцыі.

---

[1] *На ўрачыстасьцях да 200-годзьдзя павету Бэрген.*

**Пятніца 25 лютага**

Раніцай на працу. Тады ў школу. Мы ўжо так добра наладзілі свае пятніцы. Найчасьцей маем машыну. Папрацуем да гадзіны 2-ой і тады проста ў Нью Brunswick. Часам В[*італьт*] выходзіць раней, едзе дахаты па машыну, спатыкае мяне каля аўтобуса. Адным словам — наладзіліся й чуемся вельмі добра.

У школе было добра. Задаў мне першы раз заданьне — з паэмаў Паўнда. Разабраць некаторыя паэмы і растлумачыць іх, як бы тлумачылася для студэнтаў.

Пасьля школы заехалі на вячэру.

**Субота 26 лютага**

Прыехала Алеся.

Забралі Алесіну машыну. Вельмі прыгожа выглядае, добра йдзе. Алеся задаволеная. Пазычыла ў бабкі частку, частку сама мела. Будзе патрохі сплачваць, але мае добрую новую машыну.

Паехалі мы зь ёй у магазыны. Яна мела купіць яшчэ падарунак на Shower Люды, ды наагул хацелі тое-сёе паглядзець. Машына йдзе цудоўна. Доўга наезьдзіліся, але нарэшце падарунак (music box) купілі ў сябе ў Ратэрфордзе, у магазыне, што маюць нашыя суседзі Allan's.

Прыемны быў дзень. Мы заўсёды сябе добра з Алесяй адчуваем, асабліва як едзем недзе ўдзвюх — гаворым, разважаем.

**Нядзеля 27 лютага**

Сёньня заняты, скамплікаваны дзень. В[*італьт*] мае ехаць на рэфэрат Запрудніка ў New Brunswick пад царквой пра Loftus'а, а мы з Алесяй на shower. Паехалі дзвюма машынамі, бо Алеся адтуль адразу паедзе ў Washington, а В. мяне забярэ.

На shower было вельмі сымпатычна. Ала папрасіла Алесю прыехаць на выступ — памагчы. Шмат людзей, добрыя падарункі. Я трохі, праўда, пачала хваляваца, як В. доўга ня было, ды ўсё падганяла Алесю, каб яна ехала яшчэ за сьвятлом. Алесю адправіла, а В. усё яшчэ няма. Нарэшце й ён прыехаў, і мы ўжо выбраліся дахаты — аж машына не заводзіцца. Паклікалі Васіля, Біла — яны нам наладавалі батарэю — завялася, але чуць, чуць ехалі, бо пачало сьвятло зьмяншацца. Так напружана й ехалі цэлую дарогу — амаль без сьвятла. Пачалі ўжо наракаць на машыну, што старая, што трэба новую купляць,

а цяпер пакуль няма як — Алеся толькі пазычыла ў бабкі грошы. Адным словам, паездка была вельмі непрыемная. А так мы спадзяваліся добра час правесьці разам ужо пасьля ўсіх справаў.

Але-ж неяк даехалі.

Пазванілі пазьней Алесі. У яе ўсё добра. Даехала добра.

**Панядзелак 28 лютага**

Завезьлі машыну да гаражыста. Цяпер нам без машыны няма як, дзеля маёй школы.

**Аўторак 1 сакавіка**

Машыну папраўілі — гэта быў проста расслаблены пас[1]. Ну, й добра, што нічога больш важнейшага. Мы трохі супакоіліся, што яшчэ можа трохі з гэтай машынай працягнем. Рыхтавалася да лекцыі.

---

[1] *Не зараджалася батарэя.*

**Серада 2 сакавіка**

Нічога не запісана. Рыхтавалася да лекцыі.

**Чацьвер 3 сакавіка**

Зраньня была зборка нашага аддзелу. Усё добра прайшло. Гаварылі пра кампютарны каталёгінг. Ліза пачала таксама практыку з кампютарам. Так больш нічога цікавага.

Вечарам рыхтавалася да заўтрашняй прэзэнтацыі. Трошкі страшнавата першы раз.

**Пятніца 4 сакавіка**

З раніцы яшчэ тое-сёе парагледзела да лекцыі. Трохі хвалююся. Дарога ў школу была таксама трохі напружаная.

Мела сваю прэзэнтацыю. Выйшла нішто сабе. Я то, праўда, трохі сабой не задаволеная, але зрабіла што магла. Я працую шмат, а што з гэтага выходзе — гэта ўжо другая справа. Тут ужо пытаньне, ці я наагул гатовая да гэткіх студыяў. Гэты сымэстар, гэтая лекцыя — пакажа.

**Субота 5 сакавіка**

Прыехала Алеся. Спаткалі яе на аэрадроме. Яна маладзец — прыехала, каб памагчы заўтра на выступе ў Музэі — быць канферанс'е. Мы, праўда, таксама маладцы — заплацілі ёй дарогу!

Паехалі мы яшчэ з Алесяй у магазыны — нашыя традыцыйныя паездкі. Праўда, сёньня трохі сьпяшаліся, бо маем яшчэ ехаць на рэфэрат у [*фундацыі*] Крэчэўскага. А Алеся недзе з Надзін.

Рэфэрат быў пра [*Міколу*] Равенскага — ужо 30 гадоў, як ён памёр. Добра ўсё прайшло. Гаварыў Адамовіч, Вітаўт. Узьнялі пытаньне, каб выдаць ягоны сьпеўнік. Былі ўспаміны.

Мы прыгатавалі кавы й печыва. Гэта ўжо ўвайшло ў традыцыю.

Вечарам яшчэ адпачывалі. Алеся ня была позна ў Надзін. Я сабрала трохі матар'ялаў ёй для заўтрашняга выступу.

**Нядзеля 6 сакавіка**

Паехалі ў Bergen Museum. Там ужо была частка нашай моладзі. Шудзейка так сама хутка прыйшла. Пачала вышываць. Выстаўка нашая выглядае ня блага. Хутка мы ўспомнілі, што я ня ўзяла Юравы боты, якія мела прывезьці для Бахаравага хлопца. В[*ітаўт*] паляцеў дахаты — вельмі злаваўся, але паехаў. Было шмат нараканьняў на залю. Заля, праўда, малая. Ну, але неяк уляглося. Моладзь як убачыла, што так шмат публікі, што ўсталяецца фільмовая камэра (нібыта для T.V.), трохі супакоілася. Усё пайшло вельмі добра. Алеся была цудоўная. Добра, рэчова, весела абвяшчала, давала ім час перадыхнуць паміж танцамі. Усе засталіся задаволеныя. Праўда, не абышлося без заўсёднай нашай праблемы — нейкі прамоўца сказаў Russian Dancers. Моладзь вельмі абурылася.

Шудзейчыха была маладзец. І яда ейная была добрая й прысутнасьць яе там была вельмі патрэбная. Былі брашуркі, зразумела, але яна таксама шмат тлумачыла. Брашуркі я перад тым колькі дзён дастала ад Раі. Зрабіла я здымкі, але нічога ня выйшла. У пасьпеху я не заўважыла, што ў апараце ня было фільму. Ага, што да апарату — то [redacted] яго таксама забылася. В. прывез разам з ботамі (боты былі ўжо запозна — яны пачалі ўжо танцаваць). Але В. быў О.К., не злаваўся. Моладзь пасьля выступу яшчэ трохі пабылі на выстаўцы, пагулялі. Як мы іх адправілі, дык і самі хутка паехалі. Шудзейка засталася.

Заехалі ў IHOP[1] на абед. Добра правялі час яшчэ ўсе разам.

Прыемны быў дзень.

---

[1] *Сетка блінных рэстаранаў.*

**Панядзелак 7 сакавіка**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром ранічкай. Алеся паехала. А мы на працу. Пачынаецца новы тыдзень, новыя клопаты. Мелі спатканьне з жыдоўскім паэтам. Папрасілі яго, каб пераклаў у гэбрайскую мову Купалаў «А хто там ідзе». Ён вельмі сымпатычны, вельмі, культурны чалавек. Верш яму ня надта спадабаўся, але ён згадзіўся паглядзець і падумаць. В. ужо зьвязаўся з некалькімі асобамі, каб перакласьці гэты верш у мову латгальцаў і ў македонскую[1].

Вечарам друкавала, трохі вучылася.

---

[1] *Адказаў так ніколі і не атрымаў.*

**Аўторак 8 сакавіка**

Нічога не запісана, але зразумела-ж я друкавала й напэўна трохі чытала для лекцыі.

**Серада 9 сакавіка**

Сёньня па абедзе быў вельмі цікавы мітынг з Камкінам. [*Кнігарня*] 4-Continents сваё існаваньне скончыл[*а*] — прадалі магазын Камкіну.

Цяпер ён будзе наш пастаўшчык кнігаў. Вось-жа на гэтым мітынгу абгаварвалі праблемы, й як іх найлепш разьвязаць. Былі на мітынгу ўсе асноўныя з Аддзелу Набыцьця кнігі, Карэсар (прыйшоў пазьней), Вітаўт і я. Цікавая была рэакцыя Камкіна, правідлівей, Забаўскага, калі ён убачыў, што тут у бібліятэцы аж двух беларусоў на высокіх пасадах. Мне здаецца, што ён зьменіць сваё стаўленьне да беларускіх кніжак. На маё запытаньне, чаму ў ягоным каталозе так мала бел. матар'ялу, ён адказаў — няма зацікаўленьня. Вось і ўсё. А каб неяк гэта зацікаўленьне ўзьняць — гэта яго не абходзіць. Такіх беларусаў у нас, на жаль, шмат. А ён ужо самы карэнны беларус [*са Слоніма*]. Была на зборцы й яго сястра Кіра. Яна добра ведае Надзю, Аўгена Кудасавых. Была памысная зборка.

**Чацьвер 10 сакавіка**

Нічога не запісана, але, як сёньня не чытацкі дзень, то мусіць, я шмат для сябе рабіла.

**Пятніца 11 сакавіка**

Па абедзе ў школу. Сёньня была спакойная — нічога ня трэба гаварыць. Дык тады й слухаецца лепей і разумеецца болей. Задаў мне зноў заданьне — пра форму ў Дантаўскай Камэдыі і Cantos Pound. Гэта адзін з разьдзелаў ягонай кнігі, што я некалі купіла ў яго. Назад ехалася добра. Зайшлі зноў у сваё любімае мейсца на вячэру.

**Субота 12 сакавіка**

Нічога не запісана. Мушу праверыць — можа, яшчэ што запішу.

**Нядзеля 13 сакавіка**

Нядзеля як заўсёды прайшла добра. Пасьнедалі. В[*ітаўт*] езьдзіў да Тумаша. Я друкавала.

**Панядзелак 14 сакавіка**

Нічога не запісана. Гэта ў мяне пачынаецца пэрыяд, што я зусім занядбала была дзёньнік — так была занятая другім, што калі якая вольная хвілінка, дык лепш вучылася. Але надалей абяцаю сабе старацца запісваць хоць пару слоў — не закідаць.

**Аўторак 15 сакавіка**

Нічога не запісана.

**Серада 16 сакавіка**

Нічога не запісана. Але ведаю, што ўжо вельмі інтэнсыўна вучылася, рыхтавалася да лекцыі.

Ну й, зразумела, трохі друкавала.

Атрымала сёньня рэчы ад Шуста. Распакавала, разгледзела. Усё ў парадку. Добрых пару дзяружкаў, ручнікоў, сарочку. Ну, й свае вырабы. Якраз добра прыйшлося перад выстаўкамі ў South River і ў Newark. Што прадасца, тое прадасца, а рэшту я вазьму сабе. Хай у мяне будзе.

Пазваніла ім, што прыйшла пачка, бо было перад гэтым шмат клопатаў. Шуста дома ня было — ён у шпіталі. Гаварыла з жонкай. Яна ў курсе спраў.

**Чацьвер 17 сакавіка**

Нічога не запісана. Сёньня St. Patrick's, але ў горадзе было сёлета спакайней. Ня было гэтулькі п'яных. У аўтобусе таксама спакайней чымся папярэднія гады.

Вечарам рыхтавалася да лекцыі.

**Пятніца 18 сакавіка**

Да лекцыі я падрыхтавалася добра, але як выйдзе цяжка сказаць. Гэта-ж паводле ягонай кнігі — як ён успрыме.

Едучы хвалявалася. Прыйшлося хвалявацца цэлую лекцыю, бо мая прээзнтацыя была аж пад самы канец лекцыі. Выйшла даволі добра, але ён не хваліў, як часам іншых хваліць — толькі слухаў уважліва. на наступны раз маем прыгатаваць Paper[1] — ідэі пекла ў Дантэ й Паўнда.

Пасьля школы паехалі да Галіны. Я завезла Шустовы рэчы для Надзі, для Выстаўкі ў South River, таксама ягоныя дзяружкі і пару ручнікоў для нашай выстаўкі. Галіна купіла шкатулку й рамку для сябе. Яны гэтым разам вельмі ў яго добра выйшлі. Пасядзелі ў іх трохі, пагаварылі пра канфэрэнцыю, выстаўку. Галіна ўсё наракае, што ўсё самой трэба рабіць, а разам з тым нікога не падпускае, усё пад сябе горне. Вельмі яна не адпаведна з гэтым цэлым праэктам захавалася. Ёй хочацца славы, хочацца, каб гаварылі — гэта Галініна канфэрэнцыя, выстаўка. А сама яна нічога не патрафіць зрабіць, толькі шум. Раззвоньваецца па цэламу сьвету адно.

---

[1] *Даклад, выступ на сэмінары.*

**Субота 19 сакавіка**

Нічога не запісана, але здаецца працавала — трэба праверыць.

**Нядзеля 20 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі й незадоўга пачалі зьбірацца на [*беларускую*] выстаўку ў Newark. Галіна пазваніла, што яна ня зможа быць, дык папрасіла памагчы ўладзіць выставу, а ўжо даглядаць будзе Сямёнава й Васіль. Прыехалі яны позна, каб ня мы то ўжо нічога й ня было-б. Сталы былі ўжо нашыя прыбралі. Я адразу сказала прынесьці назад. Хутка прыехалі й яны. Пачалі насьпех укладаць. Рэчы пакамячаныя, неакуратныя, ну але неяк уклалі. Сямёнава, праўда, стаяла пры выстаўцы цэлы час, а Васіль зь Вітаўтам гаварыў. Я трохі пастаяла, а тады пайшла глядзець, як нашыя практыкаваліся. Зрабіла колькі здымкаў. Гэтым разам ужо фільм у камэры быў!

Выступалі нашыя вельмі добра. Праўда, сцэна была трохі неадпаведная — састаўленыя паасобныя кавалкі. Касьцюмы новыя іх так-

сама трохі неадпаведна выглядалі — запахмурна (чорныя спадніцы). Але ўсё добра прайшло.

Як толькі нашыя пратанцавалі мы адразу-ж зь Вітаўтам паехалі [*на адкрыцьцё выстаўкі*] ў South River. Моладзь, між іншага, таксама прыедзе туды выступіць. Іх папрасіла Люда Махнюк.

У South River было, як заўсёды, даволі прыемна, але нічога надта новага. Добра, што яны так цягла гэтую выстаўку ладзяць. Купіла ў Валі Рагалевіч супніцу, што раней замовіла. Была ўжо й забылася пра яе. Купіла пару яйкаў каляровых. Нейкая новая жанчына, сваяшніца Дубягі, робіць вельмі прыгожыя яйкі.

Сёньня мусіла была забраць рэчы і з Bergen Community Museum, але ўжо не пасьпеем.

Вечарам зазваніла да Шудзейкі — аж яна ўжо рэчы ўсе забрала да сябе.

**Панядзелак 21 сакавіка**

Нічога не запісана. Але ведаю, што пачала рыхтавацца да клясы — рыхтаваць пісьмовае заданьне. Таму й дзёньнік так запусьціла.

**Аўторак 22 сакавіка**

Зноў нічога не запісана. Недзе гэтымі днямі зьезьдзіла да Шудзейкі забрала свае рэчы. Хацела яе сфатаграфаваць, але яна не згадзілася.

**Серада 23 сакавіка**

Нічога не запісана. Прыпамінаю, што як забрала ад Шудзейкі рэчы і мапу Bergen County, то хутка сфатаграфавалі карту і я здала фільм.

Фільм выйшаў добра — з выстаўкі ў Newark. Карта ня выйшла.

**Чацьвер 24 сакавіка**

Вітаўт напісаў справаздачу з усіх гэтых імпрэзаў, але падпісаў маім імём. Далі й здымак з выстаўкі ў Newark з моладзьдзю. Пайшло ў газэту[1].

---

[1] *Зора дапоўніла і адрэдагавала:*

**САКАВІК — МЕСЯЦ ЗАНЯТЫ**

*Адзначэньне 300-годзьдзя акругі Бэрген, Н. Дж.*

Акруга (каўнты) Бэрген у штаце Нью Джэрзі шырака адзначае ўгодкі заснаваньня. Вядома, для Амэрыкі 300 год — дата не малая! У адзначэньні ўгодкаў бяруць удзел і нацыянальныя групы. Але спачатку пару словаў пра акругу.

Акруга Бэрген знаходзіцца ў паўночна-ўсходняй частцы штату Нью Джэрзі й мяжуе зь Нью Ёркам. У акрузе каля мільёну жыхароў і бальшыня зь іх працуе ў Нью Ёрку. Як кажуць Амэрыканцы, акруга Бэрген — гэта спальня Нью Ёрку.

Засноўвалі акругу і першымі пасяленцамі былі Галяндцы, было нямала і Ангельцаў. Пазьней прыяжджалі Немцы, Ірляндцы, Скандынавы, Італьянцы. Значна пазьней прыехалі Палякі. Беларусаў у акрузе пасялялася ня шмат, бальшыня Беларусаў жыве ў мясцовасьцях акругі Пасэйк на поўдзень ад Бэргену.

Адзначэньне ўгодкаў распачалося ў нядзелю 6 сакавіка ў музэі акругі, у горадзе Парамусе, але рэклямаваньне сьвяткаваньня ў англамоўным друку пачалося значна раней, як і раней мы плянавалі свой удзел у адзначэньні.

Шостага сакавіка ў музэі (музэй у акрузе — цэнтар культурнага жыцьця) адбыўся фэстываль і адчынілася выстаўка этнаграфічнага мастацтва.

Адчынялі фэстываль Беларусы, беларуская танцавальная група «Васілёк». Выканалі яны чатыры танцы. Выкананьне было надзвычайна ўдалае: танцоры «Васілька» вырабленыя, добра натрэнаваныя запраўдным вэтэранам беларускага танцу ў Амзрыцы, д-рам Алай Орса-Рамана. Моладзь рэпрэзэнтавалася цудоўна: прыгожыя касьцюмы, танцаўнікі маладыя, стройныя, станцаваныя — усё гэта рабіла выдатнае ўражаньне. Гэтым разам адміністравала групу сп-чна Вера Запруднік, памочніца Алы Рамана, камэнтары да танцаў і наагул інфармацыю пра Беларусь і беларусаў рабіла сп-чна Алеся Кіпель, а гістарычную даведку пра Беларусь апрацаваў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва.

Нашыя стэнды выстаўкі складаліся з вырабаў з саломкі, з дрэва, ткацкіх экспанатаў, мастацкіх абразоў на беларускую тэматыку (абразы мастакоў А. Анцуты й П. Мірановіча) ды дзяружак з розных мясцовасьцяў Беларусі. Відавочна, і нашыя паясы разьмяшчаліся на самым відным месцы.

Гідам выстаўкі была сп-ня Валянтына Шудзейка, якая таксама дэманстравала вышываньне беларускіх арнамэнтаў.

Выстаўка была ўпрыгожаная афіцыйнай картай акругі (выкананай працаўнікамі музэю), на якой былі адзначаныя месцы пасяленьня Беларусаў ды зазначана, што цяпер у акрузе жыве каля тысячы Беларусаў. Выстаўка трывала два тыдні.

У дзень адчыненьня функцыянаваў і буфэт з нацыянальнымі стравамі — усходнімі, грэцкімі, славянскімі, нямецкімі, усяго каля двух дзесяткаў.

Беларускія стравы: грыбныя пірагі ды іншае печыва (надзвычай смачныя, і разышліся за гадзіну!), былі зрыхтаваныя зноў-жа сп-няй Валяй Шудзейка.

У гэты дзень нам было прыемна бачыць удалую беларускую рэпрэзэнтацыю ў гэтай мясцовасьці ды спаткацца з шматлікімі суродзічамі.

**НА СЛАВЯНСКІМ ФЭСТЫВАЛІ**

Не пасьпела яшчэ зачыніцца выстаўка ў акрузе Бэрген, як адчынілася новая выстаўка ў горадзе Ньюарку. Тутака выстаўка й фэстываль праводзяцца ў праграме дзейнасьці штатавага ўнівэрсытэту. Беларусы бралі ўдзел упяршыню.

У нядзелю 20 сакавіка наш «Васілёк» выступаў у ўнівэрсытэцкай аўдыторыі. Зноў нашыя танцы былі цудоўныя, а інфармацыя пра Беларусь ізноў была шырокая й грунтоўная. Як і ў папярэдняй імпрэзе, раздавалася шмат англамоўнае літаратуры пра Беларусь. Выстаўка і тут была вельмі разнаякасная: ткацкія вырабы, вязаньне, разьба па дрэве, ды асабліва карысталіся посьпехам вырабы з саломкі (праца сп. Міколы Шуста).

Правадніком выстаўкі ў Ньюарку была сп-ня Шура Сямёнава, а арганізацыйна кіравалі й дапамагалі сп-ства Галіна й Васіль Русакі.

Сакавік быў запраўды месяцам занятым. Бо літаральна праз гадзіну пасьля выступу ў Ньюарку «Васілёк» мусіў выступаць на выстаўцы ў гор. Саўт Рывэры (там адбывалася выстаўка ў нашым беларускім грамадзкім цэнтры), а некалькім з арганізатараў апісаных імпрэзаў трэба было ехаць на паседжаньні ў акругі Сомэрсэт і Эссэкс, дзе вялося рыхтаваньне да наступных фэстываляў. Апроч таго, усе мы рыхталіся й да Сакавіковых Сьвятаў, і да надыходзячага сымпозіюму пра беларускую культуру ў Амэрыцы. Запраўды, месяц сакавік — заняты й памысны!

**Зора Кіпель**

*«Беларус», № 310, сакавік-травень 1983*

### Пятніца 25 сакавіка

Школы сёньня няма — вясеньнія канікулы. Пішу «paper». Шмат працую над гэтым.

### Субота 26 сакавіка

Дома працую «paper». Штосуботнія рытуалы, зразумела: прычоска, сьнеданьне, бялізна і падобнае.

**Нядзеля 27 сакавіка**

Сёньня адзначэньне Сакавіка ў Нью Ёрку. Вітаўт паехаў, а я вучуся. У хаце спакойна.

В. прыехаў, казаў, што было вельмі добра. Шмат людзей пыталіся пра мяне.

**Панядзелак 28 сакавіка**

Зноў нічога не запісана. Але ведаю. што працавала над «paper».

Зрабіла Dante. Ballarine перагледзела — казала добра, але я сама адчуваю, што трохі запроста, не на ўзроўні Graduate[1].

[1] *Студэнта-выпускніка.*

**Аўторак 29 сакавіка**

Працую цяпер над Pound'ам. Так нічога цікавага.

**Серада 30 сакавіка**

Нічога не запісана. Рыхтавалася да школы. Шмат працы.

**Чацьвер 31 сакавіка**

Выканчвала «paper». Ballarine праверыла. Гэтую працу над Pound'ам я ўжо рабіла больш самастойна, больш сьведама — проста выказвала свой пагляд. Выйшла значна карацей як Dante.

Вечарам перапісвала ў сшыточкі — зусім, як школьнікі.

**Пятніца 1 красавіка**

Карэсара няма. Я яшчэ выкончвала «paper». Па абедзе паехалі ў школу. Выйшла трохі сьмешна з «paper». Я думала, што Prof. будзе забіраць на лекцыі, але выглядае, што ўсе ўжо здалі свае раней. Ён далікатна спытаўся ў мяне, ці я маю «paper», я сказала: «Так, зразумела». Толькі пазьней зрэалізавала, што трэба было здаваць ужо. Лекцыя прайшла добра. Задаў ён мне зноў заданьне пра Forese Donati з Dante's Purgatory.

**Субота 2 красавіка**

Заўсёднія суботнія рытуалы: Прычоска, сьнеданьне, бялізна, закупы. Трохі друкавала.

**Нядзеля 3 красавіка**

Сёньня Сакавік у царкве ў Richmond Hill. Вітаўт робе рэфэрат. Я не паехала, бо, сапраўды, шкада часу губляць. Вітаўт казаў, што добра выйшла. Усе былі задаволеныя. Быў там таксама й Васіль Мельяновіч — прывёз нам кніжкі ад Камкіна, што некалі ўжо даўно заказалі: слоўнікі, адзеньне.

Трохі друкавала, трохі вучылася.

**Панядзелак 4 красавіка**

Сёньня вялікае здарэньне. Карэсар паклікаў мяне і сказаў, што ён у канцы гэтага месяцу адыходзіць на пэнсію. Для мяне гэта было вялікай неспадзеўкай. Я думала, што ён яшчэ пару гадоў пабудзе ў ад-

дзеле. Тады [redacted] мела-б большыя шансы на яго мейсца, [redacted] цяпер яшчэ трохі для мяне зарана. Цяпер усё зьмяняецца. Ён будзе мяне ўводзіць у справы адміністрацыйныя аддзелу. Папрасіў нікому яшчэ не гаварыць.

**Аўторак 5 красавіка**

Рыхтуюся да лекцыі. У аддзеле шмат працы. Я ўсё яшчэ пад уражаньнем Карэсаравага адыходу.

**Серада 6 красавіка**

Нічога не запісана. Рыхтавалася да школы.

**Чацьвер 7 красавіка**

Сёньня мелі Staff meeting. Былі на мітынгу і Jay і Gold[1]. Гаварылі пра выстаўку Бібліі, пра розныя справы аддзелу. Карэсар яшчэ нічога не сказаў пра свой адыход.

В[*ітаўт*] паехаў недзе са Steven на зборку ад Славянскім фэстывалі ў Action Park. Недзе ў кітайскім рэстаране мелі спатканьне. Казаў, што вельмі прыемна было. Са славянскім выступам амаль ужо ўсё дагаворана.

Па абедзе Румяна[2] зладзіла невялічкую пачостку — яна атрымала LTA-2. Было вельмі прыемна. Пры гэтай аказіі Карэсар сказаў, што ён адыходзіць. Усе былі вельмі зьдзіўленыя. Мяне трохі пакрыўдзіла рэакцыя Тані і Юры. Асабліва Таня мяне зусім амаль ігнаравала — як быццам я й ня маю ніякіх правоў на мейсца Карэсара. Мяне гэта крыху пакрыўдзіла, бо-ж найлепшыя крытыкі й ацэншчыкі твае — твае супрацоўнікі. Ну, паглядзім!

Вечарам пазваніла Надзі. Памёр Аўген[3]. Яна вельмі перажывае. Паніхіда будзе заўтра. Якраз добра выпала — пасьля школы заедзем.

---

[1] *Паседжаньне аддзелу, Джэй і Гоўлд — бібліятэчнае начальства.*

[2] *Калега-баўгарка, атрымала павышэньне.*

[3] *Аўген Кудасаў, Надзін муж.*

**Пятніца 8 красавіка**

Сёньня ўзяла цэлы [*вольны*] дзень, бо заўтра працую.

Зраньня яшчэ трохі вучылася — падрыхтавалася да прэзэнтацыі.

Прайшло даволі добра, але [redacted] вельмі хвалявалася, бо ведама, што В[*ітаўт*] чакае мяне, каб ехаць на паніхіду, а прафэсар зацягнуў лекцыю, мая прэзэнтацыя была амаль пры канцы. В. ужо пачаў злавацца. Трохі спазьніліся, але галоўнае было аддаць пашану й паспачуваць Надзі. Замік вянка далі ёй чэк на $50 для яе распараджэньня пасляць нешта на Беласточчыну. Але, чуць не забылася. Аддаў-жа прафэсар нам працы. Я атрымала «В»[1]. За Dante B— і за Pound B+. Мела невялікую гутарку з Wilhelm[2], якая мяне таксама трохі абезкуражыла. Ён, відавочна, ня вельмі шмат аба мне думае. Так мне, прынамсі, выдалася зь яго захаваньня, з пару сказаў, якія ён на хаду кінуў — ён заў-

сёды са мной гаворыць на хаду, заўсёды недзе бяжыць. Няма таго, каб сесьці і спакойна пагаварыць. Ён раіць сканцэнтравацца на Medieval Studies[3]. І гэта мне трохі неяк не спадабалася — як быццам ён хоча ад мяне збавіцца. Ехалі дахаты неяк зь цяжкім настроем.

---

[1] *Найвышэйшая адзнака — А («выдатна»). ■ — «добра».*
[2] *Прафэсар літаратуры, ягоны «канёк» — Артурыяна.*
[3] *Сярэднявечныя дасьледаваньні.*

**Субота 9 красавіка**

Сёньня працую. Сёньня таксама хавалі Аўгена, але мы ўжо не змаглі паехаць.

Працавалася ня дрэнна. Юра ўжо трохі зьмяніў свой пагляд на тое, што «Як-жа мы будзем без Карэсара». Наташа маладзец — яна мяне вельмі падтрымлівае.

**Нядзеля 10 красавіка, Гадавіна, як памёрла мама**

Нашае нядзельнае цэрыманіяльнае сьнеданьне. Памалілася за маму добранька. Пасьля трохі парадкавалася, мыла бялізну. Друкавала трохі.

Была паніхіда па маме ў Чыкага.

**Панядзелак 11 красавіка**

Нічога не запісана. На працы ўсе яшчэ пад уражаньнем Карэсаравага адыходу. Працы шмат і на рабоце і для школы і з Купалам-Коласам. Дзівішся часам чалавек, як хапае на ўсё энэргіі.

**Аўторак 12 красавіка**

Нічога не запісана. Недзе гэтымі днямі пачалі мы нарады, як правесьці разьвітальны дзень з Карэсарам. Зьбіраліся ў пакоі Jay — Doares, Gold і я. Добрыя, дзелавыя былі нарады. Славянскі аддзел узяў на сябе быць асноўным арганізатарам Party.

**Серада 13 красавіка**

Нічога не запісана. Рыхтавалася для школы.

Вечарам друкую.

**Чацьвер 14 красавіка**

Зноў нічога не запісана. Сёньня не публічны дзень[1] — раблю тое-сёе для сябе для школы.

---

[1] *Бібліятэка закрытая для публікі.*

**Пятніца 15 красавіка**

Па абедзе паехалі ў школу. На лекцыі ўсё добра. Я ўжо амаль усе паперы падрыхтаваныя маю да запісу на наступны сэмэстар, але яшчэ ўсё чакала на рэкамэндацыю ад Тома. Карэсар і Devor напісалі адразу-ж. Дастала транскрыпт. Падрыхтавала дыплёмы. Усё гатова. Прафэсар Wilhelm сказаў, каб дала копіі ўсіх дакумэнтаў яму — ён будзе ўжо рассылаць для іншых прафэсараў для зацьвярджэньня.

Пасьля школы паехалі да Русакоў. Нам трэба было сьпешна падрыхтаваць матар'ял для выстаўкі. Працавалі з Надзяй цэлы вечар. Галіна мусіла паехаць да Люды. Васіль і В[*ітаўт*] гаварылі, а мы з Надзяй пісалі картачкі для экспанатаў. Праўда, Васіль прымацоўваў шпількамі дзяружкі да палкаў. (Пазьней гэта трэба было адрабляць — у музэі сказалі, што так ня можна).

**Субота 16 красавіка**

Суботні рытуал — прычоска, сьнеданьне, бялізна, парадкаваньне, друкаваньне. Трохі адпачывала.

**Нядзеля 17 красавіка**

Зраньня — ранішняе парадкаваньне.

Па абедзе паехалі на PLASMA[1] мітынг. Добра, цікава было. Шмат новага даведаліся. З Юравай школы цяпер ёсьць прадстаўнік у Нью Ёрку, каб прыстройваць іх на клінічныя сэмэстры тут. Гэта добрая навіна — Юру будзе лягчэй прыстроіцца.

---

[1] *Арганізацыя бацькоў-амэрыканцаў, дзеці якіх студыююць мэдыцыну за мяжой.*

**Панядзелак 18 красавіка**

Нічога не запісана. Шмат працы ў Аддзеле. Пачалі патрохі з Карэсарам рабіць невялічкія нарады — ён мяне ўводзіць у адміністрацыю Аддзелу.

**Аўторак 19 красавіка**

Нічога не запісана. Ужо колькі разоў давала сабе слова заўсёды нешта запісаць у календарык. Хоць пару слоў, а ўжо тады некалі пазьней, як ёсьць час, запісваць сабе ў дзёньнік. Але як бывае такое занятае, такое складанае, такое суетлівае палажэньне, дык нават у календарык не запішаш, а тады цяжка па памяці ўстанавіць. Дык у некаторых выпадках (праўда, рэдка) можа ў маім дзёньніку быць недакладнасьць у датах. Але факты ўсе правядловыя, бяз прыкрасаў, без вялікіх аналізаў — проста факты. Можа некалі, як будзе больш часу, буду больш разважаць, аналізаваць, выказваць свае думкі — адным словам, вадзічку дадаваць. Але цяпер толькі факты.

**Серада 20 красавіка**

Сёньня ў нас пачынаецца суматоха[1]. Пачынаюць прыязджаць на канфэрэнцыю. У Нью Ёрк па абедзе прыехаў Сянькевіч Віктар[2]. Вітаўт яго спаткаў і прывёз на працу. Тут ён трохі перачакае, а вечарам паедзем дахаты разам. Ня памятаю, як і дзе вячэралі. Адным словам, неяк-жа было. Ужо позна вечарам Вітаўт паехаў на аэрадром па Сажыца. Такім чынам мелі двух гасьцей у хаце ў такі заняты час і на працы і ў школе, ды яшчэ й перад канфэрэнцыяй. Праўда, я ўжо нічога да гэтага ня маю. Наогул, у гэтай канфэрэнцыі і нават у выстаўцы (дзе я нібы адказная) я і Вітаўт стараліся рабіць як мага менш. Гэта

ўсё Галіна заварушыла, яна ўсё пад сябе падабрала — хай яна й выкручваецца. Уся гэтая дапамога выходзіць толькі, што лішняя адміністрацыя для нас, толькі працы болей, а выкарыстаць з гэтага мы вельмі мала зможам. Можа толькі брашурка.

Прыехаў В. з Сажыцам. Яшчэ доўга сядзелі гаварылі. Я пайшла спаць.

---

[1] *Пры Ратгерскім унівэрсытэце мае адбыцца сымпозіюм і выстаўка, прысьвечаныя беларускай культуры ў ЗША.*

[2] *Віктар Сянькевіч — наш блізкі сябра зь Лювэнскіх часоў, у тым часе жыў і працаваў у Гішпаніі — ведамы сваімі перадачамі на «Радыё Свабода», якія падпісваў як «Язэп Барэйка».*

**Чацьвер 21 красавіка**

Раніцай паехалі ўсе ў Нью Ёрк. Яны пайшлі зраньня ў Радыё [*Свабода*], тады хадзілі трохі па Нью Ёрку. Прыйшлі ў бібліятэку і паехалі ўжо дахаты да нас.

Схадзілі на вячэру ў Рэстаран. Вечарам яшчэ гаварылі. Я трохі старалася павучыцца. Сянькевіч яшчэ даволі цікавы, зь ім можна было-б і гаварыць, але Сажыц такі прымітыўны, такі абмежаваны. Мне ўжо пачынае дакучаць іхная прысутнасьць. Мне то, праўда, прысутнасьць чужых людзей дакучае адразу й заўсёды, так што гэта нічога дзіўнага. Надта-ж [redacted] свой сямейны супакой цаню.

Пятніца 22 красавіка

Зраньня паехалі на працу. Сянькевіч паехаў з намі, а Сажыц застаўся дома — будзе нас чакаць, каб ехаць у Нью Брансуік. На рабоце суетліва цяпер — шмат працы. Затрымаліся — Сажыц ужо нас нецярпліва чакаў. Паехалі ў N. Br. Сёньня ўжо, як спусьцім Сажыца, будзем самі — Сянькевіч застаецца ў Запрудніка.

Здала анкеты ў школу. Цяпер толькі яшчэ Tom Bird мае мне рэкамэндацыю даць.

Схадзіла ў музэй — памагла там трохі адзець манэкены. Бальшыня ўжо зроблена. Выглядае нядрэнна.

Школа была ОК. Я вельмі добра сябе ў школе адчуваю — мне вельмі ўсё цікава, абы толькі прафэсар быў аба мне добрай думкі. Заехалі на вячэру, але ня было сымпатычна. Нешта нарушылася наша ідылія.

**Субота 23 красавіка**

Раніцай, нават не пасьнедаўшы, паехалі ў New Brunswick на сымпозіум. Прыехалі — нічога яшчэ не прыгатавана, нікога няма. Заля, дзе мае быць канфэрэнцыя, — вялізарная. Будзе сьмешна выглядаць.

Адразу пачалі арганізоўвацца. Зрабілі з Валяй Рагалевіч каву. Патроху пачалі зьбірацца людзі — вельмі патроху. Пачалі позна. Рэфэраты былі ня дрэнныя. Галіна трохі разгубленая, бегае. Адна асоба ўсё гэта ня можа ахапіць. Асабліва адна асоба, як Галіна. Яна шмат

працуе, але ўсё гэта неяк павярхова, ня глыбака, не сур'ёзна. Ну, але досыць аб ёй.

Пасьля канфэрэнцыі было афіцыйнае адкрыцьцё выстаўкі. Тут ужо трохі больш людзей сабралася. Быў пачастунак. Выстаўка выглядае добра. Праўда некаторыя рэчы трохі скучаныя. Напрыклад, ручнікі мусілі былі быць больш разгорнутыя, лепш прадстаўленыя. Надпісы маглі быць больш інфарматыўныя. Ну, але гэта не ад нас залежала — выстаўку цалкам афармляў музэй. Манэкены былі вельмі эфэктоўныя.

Падчас выстаўкі я перагаварыла з Томам аб маёй рэкамэндацыі. Ён вельмі быў сымпатычны.

Дахаты ехалі самі, дзякаваць Богу. Сажыц затрымаўся недзе там, а Сянькевіч, здаецца, таксама зь ім недзе.

**Нядзеля 24 красавіка**

Зраньня пасьнедалі. Трохі парадкавалася, а пазьней паехалі ў Нью Ёрк у [*фундацыю*] Крэчэўскага. Сяньня там была багаслужба, але мы ўжо на службу не паехалі. Прыехалі на рэфэрат Сянькевіча. Прайшло ўсё вельмі чынна й міла. Рэфэрат яго быў трохі слабаваты пра новыя праявы нацыянальнага ў бел. сав. літаратуры. Ён вельмі гучна называў для нас ужо ведамыя рэчы — рэвэляцыйнымі, вялікімі й важнымі навінамі. Але было цікава іншым людзям. Трохі зашмат удзяліў увагі падзеям у радыё, Сяднёву. Паехаў ён з намі дахаты. Ну, але ён адзін — гэта яшчэ нічога.

Вечарам яшчэ трохі гаварылі, але я хутка пайшла адпачываць.

**Панядзелак 25 красавіка**

Нічога не запісана, але ведаю, што на рабоце шмат працы, бо ўжо з Карэсарам абгаворваем усе адміністрацыйныя справы.

В[*ітаўт*] з Сянкевічам паехалі ў South River — Нью Брансуік. Галіна яму мае даць чэк — мы ўжо на гэтым настаялі[1]. Яго таксама запрашалі да сябе Цярпіцкія. Ён спачатку думаў, што застанецца ў іх, але выйшла так, што начаваў у Русакоў. В. прыехаў ня позна.

---

[1] *На правядзеньне канфэрэнцыі быў атрыманы грант, таму дарога «далёкім» гасьцям аплачвалася.*

**Аўторак 26 красавіка**

Зноў нічога не запісана. Кожны дзень цяпер прыходжу рана, і мы з Карэсарам пачынаем разьбіраць усе папкі й паперы.

Сянькевіч недзе ў Нью Ёрку, але вечарам у нас.

**Серада 27 красавіка**

Сёньня ўжо Сянькевіч выезджае. В[*ітаўт*] павёз яго на аэрадром — на падземцы паехалі.

Мы тут рыхтуемся да Карэсаравай Party, да сваёй, што мае быць у пятніцу. Ды я яшчэ шмат мушу арганізоўваць для вялікай урачыстасьці. Мелі ўжо некалькі зборак з Jay, Gold і Doares. Гэта для мяне добра —

я адразу ўваходжу ў вышэйшыя колы. Я ўсё больш і больш задумваюся, ці хачу ■ начальства. Мусіць, усё-ж хачу, калі так стараюся.

Чацьвер 28 красавіка

Хадзілі зраньня ў магазын да Камкіна. Што там робіцца ў складах. Тысячы, тысячы кніжак на паліцах і тысячы яшчэ нават не распакаваныя — у пачках. Знайшлі столькі цікавых кніжак. Выбрала колькі для Карэсара.

Выглядае, што Камкін павядзе справу куды больш спраўна й разумна.

Вельмі прыемная была паездка. Назад ідучы, зайшлі паелі недзе ў ірляндскай піўнушцы. Вельмі красачна. Дзень быў цёплы, пагодны. Настрой таксама. Мела гутарку з Doares — яна трохі была заскочаная, што ня ведала пра паход да Камкіна.

Апошнія падрыхтоўкі да заўтрашняй party. Усё добра пад кантролем. Так выйшла, што мусіла запрасіць і Jay, і Gold, і Doares[1].

---

[1] *Бібліятэчнае начальства.*

**Пятніца 29 красавіка**

Сёньня апошні дзень Карэсара [*на працы*]. Добра якраз выпала, што ня было школы. Праф. адклаў клясу на нядзелю ў яго ў хаце — гэта ўжо яго штогадовая цырымонія. «Парты» наша выйшла вельмі ўдала, вельмі сымпатычна, прыемна, раскошна. Падарункамі-кнігамі ён вельмі задаволены. Усе чуліся добра. Госьці нашыя таксама былі задаволеныя.

**Субота 30 красавіка**

Нічога не запісана, здаецца, сёньня працавала — трэба будзе праверыць расклад.

**Нядзеля 1 траўня**

Зраньня нашая нядзельная працэдура. Як добра, што мы трымаемся ўсё гэтай нашай традыцыі. Праўда, цяпер ужо царква выйшла з нашага нядзельнага абавязку. Даўно ўжо ня былі ў царкве. Толькі час-ад-часу па нейкай спэцыяльнай прычыне.

Па дарозе ў Нью Ёрк заехалі ў пякарню — купілі печыва. Prof. Wilhelm нам заўсёды на перапынку паміж лекцыяў прыносіў нейкія пячэньні — дык я ўжо мусіла адудзячыцца. Хату яго знайшлі лёгка — жыве ён у добрым мейсцы на [*рагу*] 35 [*вуліцы*] і 3d. Ave. Там ужо было колькі асобаў, але пакуль сабраліся ўсе, дык было ўжо добра позна. А я сказала В[*італьту*] прыехаць на пэўную гадзіну. В. у міжчасьсі паехаў да Тумаша. Як падыходзіў час, а праф. усё яшчэ й ня думае канчаць лекцыю, я мусіла пабегчы і сказаць В., што яшчэ на некалькі хвілін зацягнецца. В. ня быў вельмі задаволены, як і можна было спадзявацца. Нарэшце лекцыя скончылася, а я ўжо хвалююся, як там В. Лекцыя была цікавая пра Dante «Paradiso». Сказаў нам так-

сама пра экзамэн. Wilhelm выглядае, што жыве адзін, але ■ амаль пэўная, што ён...

Вечар правялі спакойна. Працавалі, адпачывалі.

**Панядзелак 2 траўня**

Першы дзень без Карэсара. Працы шмат, але ўсё спакойна, усё добра. Я не сумняваюся, што спраўлюся з аддзелам. Трэба толькі зьмяніць сваё стаўленьне да працы — усё запісваць, усё натаваць. Не спадзявацца ўжо на памяць.

**Аўторак 3 траўня**

Нічога не запісана — мусіць, і думаць пра дзёньнік не было калі. Працы шмат, але атмасфэра ў аддзеле вельмі сымпатычная. Рыхтуемся да Карэсаравай party.

**Серада 4 траўня**

Зноў нічога не запісана. Як гэта важна запісаць хоць пару слоў, тады ўжо лягчэй устанавіць. Але самае лепшае не запускаць дзёньніка.

**Чацьвер 5 траўня**

Дзень прайшоў добра — у чацьвер заўсёды больш можна зрабіць, спакайней чуемся.

Вечарам у хаце чакала мяне прыемная неспадзеўка — картачкі ад Юры. Аж дзьве, ды такія харошыя, прачулыя. Маладзец ён усё-ж у нас. Рыхтавалася трохі да школы. Заўтра апошняя лекцыя перад экзамэнам.

**Пятніца 6 траўня**

Зрана яшчэ на працу. Пад [*ранішні перапынак на*] каву прыйшлі ў бібліятэку Zimmer'ы (аўтар кнігі пра Фіоля[1] і яго жонка). Схадзілі зь імі на каву. Пагаварылі. Яны вельмі мілыя людзі. Цешацца вельмі з сваёй кнігі. Кніга, праўда, выйшла вельмі добрая (прынамсі з тэхнічнага боку — зьместу яшчэ не ўдалося ацаніць).

Я пайшла яшчэ трохі папрацаваць, а В[*ітаўт*] мусіў зь імі займацца. Я ўжо й званіць стала — трэба было ехаць у Нью Брансуік. Заехалі на могілкі, купілі перад гэтым каменьчыкаў. Там-жа ўдалося купіць і хрэн. Спарадкавалі магілку. Бачылі там Стомаў. Даведаліся таксама, што на днях памерла Марыя Станкевіч — яшчэ сьвежая магілка.

У школе ўсё добра. Апошняя лекцыя. Пагаварыла з Праф., каб здаваць экзамэн раней, бо якраз у наступную пятніцу ў нас party. Ён вельмі быў прыхільны.

Вечарам званіў Юра. Прыемна зь ім пагаварылі — ён шмат працуе — рыхтуецца да экзамэнаў. Пасьля экзамэну плянуе пахаць на пару дзён у Acapulco. Прыехала Алеся. Спаткала яе Надзін. Прыехала позна — я ўжо пачала хвалявацца (спазьнілася на самалёт).

Я пачала булку-бабку. Ня ведаю, што выйдзе. Антаніна Філіпаўна

дала мне рэцэпт ужо ў мінулым годзе. Нарэшце прыйшла й Алеся. Яшчэ трохі пагаварылі ды пайшлі спаць. Заўтра будзе заняты дзень.

---

[1] *Шчэпан Зымэр — паляк, дасьледнік кірылічнага друку ў Кракаве. Быў абраны ганаровым сябрам БІНіМу.*

**Субота 7 траўня**

Пякла бабку. Зрабіла пасху сырную. Пазьней фарбавалі яйкі. М. В. паехала ў царкву зь Верай Божка — пасьвяціць Вялікаднае.

В[*ітаўт*] паехаў на польскую канфэрэнцыю[1], дзе быў і «Panel» пра Фіоля і кнігу Zimmera. Вельмі добра было. Шмат гаварылася пра Скарыну. Наагул кніга гэтая нам, беларусам, вельмі прыхільная і будзе на карысьць. Было шмат нам падзякаў і Тумашу, і Надсону, і... мне (я пераглядала транслітэрацыю). Я вельмі шкадую, што так выйшла, што я не змагла паехаць. Мы з Алесяй вельмі добра правялі дзень.

Вечарам Алеся зьбіралася на Усенашнюю ў N. Br. У апошнюю хвіліну В. вырашыў ехаць зь ёй, каб ёй ня было сумна назад варочацца. Алеся не пярэчыла — відаць, была радая. Я не паехала — надта-ж стамілася. Прыехалі яны ўжо вельмі позна. Я то спала, то прачыналася.

---

[1] *Канфэрэнцыя ў Нью Ёрку, арганізаваная Польскім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў ЗША.*

**Нядзеля 8 траўня, Вялікдзень**

Раніцай яшчэ паставіла шынку ў духоўку. Усё ўжо гатовае. Ballarin'у[1] запрасілі на 11-ую. Усё было смачнае, добрае. Прыемна правялі час — шкада, што Юры з намі ня было. Але я яму пакінула пасхі сырнай і адну булку. Ага, булкі не зусім удаліся. На смак, праўда нічога, але вельмі-ж цяжкія, вязкія. Мусіць не дастаткова вымесіла.

Ballarine прынесла традыцыйную азалію. Вельмі прыгожую гэтым разам. Алеся таксама купіла кветак. Сёньня якраз і дзень маткі. Доўга не расседжваліся, бо хацелі яшчэ з Алесяй пасьпець у магазын. Алеся купіла мне таксама й шкляначкі для дэсэрту. Вельмі зручныя й прыгожыя. Ужо і ўжывалі сёньня.

Паехалі з Алесяй у магазын, а Bal. паехала дахаты. Купілі тое-сёе для мяне. Прыемна нам было.

Алеся застаецца дома да заўтра.

---

[1] *Наша сяброўка Кацярына Балерыні.*

**Панядзелак 9 траўня**

Алеся з намі паехала ў Нью Ёрк. Яна мае ў судзе нейкую справу. На станцыі разышліся: я — на працу, а А[*леся*] ўзяла таксі пад фэдэральны суд.

Дзень быў заняты. Алеся прыйшла па абедзе. Мы зь ёй яшчэ трохі выйшлі, пахадзілі па магазынах. Яна чакала сваіх калегаў, якія маюць

прыйсьці ў бібліятэку, а тады ўжо разам яны паедуць у Вашынгтон. Даволі доўга іх чакалі, ужо думалі, што яны безь яе паехалі — аж яўляюцца. Прыемныя маладыя людзі. Перакінуліся пару словамі й яны ўсе паляцелі.

Вечарам рыхтавалася да экзамэну.

**Аўторак 10 траўня**

На рабоце шмат працы — няма як вучыцца. Трэба неяк асабліва сканцэнтравацца, арганізавацца да экзамэну. Праф. нам сказаў, што будзе, амаль параіў мець ужо напісаны эссэй, на агульнае параўнаньне абодвух паэтаў Dante і Pound і іхных твораў Comedia and Cantos. Так выглядае, што і другія пытаньні будуць лёгкія, ён нам даў дастаткова наводнай інфармацыі. Але падрыхтавацца трэба добра — тым больш трэба добра падрыхтавацца, бо ён амаль усё выклаў, што будзе на экзамэне.

У абед хадзілі з Zimmer'амі на абед. Прыехаў і Тумаш (фактычна В[*imaўm*] яго прывез). Быў і Запруднік, і Адамовіч. Вельмі было сымпатычна. Я пайшла раней за ўсіх, бо сапраўды працы шмат — цяжка адлучыцца й на гадзінку.

Вечарам рыхтавалася да экзамэну.

**Серада 11 траўня**

Цэлы дзень старалася ўжо ўдзяліць экзамэну. Напісала эссэй — дала Баларыне праверыць — яна кажа, што добра. Але яе крытэрыі, як я ўжо пераканалася, не для нашых вымогаў. Трохі ўжо пачынаю хвалявацца.

**Чацьвер 12 траўня**

Працавала да абеду.Трохі яшчэ тое-сёе прагледзела перад экзамэнам. В[*imaўm*] спаткаў мяне ў Сэкаўкус. Добра ехалася, але я ўжо зусім хвалююся. У школе ўсё прайшло добра. Сакратарка дала мне экзамэн, сшыткі. Пасадзілі мяне ў асобны пакой, і я была зусім вольная рабіць, што хацела. Мне гэта было вельмі добра, бо гэта дало мне магчымасьць супакоіцца, сабрацца з думкамі. Перапісала ў сшыток асноўнае эссэ (нават магла трохі час ад часу глянуць). Другая частка была таксама не цяжкая. Мы маглі карыстацца кнігамі для гэтай часткі. Я, праўда, шмат і не карысталася. Ну, і неяк-жа здала. Як здала, але здала. Адразу адчула такую палёгку. Цяпер на цэлае лета супакой.

Прыехаўшы дахаты, яшчэ мелі час заехаць заказаць Юру білеты з Мэксыка дахаты. Ён нат падаў ужо й дату. А вечарам ужо заслужана адпачывала.

Сабрала яшчэ, праўда, усе рэчы, што заўтра для party трэба завезьці.

**Пятніца 13 траўня**

Маем дазвол на машыну[1] сёньня. Зраньня пайшла набрала кве-

так — вялізарныя букеты азаліяў і ландышаў. Як прыехалі на працу [redacted] пачалі вынімаць з машыны й насіць, дык усе не маглі нацешыцца. Наагул кветкі нашыя былі цэнтрам увагі й гутаркі. Сталі рыхтаваць усё для party. Я яшчэ зраньня мусіла схадзіць на зборку «selection officers»[2].

Шмат працавалі, але ўсё зрабілі, усё пасьпелі. Усё было такое смачнае, такое прыгожае, такое багатае, што сапраўды, як Карэсар сказаў, «Royal». Усе былі вельмі задаволеныя, асабліва сам Карэсар і яго жонка. І пачастунак, і ўпрыгожаньне, і падарункі, і прамовы былі сапраўды на ўзроўні. Лепш ужо цяжка й прыдумаць. Добра мы ўсе папрацавалі, але [redacted] рэзультаты былі відаць.

Мы паехалі дахаты а 6-ай, [redacted] пару асобаў засталіся яшчэ парадкаваць. Усе ў нас вельмі ахвярныя.

---

*[1] На паркоўку ў бібліятэчным дворыку.*

*[2] Selection officer — бібліятэкар, які мае сачыць за літаратурай у сваёй галіне.*

**Субота 14 траўня**

Сёньня працую. Парадкавалі яшчэ ад учарайшай Party. Выканчвалі астаткі — шмат яды засталося. Працаваць было прыемна — усе яшчэ пад уражаньнем учарайшай урачыстасьці.

**Нядзеля 15 траўня, Памінальная**

Зраньня пасьнедалі й паехалі ў царкву. В. мяне спусьціў у Highland Park, а сам паехаў у Саўт Рывэр. Служба была прыемная — я яшчэ пасьпела даць паперку за супакой душ нашых памерлых.

На могілкі паехала з Галінай. Гаварылі пра канфэрэнцыю — яна наракала, што было шмат цяжкасьцяў з усім: і людзьмі й адміністрацыяй. Я веру, што было цяжка, але яна сама трохі ў гэтым вінавата. Ня трэба было так усё пад сябе падграбаць — трэба даць больш адказнасьці другім. На могілках сымпатычна, як заўсёды. Цікавая рэч, што так заўсёды спакойна тут сябе адчуваеш — апошняе мейсца супачынку — ці што? Магілка мамы ў парадку. Паставіла кветачкі, паклала яечкі. Сьвятар пачаў з іншага боку[1], дык пакуль дайшоў да нашай, дык і Вітаўт прыехаў. Там таксама сёлета пачалі з другога боку — доўга заняло, пакуль В. прыехаў. Трохі пагаварылі зь людзьмі. Шмат каго пабачыш заўсёды ўжо тут. Паехалі дахаты ды й адпачывалі.

---

*[1] Сьвятар асьвячаў могілкі. Парадак «ходу» сьвятара кожны раз мяняўся: то з аднаго канца, то з другога. У памінальную нядзелю ў нас заўсёды была сьпешка: я бываў на могілках у Саўт Рывэры, дзе пахаваныя мае бацькі, а пасьля прыяжджаў у Іст Брансуік, на могілкі, дзе пахаваныя Зорыны бацькі.*

**Панядзелак 16 траўня**

Шмат працы. Цэлы дзень усё нешта раблю для аддзелу — няма часам часу й на каву схадзіць, але гэта то я стараюся яшчэ для сябе захаваць.

Пазваніла Юлі, каб перадала з Шук[*елойцем*] свае рэчы, асабліва брошкі. На Карэсаравай Party адна асоба зацікавілася маёй падвесачкай і папрасіла дастаць ёй.

Званіла Simor[1], каб занесьці кнігі яму, але не дазванілася.

---

*[1] Бібліятэкар з унівэрсытэту, дзе Зора пазычала кнігі для сваіх курсаў.*

**Аўторак 17 траўня**

Занесла кнігі Simor. Вельмі яны мне былі зручныя, што я магла цэлы сэмэстр трымаць.

Шмат працы. Але цяпер хоць і ўжо пра школу ня трэба думаць.

**Серада 18 траўня**

На рабоце ўсё добра, але занятая моцна. Спраўляемся добра. Мне здаецца, што [redacted] нядрэнны адміністратар — толькі трэба сваю рутыну ўстанавіць, каб дэталяў не забывацца.

Вечарам прыйшоў Шук[*елойць*] прынёс Юліны рэчы — цэлую баначку розных. Хай у мяне будзе ў запасе — я, мусіць, ёй усё заплачу, і гэта будзе маё. Бяда цяпер у тым, што [redacted] забылася, хто была тая асоба, што хацела брошку.

**Чацьвер 19 траўня**

Я сёньня дома. Шмат розных справаў залатвіць. Паехала ў Пасэйк у Botany[1] перш. Паглядзела В[*ітаўту*] жакет, але даволі дарагі. Прыгожы й разьмер ягоны, але не адважылася адразу купляць.

Паехала ў Патэрсон — там нічога для В. няма. Але сабе тое-сёе купіла. Там цяпер больш жаночых і дзіцячых рэчаў, як мужчынскіх.

Заехала і на базар — купіла фруктаў, зеляніны. Там цяпер страх што робіцца. Таўкатня, няма дзе машыну прыпаркаваць. Але ўсё-ж шмат выгадней як у магазыне, хоць, праўда, якасьць часам ня зусім добрая.

Тады парадкавалася. Друкавала. Падрыхтавала вячэру. Дзень прайшоў хутка.

Вечарам даведалася, што памёр Мітрапаліт [*Андрэй Крыт*]. Вечная яму памяць. Можа, цяпер што зьменіцца, але сумлеўна. Мітрапаліт, здаецца, мала меў да гаварэньня — усё ў руках Гарошкаў, Кендыша, Манькоўскага.

---

*[1] Фабрыка адзежы, пры ёй магазын.*

**Пятніца 20 траўня**

Працы шмат, але гэта ўжо, мусіць, будзе мая сталая цяпер праблема — нельга гэта нават назваць праблемай — гэта ўжо проста стан рэчаў.

Вечарам, як прыйшлі дахаты, быў пакецік ад [*Еўдакіі*] Жызьнеўскай [з *Чыкага*] — 3 паясы плеценыя. Так, бяз ніякай запісачкі. Мушу ёй пазваніць, падзякаваць.

### Субота 21 траўня

Пасьнедалі. Зрабіла прычоску ды паехалі з М. В. паглядзець Віту жакет. Рашылі купіць. Дабралі яшчэ кашулю й гальштук да яго. Думаю, што В. будзе задаволены. Купіла яшчэ й порткі дапасаваныя. Гэта ўжо на Market St. Калі памерае і ўсё будзе пасаваць, дык тады ўжо падкладзецца па ім.

Прыйшлі дахаты і быў ліст з Rutgers — прынялі мяне на праграму[1]. Гэта вельмі прыемна. Цяпер ■ ўжо сапраўдная студэнтка.

Друкавала Купалу[2].

---

[1] *Літаратурнага факультэту.*
[2] *Бібліяграфію «Купала і Колас на Захадзе».*

### Нядзеля 22 траўня

Пасьнедалі, як заўсёды. Пад абед паехалі ў Нью Брансуік — там сёньня вэтэраны ладзяць прыймо Акулу — N-скія ўгодкі яго літаратурнай дзейнасьці. Папрасілі яны Вітаўта нешта сказаць. Так выйшла, што мусіў згадзіцца. Рашылі паехаць разам. Там было даволі сымпатычна, я зусім не шкадавала, што паехала. Русакі мелі сёньня хрэсьбіны Людавага хлапца — іх ня было. Наагул людзей ня было так шмат. Нас ужо чакалі. Выйшла памылка з часам. Мы там доўга не затрымліваліся. У хаце трохі адпачывалі, трохі працавалі. Вечарам прыйшоў Дутка — прынёс пазычаныя кнігі. Сядзеў, яшчэ гаварылі трохі. Я старалася друкаваць. Шмат, зразумела, было гутаркі пра царкву, пра Мітрапаліта. Дутка заўсёды на ўсё наракае, ўсё крытыкуе, сам у старане.

### Панядзелак 23 траўня

Сёньня хавалі Мітрапаліта. Мы ня былі на паховінах. Наагул людзей было вельмі мала, як мы пазьней даведаліся. Вось як крыўдна, як недарэчна! Памёр Галава беларускай царквы і толькі нейкіх асобаў 25 прыйшло на пахаваньне.

Мела сёньня зборку з Gold, прыйшоў і Jay. Добрая, талковая была зборка. Пагаварылі аб аддзеле. Я паведаміла, што ўсё йдзе добра. Якія былі праблемы ці пытаньні — вырашылі. Jay папрасіў зрабіць рэпорт[1] аб стане аддзелу. Трэба гэта зрабіць за пару дзён. Дадатковая нагрузка.

Вечарам друкавала Купалу. Вітаўт паехаў на зборку Рэспубліканскую ў Hilton [у *Сікаўкусе*].

---

[1] *Справаздачу (report).*

### Аўторак 24 траўня

Працавала над рэпортам цэлы дзень. Мела прыемную неспадзеўку, пазваніла Алеся — яна ў Нью Ёрку і застанецца дома на ноч. Памёр бацька Ані Бойчык, дык яна хацела-б паехаць на паніхіду. Ехалі дахаты разам.

Мне прыйшла думка паехаць зь ёй у Саўт Рывэр разам, каб ёй ня было сумна ехаць. Яна даволі стомленая. Алеся была вельмі ўдзячная й задаволеная. Ехалі, гаварылі. Прыемна нам было. На паніхідзе спаткалі шмат знаёмых, што ўжо даўно ня бачылі — з «другога боку». Адпявалі Бруцкі й Кендыш — яны яшчэ тут пасьля паховінаў Мітрапаліта. Пагаварылі зь імі трохі. Усе былі вельмі сымпатычныя — ніякага намёку на сварку. Можа, неяк наладзіцца. У мяне было такое адчуваньне, што мы вельмі добра зрабілі, што прыехалі — ня толькі дзеля сям'і, але й для агульнага разладаваньня адносін.

Вечарам Алеся яшчэ мне праверыла рэпорт і паехала да Надзін.

**Серада 25 траўня**

Алеся паехала — В[*imaўm*] завёз яе на самалёт. Я паехала на працу.

Перадрукавала рэпорт, зрабіла адбіткі і здала. Выйшаў даволі добры. Вечарам адпачывала. Пазваніла Жызьнеўскай, падзякавала за паясы. Цяжка было да яе дазваніцца. Рамучыха, як [redacted] брала ў яе тэлефон маці, так і казала, што да яе цяжка дазваніцца. Яна мне расказала, як гэтыя паясы плятуцца — гэта стары беларускі звычай — праз дзірачкі ў круглай кардонцы прасоўваюцца ніткі, абавязкова нячотны лік, і пераплятаюцца.

**Чацьвер 26 траўня**

Сёньня дома. Пайшла зрабіць завіўку — ужо даўно была пара. Выйшла добра — трохі можа закоратка падстрыжана, але-ж у мяне яны хутка адрастаюць.

Пазваніла ў Rutgers, каб дамовіцца з праф. Wilhelm аб раскладзе на восень. У лісьце, што прыслалі аб прыйме, было зазначана, што я маю пагаварыць зь ім і зь нейкім праф. Feldman, відаць, з Medieval Lit. Wilhelm'a ня было, і дзяўчына ня ведала, калі ён будзе. Цяпер, як школа скончылася, цяжка будзе злавіць іх.

Друкавала Купалу. В[*imaўm*] затрымаўся на працы — меў прыкрую гутарку з Labor Relation[1].

---

[1] *У Аддзеле кадраў.*

**Пятніца 27 траўня**

Зраньня пайшла на працу — хоць сёньня яшчэ афіцыйна мой вольны дзень. Мела дзьве зборкі. Перш з Doares — Selection officers, а тады з Simkin — Legislative Committee. Сёньня таксама й палучка. Дык я фактычна шмат за раніцу пасьпела зрабіць.

Дома яшчэ зьезьдзіла ў банк.

Друкавала. Так і дзень адпачынку прайшоў. Вось неяк крыўдна выходзіць. Ну, але яшчэ 3 дні наперадзе, а В[*imaўmy*] дык яшчэ крыўдней — ужо колькі гадоў ён так без адпачынку.

**Субота 28 траўня**

Сёньня ў Кліўлендзе пачаўся Царкоўны сабор. Мы ў гэтым не за-

мешаныя, дык неяк спакайней да ўсяго ставімся. Ад нас паехалі з адвакатам, каб усё было як трэба з легальнага боку.

Я зраньня парадкавалася. Мыла бялізну, трохі прыбірала. Прыйшлі з Rutgers адзнакі. Я маю «В»[1], як і можна было чакаць. Мусіць, за экзамэн ён мне таксама даў ня больш як «В». Ну, але й гэта для мяне ня дрэнна. Усё-ж [redacted] 20 гадоў як са школы, ды яшчэ ў новай для мяне галіне. [redacted] ўсё больш і больш пераконваюся, як я мала знаю ў літаратуры, якія ў мяне прабелы. Усё, што [redacted] знаю, — гэта саматужнае, не сыстэматычнае.

Пайшла на двор. Пішу дзёньнік. Прыемна. В[*ітаўт*] косіць, а [redacted] сабе адпачываю. Выйшла і М. В. зграбаць, дык ужо й мне не выпадала сядзець. Трохі й я нешта паграбла.

Вечарам друкавала. В. працуе над сваім.

---

[1] *Паводле пяцібалавай сыстэмы: найвышэйшы бал — «А».*

**Нядзеля 29 траўня**

Сабор яшчэ ўсё цягнецца. Мы яшчэ ня чулі нічога, як там.

Мы парадкаваліся ў хаце трошкі. Друкавала трошкі, адпачывала трошкі. так і нядзеля прайшла. Ну, але яшчэ заўтра вольны дзень. Так мы перапрацаваныя, launched... 

**Панядзелак 30 траўня, Вітаўта Дзень народзінаў**

Хоць В. і мае дзень народзінаў, але па сьнеданьне зьезьдзіў. Купіў нават і торцік сам.

Пасьнедалі, мелі торцік. Распакаваў падарункі. Усё падыходзячае — усё падабаецца ўсё пасуе. Я вельмі задаволеная, што ня трэба езьдзіць абменьваць. Пазваніла Алеся — прывітала тату. Цэлы дзень чакалі ад Юры тэлефону, але ён не пазваніў. В. кажа, што й не спадзяваўся, але [redacted] бачу, што яму было-б прыемна, каб быў ад Юры тэлефон ці хоць картка. Трэба будзе Юру неяк асьцярожна сказаць, што гэта вельмі бацьком прыемна мець ад іх весткі, выказваньне любові, увагі, ды проста памяці.

Каб ня тое, што чакалі ад Юры цэлы дзень тэлефону, і я старалася рацыяналізаваць і апраўданьня шукаць — «можа забыўся які дзень — ён заўсёды блытаў і ня пэўны быў, ці гэта на самы Memorial Day, ці днём раней ці пазьней» — альбо «можа ня мог да тэлефона дастацца», дык быў бы вельмі прыемны дзень.

Трохі адпачылі, трохі й папрацавалі.

**Аўторак 31 траўня**

Зноў на працу, пасьля колькіх дзён перапынку. Шмат назьбіралася папераў, каталёгаў.

Схадзілі зь Вітаўтам у Freedom House[1] заказаць мейсца для зборкі Інстытуту, на якой хочам наладзіць прыймо Zimmer'у. Пакой знайшлі

ў падвале, даволі запушчаны, але выгада ў тым, што там можна будзе зрабіць каву.

Пачалі рыхтавацца да зборкі. Трэба будзе падрыхтаваць яму невялічкі прыём і рашылі даць яму ганаровае сяброўства ў Інстытуце. Таксама трэба хутка пазваніць людзям, каб хоць трохі публікі сабраць. Да Русакоў прыехаў ужо [*Язэп*] Арцюх [*з Каліфорніі*] (ён на Рэспубліканскі Зьезд дэлегатам), дык можа й яны прыедуць зь ім на зборку.

---

[1] *Няўрадавая праваабарончая арганізацыя, у іх сядзібе БІНіМ рабіў свае зборкі.*

**Серада 1 чэрвеня**

На рабоце ўсё спакойна. Шмат працы, але я задаволеная. Пазваніла Русачыха[1] аб вечары. Папрасіла яе прынесьці дзяружкі.

У абед хадзіла купіць яшчэ сёе-тое для сяньняшняй вячэрняй сустрэчы. Пагода добрая, але ўжо як ішла назад, дык стамілася й горача было. Купіла ўсё, што трэба. Румяна купіла для мяне сыру. Яна хадзіла сяньня з Рытай у Annex[2].

Па абедзе была зборка Legislative Relat. Committee[3]. Нуда зноў. Так [redacted] ня радая, што згадзілася быць на гэтым[4]. Такое губляньне часу. І галоўнае, што гэта мяне зусім ня цікавіць.

А 5-ай пайшлі ў Freedom House прыгатаўляцца. Паставіла каву. Прыйшлі Русакі. Памаглі раскладаць усё. Пачалі зьбірацца людзі. Прыйшлі й Ціммэры з Софіяй зь бібліятэкі. Чакалі на Тумаша. Прыйшоў і ён, і пачалі вечар. Прайшло ўсё вельмі добра. Сказаў Вітаўт пару слоў, а тады гаварыў Zimmer. Ён то слабавата гаварыў, бо стараўся гаварыць па-ангельску, а яму гэта цяжка, дык выходзіла трохі скамкана, не на ўзроўні.

Далі яму ганаровы тытул сябры Інстытуту. Ён быў вельмі ўзрушаны гэтым. Пару пытаньняў яшчэ было. Былі прадстаўнікі ад польскай прэсы.

Пачастунак быў вельмі добры. Усё прайшло сымпатычна.

Ужо як разыходзіліся — прыехала Галіна з Арцюхом[5]. Яшчэ трохі зь імі пагаварылі. Яны заблудзілі — шукалі нас у Graduate Center[6]. Арцюх, мусіць, меў намер з намі ехаць дахаты, але мы неяк абышлі. А як ён даведаўся, што мы без машыны, дык і зусім усё было О.К. Дамовіліся, што заўтра ён ужо будзе начаваць у нас. Прыехалі дахаты яшчэ ня так і позна. Праўда, трохі стомленыя.

---

[1] *Нюра Русак.*

[2] *Румяна — супрацоўніца Славянскага аддзелу. Рыта Зіглер — зь Ленінграду, Зора ўзяла яе на працу. Бацькі Рыты зь Беларусі.*

[3] *У бібліятэчнай адміністрацыі былі розныя камітэты, сярод іх Юрыдычны камітэт. У яго абавязкі ўваходзіла сачыць за заканадаўствам, якое тычылася бібліятэкаў. Сябрам гэтага камітэту трэба было часта сустракацца з кангрэсмэнамі. Мы часта сустракаліся з кангрэсмэнам Кочам — пазьнейшым мэрам Нью Ёрку.*

[4] *Працаваць у гэтым камітэце.*
[5] *Галіна Русак і Язэп Арцюх.*
[6] *Унівэрсытэцкі будынак на 42-ой вуліцы, а мы былі на 40-ой вуліцы, у іншым будынку.*

**Чацьвер 2 чэрвеня**

Сёньня быў мой першы «Staff meeting». Прайшло ўсё вельмі добра, чынна, дзелавіта. Шмат зрабілі і хутка справіліся. Абгаварылі выстаўку Бібліі. Пастанавілі адчыніць 20-га чэрвеня.

Дастала я ад Вільямса таксама карткі з нашага кірылічнага каталёгінгу[1]. Трохі я была заскочаная, што ў наступным друкаваным каталёгу гэтыя ўсе пазыцыі будуць ня ў кірылічным шрыфце. Гэта для нас вялікае расчараваньне. Нашто была ўся гэта адсрочка? Пасьля зборкі ўсе пачалі інтэнсыўна працаваць над выстаўкай Бібліі. Пад вечар мелі невялічкую party — Рыта зладзіла з поваду свайго павышэньня. Было О.К., але ня так прыемна, як бывае заўсёды. В[*ітаўт*] паехаў дахаты раней, але затрымаўся на працы, то выехаў ужо пазнавата. І ён тады адразу паехаў на рэспубліканскую зборку. Я дастала для яго дазвол на стаянку на заўтра. Прыехаў незадоўга з Мельяновічамі й Арцюхом. Рашылі ехаць на вячэру ў рэстаран. У рэстаране было неяк ня так сымпатычна, як бы хацелася. Гаварылі яны голасна, адны перад другім. Асабліва гаваркі Мельяновіч. Усё свае рэспубліканскія праблемы й стратэгіі.

Прыехаўшы дахаты яшчэ доўга сядзелі, гаварылі. Мужчыны ў сталовай, я з Долорэс[2] у T.V. room. Яна вельмі мілая. Было даволі прыемна, але я ўжо стамілася была.

---

[1] *Шэф аддзелу каталягаваньня даслаў узоры каталёгавых картак, зробленым на кампутары кірыліцай.*
[2] *Жонка Васіля Мельяновіча.*

**Пятніца 3 чэрвеня**

Раніцай прыгатавала ім сьнеданьне, а сама паехала на працу. Яны ўсе едуць на Канвэнцыю[1]. Там мае таксама прыехаць і Рая з Шук[*елоцем*] з выстаўкай.

Купіла па дарозе чайнік для нас у аддзел. Мы цяпер сабе маем каву.

В[*ітаўт*] прыехаў па абедзе, бо была зборка RLIN[2], на якую мяне таксама паклікаў Jay. Зборка была цікавая. Выглядае, што мы хутка ўжо будзем мець кампютар.

Прыехалі дахаты на машыне. Ён толькі спусьціў мяне і адразу-ж на канвэнцыю. Я пачала рыхтаваць вячэру.

В. пазваніў, ці выпадае запрасіць Раю й Шук. Я тады ўжо пачала рыхтаваць на болей. Прыехалі яны трохі пазьней, чым спадзяваліся, дык яда ўжо была даўно гатовая. Павячэралі. Гаварылі. Зноў шмат гаворкі, голасна з перабіваньнем адно аднаго, з манаполіяй (асабліва

Васілём і Вітаўтам) канвэрсацыі. Але было даволі добра. Шук. і Рая хутка паехалі. Долорэс пайшла адпачываць. Я яшчэ прыбрала пасуду ды таксама пайшла адпачываць. А яны сядзелі й гаварылі даволі позна. Усе такой апініі, што добра было-б выбраць М. Сатыраса[3] на старшыню. Абгаворвалі стратэгію гутаркі з шэфам Голасу Амэрыкі.

---

[1] *Канвэнцыя Нацыянальных клюбаў Рэспубліканскай партыі ў Сырак'юз, штат Нью Ёрк.*

[2] *Кампутарная сыстэма для навуковых бібліятэк, у кампутары закаталягізаваныя ўсе кнігі ўсіх унівэрсытэтаў пасьля 1972 году.*

[3] *Майкл Сатырас — паходжаньнем грэк, балятаваўся на старшыню Нацыянальных Рэспубліканскіх клюбаў. Супраць яго ішоў нехта з Дэтройту. Беларусы падтрымлівалі Сатыраса.*

### Субота 4 чэрвеня

Я сёньня працую, дык устала рана, каб зрабіць прычоску. Ня пэўная была, ці яны затрымаюцца на сьнеданьне. Але засталіся. В[*ітаўт*] купіў сьнеданьне, і яны яшчэ ўсе мелі час пасядзець разам. Разьвіталіся й кожны паехаў сваёй дарогай. В. падвёз мяне на працу, а тады на Канвэнцыю. Пазьней мусіў прыехаць назад у Нью Ёрк, бо мелі пайсьці на дэманстрацыю, якую ладзілі ўкраінцы — у памяць голаду на Украіне. Выйшла з нашай там прысутнасьці «пшык», бо гаварыць не далі, а пазьней як быў ход пад савецкія місіі, дык нашыя не пайшлі, бо ня мелі сьцягу (Гутырчык меў прывезьці з New Br. і ня прыехаў).

В. чакаў ужо мяне. Па дарозе яшчэ заехалі на Канвэнцыю — В. мусіў забраць рэчы з выстаўкі. Так выйшла, што прыйшлося трохі мне пачакаць. Я ўжо пачала злавацца, але дастала дзёньнік (добра мела з сабой) і пачала пісаць. Дык і не заўважыла, як прайшоў час. Яны там дагаворваліся з Голасам Амэрыкі[1]. Сатырас выйграў.

Прыйшоўшы дахаты, неяк было ўжо трохі напружана — стомленыя. Трохі перагаварылі. Стварыўся нейкі прыкры настрой. Вечарам зазваніў Юрачка. Я так была радая. Але нешта й тут пайшло ня ў лад. Зноў напружаньне. Ператаліліся мы. Ня можна так ужо нам над сабой зьдзекавацца. Неяк трохі больш шанаваць сябе і адно другога трэба.

---

[1] *Дамовіліся на паездку ў дырэкцыю «Голасу Амэрыкі», Сатырас меў там кантакты.*

### Нядзеля 5 чэрвеня

Пасьнедалі. Я памыла бялізну. Пагода сяньня даволі прыемная. Па абедзе выйшла на двор. Сяджу, пішу дзёньнік. В[*ітаўт*] паехаў да Тумаша. Прыехаў В., прывёз шмат добрых рэчаў ад яго. Між іншага й 3 кніжкі гравюраў Скарыны.

Перакусілі. Я трохі друкавала. Адпачывалі, але аднаго дня мала для адпачынку.

**Панядзелак 6 чэрвеня**

Шмат працы. Прыходжу рана. Выходжу а 5-ай — дык дзень даўгі, але й гэтага не хапае, каб усё залагодзіць. А што будзе, як пачнем каталягаваць. Працуюць усе над выстаўкай Бібліі.

Вечарам друкавала яшчэ трохі Купалу.

**Аўторак 7 чэрвеня**

На працы, як заўсёды цяпер — занята. Няма часу ні на перапынкі, ні на абеды. Добра, што кава хоць ёсьць у пакоі.

Трохі друкавала. Трохі пераглядзела ўступ [*да бібліяграфіі Купалы і Коласа*].

**Серада 8 чэрвеня**

На рабоце занята. Хай бы ўжо яны хутчэй вырашылі, што будзе з шэфам[1]. Я сама ўжо й ня ведаю, ці хачу ■ гэтага. Не, усё-ж, мусіць, хачу. Тут і прэстыж, і трохі больш грошай і, як ня смешна, большы стол і свой тэлефон. А працы ўсё роўна будзе шмат.

Вечарам кончыла друкаваць Купалу — гэта вялікае ўжо дасягненьне.

Пачаў балець мне жывот. Цэлую ноч дрэнна сябе адчувала, але заўтра дома — дык трохі адпачну.

---

*[1] Пасада шэфа аддзелу заставалася вакантная. Зора выконвала абавязкі шэфа. Пошукі кандыдатаў на пасаду ішлі па ўсёй краіне.*

**Чацьвер 9 чэрвеня**

Ну й адпачыла!

Зраньня пазваніла ў Rutgers. Prof. Wilhelm'а няма. Будзе толькі пасьля 20-га. Зьезьдзіла з М. В. у магазын, у банк. Прывезла яе дахаты, памыла бялізну — усё яшчэ пасьцелі зьверху не магу скончыць.

Тады паехала ў Патэрсон. Купіла сабе пару спадніцаў, блюзачку. Заехала на базар па фрукты. Накупляла ўсяго. Нацягалася. Там цяпер такая таўкатня, так цяжка знайсьці паркінг. Прыехала дахаты — пакуль распакавалася, дык ужо й час вячэру рабіць. Пакуль варылася вячэра, я рабіла ўступ для бібліяграфіі[1]. Вось так і вольны дзень прайшоў. А тут яшчэ В[*ітаўт*] пачаў капрысіць, што суп не такі, які ён любіць. Ён рэдка зь ядой капрысіць, але якраз-жа трэба сёньня. Ну, але павячэралі й адпачывала ўжо тады. Друкаваць ужо сёньня не магу.

---

*[1] «Купала і Колас на Захадзе».*

**Пятніца 10 чэрвеня**

Сяньня палучка. Схадзілі ў банк, а тады на каву. На жаль, не магла пацешыцца з пончыкаў, бо ад панядзелка селі зноў на дыету. У мяне ідзе даволі добра.

У абед мелі спаткацца з Запруднікам і Томам. Запруднік прыйшоў у час, і мы пайшлі на абед і чакалі Тома. Гаварылі пра Голас Амэры-

кі, пра Украінскую дэманстрацыю й Шук[*елойцеву*] рэакцыю, на тое, што ня прыйшлі са сьцягамі — нібы-то гэта на яго загавор. Гаварылі пра Запруднікаву працу — анталёгію вершаў пра мову. Шмат яшчэ аб чым гаварылася, пакуль чакалі Тома. Так і не дачакаліся — разышліся. Як толькі паднялася на верх — звоніць В[*ітаўт*], што Том прыйшоў. Пагаварылі пра бібліяграфію — ён паглядзіць для нас выдаўца. В. перадаў яму інфармацыю пра кнігу аб Праваслаўных цэрквах[1]. Том мае пісаць артыкул пра Бел. царкву. Гэта [redacted] для яго й для нас вельмі добра. «Запісы» таксама ўжо ў канчальнай стадыі. Добра.

Наташа напісала вельмі добры ўступ для нашай выстаўкі пра Біблію. З раніцы мы закрылі выстаўку паперай, бо ўчора Ліза параскладала ўсе кнігі без подпісаў, бяз выveскі яшчэ.

Я перагледзела анатацыі, якія зрабіла Жана[2]. Шмат прыйшлося правіць. Яшчэ я не задаволеная з апісаньня Бібліі Мсьціслаўца.

Здала матар'ял для Press Release.

Пачаў балець мне жывот яшчэ хутка па абедзе, але трохі супакоіўся быў. Вечарам зноў пачаў балець. Цэлы вечар нічога не рабіла. Выбілася неяк са сну. Гаварылі. Прыпаміналі ўсіх са Славянскага Аддзелу.

---

[1] *Даведнік, які выйшаў у Нямеччыне ў выдавецтве «Посев».*
[2] *Супрацоўніца Славянскага аддзелу.*

**Субота 11 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. В[*ітаўт*] купіў трохі на сьнеданьне. Пасьнедалі, хоць і ня так як заўсёды, але ўсё-ж пасьнедалі разам. Я даволі добра трымаюся дыеты. Галоўнае Weekend перацярпець — паўстрымацца. Паехалі ў Пасэйк папраўіць В. штаны, што [redacted] купіла на яго дзень нараджэньня. Купілі яшчэ дзьве пары бацінкаў.

Памыла бялізну. Трохі спарадкавалася і пайшла на двор. Пішу дзёньнік. В. пакасіў траву. Паехаў у Пасэйк забраць штаны. Купіў піва. Стаў маляваць стол [*які стаіць пад дрэвам*]. А я пішу.

Добрая пагода, прыемна. Выйшла М. В., зграбае траву.

Павячэралі. В. лёг адпачыць, а я стала перадрукоўваць уступ да бібліяграфіі. Мусіла перапыніць, бо паўстала пытаньне якое хацела абгаварыць зь В. — парадак, у якім падаваць [*матэрыял*]. Згадзіліся на маёй вэрсіі, але мне ўжо друкаваць не хацелася. Адпачывала. В. стаў разглядаць свой артыкул для «Запісаў», што Том перадаў, і знайшоў там выпушчаныя бачынкі — мусіць, загубіліся ў Тома. Цяпер зноў праблема — устанавіць, ісьці да друкара, вазіцца. Каб хутчэй ужо гэтыя «Запісы» выйшлі. Столькі зь імі клопатаў, так зацягнулася. Том добра рэдагуе, але шмат зь ім іншых праблемаў — ніколі не злавіць яго.

**Нядзеля 12 чэрвеня**

Пасьнедалі. Вітаўт хутка паехаў да Тумаша.

Я парадкавалася дома. Памыла яшчэ бялізну. Шмат назьбіралася пасьля таго, як людзі былі ў хаце.

Выканчвала ўступ да бібліяграфіі. Пасьля выйшла на двор і пішу дзёньнік. На дворы прыемна.

Прыехаў В., павячэралі. Адпачывалі. Трохі друкавала. Пачала Коласа[1].

---

[1] *Прысьвечаную Колсаў частку бібліяграфіі «Купала і Колас на Захадзе».*

**Панядзелак 13 чэрвеня**

Алеся сёньня прыехала ў Morristown. Працуе для сваёй кампаніі. Будзе тут некалькі дзён. Юрачка недзе ў Mexico City.

На рабоце ўсё добра, але шмат працы — вельмі занятая, асабліва цяпер, як людзі пачынаюць браць вакацыі. Юры няма. Таня таксама на вакацыях.

**Аўторак 14 чэрвеня**

[*Вітаўт*] з Томам працавалі над «Запісамі». Усё яшчэ ня выпусьцілі. Ну, але цяпер ужо, здаецца, Том сам хоча хутчэй скончыць. Можа ўжо хутчэй пойдзе.

Вечарам пазваніла Алеся. Яна цэлы дзень працавала, вечарам недзе таксама разам ідуць. Пагаварылі трохі. Пазвоніць яшчэ. Юра сёньня мае экзамэн.

Трохі друкавала, каб не закідаць.

**Серада 15 чэрвеня**

В[*італт*] з Томам хадзілі ў друкарню. Паправілі тое, што было набрана, далі ім яшчэ матар'ял да перадруку пасьля карэкты. Мы толькі прыйшлі ў хату — аж званок ад Алесі, каб спаткацца ў Willow brook[1]. Я, праўда, ўжо была й разьдзелася, але яшчэ не пасьпелі паесьці. Алеся таксама ня вячэрала. Горача сёньня. Я хуценька адзелася і ў машыну. Прыехала туды я першая. Яшчэ даволі доўга чакала яе. Тады павячэралі і яшчэ трохі пахадзілі па магазынах. Ужо, праўда, хутка пачалі закрывацца. Мы разышліся па сваіх машынах (яна мае пазычаную) і паехалі сваімі дарогамі. Я з сваёй дарогі зблудзіла. Трохі пакруцілася. Ехалася напружана — цёмна, сьвётлы мігацяць. Ну, але-ж прыехала. Вельмі была радая, што з Алесяй вечар правялі.

---

[1] *Гандлёвы цэнтар.*

**Чацьвер 16 чэрвеня**

Сёньня чацьвер, дык можна трохі з думкамі сабрацца, зрабіць больш і спакайней. Я чацьвяргі люблю.

Вечарам пазваніла Алесі, што яна робіць. Яна стомленая — нічога не зьбіралася рабіць — хоча адпачыць. Ну дык і я ўжо сваім буду займацца. Трохі друкавала. В[*італт*] усё з «Запісамі» парадкуецца.

**Пятніца 17 чэрвеня**

На працы ўсё па-старому — шмат працы.

Вечарам прыехала Алеся дахаты — была ўжо дома, як мы прыйшлі. Паехала да Надзін. Мы вячэралі самі. Пазваніў Юрачка. Так я была радая. Экзамэн быў вельмі цяжкі. Ён ня мае вялікіх надзеяў, што здаў. Яны цяпер у Acapulco на пару дзён аддыхнуць. Пасьля ён яшчэ мае спарадкаваць свае справы ў Tampico і плянуе прыехаць дахаты 29-га. Зьмяніў білеты, што мы яму паслалі на іншыя, значна таннейшыя. Але прыляціць на Kennedy[1] — гэта для нас ня так выгодна. Чаму не пазваніў на В[*італўтаў*] дзень народзінаў? — ня выпадала, а карткі прыгожай не знайшоў. Вось і ўсё!

[1] *Ньюёркскае лётнішча JFK.*

**Субота 18 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Я трохі парадкавалася, а Алеся паехала з Надзін. Праўда, хутка прыехала, і мы зь ёй паехалі па пакупкі. Накуплялі і мне і ёй. Алеся мае й добры густ і добрае шанцаваньне знайсьці і прыгожую рэч і добра пасуючую. Адно зь ёй бяда — ня можа сабе адмовіць. Купляе зашмат рэчаў. Праўда, ўсё яе дабротнае, усё доўга захоўваецца — але трохі пераборшчвае.

Назад едучы, заехалі купілі кітайскай яды. Павячэралі. І Алеся хутка паехала ў South River. Там моладзь наша ладзіць Купальле. Алеся адзела сукенку, якую якраз сёньня ўдала купіла.

Прыехала ня так ужо й позна. Кажа, што было добра. Шмат было дарослых. Усе пыталіся, чаму нас ня было. Вітаўт-бы ўжо й ехаць быў гатовы, але [redacted] запярэчыла. Няма нам чаго час на гэта ўсё губляць. І грошы. Лепш купіць кніжку, ці рэч якую беларускую. У нас столькі гэтых выдаткаў.

**Нядзеля 19 чэрвеня**

Пасьнедалі і В[*італўт*] паехаў да Тумаша. Алеся яму прыгатавала падарунак — сёньня Father's day — кашулю й гальштук. Вітаўт быў вельмі рады. Як ён прыехаў, мы з Алесяй зноў паехалі ў магазын. Я купіла сабе сумку белую і бэжавую ад Алесі. Выйшаў трохі канфуз з грашыма. Я й цяпер ня пэўная, ці не заплаціла я за сумку была ўжо Алесі. Але я думаю, што ў яе памяць на гэтыя рэчы добрая і ёй можна верыць больш як сабе нават.

Вечарам А. да Надзін, зразумела, паехала, а мы адпачывалі.

**Панядзелак 20 чэрвеня**

Алеся паехала назад у Morristown.

Сёньня выставілі Біблію[1]. Выйшла ня дрэнна выстаўка. Яшчэ сякіятакія недацяжкі: няма карты, ня было яшчэ Press release, але агулам добрая выстаўка.

Jay прыйшоў з просьбай зрабіць хутчэй сьпісак славянскіх газэтаў,

якія друкуюцца ў Зл. Штатах. Сам па сабе праэкт не цяжкі; але факт, што трэба рабіць хутка — ускладняе справу. Я толькі скончыла кагадзе вазіцца з ньюёрکскімі газэтамі для выстаўкі для McTigh[2]. Вітаўт, між іншым, глядзеў выстаўку — кажа «Беларус» там добра рэпрэзэнтуецца. Як раз адкрыты там дзе мой здымак, каля выстаўкі Купалы-Коласа. Усё-ж, як кажуць, свая рука — ўладыка. Як шмат можна свайго прасунуць, калі чалавек нейкую пасаду займае.

Цяпер будзе занятку з газэтамі і на пару дзён.

Вечарам званіла Алеся, яна ўжо хутка кончыць у Morristown.

---

[1] *Адчынілі выстаўку, прысьвечаную Бібліі.*

[2] *Была выстаўка ў аддзеле «Амэрыканская гісторыя і гэнэалёгія». Сярод ньюёркскіх газэтаў была на выстаўцы і газэта «Беларус» — была добрая рэклама:*

**ВЫСТАЎКА ЭТНІЧНАГА ДРУКУ**

Ад другой паловы ліпеня да першага верасьня сёлета ў Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, што на скрыжаваньні Пятага авэню й 42-й вуліцы, адбывалася выстаўка этнічнага друку гораду. Арганізавала выстаўку Публічная Бібліятэка на прапанову Гарадзкое Ўправы ды мэра гор. Эдварда Коча. Выстаўленыя былі сёньняшнія газэты гораду ды буйнейшыя часапісы апошніх дзесяцігодзьдзяў: больш за 150 экспанатаў у блізка сту мовах.

У тлумачальных анатацыях было зазначана, што выстаўленыя друкі абслугоўваюць колькі мільёнаў жыхароў Нью Ёрку й сумежных штатаў ды што выданьні гэтыя — важныя крыніцы інфармацыі для неангламоўнага чытача, якія адначасна становяць частку амэрыканскае культуры й сувязяў Амэрыкі зь дзесяткамі іншых краінаў.

На выстаўцы былі паказаныя й беларускія друкі: газэта «Беларус» (два нумары і сёлетні каляндар) ды літаратурна-мастацкі часапіс «Конадні», які выдаваўся Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва.

Выстаўка этнічнага друку ў Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, што адбывалася якраз у сярэдзіне турыстычнага сэзону, карысталася вельмі вялікай папулярнасьцяй, была шырака рэклямаваная. Выстаўку наведвала ад 2-х да 4-х тысячаў гледачоў штадня.

*«Беларус», № 312, жнівень-верасень 1983*

**Аўторак 21 чэрвеня**

Пазваніла ў школу — прафэсара няма і ня ведаюць, калі будзе. Нешта мне зь ім не вязе.

Пазваніла ў Insurance[1], каб перарабілі там што трэба. Яны мне выставяць новы чэк, а рэшту ад старога вернуць. Усё клопаты. А людзі на фарме з платай не сьпяшаюцца. Кожны месяц позняцца на цэлы месяц.

Мела з Doares ня надта прыемную гутарку. Па-першае, яна мне прыпомніла, што трэба пераглядаць кнігі — ужо набралася шмат. Я й сама гэта ведала, але проста ня было часу за ўсё брацца. Пасьля яна зрабіла заўвагу, што мы ня добра робім, заказваючы кнігі, — ня з тых фондаў заказваем[2]. Адным словам, чаплялася й хацела паказаць сваю ўладу й важнасьць. Я зь ёй была далікатная, але мне яе тон не падабаўся. Трохі гэта не на часе, такі яе выпад, — якраз перад ALA[3] meeting, дзе яны могуць прыглядацца да кандыдатаў на

начальніка. Ну, але як будзе, так будзе. Толькі настрой у мяне сапсуўся.

---

*[1] У страхавую кампанію.*

*[2] Бібліятэчная бюракратыя вымагала дакладна абазначаць фонды, зь якіх бяруцца грошы на кнігі. Была вялікая цяганіна: заўсёды можна было прычапіцца — не з таго фонду ўзялі грошы на аплату заказу. А фондаў у бібліятэцы каля 500!*

*[3] American Libraries Association — Асацыяцыя амэрыканскіх бібліятэкаў, прафэсійная арганізацыя бібліятэкараў, нейкі час мы з Зорай былі яе сябрамі. Штогод адбываліся канфэрэнцыі ў розных гарадох.*

**Серада 22 чэрвеня**

Працавала над газэтамі — шмат працы, бо хочацца добра зрабіць. Трэба шмат правяраць, бо заўважыла, што дзяўчаты, якім паручыла рабіць, трохі неахайна робяць. Паслала Рыту ў Annex[1] праверыць некаторыя рэчы.

Прыходзіў Шук[*елойць*] да Вітаўта — хадзілі глядзець выстаўку газэтаў наверх — я дык усё яшчэ ня маю часу падысьці. Я й Шук. ня бачыла. Цяпер зусім неяк ад усяго адарвалася — толькі аддзел у галаве.

---

*[1] Кнігасховішча ў іншым будынку.*

**Чацьвер 23 чэрвеня**

Сёньня [redacted] дома — адно гэта яшчэ трохі трымае мяне, што час ад часу чацьвер возьмеш вольны, дык трохі адарвешся ад штадзённай працы.

Паслала стары Insurance[1] назад. Раніцай зрабіла пакупкі ў Shop Rite, тады ў банк з М. В. Заехала да Collins[2] заплаціла грошы. Ён добра наладзіў ахалоджаньне — цяпер у машыне ехаць адна прыемнасьць.

Спусьціла М. В. і сама паехала ў Passaic. Купіла туфлі для Адамовіча[3], калбасы для Юры. Зьезьдзіла ў Патэрсон купіла фруктаў. Прыехала дахаты — трохі пакруцілася і... у Нью Br[*unswick*]. Сяньня трэба разабраць выстаўку. Спаткалася перш з Галінай, схадзілі зь ёй на абед, пагаварылі. Тады а 4-ай пачалі разьбіраць выстаўку. Справіліся добра, бяз сьпеху, бяз суеты — вельмі спраўна. Я свае ўсе рэчы забрала, акрамя ручнікоў, — Галіна хоча яшчэ зрабіць здымкі зь іх. Заехалі яшчэ да іх — нейкія там формы падпісаць. Зайшла да Надзі, каб проста адазвацца — а ў яе якраз Валя Рагалевіч. Замовіла пакой на Belair для нас з бабкай на вакацыі на пару дзён у ліпені. Вельмі ўсё спарылася.

Прыехала дахаты — В[*ітаўт*] ужо дома. Павячэралі. В. быў вельмі незадаволены, што я пакінула ў Галіны ручнікі, асабліва Няглюбкаўскі. А В. як пачне ўжо нешта, дык будзе нудзіць колькі дзён. Вось ён наконт гэтага праціўны.

Званілі вечарам Алесі — у яе ўсё добра. Шмат працуе. Дамовіліся на заўтра з В.

Памёр Разіель[4] — раптоўна, быў захварэў пару месяцаў таму. Ніхто дакладна ня ведае, што ў яго й было. Ёсьць нават падазраньне, што Aids.

---

[1] *Страхоўку.*

[2] *Гараж-аўтамайстэрня.*

[3] *Адамовіч шукаў сандалі, якія ўбачыў у мяне, — захацеў такія самыя.*

[4] *Джэй Разіель, супрацоўнік у Навуковым аддзеле, заразіўся AIDS пры пераліваньні крыві.*

**Пятніца 24 чэрвеня**

В[*ітаўт*] паехаў у Вашынгтон на зборку з адвакатамі, што цікавяцца гэтай справай «ваенных злачынцаў». Казаў, што была талковая зборка[1].

Я цэлы дзень усё займалася то з газэтамі, то на Inspection shelf. Шмат клопатаў, беганіны.

В. прыехаў ня позна. Расказваў пра паездку. Спаткаўся з Алесяй на каву. Пасьля зборкі яшчэ меў час схадзіць і ў Кангрэсавую Бібліятэку і ў Смітсоніян Музей. У Музэі нічога асаблівага на Ньюджэрзыйскім Павіліёне няма. Так што мы не папалі — не вялікая згуба.

---

[1] *Група амэрыканскіх адвакатаў, якая выступала за «адкрыты легальны працэс», а не напаўсакрэтнае расьсьледаваньне Аддзелу спэцыяльных расьсьледаваньняў. Я ўдакладніў сытуацыю зь беларусамі, якія трапілі ў поле зроку расьсьледаваньня — іх было 11-15 асобаў.*

**Субота 25 чэрвеня**

Сёньня працую. Зраньня зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Заехалі па Баларыну — яна мела parking[1].

Працавалася ня дрэнна, шмат чаго зрабіла.

Пасьля працы заехалі з Бал[*арыні*] на вячэру на сваё заўсёднае мейсца. Ня было, праўда, вельмі сымпатычна. Неяк зь ёй цяпер нудна бывае. Завезьлі яе дахаты, ды ўжо тады адпачывалі сабе самі.

---

[1] *Дазвол на паркаваньне ў бібліятэчным дворыку.*

**Нядзеля 26 чэрвеня, Папаў дзень народзінаў**

Зраньня паехалі на паховіны Разіеля. Даволі доўга шукалі мейсца, але прыехалі ў час. Паховіны былі вельмі сьціплыя, як заўсёды ў жыдоў, але вельмі «dignified». Удава трымаецца добра, дзеці таксама. Зь бібліятэкі мы былі толькі адны[1].

Прыехалі дахаты — я яшчэ памыла бялізну! А тады на зборку БАЗА. Горача. Зборка, праўда, прайшла талкова. Гаварылі пра надыходзячы кангрэс БАЗА, вырашылі рабіць у New Br[*unswick*]. Вітаўт расказаў пра сваю паездку ў Вашынгтон. Раіў, што нам з гэтай групай адвакатаў варта трымацца. Адным словам, усё ішло талкова, спраўна, лагодна.

Прыехаўшы дахаты, яшчэ нават трохі друкавала. Зусім забылася, што сёньня папаў дзень народзінаў.

---

[1] *Джэй Разіель меў мала сяброў у бібліятэцы. Я браў яго на працу бібліятэкара. Ён быў грамадзянін Ізраілю, бацькі паходзілі зь Беларусі, перажылі Галакост. У 1979 годзе на 3-м Беларускім фэстывалі Разіель выступаў з групай яўрэйскіх скрыпачоў — яны гралі папуры і клясыку зь беларускіх кампазытараў.*

**Панядзелак 27 чэрвеня**

Раблю ўсё газэты. Jay, выязджаючы на ALA, перадаў мне справу мець з Nadine Gardner. Яна мілая, маладая асоба, але шмат у бібліятэцы яшчэ не арыентуецца. Але зь ёй трэба быць у згодзе, бо яна, здаецца, мае ўплыў.

Надта горача. Хадзілі ў абед да Адамовіча прывітаць яго з народзінамі і перадаць падарунак — туфлі ад нас чатырох: Запруд[*нік*], Шук[*елойць*] і мы. Быў там і Шук. Адамовіч быў задаволены. Туфлі пасуюць «какурат»[1].

Франц[2] атрымаў ужо 2-і том Гістарычнага слоўніка, а я неяк празявала. Па абедзе мела зборку з Gold'ам. Абгаварылі мае вакацыі, як рабіць з чэкамі, з Time sheets. Я рашыла, што лепш я прыйду на адзін дзень падчас канікулаў і залагожу сама. Ліза застанецца заступаць, але Time sheets не адважваецца рабіць[3].

В[*ітаўт*] мае зноў з Томам спатканьне — працуюць над Запісамі.

Ужо на пальцах лічу дні, калі прыедзе Юра. Перагледзеўшы запісанае, калі мае прыехаць Юра, убачыла, што ня ведаем, якой кампаніяй ляціць. Трэба неяк званіць на інфармацыю й даведацца. Ня ведаю, нават з чаго пачынаць.

Вечарам пазваніў да Юры яго сябра з Мэксыкі, які ўжо даўно дома. Добра, што мне прыйшло ў галаву ў яго спытацца, ці ня ведае ён часам, якім самалётам Юра прыляціць. Ён якраз ведаў і мне дакладна сказаў. Цяпер у мяне ўжо гэта адлягло.

---

[1] *Адамовічаў жартоўны выраз.*
[2] *Мянушка Яна Запрудніка.*
[3] *Адміністрацыйныя справы — Зора выконвала абавязкі шэфа аддзелу.*

**Аўторак 28 чэрвеня**

Зрана дома — працую сёньня вечарам. Зьезьдзіла ў Paterson купіла фруктаў, ужо каб Юру было. У магазын заехала, накупляла ўсяго, што Юра любіць. Адным словам, ужо прыгатаваліся да прыезду сына. Выставіла з фрызэра пасху, якую яшчэ ад Вялікадня трымаю для Юры.

Заехала ў банк заплаціла падаткі. Шмат за раніцу справілася.

В[*ітаўт*] сёньня паехаў з Адамам [*Акулічам*] да Адамовіча перавезьці ягоныя кнігі ў Крэчэўскага[1]. Добра яны справіліся, але стаміліся.

Я выканчыла ўжо «газэты» — перадрукавала, зрабіла адбіткі й адаслала, куды трэба. Гэты праэкт быў даволі марудны й карпатлівы.

Напісала ліст Камкіну, каб прыслалі мне абодва тамы Слоўніка. Выпісала яшчэ трохі беларускіх кніжак.

[1] *Адамовіч ліквідаваў кватэру, у якой жыў з бацькамі, і пераяжджаў на 97-ую вуліцу да азэрбайджанца Джабара – таксама пэнсіянэра, які меў вялікую кватэру.*

**Серада 29 чэрвеня**

На работу паехалі на машыне. Так ужо цэлы дзень і была пад уражаньнем, што спатыкаем Юру. Паехалі на аэрадром каля 3-яй. Трафік быў страшэнны. Добра, што выехалі зараньне. Праўда, прыехалі яшчэ ў час, дый самалёт быў спазьніўся. Прыйшоў нарэшце й самалёт – чакаем Юру, а Юры няма. Бегаем па аэрадроме, пытаемся, чакаем, званім дахаты – а Юры няма. Пачынаем ужо сумнявацца, ці я добра зразумела яго, ці добра мне гэты хлопец сказаў. Усё перадумалася, перагаварылася. Хвалюемся кожны, але стараемся яшчэ неяк разважыць, трымацца. Едзем нарэшце дахаты – што-ж ужо больш там на аэрадроме рабіць.

Дома пачка ад Камкіна, але я нават не распакоўвала, схавала, каб і вочы не мазоліла – не да кнігаў цяпер.

Пазваніў да Юры зноў нейкі сябра – ужо другі. Я ў роспачы ўжо стараюся даведацца ад яго, што ён ведае, можа, што можа сказаць. Ён, праўда, вельмі сымпатычны, сказаў, што выехаў раней і нічога ня ведае, але Рамэш[1] можа знаць больш. Даў мне яго адрас і сказаў, што, калі трэба будзе, дык пазваніць у Тампіка, каб даведаліся пра Юру.

Я пазваніла Рамэшу – ён сказаў, што Юра не дастаў білеты на 29 і плянаваў прыехаць у чацьвер, значыць заўтра. Мы трохі супакоіліся. Але ўсё-ж неяк крыўдна – чаму не пазваніў, чаму не сказаў, што нешта ня выйшла. Нашто-ж нам так хваляваацца.

[1] *Юраў сябра.*

**Чацьвер 30 чэрвеня**

Цэлы дзень прыбітыя. Няведама што рабіць. Ці ехаць на аэрадром, ці чакаць ад Юры тэлефону? Увесь дзень так і прайшоў у няпэўнасьці, ў няведаньні. Прыехалі дахаты (у дарозе яшчэ наш аўтобус сапсуўся) і ўсё-ж рашылі ехаць на аэрадром. А што калі ён прыедзе, будзе разгублены, будзе нас яшчэ чакаць доўга, пакуль пачне званіць. А нам дома сядзець – усё роўна нэрвы.

Паехалі. Трафік ізноў дрэнны. Прыехалі туды ўжо даўно па самалёце. Ходзім зноў пытаемся, шукаем, званім дахаты бабцы. Юры – няма. У такой роспачы ўжо ехалі дахаты. Думалася ўсё самае горшае. Можа, ён там недзе ў турме, можа, што зусім дрэннае сталася. Чаму яго няма? Чаму ня звоніць? Ягоныя сябры звоняць усе яму, а мы дык і сказаць ня маем чаго.

Пазваніла я Дэвіду (той хлопец, што абяцаў пазваніць у Tampico) — яго няма дома. Пакінула яму вестку, каб пазваніў. Так і не пазваніў. Мусіць, позна прыехаў дахаты. В[*ітаўт*] зусім расклеіўся. Так мне крыўдна, што ў такія цяжкія мінуты я яшчэ мушу й яго супакойваць і стрымліваць. Чаму гэта [redacted] не магу сабе такой роскашы дазволіць, як упасьці ў гістэрыку, разьвінціцца і каб каля мяне хадзілі. Неяк усё гэта несправядліва ў жыцьці складаецца. Але неяк-жа ноч перанесьлі.

**Пятніца 1 ліпеня**

Сёньня мой дзень народзінаў, але як В[*ітаўт*] рана сказаў — нават ня можна сказаць «Happy Birthday». Нічога не ў галаве, акрамя Юры. В. кажа, што калі ўжо Юра сёньня, на мой дзень народзінаў, не акажацца, дык ужо сапраўды нешта зь ім нядобрае.

Званіла Алеся, прывітала мяне, але я зусім расплакалася. Алеся рэзонна стараецца давесьці, што ўсё ў яго добра, што проста ня меў магчымасьці дастаць самалёт раней і ня мае адкуль пазваніць. Адным словам, старалася супакоіць.

На рабоце зусім хадзіла разьбітая. Мае супрацоўнікі таксама з намі перажываюць. Я пазваніла ўжо была Cohen[1], каб, можа, праз яго як што даведацца.

В. з Томам працуюць над «Запісамі» ў друкарні. Яму хоць трохі ўвага адцягаецца.

Нарэшце, так неспадзявана званок ад Юры. Божа, як я ўсьцешылася!

Усё ў яго добра. Ён цяпер ужо ў Амэрыцы. Мае цяжкасьць дастаць самалёт з Houston на New York. Будзе нешта камбінаваць. Але ўсё ў яго добра. Проста не справіўся раней прыехаць і ня меў магчымасьці пазваніць — як і казала Алеся.

Тады ўжо нашыя мне тут прынесьлі кветак — такі прыгожы букет. Віншуюць, усе радыя. Я мела якраз цукеркі — паставіла. Усё ўжо ўвайшло ў нармальны стан.

Пазваніла Алеся. Яна вельмі хвалявалася. Вельмі была ўсьцешаная, што ўсё добра. Пазваніла й бабка. Яна хвалявалася, што дала Юру ня добры мой тэлефон. Мы дагаварыліся з Юрам, што ён будзе ўжо бабцы званіць, калі й як прыедзе.

Выйшлі з работы раней трохі, каб быць гатовым ехаць на аэрадром.

Якраз перад намі званіў Юра. Ён едзе праз Флярыду — гэта адзінае, што ён дастаў.

Пазваніла на аэрадром даведацца, ці самалёт прылятае ў час. Так мы ня сьпяшаючыся й паехалі на аэрадром ужо пасьля рабочага разьезду. Ехалася ня дрэнна. Там прыпаркавалі каля выхаду недалёка, і я пабегла яго спатыкаць, а В. застаўся пры машыне. Бегала з аднаго канца аэрадрому ў другі — народу поўна, якраз перад даўгім сьвятам,

таўкатня. Самалёт прыляцеў у другое мейсца, чым раней было сказана — пабегла туды, ну... і разьмінуліся неяк.

Зноў хваляваньне, зноў званеньне дахаты, зноў шуканьне, пытаньне. Я дык ужо й надзею страціла, што некалі яго ўжо спаткаю. Столькі нэрваў. Аж зусім нечакана бачу яго й ён мяне ўбачыў у той самы час. Колькі радасьці! Было яшчэ трохі канфузу з багажом. Але ■ хутчэй пабегла В[*ітаўту*] сказаць, што знайшла Юру. Знайшлі й багаж. Нарэшце сабраліся ўсе разам і паехалі дахаты. Юра нам расказваў пра сябе. Экзамэны, мусіць, думае, што ня добра выйдуць. З усім ужо, аднак, там расквітаўся. Думае, што тут нешта знойдзе — назад не зьбіраецца.

Прыехалі — перакусілі яшчэ. Гаварылі доўга — нарэшце пайшлі спаць.

Падарункі мне ўжо пакінулі назаўтра.

---

[1] *Когану, у бюро, якое займалася амэрыканскімі студэнтамі ў Мэксыцы.*

**Субота 2 ліпеня**

Званіла Алеся пагаварыць зь Юрам. Я пайшла рабіць прычоску. У міжчасьсі прыехаў Стывэн з бэбі. Я ўжо думала нашае сьнеданьне расстроіцца — аж ён хутка паехаў. Прывёз праграмкі на славянскі фэстываль і білеты дармовыя. Слаба, мусіць, у іх ідзе — не спадзяюцца вялікай публікі. Як ён пайшоў, мы адразу селі сьнедаць. Атрымала я падарункі прыемныя: ад Алесі й Юры — пэрлы, ад М. В. і Віты грошы. Распакавала й кнігі ад Камкіна. Жанчыны з работы зрабілі мне таксама вельмі дарагі падарунак — керамічныя плеценыя кошычкі з Tiffany[1]. Адным словам дзень народзінаў быў вельмі прыемны after all. Мелі й торцік.

Пасьля памыла бялізну — Юра навёз брудных сваіх рэчаў, дык возьме шмат часу пакуль патрохі ўсё перамыю.

Выйшла пазьней на двор, пішу дзёньнік. Горача.

Вечарам званілі Алесі — падзякавала за пэрлы. Спачатку мне яны не спадабаліся, але як адзела, на мне яны выглядаюць вельмі міла. Галоўнае, што сапраўдныя.

---

[1] *Вядомая ювэлірная фірма.*

**Нядзеля 3 ліпеня**

Вельмі горача. Пасьнедалі разам і В[*ітаўтам*] паехаў да Тумаша. Я зноў мыла бялізну. Уставілі ахалоджаньне — сёньня нават на двор і ня хочацца выходзіць.

Адпачывалі. Заслужаны адпачынак нам пасьля ўсіх нашых перажываньняў.

**Панядзелак 4 ліпеня**

Пасьнедалі ўсе разам. І зноў памыла адну машыну бялізны — і гэта яшчэ ня ўсё.

В[*ітаўт*] паехаў з Шук[*елойцем*] у Крэчэўскага разьбіраць кнігі, што прывезьлі ад Адамовіча. В. кажа, што там шмат дрэні ёсьць.

Я трохі падрукавала.

Дамовіліся з Надзяй ехаць у чацьвер у ягады.

Пазьней выйшла трохі на двор — пішу дзёньнік, трохі загараю.

**Аўторак 5 ліпеня**

Шмат працы пасьля даўгога канца тыдню. Заказала калбасы для Дз[*ядзі*] Вані. Вельмі хочацца ўжо праехацца на фарму. Можа, й Юра паедзе, але калі й не захоча, то нам з Надзяй будзе добра.

Званілі Антаніне — яна цяпер у Нью Ёрку ў шпіталі. Зь ёй было вельмі дрэнна пасьля апэрацыі — нешта доктар дрэнна зрабіў. Прывезьлі сюды. Тут будзе мець новую апэрацыю.

**Серада 6 ліпеня**

Зэнан[1] прынёс калбасу. Цяпер будзе прыямней заехаць да Д[*зядзі*] В[*ані*] — ня з пустымі рукамі — тым больш ён цяпер сам адзін.

Вечарам друкавала трохі — слаба йдзе. Трэба сябе змушаць кожны вечар хоць трохі зрабіць.

Пазваніла Д. В. сказала, што прыедзем да яго заўтра па абедзе.

---

[1] *Супрацоўнік Славянскага аддзелу.*

**Чацьвер 7 ліпеня**

Сёньня не працую. Мае быць прыемны дзень. Рана паехала да Надзі. Юра не захацеў ехаць.

Трохі быў трафік, дык да Надзі прыехала ўжо пасьля 8-ай. Яшчэ застала й Галіну дома. Яна аддала ручнікі (дзякаваць Богу, хоць цяпер спакойна будзе) і дала чэк за Шуставу шкатулку. Гэта была вельмі неспадзяваная прыемная рэч.

Паехалі з Надзяй у ягады. Дарога была даволі загружаная. Ехалася досыць напружана. Заехалі яшчэ заплаціць таксу[1] (як ужо тут). Ягады былі не такія добрыя, як заўсёды, але мы прыемна сябе адчувалі. Я сабрала дзьве баксы[2], а Надзя дык і яшчэ больш — яна добра зьбірае. Гаварылі, альбо проста кожны сам сабе думаў, разважаў, маўчалі. Было прыемна.

Пасьля ягадаў заехалі на фарму. Там было расчараваньне — неяк запушчана выглядае. Ён сам быў дома — відаць, не працуе. На страху матар'ялу яшчэ ня купілі, а грошы ня прыслалі. Маліна зарасла зусім — мусіць, не парадкавалі.

Я была пад прыкрым уражаньнем, як выехалі з фармы. Вось крыўдна. Свая хата як не свая ўжо.

У Д. В., затое, было вельмі прыемна. У яго спакойненька, акуратна, прахладненька. Ён ужо й пачастунак для нас падрыхтаваў — смачна прыстроеная рыба. Перакусілі, пасядзелі, аддыхнулі ды паехалі

назад. Ехалася ня дрэнна спачатку, але чым бліжэй да мэтраполіі, тым больш руху, больш нэрвовая язда.

Спусьціла Надзю й дахаты. Вітаўт ужо быў дома. Павячэралі, паелі ягадаў. У першы дзень ягады неяк ня йшлі.

Я сябе зусім добра адчуваю — зусім ня стомленая. Яшчэ й падрукавала трохі.

---

[1] *Падатак.*
[2] *Скрынкі (boxes).*

**Пятніца 8 ліпеня**

Сёньня палучка. Схадзілі зь В[*ітаўтам*] у банк. Пасьнедалі ў сваім мейсцы заўсёдным[1]. Упарадкавалі нанава выстаўку — зрабілі ў адзін рад. Выйшла значна лепей. Заказалі яшчэ знак са стрэлкай, каб было паказана, дзе пачатак выстаўкі.

Шмат працую. Часам бывае, што й ня выйду цэлы дзень з бібліятэкі. Добра, што кава ёсьць у аддзеле. Гэта была вельмі добрая ідэя[2].

Вечарам яшчэ трохі друкавала.

---

[1] *На Мэдысан Авэню.*
[2] *Купіць чайнік для аддзелу.*

**Субота 9 ліпеня**

Працую сёньня. Добра працавалася. Трохі падагнала свае справы. Трохі нават для сябе папрацавала. Пачала ўжо Трыстана патроху разьбіраць.

Вячэралі на двары. Юрачка падрыхтаваў добра. Нешта В[*ітаўт*] быў зафыркаў, ня памятаю ўжо, што была за прычына. Апошнім часам бывае ў яго такое.

Пазваніў Стывэн, што Славянскі фэстываль адкліканы. Сёньня яны выступалі, а заўтра ўжо ня будзе. Нашыя, казаў, былі вельмі добрыя, але народу было мала. Шкада, а мы заўтра зьбіраліся ехаць. Пазьней званіла і Рая, і яшчэ нехта. Усе казалі, што нашыя былі вельмі добрыя выступы. Трохі крыўдна, што так шмат рыхтаваліся. Крыўдна, што й грошы атрымалі меней, чым разьлічвалі.

**Нядзеля 10 ліпеня**

Юра паехаў недзе з сябрам на аэрадром. Яго бацька адлятае, а ён яшчэ ня мае дазволу, дык Юра ехаў як кампаньён.

Мы селі сьнедаць — аж і Юра прыехаў. Яшчэ й разам пасядзелі.

Я памыла бялізну. В[*ітаўт*] і Юра пайшлі нешта на двары парадкавацца. Хутка й [redacted] пайшла на двор. Пісала дзёньнік. На двары прыемна, але трохі гарачавата. Вечарам трохі друкавала.

**Панядзелак 11 ліпеня**

Горача. Працы шмат. Трэба перад канікуламі ўсё спарадкаваць, выканчыць. Няма калі нават схадзіць у магазын. Ды, прызнацца,

й рухацца залішне ня хочацца. Як памалу сабе працуем, дык не так горача.

**Аўторак 12 ліпеня**

Працуецца, як заўсёды цяпер — вельмі інтэнсыўна.

Вечарам прыйшлі кнігі ад Камкіна. Слоўнікі: расейска-беларускі ў 2-х тамах і 2 тамы гістарычнага слоўніка. Цэлы вечар разглядала.

**Серада 13 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў зноў у друкарню[1]. Ужо апошнія карэкты. Рабіў яшчэ беларускія рэзюмэ да артыкулаў, бо было асталося колькі пустых старонак. Працы з гэтым вельмі шмат.

У мяне таксама працы шмат, але хоць прыемна, што наперадзе вакацыі, дык гэта трымае на сіле. Мушу ўсё падрыхтаваць для Лізы, каб ёй было лягчэй. Пачаліся ўжо ТНІ, дык людзі раней выходзяць, ■ я мушу ўжо быць, ды й працы шмат — не заўважаеш нават гарачыні.

---

[1] *Канчаць «Запісы».*

**Чацьвер 14 ліпеня**

В[*ітаўт*] зрана ў друкарню. Вельмі-ж зноў горача. Выпісала ад Камкіна яшчэ 5 кнігаў Караткевіча на ангельскай мове. Вельмі добрая кніжка. За малымі выключэньнямі трактуе старую беларускую гісторыю правядлова, асабліва пэрыяд Вял. Кн. Літ. Мусіць, нейкія там зьмены ў гэтым кірунку. Для нас гэта вельмі добра. Літоўцы ўжо былі занадта сталі нахальна захоўвацца.

У абед паехалі да Антаніны ў шпіталь.

Даўгая дарога падземкай тады яшчэ пару кварталаў пехатой. Горача. Яна чуецца даволі добра. Выглядае сьвежа. Пасядзелі, крыху пагаварылі. Мне, можа, прыйдзецца яе назад дахаты везьці. Яна яшчэ тады пазвоніць. Клапацілася ўсё, што Д[*зядзя*] В[*аня*] ня даў нам рыбы, яек. Вось яна сваеасаблівая — добрая, але грошы вельмі беражэ, клапоціцца пра ўсіх.

Ідучы ўжо назад, спаткалі Jay. Вітаўт зь ім мае сёньня пазьней гутарку. Гутарка прайшла вельмі добра. Казаў, што цяпер арганізавалі камітэт для пошукаў начальнікаў (абодвух і навуковага і славянскага) аддзелаў. Можа, цяпер хутка што высьветліцца.

Дома ўсё добра. Трохі друкавала.

**Пятніца 15 ліпеня**

Сёньня цэлы дзень парадкавала свой стол, каля стала, каб пакінуць усё ў добрым выглядзе. Пагаварыла з Gold, што ўжо з панядзелку на вакацыі, што Ліза будзе ў аддзеле замяняць. Пазваніла й Jay — ужо каб быць у парадку. Горача. Адпусьцілі раней. Я засталася парадкаваць, а Таня на дыжуры. Зрабіла ўсё, што плянавала. Пагаварыла нават з Doares. Вельмі добра зрабіла, што пагаварыла — даць аб сабе

знаць. Спарадкавала яшчэ паліцу пэрыядычных выданьняў для вырашэньня. З Doares лепш быць у добрых адносінах.

Ехалі дахаты, адно хацелася хутчэй распрануцца, павячэраць і адпачываць. Трохі пачаў дожджык, а мы сёньня плянавалі вячэру на двары. Шкада! Як там Юра ўладзіўся?

Прыехаўшы, бачым, Юра нас чакае зь некім другім у машыне. Аказваецца, запрасіў ён свайго сябру ў госьці — вечарам пойдуць на нейкі канцэрт. Мы дык вельмі былі заскочаныя. Але хлопец вельмі сымпатычны. Павячэралі ў хаце (яда была падрыхтаваная на двары). Усё было сымпатычна, спакойна. Хутка яны й паехалі — тады ўжо я распаясалася трохі. Адпачывала, друкавала.

Яны прыйшлі позна, але мы спалі. Я, праўда, прачнулася, як пачула, што прыйшлі, але хутка заснула назад.

**Субота 16 ліпеня**

Дома сёньня ўсе. Хлопец Юраў хутка паехаў. Я схадзіла зрабіла прычоску, купіла прадуктаў. Пасьнедалі.

Тады цэлы дзень парадкавалася.

Трохі друкавала. Трохі адпачывала. Нічога асаблівага не прыпамінаю.

**Нядзеля 17 ліпеня**

Пасьнедалі й В[*ітаўт*] паехаў да Тумаша, а тады ў царкву на Richmond Hill. Там сёньня ладзяць спатканьне нейкаму гасьцю з Польшчы[1]. Беларус, які быў пры немцах у СБМ, тады засуджаны на некалькі гадоў у ссылку. Адсядзеў і паехаў нейкім чынам у Польшчу. Там зьвязаны зь мясцовымі Беларусамі. Нібы актыўны — вучыўся, нешта піша. Выпісаў яго [*Мікола*] Грэбень — гэта яго сябра яшчэ з Наваградку. В. казаў, што надта зь ім і не гаварыў. Было там каму ім апекавацца. Пабыў трохі ды дахаты. Прыехаў ня позна. Яшчэ й адпачывалі. Я трохі падрукавала, каб падагнаць перад выездам. Сабралася.

Вечарам, як ужо садзіліся глядзець T.V., званок ад Вітаўта Тумаша. Заедзе да нас па кніжкі Zimmera[2]. Я нават і ня выйшла да іх (прыехаў зь Віктарам) — так мне крыўдна было, што вечар разьбіўся. Пасядзелі яны пару гадзінаў. Між часам Юра вярнуўся дахаты. Пагаварылі яшчэ зь Юрам. Як яны паехалі, мы яшчэ трохі самі пасядзелі, пагаварылі.

[1] *Янка Жамойцін. Памёр у 2003 г.*

[2] *Вітаўт Тумаш-малодшы заехаў, каб узяць кнігі Зымэра. Зымэр падараваў БІНіМу 5 экзэмпляраў кнігі.*

**Панядзелак 18 ліпеня**

Раніцай сабраліся, і хутка пасьля Вітаўта[1] паехалі й мы[2]. Ехалася дрэнна. Трафік, пабудовы, нэрвовая дарога. У Port Jervice[3] былі недзе перад 11-ай гадзінай, бо хацелі купіць курку, дык было яшчэ зачынена. Даехалі да «зьмейкі» — аж там дарога зачыненая. Мы не заўважылі знаку аб'езду. Вярнуліся назад. Аб'езд вельмі прыкры — кру-

чаная дарога, вузенькая, крутая. Ехалася вельмі напружана. Наагул цэлая дарога была вельмі напружаная.

На Бэлэры ўсё добра. Дасталі пакой, агледзеліся ды паехалі па пакупкі. Купілі прадуктаў.

Я пайшла пад басэйн. Пагода добрая. Людзей даволі шмат — усё больш дзяцей. Нейкія ўсё не знаёмыя. Надта галасна грала музыка. Наагул ня было ўтульна, ні спакойна, ні адпачывальна. Была я ўсё напружаная. На сонцы, здаецца, й ня была доўга, але трохі спалілася. Пісала дзёньнік.

Павячэралі, і [redacted] яшчэ трохі ў пакоі папісала.

А 7-ай пайшла пазваніць дахаты. У іх усё добра. У Нью Ёрку надта горача. На рабоце двайны час далі тым, хто застаўся. Горача й тут. Як для Бэлэру, дык і вельмі горача. Хутка пайшла спаць. М. В. яшчэ трохі там сядзела з жанчынамі гаварыла.

---

[1] *Я працаваў — паехаў у Нью Ёрк.*

[2] *На адпачынак у Бэлэр-Менск. З Бэлэрам у Зоры цэлая гісторыя. Яна была сябрам Камітэту пошуку Дому адпачынку — людзі ў Нью Ёрку разумелі, што летам добра было б зьбірацца разам, і таму трэба купіць дом адпачынку. Энтузіясты гэтае справы — Юрка Станкевіч, Васіль Юрцэвіч, Уладзімер Пеляса, Зора ды іншыя — некалькі гадоў езьдзілі і шукалі прыдатны аб'ект. Вось што Зора пісала пра Бэлэр у 1979 годзе:*

**БЭЛЕЙР-МЕНСК СЯНЬНЯ**

Адпачынковы асяродак Бэлейр-Менск нам не навіна: мы зь ім зьвязаныя ад 1963 году. Спачатку мы яго шукалі, потым адчынялі. Бывалі мы ў Бэлейр-Менску, як ён толькі ставіў першыя крокі, ды праходзілі празь першыя арганізацыйныя этапы, празь першы ўздым і энтузіязм і праз часовыя непаладкі й цяжкасьці.

Цяпер Бэлейр-Менск у стадыі спакойнага йснаваньня й працы. Як інфармавалі нас сяньняшнія кіраўнікі, паляпшаецца й матарыяльны стан адпачынковага цэнтру. Праўда, едучы на Бэлейр сёлета, мы, прызнацца, не чакалі на нейкія асаблівыя зьмены ці неспадзеўкі. Але зьмены заўважыліся. Перш-наперш дзеля таго, што гаспадарка й кіраўніцтва асяродку цяпер у руках жанчыны — Валі Рагалевіч. Сп-ня Валя Рагалевіч фактычна вяла гаспадарку разам з мужам Сяргеем Рагалевічам ужо колькі гадоў, але сёлета яна афіцыйна мае й тытул кіраўнічкі Беларускага Адпачынковага Цэнтру Бэлейр-Менску. Дык жаноцкая рука адчуваецца адразу (а можа гэта мой жаноцкі шавінізм вылазіць?).

У галоўным будынку чысьценька, новыя фіранкі, упарадкаваная мэбля. У канцылярыі спраўна. Парадак быў таксама й на дошцы абвестак і каля галоўнага будынку. Аднак, я больш хвалявалася ня дзеля гэтых прыемных зьменаў: зы мной гэтым разам прыехала на Бэлейр нашая суродзічка — маладая Беларуска, якая нядаўна прыбыла ў госьці з Усходняе Эўропы. І вось я больш хвалявалася за яе — якімі вачыма гляне яна на наш «Менск»?

Ужо сам пад'езд да Менску стварае вельмі прыемнае ўражаньне. Маляўнічая горная мясцовасьць. Добры, здаровы клімат, лес, возера, купальны басэйн. Аглядаем і будынкі. Некаторыя ўжо старавcovатыя, але чыста дагледжаныя. Усе будынкі зусім адпаведныя для летняга адпачынку. Вялікая новая заля, дзе адбываюцца вечарыны, паказы фільмаў, літаратурныя выступленьні. Прыемная каплічка для Багаслужбаў ды, зразумела, карчма — гэтае ўлюбленае месца для мужчынаў.

Жанчыны-ж і моладзь найбольш зьбіраюцца каля басэйну ды там у гутарках праводзяць час. А пагаварыць ёсьць аб чым. Хто тут «новы», хто адкуль прыехаў, бо-ж на

Бэлейры летам бываюць людзі й з Аўстраліі, і зь Нямеччыны, і з Францыі, і з Ангельшчыны, і, апошнім часам, зь Беларусі! У той дзень, як мы прыехалі, была вечарына — нашая «Лявоніха» ды й іншыя танцы й песьні беларускія — скакалі ўсе, хоць пялі й ня ўсе. На маю суродзічку з бацькаўшчыны гэта рабіла нязвычайнае ўражаньне.

Падчас нашага побыту адбыўся на Бэлейры й паказ дзіцячае мастацкае самадзейнасьці, якую арганізавала зусім яшчэ маладая, але вельмі актыўная дзяўчынка Грэйс-Вольга Трылер. Яна прыцягнула да пастаноўкі Лору й Міхася Рагалевічаў, Нансы Заркевіч, Расэля Трылера й Тэрэзу Яхнюк.

Шмат гутарылася каля басэйну й у цэлым асяродку аб сёлетняй каралеве, выбранай 28 ліпеня. Гонар каралевы Бэлейр-Менску сёлета выпаў на Люсю Валюкевіч з Кліўленду. Гутарылася шмат і аб фільмах, якія высьвятляюцца вельмі часта.

Наагул-жа ў Менску людзі зьбіраюцца, сустракаюцца, аднаўляюць старыя знаёмствы, завязваюць сяброўства. Нямала беларускіх маладых сужэнстваў заўдзячваюцца Бэлейр-Менску. Наагул-жа нашая моладзь у Амэрыцы з гэтым месцам зжылася, і вось ужо, калі ня мылюся, 15-ы ці 16-ы сэзон і мае дзеці сталыя там наведвальнікі. Але галоўнае на Бэлейр-Менску — гэта нашая беларуская атмасфэра. «Як тут прыемна, прыгожа й панашаму», — паўтарала нашая госьця. «Цудоўна! І як Вы шмат тут у Амэрыцы зрабілі!»

І так вось, гледзячы вачыма новага, сьвежага чалавека, пераконваемся, што й узапраўды ўсё нашае, прыемнае, і ўсё, што мы рабілі й зрабілі, дае вынікі, крочыць да нечага большага.

Едучы дахаты, на небе заўважылі вясёлку. На памыснасьць!

**Зора Кіпель**

*«Беларус», № 268, 1979*

*[3] Порт Джэрвіс — гарадок непадалёк ад Бэлэр-Менску. Там у доме для старцаў некалі жыў Мікола Целеш, беларускі пісьменьнік (БІНіМ выдаў яго творы). Там, у Порт Джэрвісе Целеш і прапаў — ніхто ня ведае дзе і як...*

## Аўторак 19 ліпеня

Спалася добра. Раніцай пасьнедалі. Сабраліся і зьезьдзілі да ўкраінцаў на Верхавіну[1]. Я купіла кубачкі для сваіх жанчын у аддзеле. У іх там вельмі добра. Усё па-дзелавому: і сталоўка й магазынчык і офіс. Кругом людзі. Чысьценька, акуратна.

На двары сёньня парна — няпрыемна, але мне й добра, што сонца няма. Я здорава стамілася. Пасядзела каля басэйну. У 12 пайшла пад белы дом[2] — мае званіць Вітаўт. Там усё добра. Да Антаніны яшчэ не дазваніўся, але выглядае, што яна яшчэ так хутка ня выпішацца. Ну, але заўтра я ўсё роўна еду дахаты, дык тады больш даведаюся.

Каля гадзіны 5-ай паехалі трохі праехацца — няма чаго рабіць. Каля басэйну сядзець ужо ня прыемна — дык дожджык нібы крыху пачаў марасіць.

Паехалі ў Monticello. Там душна. Трохі прайшліся. Купілі баранкаў — ды назад. Заехалі яшчэ па марожанае. Прыехалі назад пасьля 6-ай. Да кіно яшчэ пару гадзінаў. Нудна. Чуць дачакалі да кіно. Фільм, праўда, быў даволі добры — «Absence of Malice». Мы сабе сядзелі зь дзецьмі і яшчэ пару старушак. Былі й «картуны»[3]. Да канца не дасядзелі — М. В. ужо стамілася. Ноч была даволі прахладная.

---

*[1] Украінскі дом адпачынку.*

*[2] Дом, дзе месьціцца канцылярыя — там тэлефон.*

*[3] Мультфільмы (cartoons).*

**Серада 20 ліпеня**

Сёньня пахмурна. [redacted] зраньня яшчэ пайшла села каля басэйну. Нікога няма, спакойна. Пішу дзёньнік.

Каля 1-ай ужо пачала зьбірацца ехаць. Ехалася ня блага. Прыехала дахаты — у хаце нікога. Праўда, хутка прыйшоў і В[*imaўт*]. Незадоўга прыбег і Юрачка — ён быў у басэйне[1].

Паехалі на пікнік PLASMA[2]. Далі сабе шмат часу, бо думалі будзе трафік, але ехалася вельмі добра. Прыехалі, яшчэ амаль нікога ня было. Але хутка пачаўся пікнік. Паелі. Яда была смачная. Незадоўга й мітынг[3] пачаўся. Было цікава. Шмат новай інфармацыі. Выглядае, што ўсё цяжэй і цяжэй будзе для студэнтаў, што вучацца за мяжой. Хай-бы Юра ўжо хутчэй неяк прыстроіўся.

Было нам вельмі прыемна разам. Вечарам яшчэ адпачывалі.

---

*[1] Працаваў там ратаўнікам.*

*[2] Арганізацыя бацькоў, чые дзеці вучацца на мэдычных факультэтах за межамі ЗША.*

*[3] Зборка, сход (meeting).*

**Чацьвер 21 ліпеня**

В[*imaўт*] сёньня з Адамовічам паехаў у фэдэральны будынак. Выклікалі яго на разгляд справы[1]. В. паехаў як перакладчык. Я яшчэ заехала да Collins — учора адарваўся рычажок ад тармазоў ручных. Collins абяцаў, што дастане частку, а так нічога страшнага — можна ехаць, толькі ўважаць, каб не забыцца і не націснуць на тормаз, бо тады ня зьнімеш.

Заехалі яшчэ ў магазын, купілі для іх прадуктаў. І я паехала. Ехалася ня дрэнна, але дарогу гэтую я ня люблю — гэта зусім ня тое, што на фарму. Там як выехаў на дарогу, дык ужо й адпачываеш, а тут напружана праз цэлы час.

Прыехала ў Port Jervis крыху пасьля 11-ай. Купіла курку. Перакусілі, ды [redacted] пайшла пад басэйн. Сёньня там больш людзей. Пагода добрая. Пішу дзёньнік. Акунулася нават. Даволі прыемна. Але пазьней пачаў мне балець неяк жывот. Лягла трохі паляжаць, бо яшчэ маю пайсьці наверх — будзе тэлефон ад Вітаўта. Чуць дачакалася.

Пайшла, расплацілася. Як толькі В. пазваніў — адразу-ж пайшла ў ложак. Пайшоў дождж. Пачало капаць на ложак М[*арыі*] В[*асільеўны*]. Але пазьней падсохла.

У В. усё добра. Быў і ў іх дождж — ды моцны. З Адамовічам справа няцікавая, але шмат ён па тэлефону не гаварыў.

Пайшла ў ложак, жывот усё яшчэ баліць, нават чытаць ня хочацца. Паставіла толькі радыё (прывезла з хаты М. В.).

---

*[1] У справе, узьнятай Аддзелам спэцыяльных расьсьледаваньняў. Пыталіся ў Ада-*

*мовіча пераважна аб журналістыцы падчас вайны ды праверылі пункт за пунктам анкету, якую ён запаўняў пры ўезьдзе ў ЗША ў 1949 годзе. Усё было тое самае. На заканчэньне «сьледзтва» — яно працягвалася гадзін 10 — мне як ягонаму перакладчыку было сказана: «На наш пагляд, Адамовіч нічога не хаваў, калі прыяжджаў у ЗША, ён можа быць зусім спакойны, хоць можа й давядзецца яшчэ недзе сьведчыць».*

**Пятніца 22 ліпеня**

Сёньня страшэнны вецер, але сонца сьвеціць, дык ужо трохі пацяплела, бо ноч была халодная.

Пайшла я ўсё-ж на двор. І было надзвычайна прыемна. Сонца яркае, але вецярок так прыемна цябе ахалоджвае — зусім як на пляжы. Вельмі я добра адпачыла, загарала. Пісаць ня было як, бо вецер, дык я адпачывала. Адна, спакойна. Пасьля пачалі трохі прыходзіць людзі. Так да 1-ай і прасядзела. Тады яшчэ як падышла да будынку — там больш зацішна, — дык яшчэ трохі ў цяньку пасядзела, папісала.

Нарэшце пайшлі зьбірацца. Выехалі ўжо недзе пасьля 2-ой. Прыехалі якраз Тулейкі — яны, мусіць, будуць у нашым пакоі.

Ехалася ня дрэнна, але ■ ўжо ў дарозе адчула, што трохі сьпяклася. Хутка пачала балець галава. Заехалі купілі марожанага, і я прыняла [*пігулкі*] ад галавы. Крыху сьцішылася, прытупілася, але ўсё роўна чуюся няважна. Стамілася й М. В. Асабліва ўжо пад канец дарогі стала вельмі горача, нават ахалоджаньне не дапамагае.

Прыехалі дахаты, распакаваліся, і ■ пачала рабіць вячэру. Хутка прыйшоў В[*ітаўт*]. Павячэралі й адпачывалі. В. мне трохі расказаў пра Адамовіча. Нічога там ужо такога страшнага ня было, але вельмі несымпатычная была жанчына-сьледчая. Адамовіч, як заўсёды, блытаўся, гаварыў неўпапад, yes yes, yes. Яны яшчэ будуць яго правяраць.

Юру яшчэ рэзультату экзамэну няма.

**Субота 23 ліпеня**

Рана ўсталі. В[*ітаўт*] яшчэ мне расказваў пра Адамовіча. Не хачу нават усяго запісваць. Па-першае, што няпрыемна, а па-другое, што гэта-ж фактычна сакрэт, гэта толькі паміж Адамовічам і ўладамі. В. толькі тлумач, а я дык і зусім нічога ведаць не павінна.

Пасьнедалі. Я схадзіла зрабіць валасы. Забрала машыну ад Collins. Усё ў парадку.

Памыла бялізну. Зьезьдзілі з М. В. у магазын. Юру яшчэ ліста няма.

Юра пайшоў, фактычна пабег у басэйн. В. адпачывае. Я сяджу на двары і пішу дзёньнік. Нарэшце дабралася да парадку. Вечарам адпачывалі, глядзелі T.V. Усе дома.

**Нядзеля 24 ліпеня**

Пасьнедалі ўсе разам — гэта заўсёды прыемны час у нашым дні.

Пасьля парадкаваліся, адпачывалі, друкавалі. Трэба ўжо мэнтальна падрыхтавацца для работы на заўтра. Дзень прайшоў спакойна.

**Панядзелак 25 ліпеня**

Паехалі на працу. Я яшчэ купіла па дарозе вінаграду. Падарункі, што была купіла ў украінскім магазыне, рашыла яшчэ не даваць — трэба купіць усім. Адразу-ж села рабіць Time sheets[1]. Цэлую раніцу правазілася. Нават часу ня было пагаварыць з нікім. Па абедзе ўсе разышліся — зноў THI. Мы зь Вітаўтам хадзілі ў банк, разьмяняць мой чэк. Я рашыла затрымацца на цэлы дзень. Пераглядзела ўсю пошту, што сьпешнае — зрабіла. Заладзіла з заступнікам Віктара падчас яго вакацыяў. Адным словам — цэлы дзень працавала вельмі інтэнсыўна.

Прыходзіў Юра — ён атрымаў рэзультаты экзамэнаў — 46 пунктаў (гэта добра, напэўна пераходная адзнака)[2]. Юра адразу-ж прыехаў у школу (Ньюёркскі office), каб даць ім рэзультаты. Паводле гэтага яны ўжо тады будуць прызначаць шпіталь для наступнага сэмэстру (клінічнага). Юра задаволены, але цяпер зноў чаканьне — пакуль атрымаюць са штату пераходную адзнаку — але паводле ўсіх іх разьлікаў, 46 павінна быць пераходнай. Юра вельмі перажываў, казаў мне пазьней, быў як у тумане цэлую раніцу, калі яму пазваніў Рамэш а 10-ай, што ён атрымаў адзнакі — а наша пошта прыходзіць толькі а 1-ай. Я ўяўляю, як ён хваляваўся. Паехаў у магазын, абмяняў сабе лямпу, якую мы ўчора купілі, нешта не ў парадку зь ёй было. Купіў сабе штаны, але зусім нават забыўся пра гэта — так, бедны, быў заклапочаны.

Ну, але цяпер ужо адышоў.

---

[1] *Фармуляры ўліку працоўных гадзінаў супрацоўнікаў аддзелу.*

[2] *Адзнакі ў Мэксыцы даюцца ў працэнтах, 100 — гэта максымум. Таму 46 — нядрэнны бал. ЗША і Мэксыка маюць дамоўленасьць: некаторыя шпіталі ЗША бяруць мэксыканскіх студэнтаў на клінічныя сэмэстры ў ЗША і такім чынам даюць амэрыканскія дыплёмы. У Юры два дыплёмы — мэксыканскі і амэрыканскі.*

**Аўторак 26 ліпеня**

В[*ітаўт*] зрана дома. Угаварыла я яго паехаць у магазын — купіць яшчэ бацінкі, якія яму вельмі падабаюцца і вельмі пасуюць — хай будуць у запасе. Купілі і калбасы Юру.

В. паехаў на працу, а мы зь Юрам у магазын — ён захацеў сабе новы касьцюм. Так і сказаў: «як я цяпер здаў экзамэн, дык можна новы касьцюм купіць». Пэўна-ж, ня было як не згадзіцца. Паехалі, доўга выбіралі, бо ў яго заўсёды праблема, што штаны вузкія ў «ляжках» — чуць ужо не зафыркаў быў, але выбралі, купілі. Толькі маюць зрабіць папраўкі, дык будзе гатовы толькі праз тыдзень. Заехалі ў Патэрсон — купілі фрукты.

Трохі друкавала.

Юра паехаў на басэйн, а тады на курс першай дапамогі (CPR)[1]. Сёньня ў іх таксама экзамэн. Яму гэта будзе патрэбна для школы. Так якраз добра выпала, што ён мог гэтым летам зрабіць. Пасьля гэтага

яны яшчэ там недзе пойдуць. В. прыйшоў стомлены — даўгі дзень. Адпачывалі. Юра прыйшоў ня позна. Пазваніў Д[*зядзю*] В[*аню*]. Антаніна ўжо дома.

---

[1] *Юра ад юнацкіх гадоў належаў да мясцовага аддзелу хуткай дапамогі і мусіў штогоду праходзіць экзамэн на пацьверджаньне кваліфікацыі.*

**Серада 27 ліпеня**

У Юры сёньня яшчэ адзін важны экзамэн, які ён будзе пробаваць здаць, хоць ведае, што ня зусім гатовы яшчэ. Гэтых экзамэнаў у яго цяпер будзе бясконца. Завезла яго ў Ньюарк.

Прыехала і яшчэ застала В[*ітаўта*] дома. У яго таксама сёньня важная зборка.

Пасьля паехала сама ў магазын. Нешта-ж трэба купіць сабе. Доўга хадзіла, але нияк нічога не пасуе. Выбрала адну сукенку. Прыехала дахаты і пачала хутка рыхтаваць вячэру.

Юра прыехаў з хлопцам. Хутка прыйшоў і В. Павячэралі. І Юра паехаў на ноч і назаўтра на мора са сваімі сябрамі. Добра, што ён хоць трохі распружыцца. Для яго гэта лета было вельмі напружанае.

Мы адпачывалі. Стаміліся й мы з усім гэтым — і зь Юрам, і на рабоце, і зь беларускім.

Прыходзілі ў бібліятэку Пашкевічы [*з Канады*].

В. зборка аказалася зусім ужо не такая й важная. Усе яны гуляюць у актыўнасьць, у працу, у важнасьць. Пазванілі Алесі (яна цяпер у North Carolina па рабоце), але яе дома ня было. Пасьля, ужо ноччу, адзванілася й яна. У яе ўсё добра. Ня ведае яшчэ калі і як прыедзе. Але прыедзе на гэты weekend напэўна.

**Чацьвер 28 ліпеня**

Юра на моры, В[*ітаўт*] на рабоце. Я зраньня стала парадкаваць у кухні. Стамілася, спацела, але частку кухні пачысьціла — толькі частку.

Званіла зноў Алеся. Выглядае, што яна скончыць там сёньня і прыляціць у Вашынгтон перад тым, як ехаць сюды. Прыедзе сваёй машынай.

Юра прыехаў дахаты раней, чымся думаў. Адзін з сябраў пазваніў дахаты і яму сказалі, што ёсьць тэлеграма са школы, аб прыняцьці яго ўжо ў шпіталь (ён меў ніжэйшую за Юру адзнаку). Дык яны ўсе пасьпяшаліся дахаты. Юру нічога няма. Так выглядае, што перш забясьпечылі мейсцамі тых, што не здалі альбо не здавалі экзамэнаў. Парадокс свайго роду.

Юра зноў пачаў хваляваца. Цэлы вечар і яму званкі і ён звоніць. Усе яны[1] цяпер у аднолькавым напружаным стане.

---

[1] *Юравы сябры з Мэксыкі.*

**Пятніца 29 ліпеня**

Зрана я схадзіла да дэнтыста — мне ўжо даўно пабольвае зуб. Зноў дзёсны. Прыпісаў ён мне толькі пэніцыліны. Зьезьдзіла ў аптэку. Купіла таксама й паперы, каб запакаваць падаруначкі, якія я ўчора купіла для сваіх на рабоце — невялічкія японскія сподачкі. Пасьля зь Юрам зьезьдзілі ў магазын: купілі цукеркаў, якімі я гэтыя сподачкі напоўню. Купілі Юру яшчэ адны штаны і дзьве кашулі. Яму трэба будзе цяпер для шпіталю мець прыстойнае адзеньне.

Юра пайшоў у кіно з сябрам. Званіла зноў Алеся. Яна вырашыла ня ехаць сваёй машынай. Нехта ў яе з працы едзе ў Нью Ёрк, дык падвязуць яе пад нейкі выезд, а там Юра спаткае. Дагаварыліся больш менш у якім мейсцы, але яна яшчэ зазвоніць.

Як прыйшоў Юра, сталі рабіць вячэру на двары. Добра павячэралі, хоць я, праўда, ужо трохі адчувала свой жывот. Мне ўжо колькі дзён зноў дакучае жывот. Як не ўважаю, а пад вечар пачынае балець.

Юра пачаў зьбірацца. Праўда, яшчэ пару тэлефонаў яму было. Сабраўся ды яшчэ рашыў пабегаць. Пабег, а ў міжчасьсі зноў Алеся звоніць ужо з дарогі, каб Юра ўжо выязджаў хутка з дому — спаткаюцца на той астаноўцы, дзе я сказала. Юра хутка прыбег, памыўся і паехаў. Праз якія поў-гадзіны звоніць — няма там Алесі, і астаноўка называецца ня гэтак, як я сказала. Зноў хваляваньне, зноў камбінацыі, зноў званкі. Ну, але, праўда, хутка гэты раз яны знайшліся. Пазванілі нам, што ўсё ў парадку і паехалі далей у Belair. Так Алесю мы й ня бачылі. Хоць усё наладзілася, але настрой нейкі напружаны ў нас. Так неяк у злосьці спаць пайшлі. Крыўдна! Калі можна адпачываць — усё неяк ня ладзіцца. Калі ўжо мы перастанем за дзяцей перажываць, нэрвавацца?

**Субота 30 ліпеня**

Схадзіла зрабіць прычоску. Спаткаліся ў Shop Rite. Зрабілі пакупкі і пайшлі дахаты — мы-ж без машыны. Пасьнедалі. Званіў Шук[*укелойць*], думаў, што, можа, В[*ітаўт*] прыедзе ў [*фундацыю*] Крэчэўскага. Дагаварыліся зь ім на аўторак на вячэру.

Званіў нейкі з іншуранса[1]. Тады пазваніў [*Янка*] Сурвіла. Яму Пашкевічы перадалі, што В. хацеў мець дакладнейшую інфармацыю аб вечары, на якім чыталіся вершы Купалы й Коласа. Сказаў, што за кнігу Лофтуса, якую В. яму выслаў ужо колькі месяцаў таму, грошы хутка прышле.

Пасьля пару хвілінаў зноў званок [*ад Янкі Сурвілы*] — прыпомніў яшчэ нешта.

Я спарадкавала пасуду ды выйшла трохі на двор зь дзёньнікам.

В. праз вакно гавора, што зноў быў тэлефон, ад Wynor'а[2] цяпер. Ён яшчэ ўсё рыхтуе сваю кнігу пра этнічную прэсу, і ад беларусаў няма адказаў.

Горача на двары, мусіць, пайду ў хату.

---

[1] *Страхавой кампаніі.*

[2] *Любамір Вынар — украінскага паходжаньня, выкладаў на ўнівэрсытэце Кент, штат Агаё. Там быў цэнтар вывучэньня этнічных культураў ЗША. Друкаваліся даведнікі пра нацыянальныя газэты, музэі. Зь ім мы вельмі блізка і памысна супрацоўнічалі. У бібліятэцы была нядрэнная калекцыя беларусікі.*

**Нядзеля 31 ліпеня**

В[*ітаўт*] схадзіў па сьнеданьне пешкі. Дзеці яшчэ на Belair, зразумела.

Пасьля адпачывалі, друкавалі, трохі парадкаваліся. Адным словам па-нядзельнаму. Вечарам пазванілі дзеці, што застануцца нанач у Belair. У панядзелак раніцай Юра завязе Алесю на аэрадром. Так мы А. ў гэты побыт і не пабачылі.

Вось мае вакацыі і скончыліся. Заўтра на працу.

**Панядзелак 1 жніўня**

Сёньня першы дзень на працы. Нейк дзіўна сябе адчуваеш — трохі адарвана. Шмат каго няма. Я прынесла падаруначкі. Паставіла ўсім на сталы, а пасьля мусіла некаторыя прымаць. Пазванілі хутка на THI. Так і разьбегліся ўсе па абедзе. [redacted] працавала да самага вечара — шмат назьбіралася незакончаных спраў. Нічога асабліва цікавага ня было. Дзень як дзень. Горача.

Вечарам спаткаліся ўжо зь Юрам. Ён расказваў пра тое, як было на Belair[1], пра выпадак з Білам і другім хлопцам, як ён першую дапамогу ім даваў. Выглядае, што яны там добра чуліся. Ю. завёз Алесю на самалёт, [redacted] тады яшчэ павёз Галіну Бахар дахаты. Казаў, што бачылі шмат нашых знаёмых: была Галіна з Мюнхэну[2], Галя Вайцяхоўская, Валя [*Рагалевіч*], Нэстары. Усе пыталіся пра нас.

Галіна цяпер у Юлькі. Прыехалі ў Belair нібы спэцыяльна, каб пабачыцца са мной.

Вечарам Юра недзе паехаў. Мы пазванілі Алесі, каб даведацца, як яна дабралася — але яе ня было. Значна пазьней ужо адзванілася. У яе ўсё добра. Шмат працуе.

---

[1] *У гэты час у Бэлэр-Менску звычайна ладзілася «Беларуская спартакіяда» — валейбол, футбол ды інш. гульні, лёгкая атлетыка. Такія спартовыя дні на селішчы былі вельмі папулярныя.*

[2] *Наша сяброўка з школьных часоў у Менску (1942-1943).*

**Аўторак 2 жніўня**

Сёньня працуем вечарам. Паехалі на працу на машыне. Добра. Прахладна. На рабоце быў зноў THI, але ня было так ужо дрэнна. Шмат я падагнала. Патроху ўсё прыходзе ў норму.

Схадзілі павячэралі ў Tad Steak. Шук[*елойць*] меўся прыйсьці, але не зьявіўся. Прыйшоў, праўда, пазьней. Але я яго ўжо ня бачыла. Ён заўсёды нешта наблытае.

Прыехалі дахаты добра. Юра дома. Ён наагул гэтым разам маладзец. Нікуды надта ня ходзіць вечарамі.

**Серада 3 жніўня**

Зноў сёньня ТНІ. Пагода страшэнная. Але я мушу быць на рабоце амаль да канца. Сёньня мела зборку з Doares. Такая трата часу й энэргіі. Але я цяпер стараюся быць з усімі добра.

**Чацьвер 4 жніўня**[1]

ТНІ 12:30 дахаты
Зь Ю. па касьцюм, фрукты
Зв. на фарму
Юра да Галіны Бахар

[1] *Ад гэтае даты ў Зоры вядзеньне дзёньніка пачынаецца скарочаным «тэлеграфным стылем». Так цягнецца нейкі час. У міжчасьсі больш дэтальна апісаныя толькі некаторыя падзеі. Цяжка сказаць, чым гэта тлумачыцца, але праўдападобна найперш занятасьцю ва ўнівэрсытэце — у гэты час даводзілася шмат працаваць.*

**Пятніца 5 жніўня**

Юра на працу
ТНІ. Дахаты раней

**Субота 6 жніўня**

Прыехала А[*леся*].
магазын
Вясельле
Галіна ручнік

**Нядзеля 7 жніўня**

Пасьнедалі
А. ада надзін
Зв. Шук[*елойць*].
Юра з Рыкі
Я бялізну, на двор. Магазын, машына

**Панядзелак 8 жніўня**

А[*леся*] паехала
Надзін
Хадзілі за кніжкамі
Юра на працу без машыны — Cadilac

**Аўторак 9 жніўня**

Прывезьлі кніжкі
В[*ітаўт*] парадкав. кніжкі

**Серада 10 жніўня**

Я зь Ю. Е.
Парадк. кнігі

**Чацьвер 11 жніўня**

«Госуд. Дума»

**Субота 13 жніўня**
Завезьлі зь Ю[*рам*] машын[*у*].
В[*ітаўт*] працуе
Dentist
Валасы
Патэрсон

**Нядзеля 14 жніўня**
Пасьнедалі
В[*ітаўт*] да Тум[*аша*].
Бялізна

**Панядзелак 15 жніўня**
UN
Кніжка, магазын
Юра працуе

**Аўторак 16 жніўня**
Юра працуе цэлы тыдзень

**Серада 17 жніўня**
В[*ітаўт*] дома, пламберка
Зв. Запр[*уднік*].
Прых. Карэсар
білеты
Dentist
Зв. Алеся

**Чацьвер 18 жніўня**
Ю[*ра*] у шпіталь на інтэр.
Зборка
Кампютар
IHOP
Зв. Алеся

**Пятніца 19 жніўня**
Палучка
У Ю. школу
Прыходз. Зап.
Зборка з Gold
Прыходзіў Том

**Субота 20 жніўня**
Працавала
Вячэра з Бал[*арыні*].

**Панядзелак 22 жніўня**
Рабіла «time sheets»

**Серада 24 жніўня**
Legis. Com. meeting

**Чацьвер 25 жніўня**
Дома
Займалася гастр.

**Субота 27 жніўня**
Працавала
Горача
ТНІ 4:15

**Панядзелак 29 жніўня**
Ю. у N.Y. агляд у школу
Д. Ваня
Bank
На аэрадром зь білетамі
A[*tlantic*] City

**Аўторак 30 жніўня**
Уставілі computer

**Серада 31 жніўня**
Прыехаў Ю[*раў*] сябра ноччу
Зв. Алесі — канфлікт
На раб. пачала трэніравац. OE, NZ на кампютары

**Чацьвер 1 верасьня**
Сяргей прыехаў
Ю[*ра*] працуе
Mark з N.Y.
Pizza. Зв. Ш[*укелойць*].
Друкавала прат.

**Пятніца 2 верасьня**
На работу.
Друк. прат.
С. у N.Y.
у радыё
Ад Алесі report
Шук аддала.
Халаднік

**Субота 3 верасьня**
БАЗА
Юра з Mark да сябры
С. з намі дахаты

**Нядзеля 4 верасьня**
Юра работа з Mark
БАЗА
Сяр. з В. паехалі
С. застаўся ўжо там
Прывезьлі Ю.

**Панядзелак 5 верасьня**
Ю. на работу з М.
Мы цэлы дзень адпачывалі

**Аўторак 6 верасьня**
Юра пераехаў

Горача
THI 12:00
На работу
В. прыехаў па мяне

**Серада 7 верасьня**[1]
Том
Atl. City air.
Чыкага Рамукі

---

[1] *Ёсьць нейкія запісачкі:* На высьвячэньне айца Тарасэвіча ў Чыкага мы езьдзілі з Томам Бэрдам. Вырашылі ехаць у Чыкага з аэрапорту Атлянтык Сіты. Гэта маленькі аэрадром, але затое вельмі танныя білеты — на асобу $105 туды й назад. З Томам выехалі зь Нью Ёрку — за пару гадзінаў былі на аэрадроме.

Час лёту — каля [redacted] гадзінаў. Увесь час гутарылі з Томам аб беларускіх царкоўных справах. Мы ўсе такой думкі, што высьвячэньне біскупа для нас беларусаў у ЗША будзе мець вялізарнае значаньне.

Вітаўт сказаў Тому, што і раней гутарыў з айцом Тарасэвічам, каб сабраць грошай і паставіць нацыянальны беларускі алтар у Вашынгтоне ў National Shrine. Том захоплены ад такое думкі й сказаў, што нам паможа ў зьбіраньні сродкаў.

**Чацьвер 8 верасьня**
Чыкаго
Высьвячэньне
Лялькі — лён
Вячэра. Дахаты.

**Пятніца 9 верасьня**
B. N.Y. Радыё.
Ю. з сябрам у N.Y. — дахаты
школа — Fizer
Юра на танцы
Mark застаўся ў N.Y.

**Субота 10 верасьня**
Дэнтыст
Валасы
Ногі
Фэстываль[1]
Ю. дома
з Ю. у магазын

---

[1] *Зацемка ў «Беларусе»:*

**ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ**

Сёлетні этнічны фэстываль у штаце Нью Джэрзі (ЗША), у якім бралі ўдзел 38 нацыянальных групаў, адбываўся ў канцатыдні 10-11 верасьня і прыцягнуў, не зважаючы на сьпякотнае, ня сэзоннае надвор'е, па-над 20 тысячаў наведвальнікаў з усяго штату ды нават з суседняга Нью Ёрку.

Пачаўся фэстываль агульным парадам прадстаўнікоў этнічных групаў у нацыянальных вопратках са сьцягамі ды надпісамі. Было гэта вельмі ўрачыста й калярытна. Беларускі сьцяг ды надпіс «Беларусь» горда пранесьлі каля ўсіх стэндаў Надзя Кудасава

й Лора Рагалевіч. Як Надзя пазьней зазначыла: аж камок пад горла падступаў, калі яна несла сьцяг.

Беларускі стэнд, як і ў мінулыя гады, карыстаўся вялікім посьпехам — уладкаваліся мы ў добрым відным мейсцы. Нашыя прыгожыя й густоўна прадстаўленыя экспанаты — тканіны, мініятурныя гаспадарскія прылады, вышываньне, лялькі, інкрустацыя з саломкі, малюнкі выпаленыя на дрэве, кніжкі ды шмат іншых рэчаў — прыцягвалі наведвальнікаў усіх векаў ды зацікаўленьняў.

Абслугоўвалі беларускі стэнд, давалі інфармацыі пра Беларусь ды беларускія асяродкі ў Нью Джэрзі вэтэраны гэткіх фэстываляў: Галіна Русак, Валя Рагалевіч, Ліза Літаровіч, Вітаўт Кіпель ды аўтар гэтых радкоў.

Надзя Кудасава са сваёй славутай прасьніцай дэманстравала тэхніку прадзеньня ды ўменьне й спрыт у гэтым старынным, амаль забытым ужо, працэсе. Асыставала Надзі ейная пляменьніца й вучаніца Лора Рагалевіч, якая ўжо пару гадоў як апанавала гэтае мастацтва (бо ў руках гэтых дзьвюх Беларусак прадзеньне сапраўды ператварылася ў мастацтва). Мастацтвам таксама было й дэманстраваньне пляценьня паясоў Тамарай Кольбай. Тамара навучылася пляценьня ад сп-ні Ніны Зьгірскай, якая яшчэ здому прывезла гэтую прыгожую беларускую традыцыю. Вучаніца-мастачка дадала свае элемэнты, стварыла новыя ўзоры ды камбінацыі колераў. Усё гэта дадавала да агульнай прыгажосьці выставы. Дык ня дзіва, што беларускі стэнд выклікаў зацікаўленьне й захапленьне наведвальнікаў, фатографаў, прэсы й тэлябачаньня.

Зацемка была-б ня поўная, калі не адзначыць, што сярод тысячаў наведвальнікаў нашых стэндаў быў усяго адзін глядач, які, пад уплывам кнігі Лофтуса, паставіўся да нас абразьліва, — рэшта-ж выказвала куды большае зацікаўленьне й зразуменьне, як мінулымі гадамі.

Нашая прысутнасьць, настойлівы ўдзел у розных імпрэзах і фэстывалях, крапатлівая адказная праца, відавочна, даюць пажаданыя вынікі.

**Зора Кіпель**

*«Беларус», № 312, жнівень-верасень 1983*

### Нядзеля 11 верасьня

Фэстываль
Ю. узяў машыну
Юра прыехаў і паехаў з Русакамі.

### Панядзелак 12 верасьня

У N.Y.
В. у радыё
Я — ў бібл.
Школа
Дождж. Дахаты.

### Аўторак 13 верасьня

На вакацыі. Ferry
Крыху на беразе. Дождж.

### Серада 14 верасьня

Дождж. Крабы

### Чацьвер 15 верасьня

Сабралі яблыкаў.
Цэлы дзень на беразе.
Вячэра ня ўдалая.

### Пятніца 16 верасьня

Назад. Прыемны рэстаран па дарозе назад.

Зв. Алесі.
Школа
Юра з Бахарамі.

**Субота 17 верасьня**
Дэнтыст
Валасы
Сьняд.
Зь Ю. у магазын.
Карэн.

**Нядзеля 18 верасьня**
пасьнедалі.
В. завёз Ю. да Тумаша.

**Бялізну на двары.**
Серада 21 верасьня
Meeting w. Gold

**Чацьвер 22 верасьня**
Printer installed

**Пятніца 23 верасьня**[1]
RLIN Searching
meeting w. Dawn Sanders

---

[1] *Было важнае паседжаньне з начальствам Аддзелу каталягаваньня ў бібліятэцы. Было пастаноўлена, што ў RLIN (кампутарызаванай базе дадзеных навуковых бібліятэкаў ЗША) беларускія кнігі будуць першапачаткова каталягавацца ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы і Вашынгтонскай Бібліятэцы кангрэсу.*

**Субота 24 верасьня**
Езьдзіла купіць Ю. падарункі.
Халат, Вага, гальштук.

**Нядзеля 25 верасьня**
Чакаў Ю.
В. да Т.
на БАЗА
Паехалі да Ю.

**Панядзелак 26 верасьня**
Interview на chief
Школа
Вашінгтон

**Аўторак 27 верасьня**
В. канф.
Я — бібліят.
Вячэр. з Алесяй

**Серада 28 верасьня**
В. канф.
Я бібл.
пасварыліся

**Чацьвер 29 верасьня**
Камкін
Я дома — вуч.
В. на канф.
Вяч. з Ал.

**Пятніца 30 верасьня**
Дождж.
Назад.
Яблыкі.
Нядзьв.
Taxes
Памідоры
Школа
Юра?

**Нядзеля 2 кастрычніка**
В. да Тум.

**Чацьвер 6 кастрычніка**
Staff Meeting
Leg. Com. — позна
Staff forum
Bindary

**Пятніца 7 кастрычніка**
Школа

**Субота 8 кастрычніка**
Мамы дзень народзінаў
Працавала

**Нядзеля 9 кастрычніка**
В. да Тум.
Plasma
Paterson

**Панядзелак 10 кастрычніка**
Дома.
Школа
Вячэралі па дарозе

**Чацьвер 13 кастрычніка**
Першы training
Прыходзіла Тамара

**Пятніца 14 кастрычніка**
адмовілі Insurance
Party for Toni
на аўтобусе
школа. Чакала В.
Прыех. Юра
Юра позна.

**Субота 15 кастрычніка**

Ю. мыў бяліз.
Працавала
3 Ballarine
Вячэралі
Юра ў кіно. Ня позна.

**Нядзеля 16 кастрычніка**

Зв. Алесі. Пасьнедалі.
В. завёз Ю. да Тумаша.
Друк. Бялізна. Да лекцыі.

**Панядзелак 17 кастрычніка**

Рэпорт Doares. Гутарка з Williams Sweetcal Good King
школа — аўтобус.
В. спаткаў.

**Аўторак 18 кастрычніка**

Парад. шафу, бумагі
Гут. з Jay.
Ліст Кіры
прац. вечар

**[3-5 лістапада][1]**

---

[1] *Зацемка ў «Беларусе»:*

**КАНФЭРЭНЦЫЯ АМЭРЫКАНСКІХ СЛАВЯНАВЕДАЎ**

Беларускае пытаньне дыскутавалася між іншых у шмат якіх дакладах, як прыкладам у дакладзе пра адраджэньне расейскага (невялікадзяржаўнага) нацыяналізму, у дакладах аб эміграцыі з БССР і СССР, стратах жыхарства Беларусі ў часе 2-е сусьветнае вайны ды іншых. Апрача гэтага, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й мастацтва д-р Вітаўт Кіпель меў даклад аб беларускім друку на эміграцыі ў сэкцыі, прысьвечанай славянскаму эміграцкаму друку. Даклад гэты быў вельмі зьмястоўны, із статыстычнымі дадзенымі ды ілюстраваны прыкладамі ўзораў беларускіх кніжкаў: ад лемантара да навуковых друкаў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Вялікай папулярнасьцяй карыстаўся таксама каталёг беларускіх друкаў Інстытуту.

Нас, Беларусаў, было на канфэрэнцыі трох: д-р В. Кіпель, Зора Кіпель ды наш «ганаровы Беларус» праф. Том Бэрд, які меў тры даклады на рэлігійныя тэмы ды неаднаразова закранаў беларускую тэматыку як у сваіх дакладах, так і ў сваіх выступленьнях на іншых дакладах.

Бясспрэчна, мы шмат скарысталі з канфэрэнцыі, выкарысталі нагоду, каб раздаць сотні экзэмпляраў інфармацыйнае літаратуры пра Беларусь, ды прыемна правялі колькі дзён у гасьцінным штаце Мізуры, штаце прэзыдэнта Гары Трумэна.

Наступная канфэрэнцыя Амэрыканскае Асацыяцыі Славянаведаў адбудзецца 1-4 лістапада 1984 г. ў горадзе Нью Ёрку. Гэта нам дасьць магчымасьць узяць больш актыўны ўдзел у канфэрэнцыі, пагатоў, што ніжэй падпісаная ўвайшла ў арганізацыйны камітэт канфэрэнцыі 1984 году.

**Зора Кіпель**

*«Беларус», № 314, лістапад-сьнежань 1983*

# 1984[1]

[1] *У 1984-85 гадох Зора надалей вядзе дзёньнікі тэлеграфным стылем — увесь час аддаецца навуцы і перакладу Трыстана.*

*Пераклад Трыстана была досыць складаная праца. Перш Зора перакладала, наступным крокам было ўзгадненьне з італьянскім перакладам Згамбаці, з чым увесь час дапамагала наша старая, з 1963 году, сяброўка Кацярына Балерыні.*

## Чацьвер 19 студзеня

Прыйшоў Kasinec

## Люты[1]

[1] *Беларускае грамадзтва ўсё яшчэ перажывала гучны разгул справы Лофтуса, які абвінавачваў беларусаў у супрацоўніцтве з нацыстамі. Тым больш, што ягоная кніга «The Belarus Secret» выйшла ўжо другім выданьнем. Пра тое, што тады адбывалася, сьведчаць артыкулы Зоры ў «Беларусе» (№ 316, люты 1984):*

### АБ ДЗЕЙНАСЬЦІ АДДЗЕЛУ СПЭЦЫЯЛЬНЫХ РАСЬСЛЕДВАНЬНЯЎ

У Вашынгтоне ў Джорджтаўнскім Унівэрсытэтце адбылася 4-5 лютага сёлета канфэрэнцыя, прысьвечаная разгляду дзейнасьці Аддзелу Спэцыяльных Расьследваньняў (АСР) Міністэрства Юстыцыі ЗША. АСР вядзе судовыя працэсы супраць некаторых амэрыканскіх грамадзянаў, абвінавачаных у «калябаранцтве» з нацыстаўскай Нямеччынай у часе Другое сусьветнае вайны. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі этнічных арганізацыяў Амэрыкі (Румынаў, Немцаў, Літоўцаў, Латышоў, Эстонцаў, Украінцаў і Беларусаў), каля 50 адвакатаў ад розных адвакацкіх фірмаў, прафэсары-юрысты ды прадстаўнікі друку.

Асноўныя даклады першага дня канфэрэнцыі былі прачытаныя адвакатамі, якія вядуць абарону некаторых «калябарантаў». Гаварылі яны пра ход гэтых справаў, тактыку АСР, ягоную арганізацыйную структуру й адміністраваньне, ролю савецкіх паказаньняў, якімі карыстаецца АСР у сваіх абвінавачаньнях, стаўленьне амэрыканскіх судзьдзяў да савецкіх «сьветкаў». Як зазначаў ці адзін дакладчык, не зважаючы на тое, што АСР намагаецца прадстаўляць савецкія паказаньні як бестаронньнія, верагодныя й прымальныя, некаторыя судзьдзі ставяцца да гэтых сьветчаньняў зь недаверам.

Другі дзень канфэрэнцыі прайшоў у разглядзе спосабаў супрацьдзеяньня як паасобных групаў, гэтак і супольна, савецкім праваканцыйным абвінавачаньням у «калябаранцтве». Ведамы амэрыканскі журналіст Ўорэн Роджэрс заклікаў усе нацыянальныя пэрыёдыкі Амэрыкі й амэрыканскі друк дэмаскаваць гэтую савецкую паклёпніцкую кампанію. Дарэчы, шырака пачаў насьвятляць гэтую савецкую кампанію паклёпаў добра ведамы камэнтатар друку Патрык Б'юканан.

Удзельнікі канфэрэнцыі аднадушна падтрымалі вялікую дасюлешнюю арганізацыйную дзейнасьць кааліцыі «Амэрыканцы за Належны Працэс». Да гэтае кааліцыі належыць і Беларуска-Амэрыканская Кааліцыя Супрацьдзеяньня Паклёпам.

Ад імя ўдзельнікаў канфэрэнцыі, у тым ліку прадстаўнікоў па-над 20-х амэрыканскіх і этнічных арганізацыяў, была высланая інфармацыйная дэпэша Прэзыдэнту Рэйгану й Міністру юстыцыі ЗША.

Беларускім прадстаўніком на канфэрэнцыі быў д-р Вітаўт Кіпель.

### ДРУГОЕ ВЫДАНЬНЕ КНІЖКІ ДЖ. ЛОФТУСА

У добра ведамым брытанскім выдавецтве Пэнгўін Букс выйшла другое выданьне кнігі амэрыканскага аўтара Джона Лофтуса «Беларускі Сакрэт». Кніга, у новай мяккой вокладцы (з рысункам на ёй амэрыканскага сьцягу, на якім замест зорак нарысаваныя нямецкія свастыкі), ня розьніцца нічым ад першага выданьня. У канцы яе адно дадзены

адзін разьдзел («Постскрыптум», бб. 163-191, з датаю 19 чэрвеня 1983 г.). Бальшыня дапісанага датычыць да «Ліёнскага ката» Кляўса Барбі.

Да сваіх ранейшых «адкрыцьцяў» пра Беларусаў Лофтус дадаў новыя. Прыкладам, што М. Абрамчык быў «міністрам разьведкі й сувязным з замежнымі ўрадамі ў нацыстаўскім урадзе Беларусі» (б. 165); што (Дзяржаўны Дэпартамант ЗША) «прашмугляваў генэрала СС Кушаля ў Нью Ёрк, каб ён там кіраваў фракцыю, прыкрытую назовам Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне» (б. 166); што «практычна ўсе гісторыі, у якіх расказваецца пра нацыстаўскую акупацыю Беларусі былі выдрукаваныя ў Лёндане, а тады перасланыя ў Злучаныя Штаты» (б. 167) і да гэтага падобная лухта.

**Пятніца 23 сакавіка**

Пасьля працы паехалі ў Clev.

Затрым. ў Red Reef.

**Субота 24 сакавіка**

Прыехалі ў Cl. недзе па абедзе.

Bingo.

**Нядзеля 25 сакавіка**

Спавядалася. Сакавік.

В. меў рэф.

Выехалі каля 5-ай.

Зноў у R. R. Inn

**Пятніца 6 красавіка**

Памерла Галіна Орса

**Субота 7 красавіка**

Працавала над paper «Lancelot»

**Нядзеля 8 красавіка**

В. да Т.

Працавала над paper.

Паніхіда па Галіне. Заехалі па Юру. Пабачылі шмат знаёмых: Калоша, Рагулі.

**Пятніца 6 красавіка**

Зубы: вырвалі і ўставілі часовы. Намучылася.

Сабалевіча лекцыі ня было. Баліць галава. Другая лекцыя — зацягнуў, як заўсёды. Я чу[...]

**Нядзеля 22 красавіка**

Рабіла абед.

Ballarine

Mark

Прыехалі дзеці

**Нядзеля 29 красавіка**

На могілкі.

**Чацьвер 28 чэрвеня**

Staff meeting w Lecture — British Museum.

Мой lecture Трыстан

**Пятніца 29 чэрвеня**

Алеся прыслала кветкі.

Кветкі ад супрацоўніц.

**Нядзеля 1 ліпеня**
В. купіў срэбную пасудзіну.

**Панядзелак 16 ліпеня**
Віт. Вашынгтон.

**Аўторак 17 ліпеня**
Rex.
Дзя Ваня
Такса
фарма
ягады
зн. Нядзьвігі

**Серада 18 ліпеня**
Bel air

**Чацьвер 19 ліпеня**
Bel air

**Пятніца 20 ліпеня**
Дахаты.

**Паняделак 23 ліпеня**
Алеся
Bar NY

**Аўторак 24 ліпеня**
Ягады
Atl. City.

**Серада 25 ліпеня**
Друкав.

**Панядзелак 30 ліпеня**
На работу. Шмат працы.
К. бярэ поў-дня кожны дзень.

**Субота 4 жніўня**
Працавала

**Нядзеля 5 жніўня**
Юра паляцеў у Mexico

**Панядзелак 6 жніўня**
Ягады
Ventror

**Аўторак 7 жніўня**
Званіла ў Rutgers — яшчэ нічога

**Серада 8 жніўня**
AAA
зрабіла ціск — 140/100

**Чацьвер 9 жніўня**
Працавала над Annual Report

**Пятніца 10 жніўня**
Пазваніла ў R[*utgers*].
Юра прыехаў — пазваніў з аэрадрому. У Ratgers яму адмовілі.

**Субота 11 жніўня**
Валасы
Камкін
Спаткалі Юру
AAA
Друкавала.

**Нядзеля 12 жніўня**
Трохі парадкав.
Завезьлі Юру.

**Панядзелак 13 жніўня**
Зв. Юра — дастаўся ў Brookdale.
Юра заехаў.
Машыну на Insp.
узяў банкі для ягадаў

**Аўторак 14 жніўня**
Зь Юр'евай на абед.

**Серада 15 жніўня**
THI. Пайшла дахаты крыху раней.
Друкавала
Юра — ягады.
Зв. Алеся.

**Субота 18 жніўня**
Працавала.
Рабіла хегох бел. пэрыёдыкаў.

**Нядзеля 19 жніўня**
Алеся паехала на вакацыі ў Каліфорнію.
Канчала друкаваць К-К.

**Панядзелак 20 жніўня**
Юра ў новым шпіталі — Brookdale.

**Аўторак 21 жніўня**
В. з Шук. правяраюць К-К.
Рабіла хегох белар. пэрыёдыкаў.

**Серада 22 жніўня**
Прыехаў Prof. Helpern. Гаварылі пра Amherst.

**Чацьвер 23 жніўня**
Цэлы тыдзень В. правярае К-К з Шук[1]. Патроху зьбіралася на вакацыі.

---

[1] *Канчаткова праверагы й вычытаны тэкст бібліяграфіі «Купала і Колас на Захадзе». Апошнюю чытку рабіў Шукелойць. Інфармацыя пра друк кнігі ў «Беларусе» № 326, 1985):*

**БІБЛІЯГРАФІЯ КУПАЛЫ, КОЛАСА**

Кніжка «ЯНКА КУПАЛА Й ЯКУБ КОЛАС: БІБЛІЯГРАФІЯ» знаходзіцца ў друку й выйдзе ўлетку сёлета. Упяршыню сабраныя ў адзін бібліяграфічны даведнік аналізы й ацэны творчасьці Янкі Купалы й Якуба Коласа як беларускіх нацыянальных бардаў. Кніжка будзе мець па-над 300 бачынаў друку ды падаваць у хранаялгічным парадку (1908-1984 гг.) каля 2500 артыкулаў, зацемак, кніжак ды іншых друкаваных матар'ялаў і дакумэнтаў.

Укладальнікі бібліяграфіі Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель, карыстаючыся рэсурсамі аднае з большых бібліятэкаў сьвету — Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі, праанілізавалі беларускамоўныя друкі Нямеччыны, Францыі, Бэльгіі, Аўстрыі, Паўночнае і Паўдзённае Амэрыкі, Аўстраліі ды таксама беларускія друкі былое Польшчы, Латвіі [redacted] Літвы. Упяршыню ахопленыя гэтай бібліяграфіяй матар'ялы аб Я. Купалу [redacted] Я. Коласу ў мовах заходніх, а таксама пераклады іхных твораў у заходняэўрапейскія мовы ды мовы славянскія, зробленыя й выдрукаваныя на Захадзе. У кнізе даюцца таксама весткі аб рукапісах паэтаў ды адлюстраваньне іхнага жыцьця [redacted] творчасьці ў мастацтве [redacted] музыцы беларускімі мастакамі й кампазытарамі на Захадзе. Заключныя бачыны кнігі — гэта каляндар імпрэзаў і падзеяў, зьвязаных з паэтамі ці прысьвечаных ім у дзейнасьці беларускае эміграцыі.

Як зазначана ўва ўступе да кнігі ў ангельскай і беларускай мовах, мэта гэтае працы — ахапіць друкаваныя й не друкаваныя матар'ялы аб Янку Купалу й Якубу Коласу, якія дасюль ня былі ўлічаныя.

Бібліяграфія «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе» — выдатная крыніца для вывучэньня творчае спадчыны паэтаў, даведнік і дапаможнік у шуканьні матар'ялаў аб паэтах у беларускім нацыянальным друку й друку заходнім. Месца гэтае кнігі — у дасьледчых бібліятэках зь беларускімі калекцыямі ды ў беларускіх прыватных бібліятэках; кніга будзе таксама карыснай усім, хто цікавіцца поступам беларусаведы.

Цана на кнігу **перад выхадам — 28.50 даляра.** Цана будзе вышэйшая па выхадзе кніжкі з друку.

Чэкі й замаўленьні слаць на адрас:

Byelorussian Institute of Arts & Sci.
230 Springfield Avenue
Rutherford, N. J. 07070, USA.

### Пятніца 24 жніўня

Трохі неспакойны быў вечар — пачулі пра accident у Calif.

### Субота 25 жніўня

Прыехала Алеся. Паехалі купляць мэблю — Paterson.
Прывезьлі В. тады канапу.

### Нядзеля 26 жніўня

В. да Тум.
Усё сабрала на сьнеданьне.
Юра паехаў на працу.
Мы з А. ў swimmimg pool.
Павезьлі А. на аэрадр. Юра паехаў.

### Панядзелак 27 жніўня

Выехалі на вакацыі. Amherst. Добра папрацавалі.
Добры гатэль. Прыемная пагода.

### Аўторак 28 жніўня

Вельмі добры дзень — папрацавалі зраньня і паехалі далей.
Затрымаліся ў Owego.

**Серада 29 жніўня**
Зраньня паехалі ў Cornell U. Добрая бел. калекцыя.
Затрымаліся каля возера. Рэфэраты.

**Чацьвер 30 жніўня**
Зноў каля возера Senaka. Толькі мусілі зьмяніць пакой.
Езьдзілі ў Winery, сядзелі каля басэйну. Glen.

**Пятніца 31 жніўня**
Рана выехалі. Дарога доўгая. У Clev. а 2-ой.
Друкавалі. Адпачывалі. Гатэль добры.

**Субота 1 верасьня**
Раніцай пасьнедалі.
Прыехаў аўтоб.
Рэфэраты на Полацку. Забава.

**Нядзеля 2 верасьня**
У царкву.
Абед. В. вёў. Атрымаў ганаровы citizen.
Рабіла інтэрв. Канцэрт.
Паехалі. Машына. Затр. каля Yonge.

**Панядзелак 3 верасьня**
Паправілі машыну.
Даўгая дарога, але чуемся добра.
А 6-ай у хаце ўсё добра.

**Аўторак 4 верасьня**
Парадкавалася.
B. — Bank
Пачысьціла каўры. Бяліз.
Цэлы дзень парадкав.

**Серада 5 верасьня**
Яшчэ бялізн. Валасы.
Школа / Фр.
Добра, але зацягнуў.
Да Нядзьвіг.

**Чацьвер 6 верасьня**
Пасьнедалі.
Пагода цудоў.
На Ferry
Невялічкая праблема з Motel. Бераг.
Вяч. крабы.

**Пятніца 7 верасьня**
Пагода цудоў.
Зьмянілі матэль — вельмі добры.
Сьнедалі. Peaches. Бераг.
Вяч. Bonanza.

**Субота 8 верасьня**
Пагода як па заказу.

Бераг, купаліся, асабліва В.
Вяч. зноў Bonanza.

### Нядзеля 9 верасьня

Выехалі.
Ferry.
Нядзьвігі.
Дахаты.
Юра з моладзьдзю.
Варыла фрукты.

### Панядзелак 10 верасьня

Першы дзень на працы.
В. дома. Пачне рамонт.

### [Сьнежань][1]

---

[1] *У сьнежні ў Вашынгтоне Зора чытала даклад «Кампутар і беларуская кніга». Паводле матэрыялаў дакладу ў газэце «Беларус» (№ 326, 1985) выйшла інтэрвію:*

КАМП'ЮТАР І БЕЛАРУСКАЯ КНІГА
(Інтэрвію із сп-няй Зорай Кіпель)

**Пытаньне:** Вы нядаўна бралі ўдзел у зімовай канфэрэнцыі Амэрыканскай Бібліятэчнай Асацыяцыі ў Вашынгтоне ды рабілі там даклад пра стан каталягізацыі на камп'ютары кірылічных друкаў у Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы. Мы прасілі-б Вас расказаць чытачом «Беларуса» пра камп'ютарнае каталягаваньне беларускае кнігі.

**Адказ:** Камп'ютарная тэхніка сёньня ўвайшла глыбака й сталася неадлучнай часткай амэрыканскае бібліятэчнае сыстэмы. Камп'ютары ўвайшлі ў штадзённае жыцьцё ня толькі ў каталягаваньні кніжак, але і ў працэс замаўляньня публікацыяў ды ў здабываньне тэматычнае інфармацыі. Я затрымаюся толькі на працэсе каталягізацыі кірылічных друкаў з прыкладамі й праблемамі кніжак беларускіх.

Камп'ютар — вельмі важны дапаможнік каталягізатару, хоць, праўда, не ўва ўсіх бібліятэках, бо традыцыйны спосаб каталягаваньня, картачкавы, яшчэ вельмі шырака ўжываецца па меншых бібліятэках.

У вялікіх-жа бібліятэках, гэткіх як нашая, каталягізацыя камп'ютарызаваная. Першы крок каталягізатара з новай кніжкай у руках — праверыць, ці кніга гэтая не закаталягаваная ўжо ў якой-небудзь іншай бібліятэцы, якая належыць да тае самае камп'ютарнае сыстэмы. Нашая Ньюёркаўская Публічная Бібліятэка зьвязаная праз камп'ютарную сыстэму RLG-RLIN (група навукова-дасьледніцкіх бібліятэкаў і камп'ютарная сыстэма АРЛІН) з больш як 60 буйнейшымі бібліятэкамі Амэрыкі. У выпадку, калі дадзеная кніга ўжо закаталягаваная ў якой-небудзь зь іх, дык інфармацыю пра яе можна ўзяць ужо гатовую з камп'ютара, поўнасьцяй або часткава, дапасоўваючы да вымогаў свае бібліятэкі. Калі-ж у камп'ютарнай сыстэме пра дадзеную кніжку яшчэ нічога няма, дык трэба правесьці першапачаткавую каталягізацыю.

**П.:** Ці ўсе бібліятэкі карыстаюцца тым самым мэтадам падаваньня ў камп'ютар інфармацыі пра беларускую кніжку?

**А.:** У асноўным — так. Але ёсьць розьніца ў дэталях, таксама як і пры каталягаваньні картачкавым: па-рознаму робіцца трансьлітарацыя; кожны каталягізатар можа мець свой пагляд што да тэмы дадзенае публікацыі; некаторыя бібліятэкі падаюць інфармацыю пра беларускую кнігу на базе расейскае мовы.

**П.:** Ведама, што вашынгтонская Кангрэсавая Бібліятэка данядаўна ішла наперадзе ў камп'ютарным каталягаваньні кніжак. Ці яна й надалей у авангардзе?

**А.:** Ня зусім так. У дачыненьні да беларускае кнігі на першае месца выйшлі цяпер, бадай, мы, гэта значыць Ньюёркаўская Публічная Бібліятэка. Шмат робяць таксама

ў камп'ютарным каталягаваньні беларусікі бібліятэкі Мічыганскага, Станфардзкага, Каліфарнійскага ды Прынстанскага ўнівэрсытэтаў.

П.: Якія галоўныя праблемы ў камп'ютарызаваным каталягаваньні беларускае кнігі?

А.: Трэба памятаць, што камп'ютары ў бібліятэках — зьява параўнальна новая. Нашая бібліятэка, прыкладам, увяла камп'ютары толькі ў 1972 годзе. Запас камп'ютарызаванае інфармацыі пра беларускія выданьні яшчэ ня вельмі вялікі.

Праблему становіць трансьлітарацыя. У канцы 1970-х гадоў Ньюёркаўская Публічная Бібліятэка распрацавала адмысловую камп'ютарную трансьлітарацыю кірылічнага шрыфту. Але нашая бібліятэка тымчасам адзіная, якая карыстаецца гэтай сыстэмай.

П.: Якая інфармацыя запраўляецца ў камп'ютар пры каталягаваньні беларускіх кніжак?

А.: Нашая бібліятэка падае інфармацыю — па-беларуску — пра аўтара, месца выданьня, выдавецтва. Але паколькі некаторыя іншыя бібліятэкі ўжываюць расейскую базу, гэта стварае разнабой, няспрыяльны пасьля ў шуканьні інфармацыі.

П.: А як наконт ангельскага перакладу слова «Беларусь»?

А.: Ад нядаўнага часу мы пачалі ўжываць Byelorussia/Byelorussian заміж ранейшага White Russia/White Russian. Бальшыня амэрыканскіх бібліятэкаў таксама карыстаецца тэрмінам Byelorussia.

П.: Якая будучыня беларускай кнігі ў амэрыканскіх бібліятэках?

А.: Будучыня, ■ сказала-б, куды лепшая за мінуўшчыну. Дзякуючы камп'ютарам, інфармацыя будзе ўсё хутчэйшая, паўнейшая, і лягчэйшая да атрымваньня. У некаторых вялікіх бібліятэках Злучаных Штатаў калекцыі беларусікі растуць вельмі інтэнсыўна. Да гэткіх бібліятэкаў належыць перш-наперш нашая. Паміж Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкай і бібліятэкамі Беларусі цяпер наладжаны шырокі кнігаабмен. Мы дастаём рэгулярна ўсе беларускія выданьні зь дзялянак літаратуры, моваведы, гуманітарных навукаў, мастацтва, этнаграфіі й фальклёру, геаграфіі ды часткава тэхнічных навукаў. Ньюёркаўская Публічная Бібліятэка зьбірае таксама ўсе замежныя выданьні пра Беларусь, у тым ліку эміграцыйныя. Нашая мэта — стварыць адну з найбольшых калекцыяў беларусікі ў заходнім сьвеце.

П.: Калі цяпер «папытацца» ў Вашага камп'ютара: пра колькі беларускіх кніжак ён можа даць інфармацыю? Што ён адкажа?

А.: Перад тым як гаварыць з Вамі, ■ зрабіла гэткі экспэрымэнт. Адказ быў: 585 кніжак у беларускай мове, 35 — у расейскай, 97 у ангельскай.

П.: Якія гэта кнігі? Пра што яны?

А.: Гэта будзе ў асноўным даведніцкая літаратура пра Беларусь: энцыкляпэдычныя выданьні, бібліяграфіі, слоўнікі, творы клясыкаў, шматтомавыя выданьні беларускіх пісьменьнікаў — тое, чым наведвальнікі бібліятэкі найбольш карыстаюцца.

Працэс каталягізацыі адбываецца, на жаль, куды павальней як гэта хацелася-б. На чарзе ляжаць тысячы незакаталягаваных публікацыяў, бязумоўна, ня толькі беларускіх, і некаторым зь іх давядзецца ляжаць яшчэ год ці два, пакуль яны будуць закаталягаваныя, пакуль інфармацыя пра іх будзе запраўленая ў камп'ютар. Але затое інфармацыя, якую камп'ютар ужо мае, вельмі аблягчае бібліятэкару й чытачу карыстацца бібліятэчным багацьцем.

**Серада 5 сьнежня**

last class

**Панядзелак 10 сьнежня**

last class

**Панядзелак 17 сьнежня**

Здала paper French

Такса

Падарункі

Нядзьвігі

Яблыкі

**Субота 22 сьнежня**
Віт. прыкончыў лівінг

**Нядзеля 23 сьнежня**
Купілі Елачку. Прыбралі.

**Панядзелак 24 сьнежня**
Прыбіралі
Падарункі
Прые. А.
Зоя

**Аўторак 25 сьнежня**
Прыехалі Юра-Lorrain
Richard
В. прывёз Зою і Сажыча.
Вельмі прыемна правялі дзень.

**Серада 26 сьнежня**
Паехалі на працу з Зояй.

**Субота 29 сьнежня**
Працавала
Усё спакойна

**Панядзелак 31 сьнежня**
А. недзе ў N.Y.
Ю на Times Sq.
Мы дома.

## *1985*

**Аўторак 1 студзеня**
Вельмі спакойны працавіты дзень.

**Серада 2 студзеня**
На працу. Працую над Bel. book study.

**Чацьвер 3 студзеня**
Lecture — Standard Cyrillic key. Вельмі для мяне добра перад канф.

**Пятніца 4 студзеня**
Гаварылі з Williams пра кампут. кат. для W.

**Субота 5 студзеня**
Закупкі. Завіўка.
Варыла, пякла.

**Нядзеля 6 студзеня**
Куцьця.
А. прыехала
Юра з Lorrain
Вельмі ўсё было смачна

Ю. у Мэксыку
Паехалі ў W.
Зат. у Hol. Inn.

**Панядзелак 7 студзеня**
Я на канф. В. у LC.
Report — добра.
З А. на вячэру. Адпачывалі.

**Аўторак 8 студзеня**
У L.C. бачыла Kraus
Dorothy Gregor
Wlada Koziebrodska
Папрацавалі.
Дахаты.

**Серада 9 студзеня**
На працу. Учора памёр GE бацька.
Залагодзілі з рахункамі за W. A. — ліст з грашыма.
Прац. над рэпортам.
Пры. Юра.

**Чацьвер 10 студзеня**
Дома. Grades.
Вагаліся ці рабіць Panel у Tel Room. Вырашылі маляваць.
Працавала над paper.
Купілі Curio.

**Пятніца 11 студзеня**
На працу.

**Субота 12 студзеня**
Зав. М. В. падарунак.
Юра калядаваў.

**Нядзеля 13 студзеня**
Юра прыехаў — на вясельле
Зв. Алеся.

**Панядзелак 14 студзеня**
Пачалі дыету 173.
Дз. нар. М. В.

**Аўторак 15 студзеня**
Дома. Працую над Paper.

**Серада 16 студзеня**
Скончыла Paper.
Скрабалі падлогу.

**Чацьвер 17 студзеня**
В. працуе.
Памазала падлогу.
Адпачыв.
Бялізну.

Пайшоў сьнег.
Хлопцы пачысьцілі.

**Пятніца 18 студзеня**
В. працуе.
Памазала падлогу другі раз.
Нічога надта не рабіла.

**Субота 19 студзеня**
Ю працуе.
Зраб. валасы і пакупкі ў So. R., на куцьцю не паехалі.

**Нядзеля 20 студзеня**
Дома. В. выканчвае пакоі
Зьезьдзілі ў магазын

**Серада 1 траўня**
В. Jury
Paper
McCormick

**Чацьвер 2 траўня**
Test — Wilh.

**Субота 4 траўня**
Парадкав.
Paper

**Нядзеля 5 траўня**
Paper

**Панядзелак 6 траўня**
Paper

**Аўторак 7 траўня**
Paper

**Серада 8 траўня**
В. Jury.
Tom прав. paper.
Я — ў школу

**Чацьвер 9 траўня**
Надсон

**Пятніца 10 траўня**
Здала «Paper» для друкаваньня.
Пачаў балець зуб.

**Субота 11 траўня**
Вельмі баліць зуб.
Спатканьне з Надсонам у Нью Ёрку. Ахвяра $200.

**Нядзеля 12 траўня**
Баліць зуб.
Прыехалі дзеці.
Хадзілі на абед.

**Панядзелак 13 траўня**
V. Wash.
Дэнтыст.
Сакратарка пачала друк.
Прыходзіў Надсон.
Пайшла дахаты раней.

**Аўторак 14 траўня**
Засталася дома. Чуюся крыху лепей.
Езьдзілі па пакупкі.

**Серада 15 траўня**
B. Jury. Купіла цукеркі для сакр.
Princeton
У J.J. B+
Здала paper.

**Чацьвер 16 траўня**
Пайшла на працу, бо шмат трэба залагодзіць перад К[*арэсаравым*] выездам.

**Пятніца 17 траўня**
К. усё яшчэ ня мае візы.
В. да Тома.

**Субота 18 траўня**
working
К. паехаў (апошні дзень на працы)

**Нядзеля 19 траўня**
Памыла бялізну.
Washington
Прыехалі каля 4-ай.

**Панядзелак 20 траўня**
Washington
Мая канфэр. пра Sov set
Камкін
З Алесяй
Адпачывалі

**Аўторак 21 траўня**
Паехала назад. В. яшчэ ў W.
Шмат працы
Дэнтыст.
Дождж вялікі.
Зв. В., Дз. В., Ю.

**Серада 22 траўня**
На працы крыху спакайней.
В. прыехаў з Вашынг.

**Чацьвер 23 траўня**
На працы нейк хаатычна. К. шмат глупства нарабіў.

**Субота 25 траўня**
В. працуе.
Завіўка.
Падарун. В.
чуюся прастудна

**Нядзеля 26 траўня**
Дом
чуюся няважна
Сядзела трохі на двары. Зв. К.
Рыхтав. «рарег» для моладзі

**Панядзелак 27 траўня**
Дома.
Сядзела на двары. Пачала чытаць для экзамэнаў.

**Аўторак 28 траўня**
Надта занят. на працы.
Друкав. «рарег».

**Серада 29 траўня**
В. на Jury.

**Чацьвер 30 траўня**
В. дзень нар.
Езьдзілі на фарму.
Ягады.
Нядзьвігі
Цудоўны дзень

**Пятніца 31 траўня**
Спаткалі Юру.
Lecture
абедалі разам
лекцыя прайшла добра.

**Субота 8 чэрвеня**
Прыязджала Алеся. Мы зь ёй езьдзілі купляць шмат.

**Нядзеля 9 чэрвеня**
Пачала працаваць над index для К.-К.

**Панядзелак 10 чэрвеня**
Юра нас спаткаў з працы.

**Аўторак 11 чэрвеня**
Юра мае экзамэн.

**Серада 12 чэрвеня**
Ю. экзам.
па абедзе
едзе ў Мех.
В. Jury

**Чацьвер 13 чэрвеня**
Засталася дома.
Купіла В. кашулю
сабе блюзкі

**Субота 15 чэрвеня**
В. працуе
Езьдзіла ў магазын — купіла басаножкі

**Нядзеля 16 чэрвеня**
Пазванінла А. прывітаць В.
Я дала В. кашулю

**Серада 19 чэрвеня**
В. Jury.
Прыехаў Касінец
Хадзіла па кніжкі —
нічога Ад
Mc.Cor. B.

**Панядзелак 26 жніўня**
Amherst

**Аўторак 27 жніўня**
Amherst

**Серада 28 жніўня**
Працуем кожны сабе

**Чацьвер 29 жніўня**
Я — чытаю
В — піша

**Пятніца 30 жніўня**
В. апошні дзень на працы.
Схадзіла на працу.

**Нядзеля 1 верасьня**
Зв. Надзя.
Дала Галіне намітку.
БАЗА
малітва за студэнтаў

**Панядзелак 2 верасьня**
Дома чытала

**Аўторак 3 верасьня**
В. радыё
Дома чытала
падрыхтавала notes для школы

**Серада 4 верасьня**
В. аддаў Ґаліне кніжку
Горача
Школа
Паехалі ў Delaware

**Чацьвер 5 верасьня**
Раніцай на беразе. Горача.
У школу. Назад у Delaware.

**Пятніца 6 верасьня**
Сабралі ябл.
Цэлы дзень на беразе. Горача.

**Субота 7 верасьня**
Цэлы дзень на беразе.
Узялі парасон — горача
фэстываль

**Нядзеля 8 верасьня**
Сабралі яблыкаў
На Fairy
Д. Ваня. Хата
Ю. на фэстывалі.

**Панядзелак 9 верасьня**
В. да Зап.
На працу.
Касінца няма цэлы месяц.
Валасы.
Шмат працы

**Аўторак 10 верасьня**
В. у радыё.
Спаткаліся з Галінай.
Юра прыехаў.

**Серада 11 верасьня**
У школу не паехала
meeting

**Чацьвер 12 верасьня**
В. пачаў рамонт наверсе.
Школа

**Субота 21 сьнежня**
Падлога.
Купілі runner
Юра й Lorrain
Езьдзілі па пакуп.

**Нядзеля 22 сьнежня**
падлога
Пры. Юра
Купілі ялінку.

## 1986

**Серада 1 студзеня**

Першы дзень Новага году прайшоў вельмі звычайна. Адпачывалі, працавалі. Сапраўды нічога асаблівага, толькі што дома.

В[*ітаўт*] яшчэ парадкуецца з рамонтам.

**Чацьвер 2 студзеня**

В[*ітаўт*] паехаў у радыё. На рабоце ўсё спакойна.

Пазваніў а. Надсон, што памёр біскуп Тарасэвіч[1]. Ён прыедзе на паховіны.

---

[1] *Пад канец 1985 году — у другой палове сьнежня — я быў у Чыкага ў сувязі з справай Аддзелу спэцыяльных расьсьледаваньняў сярод усходнеэўрапейцаў. Такую зборку склікалі літоўскія адвакаты. Я насьвятліў справу беларускіх «падсьледных». Будучы ў Чыкага, пазваніў біскупу Тарасэвічу — у нас зь ім былі вельмі добрыя дачыненьні, — біскуп сказаў, што ён цяжка хворы, але ня падае духам і моліцца. Калі я сказаў, па якой я справе ў Чыкага, біскуп Тарасэвіч адказаў: мы ўсе молімся за памыснае скончэньне гэтае справы. Гучаў ён вельмі бадзёра і абнадзейвальна, асабліва калі я абмяркоўваў зь ім пабудову «Нацыянальнага Беларускага Алтара» ў Вашынгтонскай Катэдры.*

**Субота 4 студзеня**

Раніцай зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну — уся суботняя працэдура. Паехалі купіць маку. Наш магазын быў закрыты. Шукалі па цэлым Пасэйку — нарэшце знайшлі ў Украінцаў. Закупілі трохі іншых рэчаў.

Парадкаваліся.

**Нядзеля 5 студзеня**

З раніцы парадкаваліся. Пасьля паехалі на рынак. Зрабілі закупы для куцьці.

Пякла макаўку.

Пакрыла сходы лакам.

**Панядзелак 6 студзеня**

В[*ітаўт*] паехаў у Радыё. Я засталася дома. Цэлы дзень вазілася зь ядой.

Пакрыла лакам сходкі другі раз.

Прыехаў Юра з Лорэйн. Яго машына стала. Добра, што каля самай хаты.

Павячэралі. Усё было добра, але троху сьпяшаліся, бо ведалі, што трэба будзе іх яшчэ завезьці ў Brooklyn.

Завезьлі іх. Скінулі Лорэйн спачатку, ды павезьлі Юру далей. Ён жыве не ў благім раёне. Мы яшчэ там ня былі ні разу. Я зайшла да яго — паглядзець кватэру. Ня дрэнны пакойчык — у падвальным памешканьні. Але чысьценька й прасторна.

Даехалі добра назад, але ўжо добра стомленыя былі.

**Аўторак 7 студзеня**

Сёньня паховіны а. Тарасэвіча.

Я на працу. На працы ўсё добра. Пару асобаў узялі вольныя дні для Сьвята.

В[*ітаўт*] завёз машыну Юраву [*ў гараж*] да Коленса, [redacted] нашую для папраўкі пасьля тога невялічкага выпадку ў Нью Ёрку, калі В. ехаў па Сянькевіча.

В. спаткаў мяне каля аўтобуса. Яму баліць зуб. Павячэралі — я трохі адпачыла і кончыла лакіраваць.

**Серада 8 студзеня**

На працы ўсё добра.

Машыны яшчэ не гатовыя.

В[*ітаўту*] усё яшчэ баліць зуб.

Пазванілі да а. Надсона ў Чыкага. Ён, можа, прыедзе на зборку з моладзьдзю.

**Чацьвер 9 студзеня**

Ехалі разам у Нью Ёрк. В[*ітаўт*] ехаў у радыё [*«Свабода»*].

Касінец паехаў дахаты раней — нешта ў яго з бацькам.

**Пятніца 10 студзеня**

Забралі машыну — як новенькая. Яны яшчэ пачысьцілі, дык так прыгожа, чысьценька выглядае.

**Субота 11 студзеня**

Пасьля сьнеданьня паехалі купляць кавёр для T.V. [*пакою*]. Купілі добры. Самі паклалі. Вельмі добра выйшла — мы ўжо зусім экспэртамі сталі ў дэкараваньні й рамонтах.

**Панядзелак 10 сакавіка**

Цэлы дзень амаль патраціла на росшукі Славікавай просьбы[1]. Вельмі цікава. Толькі ў нашай бібліятэцы можна штосьць падобнае расшукаць. Сапраўды «detective work». Але здаецца, што натрапіла на канцы.

Нічога больш цікавага не прыпамінаю. Працавала над Трыстанам у абед і вечарам.

---

[1] *Славік Шабовіч. Шукалі геаграфію яго мясцовасьці.*

**Аўторак 11 сакавіка**

У аўтобусе едучы напісала ліст да Славіка. Прыйшоўшы, адразу-ж пазваніла да Баларыны. Праверылі ліст і невялічкую частку Трыстана. Ня было ўмоваў. Мусіць, мне трэба спыніць хадзіць да яе ў аддзел. Я вычуваю, што й яна ня зусім добра чуецца.

У абед працавала над Трыстанам.

Па абедзе была зборка — здаецца, атрымаем «грант» на каталягаваньне кірылічнага «backlag»[1]. Было-б вельмі добра. Я тады пастараюся ліквідаваць усё беларускае занядбанае.

Вечарам пазванілі Баларыне і дамовіліся, што прыедзем да яе дахаты, каб праверыць Трыстана.

Працавала над Трыстанам, каб як мага больш зрабіць да заўтрага.

---

[1] *Грант быў атрыманы на зьліквідаваньне залегласьці ў каталягізацыі. Было таксама закаталягавана некалькі сот малых беларускіх кніжачак — з БССР і эмігранцкіх.*

**Серада 12 сакавіка**

Прыехала на работу крыху раней — купіла тое-сёе для сябе, і вінагараду для Баларыны. Працавала ў абед для сябе — перакладала. Па абедзе нічога цікавага не прыпамінаю. Едучы назад у аўтобусе, яшчэ перакладала, каб больш праверыць.

Павячэралі й паехалі да Баларыны. Тут толькі я заўважыла , што ня ўзяла з сабой вялікай часткі перакладу — ляжаў на маім стале. Добра, што трохі пераклала й на рабоце й у аўтобусе — хоць троху было ёй праверыць. Але шкада захаду. Прыехалі дахаты ня позна — я яшчэ троху перадрукавала, што было праверана.

Ага, прыпомніла, што Soucek[1] пераглядзеў пераклад тытульнай старонкі. Ён згаджаецца, што пра друкара неяк заблытана напісана й можна разумець па-рознаму.

---

[1] *Souček — чэх, прыяцель, працаваў ў Бібліятэцы. Вучыўся ў Лювэне. Жыве ў Princeton.*

**Пятніца 14 сакавіка**

Выслала ліст Славіку Шабовічу — Pauline[1] добра перадрукавала.

Па абедзе была добрая навіна — атрымалі «Title II grant» для каталягаваньня пэрыёдыкаў і папаўненьня калекцыі. Касінец вельмі задаволены — для яго гэта палітычна важна. Я задаволеная, бо можа ўдасца трохі беларускага чагосьць набыць.

Была палучка, дык мусіла ў абед схадзіць у банк. Вельмі мала працавала для Трыстана.

Вечарам таксама нічога не рабіла — была даволі стомленая. Баліць палец — мусіць, прыйдзецца зноў рабіць апэрацыю. Пазваніў Юрачка — прыедзе заўтра.

---

[1] *Сакратарка ў Славянскім аддзеле.*

**Пятніца 21 сакавіка**

Вельмі заняты дзень.

Раніцай мелі паседжаньне пра каталёгаваньне нашага «backlog»[1]. Пазьней рабіла «Новые книги»[2]. Неяк было хаатычна, але чулася добра, бо наперадзе паездка.

Выйшла з працы пасьля 2:30. Купіла яшчэ булачкаў у дарогу[3].

З аўтобусу адразу пайшла рабіць прычоску. Выехалі хутка пасьля 5-ай.

Дарога была добрая адразу, а пазьней на 80-цы сапсулася, і мы ўжо пачалі нецярплівіцца, але хутка — за Dover разчысьцілася і далей ехалася прыемна. Затрымаліся ў Dannville у Quality Inn. Вельмі добра й танна. Павячэралі й адпачывалі. Пагода прыемная, але холадна.

---

[1] *«Залежы», праца, якую не пасьпелі дарабіць.*

[2] *Адзіны падборачны пэрыядычны каталёг для тэрыторыі СССР, які прыходзіў з Масквы.*

[3] *Зьбіраліся ехаць у Кліўленд.*

**Субота 22 сакавіка**

Прачнуліся рана. Прахладна, але сонечна, ясна. Сабраліся й паехалі. Затрымаліся пасьнедаць пасярэдзіне дарогі на Plaza, праехаўшы якуюсь гадзіну.

Ехалася добра.

Прыехалі ў Кліўленд недзе пасьля 1-ай. Трохі пагаварылі з Сяргеям — Калоша недзе паехаў. Пасьля яны пачалі зьбірацца на «бінго», а мы з Калошам паехалі да Кахаnoўскіх. Вельмі прыемна правялі час. Шмат аб чым пагаварылі. Па-першае, дамовіліся пра кнігу Іны Ів.[1] — Інстытут бярэцца яе выдаць у сэрыі «Паэты і пісьменьнікі». Расказвалі яны пра свае хваробы. Выглядаюць даволі добра, але ўсё-ж хваробы сур'ёзныя. Шмат расказвалі пра Менск у 20-х гадох і пазьней. І. І. ведала Бібілу й, зразумела, Улашчыка. Трохі дэталяў дадалі. Бібіла была вельмі добрая, чулая жанчына — памагала, апекавалася ёй. Сіманоўскі, яго знаў Каханоўскі, быў жыд, працаваў у Наркампросе. Пра Ластоўскага яна нічога больш не дадала. Шмат расказвала пра Купалу й Купаліху. В[*ітаўт*] і Калоша паехалі пад царкву, а я зь імі цэлы вечар пабыла. І. І. дала сваю фатаграфію. Прыехалі на «Полацак» ужо каля 11-ай. Хутка й спаць пайшлі. Сабралі яшчэ матар'ял для выстаўкі.

---

[1] *Іна Іванаўна Каханоўская-Рытар — Аляксандра Саковіч.*

**Нядзеля 23 сакавіка**

Хадзіла да споведзі.

Падчас службы спусьцілася ў залю й наладзілі з Оляй Кабяка выстаўку. Лёля Міхальчык зрабіла мне яйкі — купіла 4. Купіла таксама й лялькy ў яе.

Акадэмія й абед прайшлі вельмі добра. Шмат людзей — зашмат ужо, можа, для гэтай залі. Былі заўсёдныя: Banutti, Pape, Perk[1], прадстаўнікі ад украінцаў, палякаў, эстонцаў, сэрбаў. (Служыў разам з Страпко сэрбскі сьвятар — прыемна было пачуць сэрбскую мову). Вітаўтаў рэфэрат быў добры. Наагул усё прайшло на ўзроўні, апрача, можа, канфэранс'е — Бакуновіч — быў трохі не на месьце. Усе былі

задаволеныя нашым прыездам — толькі Белямук хадзіў, як чорная хмара. Нешта ён зусім ня цікавы зрабіўся, амаль неўраўнаважаны. Перажывае, мусіць, нейкія камплексы й праблемы. Усё стараецца недзе перадаць сваю бібліятэку. Нічога ня хоча мець з Полацкам супольнага. Нават шкодзіць. Але, праўда, ні яго ніхто ні слухае, ні баіцца, ні ўплыву ён там ня мае.

Выехалі каля 5-ай. Стрэчані падрыхтавалі нам у дарогу ўсяго (і сялёдку, як заўсёды). Ехалася добра. Затрымаліся ў тым самым мейсцы. Добра аддыхнулі. Павячэралі.

---

[1] *Прафэсар Кліўлендзкага ўнівэрсытэту Карл Бануты — славенец, прафэсар унівэрсытэту Джона Карала Майкл Пап — украінец, былы мэр Кліўленду Ралф Пэрк — паходжаньнем чэх.*

**Панядзелак 24 сакавіка**

Раніцай ня сьпяшаліся. Пасьнедалі пры матэлі. Выехалі недзе ўжо каля 10-ай. Надвор'е надзвычайнае — сонечна, ясна — па-вясноваму. Ехалася вельмі добра. Па дарозе яшчэ сталі, набралі трохі каменьня для градкі каля вэранды.

Прыехалі дахаты а 1-ай. Цяпер толькі адчулі стамленьне. Нічога ўжо не магла рабіць толькі распакаваліся й адпачывалі.

Пазваніў вечарам Юрачка. Расказваў, як было на сьвяткаваньні ў New Brunswick. Там прайшло ўсё добра, праўда, ня было нікога з палітыкаў, але затое была журналістка й рабіла рэпартаж зь Юрам. Пасьля яны ўсе паехалі (моладзь, пераважна) ў South River і там таксама танцавалі. Вельмі іх добра прымалі. Званіў таксама Шук[*елойць*] — ён менш энтузыястычна адзываўся аб сьвяткаваньні — (фактычна Шук. званіў першы — і нашае першае ўражаньне было праз яго) — казаў, што было нудна. Арганізатарамі былі Азарка, Вячка, Рая, адным словам, маладзейшыя. Званіў таксама Васіль Мельяновіч — ён таксама быў дакладчыкам. Усе гэтыя рэпорты былі розныя. В[*ітаўт*] пазьней пазваніў Русаком — і зноў іншае ўражаньне.

**Аўторак 25 сакавіка**

Назад да руціны, да будняў.

Нічога надта цікавага не прыпамінаю. Думала, што Касінца ня будзе — так ён казаў перад выездам — аж ён тут. Спадзявалася трохі для сябе парабіць, але ня было шмат часу.

Вітаўт таксама ў Нью Ёрку, робіць рэпартажы аб сьвяткаваньні. Запруднік цяпер зусім ужо ня прыходзіць на працу — сядзіць пры Олі. Дай Божа, каб усё было памысна для іх.

Rodney Philips атрымаў пазыцыю Jay'я[1]. Сказала гэта Касінцу — ён яшчэ ня ведаў. Мы даведаліся ад Ballarine, а яна ад Giovanni. (Яшчэ прыпомніла, што гаварылі ўчора зь ёй — дамовіліся на абед на Вялікдзень).

Пазваніў Юра. Тое, што запісала ўчора, — адносіцца сюды. Цяпер

прыпомніла, што да Юры ўчора не дазванілася, — ён быў на дыжуры. Ён прыедзе ў суботу.

---

[1] *Бібліятэчныя пэртурбацыі: Родні Філіпс, наш добры сябра, быў загадчыкам Агульнага аддзелу — вялікая пасада, — [illegible] стаў яшчэ «вышэйшым». Добра разумеў «беларускае», у яго ў крыві індзейская прымешка.*

**Серада 26 сакавіка**

Зноў будні. Шмат працы — беганіна. Касінец скача ўсё. [illegible] трохі крыўдавала на яго, што ён даў Наташы правяраць «Новыя кнігі». Ён, як заўсёды, выкруціўся, што яна толькі тэхнічна адзначае і ставіць свае ініцыялы.

Па абедзе была зборка з Doares — трата часу.

Вітаўт зноў у радыё.

Касінец сказаў мне, што Аліна прыслала афіцыйную рэзыгнацыю. Добра й гэта для Румяны.

Званіла Юля [*Андрусышына*] вечарам. Пыталася пра тыя калядныя шарыкі, што некалі дала нам. Хоча таксама нашую кнігу[1]. Цяпер яна вельмі перайmaецца пласьцінкамі. Казала, што спадзявалася больш прадаць на сьвяткаваньні.

---

[1] *Бібліяграфію.*

**Чацьвер 27 сакавіка**

На рабоце ўсё спакойна. Наташы няма. Таня прыйшла хрыплая — яна ўжо колькі дзён мела нейкую сыпку на твары. Я ёй адразу-ж сказала ісьці да сястры. Аказалася кор. Адправілі яе дахаты. Каб хоць ніхто не заразіўся.

Спакойна працавалася. Трохі зрабіла для сябе. Напісала для Трыстана.

Вітаўт у радыё.

Сказала Румяне, што Аліна ня прыходзе назад. Яна была вельмі задаволеная.

**Пятніца 28 сакавіка**

Вельмі добра даехала — зусім ня было трафіку. Прыйшла на працу а 9-ай. Схадзіла ў банк.

Касінца амаль цэлы дзень ня было — на паседжаньнях, а пазьней і зусім пайшоў, — дык я добра для сябе зрабіла. Ballarine паправіла ліст да Ülle Lewis і апісаньне Трыстана.

Вітаўт сёньня дома — парадкаваў у хаце. Вячэралі сялёдкай і бульбачкай.

Вечарам яшчэ трохі папрацавала для сябе.

**Субота 29 сакавіка**

Ізноў я са сваёй старой парыкмахершай — яна была хворая. Пішу

дзёньнік пад сушылкай — гэта для мяне добры час, каб запоўніць прапушчанае.

Пасьнедалі. Памыла бялізну. Хутка прыехаў і Юра. Падарунак яму вельмі спадабаўся — торба, што Алеся некалі купіла. Далі яму таксама $100 і бабка дала нешта. Ён задаволены, толькі стомлены. Паехалі зь ім па пакупкі. Заехалі ў пару мейсцаў для мяне. Купілі тое-сёе з дробязі і туфлі. Купілі бабцы тэлевізыю каляровую, і ■ сабе купіла радыё з істужкай.

В. паехаў у Нью Ёрк спаткацца з Bird, каб праверыць падрыхтаванае ўжо для «Беларусаў у Амэрыцы»[1]. Павячэралі ўсе разам і Юрачка хутка й паехаў. Ужо нічога не рабіла — надта неяк стамілася. Вельмі было горача (каля 80°), як езьдзілі.

В[*ітаўт*] яшчэ крыху працаваў. Пайшлі спаць ня позна але каля 3-яй нехта пазваніў[2]. Разьбіўся сон на пару гадзін. Мне яшчэ трохі жывот баліць.

---

[1] *З Томасам Бэрдам абмяркоўвалі тэкст для кнігі «Беларусы ў ЗША».*

[2] *Пазваніў колішні блізкі сябра Сяргей Казакоў — цяпер працаваў у сыстэме ДзяржДэпартамэнту ў Кеніі — прасіў, каб пазычылі заўтра ягонаму сябру-індусу, які з Кеніі прыедзе ў ЗША, тысячу даляраў, ■ Сяргей потым верне.*

**Нядзеля 30 сакавіка**

Раніца прыгожая. Прачнулася рана — чуюся трохі стомлена, — ноч была не спакойная.

Пасьнедалі. Усе магазыны вакол закрытыя. В[*ітаўт*] купіў булачак недзе ў Rutherford на Park Ave. Пасьля вазілася з вазонамі. Перасадзіла вялікі вазон. Нешта не шанцуе мне з мамінымі кветачкамі — можа ўжо вырадзіліся, а можа нейкая хвароба.

Трохі папрацавала з Трыстанам.

Прыехала Ballarine каля 2-й. Яшчэ трохі пасядзелі, выпілі перад абедам. Паехалі ў рэстаран — Robin Hood. Там трохі прыйшлося чакаць, але абед быў вельмі добры. Прыемна правялі час.

Заехалі яшчэ да нас. Зноў узялі па чарцы лікёру. Праверылі трохі (што я пасьпела зрабіць) Трыстана. Нарвалі Бал[*ерыне*] фарсыцыяў. Я ўжо адпачывала — была даволі стомленая пасьля ўсяго гэтага.

**Панядзелак 31 сакавіка**

На рабоце ўсё добра. Касінца ня было цэлы дзень. Шмат зрабіла для сябе. Напісала ліст у Трыстан Society[1]. Пазваніла Fizer[2] — дамовіліся спаткацца заўтра.

В[*ітаўт*] у радыё. Запруднік ужо цэлыя дні сядзіць пры Олі.

В. папрасіў Шук[*елойця*] прынесьці Данчыкаў tape. Перадрукавала астатняга Трыстана. Вечарам рыхтавалася да Fizera.

---

[1] *Tristan Society — Зора зь імі кантактавала, шмат дала інфармацыі пра Беларусь. Гэта міжнародная асацыяцыя з прадстаўніцтвамі ў розных краінах.*

[2] *Fizer — прафэсар літаратуры ў Rutgers русінскага паходжаньня, пераглядаў Трыстана і падтрымоўваў Зору.*

**Аўторак 1 красавіка**

Раніцай паехалі ў Rutgers. Fizer ня быў гатовы з папярэднім матар'ялам. Аддала яму 25 б. — цяпер уся разам ад пачатку. Дамовіліся спаткацца недзе пры канцы красавіка.

Запісалася на два курсы. Прыйшлося ехаць у Bush Campus[1] — было ўжо за позна тут. Усё добра справіліся.

В[*imaўm*] спусьціў мяне пры канцы Orient way. Я яшчэ доўга чакала аўтобуса, але прыехала добра. Трохі ўжо, праўда, стамілася.

В. заходзіў у бібліятэку. Вечарам як будзе з машынай — возьмем.

В. усё наракае, што ня можа дабіцца да Бартуля, каб дастаць грошы ад Крычэўскага на друк.

---

[1] *Частка ўнівэрсытэту, але за горадам.*

**Серада 2 красавіка**

В[*imaўm*] у радыё.

Пазваніла вечарам дзяўчына — унучка Андрыцы[1], — просіць матар'ялаў для працы аб бел. мове. Яе прафэсар быў вельмі не сымпатычны і прабаваў яе адгаварыць ад гэтай тэмы.

---

[1] *Андрыца, народжаная тут. Вучылася ў City College, зрабіла працу пра Беларусь. Пазьней працавала для ўраду.*

**Чацьвер 3 красавіка**

В[*imaўm*] зноў у радыё — цэлы гэты тыдзень бываў у Нью Ёрку.

На рабоце ўсё добра.

Схадзілі ў банк, паклалі па $2,000 на IRA — менш будзе плаціць падаткаў. В. усё з формамі заняты.

Рабіла трохі пошукі для бел. мовы для тэй дзяўчыны. Ня ўсё знайшла, але замовіла затое тое, што мы ня мелі.

**Субота 5 красавіка**

Схадзіла зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну — пагода была яшчэ сяк-так. Паехалі з бабкай у магазыны. Спачатку ў Пасэйк. Перамяніла панчохі, купіла яшчэ станік. Бабка купіла сабе таксама што трэба было. Зайшлі яшчэ ў 5&10. Паехалі далей. Трохі купілі й ёй і мне, але нічога надта цікавага.

Думала, што паеду яшчэ купляць для сябе, але была ўжо стомленая, дый В[*imaўm*] меў ехаць пазьней на адчыненьне выстаўкі[1]. Я рашыла ня ехаць, бо й так ужо цэлы дзень не працавала, а тут яшчэ ехаць няведама чаго й няведама куды.

Працавала над Трыстанам. В. прыехаў ня позна. Вельмі быў рады, што паехаў. Выстаўка — партрэты N. J. артыстаў. Была ўключаная Тамара. Добрая таксама брашурка была выдадзеная, дзе была яе аўта-

біяграфія (oral history project) і кароценькая інфармацыя пра Беларусь. Бачыў шмат знаёмых.

Ага, раніцай слухалі Данчыкаў сьпеў. Вельмі спадабалася. Пазванілі Юлі, заказалі яшчэ тры — для дзяцей і для Нядзьвігаў.

---

[1] *Выстаўка ў горадзе Морыстаўн, прысьвечаная гісторыі іміграцыі ў штаце Нью Джэрзі. Была вітрына, прысьвечаная «Oral History — Вусной гісторыі», успамінам тых, хто праяжджаў праз Востраў Сьлёз, былі сярод іх і беларусы — пра гісторыю сваёй сям'і расказвала Тамара Стагановіч.*

**Нядзеля 6 красавіка**

Пасьнедалі і я працавала сабе, В[*ітаўт*] працаваў сабе. Ён усё яшчэ ходзіць штодзень амаль у радыё — Запруднік з Оляй. Таксама ўсё яшчэ з таксамі займаецца[1].

Дзень быў спакойны.

В. паехаў па білет да Жамойды. Той казаў, што было ў іх сьвяткаваньне. Моладзь танцавала[2]. Яны былі вельмі задаволеныя. Юра падвёз Жамойду да аўтобуса.

Званілі Юру, каб пагаварыць, але не дазваніліся — мусіць недзе пайшоў.

---

[1] *Запаўняў фармуляр падаходных падаткаў.*

[2] *Моладзь выступала ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага грэцкай юрысдыкцыі.*

**Панядзелак 7 красавіка**

На працы ўсё добра.

**Субота 12 красавіка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Пагода яшчэ была магчымая, дык я памыла бялізну і паехала ў магазыны па пакупкі. Купіла тое-сёе для сябе. Жакецік і блюзку — на жаль, не магла падабраць да іх спадніцу.

Прыехаўшы, працавала для Трыстана. Павячэралі ня позна.

**Нядзеля 13 красавіка**

Пасьнедалі і В[*ітаўт*] паехаў у New Brunswick — там была служба супольная. Я засталася дома й працавала над Трыстанам — хачу добра падрыхтавацца, бо зьбіраемся пад'ехаць да Ballarine.

В. прыехаў ня позна. Павячэралі, бо ён там не абедаў. У царкве ўсё добра. Тая паніка, што была паўстала з прычыны ад'езду а. Аляксандра ў Еўропу, мусіць, не апраўданая. Выглядае так, што яму ў іншы час не выпадае ехаць.

В. прадаў крыху кнігаў.

**Панядзелак 14 красавіка**

Пазваніла раніцай Тамара. Дамовіліся спаткацца на абед. Пайшлі недзе ў рэстаранчык — прыйшлося нешта ўзяць. Я пастанавіла вельмі строга трымацца гэты тыдзень з дыетай.

Пагаварылі пра Oral history project. Яна казала, што ня ўсё было так гладка, як выглядае: і інтэрв'ю яна мусіла зьмяніць, і здымак зрабілі ў апошнюю хвіліну, якім яна, між іншага, таксама не задаволеная. Выстаўка іх у Brookdale College[1] прайшла так-сабе — было мала наведвальнікаў.

---

*[1] Бруклэйл Коледж у цэнтры штату Нью Джэрзі. Там таксама была выстаўка, прысьвечаная эмігрантам. Шмат было ўзята з майго артыкулу «Беларускі досьвед у штаце Нью Джэрзі». Усяго ў штаце Нью Джэрзі 21 акруга (county) і 20 акруговых коледжаў. У кожным былі беларускія выстаўкі. Апрача таго, у штаце каля 25-30 іншых навучальных установаў — Princeton, Rutgers, Kean College, Drew University etc. У іншых унівэрсытэтах таксама бывалі выстаўкі, і часта падчас такіх выставак было добра папулярызаваць Беларусь. Вось прыклад такой выстаўкі, пра які Зора пісала ў «Беларусе» (№№ 243-244, 1977):*

ТРЫ ДНІ Ў ПРЫНСТАНЕ

У горадзе Прынстане, дзе знаходзіцца ведамы Прынстанскі ўнівэрсытэт, 17-19 чэрвеня сёлета адбылася трохдзённая канфэрэнцыя жанчынаў штату Нью Джэрзі ў сувязі зь Інтэрнацыянальным Жаноцкім Годам. Мэты гэтай канфэрэнцыі былі наступныя: падчыркнуць удзел жанчынаў у жыцьці Нью Джэрзі, выявіць перашкоды, зь якімі спатыкаюцца яны ў штадзённым жыцьці, ды сфармуляваць вымогі й патрабаваньні жанчынаў дзеля прадстаўленьня іх у Кангрэсе ЗША. Апрача гэтага, выбіраліся кандыдаткі на агульнаамэрыканскую канфэрэнцыю, што адбудзецца сёлета ўвосень у Гюстане, Тэксас.

У канфэрэнцыі прыймала ўдзел і група беларускіх жанчынаў із штату Нью Джэрзі. Апрача ўдзелу ў паасобных нарадах канфэрэнцыі, беларускія жанчыны зарганізавалі багатую й густоўна аформленую выстаўку. Былі паказаныя працы беларускіх жанчынаў Нью Джэрзі, як старэйшых, гэтак і зусім маладых.

Была тут і вышыўка, тканіны й паясы, і публікацыі й ілюстрацыі ды мастацкія творы. Было й нагляднае дэманстраваньне пляценьня паясоў ды прадзеньня кудзелі. Усё гэта прыцягвала шмат публікі ды выклікала зацікаўленьне Беларусяй і беларускімі жанчынамі. Дарэчы, былі падрыхтаваныя адмысловыя брашуркі пра Беларусь ды пра беларускіх жанчынаў Нью Джэрзі.

На працягу трох дзён нашае стоішча наведалі сотні жанчынаў, карэспандэнтаў, палітыкаў, якія цікавіліся нашай краінай, нашай працай, нашымі праблемамі. Мы стараліся іх добра інфармаваць ды зацікавіць яшчэ глыбей.

Вялікая падзяка тут усім, хто гэтак ахвярна аддаў свой час і энэргію на гэтыя тры гарачыя дні ў Прынстане, а асабліва Галіне Русак, Ірэне Рагалевіч, Ст. Тамары (Кольбе), Надзі Кудасавай, Людзе Махнюк ды нашай сяброўцы зь Нью Ёрку Раісе Станкевіч.

**Зора Кіпель**

**Аўторак 15 красавіка**

В[*ітаўт*] чуецца ня добра — прастуджаны.

Езьдзілі вечарам да Ballarine — яна праверыла тое, што было ўжо перакладзена. Неяк слаба йшло — стомленыя, мусіць, усе.

**Чацьвер 17 красавіка**

Гаварыла з К[*асінцом*] наконта паездкі ў Harvard. Ён пазваніў туды, каб нам быў доступ у Stacks[1].

Была першая лекцыя ў сэзоне — Whittaker[2] пра нашую калекцыю 18-га ст. — вельмі цікава.

Вечарам чулася нядобра. Адпачывала — нічога для Трыстана не рабіла.

---

[1] *Кнігасховішчы ў бібліятэцы Гарвардзкага ўнівэрсытэту.*

[2] *Лекцыя ў Гарадзкім унівэрсытэце. Cynthia Hyla Whittaker — прафэсар гісторыі ў City University і Boruch College. Мы зь ёй добра былі знаёмыя, сустракаліся ў Helsinki. Частавата яна ўспамінала ў лекцыях Беларусь. Добра адукаваная.*

**Пятніца 18 красавіка**

На рабоце ўсё добра. трохі патрафляю працаваць і для сябе. Але галоўнае раблю шмат беларускіх кніжак.

**Субота 19 красавіка**

Раніцай зрабіла прычоску, пасьнедалі, заставіла бялізну — пагода добрая — й паехалі ў Патэрсон[1]. Купіла сабе дзьве спадніцы й пару жакецікаў — усё дабіраю да блюзкі. Заехалі на базар — купілі трохі фруктаў.

Пазванілі Каханоўскім. Дамовіліся пра некаторыя дэталі, што ад іх патрабавацца будзе, чым мы забавязваемся. Яна вельмі цешыцца, што выйдзе яе кніга. Абяцала яшчэ здымку.

---

[1] *Мы часта езьдзілі ў Paterson, бо там быў сапраўдны рынак — фармэры прадавалі цыбулю, вінаград, памідоры, бульбу і г. д., а таксама ў Paterson было шмат фабрыкаў па вырабу адзеньня: паліто, жаночая і мужчынская вопратка. Фабрычныя вырабы на фабрыцы — 30-40% таньней, чым у крамах. Аднойчы мы праверылі: Патэрсонскі пінжак на 5 Ave. каштаваў $180, а мы купілі за $68! Праверылі выпадкова.*

**Аўторак 22 красавіка**

Раніцай зайшла да дэнтыста. Была ўжо спазьнілася, але ён прыняў. Усё ў парадку. Забылася прынесьці формы — трэба будзе пераслаць. Зайшла яшчэ да сястры, узяла формы, але ня тыя, як пасьля агледзелася. Трэба перамяняць.

В[*ітаўт*] таксама сёньня ў Нью Ёрку.

У абед прайшлася ў магазын — купіць нешта для Ballarine.

Прыехала, павячэралі й паехалі адразу-ж. Былі ў Ballarine вечарам — пераглядалі Трыстана. Добра прайшоў вечар.

В. прывёз касэты ад Юлі — яна яшчэ перадала насьпяваныя Данчыкам рознае.

Атрымалі ліст ад Рытарыхі. Яна вельмі задаволеная, што кніжка яе выдаецца.

В. атрымаў чэк ад Акуліча[1]. Найперш узяў грошы, што былі вінаватыя Інстытуту — цяпер трохі ўжо спакайней. Адамовіч пачынае рабіць Кавыля[2].

---

[1] *Адаму Акулічу пазычалі грошы.*

[2] *Пачалася праца над зборнікам Міхася Кавыля.*

**Серада 23 красавіка**

Касінец цэлую раніцу ўсё недзе бегаў. Я ня мела часу зь ім пагаварыць аб тым калі ўзяць вольны дзень. Нарэшце дагаварыліся. Пазваніла Fizer'у. Дамовіліся зь ім на наступны аўторак. Перадрукоўвала трохі Трыстана.

Раніцай забеглася ў банк — палажыла чэк Інстытуцкі[1]. Купіла яшчэ арэхаў — для падарунка ў госьці.

Пазваніла вечарам Ella May з фармы. Мяне яшчэ ня было дома. Пазваніла ёй назад, але яе ня было. Нешта ў іх ня добра там ідзе. Грошы зноў задаўжалі. Мяркуюць направіць падлогу.

---

[1] *БІНІму.*

**Чацьвер 24 красавіка**

Зрабіла В[*ітаўту*], што яму не хапала ад аднэй выразкі з газэты рускай «Новый Мир». Усебеларускі сход ў 1918 г. Вельмі цікавая інфармацыя[1].

Была зборка — «лекцыю» меў Карлавіч. Сапраўды нудна і няцікава[2].

Званілі Алесі — у яе ўсё добра, але працуе шмат. Была ў ад'езьдзе цэлы тыдзень.

---

[1] *Пасьля была выкарыстаная ў кнізе «Беларусы ў ЗША».*

[2] *Сэрыя лекцыяў пра Славянскі аддзел НЁПБ. Трохі было сказана і пра беларускія кнігі.*

**Пятніца 25 красавіка**

На рабоце ўсё добра.

Раніцай памяняла [*зарплатны*] чэк. Перамяніла формы й паслала дэнтысту.

Перад абедам К[*асінец*] прывёў мне аднаго каталогара з L[*ibrary of*] C[*ongress*] (я яго ўжо спатыкала на канфэрэнцыях). Трохі зь ім пагаварыла. У гутарцы выплыла, што Cataloging in Source[1] важна для таго, каб LC пачала каталягаваць кнігу — гэткім кнігам даецца першанство. Запісала ў яго адрас, куды зьвяртацца па інфармацыю.

Трохі працавала для Трыстана.

Вечарам расказала В. пра CIS — пачалася даволі прыкрая дыскусія — ён мяне вінаваціў у тым, што я нібы адкінула яго ўяўленьне важнасьці гэтага.

Пазьней крыху супакоіліся й прымірыліся.

---

[1] *Cataloging in Source — у жаргоне бібліятэкараў скарочана CIS. Гэта калі каталягуецца кніга перад друкам і на адвароце тытульнае старонкі друкуецца макет анатаванай каталёжнай карткі з выходнымі зьвесткамі.*

**Субота 26 красавіка**

Зрабіла валасы. Пасьнедалі. Пагода ня зусім добрая — бялізны па-

куль што яшчэ няма як мыць. Сабраліся й паехалі па пакупкі. Заехалі ў украінскі магазын, але было закрыта. Паехалі ў Патэрсон — купілі ўсяго што трэба для Вялікадня. Мяса для сябе не куплялі — рашылі гэты тыдзень папасьціць. Купілі таксама фруктаў, хрэну.

Назад едучы, зноў заехалі да ўкраінцаў — купілі прыгожую пасудзінку для арэшкаў.

Трохі распагодзілася. Заехалі яшчэ ў Shop Rite — дакупіла тое-сёе. Рэшту В[*ітаўт*] сярод тыдня купіць.

Працавала над Трыстанам.

Моладзь паехала ў Пэнсыльванію на славянскую выстаўку і фэстываль[1].

[1] *Там была вялікая беларуская прысутнасьць. Мясцовасьць называецца «Коледж», гэта частка Пэнсыльванскага штатнага ўнівэрсытэту.*

**Нядзеля 27 красавіка**

Пасьнедалі. Я трохі парадкавалася.

Пагода прыемная.

Сабраліся ехаць. Нарвала бэзу. Думаем пасьля Bush'аў[1] заехаць наведаць Олю. Вельмі памысна, бяз блуджэньня, даехалі ў госьці. Там была яшчэ адна пара. Жонка Bernie Bush вельмі простая, нават вульгарная, савецкая жанчына. Але ня дурная — ўмее захоўвацца. Жывуць яны вельмі скромна, але, здаецца, задаволена. Bernie трохі падпіў, дык выдурняўся. Затрымаліся ў іх даволі доўга — ужо было позна ехаць да Олі.

Прыехалі дахаты каля 9-ай. Мне баліць жывот. Я неяк заўсёды ў гасьцях, фактычна, пасьля гасьцей, блага чуюся з жыватом.

[1] *Bernard Bush — прэзыдэнт Гістарычнай камісіі штату Нью Джэрзі. Жаніўся паэнавата. Узяў яўрэйку з СССР. Мы былі ў іх у гасьцёх, калі здарыўся Чарнобыль. Аб Чарнобылі даведаліся там у іх. Bernard Bush праз нас шмат дзе гаварыў пра Беларусь. Жылі Бушы ў NJ, здаецца, у Jamestown.*

**Панядзелак 28 красавіка**

Пачалі гэты тыдзень пост.

Вечарам елі капчоную рыбу, што ад Нядзьвігаў прывезьлі раней і я трохі пераела — вельмі сапсуўся жывот. Цэлую ноч дрэнна чулася.

**Аўторак 29 красавіка**

Узяла вольны дзень. паехалі ў Rutgers. З Фізэрам ізноў неяк гутарка ня клеілася. Ён яшчэ не перагледзеў папярэдняга [*тэксту перакладу Трыстана*]. Але я яму прынесла яшчэ матар'ялу. Там хутка справілася і яшчэ чакала Вітаўта — ён паехаў у бібліятэку. Заехалі да Ballarine, купілі калбасы й шынку. Паехалі да Нядзьвігаў. Пагода нядрэнная, але неяк настрою такога, як звычайна бывае, як едзем у тыя краі, ня было. У Нядзьвігаў паабедалі, трохі пасядзелі, пагаварылі. Яны далі нам яшчэ шмат рыбы. Доўга не сядзелі ў іх. Як са-

браліся выязджаць, пачала псуцца пагода. Амаль цэлую дарогу ехалі ў дождж. Не атрымалі ад гэтага падарожжа прыемнасьці.

Серада 30 красавіка

Езьдзілі да Олі[1].

[1] *У шпіталь да жонкі Яна Запрудніка Олі. Ёй было вельмі цяжка гаварыць. Мучылася. Але шмат паўспаміналі. Разгаварыліся. Мы столькі гадоў зь ёй разам былі!*

**Пятніца 2 траўня**

Дзень прайшоў спакойна. Касінца ня было. Ня было й яшчэ шмат каго, але мы добра справіліся і добра чуліся.

Юра прыехаў па мяне.Трафік быў вельмі цяжкі — было пару канфліктаў па дарозе, але даехалі добра. Вітаўт паехаў спатыкаць Алесю. Нарэшце ўсе сабраліся разам. Павячэралі. Было вельмі прыемна. Пасядзелі, пагаварылі. Тады я стала трохі рыхтавацца. Заварыла цеста для булак. Прыехала Лорэйн — яны зьбіраліся спаткацца з Рыкі, але нешта ня выйшла — то пайшлі ў кіно. Алеся была дома. Я замарынавала бараніну. Пасядзелі яшчэ трохі, пагаварылі з Алесяй. Юра прыйшоў ня надта позна.

Ага, у Юры з машыны ўкралі касьцюм. Агледзеўся ўжо толькі, як пачаў выгружаць свае рэчы, як прыехалі. Думае, што недзе каля шпіталю сталася.

**Субота 3 траўня**

Раніцай схадзіла зрабіла прычоску. Пасьнедалі й пачалі парадкавацца й прыгатоўвацца. Бабку, яйкі, бараніну, хрэн — усё па чарзе патрохі спарадкавалі. Дзеці добра дапамагалі.

**Нядзеля 4 траўня**

Вялікдзень.

**Панядзелак 5 траўня**

Купіла сабе Mallory[1] «Mort d'Arthur» 1-ую частку — другой ня было. Чытаю цяпер.

[1] *Томас Мэлары (1405-1471) — ангельскі пісьменьнік.*

**Пятніца 9 траўня**

На працу ўжо не паехала. Зрабіла прычоску. Раніца так і прайшла ў парадкаваньні.

Выехалі на аэрадром пасьля 1-ай. Добра даехалі. Westchester County аэрадром зусім маленькі. Нагадвае маленькія аэрапорты ў Алясцы. Нейкі барачак. Але ўсё было спраўна. Палёт да Дэтройту быў не даўгі. Нават абеду не давалі. У Дэтройт таксама ўсё пайшло спраўна. Праўда, толькі зьнімаючы сваю валізачку зьверху, пабіла сабе трохі губу. Але здаецца, нічога ня будзе відаць. Ад Дэтройту да Каламазу было зусім коратка. Там быў аўтобус спэцыяльны да ўнівэрсытэту.

Яшчэ й павячэраць пасьпела. Пазнаёмілася са сваёй суседкай. Пакойчык вельмі скромны, але чыста й спакойна.

Кампус прыгожы. Канфэрэнцыя[1] добра арганізаваная. Усё проста й спраўна. Паглядзела яшчэ трохі выставы кніжак ды пайшла адпачываць. Трохі пачытала. Спалася добра.

---

*[1] Гадавая канфэрэнцыя дасьледнікаў-мэдыевістаў у Каламазу, штат Мічыган.*

**Субота 10 траўня**

Канфэрэнцыя. Раніцай пасьля сьнеданьня пайшла на пленарную сэсію. Нічога асаблівага. Ведамы гісторык [...][1] гаварыў пра гістарычную пэрыядызацыю ў раньняе Сярэднявечча.

Мая сэсія была даволі цікавая. Трыстан Gottfried'а й Mallory. Пазнаёмілася з арганізатарам сэсіяў Трыстана. Мушу хутка зрабіць прапанову на наступны год зрабіць [*паведамленьне*] пра бел. Трыстана.

Схадзіла ў бібліятэку — там вельмі мала бел. кніжак.

Назад паехала недзе каля 5-ай. Усё было добра, толькі ў Дэтройце прыйшлося чакаць дзьве гадзіны.

В[*ітаўт*] і Юра чакалі мяне на LaGuardia[2]. Вельмі прыемна даехалі дахаты.

Расказвала ім, як усё было. Яны абодва вельмі задаволеныя.

---

*[1] У рукапісе імя прапушчана.*

*[2] Лётнішча ў Нью Ёрку.*

**Нядзеля 11 траўня**

Пасьнедалі.

Паехалі адразу на могілкі. У царкву не заязджалі. Спачатку ў S. River, тады ў East Brunswick. Там яшчэ чакалі даволі доўга.

Служыў еп. айцец Карп.

Ужо амаль пры канцы прыйшла група з Бруцкім. Пачалася паніка, беганіна. Усе былі вельмі незадаволеныя, бо перад гэтым ня было ніякай дагаворанасьці[1]. Але ўсё неяк залагодзілася. Мы сабе, а яны сабе хадзілі каля сваіх магілак. Мы яшчэ раз заехалі ў S. River, але там наагул нікога ўжо ня было.

Добра даехалі.

Павячэралі. Юра застаўся дома. Заўтра паедзе шукаць сабе кватэру ў Ньюарк.

---

*[1] Паколькі праваслаўныя беларусы-аўтакефалісты былі пасвараныя і падзеленыя на дзьве групы з рознымі ярархамі, бывалі непаразуменьні, калі прадстаўнікі тых групаў сустракаліся, напрыклад, у памінальную нядзелю на могілках. Сьмешна і трагічна, але гэткая была рэальнасьць.*

**Панядзелак 12 траўня**

В[*ітаўт*] павёз Юру ў Ньюарк.

На рабоце ўсё добра. Толькі кожны раз, як пару дзён не бываеш на рабоце, дык неяк адарвешся.

**Серада 14 траўня**

Спакавалася ўжо для дарогі[1].

М. В. заўважыла ў сябе нейкую гульку ў грудзі. Трохі хвалюецца.

---

*[1] Ехалі ў Гарвардзкі ўнівэрсытэт у Бостан.*

**Чацьвер 15 траўня**

На працы ўсё добра. Раніцай нічога не магла купіць — былі закрытыя яшчэ магазыны.

У абед схадзіла купіць сабе кашульку. Добрую якраз знайшла.

Забылася купіць булачкі ў дарогу.

Прыехала ня позна, яшчэ заскочылі ў магазын купіць булачкі. Усё іншае В[*ітаўт*] ужо купіў. Выехалі недзе каля 7-ай. Добра ехалася. Праўда, ужо ў Conn[*ecticut*] каля гарадоў быў трохі трафік.

Затрымаліся ў вельмі прыемным матэлі.

**Пятніца 16 траўня**

Пасьнедалі ў матэлі. Выехалі каля 8-ай. Добра даехалі, ўсё знайшлі. В[*італўт*] мяне спусьціў у Harvard, а сам паехаў у Бастон.

А 10-ай я ўжо была ў Славянскім аддзеле. Там пазнаёмілася з заступніцай Olmsted (яго ня было). Яна мне расказала пра іхную практыку з Les Livres Etrangeres[1]. Яны вельмі задаволеныя імі.

Аб 11-ай пайшла ў Аддзел рэдкай кнігі — там мне трохі паказалі й расказалі пра Славянскія рэдкія кнігі. Пазьней зноў у Слав. Аддзел. Пагаварыла з Acquisition specialist[2]. Трохі пераглядзела каталёг. Ужо й час падышоў спаткацца зь Вітаўтам. Пайшлі разам ва Украінскі Інстытут. Там нічога асаблівага. Усе, праўда, вельмі хваляць Касінца.

Паехалі шукаць матэль. Трохі паблудзілі, але знайшлі. Трэба сказаць, што дрэнь была.

Пазванілі да Ball[*arine*]. Яна неяк ня выразна наконта візыты да іх[3] — дык мы ўсё яшчэ ня вырашылі, дзе затрымаемся там. Але сказалі ёй, што будзем там недзе каля 2-ой.

---

*[1] Француская арганізацыя міжнароднага кнігагандлю.*

*[2] У аддзеле набыцьця кнігаў.*

*[3] Ballarine мела родзічаў у Cape Cod, штат Масачусэтс. Пазьней мы туды часта езьдзілі.*

**Субота 17 траўня**

Раніцай пасьнедалі на славутым Harvard Square у Würsthouse. Вельмі было прыемна. Пайшлі ў бібліятэку — адразу ў сховішчы. Цікавага матар'ялу знайшлі[1]. Было прыемна працаваць. Пагода распагодзілася. Затрымаліся ў бібліятэцы больш чымся плянавалі.

Прыехалі на Cape Cod ужо пасьля 4-ай. Зайшлі ў адзін матэль —

мейсцаў ужо ня было. Паехалі ў другі — там было, але дарагія. Рашылі перш пазваніць да Ball[*arine*]. Яны нас ужо там зь нецярплівасьцю чакалі ад 2-ой. Яны былі пэўныя, што мы ў іх застанемся — неяк камунікацыя была слабая.

Вельмі прыемна правялі там час. Ball. зь дзядзькам паехалі ў царкву, а мы з Connie[2] засталіся, гаварылі — яна нам паказвала свае Antiques[3]. Паехалі на вячэру. Нічога асаблівага, але дорага. Ball. фундавала.

Яшчэ крыху пасядзелі ды пайшлі спаць. Хата ў іх вялікая, прыемная, чыстая. Было сапраўды прыемна[4].

---

*[1] Шмат новых для нас беларускіх кніжак.*

*[2] Цётка Балерыны.*

*[3] Старадаўнасьці, антыкварыят.*

*[4] Жывуць яны побач з маёнткам сям'і Кенэды на Кэйп Код і належаць да адной зь імі царкоўнай парафіі — маленькі касьцёльчык недалёка ад мора.*

**Нядзеля 18 траўня**

Рана ўжо пачалі ўсе рухацца.

Пасьнедалі добра. Яшчэ трохі пагаварылі, пакуль Ball[*arine*] зьбіралася. Выехалі перад 11-ай. Па дарозе яшчэ пару разоў затрымаліся: то каву, то ў уборную, то па газаліну[1]. Трохі й трафік быў. Прыехалі дахаты ўжо па 6-ай. Завезьлі Ball. Яшчэ яна і ў магазын заехала. Шмат па дарозе яна расказвала пра сябе, пра свайго бацьку, наагул, пра ўсю сям'ю. Яна чулася з намі вельмі добра.

Вечарам трохі адпачывалі. Нічога ўжо не рабілі.

На работу ня хочацца. Неяк зусім адарвалася ад бібліятэкі за гэтыя дні.

---

*[1] Бэнзін (gasoline).*

**Панядзелак 19 траўня**

На рабоце шмат набралася рэчаў да выканчэньня. Цэлы дзень усё капашылася. В[*imaўm*] завёз М. В. да доктара. Той заўважыў нарост, але сам, ведама-ж, нічога ня мог сказаць. Паслаў на мамаграфію.

У хаце трохі напружаная атмасфэра. Доктар думае, што лепш выразаць, што-б там ня было.

Мамаграфія нічога не выявіла таксама, і ўжо замовілі апэрацыю на сераду.

Расказала Касінцу пра паездку.

**Аўторак 20 траўня**

Вечарам В[*imaўm*] завёз М. В. да тога доктара, што мае рабіць апэрацыю. Ён яшчэ разгледзеў здымкі, але таксама нічога ня мог пэўнага сказаць. Скарэй за ўсё, што нарост не шкадлівы.

В. спаткаў мяне, і мы паехалі купілі курку. І М. В. паела з намі.

Званіла Алеся. Яна думае, што ня зможа прыехаць на маё Graduation[1].

---

[1] *Выпускны акт.*

**Серада 21 траўня**

B[*imaўm*] павёз М. В. ў шпіталь. Апэрацыя будзе вельмі рана.

Ён яшчэ вярнуўся перад тым, як я паехала на працу.

Пазваніў мне па абедзе, што ўсё ў парадку. Нарост не шкадлівы. Апэрацыя прайшла добра, М. В. чуецца ОК, але яшчэ пару дзён пабудзе ў шпіталі.

На рабоце ўсё добра. Пачала пісаць ліст да Ball[*arine*] сваякоў. Знайшла трохі інфармацыяў пра іконку[1].

Вечарам В. спаткаў мяне, і паехалі да М. В. Яна чуецца і выглядае зусім добра. Быў у яе сп. Жамойда. Завезьлі яго дахаты і паехалі ўжо самі адпачываць. Нешта перакусілі і ўжо нічога не рабілі.

Пазванілі яшчэ да Ball. дамовіліся пра заўтрашні дзень.

Пазваніла Алеся — яна напэўна ўжо ведае, што ня зможа прыехаць.

Прыйшла інфармацыя з AAASS[2] аб канфэрэнцыі.

---

[1] *Цётка Балерыны — гандляр антыкварыятам — мела іконку з царкоўнаславянскімі літарамі ззаду. Мы думалі, што можа быць зь Беларусі.*

[2] *Амэрыканская асацыяцыя дасьледнікаў славянаведы.*

**Чацьвер 22 траўня**

B[*imaўm*] ранічкай зьезьдзіў па булачкі.

Ball[*arine*] прыехала каля 8-ай. Пасьнедалі вельмі прыемна й паехалі на Graduation. Пагода пахмурная, але здаецца, распагодзіцца. Заехалі ў Book store па маё «аблачэньне»[1]. Тады я яшчэ заскочыла ў школу — нічога там ня было. Чуць пасьпелі на адчыненьне. Я пабегла на сваё мейсца, а яны ўжо пайшлі сабе. Усё было вельмі прыемна й ўрачыста. Я, як толькі выйшлі з працэсіяй, заўважыла іх. Лорэйн (яны зь Юрам прыехалі адразу-ж туды) мела апарат — рабіла здымкі. Пасьля цырымоніі сабраліся ўсе разам, яшчэ зрабілі колькі здымкаў. Я аддала сваё адзеньне, і паехалі да Надзі. Адвезла ёй слоўнік руска-беларускі. Гэта ёй патрэбна для іхнага новага сьвятара [*ў Саўт Рывэры*]. Пасьля паехалі на абед — у той самы рэстаран, дзе былі пасьля Юравага Graduation. Вельмі прыемна правялі час. Было спакойна, прасторна, яда смачная й не дарагая.

Адным словам, дзень прайшоў вельмі памысна. Заехалі яшчэ дахаты (ехалі мы ў Ball. машыне). Яна-б сядзела яшчэ доўга, але нам трэба было да М. В. ехаць.

Там усё добра. У суботу ўжо выпішацца.

Як вярнуліся ад М. В., былі ўжо дома Юра і Лорэйн. Яны прывезьлі

яшчэ мне кветак — прыгожыя ружы. Падаравалі раней мне мядзьведзіка Class '86[2]. А Ball. падаравала блюзку. Дзеці паехалі да бабкі.

---

[1] *У кніжным складзе браліся на пракат «аблачэньні»-тогі.*

[2] *Выпуск 1986 году.*

**Пятніца 23 траўня**

На працу прыехала даволі рана — быў яшчэ час памяняць чэк. Усе пайшлі на юбілейнае сьняданьне (75 гадоў бібліятэцэ), але мне неяк зусім не хацелася. Не падабаецца мне ўсё гэтае гуляньне, што робіцца апошнім часам у бібліятэцы.

Прынесла цукеркі. Жанчыны даведаліся, што гэта была мая graduation. Прынесьлі мне кветкі.

Касінца па абедзе ня было на пару гадзін. Усе думалі, што ён пайшоў зусім, дык трохі распружыліся. Ён мне сказаў, што Наташа мае tape recorder. Ён падазрае, што яна запісвае гутарку. Яна-то ня будзе гэтага рабіць, але вось ён (ён прызнаўся, што й ён мае рэкордэр у стале) дык гэта зусім магчыма. Трэба быць вельмі асьцярожна зь ім. Не падабаецца мне гэткі недавер адзін да аднаго на працы.

**Субота 24 траўня**

Зрабіла прычоску. Нарэшце! Ужо аж чулася ніякава.

Раніцай пасьнедалі і В[*ітаўт*] паехаў па М. В. Я парадкавалася, мыла бялізну. М. В. выглядае трохі слабей.

Я трохі пазьней зрабіла кісель — яшчэ быў агрэст ад Нядзьвігаў. З прыемнасьцю ўсе зьелі.

Я пайшла пасядзець на двор. Выканчыла ліст да Ball[*arine*] на Cape Cod. Пішу дзёньнік. Прыйшлі Жамойды да бабкі. Трохі пасядзелі і В. іх завёз дадому.

Неўзабаве прыехаў і Юра. Прывёз частку сваіх рэчаў. Ён ужо пераезіцца з Брукліну, да 1-га чэрвеня мусіць ужо выбрацца. Будзе тым часам жыць дома й шукаць сабе кватэру каля Ньюарку[1].

Трохі зь ім пасядзелі. Я пачала рабіць вячэру, але ён не дачакаўся — мусіў ехаць. Дала яму толькі пару катлетак. М. В. прыйшла да нас на вячэру.

Пазванілі да Каханоўскіх. Узгоднілі некаторыя рэчы з кніжкай — бібліяграфію, загаловак, здымкі. Яны вельмі задаволеныя, што кніжка падсоўваецца[2].

Званілі да Прускага, але яго ня было. Не дазваніліся й да Ірэны. Зь ёй ужо трэба залагодзіць вокладку.

---

[1] *Юра пачынаў доктарскую стажыроўку ў Ратгерскім універсытэце.*

[2] *Зборнік Аляксандры Саковіч (Іны Іванаўны Каханоўскай).*

**Нядзеля 25 траўня**

Пасьнедалі. Я яшчэ трохі спарадкавалася й паехалі на рынак. Ку-

пілі мяса й фруктаў. Едучы назад заехалі ў Royal Silk[1]. [redacted] купіла сабе блюзачку.

Разабралі купленае. Я памыла бялізну яшчэ. Перапісала ліст. В[*ітаўт*] заўтра спакуе падарунак для Ball[*arine*] і пашле. Падорым ім Юліную чэкавую вокладачку.

Выйшла зноў на двор. Прыемна. Цёпла — трэба сядзець у ценьку. Праўда, суседзі нейкую там выпіўку ладзяць на двары, дык трохі шумна. Мусіць, хутка пайду ў хату.

---

[1] *Фабрыка-магазын шаўковых вырабаў.*

**Панядзелак 26 траўня**

Дома. Так добра, што сёньня яшчэ адпачыць можна.

Упарадкавалася ды паехалі зь Вітаўтам у магазын: ён сядзеў у машыне й пісаў скрыпт для радыё на заўтра, а [redacted] была ў магазыне. Купіла сабе сукенку й дзьве спадніцы. Добра купіла — была распрадажа.

Па абедзе прыехаў Юра й Лорэйн. Юра складаў печку [*для смажаньня на двары*] — падрыхтавалі ўсё для пікніка. Пазванілі да Ball[*arine*], запрасілі яе. Усё было вельмі прыемна. Дзеці паехалі, а яна яшчэ доўга сядзела. Дамовіліся, што прыедзем да яе ў сераду папраўляць мой пераклад.

Аўторак 27 траўня

На рабоце неяк ня спраўна пасьля такога даўгога канцатыдня. Неяк усё ня клеілася. Касінец даў мне паведамленьне ад Slavic Paleography Workshop[1] у Калумбус, якая адбудзецца 19-20 чэрвеня. Мы ўсё ня ведаем, як паехаць — ці машынай разам, ці самалётам мне адной.

Пачалі сёньня дыету. Вечарам мелі стэйк. Я добра трымаюся.

Трохі працавала.

Алеся сярод дня прыязджала наведаць бабку. Яна тут была па рабоце й выкамбінавала заехаць дахаты.

---

[1] *Сэмінар-канфэрэнцыя ў пытаньнях славянскай палеаграфіі — патрэбная канфэрэнцыя для славістаў.*

**Серада 28 траўня**

В[*ітаўт*] прыехаў у Нью Ёрк. Схадзілі яны на абед усе разам. [redacted] не змагла далучыцца да іх. Аказыя была 2000-ны беларускі скрыпт[1], дык В. запрасіў іх: Адамовіча, Запрудніка, Шукелойця й Адама.

Я прыехала з работы даволі позна, дык мы хуценька паелі нешта й паехалі да Ball[*arine*].

Яна прыгатавала каву. Спачатку праверыла В. рэцэнзыю на «Ucrainica in Univ. of Toronto», што В. рабіў па просьбе Касінца[2].

Пасьля праверылі маё — толькі адну частку, бо былі ўжо стомленыя.

---

[1] *У радыё Ян Запруднік вёў сваю нумарацыю беларускіх скрыптоў, якія слаліся ў Мюнхен.*

² Рэцэнзія была надрукаваная ў Канадзкім славістычным часапісе.

**Чацьвер 29 траўня**

В[*ітаўт*] зноў прыехаў у Нью Ёрк заладзіць справы са сваёй пэнсіяй[1].

Дамовіліся спаткацца на абед. Схадзілі ў Кітайскі рэстаран — вельмі прыемна.

Напісала лісты (Ball[*arine*] праверыла): да Atkinson AAASS, каб паправілі праграму, дзе толькі я была ўстаўленая як «paper-giver», і яшчэ адзін па рабоце (гэты, праўда, перагледзеў Касінец) ды прапанову на наступны год на рэфэрат пра беларускага Трыстана на Medieval conference.

Вечарам ужо нічога ня елі.

Трохі яшчэ адпачылі, хоць нейкая нацягнутая атмасфэра была, і паехалі на аэрадром. В. паехаў у Madison, Wisc. на балтыцкую канфэрэнцыю[2].

[redacted] едучы назад зноў зблудзіла — нияк не вязе мне варочаючыся з аэрадрома. Вельмі была стомленая — разбалелася галава. Пазваніла яшчэ да Алесі, але не гаварылі, бо й яна была занятая й я зусім была стомленая. Яна пазвоніць заўтра. Настрой у мяне нейкі вельмі цяжкі.

---

¹ *У Аддзеле кадраў мусілі праверыць гады працы, ступені і г.д.*
² *Я меў даклад пра БНР на гадавой канфэрэнцыі Асацыяцыі балтыйскіх студыяў.*

**Пятніца 30 траўня**

На рабоце ўсё ОК, толькі я неяк ніякава чуюся.

Сёньня В[*ітаўтаў*] дзень народзінаў. Не прыпамінаецца, каб калі мы былі не разам на ягоны дзень народзінаў.

Адаслала ліст AAASS.

У абед хадзіла пашукаць нешта для В. Нічога не знайшла.

Запруднік званіў мне на работу, пра верш Лосік, які ён хоча ўставіць у сваю анталогію[1]. Знайшла для яго, зрабіла xerox і паслала.

Вечарам зноў прыехала даволі позна. Неяк цяпер дрэнна з аўтобусамі.

Толькі ў хату — аж тэлефон ад Ball[*arine*], запрашае да сябе — паправіць тое, што не пасьпелі ў сераду. Вельмі сымпатычна зь яе боку, але я такая стомленая, што нават і падумаць аб гэтым не магу.

Павячэрала толькі — другі тэлефон: Акула. Хацеў сказаць, што рэцэнзія на нашую кнігу надрукавана ў «Зважай».

Пазваніў В.[2] У яго ўсё добра. Праўда, панэл, на якім ён меў выступаць, перанесьлі. Ён шмат выкарыстаў з [*іхнае*] бібліятэкі. Прыедзе, можа, раней.

Званіла Алеся. Позна вечарам прыехаў Юра.

---

¹ *Прысьвечаную беларускай мове.*
² *З балтыйскай канфэрэнцыі ў Мэдысане.*

**Субота 31 траўня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Юра хутка паехаў — памагаць Галіне Бахар перабірацца. Купіў торцік для В[*ітаўта*]. Я паехала купіць штось для В. Добра купіла: нічога асаблівага, але ўсё патрэбнае.

Горача вельмі. Уключыла першы раз у гэтым годзе халадзільнік[1], хоць, праўда, ужо амаль цэлы тыдзень, як горача. Але ў хаце было яшчэ цярпіма. Адпачывала. Нічога ўжо ня было энэргіі рабіць.

Зрабіла халаднік на вячэру. Усё падрыхтавала для В. і падчэквала і Юру й тэлефон. В. пазваніў — Юры яшчэ няма. Паехала па В. на аэрадром. У яго ўсё добра. Ён, здаецца, задаволены з паездкі.

Юра ўжо быў дома як мы прыехалі. Павячэралі й чакалі Лорэйн, каб адкрываць падарункі і торцік. В., як дзіця, чуць дачакаўся. То казаў, што нічога яму ня трэба, а то не дачакаецца, каб распакаваць падарункі. Усё яму спадабалася.

Пасядзелі яшчэ. Лорэйн[2] засталася нанач. Пэўна-ж, вялікага адпачынку ня было цэлы дзень.

---

[1] *Кандыцыянэр.*
[2] *Юрава сяброўка, будучая жонка.*

**Нядзеля 1 чэрвеня**

Раніцай пасьнедалі. За сталом яшчэ пачалася дыскусыя пра жыдоў і Ізраіль. Пазваніла Алеся, дык якраз у час, каб спыніць непатрэбную дыскусыю. Яна прывітала В[*ітаўта*]. Я трохі не разумею яе чаму яна не прыехала. Ну, але гэта яе справа — мусіць, была на гэта прычына. Моладзь хутка паехалі — недзе едуць на гульню.

Мы адпачываем. Я ўпарадкавала дзёньнік. Сяджу на двары. Цяпер ужо крыху палягчэла пагода.

Канчаю «Tristrant» Eilhart von Oberge. Вельмі цікавы ангельскі пераклад. Мовай сваёй нагадвае беларускі — стылем, фактычна, просты, нават прымітыўны.

**Субота 14 чэрвеня**

Юра паехаў з Лорэйн на мора.

**Пятніца 20 чэрвеня**

Юра яшчэ на моры.

На рабоце нічога цікавага. Працую над артыкулам для «Handbook»[1]. Амаль скончыла, але выканчэньне, як заўсёды, вельмі маруднае.

Прыехала Алеся. В[*ітаўт*] паехаў яе спатыкаць. Самалёт спазьніўся. Прыехалі яны ўжо недзе каля 9-ай. Павячэралі. Яшчэ трохі пагаварылі. У Алесі ўсё добра. Будзе сама цэлы weekend.

---

[1] *Handbook — кніга для амэрыканскіх бібліятэкаў. Зора давала інфармацыю пра Беларусь.*

**Субота 21 чэрвеня**

Пасьнедалі і Алеся пачала падчэкваць Надзін — яны едуць купляць Алесі сукенку. Фактычна паездка больш для таго, каб Надзін забраць з хаты: яе маці рыхтуе Bridal Shower[1].

Алеся параглядзела трохі мой артыкул. Вельмі добра яна правярае.

Я прадаўжаю артыкул.

Алеся паехала. Хутка й я пайшла рабіць валасы — завіўка сёньня.

Юра прыехаў па абедзе. Пахудзеў, загарэў — пачынае выглядаць як Юра. Зрабіла хуценька халаднік. Ён цэлы дзень думаў пра халаднік. Паелі. Нават Лорэйн спадабала.

Юра пазваніў Barry: ён прыехаў сюды на пару дзён.

Прыехаў Barry з сынам — харошы хлопчык. Лорэйн паехала дахаты. Юра з Barry недзе паехалі.

Алеся прыйшла даволі позна. Усё прайшло ў іх добра. Купіла сабе сукенку.

Даўно ўжо ня мелі мы іх абодвух разам.

---

[1] *Падарункі для нявесты: Надзін, найбліжэйшая сяброўка Алесі, выходзіла замуж.*

**Нядзеля 22 чэрвеня**

Пасьнедалі.

Яшчэ трохі пераглядалі з Алесяй мой артыкул.

Юра паехаў у Нью Ёрк на гульню[1]. Мы з Алесяй паехалі ў магазыны. Купілі туфляў, і мне і ёй. Купілі мне дзьве сукенкі. Даволі добра.

Алеся пайшла да Надзін. Я яе спусьціла, а сама паехала дахаты.

Трохі яшчэ працавала з артыкуламі. Адпачывалі.

Вечарам яшчэ ўсе разам сабраліся. Алеся падаравала мне пацеркі — ружовы кварц. Вельмі прыгожыя — будуць пасаваць да адной сукенкі, што купілі.

---

[1] *Амэрыканскі футбол.*

**Панядзелак 23 чэрвеня**

Вітаўт завёз Алесю на аэрадром.

**Аўторак 24 чэрвеня**

Выканчвала артыкул.

Пазваніў Том — дагаварыліся на пятніцу.

**Серада 25 чэрвеня**

Выканчвала артыкул.

**Чацьвер 26 чэрвеня**

Кончыла ўсё з артыкулам, адно толькі неяк ня клеіцца з заканчэньнем. Можа, заўтра што з Томам прыдумаем.

**Пятніца 27 чэрвеня**

Касінец недзе на паседжаньнях.

Прыйшоў Том і мы добра папрацавалі. Да абеду ўжо ўсё скончылі.

Выйшлі на хвілінку на невялічкую перакуску ў рэстаран на бібліятэчнай тэрасе. Прыемная пагода. Том сказаў, што артыкул добры.

Зрабіла копіі з артыкулу.

Падрыхтавала матар'ял для рэпорту на канфэрэнцыі ALA[1].

---

*[1] Справаздача зь дзейнасьці Славянскага аддзелу ўлучалася ў справаздачу аб калекцыях Ньюёркскае публічнае бібліятэкі. ALA — American Library Association — найбольшая асацыяцыя бібліятэкароў ЗША. Мы часта бывалі на гадавых канфэрэнцыях. Папераменна, на жаль, то Зора, то я. Прасоўвалі інфармацыю пра Беларусь.*

**Субота 28 чэрвеня**

Раніцай парадкавалася.

Прыехала Лорэйн з сваёй маці, забралі Юру й паехалі да іхнай хаты ў Ньютон[1].

Прыняла ў парадак артыкул[2] — заўтра пакажу Залеўскаму — хоць яшчэ й не перадрукаваны.

Юра й Лорэйн прыехалі позна; прывезьлі рыбкі маленькай. Добра палавілі. Вітаўт яшчэ пачысьціў.

Лорэйн засталася нанач. Горача. Я зусім стамілася, вычарпалася.

---

*[1] Мясцовасьць у штаце Нью Джэрзі.*

*[2] Артыкул пра беларускія кнігазборы ў ЗША.*

**Нядзеля 29 чэрвеня**

Раніцай пасьнедалі і Лорэйн падкінула мяне ў Нью Ёрк на канвэнцыю[1]. Там было ўсё добра. Мой рэпорт[2] быў добры.

Была на трох сэсіях, зьвязаных з славянскімі пытаньнямі — Automation and Romanization; Handbook; and Newsletter.

Handbook выглядае, што слаба йдзе: маюць праблемы з артыкуламі. Залеўскі думае, што будуць друкаваць часткамі ў [*выдавецтве*] Harrasowitz. Мой артыкул будзе мусіць з украінскім, які [*напіша*] (яшчэ няма) Wynar, брат Любаміра Вінара.

Вітаўт спаткаў мяне каля гатэлю і паехалі да Полман у госьці. Там ужо былі Мінтсы і Middleman[3]. Даволі прыемна правялі па абедзе. Прыехалі дахаты яшчэ ня позна. Зрабіла Юру халаднік.

Трохі палягчэла надвор'е.

---

*[1] Канфэрэнцыя асацыяцыі бібліятэкараў.*

*[2] Даклад (report) быў як пра агульнабібліятэчныя праблемы, так і пра беларускія зборы.*

*[3] Dawn Pohlman, Lois Mintz, Middleman — сябры бібліятэкары. Мы зь імі сябравалі ад пачатку 60-х гадоў. Мы паехалі на ўваходзіны — Дон Полман разам зь сяброўкамі купіла хату ў Джэрзі Сіты з выглядам на Нью Ёрк.*

**Панядзелак 30 чэрвеня**

Касінец сёньня на паседжаньнях. Расказала яму пра нядзельныя сэсіі.

Дзень прайшоў добра, але шмат было працы. Падрыхтавала статыстыку [аддзелу], time-sheets[1]. Шмат было наведвальнікаў з канфэрэнцыі.

Пасьля працы было невялічкае прыняцьцё ў Славянскім аддзеле для ўсіх славянскіх удзельнікаў канфэрэнцыі.

---

*[1] Time sheets — лісты ўліковыя працы. Зазначаюцца працоўныя гадзіны. Аплата налічаецца па гэтых лістах. Вельмі важныя. Шэф аддзелу рыхтуе іх штомесяц для «зарплатных», і што 2 тыдні для «пагадзінных» працаўнікоў.*

**Аўторак 1 ліпеня**

Я ўзяла вольны дзень: мой дзень народзінаў. Юра сёньня першы дзень на працы.

Мы сабраліся й паехалі на поўдзень. Спачатку сабралі ягадаў. Ягады ўжо былі, але нейкія дробненькія, але сабралі дзьве банкі.

Пасьля паехалі ў Атланцік Сіці. Там трохі пагулялі ў машынкі. Спачатку я трохі выйграла, але пазьней усё прайгралі. Пад'ехалі яшчэ пад Ventnor[1], але на беразе ўжо не адпачывалі — было ўжо пазнавата. Паехалі да Нядзьвігаў. Там перакусілі, трохі пасядзелі й паехалі дахаты. Прыехалі ня позна. Юра нас чакаў. Паеў добра ягадаў.

Дзень быў даволі добры. Зьелі яшчэ торцік. Юра падараваў мне парасон для пляжу, павялічаны здымак з graduation[2].

---

*[1] Горад побач з Атлянтык Сіты.*
*[2] З выпускнога акту.*

**Чацьвер 3 ліпеня**

На рабоце ўсё добра, спакойна. Касінец пайшоў рана.

Пасьля работы зрабіла яшчэ прычоску.

Пазваніў Том, што спаткаюцца зь Вітаўтам у аўторак.

**Пятніца 4 ліпеня**

Ballarine прыехала пасьля 8-ай. Пасьнедалі й паехалі.

Ехалася добра. Трафік, надзіва, быў зусім не такі ўжо й страшны.

Прыехалі ў Cape Cod — Central City недзе пасьля трэйцяй. Трохі яшчэ пасядзелі, пагаварылі, закусілі й хутка паехалі ў рэстаран. Рэстаран быў прыемны, адзін з самых старэйшых на Cape Cod, але есьці неяк зусім не хацелася. Усе жанчыны ўзялі мяшочкі[1]. Прыехаўшы, яшчэ трохі пасядзелі, пагаварылі і пайшлі адпачываць.

У гутарцы выявілася, што дзядзька Ball[*arine*] меў апэрацыю сэрца толькі тыдзень таму, а яна нам нічога не сказала аб гэтым. Я чулася вельмі ніякава. Мы ніколі-б не паехалі, каб ведалі.

Тут вельмі прыемна, прахладна.

Вячэра нам каштавала $100. Трохі зашмат.

---

*[1] Амэрыканскі звычай: калі ў рэстаране не даясі сваю порцыю, рэшту можна забраць дахаты ў спэцыяльных пластыкавых скрыначках.*

### Субота 5 ліпеня

Раніцай мы ўсталі даволі рана. Ball[*arine*] яшчэ спала. Вельмі прыемна пасьнедалі і пачалі разглядаць срэбра. [redacted] сапраўды «went wild»[1]. Навыбірала рэчаў аж на $1,500. І яшчэ шмат адклала на магчымы пазьнейшы закуп. Усяго й пералічыць цяжка, але пастараюся: 12 пасудзінкаў у срэбных падстаўках для дэзэрту; падстаўку для бутэлькі і 8 індывідуальных пад-шкапчыкаў; вядзерца для лёду і шчыпчыкі; паднос, даўгую лыжку-мяшалку; пасудзінку з сіняга шкла з срэбнай падстаўкай; 15 колцаў для салфеткаў (гэта для чаго мы паехалі — каштавала-б толькі нейкіх $300-400); цукерніцу й малочнічак (для Алесі) і маленькі кошычак (для Вялікоднага яечка для Алесі). Гэта ўсё мой падарунак на градуацыю і дзень народзінаў. Усё гэта выбіраньне заняло нам добрую частку дня.

Пасьля паехалі яшчэ ў магазын, але нічога цікавага не знайшлі.

Завезьлі Ball. у царкву (у гэтай царкве праз пару тыдняў будзе вянчацца Caroline Kennedy), а самі паехалі трохі паглядзець мясцовасьць. Пасядзелі каля пляжу.

Паехалі на вячэру. Гэтым разам плаціла Ball.

---

[1] *Раскашэлілася! Зора надта любіла срэбныя вырабы — усё: посуд, ювэлірныя рэчы, розныя дробныя забаўкі.*

### Нядзеля 6 ліпеня

Раніцай усталі рана. Пасьнедалі й паехалі. Ехалася зноў вельмі добра. Прыехалі дахаты пасьля 2-ой. У хаце горача. Ball[*arine*] яшчэ сядзела-б, але я стала парадкавацца, сказала, што маю яшчэ памыць бялізну.

Толькі паехала Ball. і я памыла бялізну, як увалілі ў хату каля 15 маладых людзей. Яны паміж выступамі (выступалі ў Liberty Park[1] і будуць яшчэ на стадыёне на заканчэньні) прыехалі да нас адпачыць, пераадзецца, памыцца. У хаце суматоха, беганіна з аднэй ваннай у другую. А тут яшчэ горача, душна. Паставіла ўсе халадзільнікі[2], круцёлкі. Нарэшце яны выбраліся з хаты.

Толькі яны выехалі, як Юра зноў вярнуўся — у Юркі Азаркі не завялася машына, дык трэба быў «jumper»[3].

Сталі глядзець тэлевізыю. Настрой нейкі напружаны, нэрвовы. Нашых на тэлевізыі не паказалі (хоць там на экране яны былі і нават назоў быў).

Прыехала Алеся. Яна была ў Надзін на моры цэлы канцатыдзень. Трохі загарэла. Срэбра ёй вельмі спадабалася. Юра прыехаў позна стомлены, але задаволены.

---

[1] *«Васількі» выступалі там з нагоды стагодзьдзя Статуі Свабоды. Пра гэта Зора дала нататку ў «Беларус»(№ 329, красавік-жнівень 1986):*

**УДЗЕЛ У ЮБІЛЕІ СТАТУІ СВАБОДЫ**

У Нью-Ёрку 4-6 ліпеня сёлета было вельмі ўрачыста адзначанае 100-годзьдзе пабудовы Статуі Свабоды. Юбілей сьвяткаваўся разам зь 210-мі ўгодкамі незалежнасьці Злучаных Штатаў.

Беларускія арганізацыі, у тым ліку Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ды іншыя, узялі актыўны ўдзел у зьбіраньні грашовых фондаў на рэстаўрацыю Статуі.

Да ўдзелу ў аднэй з найбольшых урачыстасьцяў, што адбылася ў нядзелю 6-га ліпеня, у заключным канцэрце на спартовым стадыёне Джайэнтс (70 тыс. месцаў), была запрошаная група моладзі з танцавальнага ансамблю «Васілёк» для паказу беларускіх нацыянальных касьцюмаў.

Абраз беларускага мастака, сябры БІНіМу, сп. Пётры Мірановіча «Імігранты» быў адным з экспанатаў на мастацкай выстаўцы, наладжанай з нагоды юбілею на Эліскім абтоку, што знаходзіцца недалёка ад Статуі Свабоды і празь які сваім часам праехалі тысячы беларускіх імігрантаў у Амэрыку.

Перад удзелам у заключным канцэрце на стадыёне, таго-ж самага дня, ансамбаль «Васілёк» выступіў зь беларускімі народнымі танцамі ў Парку Свабоды, што недалёка ад Статуі Свабоды.

[2] *Кандыцыянэры.*

[3] *Злучальны кабэль.*

**Панядзелак 7 ліпеня**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

Назад на работу. Ня хочацца. Weekend быў такі заняты.

**Аўторак 8 ліпеня**

Вітаўт таксама едзе ў Нью Ёрк. Яны будуць працаваць з Томам.

Касінца няма. В. прыйшоў пасьля Тома ў бібліятэку. Трохі папрацаваў. Схадзілі на абед. Вельмі задаволены з працы з Томам. Шмат зрабілі за пару гадзінаў.

**Серада 9 ліпеня**

Вітаўт у Нью Ёрку. У радыё.

Заказаў гатэль у Stanford.

Залагодзіў таксама справы ў банку.

Ішлі да аўтобуса разам з Ball[*arine*]. Падышоўшы да 8-ага авэню, заўважылі, што нешта не ў парадку. Port Authority[1] закрылі (была небясьпека бомбы); людзей поўна, аўтобусы не пускаюць ні ў будынак, ні з будынку. Ніхто нічога ня ведае.

Вырашылі мы з ёй ехаць цягніком. Пазванілі Вітаўту — ён нас спаткае ў Ратэрфорд[*зе*] на станцыі.

Даехалі добра. Ball. яшчэ зайшла да нас, але доўга не сядзела — хутка, як паелі, й павёз яе В.

---

[1] *Аўтобусны вакзал.*

**Чацьвер 10 ліпеня**

Касінец меў нейкія паседжаньні ў бібліятэцы. Быў сёньня цэлы дзень. Пазваніў пазьней, што залагодзіў для нас з Hoover і Berkeley. З Zalewsky'м я пагаварыла на канвэнцыі. Усё выглядае ў парадку[1].

Ехалі дахаты з Ball[arine] зноў. Сёньня ўсё ў парадку было.

В[imaўm] заказаў матэль у San Francisco. Усё выглядае ў парадку.

А[леся] пазваніла, што з машынай усё залагоджана. Яна нам пераслала ўпаўнаважаньне карыстацца ейнай крэдзітнай карткай.

---

[1] *Мы плянавалі адведаць большыя бібліятэкі ў Каліфорніі, дзе ёсьць беларускія кнігазборы — бібліятэку Гувэра і бібліятэку Стэнфардзкага ўнівэрсытэту.*

**Пятніца 11 ліпеня**

Касінец зноў пайшоў рана. Я парадкавала канцы[1]. Прыбрала трохі на сваім стале. Зрабіла рэпорт[2] пра кірылічную каталягізацыю для Касінца.

Кампютэр зноў не працаваў. Баюся, што наш рэпорт ня будзе вельмі прыхільны. Пагаварыла з Williams'ам — мы далей будзем каталягаваць у транслітэрацыі. Усё, здаецца, спарадкавала.

Вечарам трохі яшчэ пакавалася.

Юра на дыжуры.

---

[1] *Розныя недаробкі.*

[2] *Справаздачу.*

**Субота 12 ліпеня**

Схадзіла зрабіць валасы. Пагода хмурная і марасіць.

Пасьнедалі. Прыехаў Юра. Памыла трохі бялізны. Павезьлі зь Юрам пасушыць у пральню. Пакуль сушылася — зьезьдзілі ў Пасэйк — купіла сабе штанішкі і скарпэтачкі.

Парадкавалася, пакавалася.

Юра адпачываў. Павячэралі.

Усё прыгатавана.

Юра паехаў да Бахаравай.

Прыехаў каля 12-ай.

**Нядзеля 13 ліпеня**

Юра завёз нас на аэрадром.

Самалёт бы ў час. Ляцелі добра. У Далас была перасадка, але ня было ні доўга, ні камплікавана.

Прыехалі ў San Francisco памысна. Узялі машыну. Знайшлі матэль — ён трохі далёка ад цэнтру, але вельмі прыемны пакой. Адпачылі трохі і паехалі ў S. F. Там трохі паблудзілі, пакуль папалі на набярэжную Fisherman's Warf. В[imaўm] ужо пачаў злавацца. Зусім ня тое, што я прыпамінала з нашага першага падарожжа. Але неяк усё наладзілася, мы добра павячэралі, яшчэ трохі прайшліся і паехалі назад.

Вечар прайшоў спакойна й прыемна. Тут так прахладна, што ноччу аж цяпло пайшло ў пакоі.

**Панядзелак 14 ліпеня**

Раніцай паехалі пад Stanford Univ. Пасьнедалі, ужо прыехаўшы

ў Palo Alto. У бібліятэцы спаткаліся з Zalewsky[1]. (Трохі паблудзілі, пакуль знайшлі, дзе прыпаркаваць).

З бібліятэкай хутка азнаёміліся. Папрацавалі да 4-ай гадзіны. Шмат знайшлі цікавага беларускага матар'ялу 20-ых гадоў — першыя выданьні «Маладнякоўцаў».

Паехалі ў матэль, але В[*ітаўт*] яшчэ захацеў паехаць назад у бібліятэку. Павячэралі й паехалі назад. Пакойчык тут меншы й не такі ўтульны, як у S. F.

Едучы ў матэль, убачылі таксама, дзе ёсьць магазын Szwede[2].

В. пазваніў Арцюху. Ён пляну спаткацца неяк разам.

Абяцалі пазваніць яму заўтра, як у нас больш выкрышталізуюцца нашыя пляны.

---

[1] *Войцех Залеўскі быў куратарам славянскіх і ўсходнеэўрапейскіх збораў у бібліятэцы Стэнфардзкага ўнівэрсытэту. Польскага паходжаньня. Мы зь ім цесна супрацоўнічалі — добра арыентуецца ў беларускіх справах.*

[2] *Дзе прадаваліся і беларускія кнігі.*

**Аўторак 15 ліпеня**

Пайшлі сёньня ў Hoover Library. Спаткаліся там з J. Dwayer і J. Sekierski[1].

Яны нам расказалі пра бібліятэку. Паказалі беларускія матар'ялы. Шмат цікавага зноў знайшлі — цяпер ужо палітычнага, незалежніцкага, шмат матар'ялаў з Латвіі.

Зноў папрацавалі цэлы дзень. Трохі выходзілі на двор.

Кампус[2] тут цудоўны — прасторна, прыгожа. Пагода надзвычайная. Усё цьвіце, усё пахне. Адно ходзячы па кампусе — адпачываеш.

Павячэралі й адпачывалі. В[*ітаўт*] пазваніў зноў Арцюху — дамовіліся спаткацца ў пятніцу ў Косьціка Вайцяхоўскага[3].

Пазванілі да Косьціка, каб упэўніцца, што ўсё зь ім залагоджана.

---

[1] *Бібліятэкар, пісаў і на беларускія тэмы.*

[2] *Унівэрсытэцкі гарадок (campus).*

[3] *Наш блізкі сябар з 1945 году.*

**Серада 16 ліпеня**

Сёньня пайшлі яшчэ ў бібліятэку. Перагледзелі некаталягаваны матар'ял у Dwayer у кабінеце — так лягчэй, чымся выпісваць па кніжачцы — тут стакі[1] закрытыя. (У Stanford Library было прасьцей — там мы хадзілі па стаках самы).

Зьезьдзілі да Szwede[2]. Знайшлі трохі беларускіх кніжак. Адну дык сапраўды знаходку — выданьне «Нашай Нівы» — пераклад Ажэшка. Гэтую кніжачку яна нам дала «за так». Выбрала таксама трохі кніжак для бібліятэкі. Дамовіліся зь імі заўтра на вячэру.

Паехалі ў [*Гувэраўскі*] архіў. Там прасядзелі да вечара, але нічога цікавага не знайшлі.

Вечарам, па вячэры, адпачывалі, парадкавалі паперы. Я пішу дзёньнік.

[1] Кнігасховішчы (stacks).
[2] Славянская кнігарня.

**Чацьвер 17 ліпеня**

Сёньня ў архіве. Я вялікай надзеі на архівы ня маю, але Вітаўт спадзяецца нешта знайсьці.

Цэлы дзень там папрацавалі, але нічога надта важнага не знайшлі, адно толькі ліст Луцкевіча да францускага пасла аб нейкай няведамай асобе[1].

Вечарам паехалі да Szwede: трохі яшчэ знайшлі там кніжак. Схадзілі разам зь імі на вячэру. Вельмі прыемна правялі час. Яны мілыя людзі й даволі цікавыя.

Вечарам адпачывалі й трохі ўжо зьбіраліся, пакаваліся.

[1] У гэтых архівах, пераважна польскіх, яшчэ трэба пакапацца!

**Пятніца 18 ліпеня**

Я з раніцы яшчэ заехала да Szwede, пераглядалі зь ёй кнігі польскія, якія яна нам мае высылаць — для яе арыентацыі, каб яна мела нейкую мерку, што нам патрэбна, а што не.

Mr. Szwede падвёз мяне пад архіў, дзе Вітаўт яшчэ працаваў.

Пайшлі разам пасьнедаць у студэнцкую кантыну[1] — было ўжо праўда блізка абеду.

Пайшлі спачатку разьвітацца з Zalewsky'м, а потым у Hoover з Dwayer і Sekierski'м.

Паехалі да Косьціка Вайцяхоўскага. Даехалі добра, зусім ня блудзілі. Там ужо быў Арцюх. Сядзелі, гаварылі, адпачывалі. У іх домік прыемны, асабліва пры доміку. Пагода цудоўная. Трохі пазьней прыйшоў Юрка Станкевіч з жонкай і затым дачка Арцюха. Дзеці Косьціка прыходзілі й выходзілі — ніхто дома не застаўся. Павячэралі ўсе разам. Было даволі прыемна. Пасьля паглядзелі яшчэ video, што Косьцік рабіў перад гэтым. Пайшлі спаць даволі позна[2].

Заўтра з самага раньня паедзем.

[1] Сталоўку.
[2] Заначавалі ў Косьціка.

**Субота 19 ліпеня**

Усталі ня позна, бо хацелася хутчэй выехаць. Яны людзі гасьцінныя, але ў нас свае пляны.

Пасьнедалі й паехалі. Паехалі пад Pacific coast[1], спадзеючыся нешта напаткаць прыемнае, дзе затрымацца на пару дзён і адпачыць.

Я трохі ўжо стамілася ад усіх гэтых бібліятэкаў. Гэта-ж мае канікулы, урэшце рэшт.

Нічога цікавага не знайшлі. Праўда, былі некаторыя мясьцінкі, што можна было-б і затрымацца, але было так холадна й хмарна, што сапраўды ня было ні прыемна, ні цікава, ні разумна заставацца на пабярэжжы.

Па дарозе вырашылі ехаць пад Berkeley, а тады ўжо думаць, што будзем рабіць. Дабраліся да Berkeley ўжо стомленыя, раздражонныя, разнэрваваныя. У горадзе ня было сэнсу затрымлівацца. Паехалі далей. Знайшлі нейкі матэль і сталі. Такой дзіркі яшчэ ў Амэрыцы мы ня бачылі, за ўсё наша падарожжа. Але пазьней праехаліся й знайшлі нейкі парк, дзе трохі адпачылі. Настрой трохі направіўся.

Заказалі пакой на заўтра ў Berkeley.

---

[1] *Бераг Ціхага акіяну.*

**Нядзеля 20 ліпеня**

Раніцай пасьнедалі й зноў паехалі ў той парк. Трохі адпачылі, але ўжо гэта ня тое, што чалавек спадзяваўся, што хацеў-бы.

Паехалі ў Berkeley. Там ужо пакой быў зусім іншы. Прыемна было адпачываць пасьля ўчарайшага.

Агледзелі кампус, дзе заўтра запаркаваць. Усё выглядае проста. Кампус тут, пасьля Stanford, зусім не такі ўжо прыемны: шмат hippies, нейкія ўсе растрэпаныя, брудныя. Але жыцьцё поўнае, шмат студэнтаў. Павячэралі ў нейкім рэстаранчыку, які называецца Kip's. Нічога асаблівага. Думалі яшчэ схадзіць у тэатр, але п'еса не выглядала цікавай — нейкага нэгрыцянскага аўтара з нэграмі-артыстамі.

Вечарам адпачывалі. Пазванілі ў San Francisco, заказалі пакой на заўтра.

**Панядзелак 21 ліпеня**

Сёньня цэлы дзень правялі ў Berkeley. Калекцыя тут не такая багатая, як у Stanford. Праўда, было шмат цікавых рэчаў. Адна зь іх, даволі поўны камплет «Летапісу». Той асобы (Urbanik), што Касінец мне раіў, — ня было. Ён перадаў усё аднэй жанчыне Simonne Klugman, якой Касінец нават не ўспамінаў. Яна нам паказала бібліятэку, дала дазвол у сховішчы, і мы ўжо самі працавалі.

Адкрыцьцяў ніякіх не зрабілі але трохі папрацавалі. Добры артыкул мне для рэцэнзіі пра Мяле[illegible]ку.

Выехалі з Berkeley пасьля 5-ай. У San Francisco даехалі добра, знайшлі матэль. Пакой вельмі прыемны. Быў трохі канфлікт, што рабіць вечарам, але хутка заладзілі. Пайшлі прайсьціся, паглядзець, дзе можна паесьці, дзе бібліятэка.

Холадна. Хацелася хутчэй у памешканьне. Купілі віна і яды і елі ў сябе ў пакоі. Вечар правялі спакойна. Трохі я ўжо пачала пакавацца.

**Аўторак 22 ліпеня**

Раніцай спакаваліся й пайшлі пад бібліятэку. Пасьнедалі.

Бібліятэка адкрываецца толькі а 10-ай, дык было часу яшчэ пахадзіць, паглядзець па горадзе. Купілі Юру кашульку й трусы.

У бібліятэцы вельмі мала беларускага матар'ялу, адно толькі стандартныя: Vakar, Adamovich, Loftus, і падобнае. Трохі з бел. літаратуры.

Я спаткалася з Molly Malloy, Касінцовай знаёмай. Трохі пагаварылі. Яна вельмі-ж яго хваліць. Між іншага, сказала, што ён мае высокі ціск крыві.

Доўга там ня былі — пайшлі назад у гатэль — там ужо наш пакой парадкавалі. Добра, што я ўсё амаль спакавала.

Паехалі на аэрадром, здалі машыну. Была там нам прыкрая неспадзеўка — машына нам каштавала $280.

Самалёт трохі спазьніўся, але ехалася добра. У Dallas мелі мала часу для перасадкі. Прыехалі ў Newark таксама са спазьненьнем. Юра нас ужо чакаў. Багаж наш ня прыйшоў (першы раз за ўсе нашыя падарожжы). Яшчэ затрымаліся там залагодзіць усё: багаж прывязуць дахаты заўтра.

**Серада 23 ліпеня**

Юра пайшоў на працу — ён сёньня застаецца на дыжур.

Вітаўт паехаў у радыё. Спадзяецца зрабіць два скрыпты з Stanford і Hoover і «Беларусы ў Каліфорніі».

Я адпачываю, падчэкваю багаж. Пазванілі, што прывязуць.

Так цэлы дзень у чаканьні й правяла.

Прывезьлі толькі пасьля 4-ай. Усё ў парадку.

В. прыйшоў позна. Там добра ўсё зрабіў. Залагодзіў таксама справы ў банку.

Адамовіч узяўся ўжо за [*творы*] Кавыля.

Ага, учора было, зразумела, шмат пошты. Быў таксама ліст прыхільны наконта paper[1] аб Трыстане на Medieval Conference ў Каламазу на наступны год. Добра было-б, каб усё пазытыўна залагодзілася. Канчаткова буду ведаць у лістападзе.

Адпачывалі. Было пару тэлефонаў. Званіў [*Мікола*] Грэбень.

---

[1] *Дакладу.*

**Чацьвер 24 ліпеня**

Раніцай пачалі зьбірацца на фарму, і зноў трохі быў канфлікт, але неяк залагодзілі і паехалі. Пагода цёплая, але ў машыне прыемна.

Заплацілі таксу[1] й паехалі ў ягады. Амаль ня выйшла, бо яны былі ўжо зачынялі на дзень. Але неяк нам удалося ўгаварыць, каб нас пусьцілі, а тады мы заплацілі ім у хаце.

Сабіралася добра: ягады вялікія і шмат. Трохі горача было, бо самы поўдзень. Сабралі й паехалі на мора.

Там вельмі прыемна адпачылі. Пагода добрая, вада цёплая, праўда, шмат было мядузаў — ніколі я так шмат іх ня бачыла. Аднавілі

парасолік, што Юра мне падараваў на дзень народзінаў. Пасядзелі там да 5-ай. Павячэралі й паехалі дахаты. Дома былі па 8-ай. Юра нас падчэкваў, трохі быў заснуў. Стомлены пасьля дыжуру. Паеў трохі ягадаў, але кажа, што кіслыя.

Званіў Калоша. Пазванілі Алесі, у яе ўсё добра, але зьліцьцё з другой кампаніяй не адбылося.

[1] *Падатак (tax).*

**Пятніца 25 ліпеня**

Сёньня парадкуюся. Памыла бялізну з дарогі.

Пазваніла да доктара, дамовілася на агляд на 9 жнівеня.

Выйшла трохі на двор — пагода трохі прыямнейшая — вецярок падмувае.

Пішу дзёньнік.

Юра паехаў на пробу.

Заязджала Лорэйн — прывезла ягад. Яна са сваімі сваякамі езьдзіла ў ягады ў South Jersey.

Трохі пабыла й паехала.

**Нядзеля 27 ліпеня**

Езьдзілі ў Патэрсон на рынак. Купілі мяснога й фруктаў. Заўтра пачнем дыету.

Заехалі ў Royal Silk — купіла сабе добрую белую блюзачку.

Пазваніў Касінец — распытаўся пра паездку.

Мы адпачываем — заўтра на працу.

**Панядзелак 28 ліпеня**

Першы дзень на працы. Купіла цукерак, але неяк людзей мала, дык настрою ня было.

Куравіцкі добра справіўся з каталёгізацыяй, дык мне ўжо й ня так шмат накапілася. Трохі было пошты, але нічога асаблівага.

**Аўторак 29 ліпеня**

Працавала вечарам. Было даволі спакойна.

**Чацьвер 31 ліпеня**

Рабіла статыстыку, time sheets.

Дзень быў нейкі хаатычны.

Касінец пайшоў рана.

**Пятніца 1 жніўня**

Касінца ня было цэлы дзень, але ўжо нават і адпружаньня не вычуваецца, людзі такія запужаныя.

Атрымала зарплату, але чэк не мяняла.

Павячэралі.

В[*ima*ў*m*] з Юрам паехалі да яго на новую кватэру — завезьці трохі рэчаў: крэслы, палічку.

Раптам пачаўся такі лівень, што я чуць пасьпела зачыніць вокны. Правазілася выціраючы, аж пакуль яны ня прыехалі.

В. вельмі задаволены Юравым памешканьнем. Заўтра Юра ўжо будзе перабірацца зусім.

**Субота 2 жніўня**

Я зрабіла прычоску.

Рана прыехала Лорайн. Пасьнедалі і пачалі пакаваць машыны — аж тры. Спакаваліся (амаль усё забралі) й паехалі.

Кватэра сапраўды прыемная й выгодная. Мейсца добрае.

Мы распакавалі нашую машыну і памаглі ім занесьці цяжэйшыя рэчы й паехалі самі. Хутчэй ужо хочацца самім быць — адпачываць калі й як хочацца. Прысутнасьць некага ўжо (хоць і чалавека, якога вельмі любіш) пачынае трохі нэрваваць. Пара ўжо нам аб сабе толькі клапаціцца й думаць.

Трохі мыла бялізну.

Неяк раней (не прыпамінаю калі) званіў Сяргей Карніловіч — у іх там затрымка зноў з дазволам на будоўлю залі. Вырашыцца толькі ў сярэдзіне верасьня. Шкада, што на сустрэчы ня будзе нічога канкрэтнага яшчэ.

**Нядзеля 3 жніўня**

Раніцай пасьнедалі — неяк дыета нашая ня ладзіцца. Прынамсі, я неяк не магу строга трымацца.

В[*ітаўт*] паехаў у New Brunswick забраць Асіпчыка[1], ды завезьці яго на аэрадром. Прыехаў стомлены.

Па абедзе прыехалі Юра й Лорэйн ізноў. Трохі яшчэ рэчаў забраў. На вячэру яны не засталіся. Паехалі яны яшчэ ў магазын і тады адразу-ж да Юры. Мусіць, вычулі, што мы хочам быць самі.

В. пазваніў вечарам да Калошы — Асіпчык прыехаў у парадку. Ён там пабудзе колькі тыдняў.

В. казаў, што пад царквой настрой нейкі напружаны. Прыехаў уладыка Мікалай — будзе сход каб вырашыць іхныя праблемы з сьвятаром. а. Аляксандар нешта капрысіць.

---

*[1] Аляксандар Асіпчык, беларускі актывіст, наш добры знаёмы зь Нямеччыны з 1946-1948 гадоў. Блізка супрацоўнічаў з клііўлендзкім культурным цэнтрам «Полацак», даў на яго добрую суму грошай.*

**Панядзелак 4 жніўня**

Ехалі ў Нью Ёрк разам. Вітаўт мае залагодзіць справы ў банку і IRS (ён хоча заплаціць наперад за тое, што атрымаў ад пэнсіі)[1].

Хадзіў таксама ў Радыё.

У мяне ўсё спакойна.

В. прапанаваў схадзіць з Запруднікам на абед — у сераду яму будзе 60.

Мела трохі прыкрую гутарку з Касінцом пра новыя пазыцыі для каталягізацыі: ён хацеў уставіць у апісаньне функцыяў, што Куравіцкі будзе кіраваць новымі працаўнікамі. Я заартачылася. Па-першае, мы меркавалі, што я буду адказная, ■ па-другое — К. ніяк не будзе мець ні часу, ні магчымасьці — гэта яго адарве ад нашай працы. Настрой у мяне быў паскудны. Не падабаюцца мне Касінцовы камбінацыі.

---

[1] *Розныя пабытовыя справы. IRS (Internal Revenue Service) — Ведамства падаходнага ўліку.*

**Аўторак 5 жніўня**

Прыйшла даволі рана — мела яшчэ час дык пайшла ў магазын, каб пашукаць нешта для Зап[*рудніка*] на падарунак. Купіла сёе-тое. Яшчэ, можа, што знайду, бо так нялоўка будзе йсьці.

**Серада 6 жніўня**

Адразу-ж зраньня запэўнілася з Касінцом, што пайду на даўгі абед сёньня.

Перад 12-ай спаткаліся з В[*ітаўтам*] і паехалі да Радыё. Там ужо чакалі Адамовіч, Запруднік, Шукелойць ды Адам Акуліч. Пайшлі ў Японскі рэстаран. Зусім ня цікава, я ўзяла нейкі суп — нічога больш надта ня было — запляміла сабе блюзачку, дык цэлы дзень усё ніякава чулася.

Аддалі бабцы ўсе грошы, што пазычалі на кару[1]. Усё ўжо сплочана.

---

[1] *На куплю машыны (car).*

**Чацьвер 7 жніўня**

Раніцай быў пазваніў Запруднік (ці В[*ітаўт*] яму пазваніў), падзякаваў за падарункі[1] — усё яму падабаецца.

Нічога цікавага на рабоце. Зрабіла Вітаўту хегох з патрэбных для яго артыкулаў, вытрымкаў з артыкулаў, фактычна.

Вечарамі працую трохі з Трыстанам.

---

[1] *На дзень нараджэньня.*

**Пятніца 8 жніўня**

На рабоце ОК. Толькі ОК, праўда. Нeяк адносіны з Касінцом нявыразныя. То ён раскрываецца й гаворыць такія рэчы пра работнікаў, што мне й слухаць ня цікава, то ён нічога не паведамляе мне, што робіцца. Стараецца, каб я ўсё менш і менш была ўключана ў працу аддзелу. Неяк мне ўсё гэта пачынае дакучаць. Але я мушу трымацца, бо хачу яшчэ пару гадоў парабіць.

В[*ітаўт*] пазваніў па абедзе: пазванілі ад доктара з інструкцыямі, як рыхтавацца да візыты[1].

---

[1] *Гадавая мэдычная праверка.*

**Субота 9 жніўня**

З самага раньня пачала рыхтавацца да доктара. Паехалі а 8:30. Там доўгая працэдура была. Агледзеў мяне з ног да галавы — літэральна. Доктар вельмі сымпатычны. Усё тым часам выглядае ў парадку. Яшчэ колькі тэстаў[1] трэба будзе зрабіць.

Вымучылася і я, і Вітаўт, чакаючы мяне. Аж дзьве гадзіны была ў доктара. Паехалі яшчэ ў фармацыю[2] і па сьнеданьне. Пасьнедалі, і я трохі парадкавалася: памыла бялізну, трохі папарадкавала ў хаце. Вітаўт, праўда, цяпер прыбірае ўсё ў пятніцу. Такая гэта для мяне палёгка.

Трохі працавала. Адпачывалі. Валасы рабіла па абедзе. Неяк цэлы дзень быў разьбіты, і мы самі былі разьбітыя цэлы дзень.

---

[1] *Аналізаў (tests).*
[2] *У аптэку (pharmacy).*

**Нядзеля 10 жніўня**

Пасьнедалі. Я трохі парадкавалася, а В[*ітаўт*] пайшоў спаць.

Як прачнуўся, паехалі ў Патэрсон. Купілі памідораў, агуркоў і вінаграду.

Заехалі яшчэ таксама ў шоўкавы магазын. Купіла блюзачку, якая добра падыйдзе для Надзін вясельля. Атрымалі ад іх запросіны.

Ага, званіў рана Юра, пытаўся пра крэсла, што на фарме — ён хоча яго забраць для сябе.

Пазваніла на фарму, але там нікога зь іх ня было.

Выйшла на двор і пішу дзёньнік. Надвор'е трохі лепшае, але ўсё яшчэ душнавата. Мы як прыехалі з Каліфорніі, то ня мелі яшчэ палёгкі: альбо горача й душна, альбо дажджы.

**Пятніца 29 жніўня**

Дзень сёньня вельмі хаатычны. Зьбегала ў банк. Тады рабіла «time sheets», статыстыку. Прыходзіў А. Надсон — пайшлі зь ім трохі на каву. Гаварылі пра «Кніга Беларусі» — ён ужо яе бачыў, кажа, што шмат недахопаў, ды пра Pseudo-Mialeshka[1]. Ён гэтую кнігу ведае і лічыць, што гэта вельмі непаважнае ўкраінскае прысабечваньне. Цяжка мне будзе рабіць рэцэнзыю.

Вельмі завіхалася, але скончыла ўсё амаль задуманае. Пайшла з працы а 2-ой. Зрабіла валасы і а 4-ай ужо выехалі. Ехалася добра[2], праўда, трохі трафік зноў быў каля Dover. Недзе пасьля 9-ай ужо сталі. Матэль той, што мы любім, ужо зноў зьмяніў уласьнікаў — цяпер даражэй і не такі ўжо прыемны. Добра перакусілі й адпачывалі. Вітаўту баліць палец — мусіць, падагра.

---

[1] *Каталёг «Кніга Беларусі 1517-1917» — рэцэнзіі рабілі і Зора, і а. Надсон. «Псэўда-Мялешка» — кніга, выдадзеная Ўкраінскім інстытутам у Гарвардзе.*
[2] *Паехалі ў Кліўленд.*

**Субота 30 жніўня**

В. цэлую ноч мучыўся з пальцам. Раніцай ледзьве ўзьдзеў чаравік. Да Кліўленду дабраліся добра. Там ужо балаган з матэлямі — Калоша бегае як падсмалены — ніхто нічога ня ведае. Нарэшце знайшлі свой матэль, але там толькі прыехаў наш аўтобус, дык зноў балаган. Паехалі назад у Полацак — В. расклаў свае кніжкі.

А гадзіне 1-ай паехалі замэльдаваліся ў матэль — пакой добры. В. мучыцца з нагой, але рашыў нікому не казаць прычыну. Спаткалі Каханоўскіх, дамовіліся зь імі на нядзелю. Гаворым зь людзьмі — шмат прыехала адусюль. Я сабе ўжо падглядаю кандыдатаў для інтэрвію, ды для рэпартажаў [*для «Беларуса»*].

Паехалі ў матэль пераадзецца перад сымпозыум[*ам*]. Адзела чырвоную сукенку. На Полацку ідуць паседжаньні. На паседжаньні БНР зацьвердзілі нам грант на кнігу пра нацыяналізм[1].

Ледзьве знайшлі мейсца, дзе будзе сымпозыум і баль. Балаган паўнейшы. Пачалі са спазьненьнем, бо людзі блудзілі, але прайшло добра. В. зрабіў выставу «Нашай Нівы». В. рэфэрат быў добры, але Жучыхі дык проста жах — укладаньне сярэдняй школы.

Пасьля сымпозыум[у] уладыка Мікалай агледзеўся, што яго машына прапала. Мы паехалі пераадзецца, бо было столькі шмат чырвоных сукенак. Адзела сінюю-фіялетавую. Баль быў ОК. Мы доўга не сядзелі, бо стаміліся. В. зноў мучыўся з нагой ноччу.

---

[1] *Кніга-хрэстаматыя пра беларускую дзяржаўнасьць «Byelorussian Statehood» выйшла ў 1988 годзе.*

**Нядзеля 31 жніўня**

Пагода надзвычайная. Рэдка так прыемна бывала.

Паехалі раніцай да Каханоўскіх. Трохі пагаварылі, паглядзелі яшчэ здымкі — пару выбралі. Паехалі пад гатэль, дзе меў быць банкет і канцэрт. Юра быў ужо там — змучаны. Банкет пачаўся са спазьненьнем, бо сабралася болей гасьцей, чымся спадзяваліся. Мы сядзелі за агульным сталом. Вітаўт вёў банкет — было ўсё вельмі прыстойна, але Жучыха зноў прачытала свой «рэфэрат». Вельмі-ж гэта не спадабалася людзям.

Канцэрт быў слабенькі, бо была вельмі малая плятформа-сцэна. Танцы былі зусім не эфэктоўныя. Я пачала свае інтэрв'ю. Пасьля канцэрту паехалі на Полацак. Там В. яшчэ быў каля кніжак, а я ўжо інтэнсыўна гаварыла зь людзьмі. Ужо было сьцямнела, а я яшчэ шукала людзей. Пасьля 9-ай пайшла да Калошы і пачала перадрукоўваць. Пару гадзін друкавала, а В. падчэкваў і мучыўся з нагой. Надта-ж яму не пашчасьціла.

Стамілася й я. Прыехалі ў матэль ужо каля поўначы. Прывезьлі й Русака Васіля. Наогул мы шмат падвозілі — слаба было ўсё гэта зарганізавана. Юра недзе начуе — да нас ня прыйшоў.

**Панядзелак 1 верасьня**

Раніцай Юра прыйшоў да нас, каб завезьці яго на аэрадром. В[*ітаўт*] зусім ня можа рухацца. Я павезла. Ю. параіў папарыць нагу. Трохі палепшала, але чаравік ужо зусім ня мог надзець — так у скарпэтцы й паехаў на Полацак. Там ужо рашыў сказаць Сяргею — бо і ў яго было некалі такое — можа, ён што параіць.

Пагода цудоўная. Сяргей павёз людзей на аэрадром, а мы яго ўсё чакалі й адпачывалі. Пасьнедалі, і я яшчэ зрабіла пару інтэрв'ю, закончыла перадрукоўваць. Аддала матар'ял Шукелойцю. В. сабраў свае кнігі. Дачакаліся Сяргея. Ён даў В. нейкія пігулкі — і паехалі.

Пасьля 3-яй былі ўжо каля Ann Arbor. Затрымаліся ў матэлі. У пакоі ня было ручнікоў. Пакуль упарадкаваліся. Сёньня Labor Day — працаўнікі пайшлі раней. Я схадзіла прынесла нешта есьці, бо В. нават кроку ня можа бяз болю ступіць. Паелі без апэтыту. Настрой трохі цяжкаваты, але В. ужо трохі адпачывае. Сяргей яму даў нейкія лапці — дык хоць можа выйсьці з машыны.

**Аўторак 2 верасьня**

Раніцай паехалі пад унівэрсытэт. Шмат блудзілі, пакуль знайшлі дзе пасьнедаць — ды дрэнь і знайшлі. Пазьней шмат блудзілі, каб знайсьці, дзе прыпаркавацць. Кампус[1] у самым горадзе, паркінгаў няма. Ну, але нeяк знайшлі бібліятэку, мейсца дзе стаць. Я пайшла пазнаёміцца са славянскімі бібліятэкарамі, а В[*ітаўт*] адразу пайшоў у каталёг. Знайшлі трохі цікавых матар'ялаў, але доўга там ня было сэнсу затрымлівацца[2].

А гадзіне 3-яй ужо выехалі ў кірунку Columbus. Па дарозе купілі фруктаў. Натрапілі на фармэрскі базарчык-магазынчык. Ехалася добра. Памысна даехалі да Columbus. Затрымаліся ў прыемным мейсцы. Схадзілі павячэралі. В. нага ўжо трохі лепей. Пігулкі памаглі — пухліна спала, адно нага, ад нядобрага ступаньня, натрудзілася.

Ужо ляглі адпачываць і глядзець T.V. — я ўзяла сьліўкаў... і неяк неасьцярожна ўкусіла і адламала кавалак зуба на самым перадзе. Вось неяк нам ня ладзіцца. Але каб большай бяды ня было — мы ўжо навучыліся філязофска да ўсяго ставіцца.

---

[1] *Унівэрсытэцкі гарадок.*

[2] *Беларуская калекцыя ў Эн Арбар мэтадычна разбудоўваецца, перавага аддаецца лінгвістыцы, літаратуры, гісторыі. Вельмі шмат мікрафільмаў. У гэтым унівэрсытэце былі зробленыя некалькі дактаратаў на беларускую тэматыку.*

**Серада 3 верасьня**

Паехалі пад унівэрсытэт Ohio State. Тут ужо з паркінгам было трохі прасьцей. Знайшлі бібліятэку, і я пайшла ў Hillander Room да Mayeir'а, а Вітаўт працаваў з каталёгам. Ён мне добра расказаў пра іхную калекцыю й пазнаёміў з славянскім бібліятэкарам, зь якім В. ужо быў пазнаёміўся сам.

Знайшлі трохі цікавых кніжак. Як усюды, часам выпадкова, напаткаеш нешта цікавае. Але самае галоўнае, што навязваеш кантакты, што паказваеш, што ёсьць беларусы, якія цікавяцца калекцыяй, што ёсьць беларусы наагул.

Выехалі з Columbus ня позна. Давялося ехаць праз увесь горад. Але як папалі на дарогу, дык была даволі пустая й дзікая ваколіца — нават былі спужаліся, што газаліны[1] па дарозе ня будзе — мусілі зьехаць у гарадок ды заладавацца[2].

Затрымаліся недзе ў Virginii. Добры матэль. Адпачывалі. Дахаты званілі штодня — там усё добра.

[1] *Бэнзінавай запраўкі.*
[2] *Заправіцца.*

**Чацьвер 4 верасьня**

Раніцай пасьнедалі й рашылі яшчэ заехаць у невялічкі гарадок Blacksburg, дзе знаходзіцца Virginia Polytechnic Univ. Там, В[*ітаўт*] казаў, некалі патрабавалі славянскага бібліятэкара, ды можа будзе нейкая славянская калекцыя — можа, што й зь беларускага будзе. Трохі марасіць дожджык.

Едзем ужо ў гарах, дарогі добрыя, але крутыя. У кампус дабраліся лёгка, пры самай дарозе. Вельмі прыгожы, прасторны гарадок — усё ў адным стылі — вельмі добрае ўражаньне засталося. В. знайшоў трохі нейкіх бел. кніжак, але гэта ніяк нельга лічыць калекцыяй.

Паехалі далей і ўжо па абедзе былі ў Chapel Hill [*штат Паўночная Караліна*]. Тут зноў праблемы з паркаваньнем, блудзілі, нэрваваліся, але нарэшце ўпарадкаваліся. Я пайшла да Надзі Zilper[1], а В. — пры каталёгу. Яна пачала мяне вадзіць па бібліятэцы, расказваць пра ўсё, але не пра тое, што нас цікавіць. Яна з новых — з акцівістаў. Але ўважлівая да беларускага. Папрацавалі і паехалі ў гатэль. Яшчэ паблудзілі, але знайшлі добры. Пад'ехалі мэльдавацца... і стала машына. Паклікалі ААА[2] — яны хутка прыехалі, забралі — заўтра рана направяць. Добра што блізка гатэлю гараж і што мейсца маем. Павячэралі й адпачывалі, але настрой трохі напружаны — усё-ж ня пэўна, як будзе заўтра.

[1] *Надзя Зілпэр — адказная за славянскія кнігазборы. Вельмі пільна сачыла за беларускім кнігадрукам і сабрала добрую беларускую калекцыю.*
[2] *American Automobile Association — Амэрыканская аўтамабільная асацыяцыя — арганізацыя-клюб аўтамабілістаў, першая арганізацыя для дапамогі пры аварыях, выдае цудоўныя турыстычныя карты, даведнікі. Практычна кожны другі амэрыканец належыць да гэтага клюбу. Дзейнічае вельмі спраўна.*

**Пятніца 5 верасьня**

Машыну наладзілі, пакуль мы пасьнедалі. Усё ў парадку. Выехалі адтуль ня позна, былі ўжо па дарозе ў Durham — гэта зусім не далёка.

Яны маюць лучную сувязь, гэтыя два ўнівэрсытэты: Chapel Hill і Duke (і яшчэ трэйці ў Charlotteville, а гэты мы ўжо не патрафілі цяпер адведаць).

У Duke зноў блудзілі й шукалі, дзе прыпаркавацца. Але нарэшце добра ўсё заладзілі. Пагаварылі з Orest Pelech, ён вельмі знаёмы з нашымі праблемамі — сам украінец. Калекцыя тут даволі цікавая, але выпадковая[1]. Паводле яго — ніякай сыстэматычнай славянскай праграмы тут няма. Ён, зразумела, будзе старацца, каб набываць славянскія кніжкі, у тым ліку й беларускія. Знайшлі пару цікавых кніжак, зрабілі крыху копіяў.

Выехалі з Durham ня позна, але папалі ў трафік. Пагода сапсулася. Рашылі пад'ехаць крыху бліжэй пад акіян, але так, каб была магчымасьць ехаць у суботу далей, пад Delaware, калі тут будзе дождж. Затрымаліся зноў у Holiday Inn.

---

*[1] Ва Ўнівэрсытэце Дука ёсьць шмат старых матэрыялаў пра губэрні «Северо-Западного Края».*

**Субота 6 верасьня**

Сёньня рана ўжо было відаць, што распагодзілася. Рашылі ехаць пад Nags Head. Дарога была прыемная, невялічкай, але спакойнай дарогай. Ужо зусім распагодзілася. Добра знайшлі мейсца ў тым матэлі, дзе некалі зь дзецьмі затрымліваліся. Праўда, яшчэ трэба было трохі чакаць, пакуль спарадкуюць пакой. Пакойчык не вялікі, але чысьценька. Распакаваліся і я пайшла на бераг, а В[*ітаўт*] адпачывае. Стала горача, што аж мусіла парасон раскласьці. Пішу дзёньнік. На беразе даволі людна. Ага, пакуль чакалі на пакой, я пайшла купіць сабе штаны (забылася з дому ўзяць). Тут якраз насупраць, праз дарогу магазын. Усё ўжо распрадаецца. Я купіла добрыя чорныя штаны за $18.

Хочацца палезьці ў ваду, але чакаю на Вітаўта.

Пазьней трохі пакупаліся. Вада цёплая, але хвалі вялікія.

Павячэралі й адпачывалі.

**Нядзеля 7 верасьня**

Пагода цудоўная. Я ўчора трохі спалілася, хоць і ўважала. Пасьнедалі і на пляж. Купіла яшчэ suntan lotion[1] — буду вельмі старацца, каб не спаліцца. Знайшлі нейкую кніжку ў багажніку, дык маю што чытаць — беларускага пісьменьніка [*Васіля Хомчанкі*] «Я прынёс вам радасьць». Нават даволі цікавая, чытэльная.

Пачала зьбіраць каменьчыкі й ракушкі. В[*ітаўт*] прыходзіў пад бераг — трохі зноў акунуліся — ён дык і добра паплаваў. Доўга яны возяцца з пакоямі, дык В. ня мае дзе дзецца — ён любіць адпачываць у пакоі.

Вельмі добра павячэралі — знайшлі прыемны рэстаран, дзе былі шрымпсы[2]. Сапраўды ўдоваль было. Даўно ўжо такога шукалі.

Адпачывалі. Замовілі пакой яшчэ на адзін дзень.

---

[1] *Крэм ад сонца.*
[2] *Крэвэткі (shrimps).*

**Панядзелак 8 верасьня**

З раніцы надвор'е яшчэ было вельмі прыемнае, але па абедзе пачало псавацца. Нават крыху й дожджык пакрапаў.

Я ўсё мужала — сядзела на беразе, але нарэшце ня вытрымала — мусіла йсьці ў пакой.

Памыла бялізну трохі — чаго не хапала. Холадна стала. Я неяк зусім зьмерзла. Праўда, паляжала ў ложку — угрэлася.

Прайшліся трохі па беразе — зьбіралі ракушкі.

Павячэралі зноў у тым самым рэстаране — зноў па фунту шрымпсаў.

Трохі ўжо пачала пакавацца.

Заўтра пад Delaware.

**Аўторак 9 верасьня**

Рана сабраліся й паехалі ня позна. Ехалася добра, але дарога даўгая. Пакуль даехалі да Chesapeake Bay, дык ужо й дакучыла. На дарозе пасьнедалі. Пагода цудоўная. Затрымаліся й на масьце на якія поў-гадзінкі. Выпілі кавы й пахадзілі трохі. Пасьля маста дарога зноў даўгая, нудная. Добра, што вырашылі ехаць раней, каб яшчэ цэлы дзень мець адпачынак.

Прыехалі ў Delaware пасьля 2-ой. Замэльдаваліся ў матэль — добры знайшлі — блізка каля берагу й ня дорага.

Адразу-ж пайшлі на пляж. В[*imaўт*] яшчэ зьезьдзіў у магазын — купіў пітва. Паехалі пазьней паглядзець яблыкі й павячэралі ў сваёй старой Bonanza[1]. Мне трохі баліць галава, трохі падташнівае.

---

[1] *Рэстаран, у якім мы бывалі раней.*

**Серада 10 верасьня**

Я яшчэ чуюся трохі ніякава. Шкада. Гэта-ж наш апошні дзень вакацыяў. Пасьнедалі і паехалі сабралі яблыкаў. Персікаў ужо ня было.

Пагода добрая. Зноў [redacted] пайшла на пляж. В. усё падчыквае, пакуль яны прыбяруць, каб пайсьці аддыхнуць у хаце. Доўга ня прыбіралі — ён ужо пачаў злавацца.

Я добра чулася пазьней — ужо трохі адпружылася. Чытаю ўсё бел. кніжку.

Ага, амаль забылася — пасьля сьнеданьня заходзіла ў магазыны ў Rehobot. Купіла сабе вельмі прыемную блюзачку да штаноў і ў другім магазыне жакецік. Тут усё ўжо амаль за поў-цаны.

Вечарам ужо й адзела гэтую блюзачку. Павячэралі зноў у Bonanza. Вельмі прыемна.

Адпачывалі. Трохі ўжо спакавалася. Вечарам прайшліся па пляжы. Далёка зайшлі, амаль да бункераў[1]. Стаяла ўжо зусім цёмня, як ішлі назад.

Зьбірала трохі каменьчыкі. Глядзелі на птушачкаў — Sand pipers[2]. Вельмі было прыемна.

---

[1] *У гэтай мясцовасьці пачынаюцца бункеры, лінія якіх цягнецца на дзясяткі кілямэтраў на поўдзень. Бункеры-доты праз кожныя 300-500 м. У часе Другой сусьветнай вайны амэрыканцы ў гэтай мясцовасьці баяліся высадкі нямецкага дэсанту або аддзелаў з падводных лодак, якія падыходзілі блізка да берагоў Амэрыкі — можна было бачыць у бінокль.*

[2] *Дробныя птушкі, меншыя за вераб'ёў, шэра-пясочнага колеру, жывуць каля берагу і жывяцца малюскамі, калі адыходзяць хвалі.*

**Чацьвер 11 верасьня**

Выехалі рана. Адразу на паром. Там доўга не чакалі. На пароме было прыемна — пагода цудоўная. Выпілі кавы й я загарала. В[*ітаўт*] пайшоў у машыну адпачыць.

Дабраліся да Нядзьвігаў добра. Гэтым разам ня блудзілі. У іх трохі пасядзелі, але ня доўга, бо [redacted] сьпяшаюся ў школу. Купілі персікаў.

У школе ўсё добра. Лекцыя была кароткая. Добра, што В. прыехаў раней, дык ня прыйшлося чакаць.

Прыехалі дахаты ня позна.

Распакаваліся й адпачывалі.

Разьбіралі пошту, што за гэты час найшла.

**Пятніца 12 верасьня**

Пайшла на працу, бо К[*асінец*] мусіў недзе ехаць — дзеля таго й вакацыі свае я мусіла скараціць.

На працы ўсё добра. Нават і работы ня шмат накапілася.

Атрымала чэк.

**Субота 13 верасьня**

Схадзіла зрабіць прычоску — так я два тыдні й пратрымала.

Мыла бялізну, парадкаваліся.

**Нядзеля 14 верасьня**

Пасьнедалі, і я ўжо ўзялася за свае пераклады.

В[*ітаўт*] парадкуе матар'ялы[1], што сабралі ў часе падарожжа, піша скрыпты.

Адным словам, ужо зноў уваходзім у рутыну.

---

[1] *Пра беларускія кнігазборы ў амэрыканскіх унівэрсытэцкіх бібліятэках.*

**Панядзелак 15 верасьня**

Прыходзіў Надсон. Дамовіліся, што будзе мець гутарку ў Славянскім Аддзеле. Толькі мусяць дамовіцца калі. Схадзілі зь ім на каву. Пагода прыгожая — сядзелі на панадворку каля бібліятэкі. Гаварылі

пра «Псэўда-Мялешку», ён гэтаксама такой думкі, што й я, што гэта вельмі крыўдная не навуковая, «псэўда-навуковая» праца. Ён раіць пісаць адмоўную рэцэнзыю. Я проста ня ведаю, што й рабіць. Тымчасам нічога не раблю.

**Чацьвер 18 верасьня**

Надсон меў гутарку[1]. Было вельмі цікава. Здаецца, усім спадабалася. Выйшлі зь ім яшчэ на каву.

Пайшла дахаты раней. В[*ітаўт*] чакаў мяне каля маста й адразу паехалі ў школу. Пагаварыла з Фізэрам — дамовіліся на наступны чацьвер. Ён нічога праз лета не пераглядаў. 3 Wilhelm'ам таксама мела гутарку, але вельмі коратка й незадавальняюча. Ён сказаў, што хоча мець гатовы тэкст — ён пераглядаць ня будзе[2]. Усе мае пляны нарушыліся. Як заўсёды зь ім — настрой мне зусім сапсуўся.

Назад едучы заехалі павячэраць.

Толькі прыехалі дахаты, аж звоніць Надсон. Ён недзе ў Ньюарку — не папаў на самалёт. В. паехаў яго прывезьці да нас. Яшчэ пагаварылі, выпілі чаю і пайшлі адпачываць. Ён паказаў нам [*беларускія*] кнігі, якія яму гэтым разам удалося дастаць [*для Скарынаўскай бібліятэкі*].

*[1] Лекцыю ў Славянскім аддзеле.*

*[2] Зора спадзявалася, што праф. Вільгельм будзе пераглядаць тэкст яе перакладу «Трыстана» паступова.*

**Пятніца 19 верасьня**

Я рана пайшла рабіць прычоску.

Пасьнедалі. Надсон паехаў у Нью Ёрк. Мы сабраліся й паехалі таксама ў Providence, R[*hode*] I[*sland*], у Brown University. Ехалася добра. Прыехалі яшчэ ня позна. Знайшлі хутка бібліятэку. Там нічога надта цікавага. Праўда, заўважылі, што шмат навуковых, асабліва матэматычных працаў [*з розных выдавецтваў БССР*]. Пасьля бібліятэкар растлумачыў нам, што ў Providence знаходзіцца галоўная кватэра Амэрыканскай Матэматычнай асацыяцыі[1]. Скончылі там і рашылі выехаць з гораду, каб затрымацца на ноч. Трохі ад'ехалі і знайшлі ня дрэннае мейсца. Матэль трохі дзіўны, але танны — пакой вялікі й чысты. Павячэралі, што мелі з сабой. Адпачывалі.

*[1] Гэтая асацыяцыя выдавала сусьветна ведамы рэфэратыўны часапіс «Mathematical Reviews», дзе было шмат матэрыялаў навукоўцаў з БССР.*

**Субота 20 верасьня**

Рана пасьнедалі ў тым самым гарадку. Доўга чакалі на стол — ужо пачалі ірытавацца, але рашылі, што сьпяшацца няма куды й чакалі.

Заехалі яшчэ па дарозе ў адзін гарадок у бібліятэку. Там, зразумела, нічога беларускага, акрамя Loftus'а, ня было.

Прыехалі да Ball[*arine*][1] хутка пасьля поўдня. Адразу-ж яны падалі напіткі. В[*imaўm*] трохі выпіў — аж яму стала нядобра. Доўга чакалі на закуску. Калі C[*atherine*] B[*allerine*] паехала з дзядзькам у царкву, мы сталі разглядаць срэбра. Я выбрала даволі шмат прыгожых рэчаў. В. пайшоў спаць. [redacted] яго не хацела турбаваць — хай прасьпіцца. Але мусіла мець яго апінію аб выбраных рэчах. Ён прыйшоў яшчэ перад тым, як яны прыехалі. Усё адобрыў і яшчэ трохі выбраў. $1700.

Як прыехалі з царквы, хутка й на вячэру паехалі. Вячэра была вельмі прыемная. Пасьля вячэры мелі яшчэ й торт — C. B. будзе мець дзень народзінаў хутка.

---

[1] *Да Балерынінай цёткі Коні.*

**Нядзеля 21 верасьня**

Усталі рана. Пасьнедалі й паехалі. Connie была ўжо рада, што выязджаем — яна трохі стамілася прысутнасьцю C[*atherine*] B[*allerine*] гэтым разам.

Ехалася добра. Заехалі на каву. Connie дала нам шмат рэчаў з сабой. Завезьлі Ball. дахаты й — дахаты. Добра, што ня позна прыехалі, дык яшчэ трохі агледзеліся.

**Панядзелак 22 верасьня**

На рабоце ўсё добра.

Вечарам паехалі з Ball[*arine*] на вячэру — яе дзень народзінаў. Былі ў новым рэстаране на Route 3. Даволі добра рэстаран. Добра правялі вечар, але я даволі стамілася.

**Чацьвер 25 верасьня**

Узяла вольны дзень. Юраў дзень народзінаў.

Паехалі ў школу. Мела вельмі добрую сэсію, хоць і кароткую, з Fizer'ам. Ён сказаў, што пераклад добры, дакладны, але патрабуе прафэсіянальнай праверкі. Ён дасьць мне адрас аднэй жанчыны, якая робіць «editing»[1]. На ўсякі выпадак сказала Sandra[2], што можа сяньня ня буду на лекцыі.

Паехалі на фарму. Заплаціла таксу[3]. Паехалі па памідоры, але там нічога не дасталі — яны ня мелі дастаткова для зьбіраньня. Паехалі да Нядзьвігаў. А[*нтаніна*] Ф[*ілінаўна*] вельмі дрэнна чулася. Паабедалі — яна ўжо была ўсё падрыхтавала, што асталося ад Дзядзі Ваніных імянінаў учора. Аддалі падарункі. Здаецца, яму спадабалася ўсё. В[*imaўm*] трохі сабраў, што меў, і я нейкую дрэнь купіла. Напакавалі яны нам усяго, што засталося. Мы купілі яшчэ яблыкаў і паехалі. Спаткалі Алесю на аэрадроме.

Дома ўжо Юра й Лорэйн чакалі. Павячэралі ўсе разам вельмі прыемна. Усё было смачнае. Падарункі Юру таксама спадабаліся.

---

[1] *Рэдагаваньне.*

[2] *Сакратарка факультэту.*
[3] *Падатак.*

**Пятніца 26 верасьня**
Я пайшла на працу. Алеся дома. Езьдзіла ў магазыны. Вечарам яны маюць пробу вясельля.

**Субота 11 кастрычніка**
Зрабіла прычоску. Пасьнедалі ды хутка й паехалі — спачатку на базар, купілі памідораў, а пасьля ў Bograd[1]. Неяк нам добра ўдалося — купілі шафку й для срэбра і высокі камодзік для T.V. у спальню.

Папрацавала яшчэ трохі.

А 5-ай прыехала да нас Ball[*arine*] — вельмі добра папрацавалі з перакладам.

В[*imaўт*] паехаў па pizza. Павячэралі прыемна. Яшчэ трохі пасядзелі. Пасьля, як яна паехала, ужо адпачывалі.

---

[1] *Магазын мэблі. Уласьнік — яўрэй з Бабруйску. Прыехаў у ЗША ў 1922 годзе. Калі мы сказалі, што мы беларусы — даў зьніжку 10%.*

**Нядзеля 12 кастрычніка**
Цэлы дзень амаль працавалі.
Трохі толькі парадкавалася ў міжпрацы.

**Панядзелак 13 кастрычніка**
Сёньня дома. Добра так мець даўгі Weekend. І папрацуеш, і аддыхнеш чалавек. Пазваніў Юра, што прыедзе з Лорэйн а 5-ай і прывязуць Pizza (зноў!). Мы каля 5-ай ужо кончылі працу й чакаем: 5 — няма, 5:30 — няма, 6 — няма. В[*imaўт*] ужо нэрвуецца. Ды й я непакоюся. Нарэшце пасьля 6-ай зьяўляюцца. Ну, але добра ўсё было — павячэралі, пагаварылі. Юра добра выглядае.

Лорэйн казала, што Ю. падараваў ёй на дзень народзінаў (17 October) машынку для пісаньня. Яна хацела нешта іншае.

Яны доўга не сядзелі. Як паехалі, мы ўжо адпачывалі.

**Субота 18 кастрычніка**
Зрабіла прычоску. Пасьнедалі ды Вітаўт паехаў у Нью Ёрк на адчыненьне Славянскага тыдня.

Я амаль цэлы дзень парадкавалася са срэбрам. Абклала бархатам-аксамітам полачкі — папалішавала срэбра, усё разьмясьціла. Прыгожа вельмі выйшла. В., як прыйшоў, ня мог нацешыцца — усё хадзіў і паглядаў.

Пазьней працавала з Трыстанам.

У Вітаўта вельмі добра там прайшло. Гэта быў Symposium на тэму славянская спадчына — ён меў адзін невялічкі рэфэрат.

Завёз гэтаксама нашую карціну «Бел. эмігранты» [*П. Мірановіча*] для выстаўкі, якая мае адчыніцца ў панядзелак.

**Панядзелак 20 кастрычніка**

Пачалі дыету. Адразу пачуліся лепей.

**Серада 22 кастрычніка**

На рабоце ОК. Раніцай, едучы ў аўтобусе, перакладаю аўтабіяграфію Каханоўскай. Раблю ўжо гэта праз некаторы час — ужо блізіцца канца — карціць усё гэта — нявыканчанае.

Езьдзілі да Ball[*arine*] правяраць мой матар'ял [*Трыстана*].

**Чацьвер 23 кастрычніка**

Паехала дахаты раней. Спаткаліся каля 3-яй дарогі й паехалі ў школу. Аддала Фізэру 20 старонак перакладу. На лекцыі Вільгельма было ОК, але ўсё мне гэта не патрэбна.

Скончылі раней — яшчэ трохі чакала на Вітаўта. Заехалі павячэралі, але вельмі скромна — трымаемся з дыетай.

Яшчэ трохі папрацавала. Сёньня неяк не стамілася.

**Пятніца 24 кастрычніка**

Сёньня палучка. Але ў банк не хадзіла. В[*ітаўт*] залагодзіць у панядзелак.

Схадзілі яшчэ з Бал[*арынай*] — [redacted] купіла яшчэ пацеркі — шэрыя.

**Аўторак 4 лістапада**

Сёньня дома. Пасьнедалі і паехалі пагаласаваць. Пасьля паехалі ў магазын. Купіла [redacted] сабе жакецік і блюзачку і яшчэ адну летнюю сукенку — бо было танна. Доўга там завазілася.

Працавала. Распагодзілася на двары.

На вячэру зрабіла катлеткі. З дыеты мы неяк сышлі зноў.

**Серада 5 лістапада**

Пазваніў рана Том, што ня зможа прыехаць да нас, але пакінуў пераклад у Princeton Club[1].

Трохі зьмяніліся нашыя пляны. Мы дамовіліся зь В[*ітаўтам*] спаткацца й пайсьці ўзяць пераклад і тады пайсьці павячэраць. Аж Том звоніць ізноў, ці забралі ўжо пераклад. Я зразумела, што яму абходзіць, каб мы хутчэй паглядзелі — схадзіла забрала. Ён і перадрукаваў і копію зрабіў. Перачытала пераклад ды зазваніла яму, падзякавала. Ён гэтаксама дамовіўся з місіяй беларускай аб вечарыспатканьні. Дамовіліся на 18 лістапада.

Цэлы дзень важуся з рэдкімі кнігамі. Цікава, але надта-ж марудна.

---

[1] *Большыя амэрыканскія ўнівэрсытэты маюць у Нью Ёрку свае клюбы. Прынстанскі клюб — найбліжэйшы ад бібліятэкі, на 43-яй вуліцы. І Том і Алеся — выпускнікі Прынстану, дык у Прынстанскім клюбе мы часта рабілі беларускія паседжаньні.*

**Чацьвер 6 лістапада**

На рабоце ОК. Мела практыку з Таняй на кампютары. Мы іх — Наташу і Таню — рашылі павучыць inputing[1]. Даволі добра пайшло.

Паехала дахаты раней. В[*ітаўт*] спаткаў мяне каля маста й паехалі ў школу. Аддала Фізэру яшчэ 20 старонак перакладу. Запісалася яшчэ на адзін сэмэстр. Дала Wilhelm'у пробных колькі старонак для прагляду. На лекцыі было зусім ня цікава. Як не падрыхтаваны — то чуешся зусім ніякава.

Паехалі да Надзі. Яна падрыхтавала вячэру. Прыйшлі Русакі. Было даволі прыемна. Разглядалі фота з Беларусі. Надзя расказвала пра падарожжа. Самае што яе ўразіла — гэта адсутнасьць беларускай мовы.

[redacted] яшчэ званіла Фізэру, даведацца тэлефон жанчыны, што робіць праверку. Ён ня меў, на жаль.

Дамовіліся ў аўторак спаткацца зь ім і шукаць.

Вечарам абодвум балелі жываты. Вось, мы ўжо такія чулыя сталі.

---

[1] *Увядзеньне дадзеных у кампутар. Для кампутарнага каталягаваньня бібліятэкар мусіць прайсьці пэўнае навучаньне.*

**Пятніца 7 лістапада**

На рабоце ўсё добра. Працую ўсё яшчэ над рэдкімі кнігамі. Шмат часу на гэта выходзіць.

Касінец атрымаў праграмку AAASS, але мне не паказаў — кажа, зробіць копію. Я яшчэ не зрабіла анкетаў для падарожжа. Карціць мне гэта.

Чэк не мяняла. В[*ітаўт*] у панядзелак зробіць.

Вечарам ужо не працавала — неяк стомленая была.

К[*асінец*] гаварыў, што ўжо пачынаюць атрымліваць адказы з LC. Ён спадзяецца на працу — хоць кажа, што будзе моцная камцыя.

Паслалі пераклад біяграфіі Каханоўскім. Затрымалі тым часам перасылку ўсіх матар'ялаў Прускаму — пакуль ужо будзем мець усё разам.

**Субота 8 лістапада**

Пасьнедалі, і ў часе сьнеданьня пачалі гутарку пра Трыстана, пра фразу «зьбялела як папуга». Вітаўт пазьбіраў усе слоўнікі і ўсе кнігі з пагаворкамі, і мы шукалі гэтай фразы. Доўга зацягнулася сьнеданьне. Трохі яшчэ папрабавала працаваць, але хутка ўжо й быў час ісьці рабіць прычоску.

Прыемная была неспадзеўка, як пазванілі пазьней — адказаў Юра. Купілі яшчэ сёе-тое, сталі рыхтаваць вячэру раньняю (бо В. зразумеў, што Юра галодны). Пазваніла Алеся. Трохі зь ёй усе пагаварылі. Вельмі быў прыемны вечар.

Я села працаваць. Юрачка адпачываў. Працавала даволі позна — добра працавалася. Вечарам яшчэ даволі доўга глядзелі фільм.

**Нядзеля 9 лістапада**

Пасьнедалі. Трохі парадкавалася, і хутка пачала працаваць над Трыстанам.

Пагода дажджлівая — ня было як памыць бялізну гэты weekend.

Па абедзе В[*imaўт*] выкапаў дрэўцы для Ball[*arine*][1].

Паехалі да яе. Пасадзілі дрэўцы і пачалі працаваць. Як скончылі, паехалі павячэраць. Вельмі прыемна прайшоў вечар. Пасьля вячэры заехалі яшчэ да яе на пару хвілінак на каву.

Заехалі яшчэ да Жамойды па білет[2], але яго яшчэ ня было дома. Прыехалі дахаты і ўжо пачалі зьбірацца глядзець T.V., аж пазваніў Жамойда. В. паехаў. Толькі ён паехаў — званок: Каханоўская. (А наша праграма ўжо пачынаецца — гэта й сьмешна, што нас такая дробязь можа вывесьці з раўнавагі, але гэта адна праграма — Murder, she wrote, — што мы сабе ўжо дазваляем прыемнасьць паглядзець[3]). Яна рабіла заўвагі да перакладу, пару нават істотных, калі прыйшоў В. Яго гэта раззлавала. Так і сапсуўся вечар.

---

[1] *У нас у двары было шмат дрэў. Кацярына пасадзіла дрэўцы каля свае хаты.*

[2] *Мы мелі месячныя білеты да Нью Ёрку. У вікенды мы ў Нью Ёрк езьдзілі ня часта, таму давалі білет сп. Жамойду — ён кожную нядзелю езьдзіў у Нью Ёрк у беларускую царкву.*

[3] *Мы любілі гэтую праграму — крымінальныя эпізодыкі зь ведамай акторкай Анджэлай Ландсбэрг.*

**Панядзелак 10 лістапада**

Сяньня на работу, а В[*imaўт*] у радыё. Спаткаліся па абедзе і схадзілі паесьці ў наш усходні рэстаран. Вельмі нам там падабаецца.

Пазваніла Алеся. У іх ужо пэўна, што адбылося зьліцьцё кампаніяў. Яна вельмі задаволеная. Будзе мець вельмі добрую плату — $68,000.

**Аўторак 11 лістапада**

Сёньня дома. Пасьнедалі хуценька й паехалі па справах. Найперш у школьную адміністрацыю зарэгістравацца. Там усё спраўна пайшло. Тады ў школу. Нічога яшчэ ад Wilhelm'а няма. З Фіззрам сталі шукаць тэлефону той жанчыны, што мае рабіць «editing». Тэлефону не знайшлі, толькі адрас. Жыве яна недзе ў Somerville.

Па дарозе да Ірэны бачылі гэты гарадок. Рашылі ў Ірэны паглядзець тэл. кнігу. Трохі зблудзілі, але прыехалі да Ірэны якраз у часе, яна ўжо нас чакала. Вокладка выйшла добрая. Яна яшчэ нас пачаставала абедам. Хата ў іх сярэдненькая. Дачушка вельмі прыгожая, бойкая. На двары дождж, прыкра. Ехалася назад вельмі напружана.

Прыехалі, аж Юра дома. Ён меўся завезьці машыну Коленсу, але дзеля дажджу не пакінуў. Тэлефону мы той жанчыны ў Ірэны не знайшлі, дык яшчэ зь Юрам, напісалі ліст да яе. Юра хутка й паехаў.

Працавалі.

**Серада 12 лістапада**

На рабоце ўсё добра.

В[*imaўт*] зноў у радыё. Зноў спаткаліся на абед.

Зрабіла яму xerox з артыкулу 1926 г. пра Беларусь.

Працуем вечарамі для сябе.

**Чацьвер 13 лістапада**

Сёньня пайшла на работу на 9-ую. Даволі добра даехала.

Нарэшце ўжо выканчыла каталягаваньне рэдкіх кнігаў. Сёньня зноў працуюць у нашым пакоі — дык грукат, пыль — працаваць перашкаджаюць.

Касінец сказаў, што прывезьлі ўжо [*новыя*] кампютары. Цяпер праблема, што трэба некаму вучыцца зь імі працаваць. Я мушу неяк навучыцца, бо мне важна гэта для майго Трыстана — набіраць беларускі тэкст.

Вечарам К. званіў аж дахаты — яго гэта турбуе, што мы ня будзем гатовыя працаваць з кампютэрам.

Ball[*arine*] мела сёньня сваё слуханьне. Разьбіралі яе просьбу на перакласыфікацыю. Яна, здаецца, задаволена вынікамі.

Пазваніла Алеся, што прыедзе ў гэты Weekend сюды. Спаткае яе Надзін і там яна й будзе колькі дзён. Да нас прыедзе ў нядзелю.

**Пятніца 14 лістапада**

На рабоце ўсё добра.

Ball. ужо пачынае прыпамінаць, што яна не сказала ў часе інтэрв'ю, як «яны» рэагавалі. Адным словам, ужо пачынае псіхаваць: успамінае старое.

**Субота 15 лістапада**

Зрабіла прычоску, пасьнедалі. Трохі парадкавалася. Працавалі. Прыехаў Юра. Ён завёз Коленсу машыну. Трохі з намі пасядзеў, пагаварыў. Ён стомлены — толькі з дыжуру.

Пазваніла Алеся ўжо даволі позна, што будзе ў нас у нядзелю перад 12-ай.

Некалькі разоў званіла Ball[*arine*], усё прыпамінае розныя рэчы з «Hearing»[1].

---

[1] *Слуханьне ў Аддзеле кадраў.*

**Нядзеля 16 лістапада**

Пасьнедалі самі. Алеся мае прыехаць пазьней.

Як прыехала Алеся, мы хутка й паехалі ў магазын. Заехалі спачатку ў Shoe Town, я купіла сабе 2 пары туфляў і яшчэ купілі дзьве сумачкі аднолькавыя для Алесі і для мяне.

На Mall купілі яшчэ сёе-тое для мяне, для Алесі.

Прыехалі дахаты ня позна. Зрабілі катлеткі — павячэралі ўсе разам. Пасьля адпачывалі — трохі працавалі.

**Панядзелак 17 лістапада**

Вітаўт завязе Алесю на аэрадром. Яна яшчэ спала, як я выязджала. В. таксама будзе ў Нью Ёрку.

Зноў спаткаліся на абед — гэта ўжо зрабілася нашай традыцыяй.

**Серада 19 лістапада**

На рабоце парадкавалася, каб прыкончыць усе канцы.

В. быў у Нью Ёрку, але сёньня мы не спатыкаліся.

**Чацьвер 20 лістапада**

Сёньня я ўжо не пайшла на працу, хоць і выезджаем[1] мы толькі па абедзе. Раніцай пакавалася. Перадрукавала яшчэ заканчэньне рэфэрату. А 12-ай схадзіла зрабіла прычоску. Усё добра справіліся. А 2-ой прыехаў па нас таксі і паехалі на аэрадром. Там усё справіліся добра. Ехалася добра, праўда, трохі трасло — быў сустрэчны вецер. Прыехалі ў New Orleans з невялікім спазьненьнем. Тут горача. Да гатэлю дабраліся добра. Пакой нічога асаблівага, але гатэль прыгожы. Ужо нідзе не хадзілі. Купілі нечага перакусіць, зарэгістраваліся й адпачывалі. Пазванілі яшчэ дахаты і да Акановіча[2]. Ён быў нейкі нявыразны — казаў, можа ў суботу пад'едзе.

---

[1] *На гадавую канфэрэнцыю AAASS (American Association for Advancement of Slavic Studies, на жаргоне славістаў — Triple A Double S).*

[2] *Арнольд (Алік) Акановіч — мэтэаролаг, жыў у Луізіяне. Сын Аляксандра Акановіча, дырэктара маёй гімназіі ў Менску. Жонка Аляксандра Акановіча — Ганна Некрашэвіч, сястра мовазнаўцы Сьцяпана Некрашэвіча.*

**Пятніца 21 лістапада**

Раніцай вельмі прыемна пасьнедалі.

Пайшлі кожны сам сабе на розныя сэсіі. Я потым пайшла ў пакой, трохі пачытаць свой рэфэрат. Прыйшоў Вітаўт. Пасьля яшчэ пайшлі трохі паслухалі, але хутка зноў прыйшлі трохі падрыхтавацца.

Наша сэсія[1] была а 3:40. Людзей было ня так ужо шмат, але прайшло добра. David Kraus ня прыехаў, дык былі толькі беларускія й украінскія калекцыі. Трохі пра баўгарскія расказаў J. Dwayer з Hoover. Мы засталіся задаволеныя. Усё было вельмі добра.

Прайшліся па гораду. Пагода прыемная. Павячэралі ў нейкім невялічкім кітайскім рэстаранчыку. Дайшлі амаль да French Quarter[2], але рашылі, што прыйдзем заўтра ўдзень. Вельмі прыемная была прагулачка.

Прыйшлі ў гатэль, пазванілі яшчэ дахаты. Там быў якраз Юра. Пагаварылі зь ім. У яго спусьціла кола, і ён ня мог направіць. Прывезла яго Lorrain. Думае, што да заўтра направяць.

Адпачывалі.

---

[1] *Сэкцыя дакладаў пра славянскія кнігазборы ў ЗША.*

[2] *Француcкі квартал у Новым Арлеане.*

**Субота 22 лістапада**

Сёньня зраньня былі на сьнеданьні, якое зрабіла кампанія Chadwick-Healey для «promotion» іхнай вельмі дарагой біяграфіі савецкай эліты. Наша бібліятэка ўжо гэта замовіла.

Пасьля пайшлі на пару сэсіяў — нічога надта цікавага, ні карыснага. У абед сабраліся й пайшлі пад French Quarter. Даволі далёка йшлі — па дарозе нават бачылі вулічную праграму румынаў — але нарэшце дабраліся да францускага раёну. Прыемна прайшліся па вуліцах — зусім пападаеш у іншую атмасфэру. Паабедалі ў сымпатычным рэстаранчыку блізка Mississippi river. Нахадзіліся, я дык зусім стамілася. Але было вельмі прыемна.

Прыйшоўшы, яшчэ трохі адпачылі ды пайшлі на пару сэсіяў. Нічога цікавага. Адно [redacted] пагаварыла з Залеўскім. Трэба парагледзець артыкул, што паслала яму для Handbook. Вітаўт трохі расстроіўся сваёй сэсіяй пра радыё-перадачы[1].

Цяпер ужо трохі адпружыліся, адпачываем. Атрымалі паведамленьне, што прыходзіў Алік Акановіч, але нас не знайшоў.

---

*[1] Сэсія пра радыёвяшчаньне, скіраванае на СССР. Галоўнае — эканоміка, а толькі пасьля нацыянальныя пытаньні — такая была пазыцыя бальшыні выступоўцаў.*

**Нядзеля 23 лістапада**

Раніцай ужо пачалі зьбірацца ў дарогу. Схадзілі пасьнедалі хуценька. Пазнаёміліся яшчэ там з праф. гісторыі з Rutgers Бэкер[1], які меў даклад на адным з панэляў, дзе быў Вітаўт. Яго бацькі аказаліся зь Беларусі. Яшчэ трохі пахадзілі па выстаўцы кніг ды пайшлі выпісвацца.

Неяк так сталася, што трохі запазьніліся. Прыехалі на аэрадром толькі пару хвілінаў перад адлётам. Сядзелі ня разам — гэта адняло ад прыемнасьці — заканчэньне падарожжа.

У Ньюарку чакаў нас Юра з Лорэйн. Дома былі недзе каля 3-яй. Яшчэ добра адпачылі. В. яшчэ трохі працаваў.

---

*[1] Пазьней зь ім блізка супрацоўнічаў Янка Запруднік.*

**Панядзелак 24 лістапада**

На работу, пасьля доўгога перапынку, так не хацелася ісьці.

В[*ітаўт*] таксама паехаў у радыё. Робіць аж два скрыпты.

Касінец зажадаў рабіць невялічкую зборку тых, што былі на канфэрэнцыі, — падзяліцца агульнымі ўражаньнямі. Я мусіла пакінуць зборку, бо былі дамовіліся зь Вітаўтам спаткацца павячэраць.

Прыйшла зь вячэры — яны яшчэ гаварылі, але я ўжо чулася як непатрэбная. К. зноў насіцца з Наташай.

Вечарам яшчэ працавалі.

Ага, сказала Таня, што нехта прыходзіў да мяне ў чацьвер. Думаю, што гэта былі Казько з Пашкевічам[1]. Яна пачала скардзіцца на Зэнана, што ён быў не ўважлівы да іх. Пасьля пераканалася, што гэта былі яны, бо пакінулі кніжку і яшчэ нейкі сувэнір.

---

*[1] Віктар Казько і Алег Пашкевіч зь місіі БССР пры ААН.*

**Аўторак 25 лістапада**

На рабоце ўсё нармальна.

К[*асінец*] ужо зноў скача супраць Тані. Таня, між іншага, прасіла мяне, каб я ёй паказала, як «input create». Я пагаварыла з Зэнанам, і мы вырашылі, што я буду вучыць яе, а ён — Наташу[1].

Пазваніў Сяргей [*Карніловіч*], што ў Варшаве ўсё ў парадку — сьвяткаваньне будзе й Тому ўжо выслалі запросіны. В. будзе званіць Тому.

Езьдзілі да Ball[*arine*] правяраць Трыстана. Добра папрацавалі.

---

[1] *У справе ўвядзеньня інфармацыі ў кампутар.*

**Серада 26 лістапада**

Усё добра на рабоце, але шмат працы — пасьля паездкі набралася шмат работы незакончанай.

Вечарам ужо пачала рыхтавацца да індыка[1]. А В[*ітаўт*] паехаў па Алесю. Прыехалі вельмі позна. Сёньня-ж самы заняты дзень на аэрадромах, станцыях — перад Thanksgiving.

У Алесі ўсё добра — толькі прастуджаная. Мне трохі баліць сьпіна.

---

[1] *Традыцыйная страва на Дзень удзячнасьці.*

**Чацьвер 27 лістапада**

З самай раніцы я пачала ўжо рыхтаваць начынку. Добра справілася.

Алеся спала. Тады пасьнедалі і трохі парадкаваліся.

Усё было гатова ў час. Нават трохі чакалі на Юру й Лорэйн. Трапэза была вельмі прыемная. Усе чуліся добра. Яда была смачная. Стол мы прыгожа прыбралі — ужывалі шмат срэбных рэчаў.

Дзеці прынесьлі кветак: Алеся прыгожы букет, а Юра — жывы вазончык.

Пасьля вячэры я лягла адпачыць. Мне моцна баліць сьпіна — усё ж яшчэ не праходзіць і нават трохі горш стала, як павазілася з індыком.

Дзеці прыбралі пасуду.

Вечар вельмі прыемна правялі ўсе разам, гледзячы тэлевізыю.

Юра й Лорэйн паехалі каля 10-ай, я ім абаім прыгатавала пакуначкі зь ядой.

**Пятніца 28 лістапада**

Я пайшла на працу, але дамовіліся з Алесяй, што яна прыедзе ў Нью Ёрк і, можа, я пайду з працы раней. Так і зрабілі.

Як прыйшла Алеся — Касінца ня было, — я яе яшчэ направіла на поў-гадзінкі ў магазын. Яна сабе за гэты час накупіла на некалькі сотняў — купіла прыгожую нітку пэрлаў (барок), якія былі на распрадажы.

Пайшлі мы ў Fina — там ня толькі няма ліквідацыі, але яны нават пашырыліся. Нічога цікавага там не знайшлі. Але затое насупраць у [*краме*] International Exchange нагледзелі Алесі брасьлецік і завушніцы для Лорэйн.

Прыехалі дахаты ня позна. Я трохі чуюся хваравата.

Павячэралі астаткамі ад індыка. Алеся ела мала, бо яна паедзе да Надзін на вячэру. Прыехаў і Юра.

Я адпачывала.

Алеся прыйшла дахаты ня позна. Юру спадабаліся пэрлы, што Алеся купіла сабе, — прасіў, каб купілі для Лорэйн.

**Субота 29 лістапада**

Паснедалі.

Памыла бялізну, бо пагода ня дрэнная.

Хутка й паехалі з Алесяй у магазыны. Спачатку заехалі ў Burlington[1], бо было па дарозе, паглядзець ручнікі. Знайшлі падобныя, але не зусім такія, як нашыя, але купілі. Я сабе яшчэ купіла спадніцу. Яшчэ дробязь розную для падарункаў.

У Lord Taylor[2] купілі для Лорэйн нітку пэрлаў ад Юры (такіх, як Алеся купіла сабе, там ня было, але купілі трохі даражэйшыя, але лепшыя).

Хадзілі па другіх крамах у тым самым Mall (я там яшчэ здаецца ня была ні разу). Купілі падарункі ад Бабкі для Лорэйн. Купілі яшчэ мне блюзачку. Я ўжо пачала трохі нецярплівіцца ехаць дахаты, але заехалі яшчэ па дарозе й купілі падарунак для Вітаўта.

Па дарозе вырашылі заехаць па кітайскую ежу. Пазваніла дахаты — яны ўжо нас прачакаліся. Юра дома таксама. Доўга чакалі на яду. Прыехалі, і яны пачалі на нас сварыцца, што мы позна затрымаліся. Але ўсё наладзілася.

---

[1] *Гіганцкі магазын-фабрыка.*

[2] *Дарагі магазын.*

**Чацьвер 11 сьнежня**

Зэнан прынёс калбасы для Нядзьвігаў[1].

---

[1] *Калі рыхтаваліся ехаць да Нядзьвігаў — везьлі ім як падарунак «нашанскую» каўбасу.*

**Пятніца 12 сьнежня**

Раніцай сабраліся й паехалі.

Ехалася добра. У Maryland зайшлі пасьнедалі. Вітаўту пачынае дакучаць нага — ён неяк пару дзён таму аступіўся і трохі скруціў.

У Вашынгтон прыехалі каля 1-ай. Пайшлі адразу ў Архіў[1]. Добра ўдалося запаркаваць машыну. У Архіве тое-сёе знайшлі, але там, зразумела, трэба даўжэй пакапацца.

Пазванілі заказалі гатэль ды да Алесі. Яна яшчэ не дагаварылася з кватэрай.

Вітаўт усё больш наракае на нагу. Гатэль знайшлі добра. Ужо недзе пасьля 6-ай адпачывалі.

---

*[1] Нацыянальны Архіў ЗША. Беларускія матэрыялы там ёсьць, але раскіданыя.*

**Субота 13 сьнежня**

Раніцай пазванілі Алесі. Дамовіліся спаткацца ў яе а 10-ай, яна яшчэ ўсё не зьвязалася з жанчынай, якая мае паказаць памешканьне.

Пасьнедалі й паехалі да Алесі. В[*itaўт*] ужо ледзьве ходзіць.

Алеся ў міжчасьсі дамовілася на агледзіны на 3-ю гадзіну.

Завезьлі Вітаўта на L[*ibrary of*] C[*ongress*], а самі паехалі па пакупкі. Добра справіліся, купілі амаль усё, што трэба. Я асабліва радая, што купіла халат для Антаніны.

Цюцелька-ў-цютельку як дамовіліся былі каля L.C., падабралі Вітаўта й паехалі глядзець Алесіна памешканьне. Добрае, але [redacted] чакала лепшага трохі за гэтыя грошы ($130,000). Надта маленькі ванны пакой. Але чыста, прыгледжана — можна адразу ўсяляцца — гэтага яна й хацела.

Спусьцілі В. да Алесі, а самі яшчэ паехалі па пакупкі. Купілі ялінку. Па дарозе назад купілі кітайскай яды. Дома прыемна павячэралі. В. нага зусім баліць — чуць поўзае.

**Нядзеля 14 сьнежня**

Раніцай В[*itaўт*] ужо ня мог адзець чаравік. Пасьнедалі, спакаваліся й паехалі. Я кіравала, бо В. зусім ня можа — здаецца, зноў пачалася падагра.

Ехалася добра — трафіку зусім ня было. Да Нядзьвігаў прыехалі недзе каля 1-ай. У іх усё добра. Антаніна была ў шпіталі, але цяпер, здаецца, паправілася. Д. Ваня — ОК.

Паабедалі зь імі, трохі пагаварылі. Халат Антаніне добра падышоў. Яны нам надавалі рыбы рознай, крабаў, печыва.

Прыехалі дахаты яшчэ ня позна. Адпачывалі.

В. заўтра пойдзе да доктара.

**Панядзелак 15 сьнежня**

В[*itaўт*] пазваніў у радыё, што ня зможа прыехаць.

Доктар даў яму пігулкі ад падагры. Прымае кожныя 4 гадзіны. Здаецца трохі палепшала.

На рабоце ўсё добра. Неяк толькі, як прыедзеш пасьля колькі дзён адсутнасьці, — чуешся разгублена.

Вечарам В. усё-ж яшчэ дрэнна чуўся. Нават ня прыехаў мяне спатыкаць — цэлы дзень быў у ложку.

**Чацьвер 18 сьнежня**

Сёньня на рабоце рашылі зрабіць невялічкую «party». Па абедзе ўжо пачалі рыхтавацца. Выйшла ўсё вельмі добра. Souchek[1] меў невялікую гутарку — расказваў пра сваё падарожжа ў Турцыю, а пасьля мелі пачастунак.

---

[1] *Калега-чэх Сват Соўчак.*

**Субота 20 сьнежня**

Раніцай зрабіла прычоску, пасьнедалі, памыла бялізну й паехалі па пакупкі. Трэба сказаць, што паездка была няўдалая. Маку ня купілі — магазын той закрыўся. Купілі толькі адно калбасы.

Ялінкі былі хоць і даволі прыгожыя, але вельмі-ж дарагія. Мы рашылі пачакаць.

Канчала пісаць карткі — здаецца, усім, што звычайна шлецца, ужо паслалася.

Вечарам паехалі да Bernie Bush[1] на party. Было там шмат людзей — мала знаёмых. Мы амаль цэлы вечар прагаварылі зь нейкім украінцам з Ethnic Council. Пры першай нагодзе паехалі дахаты. Гэтыя party нам ужо толькі цяжар. Я, праўда, іх ніколі ня любіла.

Прыехалі дахаты яшчэ ня позна.

---

[1] *Bernard Bush — прэзыдэнт Гістарычнай камісіі штату Нью Джэрзі.*

**Нядзеля 21 сьнежня**

Раніцай пасьнедалі і трохі парадкаваліся.

Сабраліся ўжо ехаць па ялінку, але рашылі перш пазваніць Юру — якія ў яго пляны. Добра, што пазванілі, бо ён якраз зьбіраўся прыехаць дахаты.

Незадоўга прыехалі й Юра з Лорэйн. Трохі яшчэ яны перакусілі ды паехалі па ялінку.

Вельмі добра купілі: прыгожую й не надта дарагую.

Прыехалі дахаты й пачалі ўпрыгожваць: павесілі сьвётлы на ялінках на двары, унесьлі й уставілі ялінку.

Яны хутка й паехалі — Юра вельмі стомлены пасьля дыжуру.

Я ўпрыгожвала ялінку. Выйшла цудоўна — толькі яшчэ трэба дакупіць шарыкаў і сьвятло новае.

**Панядзелак 22 сьнежня**

Усё яшчэ бегаю па пакупкі.

На рабоце ўсё O.K., але неяк не адчуваецца прыемна. Няма той сардэчнасьці.

Вітаўт сёньня ў радыё амаль цэлы дзень. Вечарам пасьля хуткай вячэры (Вітаўт зварыў крабаў, што прывезьлі ад Нядзьвігаў) паехалі яшчэ ў магазын. Купіла Юру чаравікі. Добра справіліся.

**Аўторак 23 сьнежня**

Вітаўт таксама сёньня едзе ў Нью Ёрк. Цяпер як Запрудніка няма, дык ён мае шмат скрыптаў рабіць.

У абед спаткаліся з Томам, ён расказваў пра паездку ў Польшчу. Вельмі задаволены. Параўноўвае беларускае жыцьцё ў Польшчы з нашым тут: невялічкая група людзей робіць усё, што можа, а агульная маса абыякавая.

В. яшчэ пайшоў у радыё, а я на працу.

Нейкі ў мяне цяжкі настрой. Так і прыйшла дахаты ў вельмі прыгнечаным настроі. Але неяк патроху рассеялася.

**Серада 24 сьнежня**

На рабоце спакойна. Раніцай яшчэ тое-сёе купіла.

Сёньня пачынаем а 9-ай, але [redacted] спазьнілася.

У абед яшчэ хадзіла купляць. Здаецца, усё купіла.

Румяна прынесла мне хатняга печыва. Рыта[1] — картачку. Падаравала й ім нейкую дробязь.

Прыехала дахаты ня позна. Вітаўт яшчэ й не чакаў. Алеся ўжо была дома. Трохі перакусілі і пачалі пакаваць падарункі.

Алеся паехала да Надзін, а [redacted] ўсё яшчэ пакавалася.

Нарэшце ўжо каля 10-ай скончыла й селі трохі адпачыць. Вітаўт кажа, што ўжо й засумаваў.

Алеся прыйшла каля 12-ай і яшчэ канчала пакаваць.

Я неяк мала спала.

---

[1] *Румяна і Рыта — калегі ў Славянскім аддзеле.*

**Чацьвер 25 сьнежня**

Прачнулася з галаўной боляю.

Падрыхтавалі ўсё да сьнеданьня і чакалі Юру.

Юра прыехаў ня позна, але Алеся яшчэ прыбіралася, дык чакалі на яе. Разьбіралі падарункі. Усе, здаецца, задаволеныя са сваіх падарункаў.

Пасьнедалі, фактычна паабедалі, і яшчэ доўга сядзелі гаварылі, глядзелі T.V. Юра трохі заснуў. Было ўсё вельмі прыемна, спакойна.

Вечарам Юра й Лорэйн паехалі яшчэ да яе бабкі. Мы адпачывалі. Мне яшчэ ўсё трохі баліць галава.

В[*ітаўт*] усё слухае ленту, якую пераслала Юля, якую яна атрымала ад Туронка, якую ён атрымаў аднекуль, мусіць, нелегальна. Вельмі цікавыя песьні новага беларускага барда[1]. Шмат цікавых патрыятычных песьняў — дзіўна, як ён так адважна піша й сьпявае. Ёсьць таксама абрыўкі гутаркі з нейкай, відаць, афіцыйнай асобай. Вельмі цікава.

---

[1] *Сержука Сокалава-Воюша.*

**Пятніца 26 сьнежня**

Трохі раніцай паспалі даўжэй. Пасьнедалі. Хутка й паехалі мы з Алесяй у магазыны. Шмат магазынаў сёньня закрытыя. Думалі здаць маё крэсла абцягнуць — але закрыта. Замовілі бабцы падлогу ў кухню[1]. Алеся таксама нагледзела вельмі прыгожы кавёр сабе.

Паехалі далей па пакупкі. Цэлы дзень амаль прахадзілі ад крамы да крамы, але нічога істотнага ня купілі. Мне галоўнае хадзіла, каб размяняць Gift certificate, што Юра даў мне на Каляды.

Купілі кітайскай ежы й прыехалі дахаты. В[*itaўm*] ніяк не дазваніўся да Юры, бо мы хацелі яго запрасіць на вячэру, ды й Ала званіла — вельмі прасіла, каб ён прыехаў на пробу танцаў.

Павячэралі ды адпачывалі.

В. пайшоў спаць.

---

[1] *Новы лінолеум.*

**Субота 27 сьнежня**

Раніцай спалі доўга, але прыпомнілі, што маюць прыехаць вымяраць бабчыну кухню. Хутка прыехаў і работнік і пачаў мерыць — і намерыў на $700. Мы не спадзяваліся, што будзе так шмат. В[*itaўm*] пачаў псіхаваць ужо, але неяк усё заладзілася. Пачалі сьнедаць. Праўда, яшчэ й за сьнеданьнем трохі бурчаў, аж я была расстроілася. Але выратаваў сытуацыю Юра — ён якраз прыехаў. Мы яшчэ разам пасядзелі, ды я пабегла зьбірацца — трэба былоісьці рабіць валасы, ды яшчэ думалі занесьці крэсла перад гэтым. Крэсла не здалі — яшчэ майстэрня закрытая.

Прычоску зрабіла хутка, бо не хацела вазіцца з завіўкай — маёй рэгулярнай парыкмахершы ня было. Паехалі з Алесяй і Юрам. Абмянялі Юру чаравікі, завезьлі яго дахаты, а самі паехалі далей па пакупкі. Купілі даволі добра мне колькі блюзачкаў. Прыехалі дахаты ня позна. Юра яшчэ чакаў нас. Разам вельмі прыемна павячэралі — прывезьлі Pizza. Юра паехаў, а мы яшчэ трохі глядзелі T.V. В. працуе.

Нядзеля 28 сьнежня

В[*itaўm*] паехаў у Нью Ёрк на канфэрэнцыю AATSEEL, на якой Tom чытае рэфэрат пра бел. драматурга А. Дударава[1]. Алеся яшчэ сьпіць. Я пішу дзёньнік.

---

[1] *AATSEEL — Амэрыканская асацыяцыя настаўнікаў славянскіх і ўсходнеэўрапейскіх моваў. Том Бэрд належыць да яе і часта чытае там даклады на беларускія тэмы. Вельмі папулярныя былі ягоныя даклады пра беларускую драматургію і Дударава.*

**Серада 31 сьнежня**

Дзень прайшоў нармальна. Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

Вечарам ужо былі амаль прапусьцілі Новы Год — былі неяк стомленыя, дык пайшлі спаць. Але якраз пару хвілінаў перад 12-ай пра-

чнуліся абодва. Спусьціліся наніз[1], каб паглядзець «Big Apple» на каляровай тэлевізіі. Мелі нейкую там бутэлечку шампанскага — яшчэ з Надзін вясельля падарунак застаўся — прывіталі Новы Год.

---

[1] *Хата была трохпавярховая.*

## 1987

**Чацьвер 1 студзеня**

Першы дзень году прайшоў зусім нармальна.

Раніцай пазваніла Алеся — прывітала.

Цэлы дзень працавалі — кожны сам сваё.

Вечарам пазваніў Юра.

**Пятніца 2 студзеня**

На рабоце ўсё, як на рабоце. Касінец бегае ўсё нешта. Нікому не гавора, што едзе ў Маскву.

Палучка.

**Субота 3 студзеня**

Рабіла сёньня завіўку.

Пазьней пазваніў Касінец — [*сказаў дакладна, калі*] едзе ў Маскву.

Крэсла [*перацягнуць*] не завезьлі — усё яшчэ закрытая майстэрня.

**Нядзеля 4 студзеня**

Алесін дзень народзінаў. Пазванілі, прывіталі яе. Яна сёньня мае гасьцей.

Прыехала да нас Малік[1]. Вельмі прыемна правялі час. Схадзілі спачатку ў рэстаран, а потым гасьцілі ў нас. Яна даволі цікавая асоба, але вельмі-ж крытычна ставіцца да Амэрыкі — але ўсё-ж трымаецца, ня хоча парваць, хоча дакумэнты прадаўжаць. В[*ітаўт*] завёз яе дахаты.

---

[1] *Д-р Гома Малік — іранка, фізык. Стала жыве ў Парыжы. Лічыць, што канфлікт ЗША з арабамі непазьбежны і што ЗША павінны больш супрацоўнічаць з Іранам, а ня з шахам. Мы часта гаварылі пра Беларусь. Яна нам у Парыжы купіла кніжку пра Купалу Івана Навуменкі ў францускай мове.*

**Панядзелак 5 студзеня**

Нічога асаблівага на рабоце. Даволі спакойна й прыемна. Ніхто ня ведае, дзе Касінец, — дык захоўваюцца, як вось-вось ён прыйдзе.

Ball.[1] няма, дык я стараюся, як мага больш зрабіць да яе прыезду, каб тады ўжо правяраць.

---

[1] *Ball. — Catherine Ballarine — нашая добрая, вельмі блізкая сяброўка з 1961 году.*

*Разам вучыліся на бібл. факультэце. Шмат нам дапамагала з ангельскімі тэкстамі, мы ёй усюды дзякавалі. Яна сапраўды нам блізкая. Ведае пра Беларусь.*

**Серада 7 студзеня**

Таня даведалася недзе, што Касінец у Маскве, дык пачала захоўвацца вельмі свабодна. Я цяпер разумею яго, чаму ён такі сакрэтны, скрыты. Хоць я і не адабраю ягонага захаваньня да працаўнікоў, але так трымаць у напружаньні людзей, пэўна-ж, лягчэй для начальніка.

Чацьвер 8 студзеня

Прыходзіла Малік са сваёй кузынкай — вельмі сымпатычная дзяўчынка, робіць дактарат у Калумбіі з параўнальнай літаратуры. Пагаварылі пра іхныя курсы, прафэсараў. Ня думаю, што [redacted] ў Калумбію[1] буду падаваць, але яна паабяцала прыслаць мне каталёгі.

В. сёньня ў Н'ю Ёрку. Спаткаўся зь імі толькі на хвілінку й пайшоў у радыё.

---

[1] *Нейкая справа ў Калюмбійскім унівэрсытэце.*

**Пятніца 9 студзеня**

На рабоце ўсё ОК.

**Субота 10 студзеня**

Зрабіла прычоску, пасьнедалі.

Завезьлі крэсла абкласьці — выбралі прыгожы матар'ял.

Сёньня вярнулася Ball[*arine*].

**Серада 14 студзеня**

Сапсулася нашая печка, але В[*ітаўт*] пазваніў і яны адразу-ж паправілі.

В. сёньня ў Нью Ёрку.

Я на рабоце сёньня адна. Зэнан пайшоў на вакацыі. К[*асінца*] яшчэ няма.

Бабчын дзень народзінаў. Прыехаў Юра — купіў торцік. Трохі разам пасядзелі. Было даволі прыемна.

**Чацьвер 15 студзеня**

Вярнуўся К[*асінец*]. Ён яшчэ вельмі стомлены — шмат не гаварыў.

**Пятніца 16 студзеня**

Сёньня палучка. Шук[*елойць*] прынёс кашулю, якую Алік Акановіч пераслаў Юлі, а яна перадала нам. Даволі прыгожа вышываная. Трэба даведацца, хто й калі вышываў.

**Субота 17 студзеня**

Зрабіла прычоску — хуценька пасьнедалі. Я сёньня працую.

Абед — прыймо з украінскай дэлегацыяй [*з УССР*], што прыехалі на канфэрэнцыю ў Гарвард.

Было вельмі прыемна — трохі нават удалося пра Трыстана пагаварыць. Відавочна на канфэрэнцыі нешта пра гэта гаварылася — бо асо-

ба, зь якой я гаварыла зарэагаваў на гэта хутка й зрабіў заўвагу, што тагачасныя тэксты ня можна лічыць толькі беларускімі. Дулю ім! Мы іх лічым толькі беларускімі і будзем крычэць на ўвесь сьвет — інакш ня можна, бо нас зусім абскубуць.

В[*ітаўт*] прыехаў і нас забраў — Ball[*arine*] таксама сёньня працавала. Завезьлі яе, а самі паехалі на вячэру. Сёньня неяк выплыла, што ■ маю шубу, — трэба было бачыць Ball. рэакцыю. Ня ведаю, чаму яна так была зьдзіўленая. Вечар прайшоў прыемна.

**Панядзелак 19 студзеня**

Сёньня дома. Шмат працавала для сябе. Найбольш над Трыстанам.

**Аўторак 20 студзеня**

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку.

**Серада 21 студзеня**

На рабоце ўсё нармальна.

Вечарам паехалі да Ball[*arine*]. Добра папрацавалі. Трыстан рухаецца.

**Чацьвер 22 студзеня**

Усе прадсказваюць вялікі сьнег, але раніцай яшчэ нічога ня было відаць, але я боты з сабой узяла.

Пачаў парашыць сьнег, як ■ йшла ўжо з аўтобуса. Трохі, патрохі і ўжо па абедзе было ўсё засьнежана. Настрой ў мяне нейкі панічны.

Адпусьцілі нас а 3-яй. Я адразу-ж пабегла на аўтобус. Там ужо вар'яцкі дом — чаргі круцяцца і абкруцілі цэлы паверх. У аўтобус дасталася а 5:30. Добра, што хоць села, бо прыйшлося правесьці ў аўтобусе аж 4 гадз. Стаялі й перад тунэлям і ў тунэлі й выехаўшы з тунэлю й на масьце — адным словам, больш стаялі, чымся ехалі. Найгоршая затрымка ня самы сьнег — бо дарогі былі ўжо трохі расчышчаныя, дый сьнег каля гадзіны 8-ай сьціх, але пакінутыя на дарозе машыны.

Дахаты прыехала 9:30. Вітаўт мяне чакаў на астаноўцы. Дабраліся да дому, павячэралі і я адпачывала.

**Пятніца 23 студзеня**

Я прачнулася з страшэннай галаўной больлю — цэлую ноч дрэнна спалася. Учарайшае перамучаньне дае сябе знаць. Думала, што на працу не пайду, але трохі раскачалася й пачала зьбірацца. Званіла Ball[*arine*] — яна таксама вагалася.

Дарогі былі зусім добрыя — прыехалі хутка.

Цэлы дзень, праўда, чулася вельмі стомлена.

Вечарам адпачывала. Вітаўт хораша прыбраў у хаце, расчысьціў сьнег. Прыехаў нават мяне спаткаць.

**Аўторак 27 студзеня**

Так і не сабраліся ў гэты раз паехаць на фарму. Колькі разоў адкладалі. Сьнягі ў гэтым годзе ўсе якраз на поўдні Нью Джэрзі. Паслалі плату за таксу[1] поштай.

Лякатэры[2] гэтым часам акуратныя (даволі) з платай.

---

[1] *Падаткі.*
[2] *Кватаранты на нашай фарме.*

**Субота 31 студзеня**

Сёньня, пасьнедаўшы, адразу-ж пачала перакладаць Трыстана. Заўтра прыйдзе Ball[*arine*] правяраць. Недзе па абедзе скончыла. Цяпер яшчэ толькі праверыць, перадрукаваць, ды шукаць editor[1].

Зьезьдзілі яшчэ й на базар.

Паехалі на канцэрт[2] даволі рана. Я ўжо злавалася, што будзем там так доўга рабіць. Але якраз добра выйшла, бо доўга прыйшлося шукаць паркінгу. Білеты на канцэрт былі ўсе распрададзеныя — добра, што мы заранььня заказалі. Канцэрт быў вельмі ўдалы. Нашыя былі прынятыя надзвычайна, асабліва «Карагод». Данчык карыстаўся вялікім посьпехам. Юру трэба пахудзець — выглядае страшэнна.

---

[1] *Рэдактара.*
[2] *Канцэрт у Lincoln Center, Alice Tully Hall. Прэстыжная зона, 800-1500 месцаў.*

**Нядзеля 1 лютага**

Сёньня з раніцы яшчэ трохі парадкавалася.

Па абедзе прыехала Ball[*arine*]. Добра папрацавалі — скончылі ўсё[1].

Паехалі на абед у рэстаран, каб адсьвяткаваць заканчэньне. Прыемна правялі час, але пачаўся сьняжок — зусім неспадзявана, дык Ball. пасьпяшалася дахаты. І добра, бо так бы яшчэ сядзела цэлы вечар.

Адпачывалі.

---

[1] *Перагледзелі пераклад Трыстана.*

**Панядзелак 2 лютага**

Алеся сёньня перабіраецца на новую працу. Усё ў яе сталася разам. Гэта й добра, бо ўсё роўна адна ці дзьве зьмены — клопат амаль той самы — але затое, як міне, дык удвая спакайней.

**Чацьвер 5 лютага**

Алеся сёньня падпісвала паперы на сваю хату.

**Пятніца 6 лютага**

Усё ніяк не маглі датэлефанавацца да Алесі, каб дамовіцца пра заўтрашні дзень.

**Saturday 7 лютага**

Юра сёньня на дыжуры. Надсон мае быць у Раісы Станкевіч.

Раніцай зрабіла толькі прычоску і паехалі. Праўда, яшчэ чакаючы В[*ітаўта*], заскочыла ў магазын купіць масла і натрапіла на нашага хлебніка[1], дык прыйшлося ўзяць і хлеба. За гэтага хлеба чуць ня выйшла сварка — бо В. думаў, што я зьбіраюся сьнедаць дома. Усё, праўда, заладзілася. Ехалася добра.

Прыехалі да Алесі каля 1-ай. Яна ўжо нас чакала. Адразу-ж завезьлі кавёр. (Між іншага В. яго заклаў у багажнік — дык ехалі без перашкодаў і без напружаньня). Хата Алесіна цяпер мне больш спадабалася.

Зрабілі некалькі перавозак. Я пакавала, [redacted] А. і В. вазілі[2]. Ішло спраўна. Стаміліся, але добра ёй памаглі. За апошнім заездам, як ужо зьбіраліся на вячэру, наваліла нам кола. Пасярод Connecticut Ave.[3]!

Але зьмянілі спраўна — нейкі малады чалавек памог з новым дамкратам. Павячэралі ў кітайскім рэстаране. Вельмі прыемна было. Адпачывалі. Я сярод ночы праснулася і не магла ўжо заснуць.

---

[1] *Наш пекар, у якога мы бралі хлеб гадоў дваццаць!*
[2] *Алеся перабіралася на новую кватэру.*
[3] *Галоўная артэрыя Вашынгтону.*

**Нядзеля 8 лютага**

Прачнулася я рана — неяк ня спалася. Трохіператаміліся ўчора.

Пасьнедалі ды зрабілі яшчэ адзін заезд з рэчамі.

Выехалі недзе каля 10-й. Ехалася добра — пагода прыемная. Заехалі да Антаніны — яна слабая. Яшчэ паралізаваная ад удару, але пазнала нас і нават спыталася пра М. В. Пабылі там вельмі каратка й паехалі да Дз. Вані. У яго там усё добра, у парадачку. Сам ён, праўда, нейкі разгублены: ўжо робіць пляны, як бы яе й няма. Перакусілі, трохі пагаварылі. В[*ітаўт*] стараўся яго пераканаць, што трэба, каб ён зрабіў новы тэстамэнт і каб назначыў «executor».

Выехалі хутка. Па дарозе яшчэ заехалі на базар — купілі фруктаў. Дахаты прыехалі пасьля 5-ай. Якраз Юра званіў бабцы — у яго ўсё добра — адпачывае пасьля дыжуру.

Адпачывалі й мы. В., праўда, пісаў скрыпт.

**Панядзелак 9 лютага**

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку.

Надсон яшчэ там быў, але ўжо сёньня выязджае. Так у бібліятэку й не зайшоў. Запруднік і Адам пайшлі на беларускі фільм, які ідзе недзе ў Нью Ёрку.

У мяне ўсё OK. Званіла prof. Lacy — не магла ніяк дазваніцца: ні ў школе, ні дома яго не магла застаць[1]. Рыта прынесла мне цукер-

кі «Мішкі». Цікава, што яны ўжо зробленыя тут, у Брукліне, і нават смачнейшыя, чымся арыгінальныя.

Вечарам адпачывала — неяк стомленая.

В. вечарам званіў да Ball[*arine*] — яна хоча нас запрасіць на абед.

---

[1] *У справе артыкулу пра Беларускага Трыстана.*

**Аўторак 10 лютага**

Алеся перабіраецца.

На рабоце ўсё, як на рабоце. Занята, трохі беганіны было, бо ў аўторак заўсёды больш складана. Званіла я колькі разоў зноў prof. Lacy — не дазванілася.

Разбалелася неяк галава. Цэлы вечар была з галаўной больлю. Адпачывала.

У абед праглядзела Трыстана й зрабіла xerox.

Купіла Рыце кветкі за цукеркі.

Вечарам званіла Алеся — яна ўжо на новай кватэры. Задаволеная, кажа, што чуецца добра на новым мейсцы.

Званіў Васіль Русак — казаў, што ў Нью Ёрку йдзе беларускі фільм, пра што мы ўжо ведалі — гаварыў пра царкву: суды перанесеныя ў Філядэльфію.

Званіў Сяргей [*Карніловіч*] — казаў, што Каханоўскі слаба чуецца. Цяжка ім зьбіраць грошы на кнігу Рытарыхі[2] — іх там не паважаюць.

Я нічога ўжо не рабіла. В[*ітаўт*] пісаў скрыпт.

---

[1] *Іны Рытар — Аляксандры Саковіч — Іны Каханоўскай.*

**Серада 11 лютага**

На рабоце нічога асаблівага. Цэлы дзень не працавалі кампютэры, дык былі перашкоды. Праўда, я трохі каталягавала бел. кніжак.

Зрабіла выпіску са старой (1862 г.) францускай кніжкі пра Беларусаў.

Цэлы дзень балела галава. У абед выйшла трохі навонкі, каб разарвацца.

Вечарам званіла Ball[*arine*] — яна ўжо запрасіла нас афіцыйна на 28-га.

Нарэшце дазванілася да prof. Lacy. Добра пагаварылі — артыкул для новага выданьня Encyclopedia Arthuriana патрэбен аж толькі на сьнежань. Так што часу поўна.

**Чацьвер 12 лютага**

Раніцай сёньня не сьпяшаліся, бо Fizer прыходзе толькі а 10-ай. Паехалі спакойна ў Rutgers. З Fizer'ам пагаварыла добра. Аддала яму частку (перадапошнюю) Трыстана. Дасталі тэлефон жанчыны-рэдактара. Пазваніла ёй.

Wilhelm'а яшчэ ня было. Дамовілася зь ім на 1:30. Пайшлі ў бібля-

тэку. Пачаўся сьнег. Спачатку памаленьку, а пазьней ужо ўсур'ёз пайшоў. У бібліятэцы знайшла пару кніг, якія трэба перагледзець да Трыстана. Між іншага, перавыдалі Curtis — у 3-х кнігах. Трэба пастарацца купіць.

З Wilhelm'ам гутарка была кароткая — ён, як заўсёды, не даецца гаварыць. Але дагаварыліся, што будзе толькі ангельскі тэкст і вялікі ўступ. Цяпер трэба будзе брацца за ўступ. Выглядае, што ён надрукуе — гэта ўжо добра. Цяпер затрымка за «editor». Яна ня надта ахвотная — будзе мне раіць некага другога. Вечарам, як ёй пазваніла, яна мне дала некага і сказала, калі я нікога да канца сакавіка не знайду, яна, можа, згодзіцца.

**Пятніца 13 лютага**

Касінца сёньня на рабоце ня было, дык трохі спакайней, тым больш, што ня было й Тані і Наташы. Адно, што кампютар зноў па абедзе не працаваў.

Вітаўт спаткаўся з Bird'ам, аддаў яму яшчэ адзін разьдзел «Беларусаў у Амэрыцы». Том абяцае, што за гэты тыдзень перагледзіць папярэдні матар'ял. Нічога ён не рабіў ні з «Запісамі», ні з «Нашай Нівай», ні зь Вітаўтавай кнігай.

Яны сядзелі й гаварылі ў кітайскім рэстаране. Зайшла і я туды на поў-гадзінкі. В. меў раніцай прыкры выпадак — пацарапаў сабе вока канвэртам, які ўкідаў у скрынку. Вока яму баліць.

Вечарам [redacted] ўжо нічога не рабіла, адпачывалі.

Званіла яшчэ па працы да Fizer'а. Ён ведае Turok[1].

Пазваніла Юля, што можа пачаць давышываць Юраву кашулю. (Можа, гэта было і ня ў гэты дзень — прыпамінаю пазьней).

---

[1] *Прапанаваная рэдактарка для «Трыстана».*

**Субота 14 лютага**

Зрабіла валасы. Пасьнедалі. В[*ітаўту*] яшчэ ўсё баліць вока.

Холадна на двары, дык я ўжо нічога не рабіла зь бялізнай.

Расклалася са сваімі нататкамі, матар'яламі і пачала працаваць над уступам. Зрабіла «outline» — выходзіць даволі гладка.

Прыехаў Юра, хутка за ім і Лорэйн — яны дамовіліся ў нас спаткацца, паглядзець, у якім стане лыжы ды іх прывесьці ў парадак. Зьбіраюцца яны на наступным тыдні на лыжы паехаць.

Трохі адарвалі ад працы. В. усё яшчэ з вокам мучыцца. Яны, праўда, хутка паехалі. Я пачала варыць суп, як яны ізноў заехалі, але не засталіся. Мы перакусілі і зноў я працавала.

Ю. паабяцаў, што прывязе ў панядзелак кашулю.

**Нядзеля 15 лютага**

Пасьнедалі, ды пачалі хутка й працаваць.

Я расклалася і разглядаю ўсё, што да гэтага часу была занатава-

ла. Шмат ёсьць сабранага. Цяпер, як ужо маю плян, можна зьбіраць і афармляць. Шмат яшчэ, праўда, трэба пераглядзець. Дзень прайшоў працавіта.

Пазьней пазваніла да Ball[*arine*] сказаць ёй, што мы да яе прыедзем. Яна столькі іншых людзей запрасіла, што аж мне зрабілася ніякава. Што нам за цікавасьць быць зь яе рознымі знаёмымі разам цэлы вечар.

Пазваніла я да Турок[1] (тая editor, што мне параіла, ды й Fizer кажа, што яна ОК). Яна ў прынцыпе не адмовілася, але хоча спачатку зрабіць пробных колькі старонак.

---

*[1] Katherine Turok — літаратар, ведамая ў літаратурных колах Ратгерскага ўнівэрсытэту, згадзілася быць рэдактарам тэксту.*

**Панядзелак 16 лютага**

Раніцай пасьнедалі самі і сабраліся паехаць у магазын. Я ўсё зьбіраюся купіць сабе паліто зімовае. Трохі перагаварылі, дык я са злосьці ўжо кінула й пайшла мыць бялізну. Дзень сёньня трохі лепшы. Але хутка пагадзіліся й паехалі. Паліто я не купіла — нічога ўжо няма цікавага. Але купіла блюзку, якую адразу-ж і адзела, так яна прыйшлася добра.

Прыехаўшы, спарадкавала бялізну. Пазваніла Ball[*arine*] — яна ў мяне вычула незадаваленьне з запросінамі. Дамовіліся, што калі мы не захочам, дык можам ня йсьці да яе — неяк другім разам зыйдземся.

Працавалі і я і Вітаўт. Вока яго ўжо лепей.

Вечарам пазваніў Юра, што прыедзе і прывязе pizza. Вельмі прыемна правялі вечар разам.

Пазваніла Вячку [*Станкевічу*], што дамовіліся з Bird'ам на 18 сакавіка да нас.

**Аўторак 17 лютага**

Сёньня я амаль цэлы дзень працавала для сябе. Паслала Turok 11 старонак Трыстана (тыя самыя, што пераглядзеў Том — каб параўнаць). Зрабіла xerox з Надсонавага артыкулу — Дзёньнік Еўлашэўскага. Шукала інфармацыяў аб Уніхоўскіх, Трызнаў — нічога новага не знайшла.

Вітаўт таксама ў Нью Ёрку. Перадаў Шукелойцю кашулю Юраву для Юлі.

Хадзіла на каву з Ball[*arine*]. Нічога не ўспаміналі пра госьці. Паправіла яна тэкст для абвесткі пра кнігу Каханоўскай. В. вечарам ужо і адправіў. Кніга ўжо амаль гатовая.

Вечарам я была неяк вельмі стомленая, дык нічога ўжо не рабіла.

**Серада 18 лютага**

Сёньня для сябе мала зрабіла, адно ў абед пачала падрыхтоўваць матар'ял для Turok.

Касінец паказаў мне «proposal»[1] для канфэрэнцыі па ліквідацыі залегласьці ў каталягаваньні. Канф. адбудзецца недзе вясной 1988, але падрыхтоўчая камісія будзе раней, — [redacted] ў той камісіі[2]. Гэтаксама ён выказаў думку, што можна было-б друкаваць нашыя беларускія кнігі ў Wynar'a — Library Publishers?[3]

Дзень быў нейкі непрадукцыйны.

Прывезьлі крэсла — вельмі прыгожа зрабілі.

Прыязджаў Юра — узяць цёплую бялізну для лыжаў, але я яго не застала.

Вечарам перадрукоўвала рэшту перакладу.

Прыйшла кніга ад Швэдаў[4] «Кніга Беларусі» — вельмі зь іхнага боку сымпатычна.

---

[1] *Плян.*

[2] *Пазьней гэтая камісія мусіла рабіць справаздачу ўрадавым чыньнікам, бо на ліквідацыю залегласьці даваліся ўрадавыя грошы. Зора была адказная за тую справаздачу.*

[3] *Мы друкавалі ўсё пад маркай БІНіМу.*

[4] *Нашы знаёмыя, уладальнікі кнігарні Szwede ў Каліфорніі.*

**Чацьвер 19 лютага**

Сёньня цэлы дзень працавала над гісторыяй Слав. аддзелу — гэта патрэбна для вялікага прыйма, што будзе 11 сакавіка. Нават было цікава працаваць — сабіраць матар'ялы.

**Пятніца 20 лютага**

Дзень прайшоў нармальна.

Вечарам было прыймо з савецкай архіўнай дэлегацыяй. Касінец папрасіў мяне застацца, каб трохі дапамагчы. Прыймо было ў Princeton Club. Быў там і Том, але нічога пра В[*ітаўтаў*] манускрыпт не ўспамянуў. Было чатыры савецкіх, колькі асобаў з нашай бібліятэкі — «bosses», з Калюмбіі пару. Патрыцыя Грымстэд і яшчэ пару. Прайшло добра.

Я дахаты прыехала ня надта ўжо й позна. В. мяне чакаў.

Юра сёньня паедзе з Лорэйн на лыжы.

**Субота 21 лютага**

Зрабіла валасы, пасьнедалі. Пагода цудоўная.

Паехалі ў Burlington Coats[1] паглядзець мне паліто — нічога не знайшла, нічога наагул не купіла.

Памыла бялізну, трохі парадкавалася і пачала працаваць.

Добра папрацавала. Вельмі задаволеная, што вырашыла ўсё яшчэ раз пераглядзець перад тым, як даваць [*на рэдагаваньне*] Турок.

---

[1] *Магазын гуртовага продажу.*

**Нядзеля 22 лютага**

Пасьнедалі. Памыла бялізну й пачала працаваць над Трыстанам.

Добра папрацавалася. Зрабілі сабе перадышку — зьезьдзілі ў Патэрсон на базар.

Па абедзе зноў працавала.

Зазваніў Вячка [*Станкевіч*] — яны надумаліся рабіць паказ касьцюмаў на 25 сакавіка. Пытаў пра касьцюмы. Бартуліха мае быць адказная за гэта. Цяпер мне трэба ўсё дабраць, спарадкаваць. Пазванілі Але Рамана. Яна кажа, што касьцюмы ўсе ўжо аддадзеныя. Гаварылі таксама пра зборку ў нас — ніякіх перашкодаў зь ейнага боку няма.

Пазванілі вечарам Юру — ён ужо дома. Кажа, што было вельмі добра на лыжах.

**Панядзелак 23 лютага**

Рана ехалі разам.

На рабоце ўсё добра. В[*ітаўту*] у N.Y. Для сябе рабіла ня шмат. Толькі зьверыла з манускрыптам некаторыя словы.

Касінец мне падсунуў новую работу — рабіць камэнтары на канфэрэнцыі ня толькі пра беларускую кнігу, але й пра ўкраінскую.

Шмат сёньня пераглядзела беларускага матар'ялу — у нас і ў кампютары, — заказала колькі кніжак.

Вечарам пазваніла [*Вера*] Бартуль пра касьцюмы. Мяне гэта трохі выбіла з каляі. Пачала шукаць, падбіраць. Так цэлы вечар і правазілася з гэтым. Ну, але добра, што прывядзецца ўсё ў парадак.

Званілі Юру (В. выпадкова адкрыў ліст да яго — ліст з FLEX[1]). Экзамэн Юра здаў — ён мае 78/79, а трэба для здацьця 75. Вельмі ўсе задаволеныя.

---

[1] *Амэрыканская мэдычная экзамэнацыйная камісія.*

**Аўторак 24 лютага**

Кампютар зноў не працаваў, дык ■ парадкавалася зь беларускім — заказала пару кніжак з другіх бібліятэк на мікраформе Луцкевіча й Касьпяровіча[1]. Каталягавала тыя, што В[*ітаўт*] даў на xerox — Ад. Станкевіча і Гарэцкага[2].

Схадзіла ў абед у магазын. Купіла там нейкай дробязі.

Па абедзе рабіла Memo наконта залежанасьці ў каталягізацыі. Bal[*larine*] праверыла, але як я перадрукавала, было яшчэ столькі памылак, што прыйдзецца перарабляць — яна ўжо зусім не ўважае.

Вечарам званіў Ю. Станкевіч. Гаварылі пра яго друкавальныя магчымасьці. Ён мне прыцэніць, колькі возьме за перабіцьцё Трыстана на floppy disk. Званіла Тамара Кольба, даведацца пра касьцюмы на першым фэстывалі. Яна мала прыпамінае, але абяцала пераглядзець свае здымкі. Можа, спаткаемся ў чацьвер.

---

[1] *Зора пачала зьбіраць паасобныя кніжачкі-мікраформы А. Луцкевіча і М. Касьпяровіча.*

[2] *Я зрабіў ксэраксы некалькіх кніжак кс. Адама Станкевіча (пазычаў*

*у д-ра М. Шчорса) і працу Гаўрылы Гарэцкага «Народны прыбытак Беларусі», якая развальвалася. Быў зроблены ксэракс, які трэба было пераканалягаваць.*

### Серада 25 лютага

Нашыя ўгодкі — 31[1].

На рабоце ўсё добра. К[*асінца*] амаль цэлы дзень ня было, але не змагла неяк для сябе часу знайсьці. Праўда, трохі беларускага спарадкавала.

У абед хадзіла зноў у магазыны — шукала танных мяшкоў для касьцюмаў. Нічога не знайшла.

Званіла мне Алюньця — я ёй адзванілася, але яе ўжо ня было. Не магла дазваніцца й да [*Веры*] Бартуль.

Ball[*arine*] прывітала й прынесла цукеркі — запрасіла яе з намі на вячэру.

Юра і Лорэйн прыслалі фрукты.

Усе ўжо былі дома, як [redacted] прыехала. Юра й Лорэйн былі на лыжах сёньня цэлы дзень.

Вячэра прайшла прыемна. Далі Юру $100 і бабка $100 — падарунак за экзамэн.

Пазваніла Алеся — прывітала. Яна вельмі занятая.

---

[1] *3 дня вясельля.*

### Чацьвер 26 лютага

В[*ітаўту*] сёньня ў Н[*ью*] Ёрку.

На рабоце ўсё ОК — занятая. Думала рыхтавацца да канфэрэнцыі, але ўсё нешта было на перашкодзе.

У абед прыйшла Тамара, прынесла шмат матар'ялаў да касьцюмаў. Устанавілі мы зь ёй усе касьцюмы [*якія дэманстраваліся*] на першым фэстывалі і ўсіх мадэляў. Добра папрацавалі — я сказала ёй пра Трыстана — яна была вельмі радая прапанове працаваць разам[1].

Была невялічкая зборка пад канец дня — так я й не пачала працаваць над рэфэратам.

Вярнуўся назад чэк ад Швэдаў — кніга[2] гэта падарунак.

Хадзіла да нажнога доктара.

Бабка прыйшла прывітаць — спазьнілася.

Вечарам, як толькі паелі, пачала званіць: Алюньці адзванілася, яна хоча Алесю запрасіць чытаць рэфэрат; пазваніла Connie — падзякаваць за павіншаваньне. Бартулісе — што касьцюмы будуць гатовыя ў гэтую нядзелю — яны прыедуць забраць. Надзі — запрасілі яе да нас. Цэлы вечар празваніла.

---

[1] *Зора думала свайго «Трыстана» ілюстраваць, але праф. Вільгельм захацеў толькі тэкст — акадэмічна.*

[2] *Каталёг «Кніга Беларусі».*

**Пятніца 27 лютага**

Сёньня палучка.

Прыйшла раней — мела зайсьці да сястры аддаць форму ад ножнага доктара, але яе ня было. Памяняла чэк.

Касінец пайшоў рана. У абед я схадзіла ў магазыны. Купіла рэчы для пакаваньня касьцюмаў.

Трохі пачала чытаць для «paper» на AAASS Mid-Atlantic conference[1].

---

[1] *Арганізацыя AAASS (American Asssociation for the Advancement of Slavic Studies) — агульнаамэрыканская, але мае таксама рэгіянальныя структуры, якія ладзяць свае канфэрэнцыі. Адна з такім структураў — Сярэднеатлянтычная. Зора мела зь імі дачыненьні.*

**Субота 28 лютага**

Зрабіла прычоску, пасьнедалі, памыла бялізну й пачала парадкаваць касьцюмы. Вазілася да якой 2-ой гадзіны. Выпілі толькі кавы, і я пайшла працаваць. Добра папрацавала.

Павячэралі крыху, і я зноў працавала.

Званіў Белямук, абяцаў, што прышле нататкі, якія яму нарабіў Туронак на «Кніга Беларусі».

Званіла Алюньця [*Орса*], яна хоча Алесю запрасіць чытаць рэфэрат на 25-га сакавіка.

Званіў Вячка [*Станкевіч*] і пра 25-га і пра сустрэчу ў нас 14-га.

В[*ітаўту*] даведаўся, што памёр Mr. Collins[1]. Пазьней пазванілі й Дыгліо[2].

---

[1] *Наш сусед, уласьнік «гаражу» — аўтарамонтнай і заправачнай станцыі.*

[2] *Суседзі.*

**Нядзеля 1 сакавіка**

Вельмі рухавы быў дзень сёньня.

Раніцай, як пасьнедалі, трохі папрацавала.

Званіла Алюньця — Алеся згадзілася прыехаць чытаць рэфэрат на 25-га сакавіка.

Па абедзе прыехалі Бартулі. Добра мы зь ёй папрацавалі. Вітаўт і Бартуль гаварылі. Выпілі кавы, і яны паехалі. Мы тады адразу-ж паехалі да Ball[*arine*]. Там вельмі прыемна правялі час, добра яна ўсё прыгатавала.

Пасьля Ball. адразу заехалі да Жамойды па білет ды тады на паховіны Collins.

Як прыехалі дахаты, то В. яшчэ трохі працаваў, а я ўжо зусім з ног звалілася.

**Панядзелак 2 сакавіка**

У панядзелак так заўсёды ня хочацца на працу ісьці, ды й weekend гэты быў такі не адпачынковы.

Зрабіла запросіны на нашае спатканьне.

Адбіла гэтаксама папраўлены тэкст Трыстана.

В[*ітаўт*] сёньня ў N.Y. Па абедзе прыйшоў у бібліятэку. Схадзілі на каву. Ён працаваў да 5-ай.

Вечарам яшчэ трохі друкавала, хоць і была стомленая. В. адрасаваў канвэрты для запросінаў.

**Аўторак 3 сакавіка**

Памылкова запісала сёньняшняе ў Feb 3. Гэта быў якраз пусты дзень і якраз-жа прыпадаў на аўторак. Глядзі Feb. 3

[Аўторак 3 лютага]

Трохі працавала для рэфэрату, трохі для Вітаўта зрабіла.

Адбіла яшчэ запросіны. В. ужо шмат разаслаў.

Так больш цікавага нічога й не прыпамінаецца.

Вечарам трохі друкавала — ужо амаль скончыла.

**Серада 4 сакавіка**

Працую над рэфэратам[1]. Урыўкамі раблю й Трыстана.

На рабоце ўсё ОК.

Дагаварылася з Bal[*larine*] на заўтра.

Прыйшла кніга Рытарыхі[2] — вельмі добра выйшла. Яна павінна быць задаволеная.

Атрымала правераныя старонкі Трыстана ад Turok. Праверыла даволі добра, але пэўна-ж ня так, як Том. Цана сходная — $300 за ўсё.

[1] *Для канфэрэнцыі AAASS.*
[2] *Аляксандры Саковіч.*

**Чацьвер 5 сакавіка**

Паехала сёньня раней. Спадзявалася працаваць над рэфэратам, але падрыхтоўка да «Open House»[1] займае шмат майго часу — то тое, то сёе трэба залагодзіць.

Па абедзе мелі зборку [*у аддзеле*] — гэтаксама пра прыймо ў наступную сераду.

В[*ітаўт*] сёньня ў Нью Ёрку.

Хуценька павячэралі й паехалі да Ball[*arine*].

Я зрабіла толькі палову. Яшчэ трэба будзе ў пятніцу выканчваць і спаткацца зь ёй на рабоце, каб праверыла.

[1] *Імпрэза з свабодным уваходам, без запросінаў.*

**Пятніца 6 сакавіка**

Дзень зноў вельмі рухавы, але ўсё скончыла. Пасьля 3-яй праверылі з Ball[*arine*] астатняе.

Вечарам пачытала Вітаўту — ён адобрыў, і перадрукавала. Выходзіць якраз на 5-6 хвілін.

Рана, яшчэ спалі, зазваніў [*Мікола*] Шуст, што ня зможа прыехаць на славянскі фэстываль у Penn[*sylvania*] College — шкада.

**Субота 7 сакавіка**

Рана зрабіла прычоску і пачала рыхтавацца да рэфэрату. Аж, крыўдна — такая дрэнь — невялічкая гутарка, пра тое, што фактычна добра ведаеш, [redacted] чалавек хвалюешся, траціш столькі часу.

Паехалі ў Нью Ёрк аўтобусам — трафік быў вельмі дрэнны, добра, што заранньня выехалі.

Рэфэрат прайшоў добра. Быў там таксама Шук[*елойць*] — прынёс В[*ітаўту*] лісту для кангрэсмэнаў для 25 Сакавіка[1]. В. ім паможа рассылаць.

Прыехалі дахаты каля 6-ай. Трохі перакусілі ды адпачывалі — [redacted] трохіператамілася ўжо нічога не хацелася рабіць.

---

*[1] Паведамленьні аб адзначэньні 25 Сакавіка звычайна рассылаліся вельмі шырака — на 500-1000 адрасоў.*

**Нядзеля 8 сакавіка**

Пасьнедалі. Мы добра трымаемся з дыетай гэтым разам. Памыла бялізну.

Зьезьдзілі ў Патэрсон — [redacted] ужо пачынаю патрохі рабіць закупы для нашага прыйма.

Па абедзе працавалі і [redacted] і В[*ітаўт*].

Званіла Алеся — яна мела ўчора ў сябе «party»! Вельмі добра прайшло. Яна задаволена. На працы ў яе ўсё добра таксама.

За пару хвілінаў пазваніў і Юра. У яго ўсё добра. Быў на дыжуры — трохі стомлены.

Я пазваніла Турак — дамовіліся спаткацца 17-га — я ўжо ёй аддам увесь матар'ял.

**Панядзелак 9 сакавіка**

Сёньня прыехала даволі рана, дык мела магчымасьць яшчэ зайсьці ў пару магазынаў — нічога ня купіла, але ўжо хоць ведаю, дзе чаго няма.

У абед правярала Трыстана. Дамовілася з Касінцом, што вазьму чацьвер вольны — паедзем у школу.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку.

Вечарам прыехала таксама раней — В. яшчэ ня было. Зайшла ў Shop Rite — купіла тое-сёе для суботы.

Павячэралі, трохі яшчэ паглядзелі навіны, ды пайшлі працаваць. Я скончыла ўсё друкаваньне й пачала пераглядаць гэтую апошнюю частку.

**Аўторак 10 сакавіка**

На рабоце ўсё вельмі хаатычна: беганіна, падрыхтоўка. Але, добра, я хоць трохі падчысьціла каля сябе — павыкідала шмат непатрэбнага, што назьбіралася.

У абед трохі працавала для сябе.

Трохі пачынаю рыхтавацца й да нашага прыйма ў суботу.

Вечарам працавала.

**Серада 11 сакавіка**

Зраньня зноў беганіна. Нейкі нэрвовы настрой. Зазваніла да Fizer'a і да Wilhelm'a дамовілася з адным на заўтра, а з другім на панядзелак спаткацца.

Вітаўт у Нью Ёрку.

Выйшла сёньня вельмі прыкрая справа. [redacted] пачала спрачацца з Таняй аб сэрбска-хравацкую мову. Ды так настойліва яшчэ бараніла, што мусяць быць сэрбская і хравацкая асобныя мовы. Добра, Касінец даволі тактоўна ўмяшаўся і неяк залагодзілася перад тым, як я зусімбы згубіла твар. Вельмі быў у мяне пасьля гэтага прыкры настрой.

Прыймо прайшло добра. Было шмат людзей.

Надта-ж [redacted] стамілася толькі. Добра, што ішлі дахаты разам зь В. — ён сябе добра адчуваў на party.

**Чацьвер 12 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі й паехалі ў Rutgers. Па дарозе ўжо заўважылі невялічкую парошу, але гэта нас не турбавала. Залагодзіла з Fizer'ам. Аддала яму апошнюю частку перакладу. Дамовіліся спаткацца праз два тыдні.

Сьняжок ужо трохі пачынаў, як выехалі, але ехалася добра. Заехалі на базар у [*мясцовасьць*] Columbia, купілі яблыкаў, зеляніны і іншых фруктаў.

У Нядзьвігаў доўга не былі — там ужо пачаўся добры сьняжок. Антаніна слаба чуецца. Дзядзя Ваня нейкі разгублены. Шкада іх. Яшчэ-б маглі добра разам пажыць.

Заехалі заплацілі таксы[1] ды на фарму. Там першае ўражаньне жахлівае — на двары балаган, дзьверы ўсе яшчэ не ўстаўленыя. На кухні сьценка разабраная — нешта рэмантуе. За 5 гадоў ён больш разламаў, чымся паправіў.

Сапсуўся ў мяне настрой. Назад як ехалі, ішоў сапраўдны сьнег.

Прывезьлі крэсла. Прыехалі пасьля 5-ай. Вечарам яшчэ працавалі абое.

---

[1] *Падаткі.*

**Пятніца 13 сакавіка**

Палучка. К[*асінец*] паехаў рана.

Прынесьлі мне й калбасы й ікры. Усё, здаецца, будзе ў парадку.

Дзень прайшоў неяк суетліва. Вечарам зрабіла адну салатку.

Ага, у абед хадзіла ў магазыны. Дакупіла што трэба яшчэ было. Мела няпрыемны перапалох — была згубіла ключы — пабегла назад у магазыны — нічога. Ужо была папрасіла, каб адкрылі мой стол неяк, але раптам знайшла — у мяшку з рэчмі — неяк заваліліся.

**Субота 14 сакавіка**

Раніцай схадзіла зрабіць прычоску. Пасьнедалі й я пачала рыхтавацца. Усё памаленьку прыгатавала.

Нават папрацавала яшчэ пару гадзінак. Юра прыехаў мне дапамагаць.

Людзі пачалі званіць і зьязджацца рана. Першы прыехаў Том. У мяне ўжо было ўсё гатова. Добра сабралася людзей — 25 асобаў: 13 — маладых і 12 дарослых. Яда была смачная й добра пайшла.

Томава гутарка была вельмі добрая, было шмат дыскусіі. Моладзь хутка пасьля кавы разышлася, а старэйшыя яшчэ сядзелі амаль да 11-ай.

Трохі стамілася, але было добра. Ball[*arine*] пайшла апошняя.

**Нядзеля 15 сакавіка**

Пасьнедалі. Я памыла бялізну й села працаваць.

Распусьцілася кветка на вазоне — шкада, адзін дзень спазьнілася да гасьцей.

Добра папрацавала. Наагул дзень быў спакойны й прыемны.

Трохі мы са сваёй дыеты сышлі.

[redacted] ўбачыла, што ўсё ня скончу для Turok, дык дам ёй тое, што ёсьць, а тады рэшту перашлю.

**Панядзелак 16 сакавіка**

Сёньня цэлы дзень старалася дазваніцца да Wilhelm'a — так і не дазванілася і не спаткаліся. Вельмі мне гэта не на руку, бо заўтра маю спаткацца з Turok, дык добра было-б мець яго апінію перад тым.

На рабоце ОК, але [redacted] бачу, што К[*асінец*] зьмяніўся. Надта-ж ён спадзяецца на Наташу. Ну, няхай сабе — [redacted] яшчэ гады чатыры неяк дасяджу, нягледзячы на яго апінію.

Вечарам працавала — упарадкавала ўсё для Turok.

**Аўторак 17 сакавіка**

Дзень прайшоў нармальна — у абед скончыла правяраць для Turok[1].

Пазваніла ў Rutgers даведацца пра Wilhelm'a. Так як я й баялася — тэлефон, што я мела, быў нядобры. Вельмі прыкра выйшла.

Падрыхтавала ўсё для Turok. Яна спазьнілася, але мы добра папрацавалі — перадала ёй частку матар'ялу: 114 старонак. Рэшту перашлю.

Прыехала дахаты ўжо каля 8-ай.

Павячэралі і я адпачывала.

---

[1] *Праца над «Трыстанам».*

**Серада 18 сакавіка**

Дзень сёньня быў вельмі памысны. Зраньня яшчэ пазваніла Wilhelm, але ня было адказу. Я ўжо трохі адчаялася.

Ага, па дарозе на працу купіла Mineral Ice[1] — папрабую, бо над-

та-ж мне апошнім часам ломіць косьці — левая нага ад бядра аж да шчыкалаткі.

Пасьля 11-ай кажуць мне, што мяне кліча праф. Wilhelm. Я паляцела, як падсмаленая. Ну, ніколі я не спадзявалася, што ён сам прыйдзе. Добра мы зь ім пагаварылі — ён адобрыў яе папраўкі. Некаторыя яшчэ дэталі ўзгоднілі. Ён яшчэ выходзячы пазваніў да Garland Press і залагодзіў, што будзе друкавацца[2] ў «Library of Medieval Lit.» Series[3]. Я яшчэ пагаварыла з той асобай, і ён сказаў, што падрыхтуе кантракт. Тэрмін да канца лета.

Пазваніла Вітаўту — ён вельмі рады. Зрабіла В. адбітку пра Варонку[4].

Паслала Юрку Ст[*анкевічу*] узоры.

Вечарам працавала — яшчэ ўсё канчаю правяраць Трыстана.

Вечарам намазала Mineral Ice — добра памагло, але яшчэ трохі чуецца, асабліва пасярэдзіне нагі.

---

[1] *Лёд у мяшэчках.*

[2] *Залагоджаная справа з выданьнем перакладу «Трыстана».*

[3] *Сэрыя «Бібліятэка сярэднявечнай літаратуры».*

[4] *Я знайшоў у адной расейскай газэце артыкул пра Язэпа Варонку.*

**Чацьвер 19 сакавіка**

Дзень быў спакойны. Шмат каго ня было, дык працавалася лепей.

Зрабіла трохі й для сябе. Трэба хутчэй скончаць гэта правяраньне ды брацца за ўступ.

Вечарам В[*ітаўт*] слухаў прэзыдэнта[1], а я пайшла працаваць.

Званіла Вера Бартуль — хацела дастацца да Алесі, каб папрасіць яе мадэляваць.

---

[1] *Прэсавая канфэрэнцыя Роналда Рэйгана.*

**Пятніца 20 сакавіка**

Раніцай залагодзіла з акулярамі. Нічога асаблівага на рабоце не прыпамінаецца.

Вечарам трохі працавала.

**Субота 21 сакавіка**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі, і В[*ітаўт*] падвёз мяне ў новы магазын — Larry Levine. Я купіла сабе паліто зімовае і касьцюм вясновы. Вельмі прыгожы. Ня танны, але вельмі добра пашыты.

Зьняла фіранкі й памыла.

Працавалі. Я скончыла ўсё правяраць.

**Нядзеля 22 сакавіка**

Пасьнедалі. Вітаўт хутка й паехаў у New York — мае рэфэрат у [*царкве*] Мерляка.

Я парадкавалася: памыла бялізну, разьвесіла астатнія фіранкі. Паправіла крэсла Юрава.

Зь лямпай для Алесі нічога ня выйшла. Склеіла для В. нож для адчыняньня лістоў, але ён як прыйшоў ды папрабаваў на нечым цьвярдым, дык зноў паламаў.

Пад час як я была на порчы[1] і парадкавала лямпу, прыйшла Ball[*arine*]. Яна па дарозе з царквы зайшла, каб аддаць нейкія баначкі. Я была ў халаце, незачэсаная.

Вітаўтаў рэфэрат прайшоў вельмі добра. Ён прывёз шмат матар'ялаў ад Пелясы, Протаса. Вельмі рэдкія, мала ведамыя [*беларускія эмігранцкія*] часопісы.

Вечарам працавалі.

Званіла Алеся — у яе ўсё добра — прыедзе, мусіць, раней да Надзін. Званіў Юра — ён ужо Алесяй заапякуецца.

---

[1] *На вэрандзе (porch).*

**Панядзелак 23 сакавіка**

Нічога асаблівага на рабоце. Скончыла адбіткі апошніх старонак Трыстана, але яшчэ ня выслала Турок.

Чытаю цяпер Tavola Rotonda. Вельмі добра мне для параўнаньня.

Пазваніла Бартулісе, што Алеся згадзілася мадэляваць.

Вечарам трохі працавала.

В[*ітаўт*] быў у Нью Ёрку. Вельмі незадаволены зь бібліятэкі. Меў дрэнны сэрвіз[1].

Наагул п заўважыла, што ён як бывае ў бібліятэцы, дык у яго псуецца настрой.

Прыйшла праграмка з Kalamazoo conference[2] — мой рэфэрат будзе ў пятніцу [redacted] мая а 10-ай гадзіне.

---

[1] *Дрэнны сэрвіс: доўга трэба чакаць на замоўленыя кнігі.*
[2] *Канфэрэнцыя мэдыевістаў.*

**Аўторак 24 сакавіка**

Сёньня быў нейкі вельмі суетлівы дзень. Раніцай была з Рытай у Acquisition[1] — паказвалі нам, як устаўляць кірылічныя кнігі ў кампютар. Заняло шмат часу — нешта яшчэ ня зусім наладжана.

Па абедзе прыходзілі ўстаўлялі Nota Bene[2] — таксама заняло шмат часу. Пасьля практыкаваліся — яшчэ й гэта не зусім апанавалася.

Вечарам была такая стомленая, што нічога ўжо не магла рабіць — адпачывала.

Прыйшлі чэкі за нажнога доктара — $143. Добра. Будзе на абноўкі.

---

[1] *Аддзел набыцьця кніг.*
[2] *Кампутарная праграма.*

**Серада 25 сакавіка**

Дзень быў звычайны. Паслала рэшту тэксту Turok.

Зайшла яшчэ ў магазын, але нічога асаблівага ня купіла.

Бачыла Ball[*arine*], яна ўжо думае пра Cape Cod — хоча ехаць у пятніцу, але я ніяк не змагу, ані хачу.

В. пачаў рабіць таксы[1]. Зраньня ён быў у N.Y., рабілі з Шук[*елойцем*] газэту.

Вечарам пазванілі Юру — яму быў там нейкі ліст ад штату — павіншаваньне.

Працавала.

Званіў Васіль Мель[*яновіч*]. Нешта там у Вашынгтоне Рамучыха нарабіла з сваёй Bielo[2]. Яна нам яшчэ нашкодзіць.

---

[1] *Падатковыя анкеты.*

[2] *Спадарыня В. Рамук, дзе магла, старалася перарабіць афіцыйнае напісаньне «Byelorussia» на «Bielarus», з гэтага ўзьнікалі праблемы. Афіцыйная Амэрыка трымалася ААНаўскага «Byelorussia».*

**Пятніца 27 сакавіка**

Сёньня палучка. Прыйшла раней. Схадзіла яшчэ ў банк. Дзень быў трохі суетлівы, але ўсё, што трэба было зрабіць, зрабіла.

Пайшла з працы а 2:30. Купіла яшчэ па дарозе нашых традыцыйных булачак.

Адразу-ж з аўтобуса пайшла рабіць прычоску.

Выехалі з дому[1] крыху перад 5-ай. Ехалася добра. Каля Dover, як заўсёды, была затрымка.

На мейсца адпачынку, у Clearfield (Best Western), прыехалі недзе каля 10-ай. Перакусілі й адпачывалі. Мейсца вельмі прыемнае.

Ага, купіла я фруктаў і запакавала ў карзіначку для Калошы й Сяргея [*Карніловіча*] — каб хоць нешта прывезьці ў хату.

Прыйшоў ад Ю. Ст[*анкевіча*] пакет з пробнай старонкай і матар'ялам, які ён просіць перакласьці. Цана сходная — $800[2].

---

[1] *Паехалі ў Кліўленд на сьвяткаваньне 25 Сакавіка.*

[2] *За набор «Трыстана».*

**Субота 28 сакавіка**

Раніцай пасьнедалі ў тым самым мейсцы й паехалі далей.

У Кліўленд прыехалі а 12-ай.

Фрукты карысталіся вялікім посьпехам — добра, што зрабіла. Выпілі зь імі кавы, крыху пагаварылі і паехалі да Каханоўскіх. У іх усё добра. Вельмі-ж яны задаволеныя кнігай. Прыйдуць заўтра на сьвяткаваньне.

Пасьля Каханоўскіх паехалі да Белямука. Ён захацеў нам паказаць сваю новую кватэру. Кватэра добрая — ён ўсё клапоціцца, як яе ўдэ-

караваць. Пачаставаў ён нас смачнай кавай ды яшчэ й даў кавы з сабой. Даў гэтаксама кніжку Тапольскай.

Паехалі пад царкву. Я спавядалася.

Пасьля яшчэ была зборка з моладзьдзю. Вельмі добра прайшло. Сабралася даволі шмат юнакоў.

Нядзеля 29 сакавіка

Ранічкай ужо нічога ня ела. Фактычна ня ела ўжо аж ад Белямука. Паехалі ў царкву. Падрыхтавала выставку.

Я цэлую службу прастаяла. Лёля [*Міхалюк*] прынесла яйкі — вельмі прыгожыя — я ўзяла 6.

Пасьля царквы, абед. Сядзелі разам з Pap[1]. — Ён, аказваецца, кум Fizer'a. Вітаўтаў рэфэрат быў, як заўсёды, вельмі добры. Зьмястоўны, сьціслы — новыя весткі.

Сёньня сьвяткаваньне і ў New Brunswick.

Выйшла невялікая затрымка з Каханоўскімі, але ўсё наладзілася. Была невялічкая ўрачыстасьць дзеля яе новай кнігі[2]. Я сказала пару слоў. Яны абое, здаецца, вельмі засталіся задаволеныя. Прыехаў і Шуст з жонкай. Яны ўсё-ж былі ў Пэнсыльваніі. Маладзец.

Выехалі недзе каля 5-ай. Маглі-б выехаць раней, але ў іх там была невялічкая зборка пра Бінго. Нешта Ірка Каляда бунтуецца. Але, здаецца, усё залагодзяць. Стрэчань даў нам яшчэ свайго сала і сялёдкі.

На мейсца прыехалі каля 10-ай.

Пазванілі Алесі. У іх там было вельмі добра.

---

[1] *Прафэсар М. Пап.*
[2] *Прэзэнтацыя кнігі Аляксандры Саковіч (псэўданім Іны Каханоўскай).*

**Панядзелак 30 сакавіка**

Сёньня ўсталі ня позна. Сабраліся, пасьнедалі там-жа й паехалі спакойна. Пагода добрая. Наагул пагода нам вельмі ўдалася ў гэтую паездку.

Дахаты прыехалі каля 12-ай. Разгледзелі пошту. Распакаваліся. Крыху агледзеліся ды схадзілі ў Regis Travel[1] — заказалі білеты на Kalamazoo канфэрэнцыю. Рашылі ляцець да Дэтройту, а там узяць машыну [*напракат*].

Трохі працавалі, трохі адпачывалі.

Пазваніў Юра. У яго ўсё добра. Ён хоча прыехаць забраць крэсла. Хутка й прыехаў.

Трохі пачаў марасіць дождж. Юра расказваў, як было ў іх у нядзелю[2]. Было добра й людзей. Алесін рэфэрат быў добры. Паказ касьцюмаў таксама вельмі ўдалы. Перакусіў сялёдкай, яшчэ трохі пагаварылі ды паехалі яны зь Вітаўтам завезьці крэсла.

---

[1] *Турыстычнае бюро.*
[2] *Сакавіковае адзначэньне ў Нью Брансуіку.*

**Аўторак 31 сакавіка**

Сёньня дома да абеду — працую вечарам. Ідзе дождж, але мы ўжо рашылі ехаць у New Brunswick.

Заехалі ў школу. Паказала Wilhelm'у пробную старонку — ён, як заўсёды, быў вельмі няўважлівы. Сказаў, што хутка мае прыйсьці кантракт.

Памяняла кнігі ў бібліятэцы. Добра, што знайшла сваю картку, якую думала, што згубіла.

Заехалі ў беларускі магазын [*ў Саўт Рывэры*]. Купілі калбасы й заказалі шынку.

Паехалі адразу ў New York. Усё яшчэ йдзе дождж.

На рабоце ўсё нармальна. Вечарам К[*асінец*] яшчэ доўга быў.

Мы зь В[*ітаўтам*] схадзілі павячэралі. Ён працаваў таксама, а ўжо хутка па 8-ай пайшоў па машыну й чакаў мяне.

Добра даехалі, але ўжо стомленасьць дае сябе адчуваць.

Серада 1 красавіка

На рабоце ўсё добра.

Пачалі рабіць «acquisition»[1] на кампютары, дык я трохі з Рытай практыкуюся.

Так здаецца больш нічога цікавага не прыпамінаецца.

Прыйшоў кантракт ад Garland Press[2]. Кантракт звычайны, але пару памылак трэба паправіць. Дата даецца да сьнежня — я, мусіць, і пакіну гэтак.

---

[1] *Уводзіць замоўленыя кнігі ў кампутар.*

[2] *Выдавецтва, дзе меўся выдавацца «Трыстан».*

**Чацьвер 2 красавіка**

Шмат каталагую[1]. Цэлыя дні занятыя.

---

[1] *Зора часта казала, што ў сярэднім яна каталягавала 20 кніжак за дзень.*

**Пятніца 3 красавіка**

Пятніца, як пятніца — заўсёды прыемна, што вікенд надыходзіць.

**Субота 4 красавіка**

Пагода сёньня ня зусім прыемная.

Зрабіла прычоску, пасьнедалі й цэлы дзень працавалі.

Прыемна, спакойна прайшоў дзень.

**Нядзеля 5 красавіка**

Пагода сёньня, ня гледзячы на прадсказаньні, выйшла добрая. Памыла бялізну.

Званіла Алеся. У яе ўсё добра. Шмат працуе, але задаволеная.

Працавалі добра й мы. В[*ітаўт*] выкончвае таксы[1].

---

[1] *Падаткавыя анкеты за 1986 год.*

**Панядзелак 6 красавіка**

Нічога цікавага. К[*асінца*] сягоньня няма.

В[*імаўт*] у Нью Ёрку.

Зьбіралася шмат для сябе рабіць, але неяк была занята цэлы дзень.

**Аўторак 7 красавіка**

Нічога асаблівага на працы.

Алеся прыслала першыя грошы $600 за доўг [*бабцы*].

**Серада 8 красавіка**

Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

Хадзіла ў абед купіць падарункаў і занесьці гадзіньнік направіць — нешта стаў. Нічога яны не маглі зрабіць — прыйдзецца купляць новы.

У хаце ўсё добра.

Вечарам працавала.

**Чацьвер 9 красавіка**

Нічога цікавага на рабоце. Хадзіла ў абед купіць тое-сёе. Гадзіньнік купіла. Здала брошку, каб паправілі.

В[*імаўт*] таксама ў Нью Ёрку. Спаткаўся з Этэл — забраў тое, што яна ўжо перадрукавала — заплаціў ёй па $2.00 за старонку[1].

Прыходзяць ужо заказы на кніжку Каханоўскай.

[redacted] цяпер шмат беларускага каталягую.

Вечарам ужо нічога не рабіла, глядзела T.V.

Званіла Bal[*larine*] — яна ўсе клапоціцца пра паездку.

---

[1] *Этэл, мая колішняя сакратарка, я зь ёй дамовіўся наконт перадруку рукапісу «Беларусаў у ЗША». Па 2 даляры за старонку — вельмі танна.*

**Пятніца 10 красавіка**

Сёньня 5 гадоў, як памерла мама.

**Нядзеля 12 красавіка**

Пасьнедалі й выехалі.

Раніцай яшчэ была праблема з уборнай — забілася. Так і пакінулі сваё г....

Ехалася добра. Пагода ня дрэнная. Прыехалі яшчэ ня позна.

Па дарозе ўжо, праўда, пачало хмурыцца.

Ball[*arine*] яшчэ трохі пасядзела, але пачало грымець, дык яна хутка паехала.

Адпачывалі.

**Панядзелак 13 красавіка**

Сёньня ў мяне жуткі настрой цэлы дзень. Вельмі цяжка было.

В[*імаўт*] ОК — стараецца мяне разьвеяць.

К[*асінец*] аддаў частку праверанага майго артыкулу.

**Аўторак 14 красавіка**

Прыехала рана — зайшла яшчэ ў магазын — купіла дробязі.

Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

Ага, званіў Том B[*ird*] — ён мае магчымасьць недзе ўставіць у даведнік беларускіх жанчынаў-пісьменьніцаў. Знайшла яму колькі і з Беласточчыны, і з эміграцыі, і зь Беларусі. Ня ведаю, ці што з гэтага выйдзе, але зрабіць трэба.

В[*ітаўт*] езьдзіў у Патэрсон — купіў бараніну, яйкаў, хрэну.

Зьбіраўся ў Саўт Рывэр, але ня выйшла.

**Серада 15 красавіка**

На рабоце нічога асаблівага. Шмат раблю беларускага.

Пазваніла ў Garland Pub[*lications*] запытацца, як рабіць зьмены на кантракце. Папраўіла й выслала.

Вечарам трохі папрацавала, але неяк не працуецца — стомлены чалавек пасьля дню працы.

**Чацьвер 16 красавіка**

Усё добра на рабоце. В[*ітаўт*] быў у Нью Ёрку.

У абед хадзіла шукала зацукраных фруктаў для бабкі Вялікоднай — нічога не знайшла.

Зэнан[1] прынёс калбасу.

Вечарам адпачывала. Прыгатавала бараніну.

Залеўскі прыслаў xerox артыкулу, што я папрасіла, — нічога там для мяне новага, на жаль, няма.

---

[1] *Куравецкі, калега-украінец.*

**Пятніца 17 красавіка**

Пазваніла рана Алеся — прыедзе недзе каля 7-ай.

Раніцай мне вельмі павязло з зацукраванымі фруктамі — купіла й ня дорага. Так што я ўжо ўсё маю. Толькі купіць дрожджы.

Вітаўт паехаў спатыкаць Алесю, а я пачала рыхтавацца. Замяшала булку. Зрабіла хрэн.

Хутка прыехалі й яны. Павячэралі, трохі пагаварылі. У Алесі ўсё добра. Яна добра выглядае.

Прыйшлі кветкі ад Алесі. Вельмі прыгожы букет, як заўсёды.

Алеся яшчэ паехала да Надзін.

**Субота 18 красавіка**

Раніцай зрабіла прычоску.

Купіла чакалядныя зайцы ў сваёй парыкмахершы. Алеся ўжо пра іх успамінала.

Дрожджы сьвежыя не знайшла. Прыйдзецца рабіць толькі з сухімі. Пасьнедалі й пачалі рыхтавацца. Замясіла бабку. Рабілі яечкі. Прыехалі Юра й Лорэйн. Кветкі. Юра сам рабіў сырную паску. Толькі як

упякліся булкі, мы з Алесяй і паехалі. Лорэйн канчала іх пакрываць глазурам.

У магазыне Алесі нічога не купілі. Я купіла сабе блюзачку шоўкавую й жакецік. Паехалі яшчэ да L. Levine[1], але там было закрыта. Заехалі ў Shoe Town[2]. Алеся купіла сабе туфлі. І ■ сабе адну пару сьветлых, на лета купіла.

Прыехалі яшчэ ня позна. Юра і Л[*орэйн*] яшчэ былі. Павячэралі вельмі прыемна. Алеся паехала да Надзін. Юра й Л. паехалі, а мы адпачывалі.

Яшчэ паставіла смажыць бараніну.

---

[1] *Магазын-фабрыка вопраткі.*

[2] *Магазын абутку.*

**Нядзеля 19 красавіка**

Ранічкай паставіла смажыць шынку.

Усё, здаецца, у парадку — усё гатова.

Ball[*arine*] прыйшла пасьля 11-ай. Накрылі стол і селі за разгаўленьне.

Усё было смачнае, усяго многа. Бабка мая, праўда, ня зусім удалася — цяжкая, не падрасла.

Яшчэ доўга ўсе сядзелі. Усім дала гасьцінца. Яйкі фарбаваныя ўсім вельмі падабаліся. Алеся вельмі задаволена з кошычка срэбнага.

Добра, спакойна прыемна прайшло сьвята.

**Панядзелак 20 красавіка**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

Я паехала на працу. Ня хочацца так у панядзелкі ісьці працаваць. Пасьля, сярод тыдня, ужо неяк расходзімся.

Выкончваем усё Вялікоднае.

**Аўторак 21 красавіка**

Прынесла К[*асінцу*] кавалак шынкі з хрэнам. Шынка яму ня надта спадабалася, але хрэн вельмі. Хрэн сёлета асабліва быў удалы.

Зноў мы сышлі са сваёй дыеты — шмат прыбавіла я. Але цяпер няма сэнсу садзіцца зноў на дыету — трэба ўсё прыкончыць перш.

**Серада 22 красавіка**

Нічога не прыпамінаю асаблівага.

**Чацьвер 23 красавіка**

Касінец даў мне артыкул пра славянскі аддзел UCLA[1]. Артыкул стары, але я адразу-ж напісала тому аўтару, каб папытацца ў яго аб Беларускай калекцыі.

Схадзіла да Ball[*arine*], каб праверыць, але яе ня было сёньня на працы.

---

[1] *Каліфарнійскі ўнівэрсытэт у Лос Анджэласе.*

**Пятніца 24 красавіка**

Сёньня палучка. На рабоце ОК. Цэлы дзень працавала над Annual report[1]. Прыладзілі новы «printer». Прыходзіў Том. Зрабіла для яго xerox з даведніка пра жанчынаў-пісьменьніцаў. Можа, што й выйдзе. Дамовіліся, што спаткаемся ў чацьвер 30-га, каб праверыць мой рэфэрат. У яго ўжо хутка скончыцца школа, дык В[*imаўт*] думае зь ім пагаварыць, каб на пару тыдняў яны заселі [redacted] праверылі «Беларусаў Амэрыкі». Надта-ж гэта зацягнулася. Добра было-б каб хутчэй пайшло ў друк.

Ball[*arine*] праверыла мне ліст.

---

[1] *Гадавая справаздача.*

**Субота 25 красавіка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі, ды паехалі ў магазын — [redacted] шукаю спадніцы да той жакеткі, што купілі з Алесяй у мінулую суботу. Спадніцы, праўда, не знайшла, але купіла сабе касьцюмчык (яны цяпер на распрадажы) і яшчэ адну спадніцу.

Заехалі таксама ў Патэрсон на рынак. Купілі мяса й зяляніны, Юру ягады.

Прыехалі, памыла бялізну й пачала працаваць. Добра працавалася — падагнала. Галоўнае цяжка пачаць, а як пачнеш, дык ідзе тады гладка. Працавала цэлы дзень. В[*imаўт*] таксама працуе над сваім[1] ды піша скрыпты [*для радыё*].

Пазваніў Юра — заўтра прыедзе раніцай.

---

[1] *Над кнігай «Беларусы ў ЗША».*

**Нядзеля 26 красавіка**

Раніцай пасьля сьняданьня памыла яшчэ бялізну. Юра прыехаў каля 11-ай. Сабраліся й паехалі.

Заехалі спачатку ў S[*outh*] River. Там хутка прыехаў сьвятар і пачалася служба. Трохі пастаялі й паехалі на нашыя могілкі. Там ужо служылі. Нейкі новы сьвятар — маліўся каля кожнай магілкі — дый доўга! Мы нават не дачакаліся, каб да нашай[1] падышоў.

Паехалі. Юра карыстаецца посьпехам.

Юра нас завёз у добры рэстаран-буфэт, пераважна рыбныя стравы. Добра правялі час.

Прыехалі дахаты недзе каля 4-ай і я пачала працаваць. Добра папрацавала да 8-ай гадзіны. Амаль скончыла.

Ага, на могільніку ў S. River гаварылі з Кавылём, растлумачылі яму, чаму затрымка[2].

---

[1] *Да магілкі Зорыных бацькоў.*
[2] *З выданьнем ягоных твораў.*

**Панядзелак 27 красавіка**

Сёньня зноў селі на дыету. Ад Вялікадня папусьціліся й абое прыбавілі пару фунтаў.

Пагода прыгожая. Адзела новы касьцюм.

На рабоце ўсё ОК.

Працавала над Annual report зноў. К[*асінец*] хоча яшчэ дапаўненьня.

Напісала ліст Blakeslee — дадзеныя пра сябе[1]. Дамовілася з Ball[*arine*], што прыедзем да яе сёньня вечарам правяраць.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку.

Павячэралі й паехалі да Ball. Добра папрацавалі. Яна кажа, што добра напісана, але мне гэта трохі страшнавата, бо калі ёй падабаецца, то гэта можа быць запрымітыўна для маёй публікі. Але яшчэ-ж Том пераглядзіць.

Добрая навіна! Адамовіч узяўся за [*рэдагаваньне*] Кавыля. В. ужо частку пашле [*для набору*] Прускаму нават. Цудоўна!

---

[1] *Для праграмы канфэрэнцыі.*

**Аўторак 28 красавіка**

Дзень быў нармальны. Працавала трохі над Annual report. Трохі для сябе. Напісала й адправіла ліст у Каліфорнію.

Прыйшоў нейкі чэк з іншурансу на $17. Мусіць, нешта зьвярнулі за акуляры. Пачала перадрукоўваць Трыст. рэфэрат для Каламазу[1].

---

[1] *Даклад аб «Трыстане» для мэдыевісцкай канфэрэнцыі ў Каламазу.*

**Серада 29 красавіка**

На рабоце нічога асаблівага.

В[*ітаўт*] сёньня ў Нью Ёрку. Заходзіў у бібліятэку на хвілінку разьлічыцца з Этэл[1].

Я ў абед выканчвала Трыстана.

Вечарам друкавала. В. неяк дрэнна чуецца — прастуда: галава, горла.

Прыйшоў чэк за фарму за красавік. Таксама прыйшоў чэк з радыё. Грошы ў нас цяпер прыходзяць добра. Фінансава чуемся зусім свабодна.

---

[1] *За перадрук рукапісу «Беларусаў у ЗША».*

**Чацьвер 30 красавіка**

Сёньня В[*ітаўт*] паедзе зноў у N.Y. Будуць з Шук[*елойцем*] выкончваць газэту. Добра, што цяпер В. можа гэтым заняцца.

Дзень быў трохі суетлівы. Мела гутарку з К[*асінцом*] — ён, выглядае, незадаволены, што я шмат часу аддаю каталягізацыі.

К. пайшоў раней. Настрой у мяне неяк сапсуўся.

Том прыйшоў позна. Мы пачалі працаваць, аж хутка ўжо й зазванілі канец дня[1].

Перабраліся ў рэстаран. Спаткаліся зь Вітаўтам. Добра правялі час — праверылі, пагаварылі. В. дамовіўся зь ім спатыкацца на якісь тыдзень-два, пасьля як скончыцца сэмэстар у Тома.

Прыйшлі дахаты ўжо даволі позна.

Адпачывала.

---

*[1] У бібліятэцы ў 17.45 звоняць званкі, абвяшчаючы, што бібліятэка зачыняецца праз 15 хвілін.*

**Пятніца 1 траўня**

Сёньня К[*асінца*] няма. Дзень, праўда, ня быў надта спакойны. Я яшчэ ўсё трохі думаю пра тое, што мы зь ім узьнялі. Усё вагаюся, ці мне зноў распачынаць гэтую гутарку.

Прынесла бэзу на працу. В[*ітаўт*] зраньня яшчэ працаваў з Шук[*елойцем*] у друкарні, а па абедзе прыйшоў у бібліятэку. Схадзілі на каву. Далучыліся да нас Bal. і Mintz[1].

Вечарам схадзілі зь В. зноў у наш рэстаран і пасьля разышліся: В. пайшоў на дэманстрацыю, якую ўкраінцы арганізавалі — і нас запрасілі — супраць Чарнобыльскай катастрофы, — а я пайшла дахаты.

В. прыехаў ня так ужо й позна. Званіў Акула [*з Канады*].

Адпачывалі. В. здорава прастуджаны.

---

*[1] Балерыні і Лу Мінц — нашыя найбліжэйшыя сябры-калегі ў бібліятэцы.*

**Субота 2 траўня**

Схадзіла, зрабіла прычоску, здала [*адзежу*] ў чыстку. Чаравікі [*ў рамонт*] не здала — шавец яшчэ закрыты быў.

Пасьнедалі. Пагода благая, дык я ўжо бялізну ня мыла. Пад'ехалі яшчэ здалі чаравікі. В[*ітаўт*] набраў мне кветак.

Працавала. Упарадкавала, што было магчыма, дадала новага матар'ялу трохі — здаецца, будзе нядрэнны рэфэрат.

В. амаль цэлы дзень адпачываў. У яго прастуда ўсё яшчэ не праходзіць.

Забралі чаравікі. Павячэралі трохі. Я яшчэ папрацавала.

Вечарам адпачывалі. Званіла Ball[*arine*] — трэба будзе ёй пазваніць, дамовіцца пра аэрадром — яна нас прапанавала падвезьці.

**Нядзеля 3 траўня**

Пасьнедалі. Пагода зноў ня дужа прыемная, але я трохі памыла, што для дарогі трэба будзе.

Пазваніла Ball[*arine*] — дамовіліся на 9-ю гадзіну.

Я трохі парадкавалася, а як В[*ітаўт*] паехаў — працавала. В. паехаў на зборку БАЗА. Меўся зь ім і Юра ехаць, але не адазваўся — мусіць, заняты.

Званіла Алюньця — прыехаў нейкі мастак зь Беласточчыны, й яна хоча яму зрабіць нейкае афіцыйнае прыймо — ад Інстытуту.

Званіў Юра — ён быў вельмі заняты на працы.

Званіла Turok — яна амаль скончыла перагляд Трыстана. Вось ўсё добра складаецца. Запакавала Юрку Ст[*анкевічу*] матар'ял.

Пазваніў Том позна. Прайшлі зь ім яшчэ праз некаторыя пасажы [*Трыстана*], што ■ дадала.

**Панядзелак 4 траўня**

Пагаварыла з Касінцом. Вырашылі, што я буду менш занімацца каталягізацыяй. Гутарка была даволі шчырая.

Ён пачынае мяне нагружаць усялякай адміністрацыйнай дрэньню[1].

---

[1] *Што зусім зразумела. Асноўны абавязак заступніка шэфа — адміністрацыя аддзелу: кадры, зарплата, дагляд за працай, разьмеркаваньне працы.*

**Аўторак 5 траўня**

Нічога асаблівага не прыпамінаю. Рыхтуюся да рэфэрату.

**Серада 6 траўня**

Прыходзіла Алюньця з мастаком з Беласточчыны — Лёня Тарасэвіч. Уражаньне ня дрэннае, але надта-ж ён мудры й разьвязны. Але гэта было-б поў-бяды, каб ён быў цалкам з намі — выглядае так, што ягоныя сувязі з палякамі цясьнейшыя.

**Чацьвер 7 траўня**

Раніцай Ball[*arine*] завезла нас на аэрапорт. Добра пасьпелі, усё залагодзілі. Самалёт быў у час. Пагода добрая.

У Дэтройце ўзялі машыну й паехалі пад Каламазу. Усё было проста й спраўна. Па дарозе заехалі выпіць кавы — натрапілі на вельмі прыемны пончыкавы рэстаранчык. Усё тут цьвіце — вельмі шмат бэзу. Была надзвычайна прыемная паездка.

Каля Каламазу, фактычна, каля ўнівэрсытэту, трохі паблудзілі, але нарэшце дабраліся, залагодзілі з рэгістрацыяй. Пакой наш вельмі скромны, але лепшы, чымся я мела ў мінулым годзе.

Павячэралі й я пайшла трохі пачытаць свой рэфэрат, а Вітаўт трохі пахадзіў па campus[1], па выстаўках.

Няма чаго рабіць тут надта. Хутка пайшлі й спаць. Пазванілі дахаты — там усё добра.

---

[1] *Унівэрсытэцкі гарадок.*

**Пятніца 8 траўня**

Спалася неяк дрэнна. Зь вечара трохі задрамала, але пазьней прачнулася ды амаль цэлую ноч не магла заснуць — было шумна, ды мусіць трохі й хвалявалася.

Пасьнедалі й пайшлі на пленарную сэсію, але мне не сядзелася — пайшла яшчэ трохі ў пакой — пачытаць.

Чытань прайшла даволі добра. Былі й пытаньні й зацікаўленьне. Адна асоба папрасіла прыслаць ёй мой тэкст.

Пасьля абеду пабылі яшчэ на пару сэсіях, некаторыя даклады нічога цікавага, а некаторыя добрыя. Каля 5-ай выехалі з «campus». Матэль вельмі прыемны — спакойна, чыста, выгодна (Knight's Inn). В[*imaўm*] пайшоў нешта купіць. Павячэралі й адпачывалі. Глядзелі T.V. Пасьля спартанскага вечара ўчора, добра было трохі распружыцца. Пагода надзвычайная. Пазванілі дахаты.

**Субота 9 траўня**

Раніцай, добра выспаўшыся, пасьнедалі, сабраліся й паехалі пад Дэтройт. Ехалася добра, але ўжо нейкае адчуваньне, што канчаецца адпачынак — едзецца дахаты.

Заехалі па дарозе ў East Lansing у ўнівэрсытэт. Там неблагая беларуская калекцыя.

У Дэтройце заехалі ў Пуб. бібліятэку — там нічога амаль няма: пару стандартных (Vakar, Любачка, Loftus), пераблытаныя Быкаў, Колас — пастаўленыя ў Рускую й Украінскую калекцыі (праўда, гэта пераклады).

Зайшлі яшчэ ў Wayne University — гэта толькі праз дарогу ад Пуб. бібл. Там трохі лепшая бел. калекцыя, але ўсё-ж не такая добрая, як у E[*ast*] Lansing.

Трохі стаміліся, дык ужо былі радыя пайсьці ў матэль і адпачываць. Матэль ОК, хоць В[*imaўm*] трохі капрысіў, але як адпачыў і схадзілі паелі (кітайскі рэст. і пазьней яшчэ марожанае), дык было вельмі прыемна. Пагода цудоўная.

**Нядзеля 10 траўня**

Рана прачнулася, але пасьля яшчэ трохі заснула. Пачалі кратацца ўжо па 8-ай. Пасьнедалі на месцы і патроху паехалі на аэрадром. Добра дабраліся, здалі машыну і яшчэ мелі каля гадзіны часу. Я купіла там нейкіх дробных падарункаў. На аэрадроме спаткалі Федарэнка («Братушкі»)[1]. Пагаварылі трохі зь ім — ён ехаў з канф. украінскіх настаўнікаў.

Спаткалі нас Юра й Лорэйн. Юра стомлены.

Прыехалі дахаты, зазванілі Ball[*arine*] і паехалі на вячэру.

Настрой нейкі быў напружаны. Усе трохі стомленыя. Горача. Пасьля вячэры Ball. паехала дахаты, а Юра й Л. яшчэ трохі пабылі. Як ужо ўсе разьехаліся, то мы трохі супакоіліся. Я памыла трохі бялізны й адпачывала. В[*imaўm*] пісаў скрыпты.

Званіла Алеся, у яе ўсё добра. Дутка прынёс быў, як нас ня было, кніжкі. Шмат добрага.

Званіў Белямук аб лісьце ад Белага[2].

---

[1] *Жэнька Федарэнка — наш сябра зь Лювэну. Нейкі час у Лювэне быў старшынём*

*згуртаваньня ўкраінскіх студэнтаў. Часта заходзіў у Беларускі дом, як ён казаў, да «братушкаў», пагуляць у покера. Паходзіў з Палтаўшчыны. Цяпер недзе выкладае ва Ўкраіне. У ЗША быў старшынём Таварыства імя Шаўчэнкі.*

[2] *Анатоль Белы зь Беларусі.*

**Панядзелак 11 траўня**

На работу пасьля даўгога weekend'у ня хочацца. В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку. Парадкавала ўсё залеглае. Нічога асаблівага.

Прынесла кветкі — ландышы Румяне, Рыце й Ball[*arine*], але яна аддала свае для аддзелу. Касінец захацеў таксама.

У абед схадзіла ў магазын.

Вечарам ужо нічога не рабіла — адпачывала.

Пазваніў нажны доктар — адклаў візыту на наступны чацьвер. Ногі ўжо даюць сябе адчуваць.

**Аўторак 12 траўня**

Сёньня працую вечарам.

Рана зрабіла прычоску. Зьезьдзілі ў Passaic — купіла для М. В. місачку, што яна ўжо даўно прасіла. Для сябе ўжо нікуды не паехала — не хацелася сьпяшацца.

Прыехалі на машыне. Запаркавалі каля 10-ай Ave. і йшлі пехатой. Стамілася — горача. Тое-сёе яшчэ па дарозе купілі.

На рабоце OK. Але пасьля той гутаркі з К[*асінцом*], ён нагружае мяне ўсялякай адміністрацыйнай працай, дык мала каталягую.

В[*ітаўт*] працуе ў бібліятэцы.

Званіў Зап[*руднік*] — заўтра прыедзе Юрка[1], дык думаюць схадзіць усе разам на абед. Галіна таксама тут.

Надта неяк стамілася сёньня. Даехалі дахаты добра, але дома была не зусім задавальняючая пошта: В. з N[*ew*] J[*ersey*] з таксамі[2], а мне ад Turok. Я трохі расчаравалася ў яе папраўках. Быў ліст і ад Юркі. Ён гатовы.

---

[1] *Сянькоўскі, дырэктар беларускай службы Радыё Свабода.*

[2] *Падаткамі.*

**Серада 13 траўня**

157 ½

На рабоце ўсё OK.

В[*ітаўт*] прыехаў у Нью Ёрк. Зайшоў да мяне й мы паехалі ў радыё. Абед з Мюнхэнскімі: Зап[*руднік*], Адам, Адамовіч, Яня, мы, ну й Галіна [*Руднік*] й Сінькоўскі Юрка. Вельмі прыемны быў абед. Пагаварылі. Адам неяк дрэнна чуўся — ідзе да доктара на агляд. Галіна не зьмянілася. Юрка вельмі спакойны, флегматычны. Адамовіч зусім ужо старэнькі.

Атрымалі чэк ад квартэрантаў. Дома разглядала карэкту. Пазваніла Турок. Дамовіліся, што калі яшчэ будуць патрэбныя зьмены, яна перагледзіць. Прыгатавала ёй чэк.

Ага, дамовілася зь Юркам Сіньк., што ён прыедзе на спатканьне з моладзьдзю.

Пазванілі Галіне Русак, каб у іх рабіць, але яны ня могуць.

Зв. Ball[*arine*] — дамовіліся зь ёй на суботу ехаць на пакупкі.

**Чацьвер 14 траўня**

На рабоце ОК. Шмат працы адміністрацыйнай.

В[*ітаўт*] быў паехаў у New York, каб пабачыцца з Тумашам, але яго ня было дома — забыўся, што сёньня чацьвер, што дамовіўся зь В. спаткацца.

Папрасіла Souček перакласьці Юркаў (Станкевічаў) тэкст на чэскую мову.

Касінец пайшоў рана — ён на колькі дзён выязджае.

Вечарам пераглядала пераклад.

Пазваніў Вячка [*Станкевіч*] — ён вельмі хацеў-бы зрабіць спатканьне зь Юркам — можа нават у іх.

Званіў Акула, пачаў нешта наракаць. В. яму вельмі рэзка адказаў, дык супакоіўся адразу-ж.

**Пятніца 15 траўня**

Касінца няма. Цэлы дзень неяк усё капашылася, сама ня ведаю з чым — нічога надта важнага не зрабіла. Скончыла перакладаць Томаў артыкул пра Галіну Русак. Зазваніла яму, каб узгодніць зь ім, — ён задаволены з перакладу.

В. прыйшоў у бібліятэку каля 5-ай, пераглядзеў яшчэ пару кніжак. Як толькі зачыніліся, дык адразу-ж і паехалі пад выстаўку[1]. Даехалі падземкай да тога мейсца, што нам парадзілі, а адтуль ішлі нейкіх блёкаў з 15 пехатой. Стамілася — чуць на нагах стаяла. Выстаўка ОК. Пагаварылі трохі з мастаком. Ён, відавочна, беларускім цікавіцца. Было трохі й беларусаў — Раіса, Вячка з жонкай. Мы даўно там ня былі. Схадзілі зь імі на вячэру — вельмі прыемна правялі час, ды паехалі — яны нас падкінулі дахаты. Прыемнае ўражаньне пакінула гэтая частка гораду — усё там жыве — не адчуваецца страху.

---

[1] *Выстаўка Лёніка Тарасэвіча.*

**Субота 16 траўня**

Памыла бялізну. Схадзіла зрабіла прычоску. Чакалі на сьнеданьне Ball[*arine*] — яна спазьнілася. Пасьнедалі й паехалі па пакупкі. Матар'ялу для яе падыходзячага не знайшлі. Я сабе купіла нейкі кавалак на спадніцу на лета. Заехалі ў L. Levine. Я зноў сабе купіла два касьцюмы, а Ball. спадніцу.

Заехалі яшчэ ў Royal Silk. Я купіла сабе блюзачку. У другім магазыне матар'ялаў яна гэтаксама нічога не знайшла.

Прыехалі дахаты ўжо каля 4-ай. В[*ітаўт*] ужо быў паехаў у Нью Ёрк — на другую выстаўку Тарасэвіча. Я пачала працаваць.

В. прыехаў дахаты ня позна. Казаў, што было добра — было яшчэ больш беларусаў.

Павячэралі і яшчэ папрацавалі. Я пераглядаю пераклад, а Вітаўт піша пра Тарасэвіча [*рэпартаж у «Беларуса»*].

Званіла Ball.

Пазванілі Юру — ён стомлены, быў на дыжуры.

**Нядзеля 17 траўня**

Нядзеля прайшла вельмі спакойна. Раніцай пасьнедалі. Я яшчэ памыла бялізну — сабралася было шмат — і селі працаваць. Я правярала Трыстана — добра яна паправіла. Праўда, у пару мейсцах былі недакладнасьці.

Каб трохі перарваць, я зрабіла катлетак — павячэралі.

Прыходзіў Дутка. В[*ітаўт*] зь ім гаварыў, а ■ прадаўжала працаваць.

Пазваніла Ball[*arine*] — яна піша ліст Малік пра новую пазыцыю шэфа ў навуковым аддзеле.

Пазьней я пазваніла Турок — узгоднілі пару пытаньняў па тэлефоне, а рэшту я мушу паслаць ёй старонкі.

Трохі паглядзелі TV, ды яшчэ трэба было перарабіць Томаў артыкул пра Галініну выстаўку. В. працуе над сваімі скрыптамі і артыкуламі для газэты.

Ага, раніцай званілі да Зап[*руднікаў*] — пагаварылі з Оляй. Яна даволі добра чуецца.

**Панядзелак 18 траўня**

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. На рабоце ўсё добра, спакойна.

У абед зьвярала тэкст з манускрыптам, што да параграфаў.

Ішоў дождж вечарам, дык трохі прамокла йдучы да аўтобуса.

Прыйшоў ліст ад Blakeslee з падзякай за рэфэрат.

Вечарам праглядала рэдагаваны тэкст. Пазваніла Юрку [*Станкевічу*] — ён зажадаў мець хоць палову. Заўтра пашлю.

Званіў Васіль Мельяновіч — ён прыедзе да Вячкі [*Станкевіча*] на спатканьне зь Ю. Сінькоўскім.

Ноччу ня спалася — думалася пра Трыстана. Добра, што прыпомніла, што трэба яшчэ пагаварыць з Production manager з Garland Press перад тым, як высылаць Юрку матар'ял.

**Аўторак 19 траўня**

На рабоце ўсё добра.

Пазваніла ў Garland Press — дамовілася на заўтра на 2-ую гадз. Званіў Юрка, думаў, што я званіла, бо яшчэ message на машыне быў ад учора.

У абед працавала для сябе. Вечарам мелі няпрыемную вестку, што наш паж, William, меў нешчасьлівы выпадак і цяпер у шпіталі. Наташа сёньня будзе адна вечарам.

Званіла Fizer — ён сказаў, што ўсё добра[1].

Званіў Дзядзя Ваня — Антаніна зноў мела атаку сэрца — завезьлі яе ў шпіталь. Ён сам быў у шпіталі пару дзён. Перапісаў ужо дом на сябе. Нешта ў яго там няладна робіцца, ці-то яму хто раіць, ці-то ён сам разгубіўся й ня ведае, што рабіць.

Вечарам працавала, сабрала матар'ял для заўтрашняга спатканьня з Garland.

Званіў Юрка Сінькоўскі. Яны заедуць да нас перш, а тады мы ўжо паедзем да Вячкі [*Станкевіча*].

---

[1] *З «Трыстанам».*

**Серада 20 траўня**

Прыехаў Касінец. На рабоце ўсё добра. Ідзе дождж.

У абед схадзіла ў Garland — там усё добра прайшло — адобрылі і арганізацыю матар'ялу й шрыфты.

Назад ідучы, купіла арэшкаў занесьці Joanne[1], як пойдзем у пятніцу да іх.

К[*асінец*] меў гутарку з Doares[2]. Прыйшоў, як падсмалены, — сказаў мне напісаць нешта аб нашай калекцыі бібліятэкі й кнігаведа. Я нешта напісала, але ён адкінуў. [redacted] яшчэ дадала — усё яшчэ ня тое, што ён хоча. [redacted] аж раззлавалася — ён нешта мае ў сваёй галаве, а я маю пісаць. Адкінула — праз пару дзён напішу.

Вечарам працавала над перакладам.

---

[1] *Жонка Вячкі Станкевіча.*
[2] *Бібліятэчная начальніца.*

**Чацьвер 21 траўня**

Сёньня пачала прыбіраць свае паліцы — у аўторак будуць фарбаваць сьценку ў маім катушку. Шмат чаго выкінула, шмат чаго ўпарадкавала. У абед схадзіла купіла для Connie[1] падарунак — сумку.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. У яго сёньня таксама заняты дзень. Мусіў пасьпець да 3-яй — каб завезьці маці да доктара.

Я з аўтобуса пайшла да свайго нажнога доктара. Там доўга чакала — а В. мяне чакаў. Паехалі ў Sterns — купілі столікі. Там таксама вазіліся. Прыехалі дахаты ўжо пасьля 9-ай. Заехалі яшчэ купілі бульбачкі. Павячэралі і ўжо адпачывалі.

Запакавала падарунак.

---

[1] *Цётка Кацярыны Балерыні з Кэйп Код.*

**Пятніца 22 траўня**

Адзела новы касьцюм. Сёньня ўзяла з сабой падарунак — Ball[*arine*] возьме, каб перадаць Connie. Раніцай яшчэ купіла паперу, каб абгарнуць.

Канчала прыбіраць сваю паліцу.

У абед яшчэ схадзілі з Ball. на 42-ю вуліцу — купіла сабе шпілічку да касьцюму.

Паехала трохі раней. В[*ітаўта*] яшчэ ня было. Пазваніла. Ён прыехаў з Юркавым[1] сынам. Яны прыехалі раней і трохі перакусілі ў нас.

Сабраліся й паехалі.

У Вячкі [*Станкевіча*] ужо было сабралася трохі людзей. Моладзі ня было — усе недзе паразьбягаліся на даўгі weekend. Было вельмі прыемна, але шкада, што мала людзей. Арэшкі прыйшліся якраз вельмі добра.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна.

---

[1] *Юркі Сянькоўскага.*

**Субота 23 траўня**

Сёньня схадзіла рабіць завіўку. Неяк няўдала яна зрабіла гэтым разам. Мусіць, падстрыгла дрэнна.

Пасьнедалі. Цэлы дзень працавалі добра. В[*ітаўт*] завёз пачку для Юркі [*Станкевіча*] на пошту[1]. Ужо першая частка пойдзе ў друк.

---

[1] *Набор «Трыстана».*

**Нядзеля 24 траўня**

Добра працавалі. Вельмі прыемна, калі ведаеш, што яшчэ адзін дзень вольны наперадзе.

Прыехаў Юра. Мы зьезьдзілі зь ім на гамбургэрз і марожанае. Прыемна правялі вечар.

**Панядзелак 25 траўня**

Сёньня дома. Працавалі, адпачывалі. Добра прайшоў дзень. Скончыла ўсё правяраць. Даволі шмат трэба будзе адаслаць Турок.

Пазваніла Ball[*arine*]. Яны ўжо прыехалі. Гадзіньнік і лямпу ня прывезла — я так і думала, што Connie не перадасьць зь ёй, яна хоча, каб мы самі прыехалі.

**Аўторак 26 траўня**

Пазванілі з Кліўленду, што памёр Каханоўскі. В[*ітаўт*] паедзе на паховіны — толькі яшчэ ня ведае як і калі.

Зрабіла xerox тых старонкаў, што трэба адаслаць Турок.

Атрымала ад яе праверанныя першыя старонкі.

**Серада 27 траўня**

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Ня змог мне зрабіць xerox Трыстана — была папсутая іхная машына.

Паслала Юрку [*Станкевічу*] нова-праверанныя старонкі ад Турок — яны ўжо недзе пад канец прыходзяцца — дык яшчэ будзе ў час.

**Чацьвер 28 траўня**

В[*imaўт*] завёз мяне на аўтобус і сам ужо выязджае ў Кліўленд.

На рабоце ўсё сёньня дагары нагамі. Ноччу было заліло кнігі ў нашым пакоі. Ужо з ночы пачалі працаваць з restauration. Мая загарадачка ўсё яшчэ фарбуецца.

А 11-ай прыехала жанчына з sovset[1] — дэманстраваць. Я, добра, не была ў гэтым надта замешаная. чуюся дрэннавата — голас зусім ужо згубіла.

У абед схадзіла глядзець В. нешта купіць — нічога не знайшла.

Па абедзе прыйшла дэлегацыя з Columbia Univ. Мелі даволі добрую сэсію[2]. Ніяк не магла зьвязацца перш з Ball[*arine*], каб спаткаць неяк Алесю, а тады з самой Алесяй. Нарэшце ўсё залагодзілася. А. прыедзе ў N.Y., будзе мець вячэру з Рычардам, ■ тады прыедзе ў Ruth[*erford*] сама.

Усё хваляваньне. Алеся прыехала taxi. Зазваніла В. — ён добра даехаў — цяпер у Белямука.

---

[1] *Дакумэнты савецкіх установаў на кампутары.*
[2] *Канфэрэнцыю аб каталягаваньні матэрыялаў з СССР.*

**Пятніца 29 траўня**

Сёньня дзянёк! Зраньня ўжо горача, а мы без машыны. Прыйшлі на астаноўку з Алесяй, а там была Lucy[1]. Добра, што А. яе пабачыла. Аўтобус прыйшоў не задоўга й усё йшло добра, хоць і горача ўжо было, да самага пад'езду пад тунэль. А там стаялі й стаялі. Алеся хвалюецца. Я хвалююся. Яна спазьнілася, а я амаль да 10-ай дабралася. Па дарозе яшчэ, праўда, зайшла ў магазын і купіла В[*imaўту*] радыё. Гэта было проста інспірацыйна.

У абед схадзіла да Камкіна — купіла касэту для Віт[*аўта*]. Горача, стамілася. Да Галіны ўжо напэўна не паедзем.

Па абедзе Кас[*інец*] паехаў. Ужо пад канец дня неяк паспакайнела. Алеся прыйшла да мяне зарана. Схадзіла яшчэ ў магазын. Купіла Віт. куртку. Так што мы з падарункамі ў парадку.

Да аўтобуса амаль дайшлі — абедзьве ўжо стаміліся, ногі баляць, горача. А там чарга. Чакалі добрую поў-гадзіну. Зайшлі ў магазын купілі нешта паесьці. Уставілі халадзільнік[2] і трохі адышлі.

В. прыехаў каля 10-ай. Стомлены.

---

[1] *Алесіна сяброўка.*
[2] *Кандыцыянэр.*

**Субота 30 траўня**

Вітаўтаў дзень народзінаў.

Зраньня зрабіла прычоску. Горача з самога раньня. Чуюся дрэннавата. Прыгатавалі ўсё да сьнеданьня й чакалі Юру. Зьезьдзілі з Алесяй па торцік.

Юра прыехаў з Лорэйн недзе ўжо пасьля 11-ай. Пасьнедалі. В[*i-таўт*] задаволены сваімі падарункамі.

Пазваніла Ball[*arine*], прывітала В., але мы яе не запрашалі. Пасьля сьнеданьня паехалі з Алесяй і Lorrain у магазыны. Купілі тое-сёе ў L. Levine. Матар'ял Алеся не знайшла. У Lohmans таксама купілі тое-сёе. Адным словам накупляліся — усе нешта мелі. Купілі й круцёлку[1]. Я рана пачала шукаць нашыя старыя й знайшла толькі дзьве. Мне ўсё яшчэ здаецца, што мае быць недзе трэйцяя, але не знайшла.

Прыехалі дахаты, а яны ўжо на нас сварацца, што доўга былі. Прыгатавалі прыемную вячэру. Ю[*ра*] й Лорэйн хутка паехалі, а мы ўжо адпачывалі. Я чуюся дрэнна.

---

[1] *Вэнтылятар.*

**Нядзеля 31 траўня**

Горача!!!

Зраньня пасьнедалі.

В[*imaўт*] хутка й паехаў у N.Y. У Мерляковай царкве сёньня адзначаецца 1000-годзьдзе Хрысьціянства. Мае рэфэрат Том. В. хоча зь ім пагаварыць. Мы засталіся зноў без машыны.

Я памыла бялізну. Трохі спарадкаваліся й сядзелі з Алесяй у T.V. room — так трохі халадней.

Пазваніла Надзін і забрала Алесю. Алеся спакавалася й мы, як прыедзе В., маем яе падабраць у Надзін і завезьці на аэрадром.

В. прыехаў позна. Надзін ужо Алесю прывезла сама. Але было якраз у час. Завезьлі А. і... у нас не завялася машына каля аэрадрому. Падпіхнулі да газалінавай станцыі. Усё залагодзілі. Але паблудзілі трохі едучы дахаты, бо хацелі больш праехаць, каб заладавалася.

Вечарам была прыкрая гутарка з чэкамі — выйшла памылка з вылічэньнем і выглядае так, што ў нас няма пакрыцьця на якіх $100.

**Панядзелак 1 чэрвеня**

Чуюся ўсё яшчэ слабавата, але пайшла на працу, бо сёньня шмат каго няма.

В[*imaўт*] таксама ў Нью Ёрку. У абед працавала для сябе. Пагаварыла з К[*асінцом*], каб узяць сераду вольную.

Пад канец дня прыйшоў В. у бібліятэку.

Пасьля працы паехалі пад укр. рэстаран, дзе маем спаткацца з Лёнікам. Яшчэ было трохі рана — пачакалі.

Вечар прайшоў добра, толькі я была вельмі ўжо стомленая. Доўга сядзелі, гаварылі — найбольш гаварыў сам госьць. Надта-ж ён гаваркі. Я думаю, што ён шмат бы выйграў, каб менш гаварыў, а больш слухаў. Далі яму яшчэ грошай.

Добра, што Вячка [*Станкевіч*] падвёз нас дахаты.

Быў ліст ад Юркі Ст[*анкевіча*]. Ён пачаў набіраць і мае колькі пытаньняў.

**Аўторак 2 чэрвеня**

Сёньня ўжо трохі лягчэй у прыродзе. Я яшчэ ўсё чуюся прастудна. Парадкавалася на рабоце, бо заўтра рашыла ўзяць [*вольны*] дзень.

У абед рабіла для сябе. Нічога асаблівага больш не прыпамінаецца.

Вечарам пазваніла Юрку. Ён ужо шмат набраў. Кажа, што цікава.

Чулася ўжо больш бадзёра, бо заўтра не пайду на працу.

**Серада 3 чэрвеня**

Сёньня ўжо зусім прахладна. Зраньня вырашылі заехаць у Hackensack заладзіць з пашпартамі. Вельмі спраўна й памысна ўсё залагодзілі.

А гадзіне 10-ай ужо ехалі на ягады. Там было вельмі прыемна. Прыпомніліся старыя часы. Пагода якраз добрая для зьбіраньня. Ягады чыстыя, вялікія.

Заехалі да Дзядзі Вані. У яго ўсё больш-менш у парадку. Антаніна слаба маецца, але яго нібы пазнае.

Ён даў мне срэбныя чарачкі, якія Антаніна для мяне назначыла.

Завяшчаньне ён зрабіў на гэтых людзей, што яму цяпер памагаюць. З аднаго боку, нам гэта й добра, бо ня будзе клопатаў.

Назад ехалася добра. Дома былі ўжо каля 6-ай. Павячэралі й адпачывалі.

**Чацьвер 4 чэрвеня**

Сёньня рашыла застацца дома. Пагода дажджлівая, халодная. Зраньня трохі прыбірала ў хаце — стамілася.

Адпачывала. В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Мае адзін скрыпт і тады робяць з Шук[*елойцем*] газэту. Затрымаўся. Прыехаў дахаты ўжо па 7-ай.

Прыйшла пачка ад Турок і таксама зь New York State Taxes[1]. Я затрымала гэты апошні аж пакуль В. не аддыхнуў трохі. У яго заўсёды псуецца настрой ад усіх гэтых фармальнасьцяў.

Я працавала над сваім. Думаю, ужо скончу ў пятніцу і ў weekend вазьмуся за ўступ.

---

[1] *Ньюёркскае падаткавае ведамства.*

**Пятніца 5 чэрвеня**

На працы ўсё ОК. Памяняла чэк.

В[*ітаўт*] зноў у Нью Ёрку — канчаюць газэту[1].

Скончыла ў абед зьвяраць Т[*рыстана*] з арыгіналам.

Вечарам скончыла правяраць, што прыслала Турок.

---

[1] *Чарговы нумар «Беларуса».*

**Субота 6 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі, памыла бялізну і ўжо сабралася

сесьці працаваць, як прыехаў Юра. Трохі зь ім пасядзелі — ён перакусіў, ■ тады паехалі ў магазын — я хацела купіць сабе сёе-тое. Нічога надта ня купіла.

Юра памог Вітаўту прачысьціць вадасточныя трубы. Я пасадзіла вазоны — усё каб нечым заняцца, пакуль няма як садзіцца працаваць. Пагода добрая, дык я рашыла пасядзець на двары — добра, было што рабіць, што не патрабуе стала.

В. завёз Юру дахаты, бо ён пакідае сваю машыну дома, каб у панядзелак завезьці да гаражыста.

Дзень прайшоў спакойна.

**Нядзеля 7 чэрвеня**

Пасьнедалі й працавала. Сёньня ўжо пагода пагоршала.

Нічога надта цікавага не прыпамінаецца.

Запакавала астатні матар'ял для Юркі Станкевіча — цяпер ужо толькі пісаць уступ.

**Панядзелак 8 чэрвеня**

На работу так ня хочацца йсьці. У панядзелкі заўсёды так. гэта добра, бо я патрохі буду звыкацца з думкай, што хутка ўжо й на пэнсію.

Нічога асаблівага на рабоце. В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку.

Вечарам неяк позна аўтобус прыйшоў, а В. мяне ўжо чакаў, каб завезьці Юру машыну. Паехалі адразу-ж. Юра нас чакаў, але, бедны, зусім сонны. Працаваў ад нядзелі рана аж да панядзелка вечара.

Ужо вечарам не працавала — глядзела газэту. Газэта ня дрэнная, але зноў, шмат даўгіх артыкулаў.

**Аўторак 9 чэрвеня**

Сёньня К[*асінец*] пайшоў раней.

Па абедзе зайшла да Ball[*arine*], яна мне праверыла ліст. Дамовіліся спаткацца на 3-юю гадз. на каву. Пасядзелі на двары — было даволі прыемна, але трохі шумна ад 5-ай авэню.

Ball. нейкая разгубленая. Нейкая яна ня цікавая робіцца. Усё вагаецца, ці выходзіць ёй на пэнсію. Праўда, мне яна гэтага не гаварыла, але Вітаўту сказала.

Вечарам трохі працавала.

**Серада 10 чэрвеня**

Нічога неяк не прыпамінаецца.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку.

В. зазваніў Ball[*arine*], каб дамовіцца на заўтра вечарам да яе. Ён мае нешта правяраць.

**Чацьвер 11 чэрвеня**

Зраньня мела час, дык зайшла ў клініку да дэнтыста. Баліць мне дзясна ўжо колькі дзён. Вельмі добра ўсё залагодзіла. Нават і пігулкі ў аптэцы ўзяла. Адразу-ж прыняла.

На рабоце ўсё ОК. К[*асінец*] пайшоў раней.

Пазваніла В[*ітаўту*], што прыеду дахаты раней.

Павячэралі й паехалі да Ball[*arine*] — гэтым разам правяраць Вітаўтава. Добра папрацавалі, але стаміліся.

**Пятніца 12 чэрвеня**

На рабоце нічога асаблівага. К[*асінец*] пайшоў зноў раней. Я цэлы дзень нідзе не выходзіла.

В[*ітаўт*] дома — прыбірае.

Вечарам ужо нічога не рабіла — неяк стомленая.

Званіла Алюньця — яна ў сувязі зь Лёнікам, зацікавілася, што робіцца з грашыма [*Фундацыі*] Любачкі. Хоча ўсю гэтую справу ўзьняць і высьветліць. Можа, як яна возьмецца, дык штось і зробіць.

**Субота 13 чэрвеня**

Сёньня даволі яшчэ прыемнае надвор'е. Зрабіла прычоску, пасьнедалі, памыла бялізну й села за працу. Пачала ўжо пісаць уступ. Галоўна, цяжка пачаць. Усё гэтыя пачаткі й канчаткі, як кажа Мельяновіч Пятро!

Але пачала — ідзе павольна, але даволі добра выходзіць. Прачытала Вітаўту, што напісала, — ён адобрыў. Званіла была Ball[*arine*] — хацела ехаць на закупкі, але [redacted] адмовілася.

В. усё яшчэ не скантактаваўся з Томам — хвалюецца, клапоціцца, што праца стаіць.

Працавала цэлы дзень.

Званіла Рытарыха — яна клапоціцца пра рэчы Кахано́ўскага — ягоныя манускрыпты, архівы, кнігі. Хоча, каб мы памаглі ёй у гэтым.

**Нядзеля 14 чэрвеня**

Цэлы дзень працавала. Добра папрацавала.

Выходзіла нават на двор на якую гадзінку. Вельмі было прыемна на двары.

У абед пад'ехалі на базар, але нічога надта цікавага не купілі — сапсуўся там ужо базар.

Вельмі задаволеная з гэтых двух дзён — добры пачатак.

**Панядзелак 15 чэрвеня**

Сёньня дзень заняты. На рабоце ўсё больш-менш добра. Зрабілі пазытыў «Зьвязды».

В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку.

Правярала колькі рэчаў для Трыстана.

Вечарам паехалі да Ball[*arine*] правяралі маё напісанае.

Стамілася. Разбалелася мне галава.

Слаба спала ноч.

**Аўторак 16 чэрвеня**

Чуюся вельмі ніякава. Цэлы дзень баліць галава, стомленая.

Вечарам ужо нічога не рабіла.

Адно добрае сёньня, што залагодзілі, ва ўсялякім выпадку, пачалі залагоджваць, з памешканьнем для рэфэрату Урбана[1]. Касінец пазваніў у Graduate Center.

---

[1] *Майкл Урбан — дасьледнік Савецкага Саюзу. У 1987 годзе напісаў працу «Стратыфікацыя і мабільнасьць зліты ў БССР». Мы зь ім пазнаёміліся на канфэрэнцыі амэрыканскіх славістаў у Луізіяне. Запрасілі ў Нью Ёрк, каб перагледзеў, што ў нас ёсьць у бібліятэцы. Ён знайшоў шмат патрэбнага яму матэрыялу.*

**Серада 17 чэрвеня**

На рабоце нічога асаблівага.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Пазваніў у Graduate Center, замовіў пакой[1].

Усплыў Том. Пазваніў В. у радыё. Вітаўта якраз ня было, дык абяцаў, што пазвоне пазьней. В. застаўся чакаць яго тэлефону. Усе мы зь нецярпеньнем чакаем, каб ужо яны пачалі нарэшце працаваць над Вітаўтавай кнігай.

Нарэшце Том зазваніў, але нічога канкрэтнага не дагаварыліся. Адно толькі, што пасьля аўторка, пасьля рэфэрату Урбана больш дакладна дагаворацца.

Спаткаліся зь В., схадзілі на абед/вячэру. Але ня было надта прыемна — было неяк напружана. Так даўгое чаканьне на Тома — і нічога канкрэтнага. У чаканьні тэлефона ад Тома В. нават ня меў часу схадзіць заплаціць за залю. Добра, Шук[*елойць*] падняўся схадзіць.

---

[1] *Для выступу М. Урбана.*

**Чацьвер 18 чэрвеня**

Нічога асаблівага на рабоце. Прыйшла сёньня раней.

Трохі працавала для сябе.

**Пятніца 19 чэрвеня**

На рабоце нічога асаблівага. Была палучка, але я ў банк не хадзіла.

Званіў Запруднік — хацеў знайсьці здымак Хрэбтовіча для артыкулу ў газэту. Нічога ■ не знайшла, акрамя гэрбу іхнага роду.

Зрабіла гэтаксама хегох з загалоўных бачынак кніжак, якія могуць быць цікавыя для яго.

Вечарам скончыла перадрукоўваць першую частку ўступу [*Трыстана*].

**Субота 20 чэрвеня**

Зраньня зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну й пачала працаваць.

Неяк ня надта прадукцыйна было. Даволі горача — можа, гэта была прычына, але неяк слаба йшло — ня было натхненьня. Пару разоў перарывала, думала, што лепей пойдзе пасьля невялічкага перапынку.

Праўда, пад канец дня неяк разышлася, але ўсё роўна такога задаваленьня ад працы ня было.

Прыйшлі кнігі ад Камкіна — слоўнікі.

Пазваніў Юра — ён адпачывае, нікуды не паехаў, бо позна прыйшоў са шпіталю. Можа, заўтра пад'едзе на ягады.

Зв. Вітаўт да Прускага — наконта ягонага новага «Журналу». Параіў яму зьмяніць назоў на «Byerorussian Themes» і зрабіць нейкую ўводную заўвагу ад рэдакцыі.

**Нядзеля 21 чэрвеня**

Пасьнедалі й пачалі працаваць.

Пазваніла Алеся — прывітала В[*ітаўта*] з Father's Day[1]. Мы нічога не рабілі — зусім не адзначалі.

Працавалася сёньня трохі лепей — дый пагода лепшая. Але неяк натхненьня ня было й сёньня.

Вечарам трохі адпачывалі. Я прыгатавала В. адрасы й тэлефоны, куды заўтра пазваніць у Мічыган.

---

*[1] Дзень Бацькі адзначаецца ў ЗША ў трэцюю нядзелю чэрвеня.*

**Панядзелак 22 чэрвеня**

На рабоце ўсё ОК. Прыехаў Michael Urban — працуе над «Зьвяздой». Пагода марная.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Па абедзе прыйшоў у бібліятэку — схадзілі з Урбанам на абед-вячэру. Пагаварылі. Ён літоўскага паходжаньня.

В. дамовіўся з Ball[*arine*] прыехаць да яе правяраць сваё, а я ўжо рашыла лепш папрацаваць дома — трэба перад яе канікуламі трохі падагнаць уступ.

В. забыўся ўзяць тэлефоны гатэлю, што я падрыхтавала, — дык не званіў. Зрабіў мне хегох паловы Юркавага набору.

**Аўторак 23 чэрвеня**

Сёньня Урбан зноў працаваў у бібліятэцы.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Пазваніў у Мічыган — тое вішнёвае мейсца [*дзе мы некалі былі*] адкрытае і дазваляюць зьбіраць, але мейсца ў матэлі ня было ўжо. Трэба рабіць новыя пляны.

Зазваніў Том, што ня прыйдзе на вячэру — а В. плянаваў запрасіць усіх у Princeton Club. Прыйшлося зьмяняць пляны й тут.

В. і Запруднік прыйшлі недзе пасьля 5-ай, і мы ўсе пайшлі ў Graduate Center. Вельмі было прыемна — пагаварылі.

Рэфэрат Урбана прайшоў вельмі добра. Сабралася трохі людзей. Усе тыя, што цікавяцца, што крыху маглі нешта дадаць, неяк рэагаваць на яго, даволі складаны прафэсійны даклад — «Elite stratification and mobility in BSSR».

В. дамовіўся з Томам на заўтра працаваць. Я так задаволеная, што яны ўжо пачнуць.

**Серада 24 чэрвеня**
Вітаўт нарэшце спаткаўся з Томам. Працавалі цэлы дзень вельмі добра[1].

Урбан яшчэ прыходзіў у бібліятэку — працаваў, але ўжо мы нікуды не хадзілі.

Я працую для сябе, каб падагнаць трохі перад тым, як Ball[*arine*] паедзе на свае вакацыі.

---

[1] *Над тэкстам «Беларусаў у ЗША».*

**Чацьвер 25 чэрвеня**
На рабоце нічога неяк не прыпамінаю цікавага — прыбіраю свой стол, паліцы. Выканчваю ўсё залеглае.

Вечарам паехалі да Ball[*arine*] — папраўлі, што было прыгатаванае для ўступу.

Стамілася.

**Пятніца 26 чэрвеня**
Парадкавалася на рабоце. Занесла Ball[*arine*] невялікі падаруначак для дарогі. Разьвіталася зь ёй. Яна яшчэ перагледзела для мяне тое-сёе.

Вечарам ужо не працавала — неяк усё яшчэ не магу адысьці ад учарайшага.

**Субота 27 чэрвеня**
Дождж. Вітаўт завёз мяне рабіць прычоску і паехаў па Ball[*arine*]. Павёз яе на аэрадром.

Пасьпеў вярнуцца, пакуль я была гатовая з прычоскай.

Пасьнедалі. Я трохі парадкавалася і села працаваць.

Нічога асаблівага ўжо не рабіла, але падрыхтавала анкету для Garland. Шмат узяло часу знайсьці й упарадкаваць curriculum vitae.

Пазваніла Алесі, бо трэба было тое-сёе праверыць.

**Нядзеля 28 чэрвеня**
Пасьнедалі. Трохі парадкавалася, пакавалася, рыхтавалася да вакацыяў.

Друкавала, выкончвала анкету.

**Панядзелак 29 чэрвеня**
Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

**Аўторак 30 чэрвеня**
Сёньня працую вечарам.

Зраньня пайшлі ў Travel Agency, але нашай жанчыны яшчэ ня было, дык мы ў пачаканьні заехалі ў Passaic. Я купіла сабе патрэбнае ніжняе адзеньне. Добра справіліся.

Залагодзілі з Эўропай — ва ўсялякім выпадку пачалі залагоджваць[1]. Самалёт нам будзе каштаваць трохі больш як $1000. Гэта ня дрэнна.

Вечарам працавалася добра, але я зрабіла менш, чым спадзявалася, — шмат дробязі.

В[*imaўт*] прыехаў па мяне. Мы справіліся хутка. Юра прыехаў дахаты хутка пасьля нас. Ён сёньня рашыў прыехаць прывітаць мяне з днём народзінаў, бо заўтра дыжурыць.

Прыехала й Лорэйн. Трохі пасядзелі, пагаварылі. Быў нават торцік. Яны хутка й паехалі.

---

[1] *Плянавалі падарожжа ў Эўропу — першае ад 1955 году, калі прыехалі ў ЗША.*

**Серада 1 ліпеня**

Сёньня мой дзень народзінаў.

На рабоце ўсё нармальна. Шмат было ўсякіх справаў залагодзіць.

Жанчыны прывіталі мяне.

Вечарам мы яшчэ трохі сьвяткавалі, але ня доўга, бо ў мяне было яшчэ пакаваньне ня зусім скончанае.

Ага, атрымала я шмат грошай на падарункі.

**Чацьвер 2 ліпеня**

Раніцай сёньня пахмурна. Рашыла ўжо прычоску не рабіць — тым больш што валасы даволі добра выглядаюць.

Пасьнедалі й адправіліся ў дарогу. Ехалася добра, адно пагода была пахмурная й час ад часу дождждык невялікі. Затрымаліся на поўдарозе — паабедалі.

У Кліўленд прыехалі пасьля 5-ай. Схадзілі з Калошам на вячэру, а пасьля вячэры зайшлі да Рытарыхі. Добра пагаварылі. Яна згодная аддаць кнігі на Полацак, а архівы ў Hoover Library. Яна выглядае добра, чуецца, здаецца, ня блага.

Пасьля яшчэ трохі прайшліся па Полацку. У іх там былі дажджы, дык сыра й балота.

В[*imaўт*], Калоша й Сяргей яшчэ трохі гаварылі, а я пайшла спаць.

Іх найбольш цяпер турбуюць царкоўныя справы, бінго і заля.

**Пятніца 3 ліпеня**

Зьезьдзілі яшчэ з Калошам пасьнедалі, ды сабраліся ў дарогу.

Ехалася добра. Сталі па дарозе на каву. На мейсца ў Sturgis, Mich[*igan*] прыехалі ня позна.

Замэльдаваліся ў гатэль, ды паехалі купіць нешта паесьці. Гаспадыня з гатэлю параіла нам нейкі фармэрскі рынак. Паехалі шукаць. Крыху паблудзілі, але затое пабачылі, як жывуць Amish — натрапілі якраз на іхную ваколіцу. Езьдзяць яны на конях і брычках, як бы нічога ня бывала. Усе машыны маюць сьцішаць ход.

Рынак нарэшце знайшлі, але нічога асаблівага там не знайшлі. Вішні дарагія. Купілі, праўда, мясцовага самапечанага хлеба, памідораў.

Добра адпачылі. Пакой вельмі вялікі, прыгожы. Трохі, праўда, было шумна зь вечара.

**Субота 4 ліпеня**

Сёньня невялікая дарога — пад вішні[1]. Выехалі каля 9-ай. Сталі на дарозе пасьнедаць.

Вішнёвы сад знайшлі хутка, але вішні тут толькі кіслыя — салодкія ўжо мінулі. Але гэта для настойкі яшчэ й лепей. Сабралі хутка. Я пачала засыпаць у бутлі, а В[*ітаўт*] яшчэ дазьбёрваў. Вельмі ўсё йшло спрытна й спраўна. Пагода цудоўная. У садзе прыемна.

Паехалі далей у той славуты сад, дзе адбываліся костачкавыя спаборніцтвы[2]. Там былі яшчэ салодкія вішні. Назьбіралі даволі шмат.

Пасьля вішняў крыху заблудзілі і зрабілі вялікі круг. На бераг возера нідзе не папалі. Вярнуліся назад у South Bend. Былі ўжо стомленыя й знэрваваныя. Гатэлю нідзе не знайшлі. Гэта яшчэ больш узнэрвавала. Нарэшце недзе знайшлі, нейкі задрыпаны, але былі й гэтаму рады.

Павячэралі. Трохі яшчэ падсыпалі цукру ў настойку. Адпачывалі.

---

*[1] Вішнёвы сад, дзе можна зьбіраць вішні самым.*

*[2] Адзінае месца ў ЗША, дзе адбываюцца спаборніцтвы — хто далей выплюне костачку вішні. Мы спазьніліся, каб паглядзець!*

**Нядзеля 5 ліпеня**

Рана ўсталі — неяк ня спалася. Схадзілі пасьнедалі й паехалі. Яшчэ будучы тут заехалі ў Univ. of Notre Dame, але бібліятэка была зачыненая да 1-ай гадзіны. Рашылі ўжо не чакаць — ехаць далей.

Між іншага, зразумелі, чаму так цяжка было знайсьці гатэль: тут вялікая канвэнцыя Сьведкаў Яговы.

Да Champain, Ill[*inois*] ехалася добра, праўда, час ад часу па дарозе быў дождж. Неяк гэтае падарожжа нам задажджыла.

Бібліятэка тут не зрабіла на нас вялікага ўражаньня, хоць беларуская калекцыя не благая — шмат фармальнасьцяў[1]. Пaглядзелі каталёг. Заказалі пару кніжак (у сховішчы яны тут не дазваляюць ісьці), зь якіх атрымалі толькі дзьве.

Доўга мы тут і не затрымліваліся. Паехалі далей пад Bloomington, Ind[*iana*][2].

Затрымаліся ў вельмі прыемным Holiday Inn. Добра адпачылі.

---

*[1] Кнігазборы асабліва «багатыя» на літаратуру: мы налічылі ў каталёгу па-над 40 сучасных пісьменьнікаў і паэтаў.*

*[2] Блумінгтан — сядзіба Ўнівэрсытэту штату Індыяна. Добры ўнівэрсытэт.*

**Панядзелак 6 ліпеня**

Раніцай пасьнедалі там-жа й паехалі далей. У Bloomington, Ind. былі недзе каля абеду.

Тут бібліятэка зрабіла на нас сапраўды прыемнае ўражаньне.

Па-першае, усё проста: card catalog up-to-date[1], доступ у сховішчы просты, у сховішчах на кожным паверсе xerox. Знайшлі шмат рэдкіх беларускіх Віленскіх выданьняў. Адзін Нашаніўскі зборнік. Нават знайшлі для Маланчука[2] пераклад Віннічэнкі. Вельмі былі задаволеныя сваім побытам, адно толькі тры разы за час, як мы там былі была трывога, і ўсе мусілі выйсьці зь бібліятэкі.

А гадзіне 3-яй выехалі з Bloomington у кірунку South Bend. Дарога была даволі даўгая, але дабраліся ў South Bend яшчэ за сьвятлом. Зноў мелі праблему з гатэлем, але нешта знайшлі.

---

*[1] Максымальна актуалізаваны.*

*[2] Маланчук укладаў бібліяграфію Віньнічэнкі. Мы дапамаглі знайсьці некалькі перакладаў Віньнічэнку на беларускую мову, ■ таксама зь беларускай на ўкраінскую — драматычныя творы. Унівэрсытэцкая бібліятэка з гледзішча беларусікі вельмі добрая. Нейкі час тут быў дараднікам Палікарп Манькоў.*

## Аўторак 7 ліпеня

Раніцай пасьнедалі й паехалі пад Notre Dame[1].

Тут беларуская калекцыя зусім слабенькая. Адно толькі знайшлі тэзу, пра якую В[*ітаўт*] ужо ведаў ад Dr. Pap, але цяпер убачылі поўнасьцю. Вельмі добрая тэза. В. яе нават можа выкарыстаць для кнігі BNR у бібліяграфію[2].

Доўга тут не затрымліваліся, ня было патрэбы.

Паехалі ўжо ў кірунку пад хату.

Кожны дзень усё перабіраем вішні, каб давезьці хоць дахаты. Настойка паводзіцца добра.

Даехалі да Clarion, Penn. Затрымаліся ў Knights Inn. Вельмі прыемна. Схадзілі павячэралі, зь віном, у рэстаран які нам параілі. Вельмі было сымпатычна.

Адпачывалі.

---

*[1] Каталіцкі ўнівэрсытэт каля гораду Саўт Бэнд, штат Індыяна.*

*[2] Дысэртацыю абараніў Romance, студэнт прафэсара Майкла Папа . Пазьней Romance працаваў у ЦРУ.*

## Серада 8 ліпеня

Раніцай я ўжо неяк сябе дрэннавата адчувала. Пасьнедалі каля гатэлю, але без вялікага апэтыту.

Цэлую дарогу я блага чулася — нудзіла, бурчэў жывот, балела галава. Сталі недзе на перастанку, я выпіла Alka Seltzer, але нічога не памагло.

Дахаты прыехалі ня позна. Яшчэ думалі завезьці Юру вішні, дык я стала перабіраць іх — чулася ўжо зусім дрэнна. Пачаўся панос. Нудзіла, але праўда, не рвала. Мусіць, нейкі вірус.

Ніяк не маглі дазваніцца да Юры. Нарэшце ён сам пазваніў, але быў надта стомлены і не хацеў нават, каб мы прывозілі вішні.

Я адпачывала. В[*ітаўт*] пачаў прыводзіць у парадак паперы, пісаць скрыпты.

**Чацьвер 9 ліпеня**

Сёньня цэлы дзень так і правяляліся. В[*ітаўт*] таксама чуецца ня зусім добра.

Нікуды ўжо, зразумела, не паехалі.

Пад вечар мне ўжо стала крыху лепей.

Завезьлі Юру вішні.

**Пятніца 10 ліпеня**

Раніцай трохі нават пасьнедалі і паехалі ў South Jersey. Спачатку па ягады. Было вельмі горача й парна й брудна. Ягадаў было малавата, але неяк набралі дзьве банкі. Стаміліся, сьпякліся.

Паехалі пад мора. Толькі прыехалі ў Ventnor[1], як пачаў марасіць дожджык. Пад'ехалі пад бераг, выйшлі — марасіць. Але мы ўсё не здаваліся. В[*ітаўт*], праўда, застаўся сядзець у машыне, а [redacted] з крэслам пайшла на пляж.

Праз якую гадзінку распагодзілася. Я паклікала В., і яшчэ крыху пасядзелі.

Каля 5-й ужо выбраліся. Павячэралі ў нашым традыцыйным рэстаране ў Absecon і — дахаты. Так ужо неяк сумна робіцца, што вакацыі канчаюцца. Ну, але яшчэ цэлы week-end, а потым яшчэ Эўропа.

---

[1] *Мясцовасьць на беразе акіяну.*

**Субота 11 ліпеня**

Горача.

Зрабіла прычоску — ужо на новым мейсцы.

Пасьнедалі й паехалі ў Regis Travel. Заказалі самалёт на Эўропу. Гэтак усё проста.

Трохі працавала.

Пад'ехалі пад AAA[1] у Secaucus, але было закрыта. Яны ў сераду адчыненыя пазьней вечарам. Тады й паедзем.

---

[1] *Клюб аўтамабілістаў.*

**Нядзеля 12 ліпеня**

Раніцай пасьнедалі і яшчэ сядзелі за сталом, як прыехаў Юра з Лорэйн.

Яшчэ трохі пасядзелі — яны перакусілі й пачалі ўстаўляць AC[1] у маім пакоі. Прыйшлося паставіць у бочнае вакно, бо так выходзіла са штэпсулям.

Добра халодзіць. Хутка яны й паехалі — я ўгаварыла іх ехаць на мора. Селі мы працаваць. Я сабе, Вітаўт сабе.

Трохі перакусілі і зноў працавалі. Ужо каля 7-ай я скончыла.

Паглядзелі T.V. трохі і адпачывалі.

Забылася пазваніць Юрку Ст[*анкевічу*].

---

[1] *Кандыцыянэр.*

**Панядзелак 13 ліпеня**

Першы дзень на працы. Шмат было ўсялякай пошты, але нічога асаблівага — за дзень усё разабрала.

В[*ітаўт*] у радыё, чытае скрыпты.

**Аўторак 14 ліпеня**

На рабоце ўсё ОК. К[*асінец*] пайшоў раней.

**Серада 15 ліпеня**

Раніца прайшла звычайна. В[*ітаўт*] прыйшоў па мяне хутка пасьля 12-ай.

Пайшлі ў радыё. Там ужо ўсе былі: Адамовіч, Шук[*елойць*], Адам, ну й зразумела, Запруднік.

Вельмі прыемны быў абед у кітайскім рэстаране.

Зрабілі яны мне шыкарны падарунак — залаты брасьлет. Вельмі сымпатычна зь іхнага боку.

Адам аддаў рэшту [*пазычаных*] грошай.

В. заплаціў за білеты[1] — цяпер ужо мы зусім уладжаныя. Толькі машыну замовіць.

Забыліся паехаць у ААА, цяпер трэба чакаць да наступнай серады.

---

[1] *У Эўропу.*

**Чацьвер 16 ліпеня**

Нічога асаблівага не прыпамінаю.

Вечарам пазваніў Васіль [*Русак*], што прыедуць да нас заўтра з Арэшкам[1]. Я адразу-ж пачала плянаваць што й як.

---

[1] *Наш блізкі сябра зь Лювэну. Жыве ў Бэльгіі.*

**Пятніца 17 ліпеня**

К[*асінца*] сёньня няма.

Дзень быў нармальны. Добра, што ня горача. В[*ітаўт*] дома — прыбірае сёньня і зробіць закупкі, а я ўжо прыстрою, як прыйду.

Я прыйшла раней — іх яшчэ ня было. Прыстроіла ўсё і чакаем. Сёмая гадзіна, а іх няма, 8-ая — іх усё няма, 9-ая — няма. Нарэшце ўжо недзе каля 10-ай прыехалі — затрымаліся ў трафіку. Тры гадзіны былі ў дарозе. Зь імі прыехала й Надзя [*Кудасава*]. Пасядзелі, пагаварылі — было вельмі прыемна. Успаміналі старое. Арэшка зусім не зьмяніўся. Ён тут на даўжэйшы час — яшчэ спаткаемся.

Паехалі яны ўжо пасьля 12-ай.

**Субота 18 ліпеня**

Зрабіла прычоску. Сьнедалі. Толькі былі скончылі, як прыехаў

Юра. Перакусіў трохі, і яны паехалі купляць касілку, а [redacted] памыла бялізну. Прывезьлі касілку — добрая з мяшком для травы — ня трэба будзе ўжо бабцы зграбаць: гэта была яе работа, але ўжо цяпер яна ня можа.

Юра яшчэ пакасіў сьпераду. Зьезьдзілі мы зь ім па лёды. Хутка ён і паехаў дахаты, а я працаваць села.

Добра ўвайшла ўжо ў каляю.

Пазваніла Галіна, што яны знайшлі Лаппо 3-і том[1] у сябе. Маёй кніжкі яна ня мае. Запрашаюць да іх на царкоўны пікнік.

---

[1] *Статут ВКЛ.*

**Нядзеля 19 ліпеня**

Пасьнедалі. В[*ітаўт*] вырашыў паехаць у New Brunswick, каб узяць Лаппо для [*Паўла*] Урбана. Думае альбо зрабіць хегох, альбо пераслаць яму праз дыпляматычную пошту радыё.

Я працавала добра.

В. доўга ня было.

Зрабіла халаднік. Як прыехаў В., павячэралі.

Я, пераглядаючы яшчэ свае матар'ялы, знайшла ў Грыцкат[1] адно выказваньне, якое трэба будзе яшчэ прастудыяваць — адносна заканчэньня Трыстана. Яе зноска вельмі нявыразная, але мне ўдалося ўстанавіць аўтара. Заўтра праверу ў бібліятэцы.

---

[1] *Ірэна Грыцкат — сэрбская дасьледніца, пераклала «Беларускага Трыстана» на сэрбскую мову.*

**Панядзелак 20 ліпеня**

З самага раньня пачала правяраць [*матэрыялы*] для Трыстана. Знайшла вельмі важную для мяне кнігу Murrell'а, якой у нас у бібліятэцы, на жаль, няма.

В[*ітаўт*] сёньня ў радыё. Як я яму сказала пра сваю знаходку (між іншага, [redacted] прыпомніла, што ў Каламазу Blakeslee успамінаў гэту Roussillon вэрсыю), В. вельмі захапіўся, і мы рашылі паехаць у Princeton — яны маюць — сёньня-ж. Сказана — зроблена. Паехалі, але надарма. Мая Rutgers library card, што, я спадзявалася, будзе дастаткова, ня была важная без апрабацыі[1], а гэтае бюро было ўжо зачыненае. Паехалі зь нічым. Заехалі ў Rutgers — можа, там будзе, але ня было. Павячэралі ў нашым традыцыйным мейсцы.

Трохі расчараваньне, але дзень прайшоў даволі прыемна. Ёсьць ужо нейкая надзея.

Ага, В. званіў да Ball[*arine*] — яна прыязджае ў сераду.

---

[1] *Часта ў ЗША ўнівэрсытэцкія бібліятэкі прымаюць чытачоў зь іншых унівэрсытэтаў, але патрэбнае адмысловае пацьверджаньне. Абмен паміж Прынстанам і Ратгерсам дзейны, але трэба залагодзіць фармальнасьці.*

**Аўторак 21 ліпеня**

Нічога не прыпамінаецца цікавага. Трохі працавала для Трыстана на рабоце.

Вечарам прыйшоў Том — прынёс В[*ітаўту*] правераны матар'ял. Дагаварыліся зь ім, што як толькі я скончу, мы спаткаемся і будзем правяраць маё.

В. быў вельмі задаволены, што Том нарэшце адазваўся. Ён яшчэ пазьней зазваніў дахаты, і яны дамовіліся спаткацца ў наступны аўторак і цэлы дзень працаваць.

Ага, папрасіла [redacted] Soucek'а, каб прынёс мне кнігу з Princeton. Ён з прыемнасьцю гэта зробіць.

Памысны дзень сёньня.

**Серада 22 ліпеня**

На рабоце ОК.

В[*ітаўт*] зноў у Нью Ёрку, бо заўтра ня будзе. Занёс Этэл перадрукаваць тое, што Том паправіў[1].

Я трохі працавала для сябе, але мала, бо на рабоце вельмі занята — шмат каталягаваць, шмат правяраць.

Вечарам В. паехаў па Ball[*arine*] на аэрадром.

Я ўжо пачала рабіць вячэру, аж і ён прыехаў. Павячэралі і трохі яшчэ працавалі. Я парадкую Glossary[2].

У ААА ўжо не паехалі — будзем чакаць да наступнай серады.

---

[1] *Перадрук рукапісу кнігі «Беларусы ў ЗША».*
[2] *Слоўнічак да «Трыстана».*

**Чацьвер 23 ліпеня**

Сёньня думалі ўстаць рана й паехаць, але пакуль раскачаліся, пакуль сабраліся, то было ўжо каля 9-ай.

Ехалася добра. Трохі быў трафік напачатку, але хутка рассеялася. Заехалі на каву ўжо аж каля Forked River.

Каля Galloway былі перад 11-ай. Усё залагодзілі хутка. Таксы[1] яны выслалі толькі ўчора. Трохі паднялі — цяпер $397.

На ягадах былі ўжо аб 11-ай. Вельмі горача, але ягады гэтым разам лепшыя. Зьбіралі да 1-ай. Стаміліся, угрэліся. Мне дык нават крыху ня стала млосна.

Заехалі ў Pomona, купілі соды[2]. Я зайшла ў капліčку[3].

На беразе былі ўжо а 2-ой. Вельмі было прыемна. Вада цудоўная, амаль без хваляў, цёплая. Пакупаліся, ляжалі на беразе. Добра, што парасон маем, бо спаліліся-б зусім — сонца вельмі яснае. Пабылі на моры да 5-ай. Павячэралі ў сваім мейсцы. Даехалі добра. Прыехаў вечарам Юрачка. Далі яму ягадаў.

---

[1] *Падаткі на нерухомасьць за ферму.*

*[2] «Сітро», газаваны напой.*

*[3] У мясцовасьці Памона быў касьцёл, да якога «належала» Зорына мама (яна была каталічка), а каля касьцёлу была каплічка. Кожны раз, як мы праяжджалі Памону, Зора заходзіла ў каплічку памаліцца.*

**Пятніца 24 ліпеня**

На рабоце шмат сабралася ўсялякай працы.

К[*асінец*] пайшоў раней.

Прыходзіла Жанна Паўлава[1]. Прыемна мы зь ёй пагаварылі. Дала яна мне свой адрас і тэлефон — можа заедзем.

Soucek прынёс кніжку Murrell'а. Я трохі пачала пераглядаць яе на рабоце, але яшчэ нічога для сябе цікавага не знайшла.

Чытала яе і ў аўтобусе і вечарам дома, але здаецца гэта ня тое, што мне трэба. Усё-ж яшчэ спадзяюся.

Званіла Ball[*arine*]. Яна вырашыла ісьці на пэнсію ў канцы October. Клікала ехаць у гэты week-end на Cape Cod, але мы сказалі, што я мушу працаваць як мага болей.

*[1] Былая супрацоўніца бібліятэкі, на той час бібліятэкарка на амэрыканскай вайсковай базе ў Гарміш-Партэнкірхене, Нямеччына.*

**Субота 25 ліпеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Трохі мне нядобра стала з жыватом, але хутка адпусьціла. Памыла бялізну — аж тры машыны — бо рознае.

У міжчасьсі працавала над Glossary, бо гэта тэхнічная праца — можна было лёгка адрывацца. Скончыла. Я вельмі задаволеная. Перагледзела й Notes. Пасьля ўжо села працаваць стала — скончыла Roussillon. Нічога для мяне тут няма — гэта легэнда 12-га стагодзьдзя пра Girard Roussillon, дзе Murrell бача паралелі з Трыстанам, але якраз тыя эпізоды, якіх у нашым няма — жыцьцё ў лесе, гэрміт, пярсьцёнак. Так што надзеі не апраўдаліся. Трэба шукаць далей.

Званіў Белямук — ён хоча й Гомельскую й Віцебскую вобласьць[1]. Шмат будзе работы.

Званіла Рытарыха. В[*ітаўт*] ёй вышле кнігі ў панядзелак.

*[1] Слоўнікі назваў населеных пунктаў Я. Рапановіча.*

**Серада 29 ліпеня**

Сёньня засталася дома, зьбіраемся ехаць у South Jersey. Пакуль В[*ітаўт*] мыўся, я рашыла зьезьдзіць у Shop Rite купіць малака. І вось усё парушылася.

Я мела невялічкі выпадак у магазыне. Звалілася мне на руку адкрытая банка Handi-Wrap і вострай пілачкай парэзала палец. Не магла спыніць кроў. Мусілі паехаць у шпіталь. Там чакалі даволі доўга. Але ўжо па дарозе вырашылі, што на поўдзень паедзем усё роўна.

Зрабілі мне 5 швоў, але палец не баліць. Сабраліся й паехалі. Пазваніла К[*асінцу*], што бяру sick day[1].

Вельмі прыемна ехалася. На ягадах было цудоўна. На беразе таксама добра, праўда, крыху ветрана.

Цудоўна правялі дзень, які пачаўся так непамысна.

Прыехалі дахаты ўжо па 8-ай. Адпачывалі.

---

[1] *«Бальнічны» дзень.*

**Чацьвер 30 ліпеня**

З пальцам вельмі нязручна — дрэнна мыцца, цяжка пісаць. Ніколі ня думала, што вялікі палец (праўда, на правай руцэ) такі патрэбны. Але неяк спраўляюся.

В[*італьт*] у радыё.

Прыехаў Юра дахаты. Забраў ягады. Добра пасядзелі, пагаварылі.

**Пятніца 31 ліпеня**

К[*асінец*] прыйдзе зраньня — трохі пакруціцца і выходзіць.

**Субота 1 жніўня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі і [redacted] працавала.

Пазваніла Ball[*arine*]. Яна ў вялікай роспачы, што забылася свае рахункі каля хегох машыны на рабоце. Баіцца, што нехта знойдзе і будзе ёй прыкрасьць. Яна была зусім нервовая, хацела, каб мы да яе прыехалі. Мы запрасілі яе да сябе на заўтра — я, можа, ужо трохі падрыхтую матар'ялу — можа, праверым.

**Нядзеля 2 жніўня**

Пасьнедалі. Пачалі працаваць. Я падрыхтавала даволі шмат матар'ялу.

А гадзіне 5-ай прыехала Ball[*arine*]. В[*італьт*] паехаў па кітайскую яду.

Вельмі прыемна павячэралі, сядзелі, гаварылі.

А тады Ball. й пачала зьбірацца. Так і не парагледзелі майго.

Яна цяпер занятая са сваімі паперамі, доктарамі, дык аж да серады ня зможам спаткацца.

**Панядзелак 3 жніўня**

Нічога не прыпамінаю.

**Аўторак 4 жніўня**

Нічога не прыпамінаю.

**Серада 5 жніўня**

На рабоце ўсё ОК.

Ідзе дождж.

Прыехалі дахаты разам з В[*італьтам*]. Я адразу пайшла да Manskopf'а. Ну ён-жа й шавец. Намучыў мяне дастаючы швы. Пачалаісьці кроў зноў. Хутка, праўда, спынілася. Пазваніла дахаты, а там Юра. Прыехаў ён па мяне. Заказалі pizza. Прыемна правялі час. Ён пакінуў сваю машыну — В. завязе яе ў гараж.

Паехалі да Ball[*arine*]. Мы з Ball. пачалі працаваць, а В. павёз Юру дахаты. Хутка прыехаў і В. Папілі кавы. Пераглядзелі, што ў мяне было — ня гэтак шмат, і паехалі дахаты.

**Чацьвер 6 жніўня**

Сёньня В[*imaўт*] паехаў рана. Яны з Томам едуць у Архіў Праваслаўнай царквы ў Сайосэт[1].

У мяне дзень нармальны. Шмат усялякай дробязі на працы.

Для сябе ўсё яшчэ шукаю матар'ялу.

Пазваніў В., што ён ужо выязджае, але ў Нью Ёрку мы ўжо не спаткаліся, бо я мусіла раней выйсьці. Прыехала перад В., але ён хутка прыйшоў.

---

[1] *Праца над кнігай «Беларусы ў ЗША». У архівах Амэрыканскай Праваслаўнай Царквы я знайшоў шмат матэрыялаў пра тых, хто будаваў у ЗША праваслаўныя цэрквы. Найбольш было карпатарусаў, беларусаў (Менская, Віленская і Гарадзенская губэрні) і ўкраінцаў. Супрацоўнікі архіваў былі вельмі ветлівыя, архівы былі даступныя.*

**Пятніца 7 жніўня**

Пазваніла Алеся — яна ня зможа прыехаць дахаты.

Сёньня няма К[*асінца*]. Дзень быў даволі суетлівы. В[*imaўт*] прыйшоў да мяне каля 12-ай. Хуценька паехалі ў радыё. [redacted] раніцай купіла нейкія невялічкія падарункі для Адамовіча й Запрудніка[1]. Румяна мне запакавала. Вельмі прыгожа выйшла. Напісала таксама ім усім падзяку за брасьлет. Падаруначкі, здаецца, спадабаліся. Я толькі прывітала Зап. і паехала назад. Усё там было ў парадку.

Таня[2] цэлы дзень сёньня нічога не рабіла — усё недзе бегала. Я ўжо маўчала — гэта яе апошні дзень перад вакацыямі.

Для сябе мала змагла рабіць. Усё яшчэ шукаю матар'ял пра «Disguise». Ball[*arine*] запрашала да сябе ў нядзелю.

Вечарам прыязджаў Юра, але доўга ня быў — толькі трохі паелі разам. Ён забраў машыну, але яшчэ ня ўсё зроблена — трэба будзе зноў прывезьці. Адпачывала. Пазваніла Галіна — запрасіла да іх, на провады Арэшкі.

---

[1] *Запруднікаў дзень нараджаньня 9 жніўня.*

[2] *Супрацоўніца Славянскага аддзелу.*

**Субота 8 жніўня**

Неяк слаба спалася ноччу. Так хацелася спаць раніцай, але трэба былоісьці рабіць прычоску. Так рэдка мне цяпер хочацца рана даўжэй паспаць, і якраз жа выпала, што трэба было ўставаць.

Зрабіла валасы, пасьнедалі. Трохі памыла бялізну і села працаваць. Скончыла Glossary. Пачала перадрукоўваць прадаўжэньне ўступу, што праверылі з Ball[*arine*].

Перарвала крыху. Зрабіла халаднік — павячэралі. Далей працавалі.

Я скончыла недзе каля 6-ай. В[*ітаўт*] яшчэ працаваў, ён, праўда, сярод дня адпачыў. Я дык была зусім стомленая — адпачывала.

Званіў Белямук, наладзіў спатканьне з савецкімі беларусамі. Ён ужо ўчора званіў, што яны прыязджаюць у Кліўленд. Былі яны ў Arrow на ўрачыстасьці — Беларускі дзень[1].

---

*[1] Некалькі гадоў перад тым «левыя» пачалі рабіць «Беларускі Дзень» у Эраў Парку, штат Нью Ёрк.*

**Нядзеля 9 жніўня**

Паехалі па курку[1]. Прыехалі, а ўжо стаяла Юрава машына на двары. Мы ўзрадаваліся, што якраз у час. Але бабка нам сказала, што ён прыехаў з Лорайн — толькі пакінуць машыну і паехаў.

Павячэралі самі.

Пераслала Алесі для папраўкі Acknowledgment[2].

---

*[1] Смажаную курыцу на вячэру.*

*[2] Падзякі ў працы над «Трыстанам».*

**Панядзелак 10 жніўня**

В[*ітаўт*] завёз Юраву машыну. Дзень быў даволі заняты.

Раніцай зайшла ў той танны магазын і купіла яшчэ ручку [*падарунак*] для Арэшкі.

Купіла цукеркаў для Галіны і Надзі. Выйшла з працы трохі раней, каб папасьці на экспрэс. В. мяне ўжо чакаў каля маста. Даехалі добра, праўда, трохі быў трафік.

Там у іх было ўжо ўсё гатова. Рабілі яны [*вячэру*] ў Надзі. Спачатку было ўсё вельмі прыемна, а пазьней узышлі неяк на гісторыю, на беларускія справы і амаль не пасварыліся. Галіна зусім захоўвалася, як гістэрычка. Што яе ўзяло? Што мы ня гэтак разумеем гісторыю, як трэба. Нам трэба ўжо разумець, што не з усімі нашымі людзьмі (такімі як Галіна, Алюньця, Рамучыха, Стагановіч яшчэ Лёва і іншыя) можна шчыра гаварыць пра нашую нацыянальную слабасьць, пра нашыя праблемы.

Вечар быў ужо нейкі сапсуты, напружаны. Прыехалі дахаты стомленыя.

**Аўторак 11 жніўня**

На рабоце ўсё добра.

Нічога цікавага не прыпамінаецца. Адно я чулася вельмі стомленая ад учарайшага.

Юра прыехаў забраў машыну. Цяпер ужо ўсё ў парадку.

**Серада 12 жніўня**

На рабоце ўсё добра, К[*асінец*] то прыходзіць, то выходзіць.

Вечарам зьезьдзілі ў Secaucus у AAA. Даведаліся пра машыну ў Эўропу[1]. Там будзе каштаваць нейкіх $400. У іх можна дастаць і інтэр-

нацыянальны дазвол кіраваць. Далі нам гэтаксама карты і сказалі, дзе дастаць больш інфармацыяў.

[1] *Даведваліся ў аўтамабільным клюбе пра магчымасьць узяць напракат машыну ў Эўропе.*

**Чацьвер 13 жніўня**

Касінец пайшоў зноў раней. Я вельмі радая, бо мае пазьней прыйсьці Том, правяраць мой Уступ [*да «Трыстана»*]. В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку.

Дзень быў спакойны. Том прыйшоў пасьля 3-яй, зрабіў палову якуюсь.

Пазваніў В., і мы дамовіліся ісьці на вячэру ўсе разам. Добра правялі час.

Том забраў астатняе дахаты — заўтра прынясе.

Прыехалі дахаты яшчэ ня позна, але я ўжо адпачывала.

**Пятніца 14 жніўня**

Сёньня К[*асінец*] пайшоў рана, і ўжо я яго больш не пабачу перад ягонымі вакацыямі.

Дзень прайшоў добра.

Атрымала чэк, але не мяняла. В[*ітаўт*] у панядзелак залагодзіць. Цяпер у нас з грашыма зусім добра, няма аніякіх цяжкасьцяў.

Пад вечар прыйшоў Том — прынёс папраўлены ўступ. Кажа, што добра зроблена, але ён заўсёды хваліць, шчыра гэта ці не?

Белямук пазваніў позна-позна ноччу. Было ў іх спатканьне з савецкімі [*беларусамі*]. Прыехалі не толькі беларусы, але ўся дэлегацыя. Яны (кліўлендскія) былі задаволеныя — шмат тым савецкім паказалі і расказалі.

**Субота 15 жніўня**

Зрабіла прычоску. Схадзіла да нажнога доктара. Пасьнедалі. Памыла бялізну й працавала. Цэлы дзень працавала.

Падрыхтавала тэкст уступу для перадрукаваньня для Этэл[1]. Працую над Notes[2].

Шмат крапатлівай працы з усім гэтым. Але ўжо відаць канец.

Пазваніў К[*асінец*], даў настаўленьні.

[1] *Мая колішняя сакратарка.*
[2] *Заўвагі да «Трыстана».*

**Нядзеля 16 жніўня**

Пасьнедалі, ды хутка й пайшла працаваць. Закончваю «Notes».

У абед недзе зьезьдзілі ў Патэрсон на базар — купілі памідораў, агурочкаў, фруктаў.

Прыехалі, трохі перакусілі ды зноў сталі працаваць.

**Панядзелак 17 жніўня**

Селі зноў на дыету.

Касінца няма — на вакацыях да сярэдзіны наступнага тыдня.

На рабоце ўсё добра. Занята, але спакойна.

В[*ітаўт*] таксама сёньня ў N.Y. Аддаў Ethel передрукоўваць мой уступ — будзе гатовы ў сераду.

Пазваніла Linda Henry, што скончыла proofreading[1]. Я рашыла схадзіць і забраць, хоць дзень і надта гарачы.

У абед схадзіла ў Garland, забрала папраўлены тэкст. Памылак трохі ёсьць — галоўна, у пару мейсцах выпушчана шмат тэксту — старонкі могуць быць парушаныя. Яна яшчэ раз пераглядзіць, як ужо будзе мець увесь матар'ял.

Назад ідучы купіла арэшкаў.

Вечарам паехалі да Ball[*arine*]. Праверылі «Notes». Надта стамілася, баліць жывот. Села адпачываць, ужо, праўда, было й позна.

---

[1] *Карэктуру.*

**Аўторак 18 жніўня**

В[*ітаўт*] цэлы дзень працуе з Томам[1].

Вельмі гарачы дзень сёньня.

Вечарам спаткаліся зь В. і пайшлі ў наш любімы рэстаран.

Трошкі ўжо пачало халадаць. Ехаць разам добра, але я лепш люблю, калі В. чакае мяне з машынай каля астаноўкі.

Выпаўніла формы для insurance з пальцам і выслалі[2].

---

[1] *Над англамоўным тэкстам «Беларусаў у ЗША».*
[2] *Страхавая кампанія аплаціць выдаткі. зьвязаныя з парэзам пальца ў магазыне.*

**Серада 19 жніўня**

В[*ітаўт*] таксама сёньня ў Н[*ью*] Ё[*рку*]. Спарадкаваў нешта там у банку. Быў у радыё. Зайшоў да Ethel, забраў у яе передрукаваны ўступ — прынёс яго мне. Я надта й не разглядала на рабоце — была неяк занятая. Зрабіла копію з аснаўнога, папраўленага тэксту. Разглядзела ўжо дома. Панарабіла яна памылак. Але галоўна, зрабіла адступы паміж параграфамі, а на пачатку параграфу не зрабіла адступу. Выйшла вельмі разьбіта — губляецца нітка. Для Wilhelm'а гэта зусім не надаецца — ён толькі раззлуецца, пераглядаючы. Ня ведаю, што рабіць. Не хачу й В. крыўдзіць — ён так стараецца — дый грошы вялікія ёй заплацілі — $60. Перабіць ёй не дасі — няма й часу.

Паправіла сёе-тое. Можа папрашу яе перабіць пару старонак.

Вельмі ў мяне цяжкі настрой.

**Чацьвер 20 жніўня**

Сёньня мне рана прыйшла добрая думка — даць Davis'у[1] перапісаць на кампютары Intro[2].

Аддала яму тэкст каля 11-ай. Ён амаль цэлы дзень над гэтым працаваў. Вельмі добра выходзіць.

В[*ітаўт*] сяньня таксама ў Нью Ёрку. Напомніла яму, каб зайшоў у Бельгійскае агенства ўзяць брашуры[3].

Пазваніла дзяўчына з ААА пра [*турыстычныя*] брашуры.

Званіла колькі разоў Wilhelm'у, яго ня было. Хачу яго папрасіць, каб перагледзеў уступ.

Шмат сёньня працавала для сябе.

Вечарам разглядала брашуры, што прынёс В. Добра, што мы ўсё гэта будзем мець заранья — добра ўсё сплянуем.

Нарэшце дазванілася да Wilhelm'а — ён, як заўсёды, быў вельмі халодны, вельмі рэзкі. «OK, but send it to my home»[4] і ўсё.

---

[1] *Супрацоўнік Славянскага аддзелу.*
[2] *Уступ да «Трыстана».*
[3] *Падрыхтоўка да падарожжа ў Эўропу.*
[4] *«Добра, але дашліце мне ўсё на мой хатні адрас».*

**Пятніца 21 жніўня**

На рабоце ўсё добра.

Rob Davis скончыў мне перабіраць Introduction. Зрабіла копію і занесла пакет на пошту — Wilhelm'у. Па дарозе назад купіла яшчэ для яго невялічкі падарунак — ён быў задаволены. Добра, што якраз ня было К[*асінца*], што ён мне мог аддаць так шмат часу. Зайшла да Ball[*arine*]. Яна перагледзела «Memo».

Вечарам трохі яшчэ працавала — перагледзела беларускі тэкст. Пазваніла Юрку [*Станкевічу*]. Дамовіліся, што я яму тымчасам перашлю тэксты для папраўкі, а тады ўжо ўсё разам за які тыдзень-два.

Прыйшлі яшчэ рахункі са шпіталю і ад insurance[1].

Пазваніла Турок, каб яна перагледзела «Notes», Glossary, Bibliography[2]. Яна спачатку вагалася, але як зразумела, што гэта ня так шмат, дык згадзілася зрабіць. Пашлю ёй усё, каб яна магла зьвяраць з тэкстам.

---

[1] *Страхоўкі.*
[2] *Заўвагі, слоўнічак і бібліяграфію да «Трыстана»*

**Субота 22 жніўня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі й працавала. Пагода сёньня крыху дажджлівая, дык ужо нічога не парадкавалася, ня мыла бялізну.

Паслала Юрку [*Станкевічу*] да папраўкі тэкст. Выканчваю. Гэтыя канчаткі й пачаткі найбольш марудныя. Сёньня скончыла перадрукоўваць Notes і пачала бібліяграфію ўкладаць.

Пару разоў перарваліся — перакусілі, але вельмі скромна — мы трымаемся [*дыеты*].

Было пару тэлефонаў, як заўсёды — нічога важнага. Белямук са

сваімі партрэтамі Скарыны ўсё возіцца. Цяпер ужо хоча запрасіць сюды «Песьняроў». Тая дэлегацыя, зразумела, да іх больш ня прыехала.

Разглядала матар'ял для Эўропы. В[*ітаўт*] званіў Адамовічу. Усё стараецца, каб неяк да яго прамовіць, каб пачаў рабіць Кавыля[1].

---

[1] *Працу над кнігай твораў М. Кавыля.*

**Нядзеля 23 жніўня**

Пасьнедалі. Спарадкавала бялізну.

Пагода сягоньня надзвычайная. Прахладненька, сонечна, вецярок.

В[*ітаўт*] паехаў у Нью Ёрк, на нейкае паседжаньне з балтамі[1] — Ялтаўская згода, здаецца. В. мае выступаць ад Беларусаў. Рашыў гаварыць пра дэмаграфію — згубы беларусаў у вайне.

Скончыла бібліяграфію — перадрукавала. Цяпер ужо ўсё, здаецца, выканчана. Толькі чакаць ад Wilhelm'a, пасьлаць Турок і тады ўжо Юрку [*Станкевічу*] пераслаць усё разам.

Выйшла на двор. Так я рэдка цяпер выходжу. Парадкую свой дзёньнік — запусьціла таксама.

Вітаўт прыйшоў недзе каля 5-ай.

---

[1] *Было паседжаньне з Аб'яднаным Балтыйскім Камітэтам. Нарада-дэманстрацыя з нагоды гадавіны пакту Молатава-Рыбэнтропа. Я насьвятляў становішча беларусаў: у 1939 годзе беларуская тэрыторыя аб'ядналася.*

**Пятніца 28 жніўня**

Пазванілі Алесі, што ўжо ня прыедзем у Вашынгтон гэты раз. Шмат работы ў хаце Вітаўту. Ён хоча ўжо выкарыстаць Тома перад тым, як пачнуцца заняткі.

**Субота 29 жніўня**

Ноччу пазваніў Дзядзя Ваня — памёрла Антаніна. Вечная памяць. Доўга не маглі заснуць, тады ўжо пад раніцу заснулі, але трэба было ісьці прычоску рабіць.

Пасьнедалі й пачалі званіць Д. В. — яго ня было аж да пасьля паўдня. Нарэшце дазваніліся. Ён ужо ўсё залагодзіў. То мы вырашылі ўжо сёньня ня ехаць.

Дзень прайшоў неяк хаатычна. Нічога ўжо не рабіла.

Вырашыла зьезьдзіць у магазын. Купіла сабе туфлі й дзьве сумкі.

**Нядзеля 30 жніўня**

Раніцай рашылі пасьнедаць, бо ўсё роўна ў Д[*зядзі*] В[*ані*] усё ўжо залагоджана. Сьпяшацца няма чаго. Памыла яшчэ й бялізну. Выехалі пасьля 10-ай.

Заехалі яшчэ па дарозе на базар. Купілі персікаў, агурочкаў, цыбулі, сьліваў.

Прыехалі да Д. В. пасьля 1-ай. Ён адпачываў. Пасядзелі, пагаварылі трохі. Ён у парадку. Адно трохі мяне занепакоіла, што ён паўтараецца. Некаторыя гісторыі расказаў нам разы тры-чатыры за гэты час, што мы былі зь ім. Папілі кавы.

Паехалі зь В[*ітаўт*] пашукаць памідораў. Добра купілі. Хутка прыехала й Валюшка[1].

Паніхіда была даўгая й непрыемная. Матушка вельмі-ж у іх крыклівая, рэзкая. І выглядае, што яна там boss. Пагода цудоўная. Паглядзелі й могілкі.

Я выехала ўжо па 7-ай. Дарога была даволі занятая. Прыехала дахаты каля 10-ай. Стамілася. Пазваніла В[*ітаўту*] й адпачывала.

---

[1] *Антаніціна сяброўка.*

**Панядзелак 31 жніўня**

К[*асінец*] яшчэ ўсё бегае. Зраньня прыходзіць, пакруціцца, наробіць шуму й зьнікае.

Працавала над рэпортам[1]. Назначылі meeting[2] на чацьвер.

В[*ітаўт*] застаўся на паховіны. Прыехаў хутка пасьля мяне. Стомлены. Усё добра прайшло. В. дамовіўся зь Д. В., што дасьць клепсыдру ў газэту замест кветак. Кветак так і не ўдалося купіць.

---

[1] *Справаздачай.*
[2] *Паседжаньне.*

**Аўторак 1 верасьня**

К[*асінца*] ня было цэлы дзень. Ён у Вашынгтоне. Магчыма, нешта зьвязанае з L.C.[1] Я ўжо й ня ведаю, ці хацела-б я, каб ён кінуў. Цяпер, як ён шмат адлучаецца, на мяне шмат працы накідаецца — даволі суетліва. Але гэта, мусіць, таму што ён стварае гэтую атмасфэру беганіны, сьпеху. Калі-б яго ня было — можа ўсё было-б прасьцей і спакайней.

Скончыла рэпорт, занесла Rodney Ph.[2] Нічога надта не прыпамінаецца. Вечарам пазваніў Юра. У яго ўсё добра. Ён, можа, будзе даваць паказаньні ў судзе па аднаму выпадку, дзе хлопчык быў згвалтаваны. Сказала яму, што ёсьць персікі, каб прыехаў узяў.

---

[1] *Касінец думаў перайсьці на працу ў Бібліятэку Кангрэсу.*
[2] *Родні Філіпс — бібліятэкар, наш сябра, мы былі яму падначаленыя.*

**Серада 2 верасьня**

Дзень прайшоў нармальна. К[*асінец*] пакруціўся й пайшоў. Шмат працы, але як ён пойдзе, дык ідзе спакайней.

Вітаўт таксама ў Нью Ёрку.

Выйшла з працы рана, хутка ўзяла аўтобус, прыехала рана, В. яшчэ ня было — чакала даволі доўга.

Заладзілі ўсё ў AAA з машынай[1]. Праўда, заказаць пакой у Лювэне не ўдалося. Трэба будзе iсьці ў Бэльгійскае бюро.

Заехалі па курку, едучы дахаты. Добра павячэралі.

Пазваніла Юрку [*Станкевічу*]. Ён меў пытаньні да папраўкі тэксту. Хутка ўсё скончыць.

---

*[1] Праз Аўтамабільную асацыяцыю дамовіліся пра пракат машыны ў Эўропе.*

**Чацьвер 3 верасьня**

Раніцай мелі зборку аб каталягізацыі нашых залегласьцяў. К[*асінец*] выглядаў даволі сьмешна са сваім хваленьнем і выпячваньнем сябе. Мне выглядае, што яго ўжо зразумелі й пачынаюць сьмяяцца.

У абед схадзіла купіла сабе чорныя туфлі. Добрыя, але дарагія.

Спаткаліся зь В[*ітаўтам*] пасьля працы й павячэралі ў нашым любімым рэстаране.

В. схадзіў быў у Нямецкае турыстычнае бюро — узяў розных брашураў.

Трохі была стомленая, нічога ўжо не рабіла вечарам — разглядала брашуры. У нас ужо ўсё больш-менш залагоджана з паездкай.

Званіла да Pat Chergolis[1], каб даведацца, ці трэба ўставіць падзяку proofreader[2] і зь якой старонкі пачынаць уступ. Яе ня было.

---

*[1] Супрацоўніца выдавецтва, дзе выходзіў «Трыстан».*
*[2] Карэктар.*

**Пятніца 4 верасьня**

Касінец сёньня ня прыйшоў на працу. Пазваніў рана, што ня будзе. Дзень быў О.К. У абед схадзілі з Ball[*arine*] у Pushcart. Нічога надта ня купіла. Выпілі кавы на тэрасе. Яна запрасіла нас на панядзелак на вячэру.

В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку. Пазваніў, як мяне ня было. Як я прыйшла — адзванілася. Пагаварыла з Зап[*руднікам*] наконта перакладу пра Лёніка Т[*арасэвіча*]. Ён таксама лічыць, што перакладаць цалкам не патрэбна. У Адам[*овіча*] пачала рухацца справа над Кавылём. Гэта так важна, каб ён ужо давёў усё да канца.

В. званіў у Regis[1] — машына заказваецца.

Вечарам званілі Прускаму. Я яго папрасіла, каб пры друкаваньні Бібліі пакінуў некалькі пустых бачынкаў напачатку для сямейных упісаў[2].

Пад вечар ужо на рабоце пазваніла мне Linda Henry замест Pat[3]. Я магла даведацца толькі пра старонкі — выглядае, што трэба пачынаць з XI-ай.

---

*[1] Турыстычнае бюро. Машына для падарожжа па Эўропе.*
*[2] Мікола Прускі пачаў друк кніг Бібліі ў перакладзе Міхася Міцкевіча. Зора ўвесь час выказвала думку, каб у кожнай беларускай Бібліі сьпераду кнігі пакідаліся пу-*

*стыя старонкі для ўпісваньня ўласьнікаў і каб такая Біблія стала сямейнай, што перадавалася б з пакаленьня ў пакаленьне.*

*[3] З выдавецтва ў справе выданьня «Трыстана».*

**Субота 5 верасьня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі.

Схадзілі ў Regis Travel — замовілі цягнік і лодку[1] з Лёндану ў Bruxelles і назад.

---

*[1] Паром.*

**Нядзеля 6 верасьня**

В[*італьт*] паехаў у New Brunswick на зьезд БАЗА. Я рашыла застацца дома — працавала над Handbook для Залеўскага[1].

В. прыехаў ня позна. Казаў, што ўсё добра прайшло, адно Сажыцаў юбілей быў камічна-трагічны. Сьмешна было, як яму сьпявалі дыфірамбы і як ён сам захоўваўся.

---

*[1] Рыхтавалася выданьне дапаможніка для бібліятэкараў. Даваліся кароткія зьвесткі пра краіны. Зора апрацоўвала інфармацыю пра Беларусь.*

**Панядзелак 7 верасьня**

Дзень прайшоў спакойна — працавалі.

Вечарам паехалі да Ball[*arine*] на вячэру. Прыемна правялі час.

**Чацьвер 10 верасьня**

Пазваніла Галіна [*Русак*] аб выстаўцы. Я прывязу Шуставы шкатулкі і льняныя лялькі.

Хутка пасьля Галіны пазваніла Надзя. Парад пачынаецца а 12-ай. Добра, што ня трэба рана сьпяшацца. Папрасіла прывезьці яшчэ брашурак[1].

---

*[1] Інфармацыйных буклетаў пра Беларусь.*

**Пятніца 11 верасьня**

На рабоце ўсё добра.

Зрабіла трохі брашурак для заўтрашняга фэстывалю.

**Субота 12 верасьня**

Лёдзікаў дзень народзінаў.

Схадзіла зрабіць прычоску. Неяк няўдала яна зрабіла — сама гаспадыня. Пасьнедалі й хутка пачалі зьбірацца ў Liberty Park[1]. Надвор'е хмурнае, але дажджу няма.

Там ужо пачынаўся парад. Нашая група была вельмі ўдалая, лічная. Былі дзеткі: Галініныя ўнукі й дачушка Ірэны. Такія мілыя, прыгожыя, бляндзіністыя дзеткі.

Наведвальнікаў на выстаўцы было шмат. Нашая выстаўка, як заўсёды, прыцягвала шмат людзей. Надзя прала, а Тамара ткала паясы. Брашурак хапіла — былі розныя.

Бачыла Дору Рак, паабяцала ёй заўтра прынесьці матар'ял для брашуркі і экспанаты.

Пад вечар да нашага стэнду падышоў — фактычна Вітаўт падвёў яго — сэнатар Лаўтэнберг[2]. Зрабілі колькі здымкаў зь ім. Фатограф паабяцаў заўтра прынесьці гатовыя здымкі.

Прыехалі дахаты пасьля 6-ай. Адпачывалі.

---

*[1] Фэстываль у Парку Свабоды.*

*[2] З сэнатарам-дэмакратам Фрэнкам Лаўтэнбэргам у нас былі прыяцельскія дачыненьні. Ягоная бабуля зь Менску. Шмат і даволі часта гаварылі пра Беларусь.*

**Нядзеля 13 верасьня**

Раніцай пасьнедалі і я яшчэ выканчвала інфармацыю для Ньюаркскага музэю. В[*ітаўт*] напісаў для брашуры, а я зрабіла інфармацыю да экспанатаў і ліст ад Інстытуту.

Дождж, сыра, душна. Паехалі на выстаўку. Там ужо нашыя былі. Фатограф прынёс здымкі — добрыя.

Было трохі наведвальнікаў нягледзячы на дрэннае надвор'е. Дора Рак ня прыйшла — украінцаў наагул ня было.

Мы пабылі там да пятай. Сабраліся й паехалі. Заехалі яшчэ да Доры — аддалі рэчы для музэю[1]. Ужо як зрабілі, дык хочацца збыць. Добра знайшлі. Я баялася, што будзем блудзіць.

Прыехалі дахаты — павячэралі й адпачывалі.

---

*[1] Дора Рак — украінка, наша сяброўка, мела сувязь з музэем у Ньюарку. Туды былі перададзеныя беларускія экспанаты. Гэтаксама музэй ладзіў рухомыя выстаўкі для школаў. Быў апрацаваны таксама матэрыял пра Беларусь. Такія рухомыя выстаўкі выяжджалі на запатрабаваньне школаў, іншых раёнаў.*

**Панядзелак 14 верасьня**

Парадкуюся на рабоце. Шмат розных рэчаў падкончыць.

**Аўторак 15 верасьня**

Сёньня [redacted] працую вечарам.

Памыла зраньня бялізну. Пераклала і перадрукавала зацемку пра Лёніка Тарасэвіча для газэты.

Званіў Сяргей [*Карніловіч*] — ён вярнуўся толькі з Польшчы. Залагодзіў усё з Баршчэўскім. Яны абодва прыязджаюць (Барташэвіч таксама рашыў прыехаць) у сярэдзіне кастрычніка.

Паехалі на работу разам на машыне. В[*ітаўт*] падкінуў мяне і запаркаваў у гаражы. В. быў у радыё, а потым працаваў у бібліятэцы. Вечар быў спакойны. Схадзілі павячэралі ў нашым рэстаране. Я забрала ўсе рэчы, што была купіла, й чакала, пакуль будзем з машынай.

Прыехалі дахаты пару хвілін па 9-ай — так добра з машынай.

**Серада 16 верасьня**

На рабоце ОК, але шмат працы — стараюся падкончыць усё залеглае.

Кончыла каталягаваць Віленскую й Пачаеўскую кнігі.

В[*imaўm*] прыйшоў па мяне й пайшлі ў радыё. Сёньня дзень народзінаў Адама Акуліча. Узялі яго на абед.

Зьезьдзілі ў ААА[1]. Памянялі грошы і забралі паперы на машыну. Каштавала больш, чым меркавалі.

Пазваніла Турок, яна сказала, што выслала ўжо матар'ял. У мяне ўжо палепшыўся настрой, бо трохі задоўга яна трымала.

---

[1] *Аўтамабільная асацыяцыя.*

**Чацьвер 17 верасьня**

Цэлы дзень працавала над усякімі канчаткамі.

В[*imaўm*] у Нью Ёрку таксама, але ўжо не заходзіў і не спатыкаліся. Ён паехаў дахаты раней.

Званіла мне на працу Linda Henry, пыталася, калі прышлю рэшту матар'ялу[1]. Паабяцала ёй на 13-га альбо 14-га кастрычніка.

У нас быў staff сэмінар[2], як іх К[*асінец*] называе. Былі Stefanovic з Донэл і Wertzman[3]. Гаварылі пра сваю новую кнігу. Перад сэмінарам працавалі трохі з W[*ertzman*] над малдаванскай старой кнігай, якую я маю каталягаваць.

Атрымала пачку ад Турок. Цэлы вечар правяла, разглядаючы матар'ял. Яна даволі павярхова зрабіла.

---

[1] *Для друку «Трыстана».*
[2] *Сэмінар для супрацоўнікаў аддзелу.*
[3] *Супрацоўнікі бібліятэкі.*

**Пятніца 18 верасьня**

Дзень дажджлівы, сыры. Я цэлы дзень мучылася ад гарачыні, бо АС[1] ужо не працаваў.

Шмат працы — забегалася. В[*imaўm*] працуе з Томам цэлы дзень. Перадала невялічкі кавалак для Тома паправіць.

Купіла яшчэ ручак[2] — прасіла Румяна і Адамовіч.

Растлумачыла Зэнану ўсё, што ён мае рабіць.

Хадзіла ў Art. Div.[3], шукала яшчэ Шагала.

Вечарам у аўтобусе зусім зьмерзла. В. таксама змок і зьмерз.

Ужо адпачывалі — нічога не рабілі. В. званіў Сяргею, каб залагодзіць дэталі з прыездам Баршчэўскага і таксама Русакам.

Том, мусіць, не зразумеў і паправіў маю зацемачку ня зусім удала. Ён будзе званіць В., тады папраўіцца.

---

[1] *Кандыцыянэр.*
[2] *Ручак-самапісак з тэрмомэтрам і календаром — на падарункі.*
[3] *Мастацкі аддзел.*

**Субота 19 верасьня**

Прычоску ўжо сёньня не рабіла. Пайду ў сераду перад ад'ездам.

Пасьнедалі.

Прыехаў Юра з Лорэйн. Яны выязджаюць сёньня на мора. Пагода пахмурная, але можа трохі распагодзіцца. Далі Юру крыху грошай — на народзіны.

Працавала над Трыстанам, што Турок прыслала. Яшчэ шмат чаго трэба было пераглядзець.

Пазваніла Юрку [*Станкевічу*] — сказала яму, што ў панядзелак прышлю ўвесь матар'ял. Яны выбіраюцца на вакацыі, дык ён ня пэўны, што справіцца з усім да 8-га кастрычніка.

Пазваніў Дзядзя Ваня — трэба яму нешта там запоўніць. Вырашылі заўтра зьезьдзіць да яго.

**Нядзеля 20 верасьня**

Рана ўсталі — ужо ня сьнедалі дома, а паехалі да Д[*зядзі*] Вані. Ехалася добра — пагода не благая. Заехалі купілі кавы і пончыкаў. Добра перакусілі.

Заехалі яшчэ на базар у Columbia. Купілі персікаў, вінаграду.

У Д. В. усё добра — ён трымае парадак. Зварыў нам суп. Паабедалі. Пагаварылі. Яму мусіць сумна. В[*ітаўт*] запоўніў яму нейкія там анкеты для Бэльгіі. Даў ён нам срэбныя падсьвечнікі і мне маленькую срэбную падставачку для пярсьцёнкаў на камодзе. Узялі яшчэ ў яго бутэлькаў пустых. Ён таксама даў нам настойкі і кавун.

Заехалі на магілку Антаніны. Едучы дахаты, купілі яшчэ памідораў і яблыкаў. У Памону не заязджалі. Далі Д. В. падарункі на дзень народзінаў — ягоныя 26-га.

Добра прайшоў дзень.

Том не пазваніў.

Я сваё не закончыла — перашлю ўжо Ю[*рку Станкевічу*] ў аўторак.

**Панядзелак 21 верасьня**

Раніцай пазваніў Том. Вітаўт перадаў яму інфармацыю аб Баршчэўскім. Я праверыла зь ім свой тэкст.

В. быў таксама ў Нью Ёрку.

Дзень быў вельмі заняты, суетлівы — бегала цэлы дзень. Зраньня купіла яшчэ сёе-тое. Купіла матар'ял для беларускай сукенкі, але як прымерала дома, дык не пасуе колер.

Усё, здаецца, залагодзіла, але такое пачуцьцё, як часам бывае, што нечага не зрабіла, нешта забылася.

Вечарам ужо нічога не рабіла.

Пазваніла Ball[*arine*] — яна толькі прыехала з Cape Cod. Заўтра пойдзем зь ёй на вячэру.

**Аўторак 22 верасьня**

Пагода прыемная. Нават сонца сьвеціць. Добра, што Юру крыху наладзілася надвор'е.

Памыла бялізну. Спарадкавала настойку — лепшую.

Скончыла ўсё для Юркі [*Станкевіча*]. В[*ітаўт*] павёз на пошту.

Выйшла на двор пасядзець. Пішу дзёньнік. Сонца крыху схавалася, але ўсё роўна прыемна. В. выйшаў таксама. Косіць траву.

Пачала патроху пакавацца.

**Серада 23 верасьня**

Ю[*ра*] з Л[*орэйн*] прыехалі рана прывезьлі сандвічы. Мы яшчэ перакусілі. Хутка прыехаў і В[*ітаўт*].

Паехалі на аэрадром раней. Усё хутка залагодзілі й чакалі. Самалёт крыху спазьніўся.

Ехалася добра, праўда, цесна было сядзець. Крыху я й паспала, а В., здаецца, не. Есьці давалі аж тры разы.

**Чацьвер 24 верасьня**

Прыляцелі ў час. На аэрадроме Gatwick усё добра наладжана, ня было ніякіх праблемаў. Прайшлі эміграцыю[1], а дуаны[2] нават ня трэба было праходзіць. Купілі білет у Лёндан. Цягніком ехалася добра, але сядзелі не разам, дык ня было так прыемна.

На станцыі Victoria чакаў нас ужо а. Надсон. Дабраліся да іх і патроху пачалі разглядацца ў бібліятэцы. Паабедалі з а. Надсонам. Хутка, праўда, стаміліся, і пайшлі крыху адпачылі. Пасьля яшчэ працавалі.

Пачалі прыходзіць людзі — гутаркі адрываюць. Зайшла ў каплічку.

Я пайшла спаць ня позна — В[*ітаўт*] яшчэ працаваў.

---

[1] *Іміграцыйны кантроль.*

[2] *Мытня (фр. douane).*

**Пятніца 25 верасьня**

Спалі позна. Пасьнедалі. Тут нам а. Надсон усё падрыхтаваў. Працавалі цэлы дзень вельмі добра.

Схадзілі з а. Надсонам у іхны горад[1] — зрабілі сякія-такія закупы. Купіла цукерак для Міхалюкоў — яны запрасілі нас да іх у суботу на вячэру.

А. Надсон нас зноў пакарміў — ён добра і смачна кухарыць — усё поснае, але такое смачнае. Зрабілі фота з паясоў.

Шмат цікавага знайшлі. Вельмі прадуктыўна прайшоў дзень.

---

[1] *У цэнтар прадмесьця Фінчлі, дзе знаходзіцца Бібліятэка Францішка Скарыны.*

**Субота 26 верасьня**

Зноў добра папрацавалі — зноў я схадзіла з а. Надсонам у горад — купіла index-cards[1] — у нас ужо не хапала.

Вечарам хадзілі ў госьці да Міхалюкоў. Яны вельмі міла нас прынялі — смачная вячэра. Добра пасядзелі, пагаварылі. Жывуць яны недалёка ад бібліятэкі — добры домік.

Я пайшла адпачываць, а В[ітаўт] яшчэ трохі працаваў і з а. Надсонам гаварыў.

---

[1] *Каталёгавыя карткі.*

**Нядзеля 27 верасьня**

Схадзілі рана на [*бага*]службу. Пасьля службы, добра ўсе разьехаліся, й мы яшчэ змаглі нават папрацаваць, але ня шмат — пачалі хутка прыходзіць людзі. Паабедалі з а. Надсонам.

А 4-ай была зборка. В[*ітаўт*] расказаў пра актыўнасьць і пляны Інстытуту. Было крыху пытаньняў, але ўсе такія простыя. Быў і Dingley і Vera Rich. Яна захоўвалася яшчэ прыстойна.

Пасьля зборкі яшчэ крыху пагаварылі з Міхалюкамі. А. Надсон нам даў даволі шмат кніжкаў — Міхалюк нам іх перашле. А. Надсон падараваў мне адну драўляную маляваную дошчачку.

Пайшлі спаць даволі позна.

**Панядзелак 28 верасьня**

Усталі рана. Сабраліся й паехалі на станцыю. А. Надсон нас падвёз. Без яго мы не справіліся-б. І так амаль справіліся мінутка ў мінутку.

Даехалі да Довэру добра, там бяз ніякіх клопатаў селі на параход.

Праезд праз Channel[1] быў плаўны. У Ostend'е крыху была замінка, селі на пазьнейшы поезд, але сядзелі добра — разглядалі Бэльгію.

У Брусэль хутка даехалі. Там узялі таксі і даехалі да аэрадрому да машыны. Столькі клопатаў, столькі ўсялякіх перасадак, столькі ўражаньняў, але нарэшце селі ў машыну і накіраваліся ў Лювэн.

Новая дарога, разгубіліся крыху, але папалі хутка ў Лювэн. Гатэлю тога, што мелі на ўвазе — не знайшлі, паехалі ў цэнтар шукаць нейкага гатэлю, бо было ўжо пазнавата.

Ехалі па старых вуліцах, але я яшчэ ўсё не распазнавала — у машыне едучы зусім інакш выглядае, В[*ітаўт*] дык хутка распазнаў. Знайшлі гатэль каля станцыі, замэльдаваліся й пайшлі хадзіць па горадзе. Тады ўжо мне пачало прыходзіць да памяці. Пайшлі на Place Hoover. Дом пад # 8 яшчэ стаіць, а новы беларускі дом [*№ 19*] перароблены. Прайшліся па парку — парк такі-ж. Як В. кажа, і ружовыя птушкі тыя-ж плаваюць.

Нашага дзявочага студэнтскага дому, што на Rue des Flamandes, няма — перарабілі. Sedes'у[2] няма. Хімічны інстытут там усё яшчэ.

Павячэралі ў нейкім новым рэстаране. Зноў хадзілі. На Rue de Diest усё зьмянілася, кінаў ужо больш няма. Нашай кафэ — няма.

Лювэн шмат зьмяніўся, хоць і выглядае па-старому. Старых стаянкаў з фрытамі ўжо няма, але затое новая на Гувэр пляцу. Зьелі

й фрытаў. Я, праўда, ўжо й не галодная была, але трэба было для традыцыі.

[1] *Ля Манш (The English Channel).*
[2] *Студэнцкі інтэрнат.*

**Аўторак 29 верасьня**

Раніцай яшчэ схадзілі пад бібліятэку — пасьнедалі на Гувэр пляцы. Напісалі [*паштовыя*] карткі.

Пайшлі ў бібліятэку. Беларускага там нічога няма. Пазнаёміліся зь вельмі сымпатычнай выкладчыцай на Славянскім аддзеле Ўнівэрсытэту. Задакляравалі прыслаць ёй кнігі беларускія. Вельмі быў удалы візыт.

На граніцы было ўсё вельмі проста[1]. Паехалі ў Bonn. Ага, яшчэ як ехалі пад Dover, я, фактычна Вітаўт, прыпомнілі, што ня ўзялі ўзору нашага начыньня[2].

Пахадзілі па магазынах у Bonn. Тога старога не знайшлі — усё там зьмянілася. Дый цяжка дагаварыцца. Узялі колькі каталёгаў, але гэтката ўзору няма. Зьмянялі яшчэ грошай.

А 3-яй выехалі з Bonn'у і накіраваліся ў кірунку Wolfenbüttel. Дарогі тут цудоўныя. Усе лятуць — ну й мы хутка зразумелі, што можна ехаць хутка. Ніколі й ня думалі, што даедзем да самага Braunschweig. Доўга шукалі гатэлю, але ўсё-ж знайшлі, й цудоўны гатэль. Першы раз за ўсё падарожжа з душам і туалетам і з T.V. Пайшлі ў горад, каб нешта паесьці. Усё ўжо было, праўда, закрыта. Ужо кіраваліся пад гатэль, як убачылі нейкі рускі рэстаран — Дача. Падышлі бліжэй і пачулі рускія песьні. Рашылі зайсьці. Вельмі прыемна правялі вечар.

[1] *Далей паехалі ў Нямеччыну.*
[2] *Хацелі купіць нажы, як тыя, што куплялі ў 1955 годзе.*

**Серада 30 верасьня**

Пасьнедалі ў гатэлі й паехалі ў Wolfenbüttel, там доўга шукалі Архіву. Пасылалі нас з аднаго мейсца ў другое. Нарэшце ў бібліятэцы накіравалі нас [*куды трэба*]. У Архіве пераглядзелі колькі folders[1], якія тычыліся Польшчы й Расеі. Нічога надта цікавага не знайшлі. Паехалі далей у кірунку Рэгенсбургу.

Ніколі й не спадзяваліся, што даедзем сёньня да самага Рэгенсбургу. Стаміліся, але даехалі. У той гатэль, дзе заплянавалі, не папалі — было ўжо ўсё занята. Але яны нас накіравалі ў другі крыху далей ад Рэгенсбургу. Вельмі добры гатэль. Мы яшчэ вырашылі паехаць у горад. Было ўжо цёмна, але мы адважыліся. Круціліся, круціліся на старых вуліцах Рэгенсбургу — нічога не знайшлі, адно станцыю знайшлі і крыху зарыентаваліся.

Ужо едучы, пачалі крыху рэалізаваць[2], што мы затрымаліся недзе

недалёка ад Зідлінгу, але яшчэ ня былі цалкам пэўныя, дзе ён. Вярнуліся назад і рашылі ўжо заўтра рана разьведваць.

---

[1] *Папак, архіўных справаў.*
[2] *Разумець, усьведамляць (realize).*

**Чацьвер 1 кастрычніка**

Пасьнедалі раніцай у гатэлі й паехалі пад Рэгенсбург. Хутка вельмі ўбачылі, што мы ў раёне Зідлінгу. Такое было нашае ўражаньне, калі мы зрэалізавалі[1], што мы ў Зідлінгу, калі мы ўбачылі вялікія дамы, памятнік, каля якога некалі фатаграфаваліся. Вялікія дамы стаяць і іх лёгка пазнаць, але маленькія дык зьмяніліся. Той гатэль, дзе мы плянавалі былі стаць, стаіць у самым тым мейсцы, дзе быў наш беларускі лягер у маленькіх доміках, на аднэй з бочных вуліц. Вось як бывае ў жыцьці — вось як лёс кіруе часам. Гаворачы пра лёс — выехалі мы зь вялікай дарогі (учора вечарам), каб ехаць пад Рэгенсбург, якраз на тым мейсцы, дзе была беларуская царква [*Сьв. Еўфрасіньні*]. Сёньня мы гэта зрэалізавалі. Царквы, зразумела, няма — там цяпер дзіцячая пляцоўка.

Пахадзілі мы па Зідлінгу — ён цяпер завецца Kumpfmühle, але людзі яшчэ памятаюць яго пад старым назовам Ganghoffer Siedlung.

У Рэгенсбургу пры сьвятле зусім інакш усё выглядае. Знайшлі й Marshal St[*rasse*]. Зьмянілася там, але мы прыпомнілі й дом і дворык [*і брамку*], дзе быў уваход у камітэт.

Трохі яшчэ пахадзілі ды паехалі пад Cham.

Ехалася вельмі прыемна па малой дарозе ў гарах. Домікі баўерскія агледжаныя, з кветкамі на балконах — ну проста як на малюнках.

Перад Cham'ам заўважылі дарогу на Michelsdorf. Пад'ехалі пад вёску. Баракаў ужо няма, але вёска разраслася. Пазналі больш-менш мейсца, дзе былі нашыя баракі. Зайшлі ў магазын, пагаварылі з баварцамі — яны не прыпамінаюць баракаў. Адзін старэйшы крыху помніць.

Пад'ехалі пад [*рэчку*] Regen. Regen — па-старому, праўда, дарожка, што вядзе пад Cham, заасфальтаваная й можна ехаць машынай. Паехалі. Cham неяк [redacted] нічога надта не прыпамінаю, адно станцыю — В[*італьт*] трохі сяго-таго прыпомніў.

Ад Cham'у паехалі ў Osterhofen. Добра знайшлі: пляц усё такі-ж, дом, дзе была школа, стаіць, адрэмантаваны. Там цяпер Rathaus[2]. Дому-гатэлю, дзе была лягерная адміністрацыя — няма. Значыць, дом стаіць, але зусім перабудаваны. Там цяпер вялікі магазын.

Другія дамы, дзе жылі нашыя людзі стаяць па-старому. Пазналі й дом, дзе была тэатральная студыя, дзе бывалі скаўтскія зборы ды зьезды.

Галоўнае, што расчуліла, гэта царква, дзе некалі самы першы раз прагучэлі словы малітвы «Магутны Божа»[3].

У Остэргофэне ўжо не заставаліся, а паехалі пад Landshut, там

і заначавалі. Гатэль добры, але без ліфту, а наш пакой быў аж на 4-ым паверсе.

---

[1] *Зразумелі.*
[2] *Ратуша, гарадзкая ўправа.*
[3] *Гл. успаміны Зоры, разьдзел Нямеччына.*

**Пятніца 2 кастрычніка**

Рана пасьнедалі ў гатэлі й паехалі пад Мюнхэн. Добра дабраліся. Па дарозе даведаліся, як ехаць пад радыё, бо В[*ітаўт*] згубіў адрас. Знайшлі, але доўга шукалі, дзе прыпаркаваць.

Там адразу спаткалі Паўла [*Урбана*]. Павёў ён нас у бел. сэкцыю. Убачылі Галку [*Руднік*] па дарозе. Цьвірку ўбачылі — ён зьмяніўся. Паўло — нічога не зьмяніўся.

Пабылі там крыху, і яны ўжо завуць на абед. Пасядзелі, пагаварылі. Прыйшлі й Фрэйдкін і Ася Левіна. У іх, як відаць, адносіны вельмі нацягнутыя тут.

Яшчэ крыху пакруціліся, дамовіліся, што спаткаемся яшчэ ўсе разам у нядзелю, ды паехалі да Паўла. У яго яшчэ крыху сядзелі. Мужчыны (Сянькоўскі паехаў з намі) трохі падпілі. Пайшлі яны праводзіць Юрку ды яшчэ недзе пару гадзін прасядзелі ў піўнушцы. В. у парадку, але яны-то добра п'юць.

Я сядзела, чытала, а пасьля ўжо й спаць пайшла. Пазваніла да Жанны[1], што заўтра прыедзем.

---

[1] *Жана Паўлава, наша знаёмая, бібліятэкарка ў амэрыканскай вайсковай вучэльні ў Гармішпартэнкірхене.*

**Субота 3 кастрычніка**

Усталі рана. Паўло паехаў яшчэ недзе па пакупкі, а я памыла крыху В[*ітаўтавай*] бялізны. Машыны так нідзе й не знайшлі. Пасьнедалі ды паехалі ў Гарміш. Паўло нас на сваёй машыне павёз. Там крыху пагаварылі з Жанай. Яна нас падвезла пад бібліятэку.

Бібліятэка зрабіла сапраўды добрае ўражаньне. Упарадкавана. Даволі вялікая[1].

Зайшлі яшчэ на каву. Пагаварылі. Жанна дала цукерак для Slav. Div., для нас, нешта й для Паўла. Яна маладзец.

Праехалі яшчэ па Гармішу. Знайшлі тую вуліцу, дзе жыў В. з бацькамі [*ў 1945 годзе*]. Баракаў няма, але мейсца пазналі[2].

Даехалі да Мюнхэна недзе каля 6-ай. Паехалі адразу да Юркі [*Сянькоўскага*].Там павячэралі. Юркава жонка вельмі сымпатычная.

Да Паўла прыехалі недзе перад 9-ай яшчэ. Крыху паглядзелі T.V. В. разглядаў кнігі. Трохі сталіліся, але прыемнае стамленьне. Пайшлі спаць ня позна.

---

[1] *Кнігазборы вычарпальныя для патрэбаў школы. Ёсьць беларускі матэрыял.*

*² Тут я некалі ўпершыню пабачыў амэрыканцаў. Жылі мы ў «остаўскіх» бараках, дзе блашчыцаў былі мільёны! Мы ставілі ложкі ў вёдры з вадой, але блашчыцы падалі на нас са столі. Пацукоў не было, бо не было чаго есьці!*

**Нядзеля 4 кастрычніка**

Прачнулася рана, усе яшчэ сьпяць. Я стала запісваць, што за гэтыя дні не запісала. Хутка будзем ужо й уставаць хіба.

Пасьнедалі. В[*ітаўт*] яшчэ разглядаў кнігі ў Паўлюка.

Хутка паехалі да Галіны [*Руднік*][1]. Там было даволі прыемна. Былі Сінькоўскі, Цьвірка, Ларыса Урбан, Бортнік, Паўло. Пад вечар ужо добра падпілі. Мы ўжо крыху баяліся за Паўла, як ён нас давязе дахаты. Але ўсё добра было. Ад Галіны пазванілі яшчэ дахаты. Там усё добра. Юра быў на паховінах Олі[2]. Прыехалі да Паўла і пазванілі [*Янку*] Жучку [*ў Бэльгію*], што прыедзем да яго ў аўторак.

Пайшлі спаць ня позна. Паўло яшчэ крыху забавіўся нанізе. Ён зусім асалавеў.

---

*¹ З Галкай — Галінай Руднік-Ганчарэнка — мы былі знаёмыя яшчэ зь Менску.*
*² У Эўропе мы даведаліся, што памерла Оля Запруднік, сапраўды блізкі нам чалавек.*

**Панядзелак 5 кастрычніка**

Усталі рана, пасьнедалі й паехалі. Паўло на працу, а мы ў дарогу.

Да Tübingen даехалі добра, але там зноў пачалі круціцца па малых вулічках. Заехалі на нейкі рынак, дзе ня можна ехаць. Ні туды — ні сюды. Нарэшце заарыентаваліся, дзе мы. Запаркавалі й пачалі хадзіць па горадзе. Зайшлі пад Унівэрсытэт. Знайшлі бібліятэку. Беларускіх кнігаў там мала зусім. Шукалі, можа біблію Скарыны знойдзем — там рэлігійнае накіраваньне. Заўважылі курыёз. Украінская кніга пра паходжаньне ўк. народу «Le Genese de people Ukr.» запісаная пад Bible. Moses — Genesis Ukrainie.

Пайшлі ў горад. Шукалі, каб купіць мне пэрлы. Знайшлі добрыя недалёка ад таго самага базару. Выбралі, але яны яшчэ маюць іх перацягнуць. Мелі пару гадзін часу. Купілі падарункі для А[*лесі*], Bal-l[*arine*], Loraine. Цяпер я ўжо крыху супакоілася.

З Tübing. паехалі на Herrenberg. Знайшлі той гатэль, дзе жылі. Ехалі па дарозе, па якой некалі хадзілі пешкі з Tüb. у Herr. Паабедалі недалёка ад таго мейсца, дзе жылі. Вельмі было прыемна — толькі даволі душна было. Першы раз у Эўропе, што мне стала горача й спацела.

З Herr. паехалі ўжо пад Бэльгію. Затрымаліся ў Ludwigshafen у вельмі добрым гатэлі. Першы раз пачуліся зусім як у Амэрыцы. Нават пакарысталі з mini-bar.

**Аўторак 6 кастрычніка**

Пасьнедалі ў гатэлі. Добра выехалі на дарогу. Паехалі ў кірунку

Францыі. Затрымаліся яшчэ ў апошнім нямецкім гарадку Saarbrücke, каб купіць цукеркі для падарункаў ды й грошы астатнія выдаць.

Праз Францыю праехалі толькі краяшком. Пайшоў дождж. Францыя спаткала нас ня вельмі ветла. Нават цоль[1] за дарогу прыйшлося плаціць — ня было ў нас фр. грошай. Добра, што бэл. былі.

Праехалі й праз Luxemburg. У Бэльгію ўехалі з поўдня й прыйшлося ехаць яшчэ малымі дарожкамі, дык яшчэ й частку вясковай Бэльгіі пабачылі. Зноў дождж быў, але пасьля распагодзілася. Заехалі ў Namur. І якраз-жа па дарозе ўбачылі й тое мейсца, дзе я працавала ў Барона — Erpan[2]. Пад'ехалі пад «шато». Дом стаіць, як і быў, у добрым парадку. Не заходзілі, бо ня былі пэўныя, хто там цяпер ёсьць.

У Брусэль даехалі без прыгод. Дабраліся да Жучкі. У яго там крыху паблудзілі, але знайшлі.

Ад Жучкі паехалі да Зоі [*Смаршчок*]. Прыехаў да Ж. і Арэшка, і разам паехалі да яе. Там павячэралі. Хутка прыехала й Іна [*Саўка*], а потым [*Лаўрэн*] Клыбік[3], сядзелі, гаварылі, ўспаміналі. Позна разьехаліся. Мы засталіся [*начаваць*] у Зоі.

---

[1] *Падатак.*
[2] *Першая праца — пакаёўкай.*
[3] *Усе — нашы старыя сябры зь Лювэну.*

**Серада 7 кастрычніка**

Усталі рана. Пасьнедалі і паехалі. Зоя паказала нам яшчэ свой агарод. Зьелі малінкаў.

Да аэрадрому даехалі добра. Здалі машыну. Вельмі прыемна былі зьдзіўленыя, што ня трэба было плаціць за мілі.

Даехалі да Bruxelles цягніком. Вельмі зручна й танна. Гэта быў таксама прыемны падарунак. Засталося шмат бэльгійскіх грошай. Здалі рэчы ў багаж. Пайшлі ў горад купляць. Купілі Юру падарунак — залаты крыжык і мне яшчэ ваўняную спадніцу й парфюму. Пачаставаліся яшчэ бэльгійскімі вафлямі.

Да Ostende даехалі вельмі прыемна. Сядзелі ў купэ амаль увесь час адны. У Ostende была невялічкая замінка: Дзеля дрэннага надвор'я jet foil[1] ня ехаў. Прыйшлося ўзяць Ferry[2]. Але выйшла добра, бо Ferry ехаць куды прыямней — свабодна, спакойна, але, праўда, даўжэй.

Цяпер пішу сабе, што ня было ўпісана. В[*іташт*] дрэмле. Падарожжа было даволі даўгое, й пачало хістаць. Прыехалі ў Dover позна, але добра, якраз цягнік чакаў. Дабраліся да Лёндану ўжо недзе пасьля 8-ай.

Ідзе дождж, холадна. Сталі шукаць гатэлю. Там, дзе быў адрас у нас, недалёка станцыі, было ўжо ўсё занята. Сталі шукаць далей. Знайшлі нейкі невялічкі, захудалы, але былі ўжо стомленыя, змоклыя — рашылі ўзяць хоць што. Пакой слабенькі, але нічога ня зробіш. Добра, недалёка станцыі.

Пайшлі яшчэ памянялі грошы і павячэралі. Хутка й спаць пайшлі.

---

[1] *Катэр на падводных крылах.*
[2] *Паром.*

**Чацьвер 8 кастрычніка**

Усталі рана. Пасьнедалі ў гатэлі. Прыемна былі зьдзіўленыя рэстаранікам. Чыста, прыемна, людзі прыстойныя.

Пахадзілі яшчэ па Лёндану. Падышлі пад Buckingam Palace, пад Westminster Cathedral. Зайшлі памаліліся. Сёньня мамін дзень нарадзінаў. Падышлі яшчэ й пад Westminster Abbey. Прыемнае было падарожжа. Крыху распагодзілася. Праўд,а яшчэ халаднавата й ветрана.

Забралі рэчы й на станцыю. Да Gatwick аэрадрому даехалі вельмі хутка. Але тут нас чакала неспадзеўка — нашага самалёту няма. Трэба было браць пазьнейшы — аж 3 гадзіны пазьней. Ходзім тут па аэрадрому, сядзім, ходзім, пьем каву, ямо марожанае — усё каб час правесьці. Пазванілі дахаты. Юры не засталі. Бабка сказала, што ён пераехаў на новую кватэру.

Цяпер В[*ітаўт*] зноў крыху задрамаў, [redacted] пішу. Час паволі ляціць. Маем яшчэ колькі фунтаў ангельскіх — нешта яшчэ трэба купіць. Купілі яшчэ цукеркаў — грошы амаль усе пайшлі.

Ідучы пад самалёт ужо заўважылі, што Duty-free магазын быў яшчэ далей — па-за агульнай плошчай! Празявалі. В. хацеў яшчэ нешта купіць, але ня было ўжо так шмат часу.

Селі добра, але дарога здоўжылася. Стаміліся ўжо.

Прыехалі недзе ўжо пасьля сёмай. Пакуль дасталі багаж яшчэ каля гадзіны чакалі. Праўда праз дуаны[1] прайшлі бяз ніякіх затрымак. Юра ўжо нас чакаў.

Прыехалі дахаты добра. Там маса пошты. Крыху разгледзеліся й адпачывалі. У хаце ўсё ў парадку. Бабка ОК.

---

[1] *Праз мытню.*

**Пятніца 9 кастрычніка**

Пераходжу зноў да дзёньніка. Тое, што пісалася ў дарозе, так і пакіну — перапісваць ужо ня буду.

Сёньня цэлы дзень былі як не свае. Стомленыя, дызарыентаваныя, соўгаліся па хаце. Добра, што ёсьць час яшчэ адпачыць перад работай.

Нікуды ўжо не паехалі. У дарозе думалі, можа, яшчэ ў Delaware пад'едзем на пару дзён.

**Субота 10 кастрычніка**

Зрабіла завіўку. Пасьнедалі. Парадкавалася. Адпачывала.

Нічога цікавага не прыпамінаецца. Усё яшчэ адчуваецца стомленасьць.

**Нядзеля 11 кастрычніка**

Раніцай пасьнедалі ды ўжо больш нічога ня елі.

А гадзіне 4-ай прыехала Ball[*arine*] і паехалі зь ёй у рэстаран. Яна вельмі задаволеная падарункамі. Расказвалі ёй пра падарожжа.

**Панядзелак 12 кастрычніка**

Рана ўжо ня сьнедалі, ■ рашылі ехаць. Купілі Д[*зядзю*] В[*аню*] калбасы ў Пасэйку.

Паехалі адразу пад Galloway Town Office — думалі, можа будуць адкрытыя, каб заплаціць таксы. Але ўжо іх там няма — баракі зьнятыя.

Паехалі сабралі памідоры — там нам сказалі, што office цяпер каля Weiss-Winery. Ужо не паехалі, бо яны закрытыя ўсё роўна.

Паехалі да Д. В. Купілі яшчэ яблыкаў па дарозе.У яго ўсё добра. Парадачак. Пачаставаў нас. Пасядзелі, расказалі яму пра падарожжа. Зьезьдзілі на магілку Антаніны. Ён паставіў ужо помнік.

Назад ехалася добра, але ўжо сумнавата, што канчаюцца канікулы і заўтра ўжо трэба на працу.

**Аўторак 13 кастрычніка**

Першы дзень на працы. Нічога асаблівага — такое ўражаньне, як ніколі й не выязджала.

Работы ня так ужо й шмат назьбіралася — яны даволі шмат зрабілі — Зэнан добра ўсё дагледзеў.

Вечарам пазваніла Юрку Ст[*анкевічу*]. Ён ужо выслаў матар'ял.

**Серада 14 кастрычніка**

Сёньня прыехалі ў New York [*Алесь*] Барскі й [*Альбэрт*] Барташэвіч.

**Чацьвер 15 кастрычніка**

Прыйшоў ад Юркі матар'ял.

**Пятніца 16 кастрычніка**

Сёньня ў бібліятэку прыходзілі Барскі й Барташэвіч.

Вечарам была зборка зь прыезджымі ў Queens College. Я не паехала, бо было даволі складана ехаць туды пасьля працы.

В[*ітаўт*] прыйшоў даволі позна. Зборка была даволі ўдалая.

**Субота 17 кастрычніка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі ды хутка й паехалі на фэстываль у Пэнсыльванію. Добра ехалася. Любаваліся прыгожай ліствой. Пагода прыемная.

Там было вельмі добра. Беларускі стэнд карыстаўся вялікім посьпехам — Галіна Кучура добра арганізавала. Была невялічкая кантраверсія з нашай картай. Літоўцы пратэставалі, што на карце Вільня ўключаная ў Беларусь. Трохі пабылі зь імі, крыху дапамаглі ім — асабліва Вітаўт. Ён спаткаў там адну жанчыну, якая вельмі цікавілася сва-

ёй спадчынай. Ён зь ёй зьвяжацца — добра для кніжкі мець інфармацыю пра беларусаў у Пэнсыльванскіх шахтах.

Купілі сабе яшчэ калбасы й хлеба на дарогу. Вельмі прыемна ехалася назад.

Прыязджаў Юра, як нас ня было.

**Нядзеля 18 кастрычніка**

Сёньня адпачывалі й працавалі. Перагледзела матар'ял, які прыслаў Юрка [*Станкевіч*].

**Панядзелак 19 кастрычніка**

Занесла манускрыпт у [*выдавецтва*] Garland. Раніцай зрабіла дзьве копіі — адну для Wilhelm'a.

Slavic Week [*у Нью Ёрку*] выстаўка [*беларускіх*] касьцюмаў.

**Аўторак 20 кастрычніка**

Занесла Wilhelm'у пачку з Трыстанам — цяпер чакаць, што ён скажа, якая будзе яго рэакцыя. Трохі я баюся, што яму не спадабаецца. Трэба было яму раней паглядзець, а не цяпер, як ужо ўсё зроблена.

Прынстан Club[1].

Slavic канцэрт.

---

[1] *Сустрэча з Барскім і Барташэвічам.*

**Серада 21 кастрычніка**

В[*ітаўт*] паехаў рана, каб пасадзіць Барскага й Барт[*ашэвіча*] у аўтобус на Кліўленд.

**Пятніца 23 кастрычніка**

Сёньня палучка. Схадзіла ў банк рана — памяняла грошы, бо В[*ітаўт*] сёньня дома.

Хутка як прыйшла, быў тэлефон ад Wilhelm'a. Ён прачытаў манускрыпт і незадаволены — патрабуе яшчэ шмат папravак. Наагул ён гучаў вельмі нэгатыўна — кажа, што выдаўцы незадаволеныя; што нейкая «знаток расейскі» прачытала і ня думае, што гэта 16 ст. — для яе гэта выглядала, як «modern Russian». Я згадзілася на ўсе яго папраўкі. Нехта з выдавецтва будзе званіць. Я ў роспачы. Пазваніла Вітаўту. Ён мяне крыху супакоіў. У міжчасьсі быў званок ад Mrs Kroner. Яна ўжо гаварыла з Wilhelm і тон яе быў зусім сымпатычны, — W. зробіць папраўкі і Linda Henry праз week-end іх уставіць.

**Субота 24 кастрычніка**

В[*ітаўт*] сёньня працуе зь В[*allerine*] — цэлы дзень быў у Нью Ёрку.

Я спачатку спарадкавалася. Схадзіла зрабіла прычоску — купіла прадукты. Памыла бялізну й чакала Юру — ужо нікуды не паехала.

Стала разьбіраць і сартаваць старыя здымкі. Зраблю дзецям альбомы.

Настрой пасьля ўчарайшага вельмі цяжкі, але патроху пачынаю прыходзіць да сябе.

Па абедзе прыехаў Юра з Лорэйн. Яны крыху пасядзелі ды паехалі недзе праехацца.

Ніхто не званіў цэлы дзень — аж дзіўна.

В. прыехаў позна. Я была зварыла суп курыны. Паелі й адпачывалі.

**Нядзеля 25 кастрычніка**

Сёньня дома — нікуды ня езьдзілі. Я парадкавала здымкі.

В[*ітаўт*] прынёс ужо, здаецца, усе, што ў яго былі. Цікава разглядаць старыя фатаграфіі.

Па абедзе, праўда, зьезьдзілі ў магазын кветкавы купіць падкормкі для вазонаў.

Быў спакойны, прыемны дзень.

Пазванілі да Алесі — у яе ўсё добра. Сказалі ёй, што прыедзем да яе ў суботу.

**Панядзелак 26 кастрычніка**

Вельмі баліць мне шыя й плечы — нават спужалася перш. Але пазьней зрэалізавала, што гэта я дрэнна сядзела, як разьбірала фатаграфіі, — сядзела на падлозе.

Цэлы дзень чуць рухалася.

**Аўторак 27 кастрычніка**

Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

В[*ітаўт*] вазіў бабку да доктара — у яе ўсё добра.

Я яшчэ ўсё адчуваю сваю шыю й плечы.

**Серада 28 кастрычніка**

В[*ітаўт*] сёньня ў радыё.

На рабоце ўсё ОК, але пачынае мне ўжо патроху дакучаць быць буфэрам паміж Касінцом і іншымі працаўнікамі. Лавіраваць і гуляць у дыпламатыю, быць псыхіатрам і baby sitter[1] для ўсіх іх.

Пазваніла Linda Henry — яна яшчэ ня скончыла праверку — думае, што да канца тыдня ня справіцца. Я й рада — няма чаго ўжо сьпяшацца — няхай будзе лепш павальней ды акуратней.

Спаткаліся зь В., схадзілі на каву.

Вечарам адпачывалі.

---

[1] *Нянькай.*

**Чацьвер 29 кастрычніка**

В[*ітаўт*] паехаў рана спаткаць Барскага й Барташэвіча. Ён мае завезьці Барск. да Тома, а тады яшчэ зайсьці ў Радыё й зрабіць рэзэрвацыю на гатэль.

Я ў абед пайшла з Зэнанам К., — ён хацеў пагаварыць. Гутарка была даволі шчырая — З. клапоціцца пра свае палажэньне на рабоце.

Схадзіла да Ball[*arine*]. Яна заўтра ўжо канчае працу. Заўтра будзе й ейная разьвітальная парты[1].

Быў у нас сэмінар — Pallarb[2] з Прынстану. Было даволі слаба. Я расчараваная.

Прыехала дахаты ня позна. Яшчэ трохі сабралася — сабрала кнігі здаць у бібл., сьпісала кнігі, якіх у нас не дастае. Адпачывала — неяк цяпер нічога вечарам ня хочацца рабіць.

Званіў Калоша — яны лічаць, што В. патрэбна прыехаць на прыймо для супрацоўнікаў энцыкляпэдыі Кліўленду[3].

---

[1] *Вечарына, пачостка (party).*

[2] *Славянскі бібліятэкар.*

[3] *Выйшла ўпершыню энцыкляпэдыя Кліўленду, дзе быў мой артыкул пра беларусаў. У гарадзкой управе ладзілася прэзэнтацыя.*

**Пятніца 30 кастрычніка**

Раніцай сабраліся. В[*ітаўт*] яшчэ паехаў купіць калбасы для Д[*зядзі*] В[*ані*]. Я толькі дачакала, пакуль адкрыецца фрызюра[1], і сказала ім, што сёньня ня прыйду, а дамовілася на аўторак.

Пасьнедалі па дарозе. Ехалася добра. Пагода цудоўная. Заплацілі таксу[2]. Памідораў ужо ня было — учора быў мароз. Купілі трохі для Алесі. Зайшлі ў банк у Egg Harbor, адбілі працэнты і палажылі $100. У Д. В. зьмена — мае сабе ўжо нейкую жанчыну, якая жыве ў яго й дапамагае яму. У хаце чысьценька — яна, здаецца, вельмі баявая жанчына (3 гады як удава). Пасядзелі крыху й паехалі ў Вашынгтон. Па дарозе купілі яблыкаў.

Ехалася добра, адно ўжо вакол Baltimor і Wash. быў трафік.

У гатэлі добра, я засталася дома, а В. пайшоў паглядзець што робіцца на канвэнцыі[3].

Пішу дзёньнік і адпачываю.

---

[1] *Цырульня.*

[2] *Падаткі.*

[3] *Канфэрэнцыі.*

**Аўторак 3 лістапада**

Сёньня дома. Раніцай пасьнедалі. Пагода добрая. Памыла бялізну.

**Серада 4 лістапада**

Здала «Нашу Ніву» у фільмаваньне[1].

---

[1] *Зрабіць дадатковы асобнік.*

**Чацьвер 5 лістапада**

Паслала Юрку матар'ял праз Federal expres. Абяцалі, што заўтра рана будзе мець.

Цэлы дзень быў вельмі цяжкі настрой — ня выспалася, бо раніцай яшчэ папраўляла тое, што ўчора позна з Томам залагодзіла.

Ужо пад канец дня пагаварыла з К[*асінцом*], каб заўтра трохі раней пайсьці з працы ды выехаць хоць са сьветам.

В[*італт*] сяньня ў Нью Ёрку — робяць газэту. Дамовіліся спаткацца каля Secaucus і пайсьці да Ball[*arine*].

Выйшла канфузія — В. ня справіўся раней. Паехалі дахаты разам, а тады ўжо да Ball. Узялі яе на вячэру. Прыемна правялі вечар, адно яна троху нэрвовая. Амаль не пасварылася з Marcelle[1]. Усіх падазрае, усім не задаволеная.

Вечарам ужо адпачывалі.

Я сабралася раней — нічога надта-ж і зьбірацца ня было. На адну ноч толькі.

Настрой крыху наладзіўся.

---

[1] *Нашая зь ёй агульная сяброўка.*

**Пятніца 6 лістапада**

К[*асінца*] няма. Дзень быў даволі спакойны. Шмат каталягую беларускага.

Адзела сёньня касьцюм.

Выйшла з працы хутка пасьля 4-ай. Доўга ня было аўтобуса. Я ўжо пачала хвалявацца, але неяк села і думала, што калі будзе добры трафік, дык можа й даеду да 5-ай. Аднак была затрымка — нешта на дарозе сталася. Я ўжо зусім расстроілася. Ужо й цямнець пачало. Даехалі да Orient Way, дзе мяне чакаў В[*італт*], ужо недзе пад 6-ую. Але крыху супакоіліся, паехалі адразу на дарогу[1].

Ехалася пазьней ужо даволі добра, а чым далей ад большых гарадоў, тым лепей. Даехалі да мейсца за 4 гадзіны. Матэль знайшлі. Быў даволі прыемны. Павячэралі, крыху нават і T.V. паглядзелі.

Дзень, хоць і такі нэрвовы й стамляючы, кончыўся вельмі прыемна.

---

[1] *Паехалі ў Кліўленд.*

**Серада 23 сьнежня**

Дзень быў даволі заняты.

У абед яшчэ хадзіла купляць апошнія падарункі.

В[*італт*] у Нью Ёрку. Званіў мне, але мяне якраз ня было ў пакоі. Адзванілася яму. Алеся прыязджае а 7-ай.

Вечарам ужо ішла дахаты сама — В. паехаў спатыкаць Алесю.

Як толькі яны прыехалі, мы адразу-ж паехалі ў магазын.

Я, праўда, была ўжо разьдзетая, але хуценька сабралася й паехалі. В. нас павёз — сам пайшоў купляць для Юры — банку для рыбалоўных прыладаў, а мы пайшлі па розныя пакупкі. Купілі пару рэчаў — заўтра А. будзе лягчэй.

Едучы назад, купілі курку, але была не такая смачная. Неяк елі без

апэтыту — стаміліся ўсе. Прыехалі Юра й Лорэйн — прывезьлі частку сваіх падарункаў.

Спаць пайшлі даволі позна.

**Чацьвер 24 сьнежня**

На рабоце ўсё ОК. Трохі падчышчаю свой стол. Сёньня [*чытальныя залі*] былі адчыненыя для публікі.

К[*асінец*] падараваў мне пылесосік, я таксама для яго нешта мела.

А[*леся*] цэлы дзень сёньня ў магазынах.

Вечарам я зноў ішла дахаты сама, бо Алеся мела машыну. Прыгатавала вячэру, а А. ўсё няма. Мы ўжо й хваляваўцца пачалі, бо магазыны адчыненыя толькі да 6-ай.

Нарэшце пасьля 8-ай прыйшла й яна — стомленая, расстроеная — шмат было ёй усялякай беганіны.

Павячэралі, крыху аддыхнулі й пачалі пакаваць падарункі.

Доўга пакаваліся. Я дык зусім была стамілася.

Пайшлі спаць ужо позна.

**Пятніца 25 сьнежня**

Я ўстала недзе каля 8-ай. Крыху адпачыла.

В[*італьт*] паехаў купіць печыва. Чакалі доўга Юру й Лорэйн. Нарэшце й яны прыехалі ўжо пасьля 11-ай.

Разабралі падарункі. Усе, здаецца, задаволеныя. Некаторыя трэба будзе замяніць.

Пасьнедалі, хутчэй паабедалі, і сядзелі, гаварылі, адпачывалі. Знайшлі яшчэ некалькі карцінаў — Юра хоча таксама.

Пазьней Алеся праверыла мне ўступ да артыкула пра беларускія кнігі для Залеўскага.

Я трохі працавала, каб падрыхтаваць болей для Алесінай праверкі.

Спакойна прыемна правялі дзень.

**Субота 26 сьнежня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі й паехалі ў магазыны.

Магазын з рамкамі зачынены быў яшчэ. Трэба было зьмяніць, што яны зрабілі, і заказаць адну новую рамку.

Паехалі далей. Некаторыя рэчы яшчэ дакупіла, некаторыя замянілі, некаторыя проста назад вярнулі. Усё даволі добра залагодзілі. Адно сьпяшаліся, бо думалі яшчэ заехаць залагодзіць з рамкамі, але яны зусім сёньня былі зачыненыя.

Прыехалі дахаты каля 5-ай. Зрабілі вячэру. Прыемна пасядзелі ўсе разам.

Алеся пайшла да Надзін, а я працавала над артыкулам. В[*італьт*] таксама цэлы дзень працуе над Тумашавай бібліяграфіяй.

Алеся вечарам правярала мой артыкул. Позна засядзеліся.

Лягглі спаць ужо пасьля 1-ай.

**Нядзеля 27 сьнежня**

Пасьнедалі. І хутка пачалі зьбірацца. Завезьлі Алесю на аэрапорт. Па дарозе яна яшчэ заскочыла да Согаў — прывітаць іх з Калядамі.

Даехалі добра, але па дарозе ўжо заўважылі, што пачынаецца трафік каля стадыёну. Назад паехалі праз Ньюарк.

Спакойна правялі рэшту дня. Я падрыхтоўвала матар'ял для Залеўскага.

Пад вечар заехалі Юра й Лорэйн — забралі паліто Вітаўтава, каб замяніць. Юра хоча шэрую валізку — паедзем зь В. замяніць.

Пазваніў Зэнан[1] — памёр яго бацька.

---

[1] *Калега па працы.*

**Панядзелак 28 сьнежня**

На рабоце ўсё добра, праўда, шмат каго няма — дык крыху занятыя.

В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку.

Аддала R[*ob*] D[*avies*][1] друкаваць артыкул для Handbook.

Вечарам спаткаліся зь В. Павячэралі й паехалі на памінкі Зэнана бацькі.

Доўга там ня былі — прыехалі дахаты хутка пасьля 8-ай, дык яшчэ й адпачылі.

Лорэйн прывезла паліто — шэрае, значна прыгажэйшае, чымся першае, — але ўсё роўна, здаецца мне, крыху замалое для В.

---

[1] *Калега з аддзелу.*

**Аўторак 29 сьнежня**

Сёньня працую па абедзе.

Прыйшла цудоўная думка завезьці рабіць рамкі. Усё залагодзілі, і я паехала на працу.

На рабоце ўсё ОК. Вечар прайшоў спакойна. Ня было пажоў, але, добра, працавала вечарам кава, дык было крыху весялей.

Купіла Алесі радыё.

В[*ітаўт*] чакаў мяне з машынай. Добра даехалі дахаты.

**Серада 30 сьнежня**

Усё добра на рабоце.

Сёньня вельмі халадна — на дварэ й у нашым пакоі — няма ацяпленьня.

Вечарам паехалі абмяняць Юру чамадан. Добра справіліся.

**Чацьвер 31 сьнежня**

Сёньня палучка. Схадзіла ў банк.

Дзень прайшоў нармальна. Вечарам адпачывалі. Дачакалі да 12-ай і пайшлі спаць.

Толькі заснулі, аж пазваніў Белямук — прывітаць з Новым Годам.

# 1988

**Пятніца 1 студзеня**
Дома
Працавалі
Bibliogr.

**Субота 2 студзеня**
Зрабіла валасы
Wash
Shoping
V — L.C. Aberdin

**Нядзеля 3 студзеня**
Дз. Ваня
Дахаты
Базар

**Панядзелак 4 студзеня**
В. чуецца дрэнна
Сьнег
Частка артыкулу гатовая — праверы

**Аўторак 5 студзеня**
Надта холадна на рабоце — зьмерзла
Скончыў арт.

**Серада 6 студзеня**
Я дома — нядобра
В. з Томам
Падрыхтав. Куцьцю

**Чацьвер 7 студзеня**
Занесла макаўку
В. у Крычэўск.
Юра. Ялінка

**Пятніца 8 студзеня**
Сьнег, але даехала добра.
Wojciech
Адпусьцілі а 3-яй
Адпачывала

**Субота 9 студзеня**
Валасы
Пасьнедалі
Бялізна
Працавала над Bibliography

**Нядзеля 10 студзеня**
Пасьнедалі
Бялізна
Прац. над бібл.

### Панядзелак 11 студзеня
Купіла дзёньнік
Паслала W. Залеўскаму diskette
Сав. дэлегац. Кісялеўскі

[1] *Зора вадзіла савецкую дэлегацыю па ўсёй бібліятэцы.*

### Аўторак 12 студзеня
В. з Томам цэлы дзень
Прыехала сама і крыху працавала

### Серада 13 студзеня
В. у радыё. Пад канец дня — у біб. прыходзіў Том
Ехалі разам. Прыехаў Юра. Пазв. Алеся

### Чацьвер 14 студзеня 1988
В[*ітаўт*] у Нью Ёрку сёньня таксама працуе з газэтай.

Купіла падарунак для бабкі.

На рабоце ОК, але мне неяк настрой сапсуўся дзеля захаваньня К[*асінца*] — ён цяпер гуляе з N.Z.[1]

Быў сэмінар. Зацягнуўся. Я прыехала дахаты пазьней, але яшчэ мелі поўна часу. Паехалі спаткаць Алесю. Холадна. Купілі торцік для бабкі.

У яе ўсё добра. Едучы дахаты, заехалі купілі Pizza. Ужо ўсё закрывалася.

Падрыхтавалі вячэру. Разам крыху пасядзелі. Было даволі прыемна.

Пачалі прабаваць адкрываць кансэрвныя банкі новай электрычнай адкрывалкай — нічога ў нас ня выходзіла. Прабавала й Алеся й [redacted] — і не патрафілі. Ужо раззлаваліся. Бабка адмовілася ад свайго падарунку. Адным словам — «пшык».

[1] *Наташа, супрацоўніца аддзелу, памерла ў 2002 годзе.*

### Пятніца 15 студзеня 1988
В[*ітаўт*] раніцай папрабаваў адкрывалку і... адкрыў кансэрвы.

Холадна.

Алеся паехала рана на паховіны дзеда Надзін. Мы паехалі ў Нью Ёрк разам.

В. — у друкарню, а потым прыйшоў у бібліятэку. На рабоце ўсё ОК. Пагаварыла з К[*асінцом*]. Ён заўважыў, што я нечым незадаволеная. Выглядае, што ён цяпер будзе фаварызаваць N. Z. Ну й няхай. Мне ўжо ўсе ягоныя тактыкі пачынаюць рабіцца сьмешнымі й нуднымі.

В. працаваў з Томам над рэфэратам. Пагаварыла з К. наконта ва-

кацыяў. Мне прыйдзецца браць пасьля 18-га [*лютага*]. І ўключыць «President's days» ня ўдасца[1].

*[1] У лютым два выходныя дні — President's Days — 12 і 22 лютага. Шмат хто хоча ўзяць адпачынак якраз у гэтую пару, каб далучыць гэтыя дні, тады выходзіць даўжэзны адпачынак.*

**Субота 16 студзеня 1988**

Я зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Алеся атрымала пакет з работы, дык мусіла перагледзець матар'ял. Дамовілася з Надзін, што спаткаюцца вечарам.

Прыехалі Юра й Лорэйн. Далі Алесі падарунак на дзень нарадзінаў — грошы, бо ня ведалі, што ёй купіць. Крыху пасядзелі з намі. Юра выглядае добра.

Яны паехалі ў Нью Ёрк, а мы з Алесяй — у магазыны. Купілі мне боцікі. Алесі тое-сёе. Antonovich быў закрыты. Пад'едзем заўтра. Паглядзелі шубу ў адным магазыне — нічога цікавага.

Прыехалі дахаты і Алеся чакала тэлефону ад Надзін. Нарэшце ўжо каля 8-ай паехала да яе.

**Нядзеля 17 студзеня**

Пасьнедалі. Я памыла бялізну. Алеся паехала з Надзін недзе ў магазын. Прыехала ня позна. Я тым часам крыху й папрацавала.

Як толькі прыехала Алеся — мы паехалі зь ёй. Паглядзелі шубу ў Antonovich. Адна была нават вельмі прыгожая. Яшчэ пад'ехалі ў Secaucus Shoping center, але нічога не купілі.

Алеся пачала зьбірацца да Ані Бойчук. Мы павячэралі, як яна паехала й я пачала працаваць. Пасьля глядзелі T.V. Алеся прыехала ўжо пасьля 12-ай.

**Панядзелак 18 студзеня**

Travel Bahamas

Працавалі

**Аўторак 19 студзеня**

В. у N.Y. прац. над paper

Прац. над бібл.

**Серада 20 студзеня**

Канфэр. В. ОК[1]. Прыехаў позна

Я працавала

*[1] Тэмы — Frey, Судзілоўскі. У Пушкінскім Доме (?).*

**Чацьвер 21 студзеня**

В. дома

Зап. за падарожжа

Tax

**Пятніца 22 студзеня**
В. у радыё.
К. з N.Z.
У мяне трохі сапсуўся настрой

**Субота 23 студзеня**
Завіўка
Бялізна
Працавалі
Рабіла сёньня завіўкі, дык крыху даўжэй затрымалася.

**Нядзеля 24 студзеня**
Патэрсон
Працав.
Зв. Алеся

**Панядзелак 25 студзеня**
Сьнег
В. з Bird
Прыехалі разам
Ліст з Garland
Паз. Юрку

**Аўторак 26 студзеня**
Папправіла Zalewski
Прац. з Regder.

**Серада 27 студзеня**
В. у N.Y.
Прац. бібл.
Зв. Garland

**Субота 30 студзеня**
Канцэрт славянскі.

**Панядзелак 1 лютага**
У абед занесла папраўлены матар'ял у Garland. Там таксама даведалася, як заказаць кнігі. Так выглядае, што выйдзе ў канцы красавіка. Мне прышлюць каталёгі і заказ на кнігі. На жаль, для арганізацыяў, яны зьніжкі не даюць, але для аўтара ёсьць зьніжка 25%.

Пазваніў Юрка [*Станкевіч*]. Ён выслаў ужо перароблены ўступ. Ён сам рашыў перарабіць [*шрыфт*] на Bookman 9.

**Чацьвер 4 лютага**
Раніцай пазваніў Касінец — што я маю пайсьці на Principals meeting[1] замест яго. Выйшла раней, але была затрымка, дык амаль што не спазьнілася. Мітынг быў даволі нудны — трата часу.

Пазваніла жанчына з N. J. Art Council — наконта N. J. Directory. Дамовіліся спаткацца заўтра а 5-ай у бібліятэцы.

Вечарам крыху яшчэ працавала — пераглядала «Бацькаўшчыну».

---

[1] *Паседжаньне загадчыкаў аддзелаў.*

**Пятніца 5 лютага**

Ад Юркі прыйшоў матар'ял

Шмат працы. Пачала парадкаваць G. E. матар'ял. У абед рабіла для сябе.

В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку.

Прыйшоў пакет з Garland. Прыслалі прыгатаваны заказ на кнігу — мы для Інстытуту набудзем 50 копіяў. Прыслалі таксама й каталёг, дзе ўжо Трыстан абвешчаны. Добра напісаная абвестка. Прыйшла таксама пачка ад Юркі [*Станкевіча*] — з уступам.

Вечарам ужо адпачывала, неяк сёньня асабліва стамілася на працы.

Жанчына з N. J. Art Council ня прыйшла — затрымалася і было ўжо позна — дамовіліся на 15-га. Ужо ў аўтобусе я прыпомніла, што 15-га сьвята. Трэба неяк ёй паведаміць.

**Субота 6 лютага**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі і пачалі працаваць.

Трохі адрываліся на пару хвілінак падчас дня, але ў асноўным працавалі цэлы дзень. Я выкончваю бібліяграфію, а Вітаўт цяпер працуе над Слуцкім паўстаньнем[1].

Прыйшла пачка ад Юркі [*Станкевіча*] з бібліяграфіяй Трыстана. Крыху няроўна выйшла, але ён мае прысланы лепшую адбітку.

[1] *Для кнігі «Byelorussian Statehood».*

**Нядзеля 7 лютага**

Працавалі

Зв. Алеся

**Панядзелак 8 лютага**

Прыйшла ад Юркі бібл. трохі лепш.

**Аўторак 9 лютага**

Занесла Трыст.

Прац. над бібл.

**Серада 10 лютага**

В. у N.Y.

Ліст ад Рамучыхі [*з Чыкага: трэба пазваніць*]

Зв. Юра

Зв. Калоша, у іх усё добра

**Пятніца 12 лютага**

Сёньня вольны дзень, але пагода ня зусім прыемная.

В[*ітаўт*] паехаў з самага раньня ў N.Y. — працаваць з Томам, а я цэлы дзень друкую. У хаце неяк холадна, дык я ўсё бегаю сабе раблю нешта цёплае піць.

Добра папрацавала. В. прыехаў ня позна. Павячэралі і я ўжо не працавала. В. паказаў Тому рэкляму на маю кнігу — ён быў вельмі

зьдзіўлены. Я думаю, што ён не ўяўляў сабе, што я маю такога саліднага выдаўца.

**Субота 13 лютага**

Сёньня зрабіла валасы. Пасьнедалі й паехалі на машыне на працу.

В[*ітаўт*] мае пераглядзець «Homan» і «Нашу Ніву». Мікрафільм «Нашай Нівы» яшчэ ні разу не быў ужываны пасьля таго, як рабілі копіі для мяне. Аказалася, што бібліятэчная копія — нэгатыў — накручаны на іншыя катушкі якія не пасуюць да машыны. Я падмяніла з тымі, што яшчэ была не забрала для а. Надсона. Гэтымі В. карыстаўся, і я іх пакінула ў бібліятэцы, а забрала дахаты нэгатывы, хоць і заплаціла я за пазытыў.

Добра даехалі. І ўжо вечарам адпачывалі.

**Нядзеля 14 лютага**

Сёньня добрая пагода, дык я, як пасьнедалі, памыла бялізну. Крыху зашывала тое-сёе, крыху пагладзіла. Амаль усё падрыхтавала для паездкі. Усё яшчэ не адчуваю, што едзем. Неяк адчуваецца, што ня зусім заслужана гэтае падарожжа, хоць і стаміліся мы апошнім часам.

Па абедзе працавалі. Я яшчэ шмат маю дадаваць да бібліяграфіі.

Мне неяк было неспакойна, што я падмяніла фільмы — па-першае, для а. Надсона добра мець пазытывы, а па-другое, для бібліятэкі лепш мець нэгатыў, каб некалі зрабіць зь яго пазытыў, а нэгатыў пакінуць для перахаваньня. Доўга не магла заснуць, думаючы, як лепш зрабіць. Так ■ ня люблю ўсіх гэтых камбінацыяў — робіш добра, а яшчэ чуешся неяк, як бы вінавата.

**Панядзелак 15 лютага**

Сёньня зноў цэлы дзень працавалі над кнігай[1] — я бібліяграфію, а В[*ітаўт*] — перакладае. Дзень быў спакойны, працавіты.

---

*[1] «Byelorussian Statehood». У кнізе зьмешчана шмат матэрыялаў у перакладзе зь беларускай на ангельскую: артыкулы Езавітава, Варонкі, Захаркі ды інш.*

**Аўторак 16 лютага**

Сёньня дзень прайшоў добра. К[*асінца*] няма, дык усё спакойна.

Крыху друкавала, крыху правярала рэфэрэнсы[1]. Бібліяграфія будзе добрая. Дамовіліся з Davis'ам, што ён праверыць і надрукуе мне на кампютэры. Занесла назад Нашую Ніву і перамяніла. Юра закажа positive.

Вечарам яшчэ выканчвала бібліяграфію. Не ўдалося мне ўсё скончыць, як плянавала, але бальшыня ўжо скончаная.

Крыху пакавалася.

---

*[1] Спасылкі ў кнізе (references).*

**Серада 17 лютага**

Сёньня раніцай зайшла ў Beauty parlor[1]. Крыху падправіла валасы. В[*ітаўт*] таксама сёньня ў N.Y.

Дзень быў даволі заняты. К[*асінец*] прыйшоў раніцай і нарабіў, як заўсёды, суеты. Ён вельмі задаволены са сваёй паездкі.

Я падпарадкавала ўсе свае канцы. Дала Rob Davis бібліяграфію. Ён зрабіў адну пробную старонку. Выходзіць добра.

Па абедзе К. пайшоў. Канец дня быў даволі прыемны.

Вечарам зрабілі стэйк — думалі, што прыедзе Юра. Юра пазваніў, што прыедзе заўтра рана.

[redacted] ўжо была часткова спакаваная, але яшчэ запакавала апошнія рэчы. Шмат з сабой не бяру, бо толькі на 5 дзён.

Пазваніла Алеся. У яе ўсё добра.

---

[1] *Салён прыгажосьці.*

**Чацьвер 18 лютага**

Раніцай прачнуліся добра й хутка пачалі зьбірацца. Былі ўжо гатовыя, як прыехаў Юра.

На аэрадром заехалі добра, там усё хутка залагодзілі й чакалі. Чакалі спачатку на аэрадроме, а пазьней у самалёце. Але нарэшце адляцелі. Ляцелася добра. Мы сядзелі прасторна.

Прыляцелі недзе каля 1-ай. Пакуль усё залагодзілі й прыехалі ў гатэль — то было ўжо каля 3-яй. І добра, бо пакой усё роўна ня быў яшчэ гатовы.

Пагода цудоўная. Яшчэ ў самалёце казалі, што ў Nassau[1] 79°. Нарэшце ўвайшлі ў пакой. Пакой добры, прасторны. Але ўжо сёньня на бераг не пайшлі. Праўда падышлі крыху пад бераг — паглядзець як выглядае. Усё па-старому. Праўда, крыху больш людзей. Наогул больш людна. Прайшліся па горадзе. У горадзе поўна машын, суетліва. У гэтым сэнсе шмат зьмянілася. Больш магазынаў, больш рэстаранаў, больш гатэляў. Мы ўзялі сабе піва, яды й пайшлі ў пакой. Адпачывалі, глядзелі T.V.

---

[1] *На Багамах. 79° паводле Фарэнгайта — 26° паводле Цэльсія.*

**Пятніца 19 лютага**

Сёньня пасьнедалі рана й адразу-ж на бераг. Пагода прыгожая — праўда, крыху, можа, задушна. На беразе цудоўна. Вада такая, як я й прыпамінаю, — мая — спакойная, цёплая, празрыстая, відаць дно. Я дык плюхалася, плюхалася і амаль што ня згубіла дно пад нагамі. Я чытала, загарала, была ў вадзе два разы. В[*ітаўт*] сядзеў на беразе таксама даволі доўга. Пакой доўга не рабілі, а ён любіць пайсьці ў пакой, калі ўжо ўсё зроблена. Пазьней далі пакаёўцы пару даляраў і папрасілі, каб пастаралася рабіць пакой як мага раней.

Вечарам прайшліся па горадзе. Павячэралі ў нейкім рэстаранчыку. Нічога асаблівага, але ня дорага. Тут усё страшэнна дорага.

Пазванілі дахаты. У бабкі ўсё добра, але яна, як заўсёды, гучыць нэгатыўна.

### Субота 20 лютага

Цэлы дзень сядзелі на беразе. Пагода надзвычайная. Купаліся. Вада вельмі прыемная. Вечарам прайшліся былі па горадзе ў кірунку Cable Beach, але нічога цікавага не знайшлі, дык рашылі пайсьці ў рэстаран, што пры гатэлі. В[*імаўт*] неяк нядобра чуецца. Вельмі добра зрабілі, што пайшлі туды. Было вельмі прыемна. Вельмі добрая яда, прыемная атмасфэра. Надзвычайна правялі вечар.

На T.V. вельмі мала чаго глядзець, але добра, што й гэта ёсьць, бо вечарам тут няма чаго рабіць.

В. чуецца лепей, але неяк гэтым разам у яго то тое, то сёе ўсё недалягае.

### Нядзеля 21 лютага

Зрана пасьнедалі й зайшлі ў Грэцкую праваслаўную царкву. Крыху пастаялі. Пагода цудоўная. Усё сёньня ў горадзе закрыта.

На беразе было даволі людна. Я сядзела, загарала, чытала. Аб адзінаццатай пачалі даваць напіткі. Я рашыла паклікаць В[*імаўта*], бо самой не хацелася піць. В. ужо не загараў — крыху спаліўся ды чуецца неяк прастуджана. Я чуюся добра. В. сядзеў пад бяседкай на дворыку.

Каля 3-яй пачаўся дождж ык. Пайшлі ў хату. Дождж хутка прайшоў, але падняўся вецер. Рашылі ўсё-ж узяць яды з сабой і пайсьці ў альтанку, над морам. Было крыху ветрана, але прыемна.

Павячэралі й пайшлі ў пакой. Глядзелі T.V. — усё спорт ды навіны. [redacted] скончыла сваю кнігу, дык няма чаго чытаць.

Я крыху спалілася ў пару мейсцах, але загар ужо пачынае быць відаць.

### Панядзелак 22 лютага

Прахладна
Вячэралі Buffet

Сёньня апошні поўны дзень, што мы тут, у Багаме. Надвор'е пахмурнае, але ня холадна. Зраньня крыху пахадзілі па магазынах. Купілі Юру кашульку багамскую. Я цяпер на беразе. Пуста тут. Пішу дзёньнік. В[*імаўт*] яшчэ ў пакоі, але абяцае, што хутка прыйдзе.

В. прыйшоў. Яшчэ добра пасядзелі. Я нават крыху запалілася, бо не ўважала.

Вечарам схадзілі зноў на буфэт[1]. Вельмі прыемна правялі апошні вечар. Адпачывалі.

---

[1] *У рэстаран, дзе можна за фіксаваную плату есьці, колькі хочаш.*

### Аўторак 23 лютага

Зраньня, хутка па сьняданьні я яшчэ пайшла на пляж — пагода вельмі добрая.

Аб адзінаццатай пайшла ўжо ў пакой — памылася, адзелася й пайшла рабіць апошнія закупкі. Выбраліся ўжо з пакою. Рэчы пакінулі ў lobby[1]. В[*ітаўт*] яшчэ са мной крыху купляў, а тады я пайшла сама, а ён сядзеў на двары.

Купіла ўсё, што задумала, Алесі, Лорэйн і сабе кашулі. В[*ітаўту*] доўга шукала, але знайшла добрую таксама. Купіла і саламяную карзінку для сп-ні Жамойда і нейкую безьдзялушку для бабкі. Купіла цукеркаў для работы.

Аўтобус прыйшоў па нас у час. Да аэрадрому даехалі добра. Там усё спраўна прайшло. Крыху чакалі. Ехалася добра. Праўда, сядзелі ўжо ня самі. У Ньюарку таксама ўсё спраўна было.

Юры ня было — узялі таксі. Пазванілі да бабкі — Юра на лыжах. У хаце шмат пошты.

---

[1] *Фае.*

### Серада 24 лютага

Першы дзень на рабоце.

Званіў, як мяне ня было, Albala[1]. Пазваніў хутка зноў. Ён параіў перарабіць уступ [*да «Трыстана»*] іншым шрыфтам — такім, як і тэкст, толькі меншы памер.

В. таксама ў Нью Ёрку — скрыпты.

Зв. Ю. Ст. — няма.

Зв. Алеся.

---

[1] *З выдавецтва Garland, дзе выдаваўся «Трыстан».*

### Чацьвер 25 лютага

Пазв. Юрачка
Пазв. Ю. Ст.
Tarnawska
Вячэра Candala
Кветкі. Форум
Адпач.

**Субота 5 сакавіка**
Да Бартулёў па касьцюмы

**Панядзелак 7 сакавіка**
B. у N.Y.
Галіна, Васіль, Надзя — забралі касьцюмы

**Серада 9 сакавіка**
B. у N.Y.
Выпадак з Сматрыцкім

**Чацьвер 10 сакавіка**
Паслалі грошы на помнік у Канаду

---

*Да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі спадарства Жук-Грышкевічы зьбіралі грошы на помнік.*

**Пятніца 11 сакавіка**
B. у N.Y,
Ніна Шапіро[1]
Грошы Адаму

---

[1] *Ніна Шапіра — бібліятэкарка Славянскага аддзелу бібліятэкі Прынстанскага ўнівэрсытэту, раілася, якімі каталёгамі карыстаецца Ньюёркская бібліятэка для набыцьця беларускіх кніжак.*

**Субота 12 сакавіка**
Валасы
Бялізна
Працавалі

**Нядзеля 13 сакавіка**
Пасьнедалі
Пагода добр.
Бялізн.
Працав. уступ
South River
сял. калб.

**Панядзелак 14 сакавіка**
B. у N.Y.
Пераглед. кнігу, што Васіль прыс.
Solanus[1]
Прадсь.

---

[1] *Бібліятэчны часапіс, куды Зора напісала заценку.*

**Аўторак 15 сакавіка**
B. у N.Y.
Мат. на сакавік у Кангрэс[1]
Пазв. у Pilsudzki In.

---

[1] *Рассылка сакавіковых лістоў кангрэсмэнам.*

**Серада 16 сакавіка**
В. у N.Y.
Радыё, газэта
Паехаў Касінец. Працавала

**Чацьвер 17 сакавіка**
В. у N.Y.
Газэта

**Субота 19 сакавіка**
Зв. Connie

**Нядзеля 20 сакавіка**
В. у Мерляка сакавік
Я дома працую

**Панядзелак 21сакавіка**
Касінец вярнуўся

**Аўторак 22 сакавіка**
Pilsudzki

**Пятніца 25 сакавіка**
Палучка

**Субота 26 сакавіка**
Валасы
Дождж
Працавала над бібл.

**Нядзеля 27 сакавіка**
Бялізна
Сакавік

**Аўторак 29 сакавіка**
Дазв. да Алесі — яна толькі прыйшла
Bakha
Пазв. Запр. што ў радыё крута з гр.

**Чацьвер 31 сакавіка**
Сэмінар

**Пятніца 1 красавіка**
В. taxy забраў $7.000+
Мая кніга ў RLIN

**Субота 2 красавіка**
Валасы
Базар
Мыла фіранкі
Юра прыязджаў
Прац. бібл.

**Панядзелак 3 красавіка**
Перан. гадзін
Устала рана

**Пятніца 8 красавіка**
Зв. А. — заўтра
Заварыла цеста

**Субота 9 красавіка**
Устала рана. Замясіла цеста. Валасы
В. па Алесю
Сьнедалі
Рыхтавалі Ю.
Вера. Магазын

**Нядзеля 10 красавіка**
Шынка ня добр. Замянілі
Сьвят. абед. Вельмі прыем.
Магазын з А.
В. на аэрад.

**Панядзелак 11 красавіка**
А. біжутэрыя

**Чацьвер 14 красавіка**
Cat. meeting deffered
Кенадзіха ў бібл.

**Пятніца 15 красавіка**
Пайшла з працы раней
Валасы
Том
Albany

**Субота 16 красавіка**
Канфэр.
Дахаты прыемнае падарожжа

**Нядзеля 17 красавіка**
Магілкі

**Панядзелак 18 красавіка**
Аддала Davis'у бібл. праверануе
Дамовіліся з К[*асінцом*], што вазьму заўтра дзень вольны.

Пра канфэрэнцыю нічога не гаварылі. Дэвіс казаў, што даехалі да Нью Ёрку памысна. В. пазваніў Але, што мы ня зможам узяць Лёніка [*Тарасэвіча*] аж да серады.

Званіў Юра. Машына яго нешта сваволіць. Ён прывязе яе ў сераду, каб пачыніць. Якраз добра, бо спаткаецца зь Лёнікам.

**Аўторак 19 красавіка**

Дзень сёньня выглядае добры. Сабраліся. Купілі яшчэ для Дз. Вані калбасы і паехалі. Ехалася добра. Па дарозе ўжо пачало хмурыцца, але настрой усё роўна добры.

Заплацілі таксу[1]. Я даведалася, што рабіць, каб упісаць Вітаўта ў Deed[2]. Трэба будзе рабіць новы [*кантракт*] з адвакатам і зарэгістраваць яго Mays Landing.

У Дз. Вані ўсё добра. Ён добра чуецца. Марыя Аляксееўна едзе на 3 тыдні ў Сав. Саюз.

Я папрасіла Дз. Ваню, каб зрабіў шырмачку для выставак. Абяцаў, што зробіць. Паабедалі зь імі, крыху пагаварылі й паехалі.

Прыехалі ня позна. Адпачывалі.

---

[1] *Падатак.*

[2] *Купчая дамова на нерухомасьць.*

**Серада 20 красавіка**

Зв. Бал. Памёр Lou[1]

Сёньня дзень быў даволі заняты.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку. Мае спаткацца з Алай і забраць Лёніка Тарасэвіча да нас. Мае таксама зрабіць скрыпт у радыё.

Дэвіс таксама цэлы дзень быў заняты і пачаў друкаваць бібліяграфію даволі позна.

Прыходзіў Том — ён нешта працуе над Фрэям зноў, бо хацеў кнігу Ермалінскага.

Я яшчэ затрымалася з Дэвісам, а К[*асінец*] з Томам пайшоў. К. крыху не спадабалася, што Дэвіс для мяне рабіў нешта.

Дома ўжо мяне чакалі В. зь Лёнікам. Юры яшчэ ня было. Чакалі яго крыху, а тады заказалі pizza.

Ужо вячэралі, як пазваніў Юра, што мусіў выклікаць цягач, бо машына ня йшла. Прыехаў даволі позна. Яшчэ крыху пагаварылі і яны яго завезьлі дахаты.

---

[1] *Дзядзька Балерыні.*

**Чацьвер 21 красавіка**

Лёнік сёньня ўжо паедзе.

Сёньня дзень пачаўся непамысна. К[*асінец*] зраньня мне зрабіў выгавар, каб я не давала Дэвісу працы, каб людзі бачылі. Яго раззлавала, што ўчора мы засталіся пазьней. А галоўнае, яго ўзлавала, што ён ня ведаў нічога, што Дэвіс для мяне працаваў.

Мяне гэта пакрыўдзіла моцна. Мелі мы гутарку. Я яму сказала, што буду цяпер купляць сваю паперу.

На сэмінары (Nina Shapiro з Princeton) была другая непрыемнасьць. Па-першае, яна пачала такім тонам, што нібы яна нас вучыць, што такое «Authority», а пазьней пачала даваць прыклады, як было нядобра зроблена. Нашыя заўважылі, што прыклады былі ўзятыя з нашай каталягізацыі. Я была ўжо здорава расстроеная, каб нават зь ёй гаварыць[1].

У хаце ўсё добра.

---

[1] *Бібліятэчныя праблемы: міжбібліятэчныя разыходжаньні. Рэч у тым, што Нью-Ёрнская бібліятэка ў асяродзьдзі бібліятэкараў уважалася як «аўтарытэт»*

*у справе беларускае кнігі, але, відаць, былі ўхопленыя нейкія недакладнасьці ў каталягаваньні. Справа была абмеркаваная і залагоджаная.*

**Пятніца 22 красавіка**

Сёньня палучка. Хадзіла ў банк. Я крыху ўжо адышла ад учарайшага.

Дзень нармальны.

В[*ітаўт*] паслаў Юрку [*Станкевічу*] бібліяграфію і $1000 [*за набор*].

Я пераглядзела «print-outs»[1], што Nina Shapiro дала — яны нашыя. Ну і нахальства!

---

[1] *Раздрукоўкі для сэмінару.*

**Субота 23 красавіка**

Зрабіла прычоску. Сёньня падстрыглася.

Пасьнедалі. Памыла бялізну і тады трохі пераглядала Юркаў набор. В[*ітаўт*] робіць карэкту, а я пераглядаю, каб было ўсё графічна ўніформна.

Званіў Юра. Яму, мусіць, машына патрэбна — усё дамагаецца. Машына яго цяпер у гаражы з трансмісіяй.

Купілі В. бацінкі.

Дзень прайшоў добра. Вячэралі кітайскае.

**Нядзеля 24 красавіка**

Пасьнедалі. Пагода пахмурная. Хутка па сьнеданьні зьезьдзілі на рынак у Патэрсон. Купілі фруктаў, зеляніны, бараніны.

[illegible] яшчэ памыла бялізну. Па абедзе пачало добра хмурыцца. Я пайшла насыпаць падкормку пад кветкі. Якраз у час — пачаў крыху капаць дождж.

Пазванілі Юрку — пра бібліяграфію. Працавалі над карэктай. Ужо амаль скончана. Вітаўт яшчэ мае скончыць бібліяграфіі і каляндар.

Званіў Лёнік — ён хоча прыйсьці ў бібліятэку перагледзець «Ніву» і зрабіць здымкі сваіх карцінаў.

В[*ітаўт*] званіў Сяргею [*Карніловічу*] пра Лёніка. Доўга гаварыў зь ім, а пасьля з Калошам. Яны ўжо рыхтуюцца да Millenium[1]. Ад Тома ліста не атрымалі — мусіць, недзе загубіўся. Хутка ўжо пачнуць будавацца.

---

[1] *Адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі.*

**Панядзелак 25 красавіка**

Дзень сёньня нармальны — як панядзелак. Пакуль раскачаешся пасьля week-end'у.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку таксама. Зраньня ў Тумаша, а пасьля абеду з Томам правяраюць карэкту.

Узяла Diskette для Юркі [*Станкевіча*] з тэкстам бібліяграфіі.

У абед чытала для сябе. Пачала ўжо зьбіраць матар'ялы для наступнай працы — Беларуская перакладная літ. 15-17 ст.

В. прыйшоў позна.

Званіў Юра — даведацца пра машыну. У яго ўсё добра. Будзе званіць у Філадэльфію, каб даведацца пра Fellowship[1]. Мае яшчэ адно interview ў Вашынгтоне[2].

---

[1] *Стыпэндыя пры шпіталі.*

[2] *Юра пляноваў знайсьці рэзыдэнтуру ў шпіталі.*

**Аўторак 26 красавіка**

Працавала вечарам

**Чацьвер 28 красавіка**

В. робіць газэту. Спатканіся

Зноў прых. Mrs Onasis

В[*ітаўт*] сёньня робіць газэту з Шук[*елойцем*].

У нас зноў працуе Mrs Onasis[1].

---

[1] *Жаклін Кенэды-Анасіс, калі бывала ў бібліятэцы, часам працавала ў Зорынай «клетачцы». Падрабязьней пра гэта Зора напісала ў «Запісах» (№ 27, с. 25-26).*

«Яшчэ мне прыпамінаецца адна прыемная сустрэча-падзея, якая, праўда, нічога ня мае да беларускае калекцыі. Мне, тым ня менш, гэтая падзея вельмі памятная. У бібліятэцы недзе напрыканцы 80-х гадоў працавала з матэрыяламі спадарыня Жаклін Кенэдзі-Анасыс, некалі жонка прэзыдэнта Джона Кенэдзі. Яна шукала зьвесткі да свае кнігі «Апошні цар». Пераважна яна працавала ў Славянскім аддзеле. Калі прыходзіла ў наш чытальны зал, тут пачыналася дэфіляда-парад працаўнікоў зь іншых аддзелаў, а то й чытачоў, каб паглядзець, кінуць вокам на спадарыню Кенэдзі-Анасыс. Гэта ўзбуджала, нэрвавала як чытачоў, гэтак і ў значнай меры нашую адміністрацыю. І вось аднаго дня я прапанавала спадарыні Кенэдзі, каб пазьбегнуць гэткіх «зрэлішчаў», працаваць у маёй клетачцы-будачцы. Яна вельмі далікатная асоба, неяк завагалася, не хацела выкарыстоўваць сваё становішча, і дзеля ветлівасьці пачала адмаўляцца. Але, тым ня менш, маю прапанову прыняла й стала працаваць на маім стале, у маёй клетачцы. Была яна сапраўды вельмі прыгожая, шляхотная жанчына. Мела прыемны голас зь невялічкім прыдыхам. Вельмі канцэнтравалася на сваёй працы. Добры ўспамін аб ейнай працы ды ёй застаўся й у мяне, і ў бібліятэцы».

**Субота 30 красавіка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну. Крыху парадкавалася. Зрабіла сёньня вялікую справу — спарадкавала на падстрэшшы. На сваю шафу ўжо не хапіла энэргіі.

Па абедзе прыехаў Юра. Заказалі pizza. Я зрабіла салатку. Прыемна павячэралі. Гаварылі. Юра добра чуецца, адно без машыны яму, відаць, цяжка.

Завезьлі яго дахаты.

Далі яму $200 як падарунак, што атрымаў New Jersey licence[1]. Ды й пачынка ягонай машыны будзе ўжо на нас.

Ён зьбіраецца ў Вашынгтон на канфэрэнцыю. Спадзяецца спаткацца з Алесяй.

[1] *Дазвол на практыку ў штаце Нью Джэрзі.*

**Нядзеля 1 траўня**

Пасьнедалі. Я яшчэ памыла бялізну.

Пераглядала надрукаванае. В[*ітаўт*] пераглядае карэкту.

Заказалі кітайскую страву.

Чытала сваё. Адпачывала.

У нядзелю — асабліва па абедзе, ужо неяк сумна робіцца, што заўтра зноў пачынаецца рутына, зноў будні, зноў толькі адно й чакаеш, каб хутчэй пятніца ды субота.

Я, здаецца, пачынаю крыху ўжо быць гатовай да выхаду на пэнсію. Яшчэ ня зусім, але крыху-па-крысе ўжо гэты праспэкт робіцца ўсё больш і больш прывабны.

**Панядзелак 2 траўня**

Нічога не прыпамінаецца. Панядзелак заўсёды няпрыемны. Пакуль раскачаешся, а тады дні лятуць як страла — і не агледзішся, як ужо й пятніца й канец тыдня.

Юра сёньня паехаў у Вашынгтон. В[*ітаўт*] сёньня з Томам. Раніцай быў у Тумаша — зь ягонай карэктай. Бібліяграфія Скарыны падсоўваецца памалу. Усё сабе йдзе памалу, адно толькі Кавыль з Адамовічам ня рухаецца. Так крыўдна й так сорамна перад Кавылём, ды наагул перад грамадой.

Вечарам сама прыйшла, сама вячэрала. В. прыехаў даволі позна.

**Аўторак 3 траўня**

Нічога асаблівага.

Праўда, знайшла сёньня (тапор пад лавай!) артыкул [*Абрама*] Ярмалінскага пра рукапіс 17 ст. Александрыі ў нашай бібліятэцы.

Пайшла ў Manuscript Div.[1] паглядзець яго. Аказваецца, усе манускрыпты ў Annex, але якраз гэты будзе прынесены, бо яго маюць паказаць савецкім навукоўцам, якія будуць заўтра наведваць бібліятэку. Які зьбег акалічнасьцяў!

В[*ітаўт*] нарэзаў бэзу. Такі ён у гэтым годзе прыгожы.

[1] *Аддзел рукапісаў.*
[2] *Іншы корпус бібліятэкі.*

**Серада 4 траўня**

Прынесла бэз на працу.

Сёньня мне надта баліць галава цэлы дзень.

Па абедзе нават пагаварыла з К[*асінцом*], каб заўтра застацца дома. Але ён папрасіў, каб заўтра прыйшла, але параіў, каб сёньня пайшла дахаты раней і адпачыла.

Пазваніла да Запрудніка, але В[*ітаўта*] ужо там ня было. Пазваніла дахаты, што прыеду раней.

Крыху адпачыла, крыху чытала.

Вечарам званіў Юра. Ён толькі прыехаў з Вашынгтону. Бачыўся з Алесяй. Яны крыху пагаварылі, але на абед не хадзілі. У яе ўсё добра.

Ага, чуць не забылася. Прыходзілі ў бібліятэку два савецкія навукоўцы — Шмідт (сын Отто Шмідта) і [*пакінута пустое месца*]. Паказвала ім сл[*авянскі*] аддзел. Яны зацікавіліся «Часоўнікам» 1630 году — там шмат цікавых маргіналіяў.

**Чацьвер 5 траўня**

Пагода сёньня вельмі няпрыемная — дождж.

Аўтобус ішоў блага. На працу прыйшла ўжо па 9-ай. Ніяк мне не ўдаецца прыходзіць на 9-ую.

Прыходзіла зноў Jacqueline Onasis. К[*асінец*] зноў скача. У яго сёньня заняты дзень: раніцай яна, а па абедзе зьбіраюцца ў нас Trustees[1].

Я чуюся яшчэ неяк трохі ніякава — мусіць гэта мая аларгія альбо сінусавая галаўная боль.

В[*ітаўт*] вазіў бабку да доктара. У яе ўсё добра.

Гатовая Юрава машына.

Адпачывала. Крыху чытала — [*пакінута пустое месца*]. Цікава мне было для агульных ведаў, але такое-ж падлізваньне перад рускімі ды... украінцамі — проста дзіву даешся. Адно што гэта толькі ў [*пакінута пустое месца*] годзе. Можа цяпер яны крыху больш аб'ектыўныя.

---

[1] *Рада дырэктараў.*

**Пятніца 6 траўня**

Дзень дажджлівы. Нічога асаблівага, ні цікавага не было. Палучыла чэк, але не хадзіла ў банк. Цэлы дзень была ў будынку. У абед працавала для сябе — параўноўвала нашую «Александрыю» з Польскай і Лацінскай. Нават пасьля абеду яшчэ крыху чытала. Зрабіла xerox з Польскай.

Ага, К[*асінец*] расказаў мне аб учарайшым паседжаньні і аб тым, што знайшоў [*у стале*] у Тані пігулкі антыпсыхічныя. Ён такі лазун — усё бачыць, усё заўважае.

Вечарам адпачывала. В[*ітаўт*] выкончвае свае біяграфіі[1]. В. забраў Юраву машыну, але Юра сёньня ўжо ня прыедзе — казаў, прыедзе заўтра.

---

[1] *Біяграфіі беларускіх дзеячаў для кнігі «Byelorussian Statehood».*

**Субота 7 траўня**

Зрабіла рана прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну. Пагода над-

звычайная. Рашыла пайсьці на двор працаваць. Вельмі прыемна было, нават крыху падпалілася. Прыйшла ў хату крыху перакусіць. Мы ўсё падчыкваем Юру. Зноў пайшла на двор.

Разьбіраю «Александрыю» — параўноўваю яе з польскай вэрсыяй. Крыху расчаравалася — нашая слова ў слова перакладзена з польскай — ва ўсялякім выпадку напачатку.

Алеся прыслала кветкі.

Каля 6-ай прыйшла ў хату і ўжо адпачывала — баліць крыху галава — мусіць, аларгія.

Ужо зусім вечарам прыехаў Юра. Забраў машыну. Ён быў на моры цэлы дзень — таму ня прыехаў раней. У яго ўсё, здаецца, добра. Нешта толькі не гавора пра Лорэйн. Хутка паехаў. Прыедзе заўтра.

**Нядзеля 8 траўня**

Прачнулася рана з галаўной больлю. Пагода цудоўная. Узяла пігулку, уключыла радыё з клясычнай музыкай і пішу (упісваю, што прапусьціла) дзёньнік. Галава яшчэ трохі пабальвае.

Пасьнедалі. Вітаўт набраў мне два букеты — бэзу й ландышаў. У хаце так пахне — так прыемна.

Пайшла на двор — сёньня ўжо зусім у купальніку сядзела. Добра было — ня так горача, як учора. Папрацавала, пакуль ня скончыла, што мела адбітае з Польскага тэксту [*«Александрыі»*]. Пакуль што зусім аднолькавы тэкст. Юра прыйшоў даволі позна — мы ўжо прачакаліся. Прынёс яшчэ кветак — два вазоны хрызантэмаў і падарунак — набор нажоў. Заказалі кітайскай яды. Разам усе павячэралі. Было вельмі прыемна. Ён яшчэ з намі крыху пабыў. Толькі ўжо як ад'язджаў, я спыталася ў яго пра Лорэйн. Сказаў, што больш яны ўжо ня бачацца.

**Панядзелак 9 траўня**

Панядзелак, як панядзелак.

**Аўторак 10 траўня**

Раніцай зайшла ў банк перамяніла чэкі.

**Серада 11 траўня**

Вітаўт у Нью Ёрку. Быў у радыё, а па абедзе прыйшоў у бібліятэку.

**Чацьвер 12 траўня**

Сёньня зноў працуе Mrs Onasis. Я працую яшчэ над Часоўнікам. Кансультавалася з Kathy з Rare Books[1]. Яна вельмі добра мне памагла — фактычна па абедзе ўзяла матар'ял каб лепш разгледзіць.

Быў сэмінар. К[*асінец*] даволі добра вядзе свае гутаркі.

---

[1] *Аддзел рэдкай кнігі.*

**Субота 14 траўня**

Сёньня рабіла мне прычоску сама боска. Зрабіла новую — добра выйшла.

Пасьнедалі й паехалі ў магазын. Купіла сабе 3 блюзачкі — дзьве шаўковыя й адну cotton.

Памыла бялізну й пайшла на двор — пагода цудоўная. Крыху працавала.

Прыйшла Лорэйн. Яна пахудзела, але выглядае добра. Расказала, што ў іх з Юрам сталася. Юра, нібы-то, мае нейкую другую дзяўчыну, таксама сястру і з Лорэйн парваў. Яна вельмі перажывае. Мы апынуліся ў нейкай дзіўнай сітуацыі — мне прыйшлося яе суцяшаць. Што ў іх там ёсьць, а мы не павінны ў гэта быць уцягненыя. Пасядзела яна крыху, [redacted] дала ёй падарунак на заканчэньне студыяў — аддала ёй $50, што яна была дала на куплю кампютэра для мяне.

**Нядзеля 15 траўня**

Пасьнедалі й пачалі ўжо рыхтавацца да працы — але пазваніў Юра, што прыязджае да нас, каб ехаць у [*фундацыю*] Крэчэўскага на паседжаньне BAZA.

Сабраліся хуценька й паехалі. Папалі ў страшэнны трафік перад G. W. Bridge — дзьве з паловай гадзіны ўзяло нам даехаць да Крэчэўскага. Там ужо канчалі, як мы прыехалі, але яшчэ крыху дзеля нас прадоўжылі. Добра было, што мы прыехалі, падтрымалі.

Едучы назад крыху закранулі справу з Лорэйн.

Дома [redacted] яшчэ крыху зь ім гаварыла. Ён не выглядае, каб меў нейкую другую дзяўчыну, праўда, хутка паехаў да нейкай сваёй калегі-доктара, гуляць у тэніс, але гэта, мусіць, проста сябра. Нас гэта ўсё крыху турбуе, але нічога зрабіць мы ня можам.

**Панядзелак 16 траўня**

Зноў панядзелак, зноў да працы. Панядзелкі такія бываюць даўгія, а пасьля й ня бачыш, куды тыдзень пройдзе.

Юра гэты цэлы тыдзень вольны. Зьбіраецца паехаць на мора, а ў пятніцу для Ricky[1] на вясельле ў Caroline.

---

[1] *Юраў сябра.*

**Аўторак 17 траўня**

Цэлы дзень дождж.

**Субота 21 траўня**

Зрабіла валасы. Рабіла мне зноў мая заўсёдная фрызерка. Выйшла ня так прыгожа, як той раз, але ўсё выглядае добра.

Пасьнедалі і хутка паехалі ў магазын. Я папрасіла В[*ітаўта*] падкінуць мяне ў Пасэйк. Магазыну тога, што я заўсёды В. купляла жакеты, — няма. На ягоным мейсцы нейкі новы адкрыўся. Купіла затое сабе нейкую жакетку й блюзку.

Па абедзе працавала.

Гэты цэлы тыдзень дождж. Ужо надакучыла. Крыху было распагодзілася, дык памыла бялізну.

**Нядзеля 22 траўня**

Сяньня выкончвала карэкту бібліяграфіі. Яшчэ назьбіралася крыху новых «entries»[1]. Заўтра дам Davis'у пераглядзець і пашлецца Юрку [*Станкевічу для набору*].

---

[1] *Пунктаў, пазыцыяў.*

**Аўторак 24 траўня**

Раніцай пазваніла ў Garland наконта кнігі. І якраз-жа сёньня, 24-га мая, выйшла мая кніжка «The Byelorussian Tristan». Паабяцалі мне прысладь тымчасам 2 кнігі, а рэшта хутка мае прыйсьці.

Была сяньня ў бібліятэцы Mrs. Onasis. Сёньня яна працавала ў нашым рабочым пакоі, і мы ўжо яе больш разгледзелі й нават крыху зь ёй камунікаваліся. Яна ўсё-ж вельмі мілая й цікавая.

Так дзень быў, як заўсёды. Крыху раблю для сябе, калі выпадае.

**Серада 25 траўня**

Сёньня дзень пачаўся, як заўсёды. Шмат працы. Раніцай мела паседжаньне з Doares і Seweryn. Выйшла невялічкая прыкрасьць: я перад D. спыталася ў Nathaly, ці залагодзіла яна справу з Szwede[1], а D. нічога пра гэта ня ведала і пачала цікавіцца. Але ўсё залагодзілася.

Была невялікая прыкрасьць і з К[*асінцом*] — ён мне зрабіў заўвагу, што я не залагодзіла ўчора з Віктарам на вечар. Таня наракала, што было шмат працы. Таня робіць выстаўку, дык пачала галаву паднімаць. Трэба сказаць, што К. да мяне быў ня зусім тактоўны, але я ўжо перастала пераймацца гэтым усім.

Вечарам В[*ітаўт*] спаткаў мяне ў Secaucus, і мы схадзілі ў AAA, узялі яшчэ ўсялякіх брашуркаў. Пасьля схадзілі на вячэру ў свой Candelwick*. Было вельмі прыемна.

А дома чакаў нас падарунак — прыслалі дзьве кнігі з Garland. Добра выглядае. В. вельмі задаволены.

---

[1] *Кнігарня.*
[2] *Candlewyck Diner, 179 Paterson Ave, East Rutherford.*

**Чацьвер 26 траўня**

Сёньня паехала раней, але на 9-ую так і не пасьпела.

На рабоце ўсё ОК. З Касінцом так цэлы дзень і не ўдалося пагаварыць — ён нешта круціць, так [redacted] яшчэ й ня ведаю, калі ён паедзе й калі вернецца. Паказала яму кнігу Трыстана. Ён, здаецца, шчыра задаволены. Добра, што я й бібліятэку й яго ўставіла.

Было неяк суетліва цэлы дзень.

Ага, у абед хадзіла яшчэ шукаць для Вітаўта тэчку — знайшла даволі добрую, але мушу яшчэ зь ім узгодніць — ня ведаю, ці апрабуе.

Вечарам прыехала да нас Ball[*arine*] на вячэру. Прыемна павячэралі, гаварылі. Якраз-жа прыйшлі й пачкі з кнігамі. Яна паглядзела, але неяк аднеслася абыякава.

Доўга сядзела. Як яна пайшла, дык мы былі ўжо даволі стомленыя — нават і навіны не дагледзелі.

Пазваніў К[*асінец*]. Сказаў, што будзе ў Вашынгтоне толькі ў пятніцу. У аўторак ужо прыйдзе на працу.

**Пятніца 27 траўня**

Касінца сёньня няма — паехаў на канфэрэнцыю «Millenium of Christianity» у Вашынгтон. Ад беларусаў там будзе Надсон, Пікарда ды й Keenan на поў-беларускі рэфэрат пра М. Грэка і Скарыну. Маюць прыехаць і савецкія. Касінец вядзе адзін «panel»[1].

На рабоце быў невялічкі канфлікт з Таняй, але залагодзілася.

У абед я хуценька падскочыла ў магазын і купіла Вітаўту тэчку.

Зрабіла крыху xerox'аў для сябе. Паглядзела хутка «Alexsandria». Кніжку паказала толькі Глебаву. Неяк пасьля ранішняга канфлікту з Таняй ня было адпаведнага настрою.

Вечарам адпачывала. Званіла Ballarine — усякае сваё глупства гаварыла. Званіў і Лёнік — ён таксама ныцік і на ўсё наракае.

---

[1] *Сэкцыю.*

**Субота 28 траўня**

Сёньня ўжо даволі горача зраньня. Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну — усе мае суботнія абавязкі. В[*італ*] канчаў для Wynara[1].

Хутка прыехаў і Юрачка. Ён пастрыгся — добра выглядае. Паехалі мы зь ім у магазыны. Купілі В. усё, што заплянавала, і яшчэ больш: жакетку, кашулі, лапці, гальштук, ніжнія кашулькі. Купіла й сабе спадніцу й блюзку. Заехалі яшчэ купілі прадуктаў на панядзелак, для пікніку.

Юра хутка паехаў — ён мае рабіць у хаце парадак, а мы парадкаваліся, адпачывалі. В. пайшоў на двор — пафарбаваў і падпарадкаваў стол для пікніку. Пазьней заказалі кітайскую ежу, але неяк не ўдалося сяньня: па-першае, памыліліся яны й далі ня тое, што мы заказалі, а па-другое, ежа была нейкая ня смачная. Трохі сапсуўся настрой.

Адпачывалі. Я сёньня нічога не зрабіла для сваёй працы.

---

[1] *Артыкул пра беларускую бібліяграфію.*

**Нядзеля 29 траўня**

Прачнуліся неяк надта рана і ўжо не заснулі. А 8-ай В[*італ*] паехаў купіў хлеба. Пасьнедалі й хутка пачалі зьбірацца ў [*фундацыю*] Крэчэўскага — там сёньня каталіцкая служба. Айцец Надсон прыехаў з Вашынгтону з канфэрэнцыі. Быў і Пікарда.

Прайшло даволі прыемна — трохі й людзей сабралася. Была й Жучыха з Канады — у іх учора было паседжаньне БНР, перабралі Сажыца. Грошы для кнігі ўжо хутка перашлюць[1].

Далі Надсону дзьве кнігі Трыстана і дзьве для Dingley і для McMillin. Далі гэтаксама ахвяру для бібліятэкі $200.

Прыехалі дахаты памысна, хутка. Перакусілі ды я выйшла крыху на двор. Упісваю дзёньнік — даўно ўжо ня пісала. Горача.

[1] *На кнігу «Byelorussian Statehood».*

**Панядзелак 30 траўня**

Сёньня дзень народзінаў Вітаўта — 61 год. Пазваніла Алеся.

Пасьнедалі, але яшчэ нічога не спраўлялі — чакаем на Юру — ён прыедзе па абедзе. Плянуем зрабіць пікнік. Пагода добрая.

Я парадкавалася з сваім матар'ялам да 16-17 стагодзьдзя бел. літаратуры. разабрала ўсё, што мела ўжо падрыхтавана раней.

Юры доўга ня было. Вітаўт ужо пачаў нэрвавацца. Пасьля 5-ай я пачала рыхтаваць яду ў хаце, бо рашылі, што на двары раскладацца будзе ўжо позна.

Усё добра зрабіла і якраз прыйшоў і Юра.

В. распакаваў падарункі. Усё вельмі пасуе, усё добра падабаецца. Вельмі прыемна правялі вечар.

**Чацьвер 2 чэрвеня**

Дзень сёньня нармальны — нічога.

**Пятніца 3 чэрвеня**

Сёньня палучка, схадзіла ў банк.

На рабоце ўсё О.К.

Рыхтавалася да прыходу Барыса Успенскага. Трэба было залагодзіць з Rare Book Div.[1], каб падрыхтавалі манускрыпты. Візыта прайшла добра — ён чалавек адукаваны, добра арыентуецца ў рукапісах.

Вечарам чакалі званка ад Алесі. Усё падчыквалі яе, можа, пазвоніць, што прыязджае. Нарэшце ўжо каля 10-ай В[*ітаўт*] дазваніўся да яе. Яна прылятае заўтра рана.

[1] *Аддзел рэдкай кнігі.*

**Субота 4 чэрвеня**

Я пайшла рабіць прычоску, а В[*ітаўт*] паехаў па Алесю на аэрадром. Завёз яе да яе сяброўкі з Прынстана, а сам працаваў у бібліятэцы, пакуль яна была там гасьцявала. Званіў Юра — прыедзе заўтра.

Я парадкавалася ў хаце. Перабрала сваю шафу — перагледзела свой гардзіроб летні.

Прыехалі яны недзе перад 2-ой. Мы з Алесяй хутка й паехалі ў магазыны. Купілі яшчэ падарунак для В. ад Алесі. А. купіла сабе яшчэ тое-сёе. Я купіла сабе купальнік і свэтар.

Стамілася я неяк.

Варочаючыся я заказала кітайскую яду. А. паехала да Надзін, а мы з В. павячэралі і адпачывалі.

В. скончыў ужо ўсё з біяграфіямі і храналёгіяй[1]. Чакаем толькі на Тома.

Старалася дазваніцца да Аліка Акановіча — даведацца пра камп'ютар[2].

---

[1] *Для кнігі «Byelorussian Statehood».*
[2] *Алік аддаў нам кампутар.*

**Нядзеля 5 чэрвеня**

Раніцай пасьнедалі і В[*ітаўт*] паехаў у New Brunswick — там сёньня сьвяткаваньне 1000-годзьдзя Хрысьціянства. Рэфэрат чытае Запруднік. Прыедуць гэтак сама [*госьці*] з Канады і з Кліўленду.

Прыехаў Юра на сьнеданьне. Прыемна правялі час. Юра нам з Алесяй дае машыну. Мы яго падвезьлі ў шпіталь, а самі паехалі на shopping. Купілі тое-сёе яшчэ і я сабе і Алеся сабе. Глядзелі шубы для Алесі — нічога надта цікавага. Прыехалі дахаты толькі, каб быў час сабрацца Алесі.

Па дарозе на аэрадром спусьцілі яшчэ Юраву машыну. Добра пасьпелі. Алеся яшчэ й чакала на самалёт. Мы паехалі дахаты й адпачывалі.

**Пятніца 10 чэрвеня**

На рабоце ОК. Купіла фруктаў для Кліўленду. Працавала да 3-яй. Ідучы на аўтобус, купіла булачкаў нашых традыцыйных.

Зрабіла прычоску. Была вельмі задаволеная, што перад 5-ай справілася, аднак В[*ітаўт*] нешта запсіхаваў, што мяне доўга ня было. Амаль не сапсулася ўсё нашае падарожжа, але неяк хутка залагодзілі.

Ехалася добра, праўда, каля Dover, як заўсёды, была крыху затрымка.

Даехалі да Lamar — затрымаліся ў Holiday Inn. Прахладна. Пакой добры. Павячэралі й адпачывалі.

**Субота 11 чэрвеня**

Раніцай нас разбудзіла сірэна пажарная. Недзе ў гатэлі пачулі дым. Усе выйшлі з пакояў. Я, праўда, не выйшла, але ўжо пачала мыцца й зьбірацца на ўсялякі выпадак. Гэта крыху сапсула раніцу.

Пасьнедалі й хутка й паехалі. Ехалася павольна, бо шмат было работаў на дарозе. Прыехалі ў Кліўленд пасьля 12-ай. Калошы ня было — працуе. Сяргей недзе парадкаваўся. Пагода цудоўная. Мне захацелася пасядзець на двары, але нічога лёгкага з сабой ня мела.

Сяргей падвёз мяне пад магазын — купіла сабе кароткія штаны й кофтачку. Сядзела, загарала, перачытала ўголас рэфэрат. В[*ітаўт*] — спаў. Як прыйшоў Калоша — пайшлі павячэраць. Пасьля заехалі да Рытар. І ў яе яшчэ мусілі паесьці. Паклікалі Сяргея на дапамогу. Рытарыха робіцца зусім ня цікавай — усё штучнае захапленьне, усё пра старое каханьне.

Вечарам доўга ўжо не сядзела — была стомленая.

**Нядзеля 12 чэрвеня**

Раніцай усталі ня позна. В[*ітаўт*] запакаваў кампютар[1]. Я ледзь памылася — у душы ня было цёплай вады, а тая, што была, дык нейкая застаялая, ня сьвежая. Цэлы дзень пасьля я чула на сабе пах.

Паехалі ў царкву. Пагода добрая — ня горача.

Пасьля царквы — на Полацак. Перакусілі і хутка й мой рэфэрат. Людзей крыху сабралася. Вельмі ўсё добра прайшло — усе слухалі вельмі ўважліва, усім спадабалася. Крыху й кнігаў прадалі.

Пагаварылі зь людзьмі яшчэ ды хутка й паехалі.

Ехалася добра. Шмат станавіліся, бо я піла соду й мусіла забягаць у ўборную. Зноў крыху з мачой нешта не ў парадку. Але пад канец падарожжа ўжо пачулася лепей.

Затрымаліся ў Danville у Best Western. В. схадзіў на яду, а я памылася — нарэшце збавілася ад запаху.

---

[1] *Які аддаў Алік Акановіч.*

**Панядзелак 13 чэрвеня**

Раніцай не сьпяшаліся. Пасьнедалі ў матэлі й паехалі. Ехалася добра. Пагода прыгожая, праўда, ужо адчуваецца, што будзе горача.

Прыехалі дахаты пасьля 12-ай.

Яшчэ добра адпачылі.

**Аўторак 14 чэрвеня**

Адчуваю, што пачынаецца прастуда. Раніцай яшчэ тое-сёе залагодзілі. Паехалі ня позна, бо В[*ітаўт*] меў спаткацца з Шук[*елойцам*] перадаць яму нешта для Лёніка.

На рабоце ўсё ОК. Купіла трохі ўсякай дрэні, бо сёньня з машынай, дык можна забраць.

В. прыйшоў ужо пад вечар. Доўга й не прыйшлося працаваць, бо пайшоў па машыну. Даехалі цудоўна. У аўторкі вельмі прыемна працаваць.

**Серада 15 чэрвеня**

Чуюся блага. В[*ітаўт*] сёньня працуе з Томам.

**Пятніца 17 чэрвеня**

Прастудна чуюся.

Сёньня палучка. В[*ітаўт*] зайшоў забраў чэк і спарадкаваў у банку.

Пасьля прыйшоў у біб. і падчэкваў Тома [*Бэрда*]. Том сёньня ў Польскім кансуляце — залагоджвае справу зь візай. Мае ў нядзелю адлятаць, а візы яшчэ ня мае.

Не дачакаўся, пайшоў, бо мусіў забраць машыну з гаражу.

Том прыбег ужо пасьля 4-ай. Дастаў візу! Я перадала яму матар'ял ад Вітаўта — тэксты для розных аказыяў па-беларуску.

**Субота 18 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі, і я яшчэ крыху працавала над рэфэратам. Выйшла крыху на двор — пагода цудоўная. Прачытала ўголас свой рэфэрат — здаецца, складна выходзіць.

В[*ітаўт*] купіў булачкаў і віна.

Паехалі ў [*фундацыю*] Крычэўскага недзе каля 5-ай. Даехалі вельмі добра, адно круціліся доўга, шукалі, дзе прыпаркаваць.

Сабралася крыху людзей. Запруднік і Том вельмі добра сказалі ўступнае. Рэфэрат мой быў, здаецца, добры. Людзі задаволеныя. Прадалі крыху кніжак. Перадала з Томам [*тое-сёе*] для Барскага.

Прывезьлі Васіля [*Русака*] пад аўтобус. Галіна й Надзя ня прыехалі — не захацелі аўтобусам і subway[1], а Васіль не захацеў браць машыну.

Мы вельмі задаволеныя зь вечару. Адпачывалі.

---

[1] *Мэтро.*

**Нядзеля 19 чэрвеня**

Усё яшчэ прастудна чуюся. Адпачывала цэлы дзень. Нічога не рабіла. В[*ітаўт*] таксама крыху адпачывае, крыху нешта робіць.

Сёньня Том паляцеў у Польшчу.

Званіла Надзя. Выбачалася, што ня прыехалі ўчора на зборку.

**Панядзелак 20 чэрвеня**

Пайшла на працу, але чуюся слабавата. Сказала К[*асінцу*], што заўтра ня прыйду на працу.

**Аўторак 21 чэрвеня**

Узяла Sick day[1].

Сёньня цудоўны дзянёк — праўда крыху горача.

Паехалі ня позна. Купілі яшчэ Дзядзю Ваню калбасы. Даехалі добра. Ягады сёньня ўжо апошні дзень. Вось як добра папалі. Наагул гэта ўжо апошні раз, бо яны больш ня будуць разводзіць клубніку. Было крыху горача, але сабралі дзьве box[2]. Вельмі салодкая, араматная яна сёлета!

Заехалі да Дзядзі Вані. У іх добра, свежанька. Перакусілі. Яна[3] расказвала пра сваю паездку ў Сав. Саюз. Задаволеная, але больш, здаецца, не зьбіраецца ехаць туды. Прывезла мне дзьве лялькі льняныя — нічога асаблівага.

Пасядзелі крыху зь імі. Д. В. яшчэ шырмачку ня скончыў.

Дахаты даехалі добра.

Я крыху лепш чуюся, але ўсё яшчэ горла баліць.

Званіла Галіна [*Русак*] — шкадавала, што ня была на зборцы.

---

[1] *«Хваробны» дзень.*

[2] *Скрынкі.*

[3] *Марыя Аляксееўна.*

**Серада 22 чэрвеня**

В[*ітаўт*] у N.Y., але заняты з зубамі і інш., дык у Finnair, як пляналі, не пайшлі. Дамовілася на заўтра.

В. пазваніў у New York upstate[1] — вішні будуць пасьля 1-га ліпеня[2]. Якраз добра для нас, бо я ня буду браць тыдня ў канцы чэрвеня. Пару дзён заэканомлю.

---

[1] *Поўнач штату Нью Ёрк.*

[2] *Мы любілі зьбіраць вішні.*

**Чацьвер 23 чэрвеня**

Раніцай я зрабіла халаднік.

В[*ітаўт*] у N.Y. — схадзіў у Радыё, да Тумаша.

А 2-ой спаткаліся каля львоў і пайшлі заплаціць за білеты ў Finnair. Усё добра залагодзілі. Паабедалі яшчэ.

Я заказала яшчэ 10 кніжак [*«Трыстана»*] у Garland. Прыйшоў ліст ад O. Bachum — нічога з перакладамі ня выйшла.

Быў сёньня сэмінар — нічога асаблівага. Ехала дахаты з Ball[*arine*]. В. працуе над «Запісамі».

Я разглядала карты Стакгольму — гатэль наш па-за горадам.

Юра ня прыехаў па ягады.

Званіў Акула пра «Запісы»[1]. Мы яго папрасілі, каб зьмяніў бачынкі Пасхаліі, але ён нешта артачыцца — кажа, што шмат перарабляць і ня справіцца да сустрэчы.

---

[1] *Кастусь Акула набіраў 18-ты выпуск «Запісаў».*

**Пятніца 24 чэрвеня**

В[*ітаўт*] сёньня ў N.Y. зноў — залагоджвае зь Лёнікам [*Тарасэвічам*] банкаўскае конта.

Прыйшоў у бібліятэку крыху папрацаваў, ды мы разам паехалі ў радыё — узялі на абед Адамовіча — на яго дзень народзінаў. Ён ужо зусім здаецца. Адно каб скончыў Кавыля. Купіла яму раніцай нейкі падаруначак. Канец дня прайшоў нармальна. К[*асінец*] пайшоў рана. Быў у бібл. Каладзій[1] — ён хутка скончыць карту.

В. званіў Акулу наконта карэкты ды старонак Пасхаліі. Усё-ж удалося нам яго пераканаць, каб рабіў на кожнай бачыне толькі па адной арыгінальнай старонцы, а не па дзьве, як ён задумаў.

Ага, прыгадала К[*асінцу*], што яшчэ няма ў Staff news[2] пра маю кнігу.

Прыйшоў ліст з Швэцыі пра дзіцячую бел[*арускую*] Біблію. Таксама два заказы на маю кнігу.

---

[1] *Колодій — украінец, географ-картограф. Унівэрсытэт канчаў у Вільні перад II сусьветнай вайной. Добра ведае беларускі рух. Мы зь ім добра працавалі-сябравалі. Ён рабіў карту для кнігі «Byelorussian Statehood».*

[2] *Бібліятэчны бюлетэнь.*

**Субота 25 чэрвеня**

Зрабіла сёньня завіўку. Добра справілася.

Пасьнедалі й я стала парадкавацца.

Званіла Галіна — хоча, каб вечар для Лёніка зрабіць у New Brunswick'у. Вельмі добра будзе, калі з нас зьнімецца гэты клопат арганізацыйны. Галіна надта-ж заварушылася.

Зв. Ball[*arine*] — дамовіліся з Connie — паедзем на наступным тыдні ў Cape Cod.

Пагода цудоўная. Выйшла на двор і ўпісваю дзёньнік. Прыехаў Юра. Трохі пасядзеў, забраў клубніку.

Прыйшоў чэк з іншуранса старога за ногі[1] — добра.

---

[1] *Страхавая кампанія кампэнсавала выдаткі на лячэньне ног.*

**Нядзеля 26 чэрвеня**

Цэлы дзень валяліся. В[*ітаўт*] крыху працуе і крыху адпачывае. Гэтаксама й я.

Зьезьдзілі на рынак, але нічога цікавага ня купілі — крыху фруктаў і steak.

Сёньня крыху дажджліва.

**Панядзелак 27 чэрвеня**

Зноў пачынаецца руціна — надакучае ўжо здорава.

Пазваніла ў Garland — замовіла яшчэ 10 кніжкаў.

**Аўторак 28 чэрвеня**

На рабоце нічога цікавага, але ўжо толькі пару дзён засталося перад канікуламі, дык крыху весялей.

Прыйшла ад Юркі [*Станкевіча*] карэкта[1]. Пакуль што якое, можна ўжо пачынаць рабіць індэкс.

Крыху працавала.

В[*ітаўт*] выкончвае «Statehoood» ды робіць карэкту Тумашавай бібліяграфіі.

Акула гэтаксама выкончвае «Запісы» — будуць гатовыя да спатканьня.

Прыйшлі пачкі ад Highsmith з acid-free boxes[2].

---

[1] *Кнігі «Byelorussian Statehood».*

[2] *Скрынкі з спэцыяльнай паперы для складаньня архіваў.*

**Серада 29 чэрвеня**

На рабоце нічога асаблівага.

Атрымалі кнігі ад нейкай сям'і. Сярод кніг шмат перапіскі, некаторыя каштоўныя рэчы. Я каталягавала альбом аўтографаў.

Крыху ўжо пачынаю парадкавацца перад вакацыямі. Праўда, гэтыя mini-vacation будуць і перарваныя й кароткія.

Вечарам мелі ехаць зь Юрам купляць столік для кампютэра, але ён

пазваніў і гучаў надта стомлена, дык я сказала, каб не прыязджаў, а адпачываў. Прызнацца, і [redacted] была стомленая.

Каладзій прынёс ужо амаль гатовую карту для апошняй праверкі — абяцае, што ў аўторак наступны ўжо скончаць.

**Чацьвер 30 чэрвеня**

Сёньня шмат працы — хачу ўсю [*адміністрацыйную*] статыстыку [*аддзелу*] падкончыць.

Усё больш і больш мне пачынае надакучаць у бібліятэцы, асабліва надакучае Касінец — ягонае падазрэньне да ўсіх, ягоныя саркастычныя і абразьлівыя заўвагі пра іншых супрацоўнікаў. Міжволі задумваешся, што ён пра цябе гавора альбо думае. Праціўны ён. Адно церпім, бо ўжо ня доўга застаецца, ды ўсё-ж ён мае пэўныя дадатныя якасьці.

Узяла чэк[1]. Купіла Connie падарунак — шалічак.

Вечарам прыгатавала халаднік — думала, прыедзе Юра, але ён пазваніў, што ня можа прыехаць — заняты ў шпіталі.

В[*ітаўт*] быў таксама ў Нью Ёрку. Адамовіч крыху працуе з Кавылём. Далі $200 для «Дубінаў»[2].

---

[1] *Зарплату.*
[2] *Мастацкі ансамбаль зь Беласточчыны.*

**Пятніца 1 ліпеня**

Сёньня я дома. Крыху парадкавалася рана — падрахавала чэкі. Памыла бялізну.

В[*ітаўт*] паехаў у Нью Ёрк. Меў дэнтыста, залагодзіў у банку, схадзіў у радыё.

Пазваніла Алеся, прывітала мяне з днём народзінаў. Яна яшчэ ў Нямеччыне і ня ведае, калі вернецца. Выглядае, што яна добра чуецца, добра ёй паводзіцца. Шмат працуе.

А 4-ай я пайшла зрабіць прычоску, бо заўтра думаем выехаць рана.

Паехалі зь В. на вячэру. Добра правялі час.

Прыехалі дахаты і мелі яшчэ торцік з бабкай[1]. Юра ня змог прыехаць — ён сёньня дыжурыць. Прыйшлі кветкі ад Lorrain. Пазьней яна яшчэ й пазваніла. Што я магу зрабіць? Юра непарушны.

---

[1] *У Зоры дзень народзінаў.*

**Субота 2 ліпеня**

Пагода цудоўная.

Выехалі рана, але дарога была вельмі даўгая й нэрвовая. Прыехалі да Connie[1] а 2:30. Яна ўжо мела прырыхтаваны пачастунак. Перакусілі й сталі разглядаць рэчы. Box'ы[2] для біжутэрыі, што яна прыгатавала, й дарагія й малыя — зусім ня тое, што я хацела й спадзявалася.

Выбрала я сёе-тое, але нічога надта цікавага. Connie неяк ня была ахвочая ні спусьціць цаны, ні заахвоціць ніяк. Не дала, як заўсёды раней рабіла, ніякага падаруначку. Я, прызнацца, засталася вельмі незадаволеная. Наагул яна неяк зьмянілася. Не такая ўважлівая, не такая цёплая, як была раней. Ball[*arine*] пайшла ў царкву, а мы скончылі зьдзелку — купілі на $930. Крыху біжутэрыі купіла.

Паехалі на вячэру — гэта быў Ball. падарунак на зборны дзень народзінаў — Вітаўтаў, Connie і мой. Крыху яшчэ пасядзелі ды пайшлі спаць.

Юра прыехаў да бабкі і начаваў дома.

---

[1] *Коні — цётка К. Балерыні, жыла на Кэйп Код, займалася купляй-продажам срэбнага антыкварыяту.*

[2] *Скрыначкі.*

### Нядзеля 3 ліпеня

Пагода цудоўная.

Прачнуліся рана, ляжалі й гаварылі. Пачалі рухацца недзе пасьля 7-ай. В[*ітаўт*] заўважыў у пакоі прыгожы столік, якога я раней ніколі не заўважала і які можа служыць для біжутэрыі. Рашылі спытацца, ці не прадасьць яна яго.

Пасьнедалі, і Connie прынесла яшчэ рэчаў паглядзець. Я купіла яшчэ невялічкую пасудзінку і купілі яшчэ той столік. Я вельмі задаволеная — больш чым учарайшай пакупкай.

Паехалі ня позна. Ехалася добра. Усю дарогу гаварылі пра Connie, як яна зьмянілася. Гэтая візыта ня была такая прыемная, як заўсёды. Не адчувалася, што мы былі «welcome»[1].

Прыехалі дахаты і доўга яшчэ сядзелі й гаварылі пра яе — такі прыкры асадак застаўся з паездкі.

Прыехаў Юрачка. Прывёз мне вазончык. Як паехала Ball[*arine*] — заказалі pizza. Вельмі прыемна правялі вечар разам. У Юры ўсё добра.

---

[1] *Вітаныя госьці.*

### Панядзелак 4 ліпеня

Учора званіў Калоша — Сяргей [*Карніловіч*] дазваніўся ў Варшаву — Том вяртаецца ў аўторак.

### Субота 9 ліпеня

Усталі рана й паехалі адразу ў вішні. На двары горача, але, пэўна-ж ня гэтак, як учора па абедзе. Добра сабралі — сёньня натрапілі на добрыя, чорныя, салодкія вішні.

Прыехалі яшчэ ў матэль, памыліся й паехалі.

Ехалася добра, але 17-ая дарога надта-ж кручаная і даволі стамляючая. Заехалі ў Montecello, каб набраць газаліну. Праехалі па гора-

дзе — купілі баранкаў. Усё тут па-старому. Заўважылі, што тут значна халадней[1].

[1] *Недалёка ад беларускага цэнтру адпачынку «Бэлэр-Менск».*

**Нядзеля 10 ліпеня**

Сёньня дома — валяемся. Горача. Уключылі А.С.[1] у маім пакоі. Я сабрала свой кампютарны стол. Доўга вазілася, але зрабіла амаль усё сама.

Паставіла ўсё на столік і пачала парадкаваць свае паперы.

Дзень прайшоў памысна. Вечарам, ужо позна, пазваніў Том — заўтра спаткаюцца з В[*ітаўтам*] і будуць працаваць над карэктай[2].

[1] *Кандыцыянэр.*

[2] *Ангельскага тэксту кнігі «Беларусы ў ЗША».*

**Панядзелак 11 ліпеня**

Сёньня вельмі горача. В[*ітаўт*] паехаў да Тома — робяць апошнюю карэкту.

Я соўгаюся па хаце. Уключыла А.С. і крыху чытала, крыху глядзела T.V. Нічога неяк ня робіцца — нават не адпачываецца як трэба.

Зьезьдзіла зрабіла прычоску ў Placido. Не зрабілі даспадобы. Прыехала дахаты й перарабляла.

Так цэлы дзень і правалялася.

Пазваніў Том — ён перадаў мае просьбы пра мікрафільмы Барскаму (Тайна-тайных) і Туронку (Тундаля). Напісала Туронку пісульку, каб зрабіў цэлы сьпісак.

Прыехаў В. і мы паехалі ў New Brunswick. Вечар зь Лёнікам прайшоў добра — было крыху людзей. Прадалі дзьве мае кніжкі.

Едучы дахаты, заехалі яшчэ ў наш рэстаранчык — павячэралі.

**Нядзеля 31 ліпеня**

Дзень прайшоў ужо «на чамаданах». Зраньня, праўда, яшчэ пасьнедалі нармальна. А 3-яй гадзіне прыехала па нас Ball[*arine*] і хутка й паехалі на аэрадром. Добра ехалася й прыехалі даволі рана, але ўжо была даволі вялікая чарга здаваць рэчы. Як прыйшла нашая чарга, выглядала, што ня было добрых месцаў сядзець разам у некурачым аддзеле. Вельмі сымпатычная дзяўчына дала нам сядзеньні ў першую клясу. Так нам было там раскошна й прыемна. Ніколі яшчэ мы ў першай клясе не ляцелі. І яда, і пітво, і кіно, і лапцікі, і ўсялякія іншыя выгоды — усё задарма. Хоць стаміліся, бязумоўна, начным падарожжам, але былі вельмі задаволеныя.

**Панядзелак 1 жніўня**

Прыляцелі ў Гэлсінкі каля 12-ай. Ніякіх фармальнасьцяў — усё хутка, проста. Разгледзеліся. Памянялі грошы на аэрадроме, даведаліся, як даехаць да цэнтру гораду й паехалі.

Пакункаў у нас ня шмат, дык добра, спраўна. Аўтобус нас прывёз у цэнтар, пад чыгуначную станцыю. Па картах ужо ведалі больш-менш, куды ісьці й пайшлі пад гатэль пехатой. Знайшлі добра, хоць В[*imaўm*] ужо пачаў злавацца.

Гатэль добры. Пакойчык не вялікі, але выгодны. Прахладна, сьвежа. Крыху адпачылі й пайшлі крыху прайсьціся, разгледзецца.

Знайшлі рынак. Хоць крыху марасіў дожджык, але было прыемна. Убачылі й праваслаўную катэдру, абышлі, але ўсё было закрыта. Спусьціліся зноў на рынак. Купілі парэчкаў — у самаробных літровых кубках прадаюцца. Кіслыя. Гэта была нашая першая пакупка ў Фінляндыі.

Ідучы ўжо назад, убачылі ў парку выступ — народныя танцы. Затрымаліся, пасядзелі, паглядзелі. Есьці неяк у рэстаране не хацелася. Купілі нейкіх булачкаў і пайшлі назад у гатэль. Адпачывалі, глядзелі T.V. Яшчэ ўсё не прыстасаваліся да зьмены часу.

**Аўторак 2 жніўня**

Пасьнедалі ў гатэлі вельмі добра. Гэта самае прыемнае ў эўрапейскіх гатэлях — сьняданьне complementary[1]. Пайшлі ў бібліятэку. Па дарозе крыху пасварыліся — у якім кірунку ісьці, але хутка зарыентаваліся, добра знайшлі бібліятэку і сталі працаваць. Каталёгі ў іх, праўда, нейкія блытаныя, але знайшлі шмат матар'ялаў цікавых. Добра — і пэрыядычныя й сэрыйныя выданьні на адкрытых паліцах.

Спаткаліся з Cynthia Whittaker[2]. Сяньня прылятае й яе муж. Дамовіліся заўтра спаткацца разам.

Добра папрацавалі. В[*imaўm*] знайшоў бел. газэты, якіх у нас няма: «Дзяньніца», «Чырвоны Шлях», календары «Нашай Нівы». [redacted] крыху глядзела выданьні «Маладняка», крыху сёе-тое для сябе пераглядала.

У абед зусім зрабілася соннай і выйшла крыху прайсьціся й выпіць кавы. Трэба сказаць, што тут усё вельмі дарагое — кубачак невялікі кавы каштуе ў самым захудаленькім кафэ каля даляра. Прайшлася пад мора.

Папрацавалі да 6-ай, да закрыцьця. Павячэралі ў сваім гатэлі — яны для нас змайстравалі даволі смачную вячэру. Адпачывалі, глядзелі T.V. Тут ёсьць праграмы на ангельскай мове. Усё яшчэ не прыстасаваліся да новага часу — сярод ночы прасьнешся.

---

[1] *Кошт сьнядання ўваходзіць у кошт побыту (?).*

[2] *Знаёмая зь Нью Ёрку.*

**Серада 3 жніўня**

Сёньня па сьнеданьні адразу-ж пайшлі ў бібліятэку. Там ужо кніжкі нашыя ляжалі. Працавалі ды заўважылі, што нейкі старычок прыглядаецца да нашых газэтаў, што ляжалі каля нас на возіку. Пасьля некаторага часу ён на чысьцюсенькай бел. мове пытаецца ў нас: «Ці размаўляеце вы па-беларуску?» Якое было наша зьдзіўленьне, як

ён назваў сябе Вало. Ніколі мы й ня марылі, што гэты бел[*аруска*]-фінскі мастак яшчэ жыве і жыве ў Фінляндыі і што тут, у бібліятэцы гэтак пазнаемся. Доўга зь ім гаварылі — ён запрасіў нас прыехаць заўтра да яго ў Hammelina[1]. Вось неспадзяваная прыемная сустрэча! Былі мы цэлы дзень пад гэтым уражаньнем.

У абед схадзілі яшчэ памяняць грошы — хутка тут грошы ідуць.

«Савецкай Беларусі»[2], што В[*ітаўт*] учора заказаў, яшчэ няма. Я пераглядаю вельмі добрую працу пра «Тайна-тайнаў». У нас у бібл. гэта ёсьць, але ў Slav. Reserve, дык добра было тут азнаёміцца.

Пайшлі зь біб[*ліятэкі*] крыху раней, каб перад спатканьнем з нашымі знаёмымі яшчэ крыху агледзецца. Яны прыйшлі па нас у гатэль, і мы спачатку зайшлі ў вельмі прыгожы, самы высокі ў Helsinki бар і выпілі па чарцы. Тады на трамваі праехаліся — першы раз — у рэстаран. Вельмі цікавы рэстаран, дзе вучні кулінарнай школы пры ўнівэрсытэце прыгатоўваюць свае шэдэўры. Добра павячэралі. Прыемна пагаварылі зь імі. Яны абодва вельмі цікавыя людзі, добра ведаюць горад. Dick Wade — гісторык і ньюёркскі палітык. Шмат каго ведае. Сапраўды быў прыемны вечар, хоць, прызнацца, мне напачатку й ня вельмі хацеласяісьці.

Назад ішлі пехатой. Яшчэ крыху пабачылі горад, фактычна, ускраіны, могільнік, з праваслаўнай часткай. Яны жывуць недалёка ад набярэжнай. Нам яшчэ кавалачак было ісьці. Стаміліся, але прыемнае гэта стамленьне. Заўтра да Вало. Расказалі й ім пра нашу сустрэчу з Вало.

---

[1] *Hämeenlinna, горад за 170 км ад Хэльсынкі.*
[2] *Газэта «Савецкая Беларусь» за 1920-я гады.*

**Чацьвер 4 жніўня**

Раніцай пасьнедалі, як звычайна, і пайшлі на чыгунку. Знайшлі карацейшую дарогу. Разьведалі, як ехаць у Turku. Купілі білет і паехалі ў Hammelina. Ехалася вельмі добра. Крыху марасіць дожджык, але добра дабраліся да Вало — ён нам добрыя інструкцыі даў.

У яго так чысьценька, акуратна, прыемна. Шмат ён нам расказаў пра Менск у 20-х гадох, пра сваё жыцьцё. Вельмі ён цікавы. Добра мы чуліся, і ён, здаецца, з намі добра чуецца.

Павёў ён нас у сваю студыю.Там паглядзелі ягоныя карціны. Цікавых шмат, але каб такія ўжо асаблівыя — то не сказала-б. Яшчэ што цікава — паказаў ён нам свой дзёньнік дзіцячы. Пачаў ён яго ў 7 гадоў, але такі цікавы, такі наглядальны й разумны, аж дзіва. Дзёньнік гэты (пачаў яго ён па-расейску, а пазьней ужо на фінскай мове) цяпер друкуецца ў Фінляндыі. Падараваў нам «print» зь менскіх літаграфій 30-х гадоў, «Ранішняя гімнастыка» зь ягонай першай жонкай (беларускай — Лена Ніканові) як мадэль.

Вярнуўшыся назад да яго, яшчэ пачаставаў нас фруктамі — ён вэ-

гітарыянец. Вельмі прачульлівы быў мамэнт, як мы ўбачылі на стале букецік васількоў. Ён раніцай схадзіў на рынак і купіў іх: «Беларусы любяць васількі».

Вельмі прыемна правялі мы зь ім колькі гадзінаў. Правёў ён нас да цягніка. на разьвітаньне нават прасьлязіўся. У цягніку ўжо прасьлязілася й я. Так дзіўна — толькі ўчора спаткаліся з чалавекам, правялі зь ім літаральна пару гадзінаў, а разьвіталіся, як са старым знаёмым.

Прыехалі ў Гэлсінкі добра. Павячэралі й адпачывалі.

**Пятніца 5 жніўня**

Выпісаліся з гатэля. Пакінулі рэчы зь імі. Зайшлі яшчэ ў бібліятэку. В[*ітаўт*] пераглядаў яшчэ газэты. А гадзіне 1-ай забралі рэчы й пайшлі на станцыю.

Паездка ў Турку ня была надта прыемная — шмат народу ў цягніку. Добра, што мелі зарэзэрваваныя мейсцы.

У Турку прыехалі ня позна. Пагода даволі добрая. Да гатэлю дайшлі пехатой. Пакой вельмі добры — хіба што найлепшы з усіх. Прайшліся крыху па гораду. Зайшлі ў праваслаўную царкву — крыху пастаялі на службе — па-фінску. Каля царквы заўважылі рускі рэстаран — Antania. Вельмі прыемна павячэралі.

Пайшлі ў пакой і ўжо адпачывалі. Натрапілі на рускую станцыю на T.V. В. цэлы вечар глядзеў. Былі й цікавыя нават перадачы[1].

---

[1] *Савецкі тэлеканал зь Ленінграду.*

**Субота 6 жніўня**

Зраньня ідзе дождж. У мяне крыху сапсуўся настрой — што мы будзем рабіць да 9-ай гадзіны? Пасьнедалі й да 12-ай пасядзелі яшчэ ў гатэлі. В[*ітаўт*] глядзеў рускія перадачы й завяраў мне, што як нам ісьці — распагодзіцца. Так і было.

Выпісаліся, але пакінулі рэчы ў гатэлі й пайшлі аглядаць Турку. Хадзілі ўсюды, дзе было можна, дзе было адкрыта: і ў старую царкву і проста па горадзе, па набярэжнай, у парках, у музэях.

Тады ўзялі аўтобус на стары замак. Пагода зусім распагодзілася. У замку глядзелі выставу 500-годзьдзя фінскай кнігі. Селі на дворыку выпілі кавы. Я пачулася ў сваёй стыхіі — на двары сярэднявяковага замку. Самы замак у сярэдзіне вельмі прыгожы, рэстаўраваны, але зрабіў на мяне меншае ўражаньне, як двор. На двары я зусім была перанеслася ў старую эпоху — нават прасьлязілася.

Падышлі пад Silja Line — разьведалі, што й як, каб ужо як прыедзем з рэчмі, ведалі куды ісьці.

Паехалі назад у горад. І ўжо хутка забралі рэчы й паехалі на Silja. Там даволі доўга чакалі. Я запісвала дзёньнік, дык час даволі хутка прайшоў.

Заладаваліся на параход. Кабінка нашая прасторная, зручная, з уборнай і душам. Яшчэ было сьветла і добра былі відаць астраўкі — архіпэлаг, якіх там тысячы.

Адразу-ж пайшлі ў рэстаран, але, на жаль, у сморгасборд ужо ня было мейсца, а да наступнай раты (каля 11-ай) не захацелі чакаць. Павячэралі ў кафэтэрыі. Дорага й ня смачна. Яшчэ крыху пасядзелі ды пайшлі адпачываць.

**Нядзеля 7 жніўня**

Прачнуліся ўжо незадоўга перад прычалам, хуценька памыліся, сабраліся й выйшлі яшчэ выпіць кавы, але чарга была такая вялікая, што мы зразыгнавалі[1]. Неяк дарога на параходзе нам не ўдалася.

Прыехалі ў порт[2] і даволі хутка зарыентаваліся, куды й як ехаць. Да мэтро даехалі аўтобусікам, а тады ўжо мэтро (якраз-жа гэта была нашая лінія) даехалі да гатэлю. Была нядзеля, ранічка, дык людзей у мэтро было мала й мы вельмі добра даехалі й разгледзіліся.

Да гатэлю дайшлі пехатой. Праходзілі каля вялікага Shopping Center.

У гатэлі замэльдаваліся ды яшчэ й пасьнедалі.

Пакой нічога сабе, але можна было-б спадзявацца лепшага, мяркуючы па lobby[3]. Крыху ляглі адпачыць — аж тут тэлефон. Звоніць Gustafson. Ён пакінуў быў нам message, але мы не дасталі яе. Дамовіліся, што яны прыедуць да нас у гатэль праз якую 1½.

Вельмі прыемна правялі зь імі пару гадзінаў. Пайшлі перакусіць. Расказаў ён нам пра Uppsala, даў сьпісак мейсцаў і людзей што пабачыць. Расказалі яму пра сытуацыю на Беларусі — ён піша кнігу пра палітычную лінгвістыку ў славянскіх краінах і цікавіцца ўсім беларускім, бо ня мае шмат матар'ялаў. Яны едуць на канікулы, таму ён так сьпяшаўся з намі пабачыцца.

Як разьвіталіся зь імі — зайшлі яшчэ ў пакой, але хутка й паехалі ў горад. Там перш-наперш даведаліся, як ехаць у Uppsala, а тады сталі хадзіць па горадзе. Натрапілі якраз на стары горад. Паглядзелі каралеўскі палац, пахадзілі па вузенькіх брукаваных вулічках, паслухалі музыкаў на невялічкім пляцу. Вельмі было прыемна. Пагода надзвычайная.

Паехалі назад пад гатэль. У Shopping center купілі нешта перакусіць, бо былі не галодныя — і павячэралі ў пакоі. Крыху стаміліся за цэлы дзень. T.V. тут не такая цікавая, як у Турку.

Што тут, і ў Helsinki і тут, добра, гэта надвор'е. Вельмі спрыяльнае. Зусім не пацееш чалавек. Ноччу сьпіш пад пуховым коўдрам нават. Сьпіцца наагул добра.

---

[1] *Пайшлі, ня сталі чакаць (resigned).*
[2] *Стакгольм.*
[3] *Фае.*

**Панядзелак 8 жніўня**

Пасьнедалі — снеданьні тут надзвычайныя — й паехалі на станцыю. Цягнік на Uppsala быў даволі свабодны. Ехалі, разглядаліся. Ваколіцы тут у Швэцыі нічога надта цікавага — шэра (у сэнсе экзатычным), проста.

Uppsala горад невялікі, даволі прыемны. Хутка знайшлі бібліятэку.

У бібліятэцы тут больш складана, як у Helsinki. Пакуль распазналіся з каталёгамі, пакуль заказалі кнігі, пакуль кнігі прыйшлі, то ўжо й часу ня было працаваць. Праўда, крыху папрацавалі. Газэты, што В[*ітаўт*] заказаў, прынясуць заўтра. Тут крыху было старога бел. матар'ялу, але ня гэтак шмат, як у Helsinki. Часапіс «Адраджэньне» і 4 бюлетэні Інбелкульту.

Даехалі дадому добра. Павячэралі на Mall у кітайскім рэстаранчыку. Вечарам адпачывалі.

**Аўторак 9 жніўня**

Зноў у Uppsala. Мы ўжо робімся звычайнымі камютэрамі[1]: мэтро, цягнік. Шмат ходзім.

Былі яшчэ кнігі для нас заказаныя ўчора. Перагледзелі. Каля 3-яй прыйшлі газэты. В[*ітаўт*] перагледзеў, а я чытала сваё. Вельмі тэндэнцыйную працу нейкай швэцкай аўтаркі [*пакінутае пустое месца*]. Яна сіліцца давесьці, што [*пакінутае пустое месца*] рукапіс 16 ст. — напісаны ўкраінскай мовай. Там і «аканьне» і другія элемэнты беларускія, але паводле яе, гэта ўкр. мова. Добра адно, што гэткія пісаніны шырока не разыходзяцца.

Прайшліся яшчэ крыху па горадзе. Паглядзелі катэдралю. Гарадок прыемны, але надта нічога цікавага ня бачылі.

Павячэралі ў Hamburger. Сядзелі на тэрасе, але, праўда, было крыху прахладна.

Як прыйшлі на станцыю, мне захацелася нечага цёплага выпіць. Вельмі прыемная была кафэтэрыя пры станцыі — я выпіла цёпленькага чаю і адразу стала прыямней.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна. Адпачывалі.

Ага, дазванілася нарэшце да Барыса Араповіча[2]. Дамовіліся спаткацца заўтра а 6-ай каля станцыі.

Дазваніліся й да сына Лукашыка[3]. Нам нейкі жыдок з Расіі, якога мы спаткалі ў бібліятэцы, памог знайсьці абодвух.

---

[1] *Commuter — у Амэрыцы — той, хто кожны дзень езьдзіць на працу і з працы грамадзкім транспартам.*

[2] *Дырэктар стакгольмскага Інстытуту перакладаў Бібліі, які пасьля выдаў «Дзіцячую Біблію» на беларускай мове (пераклад Васіля Сёмухі). Ён зьвязаўся з намі яшчэ перад нашай паездкі ў Эўропу. Мэта нашай сустрэчы палягала ў тым, каб канчаткова яго пераканаць у патрэбе выданьня дзіцячай Бібліі на беларускай мове. Барыс (Барыслаў) Арапавіч, паходжаньнем харват, добра гэта разумеў. Заручыліся ягоным словам — Дзіцячая Біблія будзе і па-беларуску!*

[3] *Сын Васіля Лукашыка, які ў 1948 годзе заснаваў беларускую грамаду ў Скандынавіі.*

**Серада 10 жніўня**

Сёньня зраньня паехалі ў Каралеўскую бібліятэку ў Стакгольм. Там сыстэма яшчэ больш складаная, як у Uppsala. Праўда, пад канец дня дасталі крыху кніжок. Нічога тут вельмі цікавага ня было. В[*ітаўт*] заказаў газэты — абяцаюць заўтра пасьля 3-яй.

Крыху яшчэ пахадзілі па горадзе і каля 6-ай ужо падышлі пад станцыю. Па дарозе яшчэ нагледзелі мейсца, дзе браць аўтобус на аэрадром. Мы тут ужо зусім распазналіся. Проста тут з транспартам. Вельмі радыя, што ня бралі машыны.

Арапові́ч крыху спазьніўся. Вельмі выбачаўся. Павёз нас крыху па горадзе. Паказаў шмат чаго. Добра расказаў пра горад.

Павячэралі ў вэгетарыянскім рэстаране. Добрая смачная страва. Мелі добры столік. Доўга сядзелі й гаварылі. Выглядае, што справа перакладу дзіцячай Бібліі на бел. мову рэальная. У яго гэта яшчэ толькі праэкт. Той пераклад, што ён нам пераслаў, гэта толькі проба. Ён чамусьці хоча, каб перакладалася Біблія ў Сав. Беларусі. Мы яго стараліся ад гэтага адгаварыць. З друкам, выглядае, што калі дойдзе да гэтага, то будуць рабіць у Юркі. Для іх гэта прыемлема. Мы забавязаліся падправіць крыху мову.

Ён вельмі паважны й сымпатычны чалавек. Вечар прайшоў прыемна й па-дзелавому.

Давёз ён нас пад гатэль. Было ўжо добра позна. Дні нашыя тут запоўненыя.

**Чацьвер 11 жніўня**

Сёньня мы ўжо не сьпяшаліся ў бібліятэку. Раніцай прайшліся па базары. Я тое-сёе сабе нагледзела. Купілі вельмі прыгожыя, зграбныя 3 (шкада, што толькі 3) лыжачкі срэбныя для Алесі.

У бібліятэцы было крыху кніг для нас, але газэтаў ня было яшчэ. Папрацавалі ды пайшлі пахадзіць крыху па гораду. Зайшлі ў Pub — гэта іхны ўнівэрсальны магазын, дзе некалі Лёнік, як нам расказваў Арапові́ч, купляў сабе касьцюм. Нічога ня купілі, толькі цукеркаў. То ўжо маю падарункі для Алесі й для бабкі. Нагледзела яшчэ сэрвэтачкі, але ня купіла, бо В[*ітаўт*] ужо пачаў ірытавацца. Купілі на рынку сьліваў.

Падышлі пад Гарадскую ўправу — вельмі імпрэсыўны будынак, выглядае, як стары замак, але пазьней пачыталі, што пабудаваны ён толькі ў 1923 годзе.

Паехалі пад гатэль. Так нідзе й не павячэралі — неяк не хацелася есьці. Купілі булачак і так і перакусілі.

А 8-ай гадзіне прыйшлі Лукашык з жонкай. Ён прыемны малады чалавек, яна маладзенькая полька. Пайшлі ў кітайскі рэстаран і вельмі прыемна правялі пару гадзінаў за кубкам кавы й чаю.

Зноў ужо позна было, як прыйшлі дахаты.

**Пятніца 12 жніўня**

Сёньня зноў рана не сьпяшаліся, бо газэты абяцалі толькі на 3-юю. Пайшлі на рынак. Купілі нейкія падарункі: для Ball[*arine*] парцэлянавую пасудзінку, для Юры цынкавы кубак і «print», іконку для Жамойды.

В[*ітаўт*] захацеў пайсьці назад у гатэль аддыхнуць, а я пайшла купіць нешта сабе. Падлічылі нашыя грошы — колькі яшчэ трэба пакінуць, а колькі траціць на падарункі.

Купіла сабе срэбную брошку й падвесачку. Цяпер ужо ўсё ўсім ёсьць. Паехалі ў горад.

У бібліятэцы газэтаў няма — не знайшлі. Была яшчэ, праўда, адна кніга, якую В. выпісаў раней. Даволі добрая інфармацыя пра 1918-1919 гады. Зрабіў xerox.

Пайшлі яшчэ пахадзілі па горадзе. Тое-сёе яшчэ купілі ды й паехалі пад хату. Крыху ўжо стаміліся ад гэтых мэтро, ад гэтых бібліятэкаў, ад Stockholm'у наагул.

Павячэралі ў тым учарайшым прыемным кітайскім рэстаране. Можна сказаць, што першы раз за ўсю паездку так смачна павячэралі абодва. Узялі нават напіткі — я віна, а В. піва.

Вельмі было прыемна — гэта-ж ужо наш апошні вечар на вакацыях. Прыйшлі дахаты, адпачылі.

Я пасьля яшчэ спакавалася, што ўжо можна было спакаваць. Усё, здаецца, добра спарадкавалі.

**Субота 13 жніўня**

Прачнуліся рана. Крыху марасіць дожджык.

Пасьнедалі. Шмат ужо ня было чаго складацца. Паехалі. Перш мэтро — наша старое мэтро, тады аўтобус да аэрадрому. На аэрадром прыехалі заранься. Атрымалі добрыя мейсцы. Я яшчэ тое-сёе купіла на duty-free.

Самалёт адляцеў амаль у час.

Пачала пісаць дзёньнік, яшчэ як чакалі самалёту. Канчаю цяпер ужо на самалёце. Добра едзецца.

Цяпер ляцім ужо над Канадай. Застаецца яшчэ пару гадзінаў.

У Нью Ёрку, кажуць, горача. Мы ўжо й забыліся, што гэта гарачыня. Тут было сапраўды цудоўна наконта гэтага.

У Нью Ёрку сапраўды горача. Юра спаткаў нас на аэрадроме. Даехалі добра да Lincoln Tunel, а там доўга чакалі — была нейкая затрымка.

Дома ўсё добра, толькі-ж вельмі горача.

Распакаваліся, разгледзелі пошту й адпачывалі.

**Нядзеля 14 жніўня**

Горача. Усё яшчэ адыходзім ад дарогі, адпачываем.

Памыла я бялізну, крыху пачала зьбірацца — заўтра-ж на працу.

В[*ітаўт*] разглядае й парадкуе матар'ялы, што прывезьлі зь бібліятэк.

Так дзень і прайшоў — напалову адпачынак, напалову ўжо руціна, праца ці падрыхтоўка да працы.

Зраньня званіла Галіна [*Русак*]. У іх там Сяргей [*Карніловіч*] — ён прыехаў са сваёй пляменьніцай зь Менску. Заваніў да нас, але нас ня было, дык затрымаўся ў іх. В. пагаварыў з Сяргеям. Тут маюць быць нейкія візытары зь Беларусі і хочуць з намі спаткацца.

Зв. Ball[*arine*] У яе ўсё добра. Дамовіліся, што спаткаемся ў чацьвер у яе — раскажам пра падарожжа.

**Панядзелак 15 жніўня**

Першы дзень на працы. Неяк адарвалася я ўжо. Шмат каго няма, дык цукеркі, што я прынесла, амаль някратаныя.

В[*ітаўт*] таксама ў Нью Ёрку. Залагодзіў справы ў банку. Шмат было чэкаў.

Нагаварыў скрыпт [*у радыё*]. Зрабіў запросіны на наступную суботу на наш рэфэрат. Адным словам ужо поўнасьцю ўцягнуліся ў рутыну.

Горача сяньня страшэнна. Зв. Ball[*arine*], што ў сераду будзе распрадажа на File cabinets[1]. Плянуем купіць.

Прыходзіў Том. Прынёс мне ня зусім прыемную вестку — ліст ад Туронка, што ня змог дастаць мне microfilm рукапісу, дзе ёсьць кніга о Тундалі — нібыта гэты рукапіс згарэў падчас вайны ў Варшаве. Гэта вельмі прыкра, бо, здаецца, ён поўнасьцю ня быў друкаваны.

---

[1] *Спэцыяльныя шафы для папераў.*

**Аўторак 16 жніўня**

Я сёньня працую вечарам.

Зраньня схадзіла зрабіла прычоску.

Пагода, здаецца, пачынае крыху халадзець.

Паехалі на машыне. В[*ітаўт*] запаркаваў, хадзіў яшчэ ў радыё, а тады каля 3-яй прыйшоў у бібліятэку.

Схадзілі а 4-ай павячэралі. К[*асінец*] пайшоў раней.

Добра працавалася.

Дахаты даехалі хутка. Яшчэ крыху й адпачылі. Дамовіліся з Ball[*arine*], што заўтра спаткаемся ў Secaucus і паедзем купляць кабінэцік[1].

---

[1] *Шафку для папераў.*

**Серада 17 жніўня**

Сёньня ўжо крыху лягчэй. Быў дождж.

На рабоце ўсё добра — толькі кампютэры надта дрэнна працуюць і неяк нудна. Пазваніла ў Garland.

Званілі Вітаўту тыя беларусы зь Мінску — хочуць спаткацца. Гаво-

раць добра па-беларуску. Адзін літэратар перакладнік з фр. мовы, а другі, сьпявак-музыкант. Заўтра яшчэ пазвоніць ім В., каб дакладней дамовіцца, дзе і калі спаткацца.

В. чакаў мяне ў Secaucus. Ball[*arine*] была ўжо таксама.

Паехалі ў магазын. Купілі filer[1]. Доўга там не вазіліся, бо была я неяк вельмі стомленая. Ball. яшчэ засталася ў магазыне з Марсэлай[2].

---

[1] *Столік для папак.*
[2] *Ейная і наша сяброўка.*

**Чацьвер 18 жніўня**

Сёньня ўжо пагода зусім прыемная.

В[*італўт*] званіў ім і дамовіліся спаткацца на 2:30 каля бібліятэкі. Прыйдзе й Запруднік.

Кніжкі Трыстан ужо й прыйшлі з Garland.

Сустрэча была даволі прыемная. Яны, выглядаюць, зацікаўленыя беларускай справай. Гавораць свабодна, разважаюць цьвяроза. Пайшлі на абед. Сядзелі-гаварылі. Больш усё гаварылі з Леанідам Казырам — літэратарам, а Віктар Старабагатаў — скрамнейшы, спакайнейшы ўсё слухаў. Іх беларуская справа і стан бел. мовы турбуе, як і нас.

Абмяняліся падарункамі. Яны далі нам пласьцінкі, кнігу, усялякія безьдзялушкі, ну і, зразумела, гарэлку. Мы ім далі кнігі.

Пайшлі ў бібліятэку. Я паказала ім бел. калекцыю. Як заўсёды, кампютэры былі самае цікавае.

Хадзіла да нажнога доктара, а тады паехалі да Ball[*arine*] на вячэру. Прыемна правялі час. Яна задаволеная падарункамі, асабліва цукеркамі.

**Пятніца 19 жніўня**

Сёньня ўжо й канец тыдня. Хоць і даўгі нейкі быў гэты першы рабочы тыдзень, але неяк-жа прайшоў.

Пазваніла яшчэ зраньня да Казыры, папрасіла, каб ён мне зрабіў хегох аднаго артыкула з Ученых запісак АН БССР, Інст. філялёгіі. Абяцаў, што зробіць.

Схадзіла ў абед, купіла сабе торбу. Добрая, але колер зялёны — другіх ня было.

К[*асінец*] пайшоў рана. Дзень скончыўся хутка. Пачынаю ўжо разглядаць матар'ялы для сябе.

**Субота 20 жніўня**

Зрабіла валасы.

Пасьнедалі. Крыху парадкавалася. Склала свой Filing cabinet. Доўга правазілася, але добра выйшла.

Пачала крыху рыхтавацца да сёньняшняй нашай гутаркі. Не пасьпела ўсяго перапісаць на карткі, як ужо трэба было зьбірацца.

Паехалі каля 5-ай. Па дарозе яшчэ купілі Donuts[1]. Ехалася добра, праўда, каля G. W. маста[2] крыху была затрымка, але прыехалі ў час. Я зрабіла яшчэ бутэрбродзікі з скандынаўскімі намазкамі. Сабралася крыху людзей. Добра прайшла нашая гутарка. Людзі былі зацікаўленыя, шмат распытваліся. Наагул вечар прайшоў прыемна.

Запруднік зрабіў ужо tape[3] з адной пласьцінкі для нас.

Дахаты даехалі добра, хоць і зноў была крыху затрымка перад мастом.

---

[1] *Пончыкі.*
[2] *George Washington Bridge.*
[3] *Магнітафонную стужку.*

**Нядзеля 21 жніўня**

Сёньня прыгожы дзянёк. Пасьнедалі й я памыла бялізну.

Званіла Ball[*arine*] — яна гаварыла з Connie. Расказала пра іхную размову. Мы ўжо з Connie, мусіць, ніякіх дачыненьняў ня будзем мець. Хопіць ужо нам і срэбра і яе кампаніі. Добра было нам зь ёй трымацца, пакуль хацелі купляць і пакуль яна была схожая, але апошні наш прыезд ня быў ужо такі прыемны, ні такі выгодны для нас.

Выйшла на двор і пішу дзёньнік. Прыемнае сонейка, прыемны вецярок. Даўно ўжо ня было такога надвор'я.

**Субота 27 жніўня**

Я сёньня працую. Зрабіла прычоску, пасьнедалі й паехалі. Ня сьпяшаліся, бо я дамовілася з К[*асінцом*], што прыеду перад абедам недзе. Зрабіла яшчэ каву й бутэрбродзікі з сабой.

В[*ітаўт*] таксама будзе цэлы дзень працаваць.

Дзень прайшоў вельмі памысна. Крыху я рабіла для сябе, але было, праўда, й шмат featured рознай іншай працы.

Да хаты дабраліся хутка, яшчэ цэлы вечар і адпачывалі.

**Панядзелак 29 жніўня**

Сяньня на працу зноў. Аднаго дня мала, каб адпачыць, але гэты тыдзень будзе зноў кароткі.

**Чацьвер 1 верасьня**

В[*ітаўт*] сёньня дома застаўся. Мае завезьці бабку да доктара на агляд. Я на рабоце была толькі да поўдня. Купіла булачак нашых традыцыйных. Зрабіла прычоску й пазваніла дахаты. Адказаў Юра, але я Ю. й ня бачыла — ён паехаў адразу-ж.

Сабраліся й паехалі[1]. Выехалі ня позна, мінулі трафік[2]. Праўда, каля 48-ай, а тады каля Dover'у было крыху трафіку, але даехалі да мейсца, дзе было заказана, ня позна.

Прыемны матэль. Адпачывалі, паелі й глядзелі T.V.

Пазванілі яшчэ бабцы — у яе ўсё добра.

Юра сёньня таксама выязджае, але ён едзе з Бахарамі. Яны будуць ехаць цэлую ноч наўсьцяж.

---

[1] *У Таронта.*
[2] *Густы дарожны рух (traffic).*

**Пятніца 2 верасьня**

Мы раніцай ня сьпяшаліся. Пасьнедалі й спакойна паехалі. Ехалася добра. Думалі спачатку недзе затрымацца каля Ніагары, але неяк ня выпала, ня было добрага выезду. Хацелася ўжо пераехаць праз граніцу.

Да гатэлю дабраліся недзе каля 2-ой. Адпачывалі. Хутка й Юра з Колям Бахарам прыйшлі. Вось ад гэтага й пачаўся балаган на колькі дзён.

Яны пачалі мыцца. Ю. пабег. А 7-ай яны былі запрошаныя недзе, а Юры яшчэ няма. Нарэшце прыбег, хуценька памыўся й пайшлі. Толькі яны з хаты, як звоняць Сурвілы. Забралі яны свае карціны і аддалі нам нашыя рэчы — маміну пасьцілачку й кошычак.

Паехалі спатыкаць А[*лесю*] на аэрадром. Там доўга чакалі. Нарэшце прыляцела. Чакалі тады на Юру — ён прыехаў па яе і зноў недзе паехалі. Прыехалі вельмі позна. Мы, зразумела, спалі мала.

**Субота 3 верасьня**

Раніцай дзяцей было цяжка падняць. Юра, праўда, хутка падняўся й сабраўся бегаць. Мы паехалі пад царкву. З намі паехалі Ала й Вера Заморская. Дабраліся, хоць і з прыгодамі — крыху блудзілі. Там паабедалі і хутка пачалася й урачыстасьць.

А[*лесін*] рэфэрат быў добры, аднак у гэты час пачалі якраз зьбірацца людзі — прыехалі аўтобусы, дык быў крыху балаган. В[*ітаўт*] прадаваў кнігі. Крыху прадаў.

Запруднікаў рэфэрат быў удалы — людзям вельмі спадабалася. Нават і Плескача быў ня дрэнны, але крыху задаўгі — крыху не на мейсцы. Як толькі была нагода, мы з Алесяй паехалі ў горад. Яна мела сабе купіць панчохі, але купіла й сукенку.

Вярнуліся пад царкву, але В. ужо там ня было. Добра яшчэ быў там Ганько — ён нас падкінуў пад гатэль. Пераадзеліся. Моладзь пайшлі яшчэ на pizza, мелі прынесьці й нам. Мы не дачакаліся й пайшлі на забаву. Пасьля зьбегалі й паелі. Забава была ня позна, але дзеці яшчэ недзе паехалі. Прыехалі позна.

**Нядзеля 4 верасьня**

Раніцай дзеці яшчэ спалі, а мы сабраліся, пасьнедалі й пайшлі ў цэрквы. В[*ітаўт*] у праваслаўную, а я пайшла на каталіцкую службу. Было добра, урачыста, адно вельмі блага сьпявалі.

Пасьля службы хутка пачалі зьбірацца й на сустрэчу й банкет. Я ўжо пачала рабіць інтэр'ю. В. добра прадаў кнігі.

Прамоўная частка зацягнулася даволі доўга. Усе наракалі, што шмат прамоваў. Канцэрт быў даволі ўдалы, але зноў як пачалі «Дубіны»[1] свой даўгі выступ, дык публіка пачала ўжо ёрзаць, хадзіць, гаварыць. Я парабіла крыху інтэр'ю.

Паехалі яшчэ пад царкву. Там павячэралі. Везьлі мы Данчыка. Па дарозе зайшла гутарка пра Вольгу Корбут і яе мужа Лёню Барткевіча. В. прапанаваў, каб іх прывезьці на фэстываль у Jersey City 10-га. Данчык пагаворыць зь імі.

Пад царквой было прыемна — людзі гаварылі, сьпявалі. Моладзь яшчэ недзе паехалі, а мы хутка пайшлі адпачываць.

---

*[1] Ансамбаль зь Беласточчыны.*

**Панядзелак 5 верасьня**

Рана ўжо пачалі выбірацца. В[*ітаўт*] пайшоў раней, каб адправіць «Запісы» з аўтобусамі. Я спусьцілася ўніз, ды яшчэ зрабіла інтэр'ю з Надзяй. Хутка яны і ад'ехалі. Тады паехалі й мы пад крыж[1]. З намі Алюньця. Юра застаўся яшчэ з Бахарамі. Ехалася добра. Гаварылі пра розныя справы — пра паездку моладзі ў Беласточчыну. Не разьлічылі мы, што гэта так далёка. Там страшэнна холадна было. Спачатку адбылася служба, а пасьля пайшлі пад крыж і там урачыста асьвяцілі яго. Вельмі ў добрым мейсцы, добра зроблена. Адным словам, гэта вельмі ўдалая рэч.

Я яшчэ зрабіла пару інтэрвію. Пасьля яшчэ былі выступы, былі й сымпатычныя мамэнты — падарунак для музэю ў Гайнаўцы. Мы ўжо пачалі сьпяшацца, дык як толькі была магчымасьць, высьлізнулі. Ехалася назад добра. У Канадзе купілі яшчэ фруктаў. Праз граніцу праехалі бяз клопатаў. Затрымаліся на дарозе ў Best Western каля возера Canandaigua. Нічога асаблівага. Вельмі прыемна павячэралі ў курортным гарадку ў італьянскім рэстаране. Прыемна правялі вечар.

---

*[1] Адкрыцьцё ў Сьвятыні Пакутнікаў (Мідлэнд, штат Антарыё) памятнага крыжа, прысьвечанага 1000-годзьдзю хрысьціянства ў Беларусі.*

**Аўторак 6 верасьня**

Ранічкай усталі ня позна. Пасьнедалі ў гатэлі й паехалі. Ехалася добра ўздоўж возера Seneca. Пагода цудоўная. Заехалі ў Winery[1]. Мелі невялічкі тур, а тады пакаштавалі віна й купілі нейкага.

Заехалі ў мядовае мейсца — купілі мёду й розных прысмакаў. Паехалі на той бераг Seneca, дзе зьбіралі вішні, але, на жаль, нічога не ўдалося сабраць — у іх быў ураган і шмат фрутаў[2] пашкоджана.

Па дарозе сталі яшчэ паабедалі. Вельмі прыемнае было падарожжа. А[*леся*], здаецца, таксама задаволеная.

Дома шмат пошты. Усё добра, усё ў парадку. Прахладна.

Пазваніў Шук[*елойць*], што нібы нехта там не задаволены, што

Ольгу Корбут на фэстываль павязем. Званіў Зап[*руднік*], каб В[*ітаўт*] прыехаў заўтра ў радыё.

[1] *Вінарня.*
[2] *Фруктовых дрэваў.*

**Серада 7 верасьня**

В. паехаў у радыё, а мы з А[*лесяй*] паехалі ў магазыны.

Шукалі крэсла для мяне ў спальню, але нічога не знайшлі. Знайшлі антыкварны магазын у Пасэйку — вельмі цікавы. Купілі там лыжачкі для А. Пад'ехалі таксама ў Secaucus — купілі толькі мне пару блюзачак.

А. мела спаткацца з Надзін, дык мы доўга ня бавіліся. В. прыехаў даволі позна. Шмат было чаго залатвіць. Зап[*руднік*] меў невялічкае сьвяткаваньне — ён 34 гады як працуе ў радыё.

Зв. Вячка — ён ужо адлятае ў Мюнхэн[1]. Хаты яшчэ не прадалі. Мае прывезьці нам нейкія кнігі й газэты, якія яму не патрэбныя.

[1] *Вячка Станкевіч атрымаў працу на Радыё Свабода.*

**Чацьвер 8 верасьня**

Юра прыехаў рана — мы яшчэ спалі. Сабраліся, пасьнедалі й паехалі ўсе разам на поўдзень Нью Джэрзі. Добра ехалася. Пагода добрая, але ня горача.

Перш за ўсё пад'ехалі пад памідоры. Там толькі можна будзе зьбіраць пазьней. Паехалі ў А[*tlantic*] C[*ity*]. Прайшліся крыху па набераржнай ды пайшлі ў Casino. Прайгралі па 20 даляраў. Адно Юра выйграў. Яшчэ крыху пахадзілі па беразе. Купілі сувэніраў. Пакармілі голубаў арэшкамі — абступілі яны нас.

Паехалі назад пад Pomona. Сабралі памідораў. Па дарозе купілі яшчэ й персікаў. Прыехалі дахаты добра. Узялі pizza. Вельмі прыемна правялі вечар, дый цэлы дзень быў надзвычайна прыемны. Даўно ўжо ўсе разам ня былі. Ю. застаўся начаваць, каб заўтра рана забраць машыну з гаража.

**Пятніца 9 верасьня**

Юра забраў машыну й паехаў дахаты.

Пахмурна — выглядае на дождж. Раніцай В. паехаў у Нью Ёрк да Tom B[*ird*]. Мы яшчэ крыху паваляліся, але ўжо пасьля 9-ай пачалі рухацца. Я памыла крыху бялізны. Пагода распагодзілася. Рашылі паехаць у Flemington. Сабраліся ўжо недзе каля 12-ай. Дарогай было вельмі прыемна. Там адразу пайшлі паглядзець шубы і... купілі. Дарагую, але зробяць па мерцы, ды й сплачваць можна на раты. Пахадзілі яшчэ па магазынах. Купілі кветак штучных, купілі яшчэ ўсялякай дробязі. Вельмі было прыемна. Прыехалі дахаты пасьля 5-ай. В[*ітаўта*] яшчэ ня было, але хутка й ён прыйшоў. А[*леся*] пайшла да Н[*а-*

*дзін*], а мы нешта перакусілі ды адпачывалі. Я зрабіла букет кветак у карзіначцы — рамонкі, васількі, макі й каласкі — вельмі прыгожа.

В. пакупку шубы адобрыў — дамо А[*лесі*] $2500. Але нашыя дробныя пакупкі яго ўзлавалі. Званілі да Юлі [*Андрусышынай*]. Заўтра В. забярэ О. Корбут, яе мужа Л. Барткевіча й Юлю й Данчыка на фэстываль[1].

---

[1] *Фэстывалі ў Джэрзі Сіты — выдатная рэкляма беларускай прысутнасьці ў штаце. Яны працягваюцца і да сёньняшняга дня. Запачаткаваў правядзеньне фэстываляў я, калі займаў пасаду старшыні Этнічнай Рады пры губэрнатары Брэндане Бэрне.*

**Субота 10 верасьня**

Раніца ўжо пачалася ў беганіне. Зрабіла прычоску. В[*ітаўт*] купіў тое-сёе на перакуску. Хутка й паехаў па Ольгу Корбут і кампанію. Мы з А[*лесяй*] пачалі зьбірацца. Зрабілі яшчэ картафляную салатку. Былі якраз у разгары кухонным, як яны ўжо прыехалі. Крыху сядзелі — гаварылі, а мы з А. канчалі зьбірацца. Прыехала й Ball[*arine*]. Яна павязе нас з А. Вітаўт нас не дачакаўся — паехаў зь імі раней. Мы хутка за імі.

Парад нацыяў прапусьцілі, але цэрымонія адчыненьня фэстывалю якраз пачыналася. Крыху пастаялі ды пайшлі шукаць бел. стэнду. Было шмат нашых людзей. Выстаўка вельмі добрая. Людзі апанавалі Ольгу — фатаграфаваліся зь ёй. Было прыемна, але, як заўсёды [*у верасьні*], горача.

В. паехаў дахаты зь імі раней, а тады ўжо і мы зь Юрам хутка за імі, але затрымаліся ў трафіку. Яны ўжо нас чакалі дома. Селі за стол. Гаварылі. Лёнік Барткевіч вельмі прыемны, добра гаворыць па-бел. Ольга — слаба, але стараецца. В. завёз іх да Юлі, а мы памылі пасуду й селі адпачываць. А. паехала пазьней недзе з Надзін. Я вельмі стамілася.

Зв. Dingley — у панядзелак спаткаемся.

**Нядзеля 11 верасьня**

Раніцай спалі даволі позна. В[*ітаўт*] зьезьдзіў па хлеб.

Мы сабраліся крыху. Прыехала Ball[*arine*]. Пасьнедалі. Званіў Юра даведацца пра Азаркавы боты. Ён паедзе на пробу — на сьнеданьне ня прыедзе.

Памыла яшчэ бялізну, але не пасьпела павесіць перад выездам на аэрадром.

Ball. паехала ў царкву, а мы — праводзіць Алесю. Быў трафік на 3-яй дарозе, дык мы паехалі ў аб'езд. Крыху заняло больш часу, але ўсё добра пасьпелі.

Дахаты прыехалі каля 1-ай. Я павесіла бялізну і пайшла на двор. Пагода цудоўная — прахладненька, лёгенькі вецярок. Пішу дзёньнік.

Званіла Бартуліха — запрасіла да іх на 17-ае.

**Панядзелак 12 верасьня**

Сёньня [*на працы*] завозна. Прыйшоў у бібліятэку Надсон. Хутка мелі спаткацца з Dingley. Пагода добрая. Сядзелі каля бібліятэкі. Купілі кавы.

Dingley хацеў усталяваць назовы й тэмы рэфэратаў. Выглядае, што я буду ў нейкім іншым панэл[1], а не ў беларускім. Гэта й лепш для мяне. D. тут, каб гаварыць з украінцамі — ён ужо, мусіць, ад беларусаў будзе паступова адыходзіць. Неяк і ў тоне яго ўжо адчуваецца нецярплівасьць, «што з вамі вазіцца» — адносіны.

Я пайшла, а яны яшчэ крыху гаварылі.

---

[1] *Сэкцыя на канфэрэнцыі (panel).*

**Панядзелак 3 кастрычніка**

В[*ітаўт*] спаткаў Яновічаў[1] на аэрадроме й прывёз да нас. Яны ў нас пабудуць пару дзён. Прыгатавала Алесін і Юраў пакоі для іх.

Яновіч, так як і ў Канадзе склалася аб ім уражаньне, — балтун, нудны і даволі самаўпэўнены, але працуе й шмат робіць для беларусаў у Беласточчыне — і яго асабістыя рысы абсалютна няважныя. Толькі, хіба, як ён у тваёй хаце жыве колькі дзён. Яна — вельмі спакойная, памеркаваная жанчына.

---

[1] *Сакрат Яновіч і яго жонка Таня.*

**Аўторак 4 кастрычніка**

Нічога асаблівага на рабоце.

**Пятніца 7 кастрычніка**

На рабоце ўсё нармальна. Фактычна на рабоце я адпачываю.

Яновічы таксама недзе ў N[*ew*] Y[*ork*]. В[*ітаўт*] прывёз іх ды запаркаваў у гаражы.

Пасьля працы пайшлі ў U[*nited*] N[*ations*] на беларускі вечар. Быў фільм дакумэнтальны — дрэнь, а пасьля даволі добры фільм «Белыя росы» паводле [*сцэнару Аляксея Дударава*]. Была й выстаўка кніг. Набралі кніг. Пабачылі там Шчаснага, пазнаёміліся яшчэ з іншымі дэлегатамі і з адным з місіі. Была й жонка [*Алега*] Пашкевіча. Яны робяцца ўсё больш-менш нармальнымі людзьмі — стараюцца гаварыць па-беларуску — прынамсі з намі. Быў там і Том [*Бэрд*].

Пагода была паскудная — холадна, дождж, а я адзетая была лёгка — крыху прамерзла. Але добра, што машына была — хутка прыехалі.

Дома яны таксама былі толькі прыехаўшы. Павячэралі й адпачывала.

**Субота 8 кастрычніка**

Сёньня ўсе дома. Я чуюся неяк прастудна.

Крыху працавала з кампютэрам.

На зборку рашыла ня ехаць, бо можа прыедзе Алеся. Яны паехалі перад 5-ай. Я крыху лягла адпачыць.

Пазваніла Алеся, што сяньня ўжо ня прыедзе — працавала й спазьнілася на апошні самалёт — прыедзе заўтра рана. Трэба будзе папрасіць Ball[*arine*], каб паехаць спаткаць А., бо В[*ітаўт*] мае завезьці Яновічаў заўтра пад царкву.

Яны прыехалі даволі позна. Было там усё вельмі ўдала. Сабралі крыху грошай нават [*$2,800*].

Я пайшла спаць хутка.

**Нядзеля 9 кастрычніка**

Сёньня рана прыехала да нас Ball[*arine*]. Пасьнедалі ўсе разам. В[*ітаўт*] павёз Яновічаў у царкву ў Highland Park, а мы з Ball. паехалі спатыкаць Алесю.

А. ўжо нас чакала на аэрадроме й мы адразу-ж паехалі ў Flemington.

Найперш залагодзілі з ейнай шубай — першая прымерка, толькі палатняны макет. Выглядае добра.

Пасьля паехалі ў Liberty Village. Пахадзілі там. Пагода цудоўная. Вельмі прыемна правялі час. Шкада, што трэба было сьпяшацца дахаты, бо Алесі трэба ехаць да Ані Бартуль на Fund Rising Party[1].

Дома ўжо Юра званіў і нецярплівіўся. Пазванілі Юру, і ён хутка прыехаў і паехалі.

Ball. яшчэ ў нас сядзела. Павячэралі.

Дзеці прыехалі ня позна. Party была даволі нудная — ганаровыя госьці — Ольга Корбут, Лёня Барткевіч і Данчык — былі стомленыя з дарогі. Ю[*ра*] і А[*леся*] далі па $300.

---

[1] *Вечарына збору сродкаў.*

**Панядзелак 10 кастрычніка**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

Сёньня зноў добрая пагода. Дамовіліся з Ball[*arine*] ехаць на закупкі.

Тое-сёе купіла сабе. Вельмі задаволеная са спадніцы. Дый туфлі добра купіла. Прыехалі дахаты і яшчэ перакусілі, й Ball. паехала, бо мела з доктарам заказаную візыту.

Нарэшце мы засталіся самі.

Адпачывалі.

**Серада 12 кастрычніка**

Касінца сёньня няма. Усё добра.

**Чацьвер 13 кастрычніка**

В[*ітаўт*] зраньня канчае з Шук[*елойцем*] газэту [*«Беларус»*], а па абедзе спаткаецца з Томам — правяраць артыкул пра беларусаў Нью Ёрку[1].

У мяне ўсё добра. Набралася бел. кніжкаў для каталагізацыі, але шмат іншых справаў, дык усё адкладаецца беларускае. Ужо, праўда, пачала патроху.

---

[1] *Для часапісу.*

**Пятніца 14 кастрычніка**

Сёньня Касінца зноў няма. Спакойна.

Па абедзе прыйшоў Том В[*ird*]. Схадзілі на каву й пачалі правяраць мой артыкул пра Бел. кнігу для кнігі, што рыхтуе Zalewski.

Ня скончылі, бо Тому трэба было недзе ісьці. Будзем прадаўжаць на наступным тыдні.

В[*ітаўт*] зраньня быў у Ню Ёрку, каб перадаць Шук[*елойцю*] артыкул пра Беларусаў у N.Y. для Slavic Week.

Газэты яшчэ няма. Гэты нумар зрабілі на лепшай паперы, дык даўжэй бярэ.

**Субота 15 кастрычніка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну — гаспадарчыя справы.

Пачала працаваць над Statehood[1] — зьмест і разьмяшчэньне ілюстрацыяў.

В[*ітаўт*] тым часам адпачываў.

Як скончыла — хутка й паехалі да Вячкавай хаты — забраць кнігі, якія ён пакінуў для Інстытуту.

Пагода цудоўная. Паехалі меншай дарогай, з думкай, што можа дзесь на дарозе знойдзем фармарскі рынак, каб купіць памідораў. Нічога не знайшлі.

Там спаткаліся з жанчынай, якая прадае іхную хату — яна нам паказала хату — яшчэ не прададзеная. Забралі кніжкі. Яна яшчэ паказала нам іхныя вазёры й парк. Прыгожа, спакойна. Крыху пасядзелі й паехалі назад.

Павячэралі па-кітайску.

Адпачывалі.

---

[1] *Кніга «Byelorussian Statehood».*

**Субота 29 кастрычніка**

Сёньня даўгі дзень — даўгая дарога. Выехалі а 8-ай. Я ехала з Bal-l[*arine*], а Вітаўт на ейнай машыне — сам[1]. Па дарозе сталі пасьнедаць. Пагода цудоўная. Я зусім не стамілася кіраваць. Даехалі да Вірджыніі пасьля 1-ай — добра справіліся. Пакінулі яе там, а самі паехалі назад. У Абэрдыне рашылі не заставацца, бо было толькі 3-яя, як пад'ехалі туды. Паехалі далей. Рашылі заехаць па яблыкі да Donato. Добра ехалася. На жаль, там было ўжо зачынена — у суботу яны зачыняюць а 1-ай (у буднія — а 5-ай). У міжчасьсі вырашылі затры-

мацца на Long Beach Island. Па дарозе яшчэ купілі яблыкаў. Даехалі туды пасьля 5-ай. Знайшлі добры матэль — на самым беразе акіяну. Вельмі прыемны пакой з бальконьчыкам. Перакусілі, крыху адпачылі й рашы[*лі затрымацца на ноч*].

---

[1] *Везьлі Кацярыну на цягнік, які йшоў у Флорыду. Туды можна было загрузіць і машыну.*

**Нядзеля 30 кастрычніка**

Раніцай усталі даволі рана. Я, праўда, цэлую ноч неяк слаба спала. Пагода цудоўная. Сабраліся й паехалі на сьнеданьне. Шмат мейсцаў ужо зачыненыя на зіму. Мясцовасьць зьмянілася. Так і не пазналі той вуліцы, дзе жыў Мэйсон, а можа й не даехалі датуль. Пасьнедалі. І яшчэ мелі крыху часу — [redacted] села каля вэранды, адчыніла вакно і рабіла пазногці — такая прыемная пагода. Так ня хочацца адсюль выязджаць.

Даехалі добра[1]. Было яшчэ рана, дык заехалі на абое могілак. У South River была яшчэ служба, але людзі ўжо пачалі зьбірацца назад. Добра ўсё прайшло — Томаў рэфэрат добры. Ён крыху пакрыўджаны, бо і ў царкве, ды пасьля ў рэф. Сенькі былі напады на каталікоў. Добра, што моладзь танцавала.

Аддалі Юру яблыкі. Ён добра чуецца.

Прыехалі дахаты ня так позна. Яшчэ крыху й адпачылі.

---

[1] *На ўрачыстасьць адзначэньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі ў Саўт Рывэры.*

**Панядзелак 31 кастрычніка**

Сёньня так ня хочацца ісьці на працу пасьля такога прыемнага weekend'у.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — у радыё.

Дзень быў даўгі і няцікавы.

**Серада 2 лістапада**

Нічога цікавага не прыпамінаю.

В[*ітаўт*] сёньня ў радыё.

Перадаў з Шук[*елойцем*] падарункі для Бураўкіна, праз Барткевіча.

Так на абед і ня выбраліся — Ольга [*Корбут*] яшчэ ўсё хворая.

**Чацьвер 3 лістапада**

Нічога асаблівага сёньня.

Дзень як дзень. В[*ітаўт*] у N.Y. — робяць з Шук[*елойцем*] газэту. Думалі разам ехаць дахаты, але ён мусіў затрымацца.

Узяў В. карты й кніжачкі для Каліфорніі й Нэвады.

Вечарам разглядала карты. Успомнілі, што мы нідзе ў сваёй кнізе[1] не падалі ні сьцягу, ні эмблэмы. В. думае, што яшчэ можна будзе ўставіць на адваротным баку мапы.

Званілі да Юлі — Ольга Корбут ужо крыху папраўляецца.

[1] *«Byelorussian Statehood».*

**Пятніца 4 лістапада**

Дзень сёньня нармальны. Адно разрыўка — палучка.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — канчаюць з Шук[*елойцем*] газэту.

[redacted] неяк стамілася. Рабіла для К[*асінца*] для «Photo grant»[1], каталягавала.

Вечарам адпачывала.

Пазваніла Ірэна Цупрык — яна прыедзе на Арсеньеву[2]. Зв[*аніў*] Акула (а раней быў ад яго ліст) пра нейкага чалавека зь Менску, які хоча надрукаваць (і пераслаў ужо манускрыпт) сваю кнігу[3] тут — пра гісторыю і ўплывы рок музыкі на народную музыку.

Ага, знайшла ў Смоліча інфармацыю пра плошчу Беларусі — для ўстаўленьня ў кнігу.

[1] *Заяўка на грант — на захаваньне фатаграфіяў.*
[2] *Юбілейная вечарына да 85-годзьдзя Натальлі Арсеньневай.*
[3] *Мартыненка і Мяльгуй, «Праз рок-прызму». Кнігу выдаў БІНІМ у 1989 годзе.*

**Субота 5 лістапада**

Зрабіла прычоску. Пагода сёньня паскудная.

**Нядзеля 6 лістапада**

Званіла Алеся. У яе ўсё добра, але затрымаецца ў Нямеччыне яшчэ пару тыдняў.

Дзень сёньня прыгожы. Зраньня памыла бялізну. Ужо набралася вельмі шмат. Пасьля паехалі ў New Brunswick. На могілках яшчэ нікога ня было. Паставілі кветачкі на магілку. Хутка пачалі зьязджацца людзі. Шмат было знаёмых. Спачатку адслужылі каля манумэнту. Запруднік расказаў пра Курапаты й пра нацыянальны рух на Беларусі. Пазьней хадзілі [*зь сьвятаром*] па індывідуальных магілках.

Неяк мне раптам прыйшла ідэя купіць зямлю[1]. Залагодзілі вельмі хутка — якраз-жа ўсё было — й пляны й людзі, што гэтым займаюцца. Купілі ў тым самым радзе, дзе й магілка мамы й папы — ды недалёка ад Запруднікаў. Падсказалі й Але, і яна купіла для сваёй сям'і — побач з намі.

Прыехалі дахаты ня позна. Адпачывалі.

[1] *Месца для будучых нашых магілаў.*

**Панядзелак 7 лістапада**

Сёньня на працу, але гэты тыдзень будзе кароткі, дык неяк лепей чуешся.

Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y.

**Аўторак 8 лістапада**

Сёньня дома — зраньня схадзілі пагаласавалі, а пасьля В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. — працаваць з Томам. А я цэлы дзень амаль займалася з Арсеньневай і Ezra Pound. Праўда, памыла бялізну зраньня.

Перачытала ўступ Адамовічаў да «Між берагамі». Перагледзела вершы. Яна добрая паэтка!

Вечарам прыехаў Юра й мы разам павячэралі. Было вельмі прыемна. Пасьля сядзелі й глядзелі T.V. пра выбары. Даволі рана ўжо было прадсказана, што выйграе Буш.

Юрачка паехаў, а мы яшчэ даволі позна глядзелі[1].

---

[1] *Вынікі выбараў у тэлевізіі.*

**Серада 9 лістапада**

Сёньня адчуваецца, як панядзелак. Дзень быў даволі нудны.

У абед схадзіла ў бібліятэку — узяла колькі кніг E. Pound. Пераглядала крыху й на працы. Крыху ёсьць вершаў, што можна будзе перакласьці, але ў агуле маё ўражаньне аб ім такое, як і было раней, — нудны, цяжкі, незразумелы. Цяжка будзе неяк давязаць да Арсеньневай.

В[*ітаўт*] у N.Y. — у радыё. А а 2-ой спатыкаецца з маладым палякам, які працуе над адносінамі палякоў, літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў.

Званіла вечарам Надзя. Пыталася, ці варта рабіць каравай. На нашую думку — варта.

**Чацьвер 10 лістапада**

Дзень быў нейкі даўгі і нудны сёньня. Зрабіла, праўда, колькі xerox. Зьбіраньне матар'ялаў патроху пасоўваецца. Усё толькі не магу згадзіцца з думкай, што «Тундаля» няма.

Чакала Тома, каб перагледзець матар'ял для Залеўскага. Перад пятай пазваніў, што ня зможа прыехаць.

В[*ітаўт*] быў у N.Y. — спачатку ў дэнтыста, а пасьля меў спаткацца з Шук[*елойцем*] і з тым маладым чалавекам з Польшчы, што працуе над польска-бел. дачыненьнямі. Падышла й я да іх на пару хвілінак.

Вечарам пераглядала крыху манускрыпт, што Акула прыслаў. Гэта праца, якую перaслалі зь Беларусі для надрукаваньня тут — пра гісторыю «рок» і беларускі «рок». Нічога сабе.

**Пятніца 11 лістапада**

Сёньня дома. Нідзе не хадзілі — не хацелася нават адзявацца. Пагода цудоўная. Шкада, што не падумалі зараньня недзе паехаць.

Але добра папрацавалі цэлы дзень.

**Субота 12 лістапада**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Крыху парадкавалася. Памыла бя-

лізну й паехалі на рынак. Купілі й мяса й фруктаў і зяляніны. Пагода прыемная.

Рэшту дня працавалі. Я са сваёй літаратурай 16 ст., а В[*ітаўт*] — з Бел. эміграцыяй.

Я пазваніла ў Flemington Fur. Алесіна шуба ўжо гатовая для прымеркі.

**Нядзеля 13 лістапада**

Сёньня пасьнедалі і пачалі кожны сабе працаваць. Я амаль ужо ўпарадкавала свае матар'ялы — шмат ёсьць, але шмат яшчэ й зьбіраць трэба.

Цэлы дзень так і былі каля хаты — нідзе ня езьдзілі. Пагода няпрыемная — дождж.

Званіў Васіль [*Русак*] — яны прыедуць на Арсеньневу.

Пазванілі Дзядзю Ваню — у іх усё добра. Ён ужо амаль скончыў шырму. Пра кажух не даведаліся — яе ня было дома. Д. В. наракае на сьпіну.

Званіла Надзін — яна была ў А[*лесі*] ў хаце. Там усё добра. Алеся падрыхтавала ўсё для В[*ітаўта*] — для фарбаваньня[1].

Надзін і [*ейны кавалер*] Том мелі невялічкі accident[2] каля А. хаты, але ўсё залагодзілася.

---

[1] *Я дапамог ёй фарбаваць адзін пакой.*
[2] *Аварыя.*

**Панядзелак 14 лістапада**

Сёньня так не хацелася ісьці на працу пасьля даўгога вікэнду.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. у радыё. Я маю сёньня шмат чаго пераглядзець і для сябе й для В.

В. пазваніў — памерла Зіна Станкевіч учора. У сераду будуць хаваць.

На Арсеньневу ўжо сабралася каля 30 асобаў, шмат прысылаюць прывітаньні.

В. завёз манускрыпт пра беларускі «рок» на радыё. Адам будзе чытаць патроху.

**Панядзелак 5 сьнежня**

Дрэнна чуюся — сьпіна

**Аўторак 6 сьнежня**

Пайшла на работу бо мела дэнтыста

**Серада 7 сьнежня**

Хворая дома

**Пятніца 9 сьнежня**

А. прыех.
Flemington
Wash.

**Субота 10 сьнежня**
Shoping
Ялінка
Дахаты
Чуюся вельмі дрэнна

**Нядзеля 11 сьнежня**
Зв. Юру
прыпісаў пеніцылін
нічога не памагае

**Панядзелак 12 сьнежня**
Да доктара

**Аўторак 13 сьнежня**
Хворая [пракрэсьлена да суботы]

**Панядзелак 19 сьнежня**
Першы дзень на рабоце. чуюся слаба
Спраўку ад доктара — Дахаты

**Аўторак 20 сьнежня**
Першы поўны дзень — слаба

**Серада 21 сьнежня**
Bonus day

**Пятніца 23 сьнежня**
Зь Віт. на Downtown
А. прыех.
Прыех. Сяр. К.

**Субота 24 сьнежня**
Shoping
А. да Н.
позна

**Нядзеля 25 сьнежня**
S. паеха[...]
Падарункі
А. да Н.

**Панядзелак 26 сьнежня**
Shoping
А. паехала

**Пятніца 30 сьнежня**
Раней дахаты
Валасы
Заб. зуб — дзясны. Penicilin

**Субота 31 сьнежня**
Раніцай у Wash.
Яблыкі, грыбы
Wash а 2-ой назад

Aberdeen

---

[1] Паехалі ў Вашынгтон да Алесі. Перад Новым Годам дапамаглі ёй сёе-тое ў хаце, аддалі падарункі й паехалі дахаты.

## 1989

**Нядзеля 1 студзеня**

Усталі ня позна. Пайшлі пасьнедалі недалёка матэлю — добрае сьняданьне. Пачаўся невялічкі сьняжок, але чым далей, тым лепей і ўжо ў N.J. амаль нічога ня было[1]. Прыехалі дахаты пасьля 1-ай. Адпачывалі.

Першы дзень новага году прайшоў часткова ў дарозе, часткова дома. Прыемна, спакойна, памысна.

---

[1] Ехалі з Вашынгтону, былі ў Алесі і ў Бібліятэцы Кангрэсу.

**Панядзелак 2 студзеня**

Сёньня дома.

Пачынаю адчуваць ірытацыю[1]. Я спачатку думала, што гэта з дарогі, але цяпер выглядае, што гэта так, як у мяне было ўжо пару гадоў таму.

---

[1] Запаленьне, раздражненьне.

**Аўторак 3 студзеня**

На працу. Усё добра.

Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

**Серада 4 студзеня**

Алесін дзень народзінаў. Пазванілі прывіталі яе.

**Пятніца 6 студзеня**

Дахаты паехала раней.

Пачаўся моцны сьнег. Я рыхтую куцьцю, але мусіць [*дзеля сьнегападу*] ня варта дзецям прыязджаць. Пазваніла Юру, каб не прыязджалі.

Мы самі зрабілі сабе куцьцю.

Званіла Алеся — яна таксама рыхтуе куцьцю, дык пыталася, як рабіць грыбкі.

**Субота 7 студзеня**

Зрабіла прычоску.

Прыехалі Юра й Лорэйн. Вельмі прыемна правялі час.

**Серада 11 студзеня**

Хадзіла да дэнтыста. Мая старая каронка нешта не ў парадку.

**Чацьвер 12 студзеня**

Прыходзіў Том. Праверылі [*матэрыял пра Беларусь для*] Залеўскага[1]. Гэта ўжо спадзяюся канчальная праўка. Прызнацца, мне гэты артыкул ужо здорава надакучыў.

---

[1] *Войцех Залеўскі, куратар славянскіх і ўсходнеэўрапейскіх калекцыяў у бібліятэцы Стэнфардзкага ўнівэрсытэту. Артыкул пра бібліятэкі Беларусі. Вялікі — пляноваўся як кніжка. Потым усё «расстроілася». Зора не пагодзілася на скароты — зьняла.*

**Пятніца 13 студзеня**

Паслала Залеўскаму канчальную (спадзяюся, што канчальную) вэрсыю.

Зуб неяк ня добра адчуваецца.

В[*італь*] у [*фундацыі*] Крэчэўскага на сьвяткаваньні «Новага Году» — неяк яны няўдала задумалі. Я не паехала, бо без машыны надта-ж стомішся.

Mr. Williams[1] зь бібліятэкі папрасіў, каб В. наладзіў для яго рэгістрацыю машыны, бо яму цяжка дастацца ў N.J. у будні дзень.

---

[1] *Паліцэйскі зь бібліятэкі, пераяжджаў з Брукліну ў Нью Джэрзі, я дапамагаў яму ўладзіць некаторыя адміністрацыйныя справы.*

**Субота 14 студзеня**

Бабкі дзень народзінаў.

Пасьнедалі разам.

Пазьней прыехалі Ю[*ра*] і L[*orrain*] прывезьлі торцік і мы бабцы наладзілі народзіны. Было вельмі прыемна. Яна чуецца даволі добра.

**Нядзеля 15 студзеня**

Пагода добрая — мыла бялізну.

**Панядзелак 16 студзеня**

В[*італь*] працуе з Томам сёньня[1].

Я дома. Схадзіла па пакупкі. Трохі тое-сёе купіла сабе.

В. чуецца прастуджана. Прыехаў вельмі стомлены.

---

[1] *З Томам рабілі «Запісы» і артыкул пра Беларусь для нейкага англамоўнага часапісу.*

**Аўторак 17 студзеня**

В[*італь*] раніцай зайшоў у Motor Vehicle[1] — трэба запоўніць анкеты. Добра якраз завязём сёньня для Mr. W[*illiams*].

Я працую позна.

Паехалі на машыне.

На рабоце ўсё добра. З машынай заўсёды прыямней. В. крыху лепей чуецца.

---

[1] *Аўтадарожная ўправа.*

**Чацьвер 19 студзеня**
На рабоце ўсё ОК.
Прыязджаў Юра. Ён быў на інтэрв'ю ў [*клініцы ў*] Buffalo і заязджаў да нажнога доктара.

**Пятніца 20 студзеня**
Хадзіла да дэнтыста. Ён, мусіць, будзе рабіць новую каронку. Ён мне прыпісаў antibiotic.
Званіў В. Мельяновіч — ён будзе ў Нью Ёрку ў нядзелю.
Вечарам пасьля працы [redacted] зайшла да доктара — новы, які належыць да юніі, — нашая сястра дала мне яго адрас. Ён мяне добра агледзеў. Узяў кроў, мачу, агледзеў унутры — ірытацыя яшчэ ёсьць. Ён думае, што гэта можа ад penicilin. Я брала, здаецца, але дакладна не магу прыпомніць калі. Сказала яму, што дэнтыст прыпісаў, — ён параіў мазь браць тады даўжэй.
Ціск добры. Усё выглядае ОК. Пазваніць на наступным тыдні — даведацца рэзультаты тэстаў.

**Субота 21 студзеня**
Зрабіла прычоску.
Узяла ў аптэцы мазь.
Пасьнедалі.

**Нядзеля 22 студзеня**
В. паехаў у N.Y. спаткацца з Васілём М[*ельяновічам*]. Я не паехала, бо чуюся крыху ніякава і з зубам, і з ірытацыяй.
Васіль расказаў пра свой побыт у Менску.
Дамовіліся сабрацца ў нас 4-га лютага.
Перадаў В[*ітаўту*] для нас кнігі ад Сыса. Закладала лекі. Зуб яшчэ баліць.

**Панядзелак 23 студзеня**
В[*ітаўт*] пазваніў да Алесі на працу, бо мы ад яе ўжо даўно ня мелі тэлефону. Яна, аказваецца, у Нямеччыне. Паехала, й нічога нам не сказала. Мусіць, ня мела часу альбо думала, што мы ведаем.

**Аўторак 24 студзеня**
Зайшла зноў да дэнтыста. Усё яшчэ з зубам ня ладзіцца.
Вечарам званіла да доктара. Усё добра, але толькі крыху павышаны халестэрол. Трэба будзе сесьці на дыету.

**Серада 25 студзеня**
Цэлы дзень працавала над дзіцячай выстаўкай. У нас многа старых цікавых дзіцячых кніг, і мы рашылі наладзіць невялічкую выстаўку.
В[*ітаўт*] у N.Y., працуюць над газэтай.

**Чацьвер 26 студзеня**
Зрабіла выстаўку. Добра выйшла.
В. зноў у N.Y. Канчаюць газэту.

**Пятніца 27 студзеня**
Палучка.
К[*асінец*] пайшоў раней. Я крыху працавала для сябе.
Вечарам зайшла ўзяла ў доктара дыету. Будзем разам трымацца.

**Субота 28 студзеня**
Прычоску сёньня мне рабіла Terry. Frannie ужо ў суботу ня будзе.
Селі на дыету.
Вечарам паехалі на Slavic Concert[1]. Нашыя гэтым разам ня былі надта эфэктоўныя — нечага ў іх не хапае. Мы, не дачакаўшыся канца, паехалі дахаты.

---

[1] *Гадавы Славянскі канцэрт у Лінкольн-Цэнтры.*

**Нядзеля 29 студзеня**
Працавала для сябе.
Пад'ехалі толькі ў Патэрсон на рынак — купілі зеляніны, курку.
Званілі людзям [*запрашалі*] на зборку з Мельяновічам.

**Панядзелак 30 студзеня**
Юра паехаў на лыжы.
Ад Яноўскага атрымалі важныя матар'ялы. Ён прысылае ўсю падпольную літаратуру зь Беларусі[1]. Здымкі. Вельмі аказаўся талковы на гэты конт чалавек.

---

[1] *Нелегальную літаратуру зь Беларусі зьбірала і Ньюёркская публічная бібліятэка, і Бібліятэка Кангрэсу ў Вашынгтоне.*

**Аўторак 31 студзеня**
Заўважаецца ўжо вага крыху.

**Серада 1 лютага**
В[*ітаўт*] у N.Y. Пазваніў Алесі. Яна прыехала зь Нямеччыны ў нядзелю. І яшчэ нам і не зазваніла.

**Чацьвер 2 лютага**
Рыхтуюся да суботы.
В. прыбраў крыху ў хаце.

**Пятніца 3 лютага**
В. сёньня працуе з Томам. Я крыху працавала для сябе.
Ад Яновіча прыйшоў зноў важны матар'ял.
Ліст ад Zalewski — з артыкулам усё ў парадку.

**Субота 4 лютага**
Зраньня зрабіла прычоску.

Васіль і Dolores[1] прыехалі рана. Хутка прыехаў і Зап[*руднік*]. Яны сабе гаварылі, а мы з Dolores рыхтаваліся да гасьцей. Усё было добра і ў час зроблена.

Сабралася шмат людзей. Усе былі вельмі зацікаўленыя, што расказваў Васіль[2]. А ён шмат меў чаго расказаць і здымкі паказаць. Галоўнае, што людзі цікавіліся яго беларускасьцяй і наагул цікавіліся аб эмігрантах.

---

[1] *Мельяновічы.*

[2] *Васіль быў гідам на Амэрыканскай выстаўцы ў Менску ў 1988 годзе.*

**Нядзеля 5 лютага**

Пасьнедалі. Гаварылі, разглядалі фото. Паехалі яны каля 2-ой. Адпачывалі. Вельмі стамілася.

**Панядзелак 6 лютага**

Чуюся стомлена. Рыхтую мат. для К. В. у N.Y.

**Аўторак 7 лютага**

Аддала гасьцю з Кіева інф. аб дзьве кнігі, каб прыслаў хегох.

**Серада 8 лютага**

В. у N.Y.

**Чацьвер 9 лютага**

Аддала К. інфо. каб заказаў мікрафільмы. Цэлы дзень ня было сотрютэраў. Рабіла для сябе.

**Пятніца 10 лютага**

В. з Томам. К. паехаў. Рабіла для сябе. Прывозілі кнігі але не пакінулі ліст зноў ад Б.

**Субота 11 лютага**

Прычоска. Цэлы дзень хваляваньня кнігамі. Нідзе не паехала. В. езьдзіў у United Parcel[1].

---

[1] *Выходзіць і перасылаецца з Каліфорніі кніга «Byelorussian Statehood».*

**Нядзеля 12 лютага**

Цэлы дзень дома. Толькі зьезьдзілі на базар і па каву.

**Панядзелак 13 лютага**

Цэлы дзень чакалі кнігу. Вечарам дазваніліся да Ю. Гэта аказваецца пераслалі Consolid. Fr.

**Аўторак 14 лютага**

К. няма. В. застаўся чакаць кнігі. Прывезьлі па абедзе. На раб. усё добра.

**Серада 15 лютага**

Памёр Жук[1]. В. у N.Y. Прыходзіў Moskowich. Па абедзе Kaplan. Спаткаліся з В. на каву. Цукеркі. Зв. Надзі. Зв. Юра.

---

[1] *Вінцук Жук-Грышкевіч.*

**Чацьвер 16 лютага**

Кніга добр. Уран. закаталаг. На рабоце ўсё добра. В. пайшоў да зуб. — аказв. гэта наступ. чацьвер.

**Пятніца 17 лютага**

Таня зрабіла авантуру. Цэлы дзень пад напружаньнем.

**Субота 18 лютага**

В. з Томам. Прычоска. Пасьнедала сама. Shoping. Здала Валю карціну

**Нядзеля 19 лютага**

Пасьнедалі. Працавалі. Сабрала рэчы для Надзі. Пазв. К. Ён толькі прыехаў. Мікраф. заказаў.

**Панядзелак 20 лютага**

Рана пазв. К[*асінец*] — памер яго бацька. Паніхіда па Жуку.

**Аўторак 21 лютага**

В. паехаў на паховіны. К. прыйшоў на пару гадзін і пайшоў. Да нас на ноч Жучыха і Сажыч[1].

---

[1] *Паховіны д-ра В. Жук-Грышкевіча на могілках у Іст-Брансуіку. У нас затрымаліся д-р Я. Сажыч і д-р Раіса Жук-Грышкевіч.*

**Серада 22 лютага**

В. завёз іх на аэрадром. Я пайшла сама. К. ня было цэлы дзень.

**Чацьвер 23 лютага**

К. прыйшоў. Парушыў усе пляны — я на яго здорава пакрыў. У annex Я заўтра не пайду на зборку R. S. B. у N.Y. Па абедзе прыйшоў Надсон. Схадзілі на абед. В. павёз яго на аэрадром.

**Пятніца 24 лютага**

Страшуць сьнегам — пайшла рана. Соўчэк ня прыйшоў. Рыта спазьнілася. Так яму й трэба. Пасьля памірыліся.

**Субота 25 лютага**

Нашы ўгодкі 33 гады. Прычоска. Зв. Connie. Алеся. Бялізна. Ю. Фрукты. Крыху працав. Падрыхт. да рэф. Крэчэўскі. Мала людзей.

**Нядзеля 26 лютага**

Пасьнедалі. Працавалі. Па абедзе прыехаў Юра й Лорэйн. Яны ўжо замовілі царкву. Павяч. разам pizza.

**Панядзелак 27 лютага**

В. у N.Y. У мяне нічога цікавага. Дала К. кнігу.

**Серада 1 сакавіка**

В. у N.Y. Зуб. доктар будзе рабіць мосьцік. Сакрат прыслаў здымкі.

**Чацьвер 2 сакавіка**

Зрабілі ваду. Нажны док. Юра пазваніў — заладзіў з заляй.

**Пятніца 3 сакавіка**

Запр. прыйшоў забраць здымкі. Зв. Ball.

**Субота 4 сакавіка**

В. з Томам.

**Чацьвер 9 сакавіка**
Зап. прыехаў пасьля 10-ай.

**Пятніца 10 сакавіка**
Зрабіла прычоску. Ехалася вельмі добра — цудоўная пагода. Працавалі над Кав.[1] Прыехалі ў Lond. каля 7-ай. павячэралі.

---

*[1] Зора, Ян Запруднік і я паехалі ў Канаду на вясельле Шуставай дачкі ў горадзе Лёндан. Рэдагавалі творы Міхася Кавыля.*

**Субота 11 сакавіка**
Пасьнедалі й паехалі шукаць карту. Паглядзелі крыху мясцовасьць. У царкве — добра. Да Рагуляў. Reception. Дрэнна спалі.

**Нядзеля 12 сакавіка**
Рана Рагуля прывёз Зап. — пасьнедалі й паехалі. Ехалася добра. Працавалі. Прыехалі дахаты недзе каля 5-ай.

**Чацьвер 16 сакавіка**
Прыехалі Надзя і Васіль — кампютар для ўладыкі. Прыехаў Зап.[1]

---

*[1] Рыхтуемся да Сакавіковага сьвята ў Канаду. Вязем Уладыку Мікалаю кампутар.*

**Пятніца 17 сакавіка**
Зрабіла прычоску. Выехалі а 9-ай. Ехалася добра. Працавалі[1]. Прыехалі ў Тор. каля 6-ай. Івонка, Жучыха.

---

*[1] Рэдагавалі М. Кавыля ў дарозе. Два тыдні запар езьдзілі ў Канаду! Я кіраваў, ■ Зора і Ян рэдагавалі Кавыля.*

**Субота 18 сакавіка**
Пасьнедалі. Паседжаньне добра прайшло. В. добра. Кнігі мае — добра, прадавалі Statehood. Банкет. Шуст даў Юру столік.

**Нядзеля 19 сакавіка**
Рана выпілі каву разам. Паехалі ў царкву. Гав. з Акулам. Абед. Назад у гатэль. Спакаваліся. Паседжаньне. Ехалі цэлы дзень. Працавалі. Прыехал. а 11-ай.

**Панядзелак 20 сакавіка**
Крыху стомлена чуюся. В. у N.Y. Кас. па абедзе на паседж. Я працую для сябе.

**Аўторак 21 сакавіка**
К. зрана на паседж. Па абедзе не пайшоў.

**Серада 22 сакавіка**
В. у N.Y. Радыё, з Томам. Зрабіў хегох Кавыля. В. прыйшоў пасьля 8-й. Павячэралі.

**Чацьвер 23 сакавіка**
Рабіла для сябе — Вільня, Беласток. Скончыла Кав. Пачала біягр. Званілі Але. Гаварылі з Вячкам.

**Пятніца 24 сакавіка**

В. паслаў Кав.[1] Палучка. Пагав. з Whitt. — ён дасьць свае дадзеныя. Прыйшоў Tristan.

[1] *Здалі Кавыля ў друк.*

**Пятніца 31 сакавіка**

Канчала яшчэ рыхтавацца да Mid Atlantic[1]. У абед схадзіла зраб. прычоску. Купіла булачкі. Выехалі каля 5-ай. Ехалася даволі добра. Дождж. Прыехалі а 9-ай. Холадна.

[1] *Зора на канфэрэнцыі славістаў у Сыракюз, штат Нью Ёрк.*

**Субота 1 красавіка**

Шуба вельмі прыдалася. К. вельмі зьдзіўлены. Panel прайшоў добра. Выехалі пасьля 4-ай[1]. Дарога ня прыемная, але чуліся добра. У Клев. пасьля 11-ай. Пагода была прыемная, але даволі холадна. В. рыхтаваўся да Кліўленду. Добры дзень.

[1] *Паехалі на сьвяткаваньне 25 Сакавіка ў Кліўленд.*

**Нядзеля 2 красавіка**

Раніцай схадзіла да споведзі. Сьвяткаваньне прайшло добра. В. добра. Прадалі кніг. Стрэчань — яды. Выех. а 4-ай. Затрымаліся ў Danwill.

**Панядзелак 3 красавіка**

Раніцай пасьнедалі й паехалі. Дома былі ўжо перад абедам. В. — у радыё. Я цэлы дзень адпачывала.

**Аўторак 4 красавіка**

На рабоце ўсё ОК. Пазваніла Паўлінка Сурвіла. Яна прыязджае заўтра[1].

[1] *Паўлінка Сурвіла скончыла школу і на пару тыдняў затрымалася ў нас.*

**Серада 5 красавіка**

Dentist. В. у N.Y. Прыехала Паўлінка. Я неяк стомленая. Дождж. Паелі кітайскае.

**Чацьвер 6 красавіка**

Паў. у N.Y. у музэях. Зв. Але, каб дамовіцца з П.

**Пятніца 7 красавіка**

Паўлінка ў Бібліят. шмат знайшла. Вечарам паехала на пробу. Ю. прывёз яе дахаты.

**Субота 8 красавіка**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. П. паехала ў N.Y. Я — парадкавалася.

**Нядзеля 9 красавіка**

Зайшлі ў царкву. Заказала паніхіду па маме. Сьвят. добра. Ю. і Lor. гаварылі з Зап. А. Васілём.

**Панядзелак 10 красавіка**

На рабоце ўсё ОК. пад абед прыш. П. — схадзілі на абед. Пасьля працы — вячэра. Cats. Добра ўсё было.

**Аўторак 11 красавіка**

В. прывёз П. Правялі яе й дахаты. Адпачывалі.

**Чацьвер 13 красавіка**

Працую над памфлетам.

**Пятніца 14 красавіка**

К. няма. Дзень добра прайшоў. Прыехала А. В. спаткаў яе — на пробу.

**Субота 15 красавіка**

Прычоска. Дождж. Пасьнедалі. Прыехала Lorrain. Flemington. Купілі для падарункаў. Цэлы дзень прахадзілі ў дождж. Дахаты па 6-ай. Pizza. Добры дзень.

**Нядзеля 16 красавіка**

Пасьнедалі. Парадкавалася. Зуб вываліўся. Праверылі з А. Надзін — цэмэнт. Да бацькоў L. Добра, але зуб мне дакучаў.

**Панядзелак 17 красавіка**

В. павёз А. На рабоце ОК. Аддала К. proposal. В. у N.Y.

**Аўторак 18 красавіка**

Памыла бял. На раб. на машыне. Добры дзень. Купіла яшчэ падсьвечнікаў.

**Серада 19 красавіка**

Дэнтыст. Вечарам да Надзі. Аддалі Валі падарункі для ўзораў. Забралі ў Галіны карціну ад Івонкі.

**Пятніца 21 красавіка**

В. з Томам. Зрабіла xerox для Паўлінкі. Ю. перавозе свае рэчы.

**Субота 22 красавіка**

Завіўка. Мыла фіранкі. Прыбірала. Зьезьдзілі з В. на базар. Добры дзень. Зрабілі ўсе заказы.

**Нядзеля 23 красавіка**

Пасьнедалі і я зноў мыла і прыбірала.

**Панядзелак 24 красавіка**

В. у N.Y. Зв. Зап. каб зрабіла рэпартаж. Пісала для газэты — рэпартаж аб 25 сак. В. перадрук.

**Аўторак 25 красавіка**

Прыйшоў Ш. з унучкай Тулейкі — забраў матар'ял.

**Серада 26 красавіка**

На фарму. Заплацілі Taxes. У А. С. Цудоўная пагода. Да Дз. В. Заехалі на рынак.

**Чацьвер 27 красавіка**

На рабоце ўсё ОК — шмат працы. Пачала рыхтаваць бабку. В. хадзіў да Надзін.

**Пятніца 28 красавіка**

В. з Томам. Цэлы дзень насілася — а выйшаў пшык. Спаткала Ал. А. з Надзін. В. крыху падпіў Ю. перавозіць рэчы. Pizza.

**Субота 29 красавіка**

Пачала бабку нанава — пайшло крыху лепей. Усё добра скончыла, але стамілася. Паз. Лор. маці, што хворы бацька й яны ня буд.

**Нядзеля 30 красавіка**

Вялікдзень. Зраньня яшчэ зраб. тое-сёе. Добра прайш. Езьдзілі ў магазын. Ю. й Л. знайшлі хату. Доўга гаварылі пра хату, пра іхныя фінансы. Bal. была вельмі спакой. — здаецца яна баіцца каб у яе не папрасілі грош.

**Панядзелак 1 траўня**

Юра завёз А. на аэрадр. На працы ўсё ОК. Юра — дома, дык у хаце балаган.

**Аўторак 2 траўня**

Нічога цікавага не прып. — рыхтуюся да канфэрэнцыі.

**Серада 3 траўня**

Юра цяпер у Вашынгтоне. У хаце ўсё дагары нагамі.

**Чацьвер 4 траўня**

На Medieval. conf. не паехала. Рыхтуюся да Backlog conf.

**Пятніца 5 траўня**

Ю. прыехаў з Вашынгтон. Пазваніла А. што прыедзе. Я адклала прычоску на заўтра — рашыла выехаць крыху пазьней. Заўтра Ю. прывёз А.

**Субота 6 траўня**

Прычоска. Раніцай пасьнедалі разам і паехалі[1]. Ехалася добра. Затрымаліся за Columbus, Ohio. Зв. дахаты — усё добра.

---

[1] *На канфэрэнцыю ў Каламазу.*

**Нядзеля 7 траўня**

Даехалі да Ch. Urbana хутка па абедзе. Адпачывалі. Пайшла на вячэру — В. не захацеў.

**Панядзелак 8 траўня**

Цэлы дзень занятая. В. — у бібліятэцы. Вечарам пайшлі разам на вячэру. Добра.

**Аўторак 9 траўня**

Канф. скончылася да абеду. Паабедалі й паехалі. Дождж. Затрым. каля Acron.

**Серада 10 траўня**

Дождж быў нам праз усю дарогу. Прыехалі дахаты пасьля 5-ай. Ю. й Л. дома. Яны ўжо залагоджв. з хатай.

**Чацьвер 11 траўня**

На працы. В. — радыё. Пазванілі А. сказалі, аддаем ёй 10.000 даем ім усім на Бел. па 1000.

**Пятніца 12 траўня**

Шмат працы. В. дома прыбірае трохі. Ю. на танцах. Паз. да Bal. Заўтра паедзем на shopping.

**Субота 13 траўня**

Прычоска. Крыху распагодзілася — трэба мыць бялізну. Пасьнедалі. Bal. прыехала каля 11. Shoping. Нічога надта не купілі. В. паехаў спаткаць Галіну.

**Нядзеля 14 траўня**

В. у New Brun. — вэтэраны. Пасьнедалі. Я яшчэ памыла бялізну. Пачала шыць спадніцы — Галіна памагала. Паехалі на вячэру. Добра прайшоў дзень.

**Панядзелак 15 траўня**

Галіна ОК. прыехала ў Нью Ёрк. Дождж. В. у N.Y. купіў білеты.

**Аўторак 16 траўня**

Дождж. Галіна хадзіла з Шук. па N.Y. Вечарам у тэатр — Les Mis[*erables*]. Нічога асаблівага.

**Серада 17 траўня**

Галіна ў N.Y. зноў.

**Чацьвер 18 траўня**

Пазваніла Алеся — яна прыедзе ў пят.

**Пятніца 19 траўня**

Раніцай ужо неяк палягчэла — Г. выедзе яшчэ перад 7. Зайшла яна яшчэ ў біб. — купіла ёй торбу. Далі ёй $200. Ю. й А. прыехалі позна.

**Субота 20 траўня**

Пасьнедалі. Паехалі з А. shoping. Паглядзелі крэсла. Прыгатавалі вячэру, але Юра ні В. не хацелі есьці. Дзеці на забаву.

**Нядзеля 21 траўня**

Пасьнедалі. Мы паехалі яшчэ з А. у магазын — нічога надта ня купілі. Крыху для В. Завезьлі А. на аэрадром.

**Панядзелак 22 траўня**

На рабоце ОК. Нічога асаблівага. В. з Томам.

**Аўторак 23 траўня**

В. у N.Y. Перадала А. спадніцу з Юрам. Скончыла Алесіну.

**Серада 24 траўня**

Шукала істужкі для. Зв. Ала.

**Чацьвер 25 траўня**

Зв. Надзя. Яны з Алай рыхтуюць ікону. Зв. Lorrain — паехаем у суб. shoping.

**Пятніца 26 траўня**

Дзень нейкі надта нудны. Добра што пятніца. Зв. да Bal.

**Субота 27 траўня**

Зрабіла прычоску. Пагода нявыразная, дык бялізну няма як мыць. Пасьнедалі. Крыху парадкавалася, шыла — выкончвала спадніцу для Паўлінкі. Пасьля 11ай прыехала Lorrain і мы хутка й паехалі. Купілі для В[*італма*] штаны, і ўсялякую дробязь. Зайшлі ўжо й купілі калбасы. У ўкраінскім магазынчыку паглядзелі істужак, крыху тое-сёе выбралі, але ня дужа цікавае. Паехалі ў Sims. Там купілі Юру штаны. Заехалі і ў Лоўманс, але нічога ня купілі. Ды ўжо трэба было й дахаты. Заехалі толькі забралі штаны.

Юра з L[*orrain*] паехалі недзе на party, а мы ўжо адпачывалі. Я яш-

чэ, праўда, кончыла нашываць істужкі на Паўлінчыну спадніцу. Дзеці прыехалі ня позна, і я ўжо хутка пайшла спаць. L. начавала ў нас.

**Нядзеля 28 траўня**

Пасьнедалі. За сталом дыскутавалі пра выхаваньне дзяцей.

Я памыла бялізну. L[*orraine*] падрубіла Ю[*ру*] штаны, а я выкончвала спадніцу Алесі. Пазваніла Ала. Пагаварылі пра блюзачкі і істужкі для іх, пра спадніцу для Lorrain. Яна спаткаецца з Алай і пагаворыць[1].

Юра паехаў на працу, Лорэйн да сваіх бацькоў на адпачынак.

Я хуценька памылася й мы з В[*ітаўтам*] зьезьдзілі ў Pat[erson] на базар. Купілі кавун і персікаў.

Цяпер я выйшла на двор і запісваю дзёньнік.

Пазваніла L. — яе маці зламала руку.

---

[1] *Танцавальны ансамбаль «Васілёк» рыхтаваўся да паездкі ў Беласточчыну.*

**Панядзелак 29 траўня**

Сёньня дома.

**Пятніца 9 чэрвеня**

Дрэнная пагода цэлы дзень.

Алеся мае прыехаць сёньня на пробу.

Юра паехаў яе спатыкаць у Newark, а яна тым часам зьмяніла на Laguardia[1]. Выйшаў такі канфуз. Юра чакае яе і баіцца таксама спазьніцца на пробу, бо Ала вельмі ўжо псіхуе. Нарэшце, не дачакаўшыся яе, паехаў.

А. пазваніла пасьля 10-ай, што яны толькі падняліся ў Ваш. У N.Y. будзе праз гадзіну. Мы пазванілі Юру на пробу, каб спаткаў яе, ужо едучы дахаты.

Нарэшце ўжо пасьля 12-ай прыехалі. Алеся зрабіла такі высілак — і так няўдала выйшла.

---

[1] *Адно зь лётнішчаў у Нью Ёрку.*

**Субота 10 чэрвеня**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі. Я пазваніла да Надзі, каб прыехаць у іхныя краі і паглядзець кветкі й абрусы. Яна якраз была вольная — толькі прыйшла зь ягадаў. Так нам гэта было на руку. Дамовіліся спаткацца, ды можа й ягадаў зьбяром на заўтрашнія госьці. Пазваніла й [*Ніне*] Сільвановічавай пра А[*лесіну*] блюзачку.

З кветкамі нічога канкрэтнага не зрабілі, аднак нагледзелі тоесёе. гэтаксама і з абрусамі. Добра, што рана пачалі прыглядацца. Сабралі ягадаў — вельмі было прыемна.

**Нядзеля 11 чэрвеня**

Зраньня пасьнедалі ўсе разам. Пазванілі да Ball[*arine*] — паклікалі

яе ехаць з намі ў Flemington. Сабраліся й паехалі. Да прыняцьця ўсё больш-менш закуплена й прыгатавана.

Там было добра. Пагода цудоўная. Мы, праўда, былі зьвязаныя з часам. Хацелася неяк пабыць у Фл., каб і пагода была добрая, і часу было. Здалі [*на летняе перахаваньне*] маю шубу. Пайшлі глядзець сьвечкі й розныя ўпрыгожаньні. Нічога ня купілі, але нагледзелі й прымеркавалі — усё будзе залежаць ад кветак на стале.

Прыехалі дахаты ў час і пачалі рыхтавацца. Ball. таксама засталася.

Добра ўсё прайшло — і моладзі добра сабралася й гутарка была дарэчы й пачастунак быў смачны. Разьехаліся яны ня позна. Ball. таксама хутка паехала, і мы крыху адпачылі. Ю. паехаў да Лорэйн.

Панядзелак 12 чэрвеня

Ехалі з Алесяй разам у N.Y. Яна мае справу ў Federal Plazza[1].

В. прывязе ейныя рэчы ў радыё — там спаткаюцца [redacted] Алеся паляціць назад у Вашынгтон.

Я схадзіла купіла для Алесі рознай дробязі для дарогі.

---

[1] *Дзе знаходзяцца дзяржаўныя ўстановы.*

**Аўторак 13 чэрвеня**

Алеся прыехала на пробу [*танцаў*]. Усё добра выйшла — яна добра зь імі сышлася.

Прыехалі дахаты позна, але вельмі бадзёрыя й вясёлыя. Яшчэ крыху пагаварылі й пайшлі спаць. Алеся ўзяла рэчы, што [redacted] для яе купіла.

**Серада 14 чэрвеня**

Юра завёз Алесю на аэрадром.

Усе ператомленыя, усе забегаліся.

**Чацьвер 15 чэрвеня**

Прыехала Паўлінка. В. яе спаткаў у Newarku і яшчэ заехаў забраў дыплёмы для Беластоцкіх школаў[1], але копіі ўжо зрабіць не пасьпеюць.

На рабоце ўсё добра — рыхтуемся да прыняцьця. Пазваніў В[*ітаўт*], што Lorrain будзе праязджаць праз горад і забярэ мяне з працы.

Прыняцьцё прайшло добра. L. мяне ўжо чакала. Прыехалі дахаты хутка.

Узялі pizza й добра ўсе разам павячэралі, сядзелі, гаварылі.

Я, праўда, была крыху стомленая — хутка пайшла спаць.

---

[1] *За кошт БІНіМу былі аддрукаваныя бланкі дыплёмаў для розных беларускіх урачыстасьцяў на Беласточчыне.*

**Пятніца 16 чэрвеня**

Зраньня ўжо беганіна.

Юра паехаў яшчэ ў шпіталь — Лорэйн паехала разам са мной у N.Y. Паўлінка яшчэ спала, як мы выязджалі.

В. мае іх усіх сабраць пазьней і завезьці на Kennedy[1].

Мне цэлы дзень было неяк не спакойна — як яны там усе справяцца, ўсе зьбяруцца. Але ўсё было добра.

Юра прыехаў у час. Спаткаўся яшчэ з Bossy і залагодзілі tuxedo. Спаткалі Лорэйн каля яе школы. Спаткалі Алесю на аэрадроме. Усе прыехалі, усё залагодзілася. Сп-ня Туронак[2] таксама зь імі паехала.

Я атрымала й памяняла чэк.

Вечарам ужо крыху адпачывалі. Надта-ж за гэтыя дні стаміліся.

---

[1] *Лётнішча Джон Фіцджэралд Кенэды. «Васілёк» ляціць на Беласточчыну.*

[2] *Зіна Туронак, жонка Юркі Туронка, на той час была ў ЗША.*

**Субота 17 чэрвеня**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі.

Я памыла бялізну.

Крыху папрацавала для сябе — спарадкавала матар'ялы, што ўжо набраліся.

Крыху адпачывала.

Званіла Івонка [*Сурвіла*] — даведацца, ці не адазвалася моладзь. Яна хвалюецца, бо нічога ня чула.

Пазьней званіла маці Lorrain таксама даведацца.

Мы таму-сяму званілі. Ніхто нічога ня чуў.

Напэўна ўсё добра, бо інакш бы хутчэй пачулі.

Званілі пра крэсла, але нікога ня было. Прыйшлі два заказы на кніжку Statehood.

Званіў Акула, але гэтым разам быў спакойны.

**Нядзеля 18 чэрвеня**

Пасьнедалі і В[*ітаўт*] хутка й паехаў у Мерлякову царкву — там адзначалі 20-годзьдзе Жамойдавай працы з хорам[1].

Я пазваніла Connie — яе дзень нар.

Дзеці нікому не званілі. Так мы й ня ведаем, як яны даехалі.

Я парадкавалася і адпачывала. В. прыехаў ня позна. Жамойдаў назад прывезла Рагнеда.

Добра прайшло. В. гаварыў з Мерляком і з Мельяновічам. Васіль купіў нейкі вялікі дом [*у Пэнсыльваніі*], дзе мае рабіць беларускія оффісы.

Вечарам званіў Калоша — заўтра пойдзе гаварыць з горадам наконта залі. Сяргей паехаў у Беласточчыну ў чацьвер.

---

[1] *Сп. Сымон Жамойда 20 гадоў быў кіраўніком хору ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку (Канстантынопальскага патрыярхату).*

**Панядзелак 19 чэрвеня**

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку — скрыпт [*на радыё*].

У мяне на рабоце нічога асаблівага. Усе сваім занятыя. Шмат каго няма.

Каля 4-ай спаткаліся з В. каля KLM[1]. Заказалі білеты на Амстэрдам і назад, машыну і гатэль у Амстэрдам.

Я яшчэ пайшла назад на працу, а В. паехаў дахаты.

Памёр [*Коля*] Заморскі.

Выйшла пласьцінка Данчыка і Барткевіча.

Вечарам званіў [*Янка*] Сурвіла. Усё клапоцяцца аб дачцы. Казаў, што сп-ня Рамук робіць нейкія авантуры з крыжом у Канадзе.

Я крыху адпачывала. Слухалі пласьцінку. Мне ў некаторых мейсцах не падабаецца, а В. захоплены.

---

*[1] Нідэрляндзкая авіякапанія. Мы зноў запланавалі падарожжа ў Эўропу.*

**Аўторак 20 чэрвеня**

Сёньня раніцай пазванілі да Шук[*елойця*] даведацца пра паховіны Заморскага. Будзе паніхіда сёньня вечарам у Manhasset, але нам хіба не ўдасца паехаць. Заўтра будуць паховіны ў New Br[*unswick*].

Дзень быў нармальны. У абед схадзіла ў магазын — купіла панчохі. Нагледзела добрыя духі.

Шмат было званкоў вечарам. Званіў Том — заўтра з Пашкевічам[1] сустрэчы ня будзе. Ну, і добра. Званіў Юрка [*Станкевіч*] — ён бярэ вакацыі і, мусіць, заедзе да нас на канцы месяца. Званіў Запруднік пра газэту. Ён ужо клапоціцца пра Мартыненку[2] і пра Кавыля.

---

*[1] Алег Пашкевіч — першы сакратар Місіі БССР пры ААН. Мы зь ім мелі доўгагадовыя дачыненьні. Пазытыўны чалавек.*

*[2] Кніга «Праз рок-прызму».*

**Серада 21 чэрвеня**

Зраньня пазваніла Івонка. Яны вельмі хвалююцца, што няма тэлефону ад дзяцей [*зь Беласточчыны*].

**Чацьвер 22 чэрвеня**

В[*італт*] сёньня зраньня дома — мае ісьці да доктара. Па абедзе меў прыехаць у N.Y.

Пазваніў Запруднік, што Надсон у яго. Дамовіліся, што ён прыйдзе ў бібліятэку. Зайшлі мы зь ім на каву — ён доўга ня быў, бо хацеў пабачыцца яшчэ зь Вітаўтам — В. у N.Y. не паехаў, бо было ўжо позна і трафік быў вялікі (у N.Y. сёньня Бушы). Дамовіліся, што спаткае ён мяне ў Secaucus. Надсон, можа, сёньня таксама прыедзе да нас начаваць.

На Юрава graduation[1] трапілі даволі добра. Прыехалі якраз у час. Сядзелі за сталом з ягоным сябрам Томам. Вельмі ўсё было прыемна. Шмат людзей да нас падыходзілі, знаёміліся — яго там, мусіць, ведаюць і любяць.

Прыехалі дахаты ўжо па 11-ай, а. Надсон сядзеў з бабкай. Пасядзелі яшчэ зь ім пару гадзінаў, пагаварылі. Рамучыха робіць перашкоды на крыж.

[1] *Выпускная ўрачыстасьць, Юра меўся атрымаць дыплём доктара, а ён паехаў у Беласточчыну, так выпала.*

**Пятніца 23 чэрвеня**

В[*ітаўт*] завёз Надсона на аэрадром.

На рабоце ўсё добра.

В. таксама ў N.Y. — робяць газэту.

Паехаў ён дахаты ўжо пасьля 5-ай.

Я купіла тое-сёе для Адамовіча. Гэтаксама для Ball[*arine*].

В. спаткаў мяне ў Secaucus — гэта ўжо трэйці дзень падрад. Я, праўда, яго крыху ўжо чакала.

Паехалі да Ball. Вельмі прыемна правялі час. Яна ўсё гэта падрыхтавала.

Нарэшце ўжо крыху адпачылі вечарам.

**Субота 24 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі й паехалі ў магазын антыкварны.

Там сапраўды прыгожы срэбны прыбор для кавы й чаю — крыху дарагі, ды й нам не патрэбна. Можа, Алеся паглядзіць. Купілі для Lorrain чаркі для віна, пазалочаныя ўсярэдзіне — праўда, крыху пашкоджаныя. Папрасілі, каб яны прыглядаліся да збанка. Да майстра, што робіць крэсла, — так і не дазваніліся.

Завезьлі падкараціць В. штаны. Купілі яму яшчэ чаравікі.

Я пазьней паехала ў Secaucus. Купіла для Нядзьвігаў абрус, для Адамовіча кашулю і сабе сукенку.

Перакусілі й адпачывалі. Званіў Арцюх — ён хоча выдаваць часопіс[1]. Званіў [*Валік*] Сільвясюк — ён тут прыехаўшы — паедуць заўтра ў Dorothy — там парафіяльнае сьвята. В[*ітаўт*] ніяк ня можа дазваніцца да Адамовіча.

Ноччу пазваніў Акула — быў у ваяўнічым настроі.

[1] *Язэп Арцюх заснаваў у 1989 годзе квартальнік «Belarusian review».*

**Нядзеля 25 чэрвеня**

Пасьнедалі. Я крыху парадкавалася. Тады памыла бялізну — здаецца, ужо ўсё падчысьціла — столькі было за гэты час пасьцельнага!

Паехалі ў Патэрсон на базар. Купілі куркі, фруктаў, зеляніны. Думалі купіць яшчэ маёй спэцыяльнай кавы, але магазын быў закрыты.

Павесіла бялізну, як прыехалі. Разабрала ўсё й адпачывала. Крыху разглядала матар'ял для паездкі ў Эўропу.

Званіла зраньня Галіна [*Русак*] — нейкая там этнічная канфэрэнцыя. Званіў Акула — нічога пра ўчарайшую начную гутарку не ўспа-

мінаў — можа й ня памятае. Званіў В[*ітаўт*] Запрудніку — ніяк не дазвоніцца да Адамовіча.

**Панядзелак 26 чэрвеня**

Дзень быў добры.

Пасьля працы пайшлі ў Princeton Club на спатканьне з Алегам Пашкевічам. Ён у пятніцу ўжо выязджае ў Менск на вакацыі.

Гаварылі шчыра. Перадалі яму кніжкі, газэты. Дамовіліся, што Зап[*руднік*] прынясе яму Данчыкавую касэтку.

**Аўторак 27 чэрвеня**

Званіла Ella May[1]. Яны шукаюць хату.

Зраньня сабраліся й паехалі ў South Jersey.

Заехалі на ягады — але яшчэ ня зьбіраюць.

Паехалі ў A. City. Па дарозе заехалі ў каплічку.

Назад паехалі накрыж штату. Заехалі ў тое мейсца, дзе летась зьбіралі ягады. І там яшчэ рана — пачынаюць зьбіраць заўтра. Неяк не вязе нам сёньня зусім. Павячэралі па дарозе. Прыехалі дамоў ня позна. Адно прыемна, што крыху адарваліся ад будзёншчыны і пабылі ў халадку, бо дома вельмі-ж горача.

---

[1] *Кватаранты на фарме.*

**Серада 28 чэрвеня**

В[*ітаўт*] прыехаў у N.Y. Перш у бібліятэку, а тады ў радыё. У біб[*ліятэцы*] пераглядаў новую кнігу пра эміграцыю ў Амэрыку. Як скончыў у радыё, прыйшоў яшчэ крыху папрацаваў у бібліятэцы.

**Чацьвер 29 чэрвеня**

В[*ітаўт*] сёньня дома — парадкуе.

На рабоце ўсё ОК. Была, праўда, невялікая замінка з К[*асінцом*]. Меў прыйсьці Чудакоў[1], каб пагаварыць пра рукапіс Купрына. К. ужо амаль чуць не перадаў яму ўсё для надрукаваньня там. Я запярэчыла, што гэта мусіць быць надрукавана ў Амэрыцы. Ён згадзіўся, але ня зусім ахвотна. Прыходзіў Юхнавец — прынёс яшчэ пераклады Pound'a.

Вечарам званіў В. да Зап[*рудніка*] — касэткі перадаў Пашкевічу.

В. дамовіўся з Шук[*елойцем*], што заўтра паедуць спатыкаць моладзь разам.

Вечарам я яшчэ крыху прыбірала.

---

[1] *Аляксандар Чудакоў, савецкі літаратуразнавец.*

**Пятніца 30 чэрвеня**

На рабоце было ўсё ОК, але я была ўвесь час расьцярушаная — думала пра дзяцей. В[*ітаўт*] меў пазваніць, як прыедуць, але я ўжо выходзіла й ніхто не адазваўся. Прыехала дахаты і нікога ня было

каля астаноўкі, але пакуль прыйшла, то й яны ўжо дома. Прыйшоў В. артыкул з Ethnic Forum[1].

Распакоўваліся, даставалі падарункі, кніжкі, званілі, расказвалі пра падарожжа. Адным словам, у хаце ўсё зноў вэрхал, але прыемны. Паўлінка й Lorrain засталіся нанач.

Заказалі pizza. Вячэралі, гаварылі. Добра ім там паводзілася. Шмат людзей бачылі. Была група з Горадні «Лявоны» — яны зь імі шмат выступалі. Былі рэпарцёры з «Нівы» (Ада Чачуга) і з «Голасу Радзімы». Алеся разьбіла сабе падбародак, добра, што зьнізу, дык ня будзе відаць. Хадзіла там у шпіталь — наклалі швы[2]. Шмат прывезьлі падарункаў. Былі яны ўсе даволі стомленыя. Пайшлі ня позна спаць.

---

[1] *«Беларусы ў ЗША».*
[2] *Жартавалі: «Праліла кроў за Бацькаўшчыну». Шмат дапамог сп. Ю. Туронак.*

**Субота 1 ліпеня**

Паўлінка й Лорэйн паехалі рана.

Мой дзень народзінаў.

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі прыемна. Дзеці расказвалі пра паездку. Вельмі ім было памысна там. Шмат уражаньняў. Дэталі пакрысе прыходзяць. Як, калі Алеся абвяшчала на адным з выступаў — нехта крыкнуў: «Гавары па-польску». Як яны ехалі ў пушчу на кані... і др.

Папарадкаваліся й паехалі з Алесяй у антыкварны магазын. Ад [*куплі*] чаркаў адмовіліся. Купілі прыгожую міску і А. хлебніцу. Купілі мне вельмі прыгожую залатую брошку. Збанок для вады яны ўжо нібы-то маюць.

Чакалі Лорэйн. Яна затрымалася ў трафіку. Прывезла мне прыгожыя розы.

Паехалі ў South River. Пагледзілі сталы. Больш як 9 за стол няма як садзіць. Заказалі настольнікі. З кветкамі не залагодзілі — ня было іх.

Прыехалі дахаты ня позна. Пайшлі на вячэру ў рэстаран. Клікалі Bal[*larine*], але яна была занятая. Вельмі было прыемна. Торцік мелі дома.

**Нядзеля 2 ліпеня**

Раніцай Юра прыехаў, пайшоў купіць на сьняданьне. Пасьнедалі ўсё сваёй сям'ёй спакойненька. Памыла бялізну. Алеся праверыла В[*ітаўтаў*] артыкул для «Forum». Юра паехаў з моладзьдзю на мора, а мы з Алесяй зьбіраемся ў магазын.

Званіла Bal[*larine*]. Яна мае нешта для мяне. Запрашала нас на вячэру, але [redacted] адгаварылася.

Купілі Алесі пару рэчаў. Я купіла яшчэ для Нядзьвігаў нешта — каб ужо выглядала больш на падарунак. Стаміліся. Горача. Па дарозе дахаты купілі кітайскай стравы. Павячэралі й павезьлі А. на аэрадром. Я зусім неяк змарылася за гэтыя пару дзён.

Адпачывалі. Юра прыехаў позна. Званіла два разы Lorrain. Званіў Ю. Станкевіч — ён прыедзе да нас пад канец месяца. Званіў Сельвясюк, каб у пятніцу спаткацца ў Русакоў — пагаварыць.

**Панядзелак 3 ліпеня**

Юра першы дзень на новай працы. В[*imaўm*] у N.Y. — на радыё.

У мяне дзень быў заняты — статыстыка. Шмат людзей няма сёньня, дык трэба было камбінаваць расклад. Праўда, й чытачоў было мала.

Пайшлі зь В. у KLM. Купілі білет. Цяпер ужо толькі залагодзіць з гатэлямі й дастаць францускую візу.

Вечарам чакалі Юру да 11-ай, а тады пачалі званіць да L[*orraine*]. Не дазваніліся. Апошні званок зрабілі а 2-ой. Званілі і ў шпіталі — думалі, можа, ён мусіў застацца нанач альбо, можа, падрабляе. Нічога. Пасьля 3-яй нарэшце заснулі, а а 6-ай ужо праснуліся — Юры няма.

**Аўторак 4 ліпеня**

Раніцай былі зусім разьбітыя. Пасьля 8-ай зьявіўся Юра.

Ён учора пасьля працы пайшоў да Lorrain. Павячэралі, і ён заснуў на канапе і прачнуўся ўжо пасьля 3-яй. L. выключыла тэлефон, каб не перашкаджаў яму спаць — таму мы й не маглі дазваніцца.

Юра схадзіў па сьнеданьне. В[*imaўm*] крыху адышоў. Пасьнедалі. Юра расказваў пра сваю працу. Выглядае цікава, і ён, здаецца, задаволены. Юра праверыў Вітаўтаву заяву на кнігу.

Дамовіліся з Bal[*larine*] пайсьці на вячэру. Я папрасавала ўсё залежанае.

Юра паехаў да сваіх сяброў. Bal. прыйшла пасьля 4-ай. Аддала ёй падарунак ад Алесі. Яна была задаволеная. Паказала ёй усе падарункі.

Схадзілі ў Mario[1]. Добра правялі час. Зайшлі яшчэ дахаты і скончылі торцік. Яна паехала ня позна.

Адпачывалі. В. яшчэ крыху працаваў.

---

[1] *Рэстаран.*

**Серада 5 ліпеня**

Раніцай зрабіла халаднік — [*на двары*] выглядае душна.

На рабоце ўсё добра. Працавала сяньня над Л. Андрэевам амаль цэлы дзень.

В. спаткаў мяне ў Secaucus і паехалі ў AAA — зрабілі International Drivers Licence[1].

Юра ўжо быў дома, як мы прыехалі — у яго ўсё добра на працы.

Прыйшоў вельмі прыемны ліст ад Lorrain з падзякай.

Пахаладала пад вечар — дык і халаднік ня быў на мейсцы. Пайшлі спаць рана — усе стомленыя.

---

[1] *Міжнародныя правы кіроўцы.*

**Чацьвер 6 ліпеня**

Сёньня зноў працавала над Купрыном і Андрэевам. Прыйшла кніга Купрына «Жанета». Крыху ўжо падвечар рабіла й для звычайнай працы.

Пазваніў В[*ітаўт*], што пойдзе да нажнога доктара. Спаткаліся каля яго. У В. з нагамі ўсё ў парадку — нічога не знайшоў важнага. Кажа, што трэба пахудзець. Юра сяньня паехаў недзе на гульню. Застанецца нанач у N.Y.

Званіла вечарам Галіна [*Русак*] — прыпомніць, што будзе ў іх спатканьне.

Званілі ад кветак, што калі хочам прыйсьці — зрабіць appointment.

Пазваніла да Надзі — яе ня было — мусіць, недзе на вакацыі паехала.

**Пятніца 7 ліпеня**

На рабоце ўсё добра.

Пазваніў Запруднік, што паедзе з намі да Русакоў. Я зазваніла да В[*ітаўта*], каб ён быў падрыхтаваны.

Прыйшлі з Зап. на астаноўку і якраз-жа спаткалі Юру ў чарзе — ён быў наперадзе. Я сказала Юру, што В. чакае нас у Secaucus. Мы ўзялі наступны аўтобус.

Даехалі да Русакоў добра — там ужо ўсе былі.

Валік Сельвясюк расказаў пра іхныя [*справы ў Беласточчыне*].

**Субота 8 ліпеня**

Схадзіла зрабіць прычоску. Пасьнедалі.

Хутка прыехала Lorrain. І мы паехалі. Спачатку заехала ў Dumont. Яны адкрылі там банкаўскае конта. Паглядзелі іхную хату звонку — добра выглядае, даволі вялікая.

Паехалі па ягады. Быў крыху трафік — прыехалі туды ў самую гарачыню, але, праўда, там было вельмі прыемна — вецярок, ад кустоў — цянёк. Добра сабралі й хутка.

Па дарозе яшчэ заехалі па яду. Прывезьлі дахаты й добра ўсе разам пасядзелі, перакусілі.

Лорэйн прывезла яшчэ здымкі. Добра выйшлі. Асабліва адна, дзе Алеся зь Юрам. Зусім як наша зь В[*ітаўтам*] зь Лювэну.

Лорэйн засталася начаваць.

**Нядзеля 9 ліпеня**

В[*ітаўт*] й Юра паехалі на парад Captive Nations[1] у N.Y. Казалі, што было добра — шмат прыйшло народу. Юра меў інтэрв'ю з WOR[2]. Мы пасьля слухалі, але яго не перадавалі.

Мы з Lorrain прыгатавалі Brunch[3] — бліны з чарнічным варэньнем.

І хутка яны й паехалі да Lorrain сваякоў.

Мы адпачывалі. Я пайшла на двор. Добра было, але крыху горача.

Яны прыехалі даволі позна, я ўжо пайшла спаць.

Лорэйн зноў у нас начуе.

---

[1] *Парад Паняволеных Народаў.*

[2] *WOR-710 — вялікая старая радыёстанцыя — ад пачатку 20-х гадоў. Было Юрава інтэрвію. На гэтай станцыі ў розныя часы выступалі таксама Антон Адамовіч, Францішак Кушаль.*

[3] *Сьнеданьне-абед (breakfast + lunch).*

**Панядзелак 10 ліпеня**

Lorrain падкінула мяне ў N.Y. На рабоце ОК. Канчала каталягаваць рукапісы.

В[*ітаўт*] у N.Y. Быў у радыё. Пачалі рабіць газэту. Юра прыехаў позна.

Алеся не пазваніла, мусіць, нічога не зьмянілася й яна прыедзе заўтра.

В. пазваніў да Алы [*Орса*]. Дачка Туронкаў ужо ад'ехала, але будзе зноў тут пад канец тыдня. Прачытала В. ліст ад Т[*уронка*] — ён згаджаецца на ўсе ўмовы Інстытуту, каб толькі надрукавалі ўспаміны яго бацькі[1].

---

[1] *Падрыхтоўка выданьня БІНіМу «Балеслаў Туронак».*

**Нядзеля 16 ліпеня**

Сёньня пагода паскудная. Мы пасьнедалі і я, праўда, паставіла мыць бялізну. Але хутка пачаўся дождж. Так і стаяла бялізна мокрая.

Я стала разьбірацца ў кампютэры. Апанавала ўжо зусім добра. Надрукавала добрую частку адрасоў.

Вечарам прыехалі Ю[*ра*] й L[*orrain*] з pizza. Павячэралі і я яшчэ крыху папрацавала. Лорэйн застаецца нанач.

Пазваніў Данчык. У N.Y. мае быць праездам Бураўкін. Ён хоча з намі спаткацца. Данчыку далі ўжо візу, але ў яго цяпер праблемы на працы — ня можа ўзяць вакацыяў. Усё камплікуецца.

**Панядзелак 17 ліпеня**

Ехала на працу разам з Lorrain. Добра даехалі.

Дзень быў хаатычны. Шмат аддала часу гасьцям з Пушкінскага Дому — яны цікавяцца альбомам Драусушавай[1].

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — рабіў скрыпты.

Вечарам пазваніў Юра — ён мяне спаткае каля бібліятэкі і паедзем дахаты разам. Мне сёньня пашчасьціла з дарогай.

Павячэралі і я села за адрасы. Зрабіла ўсё, што ў мяне было. Юра яшчэ мае падрыхтаваць свае.

Шмат было званкоў. Званіў Валік [*Сельвясюк*], каб падалі ў газэту падзякі зь Беласточчыны.

---

[1] *Прозьвішча неразборлівае.*

**Аўторак 18 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. рана — разам зь Юрам. Ён мае сёньня пайсьці з Адамов[*ічам*] у Emigration Office[1] — аднавіць прапаўшы пашпарт.

У абед я схадзіла ў Французскае турыстычнае бюро — узяла матар'ялы.

В. званіў — яны з Зап[*руднікам*] пойдуць на спатканьне з чалавекам з ТАСА[2].

В. зв. да Данчыка — пра Бураўкіна яшчэ вестак няма.

Прыехала дахаты сама. Спачатку да нажнога доктара. Пасьля ўзяла зноў аўтобус каля станцыі. Зайшла ў магазын, купіла нешта паесьці. Юра сёньня працуе ў Newark.

В. прыйшоў пазьней. Інтэрв'ю прайшло добра. Цікава, што ён напіша, і як БЕЛТА падасьць.

Зв[*аніла*] Надзя. Даведалася пра торт — выходзіць крыху даражэй і не такі, як Л[*орэйн*] хацела.

Ірэна атрымала ліст ад таго самага чалавека з Сібіры, што й Алеся. Пераслаў ёй кнігу аб «гэрбах» за кашульку. Адрас яе дастаў з «Беларуса».

---

[1] *Пашпартны стол.*

[2] *ТАСС. Мелі гутарку пра беларускую эміграцыю, была надрукаваная ў Маскве.*

**Серада 19 ліпеня**

Сёньня ўжо сабралася на працу. В[*ітаўт*] нават падвёз мяне на аўтобус, і... раптам нам прыйшла ідэя ўзяць сёньня [*вольны*] дзень замест заўтрашняга. Пазваніла К[*асінцу*] і... паехалі на поўнач. Надвор'е цудоўнае. Назьбіралі ягад. Добра было, праўда, крыху балотна.

Едучы назад — павячэралі. Прыехалі дахаты каля 8-ай. Юра быў ужо дома. Паеў ягадаў.

Не заехалі сёньня ў ААА, як меркавалі.

**Чацьвер 20 ліпеня**

Сяньня ўжо зраньня дождж. Як добра, што я засталася дома ўчора.

Дзень прайшоў нармальна. К[*асінец*] атрымаў запросіны на 3-яе Скарынінскае чытаньне ў Вільню ад Уладзімірава. Трэба будзе зазваніць да Надсона даведацца пра першыя два. Я таксама думаю, што трэба яму памагчы напісаць даклад — можа, нават супольна.

Выйшла з працы раней. Спаткаліся ў Secaucus і паехалі ў ААА — замовілі гатэлі ў Нямеччыне й Швайцарыі. Заехалі ў магазын і ўзялі сабе таксама кітайскага.

Юра прыехаў пазьней, а крыху па ім і Лорэйн. Я ім зрабіла сасіскаў. Паелі, пагаварылі і хутка й пайшлі адпачываць.

**Пятніца 21 ліпеня**

В[*ітаўт*] у N.Y.

У абед прыйшоў Зап[*руднік*] у біб[*ліятэку*] і спаткаліся з Зубаравым[1]. Ён добрае ўражаньне робіць — толькі вельмі-ж нэрвовы й суетлівы.

Даў кнігаў сваіх і гэтаксама перадаў альбом Белага пра Скарыну ды для Юры нашага кнігу ад Шупы пра Скарыну.

З Зап[*руднікам*] ён гаварыў доўга, расказваў яму пра Народны Фронт, пра справы беларускія. Папрасіў, каб заказалі для іх значкі Пагоні.

У біб[*ліятэцы*] ён працаваў крыху. Паказала яму бібліятэку. Ён хоча напісаць артыкул у «*ЛіМ*» пра бел. калекцыю. Яго цікавяць матар'ялы пра Багдановіча што выходзілі тут, на Захадзе.

Званілі з ААА — яны ня могуць заказаць пакояў у Heidelberg і ў Kippel[2] — няма telex. Папрасіла іх напісаць туды.

Зв[*аніў*] Юрка Ст[*анкевіч*] — заўтра прыедзе.

---

[1] *Леанід Зубараў, госьць зь Менску.*

[2] *Мясцовасьць у Швайцарыі.*

**Субота 22 ліпеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Пагода вільготная, парная.

Пазьней крыху адважылася мыць бялізну. Яшчэ крыху працавала з кампютэрам. Юра працуе цэлыя суткі ў Newark.

Юрка Ст. прыехаў па абедзе. Разгледзелі матар'ял слоўнікавы, што перaслала В. Пашкевіч. Добра яна апрацавала. Пазванілі ёй — дамовіліся, што прыедзем забярэм ад яе ўсё, што ўжо зроблена, што Інстытут будзе фундаваць. Юрка Ст. адразу-ж пачне ўжо набіраць. Прапанавалі ёй таксама дапамогу ў складаньні нейкай літары.

Пазванілі Міцкевічу — каб прывёз заўтра ў N[*ew*] Br[*unswick*] адрасы. Юрку патрэбна для рассылкі «Byelorussian Review». Зрабілі яны з Арцюхом 1-шы нумар. Добра выйшла.

Сабралі ўсе адрасы, што мелі ў сябе.

Званілі і ў Кліўленд. У іх там усё добра. Пачнуць будову [«*Полацку*»] хутка.

Дзень прайшоў працавіта.

**Нядзеля 23 ліпеня**

Пасьнедалі. Юры яшчэ ня было на сьнеданьне.

Юрка Ст[*анкевіч*] паехаў у N. Br. — там сёньня пікнік.

Дзень сёньня гарачы й душны — яшчэ больш адчуваецца, калі нехта ў хаце ёсьць.

Прыехаў Юра — перакусіў. Я рашыла памыць бялізну й паехаць у ягады. Ніхто са мной ня вызваўся, дык паехала сама. Перад ад'ездам зрабіла халаднік.

Было даволі горача, але я добра сабрала. Канфуз з грашыма. Па дарозе купіла таматы й агуркі.

Юра паехаў да Лорэйн. Узяў ягадаў.

Юрка прыехаў пасьля 7-ай. Там было добра — прадаў крыху сваіх часопісаў.

Юра наш напісаў уражаньні з Беласточчыны для [*А.*] Міцкевіча. Я вечарам набіла на кампютэры. Добра выйшла.

Званіў ужо позна вечарам Калоша — калі прыедзе Юрка [*Станкевіч*].

**Панядзелак 24 ліпеня**

Юрка Ст. паехаў.

В[*ітаўт*] у N.Y. Зубараў яшчэ не адазваўся. В. для яго падрыхтаваў шмат матэрыялаў.

Прыйшла ў бібліятэку Энцыклапэдыя Скарыны. Напісала ў L[*ibrary of*] C[*ongress*], каб зьмяніць імя Скарыны ў A. F.[1]

Пазваніў Залеўскі — добрыя навіны. Ён заангажаваў Ісаевіча для артыкулу пра Украінскую кнігу для Handbook[2]. Вельмі, вельмі добра.

Пазваніла В., што няма Зубарава і сказала яму пра Ісаевіча. Ён вельмі задаволены.

Вечарам [redacted] ўжо зьбіралася адпачываць, бо Юра меў застацца нанач на дыжур, аж ён прыходзіць дахаты. Быў ён у нейкім дрэнным настроі. Альбо стомлены, альбо штосьці на працы яго непакоіць.

Так вечар і разьбіўся, бо ўжо й не адпачывалася й не працавалася.

Пазванілі зь ягадаў. Яна[3] прышле мне $10, што я перадала ім.

---

[1] *Authority File, дакумэнтацыя каталёгераў, знаходзіцца ў Бібліятэцы Кангрэсу. Імя Скарыны было занесенае туды як Пранціш — памянялі на Францыск.*

[2] *Там меліся быць артыкулы пра расейскае, беларускае і ўкраінскае кнігадрукаваньне.*

[3] *Гаспадыня фармы.*

**Чацьвер 3 жніўня**

Зраньня ўжо пачалі тузацца. Схадзіла зрабіць прычоску. Скончыла зьбірацца, крыху спарадкавала ў хаце.

А 2-ой паехалі на аэрадром. Трафік быў даволі вялікі — прыехалі не зарана. Усё зрабілі, яшчэ крыху й чакалі.

Ляцелася добра. Нават крыху я заснула. Яда добрая. Пітво задарма. Business class тут зусім не такі ўжо й добры — амаль няма розьніцы ад звычайнага.

Цяпер ужо разьвіднела — прыбліжаемся да пасадкі.

**Пятніца 4 жніўня**

Amsterdam.

Добра селі. Хутка залагодзілі з машынай. Памянялі крыху грошай. Гатэль недалёка ад аэрадрому. В[*ітаўт*] запазнаўся з машынай. Крыху адпачылі й паехалі ў горад.

Горад старынны, вулічкі вузенькія, каналы. Прыпаркавалі й сталі хадзіць. Вельмі прыемна пахадзілі, зьведалі горад. Пабылі на галоўнай плошчы. Там паблізу купілі на нейкім базарыку сыру, хлеба. Вы-

падкова папалі ў раён бардэляў і парнаграфічных крамак. Там усё адкрыта, без ніякага сораму. Прастытуткі амаль ня голыя ходзяць, сядзяць у вітрынах.

Прыселі пасьля на лавачку каля каналу. Тут нас нейкія жулікі амаль не абакралі, але мы настаражыліся і яны адышлі. Толькі пазьней, як зайшлі ў магазынчык купіць віна, нам зьвярнулі ўвагу, што ў В. на пінжаку гарчыца намазаная. Гэта яны такі падыход маюць — чалавек зьніме пінжак, каб пачысьціць, а яны тым часам дастануць грошы [*з кішэні*]. Жанчына ў магазыне замыла крыху В. пінжак. Гэта ўжо была нам навучка, але настрой не сапсуўся. Вельмі прыемна правялі яшчэ трохі часу ў горадзе й паехалі назад у гатэль. Перакусілі, адпачывалі. Гатэль добры, адно няма сьняданьня.

**Субота 5 жніўня**

Усталі рана. Сабраліся і паехалі. Толькі ўжо ў дарозе агледзеліся, што памыліліся ў гадзінах. Было яшчэ раней, як думалі.

Пагода нядрэнная, але вельмі туманна — нічога ня відаць. Праехаліся па малой дарозе — усё шукалі, дзе пасьнедаць. Заехалі па дарозе ў Utrecht, крыху паблудзілі па горадзе. Сталі ў прыдарожным рэстаране пасьнедаць. Распагодзілася — сонейка, сьвежа, дыхаецца лёгка. Зь вялікай прыемнасьцю затрымаліся тут на пару хвілінак.

На граніцы ў Нямеччыне памянялі грошы.

Дарогі добрыя — ехалася добра. Крыху паблудзілі каля Bonn, бо хацелі праехаць уздоўж Рэйну і шукалі добрай дарогі. Ужо, як папалі на дарогу, былі крыху знэрваваныя і такой прыемнасьці не атрымалі, як хацелася.

Даехалі да Heidelberg і там пачалі зноў блудзіць, шукаючы гатэлю. Так і не знайшлі гатэлю, а вырашылі паехаць у Leiman да Попкі[1]. Добра неяк натрапілі на знак на Leiman, бо ўжо зноў пачалі нерваваццца.

Прыехалі ў L. добра, але там пакруцілі, шукаючы Попку.

У яго ўсё добра. Ён чуецца лепш.

Паглядзелі яго музэй. Нядрэнны збор матар'ялаў — этнічных і друку.

Вельмі прыемна правялі колькі гадзінаў. Падвёз ён нас і пад могілкі, дзе пастаўлены помнік беларускі. Вырашылі заставацца ў L. нанач. Фактычна Попка так параіў.

Заказалі гатэль. Вельмі прыемны пакойчык. Павячэралі ў тым самым гатэлі. П. фундаваў. Зайшлі яшчэ да яго. Ён даў крыху сваіх кніжак. Расказаў ён нам, як ён упарадкаваў са сваім музэем. Паводле яго, усё будзе ўтрымлівацца і перахоўвацца да таго часу, пакуль ня будзе «Бел. Нар. Рэспубліка».

Паехалі назад у гатэль. Адпачывалі.

Вельмі прыемны быў дзень, хоць раней крыху й панэрваваліся.

---

[1] *Юры Попка ў 1970-я гады заснаваў у мястэчку Ляймэн Беларускі музэй.*

**Нядзеля 6 жніўня**

Прачнуліся са званамі на мясцовай царкве. Крыху дожджык марасіць. Пасьнедалі й паехалі далей.

Заехалі яшчэ па дарозе ў Tübingen. Зьведалі вельмі прыемны замак перад самым Tüb. Там апынуўся чалавек зноў у Сярэднявеччы.

Tüb. такі самы [*як і ў нашыя студэнцкія часы*]. Гатэль той, што мы некалі жылі, што не знайшлі першы раз — стаіць, але пад'езд да яго зусім зьмяніўся.

Крыху заблыталіся перад граніцай у Швайцарыю. В[*ітаўт*] хацеў набраць газаліну яшчэ ў Нямеччыне.

На граніцы ўсё было зачынена, і мы чуць-чуць зьмянілі грошы.

Пад'ехалі пад Zürich бяз прыгодаў. Крыху паблыталіся, пакуль знайшлі гатэль, але даволі добра папалі. Гатэль добры, на ўскраіне гораду. Пакойчык, праўда, маленькі. Аддыхнулі й пайшлі прайсьціся — крыху пазнаёміцца з горадам. Знайшлі адрас Рускай Царквы — гэта было недалёка ад нас. Падышлі. Але гэта ў нейкім доме — кватэрка. Было ўсё зачынена[1].

Пахадзілі пашукалі дзесь павячэраць — усё зачынена. У гатэлі параілі нам, што ў парку, што перад нашым гатэлям, ёсьць рэстаран. Прайшліся па парку. Знайшлі. Добра павячэралі.

Вельмі быў прыемны вечар. Пагода тут даволі гарачая.

---

[1] *Шукалі, можа, што друкавалася беларускае ў Швайцарыі ў XIX стагодзьдзі.*

**Панядзелак 7 жніўня**

Зраньня паехалі ў Rapperswill. Даехалі добра. Цікавая дарога ўздоўж Zürich See. Там хутка знайшлі Польскі музэй, аднак ён цяпер перабудоўваецца, і ўсё зачынена. Знайшлі Польскую бібліятэку, але і яна была зачыненая. Добра нам прыйшла думка зайсьці ў Tourist Info і даведацца. Вельмі мілая дзяўчына даведалася для нас, што а 1-ай яны адкрыюць бібліятэку.

Схадзілі ў Rosegarten. R. — гэта горад розаў.

Зайшлі яшчэ ў рэстаранчык выпілі соды, і хутка й 1-ая. Мяне ўкусіла пчала ў шыю — баліць.

У біб[*ліятэцы*] мы даведаліся, што стары іхны матар'ял быў перавезены ў Польшчу ў 1939-м годзе. Паглядзелі крыху іх калекцыю, але нічога цікавага не знайшлі. Бел. нічога ў іх няма[1]. Ёсьць пару старых кнігаў — Хроніка Бельскага 1593 г. і інш. Крыху старых граматаў.

Вярнуліся назад у гатэль. Павячэралі ў рэстаране каля гатэлю й адпачывалі.

---

[1] *Пазьней я ім паслаў кнігі пра Беларусь.*

**Аўторак 8 жніўня**

Zürich.

Ідзе дождж. Паехалі на трамваі ў горад у бібліятэку. Добра ўсё знайшлі. Бібліятэка вялікая — цэнтральная й унівэрсытэцкая. Каталёгаў шмат і заблытаныя. Пакуль разабраліся, як у іх тут усё арганізавана. Вельмі дзіўная systema Schlagwort[1]. Знайшлі крыху беларускага матар'ялу. Найбольш было ў Slavischer Seminar, але было і ў Цэнтральнай біб. Была нават нашая кніга «Купала й Колас на Захадзе». Прыемнае адчуваньне.

Пасьля прайшліся крыху па горадзе. Шукалі «Russian Library». Адрас знайшлі, але там ужо даўно нічога няма. Прайшліся й па славутай Bahnhoffstrasse. Усё тут вельмі дарагое.

Нахадзіліся, стаміліся, крыху змоклі. Прыйшлі дахаты, і В[*ітаўт*] пачуўся вельмі дрэнна: змок і зьмёрз. Але выпіў крыху віна, узяў асьпірыну, крыху заснуў і адышоў. Павячэралі і адпачывалі.

---

[1] *Сыстэма загалоўнага слова.*

**Серада 9 жніўня**

Bern.

Зраньня пасьнедалі і выехалі. Крыху марасіла, дык хутка заўважылі, што не працуе дворнік. Заехалі ў адну калонку, там крыху нешта папоркаўся і нічога не знайшоў. Добра недалёка быў гараж Opel. Яны сказалі, што трэба мяняць маторчык. Будзе гатова а 11-ай.

Зайшлі назад у гатэль. Я сядзела запісвала дзёньнік, а В[*ітаўт*] крыху чытаў газэту.

Машына была гатовая акурат а 11-ай, і нічога не ўзялі — гарантыя. Пасьля нефартуннага пачатку ўсё пайшло вельмі гладка. Выехалі хутка на дарогу ў Bern.

Праўда, каля Берну крыху зноў пакруцілі. Тут выезды на гарады нейкія скамплікаваныя. Заехалі ў цэнтр. Добра, заўважылі паліцэйскую машыну. Запыталіся ў іх дарогу пад гатэль, і яны нас падвезьлі пад самы гатэль — мы за імі ехалі.

Гатэль добры. Узвышаецца над цэлым горадам. Распыталіся, як ехаць у горад. Узялі трамвай. Вельмі ўсё тут проста. Астаноўка каля самага гатэлю і прывёз нас у самы цэнтар. Прайшліся крыху пехатой пад бібліятэку. Горад цудоўны.

У бібліятэцы нічога беларускага не знайшлі. Гэта Нацыянальная біб. і зьбіраюць яны пераважна свой матар'ял, што друкавалася ў Швайцарыі і аб Швайцарыі. Ёсьць крыху расейскага матар'ялу. Натрапілі на пару добрых кнігаў, зрабілі выпіскі і xerox.

Павячэралі ў горадзе ў самым цэнтры, на тэрасе гатэлю Casino. Вельмі было прыемна. Пахадзілі яшчэ крыху па горадзе. Горад жывучы, нармальны, чысты й вельмі прыемны.

Пагода цудоўная. Настрой добры.

Вельмі проста дабраліся назад да гатэлю.

З нашага пакою быў відаць асьветлены горад. Малюнак надзвычайны.

**Чацьвер 10 жніўня**

Kippel.

Раніцай яшчэ зьезьдзілі на трамваі ў цэнтар. Памянялі грошы. Усё тут так проста.

Выехалі з гораду на дарогу гэтаксама вельмі проста. Па вялікай дарозе ехалі зь кілямэтраў 30, а тады на маленькую кручаную дарогу ў горы. Даехалі да канца дарогі, ды там машына перавозіцца на цягніку праз даўгі, цёмны, але-ж зусім цёмны, тунэль. Хутка знайшлі й Kippel — гэта невялічкая вёсачка ў гарах. Гатэль замовілі былі ўчора з гатэлю ў Bern. Прайшліся крыху па вёсачцы. Зайшлі ў музэй. Там разгаварыліся з жанчынай-гідам. Яна нам сказала, што магчыма грэнадзёры , якія паходзілі з гэтых мясцовасьцяў, маглі папасьці неяк і на Беларусь. Яны маглі асесьці там і займацца малочнай гаспадаркай — бо тут на гэтым спэцыялізуюцца.

Прайшліся і пад царкву, Вельмі прыгожа ўдэкараваная, нават багата ўдэкараваная царква і могілкі каля царквы. Kippel прозьвішчаў не знайшлі.

Зайшлі выпілі кавы ў рэстаране пры гатэлі й па-дурному чакалі на ключ ад пакою, бо ў іх у абед усё зачынена, усё пуста.

Цяпер В[*ітаўт*] адпачывае, а я пішу дзёньнік.

Схадзіла купіла яшчэ картак — напісалі для ўсіх сваіх Greetings from Kippel. Занесьлі карткі на пошту.

Пайшлі прайсьціся. Натрапілі на ліфт на гару. Падняліся даволі ўжо высока. Селі сабе на травічку на ўзгорачку і адпачывалі, разглядаліся. Перад намі вышэйшая гара зь лядніком і сьнегам на вяршыні. Зь яе сьцякаюць ручайкі ды ўліваюцца ў рэчку Aare, якая стварыла гэтую даліну.

Прыемна. Сонейка крыху схавалася, але ўсё роўна прыемна, сьвежа. Сарвала гэты званочак — на памятку. Спусьціліся ўніз ды пайшлі адразу павячэраць — прагаладаліся на сьвежым паветры.

Адпачывалі. Я чытала. Разгледзіліся, як заўтра ехаць. Хутка й заснулі. Спіцца тут добра.

**Пятніца 11 жніўня**

Geneva.

Выехалі з Kippel рана. Ноччу, мусіць, быў дожджык, бо крыху мокра, пахмурна. Хутка й распагодзілася. Ехалі кручанымі дарожкамі, але настрой быў вельмі добры, прыўзьняты.

Мінулі Lausanne, і дарога ўжо йшла берагам возера. Праўда, спадзявалася я больш маляўнічай дарогі. У Geneva прыехалі перад 12-ай. Знайшлі гатэль хутка, бо ён у самым горадзе, недалёка станцыі. Крыху была праблема з паркаваньнем. Пакойчык невялічкі, вакно выходзіць на вялікую, шумную вуліцу.

Пайшлі адразу-ж у бібліятэку. Там яна ўжо зачынялася. Сказалі нам, што заўтра будзе адчыненая ад 9-ай.

Паехалі на трамваі пад бібліятэку UN. Там яшчэ было зачынена на абед. Селі папіць. Усё тут вельмі дорага.

У бібліятэцы сёе-тое знайшлі[1]. Пазнаёміліся з бібліятэкарам — баўгарац Theodor Dmitriev.

Назад пад гатэль падышлі ўжо пасьля 6-ай. Прайшліся яшчэ па прамэнадзе, дзе магазыны й нагледзелі нават падарункі. Купілі для бабкі прыгожыя вышываныя хустачкі.

Павячэралі ў рэстаране на тэрасе. Узялі віна. Былі даволі стомленыя, дык мне здорава дало ў галаву. Хутчэй хацелася ў пакой. У пакоі неяк перагаварылі. Сапсуўся настрой. У пакоі горача, а як адчыніш вакно, дык вельмі шумна. Неяк пасьля наладзіўся настрой, але спалася вельмі блага.

---

[1] *Матэрыялы для бібліяграфіі беларусікі.*

**Субота 12 жніўня**

Рана пасьнедалі й пайшлі пад бібліятэку. Па дарозе яшчэ думалі купіць падарункі, але магазыны былі яшчэ зачыненыя.

У бібліятэцы пакуль распазналіся, дык крыху часу прайшло, але хутка зарыентаваліся. Між іншага, тут кожная бібліятэка мае сваю сыстэму — няма ўніформнай сыстэмы. Кірылічны каталёг тут асобны.

Перад 12-ай ужо мусілі выходзіць, бо й бібліятэка зачынялася, і з гатэлю трэба было выпісвацца. Каб хутчэй было.

Рашылі ўзяць трам[1], але пакуль купілі білет ды пакуль адышоў (тут яны не сьпяшаюцца), дык мы і дайшлі-б пехатой.

В[*італ*] пайшоў выпісвацца, а я пабегла купіць гадзіньнічкі. Добра купіла.

Выехалі з G[*eneve*] добра — у гатэлі нам добра паказалі.

Але затое каля францускай граніцы было вялікае разачараваньне — ня было дзе пераменяць грошай, а сёньня субота — нідзе-ж ужо банкі не адчыненыя. Так мы пад гэтым уражаньнем і ехалі. Па дарозе яшчэ быў вялікі трафік — затрымаліся. В. баяўся, ці хопіць газаліны[2].

Заехалі на інфармацыю пры дарозе і там нам сказалі, дзе можна будзе памяняць грошы. Тады ўжо павесялела. Памянялі. Зьелі яшчэ марожанага й паехалі ўжо з значна лепшым настроем. Хутка зрэалізавалі[3], што да Reims, як раней плянавалася, не даедзем. Ехалі па меншай дарозе. Затрымаліся ў невялічкім гарадку Joinville у невялікім гатэліку (але які быў у кніжцы).

Пакойчык (апошні, які ў іх быў) зусім маленькі, ні душу, ні ўборнай. Але настрой у нас быў вельмі добры, дык нас гэта зусім не турбавала.

Прайшліся яшчэ па гарадку купілі соды[4], фруктаў — на дзіва, магазынчыкі былі яшчэ адчыненыя.

Вельмі прыемна павячэралі зь віном — смачна, шыкарна. Вельмі прыемна прайшоў вечар. Спалася добра.

---

[1] *Трамвай (tram).*
[2] *Бэнзіну (gasoline).*
[3] *Зразумелі, усьведамілі (realized).*
[4] *Мінэральнай вады (soda).*

**Нядзеля 13 жніўня**

Пасьнедалі ў гатэлі й паехалі.

Ехалася доўга й даволі складана.

Напачатку было даволі relaxed[1], прыемна. Ехалі то меншай, то большай дарогай. Па дарозе шмат падсонечнікаў — цэлыя вялізарныя палі — і ўсе яны пад сонца галовы падстаўляюць.

Заехалі ў Reims, наведалі славутую катэдралю. Там каранаваліся каралі францускія ды нават быў хрышчаны ў 5-м стагодзьдзі кароль Clovis — прэдак майго Трыстана. Марк Шагал рабіў тут вялікую вітру.

Пасьля Reims яшчэ ехалася даволі добра, але тады ўжо каля Lille ды пад Бэльгійскую граніцу пачалі крыху блудзіць. Але неяк-жа дабраліся да Бэльгіі.

Перамянялі грошы. Тут грошы яшчэ менш вартыя — на 1 даляр 33 Бэл. франкі.

Рашылі ехаць пад Brugge, бо была ў мяне кніжачка з гатэлямі і выглядала, што тут павінен быць добры гатэль. Доўга не маглі яго знайсьці, але нарэшце патрапілі — ды ня было ўжо пакояў. Параілі нам другі гатэль. гэты яшчэ далей ад Brugge і зусім неважненькі пакойчык.

Паехалі ў горад. Знайшлі Europa College. Зачынена, але сказалі нам, што заўтра будзе адчынена. Пахадзілі па горадзе. Цікавы горад з каналамі. Іншы як Amsterdam. Нейкі больш культурны.

Гэтае падарожжа вязе нам на каналы, рэчкі, возеры — усё трэба праз масты хадзіць.

Купілі фрытаў і мушляў. Прыселі на вялікім пляцы — паелі. Яшчэ крыху пахадзілі па горадзе. Магазыны тым часам пачалі закрывацца. Так! Магазыны амаль усе былі сёньня тут адчыненыя.

Паехалі назад у матэль. Я стала запісваць дзёньнік, бо ўжо пару дзён, як не запісвала, а В[*imаўт*] адпачывае.

Няма чаго тут рабіць. T.V. няма.

---

[1] *Адпружана, спакойна.*

**Панядзелак 14 жніўня**

Brugge.

Выпісаліся з гатэлю адразу-ж па сьнеданьні й паехалі ў горад. Зайшлі ў бібліятэку College Europe. Там было мала беларускага, але тое-сёе й тут знайшлі. Даведаліся адрас Анны[1]. Муж яе памёр пару

месяцаў таму. Зазванілі да яе. Яна недзе выехаўшы. Дочка яе была ў хаце, але выязджала ўжо хутка ў Brussels — дала свой тэлефон. Яшчэ крыху пахадзілі па горадзе й паехалі пад мора. У гатэлі рана нас напужалі, што каля мора ўсё будзе занята, дык ехалі з даволі няпэўным настроем.

Пад'ехалі пад Koksijde — усё тут ужо забудавалася — нічога не пазнаеш. Людзей поўна. Паехалі далей пад De Panne. Сталі пры адным матэлі — нічога. Паехалі далей пад горад. Затрымаліся каля другога... і — дзіва зь дзіваў: ёсьць і ня дорага й пакойчык даволі прыстойны — значна лепшы, як учора.

В[*ітаўт*] застаўся крыху адпачыць, а я пайшла пашукаць сабе нейкі купальнічак. Нічога не знайшла падыходзячага. Пагода добрая.

Пазьней крыху прайшліся разам і купілі мне кароткія штаны і блюзачку. Вельмі танна й вельмі ўдалае. Пайшлі на бераг і пару гадзінак добра пасядзелі. Добры настрой, добрая пагода. Вельмі задаволеныя.

Зайшлі нават у нейкую аркаду[2] і пагулялі крыху ў іхныя машынкі — прайгралі нейкіх 150 фр. і пайшлі далей.

Вырашылі вячэраць у гатэлі. Вячэра пачыналася даволі позна, дык яшчэ крыху пасядзелі, паглядзелі на людзей праз вакно. Пасьля вячэры яшчэ крыху прайшліся й пайшлі ўжо адпачываць.

---

[1] *Сяброўка з студэнцкіх часоў.*

[2] *Заля гульнёвых аўтаматаў (arcade).*

**Аўторак 15 жніўня**

З самага раньня пайшлі на бераг. Пагода яшчэ не благая, але ўжо чалавек, у якога мы нанімалі парасон і крэслы, быў не надта аптымістычны. Вецер даволі вялікі — круціць пясок, але мы добра пару гадзінак пасядзелі. Пачало хмурыцца, пачалі вакол зьбіраць парасоны, дык і мы хутка пайшлі.

Пераапрануліся й паехалі пад Koksejde. Там пачалі крыху ўжо арыентавацца. Віллы, дзе некалі адпачывалі, зразумела, не знайшлі, але дзюны знайшлі — яны на мейсцы, не забудаваныя, някратаныя[1].

Марасіць дожджык, дык мы толькі пастаялі, каля тога мейсца, дзе некалі хадзілі. Купілі крэвэтак, прыпаркавалі машыну каля дзюнаў і паелі — успомнілі старыя часы.

Крыху адпачылі ў гатэлі. Крыху пахадзілі зноў па набярэжнай ды пайшлі вячэраць. Нарэшце я дабралася да мушляў, пра якія думала ўжо ад нядзелі. Порцыі вялізарныя. Пасьля першых пару, я зразумела, што ня спраўлюся. Пад канец дык ужо зусім не магла есьці. В[*ітаўт*] памог. Неяк прыкончылі, але ў мяне адразу-ж ужо было такое адчуваньне, што перадала.

Пахадзілі яшчэ крыху па набярэжнай — фактычна пасядзелі. Распагодзілася, але дзень для людзей, якія мелі сёньня вакацыі, быў ня зусім удалы.

Пайшлі хутка ў гатэль. І ў мяне пачалося расстройства. Бегала колькі разоў. Крыху й падташнівае. Гэтак, па-дурному, сапсула канец такога цудоўнага дню.

Бачыла яшчэ й феервэркі, але В. спаў, ды й я чулася неяк паскудна, дык ня было таго ўражаньня.

---

[1] *Прыпаміналіся студэнцкія гады.*

**Серада 16 жніўня**

Паехалі пад Brussels адразу па сьнеданьні.

Дарога была напачатку вельмі прыемная. Пагода таксама добрая. Пад'язджаючы пад Б[*русэль*] было нават загорача. Пачаўся трафік, і стала вельмі няпрыемна.

Гатэль знайшлі з невялікім блуджэньнем. Добры, але да гораду даволі далёка. Паехалі ў горад. Прыпаркавалі добра — тут з паркінгам ОК. Знайшлі бібліятэку недалёка каралеўскага палацу. Бачылі нават зьмену варты каля палацу.

У біб. вельмі скупа. Кніжкі дастаць даволі складана, дык мы толькі паглядзелі каталёг. Каталёг зноў нейкі іншы, складаны. Але сёе-тое знайшлі — нават адну бібліяграфію трэба будзе выпісаць для нашай бібліятэкі.

Пайшлі пахадзіць па Б[*русэлі*]. Крыху крапаў дожджык. Горача. Знайшлі вялікі пляц, знайшлі й Manneken pees.

Купілі мне прыгожую спадніцу. Зноў пачаўся дождж, і мы накіраваліся пад машыну. Я стамілася.

Паехалі пад Лювэн старой дарогай. Але дарога гэтая ўжо зусім зьмянілася. Шукалі яшчэ тое мейсца, дзе жылі некалі Дэбез'ё і дзе я працавала, але не знайшлі.

У Лювэне яшчэ больш зьменаў. Пляц перад бібліятэкай разламалі — нейкая будова йдзе. Шмат ужо забудавалася, што два гады таму было разломанае.

Але адразу-ж адчулі мы, што нашых каранёў ужо тут няма. Ну й добра, а то ўсё яшчэ ня была закрытая старонка кнігі. А цяпер ужо разьвіталіся і з Лювэнам і з Бельгіяй.

Падышлі і пад дом Дікенштайнаў[1]. Суседка нам сказала, што яны ўжо даўно памёрлі.

Купілі яшчэ фрытаў на пляцы Hoover, але й гэта было ўжо як-бы апошняе разьвітаньне зь Лювэнам, патуга нешта «recreate»[2].

Ехалі ў Б[*русэль*] ужо з даволі цяжкім настроем, па дарозе крыху блудзілі і сварыліся, але ў гатэлі ўжо трохі адышлі і адпачывалі. Ганнавай дочцы я ўжо другі раз не званіла — можа, заўтра.

---

[1] *Андрэй Міхайлавіч Дыкенштайн — расеец, асыстэнт на факультэце геалёгіі, вельмі добры чалавек.*

[2] *Аднавіць.*

**Чацьвер 17 жніўня**

Выехалі з Брусэлю ня позна, адразу-ж па сьнеданьні.

Каля граніцы замянілі ўсе грошы — усе, што заставаліся і з Швайцарыі, і з Францыі, і з Бельгіі.

Прыехалі ў Галяндыю бяз прыгодаў. Пад'ехалі пад гатэль. Пакой гэтым разам вельмі добры. Крыху адпачылі й паехалі ў Амстэрдам — на аўтобусіку гатэльным да аэрадрому, ■ з аэрадрому на цягніку. Вельмі было зручна. Знайшлі там і бібліятэку. Крыху паглядзелі каталёг, але ўжо хутка зачынялі. Пахадзілі яшчэ па горадзе, па масткох праз каналы.

Купілі сабе на вячэру сыру, булачак і віна й паехалі назад пад гатэль. Зноў зручна, проста. Ня было клопатаў з паркінгам. Купіла яшчэ сувэніры.

Прыехалі ў гатэль ужо каля 8-ай. Павячэралі і сталі глядзець T.V. Быў добры каўбойскі фільм. Крыху было на недаўгі час маленькае непаразуменьне, але хутка залагодзілі. Добра прайшоў апошні поўны дзень вакацыяў.

**Пятніца 18 жніўня**

Раніцай схадзілі на сьнеданьне ў гатэлі. Добры буфэт па-амэрыканску. Запакавалі ўсё й паехалі на аэрадром. Заплацілі ўжо за гатэль грашыма, бо спэцыяльна пакінулі былі.

На аэрадроме ўсё залагодзілі, але ўсё тут павольна, трэба стаяць у чэргах. Добра, што пакінулі шмат часу. Купіла цукеркаў.

Самалёт крыху затрымаўся з адлётам. Цяпер ужо паабедалі і я пішу, ■ В[*itaўт*] задрамаў.

Лорэйн нас чакала. Доўга затрымаліся пры багажы. Трафік быў страшэнны. Дабраліся дахаты, ужо пасьля 7-ай. Хутка прыехаў і Юра. Узялі pizza.

Я вельмі стомленая. Шмат пошты. Аддалі падарунак L[*orrain*] — гадзіньнік не працуе.

Пазваніла Алеся, але мы доўга зь ёй не гаварылі. Яна прыедзе на спатканьне з моладзьдзю ў суботу.

**Субота 19 жніўня**

Зрабіла прычоску.

Ю. і Л. паехалі рана. Прыедуць ужо толькі ў панядзелак.

Мыць бялізну зраньня ня было як — пагода сырая.

Пасьля крыху распагодзілася — памыла.

Стомлена чуюся. Добра, што ёсьць пару дзён адпачыць. Цэлы дзень так і соўгаюся.

Званіла Надзя. Расказала ёй пра падарожжа. У яе ўсё добра. Падаруначкі[1] робяцца, але Валя мусіла крыху адкласьці гэтую працу, бо памёр яе брат Захаркевіч.

Памёр таксама Грыша Арцішэнка.

Надзя на shower[2], мусіць, ня зможа прыехаць.

---

[1] *Падарункі — попельнічкі зь беларускім арнамэнтам, якія Лорэйн і Юра плянавалі падараваць гасьцям на сваім вясельлі ўвосень.*

[2] *Вечарына, калі даюцца падарункі нявесьце.*

**Нядзеля 20 жніўня**

Памыла рэшту бялізны. Нічога ня робіцца. Праўда, крыху папрацавала з кампютэрам — упарадкавала адрасы.

Запросіны на вясельле былі ўжо гатовыя, але была прыкрая памылка, дык вярнулі [*друкару*] назад перарабіць.

Званіла маці Лорэйн. Прыходзяць ужо адказы на shower. Некаторыя пазванілі, што ня будуць (Юля), а пару ўжо пазванілі, што прыедуць (Ала, Рая).

**Панядзелак 21 жніўня**

Першы дзень на працы. Чуюся яшчэ крыху стомленая. Усё яшчэ разьбіты сон — прачынаюся сярод ночы, а ўжо ад 4-ай не магу больш заснуць.

На рабоце ўсё добра. К[*асінец*] па абедзе пайшоў.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — на радыё. Паклаў грошы на checking[1]. Пазваніла ў W.W.[2] — яны мяне возьмуць цяпер, ня гледзячы, што [redacted] ўжо два тыдні прапусьціла.

Прыехалі Ю. й L. Яны былі ў сваім новым доме — купілі сякую-такую мэблю ад людзей. Аддалі мы Ю. ўсё, што былі вінаватыя за дарогу, далі яму таксама на кватэру і на більярд[3].

Яны доўга ня былі — паехалі.

---

[1] *Бягучы рахунак.*

[2] *Weight Watchers, камэрцыйная праграма зьніжэньня вагі.*

[3] *Папярэдні ўласьнік танна прадаваў.*

**Аўторак 22 жніўня**

Сёньня на працы ўжо крыху лепей чуюся. К[*асінец*] недзе зраньня выйшаў, але па абедзе быў.

Раніцай заходзіла ў банк — В. папрасіў мане зьняць з Інстытуцкіх[1] для Прускага. Доўга яны вазіліся й не далі.

Вечарам прыехаў Юра — ён недзе заклаў ключы ад сваёй кватэры і ня можа знайсьці.

Нарэшце знайшоў. Крыху павячэралі яшчэ разам. Было пару тэлефонаў. Юра вельмі пакрыўджаны на групу, што яны зрабілі супраць ягонага пляну — рашылі не запрашаць бацькоў на сваю зборку.

Мы зь ім крыху пагаварылі. Вельмі было прыемна, што толькі самы адны. Цяпер гэта ўжо будзе радзей і радзей.

---

[1] *З Інстытуцкага рахунку.*

**Серада 23 жніўня**

К[*асінца*] сёньня няма. Спакойна. А 12-ай я пайшла на W[*eight*] W[*atchers*], выглядае ОК. Мне галоўна мець добрую дыету і нейкую падтрымку і стымул. Важу 174½[1]. Пачала ўжо адразу [*дыету*], бо сьнеданьне мела лёгкае.

В[*ітаўт*] у N.Y. Робяць з Шук[*елойцем*] газэту.

Вечарам зьелі салмон з салаткай. Якраз добра мне з дыетай.

Пазваніў К[*асінец*]. Дамовіліся, што заўтра я вазьму вольны дзень. Пагоду абяцаюць добрую.

---

[1] *80 кг.*

**Чацьвер 24 жніўня**

Дзень цудоўны. Сабраліся й паехалі. На Parkway крыху было занята, але хутка разышлося і дарога была вельмі прыемная. Пад'ехалі пад фарму і... якраз-жа там быў і наш новы квартарант. Пагаварылі, паглядзелі хату.

Ён выглядае вельмі пакладзісты чалавек — будзе, здаецца, даглядаць добра хату.

Пад'ехалі яшчэ пад ягады, але там ужо ўсё зачынена.

Купілі памідораў. Зьбіраць яшчэ не дазваляюць.

Паехалі на мора. Вельмі прыемна правялі пару гадзін на пляжы. Прыйшлося заплаціць[1], але мы не шкадавалі.

Заехалі да Нядзьвігаў. У іх выглядае ўсё добра. Крыху перакусілі, і яны павезьлі нас паказаць дом, што купілі. Такая дрэнь. Вельмі прыкрае ўражаньне засталося. Да падарункаў яна аднеслася вельмі холадна. Дай Бог ім усяго найлепшага, але, здаецца, яны зрабілі памылку з домам.

Прыехалі дахаты добра. Каля 8-ай.

---

[1] *Увялі аплату за пляж.*

**Пятніца 25 жніўня**

К[*асінец*] хутка пайшоў. Я яшчэ пасьпела, праўда, схадзіць у банк. Дзень быў нядрэнны, але не працавалі кампютэры, дык было неяк не прадукцыйна.

Працавала ў біб[*ліятэцы*] цэлы дзень Тамара [*Стагановіч*] з мужам.

Я чуюся крыху слаба дзеля дыеты.

Павячэралі й паехалі спатыкаць Алесю. Яе спаткалі хутка, але багаж ейны чакалі, чакалі і... ня прыйшоў. Замэльдавалася яна[1], і паабяцалі, што прывязуць ноччу.

Паехалі дахаты. Алеся яшчэ крыху перакусіла — пачалі сыр, што прывезьлі з Галяндыі — і адпачывалі. Званіў Юра. Прыедзе заўтра па яе, але ўсё яшчэ капрысіць.

Сярод ночы [redacted] прачнулася, паглядзела [*ў сенцы*] багаж — прывезьлі.

Алесін гадзіньнік распакавалі — ёй спадабаўся. Доўга не маглі пусьціць у ход, але ўсё добра. Ідзе.

---

[1] *Зарэгістравала гэтае здарэньне.*

**Субота 26 жніўня**

Зрабіла прычоску. А[*леся*] тым часам прыгатавала сьнеданьне. Пасьнедалі і паехалі. Спачатку ў магазын у Rutherford. Добрыя ёсьць сукенкі. Я ўпэўнена, што нешта сабе знайду. Паехалі ў Passaic у антычны[1] магазын. Нічога не знайшлі. Збанка яны ня маюць. Мы ўжо рашылі, што я куплю ёй набор начыньня.

Забралі Алесін малюнак з рамкай. Вельмі добра выйшла.

Юра ўжо чакае А[*лесю*] у Надзін. Яны паехалі ў N.Y., а я памыла бялізну. Званіла Bal[*larine*] — не дазванілася, але яна сама мне пазваніла. Запрасіла яе заўтра на сьнеданьне і паехаць разам у Flemington.

Пайшла загараць на двор і спарадкавала дзёньнік.

Званіла Надзя — яна хоча перадаць падарунак. Неяк заедзем да яе.

Ю. й А. прыехалі ня позна. Ю. паехаў у госьці, а Алеся да Надзін.

---

[1] *Антыкварны.*

**Нядзеля 27 жніўня**

Рана пачалі ўжо рыхтавацца. Прыехала Bal[*larine*], прыехала Lorrain. Пасьнедалі і паехалі ў Flemington. Пагода цудоўная. Шкада, я забылася памыць бялізну.

Там было невялічкая расчараваньне: сьвечкаў ня было дастаткова. Магазын з модамі быў зачынены. Пахадзілі па магазынах. Нічога надта важнага ня купілі, але было прыемна нам, бо добрае надвор'е і настрой.

Прыехалі дахаты ўжо пасьля 5-ай. Змайстравалі хуценька вячэру. Вельмі ўсё добра й смачна выйшла. Павячэралі. Сядзелі, гаварылі. Bal. паехала даволі позна. Лорэйн начавала.

**Панядзелак 28 жніўня**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

На працы ОК. К[*асінец*] па абедзе пайшоў.

**Аўторак 29 жніўня**

Нешта нічога цікавага не прыпамінаецца.

Працуецца.

Зв. Алесі. Яна надта занятая, але паабяцала, што закажа з каталёгу набор нажоў для Лорэйн на shower.

К[*асінец*] па абедзе пайшоў.

**Серада 30 жніўня**

W.W. meeting. Важу 170½[1] . Я спадзявалася лепшых рэзультатаў, але добра й гэта.

На рабоце ўсё добра. К[*асінец*] бярэ кароткія адпачынкі. Але шмат пра свае пляны не гаворыць.

Вечарам В[*ітаўт*] спаткаў мяне ў Secaucus, і мы паехалі да Надзі забраць падарунак і на вячэру. Вельмі прыемна правялі ў яе вечар.

Русакі выехаўшы ў Каліфорнію, але ў іх у хаце нешта робіцца — мусіць, моладзь іхная нешта там рэмантуе.

---

[1] *77 кг.*

**Чацьвер 31 жніўня**

В[*ітаўт*] сёньня мае спаткаць Галіну Квасіновіч[1] на аэрадроме, а тады маюць шукаць у N.Y. video, якое Г[*аліна*] мае купіць для Бел. Нар. Фронту.

Спаткаліся мы каля бібліятэкі ў абед. Выпілі кавы. Г. добра выглядае, добра чуецца, толькі кажа, што цяжка ёй цяпер будзе дома пасьля Амэрыкі. Яны пайшлі хадзіць. Спаткаліся мы ўжо а 5-ай і паехалі разам дахаты. Камэры ня купілі — ня было той мадэлі, якую прасілі зь Менску. Павячэралі ў Кітайскім рэстаранчыку. Г. пачала званіць у Менск. Нарэшце дазванілася, і ёй параілі, якую мадэль лепш купіць узамену.

Гаварылі, глядзелі T.V., адпачывалі. Было вельмі прыемна.

Званіў Сяргей [*Карніловіч*], як там Галіна. Зв[*аніла*] Ірэна — яны прыедуць на shower. Ага, К[*асінец*] у Маскву не паедзе. Захварэла ягоная маці. Вось і май надзеі распружыцца!

---

[1] *Праз Галіну Квасіновіч перадалі і грошай для друкаў.*

**Пятніца 1 верасьня**

Сёньня дзень заняты. В[*ітаўт*] з Галінай у N.Y. Маюць купляць video[1]. Я купіла Г. брошку.

Пад абед прыйшоў Леанід Зубараў. Ён ужо ад'язджае ў Менск. Прынёс крыху кніжак. Пасьля 12-ай спаткаліся каля бібліятэкі з В. і Галінай, Зап[*рудніка*] доўга ня было. Разьвіталася я з Галінай. Яна была вельмі расчуленая. В. павёз яе на аэрадром, а я пайшла працаваць, а Зап. меў спатканьне з Зубаравым. Зап. прынёс перагледжанага Кавыля. Добра выходзіць.

Вечарам ужо нарэшце самі і адпачывалі. Таксама даўгі weekend наперадзе, дык можа крыху адпачнем.

Пазваніў Куравіцкі — што ён дрэнна чуецца, дык ня ведае, ці будзе заўтра працаваць. Званіў і Касінец. Я ўжо й была настроеная працаваць заўтра, але Кур. пазваніў, што папрабуе прыйсьці. Але вечар разьбіўся.

---

[1] *Праз Галіну Квасіновіч перадалі таксама два відэа для БНФ.*

**Субота 2 верасьня**

Надта нешта рана праснулася і не заснула ўжо.

Раніцай зрабіла прычоску, пасьнедалі. Крыху парадкавалася. Ю[*ра*] меўся прыехаць, але так да нашага выезду й не прыехаў.

Мы выехалі на зборку БАЗА а 12-ай. Добра справіліся, хоць быў крыху й трафік. Ю. прыехаў хутка за намі. Ён прыехаў дахаты, як мы толькі выехалі.

Зборка прайшла ОК. Выбралі ўсіх старых, ды дабралі яшчэ Юрку Азарку і нашага Юру. Быў там і госьць з Вільні — Нінько[1]. Расказаў крыху пра жыцьцё бел. у Вільні. Зьбіралі грошы, як заўсёды. Мы далі $140. В. прадаваў кнігі, як заўсёды. Зацягнулася. Мы зь Юрам паехалі дахаты раней, а В. меў забраць Сяргея. Юра паехаў да Л[*орэйн*] бацькоў.

Прыехаў ён ня толькі з Сяргеям, але і з Нінько м. Трэба было й частаваць і ўкласьці іх.

Гаварылі шмат — ён любіць гаварыць. Цікава было паслухаць, як арганізоўвалі сойм у Вільні. Літоўцы добра спрыялі. Засядзеліся.

---

[1] *Хведар Нюнька.*

**Нядзеля 3 верасьня**

Пасьнедалі ня позна і разьехаліся хто-куды. В[*ітаўт*] спачатку завёз сп. Нінько ў Нью Ёрк. Там яго спаткаў Шук[*елойць*] і вадзіў яго па N.Y. В. з Сяргеям паехалі далей у N. Br. Пабылі там крыху пад царквой і паехалі да Асіпчыка. А[*сіпчык*] даў на Полацак $800 і на Інстытут $200.

Я зраньня адпачывала, чытала W.W.[1] Пазьней пачала адрасаваць канвэрты. Зв. [*Янка*] Сурвіла — прасіў xerox McMillin[2].

В. прыехаў пасьля 4-ай. Каля 8-ай прыехалі Юра і Лорэйн. Мы ўсё падчыквалі гасьцей, дык не вячэралі. Я крыху прагаладалася, неяк стомлена чуюся. Л. і Ю. хутка паехалі.

Шук. і Нінько прыехалі ўжо пасьля 9-ай. Звaніла Юля [*Андрусышына*] — дзе Сяргей [*Карніловіч*]. Я нешта змайстравала на вячэру. Гаварылі. Ён шмат расказваў пра Вільню, іхную арганізацыю, наагул жыцьцё там.

Я пайшла спаць каля 12-ай, а яны яшчэ сядзелі.

---

[1] *Літаратура як скінуць вагу.*
[2] *Старонкі з кніжкі «Беларуская літаратура».*

**Панядзелак 4 верасьня**

Сёньня яны[1] ўзьняліся рана, бо маюць яшчэ ехаць агледзіць крыху штат N.J.

Пасьнедалі й паехалі. В[*ітаўт*] падкінуў Шук[*елойця*] пад [*аўтобусную*] астаноўку, а з Нінько м паехалі ў Прынстан і тады да Надзі. Юра прыехаў хутка, як яны выехалі.

Зв. Шаршуновіч — дзе яны? Званіла Рая — дзе яны. Званіла Сп-ня Сільвановіч. Яна перадасьць падарунак зь Вітаўтам.

Я памыла бялізну. Крыху працавала. Юра нешта ў сябе парадкуецца. Я пайшла на двор. Пішу дзёньнік, але неяк неспакойна, пакуль няма В.

В. прыехаў. Я ўжо канчаю дзёньнік і буду сабе чытаць і адпружвацца.

Нарэшце самі й крыху адпачываем. В. прывёз падарунак для L[*orrain*] ад Сільвановічаў. Скончыла адрасаваць запросіны.

---

[1] *Шукелойць і Нюнька начавалі ў нас.*

**Аўторак 5 верасьня**

На рабоце ОК, але ўсё яшчэ не адышла ад гэтай хатняй суматохі.

Добра, што надвор'е добрае. Прахладна, сьвежа, дык крыху лягчэй.

Нажоў для Lorrain няма яшчэ.

L. выслала запросіны [*на вясельле*].

**Серада 6 верасьня**

B[*imaўm*] у N.Y.

А 12-ай пайшла на W.W. — вельмі прыемна была зьдзіўленая, што згубіла 4 фунты. Важу 166½[1].

Зв. В., як мяне ня было. Адзванілася. Ён спаткаў быў Маркоўскага[2] і той казаў, што абед для Weck'а[3] будзе ў чацьвер. Ня можа ніяк дазваніцца да Ірэны, каб зьверыць. Ужо каля 4-ай дазваніўся. Усё ў парадку — абед сёньня.

В. спаткаў мяне ў Secaucus. Прыехалі якраз у час. Вечар прайшоў вельмі прыемна, хутка. Але ўсё-ж пасьля працы накладна. Стамілася крыху.

Юра быў дома.

Нажоў няма. Надзін прывезла фігурын[4]. Добра, што гэта ёсьць.

Аддала Ірэне Кавылёву вокладку[5], каб крыху перарабіла.

Спарадкавала яшчэ падарункі. Заўтра завязём да Ball[*arine*].

---

[1] *75,5 кг.*

[2] *Стыў Маркоўскі — прадстаўнік польскае групы ў этнічных фэстывалях у Нью Джэрзі.*

[3] *Фрэд Вэк — кіраўнік-арганізатар этнічных фэстываляў у Цэнтры мастацтваў штату Нью Джэрзі.*

[4] *Парцэлянавыя фігуркі. Італьянцы вельмі любяць гэткія вырабы — нешта падобнае, як беларусы вырабы з дрэва, саломкі.*

[5] *Ірэна Рагалевіч рабіла вокладку да кнігі М. Кавыля.*

**Чацьвер 7 верасьня**

Сёньня на рабоце спакойна.

Зраньня пазваніла ў кампанію аб нажы — яны казалі, што заказу ніякага ня было. Я хацела ўжо заказаць нанава, але яны [*крэдытныя*

*карткі*] Am. Express не бяруць. Так ужо й вырашыла проста напісаць на картцы, што два наборы нажоў прыйдуць пазьней.

В[*imaўm*] спаткаў мяне зноў у Sec[*aucus*] і мы паехалі да Ball[*arine*]. Прыемна правялі пару гадзін. Я вельмі добра трымаюся, і ўчора, й сяньня.

Нажоў так і няма.

Юра [*у шпіталі*] дастаў для Данчыка лякарства завезьці Ользе Корбут, для яе брата.

**Пятніца 8 верасьня**

Пазваніла Алеся.

Яна нажы была заказала. Не зразумела, што там сталася. Як прыедзе — разьбярэцца. В[*imaўm*] цэлы дзень усё прыслухоўваўся й прыглядаўся. Нажоў няма.

Ball[*arine*] прыехала па мяне ўжо даволі позна. Пакуль мы даехалі (зблудзілі пару разоў), было ўжо па 8-ай. Хутка прыехала й L[*orrain*] зь Юрам. Я пазнаёмілася з сям'ёй. Абед вельмі зацягнуўся. Падарункі пачалі разьбіраць ужо пасьля 10-ай. Шмат добрых, карысных і прыгожых падарункаў. Шмат і грошай. Яна вельмі задаволеная. Абед і ўся абстаноўка была вельмі шыкарная. Вясельле будзе выглядаць бедна ў параўнаньні да shower[1].

Выехалі мы з Ball. ужо пасьля 12-ай. Зноў крыху паблудзілі. Прыехалі дахаты добра пасьля 1-ай. В. чакаў мяне каля Harmon Cove. Стомленая.

---

*[1] Амэрыканскі звычай — дараваць нявесьце падарункі ды ладзіць вячэру для сустрэчы бацькоў абедзьвюх сем'яў.*

**Субота 9 верасьня**

Прачнулася рана.

Прычоска. Сьнедалі без бабкі, яна таксама ня спала, стомленая. Памыла бялізну.

Юра прыехаў, як мы ўжо пасьнедалі й паехаў да Надзін. Тады паехаў у South River дамовіцца пра бар. Заехаў таксама да Сельвясюка, даў ім яшчэ $100.

Тады паехаў на аэрадром, аддаць лекі Данчыку. Я нейкая напружаная, стомленая, нэрвовая.

Зьезьдзілі купілі кавы. Заехалі на базар, купілі памідораў, фруктаў.

Я крыху адпачывала, але ўсё яшчэ напружана.

Рана пайшла спаць. Пагода гарачая, сырая.

Юра спачатку ня мог знайсьці Данчыка [*на аэрадроме*], але знайшоў праз рупар — аддаў лекі. Усё ў парадку.

**Нядзеля 10 верасьня**

Званіла Алеся. Расказала ёй пра shower.

Сёньня чуюся ўжо крыху лепей. Пасьнедалі.

Я заставіла зноў машыну з бялізнай і пачала прыбіраць уборныя. Стамілася, угрэлася. Чуць дрэнна не зрабілася, але скончыла. Памылася, перакусілі крыху салаткі, і [redacted] пайшла на двор. Пішу дзёньнік. Пагода, здаецца, крыху палепшала, крыху вецярок, пасьвяжэла. Канчаю дзёньнік і буду чытаць.

**Нядзеля 1 кастрычніка**

Дзень прыгожы.

Па абедзе паехала да Bal[*larine*]. Пахадзілі мы па магазынах там. Купілі Алесі падушкі. Мне купілі добрую блюзачку для бэльгійскай спадніцы. Сукенкі не нагледзелі.

**Панядзелак 2 кастрычніка**

Алеся пазваніла, што ня прыедзе ў аўторак, як мела. А затое прыедзе, мусіць, у weekend. Гэта лепей, бо ў суботу мы зможам сёе-тое зрабіць разам.

**Аўторак 3 кастрычніка**

Сёньня працую вечарам.

Зраньня крыху парадкавалася. Пад'ехала ў Rutherford у магазын. Нічога не знайшла падыходзячага. Ужо крыху пачынаю хвалявацца пра сукенку.

Дзень прайшоў добра.

**Чацьвер 5 кастрычніка**

В[*імаўт*] прыехаў у N.Y. на машыне. Дзень быў нармальны.

Вечарам спаткаліся з Запруднікам, павячэралі й пайшлі на зборку з Бураўкінам.

Там расчараваньне: фільму, які мелі высьвятляць пра Чарнобыль, — ня будзе — няма пражэктара, які трэба.

Але вечар прайшоў добра. Бураўкін чытаў свае вершы. Тады былі пытаньні. Сабралася шмат людзей.

Выступаў і рэжысер Дашук, расказваў пра свае фільмы. Гэты фільм, пра Чарнобыль, між іншага, міністар ня хоча высьвятляць у U[*nited*] N[*ations*]. Мусіць, баіцца, што ён занадта моцны й нэгатыўны. Шкада, што не ўдалося прагледзець, але вырашылі спаткацца ў наступны чацьвер — можа, да гэтага часу знойдзецца пражэктар. Бураўкін падараваў нам свой двухтомнічак. Дамовіліся спаткацца неяк у бібліятэцы.

**Пятніца 6 кастрычніка**

Дзень быў хаатычны. Атрымала чэк. В[*імаўт*] прыйшоў, каб забраць чэк і схадзіць пасьнедаць разам. Я крыху спазьнілася, забылася ўзяць з сабой чэк. Дык замест прыемнага сьнеданьня, была нейкая напружаная атмасфэра.

Алеся прыязджае позна на [*лётнішча*] Kennedy. Вітаўт спаткаў мяне і мы яшчэ павячэралі. Ён паехаў спатыкаць А., а я думала, кры-

ху адпачну. Хутка звоніць В., што Алесю не спаткаў — самалёт яе прыляцеў, [redacted] яе няма. Тады звоніць А. — дзе тата? Яна яго чакае каля багажу. Тады зноў В. — дзе А.? Нарэшце знайшліся. Прыехалі дахаты ўжо даволі позна.

Сёньня, між іншага, высьвятлялі два беларускія фільмы ў U.N. таго-ж рэжысера. Мы не змаглі застацца.

**Субота 7 кастрычніка**

Юра перабіраецца ў сваю хату.

Раніцай зрабіла завіўку, дык крыху даўжэй затрымалася. Пасьнедалі. Прыехала Bal[*larine*]. І мы ўтрох паехалі. Спачатку завезьлі Алесіны падушкі да жанчыны, каб зрабіла пакрышкі.Тады ў магазыны. Купілі мне сукенку. Добрую й не дарагую. Вельмі ўдала. Купілі бабцы туфлі, нагледзелі сумачку. Купілі яшчэ сёе-тое для Алесі і мне завушніцы. У Loemans купіла сабе 3-ы спадніцы й жакецік. Алеся купіла сабе блюзачкі.

У Shoe Town купіла сабе туфлі да сукенкі, Алеся таксама сабе нешта купіла. Адным словам, дзень быў вельмі памысны.

Па дарозе назад заехалі купілі ежы й зрабілі хуценька добрую вячэру. Павячэралі й паехалі на аэрадром. Ехалася блага, але пасьпелі ў парадку. Крыху яшчэ пасядзелі з А[*лесяй*] і паехалі дахаты. Алеся паехала ў Нямеччыну.

**Нядзеля 8 кастрычніка**

Маміны народзіны.

Сёньня нічога ня робім. Крыху памыла бялізну, крыху тое-сёе папарадкавала.

**Панядзелак 9 кастрычніка**

Цудоўная пагода. Сабраліся й паехалі. Заехалі на каву ў нашым, ужо традыцыйным, мейсцы. Муніцыпальныя ўстановы былі закрытыя — таксы[1] не заплаціла. Заехалі набралі памідораў. Так прыемна й хутка сабралі дзьве карзінкі. Пад'ехалі пад каплічку і... якраз пачаліся званы, як бы мама вітала нас. Так было прыемна мне. Рашылі пад'ехаць і ў А[*tlantic*] C[*ity*]. Там крыху пагулялі. Шмат ня згубілі, дык настрой быў добры. Паехалі пад Дзядзю Ваню. Заехалі яшчэ па яблыкі.

У Д. В. усё добра. Ён даў для Юры $100, пачыніў гадзіньнік. Там і пачыняць ня было чаго — толькі дастаў перакладку паперы з мэханізму. Крыху пасядзелі ў іх і паехалі дахаты.

Вельмі быў прыемны дзень. І пагода добрая, і ўсё памысна прайшло.

---

[1] *Падаткі.*

**Аўторак 10 кастрычніка**

Сёньня неяк вельмі стомленая. Соўгалася цэлы дзень. Адзела новую спадніцу й жакетку. Добра пасуе, адно спадніца крыху задаўгая.

Вечарам прыйшла й лягла і нічога не магла рабіць — нават не зазваніла да Bal[*larine*] дамовіцца ехаць у магазын заўтра.

**Серада 11 кастрычніка**

На рабоце ОК, але ўжо ўсё больш і больш надакучае й бібліятэка й N.Y., і, асабліва, Касінец.

Як я была ўжо выйшаўшы, пазваніла Bal[*larine*], каб спаткацца й паехаць у магазын.

В[*ітаўт*] у N.Y. — цяпер шмат бывае ў радыё, як Запруднік на вакацыях.

А 7-ай В. спаткаў мяне. Прыехала Bal. Мы крыху перакусілі й паехалі. Вярнулі бабчыны туфлі. Купіла я сабе сумачку на вясельле. Заехалі яшчэ ў Shoe Town і купілі бабцы туфлі. Добра справіліся. Туфлі падышлі.

Прыехаў Юра. Начаваў дома. У яго ўсё добра. Шмат працуе. Была ў іх проба — будуць танцаваць у Wilkes Barry [*штат Пэнсыльванія*] на фэстывалі.

**Чацьвер 12 кастрычніка**

В[*ітаўт*] прыйшоў сёньня ў бібліятэку паглядзець кнігу пра Літоўскую эміграцыю і альманах Сьвіцязь, што толькі прыйшлі.

Прыйшлі ў біб[*ліятэку*] беларусы з Elizabeth[1]. Паказала ім збольшага кампютар і каталёг. В. паказаў рэшту бібліятэкі. Схадзілі мы з В. перакусілі.

Фільм так і не ўдалося высьветліць — не знайшлі пражэктара. Трэба было адклікаць зборку.

К[*асінец*] пайшоў рана, але дзень у мяне быў нейкі хаатычны.

Рабіла крыху Кавыля, каб заўтра аддаць Запрудніку.

---

[1] *Зь Менску, адведвалі родзічаў.*

**Пятніца 13 кастрычніка**

Пагода добрая стаіць.

На рабоце ОК — раблю шмат для К[*асінца*].

Пад абед прыйшоў В[*ітаўт*] крыху чытаў. Тады прыйшоў Запруднік. Чакалі на Бураўкіна. Ён прыйшоў крыху пазьней і ўжо чуваць было, што выпіваў. Пайшлі на абед. Узялі яны па пару чарак і ў Б[*ураўкіна*] зусім язык разьвязаўся. Ён, між іншым, сказаў, што вельмі хваляваўся, каб мы яго не падвялі тады, як ён калісь прыязджаў у N. Y. і мы зь ім часта хадзілі й шчыра гаварылі. Вельмі быў удзячны, што ніколі нічога з гэтых гутаркаў ня выйшла па-за нас. Шмат расказваў пра іхнае партыйнае жыцьцё — гэта яго цяпер нешта, мусіць, турбуе. Сядзелі яны доўга. Аж зь місіі пазванілі мне — дзе ён? Чакала я на В. добрых 40 хвілін, бо дамовіліся што паедзем дахаты разам. Неяк разьмінуліся.

В. быў ужо дома, як я прыехала. Пайшлі заказаць В. таксыдо[1].

Зв[*аніла*] Bal. Ад Кавыля прыйшла яшчэ паэма [*трэба ўлучыць у кнігу*].

---

[1] *Фрак (tuxedo) для вясельля.*

**Субота 14 кастрычніка**

Зрабіла рана прычоску. Здала А[*лесіну*] сукенку ў чыстку й маю спадніцу падкараціць. Пазваніў Шуст — ня прыедуць[1].

Пасьнедалі й паехалі: спачатку ў Elizabeth завезьлі тым беларусам зь Менску кнігі. Яны ўжо вяртаюцца дахаты, а тады далей у Penn. ў Wilkes Barry на фестываль. Крыху паблудзілі, дык прыехалі ўжо а 2:30[2].

Наведвальнікаў ня было так шмат — ня была надта спрыяльная атмасфэра. Неяк нешта ўсё ня клеілася. Дабылі да канца, да 10-ай гадзіны. Паехалі шукаць матэль. Неяк не натрапілі на добры. Заблудзілі. Настрой сапсуўся. Паехалі далей, але былі ўжо добра стомленыя, дык рашылі ўсё-ж затрымацца недзе. У адзін заехалі — няма мейсца. У другі зьехалі з дарогі, і зноў заблудзілі. Тады ўжо рашылі ехаць дахаты, бо нешта ўсё нам перашкаджала.

Прыехалі дахаты каля 1-ай. Дзень быў нейкі выкінуты, непрадукцыйны й не адпачылі, як думалася.

---

[1] *Мікола Шуст з Канады — не прыедуць на фэстываль у Пэнсыльванію.*

[2] *Былі вялікія беларускія стэнды.*

**Нядзеля 15 кастрычніка**

Позна сёньня валяліся ў ложку. В[*ітаўт*], праўда, устаў раней і зрабіў яшчэ скрыпт, а тады прыйшоў і заснуў.

Пасьнедалі.

Званіла Алеся. У яе ўсё добра. Шмат працы, але сёньня адпачывае.

Памыла бялізну й выйшла на двор пасядзець. Пагода цудоўная. Спакойна, цёпла. Сяджу й пішу дзёньнік.

**Аўторак 17 кастрычніка**

L. Birthday[1]. Памерла Тумашыха[2].

---

[1] *Дзень народжаньня Лорэйн.*

[2] *Памерла сп-ня Ксеня Тумаш, жонка д-ра Вітаўта Тумаша.*

**Чацьвер 19 кастрычніка**

Зап. Русакі. Да Надзі. Карціна.

**Субота 21 кастрычніка**

Паховіны Тумашыхі[1]. Да Надзі па падарункі. Валя.

---

[1] *На беларускіх могілках у Іст Брансуіку.*

**Нядзеля 22 кастрычніка**

У N. Br. Фільм з Беласточч.[1] Кветкі. Карціну.

---

[1] *Моладзь паказвала фільм з паездкі ў Беласточчыну.*

**Аўторак 24 кастрычніка**

К. пазваніў каб прыехала раней. Памерла яго маці.

**Серада 25 кастрычніка**

Працую. Lorr. падпісвала падарункі.

**Чацьвер 26 кастрычніка**

На працы. К. маці паховіны.

Не ўдалося мне сёньня ўзяць вольны дзень — мушу працаваць. Лорэйн сёньня накрывае сталы. На працы ўсё добра.

**Пятніца 27 кастрычніка**

Дома. So. R. кветкі. Алеся прыехала. Rehearsal. Bal. забрала падушкі.

**Субота 28 кастрычніка**

Вясельле.

---

*Вясельле Юры і Лорэйн. Шлюб бралі ў Арамейскай царкве ў Брукліне, ■ вясельле было ў Беларускім цэнтры ў Саўт Рывэры. Было па-над 200 асобаў, зь іх 26 дактароў!*

**Нядзеля 29 кастрычніка**

Рана ўстала, закончыла альбом.

Раніцай пачалі сьнедаць, як прыехалі Юра й Лорэйн. Вельмі была прыемная неспадзеўка.

Дала ім альбом. Яны былі вельмі задаволеныя. Прывезьлі грошы й чэкі, каб мы заўтра завезьлі ў банк. Сабралі [*на вясельлі*] больш як $14,000.

Распакавалі яшчэ падарункі, якія мы мелі для іх. Яны вельмі шмат усяго добрага атрымалі.

Паехалі мы з Алесяй у Флемінгтон. Bal[*larine*] прывезла Алесіны падушкі. Забралі шубы. Купілі яшчэ пасудзінкаў для падарункаў ад маладых, бо шмат не хапіла — самым важным — сям'і, Надзі, Алесі ды людзям, што прыслалі падарункі, але на вясельлі ня былі. Нам было вельмі прыемна, але ня мелі шмат часу.

Прыехалі дахаты, ды ўжо хутка й паехалі на аэрадром. Алеся паехала. Яшчэ Вітаўту завезьці Юру й Л. ў Бруклін. Заўтра іх завязе Лорэйн бацька на аэрадром.

**Панядзелак 30 кастрычніка**

Сёньня маладыя паехалі ў Гаваі. Мы зраньня крыху пасьнедалі й паехалі па справах. Завезьлі грошы й чэкі ў банк для маладых. Там даволі доўга затрымаліся.

Заехалі да Надзі забралі настольнікі й сэрвэткі, пакінулі пасудзінкі для Валі і паехалі здаць настольнікі. Там была вельмі няпрыемная сутычка з гаспадарамі. Яны пачалі наракаць, што настольнікі заплямленыя воскам і не адмыецца. Не хапала 16 сэрвэтак. Адным словам, задатку я не атрымала й ня думаю, што атрымаю. Яны былі вельмі не сымпатычныя. Я была вельмі расстроеная, але мы рашылі не прай-

мацца гэтым — ну, яшчэ адзін расход на вясельле. Заехалі ў свой рэстаранчык на 1-ай дарозе.

Рэшту дня я адпачывала. В[*ітаўт*] паехаў да Bal[*larine*] памагчы ёй пакавацца.

**Аўторак 31 кастрычніка**

Выехалі з дому рана а 7-ай. Каля Bal[*larine*] яшчэ крыху завазіліся. Пакуль яна сабралася, заехалі па газаліну[1]. Ехалася добра. Праўда, крыху марасіў дожджык. Пасьнедалі.

Заехалі да Алесі. Распакавалі ўсе ейныя рэчы. Крыху ў яе пабылі, але нават ня пілі каву. Крыху распагодзілася.

Падвезьлі Bal. пад цягнік[2], а самі паехалі ў Дэлавар.

Па дарозе было нават і сонца, але пасьля пачаўся дожджык. Ехалася доўга. Ужо крыху й стаміліся. Знайшлі добры матэль. Шмат ужо, праўда, было зачыненых [*на зіму*]. Наш быў амаль зусім пусты.

Павячэралі, крыху адпачылі й паехалі яшчэ крыху праехацца. Пазванілі да маці. У яе ўсё добра. Ніхто па цукеркі ня прыходзіў.

Адпачывалі. Вельмі добра чуемся.

---

[1] *Заправіць машыну.*

[2] *Цягнік у Флорыду з плятформамі, на якія грузяцца машыны. Яна брала з сабой машыну.*

**Серада 1 лістапада**

Усталі ня позна. Цудоўная пагода. Сонейка, цёпла. Паехалі пасьнедалі, заехалі яшчэ купілі яблыкаў, і [redacted] яшчэ выйшла на вэранду й чытала, а В[*ітаўт*] крыху паляжаў. Вельмі было прыемна. Шкада, што ня можам застацца тут яшчэ на дзень.

Паехалі на 11-ую на паром[1]. Паромам ехалася таксама вельмі прыемна. Я цэлую дарогу сядзела на сонцы й чытала.

Дахаты ехалася добра, але ўжо такая настальгія адчувалася.

Прыехалі дахаты ня позна. Яшчэ крыху адпачывалі, рыхтаваліся да працы, да вечара з Тумашам у пятніцу[2], да паездкі ў Канаду.

---

[1] *Вусьце ракі Дэлавэр шырокае, як затока. Паміж штатамі Нью Джэрзі і Дэлавэр курсуе паром.*

[2] *Выйшла з друку кніга В. Тумаша «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны», рыхтавалася прэзэнтацыя.*

**Чацьвер 2 лістапада**

Пайшла на працу. Так мне не хацелася.

На працы было даволі спакойна. Шмат ужо каго няма: Глебов, Наташа й Davis паехалі ўжо ў Чыкаго[1]. Румяна ня прыйшла, бо чуецца дрэнна. У яе памёр бацька, і яна едзе ў Баўгарыю.

К[*асінец*] па абедзе пайшоў у школу, але яшчэ перад 6-ай вярнуўся.

В[*ітаўт*] быў у N.Y., але вярнуўся перада мной і чакаў мяне каля

аўтобуса. Схадзілі павячэралі ў кітайскім рэстаране. Было вельмі прыемна.

Званіла Надзя [*Кудасава*]. Яна ня прыедзе да Тумаша[2]. Пасудзінкі для Валі перадала.

Я яшчэ тое-сёе парадкавала для паездкі. Сабрала мапы, кніжкі падарожныя.

---

*[1] На штогадовую бібліятэчную канфэрэнцыю.*
*[2] На прэзэнтацыю кнігі.*

**Пятніца 3 лістапада**

На рабоце ўсё ОК. Касінца няма. Ён нічога мне не сказаў, што ўжо ў пятніцу паедзе на AAASS кангрэс[1]. Шмат каго ня было, дык было даволі занята, але затое спакойна. Пакінула К. падарунак з вясельля.

Працаваў у бібліятэцы Сельвясюк цэлы дзень.

В[*ітаўт*] у Нью Ёрку з машынай. Падабраў нас каля бібліятэкі й паехалі ў Крэчэўскага на сьвяткаваньне Тумашавай кнігі. Доўга чакалі Тумаша. Нарэшце прыехала Яра... бяз Тумаша[2]. Але сьвяткаваньне зрабілі. Гаварыў Вітаўт і Запруднік. Зачыталі лісты прывітальныя. Добра сабралася людзей. Усё прайшло параўнаўча добра.

Дахаты прыехалі ўжо пасьля 10-ай. Я яшчэ крыху пакавалася. Прыгатавала падаруначкі зь вясельля для ўсіх Канадыйцаў.

---

*[1] Кангрэс Асацыяцыі амэрыканскіх дасьледнікаў славянаведы.*
*[2] Доктар сказаў Тумашу не бываць ні на якіх імпрэзах, і таму ён ужо нікуды не хадзіў. Дактары баяліся рэакцыі — узбуджэньня сэрца.*

**Субота 4 лістапада**

Зазванілі да Алесі. Яна сёньня вылятае ў Нямеччыну.

Зрабіла прычоску хутка. А 8:30 ужо паехалі, але мусілі вярнуцца, бо В[*ітаўт*] забыўся пашпарты. Гэта нас на якіясь поў-гадзіны затрымала.

Пасьнедалі на 40 дарозе. Ехалася добра. Пагода цудоўная. Добра ўжо захаладала як уехалі ў горы. Як узьехалі на 90, я крыху праехала, а В. заснуў. Затрымаліся на хвілінку на каву.

У Таронта прыехалі пасьля 6-ай. Пазванілі да бабкі. У яе ўсё добра. Званіў Юра з Гаваяў. Пазванілі да Пашкевічаў з матэлю. Яны нас чакаюць. Там ужо Раіса і Івонка. Паехалі да іх. Добра, што яны зусім не далёка.

Вечар прайшоў добра. Гаварылі расказвалі ім пра нашае тут жыцьцё, актыўнасьць. Яны шчыра ўсім цікавіліся. Паказалі ім кнігу Тумаша, але, трэба сказаць, што на іх гэта не зрабіла жаданага ўражаньня.

Была й невялічкая праблема — канфлікт Пашкевіча з Раісай з-за Надсона й рэлігіі, але хутка залагодзілася.

Сядзелі ў іх позна. Крыху мне ўжо й галава стала балець — стаміліся.

**Нядзеля 5 лістапада**

Усталі рана, але не сьпяшаліся, бо да Пашкевічаў мелі паехаць толькі на 10-ую.

Яны ўжо чакалі са сьнеданьнем. Пасьнедалі, гаварылі. Яны ўсе вельмі галодныя да навінаў ад нас. В[*ітаўт*] пайшоў з Пашкевічам паглядзець кніжкі, а я з Валяй залагодзілі са слоўнікам[1].

Запакавалі ўсё й паехалі на канцэрт. Там перад пачаткам была яшчэ прадажа кніжак і рэчаў. Купіла 3 ручнікі — вельмі прыгожыя і сэрвэтку з маленькімі сэрвэтачкамі. Канцэрт быў ня дрэнны. Ансамбаль «Сьвята». Удалая пастаноўка — нібы вечарынка — увесь час на сцэне, дзеі мяняліся хутка. Напачатку гаварыла нейкая прадстаўніца з Вярхоўнага Савету[2] — выкрыкнуў Акула, каб гаварыла па-беларуску. Канадскія арганізатары былі вельмі занепакоеныя. Яна сказала пару словаў па-бел[*арусკу*], а тады прадаўжала па-расейску. Пасьля канцэрту пагаварылі яшчэ з артыстамі і з рэд. газэты «Камуніст Беларусі»[3]. В. даў яму кніг.

А 5-ай паехалі ў Амэрыку. Добра даехалі да мейсца, дзе рашылі затрымацца. Павячэралі й адпачывалі.

---

*[1] Слоўнікавая картатэка была перададзеная ў БІНІМ.*
*[2] Ніна Мазай.*
*[3] Галоўны рэдактар часапісу «Коммунист Белоруссии» Ўладзімер Вялічка.*

**Панядзелак 6 лістапада**

Усталі ня надта рана. Сабраліся й пайшлі на сьнеданьне. Крыху йшоў дождж, але цяпер перасьціг. Добра пасьнедалі й паехалі. Па дарозе зноў пайшоў дождж. Але як уехалі на 81, перастаў і выйшла сонца. Хутка нават зрабілася горача. Ехалася добра. Дахаты прыехалі а 3-яй. Адпачывалі.

Вітаўт заехаў яшчэ да Жамойды забраць білет. Званіў Ярашэвіч, казаў В., што зь ім хоча спаткацца Дашук.

Шмат пошты, але нічога надта цікавага, толькі картачка ад Юры з Гаваяў. У іх усё добра. Ад лякатэраў чэку яшчэ няма. В. рабіў скрыпт, а я цэлы вечар адпачывала.

**Аўторак 7 лістапада**

Сёньня дома. В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. Я крыху парадкавалася. Памыла бялізну, зварыла рыбу. Цяпер крыху адпачываю і пішу дзёньнік, але нейкі неспакойны настрой — так шмат трэба рабіць.

Пад вечар пачулася неяк прастудна. Стомлена.

Званіла Ала, але не сказала, што яна хацела ад Вітаўта. Вітаўт прыйшоў ужо пасьля 5-ай. Схадзілі пагаласаваць. Павячэралі і сталі глядзець T.V. Хутка была ўжо відавочна, што выйграў Флорыо ў N.J., а Dinkins у N.Y.[1]

Прыехаў Данчык.

Званіў Юра з Гаваяў. У іх усё добра. Пагода добрая. Хацеў адрас

Ball[*arine*], каб нешта ёй паслаць. Казаў, што яны надумаліся напісаць нешта пра вясельле беларускае і ўкласьці з падзякамі.

---

[1] *Джым Флорыё быў абраны губэрнатарам штату Нью Джэрзі, а Дэйвід Дынкінс — мэрам Нью Ёрку.*

**Серада 8 лістапада**

На працы чуюся вельмі ніякава. Прастуджана. Шмат было ўсялякіх справаў залагодзіць.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. Званіў яму нехта праз мяне з Modern Languages Assoc. Перадала яму тэлефон. Яны запрашаюць яго на зборку[1]. Пра AAASS Кас[*інец*] толькі вельмі коратка сказаў, што чытаў Вітаўтаву камунікацыю.

Рыта падаравала мне бурштын і яшчэ нейкі сувэнірчык.

Дома, як прыехалі, быў ліст ад Мальдзіса. Просіць інфармацыі, асабліва здымкі, беларускіх эмігранцкіх пісьменьнікаў.

В. расказваў пра паездку Данчыка. Было ўсё вельмі памысна, але ў некаторых мейсцах была цэнзура: не дазволілі сьпяваць «Магутны Божа», таксама не дазвалялі сьпяваць Воюшу-Сокалаву. У Беластоку быў вялікі сукцэс.

---

[1] *Былі прадстаўленыя беларускія даклады.*

**Чацьвер 9 лістапада**

Чуюся прастуджана. Усталі ня позна. Пасьнедалі. Я стала прасаваць. Ідзе дождж, дык бялізны ня было як мыць.

Пазваніў зусім нечакана Анатоль Міхайлаў. Ён цяпер у Зах. Нямеччыне. Нас не забыўся, але былі ў яго нейкія праблемы, дык ня трымаў сувязі. Казаў, што паслаў нам кнігі й вялікі ліст 2 тыдні таму. Пазвоніць яшчэ ў панядзелак.

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. да дэнтыста. Меў заехаць у радыё, але пазваніў Зап[*руднік*], што сёньня няма патрэбы. Бачыўся ён з Данчыкам. Яму было вельмі ўсё добра. Прывёз шмат рэчаў зь Беларусі і з Беласточчыны.

**Пятніца 10 лістапада**

Купіла Р. цукеркі. Рыта. Хусткі. Прыходзіў Том. Ала званіла.

**Субота 11 лістапада**

В. згроб. лісьце. Прыехалі La G. В. прастудзіўся.

**Нядзеля 12 лістапада**

Касэтка ад Старабагатава. На могілкі. Зв. Юрку Ст. Зв. Валі Rah. Заехалі Ю. і L. Ліст і фільм ад Казыры.

**Панядзелак 13 лістапада**

В. дома прастуджаны.

**Аўторак 14 лістапада**

Працую сёньня вечарам. Прыехалі на машыне.

В[*imaўm*] цэлы дзень у радыё. Знайшоў артыкул у «Настаўніцкай газэце» пра [*Анатоля*] Міхайлава.

**Серада 15 лістапада**

Раблю хегох слоўніка[1].

Знайшла некалькі артыкулаў пра Тайну Тайных. Добра, што К[*асінец*] сказаў мне пра Ryan'а. В[*imaўm*] у радыё.

А 4-ай мае спаткацца з Дашуком.

Я прыехала дахаты перад В. Пазваніла на фарму пра чэк. Яны выслалі.

Званіў Том — дамовіцца на пятніцу.

Ад Міхайлава яшчэ нічога няма.

В. прыйшоў ня позна, але вельмі стомлены — баліць нага. З Дашуком была гутарка пра беларусаў Амэрыкі — ён хоча зрабіць фільм. Хоча яшчэ спаткацца зь беларусамі пагаварыць.

Прыйшоў Ethnic Forum з Вітаўтавым артыкулам[2].

---

[1] *Ангельска-беларускага В. Пашкевіч. Картатэка была заўсёды ў некалькіх копіях.*

[2] *«Беларусы ў ЗША».*

**Чацьвер 16 лістапада**

На рабоце ўсё добра. Раблю хегох слоўніка. Ідзе памалу.

Па абедзе пазваніў В[*imaўm*]. Прыйшоў чэк з фармы. Пазваніла нейкая жанчына зь Менску — хоча з намі спаткацца, мае нам перадаць запросіны ад камітэту «Радзіма» прыехаць у Менск. Запросіны яны нам абодвум ужо выслалі.

В. прыехаў па мяне а 5-ай. Запаркавалі мы недзе на 23-яй вуліцы і пачалі шукаць адрасу. Даволі далёка блудзілі. Знайшлі, крыху чакалі іх.

Жанчына гэтая Вацлава Вярбоўская[1] — рэжысёр, артыстка, аўтар. Прыехала сюды з дачкой, затрымалася ў нейкага знаёмага, але хоча пазнаёміцца зь беларусамі.

Мы добра пагаварылі. Яна паказала свае працы. Расказвала пра Чарнобыль шмат — гэта іх вельмі турбуе. Думаем запрасіць іх да нас.

---

[1] *Вацлава Вярбоўская пазьней паводзіла сябе дзіўна і невыразна, а пасьля 1994 году стала падтрымліваць Лукашэнку. Але яна таксама напісала пра нас артыкул «Сям'я» («Народная Газета», 10-12 верасьня 1994 г.).*

**Пятніца 17 лістапада**

Пазв. Сурвілам. Зв. Сяргей — Вацлава Вярбоўская да іх.

В[*imaўm*] паехаў да Тома.

Званіла Надзя. Яна ўжо дома.

**Субота 18 лістапада**
Пазваніла Юрку. Галіны выстаўка. Аддала Веры Зам. ручнікі.

**Нядзеля 19 лістапада**
Зв. Алеся. Бялізна. Прыбірала. В. — Крэчэўскі. Зв. Калоша. [redacted] ў сваім пакоі.

**Панядзелак 20 лістапада**
В. у N.Y. Пачаў xerox слоўніка. Дала К. Скарыну. Парадкавала слоўнік.

**Аўторак 21 лістапада**
В. у N.Y. Рабіла для Казыры Т.Т. Віленская. Зв. Юлі. Зв. Надзя — Вацлавы няма.

**Серада 22 лістапада**
Зв. Ала. Вацлава ў Сяднёва — хацела да яе. А. прасіла, каб мы ўзялі — не. Прыехала дахаты раней. А. й В. былі ўжо дома. Павячэралі pizza й парадкаваліся. А. стомленая — ня добра чуецца. Расказвала шмат.

**Чацьвер 23 лістапада**
Устала рана. Прыг. kurku. Алеся памагала. Добра ўсё. Лорэйн бацькі добра чуліся.

**Пятніца 24 лістапада**
Я на працу. А. з Надзін.

**Субота 25 лістапада**
В. з Том. Езьдзілі з А. і L. у Flemington. Купілі яшчэ пасудзінкі. Зв. Ball.

**Нядзеля 26 лістапада**
А паехала дахаты з Надзін. Адпачывалі.

**Панядзелак 27 лістапада**
Засталася дома — ня добра чуюся. В. у N.Y. Зв. Вярбоўская.

**Аўторак 28 лістапада**
На працу ня хочацца. Рыта прынесла бурштын.

**Серада 29 лістапада**
W.W. 165. В. прыходзіў з Дашуком.

**Чацьвер 30 лістапада**
На рабоце ОК. Спазьнілася. Купіла гадзіньнік. Да нажнога доктара.

**Пятніца 1 сьнежня**
На рабоце ОК. К. няма. Вечар у Алы. У біб. Вярб. Прыехала позна.

**Субота 2 сьнежня**
Працав. са слоўнікам. Дома цэлы дзень. Заехалі Ю. і L. Аддалі Юлін падарунак.

**Нядзеля 3 сьнежня**
Холадна. Цэлы дзень дома. Крыху прац. Зв. Васіль М.

**Серада 6 сьнежня**
W.W. 159. Форхх. В. на зборцы ў біб.

**Чацьвер 7 сьнежня**
Shopping. Юру шапку.

**Пятніца 8 сьнежня**
Памерла маці Ricky. Валік. Да Юлі. Канфлікты з Таняй. Shopping.

**Субота 9 сьнежня**
Прычоска. Бялізна. Працавала. Слоўнік. Зв. Лорэйн. Прыедуць заўтра.

**Нядзеля 10 сьнежня**
Юра й L. на сьнед., на паховіны. В. да Bali. Працавала. Кавыль.

**Панядзелак 11 сьнежня**
В. у N.Y. Робіць слоўнік. Зв. Юля — для Прымы Geiger counter.

**Аўторак 12 сьнежня**
Ліст ад Мальдзіса. Ю. і L. прыех.

**Серада 13 сьнежня**
W.W. 157

**Субота 16 сьнежня**
Прыехала А. Я з L. езьдзілі на закупы. Вечарам — на Вацлаву Вярбоўскую.

**Нядзеля 17 сьнежня**
Купілі ялінку.

**Панядзелак 18 сьнежня**
На вячэру да Юры й L.

**Аўторак 19 сьнежня**
А. у N.Y.

**Серада 20 сьнежня**
W.W. 156

**Чацьвер 21 сьнежня**
На рабоце Party.

**Пятніца 22 сьнежня**
Езьдзілі ў А. С. да Дз. Вані. Яблыкі. Добра правялі час. Холадна.

**Нядзеля 24 сьнежня**
А. у Надзін.

**Панядзелак 25 сьнежня**
Вельмі прыемна правялі Каляды. А. дома. Я чуюся прастудна — ахрыпла.

**Аўторак 26 сьнежня**
Дома. чуюся праст. А. паехала а 1ай. Раніцай бабцы стала дрэнна — упала і баліць. Думаем, што палом. Доктар кажа, што гэта нармальны ход.

**Серада 27 сьнежня**
W.W. 156½ . Пайшла на работу. Бабка чуецца дрэнна. Ю. забраў мяне. Перамянілі бабку.

**Чацьвер 28 сьнежня**
К. няма. На раб. ОК. Завезьлі бабку ў шпіталь. Палому няма. Вечарам ёй стала лепей.

**Пятніца 29 сьнежня**
К. няма. Рабіла для сябе. Бабка так сама. Адпачывала. Вельмі стомленая.

**Субота 30 сьнежня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Прыехалі Ю. й Л. Зрабілі бабцы фіранкі. Б. лепей.

**Нядзеля 31 сьнежня**

Цэлы дзень дома.

## *1990*

*На пачатку году — першых пару месяцаў — Зора вяла толькі запісы ў маленькім каляндарыку вельмі скарочаным, тэлеграфным стылем. Асноўны зьмест нататак — сямейныя справы, апрацоўка зборніка твораў М. Кавыля, праца над картатэкай ангельска-беларускага слоўніка, падрыхтоўка да канфэрэнцыі Асацыяцыі амэрыканскіх славістаў у Флярыдзе, дзе Зора выступала з дакладам аб спэцыфіцы беларускага Трыстана, прыватныя кантакты, лісты, дапамога Беларусі, сустрэчы зь землякамі ды падрыхтоўка дакладу на канфэрэнцыю ў Рыме ў канцы траўня. У каляндарыку таксама ёсьць запісы пра дапамогу ў працы сп-ні Ж. Анасіс (пра што пазьней Зора піша ва ўспамінах аб сустрэчах з рознымі людзьмі ў Ньюёркскай публічнай бібліятэцы).*

**Панядзелак 1 студзеня**

Дома

Пасьнедалі.

Ю. прыехаў. Ён крыху пабыў.

Бабка крыху лепей.

Прыход. Божка. Зв. Надзя.

**Аўторак 2 студзеня**

Л. з бабкай.

В. у N.Y.

L. цяжарная

Зв. Вацлава — заўтра прыйдзе ў біб.

**Серада 3 студзеня**

W.W. 155

В. завёз Кавылю апош. карэкту.

Ліст ад Мальдзіса.

Вац. ня прыйшла.

Канчала хегох Кавыля.

**Чацьвер 4 студзеня**

А. дзень нар. пазванілі.

Бабка па-старому.

Стараюся зрабіць хегох тайна.

**Пятніца 5 студзеня**

В. купіў маку.

Прыходзіла Вярбоўская. Едзе ў Clev.

Лісты для Белага і Мантуліна.

**Субота 6 студзеня**
Цэлы дзень варыла.
B. у N.Y. з Том.
Юра позна. Куцьця скамканая. Стаміліся. Нервовыя.

**Нядзеля 7 студзеня**
B. паехаў пасьля сьнед. да Тумаша забраць падпісаныя кнігі.
Сабралі ялінку. Крыху працав. са слоўн.

**Панядзелак 8 студзеня**
Раблю крыху для сябе.
Кав. прыслаў карэкту. Шмат перарабіў.

**Аўторак 9 студзеня**
Паехала раней. К. зраньня ня было.
Упарад. Кав. Рабіла для B. слоўнік.

**Серада 10 студзеня**
W.W. 152.
L. з бабкай.
Ліст ад Галіны.
B. у N.Y. Завёз L. У яе кроў.

**Чацьвер 11 студзеня**
L. OK.
На рабоце ўжо вельмі праціўна.
Кнігі ад Галіны.
Завезьлі маш. L. але нешта ня зусім у парадку.

**Пятніца 12 студзеня**
Прыходзіў Зубараў — прынёс кнігі.

**Субота 13 студзеня**
Прычоска.
B. у N.Y.
Sterns — абмяняла.
L. прывезла машыну.
Божка, Paterson.

**Нядзеля 14 студзеня**
Зв. А. Ю. і L. прыехалі на сьнед. Саке з бабкай.
B. да Асіпчыка, забраў у Надзі.

**Панядзелак 15 студзеня**
Дома. Бялізну.
Падарунак А. — закрыта.
B. папераў не ашч. — OK.
Працавалі. слоў.

**Аўторак 16 студзеня**
На рабоце OK.
Бабка то лепей, то горш.
Юру прыходзяць лісты на ФАБ.

**Серада 17 студзеня**
Я дома. B. у N.Y.




Паштоўка зь вёскі Кіпель, Швэйцарыя.

Аўдыенцыя ў папы рымскага, травень 1990.

Адам Мальдзіс, а. Аляксандар Надсан, Зора, Анатоль Грыцкевіч. Рым, травень 1990.



Зора, Анатоль Грыцкевіч, Вітаўт, Адак Мальдзіс, Юры Туронак, а. Аляксандар Надсан. Рым, травень 1990.



Вітаўт, Чэслаў Мілаш, Зора, Анатоль Грыцкевіч. Рым, травень 1990.



Лёндан, 27.07.1990: Алесь Баршчэўскі, Зора, Сьвятлана Бачыла, Віталь Зайка, Вітаўт, Янка Міхалюк.



Рым, травень 1990.



З Аляксандрам Баршчэўскім, ліпень 1990.



З Сакратам Яновічам.



Васіль Быкаў, Вітаўт, Зора, Радзім Гарэцкі.



Фота Анатоля Клешчука.



Па дарозе на лётнішча ў Менску: Валя, Вітаўт, Зора.



Зь Цёцяй Нютай у дзень яе 100-годзьдзя.



Вітаўт і Зора ў Горадні, 1993.



Вітаўт, Алеся, Данута Бічэль—Загнетава, Зора, Ян Запруднік. Канфэрэнцыя «Рым-IV», Горадня, ліпень 1993.



З Алесяй у Горадні, 1993.



Горадня 1993 (?)



Менск, 1993.



Вітаўт, Зора і Алеся у Горадні (?)



З Радзімам Гарэцкім, Менск, 1994.



Зорына школа ў Менску, фота 1994. «Школа — такая самая»



Школа: «У калідоры, дзе была мая кляса», 1994.



Сядзяць: У. Снапкоўскі, А. Трусаў, А. Мальдзіс, Вітаўт,
стаяць: Зора, У. Конан, З. Шыбека. Трокі 1995.



Зора і Галка сустрэліся праз 57 гадоў, 1995.



Тацяна Дзеранок каля сваёй хаты, Неглюбка, 12.05.1995.



Людміла Рабок, Зора, Ніна Ватацы, Менск, 1997.



Зора, Ганна Запартыка, Тацяна Рошчына. Менск 1997.




Каля Лагойску з кузынкай Валяй Караткевіч
і Таняй Караткевіч, 1997.



САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

ЧЛЕНСКІ БІЛЕТ № 02-І

Прозвішча Кіпель

Імя Зора

Імя па бацьку

(літаратурны псеўданім)

Час уступлення ў СПБ 2003

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі

Асабісты подпіс

Членскі білет Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, 2003.



The State of New Jersey

Senate

In Memoriam

Zora Z. Kipel

who departed this life on April 14, 2003.

The citizens of the 39th New Jersey Legislative District, through their chosen representative, express their sorrow, pay tribute to her memory, and extend sincere condolences.

Senator Gerald Cardinale

Памятны акт Зоры Кіпель ад штату Нью Джэрзі .



Паніхіда па Зоры, 17.04.2003.

Прыходзіў Зуб. Запр. разьмінуўся.
Купілі Алесі.

**Чацьвер 18 студзеня**
Памерла Орса.
Пайшла на працу. Мела прыехаць L.
В. меў ехаць да Асіпчыка. Канфузія. Купіла срэбра.

**Пятніца 19 студзеня**
Памінкі па Орса.

**Субота 20 студзеня**
Прычоска.
В. паехаў на паховіны. Я цэлы дзень дома. М. В. сьпіць амаль цэлы дзень.

**Нядзеля 21 студзеня**
Дома. Я парадкавала слоўнік.

**Панядзелак 22 студзеня**
В. заўважыў у М. В. на пятцы кроў.
В. у N.Y. L. з бабкай.
Пры. Ю. pizza.

**Аўторак 23 студзеня**
К. па абедзе ня было. Рабіла крыху для сябе.
L. да доктара. Крыху кроў.

**Серада 24 студзеня**
W.W. 150
L. кроў.

**Чацьвер 25 студзеня**
Dentist.
Рабіла для K-Onasis.
Нажны доктар. Докт. для бабкі.

**Пятніца 26 студзеня**
Палучка.
Рабіла для К-О.
Прыходзіла Тамара. Зв. Вацлава.
Зв. Ю. L. згубіла.

**Субота 27 студзеня**
Дома. В. з Том.
Ю. добра.
Срэбра.

**Нядзеля 28 студзеня**
Дома.
В. баліць жывот.
Прац. з слоўнікам.
Зв. Ю. — Алеся зь ім — будзе яшчэ 2 тыдні.

**Панядзелак 29 студзеня**
В. у N.Y.
Рабіла для К/О.

**Аўторак 30 студзеня**
Рабіла для К/О. цэлы дзень.
Прыйшла праграма з Флорыды.
К. школа. Зв. Алеся. Ліст ад Ісаевіча.

**Серада 31 студзеня**
W.W. 151
Скончыла К/О — з канфэр. ОК.
В. — газэта. Ліст ад Бел-Indian.
Зв. L. — ОК z Florida.

**Чацьвер 1 лютага**
О. — К. нават не пазнаёміў.
Банк — не.
Зв. Генадзь Мусін.
Pound ад Юркі. Рабіла карэкту.

**Пятніца 2 лютага**
В. з Томам.
Банкі.
L. з бабкай.
Генадзь Мусін. Павячэралі разам.
Зр. Pound — забылася на працы.

**Субота 3 лютага**
Прычоска. Пасьнедалі. Заказалі білеты.
Юра прыехаў па абедзе. На канцэрт.
Бялізну пасушыла.
В. зв. у Полацак — Вацлава.
Зв. у Менск — Пархоменка.

**Нядзеля 4 лютага**
Дома. Прац. са слоўнік.
Моладзь у South R. AAASS і conf. Flo.
Прыехаў Юра.
Зв. Бел. — Вацлава.

**Панядзелак 5 лютага**
В. у N.Y.
Не знаходзім 60 б. Кавыля.
Зв. Валеры. Пачка ад Белага.
Зв. L. Зв. Ю.
Зв. Сяргей — Вацлава ТАМ.

**Аўторак 6 лютага**
В. адпраўлляе Юрку Pound.
Зв. Зап. — няма Кавыля.
Зв. Сільвановіч — запр. на зборку.

**Серада 7 лютага**
W.W. 149
Канф. ліст з Т. В.
Забыліся пра зборку — Feuerm.

Зап. і не званіў — мусіць не знайшоў Кавыля. Зв. В.
Ад Ю. С. карэкта.

### Чацьвер 8 лютага

Рабіла на К.
Ад Белага пачка.
Аддала PCN для Florida. Купіла для Дз. Вані.
Зв. Зап. — няма 3 да Зубарава кнігі.
Зв. А. — прыедзе ў суб.
Юра.

### Пятніца 9 лютага

Зв. Том В. Зь ім у суб.
Хегох Кавыля.
Прых. Галіна.Рабіла альбом.

### Субота 10 лютага

Прычоска.
В. з Томам.
Надзя.
Ю. паехаў па Алесю.
БАЗА зборка. «Адраджэньне».

### Нядзеля 11 лютага

Пасьнедалі ўсе разам.
Вырашылі браць жанчыну. Бялізна.
Shopping з А.
Вячэра. Жывот.

### Панядзелак 12 лютага

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

Сёньня неяк блага спалася. Вітаўту баліць нага. Я стомлена чуюся. Рашылі ня ехаць да Дзядзі Вані. Пазванілі яму. Дамовіліся, што прыедзем у наступную нядзелю, альбо ў панядзелак.

Распагодзілася. Я памыла крыху бялізны.

Адпачывалі, чыталі. Дзень неяк прайшоў марна.

Вечарам крыху папрацавалі. Я ўпарадкавала слоўнік. Зрабіла новыя карткі для В. заўтра.

### Аўторак 13 лютага

Раніцай тэлефон ад Алеся Палескага з Канады — ці едзе Tom [*Bird*] у Польшчу — ён хоча пераслаць грошы.

Вітаўт таксама сёньня ў N.Y.: скрыпт і робіць хегох слоўніка.

Званіла жанчына з выдавецтва, што друкуюць пераклад Быкава «Знак бяды». Я ёй сказала, што ўжо зьявіўся пераклад у Сав. Саюзе. Яны надта занепакоеныя, бо баяцца кампэтыцыі[1]. Яны нібыта маюць

дагавор з Масквы на «exclusive»[2]. Так ім і трэба, што гавораць з Масквой і перакладаюць з расейскага!

В. занёс Запрудніку с. 21-40 Кавыля для праверкі і ўстанавіць Кавылёвы папраўкі.

---

[1] *Канкурэнцыі (competition).*
[2] *Выключныя правы.*

**Серада 14 лютага**
W.W. 148½
Ад Кавыля
Быкаў
Ю у Ад.
Зв. да Кавыля.
Зв. Запруд.

**Чацьвер 15 лютага**
Ад Прускага 41-60.
Зап. Кавыля перашле.
Пачала крыху Трыстана.
Юра і L.

**Пятніца 16 лютага**
Купіла матар'ял. Валік у бібл.
В. званіў доктару — у панядз.
Прывезьлі трубу.
У ЛіМ — пра БНР.

**Субота 17 лютага**
Завіўка.
Крэчэўскі. Данчык.
Ад Зап. — Кавыль.

**Нядзеля 18 лютага**
А.С.
Дзядзя Ваня.
Адпачывалі.

**Панядзелак 19 лютага**
Дома. Крыху парадк.
Рыба.
Слоўнік.
Зв. Надзя, Запруд., Ханенка.

**Аўторак 20 лютага**
Зв. Белы і Баршчэўскі.
В. да Асіпчыка.
В. N.Y.
Ад Кавыля — біягр.
Ад Зап. 41-60

**Серада 21 лютага**
Паслалі Прускаму 21-60.

Атрымала ½ на Florida.
$3000 прыбаўка.
Зв. К. Зв. Калоша. Зв. Белямук

**Чацьвер 22 лютага**
Паслалі пачку сп-ні Занько. Заказала рукапісы і Туронка.
Зв. L. Зв. Ю.
Адам — няма раку.

**Пятніца 23 лютага**
Палучка.
Пазв. Запр. пра Адам. Прынесла «Запісы» — пазв. Марусіну.
В. напісаў запрос Беламу.

**Субота 24 лютага**
В. з Томам.
Прычоска.
Білеты ў Фл.
Зв. сын Арэхвы.
Тумаш у шпіталі.

**Нядзеля 25 лютага**
Сьнег.
Л. і Ю. прыехалі да яе бацькоў.
Зв. Алеся. Мы адпачывалі.
Намыла бялізну, сушыла ў прачач.
Ю. і Л. — pizza.

**Панядзелак 26 лютага**
Зв. Асіпчык.
В. у N.Y.
Тум. апэрацыя.
Зв. Тамара — прыйдзе ў сераду.
Ад Бел-Індэйца.
Тум. ОК.

**Аўторак 27 лютага**
В. будзе гав. з доктарам.
Прыходзіла L. — рабіла бабцы ногі.

**Серада 28 лютага**
Тамара — малюнак для В. кнігі.
В. у N.Y. — газэта.

**Чацьвер 1 сакавіка**
Доктар да бабкі. У шпіталь — не. Ногі лепш.
З ZPK — абед. Ліст ад Пашкевіч.
Прых. Юра. Гаварылі пра бабку. Ён рае жанчыну і nurse.

**Пятніца 2 сакавіка**
В. да Асіпч. Прыходзіў З. «Memorial».
У абед В., Зап. і поляк гаварылі пра Рым.
Ад Акулы — $200 з Canada

**Субота 3 сакавіка**
На сьняданьне прыехалі Ю. і Л., паглядзелі бабку.
Зв. да Надзі — няма. Paper. Павячэралі ў кітайскім рэст.

**Нядзеля 4 сакавіка**
Дома — нідзе ня краталіся.
Бялізна. Канчала Paper.
Зв. Надзя — паедзем да яе заўтра.

**Панядзелак 5 сакавіка**
К. — няма. Тані — няма. Добры дзень.
Davis перадрукаваў paper. Крыху для сябе.
Да Надзі.

**Аўторак 6 сакавіка**
Том забраў В. матар'ял і мой.
К. па абедзе няма.
Ю. і Л. аглядалі б.
Зв. Прускі.

**Серада 7 сакавіка**
149
Зв. Том — паправілі крыху paper.
Дахаты раней. прычоска. Пакаваліся.

**Чацьвер 8 сакавіка**
Зв. Юра — L. прыедзе сама на аэрадром.
Ехалася добра. У Ф. цудоўна. Даехалі ў College па абедзе каля swiming.

**Пятніца 9 сакавіка**
Да Bal.
Цэлы дзень у дарозе. Купілі аранжы.
Пагода цудоўная.

**Субота 10 сакавіка**
Мая paper OK. Па абедзе каля sw. pool. Збіралася. Адпачывалі.

**Нядзеля 11 сакавіка**
Рана здалі машыну і на самалёт.
Купіла Ю. і L. кашулькі.
Даехалі добра. Ю. спаткаў Адпачывалі.

**Панядзелак 12 сакавіка**
Мае прыйсьці nurse.
Nurse — заўтра.
В. у N.Y.
Кнігі ад Зубарава.
З L. абед. Ю. прыехаў.
Ад Алесі.

**Аўторак 13 сакавіка**
Прыходзіла nurse. Зв. доктар — можа ў шпіталь.
Зв. Алеся. Залагодзіла з кнігамі Зубарава.

**Серада 14 сакавіка**
147½
Бабка ўпала — у шпіталь. Mr Bernard.
Вярнулася дахаты. Зв. з Рыму. Зв. Бел. Зв. Калоша. Зв. Пашкевіч. Зв. новая nurse.

**Чацьвер 15 сакавіка**
В. сёньня ідзе да доктара. В. ОК.
Узялі кітайск.
Зв. Сяргею. Пазв. што памёр Асіпчык.

**Пятніца 16 сакавіка**
Я дома. В. з Томам. Зьняў грошы.
Пачка ад Мальдзіса.
Нурска. Я цэлы дзень бегала ад бабкі да бялізны.

**Субота 17 сакавіка**
Прычоска. Парадкавалася.
Тэлеф. з Funeral — залагоджвалі з Асіпчыкам. Сп. Жам.
Слоўнік. Кавыль.

**Нядзеля 18 сакавіка**
Сьнедалі. Юра прыехаў.
У N. Br. — касьцюмы.
Да Асіпчыка. Кавыль.

**Панядзелак 19 сакавіка**
В. у N.Y. А 5-ай спаткаў Сяргея й паехалі на паніхіду.
Было добра. Зв. Арцюх.
Прыех. дахаты 10:30.

**Аўторак 20 сакавіка**
Зв. Белы.
Здала пэрлы.
Пасьнедалі.
Ліст ад Сагановіча.
В. і Сяргей паехалі на паховіны — вельмі добра.
Зв. nurse і Прускі. Запісы, Сьвет.

**Серада 21 сакавіка**
146
U.N. Day — Пашкевіч, Марусін.
В. робіць газэту. Кнігі ад Сагановіча.

**Чацьвер 22 сакавіка**
Прывезьлі ложак. Доктар — пэсымістычна 2 месяцы[1].
Купіла арэшкаў. Прыходзіў Зубараў. Збіралася.

---

[1] *Пагоршыўся стан маёй маці, дактары далі ёй пару месяцаў, а выйшла два гады!*

**Пятніца 23 сакавіка**
Пазв. да Lorrain. Яна прыедзе а 5-ай.

Прычоска. Выехалі пасьля 5-ай[1]. Сталі ў Lamar.
Прывезьлі ложак.

[1] *Паехалі ў Кліўленд на адзначэньне 25 Сакавіка.*

**Субота 24 сакавіка**
Рана пасьнедалі. Заехалі ў State College.
У Клев. прыех. пасьля 2-ой. Там быў ужо Прускі. Перакусілі.
Агляд. здаю. Дамы. Спо.
Споведзь.

**Нядзеля 25 сакавіка**
Царква — сьвяткаваньне. Стрэчань даў сялёдкі.
Прыехалі дахаты пасьля 11-ай. Дзеці толькі былі паехалі.

**Панядзелак 26 сакавіка**
В. у N.Y. радыё. Зап. яшчэ няма.
Маці можа крыху лепей.

**Аўторак 27 сакавіка**
К. няма. Занята.
В. у N.Y.

**Серада 28 сакавіка**
145½
Новая nurse амаль кожны дзень.
Зв. Сяргей. Том у Польшчы ў чэрвені.

**Чацьвер 29 сакавіка**
Шмат працы з К. перакладам.
Ногі. Кнігі.
Да Русакоў?
Прыех. дахаты каля 12-ай.
Ю. і L. пакупалі машыну.

**Пятніца 30 сакавіка**
К. няма. Дзень заняты. Ад Этэл. В. у N.Y. з Томам.
Павяч. у кітайск. рэст.

**Субота 31 сакавіка**
Прычоска. Мыла. Прыбірала. Цэлы дзень вазілася.
Прыехалі ў N. Br. беларусы — Дзеці 21 ст.

**Нядзеля 1 красавіка**
Пасьнедалі.
В. у N. Br. Прыех. дахаты толькі каля 6-ай — людзі ў Надзі.
Слоўнік. Кавыль.

**Панядзелак 2 красавіка**
Паслалі Прускаму і Кавылю.
Прыходзілі бел. з Чарноб.
К. няма. Шмат працы. В. у N. Y. Коратка. Шук. зь імі.

**Аўторак 3 красавіка**
Людзі жылі ў Раі, начавалі.

К. няма. Дождж.
Пры. фільм.
Да бабкі — house keeper.
Па абедзе яны прыш. у біб.

**Серада 4 красавіка**
Новы W.W. 147
Я вельмі была незадаволеная К. сёньня. Ён як прыходзіць, дык заўсёды бывае вельмі працiўны.
В. у S. Riv. — film.

**Чацьвер 5 красавіка**
Я дома. В. паехаў забраў taxes. Зайшоў да Запруд. і да Тумаша.
Я парадкавалася. Бялізна. Фіранкі.

**Пятніца 6 красавіка**
Annex. Чуюся крыху нядобра. Палучка.
Прыходзіў Валік кніжку Туронка.
Зв. Галіна што той трэйці хоча ў іх застацца.

**Субота 7 красавіка**
Паехалі да Галіны — пагаварыць з яе госьцем — угаварылі яго ехаць у Клів.

**Нядзеля 8 красавіка**
Паз. Надзя, што ў іх няма валізкаў. Сабралі сёе-тое. В. павёз. Прыехаў позна. Я ўжо хвал.

**Панядзелак 9 красавіка**
Госьці паехалі ў Клевеланд. В. у N. Y.
Праграмкі з Рыму.

**Аўторак 10 красавіка**
Шмат лістоў цяпер кожны дзень
Нейкі ліст зь Менску
Марусін.

**Серада 11 красавіка**
W.W. няма.
В. дамовіўся з сп. Божка.
Зв. вучаніца Міхайлава.

**Чацьвер 12 красавіка**
На рабоце з К. халадок.

**Пятніца 13 красавіка**
Дома. Цэлы дзень парадкавалася.
В. прыех. 8-ай. Паехалі яшчэ ў магазын.

**Субота 14 красавіка**
Flemington.
Канчала да Вялік.

**Нядзеля 15 красавіка**
Ю. і Л. прыехалі ня позна — прыемна прайшло.
Павезьлі Л. на аэрадром Ю. і Л. разам.

**Серада 18 красавіка**
Зубараў. Людзі зь Менску — памагала ім дазваніцца.
З Кас. — пра Harrowgate.

**Чацьвер 19 красавіка**
З К. пра G-r Pn.
Шук. жанчына зь Менску яшчэ едуць да Юлі.
Мацюнін прыслаў «Вяч. Мінск» з арт. пра бібл.
Раіса Ж-Гр.

**Пятніца 20 красавіка**
З Rodney Ph.
В завёз Раісу да калейкі.

**Субота 21 красавіка**
В. з Томам.
Бялізна.
Працавала над paper-Rom.
В. каля 5-ай.

**Нядзеля 22 красавіка**
Ю. і L.
Пасьнедалі.
На могілкі адны й другія.
Раіса чуць з намі не паехала.
Адпачывалі.

**Панядзелак 23 красавіка**
В. у N.Y. радыё.

**Аўторак 24 красавіка**
Т. грошы.
В. прыехаў з Т. прав. summary. Davis перадрукаваў.

**Серада 25 красавіка**
Annex. Хваляваньне.
В. у N.Y. — газэта. Спаткаліся на астаноўцы.
Trav. check.
Ад Прус. Кавыль.

**Чацьвер 26 красавіка**
Зв. Buzo, Галіна й Надзя.
У Bradley — В. кашулю.
Друкую paper. Крыху пачала Кавыля.

**Пятніца 27 красавіка**
Buzo і Ліпскі — карціны Скарына. Зв. П.
Зв. з Звязды — нешта для нас мае Boiler.
Шук. газэту.

**Субота 28 красавіка**
Прычоска. Бялізна. Зьбіралася.
Да сп-ні Божка.
Выклікалі taksi. Добра заехалі. Ехалася добра, крыху я заснула.

**Нядзеля 29 красавіка**

Раніцай ня была так стомленая, як чакала. Самалёт быў у час[1]. Хутка залагодзілі на аэрадроме. Знайшлі taxi і бяз ніякіх прыгодаў, акрамя таго што яны езьдзяць як вар'яты, прыехалі на мейсца. Там ужо зьбіраліся на падарожжа дзённае.

Мы хуценька зазванілі Алесьцы. Яна была ў ваньне, але сказала, што адразу-ж выязджае, бо хацела з намі паехаць на экскурсію. Сталі чакаць яе. Занесьлі рэчы ў пакоі — так пакоі, бо маем невялічкія асобныя пакойчыкі. Душ і ўборная на калідоры.

Алесі доўга ня было, [redacted] аўтобус адыходзіў. Я паехала на аўтобусе, а Вітаўт застаўся чакаць Алесю з мясцовымі людзьмі (арганізатар, што быў з Нью Ёрку, і нейкая Wanda, вельмі сымпатычная жанчына). Я ўсё непакоілася, дык і падарожжа ня было такое прыемнае. Паехалі на руіны Ostia. Вельмі цікава. Хадзілі па старой Рымскай дарозе. Добры гід. А я ўсё паглядаю й паглядаю. Нарэшце ўбачыла Алесю і ўсё адразу зьмянілася. Праўда, я ўжо была пачынала супакойвацца і перад гэтым крыху. Проста цікавасьць мейсца захапіла.

Пасьля руінаў паехалі на абед, а пасьля на катакомбы. Катакомбы зрабілі на мяне лепшае ўражаньне. [redacted] чамусьці ўяўляла гэта крыху інакш — прасторнае падзямельле, дзе першыя хрысьціяне зьбіраліся, маліліся. А ў сапраўднасьці гэта вузенькія праходы з магіламі ў сьценках у некалькі паверхаў — толькі час-ад-часу невялічкія каплічкі.

Надвор'е тут цудоўнае. Нават крыху гарачавата на сонцы, але суха, ды ў цяньку зусім прыемна.

Вярнуліся ў Center ужо пад вячэру. Рашылі застацца з Алесяй на вячэру, а тады паехалі ў гатэль, дзе яна затрымалася.

Спаць леглі ня позна, але я даволі доўга не магла заснуць. Здарожылася.

---

[1] Прыляцелі ў Рым.

**Панядзелак 30 красавіка**

Рана ўсталі. Пасьнедалі й пайшлі ў горад. І аглядаць і зрабіць сякія-такія закупкі, бо заўтра магазыны ўсе зачыненыя.

Купілі Юру ланцужок залаты, што Lorrain прасіла. Купілі [redacted] падарункі для Божкі, Lorrain, Ball[arine] і для бабкі Lorrain — ружанец.

Пабачылі «Гішпанскія сходкі», фантан Trevi, стары палац і ўсялякія іншыя цікавыя мейсцы па дарозе.

А 1-ай паехалі пад Center. Папалі яшчэ на абед. Добра прайшла ранішняя сэсія. Шмат было дыскусіі пра Беларусь. Па абедзе яшчэ былі адказы й дыскусіі. Мая чытань была самая першая. Прайшло ня дрэнна. Другія былі ОК. Шмат украінцаў было. Добрая была paper Альжбеты Смулковай. Яна проста з філялягічнага боку сьцвердзіла, што мова дзяржаўная В.К.Л. была стара-беларуская.

Пасьля былі дыскусіі. Усё больш на ейны даклад. На мой ніхто не зарэагаваў. Мяне гэта крыху пакрыўдзіла.

Павячэралі. За вячэрай абвесьцілі, што заўтра а 6-ай будзе аўдыенцыя з Папам.

Прыехаў [*Янка*] Мойсік. Падкінуў нас з Алесяй пад гатэль. Вельмі добра, бо таксі тут дарагія. Наагул усё тут вельмі дарагое. Я разьмяняла $300 і ўсё амаль разышлося.

Напісала яшчэ карткі. Пайшлі спаць, але зноў неяк ня спалася. Усё думалася пра даклады, пра мой асабліва. Крыху мяне турбуе, што ніхто так не зарэагаваў. Крыху гаварылі з Алесяй. Яна, між іншага, выказалася, што з усіх моваў на канфэрэнцыі — переважае, праўда, польская — сталася як бы Lingua Franca — беларуская самая прыгожая.

**Аўторак 1 траўня**

Сёньня зраньня зноў пайшлі з Алесяй на горад. Пагода прыгожая. Сёньня тут сьвята — усё зачынена, але турыстаў на вуліцах поўна.

Пабачылі руіны форумаў. Падышлі пад Калізэй, але ўсярэдзіну ня пускалі — зачынена было. Пахадзілі яшчэ крыху ды накіраваліся пад гатэль. Сабраліся, выпісаліся. Я яшчэ спыталася, ці маюць яны мейсца на суботу, калі-б нам прыйшлося ехаць у гатэль.

Прыехалі ў Цэнтар пад абед. Пачулі яшчэ крыху й дыскусіяў. Вітаўт вёў сёньняшнюю сэсію. Сэсія па абедзе была крыху скарочаная.

Алеся паехала [*ў Нямеччыну*] каля 5-ай. Ужо пачалі хваляванцца, бо ня было таксі, але ўсё добра залагодзілася.

Да Папы мы выехалі а 6-ай. Я мела з сабой ружанец. Аўдыенцыя пачалася крыху пасьля 7-ай. Сабралася нас даволі вялікая група. Пасталі ў поў-круга і Папа абыходзіў і вітаўся й гаварыў з кожным. Я папрасіла яго, каб асьвяціў ружанец. Вітаўт сказаў, што спатыкаліся ў Washington. Запруднік прывітаў яго ад імя беларусаў. Мальдзіс доўга гаварыў аб беларускай мове ў сьвятынях, аб патрэбе патронаў беларускіх. Надсон ізноў сказаў пра бел. мову, а тады яшчэ Смулкова. Адным словам Папа пачуў аб беларусах. Быў ён вельмі сымпатычны. Сказаў яшчэ пару словаў на разьвітаньне. Была даўгая й прыемная аўдыенцыя. Відаць было, што ён быў задаволены, ну і ўсе прысутныя тым болей.

Прыехалі, павячэралі і я пайшла адпачываць. Першы раз спала ў Цэнтры — дзіўна неяк паасобку. Крыху яшчэ пачытала. Вітаўт яшчэ там унізе сядзеў гаварыў. Я ўжо й ня памятую, ці чула, як ён прыйшоў, ці не.

**Серада 2 траўня**

Сёньня мой першы поўны дзень на сэсіі. Даволі заняты дзень. Шмат дакладаў, пачынаю ўжо крыху стамляцца.

Украінцы з Harvard падаравалі літоўцам і нам першыя кніжкі са сваёй сэрыі «Помнікі старой укр. літаратуры». У гэтай сэрыі былі

ўключаныя й Кірыла Тураўскі й Сымон Полацкі. Мальдзіс ім падзякаваў, але зазначыў, што добра было-б супрацоўнічаць, бо й Ак. Навук БССР пляную выданьне Сымона Полацкага.

Стварылася крыху напружаная атмасфэра. Наагул украінцы захоўваюцца даволі нахальна.

Вечарам была гутарка з Norman Davies[1] і з Драчом.

[1] *Падаравалі яму кнігу «Byelorussian Statehood». Пазьней ён згадае яе і напіша цэлую старонку пра БНР у сваёй манумэнтальнай працы «Europe: A History».*

**Чацьвер 3 траўня**

Сёньня была толькі ранішняя сэсія. Вёў Запруднік. Па абедзе мелі вольны час. Разьехаліся хто-куды. Па нас прыехаў Мойсік. Надсон забраў Мальдзіса й Грыцкевіча.

Мы, па-першае, памянялі грошы, а тады заехалі й заказалі сабе гатэль на суботу й нядзелю, бо ў суботу ўжо ўсе разьязджаюцца і заставацца там ужо неяк не выпадае.

Пазьней спаткаліся ўсе ў радыё. Запруднік з Туронкам пайшлі ў магазыны.

У радыё[1] быў нам вельмі цікавы «tour». Пасьля экскурсіі ў радыё яшчэ зайшлі на піва й соду.

Спаткаліся з Зап. і Тур. Мойсік завёз савецкіх, а мы з Зап. узялі таксі. Па вячэры была яшчэ літ. сустрэча з Драчом і Мілашам.

[1] *Радыё Ватыкан.*

**Пятніца 4 траўня**

Сёньня апошні дзень паседжаньняў. Усе ўжо беларускія рэфэраты скончыліся. Шмат было дыскусыяў — мы былі добра рэпрэзэнтаваныя — былі на паверхні. З Мальдзісам дамовіліся пра супрацоўніцтва ў выданьні тэкстаў літаратуры 16-га стагодзьдзя.

Вечарам паехалі ў госьці да Мойсіка. Было даволі прыемна, толькі сам гаспадар крыху перадаў. Заснавалі ( пачатку думала, што гэта жартам, але выглядае, што Мальдзісу гэта абыходзіць) Рымскую групу Таварыства Бел. мовы.

Прыехала яшчэ дачка Пяцюкевіча. Даволі спрытная асоба, якая гаворыць па-польску і па-расейску, але стараецца прадставіць сябе як бел. патрыётка. Пасядзелі там, пагаварылі. Мальдзіс расказваў колькі літаратурных анэкдотаў пра Караткевіча.

Разьехаліся ўжо каля 12-ай. Стомленыя, але настрой даволі добры.

**Субота 5 траўня**

Зраньня яшчэ ўсе разам пасьнедалі. Туронак і Смулкова ўжо выязджаюць па абедзе.

Схадзілі яшчэ зь імі ў магазын. Купілі яны яшчэ тое-сёе для падарункаў.

Разьвіталіся з усімі хутка пасьля таго, як выехала група ў Польшчу — паехалі й мы.

У гатэль дасталіся добра. Пакой вельмі добры. Настрой спачатку быў крыху напружаны. Яшчэ людзі засталіся да заўтра ў Цэнтры, ды Вітаўт спачатку крыху чуўся адарваны.

Выйшлі на горад. Каля гатэлю быў недалёка базар. Вырашылі купіць штось паесьці і пайсьці ў пакой адпачыць. Адразу-ж наладзіўся настрой. Зь вялікай прыемнасьцю перакусілі зь віном. І... адпачывалі.

Пад вечар пайшлі хадзіць па Рыме. Проста хадзілі па вуліцах, па набярэжнай. Сапраўды адчулі горад.

**Нядзеля 6 траўня**

Раніцай пасьнедалі ў гатэлі і пайшлі пад базыліку Сьв. Пятра. Пагода цудоўная. Наагул нам пагода ўдалася.

Падняліся пад самую купалу — да самага верху пехатой. У базылііцы была якраз служба. Вельмі ўрачыста — добра сьпяваў хор, шмат кардыналаў на службе. З самай вяршыні Рым выглядае імпрэсыўна.

Спусьціліся ўніз, зайшлі ў базыліку. Служба якраз скончылася й была працэсія кардыналаў. Усё гэта мы бачылі «зь першых радоў». Агледзелі базыліку: Маўзалей Сьв. Пятра, Pieta Michael Angelo. Я памалілася ў аднэй каплічцы, дзе яшчэ йшла служба.

Хадзілі па горадзе. На жаль, Sistine Chapel была закрыта.

Так прыемна й прайшоў час. Купілі марожанага. Наагул захоўваліся, як турысты.

Пайшлі ў гатэль адпачыць. Пасьля 4-ай зноў пайшлі хадзіць. Panteon, набярэжная, Рымскія вулічкі — усё вельмі прыгожа й цікава.

Павячэралі недалёка гатэлю. Добра, але даволі дорага. Стаміліся крыху ўжо. Хацелася адпачываць. Пазванілі яшчэ да Мойсіка, каб дамовіцца на заўтра. Там у яго быў і а. Надсон. Яны захацелі да нас прыехаць. Спаткалі іх у Lobby. Вельмі добра, што было дзе. Пагаварылі, выпілі па чарцы віна й хутка яны й пайшлі.

А мы... — на адпачынак.

---

[1] *Свае ўражаньні ад падарожжа ў Рым Зора апісала ў газэце «Беларус», № 370, травень 1990.*

**РЫМСКІЯ СУСТРЭЧЫ**

Прыляцелі мы на канфэрэнцыю ў Рым у нядзелю 29-га красавіка. Хутка залагодзілі ўсё на аэрапорце. Знайшлі таксі і бязь ніякіх прыгодаў — акрамя таго, што тут усе езьдзяць як вар'яты, у чым мы пазьней ці раз мелі нагоду пераканацца; — дабраліся да Цэнтру, дзе мела адбывацца канфэрэнцыя. І трапілі, як кажуць, «з карабля ды на баль». Тут ужо ўсе зьбіраліся на экскурсію. Пасьпелі мы толькі занесьці рэчы ў свае пакойчыкі-кельлі. Праўда, зазванілі яшчэ да дачкі Алесі, якая была якраз у Рыме, каб даць ёй знаць, дзе мы. Янка Запруднік і Юры Туронак таксама ўжо былі прыехаўшы раней. Спаткаліся зь імі на дворыку, дзе яны чакалі на аўтабус. З Туронкам сустрэліся першы раз, хоць было такое ўражаньне, што ведаем яго гадамі, гадамі.

Экскурсія нашая была ў старажытнае рымскае пасяленьне Остыя, што міляў 15 ад

Рыму. Па старой рымскай дарозе, што надзіва добра захавалася, падыходзілі мы да руінаў партовага места, якое квітнела ў 2-м стагодзьдзі да нашай эры. Нейк ня верылася, што стагодзьдзямі па гэтай дарозе, гэтых камянёх хадзілі й езьдзілі Рымляне, і іхныя ворагі, і шматлікія прыяцелі-купцы з розных краінаў, а цяпер вось дыбаем па ёй і мы — наведнікі-Беларусы.

Была нас спачатку невялічкая група, але чым далей, тым болей знаходзілі прыяцеляў Беларусаў. Пазнаёміліся з маладой Літоўкай Ірэнай Чэкмонас, якая вучылася ў Менску й цудоўна гавора па-беларуску, ды з прафэсарам Віленскага Ўнівэрсытэту Літоўцам Чаславам Кудабам, якога па мове не адрозьніш ад Беларуса. У цяньку старых руінаў спаткаліся і з прафэсарам Альжбэтай Смулковай, якая пачула беларускую мову й сама да нас загаварыла па-беларуску. Смулкова — польская славістка, якая спэцыялізуецца ў беларускай лінгвістыцы ды мае шмат публікацыяў зь беларусаведы. Хутка да нас далучылася й наша дачка Алеся. Аднак самая цікавая, можна сказаць, гістарычная, сустрэча адбылася крыху пазьней, падчас абеду, калі мы спаткаліся зь менскімі Беларусамі Адамам Мальдзісам і Анатолем Грыцкевічам. Спаткаліся як са старымі знаёмымі, зь якімі гэтак шмат супольнага, гэтак шмат аб чым ёсьць гутарыць і разважаць. Вось гэткая атмасфэра сяброўства й супольнасьці панавала праз цэлы наш пабыт у Рыме ды, спадзяёмся, затрымаецца й надалей. Пазьней да нас далучыўся яшчэ трэйці мянчанін Вячаслаў Вярэніч, ужо як на дворыку каля рэстарану рабілі здымку, была нас добрая група — Беларусаў і нашых іншых-сяброў.

У панядзелак спаткаліся зь Янкам Мойсікам зь Беларускай сэкцыі Ватыканскага радыё, а ў аўторак — і з а. Аляксандрам Надсонам.

У аўторак была яшчэ адна незабыўная падзея — мелі аўдыенцыю ў Сьвятога Айца Яна Паўла II-га. Было гэта першае ў гісторыі такое спатканьне, дзе Беларусы з Бацькаўшчыны разам зь Беларусамі замежжа размаўлялі з Папам ды ў унісон дамагаліся беларускае мовы ў беларускіх сьвятынях.

У чацьвер 3-га траўня мелі папаўдні вольны ад нарадаў час, дык выкарысталі гэтую нагоду, каб крыху зьведаць Рым ды наведаць Беларускую рэдакцыю радыё Ватыкана, пазнаёміліся там з новым маладым супрацоўнікам радыё Алесем Максымюком. А ў пятніцу мелі прыемнасьць усе гасьціць у Янкі Мойсіка, дзе быў і Алесь Максымюк са сваёй сяброўкай Іркай Кавалік. Тут яшчэ была адна неспадзеўка — прыехала, каб пабачыцца з усімі намі, дачка Мар'яна Пяцюкевіча, Марыля — маладая, энэргічная асоба, якая шмат нам расказала пра свайго бацьку, ведамага беларускага этнографа. Тут-жа ў Мойсіка быў урачыста заснаваны Рымскі гурток Таварыства Беларускай Мовы.

Яшчэ адно спатканьне, якое не хацелася-б абмінуць — гэта гутарка з лаўрэатам Нобэлеўскай прэміі польскім паэтам Чаславам Мілашам, які расказаў нам пра сваю сувязь зь Віленскімі беларускімі студэнтамі ў 30-х гадох. Ён вельмі прыхільна адазваўся на прапанову выставіць кандыдатуру Васіля Быкава на прэмію Нобэля. Часлаў Мілаш належыць да шмат якіх культураў, ён як-бы ўвасобіў у сабе ўсю сутнасьць нашай канфэрэнцыі: польска-літоўска-беларуска-ўкраінскую супольнасьць.

Сама канфэрэнцыя — гэта важная гістарычная падзея і аб палітычнай і навуковай важнасьці яе будзе яшчэ шмат гаварыцца, аднак чалавечы элемэнт гэтага зьезду — сяброўскія дыскусіі ў кулюарах, абмены думкамі, ідэямі, аднаўленьне даўных знаёмстваў, навязаньне новых — ня менш важны мамэнт. Адным з такіх чалавечых аспэктаў канфэрэнцыі быў цёплы й шчодры водгук італьянскай прыхільніцы нашага збору, маркізы Ванды Гаўронскай на заклік Адама Мальдзіса аб дапамозе ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Нашая беларуская дэлегацыя павезла на Бацькаўшчыну скрынкі зь вітамінамі для дзяцей.

Рымскія сустрэчы застануцца доўга ў памяці ўсіх нас.

## Панядзелак 7 траўня

Усталі рана. Я ўжо была сабраўшыся з учора, так што вялікіх збораў ня было.

Пасьнедалі, і яны ўжо прыехалі па нас. Да аэрадрому заехалі хутка, бяз прыгодаў. Разьвіталіся з Мойсікам, а тады й з Запруднікам, бо ён ляцеў іншай лініяй. Заладзілі з білетамі й багажом і мелі яшчэ шмат часу.

Віт[*аўт*] сядзеў, а я пайшла выдаваць грошы — было засталося даволі шмат. Купіла сабе брошачку з мазаікі — прыгожая. Купіла цукерак, лікёру. Крыху грошай засталося — адашлем Мойсіку.

Ехалася даволі добра, але ўжо стомленасьць дае сябе адчуваць.

Прыехалі раней часу, багаж атрымалі хутка. Выходзілі ўжо з аэрадрому ■ 2:30 (час, калі наш самалёт мусіў бы толькі прыляцець).

Лорэйн нас хутка давезла да хаты.

Адправілі Божку[1].

Я яшчэ зрабіла прычоску. Прыйшлі Жамойды. Лорэйн хутка паехала са сваім сабакам. Аддалі падарункі.

Толькі ўжо пасьля 7-ай маглі адпачываць. Даўгі дзень.

---

*[1] Спадарыня Лідзія Божка даглядала за маці, пакуль мы былі ў Рыме.*

**Аўторак 8 траўня**

Першы дзень на працы пасьля падарожжа. К[*асінец*] нейкі ня выразны — мусіць цяжка яму было безь мяне.

Вячэралі разам з Ball[*arine*]. Думалі пайсьці ў той рэстаран, дзе мелі certificate[1] на Park Ave., але там было закрыта. Пайшлі ў Кітайскі. Добра было. Але затое, як яна яшчэ прыйшла з намі дахаты й сядзела яшчэ добрыя пару гадзінаў, дык я ўжо чуць вытрывала.

Ніякай у яе ўвагі — ніякага такту. Дала ёй падаруначак, і В[*ітаўт*] даў яшчэ ружанец. Глядзела фото й заўважыла, што на фото ружанец карычневы, але такі, як і ў яе.

---

*[1] Купон на зьніжку.*

**Серада 9 траўня**

Вельмі стомлена чуюся. Неяк гэты раз асабліва перамучыліся.

Нічога ня хочацца рабіць. На працы чуць-чуць трымаюся.

Але падарожжа ўжо ўспамінаецца з настальгіяй.

**Чацьвер 10 траўня**

Пачалі рабіць пламберку[1].

---

*[1] Сантэхніку. Паправілі ўсё, дзе цякло.*

**Пятніца 11 траўня**

Сёньня выкончвалі плямбэрку, але неяк ня ўсё добра зроблена. У маёй ванне — надта тугія краны. У кухні, здаецца, добра, але выглядае, што зноў будзе капаць хутка, бо ўжо гарачую трэба туга закручваць. Добра вельмі ў маёй уборнай спускаецца вада. Ды, праўда, здаецца, добра і ў бабкі.

**Субота 12 траўня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі.

Мыла бялізну — назьбіралася й нашай пасьля падарожжа й бабчынай.

Прыходзілі Жамойды да бабкі.

**Нядзеля 13 траўня**

Пасьнедалі.

Дождж. Цэлы дзень дома. Нічога не рабілі.

Зв. Алеся. У яе ўсё добра. Расказала ёй пра Рым, што адбылося, як яна паехала.

Прыязджаў Юра. Мы яго пасьля Рыму яшчэ й ня бачылі.

**Панядзелак 14 траўня**

В[*ітаўт*] у N.Y. Спаткаліся, схадзілі ў банк — зрабілі, што трэба было з IRA[1] — паклалі яшчэ на некаторы час. Пасьнедалі разам.

Вечарам езьдзілі да Надзі перадаць Валіку [*Сельвясюку*] грошы і розныя кнігі для Беласточчыны — ён заўтра адлятае.

Была там і Галіна з Васілём [*Русакі*]. Яна пачала псіхаваць, калі В. спытаўся ў яе пра яе індэйскія працы ды меў неасьцярожнасьць успомніць, што Тамара Кольба перадае свае працы[2]. Яна сапсула ўвесь вечар і для сябе й для ўсіх. Нейкая нарваная яна зрабілася. Перадала Надзі [*Кудасавай*] падарунак з Рыму.

Прыехалі дахаты ўжо даволі позна — стомленыя.

---

*[1] Пэнсійны фонд (Individual Retirement Account).*

*[2] Унівэрсытэту, дзе яна вучылася. Гэта Галіну ўзьдзёрнула.*

**Аўторак 15 траўня**

Прыходзіла Тамара [*Стагановіч*]. Мы зь ёй добра пагаварылі. Пайшлі на абед у Croissant — у нашае ўжо сталае мейсца. Расказала ёй пра Рым. Вельмі прыемна правялі колькі часу.

Перадала яна здымкі са сваіх працаў, зьвязаных з індэйцамі, — Том перавязе для «Беларускага Індэйца»[1].

---

*[1] Алесь Сімакоў з Гомеля, заснавальнік Беларуска-Індзейскага таварыства, уклаў бібліяграфію літаратуры пра амэрыканскіх індэйцаў і твораў Ф. Купэра.*

**Серада 16 траўня**

Сёньня прывезьлі новы гадзіньнік[1]. Стары не забралі, пакінулі. Можна будзе папрвавіць, і забяруць дзеці.

Паехалі да сп. Божка. Завезьлі ёй падаруначак і грошы. Яна вельмі была задаволеная. Але помач зь яе не вялікая. Дзеці наракалі, што яны мусілі ўсё рабіць і прыязджаць амаль кожны дзень.

---

*[1] У вялікім драўляным футарале. Той «стары» быў нядаўна перад тым куплены і паламаўся. Кампанія дала новы і ня стала забіраць стары.*

**Чацьвер 17 траўня**

Прыходзіў да Бабкі доктар. Нічога канкрэтнага не сказаў.

Каталягавала старыя кнігі.

Ліст ад Туронка, што дзяўчына з Польшчы прыедзе, і яе трэба выпісваць, але яна хоча больш грошай[1]. Дамовіліся, што яна пазвоніць, як прыедзе — недзе ў пачатку ліпеня.

Узялі кітайскую яду дахаты.

Адпачывала.

---

*[1] Плянавалі сталы дагляд за маці.*

**Пятніца 18 траўня**

Сёньня палучка.

Атрымалі ў біб[*ліятэку*] старыя кнігі — гэтым разам ад прадаўца з Францыі.

Зв[*аніў*] Пашкевіч[1] — даведацца Томаў тэлефон — Том усё яшчэ ня мае візы. Сказала яму, што ўсё ніяк не магу дазваніцца да Buzo, — спыталася ў яго пра тыя фото-выставачныя матар'ялы, што ён некалі прынёс — гэта нібы вельмі лімітаванае выданьне, якое Музэй зрабіў для выставак.

Зв[*аніў*] В[*ітаўт*] паглядзець зборнік Л. Геніюш — у якім годзе і ці няма там яшчэ бібліяграфіі, — паглядзела.

Вечарам зв[*аніла*] L[*orrain*]. Дамовіліся, што будзем у іх пасьля 1-ай, што, магчыма, з намі прыедзе Надзя.

Зв[*аніла*] й Надзя. Дамовіліся спаткацца.

---

*[1] Алег Пашкевіч зь місіі БССР у ААН.*

**Субота 19 траўня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі. Памыла бялізну. Рабіла хрэн. Зрабіла грыбкі — цэлую раніцу тузалася.

Прыехала Надзя да нас, і мы разам паехалі да Юры. Забылася хрэн! А В[*ітаўт*] забыўся лісты, што прыйшлі на Fond[1].

У Юры было добра. Шкада, што ня шмат моладзі сабралася. В. і Зап[*руднік*] гаварылі пра стан на Беларусі. Пагаварыла зь Верай Зап. пра Алесю. Дамовіліся, што А. ёй сама пазвоніць.

Прыехалі ня позна. Лорэйн дала нам шмат яды. На пару дзён ня трэба будзе варыць.

Надзя сьпякла каравай. Ага, выйшла з Надзяй крыху нялоўка. Я думала, што аддала Надзі print[2], што А[*леся*] прывезла з Нямеччыны, а Надзя кажа, што не.

---

*[1] Фонд Адраджэньня Беларусі.*

*[2] Адбітак карціны абмежаванага тыражу, які Алеся падаравала Надзі.*

**Нядзеля 20 траўня**

Знайшла print у сябе. Пазваніла Надзі — выбачылася.

Пасьнедалі, і В[*ітаўт*] паехаў да Тома — яны маюць зрабіць і Томава, і, асабліва важна, В. хацеў забраць свой матар'ял, што Том меў для яго зрабіць.

Зв[*аніла*] Раіса Ж[*ук*] Г[*рышкевіч*]. Яна ўсё хоча ведаць нашую апінію пра тэкст на помніку. Ці атрымалі артыкул Ж. Г., што яна пераслала?

Зв[*аніла*] Алеся. Дамовіліся, што яна зазвоніць да Веры Зап[*руднік*] сама і аб усім пагаворыць. Доўга зь ёй гаварылі і ўсё залагодзілі.

Зв[*аніў*] Прускі — ён мае ехаць у Польшчу, дык хоча нейкую паперку ад Інстытуту. Кавыля ўжо набраў усё, што меў. Цяпер важна, каб Зап. хутчэй канчаў, што яшчэ мае.

Зв[*аніў*] Белямук — Белы спаткае Тома.

Прыязджала L[*orrain*], забрала лісты, што былі для Юры і хрэн.

**Панядзелак 21 траўня**

Дамовіліся спаткацца ў нас у сераду з Алесям Лукашуком.

Прыходзіла Жанна, што ўсё званіла, але мы ўсё не маглі спаткацца. Прынесла ліст ад Дашука і бутэльку Бел. бальзаму. Яна тут фільмуе нейкі фільм пра N.Y. Сама яна беларуска, але вучылася ў Маскве. Цяпер мае пераехаць у Менск. Прыемная дзяўчына — вельмі прыхільная да бел. справы — уважлівая. Купіла ёй Library bag і таксама для Дашука.

Том [*Бэрд*] выехаў сёньня ў Менск. Паехаў праз Вашынгтон, бо яшчэ ў суботу ня меў візы.

**Аўторак 22 траўня**

Трэба ўжо думаць пра Harrogate[1].

---

[1] *Дзе меўся адбыцца сусьветны кангрэс дасьледнікаў Савецкага Саюзу.*

**Серада 23 траўня**

Рабіла для К[*асінца*] — ён папрасіў выбраць з каталёгу карткі для ягонай бібліяграфіі. Proofreading[1] і яшчэ нешта — ужо й губляюся, што я для яго раблю. Пагаварыла зь ім пра Harrogate — ён заахвяраваў $500.

Зв[*аніў*] Запр[*уднік*] — ён прыедзе да мяне ў біб[*ліятэку*]. Артыкул патрэбны хутка. Пачала пісаць артыкул. Зап. прыйшоў перад 5-ай. Ала спаткала нас і паехалі дахаты. Была з Алай дачка Туронка — вельмі сымпатычная дзяўчына. Прыехала й Надзя, а пазьней і Вера з Віктарам. Алесь Лукашук з жонкай прыехалі крыху пазьней. Вельмі была памысная зборка. Шчыра пагаварылі. А[*ла*] расказала пра групу. Лукашук расказаў пра сытуацыю ў іх там, што спадзявацца, што прывезьці з сабой.

Ага, Зап. прынёс кнігі ад Шупы для Юры. Толькі цяпер яны, праз колькі рук, дайшлі.

---

[1] *Вычытка карэктуры.*

**Чацьвер 24 траўня**

Сярод кніг быў вельмі прыемны ліст ад Шупы.

Сёньня на рабоце неспадзявана мела вадзіць нейкіх прыезджых — рускіх, К[*асінцовых*] знаёмых. Іх цяпер столькі прыязджае, што ўжо й не разьбярэшся хто — што.

Працавала крыху й для сябе — выканчыла артыкул для газэты пра «Рымскія сустрэчы» — здаецца, выйшла ня дрэнна.

Па рабоце заехалі ў Regis Travel — заказалі білеты[1].

Вельмі памысна закончыла артыкул, перадрукавала.

Яшчэ крыху й адпачывала.

---

[1] *На кангрэс саветолягаў у Англіі.*

**Пятніца 25 траўня**

Шук[*елойць*] прыйшоў рана — забраў артыкул.

Зазваніла пазьней да Зап[*рудніка*] — усё ў парадку. Яны пачынаюць сёньня газэту.

Шмат працы для К[*асінца*]. Ён мяне нагружае ўвесь час.

**Субота 26 траўня**

Сёньня цэлы дзень амаль дождж. Званіла Bal[*larine*] — дамовіліся на сераду спаткацца і пайсьці ў рэстаран — яна мае заказаць мейсцы. Сказала яна, што ёсьць распрадажа туфляў.

Пазваніла L[*orrain*] — яна прыедзе і мы паедзем па пакупкі. Купіла я сабе 3 пары абутку. Купілі В[*імаўту*] лапці. Купілі color T.V. з remote control[1].

Доўга ня былі, бо L. мае дома сабакаў. Ricky пакінуў свайго ў іх — яны паехалі ў Вашынгтон.

Вечарам парадкавалася крыху, крыху адпачывала.

Зрабіла рыбу.

---

[1] *З дыстанцыйным кіраваньнем.*

**Нядзеля 27 траўня**

У N[*ew*] Br[*unswick*] парафіяльнае сьвята. В[*імаўт*] пазваніў рана Але, ці будзе яна ў N. Br. — яна не зьбіраецца, але сказала, што прыехаў Ганько і нешта для нас мае[1].

Я ў N. Br. ехаць ня мелася — хочацца адпачыць, — але вырашыла дзеля Ганька паехаць. І добра зрабіла, бо шмат чаго залагодзіла. Блюзка цудоўная.

Крыху папалі й на службу. Абед хутка пачаўся. Было ўсё вельмі добра. Дамовілася са сп-няй [*Нінай*] Сільвановіч — яна пашые блюз-

ку для Алесі. В. прадаў крыху кнігаў. Быў рэфэрат пра Абрамчыка (Шук[*елойць*]) і пра Жыровіцкую Божую маці (Васіль Русак). Галіна была нейкая зусім нявыразная — крыху зь ёй гаварыла, але яна была як прыстукнутая. Былі й Кліўлендскія. Пляменьнік Сяргея вельмі сымпатычны хлапец. Была Ева [*Дунец*] — мы зь ёй сядзелі, гаварылі. В. яшчэ сабраў грошы для «Васілька»[2]. [*Юрка*] Азарка зрабіў амаль сцэну — чаму В. гэта робіць.

---

[1] *Прывёз блюзку.*
[2] *На падарожжа ў Беларусь.*

### Панядзелак 28 траўня

Памыла бялізну.

Раніцай прыйшла сястра (В[*ітаўт*] папрасіў, каб яна прыйшла, як мага раней). Хутка справіліся й паехалі. Ехалася добра — пагода цудоўная. Пасьнедалі ў дарозе — на нашым традыцыйным ужо мейсцы.

Крыху паезьдзілі па ваколіцы — паглядзелі дамы. Нічога падхадзячага ня бачым. Real Estate сёньня пазачыняныя. Едучы па Odessa Ave., заўважылі трускаўкі — pick your own[1]. Зусім неспадзявана набрала крыху. В. не захацеў зьбіраць. Паехалі ў A[*tlantic*] C[*ity*]. Там было добра. Крыху я выйграла, крыху прайгралі, але ня шмат, дык настрой быў добры.

Заехалі да Дзядзі Вані. Доўга ў іх не сядзелі. Далі яны нам баршчу з сабой і булачак.

Прыехалі дахаты пасьля 6-ай. Быў крыху трафік на Turnpike[2]. Зьняла яшчэ бялізну. У хаце ўсё добра. Пазваніла да сп-ні [*Марыі*] Ганько — падзякавала.

---

[1] *Можна зьбіраць самім.*
[2] *Аўтастрада з поўначы на поўдзень штату Нью Джэрзі.*

### Аўторак 29 траўня

Сёньня з самага раньня на рабоце напружаньне — пазваніла T. G.[1] і ў гістэрыцы нагаварыла, што яна ня хоча на працу, што аб ёй ніхто не дбае, што яна хоча пакончыць з сабой. К[*асінец*] — трэба аддаць яму справядлівасьць — сказаў ёй адзецца і прыйсьці на працу. Аб 11-ай зьявілася ў сьлязах, зусім дызарэентаваная — упала на сходках. Неяк крыху супакоілі яе. Прынесла я ёй кавы. Па абедзе яна ўжо адышла й была сама свая.

Хадзілі мы з К[*асінцом*] да P.R.[2] Гэта ўжо выйшла на вонкі, бо бачылі й вартаўнікі, што сталася. Адным словам, цэлы дзень быў пад гэтым уражаньнем.

Вечарам прыйшоў Віталь Макац. Агледзеў, вымераў. Мы маем купіць tiles[3], а ён прыйдзе на наступным тыдні рабіць.

Зв[*аніла*] L[*orrain*], што яна цяжарная, але прасіла яшчэ В[*ітаўту*] не гаварыць, яна сама скажа ў сераду.

---

[1] *Таня G. бібліятэкар Славянскага аддзелу.*
[2] *Public Relations.*
[3] *Плітку.*

**Серада 30 траўня**

Прыгатавала трускаўкі.

В[*ітаўтаў*] дзень народзінаў. Алеся пазваніла, прывітала В.

Дзень быў параўнаўча спакойны. Вечарам усе патроху сабраліся. В. мяне спаткаў. Bal[*larine*] была ўжо прыйшоўшы. Хутка прыехалі й Юра з L[*orrain*].

Вячэралі ў Park Av. Café — мелі яшчэ ўсё Gift Certificate[1] ад Калядаў. Вельмі было прыемна. L. сказала, што яна цяжарная і што ў Менск [*з «Васільком»*] не паедзе. В. быў крыху заскочаны, але ўсё добра прайшло.

Пасьля яшчэ заехалі купілі торцік і мелі яшчэ ў хаце трускаўкі. В. спадабаў лапці. T.V. яшчэ не распакавалі.

Зв[*аніла*] Галіна [*Русак*], прасіла дастаць дадзеныя да артыкула пра паясы, што я некалі ёй дала.

Яны хутка й разьехаліся.

---

[1] *Купон.*

**Чацьвер 31 траўня**

В[*ітаўт*] у N.Y. Спачатку ў радыё, а пазьней у друкарні — выканчваюць газэту.

А 10-ай мелі даўгую гутарку з Pat. Page пра T. G. Яна адразу сказала, што гэта задвансаваны алкагалізм, што патрэбна дапамога. T. G. сёньня няма — на Jury Duty.

Пасьля работы — да нажнога доктара.

**Пятніца 1 чэрвеня**

На рабоце ўсё больш-менш у парадку. Выканчыла, што рабіла для К[*асінца*], — перагледзела ўсе карткі з Ref. collection[1].

Званіла Галіне — яна потым адзванілася. Знайшла для яе матар'ял пра ручнікі і пра Крыж Еўфрасіньні. Знайшла В[*ітаўту*] матар'ял пра Дмахоўскі-Sounders. Пад канец дня — К[*асінец*] пайшоў раней — рабіла крыху для сябе. Зрабіла xerox з Alexis[2].

Вечар быў спакойны — толькі адзін тэлефон ад сп. [*Васіля*] Стомы — ён хоча выпісаць сваіх сваякоў.

Ага, знайшла той артыкул Мальдзіса ў «ЛіМ» — нічога асаблівага, як і казалі ўсе. Ня выразна, «non-committal».

---

[1] *Даведачны фонд.*
[2] *У сувязі з «Трыстанам».*

**Субота 2 чэрвеня**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі. Паставіла мыць бялізну й паехалі купляць tiles[1]. Хутка й добра справіліся.

Заехалі яшчэ па дарозе ў Regis Travel[2] — білеты [*ў Англію*] яшчэ ня зробленыя.

Павесіла бялізну.

Пошта прыйшла рана. Ліст ад Арсеньневай — просіць, каб пераслалі ейныя кніжкі ў Менск у Музэй Багдановіча.

Выйшла на двор, але й на двары ўжо крыху душнавата. Пішу дзёньнік. Званіла да Алесі — яшчэ не дазванілася.

Алеся пазваніла пазьней. Сказала ёй пра блюзку. У яе ўсё добра.

---

[1] *Кафэльную плітку.*
[2] *Бюро падарожжаў.*

**Нядзеля 3 чэрвеня**

Пасьнедалі.

**Панядзелак 4 чэрвеня**

Шмат працы.

Званіў нейкі беларус зь Менску. Усе яны пачынаюць з: «Турбуе вас такі й такі. Прывітаньне з Менску ад Народнага Фронту».

**Аўторак 5 чэрвеня**

Сёньня быў вельмі заняты дзень — шмат каго ня было, дык увесь дзень была беганіна.

Прыходзілі тры візіцёры: менскі юрыст Краўчанка з сынам і іхны сябра — ужо тутэйшы, але таксама зь Менску. Пагаварылі крыху. Дамовіліся, што спаткаюцца з Зап[*руднікам*] і Вітаўтам у наступны панядзелак. Ага, ён ужо пад канец гутаркі сказаў, што ён юрыдычны дараднік Фронту. Падараваў свае 2 кнігі — на рас[*ейскай*] мове, шкатулачку.

**Серада 6 чэрвеня**

Прыходзіў Марусін [*з ААН*]. Аддала яму бібліяграфію для яго жонкі. Ён папрасіў матар'ялаў аб бел. купцах. Віталі[1] ня прыехаў.

Нічога не рабіла — адпачывала, бо вырашыла, што як ён будзе працаваць у хаце, дык тады й я буду працаваць, бо адпачываць усё роўна ня будзе як.

Пруські для моладзі мае дастаць пачкі з мэдыкамэнтамі[2], але яшчэ нічога пэўнага няма.

Юра аб усім гэтым клапоціцца.

---

[1] *Віталь Макац, які рабіў рамонт у хаце.*
[2] *Завезьці ў Менск.*

**Чацьвер 7 чэрвеня**

Узялі кітайскага. Толькі селі есьці — аж прыходзіць Віталі. Пачаў працаваць. Спачатку ўсё сарваў. У хаце зразумела-ж балаган. Працавала над Кавылём. Крыху чытала.

**Пятніца 8 чэрвеня**

Шмат працы. Касінец загружае мяне рознай дробязьзю. Не дачакаюся, калі ўжо вырвуся адтуль.

Званіў Сакалоўскі зь Місіі. Яны, здаецца, выстараліся дазвол, каб правезьці рэчы[1] дармова, але патрабуюць інфармацыю. Юра ў панядзелак будзе ім званіць.

Віталі зноў працаваў вечарам. В[*ітаўт*] то каля яго, то каля маці — усё разьбіта. Я сядзела ў сябе. Крыху працавала, крыху чытала.

---

[1] *Мэдыкамэнты ў БССР.*

**Субота 9 чэрвеня**

Прычоска. Пасьнедалі й чакалі Віталя. Ён прыйшоў пасьля 11-ай. Цэлы дзень працаваў.

Пагода нявыразная. Я бялізны ня мыла.

Зрабіла сёньня вялізарную працу. Спарадкавала ўсяго Кавыля. Цяпер ужо ўсё неяк разабралася. Зборнікі ўжо зробленыя. Пьеса цяпер у Зап[*рудніка*]. Сабрала ўсё астатняе — вершы па-за зборнікамі, пераклады, бібліяграфію.

Пазваніла Кавылю, каб устанавіць парадак. Ён зноў спытаўся пра прозу. Добра, што разгаварыліся, бо ён сказаў, што апавяданьні былі надрукаваныя. Заўтра буду шукаць.

Цэлы дзень працавала.

Рабіла халаднік — першы раз у гэтым сэзоне.

Віталі пайшоў позна. Званілі Туронку [*ў Варшаву*] — не дазваніліся.

**Нядзеля 10 чэрвеня**

Сёньня цэлую раніцу парадкавалася.

Памыла бялізну. Рабіла Кавыля. Зноў зрабіла вялізарную працу — уклала index[1] усіх вершаў, цяпер можна дадаваць, што яшчэ знойдзецца ў пэрыядычнай літаратуры. Добра, што зрабіла гэта цяпер, бо знайшла аж тры вершы ў «Міжагнёўі», што былі ўжо ў другіх зборніках надрукаваныя.

Прыбрала крыху наверсе, бо было раскідана пасьля ўчарайшага. Віталі не пасьпеў сабраць. Амаль скончыў ужо абкладаць [*пліткай ванну*] — добра выходзіць.

Нарэшце дазваніліся да Туронкаў. Яго няма дома — гаварылі з Зінай. Усё залагодзілі з прыездам Прускага. Прускі яшчэ ня ведае пра пачкі для моладзі.

Званіла Надзя — памерла Шчорсіха[2].

Званіў Белямук.

Выйшла крыху на двор. Пішу дзёньнік.

---

[1] *Паказьнік.*

[2] *Жонка Васіля Шчорса, выведзенага ў трылёгіі «На ростанях» Якуба Коласа як Базыль Трайчанскі.*

**Панядзелак 11 чэрвеня**

В. у N.Y. Краўчанка з сынам — абед.

**Аўторак 12 чэрвеня**

А. С.

**Серада 13 чэрвеня**

Зв. Марусіну. Атрым памфлет на канцэрт.

Пруські зв. — пачкі будуць у пятніцу.

**Чацьвер 14 чэрвеня**

Гатовыя візы.

Зв. Юру — забярэм А.

Забралі блюзку — Надзі.

Залагодзілі, каб Кліўл. прывёз пачкі ад Прус.

**Пятніца 15 чэрвеня**

Пазваніў Пруські, што пачкі прыехалі. Кліўленд забярэ і прывязе да нас.

**Субота 16 чэрвеня**

Завіўка. Бялізна. Купілі фарбу. Забралі білеты. Купілі каву.

Віталі ня прыйшоў. Сядзела на двары.

**Нядзеля 17 чэрвеня**

Прыехалі з Кліўл. Сяргея плям. і Віталі.

Раб. Кав.

Пасьнедалі й паехалі.

Зраб. халад. Прыязджаў Ю.

**Панядзелак 18 чэрвеня**

Юра завёз на аэрадром. Усё дарма.

К. няма. Раблю шмат для сябе — зьбіраю мат. да Кав.

В. у N.Y. у біб. Спатканьне з Алай і Русакамі. Канцэрт.

**Аўторак 19 чэрвеня**

Пазв. Марусін — як спадабаўся канцэрт.

Завезьлі дзяцей на аэрадром. L. — pizza. Віталі.

**Серада 20 чэрвеня**

В. у N.Y. у радыё. Зрабіў апошн. Кав. Пазв. Зап, што моладзь даехала ў Маскву — добра спаткалі.

Віталі.

**Чацьвер 21 чэрвеня**

Т. G. праблема цэлы дзень напружана.

В. касіў траву. Вечарам адпачывалі.

**Пятніца 22 чэрвеня**

Апошні дзень без К. Зв. L. — heart bit.

Зв. Алеся — у іх усё добра. Зв. Сурвілам. Зв. Bal.

L. Віталі.

**Субота 23 чэрвеня**
Прычоска.
Зьезьдзілі на базар.
Зварыла капусту.

**Нядзеля 24 чэрвеня**
Крыху працав.
Зв. Кавыль.
Крыху адпачывала.

**Панядзелак 25 чэрвеня**
В. у N.Y.
Прыехаў К. Прыходзіў Краўчанка з сынам. Яны ў сераду ўжо выязджаюць.

**Аўторак 26 чэрвеня**
Да Адамовіча[1].

[1] *На дзень нараджэньня.*

**Серада 27 чэрвеня**
A. C. Pinelands commiss.
Віталі скончыў. Даплацілі $550. Сапсуўся настрой.

**Чацьвер 28 чэрвеня**
Думала прыбраць у ванне, але нічога не рабіла.

**Пятніца 29 чэрвеня**
Прыходзіў Valery — ліст праз Бураўкіна ад Дашука.
Прыехаў Юра — было добра, але ён даволі пэсымістычны. Pizza.

**Субота 30 чэрвеня**
Рана прыбрала ванну. Прычоска. Бялізна. Магазын — для ванны.
Рэстаран.
Віталі — гадзіньнік. Bal. — Бялізна.

**Нядзеля 1 ліпеня**
Ю. і L. party.
Зв. Алеся. Дождж.
Адпачывалі. В. прывёз курку.

**Панядзелак 2 ліпеня**
В. у N.Y.
Зв. Валеры — спаткацца з Бураўкіным дамов. на наст. панядзелак.

**Аўторак 3 ліпеня**
Зьбіраю матар'ял на выстаўку.
Паслалі Кав. вершы.
Зв. Ала — раск. пра паездку.

**Серада 4 ліпеня**
Дома. Прац. над Кавылём. Зв. Том — спат. у пятніцу.

**Пятніца 6 ліпеня**
Спаткаліся з Томам.

**Субота 7 ліпеня**

Прычоска. Зь Юрам у ягады. В. з Томам.

**Нядзеля 8 ліпеня**

В. да Русакоў — гутарка з Алай.

**Панядзелак 9 ліпеня**

В. у N.Y.

Спаткаліся з Бураўкінымі.

**Аўторак 10 ліпеня**

Да Адамовіча.

**Субота 14 ліпеня**

Алеся.

Shoping.

**Нядзеля 15 ліпеня**

Ю. і L. на сьнеданьне.

Shoping.

**Панядзелак 16 ліпеня**

А. паехала.

Цэлы дзень яшчэ мела для пакаваньня і зборкі[1]. Горача, але ўжо крыху палягчэла пасьля weekend. Мыла, прасавала зраньня — каб ужо пасьля валасоў не займацца бруднай працай. Зрабіла прычоску. Перад гэтым прыехала яшчэ Валя, жонка Макаца. Яна вельмі мілая жанчына, клапоціцца, ці патрафіць[2].

Пасьля, як прыйшла з валасоў, спаткалася яшчэ з Socora[3], што ўжо апякуецца бабкай даўно.

Хутка прыйшла й Bal[*larine*]. Яна ўжо дасядзела да самага нашага ад'езду. Зьезьдзілі зь ёй яшчэ ў магазын — купілі, што трэба для бабкі.

Выехалі на аэрадром ня позна. Хутка ўсё залагодзілі й сядзелі, адпачывалі — настрой, праўда, быў нейкі напружаны. У самалёце крыху-па-крыху пачалі адыходзіць. Мейсцы мелі добрыя. Ехалася добра. Крыху нават і заснула.

---

[1] *На Кангрэс саветолягаў у Harrogate, Англія. Мы там забясьпечылі некалькі сэкцыяў.*

[2] *Валя засталася даглядаць за маці.*

[3] *Дзяўчына з Аддзелу сацыяльнай дапамогі.*

**Аўторак 17 ліпеня**

Прыляцелі ў Лёндан крыху нават перад часам. Знайшлі цягнік і даехалі да Victoria station. Там чакалі а. Надсона. Доўга нікога ня было, дык неяк знайшлі тэлефон (з дому, як дуракі, не ўзялі) і зазванілі ў бібліятэку. Нас меў спаткаць [*Янка*] Міхалюк. Хутка спаткаліся і зь ім. Даехалі да бібліятэкі з невялічкімі прыгодамі, але даволі хутка.

Крыху аддыхнулі. А. Надсон завёў нас на абед. Крыху папрацавалі — я перагледзела некаторыя часопісы для Кавыля, а В[*ітаўт*]

разглядаў матар'ял для Мартыралёгу, нацдэмаў і, між іншага, прыглядаўся да Кавыля. Пайшлі крыху адпачыць. А 7-ай Міхалюк прыехаў па нас на вячэру. Вельмі прыемна правялі ў іх вечар. Прыехалі назад у бібліятэку яшчэ ня позна. Крыху яшчэ папрацавалі. Былі там і Picarda і яшчэ адна навукоўка з Амэрыкі. Пікарда жыве цяпер у [*Беларускай Каталіцкай*] місыі — разьвёўся з жонкай — працуе над царкоўнымі сьпеўнікамі. А. Надсон паказаў мне свой кампютар.

Даўгі дзень.

**Серада 18 ліпеня**

Раніцай пасьнедалі яшчэ ў а. Надсона. Нават крыху папрацавалі.

Міхалюк прыехаў па нас каля 9-ай. Сабраліся (я мусіла разьдзяліць нашыя рэчы — Вітаўту Вітаўтава, а маё — мне) і паехалі пад астаноўку, адкуль мелі ўзяць цягнік у Cambridge. Усё пайшло добра, адно, крыху выйшла прыкра, што ў сьпеху забылася разьвітацца з а. Надсонам. Ага, далі яму $500 ахвяру [*на бібліятэку*].

У Cambridge дабраліся бяз прыгодаў. Узялі таксі да Churchill college, дзе мае быць Канфэрэнцыя славянскіх бібліятэкараў. Вітаўт мяне толькі скінуў і паехаў назад у Лёндан.

Пакой мой, фактычна два пакоі, прыемны, але душ і ўборная на карыдоры. Пасьпела зарэгістравацца і пайсьці на абед.

Па абедзе была першая сэсія — усе прадстаўляліся. Убачыла, што шмат ёсьць з Сав. Саюза, але нікога зь Беларусі. Пазнаёмілася з шмат кім і будзе нагода зьвярнуцца да іх па манускрыпты. Пазнаёмілася і з Ірынай Паздзеевай. І мы зь ёй і трымаліся амаль праз усю канфэрэнцыю.

Наступная сэсія была даволі нудная. Наогул, чым далей, тым нудней рабілася на канфэрэнцыі. Пайшла адпачываць даволі рана і добра спалася. Дзень быў даволі гарачы, але ноч была прахладная — добра адпачыла.

Трэба сказаць, што гэты прылёт быў даволі лёгкім у сэнсе адаптацыі.

**Чацьвер 19 ліпеня**

Сэсія зраньня была ўжо сапраўды нудная, але затое па абедзе мы з Паздзеевай пайшлі ў Бібліятэку і надзвычайна прыемна правялі час. Яна, зразумела, цікавілася Маскоўскімі кнігамі, а я разглядала Скарыну. Колькі ліcткоў з Бібліі, зь Першай Кнігі царстваў, амаль тыя-ж, што і ў нас (можа і тыя самыя — мушу праверыць). Аднак, Псалтыр з Малой падарожнай кніжкі была вельмі цікавая, бо на апошняй (вокладачнай) старонцы былі інскрыпцыі ў польска-беларускай мове — два кавалкі ў вершаванай форме. Я расчытвала й перапісала пакрысе ўсю інскрыпцыю.

Дзень прайшоў вельмі памысна. З Паздзеевай навязаліся вельмі добрыя дачыненьні.

Пазваніла вечарам Вітаўту ў Лёндан. Ён званіў дахаты — там усё добра — Валя [*Макац*], праўда, вельмі-ж перараймаецца. У В. таксама ўсё добра. Працуе. Шмат цікавага знайшоў для сябе і для Кавыля.

Даў Пікарду Трыстана для review.

У Лёндан ужо прыехаў і Tom B[*ird*].

**Пятніца 20 ліпеня**

Сёньня зраньня зноў нудныя лекцыі. Я вырашыла, што бібліятэкары вельмі нудная публіка.

Па абедзе мелі вольны час і паехалі на экскурсыю ў Cambridge. Камбрыдж вельмі прыемны, акуратны старынны ўнівэрсытэцкі горад. На жаль, мы мала яго маглі пабачыць з аўтобуса.

Горача. Між іншага, надвор'е тут амаль як у N.Y. — горача і крыху нават душна. Праўда вечарамі і начамі прыемна.

Бачылі Амэрыканскія Вайсковыя могілкі — акуратныя, дагледжаныя, нават —вясёлыя.

Вечарам ужо пачала крыху зьбірацца, каб заўтра ня было сьпешкі. Падаравала Паздзеевай «Запісы» #18.

Сярод ночы праснулася, фактычна, ужо пад раніцу. Была нейкая надакучлівася сірэна/алярм. Не магла заснуць, але пазьней заснула і праспала амаль.

**Субота 21 ліпеня**

Хуценька сабралася і пабегла на сьнеданьне. Заўважыла толькі цяпер, што няма электрыкі — учарашнія фэйервэркі, нібы, нешта пашкодзілі.

Лекцыя з дыяпазытывамі Паздзеевай выйшла добра, хоць і без высьвятленьня. Яна добрая аратарка. Мусіла выбегчы перад 10-ай, каб вынесьці рэчы з пакою.

Пасьля лекцыі ўсе пайшлі на абед, а [redacted] стала ўжо падчэкваць Вітаўта.

Хутка прыехаў і В., але на абед мы ўжо не пайшлі. Аўтобусы прыйшлі а 2:30. Мы добра селі. Каля нас сядзела й Паздзеева. Крыху зь ёй гаварылі, яна расказвала пра стараабрадства. Ведаючая асоба, але вельмі шматслоўная і «вяліка-дзяржаўная», «обще русская».

Падсядала да яе і [*Ірэна*] Дуцікава[1], дык мы мелі магчымасьць і пагаварыць самі зь В. Даехалі да Harrogate ня позна, яшчэ мелі нагоду й зарэгістравацца.

Гатэль наш недалёка ад цэнтру. Але лекцыі, як мы ўбачылі пазьней, параскіданыя былі па розных гатэлях.

Пайшлі на адчыненьне. Маса народу. Мне аж галава разбалелася.

Я крыху пабыла там — убачыліся з [*Jim*] Dingley, [*Алесем*] Баршчэўскім, Vera Rich. Хутка я й пайшла адтуль, а В. яшчэ крыху затрымаўся — гаварыў з Барскім. Незадоўга прыйшоў і ён. Я яшчэ ўзяла ванну і адпачывалі.

Пакой цудоўны — зручны, прасторны, чысты.

Ага, В. запазнаўся зь нейкім беларусам з Віленшчыны.

---

[1] *Наша сяброўка зь Нью Ёрку.*

**Нядзеля 22 ліпеня**

Сёньня нашыя сэсіі — зраньня Запруднік, Барскі і McMillin.

Прайшло добра, было крыху й людзей.

Па абедзе: я, Вітаўт, Dingley і Vera.

Пасьля пайшлі крыху адпачыць. [redacted] яшчэ схадзіла на сэсію, дзе Касінец меў быць Discutant — прачытаў [*даклад Касінца*] за яго Bird.

Спаткаліся зь В. і пайшлі разам на вячэру. І такі добры вечар прыемны выйшаў. Пахадзілі па гарадку — такі ён прыгожы, кветачны, чысты — як казачны. Павячэралі ў нейкім невялічкім лякальным рэстаранчыку. Пагаварылі — Том быў даволі прыемны й шчыры.

Пасьля яшчэ крыху прайшліся. В. купіў недзе віна.

Ага, на першую лекцыю прыйшлі й той Віленскі беларус і яшчэ адзін Гомельскі, які цяпер у Маскве і прыехаў з Сав. дэлегацыяй. Яны вельмі цікавіліся бел. справамі.

**Панядзелак 23 ліпеня**

Сёньня ў мяне нічога надта цікавага, зраньня пайшла на нейкую сэсію.

Пасьля лекцыі пайшла ў пакой і чакала Вітаўта — ня прыйшоў — затрымаўся з Барскім і Dingley. Яны нават крыху выпілі. В. па абедзе лёг крыху праспацца, а [redacted] пайшла на Medieval panel[1]. Нічога надта цікавага, ды я яшчэ крыху была напружаная. В. казаў, што падыйдзе на наступную сэсію, але ня прыйшоў, [redacted] крыху пачакала й пайшла ў пакой. В. спаў. Я пачала чытаць — фактычна закончваць — артыкул Паздзеевай. Даўгі й даволі нудны, але шмат інфармацыі.

А 7-ай гадзіне пайшлі на вячэру. В. ОК.

Знайшлі вельмі сымпатычны pub, дзе можна й есьці. Павячэралі й пайшлі на лекцыю Паздзеевай і Morris аб стараабрадцах.

Было цікава, крыху, праўда, задоўга. На пытаньне В. пра стараабрадчаскую бел. калёнію ў раёне Чарнобыльскай катастрофы ў Ветцы і Навазыбкаве, яна адказала вельмі неахотна, што ў гэтыя раёны іх ня пускалі, як «маскалёў», і яна ня ведае, што там робіцца.

Ага, у абед схадзілі былі на станцыю заказалі білеты на заўтра. Рашылі ехаць заўтра ў Лёндан і тады, можа, папрабаваць дадатковыя маршруты.

Прыйшлі ўжо ў пакой пасьля 10-ай і адпачывалі. Стаміліся ўжо.

---

[1] *Сярэднявечная сэкцыя.*

**Аўторак 24 ліпеня**

Раніцай сёньня сэсія, на якой я маю чытаць Касінца заўвагі.

Сэсія была даволі цікавая: Ісаевіч, Pazdeeva, Federova (з Эрмітажу), Christine Thomas, вельмі мілая й знаючая асоба, вяла сэсію. Зь ёй я ўжо добра запазналася ў Cambridge.

Усё прайшло даволі добра. Пасьля яшчэ я й Ісаевіч пагаварылі з Zalewski'м аб Handbook[1].

Разьвіталіся з кім маглі. Ні Тома, ні Зап., ні Барскага, ні Dingley ня бачылі — яны сваімі сьцежкамі ходзяць.

Пайшлі ў пакой, спакаваліся і паехалі[2]. Да Leeds даехалі вельмі хутка цягнікам. У Leeds, праўда, было крыху замінкаў — станцыя аўтобусаў даволі далёка ад чыгуначнай — [redacted] спачатку пайшла ў разьведку, а тады мы ўжо пайшлі і з рэчмі. Там ужо маса народу. Усё нейкае бруднае, станцыённае.

Аўтобус спазьніўся. Тады мусілі перасаджвацца ў другі — з першым нешта не ў парадку.

Нарэшце ўселіся. Едзем. Air condition тут зьява, мусіць, ня існуючая. Села я каля вакна, з боку сонца — даволі горача. Аўтобус двухпавярховы, добра ўсё відаць, але вось пішу і нічога ўсё роўна ня бачу.

Дайшла да цяпер — магу ўжо закласьці свой дзёньнік і любавацца ваколіцай. Ваколіца даволі прыгожая.

Прыехалі ў Лёндан бяз прыгодаў, але пакуль дабраліся да Victoria station — даволі стаміліся. Там пайшлі даведвацца, ці ёсьць магчымасць дабрацца да Tintagel[3]. Пакуль усё гэта распыталіся (магчымасьць ёсьць, але, праўда, даволі складана, ня танна і вось-вось у вабрэз з часам), дык былі ўжо так здарожаныя, што нічога не хацелася, нікуды ўжо ехаць і ня думалі. Дабраліся да Бібліятэкі ўжо недзе пасьля 9-ай. Там думалі, што адпачнём, аж прыйшоў Міхалюк, пасьля прыехалі яшчэ нейкія зь Беларусі. Прыйшоў яшчэ й Пікарда — і зноў мы апынуліся, як на вакзале. В. яшчэ быў схадзіў нешта купіць паесьці, але не знайшоў. Перакусілі тым, што там было — сухі хлеб і сыр.

---

[1] *Даведнік для амэрыканскіх бібліятэкараў.*

[2] *Падрабязны рэпартаж з кангрэсу падрыхтаваў наш найбліжэйшы сябар Янка Запруднік («Беларус», № 371, жнівень, 1990):*

**НА СУСЬВЕТНЫМ КАНГРЭСЕ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР І ЎСХОДНЯЕ ЭЎРОПЫ**

У цэнтральнай Англіі, у горадзе Гарогейце, адбыўся 21-26 ліпеня сёлета 4-ты сусьветны кангрэс вывучэньня СССР і Ўсходняе Эўропы, на якім было прачытана каля 1200 дакладаў, і ў якім узяло ўдзел больш за 1900 асобаў, у тым ліку 122 з Савецкага Саюзу, але не зь Беларусі.

На цырымоніі адкрыцьця гэтага зьезду адным з прамоўцаў быў савецкі акадэмік Алег Багамолаў, які, гаворачы ад імя савецкае дэлегацыі, сказаў: «Часы мяняюцца, і выявілася, што камунізм дыскрэдытаваў сябе, і заходнія спэцыялісты, якія вывучалі Савецкі Саюз ды іншыя краіны, былі ня так ужо й далёкія ад слушнасьці ў сваіх ацэнках нашага жыцьця і нашае мінуўшчыны».

У першы дзень працы кангрэсу адбыліся дзьве беларускія сэсіі на агульную тэму «Галоснасьць і адкрыцьці ў беларускай літаратуры». Старшынявала на сэсіі брытанскі прафэсар Лінда Г'юз. Дакладчыкамі былі: праф. Томас Бэрд (пра газэту «Наша Ніва»),

д-р Янка Запруднік («Усевалад Ігнатоўскі як гісторык і дзяржаўны дзеяч»), д-р Вітаўт Кіпель («Белыя плямы ў беларускай бібліяграфіі»), праф. Джэймс Дынглі (творчасць Натальлі Арсеньневай), Зора Кіпель, заст. дырэктара Славянскага Адзьдзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі (пра беларускія пераклады XVI-га ст. заходнеэўрапейскіх клясычных аповесьцяў «Трыстан» і «Тундаль»), паэтка Вера Рыч (пра паэтычнае наватарства Алеся Гаруна), праф. Аляксандар Баршчэўскі (пра Антона Луцкевіча як літаратурнага крытыка).

Беларуская тэматыка разглядалася і на іншых сэсіях. Гэтак, два даклады былі прысьвечаныя творчасьці Васіля Быкава: брытанскага прафэсара Арнольда Макміліна і амэрыканскага прафэсара Дэмінга Браўна (пра зьмест дакладаў — у наступным нумары). Шмат гаварылася пра Беларусь на сэсіі пад заг. «Беларусь, Расея і Украіна ў XVI-м стагодзьдзі: да новага парадку дня ў вывучэньні ўзаемасувязяў паміж усходнімі Славянамі». Пра Беларусь часта згадвалася ў шматлікіх даклада на экалягічныя тэмы.

З нагоды кангрэсу 35 заходніх выдавецтваў наладзілі вялікую выстаўку, на якой можна было шмат чаго даведацца пра беларусаведныя выданьні й перавыданьні, а таксама пра доступ да архіўных матар'ялаў. Гэтак, прыкладам, выдавецтва «Інтэр Докюмэнтэйшэн Компаны» прапануе мікракарткі архіву віцебскага мастака Казіміра Малевіча, архіў якога знаходзіцца ў Амстэрдаме ў музэі Стэдэлійк. У сэрыі «Славянская палеаграфія» тая самая кампанія перавыдала на мікракартках 39 тамоў сэрыі «Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией», бальшыня якіх мае дачыненьне да гісторыі Беларусі. Нямецкае выдавецтва «Гебрудэр Борнтрэгер» рэклямавала сэрыю выдатна апрацаваных картаў краёў Усходняе Эўропы, зь якіх адна абыймае й Беларусь.

Менск зрабіў недаравальную памылку, што ня выслаў сваіх навукоўцаў у Гарогейт і нават ня даў магчымасьці прыбыць на кангрэс пісьменьніку Барысу Сачанку, прозьвішча якога фігуравала ў праграме як камэнтатара дакладу праф. Дынглі.

Я. З.

[3] *Мясцовасьць у Карнуоле, зьвязаная з Трыстанам.*

### Серада 25 ліпеня

Раніцай В[*ітаўт*] схадзіў у магазын — купіў ежы. Добра пасьнедалі ды я яшчэ парадкавалася, як пачаўся рух у бібліятэцы: Пікарда, а. Маскалік, Міхалюк, сястра і брат з Беларусі (Сьвятлана і Віталі Зайка), тады яшчэ Беластоцкія хлапцы прыходзілі — і так цэлы дзень. Працаваць было амаль немагчыма. Усе хочуць пагаварыць — гэта нейкі клюб, а не бібліятэка.

Вечарам крыху вырваліся — пайшлі самі на Pizza. Добра правялі якуюсь гадзінку. Але я крыху напружаная. Неяк мне гэтая суматоха надакучае, стамляе.

Крыху пазнаходзілі матар'ялаў, але гэта не маё ўяўленьне вакацыяў. Збрыдла мне ўжо ўсё. Цэлы дзень на людзях.

Выйшла была на дворык. Набрала сьліўкаў. У іх там добрае дрэўца — добра сёлета ўрадзіла.

Спаць пайшлі позна, бо людзі ўсё сядзяць, усё прыходзяць.

### Чацьвер 26 ліпеня

Сёньня зноў тут людна, але, праўда, менскія паехалі ў горад, дык удзень быў толькі Пікарда, зраньня прыйшоў а. Маскалік, Міхалюк, ды Беластоцкі Юрка Гапанюк.

Але амаль цэлы дзень — усё нехта прыходзіць, нехта выходзіць — зусім ужо надакучыла.

Вечарам схадзілі зь менскімі на вячэру. Яны падаравалі нам ручнікі, шкатулку і зуброўку. Мы ім далі кнігаў.

Прыйшоўшы з Pizza, там ужо сядзелі Міхалюкі, Пікарда.

Гаварылі. Сп. [*Лёля*] Міхалюк вельмі прыемная, мілая, спакойная — зь ёй чуешся добра. Неўзабаве прыехалі і рэшта з Канфэрэнцыі: Dingley, Том, Баршчэўскі. Зноў балаган. Зрабілі нейкіх канапак з салам, якое яны прывезьлі. Добра быў хлеб і піва.

Баршчэўскі застаўся ў бібліятэцы, а Том паехаў з Dingley. Патроху разышліся ўсе. Застаўся толькі Пікарда. Мы з Баршчэўскім яшчэ мелі інтэрв'ю. В[*ітаўт*] гаварыў. Спачатку думалі запісваць на плёнку, але нічога ня выйшла, дык Баршчэўскі пісаў. Ужо каля 12-ай рашылі, што трэба канчаць — пакінулі рэшту на заўтра. Стамілася. Хочацца ўжо хутчэй ехаць.

**Пятніца 27 ліпеня**

Усталі рана. Неяк ня сьпіцца, хоць і была такая стомленая.

Пасьнедалі, ды яшчэ крыху пайшлі папрацаваць. Я спакавалася.

Хутка пачаўся зноў рух: Міхалюк, Беластоцкі, Менскія, Пікарда.

Яшчэ скончылі з Барскім інтэрв'ю. Гаварыў пераважна Вітаўт, крыху толькі дадала сямейнай інфармацыі. Зрабілі здымкі.

Павялі нас пад станцыю Барскі, Міхалюк і Менскія. Менскія даехалі з намі аж да Victoria station. Добра дапамаглі[1].

Дабраліся да аэрадрому добра, але тут пачалося чаканьне. Самалёт спачатку меў спазьненьне на 1 гадз. 15 хвіл., тады яшчэ прадоўжылі. Мы крыху перакусілі. Я хадзіла купляла. Купіла цукерак, лікёраў, падаруначкаў. Шмат грошы расфуркала. Але так ужо бывае, як застануцца грошы, дык яны ўжо й разыходзяцца бяз толку.

Чакаем. Я пішу дзёньнік. Ужо стаміліся, а яшчэ цэлая дарога перад намі.

Ляцелася ня блага, толькі надта-ж доўга. Неяк назад даўжэй. Быў нават нядрэнны фільм. Я, здаецца, крыху была й задрамала. Спаткаў нас Юрачка. Ён даволі доўга чакаў — не пазваніў зараньня.

У хаце ўсё добра. Разабралі лісты. В[*ітаўт*] атрымаў ужо Social security чэк[2] — $750. Добра.

Прыехалі Макацы, яшчэ дала ёй цукеркі і далі для дачкі на вясельле $100. Расплаціліся зь ёй.

---

[1] *Зорыны падарожныя нататкі ў «Беларусе» (№ 373, верасень 1990):*

БРЫТАНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Усякае падарожжа Беларусаў у Ангельшчыну пачынаецца зь Лёндану, інакш кажучы са «Скарынаўкі», як ужо прынята пяшчотна называць Беларускую Бібліятэку й музэй імя Ф. Скарыны.

Вось-жа й нашае сёлетняе пачалося 17 ліпеня якраз з гэтага аазісу беларускай культуры. Спаткаліся там, зразумела, з а. Надсонам ды спадарствам Міхалюкамі, зь якімі так прыемна пагасьцявалі. Быў у бібліятэцы сп. Пікарда, які цяпер падрыхтоўвае сэрыю беларускіх рэлігійных сьпеўнікаў . Шмат зь ім разважалі пра беларускую музыку — ён

сапраўды знаўца й любіцель яе. Працавала там і Амэрыканка чэшскага паходжаньня Ольга Недэліковіч з Чыкага, якая цікавіцца беларускай культурай сераднявечча.

Я, на жаль, нядоўга змагла гэтым разам папрацаваць у бібліятэцы, бо ехала далей на канфэрэнцыю бібліятэкараў-славістаў у Кембрыдж. У гэтым старым унівэрсытэцкім горадзе было шмат цікавых спатканьняў — бібліятэкары з Амэрыкі, Заходняй і Ўсходняй Эўропы, зь Літвы, Латвіі, Эстоніі, з Масквы й Ленінграду, з Украіны, нават з Грузіі, але, на жаль, ня было нікога зь Беларусі. Шмат зь кім давялося пазнаёміцца й выкарыстаць новыя знаёмствы для пошукаў патрэбных беларускіх матар'ялаў. Паміж занняткамі на канфэрэнцыі мела й вельмі прыемную нагоду наведаць бібліятэку Кембрыджскага Ўнівэрсытэту з маёй новай знаёмай і калегай Ірэнай Пазьдзеевай, знаўцам старой кнігі. Там змагла пастудыяваць Скарынаў Псалтыр з Малой Падарожнай Кніжкі выдадзенай у Вільні ў 1522 годзе. У кнізе былі крыху пазьнейшыя, праўдападобна 17-га стагодзьдзя, рукапісныя нататкі-маргіналіі, асабліва цікавымі былі польска-беларускія вершаваныя павучэньні. Гэта быў амаль самы прыемны дзень з усяго майго пабыту ў Кембрыджы.

Праз колькі дзён, у суботу, далучыўся да мяне й Вітаўт — ён ў міжчасе працаваў у Скарынаўцы ды наведаў сп. А. Лашука — і мы паехалі на далейшую канфэрэнцыю ў Гарагейт — 4-ты сусьветны кангрэс вывучэньня Савецкага Саюзу і Ўсходняй Эўропы.

Гарагейт знаходзіцца даволі далёка на поўнач ад Лёндану. Па дарозе цешыліся прыгожым ангельскім краявідам і былі, хоць на кароткі час, турыстамі.

У Гарагейце новыя спатканьні, новыя знаёмствы, новыя абавязкі. Беларускія дзьве сэсіі пачыналіся ўжо адразу на наступны дзень, у нядзелю 22 ліпеня. У суботу яшчэ спаткаліся з Алесем Баршчэўскім, Джымам Дынглі, Томам Бэрдам і Янкам Запруднікам. Ды яшчэ з адным Беларусам з Ангельшчыны, які, пачуўшы беларускую гутарку Кіпеля й Барскага, зьвярнуўся да іх і ўжо пазьней часта быў з намі.

Беларускія сэсіі, ды й шмат іншых сэсіяў, дзе дыскутаваліся беларускія тэмы, прайшлі вельмі памысна. Было на іх шмат як старых, гэтак і новых знаёмых: апрача ўжо ўспомненых, Арнольд Макмілін, Вера Рыч, Віктар Свабода, украінскі навуковец зь Лёндану, вельмі цікавы малады навуковец гомельскі Беларус Алег Барадзін, які цяпер працуе ў Маскве. Ён шчыра цікавіўся ўсім беларускім і прыходзіў на ўсе нашыя паседжаньні. Дзівіўся, што мы на эміграцыі захавалі беларускую мову й культуру ды вядзем беларусаведную працу і выбачаўся, крыху бянтэжачыся свайго слабога веданьня беларускае мовы.

Трэба гэтта зазначыць, што й на гэтай канфэрэнцыі было больш за сто дэлегатаў з Савецкага Саюзу, аднак нікога ня было зь Беларусі. Меў быць Барыс Сачанка, але й ён, дзеля нейкай няведамай прычыны, ня прыехаў. Які вялікі жаль! Якая вялікая шкода, што на гэткіх міжнародных канфэрэнцыях няма Беларусаў зь Беларусі.

Пасьля Гарагейту зноў у Лёндан, у Скарынаўку, бо мелі яшчэ там папрацаваць. Гэтым разам у бібліятэцы а. Надсона ня было — ён паехаў на Беларусь з цэлым грузавічком мэдыкамэнтаў і прыладаў на дапамогу беларускім ахвярам чарнобыльскай катастрофы. Вітаў нас тут зноў сп. Міхалюк, хоць, праўда, мы ўжо мелі й свае ключы. Добра быць сябрам шаноўнага айца!

У бібліятэцы цяпер улетку завозна. У той-жа вечар, 24 ліпеня, калі вярнуліся мы, прыехалі ў бібліятэку і брат зь сястрой зь Менску Віталь Зайка і Галіна Бачыла. У Ангельшчыне яны на запросіны знаёмых Ангельцаў, але не прамінулі Скарынаўку, аб якой так шмат ужо чулі добрага. Сп. Зайка фізык, але вывучае гісторыю вуніі на Беларусі, а Галіна — эканамістка. Мы зь імі шмат разважалі, дзяліліся думкамі пра эміграцыю, пра падзеі на Беларусі, пра беларускую мову й культуру. Між іншага, нашыя новыя знаёмыя дасканальна валодаюць беларускай мовай і цікавяцца ўсім беларускім. Яны штодня прыходзілі ў бібліятэку й працавалі. Сталы тут наведнік і Юрка Гапанюк, беластоцкі студэнт. Прыходзілі пераглядаць новыя газэты й часопісы ды пагутарыць і мясцовыя Беларусы. Заглядаў у бібліятэку й а. Кастусь Маскалік. Гай Пікарда — Француз з паходжаньня, Ангелец з нацыянальнасьці, а Беларус з замілаваньня — у бібліятэцы, як у сябе дома: прыходзіць, студыюе, насьпеўвае сабе пад

нос, любіць і пагутарыць па-беларуску. Аднаго вечару разгаварыліся яны зь Віталем Зайкам і выявілася, што абодвы крыху валодаюць японскай мовай, дык у беларускай бібліятэцы пачулася й японская мова.

Вечар перад нашым ад'ездам быў асабліва актыўны. Прыйшлі спадарства Міхалюкі. Хутка да нашай, ужо сталай групкі — Пікарда, Зайкі, Кіпелі — далучылася рэшта беларускай дэлегацыі з Гарагейту: Том Бэрд, Джым Дынглі, Алесь Баршчэўскі і Надзя Керэчук, Украінка з Бразыліі, якая цікавіцца беларусікай. Янка Запруднік застаўся яшчэ на поўначы, у ваколіцах Брадфарду, дзе шмат Беларусаў, і меў там цікавыя спатканьні са старымі знаёмымі [redacted] сябрамі.

Зноў загула Скарынаўка. Сп-ня Лёля Міхалюк змайстравала хуткі пачастунак з прывезеным Джымам Дынглі беларускім салам — знайшлося й да сала. Добра, што ня было а. Надсона, бо ён не дазволіў-бы такой прафанацыі бібліятэкі. Аднак я, як бібліятэкар, пільнавала, каб ўсё было прыстойна й акуратна.

Раніцай наступнага дня, 27 ліпеня, яшчэ пасьпелі даць інтэрв'ю сп. Баршчэўскаму для беластоцкай «Нівы». Праводзіла нас зноў цэлая грамада.

Бывай, Скарынаўка, да наступнай сустрэчы!

[2] *Пэнсійны «дзяржаўны» чэк.*

### Субота 28 ліпеня
Пасьнедалі. Бялізна. парадкаваліся. Адпачывалі.

### Нядзеля 29 ліпеня
Пасьнедалі самі.
Пазваніў Белямук — вельмі рэзка зь ім гаварыла.

### Панядзелак 30 ліпеня
В. у N.Y.
Тэл. не бяру.
Макац і В. Залагодзілі з машынай[1].

[1] *Мы аддалі нашу старую машыну Галіне Макац зь Беласточчыны — Віталевай сястры.*

### Аўторак 31 ліпеня
А. С. Вельмі прыемнае падарожжа. Ягады.

### Серада 1 жніўня
Blaszek не знайшл.
Passaic. В. штаны.
Адпач., парадкуемся. Тэл. не бяром.
Юра — ягады. Вячэра з Bal. Макац з сястрой.

### Чацьвер 2 жніўня
Зв. Blaszek не адзваніўся.
Telegrama ад Белага. В. пазв. Белямуку.
Я з Bal. shopping.
Зв. Галіна Кучура пра Белага.

### Пятніца 3 жніўня
В. з Томам.
Passaic, Paterson.
Дзяўчына.
З Bal. Secaucus.
Званкі не бяром.

## *1991*

### *Першае наведаньне СССР*

*Атрымаўшы запросіны на Кангрэс Беларусістаў у траўні 1991 году, мы, безумоўна, задумаліся: ехаць ці не?*

*Слоў няма, мы трое — Зора, я і Ян Запруднік — разважалі ва ўнісон: мы працуем у беларусаведзе, прапагандуем Беларусь — мы належым да Беларусі. Але мы вось ужо 40 гадоў выступаем супраць рэжыму, супраць сыстэмы, мы — ворагі сыстэмы. Праўда, у нашым мінулым часоў вайны няма нічога «злачыннага» — мы маем права наведаць Бацькаўшчыну... Такія былі думкі. Аднак, што б ні казалі навокал — а тады былі жывыя «старэйшыя», якія не ўяўлялі сабе ня толькі падарожжа на Бацькаўшчыну, але і наагул хоць нейкія кантакты з БССР, — мы трое вельмі рана, ужо недзе ў пачатку сакавіка, вырашылі, што ў Беларусь паедзем. Зора здорава ўпёрлася — не хацела ляцець праз Маскву. Аднак зручнасьць паездкі праз Маскву (Аэрафлот) пераканала і Зору. І так мы сталі рыхтавацца да сустрэчы з Радзімай...*

*Калі мы пачалі афармляць дакумэнты, то ўбачылі, што стаўленьне да нас зьмянілася. Памятаю такі выпадак: нам з консульства ў Вашынгтоне прыслалі фармуляры: мне жоўты, а Зоры чырвоны. Званю ў Вашынгтон, пытаю — чаму розныя колеры? — а асоба ў консульстве кажа: «Вам не нравятся цвета? Давайте сделаем без формуляров, говорите данные по телефону». Вось так — я быў вельмі здзіўлены! Усё ідзе проста, звычайна, без валакіты. Ня тое, што было раней.*

*А паводзіны памежнікаў у Маскве дык было і зусім прыязнае, хоць Зора праз Маскву ехала сьціснуўшы зубы.*

**Чацьвер 23 траўня**

Дзень быў яшчэ даволі хаатычны, але ўсё ішло гладка.

Сабралася. Зьезьдзілі яшчэ па такія-сякія пакупкі — вітаміны і іншае. Зрабіла прычоску. В[*ітаўт*] завёз машыну. [*Разьбілася люстэрка*].

Яшчэ крыху прыгарнула ў хаце. Лорэйн з Алесям прыехала амаль на час. На дарозе быў крыху трафік, дык ужо пачалі хвалявацца, але добра пасьпелі. Здалі багаж і ўжо тады крыху адлягло.

Ляцелася добра. Я нават крыху задрамала.

**Пятніца 24 траўня**

Прыляцелі ў Маскву на час, але пакуль прайшлі праз праверку пашпартоў ды забралі багаж, ужо пачалі хваляваца, ці пасьпеем на менскі самалёт. Тут усё так паволі рухаецца — такі балаган. Мы пачалі бегаць ужо, каб неяк прысьпешыць працэс — накіравалі мяне да чалавека, які правярае багаж — я пачала спачатку па-ангельску, але

ён слаба разумеў, дык я, знарок, на ламанай расейскай мове сказала яму, што: «Нам нужно взять самолёт на Мінск». Ён спытаўся, у якой справе мы едзем у Менск. Як даведаўся, што на канфэрэнцыю — дазволіў без чаргі. Нейкія жыдоўкі амэрыканскія паднялі гам, што мы пайшлі без чаргі, але ён нас хуценька прапусьціў — нічога не глядзеў, не адчыняў, толькі штампы паставіў, і мы як прывілігаваныя пайшлі сабе.

Сталі шукаць транспарту на другі аэрадром, зь якога самалёт на Менск.

Вельмі ўдала ўсё заладзілі і бязь ніякіх прыгодаў дабраліся на таксі да наступнага этапу. Там нават даволі доўга чакалі. У міжчасьсі я замяняла грошы — 27.60 за $1.00. Цэлая купа грошай. Прыглядаліся ўсё да Тома, бо ён меўся ляцець тым-жа самалётам. Сядзела каля нас нейкая жанчына, і мне ўжо хутка здалося, што яна таксама едзе на канфэрэнцыю.

Самалёт да Менску быў такі задрыпенькі, што аж сьмех.

У Менску нас чакала «reception committee»[1] са сьцягом. Былі там: Мальдзіс, Шупа, Зайка і Жук.

Ніякага яшчэ адчуваньня, што прыехала на Бацькаўшчыну. Прыехалі ў гатэль. Залагодзілі ўсе фармальнасьці і пайшлі ўжо адпачываць. Гатэль даволі добры.

У гатэлі чакала мяне неспадзеўка — родныя мае ўжо мяне расшуквалі й пакінулі свой менскі тэлефон. Пазваніла ім — гэта дачка майго кузына Вінцэнта, яе муж і дачушка. Дамовіліся, што яшчэ будзем званіць, як заарыентуемся.

---

[1] *Прымальны камітэт.*

**Субота 25 траўня**

Першы дзень канфэрэнцыі. Пасьнедалі. На сьнеданьні спаткалі Васіля Мельяновіча, здаецца, Туронка і яшчэ некага з прыезджых. Цяпер ужо ўсё паблыталася. Трэба было запісваць адразу [*ў дзёньнік*], але, буквальна, ня было хвілінкі вольнай. Тома яшчэ няма.

Прайшліся пад набярэжную. Пагаварылі зь нейкім рыбаком. Усё яшчэ няма адчуваньня, што прыехаў у родны горад. Гэтая частка гораду мне зусім не знаёмая. В[*ітаўт*], праўда, адразу пачаў арыентавацца.

На паседжаньне пайшлі пехатой, праз мост, каля Тэатру Опэры й Балету — там цяпер парк — па набярэжнай Сьвіслачы, каля маста, што быў ля дзіцячага сада, я ўжо пачала арыентавацца. Адразу за мастом — у вулічку, здаецца, былая Гашпітальная. Цяжка сказаць, бо гарадскі сад цяпер падходзіць да яе. Там і Дом Літэратара, дзе адбываюцца паседжаньні.

Шмат знаёмых, шмат хто хоча пазнаёміцца. Нас — на расхват. І ня прыпомніш, хто падыходзіў, з кім гаварылі. Шупа ўвесь час каля нас.

Спаткаліся зь Юляй Бураўкінай, але мала было часу й пагаварыць.

У файэ там выставы, прадаюцца рэчы. Купіла пояс, але блюзачкаў для дзяўчат усё яшчэ ня бачу.

Пасьля пленарнай сэсіі [*Анатоль*] Белы падводзіць да мяне двух маладых мужчынаў зь дзяўчынкай з кветкамі і кажа, што гэта вашыя сваякі. Ну, зразумела, абдымкі, пацалункі. Дамовіліся, што я вечарам паеду да іх.

В. ужо на вечар мае быць у двух мейсцах — Мальдзіс дамовіўся з сынам Коласа, а Шупа — з франтаўцамі.

На абед павезьлі нас у рэстаран Сьвіслач. Абед быў не благі, але а пазьней як зайшла ў уборную, дык амаль не захварэла.

Ага, Том [*Бэрд*] прыехаў колькі хвілінаў перад сваім выступам — В. ужо думаў яго замяняць.

Пасьля-абеднія сэсіі, былі ўжо спэцыялізаваныя. Я была на аднэй. Пазьней падкінулі нас пад гатэль. Я ўзяла сякія-такія падарункі і чакала на родных.

Доўга там я гасьціла. Яны надта цікавіліся нашым жыцьцём. Гаварылі, паказвалі здымкі. Дамовіліся, што паедзем у Лужкі ў аўторак. Сёньня дзьве рэчы паўсталі. Я зрабіла запрос на паездку ў Лужкі і пазьней Шупа і, асабліва, [*Валянціна*] Трыгубовіч пачалі нас угаворваць ехаць заўтра ў Вільню. Мы вагаемся.

В. быў толькі з франтаўцамі. Прыехаў дахаты перад мною.

**Нядзеля 26 траўня**

Яшчэ ўсё вагаемся ці ехаць у Вільню. Учора намякнулі Мальдзісу — ён сказаў, што рызыка пэўная ёсьць.

Нарэшце ўсё-ж наважыліся. Сяржук [*Сокалаў*] чакаў нас каля гатэлю. Па дарозе яшчэ крыху праехаліся па Менску[1].

Дарога на Вільню добрая. Пагода цудоўная. Ехалася прыемна, але я ўсё чулася неспакойна. Па дарозе яшчэ заехалі ў Крэва. Пахадзілі па руінах замку, у якім у 1395 годзе адбылася Крэўская Вунія. Цяпер гэта запушчаная вёска.

У Вільню прыехалі па-паўдні, а палове першай. Заехалі перш-наперш да Лявона Луцкевіча. Там крыху пагаварылі і паехалі зь ім аглядаць Вільню. Пабывалі ва ўсіх беларускіх мейсцах: Вострая брама, Скарынінскія, Купалаўскія, Каліноўскага, Наша Ніва, Базылянскія Муры. Недзе перакусілі. І напасьледак на магільнік Росы, дзе толькі тыдзень таму было перанесенае цела Івана Луцкевіча.

Выехалі зь Вільні ўжо пад вечар і пачалі шукаць газаліны[2]. Не знайшлі нідзе. Параілі нам, што ў Ашмянах можа быць. Ня было й там. Накіравалі нас на Смаргонь. А ўжо вечарэе. Я хвалююся, а яны [*ўся кампанія*] сьмяюцца й зьдзекваюцца зь мяне — заначуем недзе тут.

А Сяржук [*Сокалаў*] яшчэ надумаў заехаць у Жупраны, дзе пахаваны Багушэвіч. Пасьля пачалі шукаць музэй Багушэвіча ў Кушлянах.

Сяржук тут усё і ўсіх ведае. Знайшоў дырэктара музэю[3], які павёў нас туды. Ужо зусім сьцямнела, а мы яшчэ далёка ад Менску і ня маем бэнзыну.

Пасьля музэю яшчэ заехалі да Жамойціна ў госьці. Выехалі ад іх ужо недзе пасьля 11-ай. Заехалі ў Смаргонь і, о, шчасьце, набралі газаліны. У Менск прыехалі ўжо пасьля 2-ой бяз прыгодаў. Праўда, яшчэ ў нейкай мясцовасьці Сяржук стаў каля калодзежа й набраў у бутэлькі смачнай, халодненькай вады.

---

[1] *Пад'ехалі да месца, дзе была некалі мая хата на Горным завулку, каля Вайсковых могілак.*

[2] *Бэнзін.*

[3] *Алесь Жамойцін.*

**Панядзелак 27 траўня**

Сёньня нашыя рэфэраты — мой раней, а В[*ітаўтаў*] у тэй-жа залі пасьля майго. Мой прайшоў добра.

Падчас рэфэратаў выклікае нас (мяне, Шупу альбо Вітаўта) Краўчанка. Я ўжо зусім спужалася — вось ужо будзе сварыцца за ўчарайшае падарожжа ў Вільню. Аж гэта ён хацеў паведаміць, што дазвол у Лужкі залагоджаны, хоць яны й ня зусім былі задаволеныя, што еду я не праз Інтурыст. У мяне адлягло. Пасьля ён выклікае яшчэ Шупу. Я зноў спужалася, аж гэта зноў прыемная навіна — ён [*Краўчанка*] запрашае нас на абед.

В. рэфэрат быў гарачы. Ён ня ўклаўся ў свае 20 хв., дык Dingley яго мусіў перапыніць на палавіне. Пасьля [*Аляксандар*] Баршчэўскі прапанаваў, каб даць В. дагаварыць. І тут В. разышоўся. Даволі рэзка запратэставаў, што папярэдні дакладчык — Мацюнін — ужыў Рамаоўскага[1] як крыніцу. Пасьля крыху супакоіўся і кончыў ОК.

Абед у Краўчанкі быў шыкарны. Былі там Мальдзіс, Сачанка, Грыцкевіч, паляк Цеханоўскі і мы.

Пасьля абеду яшчэ прыйшлі ў Дом Літэратара, але ўжо на паседжаньнях амаль ня былі — яшчэ В. толькі пагаварыў зь некім, а тады мелі спатканьне з Казырам і Со. з «Бацькаўшчыны». Далі яны нам нейкія сувэніры, кніжкі. Наагул кніжкамі нас тут закідалі.

Нарэшце сабраліся пайсьці пахадзіць па Менску. Сяржук падкінуў нас пад Камароўку. Запруд[*нік*] і Том [*Бэрд*] паехалі на аўдыенцыю з Філарэтам.

Перш-наперш зайшлі ў дом, дзе [redacted] мела адрас Паўлінкі. Там цяпер жывуць яе ўнукі — Паўлінка памёрла 4 гады таму. Пагаварыла крыху зь імі, але нічога ў мяне зь імі супольнага. Пайшлі на [*Вайсковыя*] могілкі. В. знайшоў магілку сваёй бабкі. Прайшліся па вуліцах, дзе В. жыў. Тады пайшлі пад наш пляц. Чыгуначныя рэйкі яшчэ ляжаць, але на мейсцы, дзе была нашая хата, цяпер невялічкі парк. Пасядзелі там крыху і па Правіянскай пайшлі пад дом Літэратара. Крыху пазна-

валі некаторыя мясьціны. Там яшчэ пабачыліся з тым-сім і паехалі пад гатэль. Хутка й на банкет.

На банкеце ўжо сабралася шмат людзей. Банкет быў сапраўды панскім. Мальдзіс нас падхапіў і павёў недзе наперад. Зрабіў урачыстае ўручэньне дыплёму Вітаўту. Падскочыў да нас яшчэ й Том, каб памаглі яму пару слоў сказаць па-беларуску. Яшчэ падыходзілі людзі — усіх і не прыпомніш. Жанчына з Інстытуту Гісторыі, круціўся ўсё Кляшчук з апаратам. Хутка В[*ітаўта*] апанаваў [*пісьменьнік Іван*] Навуменка. Плёў усялякае глупства, падліваў сабе і стараўся падліваць В., але В. хутка зразумеў, што зь ім трэба быць цьвярозым — ён пачаў лаяцца й на Пазьняка, які падсеў, і на В. за ягоную прамову. Краўчанка і Сачанка стаялі збоку і прыглядаліся. Неяк нам удалося вырвацца — праўда, ужо пачалі разыходзіцца.

Мы яшчэ пайшлі з Шупам да яго дахаты. Крыху там пасядзелі і ў гатэль — заўтра а 4-ай мне ўставаць.

Яшчэ крыху гаварылі, мяняліся ўражаньнямі, і [redacted] неасьцярожна сказала непатрэбнае слова. Вельмі мы расстроіліся абое, што калі-б нехта падслухоўваў, дык магло-б быць вельмі прыкра.

Амаль цэлую ноч ня спалі. Я зусім ужо зьнемаглася.

[1] *Аўтара кнігі «Саўдзельнікі ў злачынствах».*

**Аўторак 28 траўня**

Рана ўстала. В[*ітаўт*] крыху спаў, дык ужо ўспакоіўся. Але ўсё яшчэ неяк напружана.

Прыехалі яны[1] па мяне дакладна а 5-й і мы паехалі.

Ехалі праз Лагойск, Плешчаніцы. У Глыбокім затрымаліся. Пачала [redacted] рабіць здымкі з царквы, касьцёлу. Глыбокае прыгожы гарадок. Тады паехалі пад Вялец. Знайшлі хату, дзе жыў папа. Зрабіла я здымкі. Заехалі на могілкі, знайшлі магілкі дзеда й бабкі — папіных бацькоў. Там на могілках шмат Савёнкаў. Нарэшце дабраліся ў Лужкі — гэта не благое мястэчка.

Нас ужо там чакалі. Ну, зразумела, вельмі цёплая і расчуленая сустрэча. Папава сястра Нюта яшчэ зусім добра трымаецца. Расплакаліся мы ўсе. Расказалі яны мне пра сябе, паказалі здымкі. Яна мне перадала папавы фото, як ён быў маладым кадэтам. Фото бабкі — цяпер ужо я буду перахоўваць сямейную спадчыну. Перадалі мне й ручнічок, які некалі папа студэнтам меў. Доўга мы зь ёй і з кузынам Вінцэнтам гаварылі. Тады зрабілі яны пачастунак. У часе абеду ім трэба было ехаць на поле даіць кароў. Паехала і я зь імі. Там амаль цэлае мястэчка — усе глядзяць. Зрабіла й там здымкі. Прыехалі дахаты ды яшчэ мы жанчыны: Вінцэнта жонка, Ганна маці Міхася, я й Надзя пайшлі па мястэчку паглядзець магазыны. Нічога я не знайшла для падарункаў. Магазыны пустыя.

Прыйшлі дахаты, разабралі падарункі, ды хутка ўжо й пачалі зьбірацца назад, бо мне яшчэ трэба да Мальдзіса а 6-ай.

Ага, В. сёньня меў поўны дзень таксама: зраньня ў бібліятэку, тады да Сачанкі, а тады ўжо ў Мальдзіса мелі спаткацца.

Назад ехалася добра, надвор'е добрае. Глыбоччына прыгожая. Вельмі было прыемнае падарожжа. Праўда, [redacted] ўжо крыху сьпяшалася.

Пад'ехалі да гатэлю, і я нідзе не магу знайсьці ні адрасу, ні тэлефону Мальдзіса. Адправіла сваіх, і яшчэ пачала шукаць некага, хто можа мець тэлефон Мальдзіса. Спаткала Тома — ён вельмі расстроены Баршчэўскім. Ён спадзяваўся мець ужо тэкст сваёй тэзы.

Да Мальдзіса ён не захацеў ісьці, хоць [redacted] казала, што ён напэўна запрошаны. Даведалася ад некага тэлефон Мальдзіса. Зазваніла. Выйшла нейкае непаразуменьне. Яны мяне шукалі, а я іх. Ну але неяк сабраліся. Я ўзяла таксі і прыехала да іх яшчэ ў добры час.

Вечар быў даволі нудны. Усе стомленыя. Мальдзіс нават заснуў за сталом. Былі там Дзінглі, немец [*Норбэрт Рандаў*], паляк Цеханавецкі, Пазьняк, Кісялёў, ягоная жонка, Мажэйка. В. меў яшчэ гутарку з Пазьняком — ён перадаў свой рукапіс пра Курапаты для друку.

Выбраліся мы нарэшце ад іх — бо ўсё яшчэ падкладалася і яда й пітво.

Пайшлі з Шупам і немцам. Спачатку ішлі пехатой, а пасьля знайшлі нейкі аўтобусік, які падвёз нас пад гатэль.

Яшчэ крыху й пакавалася — заўтра ўжо адлятаем.

Ага, на вячэры ў Мальдзіса Цеханавецкі прапанаваў нам ехаць зь ім на лётнішча. Мы з прыемнасьцю згадзіліся.

---

[1] *Зорыны родзічы.*

**Серада 29 траўня**

Зрана ўсталі й пачалі пакавацца. Кніжкі рашылі пакінуць Шупу — ён пазьней паступова перашле. Самае праблематычнае быў самавар, што прынесла Вацлавава дачка ў першы дзень.

Усё нарэшце запакавалі. Пайшлі на сьнеданьне чакаць Галіну Квасіновіч. Яны хутка прыйшлі, прынесьлі яшчэ падарункі. Пасядзелі зь імі, пасьнедалі. Галіна добра выглядае.

У міжчасьсі прыехалі й Ганна з Міхасём, прынесьлі яшчэ падарункі, а я ім яшчэ дала такія-сякія рэчы, што забылася даць. Усё астатняе пакінулі Шупу. Званок ад дачкі Паўлінкі.

Аб 11-ай паехалі ўжо на лётнішча. Добра, што паехалі зь ім, бо быў там і Абрамчык[1] і ўсё прайшло вельмі гладка. Ніхто нічога ня пытаўся, толькі трэба было заплаціць за extra багаж. Чуць-чуць справіліся. Да Масквы даехалі добра. Там было крыху клопатаў з аднаго лётнішча на другое. Паляк наш ужо нам пачаў дакучаць. Ён нейкі на-

рваны. З самаварам ужо надакучыла нам, але цягаем. У Маскве ўдалося нам. Пасадзілі нас у першую клясу, бо было нейкае замяшаньне зь мейсцамі. Усё было-б добра, каб выходзячы ў Лёндане зноў не спаткаліся з паляком — ён нам папсуў настрой. А там яшчэ была валакіта дастацца на той тэрмінал, ад якога адходзіць аўтобусік на наш гатэль.

Але нарэшце дасталіся, хоць ужо й добра натаміліся й нанэрваваліся. У гатэлі адразу-ж узялі ванну і крыху адышлі.

Зьелі яшчэ крыху калбасы, што далі мне ў Лужках, калі забяруць, дык хоць крыху пакаштуем.

Вечар правялі добра і першую ноч за ўсе гэтыя дні хоць крыху паспалі.

---

[1] *Прадстаўнік Беларускага Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі.*

**Чацьвер 30 траўня**

В[*ітаўтаў*] дзень народзінаў. Пасьнедалі ў гатэлі. Нічога асаблівага і зноў тая самая працэдура з аўтобусамі. Калі нарэшце дабраліся да аэрадрому, дык ужо й часу ня шмат было. Чуць пасьпелі. Яшчэ маю сумачку правяралі — там вельмі строга.

Ага, тут ужо зазначу, што нічога ня выйшла з маімі здымкамі — ці то засьвяцілі, ці то нядобра фільм уставіла. На самалёце ня было ўжо мейсца ў някурачых частках. Праўда, было яшчэ ня так блага.

Самалёт прыляцеў на колькі хвілін раней. Чакала ўжо нас на аэрадроме Надзя [*Кудасава*]. Хутка прыехала й Лорэйн. Надзя прывезла картоплі, клубнікі. Вось яна маладзец.

Дадому дабраліся добра, але былі ўжо такія стомленыя, што не хацелася ніякіх рабіць Birthday для В. Рашылі, што зьбярэмся ў нядзелю. Машыны яшчэ няма. Пачалі крыху распакоўвацца.

Пайшлі спаць рана, але я й прачнулася вельмі рана і ўжо не заснула.

***

***Паездка ў Люблін і на Беласточчыну***

**Серада 12 чэрвеня**

Раніцой яшчэ крыху парадкавалася. Памыла бялізну.

Канчальна ўжо спакавалася. Гэтым разам мы едзем лягчэй.

Пасьля 12-ай В[*ітаўт*] пайшоў па машыну. Добра пачынілі[1]. Нарэшце! Адважыўся загнаць яе ў гараж[2].

Зрабіла прычоску.

Хутка пачала ўжо зьбірацца. Крыху адлягло — ня гэтак горача.

Перад 4-ай мы ўжо чакалі напагатове. В., як заўсёды, пачаў ужо хваляваться.

L[*orrain*] прыехала колькі хвілін пасьля 4-ай і мы ўжо добра пачалі

сьпяшацца. Даехалі, праўда, хутка, але ўжо па дарозе і пачулі й пабачылі, што мае быць ураган і што на лётнішчах затрымкі.

Там чакалі аж да 10-ай гадзіны, а самалёт меў адлятаць а 6-ай.

Селі вельмі дрэнна ў курачым мейсцы — ня было ўжо нічога. Я не разумею, як гэта стаецца, бо прыехалі мы гэтым разам ня позна, але ўжо добрых мейсцаў ня было.

Гэтым разам нам курэньне сапраўды надакучыла — было душна, горача, не хапала сьвежага паветра. Стаміліся.

---

[1] *Новае люстэрка з правага боку — навізна!*

[2] *Бо першы раз, як заганяў, разьбіў люстэрка.*

**Чацьвер 13 чэрвеня**

У Франкфурт прыехалі ўжо пасьля таго, як наш самалёт на Варшаву адляцеў. Праўда, там ужо ўсё было залагоджана й нас пасадзілі на першы-ж самалёт, які ляцеў на Варшаву — Lot.

Яшчэ прабавалі зазваніць Баршчэўскаму, але нікога ў іх ня было.

Купіла яшчэ цукеркаў для Баршчэўскіх.

Хутка й самалёт. Ляцелася добра. Нават частавалі, але я ўжо не магла есьці.

Прыляцелі ў Варшаву й пачалі прыглядацца да Баршчэўскага. Ён нас чакаў, з кветкамі. Да хаты дабіраліся двума аўтобусамі й крыху й пехатой.

Там ужо чакала нас Ніна [*Баршчэўская*].

Крыху пагаварылі, пачаставаліся, ды хутка й пайшлі адпачываць.

У Баршчэўскага ў хаце цэлая калекцыя самавараў, шмат кніжак, дык даволі цеснавата.

**Пятніца 14 чэрвеня**

Прачнуліся рана. Цягнік наш быў пасьля 6-ай. Крыху ідзе дожджык. Краявіды прыемныя. Хутка й даехалі да граніцы Беласточчыны. У Беласток прыехалі недзе пасьля 9-ай.

Там нас ужо чакалі з машынай. Заехалі ў Таварыства[1]. Там жыцьцё поўнае. Пачаставалі нас кавай, іхнай, спэцыфічнай — на добрыя ¼ шклянкі каваныя зярняткі.

Паехалі ў Бельск. Там якраз была канфэрэнцыя настаўнікаў беларускіх школаў. Якраз прыехалі на перапынак. Пачаставалі нас гарбаткай у кабінэце дырэктара, але ўжо трэба было ісьці на паседжаньне. В[*ітаўта*] папрасілі нешта сказаць. Баршчэўскі прадставіў нас, сказаў колькі словаў — ён умее гаварыць.

В. гаварыў таксама добра — якраз як трэба для такой аўдыторыі.

Пасьля зайшлі ў беларускі ліцэй — праўда, там бел. мова толькі як прадмет. Там нас пачаставалі абедам. Вельмі смачна. Сабралі дзяцей, і зноў выступіў В. — добра прамовіў да дзяцей.

Пасьля далей — пад Гайнаўку. Па дарозе Іваноўскі, які нас вёз,

развозіць яшчэ «Ніву», дык мы праехаліся па беларускіх вёсачках. Якраз пабачылі Махнатае і рашылі зайсьці да Анінай мамы[2]. З намі быў і Іванюк, дырэктар ліцэю ў Гайнаўцы — ехаў з канфэрэнцыі дахаты — ён больш-менш ведаў дзе яна жыве.

Там нас чакала неспадзеўка — там якраз была й Аня зь дзецьмі. Ну, зразумела, пачастунак, гарэлка — тут бяз гэтага не абыходзіцца.

Пагасьцілі зь імі каля гадзінкі і паехалі наперад.

У Гайнаўцы — адразу ў музэй. Крыху марасіць дожджык, даволі прахладна. Неяк Беласточчына спаткала нас ня ветла.

Музэй зрабіў вялікае ўражаньне — ужо відаць размах. Там адзін корпус ужо ў добрым ужытку. Якраз цяпер была выстаўка пра Чарнобыль.

Пагаварылі з дырэктарам музэю [*Кастусём*] Майсеням і яшчэ з некалькі другімі актывістамі.

Хутка пайшлі замэльдаваліся ў матэль. Матэль зусім ня дрэнны. Праўда, толькі вада была крыху летненькая.

Ага, наведалі яшчэ й выстаўку. Выстаўка даволі прымітыўная — усё па-руску. Зрабілі ім заўвагу.

Пайшлі павячэралі ў мясцовым прыемным рэстаранчыку. Ежа смачная. Не абышлося й без чаркі. Тут шмат п'юць.

Пасьля паехалі назад у матэль, ды ўжо й адпачывалі. Мужчыны яшчэ крыху пасядзелі. Я пачала пісаць дзёньнік. Дзень быў вельмі інтэнсыўны, але памысны. Мне, праўда, крыху пачаўся панос, дый кашляю крыху. Холадна неяк, чуць угрэлася.

---

[1] *Беларускае грамадзка-культурнае таварыства.*

[2] *У нас пару гадоў перад тым гасьцявала Аня з Махнатага.*

**Субота 15 чэрвеня**

Іванюк запрасіў нас на сьнеданьне. І тут для мяне новая неспадзеўка — ужо на сьнеданьне паставілі гарэлку. Мусіць, ад гэтага ўжо тут не адкрэсьцішся. Паехалі зноў у музэй — там было паседжаньне будаўлянага камітэту. В[*ітаўт*] зноў прамаўляў. Ахвяравалі $500. Перад паседжаньнем агледзелі яшчэ пабудову. Вельмі імпрэсіўна. Там будзе й музэй і бібліятэка й кіно-заля й гатэльныя пакоі — адным словам — культурны цэнтр.

Пасьля музэю ўжо паехалі ў Белавежу. Распагодзілася. Пахадзілі па запаведніку. Бачылі й зуброў, і ланяў, і дзікоў. Купіла я драўляныя яечкі — ужо на наступны Вялікдзень.

Спаткалі там якраз групу дзяцей зь Менску, якіх Згуртаваньне прывезла сюды на выцечку. Пачулі, што яны гавораць па-беларуску. Разгаварыліся. Гэта група — бацькоўскі камітэт вучняў бел. школаў. Узялі іх адрас. Цікава зь імі бліжэй пазнаёміцца.

Паехалі па Пушчы ў гатэль. Гатэль у самай Пушчы. Праўда, заехалі яшчэ на адноўленую бел. вёсачку. Вельмі цікава — там і хата з па-

чатку стагодзьдзя, і студня й млын, і клуня — усё гэта яшчэ ў стадыі ўлагоджваньня.

Гатэль у Пушчы сапраўды шыкарны, выгодны, чысьценькі.

Павячэралі ў гатэлі. Смачна, прыемна.

Выйшлі яшчэ на сонейка пасядзелі. І я хутка адчула, што ў мяне пачынаецца панос. Пару разоў зьбегала ў пакой, другі раз дык чуць дабегла — так мне нядобра стала. Цэлы вечар прамучалася. Нарэшце ўзяла Кео. Крыху палягчэла. Пайшла шукаць, дзе мужчыны. Яны былі ў пакоі Баршчэўскага — выпівалі, зразумела. Але былі ОК, толькі я заўважыла, што пачалі ўжо ўсе стамляцца, дык [redacted] выцягнула В.

Яшчэ крыху пагаварылі і пайшлі спаць.

Званіў Міраслаў.

**Нядзеля 16 чэрвеня**

Прачнуліся рана. Я спала ня дужа добра, бо балеў жывот. Праўда, панос спыніўся. Адзелася і пайшла крыху прайсьціся па пушчы. Пагода добрая. Сьвежа, але я яшчэ ўсё чуюся слаба. Дома ўжо В[*ітаўт*] сядзеў з Баршчэўскім. Вельмі ж распісваліся ў камплімэнтах, што добра выглядаю.

Пайшлі на сьнеданьне, але я выпіла толькі гарбаты.

Паехалі пад царкву ў Гайнаўцы. Там якраз была служба. Шмат людзей. Царква прыгожая, але нейкая не свая.

Пасьля паехалі ў Козьлікі, да бацькоў Ніны. Там, зразумела, за стол перш-на-перш. Гаспадар быў на полі, а маці пабыла з намі й пайшла таксама. Мы пайшлі пад рэчку і добрыя пару гадзін адпачылі на паветры. Я пачала пісаць дзёньнік.

Жывот крыху супакоіўся, яле я яшчэ нічога ня ем.

На Беласток выбраліся ўжо каля 4-ай.

Хутка прыехалі. Зайшлі да Іваноўскага. Там нікога ня было дома — гаспадыня на вёсцы. Я маю падазраньне, што яна й ня ведае, што мы будзем у іх начаваць.

У Таварыства прыехалі каля 6-ай. Там ужо было крыху людзей. В. даклад быў зусім на ўзроўні. Ён для кожнай аўдыторыі добра падбірае. Тут сабраўся Клюб Беларускіх Інтэлігентаў.

Пасьля дакладу былі пытаньні, ну і пачастунак. Тут ужо мусіць крыху перадалі, бо гарэлка была добра моцная. Неяк удалося выцягнуць і паехалі да Іваноўскага, а Бар[*шчэўскі*] да сваёй сястры.

У І[*ваноўскага*] ужо ўсе спалі. Так мне стала прыкра і ніякава.

Нават крыху перагаварылі з В. Але ён хутка заснуў. Я доўга яшчэ ня спала. Ложак ня зручны, вузкі, нясьвежая пасьцель. Адным словам, чулася я блага.

Ужо мне гэты бесперастанны пір надакучае.

**Панядзелак 17 чэрвеня**

Усталі рана — гаспадыня пайшла на працу а 4-ай. Мы яе так і ня

бачылі. Усе кажуць, што яны да нечаканых гасьцей прывыклі, але мне ад гэтага не лягчэй.

Забралі Бар[*шчэўскага*] і паехалі на станцыю. Зноў ідзе дождж. Ехалася добра. Усе нават крыху заснулі.

Дабраліся да Баршчэўскіх каля 11-ай. На станцыі купілі яшчэ білеты на Люблін. Наш цягнік адыходзіць а 5:37.

У Баршчэўскіх яшчэ выпілі каву й пасьнедалі, з гарэлкай! Калі ўжо гэта кончыцца. На даклад у Унівэрсытэт [*на Беларускую катэдру*] пайшлі пехатой — тут не далёка. Надвор'е не благое, але ўжо крыху й парна.

Даклад быў добры, як заўсёды. В[*ітаўт*] сапраўды ўмее гаварыць.

Ізноў на абед, ізноў гарэлка. Ну, але можа неяк спыніцца хутка. Бар[*шчэўскі*] падараваў прыгожую посьцілку. Паабедалі і зноў на станцыю. Гэтым разам ужо ўзялі таксі.

Заладаваліся. Едзем. Ідзе зноў дождж. Неяк нам гэтым разам з пагодай не павязло. Праўда, у Белавежы і ў Козьліках было цудоўна.

Разьвіталіся мы з Баршчэўскім сардэчна.

Пішу. В. крыху прыдрамнуў.

Прыехалі ў Люблін[1] яшчэ ня позна, але пакуль дабраліся да мейсца, пакуль нам сказалі, дзе мы заквартараваліся, пакуль давезьлі нас да тога мейсца — было ўжо прыцемна.

Спаткаліся тут адразу з Сакратам, пазьней убачылі Мальдзіса, Клачоўскага і Ісаевіча — адным словам — усе старыя знаёмыя.

Ужо ні з кім не спатыкаліся — як толькі ўлезьлі ў свой пакой, фактычна — пакоі, дык распакаваліся й адпачывалі. В. яшчэ чытаў літаратуру, якую нам раздалі. Як заўсёды, шмат дрэні.

Спаць пайшлі рана.

[1] *На канфэрэнцыю «Рым ІІ».*

**Аўторак 18 чэрвеня**

Зраньня пасьнедалі ў гатэлі — спаткалі тут яшчэ беларусаў. Прыехала даволі шмат зь Менску: акрамя Мальдзіса, Сагановіч, маладая дасьледніца Грэчухіна, Шыбека, Бабкоў, Сакрат, Іваноў і Мірановіч. Усяго нас было каля 10-ёх.

Пакрылі ўсе паседжаньні. Зраньня былі пленарныя паседжаньні.

Падчас перапынку разьмеркавалі ролі да заўтрашніх паасобных паседжаньняў. Я мусіла адмовіцца ад вядзеньня, бо сабраліся тут пераважна гісторыкі і мне было-б сьмешна ў гэта лезьці. Абодвы «panels», дзе мела быць я (сярэднявечча і XVI-XVII век) перадала Сагановічу. Па-першае, ён гісторык, а па-другое, трэба ўжо маладым пераймаць. Добра, што ўжо Менскія навукоўцы разважаюць больш-менш як мы.

Паабедалі недалёка ад таго месца, дзе адбываюцца паседжаньні — мусіць, у студэнцкай сталоўцы. Яда добрая, простая, смачная.

Па абедзе зноў агульныя нарады. Выступаў Вітаўт. Дапоўніў да таго, што гаварыў Мальдзіс пра праблемы нашай гісторыяграфіі, пра вывучэньне беларусікі ў дыяспары.

Пасьля нарадаў пайшлі на прыём да мэра Любліну. Ішлі пехатой даволі далёка — тут яны, мусіць, хадзіць прывыклі і з адлегласьцямі ня лічацца.

Пад гатэль нас падвез нейкі рэпарцёр з радыё. Дамовіліся, што заўтра яму дамо інтэр'ю. (Між іншага, на заўтра яго ня бачылі).

Там яшчэ да нас у госьці зайшоў Мальдзіс. Прынёс бутэльку, газэты, кнігі. Паказваў, што пісалі пра яго і пра цэнтр Скарыны ў [*пакінута пустое месца*] — гэта эквівалент «Політіческому Собеседніку». Вельмі няпрыгожа збэсьцілі ўсіх, каго толькі маглі. Затое артыкул пра В. у «Народнай Газэце» вельмі добра й прыхільна напісаны.

Жынкін перадаў з маладымі свае брашуркі, сярод іншага й нейкую дрэнь пісаную Акінчыцам[1]. Мы вельмі адмоўна да гэтага паставіліся. Мальдзіс з намі таксама згаджаецца — ён нават не хацеў гэтыя брашуры браць з сабой.

Прыйшоў і Сакрат — запрасіць да сябе. Яшчэ крыху пасядзелі й пайшлі яны да Сакрата.

В. доўга ня было. Я, зразумела, не магла заснуць. Але ўжо як ён прыйшоў, дык хутка супакоілася.

---

[1] *Перадрук брашуркі «Правакацыя беларускага народа».*

**Серада 19 чэрвеня**

Першая сэсія — сярэднявечча — была крыху нявыразная. Вёў яе Bardach, і ня толькі вёў, але задаваў тон. Так неяк выйшла, што больш гаварылася пра польскія праблемы й іх стаўленьне да астатніх трох народаў. Пры чым гэтае стаўленьне выяўлялася неяк надта-ж ужо зьверху.

Літоўцы таксама крыху залішне пачалі паднімаць галаву з арыстакратыяй літоўскай. Я крыху запярэчыла, але прайшло гэта не заўважана.

Ага, самым пазытыўным было тое, што я раніцай залагодзіла справу з Пазнаням. Спаткала пані Topolsku, і яна мне там дапаможа.

Па абедзе пайшла на сэсію XX ст. Там крыху цікавей. Нашых там было шмат. Наагул прысутнасьць нашая заўважаецца. Добра, што ёсьць нас з усіх канцоў — і зь Беларусі, і з Польшчы, і з Амэрыкі — усе мы аднолькава амаль думаем.

У абед схадзілі з Сакратам купілі білеты на Варшаву й заказалі гатэль. Пасьля сэсіяў было невялічкае прыймо, пачастунак. І хутка мы пайшлі ў гатэль. Там ужо разьдзеліся і думалі адпачываць, як прый-

шоў Мальдзіс. Гаварылі пра магчымасьці стыпэндыяў для іншых навукоўцаў у заходніх бібліятэках, на заходніх унівэрсытэтах. В[*ітаўт*] перадаў $100 для Жынкіна.

Я пайшла ўжо спаць, як прыйшлі Сагановіч і Бабкоў. Яны прынесьлі яшчэ кніжак і газэтаў.

**Чацьвер 20 чэрвеня**

Зраньня ўжо сабраліся, запакаваліся. Пасьнедалі й паехалі яшчэ на сэсіі.

Ужо мала якія сэсіі працавалі, бо скончылі свае дыскусіі ўчора. Пабылі мы на 20-м ст. Было вельмі цікава, мірна. Крыху маглі й пра свае справы сказаць. Бабкоў добры зрабіў даклад[1].

Яшчэ з сім-тым пазнаёміліся — нейкі Паляк, які сябе лічыць беларускім шляхцічам, — з сім-тым пагаварылі, ды сабраліся ў дарогу. Да вакзалу ўзялі taxi. Там ужо стаяў цягнік. Селі добра.

Едзем і я пішу.

Ага, частку кніжак перадалі Сакрату, каб нам поштай пераслаў. Але валізкі ўсё роўна цяжкія.

Прыехалі ў Варшаву памысна. Купілі білеты на заўтра на Пазнань. Узялі taxi на гатэль.

Гатэль ня з горшых. Шкада толькі няма T.V.

Пахадзілі яшчэ крыху па вуліцах — шукалі, каб дзе знайсьці магазын прадуктовы. Знайшлі. Купілі нешта крыху паесьці й папіць. Добра сабе павячэралі й адпачывалі.

Перамянялі крыху грошаў — Traveler's checks. Гатэль будзе нам каштаваць каля $90 за ноч.

---

[1] *Нататка пра канфэрэнцыю ў «Беларусе» (№ 381, 1991):*

**КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў ЛЮБЛІНЕ**

Ад 18-га да 20-га чэрвеня ў горадзе Любліне, у Польшчы, адбывалася навуковая канфэрэнцыя, прысьвечаная вывучэньню гістарычнага разьвіцьця чатырох усходнеэўрапэйскіх народаў былой Рэчы Паспалітай: беларусаў, палякаў, летувісаў і украінцаў. Арганізатарамі канфэрэнцыі былі Люблінскае Таварыства Прыяцеляў Навук, Навуковая Асацыяцыя «Паміж Усходам і Захадам» ды колькі вышэйшых навучальных установаў гораду Любліну. Галоўнай тэмай канфэрэнцыі было — нацыянальнае адраджэньне ды сёньняшнія дачыненьні між чатырмя народамі былой рэчы Паспалітай.

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел прадстаўнікі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Вітаўт і Зора Кіпель), навукоўцы Акадэміі Навук БССР — праф. Адам Мальдзіс, Генадзь Сагановіч, Ігар Бабкоў, Захар Шыбека, Сьвятлана Грэчухіна, Ірына Лаўроўская, беларусы-прафэсары польскіх унівэрсытэтаў: Мікола Іваноў з Вроцлаўскага, А. Міраповіч зь Беластоцкага, а таксама старшыня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня ў Польшчы — Сакрат Яновіч. Беларускія дасьледнікі чыталі рэфэрат ў сэкцыях: палітычны рух на Беларусі ў 20-м стагодзьдзі, разьвіцьцё беларускае літаратуры ў 16-м стагодзьдзі, гістарычнае разьвіцьцё праваслаўнае і каталіцкае рэлігіяў на Беларусі, ды насьвятленьне гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў школьных падручніках. На пленарных паседжаньнях канфэрэнцыі членамі прэзыдыюму былі пачаргова беларускія прадстаўнікі: д-р Адам Мальдзіс зь Менску і д-р Вітаўт Кіпель зь Нью Ёрку.

Як паведамляе арганізацыйны камітэт канфэрэнцыі, наступная канфэрэнцыя пры-

сьвечаная гісторыі Вялікага Княства Літоўскага адбудзецца ў 1992 годзе ў Камянец Падольску на Украіне, канфэрэнцыя 1993 году плянуецца на Беларусі ў Пінску.

Карэспандэнт

**Пятніца 21 чэрвеня**

Усталі рана. Сабраліся й пайшлі пад вакзал. Пагода добрая. Тут яшчэ крыху чакалі, але хутка прыйшоў і наш цягнік. Мы ўжо крыху арыентавацца пачынаем. У вагоне, на жаль, паўстала замяшаньне — выглядае, што былі выдадзеныя два білеты на тое самае мейсца. Прыйшлося нам сядзець не на сваім мейсцы, не каля вакна. Я крыху была расстроілася, але схадзілі ў вагон-рэстаран пасьнедалі і неякжа супакоілася.

Зноў пачаў крапаць дождж. Нам, відавочна, гэтым разам дождж спрыяе. Пішу[1].

---

[1] *Побыт у Познані — кароткі, адзін дзень — быў для Зоры вельмі важны. Яна хацела паглядзець арыгінальны рукапіс «Трыстана», над якім яна столькі працавала, падараваць бібліятэцы сваю кнігу «Byelorussian Tristan» зь яе ангельскім перакладам тэксту, а таксама расьпісацца ў сьпісе тых, хто пераглядаў арыгінал «Трыстана». Дзень быў выдатны.*

## *1992*

**Серада 1 студзеня**

Сёньня мы сабе спакойненька дома. На вуліцах пуста.

В[*ітаўт*] паехаў, праўда, купіў булачак.

Пасьнедалі.

Так цэлы дзень і прайшоў у адпачынку, у соўганьні па хаце.

**Субота 4 студзеня**

Зрабіла прычоску

Маку купіла. Пякла макаўку.

**Нядзеля 5 студзеня**

Куцьцю зрабілі.

**Панядзелак 6 студзеня**

Прынесла макаўку.

Сяд[*нёў*] пазв. што сп[*откаемся*] у сераду[1].

---

[1] *У Нью Ёрку з гасьцямі Сяднёва — Сачанкамі.*

**Аўторак 7 студзеня**

Працавала.

**Серада 8 студзеня**

Сёньня раніцай прачнуліся з няпрыемнымі навінамі — Pres. Bush захварэў у Японіі. Пазьней выясьнілася, што нічога важнага зь ім не

сталася — толькі стомленасьць і мусіць (так выглядае) жывот расстроіўся.

У абед сабраліся ўсе разам — прыйшлі Сяднёў, сп-ня Сачанка з дочкай, сп-ня Савік, прыйшоў Шук[*елойць*], Віт. і Ала [*Орса Рамана*]. Пайшлі насупраць бібліятэкі ў Pizza Hut. Пакуль разабраліся, што заказваць, пакуль атрымалі яду ды ўселіся, было шмат канфузіі. І вось у гэтай канфузіі ў мяне ўкралі сумку. Агледзелася я, як ужо выходзіла. Вельмі расстроілася. Расстроіліся і ўсе. Віт[*аўт*] вельмі добра захоўваўся — супакойваў мяне.

Адразу-ж зазваніла Лорэйн, каб залагодзіла з [*крэдытнай карткай*] Am. Express. Пазваніла ў паліцыю, заявіла аб пакражы.

Працаваць ужо не магла. В. мяне пачакаў і мы зайшлі ў пастарунак, каб узяць пасьветкі.

Я вельмі сумная, але В. мяне ўсё ўцяшае.

**Чацьвер 9 студзеня**

Сёньня дома. Настрой ужо крыху лепшы.

Рашылі, што «Нашу Ніву»[1] купім для Інстытуту. В[*ітаўт*] зьбіраецца паехаць да Сяднёва, каб перадаць грошы Сачанкавай.

Я пайшла залагодзіць з Driver's licence[2]. Усё вельмі хутка й памысна залагодзілася. Зайшла яшчэ і ў аптэку — купіла тое-сёе для сумкі. Сумку, што падаравала Алеся, ужо адразу-ж пачала ўжываць.

Ідзе дождж. Неяк нічога ня клеіцца. Пачала крыху парадкаваць свае шуфляды — падбіраць рэчы для сумкі. Гэта будзе яшчэ клопат усё аднавіць, усё ўспомніць.

В. прыехаў перад 5-ай, але я ўжо пайшла пакарміла маці.

Прывёз ён газэту [*«Наша Ніва»*] й «Маланку». Заплаціў $500. Прывёз гэтаксама й збаночкі. Казаў, што яны ўсе вельмі расстроеныя ўчарайшым выпадкам.

---

*[1] Паводле штампаў — з калекцыі ксяндза Адама Станкевіча. Заплацілі $500, але былі радыя, што будзе свая «Наша Ніва» для выставак. У 2004 годзе газэта была падараваная бібліятэцы.*

*[2] Правы кіроўцы.*

**Пятніца 10 студзеня**

Я зноў сягодня дома. Памыла бабчыну бялізну — добра надвор'е спрыяльнае.

Зьезьдзілі ў Social Security[1]. Там была крыху замінка — трэба было ехаць па пашпарт, але ўсё залагодзілі нарэшце. Прышлюць праз 2-3 тыдні.

Прыйшоў ліст ад Валі [*зь Менску*]. Яна спаткалася з Садоўскім, але нічога пра грошы не гаворыць. Напісала ёй.

Крыху парадкавалася. Пачала крыху і з газэтай.

Лорэйн прывезла Алеся. Яшчэ крыху пасядзела з намі і паехала на працу.

Алесь захоўваецца цудоўна. Добры хлопчык. Пачынае ўжо больш упэўнена рухацца. Імітуе гукі і часам зусім добра выходзіць нешта як «Дзед», «Гай, Алесік». Юра прыехаў перад 9-ай. Яшчэ крыху й пагуляў з Алесем.

Я зазваніла па pizza. Юра паклаў А[*леся*] спаць і паехаў па pizza. Толькі пачалі есьці — beeper[2]. Але, праўда, нядоўга заняло часу. Яшчэ добра скончыў вячэру. Але затое другі — дык ужо пачалася валакіта. Мусіў нарэшце ехаць назад у шпіталь. Цяжкая яго праца.

---

[1] *Сацыяльнае страхаваньне — аднавіць пасьведчаньне.*
[2] *Сыгнал пэйджэра.*

**Субота 11 студзеня**

Алесь спаў даволі позна, дык і мы спалі. Я хуценька сабралася. Зьмяніла яшчэ Алеся й падагрэла малачка. В[*ітаўт*] ужо тады яго сам даглядаў.

Зрабіла прычоску. Купіла на сьняданьне.

У часе сьнеданьня прыйшла й Лорэйн. Пасьнедала з намі й паехалі. Казала, што можа ў нядзелю прыедзе паглядзець fax. Пазваніў Жамойда, што мае для нас пачку ад Якіменка. Марыя Міцкевіч прыслала дзьве блюзачкі.

Мыла бялізну. Схадзілі яшчэ да шаўца перарабіць ключ[1] — зноў не падходзе. Мусілі зноў перарабляць. Папрабавалі — добра. Цяпер у мяне ўжо амаль усё адноўлена. Зьезьдзілі да Жамойды. Блюзкі шмат вымытыя, але мне ня надта падабаюцца.

Па абедзе пачала працаваць з газэтай[2], але неяк паволі ідзе.

Званіла Алеся — расказала ёй пра сумку, але яна ўжо ад Лорэйн ведала. Гаварылі пра вакацыі — можа, яшчэ й паедзем разам у Фларыду.

Адпачывалі глядзелі T.V.

---

[1] *У шавецкай майстэрні стаяў варштат для вырабу ключоў.*
[2] *Газэта «Беларус».*

**Нядзеля 12 студзеня**

Пасьнедалі позна, бо спалі даволі позна. Я крыху нават памыла бялізны — ручнікі. Пагода добрая.

Селі працаваць з газэтай. Вітаўт парадкуе прывітаньні Бушу і іншыя рэчы на першую старонку. Я — пачала парадкаваць і рэдагаваць усякія допісы й артыкулы. Пазванілі Шук[*елойцю*], каб забраў у Раі матар'ял.

Дзень прайшоў памысна. В[*ітаўт*] крыху прастуджаны.

Вечарам крыху й адпачывалі.

Званіла Надзі, каб яна прыслала матар'ял, што мае [*для газэты*] поштай, бо заехаць да яе, мусіць, ня зможам. Казала, што зьявілася

інтэрв'ю ў газэце пра Галіну і што яна зноў не згадала South River, як мейсца выставаў сваіх карцінаў. Яны ўсе абражаныя.

**Панядзелак 13 студзеня**

Была на працы. Усё добра, але занята. У абед схадзіла ў магазын. Купіла тое-сёе для сумкі, для хаты. Так дзень прайшоў нармальна. Пазьдзеева[1] пайшла раней, і мы ўжо разьвіталіся, бо яна ў сераду ад'язджае.

Пайшла з працы раней — а 5-ай, бо яны цяпер у панядзелкі пачынаюць раней і канчаюць раней — так што я толькі 6 гадзін працавала[2]. Здала Дэвісу гадзіны за мінулыя 2 тыдні — ня будзе шмат. К[*асінца*] няма.

В[*імаўт*] завёз у друкарню матар'ял[3].

Вечарам адпачывала — ужо нічога не хацелася рабіць. Крыху толькі прыгарнула ў хаце перад Галінінай прыборкай[4].

Ага, у друкарні спаткаліся з Алай [*Орса*] і Янкам [*Запруднікам*]. Рашылі, што граматыку[5] будзе выгадней рабіць тут. В. гэтаксама пазнаёміў Мерляка з друкарняй — ён хоча выдаваць свае ўспаміны[6].

---

[1] *Ірына Пазьдзеева — дасьледніца з Масквы, спэцыялістка па «стараверах». Зора зь ёй апублікавала кніжку «Church Slavonic, Glagolitic, and Petrine Civil Script Printed Books in the New York Public Library».*

[2] *Ад часу, калі Зора здала дакумэнты, каб выйсьці на пэнсію, яна працавала пагадзінна і атрымлівала зарплату за адпрацаваныя гадзіны.*

[3] *Чарговы нумар газэты «Беларус».*

[4] *Галіна Макац прыбірала хату.*

[5] *Перавыданьне «Граматыкі» Тарашкевіча.*

[6] *Кастусь Мярляк выдаў свае ўспаміны ў іншай друкарні.*

**Аўторак 14 студзеня**

Раніцай яшчэ крыху рабіла з газэтай. Але хутка пачалі зьбірацца да паездкі. Пагода ня дрэнная.

В[*імаўт*] пайшоў да доктара, а [redacted] ўжо пайшла мыцца й канчаткова зьбірацца. У доктара ня зусім усё ў парадку — ціск павялічыўся, ды яшчэ там нейкая з сэрцам непаладка. Сказаў В., што мусіць згубіць вагу. Усё гэта ад вагі. Выехалі перад 3-яй[1].

Выехалі з крыху напружаным настроем. Але ўжо як пачалі сьнедаць — дык наладзілася і было вельмі прыемна. Пагода не благая. Рашылі на фарму не заязджаць сёньня. Проста ў матэль ды ў A[*tlantic*] C[*ity*]. Праўда, заехалі яшчэ ў магазын — купілі салаты. У А. С. было памысна. В. выйграў 1368 даляраў. Перад 10-ай выехалі, каб яшчэ купіць штось паесьці. Вельмі цёпла.

Адпачывалі добра. Прастуда Вітаўта ўжо крыху лепшае.

---

[1] *Дзень нараджэньня мае маці, дык рашылі крыху адпачыць. Галіна Макац даглядала маці.*

**Серада 15 студзеня**

Прасануліся даволі позна — па нашым стандартам — недзе каля

8-ай. Пасьнедалі і рашылі паехаць на фарму раней. Там усё ня так ужо й блага. Я спадзявалася горшага. Праўда, каўры былі яшчэ мокрыя[1]. Я іх выцягнула на двор. Самыя першыя дзьверы адарваліся — мусіць, ветрам.

Заехалі заплацілі таксу[2] і паехалі ў А. С. Там нeяк нічога надта ня йшло, але крыху адарваліся, крыху пацешыліся. Каля 3-яй выехалі.

Ехалася добра — пахаладала, але сонца. Сталі яшчэ ў нашым прыстанку на каву. Прыехалі хутка пасьля 5-ай. У хаце ўсё добра. Добра прыбрала.

Я яшчэ крыху папрацавала з газэтай, каб заўтра штось занесьці.

Пайшлі ў ложак рана. Я неяк прастудна чуюся.

Званіла Алюньця [*Орса*] наконта Якавенкі[3] — ён просіць яе наладзіць спатканьне з грамадой. Званіў Васіль М[*ельяновіч*] — але я ўжо напоў спала.

---

*[1] Раней лопнулі вадаправодныя трубы.*

*[2] Падаткі.*

*[3] Васіль Якавенка — сустрэча была. Якавенка быў блізкі з пастарам Морам, і мы таксама.*

**Чацьвер 16 студзеня**

Сёньня працую. Прыйшла на працу рана, бо мушу адрабіць згублены час[1]. Атрымала чэк за першыя 3 тыдні — $1076. Ня дрэнна. Пазваніла Вітаўту. Ён мне пазьней адзваніўся, што тэсты крыві вельмі добрыя — усё ў яго ў парадку. Доктар аж сам зьдзівіўся.

У абед схадзіла ў друкарню — занесла рэшту матар'ялаў і забрала, што ўжо было гатовае. Холадна. Я добра намерзлася й стамілася. Прастуда неяк горш стала. Працавалася, праўда, добра — шмат зрабіла. К[*асінца*] яшчэ няма.

Не магла дачакацца, каб уваліцца ў хату. Але дома павячэралі і адпачывалі, дык стала неяк лепей. Пайшлі спаць рана.

Званіла Алюньця — што рабіць з Якавенкам. Толькі павесіў трубку — звоніць сам Якавенка. В. быў зь ім цывілізаваны, але нічога канкрэтнага не абяцаў.

Ага, званіў яшчэ Васіль М[*ельяновіч*] — ён усё яшчэ настроены супраць Я[*кавенкі*]. В., між іншага, сказаў яму пра Peace Corps.

Надзя [*Кудасава*] прыслала матар'ял пра Галіну Кучуру.

---

*[1] Зору запрасілі каталягаваць Rare books — некалькі віленскіх выданьняў. Яна згадзілася.*

**Пятніца 17 студзеня**

Сёньня на працы. Шмат працавала. Кампютэры не працуюць, дык я вельмі інтэнсыўна каталягавала. Шмат зрабіла. У абед схадзіла ў магазын, купіла італьянскую булку.

Пасьля працы зайшла ў друкарню забрала набраныя матар'ялы.

Холадна. Зьмерзла. Стамілася. Чуць дабралася да хаты. Добра — Вітаўт чакаў на астаноўцы, бо я думала, што можа ня быць, можа, Алеся ўжо прывязуць.

Юра прывёз Алеся каля 8-й. Яшчэ крыху пасядзеў з намі пасьля таго, як А. пайшоў спаць.

**Субота 18 студзеня**

Алесь прачнууўся пасьля 7-ай, але я яшчэ-б спала.

Спарадкавалася зь ім. В[*ітаўт*] паехаў па сьняданьне. Прыехаў Юра. Пасьнедалі разам, ды ён з Алесям паехалі дахаты.

Працавала з газэтай.

**Нядзеля 19 студзеня**

Пасьнедалі і я зноў расклалася з газэтай. Зрабіла, што было, але шмат яшчэ не хапае. Крыху яшчэ прыйшлося дапісваць — добра, што было яшчэ нейкага матар'ялу ў запасе. Неяк гэтым разам [redacted] дрэнна разьлічыла.

Гэтак цэлы дзень — то тое, то сёе. Нічога асаблівага не прыпамінаецца.

**Панядзелак 20 студзеня**

Сёньня [redacted] дома — адпачывала.

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. — завезьці матар'ял для газэты. Быў там і Шук[*елойць*] — прывёз сьпіскі ад Раі[1]. Прыехаў ужо пасьля 4-ай, але прывёз набраны матар'ял.

Я ўжо нічога з газэтай не рабіла. Стомленая. Ужо крыху надаела гэтая прастуда.

Вечарам Галіна прывезла старую карычневую машыну — яна купіла новую, а гэтую яшчэ хоча трымаць для брата. Дамовілася зь ёй, каб яна перад прыездам Шупы прыбрала ўнізе.

Зв[*аніў*] Завістовіч з Вашынгтону — назначылі амэрыканскага амбасадара ў Менск[2].

Ага, пазваніла ў Airline, праверыць, ці можна напісаць Belarus Aeroflot. Яны сказалі, што OK. Неяк у мяне зайшоў сумлеў пра гэтую кампанію.

---

*[1] Рая Станкевіч займалася падпіскай на газэту «Беларус». Яна давала сьпісы ахвярадаўцаў і падпісчыкаў.*

*2 Дэйвід Суорц.*

**Аўторак 21 студзеня**

Раніцай зрабіла завіўку.

Працавала з газэтай амаль цэлы дзень.

У міжчасьсі паміж газэтай памыла аж 4 машыны бялізны. Надвор'е было дрэннае, ды й я дрэнна чулася — усё чакала, дык столькі набралася. Завезьлі пасушыць [*бялізну*] і ўзялі на вячэру кітайскае ежы.

Прыйшоў ліст ад Вінцэнта [*з Лужкоў*].

Пачку атрымаў, але лістоў — ні аднаго. Было колькі тэлефонаў, але нічога важнага. Зв[*аніў*] Зап[*руднік*], што матар'ял высылае толькі сёньня — дык і добра, бо для газэты ўжо цяпер хапае.

Вечарам званіў Юра — спатканьне з Данчыкам адклалі на суботу, 1-га лютага. Заўтра прывязуць малога.

Ага, прыйшоў рахунак на электрыку на фарме — $90. Гэта за час, як вада цякла і працавала бязупынна помпа.

**Серада 22 студзеня**

Сёньня працавала.

В[*італт*] завёз яшчэ матар'ял у друкарню. Званіў раніцай Лукашук зь Менску. Прасіў, каб паслалі сьпешна fax на атрыманьне авансу за кніжку[1].

Спаткаліся зь В. у абед і занесьлі fax. Адразу не прайшоў. Мы зь В. схадзілі на абед. А пад вечар пазванілі з FAX, што прайшло[2].

Я прыехала дахаты добра. В. ужо чакаў. Павячэралі.

Хутка прыехаў і Юра з Алесям. Алесь быў вельмі добры. Хутка пайшоў спаць.

Юра яшчэ крыху пасядзеў ды паехаў. Зв. зноў Завістовіч. Атрымаў кнігі — Statehood and Граматыку — што В. яму быў выслаў. З амбасадарам яшчэ ня ўсё выясьнена — група 5-х асобаў паедзе ў Менск уладкоўвацца.

Зв[*аніў*] Шук[*елойць*] — ён яшчэ чэку ад Раі не атрымаў[3].

---

*[1] Пачалася адміністрацыйная падрыхтоўка да друку кнігі «Беларусы ў ЗША». Аляксандар Лукашук на той час быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь», дзе мелася выйсьці кніга.*

*[2] Пасылаўся зьмест кнігі «Беларусы ў ЗША».*

*[3] Заплаціць друкарні. Чэкі выстаўляла Рая Станкевіч.*

**Чацьвер 23 студзеня**

Сёньня зноў працую. Забегалася зусім. Шмат усялякай дробязі — падчышчаю, што было зроблена.

В[*італт*] з Шук[*елойцем*] робяць газэту. В. званіў пару разоў, казаў, што ўсё добра йдзе. Раніцай быў зноў тэлефон зь Менску — не атрымалі другой старонкі. В. занёс у FAX зноў пераслаць. Пазванілі, што пайшло.

Па працы я зайшла зноў да іх — заплаціць.

Прыехала яшчэ перад Вітаўтам. Дождж спыніўся, але на вуліцах вада стаіць. Ішла дахаты сама. Стамілася, намачыла ногі.

Дагледзела маці. Хутка прыйшоў і В. Яны ўсё скончылі. Газэта мае выйсьці або ў пятніцу, або ў суботу.

Званіла Алеся. Яна едзе на лыжы ў Каларада. Усё ў яе добра. Атрымала падвышку $10.000 і $10.000 bonus.

**Пятніца 24 студзеня**

Сёньня дома. Усё яшчэ прастуджаныя. Нічога надта не рабіла.

Направіла FAX. Алеся прыслала нам першы FAX — добра.

Вечарам Lorrain прывезла Алеся. Яшчэ крыху й пагулялі зь ім. Прывезла яна й цэлую скрынку мыла. Далі $100.

Прыехаў Юра, але доўга ня быў, бо паклікалі яго назад у шпіталь.

Алесь хутка пайшоў спаць — без пратэсту.

Я сёньня зрабіла капусты нам на вячэру. З прыемнасьцю зьелі.

**Субота 25 студзеня**

Алесь прачнуўся каля 7-ай. Памяняла яго і дала малачка. Сабралася сама й паехала рабіць прычоску. В[*ітаўт*] ужо даглядае Алеся.

Купіла на сьняданьне. Селі сьнедаць і хутка прыйшла й Лорэйн. Прынесла кветкі — цюльпаны. Паставіла іх, але неяк яны марна выглядаюць, ці не падмерзьлі.

Л. доўга ня была. Мы, як толькі пайшла сястра ад бабкі, паехалі па пакупкі. Спачатку ў Патэрсон на базар — купілі мясное і грушкаў. Больш нічога цікавага ня было. Тады — на каву. Прыемна праехаліся.

Толькі мы сабраліся адпачываць, аж званок у дзьверы. Надзя [*Кудасава*]. Прынесла печыва і... капусты. Крыху пасядзела. Расказала, што Васіль [*Русак*] і Уладыка [*Мікалай*] зьбіраюцца ў Менск. Папярэдзілі яе, што мы зьбіраемся запрасіць іх усіх да нас, калі прыедзе Шупа.

Нарэшце пайшлі адпачываць.

**Нядзеля 26 студзеня**

Пасьнедалі спакойна. Я яшчэ крыху павазілася з гадзіньнікам — нешта не адбівае гадзін. Направіла. Крыху парадкавалася.

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. у [*Фундацыю*] Крэчэўскага. Там маюць спаткацца з Б. Рагулям, зь Мерляком, з Зап[*руднікам*], Шук[*елойцем*] і Бартулём, пагаварыць пра сытуацыю з энкэвэдзістамі, як яны трактуюць эміграцыю. Усе незадаволеныя Якавенкам, ягонай роляй у гэтым.

Я рабіла карткі для слоўніка. Мушу пазваніць да сп-ні Пашкевіч, што прапалі яе лісты.

В. прыехаў ня позна. Нічога там надта важнага ня было.

Званіў быў Я. Сурвіла, пытаў пра граматыку, пра «Запісы».

Спаць пайшлі рана. Неяк сьпіцца цяпер.

**Панядзелак 27 студзеня**

Сёньня працавала. Вельмі інтэнсыўна працавала, але неяк чулася прыгнечана. Я шмат мусіла працаваць з кампютэрам, і неяк адчувала сябе, што я стаю ў дарозе да іншых работнікаў.

Я яшчэ ўсё чуюся прастудна. Дамовілася з К[*асінцом*], што буду прыходзіць у чацьвер, калі ёсьць публіка й другія бібліятэкары больш занятыя з публікай, каб нікому не замінаць.

В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — чакае на газэту. Шук[*елойць*] мае прынесьці.

В. прыехаў першы. Спаткаў мяне. Стомленая, але з прыемнасьцю глядзім наперад да заўтра.

Алеся ня прывезьлі, як меліся, — Л[*орэйн*] пазваніла, што ёй адклікалі[1].

Пазваніла Алеся. Яна даехала добра. Кажа, што праграма будзе занятая. Пагода добрая. Выглядае, што яна задаволеная.

---

[1] *Перанесьлі зьмену на іншы тыдзень.*

**Аўторак [redacted] студзеня**

Усталі даволі позна. Выпілі кавы.

Я хутка й пачала зьбірацца. Паехалі адразу-ж, як выехала Магу[1].

Паехалі адразу пад А[*tlatnic*] C[*ity*]. На фарму рашылі заехаць заўтра па дарозе назад.

Купілі яшчэ сабе на вячэру. Заехалі ў матэль.

Добра правялі вечар. Ішло памысна.

Паехалі перад 10-ай, каб купіць яшчэ нешта паесьці. Прыемна павячэралі, адпачывалі. Вельмі прыемна правялі дзень. Прастуда патрыху праходзіць.

---

[1] *Мэдсястра ад маці.*

**Серада 29 студзеня**

Раніцай пасьнедалі. Яшчэ засталася булка.

Паехалі ў А. С. і яшчэ даволі прыемна правялі час.

Заехалі на фарму па дарозе дахаты. Там усё па-старому. Узяла коўдра і яшчэ тое-сёе. Няма патрэбы, каб там адсырэла.

Заехалі яшчэ на каву. Ужо, праўда, адчуваецца настальгія, але стараемся прадоўжыць прыемнасьць. Мелі яшчэ й булку.

У хаце ўсё добра. Добра прыбрала, але неяк я адчула запах затхлы. Можа, мне ўжо здаецца, што ўсё сырасьцю пахне.

Лорэйн званіла, што ў яе амаль ня выйшла праца на сёньняшнюю ноч, але зноў адклікалі.

**Чацьвер 30 студзеня**

Дома. Парадкаваліся.

**Пятніца 31 студзеня**

Дома. Парадкаваліся. Працавалі.

**Субота 1 лютага**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі разам з Галінай і Луізай[1]. Яны хутка й пачалі прыбіраць унізе. Добра павазіліся, але прывялі ўсё да парадку.

Я яшчэ пасьля крыху пераглядзела, што трэба дакупіць, што прынесьці ў пакой.

Я надумалася таксама ехаць на Данчыка. Пасьля 5-ай паехалі

ў South River. Там ужо крыху сабралася людзей, але ўсё-ж можна было спадзявацца болей. Моладзь добра нарыхтавалі яду. Людзі патроху сабраліся — усё больш з S. Riveru й моладзь.

Хутка прыехаў Данчык з сям'ёй. Шук[*елойць*] добра сказаў пра Юру, пра Данчыка. Юра таксама быў вельмі на мейсцы. Усё прайшло прыемна. Данчык крыху й сьпяваў. Падаравалі яму мэмар'яльную дошку.

Ага, адно расчараваньне. Алесь на нас, асабліва на мяне, не зьвяртаў ніякай увагі — нават нейк адхіляўся. Я гэта розумам разумею, што ён быў дызарыентаваны, але ўсё роўна неяк крыўдна.

---

[1] *Галіна Макац і яе дачка Луіза.*

**Нядзеля 2 лютага**

Пасьнедалі.

Крыху парадкаваліся. В[*ітаўт*] рыхтуецца да прыезду Шупы.

Па абедзе прыехалі Юра, Лорэйн і Алесь.

В. і Ю. ўнесьлі стол, што пакінуў Bossy. Якраз добра выйшла, бо столік у пакоі, што прырыхтавалі для Сяргея вельмі малы.

Пагулялі крыху з Алесем, але яны хутка й паехалі.

Пазваніла Алеся. Прыехала добра. Я ёй сказала пра «shower» для Ліды [*Данілюк*] — яна мусіць пойдзе, але яшчэ дамовіцца з Лорэйн.

**Панядзелак 3 лютага**

Раніца неяк прайшла ў зборах. Я, праўда, памыла й бялізну. Пагода добрая.

Зьезьдзілі ў магазын — я яшчэ тое-сёе дакупіла для прыезду Шупы. Прыйшлі чэкі ўсе.

В[*ітаўт*] паехаў на аэрадром каля 3-яй. Я крыху адпачывала.

Прыехалі яны ня позна — я яшчэ іх і не чакала.

Пасядзелі, пагаварылі. Сяргей расказваў пра іх жыцьцё ў Вільні — няцікавае. І ім асабіста цяжка, і, наагул, там беларуская грамада маецца марна.

Пазванілі [*Алексу*] Сільвановічу, каб залагодзіць з кампютэрам. Сяргей хоча адразу-ж пачаць працаваць[1]. Сільвановіч параіў усё-ж пачакаць з купляй. Параіў пазычыць кампютар у Юры — яны маюць Macintosh.

Званілі Лорэйн — усё ў парадку, можна пазычыць. Адно трэба завезьці да Сільв. укласьці кірылічную праграму.

Спаць пайшлі ня позна — бо ўсе стомленыя.

---

[1] *Сяргей Шупа прыехаў перакласьці з ангельскага арыгіналу і набраць тэкст кнігі «Беларусы ў ЗША».*

**Аўторак 4 лютага**

Сяргей прачнуўся рана, але мы ня чулі. Пакуль мы ўсталі, ён там ужо сам парадкаваўся, зрабіў сабе кавы.

Тады яшчэ разам пасьнедалі. Схадзілі ў Shoprite, купілі крыху яму ежы. У магазын, каб штось купіць з адзежы, ён не захацеў ехаць. Хай крыху агледзіцца.

Тэлефанавалі Юрку Ст[*анкевічу*] — Сяргей хацеў залагодзіць зь ім падпіску на «Нашу Ніву». Аказваецца Юрка ўжо паслаў грошы.

Я зазваніла да Лорэйн, што яны прыедуць па кампютар, і яны паехалі й забралі.

Сяргей дазваніўся й дахаты — паведаміць іх, што даехаў памысна.

Званілі а. Надсону, каб залагодзіў з Верай Рыч, з перакладам Курапатаў.

Пазваніў [*Браніслаў*] Даніловіч, што ня мае яшчэ газэты[1].

Вечарам паехалі да Сільвановіча. Па дарозе заехалі павячэралі. У Сільвановічаў доўга вазіліся з праграмай кірылічнай, але нарэшце залагодзілі. Сп-ня Сільвановіч дала Сяргею штось з адзеньня. Прыехалі дахаты ўжо каля 11-ай. Баліць галава. С[*яргей*] яшчэ працаваў з кампют[*арам*].

[1] *Ён быў адказны за рассылку.*

**Серада 5 лютага**

Сяргей з самага раньня працуе. Мы пасьнедалі. І В[*ітаўт*] хутка й паехаў у N.Y. Залагодзіць з чэкамі. Зрабіць карткі. Я яшчэ падрыхтавала пачку. В. хоча дамовіцца з Адамам, каб зрабіць інтэр'ю з Сяргеем.

Я крыху адпачываю — неяк разбалелася галава.

Упісала ў дзёньнік.

Нарэшце пачала патрохі зьбірацца. Схадзіла ў магазын, бо В. ня вывез машыну з гаража, а сама не хацела вывозіць. Шупа паказаў мне кампютар. Ён ужо шмат зрабіў.

Зварыла вячэру. Хутка прыйшоў і В. Ён усё залагодзіў у N.Y.

Павячэралі, і Шупа пайшоў зноў працаваць.

Л[*орэйн*] прывезла Алеся. Пазьней прыехаў і Юра.

Званіў Максімюк[1], каб дамовіцца аб заўтрашнім спатканьні.

Ага, забрала здымкі — добра выйшлі.

[1] *Ян Максімюк, Сяргееў сябра.*

**Чацьвер 6 лютага**

Сёньня рана спарадкавала Алеся й пачала зьбірацца на працу.

Дзень прайшоў нармальна, але вельмі занята. У абед прыйшла тая маладая жанчына зь Менску, што званіла — Марына Курылава. Крыху пагаварыла зь ёй. Яна стараецца гаварыць па-беларуску, але відаць, што ёй гэта цяжка. Нічога канкрэтнага я ёй не магла дапамагчы, але дала адрас Tolstoy Foundation.

Атрымала чэк — $616.00.

Падбегла яшчэ ў магазын і купіла Panettone[1] — якраз было на распрадажы. Купіла аж 3, бо будзе машына.

Спаткалася з В[*ітаўтам*] і Сяргеем пасьля працы й паехалі да Максімюка. Там спачатку павячэралі, а пасьля ён запісваў нашыя ўражаньні. Я думала, што будзе нейкая справаздача з таго, што ён ужо зрабіў.

Прыехалі дахаты ўжо пасьля 11-ай. Стаміліся.

---

[1] *Італьянская булка, накшталт бабкі.*

**Пятніца 7 лютага**

Сёньня цэлы дзень парадкавалася. Алеся пазваніла, што прыедзе сёньня.

Адносіны зь В[*ітаўтам*] робяцца нейкія нацягнутыя. А гэта-ж яшчэ толькі пачатак.

Памянялі чэк.

Алеся прыехала а 7-ай. Па дарозе на аэрадром перагаварылі.

У Алесі ўсё добра.

Узялі pizza — павячэралі, пагаварылі. Яшчэ крыху паглядзелі T.V. і пайшлі адпачываць.

Пазваніў Сільвановіч — даў расцэнку кампютэра. Будзе каштаваць каля $3.000 — гэта ўжо зь вялікай зьніжкай! Дарага, але трэба браць.

**Субота 8 лютага**

Алесяў[1] дзень народзінаў.

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі ўсе разам і хутка й направіліся з Алесяй у магазыны па пакупкі.

Шупа паехаў у N.Y.

У магазынах купілі тое-сёе — пераважна для Алесі. Купілі для Алесіка падарунак. А[*леся*] купіла й для Ліды [*Данілюк*] на заўтрашні «Shower». Добра правялі час, адно надвор'е нейкае непагоднае — ні-то сьнег, ні-то дождж. Завазіліся, дык трэба было сьпяшацца.

Хутка адзеліся й паехалі да нашых — на Алесяў дзень народзінаў. Там было ОК. Алесь спаў доўга, дык ужо пачалі крыху соўгацца. Як толькі ён прачнуўся — зрабілі цэрымонію з падарункамі й торцікам. Пасьля гэтага мы хутка й паехалі. Яшчэ крыху й адпачылі самі, бо Ш[*укелойць*] прыйшоў даволі позна.

---

[1] *Унук.*

**Нядзеля 9 лютага**

Пасьнедалі ўсе разам. Крыху спарадкаваліся і паехалі з А[*лесяй*], каб абмяняць рэчы ў магазын. Добра справіліся.

Пасьля 1-ай прыехала й Lorrain з Алесям.

Ужо разьвіталіся з Алесяй, бо яна з «Shower» адразу-ж і паедзе дахаты.

Гулялі з Алесям. Каля 4-ай паслала яго спаць, але ён ня мог ніяк уладкавацца. Пасьля пачаў плакаць. [redacted] пайшла да яго й пачула, што трэба яго зьмяніць. Пасьля гэтага ён і заснуў. Праспаў амаль да прыезду Л[*орэйн*]. Юра ня змог прыехаць, як раней меркаваў. Л. прывезла ад Алы нешта для Шупы.

Шупа сёньня цэлы дзень нешта рабіў для сябе. Над кнігай не працаваў ужо ні ўчора, ні сёньня.

Узялі кітайскае на вячэру, але неяк атмасфэра ня была прыемная — прынамсі для мяне.

Пазваніла Зіна Гімпілевіч, каб далі назоў рэфэратаў. Я крыху стала пераглядаць матар'ял аб Багдановічу.

Панядзелак 10 лютага

В[*ітаўт*] і Шупа паехалі ў N.Y. Спачатку ў радыё — Ш. меў даць інтэрв'ю. В. у міжчасьсі зьезьдзіў да дэнтыста. З кнігай зноў не працуецца. З інтэрв'ю нічога ня выйшла. Адам быў заняты з гутаркай з Платонавым, які цяпер у Прынстане. А[*дам*] перадаў нам кнігу Сядуры[1]. Хадзілі яны й да Адамовіча.

Я паехала ў магазын, але нічога ня купіла, толькі нагледзела, дзе можна будзе купіць чаравічкі для Марысі[2]. Трэба будзе разам з Шупам паехаць.

В. прыехаў недзе перад 5-ай. Прывёз шмат матар'ялаў з пошты «Беларуса».

Чакалі на Шупу, але рашылі павячэраць.

Ш. прыйшоў ужо пасьля 9-ай. Павячэраў. [redacted] хутка й пайшла наверх. В. устроіў неспадзеўку — даў Шупу $400 — нібыта што мы разам вырашылі, што трэба пакрыць яму дарогу. Я крыху была заскочана, бо мы гэтага не дыскутавалі.

Я пазваніла людзям аб тым, што ў нядзелю ў нас зьбярэмся.

---

[1] *Кніга пра тэатар.*
[2] *Сяргеева дачка.*

**Аўторак 11 лютага**

В[*ітаўт*] з Ш[*упам*] працуюць над кнігай.

Я спарадкавалася, як для Галіны прыборкі.

Пазваніў Шук[*елойць*], каб прачытаў яму ліст ад Луцкевіча, бо Данчык выязджае заўтра і можа будзе ў Вільні, дык можа што трэба перадаць.

Прыходзіла [*мэд*]сястра. Прыходзіў [*газавы майстар*] з Public Service — а я ўсё яшчэ не адзетая.

В. пайшоў спачатку на пошту. Выслаў Randow [*у Нямеччыну*] кнігу Сядуры і Трыстана, а пасьля да доктара. У доктара значна лепей. Настрой у В. паправіўся.

Паехалі недзе перад 3-яй. Ехалася добра. Пагода прыгожая. Цёпла.

Заехалі на яду. Тады ў матэль. І каля 6-ай былі ў A[*tlantic*] C[*ity*]. Там было даволі памысна. Прыемна правялі вечар.

Але спалася неяк блага — было шумна. Я раніцай чулася ня выспаная.

**Серада 12 лютага**

Пасьнедалі. Пачалі патроху зьбірацца. Крыху пасьля 10-ай былі ўжо ў А. С. Спачатку пайшло добра, але ўжо па-паўдні пачалі думаць пра дарогу назад і неяк нецярплівіцца. Заехалі на фарму. Там усё па-старому — не пагоршала. Я крыху падабрала ў кухні, але В[*ітаўт*] пачаў нэрвавацца, дык я пакінула й паехалі.

Па дарозе сталі яшчэ на каву, але ўжо настрой ня той. Дыскутавалі яшчэ, што будзем рабіць з фармай, як і дзе будзем асядаць пасьля Rutherford. Прыехалі дахаты пасьля 4-ай.

В. спарадкаваў маці і хутка паехалі нешта перакусіць. Я крыху неяк напружана чуюся, і думаю, Шупа гэта адчувае. Пераглядала пошту. Вельмі няцікавы ліст Яновіча пераслаў Найдзюк. Той крытыкуе «Беларуса». Пазваніла Зап[*рудніку*] — запрасіць на нядзелю. Пазваніла Лорэйн — заўтра прывязуць А[*леся*]. Пазваніла да асобы, што заказвала абвестку пра самалёты ў Менск. Яны хочуць зноў абвестку даць.

Званіла Алюньця, каб купіць білеты ў опэру. Я параіла ёй пачакаць — пагаварыць з хлапцамі[1]. Пайшла спаць рана.

---

[1] *Шупам і Максімюком*

**Чацьвер 13 лютага**

Сёньня працую. К[*асінца*] няма.

Купіла яшчэ булкі.

**Пятніца 14 лютага**

Нічога нешта.

**Субота 15 лютага**

Зрабіла прычоску.

Купіла што трэба для заўтра.

Памыла бялізну. Пагода ня добрая — трэба было везьці сушыць. Заклалі бялізну ў сушылкі і паехалі купіць калбасы.

Прыехалі назад — аж няма электрыкі — усё стала ў нашым раёне. Цэлыя поў-гадзіны былі бяз электрыкі.

Забрала нарэшце бялізну. Дакупіла яшчэ сёе-тое.

Шупа ў N.Y.

Адварыла мяса на начынку й зварыла добры суп. Павячэралі. Рэшту дала Ш[*упу*], як прыехаў.

Нешта сталася з кампютарам, і Ш. шмат згубіў матар'ялу. Вазіўся цэлы вечар — крыху ўстанавіў.

В. вельмі расстроены. Я гэтаксама пачынаю хваляваццa.

**Нядзеля 16 лютага**

З самай раніцы пачала кухарыць.

**Серада 19 лютага**

Працую над газэтай. Шмат сабралася матар'ялу.

Вячэралі ў Candelwick[1]. Добра правялі вечар.

---

[1] *Рэстаран.*

**Чацьвер 20 лютага**

Сёньня працую. Атрымала чэк — $924! Але гэта ўжо апошні такі вялікі. Цяпер будуць скрамнейшыя, бо буду працаваць толькі раз на тыдзень.

На працы было даволі занята. К. Кобленц[1] — нарабіла шмат заўвагаў. Трэба перапраўляць. Хадзіла гэтаксама ў Rare Books Div.[2] Так што за цэлы дзень зрабіла вельмі мала.

К[*асінец*] нейкі ня выразны.

Зрабіла хегох прапанаваных мікрафішкаў бел. газэтаў, што прывёз Шупа. На жаль, цяпер нашая бібліятэка нічога ня можа купіць.

У абед зьбегала ў друкарню. Забрала гатовае й пакінула для набору матар'ял. Гатовы будзе толькі заўтра[3].

Ліст ад Валі [*зь Менску*]. Яна піша, што купілі за прысланыя грошы. Добра, што ўсё ў парадку атрымала. Просіць асьпірыну.

Якраз-жа добра — можна будзе перадаць з Васілём [*Мельяновічам*].

Пазванілі ім — ён згодны. Галіна [*Русак*] прасіла прывезьці ёй і кніжкі — яна ўсё яшчэ гуляе з бібліяграфіяй.

Шупа а 2-й паехаў зноў у N.Y.

---

[1] *Каця Кобленц — нямецкага паходжаньня, бібліятэкар, спэцыяліст па рэдкіх кнігах. Зора зь ёй добра пасябравала.*

[2] *Аддзел рэдкай кнігі.*

[3] *Праца з газэтай «Беларус».*

**Пятніца 21 лютага**

Пазваніла ў друкарню — матар'ял будзе гатовы толькі пасьля 3-яй[1].

Пагода прыгожая.

Крыху парадкавалася. Крыху рабіла карэкту таго, што прынесла ўчора.

Памыла бялізну.

Зьезьдзілі ў магазын, каб купіць тое-сёе. Перадамо з Васілём нешта для Валі.

А 2-ой я паехала да доктара нажнога, а Вітаўт у N.Y.

Пасьля доктара ўжо нічога надта не рабіла.

В. прыехаў каля 5-ай. Перакусіў і паехалі яны з Сяргеям [*Шупам*]

да Русакоў. А я адпачывала — добра, што адна, спакойна. Праўда, ужо пачала крыху хваляваецца, што іх позна няма. Яны затрымаліся, бо там былі Русакі зь N.Y.

Званіла Надзя [*Кудасава*] — я ёй сказала, што ня прыедзем да яе — занятыя.

Зв. Юра. Яны рассылаюць запросіны на Сакавік. Прывязе мне ў суботу ці нядзелю, каб уставіць у газэту.

---

[1] *Газэта «Беларус».*

**Субота 22 лютага**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі і пачала рабіць газэту.

В[*ітаўт*] займаецца сваім. Сяргей працуе.

Я вельмі інтэнсыўна працавала да якой гадзіны 2-ой. Праўда, былі перапынкі — тэлефоны. Нейкі Марат Юхнавец[1].

Зв[*аніла*] Алюньця. Яна заклапочаная, што праца над кніжкай ідзе памалу[2]. Дамовіліся, што яна адаб'е зробленае Максімюком у Сільвановіча, каб праверыць, што й як зробленае. Дамовіліся гэтаксама спаткацца ў суботу ў бібліятэцы, каб пераглядзець здымкі для ўключэньня ў кнігу. Гаварылі гэтаксама пра паездку ў Кліўленд.

Па абедзе С. паехаў зноў у N.Y.

Я яшчэ крыху працавала з газэтай[3]. Усё, што магла, зрабіла — застаецца пакінутае для абвесткі пра Сакавік — Юра, Раін артыкул і кавалачак для зацемкі, што напіша Сяргей.

С. прыехаў ня позна. Купіў «Macintosh Bible» і... Bel.-Eng./Eng.-Bel. слоўнік, выдадзены ў 1992 г. нейкімі няведамымі асобамі ў N.Y. Вось дзіва!

---

[1] *Зь Менску, пляменьнік Янкі Юхнаўца.*

[2] *Ян Максімюк працаваў над гісторыяй Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне.*

[3] *Скончыла перадавіцу да сакавіковага нумару «Беларуса» (№ 388, Сакавік, 1992):*

**25-га САКАВІКА — АСНОВА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ**

Вось ужо 74-ты год, 74-вясна, як мы — нашыя дзяды, бацькі, мы самыя, нашыя дзеці і ўнукі сьвяткуем угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткуем, бо верым у ідэю, якая была сфармуляваная нашымі дзяржаўнымі мужамі й зарэгістраваная ў пастулятах гэтай незалежнасьці — ва Устаўных Граматах. Мы з пашанай і настойліва несьлі, перахоўвалі і гадавалі гэтую ідэю. У сьвятле восеньскіх падзеяў мінулага году, ідэя гэтая набыла больш ясную, сьветлую ахварбоўку — прыняла колер надзеі, зьдзейсьненьня. Незалежнасьць сталася больш рэальнай.

Які-ж цяпер стан? Ёсьць дзьве праклямацыі Незалежнасьці: адна абвешчаная 25 Сакавіка 1918 году, другая — 25-га Жніўня 1991 году. Ёсьць тры дакумэнты, фактычна зборы дакумэнтаў, якімі гэтыя незалежнасьці былі пацьверджаныя й замацаваныя, а менавіта: Тры Устаўныя Граматы Беларускай Народнай Рэспублікі, Праэкт Дэклярацыі прапанаваны Беларускім Народным Фронтам і Канстытуцыя (Асноўны закон) Рэспублікі Беларусь.

А што-ж далей, шмат хто лягічна спытае?

І, каб ведаць, куды кіруецца нашая краіна і чаго можна спадзявацца, неабходна прастудыяваць гэтыя дакумэнты.

Устаўныя Граматы, асабліва Другая Устаўная Грамата, дзе ў 8-ёх пунктах пастанаўляецца аб «дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў», якія былі канчальна зацьверджаныя 25-га Сакавіка 3-яй Устаўной Граматай — кароткія, але вельмі станоўчыя акты, што выказалі асноўныя формы і структуру дзяржаўнасьці.

У Праэкце Дэклярацыі аб Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі, прапанаванай БНФ, гэтаксама вельмі станоўча [redacted] коратка пацьверджваецца незалежнасьць Беларусі на аснове 3-яй Устаўной Граматы БНР і фармулююцца свае азначэньні незалежнасьці.

Канстытуцыя (Аснаўны Закон) Рэспублікі Беларусь, прапанаваная 11-га лістапада 1991 году — абшырны, дэталёвы дакумэнт, які апіраецца на «шматгадовую гісторыю разьвіцьця беларускай дзяржаўнасьці» і аддае «належнае пошукам справядлівага грамадзкага ладу на старажытнай зямлі Беларусаў, якія знайшлі адлюстраваньне ў Статутах Вялікага Княства Літоўскага, Статутных Граматах БНР», і г. д., выказаў І. Асновы канстытуцыйнага ладу, ІІ. Асноўныя правы, свабоды й абавязкі грамадзтва, ІІІ. Законы выбарчай сыстэмы й рэфэрэндум, IV. Заканадаўчы, выканаўчыя й судовыя ўлады і г. д.

Чым-жа падобныя ўсе названыя дакумэнты і чым яны розьняцца, на наш пагляд.

Амаль усе пункты закранутыя ў трох Устаўных Граматах БНР адлюстраваныя ў праэктах Даклярацыі Незалежнасьці і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Крыху, праўда, ня выразнае палажэньне аб прыватнай уласнасьці і тут назіраецца разыходжаньне, асабліва, што тычыцца ўласнасьці на зямлю. Паводле 7-га пункту Другой Устаўной Граматы, «Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць». У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь зазначаецца толькі, што «Дзяржава гарантуе кожнаму права ўласнасьці».

Важна зьвярнуць, аднак, асаблівую ўвагу на дзьве справы, і то вельмі важныя, радыкальныя, якія мы знаходзім у 3-яй Устаўной Грамаце і якіх няма ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта:

«Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў васобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі. **На моцы гэтага трацяць сілу ўсе дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларускі народ трактат у Берасьці...»** — інакш кажучы, парываюцца дзяржаўныя сувязі з Масквой.

І другое, «**Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ**, а ўласьне Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Горадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных часьцяў суседніх губерняў, заселеных беларусамі» — усю беларускую этнаграфічную тэрыторыю. Аб гэтых вельмі важных пунктах дакумэнт 1991 году не згадвае!

Аднак важнае таксама ня толькі, якія пункты ўключаныя ў Канстытуцыю, але як гэтыя законы і ўмовы дагледжаныя Урадам Рэспублікі Беларусь, які, паводле канстытуцыі, зьяўляецца «вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам Рэспублікі Беларусь» і мае даглядаць, як гэтыя законы выконваюцца.

Што-ж назіраецца ў рэчаістасьці? Расейская мова пануе ва ўрадавых колах, дазвол на прыезд у Беларусь усё яшчэ трэба атрымваць з Консуляту Расейскай Фэдэрацыі, ды галоўнае, рэфэрэндум, які намагаецца правесьці апазыцыя на чале з Народным Фронтам і які прадбачыцца па канстытуцыі, — гамуецца.

Вось-жа падсумоўваючы ўсё сказанае, нашае становішча пры цяперашнім стане рэчаў, гэткае:

Мы салідарызуемся з нашым народам, мы з радасьцяй вітаем і можам адзначаць Незалежнасьць 25-га Жніўня, як важную зьяву ў нашай гісторыі, але мы **сьвяткуем**, як аснову Беларускай Дзяржаўнасьці **25-га Сакавіка — Дзень Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**Зора Кіпель**

**Нядзеля 23 лютага**

Сяргей і Максімюк пайшлі на канцэрт[1].

[1] *Dire Straits. Meadowlands Arena, East Rutherford (заўвага С. Шупы).*

**Панядзелак 24 лютага**

В[*imaўm*] і Сяргей — у радыё.

**Аўторак 25 лютага**

A[*tlantic*] C[*ity*].

**Серада 26 лютага**

Нешта дрэнна сталася з кампютэрам. Сяргей расстроены.

**Чацьвер 12 сакавіка**

Я працавала.

Спаткаліся з Лолай Званаровай — жонкай Конана.

Сяргей і Максімюк паехалі ў Cleveland.

**Панядзелак 16 сакавіка**

Сяргей прыехаў з Кліўленду. Max[1] — застаўся там і паехаў у Detroit.

В[*imaўm*] занёс Лоле кніжкі й падарункі.

[1] *Макс — мянушка Яна Максімюка.*

**Аўторак 17 сакавіка**

Сяргей — на парад[1].

[1] *Дзень Сьвятога Патрыка ў Нью Ёрку.*

**Чацьвер 19 сакавіка**

Сяргей паехаў у Каліфорнію[1].

[1] *На сьвяткаваньне 25 Сакавіка.*

**Аўторак 24 сакавіка**

A[*tlantic*] C[*ity*].

**Серада 25 сакавіка**

Сяргей вярнуўся з Каліфорніі.

**Нядзеля 29 сакавіка**

Сакавік у нас[1].

[1] *У Нью Ёрку, Нью Джэрзі.*

**Нядзеля 12 красавіка**

Пасьнедалі й паехалі ў South River. Па дарозе заехалі яшчэ на могілкі. Спаткаліся там з Максімюком. Зайшлі яшчэ на каву пад царквой. В[*imaўmy*] стала ня добра. Ён папрасіў Rollaids, але не палягчэла.

Паехалі да Надзі [*Кудасавай*]. Там быў Запруднік. Пазьней прыйшлі й Русакі. В. чуецца зусім ня добра. Прылёг у Надзі. Зблякнеў. Надзя параіла паехаць у шпіталь. Я, прызнацца, ня думала, што гэта патрэбна, але для яе спакою рашылі паехаць. Там пакуль прынялі, пакуль палажылі, узяло шмат часу. В. усё яшчэ дрэнна чуецца, але як далі кіслароду — палягчэла. Доктар вырашыў, што гэта нястраўнасьць і хутка й выпісалі.

Прыехалі зноў да Надзі, але ўжо нічога ня клеілася — ні гутарка, ні гасьціны.

Зборку, якую мелі рабіць у нас, — адклалі. Адно толькі не было магчымасьці паведаміць Алу [*Орсу*]. Шупа і Мах засталіся ў Надзі — мусіць, паедуць з Зап[*руднікам*] у N.Y.

Дома нас ужо чакалі Лорэйн і Юра з Алесем і Ала. Яна доўга чакала, аж пакуль ня прыйшлі нашыя. Пасядзела яшчэ крыху — але бачыла, што В. чуецца ня добра, дык хутка й паехала. [redacted] вельмі нялоўка сябе адчувала дзеля ўсёй гэтай завірухі, бо і ёй не выпадала было спатыкацца сёньня і ў нас такое выйшла.

Надзя і Васіль [*Русак*] прывезьлі Шупу.

**Панядзелак 13 красавіка**

Пасьнедалі ўсе разам: Галіна [*Макац*], Сяргей.

Галіна — [*памыла*] вокны. Вельмі прыемна пагаварылі.

В[*ітаўт*] чуецца ня дрэнна. Схадзіў да доктара — усё добра. Мы былі зусім і супакоіліся.

Яны цэлы дзень з Сяргеем працуюць.

Я цэлы дзень з вокнамі, з фіранкамі правазілася. Стамілася.

Працуюць вельмі інтэнсыўна[1].

---

[1] *Над кнігай «Беларусы ў ЗША».*

**Аўторак 14 красавіка**

В[*ітаўт*] у радыё паехаў.

Там яму Адам сказаў, што ён неяк жоўта выглядае.

Стала й [redacted] да яго прыглядацца — так, нібы нейкая жаўціня, але [redacted] думала, можа, гэта ад таго, што яму нейкія там тэсты рабілі, нейкія пігулкі давалі.

Яны цэлы дзень яшчэ працавалі.

Схадзілі на pizza у Mama Rosa.

**Серада 15 красавіка**

Сястра[1] — сказала, што В[*ітаўт*] мае жаўтуху.

---

[1] *Мэдсястра, якая наведвала маю маці, сказала, убачыўшы мяне, што ў мяне жаўтуха.*

**Чацьвер 16 красавіка**

Працую.

В[*ітаўт*] да доктара.
Провады Максімюка[1].

---

[1] *Вяртаўся ў Польшчу.*

**Нядзеля 19 красавіка**
Выязджае Сяргей[1].

---

[1] *Вяртаўся ў Літву.*

**Панядзелак 20 красавіка**
Рэзультат ад доктара — у В[*ітаўта*] гэпатыт[1].

---

[1] *Самая лёгкая форма — жаўтуха — відаць, заразіўся ў рэстаране. Блізкім трэба было зрабіць уколы. 6 тыдняў, пакуль пройдзе. Дыета — тварог.*

**Чацьвер 23 красавіка**
Перад працай зрабіла ўкол.
Працавала.

**Нядзеля 26 красавіка**
Вялікдзень.

**Панядзелак 11 траўня**
Пазваніў доктар — В[*ітаўт*] ОК. Усё можна рабіць. Усё есьці — толькі ня піць алкаголю[1].

---

[1] *Алкаголь можа выклікаць ненармальнасьці ў печані. Спыніў зусім ужываньне алкаголю!*

**Пятніца 29 траўня**
Я крыху рыхтавалася. Зрабіла пасху сырную.
Лорэйн зробіць хрэн.
Бараніну буду пячы ў нядзелю.

**Субота 30 траўня**
Зрабіла прычоску. Прыехала Лорэйн і мы паехалі спатыкаць Алесю. Алесь астаўся зь Юрам, але Юра ня быў пэўны, што яго не паклічуць на працу.

Спаткалі Алесю й паехалі ў Flemington. Здалі шубы[1]. Там нам добра паводзілася. Купілі й для Алесі й для Алеся для маленькага нешта. Ну, зразумела, і для Вітаўта, і нешта для мяне — гэта ўжо будзе лічыцца падарунак мне ад дзяўчат на мой дзень народзінаў. Крыху марасіць дождж.

Паабедалі і рашылі пазваніць дахаты — як там. Аказваецца, Юру ўсё-ж паклікалі, і ён прывёз малога да Вітаўта. Мы хутка й выехалі. У хаце ўсё добра. В. добра спраўляецца з Алесям.

Паехалі яшчэ з Алесяй у магазыны, як Лорэйн паехала дахаты. Яшчэ тое-сёе купілі.

---

[1] На летняе перахаваньне і чыстку.

**Нядзеля 31 траўня**

Зрабілі сёньня сабе Вялікдзень — Вітаўтавы народзіны.

Прыехалі Юра і Лорэйн з Алесям. Прыехала Ball[*arine*].

Вельмі было прыемна. Надта добра выйшла бараніна. Былі й падарункі й торцік. Усё як належыць.

Ball. сядзела-б доўга, але мы яшчэ хацелі з Алесяй паехаць у Secaucus — абмяняць Вітаўтаў пінжак. Добра ўдалося абмяняць — хоць цэтліка й ня было — недзе я загубіла.

Дождж даволі вялікі быў час-ад-часу, але мы ўсё што трэба зрабілі. Ball. паехала з намі і там і засталася.

Прыехалі дахаты мы з Алеськай толькі.

Крыху перакусілі і Алеся пачала зьбірацца дахаты [*ў Вашынгтон*].

Завезьлі Алесю на аэрадром. Адпачывалі нарэшце самі.

**Субота 6 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Сёньня прыйдзе Галіна. Сабраліся й паехалі. Цэлую дарогу ліў дождж. Затрымаліся ў матэлі ў Absecon. Гатэль нічога асаблівага, але танна.

Паехалі ў А. С. у старое мейсца. Нічога надта ня йшло, але добра правялі час. Ага, я забылася свае бігудзі, дык заехалі ў Shoprite (першы раз пасьля таго выпадку зь Вітаўтам) і купілі. Дождж яшчэ ўсё ліе, хоць і трохі сьцішаецца час-ад-часу.

Вечарам перакусілі курку, што В. неяк узяў на распродаж. Мне неяк зусім не смакавала, але настрой быў неблагі. Пазванілі дахаты — усё ў парадку. Пазванілі да Lorrain — там таксама ўсё ў парадку.

**Нядзеля 7 чэрвеня**

Раніцай пасьнедалі там-жа пры матэлі. Вельмі прыемнае сьнеданьне. Распагодзілася. Паехалі ў Plazza — там зусім нічога не пайшло. Трохі нават сапсуўся настрой. Але ўжо на поў-дарозе зноў адчулі настальгію.

Даехалі добра. У хаце ўсё добра. Чысьценька.

**Серада 17 чэрвеня**

Лорэйн да доктара. Мы з Алесям.

Ніякіх зьменаў. Доктар кажа, што, можа, яшчэ й пару тыдняў будзе.

**Пятніца 19 чэрвеня**

Раніцай пазванілі Lorrain — у яе ўсё па-старому.

В[*ітаўт*] паехаў ў Yale на польскую канфэрэнцыю[1] на машыне.

Праз некаторы час, каля 10-ай, Лорэйн звоніць, што ў яе, мусіць, пачынаюцца роды. Пазваніла Юру — Юра прыедзе яе ўзяць у шпіталь. А я — без машыны.

Хуценька пазваніла да Ball[*arine*] — яна яшчэ толькі ўстала — была не адзетая. Але хутка сабралася, прыехала па мяне й мы паехалі забраць Алеся.

У міжчасьсі прыехаў Юра і яны адразу-ж паехалі, а папрасілі суседку, каб паглядзела за Алесям — ён спаў. Спаў ён, як мы прыехалі.

Хутка пазваніў Юра, што яшчэ, мусіць, ня скора будуць роды. Мы забралі Алеся, як ён прачнуўся, і паехалі дахаты. Ball. была вельмі дэлікатная — нават не зайшла ў хату, каб не перашкаджаць. Мы з Алесям добра гулялі. А гадзіне 2-ой звоніць Юра, што ўжо маем другога ўнука — Андрэйку. Усё добра памысна прайшло. Усе здаровенькія. А[*ндрэй*] важыць 8-9lbs[2]. Чорненькія валасы. Юра вельмі задаволены.

Як пазваніў пазьней В., дык я ўжо яго магла прывітаць з другім унукам.

---

[1] *Я быў на канфэрэнцыі ў Yale University, прысьвечанай Віленскаму Унівэрсытэту і Заходняй Беларусі.*

[2] *3,6-4,0 кг.*

**Субота 20 чэрвеня**

Зрабіла прычоску. Прыехаў Юра.

Пасьнедалі і хутка й паехалі да Lorrain у шпіталь.

Алесь ехаў з намі ў машыне, а Юра — сам. Сёньня Галіна [*Макац*] прыйдзе прыбіраць. Купілі яшчэ кветак.

Lorrain выглядае добра. Андрэйка — вельмі мілы, вельмі прыгожыя вусны. Цяжка сказаць яшчэ, якія вочы, але валасы цёмныя й шмат. Зрабілі здымкі, відэо.

Алесік захоўваўся добра, але неяк ціха, як-бы ўжо адчувае, што цяпер увага будзе не на яго аднаго. Мы яго забралі дахаты — ён добра спаў у дарозе — а Юра яшчэ застаўся з Лорэйн.

На версе было ўжо прыбрана. Палажылі Алеся спаць — ён добра спаў.

Галіна хутка справілася з прыборкай.

Мы ўжо тады крыху адпачылі.

**Панядзелак 22 чэрвеня**

Лорэйн прыйшла дахаты са шпіталю.

**Аўторак 23 чэрвеня**

Прыехала да нас Ала. Працавалі над манускрыптам Максімюка[1]. Вельмі добра прадукцыйна папрацавалі. Зрабілі ўсё, што заплянавалі.

Пагаварылі яшчэ і пра «Спатканьне»[2], але аб гэтым яшчэ больш дакладна пагаворым неяк крыху пазьней — спэцыяльна зьбярэмся.

---

[1] *Кніга пра Беларускую гімназію ў Нямеччыне.*
[2] *Спатканьне былых гімназістаў.*

**Чацьвер 25 чэрвеня**

Працавала.

В[*ітаўт*] яшчэ завёз частку матар'ялу ў газэту. Пазваніла ім па абедзе, але яны ня былі пэўныя, ці скончаць усё.

Пасьля працы пайшла ў друкарню забраць, што будзе, і, о, шчасьце! — яны зрабілі ўсё[1].

Вельмі-ж [redacted] была радая, бо гэта значыць, што я змагу да вікэнду зрабіць газэту. Нават калі й прыедзе Алеся — я маю цэлую пятніцу для працы.

---

[1] *Газэта «Беларус».*

**Пятніца 26 чэрвеня**

Цэлы дзень рабілі газэту[1].

---

[1] *У гэтым пэрыядзе вельмі шмат часу забірала газэта. Зора рэдагавала — мы з Шукелойцем дапамагалі.*

**Субота 27 чэрвеня**

Зрабіла прычоску.

В[*ітаўт*] паехаў спаткаць Алесю.

Пасьнедалі й паехалі мы з Алесяй па пакупкі.

Дамовіліся з Lorrain, што яна прыедзе з малымі да нас, а В. і Юра паедуць у N.Y. на зборку. Мы добра з Алесяй правялі час. Купілі тое-сёе.

Мужчыны паехалі даволі рана, бо там мелася яшчэ перад рэфэратам быць нешта. Мы сабе — жанчыны й дзеці — добра пагаварылі, павячэралі. Lorrain паехала дахаты сама, а Юра прывёз Вітаўта даволі позна.

Добра, прыемна прайшоў час. Андрэйка цудоўны — есьць, сьпіць, і яго й ня чуваць. Алесь крыху нібы спакайнейшы, нібы пасталеў. Добра гуляў з Алесяй.

**Нядзеля 28 чэрвеня**

Пасьнедалі.

Хутка й паехалі з Алесяй у магазыны. Купілі трохі і для яе і для мяне. Добра правялі час.

Яна пасьля паехала да Лорэйн, а мы зь В[*ітаўтам*] ужо крыху адпачывалі. Я яшчэ трохі пераглядзела газэту, але асноўнае ўсё было зроблена.

Вечарам глядзелі T.V., але хутка пайшлі спаць — бо набегаліся за гэтыя дні.

**Панядзелак 29 чэрвеня**

В[*ітаўт*] завёз Алесю на аэрадром.

В. завёз матар'ял у друкарню. Там быў даволі доўга.

**Аўторак 30 чэрвеня**

Пачалі зьбірацца, хутка як усталі, бо ўсталі даволі позна.

Я зрабіла каву, усё прыгатавала і, як паехала сястра[1], — паехалі й мы.

Ехалася добра. Зайшлі ў Galloway[2]. Таксаў яшчэ няма. На разбурэньне будынкаў дазвол — такі трэба. Узялі анкеты. Наступны раз заедзем да кантрактара.

---

*[1] Што даглядала за маці.*

*[2] Мясцовасьць, дзе плацяцца падаткі.*

**Серада 1 ліпеня**

Мой дзень народзінаў.

Прыехалі нашыя зь дзецьмі, з торцікам. Крыху разам пасядзелі і яны паехалі, бо ўжо было позна для дзяцей — пара спаць. Дзеці цудоўныя.

Адпачывалі нарэшце самі.

**Чацьвер 2 ліпеня**

Працавала.

В[*ітаўт*] і Шук[*елойць*] выканчвалі газэту. Шмат было паправак, зьменаў, бо ў апошнюю хвіліну ўсё яшчэ былі ўдакладненьні.

Але ўсё залагодзілі. В. паехаў дахаты недзе каля 4-ай. Паднесла яму яшчэ «Panettone», што купіла. У абед схадзіла ў турыстычныя бюро — нямецкія, аўстрыйскія і чэскія — набрала літаратуры, мапаў.

В. паехаў на зборку ў Highland Park — камісія аб праграме[1].

---

*[1] Удакладненьне праграмы Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*

**Пятніца 3 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. — працуюць з Томам [*Бэрдам*]. Пазьняк[1] і «Запісы».

---

*[1] Рэдагаваньне «Курапатаў».*

**Субота 4 ліпеня**

Зрабіла прычоску.

Пасьнедалі.

**Нядзеля 5 ліпеня**

Пасьнедалі.

Пачала я працаваць і нешта заела з кампютарам — ня рухаецца зь мейсца. Пазваніла Сільвановічу. Ён мне параіў, што трэба штось перавесьці на дыскеты — можа, зашмат набралася. Я была выключыла,

тады, як зноў уключыла, — усё зноў пачало працаваць, як нічога ня сталася. Але я перавяла ўсё-ж на дыскет «Chasopisy»[1] — неяк патрафіла. Але далей усё-ж прадаўжала з Hard disk — больш прывычна.

З Сільвановічам былі дамовіліся, што я прывязу кампютар да яго ў панядзелак, дык я ўсё роўна ўжо зь ім параюся, як і што рабіць і ці добра з раблю.

---

[1] *Разьдзел «Часопісы» з працы «Беларускія друкі на Захадзе».*

**Панядзелак 6 ліпеня**

Працавалі цэлы дзень. Я — сваё, В[*itaўт*] — сваё.

Абмянялі чэк мой у банку.

Вечарам паехалі на паніхіду па Таісе Шчорс[1] — шмат было людзей. Надзя купіла для нас калбасы беларускай. Пасьля заехалі да Сільвановіча з кампютарам. Ён зрабіў мне некалькі дыскетаў, але з Hard disk яшчэ нічога ня выкідалі. Усё, здаецца, добра працуе. Даў ён мне некалькі карысных парадаў, ды й дыскетаў і паперы. Адным словам, зь ім прыемна мець дачыненьне.

---

[1] *Таіса Шчорс — з Барысава, Medical Librarian, жонка Барыса Шчорса. Разумная, сьвядомая беларуска, мы зь ёй заўсёды добра чуліся. Ведалі яе з 1946 году.*

**Аўторак 7 ліпеня**

Крыху парадкаваліся, крыху працавалі.

Пад абед схадзілі ў Regis Travel[1]. Так выглядае, што паедзем недзе каля 21 верасьня, пасьля хрэсьбінаў. Ён яшчэ дакладна даведаецца пра гатэлі, і тады мы ўжо канчальна закажам. На Беларусь ужо хіба сёлета не паедзем. Ад Сяргея няма вестак пра кнігу.

Я працую цяпер ужо з дыскетаў. Скончыла часопісы — кірылічную частку. Была зь В[*itaўтам*] ня зусім прыемная гутарка пра разьмеркаваньне. Я крыху зьмяніла фармат — выглядае ляпей.

Лорэйн паехала на пару дзён з малымі да сваіх бацькоў на поўнач N[*ew*] J[*ersey*].

---

[1] *Турыстычнае бюро.*

**Серада 8 ліпеня**

Зраньня крыху парадкаваліся.

Па абедзе паехалі ў N.Y. — да Алы. Па дарозе яшчэ думалі залагодзіць з чэкам, што прыйшоў з Ангельшчыны[1]. Не знайшлі нідзе банку Barkley.

Прыехалі пад хату Орсаў яшчэ зарана — Алы яшчэ ня было. Пад'ехалі пад магазыны — купілі вішняў. Хутка прыехала й Ала. Добра папрацавалі. Уставілі праграму «Сустрэчы»[2], пагаварылі пра вонкавае афармленьне — выставу, фатаграфіі, біркі, плякаты. В[*itaўт*] пера-

гледзеў рэчы, якія пакінуў (у парадку) Максімюк. Добра, прадукцыйна прайшоў час. Прыехалі ўжо даволі позна дахаты.

---

[1] *Ахвяраваньне на кнігу «Курапаты».*
[2] *Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*

**Чацьвер 9 ліпеня**

Я працую сёньня, а В[*ітаўт*] таксама ў N.Y. — у радыё. Зробіць слоўнікавыя картачкі.

На рабоце нічога асаблівага. К[*асінец*] даў мне невялічкую інфармацыю пра Прагу. Вечарам узялі кітайскага. Павячэралі й адпачывалі.

Ліст ад Тамары [*Стагановіч*] аб выставе дзіцячых малюнкаў зь Беларусі.

Прыслаў Запруднік шмат матар'ялаў для газэты — ён, відаць, ужо вальнейшы ад свае працы, дык пачынае брацца за другое.

Зрабіла хегох артыкулу з «ЛіМ'у» аб Равенскім — перашлю [*Янку*] Жучку [*у Бэльгію*] — няхай штось робіць. Нейк трэба рэагаваць на тое, што яны неправядлова падаюць[1].

---

[1] *У беларускім друку зьявіліся няправільныя весткі пра Равенскага.*

**Пятніца 10 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. — працуюць з Томам над «Запісамі» і над Пазьняком[1]. «Запісы» выканчваюцца. Пазьняк гэтаксама блізіцца да заканчэньня. Беларускі тэкст ужо набраны. Ангельскі яны з Томам канчаюць сёньня. Яшчэ толькі не хапае ад Very Rich перакладу Пазьняковых артыкулаў [*зь «ЛіМу»*].

Я крыху парадкавалася, але больш адпачывала. Уключыла air-condition.

Сёньня апошні дзень Mary[2], што глядзіць за бабкай. Тым часам будзе Сакора, покуль некага сталага знойдуць.

Пад канец дня пачала парадкаваць слоўнік[3] — даўно ўжо не працавала над ім.

Званіла Lorrain — у іх усё добра. Расказвала, што Алесь цэлую дарогу ад ейных бацькоў капрызіў — не хацеў выязджаць. Вельмі добра там чуўся.

У ягады не паехалі, бо, па-першае, В. у N.Y. і няма з кім пакінуць Андрэйку, а па-другое — вельмі горача.

Званіў Зап[*руднік*] — ён напісаў артыкул для Менску — хоча, каб мы перагледзелі. Гаварыў гэтаксама пра Надзін альбом[4]. Добра, што ён гэтым займецца.

В. прыехаў позна. Павячэралі й адпачывалі.

Ліст ад Мальдзіса, але нічога цікавага.

---

[1] *Кніга «Курапаты».*

*[2] З Аддзелу сацыяльнай апекі.*

*[3] Праца з картатэкай ангельска-беларускага слоўніка.*

*[4] Надзя Кудасава выказала думку выдаць альбом пра беларускія выстаўкі ў Саўт Рывэры.*

**Субота 11 ліпеня**

Зрабіла прычоску. З самай раніцы ўжо горача. Нават зь В[*ітаўтам*] дзеля гэтага перагаварылі, але ўсё наладзілася, як пачалі сьнедаць.

Пасьля сьнеданьня яшчэ крыху пасядзелі з кавай, і паехалі па пакупкі — спачатку мне трэба было тое-сёе купіць для сябе, а тады ў Paterson, па фрукты. Накуплялі ўсяго поўна.

Цяпер крыху неяк на двары пасьвяжэла — вецярок, дык я выйшла пасядзець і пачала запісваць дзёньнік. Даўно ня пісала — шмат чаго здарылася. Шкада, што не запісвала, цяпер будзе цяжка ўстанавіць, але тое-сёе паспрабую.

Пагода выпала зусім прыемная, і я даволі доўга й прыемна прабыла на двары. Шмат запісала.

Званіла Надзя — запрасіла да сябе на пікнік у наступную нядзелю. Казала, што гаварыла з Зап[*руднікам*] пра альбом. Яна думае, што ўмельцаў небясьпечна ўстаўляць — надта-ж будзе шмат.

**Нядзеля 12 ліпеня**

Пасьнедалі. І хутка пачалі ўжо й зьбірацца.

Юра прыехаў з Алесем пасьля 10-ай. Мы ўжо яго чакалі.

Ехалася даволі памалу — быў нейкі выпадак на дарозе, але гэта для нас было на руку, бо Алесь даўжэй паспаў. Ён быў усьцешыўся, як пад'ехалі яны пад хату — думаў, што ўжо прыехаў да нас, а тады крыху засумаваў, як убачыў, што мы ўсе едзем некуды далей.

Прыехалі пад царкву недзе пасьля 11:30. Усе ўжо пікнікавалі. Мы хоць есьці й не хацелі, але білеты купілі і ўзялі адну порцыю — ■ думала, Алесь, можа, штось зьесьць. Ён быў даволі сарамлівы — да нікога не хацеў ісьці. Былі й на двары і ў сярэдзіне. Крыху пачаў марасіць дожджык.

Былі там нейкія нарады — усё падрыхтоўка да Сустрэчы. Мы; прынамсі я, адчувалі сябе неяк не на мейсцы. Зап[*руднік*] даў матар'ялы для газэты, пра альбом і свой рэфэрат.

Зьезьдзіла з Азаркамі й Галінай [*Русак*] у Hyatt[1] паглядзелі пакоі. Вельмі спадабалася.

Хутка й пачалі зьбірацца дахаты. Добра даехалі. Крыху яшчэ пабылі ў нас. Аддалі Юру гарбуз. Ю. і Алесь незадоўга й паехалі.

Адпачывалі. В. яшчэ напісаў скрыпт [*для радыё*].

---

*[1] Гатэль, дзе плянавалася Сустрэча.*

**Панядзелак 13 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў у N.Y. у друкарню здаць у друк уступ да [*«Граматыкі»*] Тарашкевіча і ў радыё. Спаткаўся там з Шук[*елойцем*]. Званіў

Dawson[1] — хацеў парады пра бел. кніжкі для некага на працы. Запрасіла яго на суботу на зборку.

В. прыехаў ня позна — Адама ня было, дык ён скрыпту не нагаварыў.

Перакусілі крыху.

Выйшлі на двор. В. — косіць, а я пішу дзёньнік.

---

[1] *Чытач бібліятэкі, цікавіўся беларускімі матэрыяламі.*

**Нядзеля 19 ліпеня**

Сёньня крыху ўжо цяплей, трэба ехаць да Надзі, а air-condition не напраўлены — В[*ітаўт*] павязе толькі ў аўторак.

Раніцай яшчэ пераглядзелі артыкул Зап[*рудніка*], каб зь ім прадыскутаваць.

Паехалі да Надзі недзе пасьля 11-ай. Ехалася добра з адкрытымі вокнамі.

Там было даволі прыемна. Спачатку пагаварылі з З. — ён згадзіўся з нашымі заўвагамі. Прыемна перакусілі, гаварылі. Былі ў яе яшчэ Махнюкі, Літаровічы, Русакі і іхны дзячок (беластоцкі). Пра адозву для альбому часу ня было й пагаварыць.

**Серада 22 ліпеня**

Машыны яшчэ няма, а сёньня нам ехаць у N.Y. да рахункавода.

Рашылі ўсё-ж ехаць. Пагода ня дрэнная. Паехалі аўтобусам, мэтро, пехатой. Адным словам — прыгода. Але ўсё было памысна. Там залагодзілі добра справу. Такса[1] ад продажу дому дзейная на 2 гады і ўзад і наперад. Вельмі гэта добра — гэта дае нам магчымасьць камбінаваць. Але мы рашылі тым часам нічога не распачынаць. Пакуль маці жыве — будзем трымацца тут[2]. А тады будзе відаць. Пэнсіённыя грошы ён не рае забіраць — хай ляжаць пакуль што — пакуль не патрэбныя.

Прыехалі дамоў ня позна. Узялі кітайскага. Перакусілі і адпачывалі. В[*ітаўт*], праўда, працуе яшчэ. Піша скрыпт, упарадкоўвае «Запісы», рыхтуе артыкул для «Нёмана» [*пра беларусаў у ЗША*], перадаць з Зап.[3]

---

[1] *Падаткавыя льготы.*

[2] *У Ратэрфордзе.*

[3] *Запруднік зьбіраўся ехаць у Менск.*

**Чацьвер 23 ліпеня**

Сёньня на працу. В[*ітаўт*] таксама едзе пазьней у N.Y.

На працы ўсё добра. Атрымала чэк на $1300. Праўда, неяк ня спорна йшло — цяжкія былі кнігі.

Юра[1] пачаў пераглядаць заказы на мікрафішкі беларускіх газэтаў ад Жынкіных. Усё пойдзе праз афіцыйныя ходы.

В. залагодзіў у друкарні з Граматыкай, нагаварыў скрыпт і пасьля 5:30 падышоў пад бібліятэку. Мы памаленьку накіраваліся пад Місію [*Беларусі ў ААН*]. Там ужо было крыху народу. Па дарозе спаткалі групу з South River. Папрыходзілі і папрыязджалі адусюль.

Бураўкін з Юляй і яго заступнік з жонкай прыймалі гасьцей, але ніякай спэцыяльнай урачыстасьці ня было. Было ўсё вельмі чынна й прыгожа. Залагодзілі ўсё што мелі залагодзіць — В. забраў матар'ял ад Тома В[*ird'а*], Запр[*уднік*] падпісаў чэк для друкарні. Юра пагаварыў з мастачкамі пра фанты — абяцалі даць. Я пагаварыла з Тамарай пра выстаўку — яна будзе трымаць кантакт з Бураўкіным.

Хутка й паехалі. Юра падвёз нас і хіба яшчэ й пасьпее пабачыць дзяцей перад сном.

---

[1] *Яўстафіеў, калега на працы.*

**Пятніца 24 ліпеня**

В[*ітаўт*] паехаў у Нью Ёрк, у друкарню. Здаў ужо канчальна граматыку [*Тарашкевіча*]. Даў ім чэк.

Я пачала рыхтаваць матар'ял для газэты. Перабіла артыкул-успамін Арсеньневай пра Гімназію.

Парадкавалася. Званіў зь Менску, што прыедуць 27-га.

В. прыйшоў ня позна. Пасьля 4-ай пазванілі, што гатовая машына. Пайшоў забраць.

Юра з Алесям прыехаў па В. пасьля 6-ай і паехалі на зборку Фонду Адраджэньня. Якраз добра, што пазванілі зь Менску і пераслалі Fax перад зборкай. В. перадаў усё Запрудніку, бо той пачынаў усю справу. В., праўда, зазваніў да Васіля М., каб той імі заапекаваўся ў Вашынгтоне. Званілі і ад Foundation Soros гэтаксама аб прыезьдзе менскіх. З. будзе адзвоньвацца.

Званіла Вярбоўская. Яна, як заўсёды, поўная ўсялякіх плянаў і справаў — хто ведае, колькі там праўды, колькі фантазіі. Кажа, што мае заказ на фільм пра бел. эміграцыю.

Прыехалі яны са зборкі позна. Алесік спаў у машыне. В. кажа, што вельмі добра захоўваўся. Зборка прайшла добра.

**Субота 25 ліпеня**

Зрабіла прычоску. Пасьнедалі.

Я цяпер вось ужо пару тыдняў езджу [*на працу*] сама, бо якраз прыходзіць сястра да бабкі і трэба некаму быць у хаце.

Пазваніла Касінцу, каб пайсьці на працу ў панядзелак — замест чацьвярга. У чацьвер зьбіраемся на Bel-air — там Юра і Co. ладзяць дзіцячы лягер.

Званіў Шуст — ён на Сустрэчу не зьбіраецца — чуецца слаба. Прышле нешта на выстаўку і фанты. Гэтаксама абяцае напісаць штосьці пра Равенскага.

В[*ітаўт*] званіў Жучысе[1] — яна паштоўкі Багдановіча атрымала. Прыедзе з дачкой на спатканьне.

Зьезьдзілі ў магазын — я купіла зямлі й перасадзіла вазон — гібіскус. Пакінула на двары. Можа, прымецца. Цікава, што ёсьць нават ужо бутон.

Званіла Лорэйн — яны прыедуць а 6:30. Зойдуць да нас і Рыкі з жонкай.

Выйшла на двор — пагода надзвычайная. Пішу.

---

*[1] Раісе Жук-Грышкевіч.*

*На гэтым запісы за 1992 спыняюцца.*

*14 сьнежня 1992 году памерла мая маці,* ***Марыя Васільеўна Кіпель*** *(дзявочае прозьвішча Зубкоўская) —* ***14.01.1904 — 14.12.1992.*** *Пахаваная на могілках Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. На помніку Яўхіму і Марыі Кіпелям надпіс: «Я ад вас далёка, бацькаўскія гоні».*

*Бабкі Марыя і Апалёнія вывучылі ўнукаў размаўляць па-беларуску і прышчапілі ім шмат беларускага.*

## *1993*

*З падзеяў 1993 году: у Менску адбыўся І Зьезд Беларусаў Сьвету (8—10 ліпеня), ў Горадні — канфэрэнцыя «Рым IV» (28 чэрвеня — 2 ліпеня). Рыхтаваліся да гэтых падзеяў вельмі шмат.*

*2 ліпеня Гарадзенскі ўнівэрсытэт надаў мне і іншым гасьцям ганаровыя дактараты. У Горадні мы былі з Алесяй.*

**Панядзелак 4 ліпеня**

У гатэлі

Кітайцы

Міліцыянер[1]

---

*[1] Наш пакой быў у гатэлі «Юбілейны» каля кітайскага прадстаўніцтва. Поўна міліцэйскай аховы. Міліцыянты беларускамоўныя.*

**Серада 7 ліпеня**

9:00 Мальдзіс

10 — Бібліятэка

12 — Кніга[1]

Валя

---

*[1] У выдавецтве «Беларусь» толькі што — якраз пад Зьезд — выйшла мая кніга «Беларусы ў ЗША».*

**Чацьвер 8 ліпеня**
Амбасада
Гарэцкі[1]

---

[1] *Паўдня і вечар мы правялі ў сям'і Радзіма Гарэцкага. Шмат гутарак, успамінаў. Мы гутарылі і пра геалёгію — пра маю і ягоную працу ў полі.*

**Пятніца 9 ліпеня**
Мальдзіс

**Панядзелак 11 ліпеня**
Лужкі

## *1994*

**Пятніца 28 студзеня**
Прыехала Алеся — да Юры

**Субота 29 студзеня**
Паехалі дзеці на лыжы

**Пятніца 4 лютага**
Вярнуліся з лыжаў.
А. ў Нью Ёрк. А. прыехала з Аняй і яе мужам.

**Субота 5 лютага**
Flemington. Ales — Party

**Нядзеля 6 лютага**
Паніхіда па Бабцы і ўсіх.
Глядзелі дамы[1]. А. паехала.

---

[1] *Пачалі думаць: прадаць хату. Хата была вялікая, утрымліваць было дорага — падаткаў $12900 за год.*

**Аўторак 8 лютага**
Алесь — Birthday

**Пятніца 11 лютага**
Сьнег. Сядзелі з унукамі ў нас у хаце.
Лорэйн начавала ў N.Y.

**Панядзелак 14 лютага**
Працавала

**Чацьвер 17 лютага**
Працавала — Лявон
артыкулы

**Пятніца 18 лютага**
Надзя — Альбом

**Субота 19 лютага**
Крэчэўскі — БАЗА
Запруднік рэфэрат

**Панядзелак 21 лютага**
B. — taxes
Tom

**Серада 23 лютага**
Las Vegas

**Субота 26 лютага**
Las Vegs — return

**Панядзелак 14 сакавіка**
Здаць газэту

**Серада 16 сакавіка**
Dentist / Work

***Паездка ў Менск 10-19 чэрвеня:***

**Пятніца 10 чэрвеня**
Пазваніць Ганне

**Субота 11 чэрвеня**
Рэфэраты
Ганна? Шупа?

**Панядзелак 13 чэрвеня**
Рэфэраты
Бібліятэка — Ватацы[1]
Канцэрт
Call Hanna

---

*[1] Сустрэліся й зрабілі здымкі зь Нінай Барысаўнай Ватацы. Былі ў яе 2 разы па 2-3 гадзіны. Абмяняліся думкамі. Разам з намі заўсёды была загадчыца Беларускага Аддзелу Нацыянальнай бібліятэкі Людміла Рабок.*

**Аўторак 14 чэрвеня**
Мальдзіс
1:00 Am. Embassy
Ганна? Шупа?

**Серада 15 чэрвеня**
Мальдзіс
Library у абед
Snowden?
Мастак
Канцэрт

**Чацьвер 16 чэрвеня**
10:00 Бібл. Купалы[1]
Lunch — Смулкова?
2:00 Інстытут Гісторыі

4:00 Інстытут Мовазнаўства
6:00 Ібрагім[2]
61-84-93 (Хабай)

---

[1] *Даклад у музэі Купалы: Зорыны ўспаміны зь дзяцінства ў Купалавай кватэры.*
[2] *Вячэралі ў Ібрагіма Канапацкага. Я даў успамін для часапісу.*

**Пятніца 17 чэрвеня**
Пік-нік
Прэзэнтацыя «Беларус»[1]

---

[1] *У Доме Літаратара — пра эміграцкі друк*

**Субота 18 чэрвеня**
Сваякі — Лужкі[1]

---

[1] *Сям'я сабралася й дамовілася праз год-два адзначыць 100-годзьдзе Цёці Нюты.*

**Нядзеля 19 чэрвеня**
Алеся выязджае

**Серада 22 чэрвеня**
А. С.

**Чацьвер 30 чэрвеня**
А. С.

**Нядзеля 10 ліпеня**
Зборка «Беларуса»

**Аўторак 26 ліпеня**
Chic. 9:30

**Пятніца 26 жніўня**
Дзеці

**Панядзелак 29 жніўня**
Галіна

**Чацьвер 1 верасьня**
Дзеці

**Пятніца 2 верасьня**
Канада[1]

---

[1] *Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.*

**Панядзелак 5 верасьня**
Canada back

**Серада 7 верасьня**
Дзеці

**Пятніца 9 верасьня**
Нямеччына

**Субота 10 верасьня**
Вільня[1]

*[1] Былі ў Вільні. Ляцелася вельмі добра. Сяргей і Галіна нас прынялі. Пазнаёміліся і з сп. Зояй. Гутарылі пра бел. адміністрацыю пры немцах, арг. бел. лягераў у 1945 годзе.*

**Панядзелак 12 верасьня**
Галіна

**Аўторак 13 верасьня**
Нямеччына (да 16 верасьня)[1]

*[1] Зь Вільні паехалі ў Нямеччыну да сп. Касмовіч, былі аж да 16 верасьня. Знайшлі тое-сёе для бібліяграфіі бел. друку. Укамплектавалі «Барацьбу».*

**Серада 21 верасьня**
А. С.

**Пятніца 23 верасьня**
Дзеці

**Панядзелак 26 верасьня**
Галіна

**Пятніца 30 верасьня**
Дзеці

**Субота 22 кастрычніка**
Газэта

**Нядзеля 23 кастрычніка**
Газэта

**Панядзелак 24 кастрычніка**
Кансп.

**Аўторак 25 кастрычніка**
Кансп.

**Чацьвер 27 кастрычніка**
L&G An.

**Пятніца 28 кастрычніка**
L&G An.

**Субота 29 кастрычніка**
БІНіМ зборка

**Аўторак 1 лістапада**
Ramapo[1]

*[1] Паехалі на прыняцьцё-вячэру ў Ramapo High School. Гэтая школа гады дапамагае ахвярам Чарнобылю. Сустрэлі нас вельмі гасьцінна, хоць на прыняцьці было і пару сот асобаў. Пазнаёміліся бліжэй і з сп. Сычовым — прадстаўніком Беларусі ў ААН. Наагул вечар прайшоў вельмі ўдала.*

**Серада 2 лістапада**
А.С.?

**Серада 9 лістапада**
Нарадзіўся Антон

**Серада 16 лістапада**
Спатканьне з Грыбам[1]

[1] *Сустрэліся ў памешканьні прадстаўніцтва ААН з сп. Мячыславам Грыбам. Арганізатарам сустрэчы быў Лявон Яўменаў, зь якім мы былі ўжо знаёмыя. Грыб запэўніваў, што незалежнасьць Беларусі — нетрывалая (???). На зборцы быў таксама нехта А. Корбут, вайсковец, які ўдасканальваецца ў адным з амэр. вайсковых коледжаў.*

**Субота 19 лістапада**
Зборка Слоўнік[1]

[1] *Зборка Слоўнікавай сэкцыі.*

**Нядзеля 20 лістапада**
Газэта[1]
B. N. Br.

[1] *Працавала на чародным выпуску нумара «Беларуса».*

**Чацьвер 24 лістапада**
Алеся

**Субота 26 лістапада**
Васіль

**Нядзеля 27 лістапада**
А. С.

**Нядзеля 4 сьнежня**
Calif.

**Нядзеля 11 сьнежня**
Calif. back

## *1999*

**Панядзелак 8 сакавіка**
Чуюся прастудна. На працу не пайшла. Рыхтуюся да Флярыды.

**Аўторак 9 сакавіка**
Слоўнік. Два супы. У А. С. Добра яшчэ правялі час.

**Серада 10 сакавіка**
Усталі вельмі раненька — недзе а 5-ай. Усё добра залагодзілі.
У Orlando прыляцелі пасьля 10-ай. Bal[*larine*] і Марсэла нас ужо чакалі.

Пагода добрая. У яе ОК. Але ўжо пад вечар зразумелі, што гэтых пару дзён будзе досыць.

**Чацьвер 11 сакавіка**

Зьезьдзілі з Ball[*arine*] у магазын. Купіла сабе кароткія штаны і блюзачку.

**Панядзелак 15 сакавіка**

Раніцай ужо не сядзелася — хваляваліся, бо там казалі, што сьнег.

Выехалі на аэрадром рана. Усё залагодзілі і чакалі, але было прыемна. Прыехалі ў А. С. каля 9-ай. Яшчэ й пагулялі крыху.

**Аўторак 16 сакавіка**

Пасьнедалі, крыху пагулялі і паехалі дахаты.

У хаце ўсё ў парадку. Кнігі на вэрандзе пастаўленыя. Пошты ня так і шмат было. Аддалі суседзям падарункі.

**Серада 17 сакавіка**

Паехалі з Лорэйн на Fashion Luncheon. Было вельмі прыемна — добрая пагода.

**Субота 20 сакавіка**

В[*ітаўт*] на зборцы БНР.

**Нядзеля 21 сакавіка**

Сакавік. Было добра — раздавалі і прадавалі кнігі бацькоў. Прыехалі і дзеці.

**Панядзелак 22 сакавіка**

Працавала.

Людміла аддала артыкул. Зрабіла каляров. xerox.

Спаткалася з Вал. Мыцько. Віт[*аўт*] таксама быў у N.Y. — залагодзіў банкаўскія справы.

**Аўторак 23 сакавіка**

Здалі пачку для жонкі Пазьняка — кнігі.

Зборка слоўніка.

**Нядзеля 25 красавіка**

Party

**Чацьвер 29 красавіка**

Anton

**Пятніца 30 красавіка**

Anton

**Панядзелак 24 траўня**

Vacation

**Пятніца 28 траўня**

Home

**Субота 5 чэрвеня**

L & G

**Субота 3 ліпеня**
Xxxxx — Jarrai — boy — Avalon

**Чацьвер 8 ліпеня**
Home

**Субота 14 жніўня**
N. C. Trip Kipels xxxxxxx

**Субота 21 жніўня**
home from N. C.

**Серада 22 верасьня**
Closing — Rutherford
New York — check
Прывезьлі мэблю.
Ballerine — Birthday

**Чацьвер 23 верасьня**
Bank — N.Y.cn.dfh
Closing — Toms River
Пачкі — Валі, Арлову
Insurance

**Пятніца 24 верасьня**
Юра?

**Субота 25 верасьня**
Саўка?
Юра — Дзень народзінаў

**Нядзеля 26 верасьня**
Саўка?

**Панядзелак 27 верасьня**
Obedzinski

**Аўторак 28 верасьня**
Movers — Packing

**Серада 29 верасьня**
Moving

**Чацьвер 30 верасьня**
Алеся

# Паказальнік імёнаў

Грэбень Мікола — 140, 552, 615

# Зьмест

Кіпель, Зора

К42 Дні аднаго жыцця... : успаміны, артыкулы, дзённікі / Зора Кіпель; тлумачэнні, заўвагі, каментары Вітаўта Кіпеля; уклад. Сяргей Шупа. — Мінск : Зміцер Колас, 2010.— 936 с., [28 л.] іл.

ISBN 978-985-6783-92-3

У кнізе праз дзённікі і ўспаміны актыўнай дзеячкі беларускай эміграцыі ў ЗША Зоры Кіпель (1927—2003) паўстае шырокая панарама грамадскага, палітычнага і культурнага жыцця беларускай эміграцыі другой паловы XX стагоддзя. Дзённікі дапоўненыя каментарамі аднаго з патрыярхаў беларускай дыяспары, Зорынага мужа Вітаўта Кіпеля.

Адрасуецца гісторыкам, культуролагам, мовазнаўцам, усім, хто цікавіцца пытаннямі беларускай дыяспары за мяжой.

УДК [325.2+94](=161.3)(093.3)

ББК 63.3(4Беи)

Літаратурна-мастацкае выданне

Кіпель Зора

**ДНІ АДНАГО ЖЫЦЦЯ...**

Успаміны, артыкулы, дзённікі

Рэдактар *Зміцер Колас*

Падпісана да друку 15.07.2010. Фармат 60х90 $^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 61,50. Ул.-выд. арк. 62,0.
Наклад 500 асобнікаў. Заказ 293.

Выдавец Зміцер Колас
ЛИ № 02330/0552654 ад 04.01.2010.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220023, Мінск.

Друкарня СТАА «Медысонт»
ЛП № 02330/0150444 ад 19.12.2008.
Вул. Ціміразева, 9, 220004, Мінск.

